

Беларускі інстытут навукі й мастацтва



Бібліятэка Бацькаўшчыны
Міжнароднае грамадскае аб'яднанне
«Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»

Кніга 20

Лявон Юрэвіч

# ШМАТГАЛОСЫ ЭПІСТАЛЯРЫУМ

## Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні

Мінск
«???»
2012

УДК
ББК
Ю64

*Серыя заснавана ў 2004 годзе*

Рэдагаванне *Наталлі Гардзіенкі*

**Юрэвіч, Л.**

Ю64 Шматгалосы эпісталярыум : гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні / Лявон Юрэвіч. — Мінск : ??, 2012. — 660 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны ; кн. 20).

ISBN 978-985-_______________.

Кніга беларускага эміграцыйнага даследчыка Лявона Юрэвіча «Шматгалосы эпісталярыум» (20-я кніга серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны») з'яўляецца зборам матэрыялаў, прысвечаных эпісталярнай спадчыне паваеннай эміграцыі. Аўтар робіць спробу асэнсавання спецыфікі эпісталярыяў як гістарычнай крыніцы. Шматлікія і разнастайныя лісты беларусаў з розных краінаў, знойдзеныя, апрацаваныя і змешчаныя ў кнізе, дазваляюць прадставіць не толькі адметнасці інтэлектуальнага жыцця беларускай інтэлігенцыі на Захадзе, але і паказаць штодзённасць шэраговых эмігрантаў.

**УДК**
**ББК**

**ISBN 978-985-_____________**

# ШМАТГАЛОСЫ ЭПІСТАЛЯРЫУМ[1]

Кожнаму студэнту-філолагу вядомы «Ліст да Абуховіча» Цыпрыяна Камунякі, «Ліст у рэдакцыю «Нашай Нівы»» і «Ліст да п. В. Ластоўскага» Максіма Багдановіча, Пушчавы «Лісты да сабакі». Тым, хто вывучае гісторыю нацыянальнай думкі, не абмінуць «Лісты з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага, «Ліст да рускага сябра» Аляксея Каўкі і «Лісты да Гарбачова ад беларускай інтэлігенцыі». Сучаснае прыгожае пісьменства таксама поўніцца эпісталярнымі творамі: ад гістарычнае стылізацыі Уладзіміра Арлова «Пішу Вам у Масковію» да Барадулінскіх «Лістоў у Нямеччыну да Васіля Быкава» і «Лістоў з Поўначы» Славаміра Адамовіча. Прычым назвы з выкарыстаннем *Лістоў* вельмі гаваркія (што характэрна асабліва для паэтычных зборнікаў, але не выняткова) — яны імгненна скіроўваюць чытача ў неабходнае аўтару рэчышча ўспрымання: «Лісты з паходаў» Пятра Прыходзькі, «Лісты да Марыі» Васіля Дэбіша, «Пісьмы з гэтага свету» Васіля Зуёнка, «Лісты да цябе» Валянціны Коўтун, «Лісты да брата» Уладзіміра Сіўчыкава ды іншыя. Эпісталярны жанр нават дарос да метафарычнасці ў «Лістах з-пад коўдры» Андрэя Хадановіча[2] ды стаўся асобным прадметам даследавання[3].

1 Гэты тэкст быў апублікаваны ў: Запісы БІНІМ. № 29. Нью-Ёрк, 2005. С. 153–172. Тут публікуецца з дапрацаванымі каментарыямі.

2 *«Гэтая адсылка да Каліноўскага прамаўляе пра новую генэрацыю творцаў, якія гавораць не ад нейкага зьбіральнага «мы» (народ, нацыя, рух, адраджэнцы й да т. п.), а ад сябе саміх. Якія ня сеюць разумнага, добрага, вечнага, бо з гэтым лепш спраўляюцца сьвятары, навукоўцы, дыктары БТ… Гэта голас цалкам прыватнага чалавека, які ня вучыць жыць, бо сам ня ведае, як гэта робіцца. Вядома, кожным тэкстам аўтар спрабуе адказаць на глябальныя пытаньні, але гэты адказ слушны толькі ў пэўны момант, а абсалютных слушнасьцяў, здаецца мне, не бывае. Ліст з-пад коўдры, як мэтафара паэзіі, — гэта такі сабе ліст шчасьця, які ты атрымліваеш, перапісваеш, рассылаеш па дваццаці адрасох, і будзе табе вялікае шчасьце!»* Гл.: Андрэй Хадановіч: Мае вершы як лісты шчасьця. Тэкст змешчаны: http://naviny.by/rubrics/culture/2004/03/12/ic_articles_117_140731/ (Інтэрнэт-старонка Naviny. by ад 12.03.04).

3 Напр.: Крычко, В. Эпісталярны жанр і аратарская проза ў старабеларускай літаратуры XII–XIII стст. // Працы кафедры гісторыі беларускай літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Вып. III. Мінск, 2002. С. 26–37.

Але гэта што да мастацкіх твораў эпісталярнага жанру. З ліставаннем *non-fiction* сітуацыя трохі іншая. *«Старакрыўская пісьменнасць дагэтуль мала даследаваная, хоць яна жыве ў сотнях тысячаў дакументаў, лістоў і інш., якіх найбольш дайшло да нас з XVI і XVII стст. Асабліва звяртае на сябе ўвагу сваім стылем прыватная перапіска, у якой не толькі адбіваюцца быт і асвета людзей, але таксама рысуюцца іх узаемаадносіны»*[4]. Тое самае — малая даследаванасць — датычыцца і ліставання сучаснага, у прыватнасці, эміграцыйнага.

Разам з тым, лісты — хіба найбольш пашыраная форма тэксту, бо пісанне лістоў — самы распаўсюджаны варыянт чалавечае дзейнасці ў літаратурнай галіне. У ліставанні, якое можа выяўляцца ва ўласна лістах, паштоўках, факсах, электроннай пошце (пералік далёка не поўны), чалавек дзеліцца набытым досведам, апісвае сітуацыі, прапануе тлумачэнні, дае парады, загады і г. д. Аўтар ліста верыць у сваё слова, ягоную моц; у адваротным выпадку ліст проста не быў бы напісаны. Бадай, усё можа быць выкладзена ў эпісталярным жанры, якому ўласцівая адначасная прысутнасць ў прасторы і часе аўтара і чытача: аўтар пераважна выяўляе сваю прысутнасць праз ужыванне *Я* і подпіс напрыканцы ліста, а чытач — праз звароты да яго і праз ужыванне *Ты/Вы*. Суіснаванне роляў, іхны падзел тут адыгрывае немалую ролю: у лістах заўсёды як мімінум два бакі, дзве адрозныя гісторыі — аўтара і чытача, два галасы, што робіць эпісталярны жанр дыялогам, дзе ўдзел адрасата ніяк не меншы за ўдзел аўтара. Адрасат існуе нават тады (і ў гэтым адметнасць эпісталярнага жанру — заўсёдная скіраванасць на адваротную рэакцыю, на адказ), калі магчымасць адказу толькі ілюзорная. Мо таму і пішуцца вершы, падобныя да «Ліста да маці» Уладзіміра Дудзіцкага[5]:

*Ліст гэты, маці, ад меншага сына,*
*Што лечыць тугу сваю золатам лісьця.*
*Цяпер ані цешыць, ня вабіць чужына,*
*Як вабіла, помню, калісьці.*
…………………………………………….

4 Ластоўскі, Вацлаў. Выбраныя творы. Мінск, 1997. С. 352.

5 Маці Уладзіміра Дудзіцкага была забітая партызанамі, і паэт пра гэта ведаў.

*Адведаць Цябе не магу я сягоньня,*
*А слову, якім бы яно ні было там,*
*Нялёгка дайсьці да спустошаных гоняў*
*І ўняць іхны плач і штодзённы Твой клопат*[6].

З цягам часу да гэтых галасоў дадаецца трэці — голас публікатара, для якога эпісталярная гісторыя ёсць гісторыяй пэўных культурніцкіх кантактаў і разрываў і для якога па важнасці гісторыя аўтара роўнавялікая гісторыі чытача. Публікатар змяняе кантэкст аднаго ліста або цэлага ліставання — дзеля гістарычнага ці якога іншага доследу, — збіраючы іх разам, публікуючы пад адною вокладкаю — як біяграфію, як літаратуру альбо як успаміны. Зрэшты, часам ліст можа быць настолькі інтымным, што ён амаль не адрозніваецца ад дзённіка. У гэтым заключаецца пэўны парадокс ліста: з аднаго боку, ён можа быць прыватным, з другога, як твор, што адсылаецца іншаму чалавеку, ён заўсёды можа змяніць сваю чытацкую аўдыторыю, гранічная колькасць якой не паддаецца падліку.

З апублікаваннем ліста з’яўляецца чацвёрты персанаж — чытач. З кім ён будзе сябе атаясамліваць — з аўтарам? з адрасатам? з публікатарам? А мо з персанажам ліста, яшчэ адным (і не адным!) героем канкрэтнага эпісталярыя? Варыянты рэакцыі шматлікія; гэтак дыялог пераўтвараецца ў хор.

Кожны літаратурны жанр мае свае нацыянальныя адметнасці; эпісталярны — не вынятак. Прыкладам, нямецкі эпісталярны раман павязаны з дзённікавай формай, французскі — з дыялогам і мастацтвам рыторыкі, англійскі — з эстэтыкай, што аддае перавагу рэалістычнаму мастацтву з імгненным занатаваннем падзеяў. Агулам беручы, нямецкі аўтар лістоў — аўтар дзённіка, англійскі карэспандэнт — сведка, а французскі *épistolier* — моўны дуэлянт. Беларускі эпісталярый, верагодна, сваімі каранямі ідзе ад палемічнай літаратуры, і ліставанне Льва Сапегі з Язафатам Кунцэвічам, з аднаго боку, і Юркі Віцьбіча з Антонам Адамовічам (без аніякае паралелі паміж асобамі) — з’явы аднаго плану.

Юрка Віцьбіч на эміграцыі быў, бясспрэчна, класікам эпісталярнага жанру. І справа не толькі ў вялікай колькасці яго-

6 Дудзцікі, Уладзімер. Напярэймы жаданьням. Нью-Ёрк: БІНІМ, 1994. С. 103.

ных рэспандэнтаў ды той увазе, што Віцьбіч надаваў пісанню лістоў, а ў самім падыходзе да іх. Ён быў сапраўдны *letter writer*:

*«Дарагі Сябру! (…) Пэўне ж, нешта нашымі эміграцыйнымі інстытуцыямі робіцца, каб захаваць «Бацькаўшчыну»? А магчыма, я перабольшваю магчымасьці гэтых інстытуцыяў? У такім выпадку, магчыма, патрэбна самаабкладаньне, абы толькі захаваць газэту, што сталася афіцыёзам эміграцыі й рэпрэзэнтуе яе навонкі. Дарэчы, прыпушчаю, што апошні нумар яе я дастаў паветранай поштай вылучна таму, што ў ім зьмешчана маё.*

*Дасылаю адначасна копію майго ліста, дасланага Спадару Чеславу Будзьку. Ніхто не адбірае ў Сп. Будзькі як навукоўца права на тое, каб па-свойму заглядацца на Рагнеду, але калі ён падае да агульнага ведама, што ўсе ня згодныя зь ягоным асабістым паглядам зьяўляюцца агентамі Масквы, дык тым самым ён ужо аніякі не навуковец, а дэмагог «политруковского» складу. Ніхто таксама не забараняе Сп. Ч. Будзьку адмаўляць Рагнедзе ў гістарычным існаваньні, але калі гэтую сваю тэзу ён спрабуе давесьці ў самы брутальны спосаб, абражаючы гэтым патрыятычныя пачуцьці сваіх суродзічаў на чужыне, дык ён тым самым, як на мой пагляд, працягвае традыцыі міхельсдорфавых сьцягатаптальнікаў.*

*Ліст, копію якога дасылаю Вам, выходзіць за межы вузка прыватнага ліставаньня. Вельмі магчыма, што неўзабаве зьявіцца ў друку мой артыкул, накіраваны супраць тых, якія спрабуюць тут і там глуміцца з нашых нацыянальных сьвятыняў. (...)»*[7].

*«Дарагі Сябру! Вярнуўшыся з Эўропы, знайшоў у сваёй пошце Ваш ліст. Не пасьпеў, аднак, нат' прачытаць яго як трэба, каб адпісаць (звычайна для гэтага чытаю два разы зь невялічкім перапынкам), як ужо на нашым вольным кантынэнце хапіў модную тут хваробу. (...)*

*У Коласавых тых лістох, пэўна ж, няма ніякага «халуйства», а звычайнюсенькая ў савецкіх абставінах, асабліва ў абставінах пэрлюстрацыі карэспандэнцыі, дый яшчэ ў часе вайны, «перастрахоўка» на ўсякі выпадак. Хай бы той «пракурор» —*

[7] Ліст Юркі Віцьбіча да Антона Адамовіча ад 05.08.1962 г. Захоўваецца ў архіве БІНІМа.

*карэспандэнт Ваш, што шые гэтае «халуйства» іншым хіба із свайго собскага нутранога дазнаньня, зьвярнуў бы ўвагу на тую ж балёну «Полымя» ўнізе другое шпальты, дзе ў лісьце ад 14.01.1943 г. Колас абураецца затрымваньнем лістоў поштаю, лае тых, што гэта робяць, у пэўнасьці, што яны гэта прачытаюць, дый яшчэ й ставіць «пытаньне, чаму гэта так робіцца? Чаму так доўга ідуць пісьмы? Падумай над гэтым і адкажы»... А яшчэ колькі радкоў ніжэй, зь пераходам на наступную старонку, чытаем: «Мне хочацца зірнуць у самую сэрцавіну кіраўнікоў Англіі й Амэрыкі — што тоіцца ў іх мысьлях? Чэсныя яны людзі ці не? Каб я сустрэўся з табою з вока на вока, дык мы пагаварылі б пра гэта». Ці ж ня пэрл гэты сказ, падчыркнуты мною? Ці ж ня цяжка здагадацца, ведаючы абодвух карэспандэнтаў, што гаварылася б тут «з вока на вока» — і пра гэтых кіраўнікоў, і пра тых «адамовічаў, віцьбічаў і іншую погань» — хоць я й сумляюся, каб у апошняй неяк падразумяваліся й тыя, хто хочуць цяпер гэтага — пра іх барджэй і ня ведалі й не цікавіліся. (...)»*[8]

Таму, што Віцьбічава звычка памнажаць копіі ўласных лістоў і лістоў да яго і рассылаць далей была не проста ягоным дзівацтвам, а насамрэч адыгрывала значную ролю ў эміграцыйнай грамадзе, ва ўсталяванні адносінаў або іхным разрыве, ва ўмацаванні паглядаў, ёсць нямала фактаў:

*«Дарагі й Вельміпаважаны Спадар Юрка Віцьбіч.*

*Кагадзе пераступілі мы яшчэ адзін навагодні парог. З гэтае нагоды дазвольце паціснуць Вашу сяброўскую руку. Няхай Бог спорыць Вам і сям'і Вашай посьпехаў і дабра ў Новым Годзе.*

*Дзякую за Ваш ліст за 20 сьнежня ды за фатакартку з аўтографам. Выглядаеце бадзёра, хоць крыху запаважна.*

*Копіі лістоў да розных беларускіх грамадзкіх і іншых «стаўпоў», што часам далучаеце да сваіх лістоў, памагаюць мне шырэй глянуць на наш ня так шырокі ўжо сьвет. Цяперака апроч Юркі Станкевіча*[9]*, каторы набірае маю апо-*

---

[8] Ліст Антона Адамовіча да Юркі Віцьбіча ад 26.11.1962 г. Захоўваецца ў архіве БІНІМа.

[9] Маецца на ўвазе Юрка Станкевіч (нар. 18.03.1928, Вільня), сын Янкі Станкевіча. У той час Юрка яшчэ жыў у ЗША, аднак хутка выехаў у Чэхаславаччыну, дзе жыве да сёння.

*весьць, ды прынагоднага ліста ў каторую канадыйскую газэту, амаль ні з кім не карэспандую. Вось чаму так удзячны Вам за інфармацыі. Дый выглядае, што некаторыя добрыя людзі запраўды ўважаюць Вас за «бюро скаргаў». Калі трымаеце шырокую карэспандэнцыю, колькі часу застаецца Вам на творчую працу?*

*Слушна ўважаеце, што нашы радыёдзеячы са «Свабоды» «часта губляюць нацыянальны й палітычны хрыбет». Мне здаецца, што часткова вінавата гэтае правіла, паводле якога кіраўнікі «Свабоды» падыходзяць да працы: хваліць дадатняе, але шкоднае для рэжыму (камуністычнага, а не абавязкова каляніяльна-маскоўскага) лепш, чымся ганіць адмоўнае. Гэтае апошняе сам народ ведае.*

*Прыкладна, нейкі літаратурны «ўмелец» Гурскі напісаў паскудку п. заг. «Подзьмух Ільліча». Звычайная, значыцца, партыйная дрэнь. Народ ведае, што дрэнь. Сам яе выплюне. Значыцца, хлопцы са «Свабоды», — устрымайцеся ад камэнтароў! Але вось той самы «ўмелец» Гурскі згарусьціў які недалужны верш, у якім сьцьвярджаецца, што ягонае маткі мова яшчэ не адмерла. Наадварот, яна прыгожай нітачкай уплятаецца ў дружалюбную сям’ю моваў усесаюзнае тканіны.*

*Чулі Вы? Верабей лебедзя выседзеў! Заварушыліся камэнтатары са «Свабоды». Маладзец, Гурскі. Так ім трэба! Гэта ўжо ўзяліся «бебурнацы» з пахвалай. Як разьбяжыцца каторы, дык глядзіш і бачыш суцэльны фронт нашай выгадаванай у бэасэсэрыі інтэлігенцыі ў супраціве русіфікацыі.*

*Хваленьне дадатнага, каб здабыць народныя сымпатыі, а прынесьці ўрон калёніяльнаму рэжыму — рэч надта небясьпечная. У няўмелых руках можа абярнуцца бумэрангам. І ёсьць ужо гэтага насьледкі, на жаль, для нас некарысныя. У тых Станкевічавых*[10] *«Даляглядах»*[11] *відаць радыёсвабодаўскі ўплыў. Як расхваліць каторага, дык дальбог, чырванецца трэба. Каб было каго. Дык каб жа адно ў «Даляглядах».*

*Летась у «Менску»*[12] *др. Станкевіч прасіў сіх-тых, у тым ліку й мяне, каб прыслалі свае пазытыўныя камэнтары адносна*

---

[10] Маецца на ўвазе рэдактар газеты «Бацькаўшчына» Станіслаў Станкевіч.

[11] Рубрыка ў «Бацькаўшчыне», прысвечаная разгляду друкаванай у БССР літаратуры.

[12] Маецца на ўвазе адпачынкавы цэнтр «Белэр-Менск».

*«Даляглядаў», дый каб падтрымалі грашова. Мяркую, што калі б былі пазытыўныя водгукі, дык зьмясьціў бы.*

*Тым, што мне сьвіньню «Свабода» падлажыла, не турбуюся*[13]*. Я, прызнацца Вам, спадзяваўся калоды пад ногі зь іншага боку, г. зн. з боку мае вар'яткі-жонкі. І яна не падвяла. 27 сьнежня, пасьля чатырохтыднёвага побыту дома, зноў давялося адвезьці яе ў шпіталь, гэтым разам на даўжэйшы тэрмін. Як бачыце, мне ўсё роўна не давялося б працаваць у нью-ёрскіх ягамосьцяў, бо дзетак самых жа я не пакінуў бы. Адным словам, атрымаўся той прыказачны blessing in disguise*[14]*. Пасьля пятнаццацігадзіннага працоўнага дня для ўтрыманьня й дагляду сям'і магу рэшту часу аддаць на творчасьць»*[15].



*Юрка Віцьбіч і Уладзімір Сядура-Глыбінны*

Калі Віцьбіч займае першае месца па колькасці напісаных прыватных лістоў, дык на дзялянцы лістоў адкрытых ён

13 Ідзецца пра адмову кіраўнікоў «Свабоды» ўзяць на працу Кастуся Акулу.
14 *blessing in disguise* (анг.) — «ліха без дабра не бывае».
15 Ліст Кастуся Акулы да Юркі Віцьбіча ад 05.01.1968 г. Захоўваецца ў архіве БІНІМа.

відавочна саступае іншаму эміграцыйнаму пісьменніку, Уладзіміру Сядуру, чый першы падобны ліст датуецца 1932 г.:

*«Адкрыты крытычны ліст паэту Юлію Таўбіну. Таварыш Таўбін! Прачытаўшы тваю паэму «Таўрыда», ці, больш правільна сказаць, тую частку, якая зьмешчана ў часопісе «Полымя» № 10 за 1931 г., у мяне ўзьнікла неадчэпнае жаданьне зьвярнуць тваю ўвагу на некаторых момантах у тваёй творчасьці, менавіта на тых баках, якія знаходзяцца ў той ці іншай меры рэзкай супярэчнасьці з разьвіцьцём пралетарскай паэзіі й сацыялістычнага мастацтва наогул. І што мяне асабліва вымусіла зьвярнуцца да цябе з гэтым лістом, дык гэта тваё прысьвячэньне паэмы «Таўрыда» й зусім не з прычыны таго, к а м у ты прысьвячаеш яе, а тым зьместам, тэндэнцыяй, якія ты ўклаў у гэта прысьвячэньне. Зьяўленьне твайго ўрыўку з аповесьці «Доктар Батурын» («Літаратура і мастацтва» № 2) толькі лішні раз падкрэсьліла неабходнасьць гэтага ліста й таму, што моманты таго, супроць чаго ты накіроўваеш стрэлы сваёй аповесьці, ёсьць і ў тваёй творчасьці. (...)*

*Але вось на падмогу гэтым «аматарам прыгожай славеснасьці», эпігонам буржуазнага мастацтва прыходзіш ты, Юлік, і голасу ліквідатараў мастацтва пры сацыялізьме ўторыш сваім голасам. Ты стварэньне вялікага мастацтва пераносіш зь сёньняшняга дня на невымяральна далёкі будучы час. Сёньня ж, па-твойму, мажлівы толькі якіясьці намёткі для гэтага будучага, як ты кажаш «для вякоў... пасьля...». Ты адмаўляеш вялізарную ролю ў жыцьці будаўніцтва сёньняшняга мастацтва як часткі пралетарскай культуры, якая сёньня ствараецца ў працэсе культурнай рэвалюцыі. Ты ня бачыш таго вялікага, сусьветнагістарычнага значэньня мастацтва, што творыцца сёньня, і першыя парасткі (значныя!) якога ўжо створаныя. Можа, табе дзіўнымі здаюцца мае абвінавачваньні цябе ў гэтым, дык я табе напомню тваё прысьвячэньне паэмы «Таўрыда». Ты прысьвячаеш паэму мастаку Азгуру і ў прысьвячэньні выказваеш думкі пра мастацтва («... строфы, статуі»). Вось гэтае прысьвячэньне:*

*Карабельнаму сьлесару з Глазга*
*біць цьвікі і тачыць вінты,*
*але ён не пабачыць, Азгур,*
*акіянаў сырых раты.*

*Людзі іншыя возьмуць вахту*
*І стырно прывядуць у рух,*
*каб хістала на моры яхту —*
*пару цьвёрдых ягоных рук.*
*Так і мы сёньня скончым стратай (!?)*
*свой працоўны і просты шлях,*
*каб шматкі нашых строф ці*
*статуй па вякох насіла пасьля...*

*(Падкрэсьлена мною. — **У. С.***
*(«Полымя» № 10, 1931 г., с. 25).)*

*Што хаваецца ў гэтых радкох?*

*Па сутнасьці, у іх крыецца нявер'е ў сілу й магутнасьць мастацтва сацыялістычнага наступленьня, нявер'е ў росквіт мастацтва ў эпоху ўступленьня ў сацыялізм, нявер'е ў мастацтва нашага творчага будаўнічага часу, мастацтва сёньняшняга дня. (...)*

*Вось прыблізна галоўныя моманты ў тваёй, Юлік, творчасьці, якія трымаюць цябе ў лягеры правых папутнікаў і не даюць табе вызваліцца з сваіх абыймаў. Таму ад посьпеху ў перамаганьні гэтага рэакцыйнага грузу й авалоданьня дыялектычна-матэрыялістычным творчым мэтадам і залежыць твой далейшы лёс як творчае адзінкі ў нашай рэвалюцыйнай сучаснай паэзіі.*

*Я ня буду спыняцца на іншых момантах, на якіх варта было б спыніць сваю ўвагу, але каб не расьцягнуць ліста, задуманы памер якога й так вельмі адрозьніваецца ад памеру напісанага, адкладзем гэта для будучага артыкула пра тваю творчасьць. Я спыняю тваю ўвагу толькі на галоўным, на што лічу неабходным зараз жа спыніць тваю ўвагу, не адкладаючы гэтага на будучы час напісаньня задуманага артыкула пра твой творчы шлях. Сьпешнасьць вымушае мяне абмежавацца толькі папярэднімі нататкамі. Хацелася б толькі аднаго, каб ты сур'ёзна, удумліва паставіўся да ліста й вынес зь яго магчымы, карысны для цябе й іншых, урок.*

*Зь белаппаўскім прывітаньнем*
*У. Сядура»*[16].

[16] Маладняк. 1932. № 4.

Амаль адначасна Уладзімір Сядура выдрукаваў другі ліст, гэтым разам у «Літаратуры і Мастацтве»[17], — і таксама звернуты да Юлія Таўбіна. Наогул, гэты час — 1932 ды 1933 гг. — быў важным для Сядуры настолькі, што ў сваім чарговым адкрытым лісце, напісаным праз 20 гадоў, — ён згадвае яго адумыслова:

*«За шчасьце й волю.*
*Адкрыты ліст да пісьменьнікаў Савецкай Беларусі,*
*перасланы праз радыё «Вызваленьне» ў траўні 1953 г.*

*Паважаныя сябры Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў Беларусі!*

*Да вас зьвяртаецца былы сябра Аргкамітэту Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў Беларусі ў 1932–1933 гг. Уладзімер Глыбінны, які цяпер знаходзіцца ў вольным сьвеце й працуе навукоўцам пры навукова-дасьледчым інстытуце. Шмат хто з вас можа памятаць мяне й па Дому Пісьменьнікаў у Менску, і па Беларускім унівэрсытэце, дзе я зь некаторымі з вас вучыўся на літаратурна-лінгвістычным факультэце з 1930 па 1933 гг. Праўда, абсалютная бальшыня сяброў мае раньняе маладосьці, сумеснага вучэньня, літаратурных пачынаньняў і ружовых надзеяў бясьсьледна зьнікла ў скляпеньнях ненажэрнага малоха ГПУ — НКВД — МВД — МГБ. Сяньня сярод беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў, якім пашанцавала выпадкова ўцалець, няма маіх сардэчных сяброў — таленавітага, высокай культуры паэта Юлія Таўбіна, тонкага лірыка й маладога раманіста Зьмітрака Астапенкі, паэта-рамантыка Валерыя Маракова, сьпевака Случчыны Сьцяпана Ліхадзіеўскага, глыбока нацыянальнага паэта Сяргея Астрэйкі, што напісаў таленавітую паэму пра Бэнгалію, пад якой разумелася паняволеная Беларусь, няма выдатнага маладога празаіка, сказавага стылізатара Лукаша Калюгі, пяшчотнага й сьціплага лірыка Ўладзімера Хадыкі, забітага скалою на катарзе на Далёкім Усходзе»*[18].

Імя Юлія Таўбіна ў агульным пераліку стаіць на першым месцы.

Трэба адзначыць, што гэты паэт, адзін з наймаладзейшых з 26 расстраляных 29–30 кастрычніка 1937 г., адначасна з То-

---

17 Літаратура і Мастацтва. 30 красавіка 1932.

18 Юрэвіч, Лявон. Літаратурны рух на эміграцыі. Менск, 2002. С. 107–108.

дарам Кляшторным, Міхасём Зарэцкім, Валерам Мараковым, Міхасём Чаротам ды іншымі культурнымі дзеячамі Беларусі, выклікаў заўважную сімпатыю ў пісьменнікаў-эмігрантаў. Юрка Віцьбіч зрабіў яго адным з герояў сваёй нясконачанай кнігі «Не чарнілам, а крывёю»[19]:

*«Калі ідзеш па вуліцах Амэрыкі, па якіх незупынным струменем ліюцца аўтамашыны розных маркаў, адразу прыгадваецца паэта Юлі Таўбін. Ці ведае хто тут, што ён там у змрочным засьценку НКВД абвінавачваўся за вось гэты незупынны рух, за сьвятло менавіта гэтых рознакаляровых рэклямаў, за ўвесь імклівы поступ тутэйшага жыцьця?*

*Юлі Таўбін зьяўляецца адным з найбольш культурных беларускіх паэтаў. Менавіта таму ягоная тэматыка аніяк не супадала з афіцыйнай тэматыкай, прызначанай бальшавіцкімі камісарамі для беларускіх пісьменьнікаў. Паэта мусіў усхваляць савецкую краіну й ганьбіць замежныя краіны. Ён на гэтае не надаваўся. Таму Юлі Таўбін спачатку эмігруе ў Сярэднявечча. Прыгадваецца ягоны прачулы верш «Сірано дэ Бэржэрак», які б нават адзін у іншай краіне даў бы аўтару агульную вядомасьць і прызнаньне. Савецкая ж крытыка адразу зазначыла, што радок зь ягонага верша «з разьбітаю лютняй ідзе паэт» мае непасрэднае дачыненьне не да Сірано дэ Бэржэрака, а да Юлія Таўбіна. Праз некаторы час паэта піша верш пра Амэрыку. У ім прыгадваюцца амаль усе штаты Амэрыкі ў сувязі зь іхным гэтак не падобным на савецкую рэчаіснасьць жыцьцём. І пасьля кажнае страфы паўтараецца радок «Злучаныя Штаты». На жаль, у памяці цяпер захавалася толькі адна страфа, якая ўсё ж дае поўнае ўяўленьне й аб высокамастацкасьці ўсяго твору, і аб ягоным напрамку:*

*Шолах шын і шум машын*
*Вашынгтон і Вісконсін.*
*Злучаныя Штаты.*

*Гэтым вершам паэта напісаў сабе прысуд. Прынамсі, калі праз некаторы час НКВД арыштавала Юлія Таўбіна, дык сьледчы, прачытаўшы яму ўвесь верш, запытаўся:*

---

[19] Віцьбіч, Юрка. Шолах шын і шум машын. Юлі Таўбін // Шыпшына. 1950. № 8. С. 25–26.

*— В Америку хочешь эмигрировать? Ха-ха! В Советском Союзе не нравится? Может быть, и на визу рассчитываешь? Получи-ка тем временем, контра, пять лет Калымы.*

*І Юлі Таўбін, які пры іншых умовах аздобіў бы сабой беларускую літаратуру, зьнік назаўсёды ў жудасных савецкіх канцлягерах».*

Натуральна, ёсць пра Таўбіна і ў Віцьбічавых лістах:

*«Юлі Таўбін. Здаўна люблю гэтага паэта. Прыгадваецца ягонае:*

*Я зь вершам праходжу жыцьцёвыя тракты,*
*Я зь вершам — і ў крозах, і ў сьне…*
*Харэі, і ямбы, і пругкія дактылі*
*Заўсёды на варце ў мяне.*

*Між іншым, у сувязі з маімі ўспамінамі пра Таўбіна ў «Шыпшыне»*[20] *(№ 8) Сяднёў і Клішэвіч назвалі ягонае:*

*Шолах шын і шум машын,*
*Вашынгтон і Віскансін.*
*Злучаныя Штаты.*

*— «жыдоўскай дрындушкай». Ой, як ім далёка абодвум да Таўбіна, якога даўно, на глыбокі жаль, няма цяпер у жывых.*

*Мне Таўбін тым болей блізкі, што належу разам зь ім да «ахвосьця разгромленага нацыянал-дэмакратызму» — гэтак калісьці Андрэй Александровіч назваў Лужаніна, Калюгу, Таўбіна, Хадыку й Віцьбіча, расклаўшы іх па паліцах. Таўбін у яго стаўся «паўпрэдам у літаратуры буржуазна-кулацка-нацыяналістычнай інтэлігенцыі», а ў творчасьці Віцьбіча «працягваецца выразная дваранска-нацыяналістычная сутнасьць». («Пісьменьнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы». Менск. 1934 г. Б. 19)»*[21].

---

[20] **«Шыпшына»** — літаратурна-мастацкі часопіс, орган аднаіменнага літаратурнага аб’яднання, які выдаваўся Юркам Віцьбічам у 1946–1950 гг. спачатку ў нямецкім Міхельсдорфе, а пасля ў амерыканскім Саўт-Рыверы. Усяго выйшла 9 нумароў.

[21] Зь ліста Юркі Віцьбіча да Ізыдара Гуткоўскага ад 18.06.1957 г. // Юрэвіч, Лявон. Архіўная кніга. Нью-Ёрк: БІНІМ, 1999. С. 389.

Юлі Таўбін, паэтычны нашчадак Максіма Багдановіча (між іншага, абодва адышлі ў адным веку), таксама быў майстрам эпісталярнага жанру, *epistolary poetry* — сяброўскага паслання. Шкада, што каля сабранай — лепш ці горш, гэта ўжо іншая справа — і выдрукаванай спадчыны ягоных сяброў-паэтаў — Уладзіміра Дубоўкі, Язэпа Пушчы, Уладзіміра Хадыкі, Валера Маракова, Змітра Астапенкі, Тодара Кляшторнага, Сяргея Астрэйкі — няма ўласнае паэтавае кнігі, а акадэмічнае літаратуразнаўства толькі подбегам згадвае ягонае імя, дый тое ў звязку з творчасцю іншых. Зрэшты, да паэта, паэзіі гэта не мае аніякага дачынення.

# ЭПІСТАЛЯРЫУМ ЯК ФОРМА[22] АЎТАБІЯГРАФІІ КАРЭСПАНДЭНТА І БІЯГРАФІІ ЯГОНАГА ЧАСУ (Выпадак Юркі Віцьбіча)[23]

*Люблю лісты — яны мне нагадваюць*
*музычныя шкатулкі, якія з прычыны*
*свайго невялічкага памеру патрабуюць,*
*магчыма, ня меншай працы,*
*чым вытворчасьць арганаў.*
*Юрка Віцьбіч*[24]

Найбольш значным унёскам эміграцыйнае літаратуры ў агульную беларускую скарбонку трэба вызнаць розныя жанры немастацкай літаратуры, у першую чаргу — мемуарыстыку, нягледзячы на ейную відавочную абмежаванасць, выкліканую як часаваю скіраванасцю — на даваенны і ваенны перыяды, збольшага абмінаючы непасрэдна эміграцыю, гэтак і сфераю інтарэсаў аўтараў мемуараў, пераважна грамадскіх, ваенных, радзей — рэлігійных дзеячаў, але не працаўнікоў культуры (пісьменнікаў, выдаўцоў, журналістаў, мастакоў, кампазітараў і г. д.)[25].

---

[22] Гэты тэкст быў апублікаваны ў: Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 7–110.

[23] Дзякуй за дапамогу ў зборы матэрыялу для гэтае публікацыі айцу Аляксандру Надсану, др. Яну Запрудніку, Змітру Саўку.

[24] З ліста да Яніны Каханоўскай ад 20.10.1968 г. Гэты і ўсе далей цытаваныя лісты і дакументы, за выняткам адмыслова пазначаных, захоўваюцца ў архіве БІНіМа.

[25] Характэрны для пераважнай большасці эміграцыі погляд на характар успамінаў выказаў Вітаўт Тумаш у лісце да Міколы Нікана ад 21.10.1974 г.: *«Зьвярнеце ўвагу на заведзены разьдзел успамінаў, мэмуарны. Пры*

У тых лічаных выпадках, калі мемуары належаць пісьменніку (як у Наталлі Арсенневай), яны ўсё ж больш з’яўляюцца водгукам на грамадскія падзеі, як адбіткам нутранога свету аўтара. Паказальная розніца паміж ейнымі ўспамінамі, што прызначаліся для публікацыі («Кузня часу. Крыху ўспамінаў»[26], «У казахстанскай ссылцы»[27]), ад успамінаў, што былі адрасаваныя канкрэтнаму блізкаму чалавеку (Вітаўту Тумашу) і пачаліся як прыватнае ліставанне («Аўтабіяграфічны нарыс»[28]).

Жанр эміграцыйных мемуараў адметны сваёй контраверсійнасцю. З аднаго боку, гэта была прага пакінуць гістарычна праўдзівае, на думку аўтара ўспамінаў, што апынуўся ў вольным свеце, сведчанне пра час і сябе ў тым часе. Як заўважыў у 1956 г. Георг Гусдарф, адзін з заснавальнікаў сучаснай тэорыі эга-дакументаў, аўтабіяграфіі не развіваюцца ў грамадстве, дзе індывідуальны чалавек, адзінка не супрацьстаўляе

---

*нагодзе запрапануйце вашай там «бядзе», паэту Салаўю, ці не надумаўся б ён напісаць нешта з сваіх успамінаў для «Запісаў». Зьмяшчаць, праўда, мяркуем ня кожныя і ўсякія ўспаміны, а толькі зьместу гістарычнага, нацыянальна-грамадзкага. Успаміны ж характару прыватна-інтымнага, прыкладам, пра першае каханьне, калі яны маюць літаратурную цікавасьць навет, для «Запісаў» не падыйдуць. Пішу пра гэта, бо як відаць, вершаў ён ужо пісаць ня будзе. Ці возьмецца, ці хопіць сілаў, каб тварыць прозаю, таксама сумлеўна. Пісаньне ўспамінаў упрашчае ж тое, што «сюжэту» ня трэба прыдумваць, ён гатовы — перажытае. Паведамляю адначасна, што ад колькіх ужо месяцаў драматычны твор «Дух праўдны духу зла непадуладны» ляжыць у рэдакцыйным партфэлі др. СС [Станіслава Станкевіча]. Зьбіраўся ён яго надрукаваць, але бязь вялікага захапленьня, бо твор не «газэтны». Дык ці надрукуе, яшчэ невядома. Ня думаю, каб была вялікая розьніца тады, калі б А. Салавей жыў ня ў вас, а ў крыху большай грамадзе тут. Не спадзяюся, каб гэта мела нейкі паважнейшы ўплыў на ягоную хваробу. Калі ўжо пра «мэмуары», не забывайце ж і сябе. І Вашая ж біяграфія «багатая» — арышт, вязьніцы, дэпартацыя, канцэнтрацыйныя лягеры. Чаму б гэта не апісаць ды не запісаць для гісторыі? Салжаніцын жа піша якраз пра гэта. Ня трэба хаваць гэтага перад будучымі пакаленьнямі й нам».*

[26] Бацькаўшчына. № 16 (500). Вялікдзень 1960. С. 5.

[27] Бацькаўшчына. № 15–16 (94–95). Вялікдзень 1952. С. 4.

[28] Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью-Ёрк, 1999. С. 205–260.

сябе ўсім астатнім[29]. З'яўленне мемуарыста цалкам новага, інакшага кшталту дазволіла крытыку і пісьменніцы Джыл Джонстан рэтраспектыўна акрэсліць іх аўтарамі «плебейскіх аўтабіяграфіяў»: *"The efflorescence of autobiography in our time, plebeian by nature, is probably due to the tremendous outbreak of victim consiosness in America, arising from the political consensus developed by the civil rights and women's movements. The traditional autobiography has hardly ever been a medium for victims. On the contrary, it's been a repository for winners, those born that way or those who made it against the odds. Their subject is what has been done; the past is sealed in some achievement"*[30].

З іншага боку, для бальшыні аўтараў тое была не проста спроба (часта — першая, а калі-нікалі — то і адзіная) вызвалення пры дапамозе слова; гэта было і своеасаблівае звядзенне рахункаў з мінулым, паквітанне — але з нязбытым страхам за магчымы паварот да таго мінулага[31]. Менавіта тым страхам можна патлумачыць параўнальна невялікую колькасць пакінутых нам успамінаў. Нават у 1990–2000-я гг. не адзін эмігрант адмаўляўся ад аповеду пра сябе, хоць, як заўважыў грамадзянін Канады беларус А. М., ягоная гісторыя магла б стацца знаходкаю для галівудскага сцэнара[32].

Боязь шчырага выказвання сваіх думак, поглядаў і ацэнак характэрна як для эміграцыйных аўтараў, гэтак і для падсавецкіх пісьменнікаў, асабліва ў такім інтымным жанры, як дзённік[33]. Ды не толькі беларускіх.

---

[29] Цытуецца паводле: Friedman, Susan Stanford. Women's Autobiographical Selves: Theory and Practice // The Private Self: Theory and Practice of Women's Autobiographical Writings / Edit. Shari Benstock. Chapel Hill: UNC P, 1988. P. 36.

[30] Johnston, Jill. Fictions of the Self in the Making // New York Times Book Review. April 25, 1995.

[31] Параўн. дзве аўтабіяграфіі Антона Адамовіча ў кн.: Адамовіч, Антон. Творы. Нью Ёрк: БІНІМ, 1999.

[32] Прыватны архіў Лявона Юрэвіча. Тэчка «Канада».

[33] Параўн. думку Васіля Быкава: *«Добрым прыкладам могуць быць дзённікі Панчанкі і Танка. Абодва творы вельмі нечаканыя і робяць дзіўнае ўражанне. Перш за ўсё, здаецца, што абодва аўтары занатоўвалі падзеі пост-фактум. Па-другое, выглядае, што і Панчанка, і Танк пісалі дзённікі з мэтай падстрахавацца. Гэтыя два аўтары насамрэч былі тымі, каго мы называем «унутранай эміграцыяй», або дысідэнтамі. Аднак іх дзённікі*

Вядомы ўкраінскі эміграцыйны дзеяч Мікіта Шапавал (1882–1932) цягам шэрагу гадоў вёў дзённік, які быў выдрукаваны адно ў 1958 г. Гэты дзённік — важная крыніца гісторыі Украінскай Народнай Рэспублікі — напісаны з відавочнай нутранай цэнзурай, жаданнем аўтара занатаваць адны факты, пазбягаючы ўласных ацэнак — напэўна, таксама з думкаю пра будучую публікацыю. Дзённік варты ўвагі і беларускіх гісторыкаў — даследчыкаў гісторыі БНР:

*«25.IX.[1921]. Сьогодні був на Білоруській Конференції. «Від самого себе» був там Лазарев. Я говорив промову, за яку білоруси зробили мені овацію. Приїхали з знайомих Ластовський, Цвікевич, Гриб. Склад конференції: 15 с-р., 7 безпартійних, 5 с-ф., 3 с-д., 3 нар. соціалістів. Білоруси стараються прибрати вигляд європейців*[34].

*11.X.1921. Вчора був мітінґ, влаштований на о. Жофіні російським комітетом допомоги голодуючим в Росії. Сьогодні була нарада народів: білорус — Кречевський, Вершинін, грузин — Аіолло, від кубанців українців — Вич, Тимошенко, горець — Немітков і куб. укр. П. Макаренко, з наших — Н. Григоріїв, я, М. Славинський, І. Бочковський. Цікаво, як кубанці і Славинський перехопили нашу думку про «Спілку Народів».*

*18.X. 16.X. вранці одкрилась конференція Кубанців. Присутніх до 25 душ. На конференції промовляв я, Славинський, Коваль, Литвицький, білорус Кречевський, грузин Аіолло. Сьогодні розпочалась кооперативна нарада.*

---

*больш нагадваюць рэзалюцыі Камуністычнай партыі. У сваіх запісах Панчанка і Танк паўстаюць шчыра лаяльнымі ў дачыненні да ўраду грамадзянамі, якія цалкам падтрымліваюць камуністычную ідэалогію. Прачытаўшы гэтыя дзённікі, чытач будзе перакананы, што Панчанка і Танк ніколі не былі ў апазіцыі да рэжыму, наадварот, яны гнеўна асудзілі б любую праяву апазіцыйнасці. Я ведаю дакладна, што ў дачыненні да абодвух аўтараў гэта абсалютная няпраўда. Але я разумею таксама, што пісаннем гэтых дзённікаў яны імкнуліся пасмяротна абараніць сваіх блізкіх».* (Гімпелевіч, Зіна. Літаратура застанецца. Фрагменты інтэрв’ю з Васілём Быкавым // Беларусь і беларусы ў прасторы і часе. Зборнік да 75-годдзя прафесара Адама Мальдзіса. Мінск, 2007. С. 349).

[34] Шаповал, Микита. Щоденник. Від 22 лютого 1919 р. до 31 грудня 1924 р. І частина. Упор. Інж. Сава Зеркаль. Видала Українська Громада ім. М. Шаповала в Новім Йорку, 1958. С. 65.

*23.X. Одкрито український університет. Я не пішов на це «свято» Колесси. Колесса не дав слова Аіоллові, кубанцям, білорусам, Славинському, Укр. Гром. Комітетові і ін. Хамство*[35].

*7.I.[1922]. Відбулась спільна вечеря в готелі «Беранек»: рос. ес-ери — Чернов, Рубанович, Сухомлин, Постніков, Лебедев; укр. Григоріїв, Паливода, Балаш, Гордієнко, я, Мартос, Антонович, Гольдельман; Аіолло, Кричевський, Вершинін, Макаренко, Намітсков, Омельченко і інші. Обмінялись промовами. Форсувати нічого не можна. В душі вони (москалі) всі ще не пережили «великої Росії»*[36].

*12.III, середа [1924]. 11 березня було побачення з росіянами. Були: Прокопович, Харламов, Марков, Михайлов, Попов, Васильев, Аспідов. З наших: я, Григоріїв, Галаган, Антонович, Білецький. З білорусів Кричевський, Заїц і ще один. Прийнято тези:*

*1. Представники російської демократії проти самостійных держав України, Білорусії і інших народів був. Рос. імперії виступати не будуть.*

*2. Розграничення назґаних держав приймаеться етноґрафічний принціп.*

*3. Пограничні непорозуміння полагоджуються плебісцитом.*

*Москалі удають, що приймають ці постуляти, а ми їм не віримо. Харламов каже, що Дон хоче федерації з Росією, але шлях федерації йде через самостійність Дону.*

*Прокопович пропонував намітити ці ряд питань, для вияснення котрих призначити комісію: які наслідки господарські має розділення Росії на самостійні держави; що розуміти під суверенністю, федерацією і т. п. Борги Росії. Аґрарна справа. Виборче право.*

*Бюро: Прокопович, Кричевській, Попов (терець). На мою пропозицію закликати кубанців-українців, згодились, а грузин, армян, татар різко заперечували: Прокопович, Міхайлов і інші москалі. «Надо прежде сговориться нам, рускім, українцам, білорусам, а потом подумать и об остальных».*

*Видно, що хочуть, щоб «три ветви» змовились, як комундавати інородцями*[37].

---

[35] Шаповал, Микита. Щоденник… С. 66.

[36] Шаповал, Микита. Щоденник… С. 69.

[37] Шаповал, Микита. Щоденник… С. 102.

*19.X.[1924]. Неділя.*

*Вчора була зустріч з Ластовським і Дуж-Душевським. Білоруси скаржаться на свої внутрішні свари. Я їм сказав, що і в нас не ліпше, а може й гірше*[38].

*1 травня [1927, Чыкага]. Білоруси в зворошуючому захопленні метушаться на всі боки і справді роблять багато»*[39].

Але і падобных дзённікаў беларусаў на Захадзе на сёння не выяўлена, што, зразумела, не выключае іхнага існавання[40]. У такой сітуацыі даследчыку, у зацікаўленнях якога — будзённае жыццё эміграцыі, біяграфіі ейных прадстаўнікоў, пытанні культурнай і гістарычнай памяці, мікрагісторыя, — застаецца спадзявацца хіба што на ліставанне.

Гэты жанр эміграцыйнага прыгожага пісьменства, што мусіць, на добры лад, стаяць у адным шэрагу з паэзіяй, прозай, драматургіяй, мемуарамі, травелогамі, перакладамі ды адпаведна вывучацца, не толькі валодае рэтраспектыўнай, гісторыка-памятнай функцыяй, але і функцыяй эстэтычнай, захаваўшы ў сабе стылістычныя пошукі аўтара, ягоную жывую мову, часта адрозную ад мовы ў творах друкаваных, сапраўднае аўтарскае *я*.

Ліставанне адрозніваецца ад мемуараў сваім апрычоным шляхам занатавання гістарычнай памяці (сінхронны *vs* рэтраспектыўны), ад дзённіка — дыялагічнасцю. Гэтыя дзве адметнасці надаюць ліставанню тое, чаго моцна не стае беларускай мемуарыстыцы за мяжой: падрабязнага апісання дзень у дзень жыцця, дэталяў, думак, падзеяў, якія пакідаліся па-за друкам, а таксама вольных рэфлексіяў на тыя падзеі, на літаратурныя творы, як эміграцыйныя, гэтак і падсавецкія. Зазначанае асабліва слушна, калі гаворка ідзе пра эпісталярную спадчыну такога майстра жанру, як Юрка Віцьбіч.

Карціць назваць выпадак Віцьбіча «ўнікальным», хоць, бадай, *выпадак* кожнага эміграта — па-свойму ўнікальны. От жа Віцьбіч не пакінуў, у адрозненне ад Наталлі Арсенневай, Яўхіма

---

[38] Шаповал, Микита. Щоденник… С. 116.

[39] Шаповал, Микита. Щоденник. Від 1 січня 1925 р. до 22 лютого 1932 р. II частина. Упор. Інж. Сава Зеркаль. Видала Українська Громада ім. М. Шаповала в Новім Йорку, 1958. С. 60.

[40] Фактычна, тым часам маем толькі «Дванаццатку» Янкі Запрудніка (Нью-Ёрк: БІНіМ, 2002).

Кіпеля, Аляксандра Стагановіча, успамінаў, не вёў, як Леанід Галяк, дзённіка, што потым стаўся матэрыялам для двухтамовых мемуараў, не стварыў і мастацкіх аўтабіяграфічных твораў, як Масей Сяднёў, Уладзімір Сядура ці Кастусь Акула[41].

Адзін з вядомых успамінаў пісьменніка — пра часапіс «Узвышша» — быў напісаны на просьбу Станіслава Станкевіча для віншавальнай публікацыі «40 год літаратурнай дзейнасці Юркі Віцьбіча»[42], але скарыстаны там толькі часткова[43]. Другі напісаны ў жанры пасмяротнага ўспаміну (некралога) — пра маці, Еўдакію Стукаліч[44]. Адцемім, што ў абодвух выпадках успаміны выкарыстоўваліся без пазначэння аўтарства. Толькі два.

Раз-пораз да ўласнага мінулага звяртаўся Віцьбіч у сваіх газетных публікацыях, але паўстае пытанне — ці можна іх лічыць успамінамі, як у нарысе «Пра сьвяты і незабытны арыенцір»:

*«Неяк у часе вайны апоўначы закінуў мяне сьляпы лёс у Полацак. Нават у дзень ня лёгка знайсьці адпаведны кірунак у горадзе, ад вуліц якога засталіся толькі коміны ды падмуркі, але тым цяжэй гэта ў пахмурную кастрычніцкую ноч. Не зірне з вакна выпадкова ўцалелае хаты на вуліцу забароненае сьвятло, не сустрэнуцца ў таксама забароненыя для руху гадзіны і пада-*

[41] Што «Змагарныя дарогі» першапачаткова пісаліся менавіта як успаміны, сведчыць ліставанне паміж Саніславам Станкевічам і Кастусём Акулам, захаванае ў архіве газеты «Бацькаўшчына». Станкевіч настойваў менавіта на публікацыі «Змагарных дарог» як твору мемуарнага, але амбіцыі Акулы быць «чыстым» пісьменнікам перамаглі.

[42] Беларус. № 151. 1969. С. 3. З ліста Юркі Віцьбіча да Станіслава Станкевіча ад 19.06.1965: *«Напішу, паводле Вашае ветлівае прапановы, сваю біяграфію, але без майго подпісу. Між іншым, дагэтуль мая біяграфія нідзе не зьмяшчалася. А чаму бяз подпісу? Хочацца ў ёй з боку падысьці да самога сябе. Потым не зусім сьціпла выглядае біяграфія з подпісам. На мой зусім неабавязковы погляд такая маленькая біяграфія зьяўляецца толькі дадаткам да артыкулу, якім, паводле мае думкі, звычайна і адзначаюцца ўгодкі. Мне здаецца, што ніхто больш трапна не напіша аба мне, як Спадар Гуткоўскі. Яшчэ ў 30-х гадох, у «ЛіМе», меўся ягоны дасканалы артыкул аб маёй творчасьці, які, як чуў ад іншых пісьменьнікаў (Чорны, Глебка, Бядуля, Крапіва, Лынькоў), зьяўляецца адным з найлепшых твораў Спадара Гуткоўскага. А ў дадатак маю да яго асабісты сантымэнт як да даўняга сябры»*.

[43] Гл.: Юрэвіч, Лявон. «Узвышша», «Шыпшына» і Юрка Віцьбіч // Архіўная кніга / Аўтар-укладальнік Лявон Юрэвіч. Нью-Ёрк, 1997. С. 355–364.

[44] Царкоўны Сьветач. № 1 (20). 1971. С. 28–29.

*рожныя. Не аднойчы наведваў я перад тым Полацак, але цяпер пасьля доўгага блуканьня бездапаможна прысеў на ганку спаленае бальшавікамі хаты. Няўтульным мне здаўся ягоны халодны камень, і ўсё ж лепш тут дачакацца досьвітку, чым трапіць пад кулі нямецкага патруля. Мяне вакол апанавала цемра, якую высака нада мною перасякалі ў розных напрамках праменьні пражэктараў, але што мне з таго, калі іх цікавіла паднябесьсе, а не зямля. Тым ня менш, каб ня чуцца самотным, я сачыў за іхнай гульнёй ды прыслухоўваўся да гулу самалётаў, якія прыцягнулі сюды, на бадай суцэльнае папялішча, свой сьмяротны цяжар. І раптам тое, што я пабачыў, здалося мне цудам. Блукаючы, два прамяні перасякліся паміж сабой, стварыўшы высока над слаўным горадам на небе вялізны крыж, аздоблены лілеямі і дзідамі. Толькі на момант бліснуў ён у беспатольнай цемры, аднак я адразу спазнаў знаёмы мне з маленства крыж Сьвятое Сафіі. Я перахрысьціўся ў тэй бок, дзе ён бліснуў, і неўзабаве адшукаў свой чарговы і тымчасовы прытулак. Ладне вады з таго часу далучыла Палата да Дзьвіны, іншыя рэкі з чужымі назовамі цякуць цяпер побач мяне, але ўсё ж хочацца да скону свайго жыцьця захаваць у душы тэй сьвяты, родны, незабытны арыенцір»*[45].



*Юрка Віцьбіч*

І нават той факт, што Віцьбіч сапраўды ў сваёй калекцыі меў кавалачак цэглы з Полацку, не адказвае на пытанне: гэта ўспамін ці бэлетрыстыка?

Адназначна нельга давяраць біяграфічным звесткам Віцьбіча, занатаваным ім самім у лічаных недатаваных накідах адказаў — відаць, на нейкія анкеты

[45] Беларускае Слова. № 1–2 (23–24). Студзень–люты 1955. С. 3.

амерыканскіх установаў[46]. Гэтак, месцам свайго нараджэння ён падае *«Беласток Гарадзенскай губэрні»*. Адукацыя: *«Мужчынская гімназія. Веліж, Віцебская губ. (1913–1918); ~~Школа II-й ступені (1918–1920)~~* [тут і далей перакрэслена Віцьбічам]*; Пэдагагічны Тэхнікум. Веліж. Віцебская губ. (1920–1924); Унівэрсытэт (1920–1926), ~~зwольнены з другога курсу як «сацыяльна чужы»~~»*.

Падчас працы над гэтай публікацыяй у архіўных зборах БІНіМа была выяўлена невядомая аўтабіяграфія Юркі Віцьбіча, датаваная чэрвенем 1965 г. (чыставік і чарнавы накід):

*«Пісьменьнік Юрка Віцьбіч (Юры Стукаліч) нарадзіўся 2 чэрвеня (ст. ст.) 1905 г. у горадзе Вяліжы на Віцебшчыне ў сям'і сьвятара. Вучыўся ў гімназіі й пэдагагічным тэхнікуме. Аднак у набыцьці ведаў яму галоўным чынам дапамагала вялікая кніжніца ягоных бацькоў. Пасьля сканчэньня тэхнікуму*[47]

---

[46] Хутчэй за ўсё, такой установаю была *Displaced Persons Commission*, якая ў красавіку 1949 г. даслала былым DP анкету, у якой пісалася: *"Dear Sir or Madame: The Displaced Persons Commission welcomes you to the United States of America. The Congress of the United States of America has established the Displaced Persons Commission to select for immigration to this country, persons displaced as a result of World War II. Under the principles laid down by the Congress, you are among selected. The Congress is interested in how displaced persons fare after settling in the United States. So that Congress may be kept informed on this matter, it requires that each person who immigrated to the United States as the head of a family or as a sinlge person provide certain factual information"*. Калі здагадка адносна ўстановы слушная, зразумела, чаму Віцьбіч падаваў няпраўдзівую інфармацыю. Падобная натуральная асцярожнасць была ўласцівая, бадай, усім эмігрантам-«усходнікам»; «заходнікам» было значна прасцей. Напрыклад, Вітаўт Тумаш у адказе на падобную анкету пазначаў: *«Вітаўт Тумаш (Witold Tumasz). Імя ніколі не мяняў. Народжаны 20.12.1910 г. у Сьпягліцы Віленскага павету. Народжаны як грамадзянін Расеі, потым польскі грамадзянін. Пасьля Сусьветнай Вайны без грамадзянства. Бацька, Ян Тумаш, 1885 г., цясьляр, зараз жыве (?) у БССР (СССР). Меў старое расейскае й потым польскае грамадзянства. Маці — Петранэла Канапелька, народжаная ў 1888 г. Грамадзянства як у бацькі. Месцазнаходжаньне пасьля вайны невядомае. Жонка — Ксенія Тумаш, народжаная Грыгарчук; нарадзілася ў Стойлы, Беларусь. Грамадзянства спачатку расейскае, потым польскае. Братоў і сясьцёр няма. Каталік, у рэлігійных арганізацыях ня ўдзельнічаю. Увесь час у беларускім вызвольным руху. Да палітычных партый не належу»*.

[47] У чарнавіку: *«Хоць тэхнікум ён скончыў першым… »*

*настаўнічаць яму не дазволілі з прычыны «сацыяльна чуждага паходжаньня».*

*З 1922 па 1932 год працуе*[48] *на маскоўскіх хімічных заводах, каб здабыць права (працоўны стаж) на вышэйшую асьвету*[49]. *Атрымаць яе яму ўсё ж не пашанцавала. У часе аварыі на вайскова-хімічным заводзе ён атруціўся фасгенам і стаўся інвалідам працы. Пасьля гэтага выехаў з Масквы на Беларусь.*

*Пісаць Віцьбіч пачаў яшчэ ў Маскве. Псэўданімам яму паслужыла рэчка Віцьба, ад якое дастаў свой назоў улюбёны ім Віцебск. Першае ягонае апавяданьне «Як загінуў Ясь» зьявілася ў № 9–10 часапісу «Ўзвышша» за 1929 г. Далей творы пісьменьніка часта друкуюцца ў часапісах «Узвышша», «Полымя», «Маладняк» і ў літаратурных дадатках да розных газэтаў. Між іншым, ягонай аповесьцю «Ціхая Руба» пачаўся ў 1932 г. першы нумар новага часапісу «Полымя Рэвалюцыі».*

*Юрка Віцьбіч меў дзьве кніжкі сваіх твораў — «Сьмерць Ірмы Лаймінг» (1932) і «Формула супраціўленьня касьцей» (1937). Падрыхтаваную ім да друку кніжку «Лшоно Габоо Бійрушалайм» забараніў Літбел*[50]. *А кніжку «Як езьдзіў у Конга пан Прун'е» ён сам забраў назад з Белдзяржвыдавецтва, не згадзіўшыся з рэцэнзіяй ейнага рэдактара.*

*Яшчэ жывучы ў Маскве, Ю. Віцьбіч увайшоў у склад роднага яму па сваіх імкненьнях літаратурнага згуртаваньня «Ўзвышша»*[51]. *На той час і пазьней прыпадае цкаваньне яго з боку камуністых і асабліва за аповесьць «Лшоно Габоо Бійрушалайм», назоў якое ў перакладзе з старажыдоўскае мовы азначае — «Налетась сустрэнемся ў Ерусаліме». Найбольшага развою гэтае ганеньне набывае ў часе (1934 г.) так званае рэформы беларускага правапісу, калі пісьменьніку закідаецца засьмечваньне мовы архаізмамі й правінцыялізмамі, а літаратуры варожымі савецкай рэчаіснасьці героямі. Завяршальны адбітак усё гэтае знайшло ў вялікім артыкулу «Нашы абвінавачваньні Ю. Віцьбічу» («Літаратура і мастацтва») за подпісамі тага-*

[48] У чарнавіку: *«спачатку на будаваньнях, а потым…»*

[49] У чарнавіку: *«Гэтую цяжкую працу распачаў з «казаноса» — падавальшчыкам цэглы, а скончыў лябарантам».*

[50] У чарнавіку: *«у асобе слыннага Лукаша Бэндэ».*

[51] У чарнавіку сказ пачынаецца так: *«Ідучы па лініі найбольшага вонкавага супраціву, наўсуперак запрашэньню з боку беларускае сэкцыі МАПП'у і БелАПП'у…»*

*часных камуністычных слупоў — А. Александровіча, М. Клімковіча і М. Лынькова.*

*Калі замест гвалтоўна зьліквідаваных літаратурных Згуртаваньняў, а ў першую чаргу «Ўзвышша», паўстаў абагулены калгас — Саюз Сав. Пісьменьнікаў БССР, Юрку Віцьбіча не прынялі ня толькі ў склад ягоных сябраў, але й кандыдатаў. Яго не арыштавалі, перад ім не зачынілі дзьверы часапісаў. Нават больш — тагачасныя крытыкі заўважылі нейкія сьляды так званае перабудовы ў гэткіх апавяданьнях, як — «Курт Лебэн аналізуе азот», «Адоніс!», «Альдэбаран», «Аргон» і г. д., самыя назовы якіх сьведчаць вылучна аб штучнасьці. Аднак ніхто, як сам пісьменьнік, вычуваў, што апынуўся на бездарожжы. І ўсё ж яму пашанцавала знайсьці адтуліну ў тых неспрыяльных для творчасьці варунках.*

*За тыя часы пісьменьнікі*[52] *распачалі пісаць гісторыі фабрык і заводаў. Ю. Віцьбіч працуе над гісторыяй старых віцебскіх, гомельскіх і барысаўскіх прадпрыемстваў. Яму давялося пагутарыць з сотнямі работнікаў і работніцаў, якія да яго як да суродзіча й колішняга работніка ставіліся з вылучным даверам. Акрамя таго, калі пасьля ягонага пераканальнага артыкулу ў «Зьвязьдзе» ў БССР ствараюцца навуковыя абласныя экспэдыцыі па ўліку і ахове помнікаў гісторыі і мастацтва — ён ачольвае сьпярша Віцебскую, а потым Гомельскую і Беластоцкую экспэдыцыі*[53]*. Гэта дае яму магчымасьць беспасярэд-*

---

52 У чарнавіку: *«паводле ініцыятывы Максіма Горкага...»*

53 У архіве царквы Св. Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы захоўваюцца 52 сшыткі з матэрыяламі Віцьбічавых экспедыцыяў. На кожным стаіць пячатка *«Jury Stukalich»* і назвы, надрукаваныя на машынцы (часам з праўкамі рукою Віцьбіча. Сам тэкст у сшытках напісаны ад рукі): *«1. Полацак. Сабор Сьвятое Сафіі. 1 фото. 2. Полацак. Спаска-Еўфрасіньеўская царква. 2 фото. 3. Полацак. Вал Валоўяга возера. 4. Полацак. Вал Ніжняга замка. 5. Полацак. Мікалаеўскі сабор. 3 фото. 6. Полацак. Паўночная вайна (Дом Пётры Першага). 1 фото. 7. Полацак. «Французкая батарэя». 8. Віцебск. Ламіха, Альгердава гара. 1 фото. 9. Віцебск. Царква Дабравешчаньня. 6 фото. 10 Віцебск. Мейсца пакараньня забойцаў Езафата Кунцэвіча. 11. Віцебск. Вусьпенскі сабор. 3 фото. 11. Траецкая царква («Белая Тройца»). 3 фото. 14. Віцебск. Ратуша. 15. Віцебск. Губэрнатарскі палац. 1 фото. 16. Віцебск. Помнік 1812 г. 2 фото. 17. Віцебск. Пятрапаўлаўская царква. 1 фото. 18. Віцебск. Касьцёл Антона Падуанскага (бэрнардзінскі). 5 фото. 19. Віцебск. Заручэўская сынагога. 1 фото. 20. Віцебск. Магіла А. Сапунова. 1 фото.*

*не, а ня толькі праз літаратуру і архівы пазнаёміцца з слаўным мінулым народу. Адначасна ён наведвае тыя мейсцы Беларусі, што маюць дачыненьне да яе выдатных сыноў і да падзеяў на ейных абшарах, як Крошын (Паўлюк Багрым), Лясная (бітва са швэдамі ў 1708 г.), Цяпіна (Васіль Цяпінскі), Студзёнка (пераправа французаў праз Бярэзіну ў 1812 г.), рэчка Пяшчанка (бітва радзімічоў у 980 г.) і г. д. Усё гэтае — несьмяротны народ і гістарычныя помнікі — даюць яму вялікую маральную падтрымку як пісьменьніку. І цікава, што ў 1939 г. Ю. Віцьбіча нарэшце прынялі ў склад ССПБ, хоць, дарэчы, ён аніякае заявы аб гэтым туды не падаваў, уважаючы сябе тагды й дагэтуль за «ўзвышэнца».*

*У пачатку Другой сусьветнай вайны Ю. Віцьбіч знаходзіцца ў сваім родным Вяліжы, дзе ў верасьні 1941 г. ставіць помнік на паруганых брацкіх могілках блізу 1000 вяліскіх паўстанцаў і партызанаў, расстраляных бальшавікамі пасьля славутага Вяліскага паўстаньня 1918 г., у якім сам удзельнічаў хлап-*

---

*21. Ворша. Пячоры. 22. Ворша. Касьцёл Нараджэньня Божае Маці (францішканскі). 2 фото. 23. Ворша. Францішканскі кляштар. 3 фото. 24. Ворша. Раждзесьцьвенска-Багародзіцкая царква. 1 фото. 25. Ворша. Акопы Пётры Першага. 2 фото. 26. Ворша Кацярынінскі слуп. 1 фото. 27. Талачын. Кацярынінскі слуп за горадам. 1 фото. 28. Талачын. Кацярынінскі слуп у горадзе. 1 фото. 29. Ключнікава. Кацярынінскі слуп. 1 фото. 30. Чэрвіна. Кацярынінскі слуп. 31. Падкасьцельцы. Барысаў камень. 2 фото. 32. Высокі гарадзец. Барысаў камень. 1 фото. 33. Дзятлава. Рагвалодаў камень. 34. Чарэя. «Белая царква». 1 фото. 35. Гарадок. Мур замка. 2 фото. 36. Смаляны. Замак каралевы Боны. 2 фото. 37. Смаляны. Прэабражэнская царква (вуніяцкая). 1 фото. 38. Лукамля. Замчышча. 1 фото. 39. Абольцы. Вусьпенскі касьцёл («Касьцёл Ягайлы»). 4 фото. 40. Бешанковічы. Дом Пётры Першага, Напалеона, Аляксандра Першага. 41. Бешанковічы. Вал маршала Сэн-Сіра. 2 фото. 42. Копысь. Паўночная вайна (Вал Пётры Першага). 2 фото. 43. Копысь. Прэабражэнская царква (летняя). 2 фото. 44. Сьлітцэ. Могільнік нязнаных жаўнераў. 45. Сіроціна. Раждзесьцьвенска-Багародзіцкая царква. 1 фото. 46. Якімань. Юр'яўская царква. 2 фото. 47. Мястэчка. Мікалаеўская царква. 48. Бачэйкава. Будынак абшарніка (ракока). 2 фото. 49. Дрыса. Помнік 1812 г. 1 фото. 50. Сівошын Перавоз. Помнік ген. Кульеву. 1 фото. 51. Стасева. Пагранічны губэрнскі слуп. 1 фото. 52. Здраўнева. Маёнтак І. Рэпіна. 2 фото».* Матэрыялы часткова выдрукаваныя ў: ARCHE. № 4. 2009. С. 82–134.

*чуком*[54]*. Пазьней, пераехаўшы сьпярша ў Віцебск, а потым у Менск, супрацоўнічае ў розных антысавецкіх выданьнях. А ў канцы вайны працуе як работнік у баўраў Нямеччыны.*

*Пасьля вайны Юрка Віцьбіч аднаўляе распачатую ім яшчэ ў часе вайны працу — «Антыбальшавіцкае змаганьне на Беларусі», а ў выснаве зьяўляюцца ягоныя артыкулы й нарысы, прысьвечаныя паўстаньням — Слуцкаму, Вяліскаму, Койданаўскаму, Гомельскаму, Барысаўскаму і г. д., як і паасобным героям-партызанам — Семянюку, Дзяркачу-Адамовічу, Нілёнку, Чырвонцу, Монічу ды іншым. Асабліва цікавіць яго вялікая роля ў гэтым змаганьні генэрала Булака-Балаховіча. У 1956 г. газэта «Бацькаўшчына» выдае ягоную кніжку «Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман» — яе прыхільна сустрэла нашая эміграцыя ды варожа, што зусім зразумела, бэсэсэраўскія калябаранты.*

*Юрка Віцьбіч ня толькі пісьменьнік, але*[55] *й журналісты. Карыстаючыся пераважна сваёй роднай беларускай мовай, ён часам друкуецца й на расейскай. У найбольш пашыранай на эміграцыі газэце «Новое Русское Слово» пад подпісам «Юрий Стукалич» часта друкуюцца ягоныя артыкулы, нарысы ды зацемкі, у якіх ён прапагуе беларускую вызвольную ідэю і заўжды стаіць на варце нашай нацыянальнай годнасьці.*

*І напасьледак варта зацеміць аб той нянавісьці, якую выказваюць Юрку Віцьбічу ў сваіх выданьнях і праз радыё бэсэсэраўскія папіхачы Масквы. Яны ўсяляк ганьбяць яго ў сваіх адмыслова яму прызначаных артыкулах, фэльетонах, карыкатурах і г. д. Пісьменьнік уважае гэтае за найлепшую ўзнагароду для сябе як для змагара за шчасьце беларускага народу й за волю роднай Беларусі».*

Трэба пагадзіцца, што аўтабіяграфія, названая аўтарам «Жыццяпіс Юркі Віцьбіча», пісалася, відаць, для публікацыі ці частковага скарыстання ў адным з беларускіх эміграцыйных выданняў з нагоды 60-годдзя пісьменніка і няшмат дадае да ўжо

[54] У чарнавіку следам ідзе наступны сказ: *«Паводле ягонае ініцыятывы ў топцы тутэйшае электрастанцыі спальваецца каля 15 тыс. асобнікаў living рознае камуністычнае макулятуры, пачынаючы ад Маркса і канчаючы Калініным».*

[55] У чарнавіку: *«й стары...»*

вядомага пра яго. У лістах жа, якія адрасаваліся такім самым, як і ён, эмігрантам з былых падсавецкіх тэрыторыяў, можна было пачувацца вальнейшым ды больш шчырым у сваіх згадках пра агульнае мінулае.

Слова *карэспандэнцыя* ў беларускай мове мае некалькі значэнняў: гэта не толькі фізічны аб’ект, самыя лісты, але і ўзаемныя адносіны паміж пісьменнікам-аўтарам ліста, які адначасна і чытач, і чытачом ліста, які адначасна і пісьменнік-аўтар адказу. То бок карэспандэнцыя — гэта занатаваны на паперы дыялог паміж двума суразмоўцамі, роля якіх па чарзе мяняецца.

У кожнага эмігранта, пазбаўленага свайго звыклага кола, жыхара пэўнага месца не праз свядомы выбар, а як сумарны вынік шэрагу незалежных ад яго самога акалічнасцяў, існуе праблема суразмоўцы. У выпадку Віцьбіча лістоўныя стасункі былі тым больш важнымі, што ў Саўт-Рыверы ён апынуўся фактычна ў ізаляцыі, пра што троху далей; выцечкі нават у блізкі Нью-Ёрк былі для яго адначасна і дарагімі, і невыгоднымі, бо трэба было б пакідаць без дагляду хворую жонку і старую маці. Да таго ж тэлефон у Віцьбічавай кватэры з’явіўся даволі позна, пра што ён сам гаворыць у адным з лістоў. І таму эпісталярыум Віцьбіча — гэта і сведчанне ягонае самоты, і разам з тым імкненне тое адзіноцтва пераадолець.

Для сённяшняга чытача, для даследчыка ліставанне ёсць не толькі гісторыяй асабістых зацікаўленняў Віцьбіча, ягонага псіхалагічнага стану. Ліставанне адыгрывае значна большую ролю — як фіксацыя штодзённае культуры эміграцыі ў самым шырокім значэнні (паводзінаў, учынкаў, эмоцыяў, ідэяў беларусаў на выгнанні), з’яўляючыся пры тым часткай гэтай самай культуры.

Такім чынам, лісты Віцьбіча варта разглядаць як успаміны з даваеннага часу, пачаткаў эміграцыі, і як дзённік-біяграфію самога часу, адпаведнага датам на лістах.

Лісты Віцьбіча як жанр можна падзяліць на некалькі катэгорыяў адносна канфедэнцыйнасці: лісты ў рэдакцыі выданняў («адчыненыя»); лісты-копіі, што далучаліся да арыгінальных лістоў; лісты прыватныя («паміж намі»), што абумоўлівалася іхным зместам або асобаю рэспандэнта.

Тэматычна сярод лістоў вылучаюцца *мемуарныя* (успаміны пра асабістае даваеннае мінулае ці часоў лагераў *DP*, згадкі пра

літаратараў); *гісторыка-літаратурныя* (прысвечаныя Слуцкаму паўстанню, Ефрасінні Полацкай, мовазнаўчым праблемам, водгукам на прачытаныя мастацкія творы ці артыкулы); *побытавыя* (рэакцыя на ўнутрыэміграцыйныя падзеі, чуткі, плёткі *etc*. Гэтаму тыпу ліставання ўласцівы характэрны для Віцьбіча саркастычны фельетонны стыль). Зразумела, лістоў выключна аднаго тыпу няшмат — звычайна яны ўяўляюць сабой кантамінацыю некалькіх тэмаў.

Цікава адцеміць, што ў Віцьбічавых лістах амаль цалкам адсутнічаюць небеларускія тэмы — амерыканскае жыццё, падзеі ў свеце, хоць, здавалася б, немагчыма было абысці такія здарэнні 1960-х, як забойства Кенэдзі ці пабудова Берлінскага муру.

Гаворачы пра характар Віцьбічавага ліставання, нельга не закрануць яшчэ адзін надзвычай істотны аспект: лісты як інструмент улады.

У лісце да ўладыкі Васіля (Уладзіміра Тамашчыка) Віцьбіч піша:

*«Між іншым, я маю вялікае ліставаньне (за мінулы 1968 г. — 258 лістоў), якое ня толькі не перашкаджае творчасьці, забіраючы ў яго час, а наадварот, садзейнічае яму, бо такім чынам літаратар лепш ведае, што трэба пісаць дзеля дабра свайго народу ды на шкоду ягоным адвечным ворагам. Аднак найбольшую вартасьць уяўляе ў гэтай галіне ліставаньне з Асобамі, якія з Ласкі Божае ачольваюць нашую эміграцыю і ў стане ўплываць на ейнае жыцьцё — па зразумелых прычынах, у іх большы кругагляд, шырэйшыя гарызонты»*[56].

У прыведзенай цытаце некалькі цікавых момантаў: папершае, сапраўды ўражвае колькасць напісаных лістоў; падругое, не зусім верыш аўтару, што ліставанне давала яму тэмы: фельетоны і нарысы пераважна былі народжаныя артыкуламі газетаў «За вяртанне на Радзіму», «Новое Русское Слово» і надта ж рэдка закраналі жыццё самой эміграцыі. Але пасаж робіцца зразумелым, калі чытаеш другі сказ, пра *Асобаў*. Слаба прыхаваны рэверанс у бок рэспандэнта, уладыкі Васіля, выяўляе сапраўдныя інтэнцыі аўтара ліста: маніпуляцыя сваімі

[56] Ліст Юркі Віцьбіча да ўладыкі Васіля ад 07.10.1969.

чытачамі. Згаданы ліст заканчваецца маленькім характэрным для Віцьбіча постскрыптумам, дзе ён наракае на нейкі ўчынак а. Мікалая Лапіцкага (хоць зазначае, што тое не вартае ўвагі ўладыкі).

Віцьбіч праз лісты намагаўся фармаваць светапогляд сваіх рэспандэнтаў і шырэй — *агульную грамадскую думку*, ствараючы вобразы трэціх асобаў — герояў лістоў, даючы ацэнку і ўласнае насвятленне рознаўзроўневым (часта выключна побытавым) здарэнням у эміграцыйным жыцці. Пры гэтым ён любіў паўтараць, што нікому не накідвае ўласнага погляду на таго ці іншага чалавека ці падзею. От толькі шматгадовая практыка дасылкі копіяў уласных лістоў сведчыць акурат пра адваротнае.

Тут патрабуецца невялічкі экскурс у мінулае Юркі Віцьбіча — за часы лагераў *DP*.

Раскол БНР і БЦР, падзел на *крывічоў* і *зарубежнікаў* — з'ява збольшага асветленая ў працах з гісторыі беларускае эміграцыі[57], і цяпер не месца разглядаць наноў усе прычыны, што паспрыялі таму. Але дазволю сабе выказаць здагадку, што галоўным рупарам БЦР, чалавекам, які фармуляваў аргументы ды агучваў закіды, якія потым падхопліваліся іншымі выданнямі, быў ніхто іншы, як Юрка Віцьбіч[58].

У сваім грунтоўным артыкуле, прысвечаным памяці пісьменніка, напэўна, найлепшым у тагачасным друку[59],

---

[57] Гл., напрыклад, кнігу Яна Максімюка «Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне (1945–1950)» (Нью-Ёрк—Беласток, 1994) ці ягоны ж артыкул «Аднаўленьне Рады БНР пасьля Другой Сусьветнай вайны» (Запісы БІНіМ. № 25. 2001. С. 41–48).

[58] На пасяджэнні Калегіі БЦР у нямецкім лагеры Эльванген (10.05.1948) Віцьбіча прызначылі сакратаром прэсы і прапаганды. Варта адзначыць, што для бальшыні тагачаснае эміграцыі роля Віцьбіча ў БЦР была дастаткова зразумелай. Прыкладам, ва ўлётцы «Ордэн Двупагоні. Да гісторыі паўстання арганізацыі» (1951) невядомы аўтар піша: *«Абодвума існаваўшымі тады кірункамі былі высунутыя розныя закіды [...], што рабілася лідэрамі груповак (М. Абрамчык, Я. Станкевіч, Ю. Віцьбіч і Р. Астроўскі) сьведама, каб уратаваць іхняе ж лідэрства»*. Праўда, Віцьбіч быў палітычна актыўным не толькі ў БЦР. У 1946 г. у Рэгенсбурзе ён разам з Юр'ем Сабалеўскім і Міколам Шчорсам рабіў спробу закласці Ініцыятыўны выканаўчы камітэт Сялянска-работніцкае партыі вызвалення Беларусі.

[59] А. Дзе-ка. Юрка Віцьбіч // Божым Шляхам. № 1–2 (143–144). 1975. С. 2–8, 25–26.

Часлаў Сіповіч у пераліку рэдагаваных Віцьбічам выданняў («Шыпшына», «Звіняць званы Святой Сафіі», «Беларускае слова») забыўся (?) згадаць яшчэ адное — «БІС» («Беларуская інфармацыйная служба»). А яно было, бадай, асноўным выданнем прыхільнікаў БЦР за часы *DP*, найбольш гучным, найбольш агрэсіўным, што атакавала не толькі Міколу Абрамчыка, а ў не меншай ступені і Антона Адамовіча, галоўнага ідэолага БНР (1946–1949), аўтара (разам з Янкам Станкевічам) ідэі *Крывіі*, да якой, дарэчы, прэзідэнт БНР не меў аніякіх адносінаў.

Трэба сказаць, што ў палітычным двубоі з Віцьбічам за галасы насельнікаў лагераў *DP* Антон Адамовіч прайграваў, хоць і быў таленавітым прамоўцам: ён не аднойчы паўтараў, што ненавідзіць гэтыя «масы», і сваёй пагарды не хаваў, а ягоныя артыкулы ў «Бацькаўшчыне» бальшынёй проста не разумеліся.

«БІС» атакаваў самымі рознымі сродкамі. Ад баек Міхася Кавыля «На Парнасе» (*«Патрыёты там, як на падбор… / Падбрамкоўскі сам праводзіў скрынінг / І «назьвіскі» Крыўі на вузор: / Склют, Альгердзіч, Вуніч і Скарыніч»*)[60] да фельетонаў і артыкулаў Ігната Тура[61]. Наступная вялікая цытата неабходная не толькі праз выключную рэдкасць на сёння асобнікаў «БІС», але і для лепшага разумення тых зменаў, што адбыліся з Віцьбічам пасля пераезду ў ЗША, ды ягонага ліставання з пачатку 1950-х гг. Трэба толькі звяртаць увагу на характарыстыкі імёнаў, што неаднойчы потым будуць сустракацца ў Віцьбічавай карэспандэнцыі:

*«[Крывічы] мяркуюць, што прышлы гісторык беларускае палітычнае эміграцыі будзе пісаць гэтую гісторыю, выходзячы вылучна з камплектаў «Бацькаўшчыны», «Ведамак», «Руху», «Сакавіка», «Крывіцкага Сьветача», «Беларуса на чужыне», «Летапісу» і «Змаганьня», з пашквіляў «БНЦ» і розных іншых гоп-камітэтаў, зь «Белых» і шэрых кніжкаў. Яны пэўне пераконаныя, што гісторыя — гэта начная дзеўка з найдарагой іхнаму «крывіцкаму» сэрцу Маршалкоўскай. А між тым гэты будучы гісторык возьме таксама камплекты «Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі», «Шляхам жыцьця», «Вызваленьня», «Аб’еднаньня», «Беларускае волі», «Апошніх вестак», «За ед-*

60 БІС. № 21. 1 верасьня 1948. С. 3–4.

61 Ігнат Тур — адзін з псеўданімаў Юркі Віцьбіча.

*насьць», «Голас беларуса», «БІС»*[62]*. Ён апытае тысячы людзей, што належаць да розных партыяў і беспартыйных. І толькі пасьля гэтага зробіць свой бясхібны высноў.*

*Ён пабачыць, што ў той час, калі Спадар Прэзыдэнт Прафэсар Радаслаў Астроўскі на чале беларускага народу змагаўся супраць бальшавіцкае навалы за Незалежную Беларусь, стары заслужоны камсамолец, будучы крывіцкі «тэж-прэзыдэнт»*

---

[62] Беларускі друк у лагерах *DP* — з’ява надта ж цікавая. Пры параўнальна невялікай колькасці беларусаў (з іншымі народнасцямі) у Нямеччыне, імі выдавалася больш за 90 перыёдыкаў — ратататарным друкам, што тлумачыцца як нутранымі, гэтак і вонкавымі абставінамі. Акупацыйныя саюзныя ўлады ўсіх трох зонаў, якія не надта цямілі ў «беларускім пытанні», спрыялі прымусовай рэпатрыяцыі, выдаючы ўцекачоў савецкім камісіям. Беларусы, што працяглы час не мелі сваіх лагераў, хаваліся па польскіх, летувіскіх, латышскіх, нават запісваліся ў турэцкія і габрэйскія, мяняючы ў паперах сваю нацыянальнасць адпаведна лагеру, што даў прытулак. Атрымаць ліцэнзію ад уладаў на выданне беларускай газеты было немагчыма і таму (акром агульных для ўсіх законаў), што афіцыйная статыстыка падавала параўнаўча невялікую колькасць беларусаў у лагерах. У выніку, пры адсутнасці сваёй прэсы (праўда, у 1945 г. у Парыжы пачалі выходзіць «Беларускія Навіны», але паколькі паштовая сувязь паміж Францыяй і Нямеччынай была перарваная, газета абслугоўвала фактычна адно эмігрантаў у Францыі ды беларусаў войска Андэрса) не заставалася іншага выйсця, як друкаваць нелегальна. Прычым нелегальнасць палягала не столькі ў дачыненні да акупацыйных уладаў (на што тыя глядзелі скрозь пальцы), колькі з разлікам на начальства лагераў. Але ўмовы былі непараўнальныя ані з савецкай акупацыяй, ані з польскай ці нямецкай. Таму кожны, хто вычуваў здатнасць да часапісьменства, кінуўся да ратататара ці асадкі. Той «ратататарны» перыяд выявіў ці мала здольных журналістаў і навукоўцаў. У 1947 г. беларусам выдалі першыя дзве ліцэнзіі — на газету «Бацькаўшчына» і часопіс «Сакавік» — і гэта прыпыніла існаванне часткі перыёдыкаў: журналісты і пісьменнікі пачалі супрацоўнічаць з выданнямі, што выходзілі друкам. Наяўнасць аўтараў, вольных у сваім лагерным часе, забяспечыла выкарыстанне ўсёй паперы, якая прызначалася згодна з ліцэнзіяй. Да грашовай рэформы ў Нямеччыне друк аднаго нумару «Бацькаўшчыны» мог аплаціцца рэалізацыяй параўнальна невялікай колькасці амерыканскіх цыгарэтаў. З 1949 да 1951 г. у лагерным друку наступіў крызіс, звязаны з масавым выездам беларусаў у іншыя краіны. У гэтай сітуацыі сваю сумную ролю адыграў штомесячнік «За вяртанне на Радзіму», што выдаваўся камітэтам генерала Міхайлава ва ўсходнім Берліне і рассылаўся бясплатна ў адмысловых капэртах.

*Мік. Абрамчык выкленчыў у паміраючага волата Захаркі цыдульку Ларысе Генюш і сабе на годнасьць архіварыюса БНР*[63]*. Ён сьцьвердзіць, што ў той час, калі тысяча найлепшых беларусаў зьехалася ў Менск на Другі Кангрэс, каб ратаваць Бацькаўшчыну ад бальшавіцкае акупацыі, найбольш ачмурэлая частка цяперашніх «крывічоў» рыхтавала бальшавіцкія міны, каб узарваць будынак Драматычнага Тэатру, дзе адбываўся Другі Кангрэс! Ён пабачыць, што ў той час, калі, трапіўшы на эміграцыю, сэнатар былога польскага сэнату стары Васіль Рагуля зьбіраў на вуліцы Эгінгену недакуркі, сучасны «крывіцкі міністар па алькагольных справах» Станіслаў Станкевіч пісаў прадажніцкі ліст генэралу Андэрсу, прапаноўваючы яму беларускае гарматнае мяса. Ён пабачыць, што калі пасол Юры Сабалеўскі стварыў у часе вайны Беларускую Народную Самапомач, якая вырвала з абыймаў галоднае сьмерці шмат суродзічаў, дык розныя «крывіцкія» экс-сакратары СНК БССР экс-Кандыбовічы*[64] *прысабечылі сабе пасьля вайны грамадзкую касу. Ён пабачыць, як плявузгалі «крывічы» з УНРРА'ўскім стажам накшталт Мечыслава Перапупа на арганізатара й кіраўніка першага «Саюзу Беларускае Моладзі» — «Беларускае Хаткі», потым савецкага катаржніка, а пазьней Прэзыдэнта Другога Кангрэсу — Яўхіма Кіпеля. Ён пабачыць, як сапраўдны, а не «тэстамантавы» сябра Рады БНР сьвятое памяці Мікола Шыла, пра якога калісьці ўся Беларусь сьпявала словамі Міхася Чарота*

*Жыве Шыла, Грыб, Мамонька,*
*Будзем жыць і мы,*

*паміраючы, сьпяшаўся скончыць сваю «антыкрывіцкую» працу «А што далей?» і як за гэтая аплявалі ягоную магілу «крывічы».*

---

[63] Маецца на ўвазе гісторыя з тэстаментам старшыні Рады БНР Васіля Захаркі (1877–1943), паводле якога архіў і пячатка Рады БНР, а таксама пасада старшыні Рады пераходзіла да Міколы Абрамчыка. Крыніцай інфармацыі пра гэта сталі сведчанні Ларысы Генюш.

[64] Маецца на ўвазе **Сымон Кандыбовіч** (на эміграцыі Кабыш, 1891–1972), дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1931–1933 гг. ён працаваў кіраўніком спраў Саўнаркаму БССР, а ў 1935 г. стаў начальнікам Накрамхарчпраму СССР пры СНК БССР. У 1944 г. Кандыбовіч стаў сябрам Беларускай Цэнтральнай Рады.

*Ён давядзе, чаму бязьлітаснае заўсёды НКВД не накіравала палоннага польскага капітана Францішка Кушаля, разам з усімі афіцэрамі Рэчы Паспалітае, да Катыні, а выпусьціла яго з сутарэньняў маскоўскае Лубянкі на волю. Ён адзначыць, што калі сотні, тысячы самаадданых патрыётаў жаўнераў БКА гінулі ў няраўнай барацьбе за Бацькаўшчыну, тэй жа Францішак Кушаль дэзэртуе на Захад, каб як найхутчэй скласьці там заяву на годнасьць фольксдойча. Ён пабачыць, што першы Беларускі Нацыянальны Камітэт на чужыне ў Рэгенсбургу стварыў зусім не «мізэрны брат вялікага брата» Міхась Міцкевіч і не палітычная інфузорыя Васіль Кендыш, а Аляксандр Русак. Ён пабачыць, што першым старшынёй Беларускага Цэнтральнага Дапамаговага Камітэту быў не «крывіцкі біскуп» Тамашчык, а протаярэй, магістар багаслоўя Мікалай Лапіцкі. Ён пабачыць, што першую беларускую гімназію на чужыне заклалі не спадарыня Орса з мужам*[65]*, а Хведар Шыбут*[66]*. Ён пабачыць, што калі пісьменьнік-узвышэнец Юрка Віцьбіч дзяўбаў остэрбайтаўскай кіркай супрацьтанкавыя ірвы на беразе возера Шпірдынг, калі пакутнік Калымы паэта і драматург Тодар Лебяда хаваў сваё дзіцянё ў рыштаку за агароджай баўарскіх могілак, калі другі пакутнік Калымы паэта Ўладзімер Клішэвіч, ня вытрымаўшы зьдзекаў, уцёк уначы ад аплявушанага ім баўэра ў невядомасьць, прыціскаючы сваё дзіцянё, дык у гэты час антоны адамовічы і розныя іншыя глебы альгердзічы яволілі ў штабе Розэнбэрга. Ён пабачыць, як цяперашні тэстамэнтавы «тэж-магістар» Аўген Каханоўскі закладае 23 кастрычніка 1945 г. у Рэгенсбургу «крывіцкую» нацыянал-сацыялістычную партыю, якая потым разьдзярэ беларускую палітычную эміграцыю на два варожыя лягеры. Ён пачуе, што першым ударыў у магутны гістарычны звон Сьвятое Сафіі Юры Стукаліч, а ўжо год пазьней задзілінькаюць супраць праваслаўя адлітаваныя ў Ватыкане вуніяцка-езуіцкія званы ў Парыжы («Божым Шляхам»), у Рэгенсбургу («Адраджэньне»), у Госьляры («Беларуская Думка») і ў Лёндане («Беларус на чужыне»). Ён пабачыць, што калі адзін з аўтараў*

[65] Маюцца на ўвазе Наталля і Аляксандр Орсы і Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу і Міхельсдорфе.

[66] Хведар Шыбут у 1945 г. стаў кіраўніком бацькоўскага камітэта Беларускай гімназіі ў Рэгенсбургу.

*Акту 25 Сакавіка генэрал Кастусь Езавітаў і пісьменьнік Юрка Віцьбіч заклалі на чужыне Літаратурнае Згуртаваньне «Шыпшына», якое паступова аб'яднала без малага ўсіх беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў-выгнанцаў, дык «крывічы» імкнуліся ўвесь час разбурыць гэтае апалітычнае Згуртаваньне і зачыніць ягоны аднайменны часапіс. Ён пабачыць, што ўсе свае грошы Беларуская Міжлягерная Рада ўжыла не на выданьне сэксотаўскіх выданьняў, што практыкуе «крывіцкі» «БНЦ», а на выданьне друкаваных кнігаў Масея Сяднёва («Спадзяваньні», «У акіяне начы»). Ён пабачыць, як Шчорсы, Коўшы, Стукалічы, Ільляшэвічы, Шыбуты, Вайцехоўскія і інш. змагаліся супраць далучэньня беларускіх япіскапаў да Расейскае Зарубежнае Царквы і дагэтуль не вызнаюць яе, а тым часам «крывічы», прапагуючы вунію, спрабуюць нацкаваць іх супраць праваслаўя і, атрымаўшы адпор, прышылі мянушку «зарубежнікі». Ён пабачыць, як зьнішчылі «крывічы» 4 чэрвеня 1946 г. у Рэгенсбургу памешканьне Беларускага Праваслаўнага Аб'еднаньня, абранага ўсімі праваслаўнымі беларусамі Нямеччыны і скінуўшы на падлогу «Пагоню» і сьвяты абраз Юрыя Пераможцы, патапталі іх ботамі. Ён пабачыць ня толькі разрэклямаваную «крывічамі» 12-ку на чале з былым энкэвэдэшнікам Аляксандрам Бутам[67], але запраўды гераічную плятлінгаўскую юнацкую 16-ку, якую тыя ж «крывічы» выкінулі зь беларускага лягеру ў Рэгенсбургу. Ён пабачыць, як «крывічы», пераканаўшыся, што не ў стане апанаваць беларускія лягеры ў Гэгенсбурге, Гэрэнбэрге, Фэгенштраўсе, дамагліся ад УНРРА, а пазьней IRO іхнага зьнішчэньня. Ён пабачыць, як 160 беларусаў, беларускіх сялянаў-палешукоў уцяклі зь лягеру Остэргофэн у расейскі лягер Натэрнбэрг ад «крывіцкіх» палак. Ён пабачыць, як «крывіцкая» газэтка «Бацькаўшчына», цалкам падтрымоўваючы крамлёўскую «Праўду» ды савецка-бэрлінскі «Тагішэ Рундшаў» і «Нахт Экспрэс», высуне беларускім нацыянальным дзеячам абвінавачваньне ў «квісьлінгоўстве».*

---

[67] Маецца на ўвазе «Дванаццатка», апісаная ў кнізе Янкі Запрудніка (Нью-Ёрк: БІНІМ, 2002). **Алесь Бута** (1923–1998), удзельнік «Дванаццаткі». Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў лагерах *DP* у Нямеччыне. Скончыў 7 клясаў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Быў кіраўніком беларускага скаўтынгу ў Амерыканскай зоне Нямеччыны, аб'яднанага ў штандар «Баварыя».

*Ён пабачыць, як цалкам падтрымае гэтае абвінавачваньне крэўны брат правакатара па справе Юрыя Лістапада, дэлегат сусьветнага кангрэсу КІМ'у 1924 г. у Маскве «тэжпрэзыдэнт» Мік. Абрамчык, салідарызуючыся ў гэтых адносінах з Вышынскім. Ён пабачыць, як жменька польскіх падлабызьнікаў на чале з Галяком, што цалкам апраўдвае ў маральным сэнсе сваё прозьвішча, добраахвотна зьмяняе беларускі лягер Ватэнштэт на польскі лягер Маёрвік, каб адтуль пад аховай палякаў і за іхні кошт ганьбаваць на старонках пашквілянцкага часопісу «Летапіс» беларускіх нацыянальных дзеячаў і паасобныя беларускія лягеры за «русафільства». Ён пабачыць, як «крывічы», што цалавалі на працягу ўсяго жыцьця і «ожал бялы», і «акенкройц», і «красную звезду», завішчэлі аб нацыянальнай здрадзе, калі беларуская нацыянальная стыхія ў Міхэльсдорфе зьняважыла «крывіцкі» сьцяг. Ён пераканаецца, перагарнуўшы кампллекты «Кронікі», «Сітвы», «Ожал Бялы», «Дзеннік Жолнежа», «Лех», як рэклямаваліся ўвесь час «крывічы» палякамі, і ня знойдзе на старонках «Эхо», «Посева», «Обозренія» і іншых расейскіх газэтаў ніводнага слова аб тых беларускіх нацыянальных дзеячох, якім «крывічы» прышылі мянушку «русафілаў». Ён перагледзіць сотні даносаў, якія склалі «крывічы» ў IRO, палітычныя паліцыі і савецкія місіі на беларускіх нацыянальных дзеячаў і адначасна пераканаецца, што цяжка нават пералічыць усю тую мастацкую беларускую літаратуру, якую выдаў ганьбаваны «крывічамі» за «зарубежніцтва» беларускі лягер Ватэнштэт»*[68].

Меў рацыю Часлаў Сіповіч, зазначыўшы ў згаданым вышэй артыкуле, што *«быў гэта, магчыма, найбольш цёмны і сумны час у жыцьці беларускай эміграцыі. Сваркі ўсялякага роду — палітычныя, рэлігійныя, ненавісьць і даносы множыліся, як бацылы заразнай хваробы»*[69].

Дзень, калі пісьменнік прыбыў у ЗША — 26.09.1949 — можна лічыць днём з'яўлення ў беларускай эміграцыйнай журналістыцы і палітыцы новага Віцьбіча.

Яшчэ ў Нямеччыне ён пачаў рэдагаваць газету, блізкую да «БІС», — «Беларускае Слова», на старонках якой таксама

[68] БІС. № 22. 25 верасьня 1948. С. 3–5.

[69] А. Дзе-ка. Юрка Віцьбіч // Божым Шляхам. № 1–2 (143–144). 1975. С. 7.

друкаваўся Ігнат Тур, але ўсё ж гэта было больш абачлівае ў сваіх выразах ды параўнаннях выданне. Тым не менш, па прыездзе ў ЗША Віцьбіч да рэдагавання не вярнуўся (газету пераняў Аляксандр Русак), а праз нейкі час, у 1954 г., напісаў ліст да Міколы Абрамчыка:

*«Глыбокапаважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*[...] Надысь атрымаў № 5 (19) «Беларускага слова» і сталася досыць сумна. Сумна не з тае прычыны, што зьмест гэтага № «Б. С.», як і папярэдніх, разьлічаны не на змаганьне з расейскім бальшавізмам, а на распальваньне грамадзянскае вайны ў сваёй жа эміграцыі. Па-першае, гарбатага толькі магіла выправіць, па-другое, аж занадта дробны калібр мае зброя гэтых «змагароў», па-трэцяе, бадай ніхто цяпер да голасу іх не прыслухоўваецца ў нашай хаце, а тым больш па-за ёй. Сумна сталася вылучна з тае прычыны, што ўжо значны час, як няма «Бацькаўшчыны» — сумленьня нашае нацыянальнае эміграцыі, ейнага запраўднага і шчырага афіцыйнага, няўтомнага амбасадара на чужыне нашага народу»*[70].

Абрамчык адказаў:

*«Вельмішаноўны й дарагі спадар Віцьбіч. [...] Пішаце, «Беларускае слова» зрабіла на Вас благое ўражаньне. Час ад часу чытаю і я гэтую газэту. Безумоўна, шкода, што людзі ня ў той бок скіравалі сваю энэргію, але што парадзіш? Апазыцыя наша (бэцээраўцы) глыбока памыляюцца, думаючы, што Абрамчык прэтэндуе быць прэзыдэнтам Беларусі, або што я нат трымаюся рукамі й зубамі за прэзыдэнцтва на эміграцыі. Далёка ня так. Заданьне, якое паставіў сябе я, значна скрамнейшае. А ўласьне папулярызацыя нашай дзяржаўнасьці за граніцай і захаваньне канцэпцыі БНР»*[71].

Паміж гэтымі датамі, прыездам Віцьбіча ў ЗША і перапіскаю з Абрамчыкам, стаіць яшчэ адна — 9 ліпеня 1951 г. Дзень, калі Юрка Віцьбіч афіцыйна выйшаў з БЦР і абвясціў сябе «нэўтральным» у дачыненні да БЦР і БНР. І гэта быў той дзень, ад якога пачалася Віцьбічава самота.

---

[70] Ліст Юркі Віцьбіча да Міколы Абрамчыка ад 22.09.1954.
[71] Ліст Міколы Абрамчыка да Юркі Віцьбіча ад 10.01.1955.

Натуральна, былыя аднапартыйцы не маглі дараваць і ніколі не даравалі вырачэнства, што ў невялічкім Саўт-Рыверы, неафіцыйнай сталіцы БЦР, вычувалася штодзённа на побытавым узроўні даволі востра. Але і беларусы з іншага лагеру, БНР, не забыўшыся на артыкулы Ігната Тура, не кінуліся з абдымкамі да пісьменніка.

Сёння складана назваць (калі наогул магчыма) сапраўдную прычыну Віцьбічавага выхаду з БЦР. Сам ён неаднаразова паўтараў, што асноўная задача палітычнае эміграцыі — змагацца з Масквою, з бальшавізмам, а не паміж сабою, і ў Амерыцы тое зрабілася для яго зусім зразумелым. Цалкам магчыма.

Дакладна іншае: у выніку Віцьбіч застаўся не толькі без былых паплечнікаў, не здабыў новых, але і, што мо было больш істотным для яго, перастаў быць рэдактарам адразу чатырох выданняў. Натуральна, ён мог надалей дасылаць свае творы ў іншыя рэдакцыі, што і рабіў пазней ахвотна, рэдка адмаўляючы каму, але тое былі нарысы пра Беларусь — на замову, фельетоны — на змаганне з «завяртанцамі». Віцьбічава ж натура прагла змагання з жывымі.

Вынікам змены палітычнага кірунку сталіся пэўныя перамены і ў жыцці Юркі Віцьбіча.

Першая — ён пачаў моцна піць. Гэтая хвароба не абышла не толькі яго: піў Мікола Панькоў, запланаваўшы веліч праектаў, энцыклапедыю, хронікі, але нічога не дарабіўшы, не выдаўшы; піў Алесь Салавей, згубіўшы натхненне на заводах Аўстраліі; піў Уладзімір Дудзіцкі (Гіцкі), губляючы ў няспынных уцёках ад жанчын і іхных мужоў рукапісы ўласных твораў; піў Ізыдар Гуткоўскі, так ніколі і не скончыўшы бясконцага ўкладання зборніка паэзіі свайго брата, Язэпа Пушчы; пілі іншыя[72]. Зрэш-

[72] Антон Адамовіч, абмяркоўваючы магчымую кандыдатуру супрацоўніка для радыё «Вызваленне», пісаў Міколу Абрамчыку (02.09.1957): *«Становішча, занятае Вамі што да Віцьбіча й Сяднёва, падзяляю цалкам. Ня думаю, каб Віцьбіч сам прасіўся й паехаў наагул — гэта за яго хтось стараецца бязь ягонага ведама (а мо якіясь зарубежнікі ці паўзарубежнікі, мо Шчорс, які часам каля камітэту пакручваецца, і яго й Сяднёва ткнулі). Сяднёў летась прасіў мяне разьведаць у Мюнхэне, ці ўзялі б яго, але калі я ехаў сёлета і ўспомніў яму пра гэта, сказаў, што гэта неактульна. Паўтараю яшчэ раз, што матывы Вашыя супраць абедзьвюх гэтых кандыдатураў, асабліва ў сучаснай сытуацыі, зусім слушныя, і ня думаю, каб нехта зь іншых нат падумваў нешта рабіць*

ты, Віцьбіч піў, як Стась Станкевіч, — паміж працаю: знаходзячы ў сабе настрой і жаданне сесці за чарговы нарыс, але ўжо ніколі не напісаўшы ні радка мастацкае прозы[73].

Другой пераменаю стала супраца з «Новым русским словом». От дзе ён мог даць волю свайму сарказму, сваім — будзем шчырымі — улюбёным дэмагагічным прыёмам. Там, у рубрыцы «Допісы чытачоў», віравала сапраўднае жыццё, якога не ставала яму ў беларускай перыёдыцы.

Трэцяю акурат сталася інтэнсіўнае ліставанне.

Эпісталярыум не толькі адлюстроўвае стасункі, адносіны двух чалавек, ён не толькі падтрымоўвае гэтыя адносіны, але і развівае іх. Калі ліставанне вялося праз параўнальна вялікі час, чытач можа бачыць гэтае развіццё, ягоны ўздым ці заняпад або нават нараджэнне новых адносінаў. Як заўважыў амерыканскі

---

*за іх; у кажным разе, будзем іх толькі валіць, а не падпіраць, калі што б. Мушу расчараваць Вас і што да Гуткоўскага. Хоць я зь ім яшчэ й ня бачыўся, але больш чым пэўны, што ён нізавошта не паедзе. Калі ж бы й здарыўся нейкі цуд і ён даў згоду, дык трэ было б узяць на ўвагу гэткія рэчы: 1. тая ж чарка ў яго на тым жа месцы, а мо яшчэ й горш, як у каго; 2. пры гэтым як раз па лініі гэтае чаркі Гіцкі яму даўны й блізкі кумпан; 3. калі дадаць сюды ягоныя моцныя антызаходніцкія пачуцьці, дык адзіны фронт з Гіцкім прынамся на першы пачатак забясьпечаны; 4. сюды ж трэба дадаць пачуцьцё непрыязьні да Сыча й «нацыяналкамсамольцаў», як ён дражніць Цьвірку, Запрудніка й пад., дарма, што асабіста іх ня знае; 5. наагул, у сужыцьці чалавек ён цяжкі, калі ня больш; 6. нарэшце, нельга ігнараваць і ягонага кампанаваньня з Паньковым з усімі адсюль высновамі»*.

[73] У лісце да Вітаўта Тумаша (30.11.1952) Віцьбіч гэтак вызначае радавод сваіх нарысаў: *«Нумар 2 «Запісаў» [БІНіМ], за вылучэньнем хіба кампіляцыйнага артыкулу Ўладзімера Сядуры, спакідае добрае ўражаньне. Аднак мяне асабіста зьдзівіла рэцэнзыя Праф. Л. Акіншэвіча наконт твору Галіны Родзькі-Русак «Барбара Радзівілянка», дзе між іншым рэцэнзэнт значае, што ўпершыню мы, беларусы, маем «удалую сынтэзу строгага дасьледаваньня й жывое, напоўбэлетрыстычнае формы». Я асабіста без малога 25 год і можа не бяз посьпехаў працую ў гэтай галіне. Сваім настаўнікам лічу найвыдатнага майстра «ўдалае сынтэзы» Вацлава Ластоўскага. «І вось прыйшоў Малерб» — у асобе Галіны Родзькі-Русак. Міжволі ствараецца такое ўражаньне, што і Ластоўскі, і Віцьбіч і інш. зьяўляюцца толькі нязграбнымі папярэднікамі Галіны Родзькі-Русак, ня годнымі ўвогуле таго, каб расшнуроўваць ейныя чаравікі. Безумоўна, трэба падтрымліваць маладыя таленты, але ня варта пры гэтым перабіраць мерку й крышыць крэслы»*.

даследчык Брус Рэдфард, ліставанне не проста адбівае свет, як люстэрка; яно — светаўтваральнае[74].

Толькі каб бачыць ды разумець развіццё адносінаў, неабходна прынамсі ведаць зыходны пункт — іх пачатак.

Палітычны (а адгэтуль і грамадскі, а далей — і побытавы) расклад на світанак 1950-х, час, якім датуюцца першыя карэспандэнцыі наяўнага Віцьбічава ліставання ў ЗША і якія з'яўляецца кантэкстам — важным! — гэтага ліставання, выглядаў больш-менш наступным чынам.

Магчыма, чытач звярнуў увагу на патлумачэнне Абрамчыкам у лісце да Віцьбіча тэрміна «апазіцыя» — «бэцээраўцы». Прэзідэнт БНР меў на ўвазе *асноўную* апазіцыю, але і блізу не адзіную. Пасля вялікага падзелу — на *крывічоў* і *зарубежнікаў* — падзел і драбленне палітычнае эміграцыі працягваліся надалей.

БЦР у параўнанні з БНР мела тую перавагу, што менавіта ейныя прадстаўнікі першымі прыехалі з лагераў *DP* у ЗША, а таму раней пачалі наладжваць кантакты з палітычнымі арганізацыямі іншых нацыянальнасцяў.

БЦР у ЗША рэпрэзентоўваў выканаўчы камітэт, абраны ў верасні 1954 г., з Нікандрам Мядзейкам на чале, ягоным заступнікам Аўгенам Занкавічам і сакратаром Святаславам Каўшом.

Найбольшую апазіцыю Радаславу Астроўскаму ўнутры БЦР складаў Беларускі кангрэсавы камітэт, створаны на ўзор Украінскага кангрэсавага камітэта і кіраваны доктарам Міколам Шчорсам. Сутнасць супрацьстаяння пакладалася не столькі ў палітычных поглядах, колькі ў амбіцыях Шчорса ачоліць Раду. Восенню 1953 г. ён выдрукаваў пракламацыю, дзе абвяшчаў, што Камітэт больш не падначальваецца Астроўскаму і не з'яўляецца часткаю БЦР. Разам з ім пакінулі БЦР Юры Сабалеўскі, Іван Касяк, Віктар Чабатарэвіч.

Існавала таксама невялікая групоўка «Беларускіх патрыётаў», што выдавала перыёдык пад тым самым назовам (Антон Даніловіч (Янка Золак). У сваіх артыкулах яны найбольш атакавалі Шчорса.

Яшчэ адной партыяй, што вызнавала Астроўскага, была Беларуская народная партыя, якую ачольваў Яўхім Кіпель.

---

[74] Redford, Bruce. The Converse of the Pen: Acts of Intimacy in the Eighteenth-Century Familiar Letter. Chicago: University of Chicago Press, 1986. P. 9, 16.

Беларускі вызвольны рух, кіраваны на той час з Нямеччыны Зарэчным, меў свайго прадстаўніка ў Саўт-Рыверы — Сяргея Казакова. БВР адышоў ад Астроўскага ў 1953 г., а на канферэнцыі ў Манчэстэры (Брытанія, жнівень 1954 г.) была афіцыйна зацверджаная іхная незалежнасць як ад БЦР, гэтак і ад любой іншай палітычнай партыі.

Прыхільнікам БЦР уважаў сябе і Масей Сяднёў — праз свае антыкаталіцкія і русафільскія погляды[75].

Прыкладна гэтаксама выглядалі справы і ў БНР. Большая частка сябраў Рады падтрымлівала палітычны кірунак прэзідэнта Абрамчыка, але і ён меў нутраную апазіцыю ў асобе Аўгена Калубовіча з кіраваным ім Аб’яднаннем беларускіх нацыянал-дэмакратаў. Асноўную нязгоду выклікала супраца Абрамчыка з Амерыканскім камітэтам за вызваленне ад бальшавізму. У 1954 г. Калубовіч афіцыйна пакінуў Раду БНР, але частка сябраў ягонае партыі не далучылася да свайго старшыні.

У межах БНР дзеяла Усекрывіцкая (беларуская) дэмакратычная незалежніцкая злучнасць, якую ачольваў Ян Станкевіч. Паміж ім і Абрамчыкам былі не столькі палітычныя, колькі асабістыя непаразуменні і прэтэнзіі. У снежні 1954 г. д-р Станкевіч за неэтычныя паводзіны і закіды асобным сябрам быў часова выведзены з Рады.

Прэзідэнта БНР падтрымлівалі таксама Беларускі незалежны народны хрысціянскі рух, Беларускі сялянскі саюз (Васіль Рагуля) і Беларускі нацыянальны цэнтр (Лявон Савёнак)[76].

---

[75] БЦР падтрымлівалі (старшыні або прэзідэнты арганізацый у ЗША падаюцца па стане на 1955 г.): Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт (а. М. Лапіцкі); Беларуска-амерыканская нацыянальная рада ў Чыкага (Салавей); Беларуская праваслаўная царква Св. Ефрасінні Полацкай (а. М. Лапіцкі); Беларускі царкоўны камітэт у Амерыцы (В. Місюль); Згуртаванне беларускіх жанчын у Амерыцы (Л. Брылеўская); Саюз беларускай моладзі ў ЗША (М. Сенька); Згуртаванне беларускіх скаўтаў (У. Пеляса); Беларускае страховачнае таварыства пры Украінскім работніцкім саюзе (В. Чабатарэвіч); Беларускі хор у Саўт-Рыверы (А. Евец); Беларуская футбольная дружына «Нёман» (С. Казакоў).

[76] БНР вызнавалі наступныя арганізацыі (старшыні або прэзідэнты арганізацыяў у ЗША падаюцца па стане на 1955 г.): Беларуска-амерыканскае задзіночанне (М. Тулейка); Згуртаванне беларусаў у штаце Ілінойс (В. Пануцэвіч); Беларускае аўтакефальная праваслаўная царква (Мітрапаліт Васіль (Тамашчык)); Беларускае каталіцкае згуртаванне

Леанід Галяк, некалі зацяты вораг БЦР, пасля таго, як Франц Кушаль адсунуў яго з пасады рэдактара «Беларуса», выйшаў з Рады і пачаў навязваць кантакты з групаю Міколы Шчорса.

Да БНР належаў і Мікола Панькоў, хоць усім было вядома, што там ён фактычна выконваў ролю інфарматара Сяргея Хмары[77].

---

(С. Грынкевіч); Згуртаванне беларускіх жанчын (Н. Орса); Згуртаванне беларускіх камбатантаў і ветэранаў (Ф. Кушаль); Згуртаванне беларускай моладзі ў Амерыцы (М. Белямук); Згуртаванне беларускіх скаўтаў (В. Пануцэвіч); Беларускае студэнцкае таварыства ў Злучаных Штатах Амерыкі (В. Русак); Беларускі інстытут навукі і мастацтва (В. Тумаш); Усебеларускі архіў у Амерыцы (М. Панькоў); Аб'яднанне беларускіх лекараў на чужыне (В. Тумаш); Крывіцкае (беларускае) навуковае таварыства Франціша Скарыны (Я. Станкевіч); Беларускі выдавецкі фонд (М. Міцкевіч); Саюз беларускіх журналістых (М. Панькоў); Беларуская бібліяграфічная служба (М. Панькоў); Беларускія хоры (А. Валюшка, Нью-Ёрк; М. Куліковіч, Кліўленд); Беларускі спартовы клуб у Нью-Ёрку (М. Казлякоўскі); Беларускія футбольныя дружыны («Беларус», Нью-Ёрк; «Пагоня», Кліўленд).

[77] З ліста Вітаўта Тумаша да а. Лява Гарошкі ад 19.05.1955: *«Цяпер — таксама ў парадку дыскрэцыі — хачу Вам крыху й пажаліцца з тутэйшых клопатаў. Некалькі год таму Вы, акурат, запрапанавалі стварыць пры Інстытуце Архіў ды на архівара-кіраўніка выбраць сп. Панькова. Гэтак паўстаў Усебеларускі Архіў. Аднак Панькоў аказаўся да гэтай працы неадпаведны. Першая рэч, ён таксама пачынае «пахварваць» на тую ж хваробу. Было тут ужо пара публічных скандалаў. Адзін раз у мінулым годзе сваімі выступамі пад п'яную руку публічна сарваў практычна рэфэрат праф. Акіншэвіча. На шчасьце, на ім было толькі пара дзясяткаў нашых, а нікога чужога. Гэта прыносіць незвычайныя шкоды арганізацыі. Прышлося яго пры апошніх выбарах адсунуць з управы Інстытуту. Гэта — адзін «бок мэдалю». Другі — ён здаўна быў ціхім супрацоўнікам Хмары. Ад мінулага лета працуе тут пад ягонымі загадамі поўнаю параю. Пераслаў яму (наколькі тут ведама) копіі пратаколаў сэсіі БНР (паколькі ён быў сакратаром тады), пачаў зь ягонага ж загаду біць пашквільную літаратуру тыпу Асіпчыка дый Попкі — хіба дасланы Вам «Наш Кліч» быццам ангельскага выданьня, а біты й рэдагаваны цалкам тут Паньковым (як гэта выяўлена тут напэўна). Інстытут — арганізацыя непартыйная. І калі нехта мае іншыя палітычныя пагляды — гэта рэч для арганізацыі неістотная. Але ёсьць і «але» — аўтары й прадукцыянэры тыпу Асіпчыка, Попкі і г. д., якой бы групы яны не былі, не надаюцца да ніякай работы ў апартыйнай навуковай арганізацыі, не надаюцца й на становішча кіраўніка архіву: бо хто ж дасьць нешта саліднейшае ў такі архіў, калі будуць ведаць, што кіраўнік у кажны мамэнт без аніякіх маральных скрупулаў зможа іх выкарыстаць для пашквільнай ананімнай літаратуры».*

Трэба сказаць, што нават калі БЦР пасля смерці Астроўскага існавала адно намінальна, праблемы Рады БНР працягваліся надалей. Неўзабаве пасля абрання на ейнага прэзідэнта Вінцэнта Жук-Грышкевіча Раду пакінуў шэраг дзеячаў, пра што ў гісторыі вядома значна менш. Станіслаў Станкевіч у лісце да былога пасла польскага Сойму Аляксандра Стагановіча тлумачыў свой учынак наступна:

*«Вельмі Паважаны й Дарагі Спадар А. Стагановіч,*

*Вельмі дзякую за Ваш ліст з 21 верасьня сёлета, які атрымаў сёньня й сёньня ж, пад сьвежым уражаньнем, адказваю на яго. Перш-наперш што да майго выхаду зь цяперашняй Рады БНР пад цяперашнім ейным кіраўніцтвам. Тут раблю вынятак і перасылаю Вам копію майго ліста пра выхад мой з Рады БНР, але толькі для Вашага вылучна ведама, бо я прыабяцаў д-ру В. Грышкевічу, на ягоную просьбу, не пашыраць пра мой выхад з Рады. Калі сьв. пам. Прэзыдэнт Абрамчык падчас свайго апошняга побыту ў ЗША мяне пытаўся, што я думаю, калі сваім заступнікам і эвэнтуальна наступнікам зробіць ён д-ра В. Грышкевіча, я адказаў, што іншай кандыдатуры ня бачу таксама. Значыцца, я ня быў тады ўпярэджаны да кандыдатуры д-ра В. Грышкевіча, а ўважаў, што спасярод нас тут усіх ён мае найбольшыя дадзеныя стаяць на чале БНР: першае — гэта ідэйнасьць, якой ад яго адняць нельга; другое, вольны ад усяго іншага час, трэйцяе — матар'яльныя магчымасьці дзейнасьці, бо, як я пераканаўся й на сваёй скуры, разьлічваць на дапамогу нашых багацейшых як рэкампэнсату таго, што яны нічагусенькі ў беларускай справе ня робяць, нельга. Абяцанка звычайна застаецца абяцанкай. З гэтае прычыны я паступова ўжо адыходжу ад маёй актыўнасьці па лініі рэспубліканскай партыі й здаецца пасьля прэзыдэнцкіх выбараў адыйду цалкам. Думалася тады, што д-р В. Грышкевіч, будучы чалавекам бясспрэчна ідэйным ды маючы аб'ектыўныя ўмовы для дзейнасьці, хоць і не дараўняе Абрамчыка, але прынамся будзе больш-менш на месцы. Тым часам па сьмерці Прэз. Абрамчыка, калі ён да апошняй сэсіі Рады быў спачатку ягоным пасіўным заступнікам, а потым і пасіўным наступнікам, ды пры ўсіх іншых ягоных ходах, я пабачыў і зразумеў, што далей аставацца ў Радзе было б мэтазгодным адно ў выпадку, калі б у ейных радох мантаваць здаровую апазыцыю й рэчовай крытыкай змусіць да належнае дзейнасьці.*

*Вось жа роля гэткага апазыцыянэра для мяне выдалася цалкам немагчымай. Па-першае, не было ў мяне для гэтага ані часу, ані энэргіі, я бо й без таго маю па вушы работы ў сувязі з газэтай. Другое, такая апазыцыя, хай сабе й вельмі тактоўная, ня была б падтрыманая большасьцю сяброў Рады. Рэч у тым, што бальшыні сяброў Рады асабіста падабаецца гэная бязьдзейнасьць, бо бязьдзейнасьць кіраўніцтва дазваляе быць бязьдзейнымі ім самім, а займацца бесклапотна зарабляньнем даляраў. Таму адзіным магчымым для мяне крокам быў выхад з Рады БНР, даволі вымоўна, на маю думку, уматываваны гэнай маёй заявай, копія якой для Вашага асабістага ведама тут залучаецца. Да ўсіх згаданых бедаў далучаецца яшчэ адна, даволі загадкавая, бяда, якая, аднак, ня мела ўплыву на мой выхад з Рады, але якая заіснавала й пра якую нам усім таксама нельга публічна гаварыць, каб ня даць козыраў у рукі нашым ворагам. Ведама Вам гэта ці не, але ізь сьмерцяй Прэзыдэнта Абрамчыка Рада БНР перастала быць легітымным дзяржаўным органам БНР і законным прадаўжальнікам традыцыяў слаўнае БНР і носьбітам сувэрэнных правоў беларускага народу. Усе гэтыя прэрагатывы меў Прэзыдэнт Абрамчык, бо меў у руках тэстамэнт Прэзыдэнта В. Захаркі. Хоць на тастамантавую перадачу паўнамоцтваў некаторыя глядзелі скептычна, а ворагі з кпінамі, але ў вабставінах эміграцыі гэта (тастамэнтам) адзіны спосаб перадачы паўнамоцтваў Прэзыдэнта Рады БНР. Абрамчык гэты тэстамэнт запраўды меў, а я асабіста сваім часам трымаў яго ў руках, зь яго ж рабіў клішэ для «Бацькаўшчыны» й на жаданьне Абрамчыка публікаваў яго ў «Бацькаўшчыне». Вось жа гэткага тастамэнту Прэз. Абрамчык не перадаў д-ру В. Грышкевічу, хоць лёгка мог зрабіць гэта, бо ўміраў паступова пры поўнай сьведамасьці і перад сьмерцяй быў у яго ў Парыжы д-р Барыс Рагуля, празь якога мог гэты тастамэнт перадаць, ясна, разам із сваім тастамэнтам. Чаму Прэз. Абрамчык гэтага не зрабіў, застаецца загадкай і для мяне. Факт, аднак, застаецца фактам, што калі ходзіць пра юрыдычнае пераняцьцё функцыяў Прэзыдэнта, дык цяперашняя Рада ня што іншае, як звычайная эміграцкая арганізацыя, Прэзыдэнт якой не ўпаўнамочаны апошнім выбраным народам на Бацькаўшчыне Прэзыдэнтам (Васілём Захаркам), а выбраны пару дзясяткамі людзей падчас апошняе сэсіі Рады БНР. [...]*

*Яшчэ раз дзякую за ліст і ўсяго Вам найлепшага. Прывітаньні Вашай паважанай Спадарыні!*

*З пашанаю да Вас Ст. Станкевіч»*[78].

Пакінем прыватную думку рэдактара «Беларуса» тым часам убаку і вернемся ў пачатак 1950-х. Бясспрэчна, асабістыя стасункі, непаразуменні, крыўды адыгрывалі вялізную, а часам і вырашальную ролю ў царкоўных залах ды рэдакцыйных пакоях беларускае эміграцыі, калі ішло пра прыняцце палітычных рашэнняў.

На ролю «трэцяе сілы» прэтэндавалі Сяргей Хмара[79], Юры Попка, Аляксандр Асіпчык, шэраг іншых, але павагі ў грамадзе яны не мелі і сваю дзейнасць абмяжоўвалі пашырэннем, досыць актыўным, уласных друкаў — ад скандальнага канадскага «Беларускага голасу» да *«выданьня Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва на Чужыне»* «Сіла веры».

Тады ж, на пачатку 1950-х, на полі беларускай эміграцыйнай палітыкі з’явілася яшчэ адная партыя, змаганню з якой Віцьбіч аддаваў асабліва багата свайго «пісьменніцкага» часу — «беларускія федэралісты».

Восенню 1953 г., падчас вострых палітычных перамоваў, ініцыяваных Камітэтам за вызваленне ад бальшавізму, паміж прадстаўнікамі груповак Керанскага і Мельгунова («Лига борьбы за народную свободу» ды «Союз борьбы за освобождение России») і нацыянальнымі арганізацыямі былых грамадзянаў СССР у Нью-Ёрку (чарговая спроба пошуку паразумення ў агульным змаганні супраць Саветаў), нечакана прагучала назва новапаўсталай арганізацыі — «Объединение белоруссов-федералистов» (ОБФ)[80].

---

[78] Ліст Станіслава Станкевіча да Аляксандра Стагановіча ад 24.09.1972.

[79] Хоць яшчэ ў 1949 г. Кастусь Акула пісаў у «Квартальнай справаздачы аб беларускай нацыянальнай працы ў Канадзе за час ад 15.04.1949 г. да 15.07.1949 г.» дзяржаўнаму сакратару ўраду БНР Гіпаліту Паланевічу ў Розенгайм (ліст ад 21.07.1949): *«У апошнім часе ў Канаду прыехалі пісьменьнікі: Мікола Вярба — прыхільнік Астроўскага, затрымаўся ў Вініпэгу, Сяргей Хмара і С. Вярбіна — абодва прыхільнікі й добрыя нацыянальныя працаўнікі зь лягеру БНР».*

[80] Трэба адцеміць, што прарасійская пазіцыя бальшыні амерыканскіх камітэтаў і арганізацыяў была відавочнаю; іншыя нацыянальнасці СССР у разлік яны фактычна не бралі, што знаходзіла свой адбітак і ў

ОБФ было створана 26 верасня на арганізацыйным з’ездзе беларусаў-федэралістаў, які зацвердзіў статут і абраў Цэнтральны камітэт. Старшынём быў прызначаны былы школьны настаўнік Іван Баранцэвіч, сябрамі — протаіерэй а. Н. Краўчанка, Я. Кіслы, К. Якуб і Б. Крыстовіч, кандыдатамі — І. Белы і К. Радзевіч.

Палітычная платформа ОБФ фармулявалася наступным чынам: *«1. Пасьлядоўны й бескампрамісны антыкамунізм; 2. Безумоўнае права беларускага народу пасьля ліквідаваньня камунізму самому вольна, шляхам плебісцыту вырашаць свой лёс. Стоячы на пазыцыі фэдэралізму, ОБФ лічыць, што найлепшым разьвязваньнем будзе агульнае дзяржаўнае існаваньне беларускага народу з расейскім, украінскім і ўсімі іншымі народамі Расеі»*[81].

На з’ездзе таксама прынялі пастанову стварыць агульны блок з украінскімі федэралістамі і мусульманскай арганізацыяй ІНСАФ з мэтаю весці супольную арганізаваную барацьбу з сепаратыстамі.

Вялікай актыўнасці федэралісты не выяўлялі. Зрэдзьчасу Баранцэвіч з’яўляўся на пасяджэннях розных расійскіх арганізацыяў (калі-нікалі з «украінскім федэралістам-антымарксістам» Дыкім), дзе звыкла выступаў *за* сучасную палітыку расійскай эміграцыі ды *супраць* беларусаў-сепаратыстаў. Ягоных артыкулаў у «Новом Русском Слове» Віцьбіч ніколі не пакідаў без адказаў[82].

---

фінансавым падтрыманні. Для параўнання: калі БІНіМ у 1953 г. атрымаў ад Фордаўскага фонду (*Ford Foundation*) $2500, дык расійскае выдавецтва імя Чэхава — $500 000.

[81] Новое Русское Слово. 10.10.1953.

[82] З ліста Вітаўта Тумаша да Юркі Віцьбіча ад 03.12.1954: *«Вельмі паважаны сп. Віцьбіч! Сяньня прачытаў у нядзельным нумары «Нового Русского Слова» супрацьбеларускія блявоціны «сваёй косткі, што чужым мясам абрасла і сьмярдзіць», гаворачы словамі нашага кашталяна Смаленскага Мялешкі, гадуна-янычара чарнасоценнай настаўніцкай сэмінарыі Івана Баранцэвіча. Гэты «фэдэралісты», як чорт у ведамых і слаўных нашых казках з Случчыны Сержпутоўскага, адным узрыгам намогся апаганіць усю беларускую справу, і прошласьць, і сучаснасьць, і мову, і культуру, і палітыку. Накідаецца ён і на Вас, сугеруе ману, перакручваньне фактаў і гісторыі. Ня ведаю, ці будзеце й ці зьбіраецеся гэтай «сьмярдзючай костцы» адказваць,*

Вось гэткім, багатым на новыя палітычныя ўтварэнні, быў пачатак 1950-х гг., калі Юрка Віцьбіч быў даслаў свой першы ліст Антону Адамовічу.

Натуральна, асабістыя прыязні Віцьбіча залежалі далёка не толькі ад партыйнасці суразмоўцы. Яскравы таму прыклад — Уладзімір Сядура. Зрабіўшы ўдалую акадэмічную кар'еру (асабліва для эмігранта-гуманітарыя), ён трымаўся ўбаку ад усіх палітычных фармаванняў — дый ад шырэйшае эміграцыі таксама, не ўваходзячы ў грамадскія арганізацыі, не належачы да беларускае царквы[83]. Нешматлікія ягоныя беларускія кантакты былі з сябрамі літаратурнага згуртавання «Шыпшына» і БІНіМа.

Напэўна, вытокі Віцьбічавага стаўлення трэба шукаць у мінулым, але не ў даваенным, калі Сядура належаў да «Маладняка» і пісаў крытычныя артыкулы, рэцэнзіі, закідаючы аўтарам «нацыянал-дэмакратызм» і «трацкізм» — падобных публікацыяў не пазбегнуў у той час і сам Віцьбіч. У Нямеччыне ж Сядура пачаў менавацць сябе «доктарам філалогіі», хоць усе менчукі адмаўлялі факт ягонае абароны; узяў сабе псеўданім «Глыбінны», што слаба адпавядала павярхоўным,

---

*але гэткую магчымасьць дапушчаю, і гэта ня толькі таму, што заатакаваў і Вас асабіста, бо паганіць ён справы нашы агульныя, і тут асабістыя рэчы малаважныя, але й таму, што Вы найчасьцей у «Н.Р.С.» на беларускія тэмы пішаце, нават пералічаны ў сьпісе сталых супрацоўнікаў. А адпор даць трэба, бо гэты чарнасоценны павук-перакіншчык намагаецца падгрызьці беларускую справу ў карні, высоўваючы старыя расейскія цьверджаньні, што ўся гісторыя Беларусі — «выдумка» нашых «самастыйнікаў». Думаю, што ягоны артыкул паявіўся ў газэце невыпадкова, а гэта плянавая акцыя ўсяго фронту Керанскі — Мельгуноў — Вайнбаўм, якія ў гэтым месяцы акурат распачалі генэральную атаку на Парыскі Блёк, на нацыяналаў, атакуюць адным артыкулам за другім, ціснуць на Амэрыканскі Камітэт усімі магчымымі спосабамі, каб той часам не пайшоў на нейкія далейшыя ўступкі «нацыяналам», «расчленителям». Вось для гэтага даецца месца для Дзікіх ды Баранцэвічаў у «Н.Р.С.». І дзеля гэтага няма пэўнасьці, ці Ваш, ці чый-небудзь іншы матар'ял супроць гэтых «стаўбоў» Вайнбаўма наагул будзе прапушчаны. Але пісаць, памойму, трэба».*

[83] Уладзімір Сядура і ягоная жонка пахаваныя на могілках Расійскай праваслаўнай зарубежнай царквы ў Джорданвіле, штат Нью-Ёрк.

кампіляцыйным артыкулам. Гэта і вытлумачвае Віцьбічавы сарказм у лістах[84].

[84] Нібыта няма нястачы ў матэрыялах што да Сядуравага жыццяпісу: пісаў ён пра сябе ахвотна. Разам з тым, думаецца, варта падаць недрукаваны аўтабіяграфічны «Кароткі жыццяпіс Уладзіміра Сядуры (Глыбіннага)», бо той утрымлівае невядомыя раней факты і добра характарызуе асобу аўтара — асабліва калі ўлічыць, што раман «Вялікія дарогі», пра які згадвае Сядура, аўтабіяграфічны: *«Нарадзіўся ў беларускай сталіцы Менску 11 (24) сьнежня 1910 году ў сям'і Марыі (уроджанай Шабан) і Ільлі Сядура. Па сканчэньні сямігодкі ў 1927 г. паступіў у Менскі Пэдагагічны Тэхнікум імя Ўсевалада Ігнатоўскага. У 1928 г. пачаў зьмяшчаць вершы ў літаратурным студэнцкім часапісу «Крыніца». Тады ж далучыўся да літаратурнага аб'еднаньня «Маладняк». Улетку 1929 г. пачаў друкаваць у беларускай газэце «Савецкая Беларусь» мастацкія нарысы й крытычныя зацемкі. У 1930 г. паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленьне Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту і неўзабаве ўвайшоў у новае пісьменьніцкае аб'еднаньне БелАПП. У студзені 1933 г. быў арыштаваны разам з маладымі пісьменьнікамі — Лукашом Калюгай, Максімам Лужаніным, Сяргеем Астрэйкай і Фэліксам Купцэвічам, зьвінавачаны ў антыдзяржаўніцкай дзейнасьці і як нацыянал-дэмакрат быў засланы на тры гады ў Сібірскія, а пазьней у Байкала-Амурскія канцлягеры. Па адбыцьці тэрміну зьняволеньня ня меў магчымасьці зьвярнуцца ў родны горад і колькі гадоў мусіў жыць у Расеі. Спачатку бадзяўся на Каўказе. Пазьней, калі ўдалося схаваць сьляды былога выгнаньня, вучыўся ў Маскоўскім і Ленінградзкім унівэрсытэтах. Вышэйшую навуку закончыў у 1929 г., а ў наступным годзе ўдалося часова асесьці ў родным Менску. Тут у траўні 1941 г. абараніў доктарскую дысэртацыю пры Беларускай Акадэміі Навук і атрымаў годнасьць доктара філялягічных навукаў. У першы дзень вайны зноў арыштаваны, але на трэці дзень уцёк з этапу па дарозе зь Менску ў Магілёў. У вайну разгарнуў актыўную журналістычна-творчую дзейнасьць і выдаваў першы ў гісторыі беларускіх друкаў літаратурна-мастацкі часапіс заходне-эўрапейскага ўзору. Пытаньні адраджэньня беларускае культуры, дасьледаваньне і асьвятленьне ейных узвышшаў ва ўсіх разгалінаваньнях у мінулым і сяньня заўсёды кіравалі творчаю працай. На працягу тых жахлівых гадоў ваеннае навалы ахвярнаю працаю на дабро роднае культуры падрыхтаваў аж тры вялікія кнігі: «Жыве Беларусь!», «Гісторыя Беларускага Тэатру» і «Беларускае мастацтва». Увесну 1944 г. першыя дзьве ў Рызе, а трэцяя ў Менску ўжо друкаваліся. Ваенныя падзеі і эвакуацыя засьпелі іх у карэктурных адбітках і перашкодзілі пабачыць сьвет. У 1947 г. у Нямеччыне падрыхтаваў да выданьня нямецкі тэкст і колькі сотняў ілюстрацый да кнігі «Беларускае мастацтва», але на гэты раз перашкодзіла грашовая рэформа ды*

Зрэшты, падобнае стаўленне характэрна было не толькі для яго. Вітаўт Тумаш у лісце да Аўгена Каханоўскага піша:

*«Пераходзячы да пастаўленай Вамі першай справы (дыскрэтнай), справы Сядуры: яна паказалася з друку вось толькі гэтымі днямі, як Вам ведама — у ангельскай мове*[85]*. На напісаньне гэтай працы Сядура праз больш, здаецца, як тры гады, атрымліваў стыпэндыю ад Фордаўскага фонду. Пераглядаць уважней яе не прышлося, хоць надрукаваную ўжо бачыў гэтымі днямі. Пра самую працу не магу нешта канкрэтнае сказаць, бо зь ёю яшчэ не знаёмы, дык магу толькі служыць агульнымі інфармацыямі, якія тут існуюць у Нью-Ёрку, і перадаюць агульны пануючы тут пагляд на ўсю справу. Першая справа — гэта тое, што расейскі тэкст, які Вы атрымалі, ня ёсьць дакладным тэкстам кніжкі. Падчас друку амэрыканцы*

*абыякавасьць дзе-якіх нашых жа чыньнікаў. У 1951 г. у кастрычніку дабраўся нарэшце да Амэрыкі. Тут здолеў выклікаць зацікаўленьне пытаньнямі беларускае культуры з боку дзе-якіх амэрыканскіх навуковых колаў і атрымаў магчымасьць працы над стварэньнем вялікай гісторыі нашай культуры. Першы том яе пад назовам «Беларускі тэатар і драма» ў колькі сот бачынаў ужо друкуецца ў ангельскай мове ў Нью Ёрку. Улетку 1954 г. спаўняецца дваццаціпяцігодзьдзе літаратурна-навуковай дзейнасьці. Да гэтых угодкаў падрыхтаваў вялікі зборнік на 500 бачынаў літаратурна-навуковых працаў з галіны літаратуры, мастацтва, тэатру, музыкі, этнаграфіі і гісторыі пад назовам «Да ўзвышшаў роднае культуры». Адначасна працуе над вялікім раманам — трылёгіяй. Пачатак трэцяе часткі* [напэўна, Сядура_памыліўся і меў на ўвазе першую частку] — *«Вялікія дарогі» — зьявіўся ў навуковым часапісу «Веда» за 1952 г. Трылёгія мае ахапіць эпоху найноўшага беларускага адраджэньня, падзей апошняе вайны і долю нашае эміграцыі. У адрознасьць ад мінулае нашае літаратуры, у рамане ўпершыню даецца абраз сьвядомага інтэлігэнта-змагара за долю свайго народу. Калі інтэлігэнты ў творах Максіма Гарэцкага яшчэ шукалі Беларусь і не заўсёды знаходзілі яе, дык тут герой яе ўжо знайшоў і за яе змагаецца зь цёмнымі сіламі, супраць паняволеньня. У асяродку творчае задумы аўтара стаіць магутны вобраз найноўшага адраджэнца, ягоныя героі маюць жыць поўным інтэлектуальным жыцьцём, эўрапейскімі і агульна-чалавечымі інтарэсамі».* Жыццяпіс датаваны снежнем 1953 г. Наогул, змена акцэнтаў у розначасавых Сядуравых аўтабіяграфіях заслугоўвае асобнага артыкулу.

[85] Seduro, Vladimir. The Byelorussian theater and drama. New York: Research Program on the USSR, 1955.

*кнігу на некалькі дзясяткаў бачынаў скарацілі, выкідаючы слабейшыя мейсцы. Дзеля гэтага я ня пэўны, ці наагул бясьпечна пісаць рэцэнзію не па арыгінале. Калі ходзіць аб агульную апінію аб самым аўтары — яна тут (шчыра й дыскрэтна гаворачы) ня важная. Сядура лічыцца за вельмі павярхоўнага публіцысту. Піша ён часта пад псэўданімам Глыбінны, што дае, напрыклад, Віцьбічу магчымасьць у лістах стала менаваць яго ў дужках «Павярхоўным». Гэткі запраўды ён і ёсьць. Нядаўна тут чытаў рэфэрат «Дастаеўскі ў крытыцы». Увесь рэфэрат збудаваны гэтак: цытаты, цытаты, павязаныя толькі сказамі — «гэты сказаў так, гэты сказаў так» — свайго абсалютна нічога. Дзеля свайго цяжкога характару (перадусім нястача звычайнага выхаваньня) мала мае прыяцеляў, ці лепш кажучы — зусім іх ня мае сярод пісьменьнікаў ці літаратараў. Адзіны Віцьбіч, хоць у лістах і кпіць зь яго, яшчэ трымае нейкую зь ім сувязь»*[86].

Усе згаданыя вышэй фігуранты адыгрываюць свае ролі ў выдрукаваных далей лістах Юркі Віцьбіча да Антона Адамовіча ды Янкі Запрудніка — чалавека маладзейшага ад аўтара эпісталярыуму і Адамовіча, а таму і адносіны ў карэспандэнцыі выбудоўваюцца інакшыя — менш успамінаў, менш чутага-бачанага пра супольных знаёмых (калі тое не датычыцца радыё «Вызваленне»), затое можна прасачыць працу пісьменніка над тэмамі па тых матэрыялах, што прасіў зірнуць у Нью-ёркскай публічнай бібліятэцы, ды кнігах, якія замаўляў набыць у кнігарні (от дзе Віцьбіч грошай не ашчаджаў!). Багата ў лістах водгукаў

[86] Ліст Вітаўта Тумаша да Аўгена Каханоўскага ад 19.05.1955. Трэба прызнаць, што не ўсе падзялялі падобную апінію. Гэтак, А. Каханоўскі, азнаёміўшыся з Сядураваю працаю, піша Тумашу: *«Хацеў бы ўслух паўтарыць свой пагляд, які неаднойчы выказваў жонцы. На мой пагляд, самыя выдатныя навуковыя працы, якімі можа пахваліцца наша эміграцыя за 15 год свайго існаваньня, гэта: із паўнейшых манаграфіяў так дэтальна распрацаваная тэма У. Сядураю «Беларускі тэатар і драма» (із увагамі праф. Карповіча); із меншых сваім аб'ёмам, але глыбейшых філязофскім абагульненьнем і арыгінальнасьцю ідэяў працы праф. Л. Акіншэвіча «Пра «цывілізацыйныя асновы» беларускага гістарычнага працэсу», Вашыя «Важнейшыя мамэнты культурных працэсаў Беларусі» і «Міцкевіч і беларуская плынь польскае літаратуры»* (ліст Аўгена Каханоўскага да Вітаўта Тумаша ад 07.12.1957).

аб прачытаных творах падсавецкай літаратуры; Віцьбічавы заўвагі адносна аўтараў і іхных твораў, ягоныя ацэнкі цікавыя самыя па сабе, але асабліва — калі іх параўнаць з густамі і поглядамі нутраных дысідэнтаў, адраджэнцаў у Беларусі. Яны бадай ідэнтычныя. Відаць, не настолькі розніліся тыя людзі.

## Выбраныя лісты Юркі Віцьбіча да Антона Адамовіча і Янкі Запрудніка з далучанымі да іх копіямі да трэціх асобаў[87]

### Лісты да Антона Адамовіча

*14.03.50*
*Саўт-Рывэр*

*Глыбокапаважаны Спадар Адамовіч,*

*Ад шчырага сэрца працягваю руку і хочацца адчуць Ваш поціск яе. Вельмі магчыма, што нашыя сьветапогляды не супадаюць цалкам, але яны цалкам супадаюць у самым галоўным — у любові да Беларусі, у змаганьні за ейныя вольнасьць і незалежнасьць. У сьвятле гэтае вялікае мэты ці варта прыгадваць пра тое, хто з нас каму ў Нямеччыне больш залез за скуру. Мне хочацца думаць, што паміж былым фактычным рэдактарам «зарубежніцкіх» выданьняў і паміж былым фактычным рэдактарам «крывіцкіх» выданьняў паўстане ў ЗША згода дзеля сумеснага змаганьня мастацкім словам з адвечнымі ворагамі нашае Бацькаўшчыны. Не сумняваюся ў тым, што яны (Антон Адамовіч і Юрка Віцьбіч) назаўсёды застануцца ворагамі для лягерных карытнікаў, якія да пэўнай ступені ў выніку гэтага зма-*



*Антон Адамовіч*

[87] Копіі лістоў у гэтай калекцыі за лічанымі выняткамі не захаваліся.

*ганьня вышэйпададзеных асобаў згубілі некаторую колькасьць цыгарэтнага «прыдзелу» і неданошаныя ў Тэксасе порткі. Не падлягае таксама сумневу й тое, што яны застануцца ворагамі для таго ці іншага колішняга мястэчковага бургамайстра, які не атрымаў у тым ці іншым ДП-лягеры «міністэрскага партфэля». Але гэта ўжо дробязныя справы, якія не засланяюць сабой Беларусь.*

*Дарагі Сябра! Дзеля Сьвятое Памяці беларускіх пісьменьнікаў, закатаваных расейскім бальшавізмам, дзеля пакутаў тых нашых пісьменьнікаў, што дагэтуль гібеюць у савецкіх засьценках, дзеля нашага ўласнага эміграцыйнага горкага хлеба, а самае істотнае — дзеля прышлае Вольнае й Незалежнае Беларусі — спалучым нашыя магчымасьці разам, каб такім чынам садзейнічаць найбольшаму росквіту беларускае мастацкае літаратуры на чужыне.*

*Дазвольце на гэтым скончыць ліст.*

*Зычу Вам усяго найлепшага.*

*З пашанай*

*П.С. Чалавецкае жыцьцё параўнальна кароткае, каб пасьпець выявіць свае магчымасьці, а гэтым самым як найбольш прылучыцца да вызваленьня Беларусі. Між тым, у нас на чужыне ўжо некаторыя паэты заплакалі. Я асабіста нічога ня маю супраць плачу. Але калі плакаць, дык толькі так, як плакаў Сяргей Ясенін — ягоныя сьлёзы дагэтуль пакрысе падтачваюць крамлёўскія муры, калі плакаць, дык толькі так, як плакалі біблійныя жыдоўкі на раках Бабілёнскіх, калі плакаць, дык толькі так, як плакаў калісьці Мілет Сматрыцкі — пачуўшы гэты плач, кароль забыў пра свае гарматы, калі плакаць, дык толькі так, як плакаў Уладзімер Жылка ў сваім: «Ляпей чужыны золь, Сьцякаць ад чорнай працы потам»[88].*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*24.07.51.*
*Саўт-Рывэр*

*Дарагі Спадар Адамовіч!*

*Без малага месяц не пісаў аніякіх лістоў, хаця сам атрымаў іх адусюль цэлую жменю. Ня ведаю, як Вам, але ў мя-*

[88] Радкі з верша Уладзіміра Жылкі «Ляпей жабрачы лёс».

*не лісты пішуцца вельмі цяжка і заўсёды атрымліваюцца непаўнавартаснымі, бо не адбіваюць цалкам таго, што хацелася б напісаць. Зайздрошчу ў гэтай галіне Сядуру або Хмары — хто аб канапцы, хто аб трэцяй сіле, але пішуць даўжэзныя лісты. На жаль ці не на жаль, але мне бракуе гэтых эпісталярных здатнасьцяў.*

*Бадай, адзінае, што напісаў за астатні час, — гэта тыя два лісты, якіх копіі адначасна дасылаю Вам. Можа, на першы погляд яны здаюцца прыватнымі, але ўсё ж мне хочацца, каб яны сталіся ведамыя нашаму беларускаму актыву, бо друкаваць не зьбіраюся. Да гэтых лістоў хіба яшчэ можна дадаць заўвагу Мік. Лапіцкага: «Калі Вы, спадар Віцьбіч, зьвернецеся ў Віцебск, дык новы Наум Воўк заб'е Вас як здрадніка».*

*На жаль, ня ведаю, пра які Віцебск ідзе гутарка — пра сучасны савецкі або пра прышлы незалежны. Калі пра сучасны, дык не падлягае сумневу — мне там адкруцяць галаву, а што датычыць прышлага Віцебску, дык не ў Лапіцкага з Касяком маюся атрымліваць туды візу. Але Бог зь імі. Навошта адбіраць хлеб у «эвэнтуальных гаспадароў», калі адчуваеш сябе вылучна літаратарам, які і напалову яшчэ ня выказаўся.*

*Працую ў вольны час над апавяданьнямі і артыкуламі. Дзякую Бога за тое, што Ён даў мне пэўныя магчымасьці, а таму пасьля фізычнае працы адчуваеш знаёмую Вам радасьць. Хочацца данесьці сваю цеплыню ў часе нараджэньня таго ці іншага вобраза да чытача і падтрымаць яго на дусе і лішні раз давесьці яму пра непаўторнасьць ягонае краіны й народу.*

*Напісаў артыкул пра артыкул Сяднёва «Зацемкі аб нашай літаратуры»*[89]*. Мне думаецца, што калі багам роўны Ахілес*

[89] Маецца на ўвазе артыкул «Зацемкі аб літаратуры» (Беларуская Трыбуна. № 3 (6). 29 красавіка 1951. С. 3). Сярод іншага Сяднёў пісаў: *«Нам могуць зрабіць даўно вядомы і збрыдлы па сваёй банальнасьці закід: мастацкая літаратура ня можа быць апалітычнай, яна ня можа разьвівацца па старой і ўжо адкінутай самім жыцьцём формуле «мастацтва для мастацтва». Мне здаецца, што гэта ўсё толькі звычайны — сьвядомы ці несьвядомы — адгалосак так зв. марксісцкага «літаратуразнаўства», на жаль, моднага ў нашы часы. Як гэта ні дзіўна, прыблізна такі прагматычны пагляд на літаратуру ўкараніўся і ў нашых некаторых пісьменьнікаў-эмігрантаў, часта ня ведаючы іншай эстэтыкі. [...] Урэшце, калі хочаце, можа якраз і не хапала нашай літаратуры менавіта «мастацтва для мастацтва» — прынамсі, не*

*меў адну небясьпечную пятку, дык у сяднёўскім артыкуле іх некалькі дзясяткаў. Ён высоўвае на першы плян тэму — Ягомасьць Чалавек, у той час як, на маю думку, для нас пераважнай тэмай ёсьць — Ейная Эксцэленцыя Бацькаўшчына. Адсюль у Сяднёва ў гэтым артыкуле Беларусь сталася «геаграфічным разуменьнем», а Акт 25 Сакавіка «зашмульганым». Калі злачынца перад забойствам чытае Малітву Госпадню або Яўхім Кіпель чытае рэфэрат пра Акт 25 Сакавіка, дык хіба гэта дыскрэдытуе Малітву Госпадню або Акт 25 Сакавіка? Паход Сяднёва супраць палітычнае паэзіі тым больш незразумелы, што, магчыма, лепшым творам пра 25 Сакавіка ёсьць ягоны «Забраны Менск». Крый Божа, не хачу сказаць, што нельга пісаць пра домік у Менску, пра хусьцінкі й вятрак, але прапагаваньне выключна гэтага рэчышча для ўсяе нашае эміграцыйнае літаратуры зьяўляецца шкодным. Наймагутная ў сьвеце дзяржава штодня пяе пра «Містэра Місісіпі», «Гуд морнінг, Тэнэсі» і г. д., расейцы і палякі («Россія», «Нов. Руск. Слово», «Новы Сьвят», «Агніва», «Амэрыка-Эха»*[90] *і г. д.) у мастацкіх вобразах ушаноўваюць «расейскі» Смаленск і «польскую» Нарыч, а мы (паводля Сяднёва) мусім пераключыцца на псіхакапацельства. Напад Сяднёва на Арсеньневу таму зусім невыпадковы — мне думаецца, што Арсеньнева знайшла сябе як паэтку за апошнія 10 год. Ейны «Сталёвы зьвяз» зь незабываемым канчаткам успрымаецца як маніфэст*[91]*.*

*Чытаеце «Баявую Ўскалось»? Мяне абурылі выказваньні М. Равенскага наконт Янкі Купалы, Уладзімера Дубоўкі і Міхася Чарота — маю на ўвазе артыкул «Крыху пра беларускую опэру» (№ 3). Ніколі ня дам веры, каб Янка Купала сказаў*

---

*пераважала б у ёй «флёра» і «фаўна». Чым больш наша літаратура будзе нацыянальнай, але толькі вонкава, тэматычна, сьвядома нацыянальнай, тым больш яна будзе прымітыўнай. Хвала гэтага прымітыву — ён у нас заслужоны, але наша літаратура прыйшла ўжо да такога пункту свайго разьвіцьця, калі прымітыў затрымлівае яе рост. [...] І тут, на эміграцыі, нашая літаратура носіць нейкі прэтэнсійны, дэкляратыўны характар. У літаратуры мы задэкляравалі хутчэй сваё палітычнае крэда (публіцыстыкаю гэта можна было б зрабіць яшчэ лепей), чым вырасьлі літаратурна, творча».*

[90] Расійскія і польскія эміграцыйныя выданні.

[91] *«Тады мы зьвяз сталёвы / з блакітнай Бацькаўшчыны зьвяжам, / і раз нарэшце моцным словам / ня нам, / а мы штось сьвету скажам!»*

*Уладзімеру Дубоўку: «Я — Дзяржавін, а ты — Пушкін». Янка Купала ёсьць Янка Купала, а Ўладзімер Дубоўка ёсьць Уладзімер Дубоўка — без Дзяржавіных і Пушкіных. Навошта абавязкова падганяць нашую літаратуру пад іншаземны назоўнік? Крыху адхіляюся ўбок, але і вось надысь Сяднёў надаў Клішэвічу годнасьць другога Леапардзі. А чаму не назваць Клішэвіча 44-м Шапэнгаўрам? Мне думаецца, што калі ў Юркі Віцьбіча нос крыху нагадвае нос Віктара Гюго, дык гэтага яшчэ занадта замала, каб надаць яму тытул другога Віктара Гюго. Параўнаньне Купалы з Дзяржавіным, а Дубоўкі з Пушкіным зьніжае нашую літаратуру. На мой погляд, кожная нацыянальная літаратура толькі тады дасягае найбольшага росквіту, калі крытычна ператраўліваючы ўсе найлепшыя здабыткі сусьветнае культуры, яна, разам з тым, цалкам захоўвае свой апрычоны шлях.*

*Міхась Чарот належаў да ЎсеКП(Б)Б, але зь яго быў такі камуністы, як з Лукаша Бэнды крытык. Мы ня можам паводля біля МэкКарана*[92] *заглядацца на сваю літаратуру. Нават Андрэй Александровіч (асоба вельмі й нават вельмі адмоўная) мусіць захаваць сваё месца ў нашай літаратуры. Між іншым, варта прыгадаць хаця б ягоную «худую вош»*[93]*. Што датычыць Міхася Чарота, дык увесь маладнякізм зьвязаны ў першую чаргу зь ім. Ён жыцьцё паклаў за свае памылкі, і ня варта ліць памыі на ягоную Сьвятую Памяць. Паміж намі кажучы, гэтае асабліва ня варта рабіць М. Равенскаму, бо ў свой час я яго літаральна за каўнер пасьля досыць доўгіх спрэчак выцягнуў з савецкага рэпатрыяцыйнага лягеру («весьма загарэўся ехаць») і перацягнуў на сваю «кватэру» пры тартаку Фукса ў Эгінгене, дзе сам працаваў пасьля капітуляцыі. Мне думаец-*

[92] **МакКаран-Уолтэр біль** (*McCarran-Walter bill)* таксама вядомы як *Immigration and Nationality Act / INA* 1952 г. абмяжоўваў эміграцыю ў ЗША.

[93] Антон Адамовіч піша: *«Паэта А. Александровіч прабаваў выкарыстаць і ведамы графічны спосаб акрастыху ў вершы «У. М. Ігнатоўскаму», дзе зварот «Краіна вітае правадыра, камуніста, наркома…» канчаўся акрастыхом «Пад бізун», а таксама ў паэме «Векапомныя паходы» (1930), дзе, у вадказ на пастаўленае ў тэксьце пытаньне «Што даў нам кастрычнік?», пачатныя літары наступных радкоў даюць акрастыхам «Худая вош»».* (Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускае літаратуры. Менск, 2005. С. 534).

*ца, што «Бацькаўшчына» вельмі добра зрабіла, што ў свой час не надрукавала гэты артыкул, які пасьля падабрала «Баявая Ўскалось». Па-першае, усяму беларускаму сьвету ведама спрэчка Равенскага з Куліковічам, якая мае вузкі асабісты характар: Равенскі ведае, што Куліковіч як майстра опэры стаіць вышэй за яго. Па-другое, калі закідаеш Куліковічу расейскае паходжаньне, што робіць Равенскі, дык схапіся абедзьвума рукамі за «папу Філафея»*[94]*. А па-трэцяе, нельга гэтак легкадумна падыходзіць да імёнаў уласных.*

*Дазвольце тым часам на гэтым скончыць ліст.*

*Чакаю Ваш ліст.*

*Зычу ўсяго найлепшага.*

*З пашанай*

*П.С. Часам мяне наведвае Юхнавец. Люблю яго як паэту. Ня ведаю, ці чытаў ён «Апакаліпсіс», але гэтая Кніга сугучна яму як паэце. І шчыра хочацца, каб ён перамог некаторыя свае недахопы.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*05.07.52 г.*
*Саўт-Рывэр.*

*Дарагі Антон Адамовіч.*

*Ад Сп. Юхнаўца, які тыдзень таму завітаў да мяне, ведаю, што на Ваш погляд, мне варта наведаць Даліна*[95]*, калі ён зьвернецца з Эўропы. Між іншым, я дагэтуль ня маю адказу наконт мае работы, як і не атрымаў адказу на свой ліст, які месяц таму даслаў туды. Усё гэтае сьведчыць аб вялікай «фейнасьці»*[96] *далінаўскага хлеба. Тым часам працую на фабрыцы і ўжо здаецца на 80–90% набыў фах, які мне вельмі патрэбны пры наяве 47 год. У такім веку ў Амэрыцы ня толькі ў вучні, але ўвогуле на фабрыцы прымаюць без асаблівае ахвоты. Усё ж*

94 Маецца на ўвазе **Філафей (Уладзімір Нарко**, 1905–1986), рэлігійны дзеяч, мітрапаліт БАПЦ у 1942–1944 гг. У 1950–1980-х — вікарый Нямецкай япархіі Расійскай Зарубежнай Праваслаўнай Царквы.

95 **А. Далін**, намеснік дырэктара Інстытута вывучэння СССР. Ідзецца пра работу Віцьбіча «Антыбальшавіцкія паўстанні і партызанская барацьба на Беларусі».

96 Ад *feign* (анг.) — выдуманае, удаванае

*гэта больш пэўны кавалак хлеба для сямейнага, што мае адпаведныя абавязкі.*

*Дазвольце адначасна прылучыць копію майго ліста ў «НРСл»*[97]*. Спачатку думалася: ці варта ўвогуле зьмяшчаць што-небудзь на старонках «НРСл», ці ня лепш друкавацца вылучна на старонках свае прэсы. Прышоў да выснаву — варта друкавацца ў «НРСл». На падставе пэўных дадзеных сьцьвярджаю, што, напрыклад, мой артыкул «Беларускія партызаны»*[98] *шмат якім расейцам і зрусіфікаваным беларусам адчыніў вочы на запраўдны стан рэчаў. Тым больш, што ў мяне пры гэтым ёсьць (думаецца) самае галоўнае, істотнае — я ні на каліва не губляю нашае нацыянальнае прынцыповасьці, а заўжды застаюся на варце нашых нацыянальных вартасьцяў. Калі ўлічыць вялікі тыраж «НРСл», дык роля артыкулаў і зацемкаў у іх набывае вылучна прапагандовы характар. Як Вы заглядаецеся на гэта?*

*А тым часам усяго добрага.*

*Спадзяюся, што Вы нарэшце «дерзнете» і знойдзеце час, каб адказаць мне.*

*Прашу Вас і Вашую сям’ю прыняць прывітаньне ад мае сям’і.*

*З пашанай*

*20.01.53 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Дарагі Антон Адамовіч.*

*Дасылаю Вам копію свайго чарговага опусу. Хочацца таксама хаця б коратка падзяліцца думкамі і аб іншым.*

*Атрымаў нарэшце (тры гады на мяне злаваўся) вельмі добры цёплы ліст ад Дудзіцкага. Чуў заўчора, як «Голос Америки» падаў зусім не благое апавяданьне Марціна Люціча. Чытаў у № 132–133 «Бацькаўшчыны» зацемкі Масея Сяднёва аб чысьціні нашае літаратурнае мовы*[99]*. Увогуле Масей бес-*

---

[97] **«НРСл»** — газета рускамоўнай эміграцыі «Новое русское слово», выдаецца ў Нью-Ёрку.

[98] Новое Русское Слово. 22 июня 1952.

[99] Сяднёў, Масей. Некалькі заўваг аб нашай мове. Друкуецца ў парадку дыскусіі // Бацькаўшчына. № 1–2 (132–133). Каляды, 7 студзеня 1953. Літаратурны дадатак. С. 5–6.

*паваротна захварэў на Аляксея Максімавіча*[100]*. Як для ягонага літаратарскага стажу, дык крыху зарана. Хіба можна ўвогуле друкаваць такія «вершы», як П. Сыча*[101]*? Навошта таксама пад гэтак уласьцівымі добраму Салаўю вершамі зьмяшчаць перакладны твор пра сабаку, што вые пасярод вуліцы?*[102] *У маёй рэчы зусім зьнікнуў канчатак, а таму загаловак і эпіграф апынуліся ў паветры*[103]*. Гэткія ампутацыі робяць толькі над фокстар'ерамі. Не даю веры Васілю Рагуле, што пасьля Эльвангену ён спакінуў БЦР. Навошта проста ў вочы хлусіць? Увесь час ён падпіраў БЦР і нават досыць актыўна спрычыніўся да апошняга пашквілянцкага нумару «Беларускага Слова». Пэўне ж таксама чыталі артыкул а. Татарыновіча*[104] *аб нацыянальным назове. Мне здаецца, што ён мае рацыю.*

*Тым часам усяго добрага.*

*З пашанай да Вас*

*П. С. «Чорт і баба» адсунулі пісьменьніцкую нараду ў невядомасьць. А можа, ім абодвум дапамагае ў гэтай галіне Віцьбіч? Хто ведае.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*29.05.53 г.*
*Саўт-Рывэр.*

*Дарагі Сябру!*

*Прабачце за спазьненьне з адказам на Ваш ліст ад 17.05.53 г. Хаця я й ня грэк, але ёсьць у іх адзін старажытны бог, да якога астатнім часам стаўлюся з вылучнай пашанай*[105]*. Вось менавіта гэты самы бог значна перашкаджае мне ва ўсіх*

---

[100] Маецца на ўвазе расійскі пісьменнік Максім Горкі.

[101] Сыч, П. Замала… // Бацькаўшчына. № 1–2 (132–133). Каляды, 7 студзеня 1953. Літаратурны дадатак. С. 6.

[102] Вежыньскі, К. Да сабакі, выючага пасярод вуліцы. (З польскае мовы пералажыў П. Сыч) // Бацькаўшчына. № 1–2 (132–133). Каляды, 7 студзеня 1953. Літаратурны дадатак. С. 5.

[103] Віцьбіч, Юрка. Слава на вышынях Богу // Бацькаўшчына. № 1–2 (132–133). Каляды, 7 студзеня 1953. Літаратурны дадатак. С. 6.

[104] Маецца на ўвазе **Пётра Татарыновіч** (1886–1978), беларускі каталіцкі святар, культурны дзеяч, выдавец.

[105] Маецца на ўвазе Дыяніс, або Вакх, старажытнагрэцкі бог віна.

*галінах, а ў тым ліку і ў эпісталярнай. Але гэта ўжо асабістае, а цяпер пераходжу да таго, што Вас цікавіць.*

*Наведаў Сянкевіча*[106] *і ўвачавідкі пераканаўся, што Жылкавае «На ростанях» у яго няма. Ён зблытаў яе з тым жа падобным па назову зборнікам Кавыля*[107]*.*

*Патрэбнае Вам з таго зборніку Жылкі, што ёсьць у мяне, выглядае наступна:*

*Верш «Марта»: «Усё тое ж буднасьцю цьвіце».*

*Верш XXX з пачаткам «Крыху ўзрушаны і рады»: «Крыху ўзрушаны і рады, Спатыкаюся з табой». У тым жа вершы: «Толькі мовіць мне нясьмела Ўсё пабожна, што таю, Толькі ўзяць рукой зьнямелай Руку дробную тваю».*

*Аднак бачу, што пасьля «ручкі» будзе найлепшым, калі я Вам пазычу зборнік, бо пасьля гэткага аматарскага перадруку памылкі непазьбежныя. Сам я астатнім часам быў двойчы ў Нью-Ёрку, але, на вялікі жаль, ня меў магчымасьці (вазіў жонку да доктара), каб завітаць да Вас і перадаць кніжку непасрэдна. Няма ўжо значны час і Юхнаўца, каб празь яго перадаць яе. Ва ўсякім разе, я заўтра наведаю Родзькаў-Русакоў, якія амаль штотыдзень наведваюць Тулейкаў. Паспрабую празь іх даслаць Вам зборнік Жылкі: калі ўжо перавыдаваць яго, дык без памылак.*

*Між іншым, чамусьці ўсе кнігі, якія я пазычаю Вам, Сядуру і іншым, падграбае пад сябе Панькоў. Я ж тым часам яшчэ жывы, а таму, можа, і ня варта загадзя браць на сябе місію майго спадкаемцы ў гэтай галіне. Можа, у сувязі з гэтым лепш абыходзіцца безь ягонага пасрэдніцтва? Прыкра, што адна з кнігаў, пазычаных мной Сядуру, у якой меліся біяграфічныя зьвесткі аб Панамарэнку, была мне вельмі й вельмі патрэбная.*

*На жаль, яшчэ не напісаў пра Сьвятое Памяці Равенскага, хаця ўжо трэба толькі сесьці за стол, каб напісаць. Вось толькі ці ня будуць мае ўспаміны аб ім аж занадта дражлівыя для тых, хто гуртуецца вакол «Запісаў». Але ж праўда ёсьць праўда. Таму калі напішу іх, дык адразу аддам у «Веду».*

---

[106] Маецца на ўвазе Аляксей Сянкевіч, які, як і Віцьбіч, жыў у Саўт-Рыверы (ЗША).

[107] Верагодна, маецца на ўвазе зборнік Міхася Кавыля «Ростань» (Рэгенсбург, 1947).

*Экскурсія ў Вашынгтон, пра якую Вы прыгадваеце, здаецца, будзе вельмі цікавай, але ўсё ж я не аматар экскурсій. Люблю ў гэтым сэнсе заставацца самотным, калі ніхто і нішто не замінае непасрэдным уражаньням.*

*Шкадую, што ня ў стане выканаць просьбу Спадарыні Савёнак*[108]*, бо ня толькі «Западной Двины» Сапунова, але ўвогуле нічога зь ягоных твораў цяпер ня маю. Ва ўсякім разе, каб яна была ў мяне, я б яе ахвотна даслаў Сп. Савёнак, да якой заўсёды стаўлюся з вылучнай пашанай. Нават не спалохаўся б, што наш кніжны Іван Каліта*[109] *і яе падграбе пад сябе.*

*Надысь атрымаў запрашэньне ад Русака (рэгенбурскага гаршэчніка)*[110] *узяць удзел у нарадзе, што мае адбыцца ў «Шака»*[111]*, і абгаварыць пытаньне наконт кансалідацыі беларускае эміграцыі. Ня ведаю, што ім ад мяне патрэбна? Я асабіста гэтае пытаньне для сябе даўно вырашыў на практыцы. Цешуся з таго, што і некаторым шыпшынаўцам*[112] *дапамог вырашыць яго. Ці варта марнаваць час на тое, каб мірыць Кушаля з Сабалеўскім, Яп. Васіля з Лапіцкім, Каўша з Галяком, Кіпеля з Ян. Станкевічам, Хмару з Акулай, Касяка з Калодкай, Попку з Сычом, Асіпчыка зь Львом Гарошкам і г. д. і г. д. І нарэшце, што карыснага для нашае місіі як палітычных эмігрантаў мае прынесьці вось гэткая кансалідацыя? Ноеў Каўчэг магчымы толькі ў Бібліі.*

*Дарэчы — чуткі аб тым, што нібы Астроўскі прапанаваў мне і Кавылю пераехаць у Эўропу, каб там рэдагаваць бэцээраўскую газэту, досыць дзівосныя. Прынамсі, кажны бэцээравец сёньня расьсьмяецца, пачуўшы пра гэта. Не захаваю ад Вас, а можа, і Вы пра гэта чулі, што мой адыход ад БЦР зьяўляецца для бэцээраўцаў і па сёньняшні дзень вялікай стратай. Таму зь іхняга боку дагэтуль робіцца ўсё магчымае — часам ветлівая просьба на пісьме або непасрэдна, часам шантаж або проста данос — каб зноў уцягнуць мяне ў сваё «общество». Вось такія чуткі і ёсьць нішто іншае, як шантаж. Мне ду-*

[108] Маецца на ўвазе Апалонія Савёнак.

[109] Маецца на ўвазе Мікола Панькоў.

[110] Маецца на ўвазе Аляксандр Русак, які ў гэты час жыў у недалёкім ад Саўт-Рывера Гарфілдзе (Нью-Джэрсі) і быў старшынём калегіі БЦР.

[111] Маецца на ўвазе гэтак званая Заля Шакаў — месца ў Саўт-Рыверы, дзе адбываліся ў той час беларускія імпрэзы.

[112] Маюцца на ўвазе ўдзельнікі літаратурнага згуртавання «Шыпшына».

*маецца, што і бэнээраўцы не дадуць веры таму, нібы сучасны Юрка Віцьбіч надаецца на тое, каб рэдагаваць колішняе «Беларускае Слова» і розныя іншыя больш ці менш адпаведныя яму выданьні.*

*Вось, здаецца, тым часам і ўсё.*

*Прашу перадаць прывітаньні Вашай сям'і і ад мяне і ад маіх.*

*Пішэце, калі займееце час і ахвоту.*

*Можа, Вас зацікавіць копія майго ліста да др. Тумаша, якую адначасна дасылаю.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Ваш*

*28.10.53 г.*

*Дарагі Сябру!*

*Неяк адразу паназьбіралася шмат пазафабрычнае працы — мушу да суботы напісаць нарыс аб Хведару Ільляшэвічу ў сувязі з 5-мі ўгодкамі ад дня ягонае сьмерці, да суботы дапрацаваць нарыс пра Слуцкае паўстаньне. Аднак адкладаю ўсё гэта ўбок і з прыемнасьцю выконваю Вашую просьбу, дасылаючы адначасна тое пра Ластоўскага і «Старажавы курган» К. Каганца, што ёсьць у М. Гарэцкага*[113]*.*

*З маіх навінаў найпрыемная тая, што зноў навязаў лучнасьць з Масеем Сяднёвым. Аднак шчыра й паміж намі кажучы, сумняваюся, каб яна значны час працягвалася. У нас абодвух больш рознага, чым агульнага. Між іншым, амаль дзіўлюся — скуль у яго такая (зь пенай на вуснах) нянавісьць да шляхты? У сувязі з гэтай нянавісьцю ён прафануе і наш адраджэнскі рух, і «Ўзвышша», і шмат чаго эміграцыйнага, сучаснага. Мне чамусьці здаецца, што яна мае не сялянскае, як і не праваслаўнае, карэньне, а вузка асабістае. Даводзіцца часам і ўсё ж досыць нязграбна імітаваць у творчасьці тыя рысы ці якасьці, якія для іншых зьяўляюцца ўраджонымі. Але Бог зь ім.*

*У нядзелю наведаў мяне «эвэнтуальны і кансэнквэнтны» др. Шчорс. Кляўся й бажыўся, што тыя непрыемнасьці, якія Вы астатнім часам, на вялікі жаль, перажываеце, ідуць, паводля ягонае стараннае праверкі, ня з боку БЦР-аўцаў, а з бо-*

[113] Маецца на ўвазе «Гісторыя беларускае літаратуры» Максіма Гарэцкага.

*ку БНР-аўцаў. Ёсьць у гэтай галіне выдатныя фахоўцы сярод першых (Касяк, Ясюк, Попка, Зарэчны), але запраўды мне здалося, што да гэтага сёньня спрычыніўся нехта з другіх. Гэта, праўда, мае прыпушчэньне, але мне здаецца, што яно адпавядае запраўднасьці. Прынамсі, ніхто з вышэйадзначаных фахоўцаў не лічыў Вас за астатнія два гады сваім «галоўным ворагам».*

*Тым часам усяго добрага.*

*Прывітаньні Вам і Вашым ад мяне і маіх.*

*Ваш*

*31.01.54 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Дарагі Сябру!*

*Перш за ўсё наконт «Р. Г.»*[114] *і «Н. З.»*[115]*. Даслаў Вам гэтыя паасобнікі назаўжды. Зьбіраюся практыкаваць гэтае й надалей. Між іншым, у тым жа самым «Р. Г.» ад 24 студзеня г. г. ёсьць наступны адказ «Ю. Соболевскому».*

*«Обращение Минского Архиепископа Питирима*[116] *к белоруссам было напечатано в канадской газете «Вестник», 5 декабря 1953 года».*

*Значыцца, там «обращение» зьмешчана цалкам, а не скарочана, як у «Р. Г.». Дарэчы, пры першай нагодзе хочацца павіншаваць Сабалеўскага, што ягонае імя прыгадваецца ў газэце пятай калёны.*

*Ёсьць розныя прыпушчэньні аб тым, хто зьяўляецца аўтарам «обращения» — аднак безумоўна не Питирим. Маю з розных крыніцаў весткі, што інфарматарам тут стаўся яп. Апанас*[117]*. Між іншым, гэта ўпарта сьцьвярджае й Касяк, што надысь двойчы наведаў мяне з мэтай, на якой хочацца крыху затрымацца ніжэй. Запраўды, па выказваньнях, стылі прыгадваецца Апанас. Цікава, што сёньня Апанас ужо не ў Аўстраліі, а ў Тунісе. Хаця БЦР-аўцы гэнае адмаўляюць, але ёсьць весткі, што з Аўстраліі ён выехаў не добраахвотна, а дэпартаваны адтуль урадам. Чаму — паўстае пытаньне? Чаму*

[114] Магчыма, маецца на ўвазе выдаваная ў Нью-Ёрку газета «Русский голос».
[115] Расшыфраваць абрэвіятуру не атрымалася.
[116] **Піцірым (Свірыдаў)** (1887–1963), пазней мітрапаліт Крутыцкі і Каломенскі, з 13.01.1947 быў архіепіскапам Мінскім і Беларускім.
[117] Маецца на ўвазе архіепіскап Апанас (Мартас).

*ён таксама трапіў у няўтульны і куды горшы для былых ДП за Аўстралію Туніс, а не якую-небудзь краіну Эўропы? Адмовіліся прыняць?*[118] *Я асабіста лічу Апанаса цалкам здатным (хаця далёка яму да Бэнэдыкта*[119]*) на навязваньне лучнасьці з «Питиримом», з МГБ. Але... Апанас ні ў якім разе не амінуў бы Беларускую Аўтакефальную Царкву і яп. Васіля (свайго сьмяротнага ворага), Апанас прыгадаў бы Касяка, але амінуў бы Астроўскага і г. д. Увогуле, усяго толькі прыпушчэньне, якое да пэўнай ступені нагадвае запраўднасьць. Аднак не падлягае таксама аніякаму сумніву, што МГБ мае, бадай, на кажнага палітычнага эмігранта, а тым больш на прадстаўнікоў эміграцыйнае эліты, «личное дело». Можа, гэная ўстанова і ня ўсё ведае, як паводзіцца той ці іншы эмігрант на эміграцыі, але затое яна лепш за нас саміх ведае (мы пасьпелі ўжо тое-сёе забыць), як мы «жили-были» ў часе вайны. Ва ўсякім разе гэнай установе і без тутэйшых інфарматараў вядома куды больш за тое, што падпісаў «Питирим».*

*Між іншым, відавочна таксама тое, што «Обращение» адмыслова прызначана для экспарту — ніякае выданьне яго ТАМ не зьмясьціла. Хто ТАМ дазволіць нейкаму «Питириму» ісьці наўсуперак таму, што «изрекли» аб ДП у АН Уралава, Кісялёў, Грамыка*[120] *і інш.*

[118] Насамрэч Архіерэйскі сабор у кастрычніку 1953 г. пастанавіў аб пераводзе архіепіскапа Апанаса з Аўстраліі ў Туніс. Аднак да гэтай афрыканскай краіны іерарх так і не выбраўся, а працягваў жыць у Мельбурне. У хуткім часе прыйшло новае прызначэньне — у Канаду, — куды Апанас таксама не паехаў, потым у Бразілію — аналагічна. І толькі ў 1956 г. ён выехаў з Аўстраліі на новае месца ў Аргентыну. Падрабязней пра гэта гл.: Архіепіскап Апанас (Антон Мартас). На ніве Хрыстовай: у пяцідзясятыя ўгодкі святарства (1928–1978). Успаміны. Нью-Ёрк — Менск — Варшава, 2005. — 192 с.

[119] Маецца на ўвазе архіепіскап Венедыкт (Бабкоўскі).

[120] Маюцца на ўвазе беларускія савецкія дзеячы, што былі прадстаўнікамі БССР у ААН, удзельнічалі ў пасяджэннях Генеральнай асамблеі ААН, дзе разглядаліся пытанні ўцекачоў пасля Другой сусветнай вайны: **Еўдакія Уралава** (1902–?), дзяржаўная дзяячка БССР, была наркамам асветы ў 1930-х. У другой палове 1940-х была прадстаўніцай БССР у адным з камітэтаў Генеральнай асамблеі ААН. **Кузьма Кісялёў** (1903–1977), партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР, у 1946–1966 гг. — міністр замежных справаў БССР, кіраўнік дэлегацыі БССР на Сан-Францыскай канферэнцыі Аб'яднаных Нацыяў. **Андрэй Грамыка** (1909–1989), дзяржаўны дзеяч

*Пераходжу цяпер да ўлюбёнага, да літаратуры. Прыемна, што нашыя погляды на прыстасаваньне імёнаў вялікіх беларусаў да дыялекту Ашмяншчыны бадай што супадаюць. Калі я, напрыклад, зь Віцебшчыны, дык зусім не абавязкова для мяне называць Кастуся Каліноўскага Касьцюком, Міхася Чарота Міхалком і, нарэшце, Сьцяпана Баторага Стэськам. Трэба мець пашану да спадчыны.*

*«Бадай што супадаюць» — мае дачыненьне да Францыска Скарыны. Згаджаюся з Вамі, што калі «Франциск Скорина» стаўся Францыскам Скарыной — гэта сучасная граматычная карэкта. Але вось калі Францыск стаўся Пранцішам, дык з правапісам гэтая зьмена нічога агульнага ня мае. Слоў няма — у нашай народнай і літаратурнай мове Францыск ёсьць Пранціш ці Пранцішак. У Алеся Гаруна добрыя «два Пранцішкі» рыфмуюцца зь мястэчкам Зацьвілішкі. Аднак усё ж Аляксандр Македонскі ня ёсьць Алесь Македонскі, а «Иван Грозный» ня ёсьць Янка. Шчыра кажучы, мне дагэтуль невядома тая прычына, якая прымушае др. Янку Станкевіча глуміцца з нашае спадчыны.*

*Цяпер наконт Касяка («А Божанька ж мой, Божанька мой»). Ён завітаў да мяне з просьбай, каб я ўзяў на сябе чынны ўдзел у падрыхтоўцы да друку кнігі пра II Кангрэс. Між іншым, кніга гэтая мецьме шмат фатаздымкаў, на двох, трох зь іх ёсьць і Вы, хоць агульнавядома, што на Кангрэсе Вас не было. Я адмовіўся ад гэтае прапановы. Зьяўляюся ўдзельнікам II Кангрэсу й ганаруся гэтым, бо на ім прысутнічаў бадай увесь тагачасны беларускі нацыянальны актыў. Але адначасна не згаджаюся з сучаснымі БЦР-аўцамі, што Бэрлінская канфэрэнцыя разьвязала Ўрад БНР. З вылучнай пашанаю стаўлюся да найвыдатнейшых беларускіх дзяржаўных мужоў Крэчэўскага й Захаркі, якіх кніга амінае. Ці варта ўжо пісаць пра тое, што II Кангрэс мае сёньня падперці сабой касякоўшчыну. Можа, акурат у сувязі з гэтым (якая самаахвярнасьць!) Касяк хоча выдаць кніжку пра II Кангрэс за свой кошт.*

*Зноў вяртаюся да літаратуры. Мяне цікавіць Ваш пагляд на наступнае. Амаль аднавіў першы варыянт свайго апавя-*

---

СССР, у 1946–1948 гг. — прадстаўнік СССР у Радзе бяспекі ААН, і далей як першы намеснік, а пазней і міністр замежных справаў СССР стала ўдзельнічаў у працы ААН як кіраўнік савецкай дэлегацыі.

*даньня «Сьмерць Ірмы Лаймінг» і мару цяпер аб тым, каб недзе зьмясьціць гэны першы варыянт. Хочацца думаць, што яго надрукуе «Бацькаўшчына». Аднак у мяне паўстала затрымка з аднаўленьнем першага «мотто», а менавіта:*

*Погляжу (посмотрю? Ю. В.) на губы те,*
*На вино «Арсау».*
*Что ж вы не пригубите,*
*Meine liebbe Frau?*

*Я вось ня помню аўтара. Між тым аўтар (помню толькі, што жанчына) — выдатны майстра: «на губы те» — «пригубите», «Арсау» — Frau. Непаўторная Марына Цьвятаева? Толькі не Ахматава! Ці ня Вера Інбер? Можа, яна?*[121]

*Гэты эпіграф спадабаўся Крапіву, а яшчэ больш, што цалкам зразумела, Максіму Лужаніну. Аднак першы папрасіў мяне адмовіцца ад гэтага эпіграфу, каб самое апавяданьне трапіла ў друк. І дагэтуль ня ведаю, хто (ва ўсякім разе не Максім Лужанін) зрабіў мне мядзьведжую паслугу, пастанавіўшы, што калі аўтару падабаюцца эпіграфы, дык няхай будзе: «2 х 2 = няма шляхоў да мінулага».*

*Гэты сухі (нагадвае альгебру) эпіграф потым трапіў і ў кніжку «Сьмерць Ірмы Лаймінг» (рэдактар Ляўковіч. Дарэчы, а можа, ён неблагі беларус?). Абстрагуючыся ад недарэчнага эпіграфу, хочацца аднавіць ранейшае. Але пры чым тут матэматыка — не разумею.*

*Ці ёсьць што «крамольнае» ў тым, што эпіграф на расейскай мове, а не пераклад зь яе? Ужываньне расейскае або польскае мовы яшчэ ні ў якім разе ня сьведчыць аб сымпатыях да «вялікіх суседніх народаў», як досыць нязграбна недзе выказаўся Сяднёў. Можна любіць сваю Бацькаўшчыну і адначасна захапляцца і Міцкевічам, і Лермантавым. А ўвогуле, што датычыць закідаў, дык я іх ужо гэтулькі на сваім вяку меў з розных бакоў, што яшчэ адзін закід неяк перажыву. Але ад Вас я чакаю не закіду, а сяброўскае парады.*

*Дарэчы, у гэным апавяданьні ёсьць яшчэ і агульнавядомае:*
*В голубой далёкой спаленке*
*Наш ребёнок опочил.*

[121] Недакладна цытуецца верш Веры Інбер «Еўрапейскі канфлікт».

*Тихо вышел карлик маленький*
*И часы остановил*[122].

*Як я магу пісаць пра Ірму Лаймінг і ейнае асяродзьдзе, пазьбягаючы расейскіх рэмінісцэнцый? Тым больш што для мяне асабіста Ірма Лаймінг ёсьць калісьці жывая й прывабная Іра Лаймінг, і з гэным маім асабістым сугучны адноўлены эпіграф. Розьніца хіба ў тым, што Ірма Лаймінг загінула пад цягніком, а Іра Лаймінг абрынулася з абрыву ў Дзьвіну. Не хачу, каб родная і дарагая Дзьвіна забіла тое, што калісьці (сто-дзьвесьце год таму?) я вельмі кахаў.*

*Яшчэ раз аб агульнавядомым абразу. Паводля тых лістоў, атрыманых мной з розных краінаў, дык сёньня я мушу ўзначаліць нейкі крыжовы паход. Прыкра, але мы, беларусы, усё яшчэ знаходзімся ў стане станаўленьня. Ніхто з праваслаўных беларусаў (запраўды беларусаў) ня будзе зьневажаць той абраз, які зьяўляецца сьвятым для беларусаў-каталікоў. Тым больш, што гэты абраз высьвяціў Яп. Слосканс, да якога беларусы ўсіх веравызнаньняў ставяцца з пашанай. Аднак ня трэба мяшаць з балотам Льва Сапегу, абы толькі Ёзафат Кунцэвіч стаўся сьвятым. Хаця Леў Сапега, які загадаў «сьцяць галаву» 114 віцяблянам, быў каталік, і справа аб ягоным кананізаваньні ніколі не ўздымалася, ён для нас, праваслаўных беларусаў, куды больш сьвяты, чым кананізаваны Ёзафат Кунцэвіч. Няўжо а. Сіповіч не разумее, што тыя памыі, якія ён спрабуе выліць на галаву Льва Сапегі, абражаюць нашыя найлепшыя нацыянальныя пачуцьці. Можа, я памыляюся, але яны (памыі) цалкам абвальваюцца на галаву гэтага лёнданскага сьвятара, які, абы дасягнуць свае (абмежавана-сьвятарскае) мэты, ужыў яшчэ шмат іншых зьдзекаў над гісторыяй. Паўстаньне 1623 г. у Віцебску ёсьць уплыў Масквы? Хлусьня! Мана! Сотні віцяблянаў уцякалі тады ад сьмяротнага прысуду ня ў гэтак блізкую (у геаграфічным сэнсе) Маскву, а ў далёкую Запарожскую Сеч. Між іншым, няўжо а. Сіповіч, абвальваючыся ці спрабуючы абваліцца на Сапунова, ня ведае, што ў таго ёсьць адмысловы том, прысьвечаны зьдзекам польскіх абшарнікаў і ксяндзоў над грэка-каталіцкімі (вуніяцкімі) сьвятарамі. Не захаваю ад Вас, што мне вельмі хочацца пакласьці лёнданскага айца на абедзьве лапаткі, але адмаўляюся ад гэтага, бо гэтае*

[122] Недакладна зацытаваны верш Аляксандра Блока.

*і не на часе, і не на мейсцы. Гэтае разьбівае еднасьць нашае нацыі. Сп. Ст. Станкевіч зрабіў вялікую памылку. Ёсьць у нас два рэлігійныя часапісы, у якіх няхай і парушаецца царкоўная спэцыфіка. Пажадана, каб гэткія дражлівыя пытаньні не парушаліся й не дыскутаваліся на старонках нашае цэнтральнае эміграцыйнае газэты*[123].

*Шмат аб чым яшчэ хочацца напісаць, але што зробіш, калі і гэты ліст пішаш прыхапкамі, на працягу 2–3 дзён, па 20–30 радкоў. Дасылаю Вам адначасна копіі з двох лістоў — да Сп. Юхнаўца і да Сп. Панькова. Калі Сп. Панькову я ліст запраўды выслаў, дык Сп. Юхнаўцу не адважыўся — не паслаў. Заўсёды цёпла стаўлюся да Юхнаўца, можа, і не задарма ён называе мяне сваім «хросным бацькам», але магчыма, акурат гэтая годнасьць шмат чым абавязвае мяне ў дачыненьні да хроснага сына. Тут безумоўна ня «страх іўдзейскі» не дазволіў мне паслаць гэты ліст, а проста нежаданьне згубіць хаця б маленькую кантролю над Юхнаўцом, да здатнасьцяў якога заўсёды стаўлюся запраўды з бацькоўскай цеплынёю.*

*Усяго добрага!*

*Як чуюцца Вашыя бацькі? Прывітаньне ім ад усіх маіх і мяне.*

*Пішэце, калі набяжыць больш-менш вольны час. Люблю чытаць Вашыя лісты. Тым больш, што я (як заўсёды) вельмі і вельмі самотны.*

*Ваш*

*П.С. У суботу (30.1) наведаў мяне Спадар Інжынэр М. Абрамчык. Не заўважыў, як мінулі 3 гадзіны. Шчыра цешуся з таго, што да мяне завітаў беларус, які ачольвае пераважную (і колькасна, і якасна) частку нашае палітычнае эміграцыі. Вельмі прыемна, што пасьля непасрэднага знаёмства склалася зусім іншае ўражаньне, чым тое, якое калісьці склалася на падставе ўражаньняў «собскіх карэспандэнтаў» з Гарміш-Партэнкірхану, Майнлёйзу*[124] *і г. д. Разам з тым мяне крыху*

[123] Ідзецца пра артыкул: Сіповіч, Ч. Леў Сапега й сьв. Юзафат. (Адказ на артыкул С. Грынёва «Нятрапны выбар». Гл.: «Бацькаўшчына», № 45 (176), 15 лістапада 1953, С. 1, 3) // Бацькаўшчына. № 50–51 (181–182). 25 сьнежаня 1953. С. 4, 8; № 1–2 (183–184). 7 студзеня 1954. С. 6–7.

[124] У Гарміш-Партэнкірхене і Майнлёйзе знаходзіліся лагеры *DP* у Нямеччыне, дзе жылі некаторыя беларусы.

*зьдзівіла, што мой Паважаны Госьць палічыў за патрэбнае паінфармаваць мяне наконт Ватыкану, сустрэчаў з рознымі расейскімі палітычнымі чыньнікамі, з adносінамі да польскага эміграцыйнага ўраду і г. д. Нарэшце, я ж просты пісьменьнік, журналісты, які, напрыклад, ня ў стане выканаць просьбу Яп. Васіля — напісаць адказ «Питириму» ад імя Беларускае Аўтакефальнае Царквы. От жа я і ў стане як сьлед адказаць «Питириму» (кроў маіх бацькоў і дзядоў на гэтым «Питириме»), але не ад імя, напрыклад, «присноблаженного протоиерея» М. Лапіцкага і не ад імя «обер-прокурора Белорусского Святейшего Синода» Івана Іванавіча Касяка. Але гэта ўжо адхіленьне ўбок. Увогуле — я задаволены тым, што асабіста пазнаёміўся з Спад. Інж. Абрамчыкам.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*З пашанай*

*17.04.1954.*
*Саўт-Рывэр*

*Дарагі Сябру!*

*Заўчора нечакана атрымаў ад Сп. Натальлі Арсеньневай тую мастацкую прозу, што мае пайсьці ў літаратурны часапіс БІНІМ, і за якую я, паводле пастановы Рэдакцыйнае Калегіі, адказны. Да гэнае адказнасьці я зусім не імкнуўся, мяне цікавіў толькі сьпіс твораў № 1 часапісу. Аднак, калі ўжо гэтак сталася, дык мушу выказацца наконт дасланае мне прозы, якую адначасна дасылаю Вам паштовай бандэроляй.*

*Мяне зьдзівіў твор Алеся Змагара «Сыны лесу». Увогуле, «расхіліліся кусты», каб ня стацца перашкодаю 25 Сакавіку. Ёсьць тут і «прыгожая стромкая жанчына», і «высокі плячысты барадач». Ёсьць і «хвойкі», што «хіляць галоўкі». «Зелянее» тут «шаўковая травіца». Нарэшце, даюцца ў знакі і «ейны стромкі квола-гнуткі стан», а ў выснаве — «уся салодкасьць чароўнага сьвету каханьня». Адзінае больш-менш сьвежае параўнаньне — чорны воран і ваўкалак. Але ж ваўкалак найшоў у нашым фальклёры някепскі адбітак. Між іншым, ня толькі ў фальклёры — пад Вяліжам калісьці змагаўся партызан, які сам сябе ахрысьціў ваўкалакам. Зь вялікай любоўю, вялікай пашанай ставіліся да яго людзі.*

*Крыху наконт абароны Алесем Змагаром «Шыпшыны». Ні «Пагоня», ні «Сакавік», ні «Шыпшына» гэткае прозы ня*

*ведалі. Нават «клясычны» твор «Бывай, незваротная»*[125] *(замест Бэатрычэ больш празаічная Юзя) шмат у якіх адносінах стаіць вышэй. Але…*

*Дык «поимейте терпение», як калісьці мне адзначыў на маёй тапаграфічнай рабоце адзін «камбат». Дарагі Сябру, дапамажэце Алесю Змагару. Бо ён у сваім мінулым запраўды — слуцкі змагар. Ёсьць у яго неблагія творы.*

*Пераходжу да твору Г. Нямігі*[126] *«Шарап!». Можа, гэта й не мастацкая проза, а звычайны фэльетон, які больш падаецца ў газэту, чым у часапіс? Між іншым, чаму «бом» — п'яніца Нью-Ёрку? Гэта куды шырэйшае (ня п'яніца), пашыранае на ўсё ЗША сумнае разуменьне.*

*Мартын Люціч*[127] *— «Каінава племя». Мне здаецца, што ў нас амаль аднолькавы погляд на гэтага пісьменьніка. Тым больш што ў адносінах да яго «аз грэшны» два ці тры разы ўжываў «тэрарыстычныя» сродкі. Запраўды, «язя й галаўня трэба цягнуць умеючы», але яшчэ цяжэй напісаць добры мастацкі твор. Мяне зьдзіўляе неахайнасьць мовы й стылю Мартына Люціча, зусім недаравальныя для ягонага літаратарскага веку. Яшчэ больш зьдзіўляе няведаньне ім нашае літаратурнае спадчыны. Для Люціча ў ягоным творы «Каінава племя» Альберт Паўловіч — адмоўны тып. Але для ўсіх нас існуе іншы Альберт Паўловіч*[128]*, які заслугоўвае пашаны, якога шануе нашая эміграцыя і ўсё добрае, што ёсьць у нашым народзе.*

*А ўсё ж нягледзячы на тыя ці іншыя недахопы «Паэма пачаткаў» К. Юхневіча*[129] *мацнейшая за ўсё вышэйпрыгаданае. Можа, сам назоў штучны, аж занадта літаратарскі. Між іншым, стараверы на Беларусі змагаліся не за «Родину», як сьцьвярджае К. Юхневіч, а супраць яе, і ў сувязі з гэтым шмат ліха спазналі. Няварта плявузгаць на людзей, продкам якіх нашая Бацькаўшчына калісьці дала як эмігрантам прытулак, і нашчадкі пра гэта ніколі не забываліся.*

---

[125] **«Бывай, незваротная»** — назва апавядання Янкі Золака, выдрукаванага ў часопісе «Шыпшына».

[126] Г. Няміга — псеўданім Гіпаліта Паланевіча.

[127] Мартын Люціч — псеўданім Міколы Цэлеша.

[128] **Альберт Паўловіч** (1875–1951), паэт, байкапісец, перакладнік.

[129] К. Юхневіч — псеўданім Янкі Юхнаўца.

*Гэткае мастацкае прозы яшчэ ня бачыў ні адзін наш літаратурны часапіс на эміграцыі. Аднак што зробіш. Паспрабуем зрабіць усё ад нас залежнае, каб не загінуў на чужыне ні адзін — ці вялікі ён ці малы — талент.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*З пашанай да Вас*

*Ваш*

*20.06.54 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Дарагі Сябру!*

*Вельмі ўдзячны за Ваш ліст і спадзяюся, што з Вашай дапамогай, калі ўжо не пашанцавала цяпер, дык пазьней набуду паасобнік слоўніка*[130]*. Дзякую з гары, як кажуць некаторыя нашыя суродзічы. Між іншым мяне бадай расчуліла «письмо — пісьмо, ліст». Прыпушчаю, што слынны дзядзька й ня менш вядомы пляменьнік*[131] *проста інтуітыўна прытрымліваліся гэнага слоўніку. Бяз сумневу, я памыляюся — справа тут палягае аж у залішнім пазьбяганьні «палянізмаў».*

*«Конадні»*[132] *я чамусьці атрымаў зь вялікім спазьненьнем, а менавіта ўчора. Можа, нехта падумаў, што Віцьбіч пакрыўдзіцца за разьмеркаваньне твораў у нумары. Крый Божа! Аднак, цалкам абстрагуючыся ад гэтага, хочацца зазначыць, што цяпер я разумею Ізыдара: «Лепш нічога, чым гэтае». Дзівіць мяне й штучны, кніжны, лябараторны назоў, а яшчэ больш абвестка — дасылаць усё Рыгору Крушыну. Апошні нагэтулькі ва ўсіх адносінах дробны, што ці наўрад хтонебудзь праз яго будзе дасылаць свае творы ў літаратурны часопіс БІНІМ. Мне самому прыкра, што я трапіў у гэты нумар, і ўпэўнены, што не стануся ў гэтай галіне рэцыдывістам. Пэўне ж выйду таксама із складу Рэдакцыйнае Калегіі, бо з маім голасам у ёй ніхто ня лічыцца*[133]*.*

---

[130] Гаворка ідзе пра «Руска-беларускі слоўнік» пад рэдакцыяй К. Крапівы (Мінск, 1953).

[131] Ідзецца пра Івана Касяка і а. Мікалая Лапіцкага.

[132] **«Конадні»** — літаратурна-мастацкі часопіс. Выдаваўся Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Мюнхене. Выйшла 7 нумароў (1954–1963).

[133] Узаемаадносіны сяброў рэдакцыйнай калегіі «Конадняў» вельмі паказальныя што да тэмы «Літаратурны побыт і ўлада». Характэрны

*Пераходжу да «анафэмы», а ў сувязі зь ёю да Арх. Васіля*[134]*. Мне вельмі не спадабаўся ліст ад яго і асабліва наступнае: «Памяць Ул. Жылкі для мяне таксама сьвятая, і «анафэме» аддаваць яго я не зьбіраўся і не зьбіраюся, але, магчыма, аддаў бы анафэме тых, што несумленна выкарыстоўваюць яго для сваіх, незвычайна шкодных нам цяпер, непрыгожых мэтаў. Тым часам я навет ня ўспомніў імёнаў іхных, бо лічу сябе слугою Спаса нашага, а Ён мілаваў найбольшых грэшнікаў ды разбойніка на крыжы ў апошнюю хвіліну, таму мне хочацца верыць, што й гэтыя нашыя грэшнікі некалі апамятаюцца, прыйдуць да розуму, хаця цяпер мне й вельмі цяжка на сэрцы».*

*Між іншым, на гэным узроўні вытрыманы ўвесь ліст. Дык пакайцеся, Дарагі Сябру, пакуль яшчэ ня позна. Што датычыць мяне, праваслаўнага, дык не хачу ісьці на споведзь ні да Лапіцкага, ні да Арх. Васіля.*

*Крыху зноў аб «нацыянал-бальшавіках». Вы не правы, што гісторык лічыцца толькі з дакумэнтамі. Шмат дакумэнтаў мы ведаем — і пра Катынь, і пра бактэрыялягічную вайну ў Карэі, і пра злачынствы «ворагаў народу». Каб зрабіць гістарычны выснаў, трэба мець сотні дакумэнтаў з розных крыніцаў, але ня некалькі з аднае. Калі ўжо прыпусьціць, што існуе тэрмін «нацыянал-бальшавізм», дык ён мае дачыненьне толькі да*

ў гэтым плане ліст Уладзіміра Сядуры, на той час адказнага рэдактара часопіса, да Наталлі Арсенневай: *«Ветліва даводжу да Вашага ведама, што ніводны радок літаратурнага альманаху не павінен дасылацца ў друкарню да таго, як я асабіста яго перачытаю й зацьверджу. Для гэтага Рыгор Казак мусіць прывезьці мне ўвесь матар'ял для перагляду. Іначай я ня дам санкцыі на друкаваньне. Па-другое, дзеля літаратурнае, адукацыйнае і маральнае некампэтэнтнасьці некаторых сябраў рэдкалегіі й патрэбы ўзмацніць ейны склад кваліфікаванымі асобамі ды адсунуць палітычна й маральна няпэўных, прапаную неадкладна ўвесьці ў склад рэдкалегіі сп. Антона Адамовіча, надаўшы яму другі рашаючы голас у пытаньнях прыняцьця матар'ялаў. Прашу давесьці аб гэтым да ведама Ўправы Інстытуту. П.С. Маю засьцярогі і адносна назову. Досыць нам, эмігрантам сярэдзіны веку, жыць старымі катэгорыямі пачатку дваццатых гадоў. Акрамя таго, ніхто зы мною не ўзгадняў новага назову, таму я яго адкідаю»* (04.02.1954).

[134] Падрабязней пра гісторыю анафемы гл. змешчаныя ніжэй: Лісты Уладыкі Васіля (Тамашчыка) да Юркі Віцьбіча.

*бальшавікоў расейскага паходжаньня, якія з мэтай камуфляжу мабілізавалі сабе на дапамогу і Аляксандра Неўскага, і Івана Грознага, і Суворава, і Кутузава і навет патрыярха Аляксея. Вы спасылаецеся на тое, што Алесь Чарвякоў і іншыя самым сабе паводля адпаведных дакумэнтаў надалі мянушку — бальшавікі. Гэта сьведчыць толькі аб тым, што ім не забракла палітычнага розуму, каб пры наяве Крамля й ГПУ называць сябе нацыянал-камуністымі, якімі яны ўвесь час і былі. Па сутнасьці, «беларускія нацыянал-камуністы» і «беларускія левыя эсэры» бадай што сынонімы. А часам вельмі цяжка правесьці мяжу паміж «беларускімі нацыянал-камуністамі» і «беларускімі нацыянал-дэмакратамі». Вашая спасылка на тое, што першым ужыў тэрмін «нацыянал-бальшавізм» Максім Гарэцкі, яшчэ зусім не абавязвае да пашырэньня гэтага тэрміну, бо пры ўсёй пашане да выдатнага Максіма Гарэцкага, трэба зазначыць, што ён аніякі палітык. Ня ў стане таксама згадзіцца з Вамі, што досыць прачытаць той ці іншы артыкул за той ці іншы год у тым ці іншым часапісу, каб адразу склалася перакананьне, што Цішка Гартны і Алесь Дудар нацыянал-бальшавікі. Гісторыя — гэта ня дзёньнік, а гісторык — не летапісец. Можа, і ў нас, грэшных, меліся калісьці тыя ці іншыя артыкулы, але гісторык будучыні зробіць выснаў аб нас не паводля толькі гэных менавіта артыкулаў, а паводля ўсіх нашых артыкулаў, усяе нашае творчасьці, усяго нашага жыцьця. Я глыбака веру ў гэта.*

*Ня злуйцеся за шчырасьць.*
*Агульнае прывітаньне.*
*Пішэце.*
*Ваш*

*П.С. Значна пашкодзіў сабе на фабрыцы руку. Лячуся й сьцяўшы зубы працую. Спадзяюся гэткім чынам дацягнуць да «вакэйшн»*[135] *3–12.07, каб крыху падлячыцца ды пад'ехаць у Нью-Ёрк, у бібліятэку. Хачу напісаць аб Эдуардзе Самуйлёнку. Гэта найвыдатны наш пісьменьнік, хаця і Цэляш, і ягоны кум ахарактарызавалі яго ні то як «рабкора», ні то як «сялькора». У мяне асабіста ды на ўласнай скуры мелася больш магчымасьцяў (чым у двох сваякоў) пераканацца ў апартунізьме*

135 *Vacation* (анг.) — вакацыі.

*Самуйлёнка, але ўсё ж гэта добры, вельмі добры беларускі пісьменьнік. Памёр ён літаральна ў мяне на руках. І пэўне ж такі загаловак майго нарысу як «Спадманулі русальчыны сьцежкі» характэрны для выдатнага беларускага пісьменьніка Эдуарда Самуйлёнка.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*З узвышэнскім і шыпшынаўскім прывітаньнем*

*Ваш*

*02.02.55 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Дарагі Сябру!*

*Удзячны за Ваш ліст ад 30.01.55 г. Мне прыемна, што мае творы ў «НРС» Вам, Сп. Др. Я. Станкевічу ды іншым спадабаліся. На жаль, артыкул «Белоруссы в кавычках и без кавычек»*[136] *значна скарочаны. Гэтае скарачэньне закранула шмат што арганічна злучанае з усім артыкулам, але разам з тым усё істотнае пададзена бязь зьменаў. Няхай жыве «дымакрат» Марк Ефімавіч!*

*У сувязі з гэтым артыкулам маю ладне непасрэдных і лістовых водгукаў, а ў тым ліку і ананімныя. Між іншым, магчыма, безыменнасьць тлумачыцца тым, што калі Ігнат Грынявіцкі забіў А II*[137]*, дык, можа, Юры Стукаліч таксама заб’е, калі падаць яму сваё прозьвішча. Больш за ўсё абураюцца з прычыны забойства А II. А як жа — «Освободитель». Пры гэтым, аднак, ніхто не спасылаецца на ягоныя словы: «Лучше освободить сверху…»*[138] *і г. д. Што датычыць беларусаў, дык А II заўсёды атаясамліваецца ў нас з «Муравьёвым-Вешателем», з пагібельлю на шыбеніцы Кастуся Каліноўскага.*

*Безумоўна, «фэдэралісты» (расейцы) яшчэ ня раз паспрабуюць ліць памыі на Беларусь і беларусаў, але я тады ўжо зь іх зьдзяру апошнія калі ня шаты, дык «сарафаны». Справа тут без сумніву не ў Баранцэвічах, а ў тым, што расейцы*

---

[136] Стукалич, Ю. О белоруссах в кавычках и без кавычек // Новое Русское Слово. 25 января 1955. С. 2–3.

[137] Маецца на ўвазе расійскі імператар Аляксандр II.

[138] *«Крестьянские «бунты», возрастая с каждым десятилетием перед освобождением, заставили первого помещика, Александра II, признать, что лучше освободить сверху, чем ждать, пока свергнут снизу».* Гл.: Ленин, В. Собрание сочинений. Т. 17. Москва, 1965. С. 95.

*скарыстоўваюць іх як зброю ў змаганьні з намі. Але зброя гэтая, як да сёньняшняга часу, дык музэйная.*

*Калядны нумар «Бацькаўшчыны» бачыў. Застаецца толькі прасіць Вас з свайго ганарару за гэты артыкул адлічыць мне адпаведную частку ганарару. Усё ж гэтае менш істотнае (на тое Каляды, каб ушанаваць Бахуса), але затое прыкра, што «процанты з Лювэнскага капіталу» пачынаюць пакрысе надаваць «Бацькаўшчыне» «Наперад»'аўскі характар*[139]*. Адным з доказаў гэтаму зьяўляецца «фэльетон», прысьвечаны Каханоўскаму. Блытаніна з нумарацыяй ворагаў сьведчыць толькі аб адсутнасьці сталасьці. Увогуле кажны гімназісты марыць аб рэваншы ў дачыненьні да свайго настаўніка. Цяпер гэтая сьвятая мара зьдзейсьнілася*[140]*.*

*Вы запытваецеся пра Масея Сяднёва. Я ўжо тры месяцы як зь ім не сустракаўся. Нічога акрамя добрага ён ад мяне ніколі ня бачыў і тым ня менш як у мінулым, гэтак і цяпер заўсёды спрабуе мне напаскудзіць. Аднак усё ж спробы гэтыя больш-менш дробязныя. Напрыклад, распаўсюджвае тут у Саўт-Рывэры чутку, што артыкулы ў «НРС» пішу ня я, а мая маці. Мне прыемна, што мая добрая маці, даведаўшыся пра гэта, ад душы да сьлёзаў пасьмяялася. Меліся й «большыя дробязі» ў некаторых ягоных лістах да тых украінцаў, якія маюць лучнасьць з Мюнхэнскім Інстытутам, але ж акурат гэтыя, як і іншыя, украінцы да мяне добра ставяцца. А пэўне ж нешта дастаў ад яго й Сядура, бо ў сваім апошнім лісьце да мяне піша: «Перадайце прывітаньне дробненькаму хітранькаму мужычку з Магілёўшчыны».*

*Адшукаўся сьлед Тарасаў. Нарэшце атрымаў ліст ад Дудзіцкага. Ачольвае нейкі дзяржаўны навукова-дасьледчы інстытут, у чым няма падставы сумнявацца, бо ўсё гэтае разам з тытулам — прафэсар — пададзена на канвэрце*[141]*. Увогуле*

---

139 **«Наперад!» —** часопіс «Дванаццаткі» (1948–1953), большасць сябраў якой на пачатку 1950-х былі студэнтамі Лювенскага ўніверсітэта. Юрка Віцьбіч мае на ўвазе тое, што былыя сябры «Дванаццаткі» і, адпаведна, выдаўцы часопісу «Наперад!», у сярэдзіне 1950-х сталі далучацца да выдання «Бацькаўшчыны» і друкавацца на яе старонках.

140 Магчыма, маецца на ўвазе фельетон Архіпа Папліскі «Дзеяч № 1, або лягерная палітыка» (Бацькаўшчына. № 1–2 (231–232). 7 студзеня 1955. С. 8).

141 Ул. Дудзіцкі падпісваўся ў той час наступна: Dr. Wladimir R. Hicky, Unidad Agricola de Turen — Instituto Agrario Nacional, Centro de Experimentacion y Propagacion, Estado Portugesa, Venezuela.

*зноў трапіў на каня і, дай Божа, каб новая Елена Прыгожая яго ня выбіла зь сядла. На мой асабісты погляд, ён — найлепшы з нашых паэтаў на чужыне. Не люблю разьмеркаваньня, але другое мейсца, здаецца, належыць Кавылю. Салавей — вельмі штучны, бадай цалкам складаецца з прыкладаў для працы Каханоўскага*[142]*. Ад колішняга Сяднёва не засталося нават і «гайнаўскае пуанты»*[143]*. На вялікі жаль, Арсеньнева значна зьнізілася ў сваіх апошніх вершах. Мне хочацца, каб мой вузка асабісты і зусім не артадаксійны погляд на нашых паэтаў застаўся між намі.*

*Атрымаў надысь ліст ад Міколы Цэлеша. На маё папярэдняе пажаданьне посьпехаў у жыцьці і творчасьці ён адказвае, што няма куды пісаць. А можа, варта далікатным чынам падтрымаць яго? Мне здаецца, што варта. Чым ён горшы, напрыклад, ад Макара Пасьлядовіча, якога часам па той бок вылаюць, а часам і пернік паднясуць. Даруйце, але вельмі хочацца, каб Вы да яго падышлі не як стыль-рэдактар, а як крытык.*

*Можа, бачылі кніжку «Другі Ўсебеларускі Кангрэс»*[144]*? Вы там на двох агульных фатаздымках: 1. Паміж Касяком і Сянькевічам; 2. Паміж Беляковічам і Язэпам Найдзюком.*

*Выданьне гэтае зьяўляецца найкаштоўным дакумантам для савецкае агентуры. Напрыклад, пададзены партрэт Вітушкі. Хто ведае, а можа, ён пад іншым прозьвішчам хаваецца цяпер у СССР? Пададзены таксама імёны шмат каго з тых, хто застаўся там. Зь літаратараў адзначаны наступныя: Арсеньнева, Геніюш, Ільляшэвіч, Кавыль, Клішэвіч, Салавей, Случчанін, Сядура, Хмара, я. Сяднёва няма, хаця і ўдзельнічаў.*

*Дастаў надысь вялікі ліст ад Сп. Інж. Абрамчыка. Чым тлумачыцца гэткая ўвага, ня ведаю. Застаецца толькі рабіць розныя прыпушчэньні — або гэта водгук на артыкул «Прэзі-*

---

[142] Маецца на ўвазе праца А. Каханоўскага (пад псеўданімам А. Верасень) «Паэтычная стылістыка. Падручнік для сярэдніх школаў» (1947).

[143] Выраз, ужыты Ю. Шэрахам у рэцэнзіі «Гарыць Шыпшына» (Шыпшына. № 4. 1947. С. 28–30).

[144] Другі Ўсебеларускі Кангрэс. Матар’ялы сабраныя і апрацаваныя на падставе пратакольных запісаў камісіяй Беларускай Цэнтральнай Рады пад рэдакцыяй праф. Р. Астроўскага. Выданьне Беларускай Цэнтральнай Рады. 1954 г.

*денты» Абрамчик и Островский»*[145]*, або на мой ліст Сп. Др. Тумашу наконт злоўжываньня гіпэрбаламі. Ва ўсякім разе ліст вельмі добры, і цешуся з таго, што яго дастаў.*

*Крыху пра Казака. Я раней неаднойчы самаахвяроваўся, каб не парушаць нашую нацыянальную гасьціннасьць. Аднак, прабачце, калі пераканаўся, што ён усе мае словы ў Нью-Ёрку перакручваў, калі ён тут нават пачаў пагражаць, што з кімсьці разам мяне ізалюе як літаратара, дык нічога мне больш не заставалася зрабіць. На вялікі жаль, ён не разумее, што калі ў сваім вялікім ліставаньні ўсяляк спрабуе зьняважыць Віцьбіча, дык гэтым толькі зьневажае «Конадні» і самога сябе. Але Бог зь ім!*

*У мінулую нядзелю мяне наведаў Сп. Шукелайць. Для мяне гэтыя ветлівыя наведзіны сталіся сьвятам, бо ўсё ж ліставаньне — гэта ня тое, што непасрэдная гутарка. Між іншым, упершыню даведаўся, што Сп. Ліманоўскі зьмясьціў у газ. «Украінскі вісти» вялікі артыкул пра Янку Купалу, у якім спрабуе матэматычна давесьці, што «Маладняк» больш антыбальшавіцкі, чым «Узвышша». Калі ён «гармонию алгеброй проверяет»*[146] *і працэнтамі вымярае літаратуру, дык ці варта ўжо амінаць і фізыку, а менавіта — удзельную вагу. Вялікае пашаны заслугоўваюць як нацдэмы сотні маладнякоўцаў, але ўсё ж у літаратурным сэнсе яны разам узятыя ня годныя былі ценю Ўладзімера Дубоўкі. Без сумніву, нельга было таксама атаясамліваць «Маладняк» з БелАППам, бо першы, па-першае, не зьяўляўся маскоўскай філіяй, а па-другое — закладзены тымі, хто пазьней сталіся не БелАППаўцамі, а ўзвышэнцамі і полымяўцамі. Мне здаецца, што гэткі артыкул шкодны.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага Вам і Вашым ад мяне й маіх.*

*Пішэце.*

*З пашанай да Вас*

*Ваш*

*П.С. Добра, што не пасьпеў кінуць ліст у паштовую скрынку. Кагадзе атрымаў ад Сп. Шукелайця №№ «Украіньскі Вісті» з артыкулам М. Равіча «Янка Купала». За вылучэньнем*

---

[145] Маецца на ўвазе згаданы вышэй артыкул «О белоруссах в кавычках и без кавычек».

[146] Парафраз «Моцарт і Сальеры» А. Пушкіна.

*вышэйпрыгаданага мейсца аб Згуртаваньнях, артыкул цікавы, своеасаблівы і мае ладне новага, раней невядомага. Прыкра, што ён зьмешчаны не ў беларускай прэсе й таму застаецца невядомым для шырокіх колаў нашае эміграцыі. Застаецца толькі падзякаваць аўтару і выказаць пры гэтым упэўненасьць, што калі-нікалі, але ўсё ж ягоная каштоўная праца станецца вядомай суродзічам на чужыне.*

*П.П.С. Кагадзе дастаў ліст зь Нью-Ёрку, зь якога даведаўся, што памёр М. Клімковіч, і «Бацькаўшчына» прысьвяціла яму прачулы нэкралёг*[147]*. Паміж намі кажучы, на кажнага доктара хопіць праставатасьці. Шкада, што ён памёр толькі цяпер, а не тады, калі рэзаўся ў сваім габінэце ды не дарэзаўся. Тое, што гэта «государево око» напісала, не вытрымлівае аніякага параўнаньня з творамі тых шматлікіх нашых пісьменьнікаў, якіх ён зьнішчыў. Напрыклад, я асабіста ня ў стане забыць, што ён разам з Александровічам і Лыньковым зьяўляецца аўтарам артыкулу «Нашыя абвінавачваньні Юрку Віцьбічу» («Літаратура і мастацтва»), як і вядомых Вам выказваньняў яго наконт «Лшона Габоа Бійрушалайм». Хай яму ня пухам зямля, але асінавы кол. Не, ня ўсё ў парадку ў нашай эміграцыйнай хаце.*

*Я чамусьці больш «Бацькаўшчыну» не атрымліваю. Можа, да гэтага спрычыніліся мае выказваньні наконт тых ці іншых твораў у ёй. Аднак гэтыя выказваньні належаць ня Попку, а шчыраму прыхільніку і сымпатыку, сталаму супрацоўніку «Бацькаўшчыны» Віцьбічу, які жадае для нашае цэнтральнае газэты на эміграцыі толькі добрага, а не благога.*

*Іншая справа, што мне, напрыклад, хочацца недзе зьмясьціць зусім іншы нэкралёг Клімковічу, але не ў парадку палемікі з «Бацькаўшчынай». Ці не надаецца гэты мой нэкралёг для наступнага нумару «Беларуса»?*[148]

*Ветліва прашу Вас спрычыніцца да наладжваньня добрых узаемаадносінаў паміж «Бацькаўшчынай» і Юр. Віцьбічам.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

---

[147] Ст. Памёр Міхась Клімковіч // Бацькаўшчына. № 4–5 (234–235). 30 студзеня 1955. С. 2.

[148] Віцьбіч, Юрка. З нагоды сьмерці Міхася Клімковіча // Бацькаўшчына. № 11 (241). 13 сакавіка 1955. С. 4.

*30.05.55 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Дарагі Сябру!*

*Перадусім спадзяюся, што гэты зварот ня стаўся анахранізмам, які падтрымлівае толькі сіла інэрцыі. Здаецца, астатнім часам паміж намі прабег не адзін чорны кот. Прыпушчаю, што гэтак сталася, па-першае, у выснаве розных домыслаў, пад якімі няма належнага падмурку, па-другое, у сувязі з адсутнасьцю сталага непасрэднага кантакту.*

*Кагадзе да мяне завітаў Сп. Ханяўка і перадаў Вашую кнігу «Большевизм на путях к установлению контроля над Белоруссией»*[149]*, з выйсьцем якое віншую і за дасылку якое ўдзячны. Удзячны таксама за аўтограф. Хоць, паводля яго, я выглядаю чымсьці накшталт пракурора ці судзьдзі (ніколі не вычуваў сымпатыі да гэтых фахаў), але ўсё ж ён розьніцца ад першага ягонага варыянту «Юрку Віцьбічу для разносу».*

*Пра гэты першы варыянт даведаўся ад аднаго нью-ёркца, які надысь мяне наведаў. Тэрмін «разнос» даволі спэцыфічны. Разносамі звычайна займаліся рабкоры й селькоры ў дачыненьні да «клясавых ворагаў». Калі не разносы, дык, як людзі кажуць, досыць гострыя артыкулы мне давялося пісаць наконт брахні Баранцэвічаў, Макаравых, Дзьвіновых*[150] *і г. д. — гэта значыцца, супраць нацыянальных ворагаў. Спадзяюся, што ў Вас няма аніякіх падставаў сьцьвярджаць, што я разглядаю Вас як свайго клясавага або нацыянальнага ворага.*

*Іншая, зусім іншая справа, што нашыя погляды часам не супадаюць. Аб гэтым я шчыра пісаў Вам у папярэдніх лістах, але я асабіста ўпэўнены ў тым, што несупадзеньне поглядаў зусім не падстава для абвешчаньня ўзаемных крыжовых паходаў. Наадварот, лічу, што няма нічога больш сумнага, як наява грамадзкасьці, ва ўсіх сябрах якога існуе поўнае падабенства ўсіх поглядаў. Гэта ня менш жудаснае за тое, каб усе людзі з твару сталіся падобнымі адзін да аднаго. Таму дазвольце мне ў наступным лісьце ад шчырага сэрца падзяліцца з Вамі сваймі думкамі наконт Вашае працы. Няхай ужо Казакі*[151] *займаюц-*

---

[149] Адамович, Ант. Большевизм на путях установления контроля над Белоруссией. Мюнхен, 1954.

[150] Маюцца на ўвазе аўтары «Нового русского слова».

[151] Маецца на ўвазе Рыгор Крушына (Казак).

*ца «спраўджваньнем розных чутак і апініяў». Дарэчы, шкада, што ён толькі на адзін год выехаў у Мюнхэн.*

*Тым часам дасылаю Вам копію майго ліста да Сп. Каханоўскага. Мяне вельмі абышоў ягоны артыкул у «Бацькаўшчыне» «Аб памылках там і тут»*[152] *у тэй сваёй частцы, што датычыць Уладзімера Пічэты. Намер, які ставіў перад сабой Сп. Каханоўскі, вельмі добры — публічнае адмаўленьне ад свае сучаснае завулкавае ці хутаранскае палітыкі, але падпірае ён гэты свой намер вельмі благімі тэзамі. Выказацца ў друку наконт гэтага благога не выпадае — гэта значыцца прылучыцца да Архіпаў Паплiскаў*[153] *зь іхняй нумарацыяй ворагаў. Аднак і зусім амінаць гэтае благое ня ў стане і выказваюся наконт яго ў ліставаньні. Але паколькі тут прыватнае ліставаньне набывае грамадзкае значаньне, дык дасылаю копіі майго ліста да Сп. Каханоўскага Вам, Сп. Тумашу і Сп. Ст. Станкевічу. Калі займееце час і ахвоту, дык ветліва прашу пазнаёміцца зь ім і потым падзяліцца сваймі думкамі.*

*І нарэшце справа вузейшага парадку. Калісьці я завёз Вам кнігу А. Цьвікевіча «Западно-руссизм», што належыць Сп. Сянкевічу. Надысь Саўт-Рывэр наведаў Сп. Сядура, які прывез з сабой некалькі кніжок сучаснага савецкага выданьня ў абмен на кнігі старых выданьняў. Сумна, але факт — ён прыгадаў мне і нэгацыянта, які прапаноўвае, на ягоную думку, дзікунам каралі ў абмен на сланoвую косьць, і Чычыкава зь ягонай досыць непераборлівай мэтанакіраванасьцю, і проста цыгана на кірмашы. Напрыклад, мне ён прапаноўваў абмяняць ягоную чытанку для 9–10 клясы на… «Трысьцё» Дубоўкі або на «Гісторыю літаратуры» Гарэцкага. Я не ўстрымаўся і паслаў яго да «Евгении Марковны»*[154]*. Пераканаўшыся, што са мною аніякага абмену не адбудзецца, Сядура накіраваўся да Сп. Сянкевіча. Там ён, ужываючы вылучна нахрап (сьветка Міхась Кавыль), абмяняў зборнік твораў Кузьмы Чорнага на «Западно-руссизм» і атрымаў адпаведную даведку да*

[152] Верасень, В. Аб памылках там і тут // Бацькаўшчына. № 19 (249). 8 травеня 1955. С. 3. Праз нумар (№ 21 (251). 22 травеня 1955. С. 4) «Бацькаўшчына» змясціла «Пісьмо ў Рэдакцыю» В. Верасьня (Каханоўскага) з тлумачэннем папярэдняга артыкулу.

[153] Архіп Папліска — псеўданім Уладзіміра Цвіркі.

[154] Эўфемізм, утвораны ад першых літараў брыдкаслоўя.

*Вас. Аднак толькі Сядура спакінуў Сянкевіча, як на апошняга накінулася Сянкевічыха, даводзячы, што ён абмянаў быка на індыка. Яна пры гэтым мела на ўвазе не аўтараў, а магчымасьць набыцьця іхных кнігаў, іхнюю ўнікальнасьць. У выснаве Сянкевіч на другі дзень даслаў ліст Сядуру, што адмаўляецца ад гэткага абмену, але ліст, дасланы на стары адрас Сядуры, зьвярнуўся назад. Учора ён узяў у мяне новы адрас і зноў паслаў ліст. Я не зьяўляюся гаспадаром гэтае каштоўнае кнігі, але, паводля просьбы Сп. Сянкевіча, знаёмлю Вас з гэтай даволі ўсё ж прыкрай гісторыйкай. Асабіста я пішу сёньня Сядуру адмысловы ліст, у якім ужываю больш гострыя характарыстыкі ягонага турнэ, чым вышэйадзначаныя, але разам з тым мне хочацца, каб ён ня ведаў аб тым, што пра гэтае я напісаў Вам*[155].

*Вось, здаецца, і ўсё.*

*Агульнае прывітаньне.*

*З пашанай да Вас*

*Ваш*

*01.04.56 г.*

*Саўт-Рывэр*

*Дарагі Сябру!*

*Мяне вельмі кранула Вашае й Вашае сям'і спачуваньне з прычыны таго няшчаснага выпадку, які са мной стаўся. Кранула тым болей, што паміж намі, як нам асабіста, дый суродзічам вядома, больш разьбежнасьцяў у розных поглядах, чым агульнага.*

*Крыху асабістага, што датычыць гэтага выпадку. На канвэернай лініі, за якой я працую, саскочыў ланцуг. У выснаве адзін рог тае «баксы», што знаходзіўся на канвэеры, правалiўся,*

[155] Асобнік, пра які піша Віцьбіч, мае наступны надпіс на тытульнай старонцы: *«Гэтую кнігу-унікум, ня выпушчаную цэнзурай на рынак, а падараваную мне самым аўтарам у 1935 г. у гор. Вятцы, ды ў часе ваеннага розруху некім экспрапрыяваную ў мяне й прывезеную аж за акіян, цяпер жа праўна набытую Ўладзімерам Сядурам — зацьверджаю за ім на вечнасьць і на ўспамін ды знак шчырай прыязьні. Ант. Адамовіч. 28 траўня 1955 г., Нью-Ёрк».* Далейшы *provenance* кнігі такі: незадоўга да сваёй хваробы, што ўклала аж да самой смерці ў ложак, Уладзімір Сядура падараваў кнігу др. Вітаўту Кіпелю, які ў 2007 г. перадаў яе Лявону Юрэвічу, у зборы якога яна цяпер і захоўваецца. Кнігу перавыдаў, зрабіўшы адбітак з Сядуравага экзэмпляра, Юры Попка ў 1982 г.

*а другі падскочыў і ўдарыў мяне ў левае вока. Гадзіны 2–3, сьцяўшы зубы, мычэў, потым з тыдзень на гэтае вока бадай нічога ня бачыў, дый другое напалову згубіла зрок. Аднак гаспадары фабрыкі зрабілі ўсё магчымае, каб толькі дапамагчы мне. І цяпер, калі прыгадваеш, што на вочным яблыку меўся глыбокі шрам, дык, дзякуй Богу, усё больш-менш добра скончылася. Хіба што яшчэ зь месяц-два давядзецца хадзіць у чорных акулярах (сьвятло спрычыняе боль), нагадваючы «шпега амэрыканскіх імпэрыялістычных колаў».*

*Прыгадаўшы ў пачатку гэтага ліста пра разьбежнасьці і агульнае, хочацца таксама крыху затрымацца на гэтым. Пэўне ж Вам вядома, што неўзабаве мае паўстаць апрычонае ды незалежнае ад палітычных плыняў пісьменьніцкае згуртаваньне як вынаў звароту Ўладзімера Сядуры й лістоў Янкі Лімаоўскага з М. Цэлешам. Вышэйпрыгаданыя асобы ў першую чаргу зьвярнуліся да мяне з просьбай прыняць чынны ўдзел у паўстаньні гэтае інстытуцыі, ад чаго я ў рэшце рэштаў адмовіўся. Зьяўляюся самым шчырым прыхільнікам таго, каб на эміграцыі мелася некалькі пісьменьніцкіх згуртаваньняў, як і некалькі літаратурна-мастацкіх часапісаў, але ў мяне склалася ўражаньне, што тое згуртаваньне, аб якім ідзе гутарка, зьявіцца нічым іншым, як нейкім блёкам «униженных и оскорблённых». Сам я гэткім ні ў якім разе ня чуюся, і таму мне зусім ня хочацца, фігуральна кажучы, стацца мыліцай для кульгавых або тэй жэрдкай, якая падпірае сабой пахілы плот.*

*Пераходжу цяпер да іншае справы, якая мае дачыненьне да тых жа рознага і агульнага. 31.05.55 г. у сваім прыватным лісьце да Сп. Др. Тумаша я папрасіў не лічыць мяне больш сябрам БІНІМ. Ні БІНІМу, ні мне асабіста гэтая справа ні ў чым не пашкодзіла. Аднак мне ўсё ж не бракуе мужнасьці вызнаць, што я зрабіў памылку — нельга адну асобу атаясамліваць з інстытуцыяй. У мяне ёсьць свой погляд на Др. Тумаша як на навукоўца, літаратара, арганізатара, палітыка й г. д., але, застаючыся пры гэтым сваім паглядзе, я не спрабую прапагаваць яго ці ў залежнасьці ад сваіх сродкаў гвалтам накідваць іншым. Карацей кажучы — калі ў прыватным лісьце да Сп. Др. Тумаша я заявіў аб сваім выйсьці з БІНІМ'у, дык у гэтым прыватным лісьце да Вас складаю заяву аб сваім жаданьні зьвярнуцца ў БІНІМ. Паколькі БІНІМ, на мой пагляд, не вычэрпваецца цал-*

*кам асобай Сп. Др. Тумаша, дык мне здаецца, што няма ніякае патрэбы ў непасрэдным кантакце паміж Сп. Др. Тумашам і Юр. Віцьбічам.*

*Шкадую, што вока не дазволіла мне адсьвяткаваць 25 Сакавіка ў Нью-Ёрку, а між тым, наўсуперак сваім асабістым звычаям, хацеў туды прыехаць, каб разам з усімі адзначыць Сьвята. Учора да мяне завітаў Сп. Мерляк і паказаў мне фотаздымкі, якія красамоўна сьведчаць аб урачыстым абыходзе Сьвята. 24 сакавіка чуў па радыё сьяточную праграму — па голасу й па мове пазнаў Вас. Тут на абыходзінах Сьвята (я не прысутнічаў) рэфэрат чытаў Масей Сяднёў, музычную частку ладзіў Сэлях-Качанскі, а на чале ўсяго ды ўсіх стаялі Лапіцкі, Шчорс, Сабалеўскі і Касяк.*

*Дык дазвольце на гэтым і скончыць ліст. Хіба што паводля традыцыі дасылаю копіі сваіх лістоў.*

*Найлепшае прывітаньне Вам і Вашым ад мяне й маіх.*

*Пішэце.*

*З пашанай да Вас*

*Ваш*

*15.06.56 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Дарагі Сябру!*

*Перадусім аб «Узвышшы». Наконт Вашага рэфэрату акрамя Вас дастаў добры й вычарпальны ліст ад БАЗА. Маё, усё ж даволі складанае ў мінулым, жыцьцё прымусіла мяне здаўна да ўсяго навакольнага ставіцца ў большай ці меншай ступені зь недаверам. І вось калі ў ранейшым гэты сталы недавер шмат у чым мне дапамог, дык цяпер ён часам інэрцыйны. Мне, грэшнаму, сёньня акурат 51 «годок миновал», і таму цяжка ламаць характар, хоць я зусім не закасьцянеў і ламаю яго. Мне вельмі прыемна, што мой недавер менавіта ў вышэйпрыгаданым пытаньні ня мае аніякае рацыі, што пацьвярджае яшчэ й наступнае.*

*У № 306 «Бацькаўшчыны» чытаў цікавы артыкул «30-я ўгодкі заснаваньня «Ўзвышша»*[156]*. Пад ім літара — А., але паводля яшчэ стылю прыпушчаю, што напісалі яго Вы. Мне*

[156] А. 30-я ўгодкі заснаваньня «Ўзвышша» (Юбілейная даведка) // Бацькаўшчына. № 24 (306). 10 чэрвеня 1956. С. 3.

*вельмі прыемна, што разам з усімі сваякамі ўзвышэнскае сям'і прыгадваецца наймаладзейшы ў ёй — Юрка Віцьбіч. Разам з тым, мне знаёмы добры водгук старэйшага ў ёй Уладзімера Дубоўкі наконт майго першага апавяданьня і, разам з тым, дагэтуль помніцца, як ніколі не даравалі маё прыйсьце да «Ўзвышша» агульназнаныя Бэнды, Клімковічы, Кучары, Бэрнштэйны, Александровічы і г. д. Без сумніву, што ў тыя часы, калі БелАПП літаральна шантажаваў мяне, каб я стаўся ягоным сябрам, дык да «Ўзвышша» я прыйшоў яшчэ й таму, што наўсуперак свайму характару вычуваў да яго вялікі давер.*

*Таксама вельмі прыемна, што гэты артыкул у «Бацькаўшчыне» канчаецца прыгадваньнем К. Крапівы, П. Глебкі і М. Лужаніна — асабліва апошняга. Калі мне не давялося асабіста ведаць Дубоўку, Жылку, Пушчу, Бабарэку ды іншых старэйшых узвышэнцаў, а з Вамі, здаецца, пазнаёміўся толькі ў часе вайны ў Менску, дык затое меў сталую беспасярэднюю і лістовую лучнасьць зь іншымі ўзвышэнцамі. Максіма Лужаніна, нягледзячы на ўсе ягоныя перайманьні, лічу адным з найбольш таленавітых і цікавых паэтаў. Нас пазнаёміў у Менску Сяргей Дарожны, і ў мяне склалася ўражаньне аб Лужаніну, што як чалавек ён куды больш валявы, заўзяты, чым той жа Дарожны, Тодар Кляшторны. Захоўвалася ў мяне й жменька ягоных лістоў, добрых, сяброўскіх. У «Шыпшыне» я перадрукаваў некаторыя вершы Лужаніна («Вільнянка», «Дзьве вясны» і г. д.), што выклікала абурэньне з боку Клішэвіча, Сядуры, Дудзіцкага й Сяднёва. Яны штосьці супраць яго маюць, але я ім не сказаў пра тое, што й супраць іх хтосьці на эміграцыі штосьці мае. А ўвогуле — «Не судзіце, ды не судзімыя будзеце». Каб аб'ектыўна заглядацца на нашую родную літаратуру, мы ня будзем пазычаць акуляры ў Баранцэвіча, як і ў іхніх беларускіх прысьпешнікаў у гэтай галіне.*

*Мне хочацца напісаць у гэтым падвойчы юбілейным годзе артыкул або нарыс, прысьвечаны ўзвышэнцам напярэдадні і пасьля «самазьліквідаваньня». Мне хочацца прыгадаць у гэтым нарысе Зьмітрака Бядулю, Кузьму Чорнага, К. Крапіву, Т. Кляшторнага, П. Глебку, С. Дарожнага, В. Шашалевіча, М. Лужаніна, як і ўскосна, праз успаміны прыгаданых, ужо рэпрэсаваных бальшавікамі сябраў Згуртаваньня.*

*Учора дастаў № 22 «Беларускага голасу», а ў ім прачытаў «рэцэнзію» Сяргея Хмары на альманах «Ля чужых берагоў»*[157]*. У мяне зь ім зусім іншы падыход да гэтага гора-альманаху. Ім кіруе пакрыўджаная амбіцыя, а я, наадварот, абстрагуючыся ад таго добрага, што прысьвяціў Ю. Віцьбічу й «Шыпшыне» ў сваёй прадмове Сп. Др. Ст. Станкевіч, таксама не зьяўляюся сымпатыкам гэтага выданьня.*

*Зьдзіўляе, што калі Нат. Арсеньнева займае 17% ягонае плошчы, дык кажны іншы аўтар, улучаючы сюды й прадмову, па 5% яе, а Юрка Віцьбіч аж бяз малага 3%. Адсутнічае раўнавага паміж паэзіяй (74 усяе плошчы) і прозай — 26%. Да гэтага трэба дадаць, што «проза» (як і «паэзія») Пётра Сыча стаіць па-за мастацкай літаратурай, а на мяжы зь ёй — «Янка сеяў, людзі жалі» Мартына Люціча.*

*Гэты надсанаўскі*[158] *падзагаловак, як «Абарваныя струны», зьяўляецца проста зьдзеклівым у дачыненьні да Ларысы Геніюш, Хведара Ільляшэвіча й Лявона Случчаніна, творы якіх пад ім зьмешчаныя. Каб мяне хто пасьля сьмерці гэтак назваў, дык я б з труны вылез. Між іншым, пад біяграфіямі Ільляшэвіча й Случчаніна зьмешчана — «Юрка Віцьбіч», хоць той, запраўды напісаўшы іхнія біяграфіі, прасіў друкаваць іх безь ягонага, недарэчнага пад біяграфічнымі даведкамі, подпісу. І пэўне ж мяне не паслухалі таму, што трэба было абавязкова зьмясьціць пад біяграфіяй Ларысы Геніюш — Сымон Брага*[159]*.*

*Чамусьці ў біяграфічных даведках адзначана, колькі й дзе год той ці іншы літаратар адбываў бальшавіцкую кару. Гонар і слава іхным пакутам, але ўсё ж гэта не часапіс былых савецкіх паліткатаржанаў, а літаратурны альманах. Таму мімаволі складаецца такое ўражаньне, што аўтары просяць такім чынам у чытачоў нейкае скідкі ў дачыненьні да іхнае творчасьці.*

*Не захаваю ад Вас сваю крыўду — мяне зусім не абыходзіць тое добрае, што прысьвечана мне ў прадмове, але затое абураны з тае прычыны, што зьмешчаныя толькі тры мае творы, хоць іх мелася куды больш ды, як на мой погляд, больш лепшых, больш для мяне характэрных. Па-першае, пасьля Арсеньневай засталося ня шмат мейсца для іншых, а па-другое, адна асоба*

[157] Ля чужых берагоў. Мюнхэн: Бацькаўшчына, 1955.

[158] Маецца на ўвазе расійскі паэт Сямён Надсон (1862–1887).

[159] Сымон Брага — псеўданім Вітаўта Тумаша.

*з Управы БІНІМу спрабуе пры ўсякіх акалічнасьцях абмежаваць Віцьбіча*[160]*. Нічога, акрамя «жалости» да гэтае асобы не вычуваю.*

*А ўвогуле альманах «Ля чужых берагоў» стаўся крывым люстрам нашае літаратуры на чужыне. У незнаёмага ён стварае аб ёй вельмі благое ўражаньне. Таму мяне зусім ня дзівіць, чаму нашыя літаратары спакідаюць бяз водгуку заклік «Бацькаўшчыны» дасылаць свае творы да новага альманаху, як і тое, што ў «Бацькаўшчыне» зьніклі калісьці добрыя літаратурныя старонкі.*

*Пераходжу да іншага, не літаратарскага. Надысь дастаў ліст ад Арх. Васіля, у якім ён (паміж намі кажучы) просіць мяне напісаць артыкул у абарону БАПЦ і яго. Я асабіста з пашанай стаўлюся да БАПЦ і Арх. Васіля, вызнаю іхную кананічнасьць, але… Па-першае, Вам знаёмы мой ліст да Івана Касяка яшчэ ў 1950 г., а па-другое, даволі цяжка што-небудзь напісаць пасьля артыкулу К. М. «З бруднай крыніцы толькі бруд можа цячы» («Бацькаўшчына», № 305). Мне здаецца, што й кніжыца Івана Касяка, і гэты артыкул — абое рабое, бо разьвязваюць закранутыя ў іх пытаньні ў ДП-лягерным пляне. Я не сумняюся ў тым, што Іван Касяк душагуб, але калі прыгадаць гэты эпітэт 5–6 разоў, дык на сярэдняга чытача ён дзейнічае ў процілеглым намерам аўтара сэнсе. Ня ведаю, хто такі гэты К. М., але адно сьцьвярджаю, што журналісты ён недалужны. Журналісты, акрамя адпаведных фаховых здатнасьцяў, зьяўляецца яшчэ і ў першую і ў апошнюю чаргу палітыкам. Ён добра ведае пра тое, што адзін ягоны артыкул можа больш уплыць на грамадзкую думку ягонае эміграцыі, чым 10 паседжаньняў тае ці іншае эміграцыйнае інстытуцыі. На жаль, К. М. ёсьць не палітык, а палітыкан, калі параўноўвае Арх. Васіля з апосталамі. Для мяне асабіста гэтая справа палягае нават ня ў тым, што маю ў сваім архіве чарнавік пратаколаў паседжаньня БНЦ, на якім вырашаўся далейшы лёс Сп. Інж. Тамашчыка, а ў тым, што Апостал для кажнага хрысьціяніна — гэта вельмі вялікае й сьвятое разуменьне.*

*Ці не дасталі Вы часам зь Лёндану рататарнае выданьне «На крывіцкім панадворку»*[161]*, у якім прыгадваецца й Вашае імя?*

[160] Маецца на ўвазе Рыгор Крушына.

[161] Прадуха, Аркадзь [В. Астроўскі?]. На крывіцкім панадворку. Лёндан, 1956. — 15 с.

*Калі не дасталі, дык прысьвечанае яно таму, куды зьніклі грошы, прызначаныя для «Беларуса». Прачытаў ды пераканаўся, што астатнім часам усё больш зьяўляецца ДП-лягернае літаратуры. Прыпушчаю, што частка гэтых грошаў пайшла на патрэбы Сп. Інж. Абрамчыка і Арх. Васіля — з палітычнага боку нічога рашуча не закінеш тым, хто пераадрасаваў гэтую частку грошаў. Прыпусьцім, што гэтыя грошы далі магчымасьць нашай найвыдатнай Натальлі Арсеньневай нейкі час не працаваць на фабрыках, а займець адмысловую працу — пераважная бальшыня нашае эміграцыі, а ў тым ліку і я, толькі пацешыцца з гэтае прычыны.*

*Тым часам на гэтым «закругляюся».*

*Дасылаю адначасна копіі некаторых маіх лістоў.*

*Найлепшае прывітаньне Вам і Вашай сям'і ад мяне і маіх.*

*Шчыра зычу ўсяго добрага.*

*З пашанай да Вас.*

*02.02.57*
*Саўт-Рывэр*

*Дарагі Сябру!*

*Удзячны за Ваш ліст ад 13.01.57 г. Маеце рацыю, што ён зьяўляецца адказным на мой ліст ад 11.11.56 г., але гэтае спазьненьне не дае мне падставаў, як Вы прыпушчаеце, каб клясьці на Вас, бо добра ведаю тыя прычыны, якія перашкаджаюць ліставаньню. Прынамсі і я дагэтуль не адказаў на адзін цікавы ліст ад 03.10.56 г., адказ на які для мяне патрэбны.*

*Дазвольце цяпер перайсьці да больш істотнага. Аніяк ня ў стане згадзіцца з Вамі, што быццам мы, палітычныя эмігранты — амбасадары свайго народу ў вольным сьвеце, мусім прыстасоўвацца або прытарноўвацца да хрушчоўскае «вясны» (тае ж лорыс-мэлікаўскае*[162] *«дыктатуры сэрца») ці эрэнбургаўскае «Оттепели»*[163] *за жалезнай заслонай, там — на Бацькаўшчыне. Няўжо мы маем тут стацца чымсьці накшталт спадманутых і матыльковых па свайму веку*

[162] **Міхаіл Лорыс-Мелікаў** (1825–1888), расійскі ваенны і дзяржаўны дзеяч. Займаючы пасаду міністра ўнутраных справаў, прапанаваў даць палёгку сасланым па палітычных матывах, у першую чаргу студэнтам.

[163] **Ілья Эрэнбург** (1891–1967), расійскі савецкі пісьменнік. Ягоны раман «Адліга» (1954) даў назоў кароткаму перыяду ў гісторыі СССР.

*«нэпманаў»? На мой погляд — ні ў якім разе. Яны (бальшавікі) нязьменна кіруюцца 25 Кастрычніка, а мы маем — 25 Сакавіка. У рэшце рэштаў, што датычыць мяне асабіста, дык я не нагэтулькі амбасадар (дыплямат-палітык), колькі проста жаўнер. Жаўнер ня толькі як літаратар і журналісты, але і адзін з маіх фахаў у мінулым — лейтэнант артылерыйскае рэзэрвы. Таму, каб мне давялося дзеля ажыцьцяўленьня Акту 25 Сакавіка абстрэльваць з гарматаў мой родны горад, дзе жывуць мае крэўныя, я б абстрэльваў. Абстрагуючыся ад фігуральнасьці, хачу заўважыць, што калі мая дзейнасьць тут у той ці іншай ступені можа пашкодзіць «рэабілітаваньню» — «Узвышша», Гаруна, Гартнага, Пушчы й г. д., дык усё ж прыгаданае хоць і ёсьць вельмі дарагім, але не першарадным у параўнаньні зь безупынным змаганьнем за вызваленьне Бацькаўшчыны ўвогуле. Даруйце, але ніколі не зраблю памылкі чалавека вялікага інтэлігента Герцэна, які ў сваім эміграцыйным лёнданскім «Колоколе»*[164] *пасьля 19 лютага 1861 г.*[165] *зьмясьціў артыкул «Ты перамог, Галілеянін!». Між тым, калі перайсьці да сучаснасьці, дык Хрушчоў, даруй Божа, не Хрыстос, а мы не Юліяны Адшчапенцы*[166]*.*

*Цешуся з тае прычыны, што нашыя пагляды на М. Куліковіча, бадай, супадаюць. Трэба ўсё ж мець надзвычайны спрыт, каб узяць мэлёдыю маршу расейскага Прэабражэнскага гвардзейскага палка, падставіць вядомыя словы «Гэй, ну, браце, усе мы разам песьню запяем» і выдаць за сваю творчасьць. Або песьню «Дубравачка» Грэчанінава*[167] *(выданьне*

---

[164] **«Колокол»** — расійская непадцэнзурная газета, што выдавалася Аляксандрам Герцэнам і Міхаілам Агаровым у Лондане ў 1857–1867 гг.

[165] 19 лютага 1861 г. быў апублікаваны Маніфест Аляксандра II, якім адмянялася прыгоннае права ў Расійскай імперыі.

[166] Маецца на ўвазе артыкул Аляксандра Герцэна «Праз тры гады», надрукаваны ў № 9 «Колокола». Згодна з паданнем, смяротна паранены рымскі імператар Юліян Адступнік (331–363), што быў адмовіўся ад хрысціянства на карысць традыцыйнай рымскай веры, гэтак звярнуўся да Ісуса Хрыста.

[167] **Аляксандар Грэчанінаў** (1864–1956), кампазітар. Мікола Куліковіч напісаў артыкул «А. Грэчанінаў і беларуская песня» (Беларус. № 21 (45). 28 лістапада 1953. С. 4.), у якім праводзіў паралелі паміж творчасцю эміграцыйнага кампазітара і беларускімі мелодыямі. Гэты ўплыў адзначаўся і ў некралогу «Памяці кампазітара Грэчанінава» (Беларус. № 91. Кастрычнік 1964. С. 6).

*Юргенсона*[168]*) зьмясьціць у «Скаўцкім сьпеўніку» як музыку М. Куліковіча. Я маю яшчэ ладне гэткіх прыкладаў, але ўсё ж абмяжоўваюся ў дадзеным выпадку выказваньнем свайго погляду на гэтую справу ня ў друку, а ў ліставаньні. Тым болей, што справа гэтая абышла мяне выключна ў сувязі з Равенскім, а потым ужо (ускосна) з Сэляхам*[169] *ды працай Беларускай Моладзі ў Саўт-Рывэры. Вось за тое арганічна ня ў стане прайсьці абыякава паўзь іншага, да чаго цяпер і пераходжу.*

*Дасылаю Вам адначасна копію майго ліста ў Рэдакцыю, які напісаў, але на разе яшчэ нікуды не даслаў. Памылкі Сп. Ф. Кушаля вельмі шкодныя, бо яны самадыскрэдытавальныя ня толькі для яго, а ў сувязі зь ягонай годнасьцю для ўсяе нашае эміграцыі. На вялікі жаль, ягоныя памылкі сьведчаць аб няведаньні ім тых вайсковых пытаньняў, якія ён спрабуе разьвязаць. Калі ўжо нам гэтак пільна й патрэбны генэрал, дык няхай ён выказваецца на паседжаньнях, акадэміях, імпрэзах і г. д., але ня ў друку*[170]*. У апошнім выпадку гэты сам генэрал скатваецца да ўзроўню слыннае унтэр-афіцэрскае ўдавы*[171]*. Нашто адбіраць у гэтае гарапашніцы ейны апрычоны хлеб? І хоць я ня маю ўпэўненасьці, што на мой ліст у Рэдакцыю ня будзе накладзена «вэта» (Грамыка ж беларус па свайму паходжаньню), а ўсё ж дашлю, магчыма, яго, бо сорамна і перад сваімі, а што горш, перад чужынцамі за «опусы» «Ф. Кушэля»*[172]*.*

*Аднак ня ў друку, а толькі ў лісьце хочацца выказацца наконт Сьвяточных Архіпастарскіх Пасланьняў Арх. Васіля. Яны бездапаможныя з багаслоўскага пункту гледжаньня. Шматлікія спасылкі ў іх на Слова Божае часам недакладныя, а часам нават двухсэнсоўныя. Увогуле, калі чытаеш гэтыя Пасланьні, дык адразу прыгадваецца знаны бурсак — «несравненный доминус*

[168] У Расіі было тры Юргенсоны, уладальнікі буйных нотных друкарняў у Маскве і Пецярбурзе — Язэп, Барыс і Пётр.

[169] Маецца на ўвазе Вячаслаў Селях-Качанскі.

[170] Ідзецца пра артыкул Францa Кушаля «Да 36-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня» (Бацькаўшчына. № 47–48 (329–330). 25 лістапада 1956. С. 1, 7.

[171] Маецца на ўвазе гераіня п’есы Мікалая Гогаля «Рэвізор», якая, паводле словаў іншага персанажа, Гараднічага, высекла сама сябе.

[172] Віцьбіч, Ю. Крыху аб небясьпечных памылках. Ліст у Рэдакцыю // Бацькаўшчына. № 9 (343). 3 сакавіка 1957. С. 3.

*Хома Брут»*[173]*. Дарэчы, у Сьвяточным Пасланьні Архіяпіскапа Міхаіла, Экзарха Сусьветнага Канстантынопальскага Патрыярха, няма аніякіх спасылкаў і канчаецца яно наступна: «Наш абавязак — усімі магчымымі сродкамі памагчы тым, хто змагаецца супроць бязбожнага камунізму. Наш абавязак — маліцца за нашых беларускіх братоў, якія знаходзяцца пад камуністычным рэжымам».*

*Гэтае выказваньне набывае тым большае значаньне, калі ўзяць пад увагу, што на інвагурацыі Айзэнгаўэра не мітрапаліты Лявон і Апанас, а архіяпіскап Міхаіл вітаў Прэзыдэнта ад імя ўсіх праваслаўных амэрыканаў — беларусаў, украінцаў, расейцаў, грэкаў і г. д. Нездарма прыгадваецца выдатны Архіяпіскап Іаан Сан-Францыскі*[174]*. Князь Шахоўскі па свайму паходжаньню, ды які князь — Рурыкавіч! — ён падбіў расейскіх манархістых зь іхнымі дзіцячымі марамі аб «Великой Самодержавной России» непараўнальна больш, чым усе Меяры-Ароны й Абрамы з «НРСл» і «Социалистического Вестника»*[175]*.*

*Крый Божа, каб зрабіць адсюль выснаў, што я заўзяты вораг БАПЦ або кіруюся нейкімі асабістымі парахункамі з Арх. Васілём — я навет абстрагуюся ад тых вялікіх непрыемнасьцяў, што займеў калісьці ад Інж. Тамашчыка. Нават больш — калі Арх. Васіль зьвярнуўся да мяне з просьбай дапамагчы яму тым-сім для ягонае навуковае працы (Мюнхэнскі Інстытут), дык я ў залежнасьці ад маіх магчымасьцяў задаволіў ягоную просьбу. Не падлягае сумневу, што лепш будаваць свае Пасланьні да вернікаў (хоць і няўдала) на Слове Божым, чым на даносах, што практыкуе Мікалай Лапіцкі. Можа, да Вас трапіў № 2/31 «Беларускага Слова», а значыцца Вы мелі «прыемнасьць» пазнаёміцца з «Адкрытым лістом да беларускае грамадзкасьці айца Мікалая Лапіцкага». Дарэчы, у ім, не называючы Вашага імя, ён абураецца з прычыны зусім слушнае й вычарпальнае характарыстыкі Вамі «слыннае працы» Івана*

---

[173] Маецца на ўвазе герой аповесці Мікалая Гогаля «Вій».

[174] Ідзецца пра архіепіскапа Шанхайскага і Сан-Францыскага Іаана (Максімовіча) (1896–1966).

[175] Часопіс «Социалистический вестник» выдаваўся Расійскай сацыялдэмакратычнай рабочай партыяй у Берліне, Парыжы і Нью-Ёрку (1921–1965). Апошнім рэдактарам часопіса быў народжаны ў Вільні Саламон Шварц (1883–1973).

*Касяка*[176] *як «саламахі». Мне асабіста крыўдна, што гэты свой брудны ліст, які распачынаецца словамі «Вуніяцкая газэта «Бацькаўшчына», прайдзісьвет Лапіцкі падпірае вялікай цытатай з майго нарысу «Можна зьнішчыць звон, але нельга зьнішчыць народ»*[177]*, што мае дачыненьне да народнага паўстаньня 1623 г. Я ня ў стане забараніць Лапіцкаму ці каму іншаму цытаваньне з маіх друкаваных твораў, але ўсё ж маю права адзначыць, што самы выбар ім цытаты бессаромны й махлярскі.*

*Гэтак, злоўжываючы маім імем і творчасьцю, ён адмыслова падбірае з апошняе выгодную яму цытату пра Ёзафата Кунцэвіча. Між тым вобраз Ёзафата Кунцэвіча дагэтуль для мастака ўвогуле, а для мяне ў прыватнасьці невычарпальны. Ён даволі складаны, а таму бадай усё раней аб ім сказанае ў большай ці меншай ступені нагадвае схему. Што датычыць мяне, дык акрамя працытаванае Лапіцкім схемы, я па-іншаму падышоў да Кунцэвіча ў сваіх творах «Узарванае барока»*[178]*, «Пахавала Віцьба Езафатаў камень»*[179]*, «Репин в Белоруссии» — «Новое Русское Слово»*[180]*, «Арцыбіскуп і сьмерд» — «Узвышша», № 5 за 1931 г. Вось таму і ўчынак Лапіцкага лічу ня годным сьвятара шулерствам.*

*Аднак аж занадта я расьпісаўся пра «пречесных отцов». Ня варта праймацца ні іхнімі «анафэмамі», ні іхнім шулерствам. І крый мяне Божа ад таго, каб недзе ў друку выступіць супраць іх, бо тым самым можна прылучыцца да разьбіцьця нацыянальнае еднасьці нашае эміграцыі, стацца хаўрусьнікам Асіпчыкаў і Касякоў.*

*Дазвольце цяпер коратка затрымацца на пачутай Вамі вэрсіі, што цыркулюе ў Нью-Ёрку, быццам я меўся разам з Сп. Каханоўскім выдаваць новую газэту пад назовам «Вольная Беларусь». Вы маеце рацыю, што гэтая чутка не адпавядае праўдзе. Не захаваю ад Вас, што мне рабіліся з розных бакоў прапановы ў гэтай галіне, а ўласьне, каб я ўзяў рэдагаваць-*

---

[176] Касяк, І. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу. Нью-Ёрк, 1956. — 190 с.

[177] Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі. № 3. Красавік 1946. С. 13–14.

[178] Віцьбіч, Ю. Нацыянальныя сьвятыні. Мастацкія нарысы. Бэрлін, 1944. С. 22–25.

[179] Божым Шляхам. № 62. Верасень–кастрычнік 1954. С. 11–12.

[180] Пад назвай «И. Е. Репин в Белоруссии» выдрукаваны ў «Новом русском слове» 13 ноября 1955.

*не газэты, а іншыя возьмуць ейнае выданьне, але нязьменна ад гэтага адмаўляюся, хоць і люблю газэтную справу. І мне здаецца, што стваральнікам і распаўсюджвальнікам гэтае чуткі ёсьць ніхто іншы, як «рижская утка» — Сп. Вольны*[181]*, які й раней сфабрыкаваў пра мяне даволі іншых больш-менш дзівосных чуткаў, зь якіх, між іншым, адна да пэўнае ступені мне пашкодзіла.*

*Але ж трэба канчаць ліст.*

*Ветліва прашу Вас і Вашых прыняць найлепшыя пажаданьні ад мяне й маіх.*

*П.С. Пакрысе аб розным.*

** Два дні таму атрымаў ад Дудзіцкага адзін паасобнік свайго нарысу «Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман». Праз апошні № «Бацькаўшчыны» даведаўся, што кніжка ўжо прадаецца. Ня хочацца па гэтай справе зьвяртацца самому, але не губляю надзеі, што «Бацькаўшчына» дашле мне пэўную колькасьць паасобнікаў.*

** Атрымаў ліст ад Сп. Др. Я. Станкевіча, дзе ён просіць мяне напісаць, паводле «Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман» некалькі рэфэратаў. Крый мяне Божа ад гэтага. Жыцьцё параўнальна кароткае, вольнага часу бадай няма, і лепш гэтае «бадай» ужыць для працы над 2-й часткай нарысу.*

*Вось на разе і ўсё.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*П.П.С. Можа, чыталі мой ліст «Подымается мускулистая рука...» у «НРСл» ад 04.01.57 г.? На жаль, загаловак і крыху зьначаны і ўвогуле павіснуў у паветры, бо рэдакцыя чамусьці не зьмясьціла наступны кавалак: «И пророческим не только по отношению к царизму, но и в равной степени к большевизму являются слова московского ткача Петра Алексеева, сказанные им ещё 10 марта 1877 г. на «Процессе 50»: «Подымается мускулистая рука миллионов рабочего люда и ядро деспотизма, ограждённое солдатскими штыками, разлетится в прах».*

*Паводля атрыманых мной дадзеных, мой ліст стаўся для «Иванов» беларускага паходжаньня прыкрай неспадзяванкай.*

[181] Вольны — псеўданім Міколы Панькова.

*Незалежнік Стукаліч аж дзесяць гадоў пражыў у Маскве, а яны — халуі Масквы — толькі тэарэтычна зь ёю знаёмыя. Аднак для мяне асабіста тут справа палягае ня ў тым, як «Иваны» на мяне заглядаюцца.*

*Я пераканаены ў тым, што адзіным рэвалюцыйным (у запраўдным сэнсе гэтага слова) рухавіком там зьяўляюцца толькі работнікі. Я ведаю таксама на практыцы тое, што, напрыклад, маскоўскія работнікі зьяўляюцца ня ворагамі, а прыхільнікамі поўнага дзяржаўнага самавызначэньня беларусаў, украінцаў, грузінаў і г. д. І мне асабіста прыемна, што я ня толькі ўзвышэнец, але й гужонавец*[182]*.*

*Хоць мне пазьней ужо не давялося працаваць на прадпрыемствах Віцебску, але напісаў гісторыю ягоных фабрыкаў і заводаў, пагаварыў з сотнямі ня толькі віцебскіх, але й гомельскіх, магілёўскіх, барысаўскіх і г. д. работнікаў і работніц, знаходзячы ў іх міжнацыянальныя гужонаўскія рысы.*

*Мне здаецца, што дагэтуль шмат хто з нашае новае эміграцыі памылкова ўважае Беларусь за пераважна сялянскую краіну. Таму мне даўно хочацца напісаць адпаведны артыкул, або некалькі іх, прысьвечаных работнікам Беларусі. Слоў няма — нельга ні ў якім разе толькі работнікамі, або толькі сялянамі (калгасьнікамі) падмяняць увесь народ, але разам з тым трэба мець на ўвазе, што ў народзе на сёньня зьяўляецца пагрозным для бальшавізму.*

*І крыху аб другарадным. Мне прыемна, што ў сьпісах «НРСл» на 1957 г. ёсьць — Юрий Стукалич — адкрыты вораг «основной линии нашей газеты» (М. Вейнбаўм*[183]*) і няма «Иванов» — скамарохаў і танцораў з «Балов Народов России». І можа, кажны шчыры беларус, пабачыўшы маё сьціплае імя ў пераважна варожым для нас і для мяне сьпісе, з радасьцю падумае, што Стукаліч і ў далейшым ніколі не дазволіць на старонках найбольш пашыранае на чужыне газэты пляміць нашую добрую нацыянальную годнасьць.*

*Вось і «отвёл душу».*

*Яшчэ й яшчэ раз усяго добрага.*

---

182 Маскоўскі завод «Гужон» (у 1922 г. у гонар 5-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі перaназваны ў «Серп и молот»).

183 М. Вейнбаўм быў галоўным рэдактарам «Нового русского слова» (памёр у 1973 г.).

*11.02.61 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Дарагі Сябру!*

*Бадай, цешуся з тае прычыны, што... хвароба («остерартрит»[184]) прымацавала мяне на тыдзень-другі да дому. Займеў такім чынам час, каб скончыць раней распачатыя творы і ліквідаваць запазычанасьць у ліставаньні. Пэўне ж, запазычанасьць да мяне маеце Вы, але ж не пажадаю я Вам таксама захварэць, а тым болей на тое, на што захварэў. Усё ж патрэбна вялікая сіла волі, каб не падпарадкавацца цалкам хваробе, якая не дае нават магчымасьць спаць. А потым і думкі аб розным іншым, што мае да гэтае хваробы беспасярэдняе дачыненьне.*

*Хоць і ёсьць у мяне пара даляраў на благі дзень (недатыкальны фонд), хоць і маю дастаць грошы ад «Сошыял Сэкурыты»*[185]*, хоць і спадзяюся неўзабаве пайсьці зноў на фабрыку, але... Адзін я заработашнік на маіх двох безнадзейна хворых. Адсюль і вялікая просьба да Вас. Калі яе чаму-небудзь немагчыма ажыцьцявіць, дык гэтае ні на каліва не ўплыве на нашыя ўзаемаадносіны.*

*Ці не зацікавіць бел. сэкцыю радыё «Свабода» што-небудзь з майго ўжо надрукаванага? На разе — надрукаванага, каб празь нейкі час даслаць ёй недрукаванае? Калі зацікавіць, дык уласьне што ў першую чаргу? Ці можна навязаць лучнасьць зь Мюнхэнскім інстытутам па вывучэньні СССР? Прынамсі хоць зь ягоным зборнікам?*

*Даруйце за просьбы й клопаты. Здаецца, О'Генры сказаў: «Мужчына ня мае права на самалюбства, калі ў яго ёсьць сям'я». Адхіліў я ўбок розныя прапановы (без маіх папярэдніх просьбаў) з боку чужых на эміграцыі і спадзяюся, што свае дадуць мне магчымасьць крыху падзарабіць. Шмат я даслаць не змагу, бо зь вялікімі патрабаваньнямі заўжды стаўлюся да сябе.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Агульнае прывітаньне.*

*З пашанай да Вас*

*Ваш*

[184] Маецца на ўвазе остэаартрыт.

[185] ***Social Security*** — федэральная праграма дапамогі пенсіянерам або інвалідам.

*01.10.61*
*Саўт-Рывэр*

*Дарагі Сябру!*

*Мне прыкра й прашу прабачэньня, што з гэткім значным спазьненьнем адказваю на Ваш ветлівы ліст ад 06.08.61. Мяне меліся паклікаць у Дэпартмэнт Іміграцыі (Нуарк[186]) праз тыдзень пасьля візыты ў канцы жніўня адпаведнага ўрадоўца, аб якой пісаў Вам, але дагэтуль не паклікалі. Таму й затрымаўся з адказам, бо хацелася напісаць аб канчатковых выніках.*

*Вельмі ўдзячны за Вашую згоду пацьвердзіць, калі ў гэтым зойдзе патрэба, што я запраўды: Серафим Щербаков (няўжо гэта я? — Юр. В.).*

*Можа, я й памыляюся, але раблю прыпушчэньне, што Дэпартмэнт Іміграцыі не прыдае гэтай справе асабліва вялікага значэньня, бо дагэтуль не турбуе мяне зь ёй. Пэўне ж за гэты час ён ужо апытваў аба мне каго-небудзь, а магчыма й цяпер апытвае. Увогуле я маю ладне непрыхільнікаў і не зьдзіўлюся з прычыны самога даносу.*

*Справа Ізыдара[187], аб якой Вы ў сувязі з маёй справай згадалі, адрозьніваецца ад мае. Аб гэтай справе чуў ад Сп. Сп. Ханяўкі (падабаецца мне гэты дзядзька), Іг[ара] Шчорса, Сянкевіча ды іншых, і, магчыма, Дэпартмэнт Іміграцыі (а можа, і Эф Бі Ай[188]) цікавіўся тут ня толькі зьменай прозьвішча. Я здаўна зь вялікай пашанай і сяброўскім даверам стаўлюся да Ізыдара, а таму шчыра задаволены, што ягоная справа скончылася добра. Спадзяюся, што і з маёй справай гэтак станецца.*

*Не захаваю ад Вас, што з антыпатыяй стаўлюся да Сп. Др. Шчорса, але ўсё ж ня думаю, каб ён або ягоныя браты спрычыніліся да справы Ізыдара. Фахоўцам у гэтай галіне зьяўляюцца «Иван Иванович» Касяк з сваім стрыечным братам ды амбасадарам Хмары ў Нью-Ёрку[189]. Апошні нават дасылаў адмысловыя апытальнікі, каб потым на падставе іх скласьці данос.*

*Што датычыць Міхася Кавыля, да якога я стаўлюся зь вялікім недаверам, дык сваю думку аб ім я нікому не накідваю.*

---

[186] *Newark, NJ.*

[187] Маецца на ўвазе Ізыдар Плашчынскі.

[188] *FBI, Federal Bureau of Investigation* (анг.) — ФБР, Федэральнае бюро расследаванняў.

[189] Маецца на ўвазе Мікола Панькоў.

*Аднак занадта ўжо Кавыль задробны, каб завяртанцы чамусьці вырашылі пад яго падрабляцца. Разам з тым двойчы Эф Бі Ай, а цяпер Дэпартмэнт Іміграцыі пыталіся ў мяне ў канцы допытаў: «Ці ня ведаеце Иосифа Лещинского?».*

*Цікавае аж патройнае супадзеньне. Я й раней ведаў, што гэткае пытаньне датычыць даносчыка, а вось надысь адзін тутэйшы адвакат пацьвердзіў, што гэткім чынам адпаведныя ўрадоўцы ЗША дэмаскуюць няўдалага й непрыемнага для іх саміх даносчыка. І калі я з шчырай павагай стаўлюся да Вас, Арсеньневай, Ізыдара, Сядуры, Сяднёва, Казака, Салаўя, Дудзіцкага ды іншых, дык ніхто не прымусіць мяне інакш заглядацца на Кавыля, чым гэтак, як я на яго заглядаюся.*

*А ўвогуле ня хочацца пісаць пра гэты бруд, які ўсё ж да нейкае ступені перашкаджае жыць. Спадзяюся, што ўсё скончыцца добра.*

*Шчыра зычу Вам і Старому ўсяго найлепшага ад мяне й маіх.*

*Пішэце пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас*

*Ваш*

*П.С. Пакрысе аб розным.*

** Шкада мне Ўсевалада Краўчанку, якога добра ведаў асабіста. У сёньняшнім № «НРСл» ушанаваў ягоную памяць*[190].

** У часе гучнага вясельля дачкі Сп. Др. Войтанкі («Ужасно шумно в доме Шмеерзона»*[191]*) завітала да мяне былая Рытарыха*[192]*. Скардзілася, між іншым, на тое, што Вы неяк абыякава паставіліся да яе прозы. Цалкам разумею Вас.*

** Мне, як старому… антысэміту (ня ў гітлераўскім разуменьні) спадабаўся ў № 572 «Бацькаўшчыны» артыкул аб жыдох*[193]*. Запраўды, ня варта перабольшваць іх сучасную нацыянальную трагедыю ў СССР у параўнаньні з нацыянальнай трагедый нібы дзяржаўных беларусаў ды іншых падсавецкіх (падрасейскіх) народаў.*

---

[190] Памяти Всеволода Кравченко // Новое Русское Слово. 1 октября 1961.

[191] Назва песні, пачатак якой гучыць так: *«Ужасно шумно в доме Шмеерсона / Ужасно шумно в доме Шмеерсона, / Из окон прямо дым идёт. / Там женят сына Соломона, / Который служит в «Капремонт»».*

[192] Маецца на ўвазе Іна Рытар.

[193] Будзіч, А. [Янка Запруднік] Жыды бядуюць не адны // Бацькаўшчына. № 37 (572). 10 верасьня 1961. С. 1.

*А вось затое не спадабаўся ў № 573–574 «Б» артыкул «Я. З.»*[194]*, прысьвечаны Усеваладу Краўчанку. Сэнтымэнтальны (проста «кашмарны») загаловак і «канцылярыт», ужываючы тэрмін К. Чукоўскага, — «дзеля гэтага», «набіраць сваю сілу», «падчырквае факт», «у сьвятле гэтага», «набіраць асаблівага гучэньня» і г. д. Лепш зусім не пісаць, чым гэтак.*

*Бракуе часу, каб належным чынам адказаць «Ю. Сречинскому», які ў «НРСл» ад 06.08.61 у сваім артыкуле «Русский народ и мировой коммунизм» зазначыў: «и Белоруссия, и Украина были заняты для большевиков главным образом белорусскими и украинскими частями». Што гэта ня так, сьведчыць Вашая добрая праца «Большевизм и установление контроля над Белоруссией». А ў ёй, між іншым, ёсьць цытаты з добра вядомага мне твору Агурскага*[195]*. Увогуле, у Срэчынскага «ловкость рук и никакого мошенства».*

*Нечакана ўбачыў у сёньняшняга Дубоўкі:*

*«Мітусіць лісьцё па аселіцы,*
*як дзьвіна матылькоў-мітульгі».*

*А я раней думаў, што «дзьвіна» (шмат чагосьці) — паветалізм Віцебшчыны. Можа, адсюль і назоў Дзьвіны, які супадае па зьместу з латыскім назовам яе.*

*П.П.С. Ці бачылі недалужную «Субожню»? Асабліва пацешыла біяграфія «эксэлэнцыі»*[196]*.*

---

[194] Я. З. [Янка Запруднік] «Моцна кахаў я цябе, дарагая, але расстацца нам час… » (Да трагічнай сьмерці Ўсевалада Краўчанкі) // Бацькаўшчына. № 38–39 (573–574). 24 верасьня 1961. С. 5.

[195] Кастрычнік на Беларусі: зборнік артыкулаў і дакумэнтаў / Улажыў С. Агурскі. Менск, 1927.

[196] Маецца на ўвазе «Biełaruskaja Chryścijanskaja Artadaksalna-katalickaja Subožnia (Naślednica Litoŭskae Jadnoty)», пазней «Biełaruskaja Chryścijanskaja Subožnia (Artadaksalna-Katalickaja)», у № 1 (13) якой ад 1 студзеня 1961 г. была змешчаная «Кароткая біяграфія» *«Ягонай Эксэлэнцыі Апостальскага Візытатара для Беларусаў Католікаў у Злучаных Гаспадарствах Амэрыкі і Канадзе Ксяндза Доктара Вацлава Мацейчыка»*: *«Я. Э. Кс. Др. Вацлаў Мацейчык нарадзіўся ў вёсцы Пузіневічы Турэцкай гміны Стаўпецкага павету. Ягоны бацька, селянін, быў застрэлены маскоўскімі бальшавікамі ў час «асвабаджэньня» ад Палякаў Заходняй Беларусі. Дванаццацігадовым хлапцом Я. Э. быў вывезены акупантамі ў Сібір, дзе пачаў свой выгнанчы*

*Аднак хопіць.*
*Усяго Вам добрага.*

*18.06.69 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Дарагі Сябру!*

*Сардэчна віншую із 60-годзьдзем Вашага плённага жыцьця, дый дашлі Вам Божа яшчэ спорных дзясяткаў прынамсі з чатыры. Прашу прыняць мае найлепшыя зычэньні, а перадусім добрага здароўя і духовае нязломнасьці, гэтак для Вас уласьцівае. Глыбака пераконаны ў тым, што Вы — сябра слаўнага «Ўзвышша» — яшчэ, далучыўшы да ранейшага, шмат дасьцё для нашае нацыянальнае справы. І ад усяе душы жадаю Вам гэтага ў дзень Вашага юбілею.*

*Дай Вам Божа найбольшае дабрыні!*
*З пашанай да Вас*
*Ваш*

---

*крыжовы шлях, працуючы на вырубцы лесу. Пасьля з Польскім Корпусам г. Андэрса прайшоў праз гарачы Сярэдні Ўсход Азіі, Палестыны, папаўшы ўрэшце ў Англію, а пазьней у Канаду. Сярэднюю асьвету здабыў у Польскім Вайсковым Ліцэі ў 1947 г. У 1950 годзе атрымаў ступень Магістра Штукаў-Мастацтва, абараніўшы тэзу «Чалавек і Грамадзтва ў Паэзіі Бранеўскага» пры Атаўскім Каталіцкім Унівэрсытэце, дзе і прарабіў адносныя курсы дзеля Доктарскай Ступені ў Славістыцы. З прычыны прасьледу Рымскай Царквой доктарскую працу змушаны быў здаваць у «Southern Bible College», за якую атрымаў навуковую ступень Доктара Філязофіі. З прычыны недахопу Беларускага Пратэстанцкага Цэнтру змушаны быў паступіць у Сэмінарыю Польскага Нарадовага Касьцёлу, якую закончыўшы, быў высьвячаны на ксяндза і адпрацаваў пробышчам тры гады на Польскіх парафіях. Аднак шчырая хрысьціянская і беларуская душа Я. Э. стала адчувала крыўду і духовую патрэбу Беларускага народу і не магла пагадзіцца з про-камуністычнай палітыкай Польскага Нарад. Касьцёлу, які ў сучаснасьці супрацоўнічае з чырвоным камуністычным рэжымам Польшчы. Я. Э. пакідае Польскі Нарад. Касьцёл і шукае магчымасьці служыць свайму народу. Навязвае кантакт з Беларускім грамадзтвам і становіцца ў рады Беларускай Хрысьціянскай Субожні (Артадаксальна-Каталіцкай), Насьледніцы «Літоўскае Ядноты», як Апостальскі Візытатар для Беларусаў Католікаў і зацьвярджаецца на гэта становішча і Місію 1-га лістапада г. г. Я. Э. Кс. Др. Мацейчык ёсьць аўтарам шасьці высокакваліфікаваных навуковых, літэратурных і філязафічных працаў».*



*Янка Запруднік*

## Лісты да Янкі Запрудніка

*22.06.57 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Глыбокапаважаны Спадар Запруднік!*

*На вялікі свой жаль, я ня ў стане на працягу бліжэйшага часу, паводля ветлівае прапановы Вашае і Спадара Бурдзеля, даць 3–4 інтэрвію для беларускае сэкцыі радыёстанцыі «Вызваленьне». Прычыны мае прыкрае й тымчасовае адмовы наступныя.*

*Ад уласьне мае сям'і, зьнішчанае, бадай, бальшавікамі, заставаліся, акрамя мяне з маткай, толькі два мае браты. Паводля тых весткаў, што атрымаў і зь якімі маю старую не пазнаёміў — мае браты забітыя на фронце ў часе апошняе вайны, паблізу Ленінграду. Затое мне нічога невядома пра лёс маіх сваякоў з боку жонкі, якія ў часе вайны жылі ў Віцебску і ў ягонае ваколічнасьці. Між тым, калі яны толькі жывыя, дык усім там вядома, што ім сваяком даводзіцца Юрка Віцьбіч.*

*І хоць цяпер у СССР ёсьць закон аб тым, што ў проціlегласьць мінуламу сваякі за сваякоў не адказваюць, але, па-першае, як колішні падсавецкі чалавек, не даю веры шчырасьці гэтага закону, а па-другое, калі нават прыпусьціць, што гэтага закону там прытрымліваюцца, дык за тое зусім незабясьпечаны ад таго, што бальшавікі праз гвалт над жончынымі сваякамі не пачнуць шантажыраваць іх, маю жонку, а значыцца й мяне. І калі я з жонкай ня ў стане стацца ахвярамі гэтага шантажу, дык падуладныя бальшавікам нашыя сваякі такімі, з прычыны майго выступу праз «Вызваленьне», стануцца без сумлеву.*

*Таму дазвольце пытаньне аб маіх інтэрвію лічыць адчыненым і толькі тымчасова адкладзеным. Тым жа шляхам, якім дастаў вестку пра братоў, я ўжо месяц як пачаў праз трэціх асобаў пошукі жончыных сваякоў. Я чамусьці ўпэўнены ў тым, што іх, як і маіх братоў, няма цяпер у жывых. І вось калі гэтая мая ўпэўненасьць неўзабаве, на жаль, пацьвердзіцца, дык тады дазвольце скарыстаць з Вашае прапановы. Мне здаецца, што гэтыя інтэрвію, якія з майго боку ўжо цалкам падрыхтаваныя, ня згубяць свае актуальнасьці, нават спазьніўшыся на месяц-другі.*

*А на разе шчыра зычу Вам усяго найлепшага.*

*Ветліва прашу пісаць мне.*

*З пашанай да Вас*

*Ваш*

*31.01.60 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Глыбокапаважаны Спадар Запруднік!*

*Удзячны за Ваш ліст ад 26.01.60 г. Кніжку П. В. Сытина «Откуда произошли названия улиц Москвы» я калісьці меў у сваёй кніжніцы, бачыў яе таксама на паліцы ў «Фор Кантынэнт Бук»[197], але… Калі я думаю цяпер пра вуліцы добра знаёмае мне асабіста Масквы з гэткімі назовамі, як «Хамовники, Собачья Площадка, Разгуляй, Швивая (былая Вшивая), Горка, Болвановка» і г. д, дык мне прыгадваецца адразу расейская салдацкая песьня:*

[197] ***Four Continent Books*** — кнігарня ў Манхэтане. Кнігу Сыціна перавыдалі ў 1959 г.

*По улицам московским грязным*
*Ишёл мужик Демьян*
*Гораздо пьян,*
*А сзади шла его Евсеевна —*

*далей суцэльнае шматкроп'е, ад якога трамваі сыходзяць з рэйкаў. Гэта адзіная асацыяцыя.*

*Акрамя Сыціна пра паходжаньне назоваў маскоўскіх вуліцаў пісалі больш ды цікавей Гіляроўскі, Дабрынін, Самакутаў. Аднак няма ў мяне найгалоўнага — цеплыні да маскоўскіх назоваў. Няма тае радасьці, зь якой я, напрыклад, даведаўся надысь пра паходжаньне назову мястэчка Індура і адразу ўсплыло ў памяці:*

*Да Ружанкі па абаранкі,*
*Да Індуры па куры,*
*Да Бераставіцы па рукавіцы.*

*Змалку знаёмая мне калыханка, сардэчная матчына калыханка, хоць над маёй асабістай калыскай яе й не сьпявалі.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*З пашанай да Вас*

*17.06.65 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Глыбокапаважаны Спадар Запруднік!*

*Вельмі ўдзячны за ветлівае павіншаваньне ды добрыя зычаньні з нагоды 60-х угодкаў майго жыцьця. Вашая тэлеграма для мяне тут, самотнага, набыла асаблівую прыемнасьць.*

*Шчыра зычу Вам усяго найлепшага.*

*З пашанай да Вас*
*Ваш*

*17.07.66 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Глыбокапаважаны Спадар Запруднік!*

*Дзякую за атрыманыя мной учора № 6 «Полымя» і 13 паасобнікаў «Звязды» на суму 1 даляр 10 цэнтаў. Такім чынам я вінаваты Вам 35 цэнтаў (мой ліст ад 10.07.66 г.) і дасылаю адначасна 1 даляр, спадзяючыся, даруйце за клопаты, на Вашую ветлівасьць у далейшым. Таксама ўдзячны й Сп. Станіславу Станкевічу за ягоны намер даслаць мне набыты ім № «Полымя».*

*У № 6 «Полымя» мне вельмі спадабалася аповесьць Лідзіі Арабей «На другой зіме вайны». Гэта запраўднае мастацтва.*

*А вось затое дужа не спадабаўся пачатак аповесьці Паўла Кавалёва «Падзеньне Хвядоса Струка». Схема, штамп, агітка, што перагукваецца аж да дробязяў з кніжыцай Макара Пасьлядовіча «Па воўчых сьцежках». Пэўне ж невыпадкова, бо абодва шэранькія ва ўсіх адносінах літаратары.*

*Неблагі таксама артыкул пра майго земляка Мікалая Нікіфароўскага, якога, між іншым, тры кніжкі маю ў сваёй кніжніцы. І нішто гэтак не характарызуе бэсэсэраўскага калябаранта, як наступныя радкі зь верша «Румынскія эцюды» Міколы Сурначова:*

*Прэч з дарогі!*
*Бачыце, на Захад ступіла Расея.*
*А ў яе салдацкія ногі.*

*Проста хочацца скарыстаць гэтае як эпіграф да наступнага твору.*

*У «Звяздзе» ж найбольшае ўражаньне спакідае афіцыяльная табліца выйграшаў грашова-рэчавай лятарэі 1966 г., дзе падаецца кошт тых самых рэчаў, як, напрыклад, халадзільнік «Мінск» — 220 руб., тэлевізар «Зорка» — 354 руб., аўтамашына «Масквіч» — 4511 руб. 25 кап.*

*Няма ў мяне адпаведных лічбаў пад рукой, але цікава, колькі часу трэба працаваць савецкаму работніку, каб набыць гэтае. Не ўяўляю таксама сабе, каб у ЗША разыгрываліся ў лятарэю жакеты, дываны, электрабрытвы, палаткі, веласіпэды і г. д.*

*Дык дазвольце яшчэ раз падзякаваць за дасланае.*

*Шчыра зычу найлепшага адпачынку, якога, між іншага, дастану праз тыдзень.*

*З пашанай да Вас*
*Ваш*

*П.С. З кніжкаў, набытых праз Камкіна*[198]*, мне спадабалася «Археология Белоруссии» Э. Загарульскага. Нарэшце навукова абгрунтавана (раней меліся домыслы), што радзіміцкія курганы адрозьніваюцца ад крывіцкіх і дрыгавіцкіх жаночымі завушніцамі. Завушніцы радзімічанак маюць 7 праменяў, што зусім не ўласьціва завушніцам крывічанак і дрыгавічанак.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

[198] Маецца на ўвазе кнігарня ў Манхэтане, што гандлявала кнігамі з СССР.

*П.П.С. Калі Вам у часе адпачынку давядзецца трапіць у Саўт-Рывэр, дык прашу не амінуць маіх «румоў»*[199] *— буду вельмі рады. Не бярыце прыклад з Масея Сяднёва, які, трапіўшы сюды, ня толькі не завітаў да мяне, але распаўсюджваў розныя недарэчныя плёткі па маім адрасе. Эх, Мося, Мося, што мне з ТАБОЙ рабіць?*

*08.10.66 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Глыбокапаважаны Спадар Запруднік!*

*Перадусім, дазвольце падзякаваць Вам за тое, што праз «Навіны зь Беларусі»*[200] *(№ 65) пазнаёміўся зь вершамі Анатоля Грачанікава «Паэта» і Генадзя Бураўкіна «Ёсьць турма болей страшная». Запраўднае мастацтва, цудоўныя творы.*

*Гэты мой шчыры выснаў перагукваецца з канчаткам майго чарговага артыкулу «Цьвілікае шэранькі верабейчык», які адначасна дасылаю для ветлівага азнаямленьня*[201]*. Апошнім часам пішу вылучна для самога сябе — ня ў стане не пісаць, але напісанае на разе не дасылаю для друку. Такім чынам і паназьбіраў колькі твораў (на дзьвюх мовах), якія лічу больш-менш нясконченымі.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Прашу перaказаць мае прывітаньні Спадарыні Арсеньневай і Спадару Адамовічу.*

*Пішэце, калі ласка.*

*З пашанай да Вас*
*Ваш*

*22.10.66 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Глыбокапаважаны Спадар Запруднік!*

*Вельмі ўдзячны за ветлівую дасылку Вамі артыкулу «Не вам беларусамі звацца!» («Звязда» ад 15.10.66 г.), у якім згадваю-*

---

199 *Room* (анг.) — пакой.

200 **«Навіны зь Беларусі. (Агляд савецкага друку)» —** перыёдык, што выходзіў у 1963–1969 гг. пад рэдакцыяй Янкі Запрудніка.

201 Віцьбіч, Юрка. Цьвілікае шэранькі верабей // Беларус. № 116. Сьнежань 1966. С. 2. Артыкул прысьвечаны Станіславу Шушкевічу.

*ся і я*[202]*. Перадусім, даволі сьмешным здаецца ягоны назоў, бо нібы ад кагосьці залежыць зьмена месца майго нараджэньня зь Вяліжу ды на Парыж. Па-другое, сталася даволі сумна за тых беларускіх здатных маладых літаратараў, чые подпісы падпіраюць сабой бездапаможны твор, напісаны шараговым газэтчыкам або «палітруком» з мазгамі на бакір.*

*Калісьці, яшчэ ў 30-ыя гады, Міхась Лынькоў запрапанаваў двом літаратарам — мне й Рыгору Казаку — напісаць для чарговага № «ЛіМ»'у сваё ўражаньне аб Сталінскай канстытуцыі. Зразумела, што мы адразу напісалі і атрымалася нават няблага, як сьцьвердзіў той жа Лынькоў. А паспрабавалі б не напісаць? А паспрабавалі б восем аўтараў артыкулу «Не вам беларусамі звацца!» ня даць свае подпісы пад ім? Праўда, цяпер не «яжоўшчына», што спадарожнічала абмеркаваньню ў друку Сталінскае канстытуцыі, але ж…*

*Восем маладых клянуцца, што «Лінія партыі, ачышчаная ад скажэньняў культу асобы, ад валюнтарызму і кан'юнктуршчыны — наша лінія», г. зн. іхняя лінія, а між тым, дзякуючы сваёй шчырай любові да Беларусі, яны шмат чым у сваёй творчасьці разбураюць камунізм. Не дарма ж Броўкі ўсіх нацыяў не шкадуюць памыяў для Васіля Быкава?*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Прывітаньне Сп. Сп. Арсеньневай і Адамовічу.*

*Пішэце.*

*З пашанай да Вас*

*Ваш*

*П.С. Дастаў учора ліст ад суродзіча з Ангельшчыны, да якога дакладзеная вытрымка са «Звязды» за 1937 г., дзе згадваюцца рэпрэсіраваныя беларускія літаратары, а ўласьне:*

*«Чарот — гэта вораг народу, а творчасьць яго поўная подлага здрадніцтва інтарэсаў краіны.*

---

[202] У 1966 г. «Звязда», «Літаратура і мастацтва» і расійская «Литературная газета» надрукавалі артыкул за подпісамі Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Васіля Быкава, Анатоля Вярцінскага, Ніла Гілевіча, Івана Пташнікава, Барыса Сачанкі, Івана Чыгрынава. У лістападзе ліст пад назвай «Наш адказ» падпісалі Кастусь Акула, Юрка Віцьбіч, Рыгор Крушына, Station Станкевіч. Ліст быў напісаны Станіславам Станкевічам пры ўдзеле Антона Адамовіча і Янкі Запрудніка.

*Зарэцкі — контррэвалюцыянэр, мярзотнік і нягоднік, які ў сваёй творчасьці праводзіў праграму нацыянал-фашызму.*

*Баранавых — ядавітая кулацкая гадзіна, а культура яго на ўзроўні дарэвалюцыйнага канавала».*

*Пад артыкулам подпісы — Андрэй Александровіч і Алесь Кучар. Чаму б васьмі не запытацца ў Кучара, дзе літаратурныя бацькі сучасных маладых літаратараў?*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*01.11.66 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Глыбокапаважаны Спадар Запруднік!*

*Калі толькі я не спазьніўся, дык прашу не набываць для мяне ў «Фор Кантынэнт Бук» № 8 «Беларусі». Мне дастаў яго й даслаў Дзядзька Міцкевіч.*

*Вялікае ўражаньне спакідае «Балады каменя» Ўладзімера Караткевіча ў зборніку «Дзень паэзіі». Цудоўная рэч, пад якой хочацца расьпісацца аберуч. Добра было б пазнаёміць зь ёю шырокія колы эміграцыі, перадрукаваўшы яе на старонках «Беларуса» або якога-небудзь іншага нашага выданьня, накшталт «Беларускае Моладзі». Перадрукавала ж «НРСлово» Васіля Быкава «Мёртвым не баліць». І, між іншага, характэрна, што няма подпісу Ўладзімера Караткевіча пад «Не вам беларусамі звацца!».*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас*
*Ваш*

*П.С. Можа, Вы прачыталі мой артыкул «Цьвілікае шэранькі верабей»? Пытаюся таму, што адначасна дасылаю копію ліста Міколы Цэлеша аб гэтым творы, які мае друкавацца ў сьнежаньскім нумары «Беларуса». А ўсё ж тхне ад Цэлеша прасаветчынай — вырашыў больш зь ім не ліставацца.*

*Дарэчы, аб бальшавіцкіх паліткатаржанах. Калісьці я працаваў над кніжкай «Не чарнілам, а крывёю», фрагмэнты зь якое друкаваліся ў «Шыпшыне». Матар'ялам для яе паслужыліся ўспаміны Сяднёва, Клішэвіча, Лебяды, Адамовіча, Сядуры, Я. Кіпеля ды іншых, якія толькі частко-*

*ва скарыстаў дагэтуль. Акрамя таго яшчэ за часы вайны ды ў ДП-лягерох запісаў успаміны дзясяткаў колішніх савецкіх вязьняў. Чаму Цэлеш ня едзе ў Менск? Яго ж запрашалі? Праўда, там цяпер няма «культу Сталіна», але Сахно з Гарбацюком засталіся.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*01.08.67 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Глыбокапаважаны Спадар Запруднік!*

*Вельмі ўдзячны за дасланыя Вамі № 6 «Полымя» за 1967 г., як і за сёлеташнія №№ 1, 3, 6 «Беларусі». Акурат №№ 1 і 3 мне бракавала для камплекту, а, найгалоўнае, у іх ладне чаго ёсьць цікавага. Дзякую!*

*Перадусім, прашу Вас перадаслаць мой маленькі ліст, які тут дакладаю, да Спадарыні Натальлі Арсеньневай, бо, на жаль, ня ведаю ейны адрас, каб даслаць беспасярэдне. Прабачце за клопаты.*

*Дазвольце цяпер падзяліцца сваймі ўражаньнямі аб ветліва дасланым, хоць яшчэ й павярхоўна зь ім пазнаёміўся. Цешыць, што ў сваім зьместоўным артыкуле пра Скарыну («Полымя», № 6) Язэп Юхо згадвае яго як Франьцішка. З асаблівай прыемнасьцю пазнаёміўся ў артыкуле Юліяна Пшыркова з адмоўнай характарыстыкай незабытнага Лукаша Бэндэ. Усім ён за тыя часы залез за скуру, а ў тым ліку й мне. Між іншым, ён забараніў у ДзВБ[203] да друку маю кніжку «Лшоно Габоо Бійрушалайм» дый акрамя гэтага чапляўся на кожным маім кроку. Увогуле трапна заўважыў хтосьці — «Ці ня ходзіць Бэндэ там з наганам?». Пад неблагімі вершамі Івана Леткі нечакана заўважыў назоў знаёмага мне з юнацтва заводу — Масква, аўтазавод імя Ліхачова, або тагочасны — АМО. Дарэчы, цалкам разумею ягоныя літаратарскія цяжкасьці, бо й сам распачынаў свой беларускі пісьменьніцкі шлях у Маскве. Добра таксама, што ў зацемцы для Беларускай Энцыкляпэдыі пра добрага беларуса Сьцяпана Некрашэвіча згадваецца і ягоны тагочасны напарнік па слоўніках Мікола Байкоў, закатаваны бальшавікамі ў часе вайны ў Нямеччыне. Мяне гэта асабліва*

---

[203] **ДзВБ** — Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі.

*ўсхвалявала, бо ў сваіх лістах абараняў ягоную сьветлую памяць ад паскудных закідаў а. Пятроўскага*[204]*.*

[204] З ліста а. Яна Пятроўскага да Юркі Віцьбіча ад 25.06.67: *«Прыпамінаецца мне, недзе чытаў я ў ангельскай мове нейкую малітву, у якой аўтар прасіў Бога, каб Ён дараваў яму на старасьць здольнасьць добрага думаньня. У сувязку з гэтым матывам прыпамінаецца мне адно дзіўнае здарэньне, якім хацеў бы падзяліцца з Вамі, проста з мэтаю зафіксаваньня яго на паперы.*

*Было гэта, мусіць, недзе ў сярэдзіне 1944 г. Прыбыў у Бэрлін у Вінэту прафэсар Байкаў. Прадстаўляючы ўсім нам прафэсара, фон Врэдэ сказаў, што з гэтае пары ў нашай рэдакцыі апошнім аўтарытэтам у беларускай мове будзе прафэсар Байкоў. Я ня ведаў, чаму, але зь першае гадзіны прыбыцьця праф. Байкава ўсе супрацоўнікі казалі: Будзьце асьцярожны зь ім! І мы былі асьцярожны зь ім. Дый хоч ня хоч — мусіш быць зь ім «асьцярожным». Зь ягонага слуху мусіць не асталася болей як якіх два працэнты. Зь ім ніхто не гаварыў, бо ня было магчымасьці лёгка скамунікавацца зь ім. Дзякуючы страце слуху, ён даўно ўжо згубіў кантакт з жывою беларускаю моваю, дый наогул, як пасьля факты пацьвердзілі, ён згубіў кантакт з жывымі людзьмі і палітычнымі падзеямі, якія разгортваліся навокал яго, за што ён і заплаціў уласным жыцьцём.*

*Праф. Байкоў зусім не разумеў рэчаіснасьці, але вельмі хацеў прыслужыцца сільнейшым. З гэтае прычыны ён часта зьвяртаўся да мяне з прапановаю разам зь ім перакладаць зь нямецкае мовы на беларускую твор Ю. Розэмбэрга «Міт дваццатага стагодзьдзя». Гутарка зь ім была толькі ўзраковая. Можна было глядзець на яго, і ён глядзеў на мяне — і гэта ўсё. Ён мусіць ну здагадваўся, што я не падзяляю паглядаў Розэмбэрга, выражаных у ягоным творы. І няма ніякай пэўнасьці, што праф. Байкоў добра ведаў, пра што ён гаворыць. Але ў гутарцы зь ім няможна было сказаць яму «не», як ня можна было сказаць «так». Бо ж яго трэба было «высьцерагацца»! Так ці інакш, пэўным аставалася, што прафэсар згубіў вычуцьцё часу, у якім ён жыў. Бо калі б нават ён вельмі натужыўся сам і прыдбаў сабе некалькі памагатых, дык і тады ўжо не аставалася часу добрага, каб гэткі твор перакласьці. Але ён гэтак быў сканцэнтраваны ў самым сабе, што пра ўсё іншае забываўся…*

*Аднойчы вярнуўся я гэтаксама раней з абеду і сядзеў за сваім пісьменным сталом. Зараз за мною ўвайшоў і Байкаў і сеў за сваім сталом, які знаходзіўся насупраць мяне на значную адлегласьць, бо гэта быў вялікі пакой-заля, якую займала ўся рэдакцыя пасьля таго, як нас выбамбілі з займаванае раней. Назіраючы яго, я заўважыў, што ён нешта ў руках трымае й мае дзіўна ўсьміхнуты твар. Дзеля таго, што гэта трывае нейкі час, улавіўшы мамэнт, калі наш узрок*

*У № 1 «Беларусі» благое ўражаньне спакідае верш Янкі Непачаловіча «Імя сыну», у якім бацька, Янка, надае зь вядомых меркаваньняў свайму сыну імя «Ваня». У № 3 падабаюцца, як заўжды перад тым, вершы Дануты Бічэль-Загнетавае. Нічога новага няма ў артыкуле пра Алеся Чарвякова, але добра хоць, што згадваюць аб ім. У № 6 «Беларусі» абурае зацемка пра вылучную пашану саветчыкаў да помнікаў Віцебску. Цяжка пералічыць усе зьнішчаныя імі там помнікі на чале зь беларускай нацыянальнай сьвятыняй — царквой Дабравешчаньня. Жалю годная таксама спроба перакруціць на свой капыл вядомую гістарычную песьню аб «хлопцах-пяцігорцах»*[205]. *І цешыць хіба толькі трапная заўвага ў лістох Міколы Сурначова пра мяшчаніна Айзіка Кучара, які ў пачатку вайны бегаў знэрваваны каля Дому Пісьменьніка, каб толькі не спазьніцца на эшалён для ўцекачоў.*

*Не падлягае сумлеву рост і росквіт падсавецкае мастацкае літаратуры ў БССР. Але разам з тым ёй уласьціва ад-*

---

*спаткаўся, я даў яму кіўком галавы ўверх што хацеў бы ведаць, што ён там такое аглядае і гэтак радасны. Зразумеўшы мяне, прафэсар цяжкім рухам устаў з фотэлю і, нахіляючыся цяжарам уласнага цела, накіраваўся да мяне. Прыйшоўшы да мяне, ён падаў мне сваю маленькую фатаграфічную картачку, выцертую ўжо ў кішэні, гэткую, якія я аглядаў ужо і ў іншых людзей: гэта маленькая фатаграфія, якою агледжаліся ўсе савецкія паспарты — бяспрофільная і тэхнічна дрэннага выкананьня. Аглядаючы пададзеную фатакартку, я бачыў твар старога чалавека, плоскае выкананьня й стырчачыя двое вушэй. Падаючы мне гэтую фатографію, не выгаворваючы літары «г», прафэсар сказаў: «Лядзіце, якая разумная твар!»*

*Я быў ашарашаны, чуючы гэта. Я павярнуў да яго свой твар, і, здушваючы ў сабе зьдзіўленьне, рабіў натугу, каб не пакрыўдзіць нявіннага, але закаханага ў сябе дарослага чалавека.*

*У сваёй аналізе ён прыйшоў да пераканаьня, якое гарантавала яму здаволенае й радаснае існаваньне. Гэта ня важна, якою цацкаю дзіця забаўляецца — важна, каб яно ня плакала. І прафэсар Байкоў ня плакаў. Ён радаваўся. Радаваўся да тае пары, пакуль ворганы палітычныя Савецкага Саюзу прыйшлі і не забралі яго. І тады, як казалі нямецкія гаспадары пані Дубейкаўскай (і гэтая пазьней мне апавядала) ён роў, як вол, якога вялі ў бойню».* (Віцьбіч-Стукаліч. Ян Пятроускі. Факты Мінулых Дён. Вспоміны… Gainsville, Florida, Usa: Выдавец Ян Пятроўскі, 1999. [Старонкі ненумараваныя]).

[205] Маецца на ўвазе песня XVI ст. «Бітва пад Воршай».

*на вялікая загана. У 20-х і 30-х гадох блізу кажны беларускі паэта й празаік меў свой апрычоны твар. Па 2–4 радкох або абзацах можна было адразу адрозьніць Хадыку ад Пушчы, Маракова ад Лужаніна, Дубоўку ад Дудара, Каваля ад Галавача, Зарэцкага ад Самуйлёнка і г. д. Нават ня можна было зблытаць шмат у чым падобных Калюгу й Чорнага, і аж самы пераймальны з усіх Паўлюк Трус, якога часам невыпадкова называлі Паўлюк Шпак, усё ж меў свой апрычоны літаратарскі твар. Цяпер жа трэба прачытаць нізку вершаў або дзясяткі старонкаў прозы, каб больш-менш адрозьніць аднаго літаратара ад іншага. Ёсьць у гэтай галіне вылучэньні («гэрэтыкі»), але яны толькі выпукляюць агульную безасабовасьць. І гэта вельмі й вельмі сумна. Тым болей, што зусім бескаляровыя ды ўбогія кавалёвы прылучацца да таго, каб канчаткова забіць усё асабістае, каб стварыць агульнаабавязковы калектыўны савецкі стандарт.*

*Шчыра зычу ўсёго найлепшага.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу й ахвоты.*

*З пашанай да Вас*

*Ваш*

*24.08.67 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Глыбокапаважаны Спадар Запруднік!*

*Кагадзе прыйшоў з пошты — даслаў у «Божым Шляхам» нарыс «Зарніца ў беспатольнай цемры»*[206]*. Тыдзень таму скончыў для каляндару БАПЦ артыкул «Менск, а не Мінск» (Зьіначаныя геаграфічныя назовы на Беларусі)*[207]*. Днямі, «Е. Б. Ж.»*[208]*, мяркую, нарэшце скончыць даўно ўжо распачаты, а потым на значны час адсунуты ўбок нарыс «Спадманулі русальчыны сьцежкі», прызначаны 60-годзьдзю ад дня нараджэньня Эдуарда Самуйлёнка, які памёр у Сасноўцы пад Віцебскам бадай што ў мяне на рукох. А на разе шчыра цешуся з магчымасьці перагукнуцца з Вамі, і даруйце за спазьненьне з адказам на Ваш ветлівы ліст ад 10.08.67 г. Прыпушчаю, што Вы ўжо*

[206] Віцьбіч, Юрка. Зарніца ў беспатольнай цемры. (Ворша, 1067–1967) // Божым Шляхам. № 5 (104). Верасень–кастрычнік 1967. С. 10–12.
[207] Беларускі праваслаўны каляндар на 1968 г. Нью-Ёрк, 1967. С. 66–71.
[208] «Е. Б. Ж.» (руск.) — скарот выразу «Калі буду жывы».

*зьвярнуліся з Манрэалю, але на работу яшчэ не пайшлі, і таму пішу на Ваш хатні адрас.*

*Перадусім, дзякую за знойдзенае ймя бацькі слаўнага Ўсевалада Ігнатоўскага. Нас, беларусаў, імя па бацьку не турбуе, на Віцебшчыне, напрыклад, яно зьіначалася б на Макаронак, дый то толькі ў тым выпадку, калі на вёсцы шмат цёзкаў або аднапрозьвішнікаў, але трэба пацешыць былога вучня Ўсевалада Ігнатоўскага зь менскага рэальнага вучылішча Хайкіна, які дамагаецца ад мяне ягонага «отчества». Дзякую.*

*Цешуся, што разьвітаньне з нашай Натальляй Арсеньневай адбылося добра й нават пад акампанэмэнт перуноў, якія, між іншым, люблю*[209]*. Толькі не пішэце, калі ласка, Ларывонаваму сыну*[210] *(за бацьку хаваецца), колькі прысутнічала пры гэтым асобаў — каб, крый Божа, ня дастаў нэрвовы кідун. Таксама не пахваляйцеся, што «выпіўкі й закусі стала на ўсіх», бо каб я скінуў са сваіх плячэй, прынамсі, дзесяць год дый, паводля ветлівага запрашэньня, завітаў, дык першага бяз сумлеву забракавала. А ўвогуле пашчасьліў Божа Арсеньневай на новым мейсцы, ад душы ёй зычу як найбольш здароўя ды новых посьпехаў у творчасьці.*

*Мне здаецца, што цяпер, акрамя тэлефону, яна пачне пісаць лісты, якія на самоце прыемна пісаць і атрымліваць. Аднак разам з тым у мяне няма аніякіх падставаў, каб скардзіцца на сваю нейкую самотнасьць. Часам зусім ня сумна аднаму са сваймі думкамі і асабліва ў часе творчасьці або над добрай кніжкай. А потым мяне, дзякуй ім, наведваюць час ад часу добрыя суродзічы. Гэтак, завіталі да мяне, ды неаднойчы, — Др. Васілеўскі, Ул. Бакуновіч, Час. Ханяўка, Ант. Шукелайць, Міх. Міцкевіч і ладне іншых. Зразумела, што аніякі ліст не дае гэтулькі, як беспасярэдняя гутарка. Між іншым, ад Сп. Бакуновіча дазнаўся шмат цікавага пра беларусаў Аўстраліі, пра Лувэн і «Бацькаўшчыну» за ягоную там бытнасьць, пра сучаснае наша жыцьцё — ён разумны й цікавы апавядальнік. Ад Сп. Ханяўкі дастаў падарунак — рэпрадукцыю малюнка, на якім воўк уначы дзівіцца на зімнюю вё-*

[209] Наталля Арсеннева ў 1967 г. пераехала з Нью-Ёрка да сына ў Рочэстар. Гл.: Разьвітаньне з Натальляй Арсеньневай // Беларус. № 125. Верасень 1967. С. 2.

[210] Маецца на ўвазе Масей Сяднёў.

*ску — паважаю гэтага зьвера за ягоную, хай сабе й дзікую, вольналюбівасьць. Павесіў гэты малюнак на сьценцы, зірну на яго ды згадваю з Уладзімера Салаухіна:*

*Дрожите в подклети,*
*Когда на охоту мы выйдем!*
*Всех больше на свете*
*Мы, волки,*
*Собак ненавидим.*

*А надзвычайны Дзядзька Міхась[211]? Нібы ўсё Панямоньне завітала ў хату. Акрамя таго, маем усе разам прымусіць яго напісаць пра Ўсебеларускі Кангрэс, а тым больш з прычыны ягоных угодкаў. Не кажу ўжо пра крэўнае сваяцтва з дарагім Якубам Коласам.*

*Вітаю Ваш намер наведаць мяне. Тое ж мяркуе неўзабаве зьдзьейсьніць і Сп. Др. Тумаш. Сустрэну зь вялікай прыемнасьцю.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас*
*Ваш*

*П.С. Дасылаю адначасна копіі некаторых маіх лістоў і прашу, калі маеце ахвоту, зь імі пазнаёміцца.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*П.П.С. Перачытаў ліст і мушу дадаць, што ня сумна ня толькі над добрай кніжкай. Вось, напрыклад, учора даведаўся з кніжкі Ўладзімера Глыбіннага «На сонечных берагох»[212], што «негрыцянка зьбялела як палатно». Не, не дарма грошы на яе выдаткаваў. Не выпадкова ў ёй, акурат пад прачулым аўтографам, прыклеіў і квіток на 5 даляраў, які ён мне пасьля паўторнага (бракуе мне сумленьня) рахунку і паводля мае просьбы даслаў. Дзякуй яму за асалоду. Каб грошы меў, дык і 100 даляраў не пашкадаваў бы. Дальбог жа.*

[211] Маецца на ўвазе Міхась Міцкевіч.

[212] Дакладная назва кнігі Уладзіміра Глыбіннага, выдадзенай у 1964 г., — «На берагох пад сонцам».

*Копія*

*12.07.67 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Глыбокапаважаны Спадар Шукелайць!*

*З прыемнасьцю згадваю Вашую ветлівую візыту да мяне, што аднаўляе, спадзяюся, нашую старую добрую лучнасьць. Цешуся таксама з тае прычыны, што дзякуючы Вам займеў нарэшце магчымасьць пазнаёміцца з кніжкай Айца Язэпа Гэрмановіча «Кітай. Сібір. Масква». Дазвольце на разе й падзяліцца сваймі ўражаньнямі аб ёй.*

*Нават у сваёй сьціплай кніжніцы я маю літаратуру, прысьвечаную тэй тэме, якую разьвязвае А-ц Гэрмановіч, а ўласьне кніжкі: Р. Иванов-Разумник «Тюрьмы и ссылки», Ю. Марголин «Путешествие в страну Зэ-Ка», В. Ширяев «Неугасимая лампада», К. Петрус «Узники коммунизма».*

*Акрамя таго перахоўваю ў адпаведнай папцы шмат успамінаў аб савецкай катарзе, якія выразаў з расейскае, польскае, украінскае і г. д. прэсы. У дадатак, паводля ўспамінаў былых бальшавіцкіх вязьняў, і сам надрукаваў ладне артыкулаў і нарысаў аб ахвярах Расейскае чырвонае імпэрыі. Аднак кніжка А-ца Гэрмановіча выгодна адрозьніваецца ад сяго-таго з прыгаданага, яна ў іншым, сваім апрычоным пляне разьвязвае нязновую тэму, яна адбіваецца ў памяці.*

*Перадусім, гэтая кніжка спачатку й да канчатку беларуская. І справа тут ня ў мове, не ў літаратурных рэмінісцэнцыях (Багушэвіч, Купала, Буйла, «Тарас на Парнасе»), не ў фальклёры, які аўтар добра ведае ды ўдала скарыстоўвае, а ў самае нацыянальнасьці аўтара, у беларускасьці ягонага характару. Для беларуса характэрная трываласьць, сталы супраціў розным вонкавым ды хатнім нязгодам, адпорнасьць. Іншыя народы даўно б зьніклі, апынуўшыся ў беларускіх гістарычных умовах, але жыве «беларус неўмірушчы», як заўважыў Янка Купала. А-ц Гэрмановіч зьяўляецца ўвасабленьнем гэтае нашае істотнае нацыянальнае рысы, зь якой спалучаецца ў яго глыбокая вера ў Бога й прыроджаная душэўная чысьціня.*

*Шмат чаго я выпісаў зь ягонае добрае кніжкі, як, напрыклад, адказ сьледчаму Іванову: «Каб ад Бога адрокся ўвесь сьвет і ўсё духавенства і навет сам рымскі Папа, дык гэта для мяне ня мела б ніякага значэньня, бо я адказваю толькі перад Богам…»*

*Або: «Магамэтане раскладвалі дыванчыкі, або хусьцінкі, і білі паклоны ў бок Мэккі. Праваслаўныя шырока хрысьціліся й малітвы гаварылі голасна. Каталікі мелі ражанцы з хлеба, шапталі пацеры й біліся ў грудзі, а некаторыя зь іх спавядаліся ў сваіх сьвятароў. Сэктанты, адны маліліся стоячы й моўчкі, а другія станавіліся на калені і падымалі рукі да неба. Рэдка хто зь вязьняў не маліўся».*

*Ці: «Паручаю ягоную душу бясконцаму Божаму Міласэрдзю! Каб Бог яе супакоіў у ціхай вечнасьці. Бо на гэтым сьвеце ён шукаў праўды й справядлівасьці ды дабра, хоць і хвальшывымі дарогамі, і ня меў ні дабра, ні шчасьця. Вялікі разбойнік і слабы чалавек... і вельмі няшчасны».*

*Гэтая вера й чысьціня душы дазваляюць аўтару з нашым народным гумарам ставіцца да вельмі далёкіх ад гэтага гумару жудасных абставінаў, як, напрыклад: «Цьвік у чаравіку ўжо добра ўеўся ў пяту: чую кроў там, а боль пранікае аж да сэрца. Здаецца, што пята самая малаважная частка ў нас, але яна мне так жа дарагая. І пята ёсьць апошняй інстансіяй, куды, як ведама, у вялікім страху «ўцякае душа». А як цьвік зрабіў дзіру, дык што будзе з душою? І ад пяты згінуў найбольшы герой у гісторыі, Ахільлес. Ой, гора мне...»*

*Або: «Але ён так зжыўся з грахамі, што піў іх, як ваду, і дыхаў імі, як паветрам. Каб хто невядома як адукаваў сьвіньню, дык яна памытая, як здарыцца нагода, палезе зноў у балота, а пасьля абатрэцца аб чыстага чалавека».*

*Ці: «Я зьеў не сьпяшаючыся, падзякаваў як умеў і пайшоў такі задаволены, як той у казцы мядзьведзь, што за камаром сем міль гнаўся. Злавіў і зьеў: «А ўсё ж такі, кажа, пасілак маю!»*

*Пэўне ж у кніжцы ёсьць стылёвыя й моўныя хібы ды шурпатасьці. Зусім бездапаможнай выглядае мастацкае афармленьне вокладкі кніжкі — нібы хтосьці абуў яе ў лапці. Але гэта ўжо другараднае, не істотнае ў параўнаньні з тым уражаньнем, якое спакідае зьмест. Хочацца нават напісаць аб ёй грунтоўны артыкул-агляд. А найгалоўнае — падзякаваць Высокашаноўнаму Аўтару ды пажадаць яму 100 год найлепшага жыцьця.*

*Шчыра зычу Вам усяго найлепшага.*
*Прашу перадаць маё прывітаньне Спадару Гладкаму*[213].
*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*
*З пашанай да Вас*
*Ваш*

*21.06.1968 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Глыбокапаважаны Спадар Запруднік!*

*Вельмі ўдзячны за Ваш добры ліст ад 14.06.1968 г., а таксама за № 105 «НзьБ», № 5 «Полымя» і № 5 «Беларусі» за 1968 г., як і за адбітак пачатку цікавага артыкулу Вадзіма Круталевіча аб Булаку-Балаховічу. У сувязі з апошнім хочацца ўдакладніць адну фармальную справу — у зьмесьце на дакладзенае вокладцы № 3 час. «Неман» за 1968 г. ня згадваецца гэты артыкул. А можа, № 4 або № 5 «Н»? Пытаюся, каб ня памыліцца ў часе магчымых у будучыні спасылкаў на крыніцу. Дарэчы, з прамежкам у 2 дні атрымаў у другі раз гэты артыкул, што не абцяжарвае мяне, але, магчыма, спрычынілася да залішняе працы й клопатаў Вам. І спадзяюся, што паводля Вашага ветлівага абяцаньня, атрымаю неўзабаве адбітак з працягам артыкулу Круталевіча.*

*Заўчора на невядомы час завёз сваю Спадарожніцу ў шпіталь — у яе нешта падазронае на аднаўленьне рака, з прычыны якога яна мела 10 год таму апэрацыю. Мушу таксама пільнаваць у хаце сваю 92-гадовую матку, што патрабуе сталага дагляду. Ужо нічога не пішу пра свае собскія нядужасьці — яны падпарадкуюцца папярэдняму. Увогуле — знаходжуся паміж шпіталём і хатай ды спадзяюся на ласку Божаю. Шмат чым абавязаны добраму Спадарству Банкетаў — калі ён вязе мяне да жонкі ў шпіталь, дык Спад. Банкетава ў гэты час пільнуе маю маці. Між іншым, сёньня маюць мне паставіць тэлефон, які, па-першае, дазволіць наладзіць беспасярэдні кантакт з жонкай (цяпер я карыстаюся тэлефонам гаспадароў хаты — Лена «Дашкевіч»), а, па-другое, для старых ён зьяўляецца прадметам першае неабходнасьці — доктар, амбулянс, аптэка, шпіталь і г. д.*

---

[213] Маецца на ўвазе **Язэп Гладкі** (1890–1972), педагог, аўтар «Краёвага слоўніка Лагойшчыны» і «Прыказак Лагойшчыны».

*Прыемна, што Вы згаджаецеся са мной наконт немагчымасьці зьмяшчэньня нэкралёгу па Кушалю ў «НРСлове». Паміж намі кажучы, калі ў нашым друку «Змагарныя дарогі» выклікалі нядобрую палеміку (Пануцэвіч—Акула), дык ня трэба чуцца прарокам, каб прадбачыць, што зьявіцца ў нянашым друку. Трэба спадзявацца, што ў наступным «Беларусе» будзе добры артыкул, прысьвечаны сьв. пам. генэралу Францішку Кушалю, але без памылкаў, як у абвестцы аб ягонае сьмерці — год нараджэньня (1965?!), Валожынскі павет — ня было гэткага ў Менскай губэрні, бо колішняе мястэчка (цяпер горад) Валожын ніколі й не зьяўлялася павятовым цэнтрам. На жаль, гэтыя памылкі зьяўляюцца вельмі ўдзячнай глебай для завяртанцаў, хмараўцаў ды на іх падобных. Між іншым, у апошняй (№ 5, 68) «Беларусі» ёсьць артыкул аб Пяршаях, зь якіх паходзіць сьв. пам. Францішак Кушаль.*

*Ладне яшчэ аб чым хочацца напісаць, але… Хіба адзначу, што цешуся з нашае аднамыснасьці аб выдатным творы Веры Палтаран «Дзівасіл». Артыкул Кругалевіча на 99% складаецца з раней вядомага, закранутага ў розных крыніцах — найгалоўнае тут у вызнаньні змагарнае дзейнасьці гістарычнае Рады БНР, у «рэгабілітаваньні» цудоўнага Булак-Булаховіча.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага Вам і Вашай сям’і.*

*Агульнае прывітаньне.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас*

*Ваш*

*П.С. Мне здаецца, што паводзіны Масея Сяднёва ў Мюнхэне цалкам адпавядаюць ягонай даволі нескладанай натуры — падлабызьнічаць перад вялікімі ды пхаць нагой малых. Прычым, першае можа пашырацца ня толькі на «босаў» Свабоды, але й на… стукаў.*

*Даруйце за асабістае. Мне згадваецца сьвятое памяці Леанід Карась, які калісьці на селішчным сходзе ў Міхэльсдорфе зь мейсца заўважыў Юрку Віцьбічу:*

*— Мы саб’ем зь цябе твой баварскі капялюх.*

*Дагэтуль з прыемнасьцю згадваю гэтую шчырую рэпліку, бо паважаю шчырых людзей, а толькі ня тых, што ў вочы макам сьцелюцца, а па-за вочы ўсіх сабакаў на цябе вешаюць. Між іншым, капялюх стаўся баварскім не таму, што ягоны сьціплы*

*носьбіт меў сантымэнт да Баварыі, а таму, што перад тым ён належаў, відаць, нейкаму баварскаму баўэру, які выкінуў яго на сьметнік.*

*І шкада спадара Цьвірку. Упершыню пазнаёміўся зь ім, калі разьмяркоўваў вопратку, дасланую Др. Малецкім на адрас «Шыпшыны» — лепшае зь яе атрымалі Юзя Брэчка й Цьвірка. Але ня ў гэтым справа. Уважаю яго з усіх тых, што там (Мюнхэн) ёсьць, за найбольш адпаведнага на пасадзе галоўнага дырэктара.*

*Што датычыць Рыгора Казака, дык, перадусім, ён гэтак даўся ў знакі тамтэйшым, што адно ягонае імя мае прапагандовую вагу. Акрамя добрых скрыптаў, ён як Рамановіч — Рыгор Казак напісаў ладне цікавых артыкулаў, якіх ня ў стане амінуць першы-лепшы гісторык нашае літаратуры. Дарэчы, мне нават падабаецца сам ягоны голас як дыктара — нейкі сам па сабе зьедлівы — незалежна ад тэмы, хай сабе й больш-менш нэўтральнае.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*П.П.С. Кагадзе мне паставілі тэлефон, якога нумар 257–0791. Падаю яго Вам на ўсякі выпадак, як і ў сваю чаргу прашу падаць свае адпаведныя нумары, бо, магчыма, тыя, што калісьці Вы мне далі ў шпіталі, згубілі сваю актуальнасьць.*

*12.07.1968 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Глыбокапаважаны Спадар Запруднік!*

*Удзячны за № 6/68 «Полымя», № 107 «НзьБ» і за гутарку па тэлефоне, якая зьявілася тады для мяне вялікай маральнай падтрымкай. Дзякуй Богу, мая «цётка Ўладзя» няблага, каб не сурочыць, цяпер чуецца, а зь ёю разам ачуняў і я.*

*Усьцешыла мяне дужа рэцэнзія Мікалая Ўлашчыка на кніжку В. Жучкевіча «Топонимика Белоруссии», якую маю ў сваёй кніжніцы. Гэты «навуковец» стаіць на ўзроўні нашага нязабытнага Ўладзіка Павярхоўнага[214]. Калісьці мне давялося Жучкевічу ды іншым як аўтарам кніжкі «Города и сёла БССР» прысьвяціць у «Бацькаўшчыне» (№ 508–509) артыкул «Іх меў на ўвазе Франсуа Рабле».*

[214] Маецца на ўвазе Уладзімір Сядура.

*Аповесьць Васіля Хомчанкі «Гром у ліпені» цалкам адпавядае яшчэ бэндаўскім патрабаваньням, перагукваючыся ў гэтым сэнсе з «Падзеньнем Хвядоса Струка» Паўла Кавалёва. Можа, акурат з гэтае прычыны Кавалёў зьмясьціў Хомчанку на першым мейсцы.*

*Сумнае ўражаньне спакідае халтурны нарыс Валянціна Мысьліўца «Жывуць хлопцы-равесьнікі». 10 год я адпрацаваў на тамтэйшых заводах, 18 год на тутэйшых, а таму й спадзяюся, што мая думка ў гэтай галіне зьяўляецца аўтарытэтнай, бо датычыць жыцьця «рабочего класса». Прыемна хіба толькі тое, што нягледзячы на спробы й намеры Мысьліўца, большыня ягоных герояў менш за ўсё нагадваюць таго новага вузорнага савецкага чалавека, якому стала акахвісты сьпявае «Голас Радзімы».*

*На высокім навуковым узроўні напісаны, як заўсёды, артыкул Фёдара Янкоўскага «Адказваем на пытаньні чытачоў». Спадабалася таксама й рэцэнзія Генадзя Бураўкіна на новы зборнік цудоўнае Дануты Бічэль-Загнетавае.*

*Паводля добрага скрыпту ў «НзьБ» раблю прыпушчэньне, што Ўладзімер Цьвірка аднаўлены на пасадзе галоўнага рэдактара Беларускае сэкцыі Радыё Свабода, з чаго шчыра цешуся. Як і… цешуся з таго, што такім чынам Масей Сяднёў дастаў паразку. На жаль, я ня ў стане ставіцца да апошняга больш-менш аб'ектыўна, а можа, гэтае й зусім зразумела, калі з сотні падобных прыкладаў прыгадаць наступныя.*

*Калі ў лістападзе 1951 г. я, выходзячы з самых найлепшых меркаваньняў, шчыра ды па-сяброўску на кватэры Панькова паціснуў руку Антону Адамовічу, дык Сяднёў безадкладна абвесьціў мяне паміж тутэйшых местачкоўцаў «ворагам народу». За тыя ж часы на чарговай сэсіі шакаўцаў, маючы на ўвазе маё добраахвотнае выйсьце з калегіі БЦР, ён у сваёй палкай прамове заўважыў: «Віцьбіч зьняважыў усю беларускую эміграцыю, зьвярнуўшы ёй сваю партфэлю». А на фабрыцы, дзе мы нейкі час разам працавалі, ён жа спрабаваў пераканаць казакаў, што Стукаліч зусім не беларус, а расеец, які з кар'ерных меркаваньняў шыецца пад беларуса. Усё гэтае, як ладне чаго іншага, прымушае мяне без пашаны й прыязьні ставіцца да Масея Сяднёва. Але Бог зь ім!*

*Прыемна, што Вы ў шырэйшым пляне падалі ў «НзьБ» вытрымку зь «Дзівасілу» Веры Палтаран — яна не абмежаваны*

*Мысьлівец. Ёсьць толькі ў мяне засьцярога да зацемкі, што «вучні кожнае дзясятае школы ў Беларусі будуць праз 2–3 гады вывучаць гішпанскую мову». Гэта без сумлеву добра, каб ня тая акалічнасьць, што, можа, ужо цяпер вучні кажнае дзясятае школы БССР вывучаюць беларускую мову.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Прашу перадаць маё прывітаньне Сп. Сп. Каханоўскай, Ст. Станкевічу й Адамовічу.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас*

*Ваш*

*П.С. Дасылаю дзьве копіі маіх лістоў, зь якімі прашу пазнаёміцца. Адзін зь іх адрысаваны нашаму вядомаму «Пілiпусу Тэафрастусу Бамбастусу Парацэльзусу»*[215]*, а другі датычыцца Самсона Самасуя.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*30.08.68 г.*

*Саўт-Рывэр*

*Глыбокапаважаны Спадар Запруднік!*

*Зь вялікай падзякай дасылаю адначасна паштовай бандэроляй 2 нумары «Советской Белоруссии» і, паводля Вашае просьбы, пачатак арт. Вадзіма Круталевіча зь «Немана», які дастаў ад Вас двойчы. Учора кінуў у паштовую скрынку арт. «Горбатюки в поход собрались», прызначаны для «НРСлова», а прысьвечаны прамоўцам на чэрвеньскім пленуме ЦК КПБ*[216]*. З тае прычыны, што мне, па-першае, уласьціва ўвогуле стылёвая сьцісласьць, па-другое, патрабаваліся спасылкі на роз-*

[215] З ліста Яна Пятроўскага да Вітаўта Тумаша ад 02.06.1967 г.: *«...я думаю, што аўтарам кароткае зацемкі пра Скарыну, зьмешчанай у № 118 «Беларуса»* [Пра Доктара Скарыну на Міжнародным Кангрэсе Гісторыі Мэдыцыны // Беларус. № 118. Люты 1967. С. 2.]*, зьяўляецеся Вы, у якой замест Філіпус Тэофрастус Бомбастус Парацэльсус, як гэта ў мяне напісана і ў арыгінале, Вы ўжо выражаецеся: Пілiп Тэафраст Парацэльз»*. Паколькі імя, ужытае Віцьбічам, з’яўляецца кантамінацыяй гэтых дзвюх, немагчыма сказаць, каго менавіта меў на ўвазе аўтар ліста.

[216] Новое Русское Слово. 8 сентября 1968.

*ныя крыніцы, па-трэцяе, нядужасьці мае ды хатніх, дык гэты параўнальна вялікі артыкул патрабаваў часу й працы.*

*Магчыма, чыталі ў № 1040 «Голаса Радзімы» арт. Л. Прокшы «Рамантыкі будуць заўсёды»? Мяне ён дужа пацешыў — у канцы яго Шэксьпірэнка (Л. Прокша) спрабуе пераканаць чытачоў, што ён… пісьменьнік. Там жа ў № 1039 ёсьць вялікі артыкул «Как перестарались мистеры Шимкин и Вейнбаум», накіраваны супраць кніжкі Дзяніса Гарбацэвіча «Два месяца в гостях у колхозников»[217], якую, магчыма, чыталі. Справа тут ня ў тым, што напад завяртанцаў не па адрасе, а ў тым, што аўтар кніжкі не заслугоўвае аніякае нашае абароны. Калі ўзяць пад увагу, што перад сваёй апошняй паездкай ён выдаў дзьве кніжкі аб сваіх папярэдніх падарожжах туды[218], дык усё гэтае здаецца проста вельмі й вельмі падазроным. Не кажу ўжо пра ягоную пагарду да беларускае культуры, што найбольш абражае ды вылучае магчымасьць якога-небудзь простага ці ўскоснага кантакту зь ім. Крый нас Божа ад таго, каб абараняць розных прайдзісьветаў.*

*Аднак асабліва паскудны арт. «Соловки вы, Соловки» («Голас Радзімы», № 1041) С. Клімковіча й Т. Рэўтовіча, дзе, паводля, бадай, паважных аўтараў, царызм калісьці катаваў сваіх нявольнікаў. А тысячы, дзясяткі тысячаў тамтэйшых бальшавіцкіх ахвяраў? Шмат хто з нашых нацдэмаў і нацыянал-камуністых загінулі на Салаўках, як і чало Грамады. Хачу напісаць для «Беларуса» адпаведны артыкул[219].*

*Вітаю добры намер адзначыць у Нью-Ёрку юбілейныя ўгодкі нашае Натальлі Арсеньневай. Нават, насуперак хваробе, вельмі хачу наведаць адмысловыя абыходзіны, каб асабіста засьведчыць свае прыязьнь і пашану.*

*Спадзяюся, што Вы дашляце мне чарговыя «Полымя» і «Беларусь» — яны ладне дапамагаюць мне ў літаратарскай працы, як і добрыя «НзьБ». Адразу вышлю Вам вінаватае.*

---

[217] Горбацевич, Д. Два месяца в гостях у колхозников. (Заметки американского туриста с 22 иллюстрациями). Нью-Иорк, 1967. — 160 с.

[218] Минский Мужик. Что я видел в советской России. Из моих личных наблюдений. Чикаго, 1935. — 336 с.; Горбацевич, Д. М. Правда о Советской России (по личным наблюдениям и материалам советской печати и статистики). Нью Йорк. Printed in Riga. 1937. — 186 с.

[219] Віцьбіч, Юрка. «Салаўкі вы, Салаўкі!» // Беларус. № 138. Кастрычнік 1968. С. 2.

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*
*Агульнае прывітаньне.*
*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*
*201-257-0791.*
*З пашанай да Вас*
*Ваш*

*П.С. Магчыма, чыталі ў «НРСл» ад 23.08.68 г. акахвістную зацемку, прысьвечаную выслаўленьню адмысловае лекцыі «Пастернак и Рильке» прафэсара й доктара «Владимира Ильича Седуро». Паводля маіх дадзеных, напісаў яе сам лектар, а потым праз падстаўную асобу падаў да друку.*

*Эх, Уладзік, Уладзік — колішні ўлюбёны герой Казьмы Пруткова — Лукаша Бандылевіча. Што мне з табой рабіць? Га? Рыхцік, нібы той Гэрастрат, як таго, цябе цягне да славы, хоць ты не з Эфэсу, а з Троі*[220]*.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*26.11.68 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Глыбокапаважаны Спадар Запруднік!*

*Даруйце, што злоўжываю Вашым часам — маю да Вас вялікую просьбу ды спадзяюся на Вашую ветлівасьць.*

*Галоўным чынам «Тартак» Івана Пташнікава натхніў мяне на разьвянчаньне тамтэйшага культу кіраўнікоў партызанаў і падпольшчыкаў за часы Другое сусьветнае вайны. Таксама й Сп. Пануцэвіч у сваім прыватным лісьце да мяне выказаў сваё абурэньне з кніжыцы Алы Сямёнавай «Ішлі ў паход партызаны…» (б-чка «Гол. Радз.»*[221]*), паводля якое наш народ добраахвотна і аднадушна пайшоў у лясы змагацца за бальшавікоў з фашыстамі, ды просіць мяне належным чынам адгукнуцца на гэтую хлусьню. Між іншым, што не заўважыў Сп. Пануцэвіч, Ала Сямёнава тут толькі перасьпявае ранейшую кніжку В. Раманоўскага «Супраць фальсіфікацыі гісторыі савецкага партызанскага руху» (Мінск, 1962 г.).*

---

[220] Уладзімір Сядура на той час жыў у горадзе *Troy, NY*.

[221] Сямёнава, Ала. Ішлі ў паход партызаны. Мінск, 1968. — 56 с. — (Бібліятэчка газеты «Голас Радзімы»).

*Мне ўжо давялося раней у сваім нарысе «Трубадур віцебскіх падпольных пацукоў» («Бацькаўшчына», № 634*[222]*) больш-менш падрабязна затрымацца на савецкай сьвятой Веры Харужай. Цяпер мне хочацца свой чарговы нарыс у гэтай галіне прысьвяціць Канстантыну Заслонаву*[223]*. Паводля пісакаў з «Гол. Радз.» (№ 985), як і партызанскага гісторыка В. Лабанка («В боях за родину», «Непокоренная Белоруссия»), Канстантын Заслонаў — «слаўны сын беларускага народу». Між тым Г. Лынькоў*[224] *у сваёй кнізе «Война в тылу врага» называе яго — «коренным москвичем».*

*Калі ўзяць пад увагу тое, што Раманоўскі й Сямёнава вельмі абураюцца з зусім слушнае заўвагі Хаўэла, Армстронга й Вакара, што арганізавалі партызанскі рух на Беларусі «агенты з Масквы», дык пытаньне аб паходжаньні Заслонава набывае асаблівае значаньне. Па-першае, яно пацьвярджае сьцьверджаньне «буржуазных» гісторыкаў, а па-другое, яшчэ раз падкрэсьлівае ўсю хлусьню савецкіх «гісторыкаў». Мне не бракуе адпаведных матар'ялаў, бо ў сваёй добрай кніжніцы маю, між іншымі, і каля 15 кніжок па гісторыі партызанскага руху, але…*

*Ці няма чаго-небудзь аб паходжаньні Заслонава ў «Большой Советской Энциклопедии»? Мне хопіць і сьветчаньня Г. Лынькова, аднак хочацца яшчэ большае абгрунтаванасьці. Прыпушчаю, што ў Нью-ёркскім Радыё Свабода ёсьць «БСЭ», а ў такім выпадку вельмі прашу Вас зрабіць для мяне даведку аб тым, скуль паходзіць Канстантын Заслонаў.*

*Даруйце за клопаты.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Агульнае прывітаньне.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас*

*Ваш*

---

[222] Віцьбіч, Юрка. Трубадур віцебскіх падпольных пацукоў // Бацькаўшчына. № 1 (634). Сакавік 1966. С. 4. Артыкул уяўляе сабой водгук на кнігу Рыгора Няхая «Героі не адступаюць» (Мінск, 1965).

[223] Віцьбіч, Юрка. Канстанцін Заслонаў — заміж Кастуся Каліноўскага // Беларус. № 142. Люты 1969. С. 2.

[224] Маецца на ўвазе **Рыгор Лінькоў** (1899–1961), адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Брэсцкай і Баранавіцкай абласцях у часы Другой сусветнай вайны, аўтар кнігі «Вайна ў тыле ворага» (1959).

*П.С. Дасылаю копію майго ліста да мянчаніна Н. Кантаровіча, зь якім ужо колькі год маю сталае ліставаньне. Мне здаецца, што мы мусім, хоць і са спазьненьнем, адзначыць у сваім друку сьмерць др. Зарубавеля, які ўваходзіў у склад Беларускай Рады. Адначасна таксама маем удакладніць і яго- нае імя, бо ў нашых выданьнях («Замежная Беларусь», Прага, 1926 г.) ён згадваецца як Зарубавень, а не пад сваім вядомым біблейным па свайму паходжаньню псэўдонімам — Зарубавель.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*П.П.С. Зноў пра ліст да Н. Кантаровіча. А ўсё ж «Што складаць...» Уладзімера Дубоўкі, напісанае ім у 1925 г. ды зьмешчанае ў зборніку «Трысьцё» (Менск, 1925), непараўнальна мацнейшае, чым яно ж пад «Што складаць пра каханьне вершы» (Ул. Дубоўка. Выбраныя творы. Том І. Менск, 1965 г.). Ня можна ў старасьці перапрацоўваць творы, напісаныя за часы юнацтва.*

*3 П.С. — бадай альгебра. Спадзяюся, што ў каляндарыку беларускае сэкцыі Радыё Свабода ўжо знайшло адбітак Вяліскае паўстаньне, 50-я ўгодкі якога прыпадаюць на сёлеташні лістапад.*

*19.11.71 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Глыбокапаважаны Спадар Доктар Запруднік!*

*Вельмі ўдзячны за ветліва дасланыя Вамі № 7 і 8 «Беларусі» за 1971 г., як і № 8 і 9 «Полымя» за 1971 г.*

*Дзякую таксама за сталую дасылку «ксерогс», як і за ласкавую прапанову аб супрацоўніцтве ў чарговым № «Запісаў».*

*Стакроць даруйце, што злоўжываю Вашым абмежаваным часам, а тым болей, калі ёсьць выйсьце з гэтага прыкрага становішча. Прынамсі, мой добры знаёмы Пасол Стагановіч ужо год як выпісаў сабе патрэбную пэрыядычную літаратуру беспасярэдне з «Кантынэнтаў» ды больш-менш акуратна атрымлівае яе. І хоць ён без малога на 20 год старэйшы ад мяне, але, відаць, не хварэе на маю прыхамаць — не дажыву да канца таго году, на які падпісаўся. Дык велікадушна прабачце за клопаты, якія Вам спрычыняю.*



*Юрка Віцьбіч. Апошні прыжыццёвы здымак*

*З навінаў маіх хіба заслугоўвае ўвагі тая, што замовіў Кардовічу два помнікі на тутэйшым могільніку з надпісамі: «Матушка Еўдакія Стукаліч з Надзьвіньня 1877–1971 Хай будзе воля Твая» і «Стукаліч Юрка Віцьбіч 1905 — Ганна 1900 — «О, Беларусь, мая шыпшына».*

*Сваякоў у нас тут няма, а таму мусім яшчэ пры жыцьці паставіць сабе «нерукотворные памятники», каб па сьмерці мазоліць вочы тым суродзічам, якія наведваюць могільнік.*

*А тым часам, дзякуй Богу, нішто яшчэ працуецца. На маім творчым «варштаце» (ну хіба не «інжынэр чалавечых душаў»?) досыць працы. Дарэчы, хоць мой калега па «сіянісцкай» лініі[225] стала ды без усякіх зьменаў друкуе мае творы, але дужа сумняваюся, каб зьмясьціў тое, копію чаго цяпер Вам для ветлівага азнаямленьня дасылаю.*

*Дзякую. Прабачце за клопаты.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Прывітаньні Сп. Сп. КахаНоўскай і Адамовічу.*

*Не забывайце.*

*З пашанай да Вас*
*Ваш*

*П.С. Зьбянтэжыла мяне ў добрым увогуле артыкуле Рамана Шарупіча «2-гі том БелСЭ пра беларускую мову» («Беларус», № 175) наступнае: «аўтар павінен быў бы дадаць яшчэ й паўдзённыя раёны Калінінскай вобласьці — Себескі, Вяліскі, Нявельскі і іншыя паветы былой Віцебскай губэрні». Перадусім, акрамя гэтых трох паветаў іншых беларускіх Віцебскай губэрні, што не ўвайшлі ў БССР, і няма. Потым, належаць яны цяпер: Вяліскі раён — да Смаленскае вобласьці РСФСР, Себескі — да Пскоўскае вобласьці РСФСР, Невельскі — да Пскоўскае вобласьці РСФСР. Хіба паўсталі якія-небудзь зьмены — ня ведаю, але, паводля «Краткой географической энциклопедии» (1962 г.), як і некаторых іншых пазьнейшых крыніцаў, ёсьць нібы гэтак, як вышэй адзначыў.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*Копія*

*04.07.71 г.*
*Саўт-Рывэр*

*Глыбокапаважаны Спадар Бурбель![226]*

*Дасылаю адначасна 89 і апошні мой скрыпт: «Боль муроў Дукоры» з сэрыі «Наша спадчына прамаўляе». Дазвольце адначасна пазнаёміць Вас з тымі прычынамі, якія прымусілі мяне спакінуць маё далейшае супрацоўніцтва ў Радыё Свабода, хоць мая сэрыя, паводле майго пляну, ня вычарпаная й на 50%.*

[225] Маецца на ўвазе М. Вейнбаўм.
[226] Бербель — супрацоўнік радыё «Свабода».

*Працу над скрыптамі, што падаваліся ў этэр як мастацкія нарысы, я распачаў яшчэ ў лістападзе 1969 году пасьля настойлівае просьбы Сп. Масея Сяднёва, прычым чамусьці адразу займеў для іх аж двох рэдактароў — Сп. Праф. Антона Адамовіча й Сп. Сяднёва. Зусім нечакана для сябе, працуючы ўжо над 88-м сваім чарговым скрыптам, я раптам даведаўся зь ліста Сп. Сяднёва ад 11.06.71 г., што мае скрыпты як па зьмесьце, гэтак і па форме дэфэктныя, а таму спрычыняюць яму шмат клопатаў як рэдактару. Так, як ён піша, яму даводзіцца адкідаць значную частку маіх канцовак і пісаць замест іх свае. Мае стыль і мову ён уважае за благія. Увогуле, Сп. Сяднёў прапанаваў мне падвучыцца пісаць скрыпты, выходзячы зь ягонае праўкі іх чорным алоўкам, якую я, маўляў, бачу на дасылаемых мне з Мюнхэну копіях скрыптаў.*

*Пачуцьцё звычайнае чалавечае годнасьці не дазволіла мне ў маім адказным лісьце да Сп. Сяднёва (копію я даслаў Сп. Др. Запрудніку) стацца на абарону якасьці маіх скрыптаў, спасылаючыся пры тым на водгукі аб іх з боку сваіх і чужых, сяброў і ворагаў. Я ў сваім лісьце, спадзяючыся на разуменьне Сп. Сяднёвым іроніі, толькі падзякаваў яму за шчырасьць, хай сабе й занадта спозьненую, бо ён спакінуў без адказу мае леташнія зусім карэктныя лісты да яго ад 15 ліпеня, 9 кастрычніка і 19 лістапада і такім чынам я згубіў зь ім яшчэ з таго часу звычайны службовы кантакт, гэтак патрэбны ў супольнай працы. Дарэчы, і копіі тых скрыптаў зь ягонай праўкай я атрымаў ад яго за 20 месяцаў менш за палову. Аднак усё гэта, бадай, другараднае ў параўнаньні з наступным.*

*Я вызнаю права рэдактара на тое, каб у выпадку патрэбы правіць усе скрыпты, а ў тым ліку й мае, але нічога, акрамя зьдзіўленьня, не вычуваю, калі ён, адкідаючы маё, пачынае сам замяняць яго сваім. Гэта ўжо не рэдагаваньне, а сааўтарства, якога я ў яго або ў каго-небудзь іншага ня толькі не прасіў, але ўважаю за <u>шкоднае</u> для сябе як для аўтара. Мяне нават зусім ня цешыць, што БССР-аўскі слухач (а мяне там ведаюць як літаратара яшчэ з 30-х гадоў) адразу адрозьніць мой тэкст ад чужога. Паколькі мае скрыпты перадаюцца туды пад маім імем, я й хачу, каб яны спачатку да канцоўкі былі маімі. Ведаю, што рэдактар у праве зусім адкінуць мой скрыпт або папрасіць аўтара, каб ён перарабіў у ім тую ці іншую ягоную частку, але толькі не пісаць за яго, устаўляючы нават абраныя аўтарам цытаты з розных крыніцаў.*

*Свой ліст да Сп. Сяднёва я скончыў просьбаю паставіць кропку над «і», гэта значыцца, даслаць мне афіцыйную паперку, што маё далейшае супрацоўніцтва з Радыё Свабода непажаданае з прычыны неадпаведнасьці маіх скрыптаў патрабаваньням Рэдактара. Дагэтуль я не атрымаў ад яго аніякага адказу і гэтае, між іншым, прадбачыў, калі пісаў Сп. Др. Запрудніку ў сваім лісьце ад 26.06.71 г., што мой 89 скрыпт будзе апошнім.*

*Нічога, акрамя пашаны, я не вычуваю да Радыё Свабода як інстытуцыі, якая нясе праўду вольнага сьвету й на маю Бацькаўшчыну, прыгнечаную камунізмам Беларусь. Таму шчыра ганаруся з таго, што мне давялося на нейкі час стацца ейным супрацоўнікам, хоць, між іншым, і не вычуваў у гэтым асаблівае матар'яльнае патрэбы. Карыстаюся таксама зручным выпадкам, каб выказаць сваю шчырую ўдзячнасьць Сп. Др. Я. Запрудніку й Спадарыні Яніне Каханоўскай, ад якіх атрымліваў сталую й добрую дапамогу. Прашу таксама не заглядацца на гэты мой ліст як на нейкую скаргу ці, крый Божа, данос на Спадара Рэдактара Мася Сяднёва — нутраныя справы Радыё Свабода, узаемаадносіны паміж белсэкцыямі ў Нью-Ёрку й Мюнхэне мяне не датычуць — проста я асабіста больш не хачу залежаць ад Сп. Сяднёва як Рэдактара. Таму мой адыход будзе карысным як для яго, гэтак і для мяне. Уважаю толькі за патрэбнае дадаць, што хоць мне гэтага й ня хочацца, аднак, калі зойдзе ў гэтым патрэба, я вымушаны буду праз друк пазнаёміць беларускую палітычную эміграцыю з тымі прычынамі, якія прымусілі мяне адмовіцца ад далейшае працы ў беларускай сэкцыі Радыё Свабода.*

*Дзякую!*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*З пашанай да Вас*

*П.С. На жаль, я дагэтуль ня ведаю, да каго мушу адрасавацца з гэтым лістом — да Вас або да Сп. Геруса*[227] *ці да Вас абодвух. Калі ня толькі да Вас, але й да Сп. Геруса, дык прашу ў яго прабачэньня й прашу Вас — паколькі мой ліст ёсьць афіцыйны, а не прыватны, пазнаёміць яго зь ягоным зьместам, даслаўшы копію.*

*Прабачце за клопаты.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

[227] Герус — дараднік беларускай і ўкраінскай секцыяў радыё «Свабода».

# ВЫПАДАК КАСТУСЯ АКУЛЫ

## Частка І. У жанравай пастцы: паміж мемуарамі і гістарычным раманам. «Змагарныя дарогі»[228]

У 1962 г. у жыцці эміграцыі адбылася значная культурніцкая падзея: выхад рамана Кастуся Акулы «Змагарныя дарогі». Падзея, якую, здаецца, фактычна ніхто не заўважыў: у друку з'явіўся адно артыкул рэдактара і выдаўца Станіслава Станкевіча (па сутнасці, прадмова да кніжнага выдання)[229] і водгукі Франца Кушаля[230], які быў кансультантам аўтара ў шэрагу пытанняў з ваеннай гісторыі і, што не менш істотна, паўплываў на аўтарскія ацэнкі тых ці іншых падзей або постацей, таму ягоныя публікацыі былі таксама і абаронаю ўласнага бачання мінулага. Яшчэ дзве публікацыі былі напісаныя самім Акулам: «Папулярызацыя «Змагарных Дарог» К. Акулы. (Сёетое)»[231] і «Пасля першых адгалоскаў»[232]. І гэта ўсё — што да літаратурных, не гістарычных рэцэпцый[233].

---

[228] У публікацыі выкарыстаныя архіўныя матэрыялы Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Ёрк), Нью-ёркскай публічнай бібліятэкі, Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны (Лондан), а таксама прыватнага архіву аўтара, які выказвае шчырую падзяку за дапамогу Яне Славінай і а. Аляксандру Надсану.

[229] Станкевіч, Ст. «Змагарныя дарогі» // Бацькаўшчына. № 1–2 (585–586). Праваслаўныя Каляды 1962. С. 7.

[230] Кушаль, Ф. «Змагарныя дарогі» // Беларус. № 75. Сакавік 1962. С. 3; Бацькаўшчына. № 9 (593). 20 мая 1962. С. 4.

[231] Беларус. № 84. Сакавік 1964. С. 5.

[232] Бацькаўшчына. № 2 (602). 24 лютага 1963. С. 1–2.

[233] Мабыць, нездарма і ў часы вяртання эміграцыйнай літаратуры, на пачатку 1990-х, і пазней твор Акулы не стаўся аб'ектам даследавання і на Бацькаўшчыне: замінала і дражлівая тэма, і нявызначанасць, плыткасць жанру. Рахаваць публіцыстычныя развагі Уладзіміра Арлова



*Кастусь Акула*

Нават у БССР было болей водгукаў! У газеце «Голас Радзімы» спачатку з’явіўся артыкул «Нацыянальна-свядомы Качан» за аўтарствам нейкага Л. В. з Таронта (№ 35 (720). Травень 1963. С. 3) — *«усхваляваны пераказ аднэй бэбурнэцкай аповесці»*, з малюнкамі, дарэчы; у № 55 (1963. С. 5) быў змешчаны передрук з таронцкага «Вестника» артыкула Г. Акулевіча, рэдактара часопісу, даваеннага эмігранта-беларуса, «О том, как Акула Беларусь строил», той самы артыкул, але ўжо ў перакладзе на беларускую мову быў выдрукаваны ў № 74 (1963. С. 3–4); нарэшце, у кастрычніцкім нумары (№ 78) гэтага ж 1963 года быў надрукаваны фельетон пачынальніка антызмагарнай кампаніі Л. В. «Чорная няўдзячнасць» — пра аўтара і яго твор.

Як жа такое сталася магчымым, калі мяркуемая чытацкая аўдыторыя — свае, нацыянальна свядомая частка *кніжнай нацыі*? Адсутнасць водгукаў, мо нават спрэчак, тым больш дзіўная, што раман Акулы — першы буйны празаічны твор, створаны пісьменнікам-эмігрантам, а да таго ж выдадзены дру-

(прадмова да мінскага выдання «Змагарных дарог» (1994)) ці спробы літаратуразнаўцаў (Мішчанчук, М. Літаратура беларускага замежжа. Мінск, 1996. С. 129–139; Пашкевіч, А. Канцэпцыя нацыянальнага быцця ў беларускай літаратуры. Проза замежжа XX стагоддзя. Мінск, 2002. С. 141–142) важкім словам пра «Змагарныя дарогі» не выпадае.

кам ад газеты «Бацькаўшчына», як кнігі класікаў: Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Алеся Гаруна ды іншых. Да гэтага часу аўтары былі самі сабе друкарамі і свае творы выдавалі пераважна на ратататары (хоць той-сёй па-ранейшаму, як за часамі лагераў *DP*, памнажаў на друкарцы, а нехта і наогул распаўсюджваў рукапісы, як Мікола Панькоў). То чаму амаль 600-старонкавы раман з свайго нядаўняга, блізкага кожнаму паваеннаму эмігранту мінулага не прыцягнуў увагі?

Акадэмічная гісторыя літаратуры чамусьці бадай не звяртае ўвагі на чытацкую рэакцыю, праз што мастацкі твор пазбаўляецца гістарычнага кантэксту, у якім ён пісаўся, распаўсюджваўся, чытаўся; не звяртаецца ўвага і на саміх чытачоў, іх склад, характарыстыку, мэты, з якімі яны бралі ў рукі тую ці іншую кнігу.

У нашым жа выпадку чытачы, а разам з імі і аўтар, наўпрост трапілі ў пастку жанру. Але перш як гаварыць пра жанр «Змагарных дарог», неабходна ўбачыць і зразумець аўтара, а таксама ўмовы, у якіх твор пісаўся, і зрабіць гэта найлепш, даўшы слова самому Кастусю Акулу — змясціўшы ягоны ліст да жончынай сястры, Любы Вернай, таксама эмігранткі[234]:

*«Таронта, 5.4.1960 г.*

*You have expressed your opinion without having been asked to and condemned without hearing the evidence.*

*Гэтак у кароткіх словах можна было б схарактарызаваць Твой ліст да мяне. Шчыра дзякую Табе за ўвагу. Ведаю, што лістоў пісаць лянуесься, але затое любіш чытаць іх, дык я цяпер змагу выказцца ўволю, а Ты будзеш маўчаць. Я ня меў гэткай магчымасьці, як Ты калісь пару месяцаў была тут, бо гаварыць больш умееш, чым слухаць іншых.*

*Я наагул вельмі заўсёды задаволены, калі маю магчымасьць вачмі іншых людзей глянуць на сябе. Чалавек вечна падлягае эгацэнтрызму й толькі запраўды духова й разумова вялікія людзі могуць аб'ектыўна ацэньваць ня толькі іншых, але й сябе. Дык і я думаў, што Ты дасі мне пару карысных заўвагаў і парад і пачаў чытаць Твой ліст з задавальненьнем. Хутка*

[234] Варта параўнаць гэты тэкст з іншымі — самацэнзураванымі — аўтабіяграфічнымі лістамі (гл., напрыклад, у кн: Чыквін, Ян. Далёкія і блізкія. Беласток, 1997. С. 94–102; Сачанка, Барыс. Сняцца сны аб Беларусі… Мінск, 1990. С. 73–75).

*расчараваўся. Як вясною вада з-пад лёду, у Тваім лісьце дзіцячая наіўнасьць і недасьветчанасьць прабіваюцца наскрозь. Ты навет слаба ўмееш арганізаваць свае думкі. Маё меркаваньне было правільным: Ты хацела нечым пахваліцца. Так шыла й вылезла наверх. Пішаш, што вучысься ў Карнэджы ці дзе там. Аднак, каб судзіць іншых, мала па вяршочках нахапацца думак зь нейкага курсу, трэба грунтоўна ведаць асновы людзкой псыхалёгіі, мець за сабой шмат жыцьцёвае практыкі, перацярпець-перамалоць асабіста шмат дарожных ліхалецьцяў.*

*Толькі апошні дурак можа хваліцца, што ён дасканалы. Я да такіх не належу. Ведаю, што маю шмат мінусаў, як і кажны іншы чалавек. Бог стварыў чалавека з розумам, даў яму працу, каб празь яе дасканаліўся, узбагаціў яго пачуцьцямі не дзеля таго, каб яны былі рухавіком ягоных паступкаў, але каб празь іх мог выказаць любоў і нянавісьць да іншых, ды шмат іншых адценкаў. Найлягчэй ёсьць асуджаць іншых, вытыкаць іхныя недахопы. Звычайна гэта практыкуюць людзі, што самі падсьведама адчуваюць у сябе вялікія недахопы і вось для павышэньня сябе, для задавальненьня свайго «Я» пастаянна стараюцца паказаць на памылкі іншых. Хочаш ці не, а мусіш згадзіцца з тым, што аб’ектыўна ацаніць іншых ня могуць людзі, героямі якіх зьяўляецца Сыд Сылвер або Грачо Маркс, або тыя, што мяняюць нацыянальнасьць без патрэбы, так як гэта была б запраўды рэч, якой льга гандляваць. Такія людзі тым больш ня могуць зразумець матэрыяльнай і духовай ахвярнасьці. Яны звычайна глядзяць на ідэалістаў, як на ідыётаў, ня бачачы сваёй мелкасьці і не распазнаючы велічы ідэі. Калі б у нас не было ідэалістаў, то сяньня род людзкі жыў бы яшчэ ў пяшчэрах і палкамі паляваў бы на здабыцьцё дзённае пажывы. Людзі, што цэлымі стагодзьдзямі прабівалі-праломлівалі розны лёд, адкрывалі новыя гарызонты на шляхох людзкога прагрэсу, ніколі ня былі матэрыялістамі, ані паразітамі, за жыцьцёвых часоў яны вечна былі аб’ектам насьмешак з боку невукаў і ігнарантаў. Так было раней, так ёсьць і сягоньня. Як можа поўзаючая гадзіна шугаць крыльлямі ў вышынях? Калі б ахвярна-ідэальны элемэнт, што вечна ішоў у авангардзе жыцьцёвага поступу, браў на увагу каменьчыкі, якімі ў іх шпурлялі недастойныя зразумець іх, жах падумаць, дзе мы б сягоньня былі. Аднак гэты элемэнт вечна меў у апраўданьне словы з навукі Хрыстовай: «той, хто сам ня грэшны, няхай першы кіне ў мяне каменем».*

*Ты мяне абвінавачваеш у самалюбстве, у надутасьці й г. д. А ці ведаеш Ты, што тая ахвярная праца, якую я раблю для сям'і і народу, ёсьць адным зь вярхоў нэгацыі*[235] *собскіх інтарэсаў? Я сяньня задаволены, што мой Алесік ашчаджае грошы ў беларускай касе, моліцца ў беларускай царкве, атрымлівае ад бацькі родную навуку. Я гэтай магчымасьці ад бацькоў ня меў. А адкуль гэтыя інстытуцыі ўзяліся? Там ляжыць вялікі ўклад працы як маёй, так і іншых ахвярных суродзічаў. Ты няправільна асуджаеш мяне, што я за сям'ёй не гляджу, што не даю ім любові. Прыедзь у Таронта й спытайся дзясяткі людзей і яны Табе скажуць адваротнае. Я наракаю на Надзьку не за тое, што яна ХВОРАЯ*[236]*, але за тое, што яна хворая з собскай віны, што ніколі мяне ня слухала й цяпер ня слухае. Яна ў спадчыну ад маткі атрымала ўпартасьць і нянавісьць да людзей. Як і іншыя маткі, сьцеражэ свайго гнязда й ня можа мяне добра ацаніць, бо ніколі не цікавілася маім жыцьцёвым пульсам. Маю матку зьлячылі знахары й гэткія «прычары»*[237]*, да якіх цяпер жонка ходзіць, сястра памёрла з сухотаў, старэйшы брат у веку 21 год памёр з паралiжу, бацьку закатавалі бальшавікі ў канцлягеры, другі старэйшы брат ад малых гадоў — калека, трэці тры гады быў у Сыбіры. Сам я ніколі ня ведаў асалоды жыцьця, бо ўжо з маладых гадоў прайшоў турму, дзе чуць з голаду не памёр, канцлягер, дзе чуць вошы не заелі, войска, дзе шмат разоў чуць галавой не налажыў. З прычыны сямейных няшчасьцяў я мусіў бы праклінаць Тварца, але раблю наадварот — слаўлю Яго за тое, што даў мне магчымасьць працаваць для сям'і й народу. Магчыма, спэцыяльна з цэлай нашай сям'і пакінуў Ён мяне здаровым і сільным, каб мог ворагам і сям'і аддаць належнае. І вось я сяньня працую дзеля таго, каб сыны мае ня ведалі гора, што ведалі бацькі, родныя й мой народ. І гэта Ты называеш самалюбствам? Сястрыца, правер Ты лепш сваю тэрміналёгію. Мусіш зразумець, што я іншым быць не магу — гэта праца для сям'і й грамадзтва ёсьць маім жыцьцёвым рухавіком.*

---

[235] Негацыя (лац.) — адмаўленне.

[236] Пра хваробу жонкі Кастуся Акулы гл.: Юрэвіч, Л. Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага. Гісторыя газэтаў «Бацькаўшчына» і «Беларус» (1947–2000). Мінск, 2006. С. 98–99.

[237] *Preacher* (анг.) — прапаведнік.

*Аб Надзьцы можна сказаць шмат чаго. Некалі я радзіў, каб яна дружыла зь беларусамі, яна не паслухала. Пасьля асталася безь сяброваак і сяброў. Не цікавілася маімі інтарэсамі: мне трэба было замкнуцца з гэнымі грамадзка-нацыянальнымі інтарэсамі й рабіць самому. Яна гэтага ня ведае, але падсьвядома ёсьць зайздросная, бо ня мае сёньня доступу да гэнай замкнутай маёй каморкі. Жанчына зьяўляецца сямейным барометрам. Яна сваім цяплом агравае сям'ю. Мужчына — гэта рабацяга, які прыносіць у гняздо пажыву і рэшту часу прысьвячае на сямейнае шчасьце. Але ж Бог не стварыў нас на тое толькі, каб мы пладзіліся, дзеля таго зусім ёсьць добрым і карысным, калі бацькі й дзеці маюць іншыя інтарэсы. Гэткія інтарэсы маю і я. Жанчына ёсьць сэрцам сям'і. Як выглядае сям'я, калі сэрца нармальна не функцыянуе?*

*Мне надаела змагацца з Надзькавай упартасьцяй і цярплю дзеля дзяцей. Яна цяпер поўнасьцю нагадвае матку, дык Ты ведаеш, што гэта значыць. Мне колькі разоў прыйшлося жыць паза домам, бо не было месца. Грызла й рэзала, як тупая піла. Калі ж ходзіць аб робку дзяцей, дык магу Цябе запэўніць, што я за час жаніцьбы, можа, адзін раз зь дзесяці спаў з жонкай зь ейнай згодай. Рэшту даводзілася заўсёды з сваркамі й просьбамі. Ці ж гэта так у людзей? Магу Цябе запэўніць, што ў часьціні полавых зносінаў я не раўняўся й раўняцца не магу з Тваім бацькам. Хіба ж ведаеш, што маю на думцы.*

*Цяпер жа, наканец, адносна нармальнасьці й ненармальнасьці. Што такое нармальнасьць? Бальшыня людзей ідзе сьлядамі іншых, выбірае жыцьцёвыя залатыя бясьпечныя сярэдзінкі. Гэта называецца нармальнасьцю. Хто ўстанавіў норму? Трусьлівыя і найбольш асьцярожныя. Тыя, што ломяць лёд сьпераду, ідуць авангардам у бакі, сягаюць шчытоў ці сапхнутыя іншымі ў даліны — гэта ненармальныя. Значыцца, дурак стаіць побач генія — яны абодва ненармальныя. Герой знаходзіцца ў пары з тым, што кідаецца ў паніку, яны абое — ненармальныя. Залатая ж сярэдзінка — гэта тыя, што бясьпечна жуюць страву, нічым не праймаюцца, глядзяць па-жывёльнаму сваіх гнёздаў, гадуюць круглыя жывоцікі і ідуць бясьпечна вытаптанымі сьцежкамі. Гэта тыя, што кормяцца прэпарацыямі з тэлевізійных рэклямаў, думаюць думкамі агулу, ніколі ня здольныя на арыгінальнасьці і г. д. і г. д.*

*Згаджаюся з Табой поўнасьцю, што я ненармальны. Я лічыў бы вялікай боскай карай, калі б Тварэц раптам перамяніў у нармальнага.*

*Наканец пару слоў аб здароўі Надзькі. Зьменаў няма. Пітсбургскі шпіталь ёй пашкодзіў. Я тут розпае прапанаваў, але яна, як раней Табе казаў, мяне ня слухае. Мне нічога не астаецца рабіць. Вось і цяпер — гадзіна 8-я папаўдні, яна гадзіну таму назад пайшла ў шпіталь прасіцца, каб яе там палажылі, бо ня хоча быць зь дзяцьмі. Думаю, што зараз вернецца, бо як яна так будзе тлумачыць, дык пэўна, яе ў шпіталь ня пусьцяць. Адным словам — белабярда, Сястрыца каханая. Я б не зьдзівіўся (ды тады й ня змог бы ўжо), калі б за пару нядзель здурэў. Але ня веру, што Тварэц мяне да гэтага давядзе. Зашмат цярпеньняў меў у жыцьці».*

Кастусь Акула ніколі не змог атрымаць вышэйшай або спецыяльнай тэхнічнай адукацыі — у адрозненне ад пераважнай большасці беларусаў у Таронта. Ён увесь час працаваў на малакваліфікаванай працы (пікам кар’еры была пасада загадчыка складу). Усё гэта, разам з сітуацыяй у хаце, пакідала толькі адзін шлях, на ягоную думку, здабыцця павагі сярод сябраў Згуртавання беларусаў Канады (ЗБК) і сваякоў, ды і ў жонкі таксама: здзяйсненне мары дзяцінства — стацца пісьменнікам. Сапраўдным пісьменнікам, аўтарам вялікага рамана.

Калі гэткі твор быў напісаны, рэдактарства натуральна было прапанавана Станіславу Станкевічу, з якім Акула даўно супрацоўнічаў як карэспандэнт і кальпартэр газеты «Бацькаўшчына». Але рэдагаванне незразумелым чынам пачало зацягвацца; на лісты з пытаннямі, просьбамі і нават пагрозамі адказу не было. Нарэшце прыйшоў ліст наступнага зместу:

*«Паважаны Спадару К. Акулу!*

*У вадказ на Ваш ультыматыўны й пагрозьлівы ліст, якога я, аднак, не спалохаўся, паведамляю наступнае:*

*Як я Вам у свой час пісаў, манускрыпт Вашага твору быў узяў ад нас сп. Абрамчык з тым, каб яго прачытаць і запрапанаваць свае пляны. Вось жа нядаўна сп. Абрамчык зьвярнуў нам гэты манускрыпт і, пасьля супольнае з намі нарады, было зроблена такое пагадненьне: 1. твор друкаваць не як раман, але як успамін ці ўспаміны аўтара; 2. перад друкам сп. А. Марговіч*[238]

[238] Аляксандр Марговіч на той час быў супрацоўнікам газеты «Бацькаўшчына».

*зрабіў бы літаратурную праўку ўсяго манускрыпту, якая ня зьначавала б зьместу, а толькі датычыла б літаратурнай і языкавой формы. Калі б Вы на гэты праект згадзіліся б, праца магла б быць тут, у Мюнхэне надрукаваная пры нашай тэхнічнай і рэдакцыйнай помачы»*[239].

Рэакцыю Акулы можна ўявіць: замест раману яму прапаноўвалі стацца аўтарам успамінаў, напісаць які здольны любы з тых, з кім ён вучыўся ў афіцэрскай школе ці каго спаткаў на тых самых дарогах! Ён, напэўна, нават не звярнуў увагі на той дзіўны факт, што раман чамусьці быў адмыслова дадзены на чытанне Прэзідэнту Рады БНР Міколу Абрамчыку, а потым з ім жа абмяркоўваўся нейкі «плян».

Гэта быў адчайны выпадак несубардынацыі (Акула выконваў абавязкі прадстаўніка Ураду БНР на Канаду):

*«[…] Цяпер аб маёй працы. У ніякім выпадку не згаджаюся друкаваць яе як успаміны. Як пройдзе яшчэ трыццаць гадоў, тады буду пісаць успаміны. Можа… Ці маю разумець, што жадаеце, каб друкаваў як успаміны толькі таму, што шмат дзеючых асоб жыве? Што апісаны час заблізка? Ці іншае? Але ж там ёсьць і людзі, што зьяўляюцца увасабленьнем аднаго ці больш. Калі б гэта былі ўспаміны, я б пісаў больш дакумэнтальна. Дарэчы, мушу яго добра перапрацаваць, скараціць, пазамяняць усе прозьвішчы на мянушкі і скамплектаваць з апрацаванай другой часткай. Тады адно магу друкаваць. Для мяне няважна будзе, што напішацца на вокладцы, што гэта выданьне аўтара, калі ня хочаце браць адказнасьці. Калі ж наагул адмовіцеся, прыйдзецца шукаць іншага месца выданьня. Я, на вялікі жаль, не пачуў ад Вас крытыкі, адно пару слоў павярхоўна, ды й тое, як імгла. Ведаю, ведаю, ня маеце часу. Дзякую і за тое»*[240].

Акула вялікай адукацыі не меў, але абсалютна трапна назваў галоўную праблему, якой не могуць даць рады філолагі: як і дзе размяжоўваецца гістарычны раман з успамінамі? Колькі мусіць мінуць часу ад падзеі да яе мастацкага ўвасаблення?

Абодва жанры — рэтраспектыўныя: і ў адным, і ў другім адлюстроўваецца гістарычнае мінулае. І мемуарам, і гістарычнай прозе ўласцівыя дакументальнасць; разам з тым або-

[239] Ліст Станіслава Станкевіча да Кастуся Акулы ад 26.09.1959.
[240] Ліст Кастуся Акулы да Станіслава Станкевіча ад 11.10.1959.

два жанры не цураюцца і аўтарскіх вольнасцей — у большай ці меншай ступені.

Не дзіва, што Станіслаў Станкевіч, Мікола Абрамчык ды іншыя, каго рэдактар «Бацькаўшчыны» ў сваім лісце загадкава акрэсліў «мы», успрынялі Акулаў твор як мемуар: хутчэй за ўсё, як шэраг літаратуразнаўцаў, яны лічылі, што часавая дыстанцыя паміж падзеямі і іх мастацкім, літаратурным адлюстраваннем у мемуарах мае быць у нядаўнім мінулым — у межах аднаго чалавечага жыцця, а гістарычны раман не можа быць ахоплены памяццю аўтара, бо, маўляў, мінулае мусіць успрымацца толькі як гістарычнае.

Кастусю Акулу, відаць, была бліжэй наўрад ці вядомая яму ідэя Л. Пумпянскага, які вызначаў раман «Бацькі і дзеці» як гістарычны, хоць падзеі ў кнізе адбываюцца ў 1859 г., а выдрукаваны ён быў праз тры (і роўненька за сто год да «Змагарных дарог») — у 1862: бо паміж 1859 і 1862 годам адбылося вызваленне сялянаў. Для тлумачэння сваёй думкі Пумпянскі прыводзіць два гіпатэтычныя раманы, выдадзеныя ў 1922 і 1928 гг, падзеі ў якіх адбываюцца ў 1919 і 1925 гг. адпаведна: адлюстроўваюцца якасна іншыя змены; змены, што на працягу няхай кароткага часу кардынальна або істотна мяняюць самую рэчаіснасць[241].

Менавіта пра такія змены і напісаў свой твор Кастусь Акула: вайна сутнасна змяніла жыццё і краіны, і герояў твора, ну, і яго самога. Таму аўтар меў усе падставы называць уласны твор раманам.

Станіслаў Станкевіч з літаратурных, а мо і палітычных прычынаў усё ж, нягледзячы на волю аўтара, у газетным артыкуле (і ў прадмове да выдадзенай ў Мюнхене кнігі — з пазнакамі «аповесць» *(«novell»)* ды «выданьне аўтара») пазіцыянаваў, як цяпер бы сказалі, «Змагарныя дарогі» як мемуары:

*«Кніжка маладога беларускага публіцыстага Кастуся Акулы «Змагарныя дарогі» станецца бясспрэчна цэнным і цікавым укладам у сучасную беларускую літаратуру ў вольным сьвеце. У нагул сьціплай нашай літаратурнай прадукцыі яна на сяньняшні дзень зьяўляецца адзіным, прычым вельмі ўдалым і годным далейшага насьледваньня, узорам мэмуарнай*

[241] Пумпянский, Л. Классическая традиция. Собрание трудов по истории русской литературы. М., 2000. С. 403.

*літаратуры, гэтак багата і ўсебакова культываванай як у нашых найбліжэйшых суседзяў, гэтак і сярод народаў Захаду. Бурныя падзеі апошняй вайны й спрычыненыя ёй вялізарныя зьмены ў узаемадачыненьнях людзей і народаў прыдбалі шмат цікавага матарыялу для мэмуарыстыкі, за якую апошнімі гадамі скватна хапіліся ня толькі прафэсіянальныя, але й зусім прыпадковыя аўтары, будучыя гэтых падзеяў беспасярэднімі сьветкамі й актыўнымі ўдзельнікамі. Дык ужо навет з аднаго гэтага гледзішча кніга Акулы, як адзіная пакуль што ў нас спроба чыста мэмуарнае аповесьці, заслугоўвае на ўвагу.*

*Хаця яна й названая літаратурным жанрам «аповесьць», фактычна ж зьяўляецца аўтабіяграфічным дзёньнікам аўтаравых успамінаў зь мінулае вайны і такім чынам належыць не да мастацкае ў сьціслым ейным значаньні, але, як успаміналася, да мэмуарнае літаратуры, адно пададзенай у мастацкай форме. Таму ў вадрозьненьне ад чыста літаратурна-мастацкіх твораў, у ваповесьці «Змагарныя дарогі» няма літаратурнага сюжэту, вакол якога канцэнтраваліся б паасобныя эпічныя матывы апавяданьня, не знаходзім драматычнае інтрыгі, якая трымала б у напружаньні ўвагу чытача, адсутнічаюць і канфлікты характараў, якія раскрывалі б узаемадачыненьні ўведзеных у акцыю пэрсанажаў. Але ня гледзячы на адсутнасьць у «Змагарных дарогах» найбольш вызначальных літаратурных элемэнтаў, твор Акулы, як закругленая тэматычная цэласьць, чытаецца з напружанай увагай і родзіць глыбокія рэфлексіі й перажываньні*»[242].

Нават такі спрактыкаваны кніжны чалавек як Юрка Віцьбіч успрыняў кнігу як мемуары, ды не проста, а — сапсаваныя непатрэбнай мастацкасцю:

*«[...] Падрыхтоўваю матэрыялы для артыкулу пра сьв. пам. маёра Віталя Мікулу*[243]*. Ладне што даюць у гэтай галіне*

---

[242] Станкевіч, Ст. «Змагарныя дарогі» // Бацькаўшчына. № 1–2 (585–586). Праваслаўныя Каляды 1962. С. 7.

[243] **Віталь Мікула** (1913, в. Нялетава Нясвіжскага пав. — 1945?), вайсковы дзеяч. У часе нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам у Нясвіжы, у структурах БНС і БЦР, у шэрагах Самааховы і Беларускай краёвай абароны, пераклаў на беларускую мову «Страявы вайсковы статут». Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, служыў у 30-й дывізіі войск СС. У выніку канфлікту з камандаваннем дывізіі, арыштаваны і зняволены ў канцлагеры Дахаў, дзе, праўдападобна, загінуў.

*«Змагарныя дарогі» Кастуся Акулы, якія надысь... упершыню прачытаў у друку, бо бачыў іх раней толькі ў рукапісе. Можа Вы ведаеце, што ў свой час я адмовіўся апрацаваць, паводле просьбы самога Акулы, належным чынам гэты твор, бо хацеў параіць аўтару, каб ён сам зьменшыў больш чым на палову яго за кошт г. зв. мастацкае часткі. Апошняя толькі зьніжае вартасьць мэмуарнае часткі твору, які мае вылучную каштоўнасьць.*

*Як жывыя, пададзеныя ў гэтым творы Мікула, Езавітаў, Астроўскі, Сокал-Кутылоўскі, Барыс Рагуля, Вітвіцкі і ладне хто іншыя, але толькі не... сьв. пам. генэрал Францішак Кушаль. Сёе-тое, што мае да яго дачыненьне, аж занадта ідэалізаванае і асабліва апошнія дні дывізіі «Беларусь». Ствараецца таксама такое ўражаньне, каб ня Фр. Кушаль, дык і Віт. Мікулы не было б. Вось таму хачу празь іншыя крыніцы ўдакладніць тое, што датычыць у гэтым зьмястоўным творы выдатнага нашага змагара Віталя Мікулы, не адштурхоўваючыся пры гэтым, зразумела, ад Сп. Генэрала Францішка Кушаля.*

*А ўсё ж на карысьць К. Акулы як аўтара сьветчыць тое, што ягоныя «Змагарныя дарогі» атакавалі аж з трох бакоў — БНР-аўцы (асабліва В. Пануцэвіч у «Беларусе»[244]), БЦР-аўцы («Я-скі» ў «Бел. Думцы»[245]) і пэўне ж тамтэйшыя завяртанцы. Ня ведаю, як Вам даводзілася, але да мяне неаднойчы зьвярталіся тутэйшыя некаторыя аўтары з просьбай, каб я адгукнуўся ў друку (узьняў бы на шчыт) іхныя кніжкі, да якіх нашая грамадзкасьць паставілася вельмі абыякава, бо яны нікога і не абпальваюць і ня студзяць. А вось «Змагарныя дарогі», нягледзячы на іхні «мастацкі» бок, цікавая, каштоўная й патрэбная кніжка»*[246].

Калі такі погляд меў былы ўзвышэнец Віцьбіч, няцяжка здагадацца, што і іншыя, менш абазнаныя ў літаратуры чытачы ўспрынялі «Змагарныя дарогі» як твор абсалютна мемуарны, да таго ж на тэму, усё яшчэ небяспечную для грамадскага агучвання. Вось жа таму і не было абмеркавання ў эміграцыйным друку Акулавай кнігі; затое былі лісты, шмат прыватных лістоў да аўтара.

---

[244] Пануцэвіч, Вацлаў. А ў кішані — вялікая фіга // Беларус. № 107. Люты 1966. С. 2.

[245] Я-скі. У ацэне ўласнага чыну // Беларуская думка. № 8. 1965. С. 11, 13–17.

[246] Ліст Юркі Віцьбіча да Станіслава Станкевіча ад 05.09.1969.

Далёка не ўсе сабраныя (збіралася ў розных архівах, таму — відавочна не ўсе), выдрукаваныя тут, яны не толькі каментуюць «Змагарныя дарогі» і знаёмяць з ацэнкамі чытачоў: яны каментуюць саму гісторыю Беларусі ваеннага часу — смерць генерала Езавітава і ксяндза Гадлеўскага (да прыкладу) ды апавядаюць пра ўласныя лёсы. Усе разам яны ствараюць новы самастойны твор, з уласным сюжэтам, інтрыгаю, сенсацыямі і побытавасцю, пакідаючы для чытача не адзін, а некалькі варыянтаў прачытання і ацэнкі. Нарэшце, гэта той рэдкі выпадак, калі ліставанне не толькі гістарычна-палітычнае, але і літаратурнае, што дазваляе падгледзець — праз параўнанні і асацыяцыі, выкліканыя Акулавым творам, — кола чытання вядомых беларускіх дзеячаў.

Гэтыя лісты таксама даводзяць, што «Змагарныя дарогі», напэўна, сталіся найбольш рэзанансным празаічным мастацкім творам за ўсю гісторыю эміграцыі.

А распачынаецца публікацыя эпісталярыем крыху іншага плану — тымі крыніцамі, на якія абапіраўся Кастусь Акула пры напісанні свайго рамана. Эпісталярыем, які адначасна і ўспаміны. У першую чаргу гэта датычыцца лістоў Францішка Кушаля. Выдрукаваныя тут, яны ўздымаюць яшчэ адну цікавую праблему — суаўтарства. Бо калі параўнаць лісты з адпаведнымі месцамі «Замагарных дарог», лёгка пабачыць, як Акула цэлымі абзацамі ўводзіў Кушалевы допісы ва ўласны раман.

Выглядае, аднак, на тое, што ў хуткім часе Акула пашкадаваў і пра свой выбар, дзякуючы якому шалі жанру трывала спыніліся на мемуарах, і пра патаемнае літаратурнае супрацоўніцтва з Кушалем. Менавіта апошняга меў на ўвазе пісьменнік, калі ўсяго праз тры гады па выхадзе кнігі пісаў да паэта Міхася Кавыля:

*«Беларуская нацыянальная літартура ня мае вялікае прозы. Безь яе ж ня выгадуецца паўнацэнны й духоўна трывалы Беларус ці на выгнаньні, ці ўдома. А пісьменьнікі нашы на выгнаньні, дый паэты, хоць яны на пальцах рук лічаныя, ці то не адважацца на большыя творы, ці аднекваюцца ад вялікае працы living рознымі рэальнымі і ўяўнымі прычынамі. […]*

*Поўнасьцю пагаджаюся з Вамі, што ў творчай працы нельга аглядацца, як кажаце, на «прафэсараў» ці «прэзыдэнтаў». Навучыўся я з горкага дасьведчаньня. Некалі плянаваў «Змагарныя дарогі» як мастацкую аповесьць, шкілетам яе мусіла б быць у васноўным тая часьць, каторую сьв. пам. Чабатарэвіч*

*(Ласкутовіч) называе мастацкай часткай твору, у вадрозьненьне ад публіцыстычнай часткі. Нараілі мне людзі ўмясьціць туды й звычайныя ды незвычайныя падзеі гэтага бурлівага пэрыяду, што адносіліся да беларускіх вайсковых адзінак і арганізацыяў падчас вайны. Галоўнай прычынай, якой я матывscore, згадзіўшыся на такі крок, дык гэта тое, што ніхто ў беларускай літаратуры ды публіцыстыцы на эміграцыі да гэнага часу нічога грунтоўнага й пасьлядоўнага пра гэны час не напісаў, у той час калі ў іншых народаў пэрыяд гэны знайшоў увасабленьне ў дзясятках ці сотнях рознага жанру й характару твораў. Ажно падчас працы цэлы час трэба было мне гадзіць касу з каменем. Якія б «Змагарныя дарогі» ні былі, ёсьць жа і нейкая карысьць зь іх. Да іх выхаду ў нас уважалася, хоць ніхто гэтага, здаецца, нідзе на ўвесь голас не сфармуляваў, што пэрыяд 1941–1944 гадоў, значыцца, час аупацыі немцамі Беларусі — у нашай літаратуры ёсьць табу, мае нейкае кляймо. Вядома, кляймо ж, прышытае нашымі ворагамі ў ваднос[і]нах да нас, патрыётаў, ён мае, але табу для нас ён не павінен быць. Даўно і ўсебакова трэба было яго разгледзець, ды якраз ня так — шпурляючы адзін у другога каменьнямі, а як мага аб'ектыўна, фіксуючы самыя факты, характарызуючы людзей. У адносінах да людзей, якія так ці інакш працавалі ці мітусіліся пры беларускіх вярхох падчас гэнага пэрыяду, справа цяжэйшая, бо й тыя, што пішуць самі, ня могуць разьмінуцца з суб'ектыўнасьцю. Адылі гэта не прычына, каб гэны бурлівы пэрыяд зусім абмінаць ды пакінуць усе ягоныя здабыткі й страты для чужых зладзеяў з мэмуарнае й мастацкае літаратуры ці звычайнае гісторыі. А яны ж, вядома, ужо па-свойму насоляць і стравяць. А мы, так во знак табу налажыўшы, адно сьцьвердзілі б, што мы не дарасьлі, каб на самых сябе й народ свой крытычна глянуць, узважыць, ацаніць, ды набок для тых, што пасьля нас прыйдуць, адлажыць.*

*Маючы якраз наўвеце ўсё гэта, я згадзіўся ў «Змагарныя дарогі» даць апісаньне падзеяў і людзей, каторыя не патрэбныя былі ў гэнай мастацкай частцы. Мастацкая й публіцыстычная часьці твору спрычыніліся да ягонай неарганічнасьці. Адно, здаецца, я асягнуў: пасьля выхаду кнігі сьмялей людзі гавораць пра гэны трагічны ў гісторыі Беларусі пэрыяд. Некаторыя навет пісаць (пераважна ў сувязі з маёй кнігай) асьмеліліся. Ды ўсё ж гэта адно крошкі. Ці то гультаяватасьць здольных*

*і маючых час людзей, ці недахоп фінансаў на выданьне надалей замінаюць усебаковаму асьвятленьню гэнага пэрыяду.*

*Калі так астанецца й надалей, будучыні нашага народу, не гаворачы пра літаратуру, будзе зроблена непапраўная шкода.*

*Бачыце, як я расплыўся шырака. Мо таму, што надта баліць. Чую — крычаць на мяне, што зрабіў дрэнна. Праўда гэта ці не — ня так ужо важна. Важней тое, што чаму ж апрача мяне не асьмеліўся каторы аддаць час дый грошы, пастарацца зрабіць лепш, або прынамся па-свойму, так, як яму відаць было. Няўжо ж можна адно абмежавацца тыцканьнем пальца ў бок другога?»*[247].

Сваю «Гараватку» Акула будзе пісаць па-іншаму.

## Лісты Францішка Кушаля[248]

*10-га траўня 1958 г.*

*Вельмі-Паважаны Спадар Акула,*

*На Ваш першы да мяне ліст я адпісаў*[249]*. Відаць, нашыя лісты разьмінуліся. У гэным маім першым лісьце я напісаў Вам кароткую біяграфію кап. Мікулы*[250] *і даў адказы на іншыя Вашыя пытаньні. Калі б Вы зь якое-колечы прычыны гэнага ліста не атрымалі, напішэце, і я Вам яго прышлю, бо ў мяне захавалася копія. Адносна Вашага другога ліста, дык, на мой погляд, Вы ня маеце рацыі, калі не цікавіцеся лёсам беларускае дывізіі*[251] *пасьля 1944 году. Раман, як Вы пішаце, будзе запраўды цікавы, калі Вы прадставіце ў ім не адзін фрагмэнт, а ўсю беларускую*

[247] Ліст Кастуся Акулы да Міхася Кавыля ад 27.05.1965.

[248] Цалкам верагодна, што змешчаныя ніжэй лісты пазней былі пакладзены ў аснову ўспамінаў Францa Кушаля «Спробы стварэння беларускага войска», што былі апублікаваны ў Мінску ў 1999 г., серыі «Бібліятэка часопісу «Беларускі Гістарычны Агляд».

[249] Ліст не выяўлены.

[250] Маецца на ўвазе Віталь Мікула. Гл. спасылку 241.

[251] Маецца на ўвазе 30-ая (беларуская) дывізія войск СС, арганізацыя якой распачалася ў сакавіку 1945 г. на базе паліцэйскіх адзінак, што адступілі з акупаванай тэрыторыі Беларусі і былі сканцэнтраваныя ў ліпені 1944 г. у ваколіцах Ломжы. Ад таго часу яны былі аб’яднаныя ў брыгаду пад камандаваннем Г. Зіглінга, вядомую пазней як 30-ая дывізія войск СС (2-ая руская).

*вайсковую эпапэю пэрыяду 2-е сусьветнае вайны. Закончылася гэтая эпапэя 30-га красавіка 1945 году, калі беларуская дывізія, пазбавіўшыся нарэшце нямецкае «апекі», прабілася празь нямецкі фронт да амэрыканскае арміі, а амэрыканцы раззброілі яе й зачынілі ў лягеры ваеннапалонных. Гэты факт адзін вельмі цікавы з гледзішча палітычнага, а цяпер ужо й гістарычнага.*

*Падаю Вам тут пару вельмі цікавых фактаў, якія могуць Вам у Вашай працы прыдацца. У 1943 годзе, у часе арганізацыі Самаахові*[252]*, быў арганізаваны й беларускі асабовы батальён пры СД у Менску*[253]*. Афіцыйна, у немцаў, ён называўся беларускі батальён СД. Было ў ім, калі ня мыляюся, сем ротаў. Камандзірам батальёну быў немец Юнкер, а ротамі камандавалі беларусы. Усе малодшыя афіцэры былі таксама беларусамі. Батальён гэты быў вельмі добра вышкалены ды ўзброены. Камандзірам аднае з ротаў батальёну быў старэйшы лейтэнант Мазур. Гэта быў вельмі добры і амбітны афіцэр, які дзеля гэтага ўваходзіў у частыя канфлікты з камандзірам батальёну — немцам, баронячы правы беларускае справы й беларускіх жаўнераў. Аднаго разу камандзір батальёну паведаміў усіх афіцэраў батальёну, што старшы лейтэнант Мазур пасылаецца ў Нямеччыну ў афіцэрскую школу дзеля паглыбленьня вайсковых ведаў. Усе гэтаму паверылі. Мазур быў выкліканы ў СД дзеля атрыманьня дакумэнтаў на выезд у Нямеччыну, і больш яго ніхто ня бачыў. Ня маючы ніякіх вестак ад Мазура, беларускія афіцэры й жаўнеры батальёну пачалі непакоіцца. Дзеля супакаеньня іх камандзір Юнкер сабраў аднойчы батальён і абвесьціў, што ў Нямеччыне быў налёт ангельцаў на нямецкую афіцэрскую школу, куды выехаў Мазур, і што ў часе бамбардаваньня школы Мазур загінуў. Аднак пазьней мы даведаліся, што ніякага ангельскага налёту на згаданую школу не было. Ясна, што Мазур быў зьнішчаны ў*

---

[252] **Беларускі корпус самааховы** *(Weissruthenische Selbstschutzmannschaft Freikorps)* — створаныя ўлетку 1942 г. пад эгідай Беларускай народнай самапомачы (БНС) узброеныя часткі, складзеныя з добраахвотнікаў. У аперацыйным дачыненні падпарадкоўваліся нямецкай паліцыі і мелі выконваць ахоўныя функцыі, змагаючыся з партызанкай. Увесну 1943 г. корпус быў расфарміраваны ў часе ліквідацыі БНС, з прычыны выступлення дзеячоў самапомачы з патрабаваннем незалежнасці для Беларусі.

[253] **13-ы (беларускі) батальён пры СД** — паліцэйскае фарміраванне, створанае напрыканцы 1942 г.

*менскім СД за сваю беларускую стойкасьць. А вось яшчэ адзін факт. Прыгаданы тут батальён быў разьдзелены апошнім часам перад адступленьнем зь Беларусі на паасобныя роты дзеля таго, што, як я успамінаў у папярэднім лісьце, немцы яму не давяралі. Роты стаялі па беларускіх гарадох — у Слуцку, Глыбокім, Лідзе й г. д., дзе яны выконвалі гарнізонную службу і ўдзельнічалі ў змаганьні з партызанамі. Улетку 1944 году немцы, адступаючы з Беларусі, пачалі зьбіраць роты батальёну ў Аўгустове. Пад восень у Аўгустове было ўжо колькі ротаў. Камандзірам аднае зь іх быў старшы лейтэнант Бандык*[254]*. Аднае раніцы Бандык збунтаваўся супраць немцаў. Паставіўшы ў баявы парадак сваю роту й тых зь іншых ротаў, якія да яго далучыліся, Бандык скамандаваў роце «за мной марш», зь песьняй прамаршыраваў пад вокнамі нямецкага штабу й пайшоў у лес. Назаўтрае ад Бандыка зь лесу адышлі, адумаўшыся, два лейтэнанты — Махорт са Слуцку і Дрозд з Баранавічаў, маладыя хлапцы, год па дваццаць кожны. Ня скінуўшы мундзераў, яны далучыліся да калёны беларускіх уцекачоў сялянаў, якія на вазах ехалі на захад і якраз міналі Аўгустова. Вайскоўцаў заўважылі немцы, арыштавалі іх і прывялі ў штаб, дзе абодвух і застрэлілі. Найтрагічнейшае ў гэтым тое, што паводле весткаў, якія мы маем, застрэліў іх ня немец, а беларус, сяржант савецкае арміі, які служыў у гэтым жа батальёне. Аб вышэй апісаным можа паінфармаваць сп. Клінцэвіч, які быў камандзірам аднае з ротаў згаданага батальёну.*

*Факт, што забойцам беларусаў быў беларус, відаць, каб выслужыцца немцам, ня ёсьць, на вялікі жаль, нечым асабліва незвычайным. Беларуская вайсковая акцыя за часоў нямецка-бальшавіцкае вайны мела шмат запраўдных герояў, што не шкадавалі жыцьця для беларускае справы, як, прыкладам, капітан Мікула, але выявіла яна й шмат кар’ерыстых, прыпадковыя людзі, што далучыліся да нас дзеля асабістае карысьці, баязьліўцы, даносчыкі і нямецкія халуі. Гэтых апошніх я*

[254] **Антон Бандык** (1913–?), вайсковы дзеяч. У часе нямецкай акупацыі камандаваў ротай 13-га беларускага батальёна пры СД у Вілейцы. Пасля апісаных у лісце Кушаля падзеяў, байцы роты Бандыка далучыліся да польскай партызанкі, бралі ўдзел у Варшаўскім паўстанні. Пазней судамі ПНР некаторыя з іх былі асуджаныя на розныя тэрміны зняволення. Далейшы лёс невядомы.

*скаштаваў на собскай сваёй скуры, бо здаралася, што для беларускага афіцэра большае значаньне меў які-небудзь марны нямецкі гэфрэйтар, чымся палкоўнік-беларус. Але гэткія людзі ёсьць усюды. У нас іх ня больш, а можа, нават менш, чымся ў іншых народаў. Па-мойму, Ваш раман і павінен паказаць усе гэткія тыпы, ня толькі патрыётаў. Толькі тады ён будзе праўдзівы й цікавы.*

*З праўдзівай да Вас пашанай Кушэль.*

*Нью-Ёрк*
*2 чырвеня 1958 г.*

*Вельмі Паважаны Спадар Акула,*

*Атрымаў кагадзе Ваш ліст і пастараюся даць Вам тыя інфармацыі, якія мне ведамыя. Перш за ўсё вельмі хвалю Вас за тое, што Вы ўзяліся напісаць раман, які мае адтварыць для беларускага грамадзтва адзін зь вельмі важных адрэзкаў нашае гісторыі, а гэта спробу збройнага змаганьня за незалежную Беларусь. Я па гэтым Вашым лісьце не магу судзіць, як вялікі адрэзак часу Вы зьбіраецеся абняць Вашым раманам, аднак ад сябе параіў бы абняць ня толькі пэрыяд БКА, але й ранейшыя, ад самага пачатку вайны, г. зн. ад чырвеня 1941 году, бо ўжо ўвосені гэтага году немцы пачалі тварыць беларускія аддзелы, самперш паліцыі, а тады — далі дазвол на арганізацыю Самааховы ў 1943 годзе, курсаў перашкаленьня афіцэраў у Менску, арганізаваўся чыгуначны батальён, г. зв. асабовы батальён і, як апошняя арганізацыя, БКА — гэта ўжо запраўднае беларускае войска.*

*Перад арганізацыяй БКА была створаная БЦР. Ачоліў яе паклiканы генэральным камісарам Беларусі генэралам СС Готбэргам*[255] *сп. Радаслаў Астроўскі, які й дабраў індывідуальна людзей на сяброў БЦР з прызначэньнем на акрэсьленую функцыю.*

255 **Курт фон Готберг** (11.02.1896 — 31.05.1945), дзяржаўны і вайсковы дзеяч нацысцкай Нямеччыны, обергрупенфюрэр СС, генерал войск СС і паліцыі. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Член НСДАП ад 1932 г. У Беларусі ад 1942 г., прызначаны камандаючым войскамі СС і паліцыі. 23 верасня 1943 г. пасля забойства Вільгельма Кубэ прызначаны выконваючым абавязкі генеральнага камісара Беларусі, яго паўнамоцтвы пашыраныя на ўсходнія і паўднёвыя беларускія рэгіёны, якія раней падпарадкоўваліся кіраўніцтву групы армій «Цэнтр» і рэйскамісарыята Украіны. Скончыў жыццё самагубствам у брытанскім палоне.

*Я быў пакліканы на вайсковага рэфэрэнта БЦР. На пленарным паседжаньні БЦР было пастаноўлена правесьці мабілізацыю беларусаў у беларускае войска пад назваю Беларускай Краёвай Абароны. Я павінен быў апрацаваць мабілізацыйны плян, і я яго апрацаваў разам із капітанам Мікулам. Паводле гэтага пляну й была праведзеная мабілізацыя, абвешчаная 10 сакавіка 1944 году. Як раней пры Самаахове, з мае ініцыятывы быў арганізаваны курс перашкаленьня афіцэраў, гэтаксама з маёй ініцыятывы была арганізаваная афіцэрская школа пры БКА. Цяжка было знайсьці адпаведнага камандзіра на афіцэрскую школу. Выбар паў на Віктара Чабатарэвіча, дзеля таго, што іншага кандыдата на пост проста не было, бо капітан Мікула мусіў заставацца ў штабе БКА як мой заступнік. Як разгортваліся выпадкі да эвакуацыі афіцэрскай школы й БЦР з Менску, дык Вы добра ведаеце. БЦР у поўным складзе была вывезеная ў Кэнісбэрг. Афіцэрская школа атрымала загад ісьці маршам пешым у кірунку Маладэчна. Ранічкою, яшчэ перад усходам сонца, а было гэта 28 чырвеня, калі БЦР, спакаваўшыся, чакала на транспарт, прыбег у штаб камандзір школы Чабатарэвіч і пачаў прасіць мяне, каб я звольніў яго на два дні адвезьці жонку зь дзіцем у Стоўпцы, дзе быў ягоны дом. Ён запэўніў мяне, што праз два дні школу дагоніць. Кіруючыся чыста людзкімі пачуцьцямі, я дазволіў яму на гэта, а часовым камандзірам вызначыў капітана Мікулу. Аднак, як пасьля выявілася, Чабатарэвіч і не падумаў даганяць школу і зьявіўся ў БЦР ажно ў Бэрліне ўвосені. Паводзіны Чабатарэвіча былі, бясспрэчна, ня што іншае як звычайнае дызэртырства, і ў незалежнай дзяржаве за такі пастуак ён быў бы аддаьны пад палявы суд. Мы гэтага зрабіць не маглі, бо ня мелі ніякай улады.*

*Цяпер спэцыяльна аб капітане Мікулу.*

*Мікула быў сынам малазямельнага селяніна з-пад Нясьвіжу. Ягоны старэйшы брат быў прызваны ў польскае войска, а дзеля таго, што быў гэта здольны хлапец, ён трапіў у падафіцэрскую школу. Скончыўшы яе, ён па нейкім часе здаў экзамен у афіцэрскую школу для падафіцэраў, пасьля чатырох год навукі быў авансаваны на падпаручыка й служыў у польскім войску. Тым часам у бацькоўскай хаце падрастаў ягоны малодшы брат Віталі. Падпаручыку Мікулу захацелася «вывесьці ў людзі» й свайго малодшага брата. Калі Віталі скончыў сяміклясавую школу, то старэйшы брат накіраваў яго здаваць экзамен у*

*кадэцкі корпус. У польскія кадэцкія корпусы прымаліся маладыя хлапцы, якія скончылі сем клясаў пачаткавае школы, з тым, што, скончыўшы корпус, яны былі кандыдатамі ў афіцэрскую школу. У корпусы (а было іх у Польшчы самперш 3, а пасьля адно 2), трэба было здаваць канкурсовы экзамэн. Віталі Мікула здаў гэткі экзамэн з добрым вынікам. Але апрача экзамэну з агульных ведаў ад кандыдатаў у кадэцкі корпус вымагаліся яшчэ пэўныя фізычныя нагрузкі. Мікула быў вельмі худы, зmoраны хлопец. Калі яго паставілі на вагу, дык ён заважыў на колькі кіляграмаў менш, чымся вымагала норма. Лекар Мікулу адкінуў. Аднак Мікула ня здаўся. Ён напісаў заяву прэзыдэнту Польшчы Масьціцкаму. У заяве, між іншым, ён напісаў гэтак: «карпусовы лекар адкінуў мяне за тое, што мая вага не сягае нормы, але лекар ня ведаў таго, што я ў хаце ад маленства гадаваўся адно на бульбе з халадніком». Няведама, ці гэты аргумэнт пераканаў Масьціцкага, але прэзыдэнт налажыў на ліст Мікулы рэзалюцыю «прыняць». Гэткім чынам Мікула трапіў у кадэцкі корпус.*

*У гэтым самым часе — у 1932 годзе — я быў пераведзены з палку ў кадэцкі корпус на становішча камандзіра роты. Кадэт Віталі Мікула быў у маёй якраз роце. Вучыўся ён вельмі добра, але фізычным заморышам застаўся, нягледзячы на тое, што кадэтаў вельмі добра кармілі. У 1935 годзе наш корпус перавялі з гораду Хэлмно на Памор'і ў горад Равіч у Пазнаншчыне. Горад гэты славіўся тым, што там была, апрача кадэцкага корпуса ды іншых установаў, і вялізарная турма, дзе адбывалі доўгатэрміновыя кары побач із злачынцамі і шматлікія палітычныя, у тым ліку шмат беларусаў-грамадаўцаў. Увесну 1936 г., калі мая рота рыхтавалася да матуральных экзаменаў, мяне папрасіў у сваю канцылярыю аднойчы камандзір корпусу палк. Кавальскі. Ён пачаў мяне распытваць аб кадэту Мікулу. Атрымаўшы ад мяне як найлепшую аб ім апінію, палкоўнік падаў мне нейкі ліст і сказаў, каб я яго тут жа прачытаў. У гэтым лісьце нейкі чалавек з тае вёскі, скуль паходзіў Мікула, пісаў свайму сябру-беларусу, які адбываў кару ў Равіцкай турме быццам за тое, што камуніст, што ў Равічы знаходзіцца «свой чалавек», Віталі Мікула, які можа яму дапамагчы. Турэмная адміністрацыя, замест даручыць ліст вязьню, пераслала яго палк. Кавальскаму. Палкоўнік заявіў мне, што Мікула будзе зараз жа звольнены з корпусу. Шмат каштавала мне ўпрасіць*

*палкоўніка Кавальскага, каб ён не выкідаў Мікулу напярэдадні экзаменаў, а дазволіў яму здаць матуральныя экзамены. Нарэшце палкоўнік згадзіўся. Але, калі пасьля экзаменаў усе, што іх здалі, былі накіраваныя ў афіцэрскія школы, аднаму Мікулу было ў гэтым адмоўлена. Але Мікула і тут ня здаўся, а сам паехаў у Торунь, дзе была артылерыйская афіцэрская школа, і патрапіў нейкім чынам туды дастацца. Скончыўшы згаданую школу, ён быў авансаваны на падпаручыка артылерыі. Якім спосабам Мікула, пасьля развалу Польшчы ўвосені 1939 г. трапіў у сваю вёску, я ня ведаю. Даведаўся я аб тым, што ён у хаце, толькі ў 1943 годзе, калі я арганізаваў Самаахову. Я зараз жа выпісаў яго ў Менск і працаваў зь ім разам, аж пакуль мы не разьвіталіся зь ім гэнае трагічнае чэрвеньскае раніцы, аб якой я ўспамінаў вышэй.*

*У беларускім вайсковым руху Мікула выказаў сябе як запраўдны герой. Быў ён вельмі сьціплы, але й вельмі настойлівы. Часта ўступаў у канфлікты зь немцамі, выступаючы ў абароне беларускіх жаўнераў. Дзеля таго, што дэзэрцыя беларусаў зь нямецкіх аддзелаў была вялікая, а пераход да французаў дык і папросту масавы, немцы маглі падазраваць Мікулу як вінавайцу гэтага зьявішча. Як расказаў мне сп. Сардэчанка (Прускі) з Дэтройту, ён сам быў сьветкам сваркі капітана Мікулы зь немцамі. Паводле ягонае інфармацыі, у часе аднэй з спрэчкаў немцы Мікулу арыштавалі й вывезьлі ў Дахаў, дзе ён і загінуў.*

*У апошнія месяцы вайны немцы арганізоўвалі зь беларускіх жаўнераў, у тым ліку й з вучняў нашае афіцэрскае школы, г. зв. «Егер кампаніі»*[256]*, пасылаючы іх на францускі фронт дзеля зьбіваньня амэрыканскіх і ангельскіх танкаў. Большыня зь іх пераходзілі пры першай нагодзе да французаў. Я не магу, аднак, падаць Вам ані прозьвішчаў, ані месцаў, дзе гэткія выпадкі здарыліся. Ведаю адно, што калі немцы каго з такіх злавілі, дык на месцы расстрэльвалі. Аб гэтым мог бы Вам расказаць сп. Курыла, які сам зь іншымі нашымі вайскоўцамі перайшоў быў да французаў.*

*Аб сьмерці Мікулы Вам можа расказаць сп. Сардэчанка. Адрасу ягонага я ня маю, але Вы можаце, калі таксама яго ня маеце, напісаць на адрас сп. Язэпа Сажыча, з просьбай перадаць сп. Сардэчанку (Прускаму).*

---

[256] «Егер кампаніі» (ням. *Jägerkompanie*) — паляўнічая рота

*Да «Егер кампаніі» належаў таксама адзін з маладых беларускіх дзеячоў капітан Зыбайла*[257]*, які перайшоў да французаў. Ён быў расстраляны ў Францыі палякамі*[258]*. Аб гэтым добра ведае сп. Прэзыдэнт Абрамчык, які ў сваім часе езьдзіў яго ратаваць. Сп. Прэзыдэнт шмат наагул аб гэтых рэчах ведае, ведае, пэўне, нямала і ягоны пляменьнік, які цяпер жыве ў Парыжы, бо быў у гэтых кампаніях*[259]*.*

*Дык вось і ўсе інфармацыі, якія я магу Вам даць. Калі Вам будзе патрэба яшчэ якіх інфармацыяў, якія я буду магчы Вам даць, дык напішэце мне і я пастараюся зрабіць што будзе ў маёй моцы. Між іншага, кароткі прабег вайсковае акцыі на Беларусі я апісаў сёлета ў сакавіковым нумары «Бацькаўшчыны» пад загалоўкам «Сорак год збройнага змаганьня за незалежнасьць Беларусі».*

*Жадаю Вам удачы ў Вашай працы.*

*З праўдзівай пашанай Кушэль.*

*16 ліпеня 1958 г.*

*Вельмі Паважаны Спадар Акула,*

*Атрымаў Ваш ліст, у якім Вы даяце мне цэлы рад пытаньняў у справе арганізацыі беларускае паліцыі, Самаааховы й БКА ў часе 2-ое сусьветнае вайны. У адным лісьце немагчыма адказаць на ўсе Вашыя пытаньні. Некаторыя зь іх гэткія складаныя, як, прыкладам, сьмерць ген. Езавітава, што толькі на адно гэтае пытаньне можна было б напісаць цэлую кнігу. У гэтым лісьце я пастараюся даць Вам адказ на першае Вашае пытаньне — аб беларускай паліцыі.*

---

[257] **Рыгор Зыбайла** (15.09.1913, Слонімскі пав. — 15.11.1987, в. Яглевічы Івацэвіцкага р-на), палітычны і вайсковы дзеяч. Браў удзел у нямецка-польскай кампаніі 1939 г., трапіў у нямецкі палон, пасля вызвалення працаваў у Беларускім камітэце ў Бялай-Падлясцы. Ад восені 1941 г. кіраваў Слонімскім акружным камітэтам БНС. Летам 1943 г. пераехаў у Мінск, выконваў абавязкі намесніка старшыні БНС. У 1944–1945 гг. афіцэр БКА і 30-ай (беларускай) дывізіі войск СС. Пасля 1945 г., пры нявысветленых абставінах быў захоплены савецкай контрвыведкай і этапаваны ў Мінск. Асуджаны на шматгадовы тэрмін зняволення. У Беларусь вярнуўся ў 1950-х гг.

[258] Кушаль памыляецца, Рыгор Зыбайла не быў расстраляны палякамі (Гл. папярэднюю спасылку).

[259] Верагодна, маецца на ўвазе Даніла Клінцэвіч.

*Улетку і ўвосені 1941 году нямецкая армія атрымала такую бліскуючую перамогу над арміяй савецкай, што як у нямецкім вайсковым камандаваньні, а таксама ў нямецкіх палітыкаў літаральна перавярнулася ў галаве. Ім здалося, што яны на ўсходзе непераможныя і таму могуць не лічыцца з жыхарствам занятых абшараў. Прасьледуючы ворага, нямецкая армія ішла ўсьцяж наперад. Для акупацыі Беларусі была пакліканая нямецкая паліцыя, але яе было замала. З часткі Беларусі быў створаны г. зв. Генэральны Камісарыят Беларусі із цэнтрам у Менску. Згаданы абшар быў падзелены на гэбіты, апошнія — на паветы й воласьці. У кажным гэбіце стаяў на чале гэбтскамісар, побач зь ім — камандант паліцыі гэбіту. Дзеля таго, што, як я ўжо сказаў, нямецкай паліцыі было замала, камандантам паліцыі гэбіту было дазволена арганізаваць зь мясцовага жыхарства дапаможную паліцыю да паліцыі нямецкай. Каманданты паліцыі гэбітаў гэткую паліцыю і арганізавалі. Набор у дапаможную паліцыю адбываўся паводле прынцыпу дабравольнага найму. Каманданты паліцыі гэбіту наймалі людзей самі, без паразуменьня ці то зь мясцовымі арганізацыямі ці аўтарытэтнымі асобамі зь беларускага актыву. У Заходняй Беларусі ў першую чаргу пайшлі наймацца ў паліцыю палякі, і то проста масава, а нават, стваралася ўражаньне, арганізавана, як бы зь нечага загаду. Дзеля таго, што сярод згаданых палякаў было шмат падафіцэраў, якія добра зналі службу, а шмат хто ведаў і нямецкую мову, дык неўзабаве яны апанавалі гэбітс-камандантаў паліцыі і ўвайшлі ў іхны давер, стаўшыся перакладчыкамі й дараднікамі немцаў. Гэта яны якраз угаварылі немцам, што беларус і бальшавік — гэта адно й тое самае, дзеля чаго напачатку немцы былі так варожа паставіліся ў дачыненьні да беларусаў. Апрача палякаў у дапаможную паліцыю трапіла шмат розных авантурыстых з крымінальнай мінуласьцяй, і толькі пазьней туды пачалі наймацца й беларусы, якія часта хавалі сваю нацыянальную прыналежнасьць, каб быць прынятымі. Гэтак прадстаўляліся справы ў Заходняй Беларусі. У Ўсходняй — у дапаможную паліцыю пайшлі самперш энкавэдыстыя, адсталыя ад сваіх аддзелаў чырвонаармейцы і злачынцы featureрознага калібру, выпушчаныя пры адступленьні з турмаў. Масава пайшлі ў паліцыю і г. зв. немцы з-пад Волгі, якія ў вялізнай большыні былі людзьмі малой вартасьці й сумлеўнай маральнасьці, але якіх немцы*

*ахвотна прыймалі як сваіх аднапляменцаў. Гэтыя фольксдойчы і апанавалі на ўсходзе камандантаў паліцыў гэбітаў, стаўшыся ў першую чаргу перакладчыкамі. Аднак немцы хутка пераканаліся, што набраная імі дапаможная паліцыя вельмі благая і няпэўная. Пачаліся ў Усходняй Беларусі рэпрэсіі супраць злачыннага элемэнту ў паліцыі. Злачынцаў вылоўлівалі й сурова каралі, найчасьцей — вешалі.*

*Чаму ж гэтак сталася, што як на ўсходзе, гэтак і на захадзе Беларусі ў дапаможнай паліцыі знайшліся не беларусы, а элемэнты, беларусам варожыя? Сталася гэта ў першую чаргу таму, што нашыя палітычныя дзейнікі нічога не патрапілі зрабіць на вярхох асяродзьдзя нямецкіх палітыкаў перад вайною, не ўсьвядомілі іх у беларускай справе, а таксама й таму, што ў момант выбуху вайны на Беларусі не было ніякіх аўтарытэтных беларускіх арганізацыяў, якія маглі б аргнізавана заняць тое ці іншае становішча ў дачыненьні новага акупанта Беларусі ды супрацьдзеіць варожай прапагандзе палякаў супраць беларусаў. Тыя маладыя беларусы, якія пачалі пазьней наймацца ў дапаможную паліцыю, рабілі гэта сьпярша бясплянава, на сваю асабістую адказнасьць.*

*Першым бюргмайстрам гораду Менску пад нямецкай акупацыяй быў др. В. Тумаш. Даведаўшыся, што я жыву ў сваёй вёсцы ня так далёка ад Менску, др. Тумаш у канцы верасьня 1941 году прыехаў з Касмовічам у Доры, у дом майго бацькі й братоў і запрапанаваў мне, каб я пераехаў у Менск і абняў камандаваньне паліцыяй. Я на гэта нарэшце згадзіўся й паехаў у Менск. Камандаваў тады паліцыяй капітан савецкай арміі Пугачоў*[260]*, беларус-усходнік, які зь беларускага Пугача перарабіўся ў Пугачова. Сьпярша я толькі прыглядаўся гэтай паліцыі, а праз нейкі час, прыгледзіўшыся ды запазнаўшыся із справай, запрапанаваў нямецкаму камандаваньню паліцыі выбраць вартасьнейшых людзей зь Менскага аддзелу і арганізаваць для іх падафіцэрскую школу. Не без дапамогі др. Тумаша мне ўдалося гэта зрабіць. Я выбраў 40 маладых беларусаў, паходзячых зь Менску й ваколіцы, і арганізаваў школу. Апрача вайсковых прадметаў у гэтай школе выкладалася й беларусаведа, праводзілася нацыянальная праца. Школа праіснавала да травеня 1942 году й дала*

---

[260] **Міхал Пугачоў** — капітан савецкай арміі, які ў 1944 г. далучыўся да Камітэта вызвалення народаў Расіі А. Уласава.

*вельмі добрыя вынікі. Ад гэтага часу немцы й пачалі папаўняць дапаможную паліцыю маладымі беларускімі хлапцамі зь вёскі. У гэтым самым часе пачаўся прымусовы набор у дапаможную паліцыю й на правінцыі, дзе пачалі тварыцца паліцыйныя палкі. Адзін гэткі полк быў арганізаваны ў Случчыне, другі — у Астрашыцкім гарадку*[261]*. Аднак прымусова забраныя людзі не хацелі служыць у паліцыі. Пачалася масавая дэзэрцыя, зь якой немцы не маглі даць рады. Камандант паліцыі Беларусі нямецкі пакоўнік Каўфман запрапанаваў мне паехаць зь ім у паліцэйскія палкі з тым, каб я правёў там гутаркі зь людзьмі. Я згадзіўся, і мы з палкоўнікам Каўфманам і капітанам Кумэрам, які добра ведаў расейскую мову, паехалі ў палкі. Калі мы прыяжджалі на месца, полк выстрайваўся, і я праводзіў зь ім гутарку. Я тлумачыў людзям, што нам, беларусам, неабходна стварыць кадры свае беларускае збройнае сілы, а таму што на разе гэта немагчыма, мы мусім выкарыстаць нагоду перашкаленьня ў радох паліцыі, і таму ўсе сьведамыя беларусы павінны заставацца на месцы й старацца здабыць як найболей вайсковых ведаў. Ці пад уплывам гэткіх маіх гутарак, але дэзэрцыя ў паліцыйных палкох вельмі неўзабаве паменшала. Немцы пачалі прыходзіць да пераканаьня, што без дапамогі беларускае інтэлігенцыі яны самі зь людзьмі рады не дадуць. Гэткім чынам падрыхтоўваўся грунт пад Самаахову, а пазьней — БКА.*

*З праўдзівай да Вас пашанай Кушэль.*

*4 жніўня 1958 г.*

*Самаахова*

*Першай легальнай беларускай арганізацыяй у часе нямецкае акупацыі Беларусі была гэтак званая Беларуская Самапомач. Гэтую арганізацыю стварылі самі немцы, маючы наўвеце чыста гаспадарчую справу. Заданьнем Беларускае Самапомачы было дапамагаць ежаю й вопраткай, а таксама і ў кажнай іншай патрэбе, патрабуючаму гэтае дапамогі жыхарству Беларусі ў межах Генэральнага Камісарыяту Беларусі. На чале Беларускае Самапомачы немцы паставілі др. Івана Ермачэнку, лекара паводле прафесіі, які займаўся лекарскай практыкай перад вайною ў чэскай Празе. Якім спосабам здабыў ён давер*

[261] Маюцца на ўвазе 36-ы паліцэйскі полк і памылкова названы палком 49-ы ахоўны батальён.

*немцаў — невядома, факт той, што яны прывезьлі яго ў Менск восеняй 1941 г. з Бэрліну із заданьнем арганізаваць Беларускую Самапомач. Ермачэнка быў цалкам незалежным ад беларускіх установаў і арганізацыяў, за ягонымі плячыма стаялі толькі немцы. Узяўся ён за даручанае яму заданьне вельмі энэргічна, выканаўшы яго ў параўнальна кароткі час. У Менску паўстала цэнтраля Самапомачы, а скрозь на правінцыі — аддзелы.*

*У сьнежні 1941 г. немцы атрымалі вялікую паразу пад Масквою. Нямецкая армія ня толькі не здабыла Масквы, як гэтага немцы спадзяваліся, але была прымушаная адступіць ад Масквы кілямэтраў на дзьвесьце на захад. У лютым 1942 г. здарылася новая велізарная параза — пад Сталінградам была абкружаная й цалкам зьнішчаная армія маршала Паўлюса. Вясною 1942 г. на Беларусі пачалі праяўляць вялікую актыўнасьць партызаны, якія рабілі немцам велізарныя страты. Гэтыя здарэньні прымусілі немцаў задумацца над палажэньнем і шукаць нейкага выхаду. З партызаншчынай немцы самі рады даць не маглі. Арганізацыя зь беларусаў паліцыйных палкоў, аб якіх я пісаў Вам у папярэднім лісьце, не дала спадзяваных вынікаў, бо нашыя людзі немцам ня верылі, баяліся іх, і паўстрымаць дэзэрцыю ў паліцыйных палках маглі толькі нацыянальна сьведамыя беларусы, аўтарытэтныя ў беларускім грамадзтве людзі. Аднак гэткія людзі служыць у паліцыю ня йшлі. Трэба было нейкім спосабам змусіць іх да гэтага. Такім чынам і паўстала ідэя арганізацыі Беларускай Самааховы. Праўда, ня можна сказаць, што й з боку беларускага не было ўзьдзейнічаньня на згаданую справу. Наадварот, нашыя чыньнікі ўвесь час стараліся пераканаць немцаў, каб тыя дазволілі стварыць у нейкай форме збройныя беларускія адзінкі. Аб гэтым, націсканы беларускім грамадзтвам, гаварыў немцам і той жа др. Ермачэнка, і праф. Іваноўскі, які пераняў у гэтым часе ад др. Тумаша пасаду бургамістра гораду Менску, і шмат хто яшчэ. У чэрвені 1942 г. начальнік нямецкае паліцыі Беларусі й Генэральны Камісар выдалі загад, накіраваны да др. Ермачэнкі, аб арганізацыі Беларускай Самааховы. Атрымаўшы загад, др. Ермачэнка склікаў арганізацыйны сход, на які былі запрошаныя прадстаўнікі ад беларускага грамадзтва, прадстаўнік ад Ген. Камісарыяту і ад штабу нямецкае паліцыі. На гэтым сходзе др. Ермачэнка прачытаў прыгаданы загад. Зьмест ягоны быў такі: Ген. Камісар Беларусі дазваляе беларускаму жыхарству Ген. Камісарыяту Беларусі арганізаваць у мэтах самаа-*

*бароны перад бальшавіцкімі партызанамі паліцыйныя адзінкі ў гэбітах, у сіле батальёну кожная. Кожны з гэтых батальёнаў меўся быць самастойны і падлягаць нямецкаму гэбітс-камісару паліцыі. Склад батальёну меўся быць беларускі, зь беларускімі камандзірамі й беларусам-камандзірам батальёну. Нямецкі камандант паліцыі Ген. Камісарыяту Беларусі меўся даць батальёнам узбраеньне. Утрыманьне і абмундзіраваньне батальёнаў ускладалася на Беларускую Самапомач. Адказнасьць за арганізацыю Самааховы і за яе палітычную надзейнасьць ускладалася на кіраўніка Беларускай Самапомачы др. Ермачэнку.*

*Пасьля прачытаньня загаду пачалася дыскусія. У першую чаргу паўстала пытаньне, з чаго распачынаць арганізацыю Самааховы. Я, будучы прысутным на гэтым сходзе, запрапанаваў пачаць арганізацыю першых беларускіх збройных адзінак падрыхтоўкай кадраў. Дзеля таго, што не было вядома, колькі ў нас ёсьць афіцэраў і якія яны, дык у першую чаргу трэба было зрабіць улік афіцэраў. Найлепш было б гэта зрабіць, паклікаўшы іх у Менск на перашкаленьне. Усе з маёю прапановаю згадзіліся. Першы курс перашкаленьня пачаўся першага ліпеня 1942 г. На курс гэты былі пакліканыя 120 афіцэраў. Усе яны былі вельмі розныя і паводле веку, і паводле вайсковых ведаў. Былі між імі шасьцідзесяцігадовыя прапаршчыкі запасу царскае арміі, а побач зь імі дваццацігадовыя падхаронжыя рэзэрвы польскае арміі, савецкія лейтэнанты й г. д. Былі выпадкі, калі на курсы прыбывалі бацька із сынам. Камандзірам курсу быў я. На свайго заступніка я паклікаў зь Нясьвіжа Віталія Мікулу. Адчыненьне першага курсу адбылося вельмі ўрачыста ў прысутнасьці гасьцей як зь беларускага, гэтак і зь нямецкага боку. Вітаў першы курс Ген. Камісар Вільгельм Кубэ*[262]*. Пер-*

[262] **Вільгельм фон Кубэ** (13.11.1887, Глогаў-на-Одэры (цяпер Польшча) — 22.09.1943, Мінск), нямецкі вайсковы і палітычны дзеяч. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнік Нямецкага нацыянальнага саюзу студэнтаў (1911–1914), сябра шэрагу партый нацыяналістычнага кірунку, дэпутат Рэйхстага (1924), сябра Нямецкай нацыянал-сацыялістычнай рабочай партыі (НСДАП) ад 1927 г. Пасля перамогі НСДАП — обер-прэзідэнт Берліна і Брандэнбурга (1933). У 1941 г. прызначаны кіраўніком цывільнай адміністрацыі ў Генеральным камісарыяце Беларусі. Загінуў у выніку замаху. Існуе меркаванне, што ліквідацыя Кубэ адбылася з маўклівай згоды вышэйшага кіраўніцтва СС.

*шы курс цягнуўся месяц часу. Першага жніўня быў адчынены другі курс, таксама ў складзе 120 афіцэраў. Першага верасьня пачаўся трэці курс, у складзе 60 афіцэраў. Гэткім чынам быў сьцверджаны ня толькі лічбавы стан нашых афіцэрскіх кадраў, але і іхная вайсковая веда, і ўсім была дадзена аднолькавая вайсковая дактрына. Пасьля заканчэньня афіцэрскага перашкаленьня гэтымі ж перашколенымі афіцэрамі былі праведзеныя ў акругах курсы перашкаленьня падафіцэраў паводле гэткага ж узору.*

*Вонкава курсанты прадстаўляліся блага. Як я ўжо прыгадваў, вопратку для іх павінна была пастарацца Самапомач. Ясна, што ніякага абмундыраваньня яна даць не магла. Таму кажны насіў вопратку, у якой прыйшоў на курс, а была яна вельмі розная. Аднак незалежна ад гэтага сівы бацька крочыў у тахт із бязвусым сынам. Настрой быў ва ўсіх вельмі добры. У часе перапынкаў чуліся вясёлыя жарты й сьмех. Я з прыемнасьцю ўспамінаю гэтыя курсы.*

*Падрыхтаваўшы гэткім чынам афіцэрскія й падафіцэрскія кадры, была пачатая арганізацыя батальёнаў Самаахловы, як я ўжо казаў, арганізаваліся яны ў гэбітах, па адным батальёне ў кажным. Вонкава батальёны гэтыя мала чым розьніліся ад партызанаў. Зброя і амуніцыя былі самыя розныя, часта амуніцыя не падыходзіла да вінтовак. Нягледзячы на гэта, батальёны нашыя вельмі добра змагаліся з партызанамі. Адзін з камандзіраў батальёнаў Самаахловы, Ніл Краўцэвіч, жыве цяпер у Спрынгфілдзе. Батальёны Самаахловы праіснавалі аж да адыходу немцаў зь Беларусі*[263]*. У часе адступленьня шмат людзей з батальёнаў разышліся па хатах, частка ж адступіла зь немцамі, будучы пазьней улучаныя ў 30 дывізію Зіглінга.*

*Дзеля паўнейшае характарыстыкі др. Ермачэнкі падаю яшчэ наступнае: як я ўжо ўспамінаў, др. Ермачэнка быў нямецкім стаўленікам і верна ім служыў. Ён якраз спрычыніўся да загу-*

---

[263] Афіцыйна батальёны Беларускага корпусу самаахловы былі раззброеныя і ліквідаваныя ўвесну 1943 г. адначасова з рэарганізацыяй Беларускай народнай самапомачы ў выніку падзеяў, апісаных у лісце Віктара Чабатарэвіча ад 14 снежня 1962 г. (пункт «БНС і звальненьне др. Ермачэнкі»). Да 1944 г. праіснавалі толькі два батальёны — у Глыбокім і Слоніме.

*бы каталіцкіх беларускіх сьвятароў Глякоўскага[264] й Мальца[265], а таксама ксяндза Гадлеўскага[266]. Калі пасьля арышту іх беларускае грамадзтва дамагалася ад Ермачэнкі, каб ён выступіў перад немцамі ў іхнай абароне, ён ад гэтага адмовіўся. Пад вясну 1943 г. др. Ермачэнка скампрамітаваўся быў перад немцамі. Немцам удалося высьлядзіць, што ён адпраўляе цэлымі вагонамі саланіну й сала ў Прагу, у Чэхію, дзе жыла ягоная жонка ды давераныя людзі. У Празе яна пасыланую ім зь Менску саланіну прадавала па спэкуляцыйных цэнах. Грошы, вядома, ішлі ў кішэню др. Ермачэнкі і ягоных супольнікаў. Згаданая саланіна дастаўлялася ў Менск у Самапомач з аддзелаў на правінцыі дзеля харчаваньня галоднага менскага жыхарства. Даведаўшыся аб гэткіх штуках Ермачэнкі, немцы зараз жа зьнялі яго са становішча кіраўніка Беларускае Самапомачы, а неўзабаве некуды вывезьлі, казалі, быццам пасадзілі яго за надужыцьці ў турму, меўся адбыцца над ім суд у Бэрліне й г. д. Але пасьлей выясьнілася, што ў афэру Ермачэнкі былі замешаныя й некаторыя ўрдаўцы Ген. Камісарыяту — немцы, і таму справу затушавалі. Пасьля др. Ермачэнкі старшынёю Беларускае Самапомачы быў пакліканы немцамі Юрка Сабалеўскі, які й займаў гэтае становішча да канца вайны.*

*З пашанаю Кушэль.*

[264] **Станіслаў Глякоўскі** (02.03.1896, м. Поразава Ваўкавыскага пав. — снежань 1941?), рыма-каталіцкі святар, рэлігійны і культурна-асветны дзеяч, педагог і публіцыст. Выдаваў каталіцкі часопіс для дзяцей «Пралескі» (Вільня), выкладаў і быў старшынём беларускіх скаўтаў у Віленскай беларускай гімназіі. У гады Другой сусветнай вайны выконваў святарскія абавязкі пры касцёле святых Сымона і Алены ў Мінску. Удзельнік канферэнцыі беларускіх школьных інспектараў 15 снежня 1941 г., дзе быў арыштаваны СД. Далейшы лёс невядомы.

[265] **Дзяніс Малец** (1909, в. Лембаўка Дзісенскага пав. — снежань 1941?), рыма-каталіцкі святар, рэлігійны і грамадскі дзеяч. Як ганаровы госць прысутнічаў на канферэнцыі школьных інспектараў у Мінску 15 снежня 1941 г., дзе быў арыштаваны разам з кс. Глякоўскім. Далейшы лёс невядомы.

[266] Ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі быў арыштаваны СД у ноч на 24 снежня 1942 г. і ў той жа дзень расстраляны.

*15 жніўня 1958 г.*

*Вельмі Паважаны Спадар Акула,*

*Пішу Вам наступны ліст. У апошнім Вашым лісьце ў пункце трэцім Вы пішаце: «Беларускі асабовы (чыгуначны) батальён». Я атрымаў уражаньне, што Вы ўважаеце Беларускі асабовы й чыгуначны за адзін і той самы батальён. Дык вось, я хачу Вам гэтую справу выясьніць. Быў адзін беларускі батальён, які афіцыйна ў немцаў называўся Беларускі батальён СС. Дзеля таго, што гэта назва СС занадта скампрамітаваная ў сьвеце і назоў СС кідаў бы на нас як бы чорную пляму, пасуджэньне ў ліквідацыі жыдоў ды інш. эсэсаўскіх злачынствах, я яго называю і ў прэсе, і на ўсіх публічных выступленьнях Беларускім асабовым батальёнам. Апрача гэтага батальёну быў зусім асобны беларускі батальён, які нічога ня меў зь ім агульнага, які называўся Чыгуначным батальёнам. Аб Беларускім асабовым батальёне, у якім служыў старшы лейтэнант Мазур і якога немцы зьнішчылі, я Вам ужо ў адным зь лістоў пісаў, даючы кароткую характарыстыку старшага лейтэнанта Мазура. Да гэтага сяньня дадам, што пасьля бунту ст. лейтэнант Бандыка, які із сваёй ротай і часткаю іншых ротаў, што да яго далучыліся, пайшлі ў лес, усялякі сьлед па іх загінуў, і да сягоньня невядома, што із Бандыкам ды ягонымі людзьмі сталася*[267]*. Рэшта Беларускага асабовага батальёну была сканцэнтраваная ў Аўгустове. Пасьля бунту Бандыка немцы адсунулі ад камандаваньня часткамі ў батальёне ўсіх афіцэраў-беларусаў, даўшы ім вольную руку ісьці куды хочуць. Што зрабілі немцы з жаўнерамі, дакладна невядома, трэба думаць, яны ўключылі іх у нейкую іншую вайсковую фармацыю. Частка афіцэраў, што атрымала вольную руку, прыбыла ў Бэрлін і была ўлучаная ў беларускае войска, якое канцэнтравалася ў Бэрліне на Ліхтэнштрасэ. Адзін з камандзіраў роты Беларускага асабовага батальёну старшы лейтэнант Клінцэвіч*[268]* знаходзіцца цяпер у Нью-Ёрку.*

*Чыгуначны батальён быў арганізаваны пад вясну 1942 г. Заданьнем ягоным была ахова чыгуначных лініяў на Беларусі. Камандзірам батальёну быў капітан Сажыч*[269]*, сяньняшні до-*

[267] Пра лёс Антона Бандыка гл. заўвагі да ліста Францішка Кушаля ад 10 траўня 1958 г.

[268] Маецца на ўвазе Даніла Клінцэвіч.

[269] Маецца на ўвазе Язэп Сажыч.

*ктар у Дэтройце. Жаўнеры набіраліся ў батальён быццам паводле прынцыпу дабраахвотнасьці, але напраўды — быў прымус, які вёўся па лініі Самапомачы не без дапамогі нямецкіх камандантаў паліцыі на мясцох. У батальёне было каля тысячы чалавек. Усе чыгуначныя лініі па Беларусі, пачынаючы прыблізна ад паловы 1942 г. аж да канца нямецкае акупацыі Беларусі, ахоўваліся на самой справе беларускімі жаўнерамі. Калі немцы пад напорам савецкае арміі пакідалі Беларусь, яны мала клапаціліся аб беларускіх жаўнерах, якія былі ім гэткаю вялікаю дапамогаю, ахоўваючы чыгуначныя лініі. Частка зь іх засталася на Беларусі, шмат эвакуіравалася ў Нямеччыну. Тыя, што апынуліся ў Нямеччыне, былі ўлучаныя ў дывізію Зіглінга. Частка зь іх самавольна прыбыла ў Бэрлін і была далучаная да беларускага войска на Ліхтэнштрасэ.*

*Наваградзкі беларускі эскадрон*[270] *пачаў арганізоўвацца ў Наваградку ў 1942 г. у час, калі пачала арганізоўвацца Самаахова. Арганізатарам гэтага эскадрону быў Барыс Рагуля. Ядром эскадрону сталіся вучні настаўніцкай сэмінарыі ў Наваградку. Барыс Рагуля трымаўся вельмі самастойна. Я быў толькі раз у эскадроне, дзе Рагуля прадставіў мяне. Эскадрон прэзэнтаваўся добра, хоць тады гэта быў адно пачатак арганізацыі. Калі была праведзена мабілізацыя ў БКА, дык эскадрон быў улучаны ў склад БКА, які арганізаваўся ў Наваградку. Была арганізаваная ў наваградзкім батальёне і яшчэ адна конная рота, так што батальён у Наваградку складаўся зь дзьвюх ротаў конных і дзьвюх пяхотных. Камандаваў батальёнам Барыс Рагуля. Наваградзкі батальён браў удзел у баях пад Парафіянавым улетку 1944 г. і адступаў разам зь немцамі аж да Наваградку. Тут частка жаўнераў батальёну разышлася па хатах, адмаўляючыся ваяваць далей. Аднак бальшыня засталася і адступала разам з усімі на захад. Як гэта заўсёды*

[270] Навагрудскім беларускім эскадронам у эміграцыйнай літаратуры называўся паліцэйскі батальён № 68, створаны ў Навагрудку ў лютым 1944 г. на чале з Б. Рагулем (у нямецкіх дакументах ён таксама фігураваў як *Schuma-Reiter-Abteilung Ragula* — конны атрад Рагулі). Паводле ўспамінаў салдат батальёна, арганізацыя ўзброенага атраду з ліку навучэнцаў навагрудскай семінарыі пачалася ў лістападзе 1943 г. — тым часам Беларускі корпус самааховы ўжо перастаў існаваць. Батальён ніколі не быў далучаны да БКА, але быў часткай паліцэйскай групы Готберга, і ў чэрвені 1944 г. браў удзел у антыпартызанскай аперацыі «Свята вясны».

*амаль бывае, калі эвакуацыя адбываецца пад напорам ворага, у Наваградку ў згаданым часе панаваў вялікі балаган. Камандзір батальёну Барыс Рагуля дастаў недзе самаход, пасадзіў сваю нарачоную (цяпер жонку)*[271]*, свайго дзядзьку Васіля Рагулю, начальніка Наваградзкай вайсковай акругі Ф. Родзьку, і ўсе паехалі ў Варшаву. Гэтым фактам выезду камандзіра жаўнеры батальёну, якія асталіся ў ім і хацелі разам адступаць на захад, былі вельмі абураныя. Урэшце каманду над рэштаю батальёну абняў адзін з ротных камандзіраў старшы лейтэнант Друцька*[272]*, які й прывёў батальён у Нямеччыну, дзе ўсе былі ўлучаныя ў дывізію Зіглінга. Аб усёй гэтай эпапеі Наваградзкага батальёну апісвае сам камандзір ягоны Б. Рагуля ў часапісе «Наперад», што выходзіў сьпярша ў Ангельшчыне, а пасьлей у Бэльгіі ў нумарох 24, 25, 26 і 27. Праўда, у артыкуле гэтым ёсьць шмат самарэклямы, але ў асноўным факты пададзеныя правільна. Удзельнікамі згадных падзеяў былі вайскоўцы Наваградзкага батальёну сп. сп. Юрка Мазура, які жыве цяпер у Дэтройце, і сп. Кастусь Мярляк зь Нью-Ёрку.*

*З пашанай Кушэль.*

*[недатаваны]*

*Вельмі Паважаны Спадар Акула,*

*Атрымаў Ваш трэці ліст і зараз жа пастараюся на яго адказаць. Дык вось, я ўпершыню з Вашага апошняга ліста даведаўся, што Чабатарэвіч далучыўся да афіцэрскае школы каля Вільні, як Вы пішаце, і гэта, безумоўна, кідае зусім іншае на яго сьвятло. У сувязі з гэтым самперш выясьню Вам, як запраўды была справа з эвакуацыяй зь Менску БЦР і Штабу БКА. Паводле загаду нямецкае камэндатуры, яны былі вывезеныя зь Менску ў Кэнігсбэрг. 28 чэрвеня 1944 году зусім раніцою БЦР і Штаб БКА былі заладаваныя ў чыгуначны транспарт*

---

[271] Маецца на ўвазе **Людміла Рагуля** (дзяв. Гутар; нар. 1925, м. Навагрудак), якая ў часе нямецкай акупацыі кіравала арганізацыяй дзяўчат Саюза беларускай моладзі ў Наваградскай акрузе. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Жыла ў Нямеччыне, Бельгіі, а з 1950-х гг. — у Канадзе. Жонка Барыса Рагулі.

[272] Мікалай Друцька перад далучэннем да эскадрону быў камендантам карэліцкай паліцыі, дзе, паводле сведчанняў П. Рашэтніка, адзначыўся ўдзелам у знішчэнні яўрэяў. Пасля вайны, паводле няспраўджаных звестак, быў выкрыты на тэрыторыі Заходняй Нямеччыны і забіты.

*і накіраваныя на Кэнігсбэрг у поўным складзе. Не было адно пры БЦР ягонага прэзыдэнта сп. Астроўскага і ягоных трох ад’ютантаў — Наронскага[273] (якi невядома адкуль пры БЦР зьявіўся й таксама невядома, дзе пасьлей падзеўся), Радзевіча й Плескачэўскага. Пры штабе БКА не было капітана Мікулы, які заместа Чабатарэвіча памашыраваў з Афіцэрскай школай. Транспарт гэты зь вялікімі прыгодамі, якія ледзь не каштавалі жыцьця нам усім, а шмат каму з далучаных да нас у дарозе чужых і каштавалі, быў нарэшце дастаўлены ў Кэнігсбэрг, дзе БЦР і штаб БКА атрымалі памешканьне й пачалі тымчасовую працу. Ні БЦР, ні штаб БКА ў Лодзі не былі. У Лодзь, як я даведаўся ў дарозе ад некаторых сяброў Рады, якія мелі ў Астроўскага лепшы за мяне давер, проста зь Менску паехаў машынай, атрыманай ад немцаў, Астроўскі й ягоныя ад’ютанты, быццам сьледам за афіцэрскай школай. Ці было так запраўды, я да сяньня ня ведаю. У Кэнігсбэргу штаб БКА ня меў нічога рабіць, застаўшыся, як кажуць, генэралам бяз войска. Прабыўшы пару дзён у Кэнігсбэргу, я паехаў таму назад на ўсход на спатканьне сваім аддзелам, а ў першую чаргу шукаць афіцэрскае школы. Я зьвяртаўся да розных нямецкіх штабаў, этапных камандантаў за інфармацыямі адносна школы ці якіх-колечы беларускіх аддзелаў, аднак нічога даведацца ня мог. Я паехаў у кірунку Вільні, спадзеючыся дзе-небудзь па дарозе із школай сустрэцца. Кірунак быў выбраны трапна, бо я запраўды знайшоў неўзабаве нашую школу ў чыгуначным транспарце на станцыі ў Плоцку. Капітан Мікула даў мне справаздачу аб усіх перажываньнях афіцэрскае школы, аб вельмі цяжкім пешым маршы зь Менску да Вільні, лётніцкім атаку ў Вільні, у якім загінула колькі нашых кадэтаў і г. д., ні разу, аднак, не спамянуўшы пра Чабатарэвіча, так што выслухаўшы справаздачу Мікулы, я быў пэўны, што Чабатарэвіч школы не дагнаў. Цяпер паўстае яшчэ іншае пытаньне: чаму Чабатарэвіч, далучыўшыся да школы, як Вы кажаце, не пераняў ад кап. Мікулы сваіх функцыяў, але йзноў яе пакінуў? Паколькі ў Менску ён зрабіў гэта з майго дазволу, каб ратаваць сваю сям’ю, дык хто б яму дазволіў пакінуць школу ў другі раз, пасьля таго, як ён да яе далучыўся? Магчыма адно, што кап.*

[273] Іван Наронскі (1909–?) у часе нямецкай акупацыі працаваў у цывільнай адміністрацыі на Смаленшчыне і Магілёўшчыне.

*Мікула, які як начальнік штабу стаяў над Чабатарэвічам, мог яму на гэта дазволіць. Але йзноў, капт. Мікула атрымаў загад абняць камандаваньне школай да часу павароту Чабатарэвіча, дык чаму ж ён ня здаў яму школы й не вярнуўся ў штаб БКА, які тады знаходзіўся ў Кэнігсбэргу, што было капт. Мікулу добра вядома. У кожным разе, відаць, што здарылася было нейкае трагічнае непаразуменьне, якое ў выніку каштавала жыцьця так вартаснаму чалавеку, як сьв. памяці капт. Мікулу.*

*Разьвітаўшыся зь Мікулам у Плоцку, я, варочаючыся, заехаў па дарозе ў Лодзь, бо былі чуткі, быццам некаторыя батальёны БКА прамаршыравалі ў Лодзь. Але я знайшоў тут толькі некалькі паасобных нашых людзей, між імі сп. Астроўскага, які прыехаў сюды машынай, аб якой я прыгадаў вышэй (у Лодзі была ягоная хата, дзе ён жыў перад вайной, працуючы як настаўнік польскае гімназіі). Тут ён і заставаўся, аж пакуль фронт не наблізіўся да Лодзі. Празь некаторы час я сустрэўся з Астроўскім ужо ў Бэрліне, дзе праз усю зіму 1944–1945 гг. працавалі БЦР і штаб БКА. Напэўна, Вы ведаеце, што мне ўдалося арганізаваць у Бэрліне зборны пункт беларускіх жаўнераў, што адступілі з Бацькаўшчыны. На Ліхтэнштрасэ мне ўдалося атрымаць памешканьне, дзе была сканцэнтраваная вялікая колькасьць беларускіх афіцэраў і жаўнераў. Усе яны былі пазьней улучаныя ў 30-дывізію Зіглінга.*

*Вяртаюся яшчэ раз да Чабатарэвіча. Як я ўжо сказаў, знайшоўшы на станцыі ў Плоцку нашую школу, я ўжо не застаў пры ёй Чабатарэвіча й нават ня ведаў, што ён пры ёй быў. Сустрэўся зь ім я другі раз у Бэрліне недзе зімою 1945 г., а трэці раз — у Нью-Ёрку, дзе Чабатарэвіч да сяньня жыве зь сям'ёю. На заканчэньне падаю Вам яшчэ аднаго нашага былога жаўнера, які можа даць Вам цікавыя інфармацыі. Гэта — сп. Пазьняк[274]. У мінулую нядзелю ён у мяне быў і расказаў якраз, як перайшоў зь нямецкага аддзелу да французаў, падаючы пры гэтым час, месца, а таксама як яго французы прынялі.*

*Жадаю Вам посьпехаў у Вашай працы.*

*З праўдзівай да Вас пашанай Кушэль.*

[274] Маецца на ўвазе Язэп Пазняк (Вайніловіч).

*25.08.1958 г.*

*Вельмі Паважаны Спадар Акула,*

*У гэтым лісьце пастараюся напісаць Вам аб БЦР у пэрыядзе ад Бэрліна да капітуляцыі Нямеччыны.*

*Раньняй восеняй, прыблізна ў пачатку верасьня 1944 г. БЦР была пераведзеная з Кэнігсбэргу ў Бэрлін. У Бэрліне БЦР атрымала некалькі будынкаў на ўскраіне Бэрліну, Вайсэнзэе. У гэтых будынках разьмясьцілася ня толькі БЦР з усімі сваімі канцылярыямі, але й амаль усе працаўнікі БЦР із сем'ямі. Сям'і Астроўскага ў Бэрліне не было, яна знаходзілася ў Вэстфаліі ў невялічкім гарадку Гэкстар. Як я ўжо зазначаў у адным із сваіх папярэдніх лістоў да Вас, БЦР дзялілася на паасобныя рэфэраты, як, прыкладам, нутраных справаў, асьветы, фінансаў, вайсковых справаў і г. д. Усе рэфэраты адчынілі на Вайсэнзэе свае канцылярыі і пачалі працаваць. Што гэта была за праца й што гэтыя ўсе рэфэраты маглі рабіць у Бэрліне, не магу Вам дакладна сказаць. У вайсковым рэфэраце рабілася, аднак, вельмі шмат. У першую чаргу праца йшла па лініі вышукваньня й канцэнтраваньня беларускіх вайскоўцаў, якія апынуліся ў Нямеччыне. З гэтай мэтай вайсковая камандатура ў Бэрліне прыдзяліла нам даволі вялікі будынак на Ліхтэнштрасэ, ня надта далёка ад Вайсэнзэе. У параўнальна хуткім часе беларусы, як вайсковыя, гэтак і цывільныя асобы, што знайшліся ў Нямеччыне, даведаліся аб тым, што БЦР абаснавалася ў Бэрліне й пачалі зьяжджацца сюды. Усе яны без вынятку заліча́ліся ў войска й накіроўваліся ў беларускі будынак на Ліхтэнштрасэ. Тут усе яны аўтаматычна як вайсковыя запра́віянтоўваліся й закватэроўваліся. У разгар гэтага ў вайсковым рэфэраце БЦР здарыліся перамены. У Бэрлін прыбыў генэрал Езавітаў і запрапанаваў сваю працу БЦР.*

*Дагэтуль вайсковы рэфэрат пры БЦР быў арганізаваны так, што я, будучы рэфэрэнтам вайсковых справаў, выконваў абавязак як бы міністра вайсковых справаў, а адначасна камандаючага БКА, што, вядома, было ненармальным. У кожнай дзяржаве нармальна ёсьць міністар вайсковых справаў, да якога належаць абавязкі вайскова-адміністрацыйнага характару. Міністрам вайсковых справаў можа быць і не вайсковы, прыкладам, у ЗША міністрам вайсковых справаў ёсьць чалавек цывільны, цяпер — Мэк-Элрой. У кожнай дзяржаве таксама, апроч міністра, вайсковых справаў, ёсьць*

*і г. зв. галоўнакамандаючы, да якога належаць апэрацыйныя справы, а выканаўчым органам ёсьць Генэральны Штаб.*

*Калі ў Бэрлін прыбыў ген. Езавітаў, дык ён абняў становішча міністра вайсковых справаў, а я — становішча галоўнакамандаючага. Гэта было для мяне вельмі вялікім аблягчэньнем таму, што я заўсёды быў афіцэрам толькі страявым і лепш ведаў ды й любіў гэтую справу.*

*Колькі працаўнікоў было ў БЦР, сказаць не магу. Кажны рэфэрат меў свае кадры. Прыкладам, ген. Езавітаў вельмі сваю канцылярыю разбудаваў. Кіраўніком агульнае канцылярыі ў яго быў сп. Васіленя*[275]*, які жыве цяпер у Аўстраліі. Я ж меў толькі двух сталых працаўнікоў — гэта былі мой ад'ютант сп. В. Кажан*[276] *і машыністка.*

*Сп. Астроўскі ўважаў, што вайсковы рэфэрат у БЦР — найважнейшы, і таму найбольш ім цікавіўся. Яшчэ ў Менску ён вельмі бараніў нашыя вайсковыя справы перад немцамі й войстра няраз выступаў у іхнай абароне перад ген. СС Готбэргам. Калі пасьля мабілізацыі немцы даўгі час не давалі БКА абяцанае*

[275] **Васіленя Аляксей** (27.03.1899, Малая Бераставіца (сёння Бераставіцкі раён Гродзенскай вобласці) —26.07.1978, Сідней, Аўстралія). Вучыўся ў Гарадзенскім рэальным вучылішчы. Падчас Першай сусветнай вайны — у эвакуацыі. Скончыў рэжысёрскія курсы ў Новарасійску. Пасля кастрычніцкага перавароту ваяваў у кавалерыйскім корпусе генерала Дзянікіна. У 1921 г. вярнуўся на радзіму, працаваў у Беларускім аб'язным тэатры да моманту яго ліквідацыі польскімі ўладамі. У 1927–1928 гг. сакратар Палескага аддзела Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Пазней выконваў абавязкі сакратара беларускага пасольскага клуба «Змаганне». Удзельнік нямецка-польскай кампаніі 1939 г., трапіў у палон і быў вызвалены. У часе нямецкай акупацыі — кіраўнік Беларускай народнай самапомачы ў Слоніме, кіраўнік канцылярыі Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР, удзельнік Другога Усебеларускага кангрэсу. Летам 1944 г. выехаў у Нямеччыну, жыў у Берліне, займаў пасаду сакратара Прэзідыюму Беларускай Цэнтральнай Рады. У лагерах для перамешчаных асобаў рэдагаваў сатырычны часопіс «Смехам па галаве», у Гамбургу разам з С. Хмарам і М. Паньковым выдаваў сатырычны часопіс «Маланка». З 1949 г. — у Аўстраліі. Актыўны ўдзельнік жыцця беларускай грамады ў Сіднеі. Адзін з арганізатараў Беларускага аб'яднання ў Новай Паўднёвай Валіі, у якім займаў розныя пасады. Шматгадовы распаўсюднік беларускага друку і сталы прадстаўнік газеты «Беларус» у Сіднеі.

[276] Маецца на ўвазе Віталь Кажан.

*зброі, сп. Астроўскі раз у маёй прысутнасьці заявіў, што калі ў бліжэйшым часе зброя ня будзе дастаўленая, дык ён будзе прымушаны выдаць дэкрэт аб дэмабілізацыі БКА. Гэтая пагроза падзейнічала, зброя, хоць і неадпаведная, але пачала прыбываць у аддзелы. Гэткую тактыку вёў Астроўскі і ў Бэрліне. Наагул супраць сп. Астроўскага як прэзыдэнта БЦР у часох нямецкае акупацыі і пазьней у Бэрліне я ня маю нічога. У Бэрліне БЦР была падпарадкаваная Гаўптамту СС. Гэта бясспрэчна шкодны, адʼемны бок нашае вайсковае справы наагул. Ген. Уласаў[277] быў падпарадкаваны арміі і таму быў у шмат лепшым палажэньні, чым мы, і палітычным, і матэрыяльным.*

*Гаўптамт СС зажадаў ад БЦР, каб вайсковы рэфэрат далей праводзіў мабілізацыю беларусаў у БКА на абшарах Нямеччыны. Гэтую працу й праводзіў ген. Езавітаў як міністар вайсковых справаў. З гэтае прычыны некаторыя беларускія дзеячы да сяньняшняга дня закідаюць Астроўскаму і Езавітаву, што яны мабілізавалі беларусаў у войска для немцаў, хоць ужо ўсім было ясна, што немцы вайну прайгралі.*

*Ген. Езавітаў рассылаў мабілізацыйныя карты ўсім мужчынам-беларусам, дзе толькі яны былі й аб іх даведваўся ген. Езавітаў. Ён высылаў таксама сваіх вербаўнікоў у лягеры працы й г. д. Аднак гэтая акцыя ген. Езавітава давала малыя вынікі, бо беларусы ў немцах ужо зьняверыліся, ня верылі і ў іхную перамогу. Затое знайшлося шмат старых афіцэраў, якія былі ў БКА, Самаахове, а нават і зусім не былі апошнім часам у войску. Усе прыбылыя накіроўваліся ген. Езавітавым у маё распараджэньне, а я прыдзяліў іх на Ліхтэнштрасэ. У гэтым самым часе я із сваім маленечкім штабам распрацоўваў праграму вышкаленьня й практычна застасоўваў іх да ўсяго таго войска, што знаходзілася на Ліхтэнштрасэ й над якім я меў беспасярэднюю ўладу, бо ў нас не было апекуноў з боку нямецкага.*

[277] **Андрэй Уласаў** (14.09.1901, в. Ламакіна Ніжагародскай губ. — 01.08.1946, Масква), расійскі вайсковы дзеяч. Савецкі генерал-лейтэнант, 20 красавіка 1942 г. быў прызначаны камандуючым 2-ой ударнай арміі, застаючыся па сумяшчальніцтве намеснікам камандуючага Волхаўскага фронта. Трапіў у нямецкі палон і пагадзіўся на супрацоўніцтва з нацыстамі, зрабіўшыся кіраўніком Рускай вызваленчай арміі (РОА). Прыканцы вайны арыштаваны савецкай контрвыведкай, асуджаны і павешаны.

*Пад восень 1944 г., у часе, аб якім мова, расейскі ген. Уласаў павёў вельмі моцную прапаганду ня толькі сярод расейскіх вайсковых, а таксама й цывільных, але й сярод беларусаў, украінцаў і іншых. Немцы, ужо нічым не рызыкуючы, хацелі ўзмацніць ген. Уласава ў надзеі, што ён дапаможа ім паўстрымаць ворага на ўсходнім фронце. Агенты Ўласава пачалі ня толькі патаемна прыходзіць на Ліхтэнштрасэ і агітаваць сярод жаўнераў, намаўляючы іх пераходзіць да Ўласава, але й навязалі тайную сувязь з Астроўскім і сябрамі БЦР, да якіх яны мелі больш даверу. Прапановы ўласаўцаў былі прыблізна гэткія: БЦР застаецца чым яна ёсьць з тым, што БЦР прызнае Ўласава сваім галоўнакамандуючым і ўсё беларускае войска ўвойдзе ў склад арміі Ўласава. Сам Астроўскі ўласаўскія прапановы адкінуў, але сярод некаторых сябраў БЦР пачаліся хістаньні. Астроўскі склікаў паседжаньне БЦР і рашуча заявіў, што ня можа быць ніякай мовы аб якім-колечы паразуменьні з Уласавым. Сябры БЦР, якія перайшлі ўжо да Ўласава, казаў ён, будуць уважацца за здраднікаў беларускае справы. У канцовым выніку да Ўласава адышлі: Яўхім Кіпель (бацька), Селях-Качанскі й рэфэрэнт прапаганды вайсковага міністэрства Ўладзімер Дудзіцкі. На Ліхтэнштрасэ ў сувязь із штабам Уласава ўвайшлі адно старыя афіцэры, прапаршчыкі запаса царскае арміі. Яны шчыра хацелі перайсьці да Ўласава. Як я пасьля даведаўся, маючы сваю контрвыведку, яны ўсё ж не перайшлі да Ўласава таму, што Ўласаў не згадзіўся даць ім рангі, якія яны зажадалі. У запраўднасьці ж яны засталіся із намі таму, што Ўласаў іх проста ня прыняў як людзей старых і фізычна няздольных да вайсковае службы. Ня прыняў іх і Зіглінг, аб чым будзе ў наступным лісьце. З праўдзівай прыемнасьцю мушу сьцьвердзіць, што як нашыя маладыя афіцэры, так і жаўнеры, не паддаліся ўласаўскай прапагандзе. Прыблізна ў кастрычніку 1944 г. у Празе Чэскай адбыўся агульны расейскі зьезд пад старшынствам ген. Уласава. На гэтым зьезьдзе выступілі й нашыя здраднікі, якія задэкляравалі супольна із расейцамі пад камандаю Ўласава змагацца з бальшавікамі за вызваленьне народаў СССР. На гэтым жа зьезьдзе быў выбраны выканаўчы камітэт на чале з Уласавым і аддзеламі беларускім, украінскім ды інш.*

*З пашанаю Кушэль.*

*П.С. Адказваю пры гэтым на Ваш апошні ліст. Апошні раз я бачыўся із братам Віталя Мікулы прыблізна ў 1936 г., калі ён прыяжджаў у корпус кадэтаў наведаць свайго брата Віталя. Быў ён тады ў чыне падпаручыка. Ад гэнага часу мінула 22 гады. Я думаю, што ён цяпер мае шмат вышэйшы чын і, відаць, спалянізаваўся. Адкуль у яго, праваслаўнага, такое імя, Мар'ян? Беларусаў-афіцэраў, што выйшлі зь сялян, у Польшчы было некалькі дзясяткаў. Усе яны для беларускае справы загінулі. Толькі адзінкі засталіся верныя свайму народу. Да такіх належаў с. п. паручнік Уладзіслаў Казлоўскі*[278]*, рэдактар беларускае «Менскае газэты», забіты бальшавіцкімі агентамі ў рэдакцыі ўзімку 1944 г., належаў Віталь Мікула, ну, і хіба на гэтым канец. Адносна ген. Езавітава і палк. Сокал-Кутылоўскага я напішу Вам у наступных лістах. Сокал-Кутылоўскага я ведаю ад 1919 г. і шмат аб ім магу напісаць. Яшчэ лепш яго ведае айцец Хведар Данілюк, які быў разам зь ім у Слуцкім паўстаньні і ў сувязі праз увесь час аж да 1944 г.*

*Ф. К.*

*18.09.1958 г.*

*Вельмі Паважаны Спадар Акула,*

*гэты ліст я прысьвячаю генэралу Езавітаву. Ген. Езавітаў быў сынам капітана царскай арміі. Нарадзіўся ў Віцебску*[279]*. Якую меў агульную асьвету і якую вайсковую — ня ведаю. Служыў у царскай арміі. У 1917 г. меў чын падпаручыка. Прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі беларусаў-вайскоўцаў, што служылі ў расейскай арміі. Быў удзельнікам зьезду беларускіх вайскоўцаў, які адбыўся ў Менску 31 кастрычніка*

[278] **Уладзіслаў Казлоўскі** (29.06.1896, в. Залессе Саколкаўскага пав. — 13.11.1943, Мінск), грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст. У 1918–1921 гг. сябра Беларускай вайсковай камісіі, пазней — кадравы афіцэр польскага войска. У 1930 г., звольніўшыся ў запас, пераехаў у Вільню і распачаў грамадска-палітычную і літаратурную дзейнасць. Адзін з арганізатараў і сакратар Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі (БНСП), рэдактар часопіса «Новы шлях». Улетку 1941 г. спрабаваў аднавіць дзейнасць БНСП пад нямецкай акупацыяй, але не атрымаў дазволу акупацыйных уладаў. У 1941–1943 гг. быў рэдактарам «Беларускай газеты» ў Мінску. Застрэлены ў рэдакцыі завербаваным савецкімі спецслужбамі салдатам 13-га батальёна СД Іванам Шнігірам.

[279] Канстанцін Езавітаў нарадзіўся ў Дзвінску (цяпер Даўгаўпілс, Латвія).

*1917 г. На гэтым зьезьдзе быў выбраны адным з заступнікаў старшыні прэзыдыюму выканаўчага камітэту, выбранага зьездам як сталы орган беларусаў-вайскоўцаў. Браў удзел у Першым Усебеларускім кангрэсе ў сьнежні 1917 г. Быў выбраны ў Выканаўчы камітэт Кангрэсу, які пазьней быў названы Радай БНР. Прымаў удзел у гістарычным паседжаньні Рады БНР у дні 25 сакавіка 1918 г., якое абвесьціла незалежнасьць Беларусі. Калі фармаваўся першы ўрад БНР, Езавітаў быў пакліканы на міністра вайсковых справаў. Дзеля таго ж, што меў замалы чын як на міністра, дык на адным з паседжаньняў Рады БНР яму быў нададзены чын паручыка, праз гадзіну — чын штабс-капітана, праз другую — капітана, і калі паседжаньне скончылася, Езавітаў выйшаў зь яго ўжо ў чыне палкоўніка. У гэтым чыне ён і выконваў свае абавязкі міністра вайсковых справаў у першым урадзе БНР. Калі пасьля адступленьня немцаў бальшавіцкая армія заняла Менск, Езавітаў, як і ўвесь Урад БНР, пайшоў на эміграцыю. Чын генэрала быў наданы Езавітаву на эміграцыі. Калі ён абняў абавязкі міністра вайсковых справаў пры БЦР у 1944 г., дык Астроўскі гэты ягоны генэральскі чын падцьвердзіў. Будучы даўгія гады на эміграцыі, ген. Езавітаў жыў у Латвіі аж да 1944 г., да часу, калі Латвію ізноў занялі Саветы. Усе гэтыя гады Езавітаў браў у Латвіі чынны ўдзел у беларускім жыцьці. Калі ген. Езавітаў абняў абавязкі міністра вайсковых справаў у БЦР, дык з гледзішча стажу ў беларускім нацыянальна-вызвольным руху ён ставіў сябе шмат вышэй за прэзыдэнта БЦР Астроўскага. Астроўскі вычуваў гэта, і таму паміж імі стварыўся затоены антаганізм. Ген. Езавітаў быў вельмі вялікім фармалістам, разбудаваў сабе ў рамках БЦР вялікую канцылярыю і калі што-небудзь было добра зроблена на паперы, яму здавалася, што гэтак ёсьць ужо і ў запраўднасьці. Вось за гэтую слабую старану Езавітава і ўчапіўся якраз Астроўскі. На адным паседжаньні БЦР затоены антаганізм ягоны ў дачыненьні да Езавітава выплыў наўзьверх. Астроўскі пачаў рабіць ген. Езавітаву закіды, што ён ёсьць бяздушным фармалістым і што запраўды вынікі ягонае працы нашмат слабейшыя, чымся гэта выглядае ў ягоных паперах. Ген. Езавітаў не змаўчаў, адбылася даволі прыкрая вымена словаў, і пасьля паседжаньня абодвум сталася ясным, што далейшае супрацоўніцтва між імі траха што немагчымае. Астроўскі пачаў цішком падшукоўваць кандыдата на мес-*

*ца ген. Езавітава. Гэткі кандыдат неўзабаве знайшоўся. Быў ім палкоўнік Шувалаў.*

*Палкоўнік Шувалаў быў расейцам. Як ён сам гаварыў, ён паходзіў з графаў Шувалавых, добра вядомых у царскай Расеі. Служыў афіцэрам у царскай арміі. Быў у сваяцтве із адной польскай арыстакратычнай сям'ёй, да якой і ўцёк у Польшчу пасьля бальшавіцкага перавароту. Калі пачалася польска-бальшавіцкая вайна, праз пратэкцыю сваіх сваякоў ён быў прыняты ў польскую армію, дзе й служыў увесь час у чыне палкоўніка, камандуючы палком. У 1939 г. ён пайшоў із сваім палком на фронт і трапіў у нямецкі палон. Палон ён адбываў у адным зь лягероў недалёка Бэрліну. Нейкім чынам, у пачатку 1945 г., ён даведаўся, што ў Бэрліне знаходзіцца БЦР і арганізуецца беларускае войска. Вось тады ён і прыпомніў сабе, што ён «тоже белорусс», бо маёнтак ягоны быў у Магілёўшчыне. Аднойчы ў студзені 1945 г. у габінэце прэз. БЦР Астроўскага зьявіўся пад нямецкім канвоем палкоўнік Шувалаў і запрапанаваў яму свае паслугі як выдатны вайсковы спэцыялісты. Астроўскі за гэта ўхапіўся й адразу пачаў захады перад нямецкімі вайсковымі ўладамі аб звальненьні палк. Шувалава зь лягеру палонных і адданьне яго ў распараджэньне БЦР. У даволі кароткім часе захады Астроўскага былі задаволеныя. Палкоўнік Шувалаў выйшаў з палону й то зусім нябедным чалавекам. Будучы ў палоне, ён на працягу шэрагу год атрымліваў пачкі Чырвонага Крыжу й ад сваіх польскіх сваякоў з Ангельшчыны ды прывёз з сабою вялікі запас розных каштоўных прадуктаў, асабліва цэнных у тыя галодныя ваенныя часы. Сп. Астроўскі вельмі ўсьцешыўся як палк. Шувалаву, гэтак і ягоным прысмакам і адразу запрапанаваў Шувалаву закватараваца ў прыватнай кватэры ў яго. Ад'юганты сп. Астроўскага таксама прыйшлі ў захапленьне ад госьця й ягонага багажу. Неўзабаве ў памешканьні сп. Астроўскага пачалося новае, шмат весялейшае жыцьцё.*

*Палкоўнік Шувалаў быў вызначаны Астроўскім міністрам вайсковых справаў пры БЦР на месца ген. Езавітава. Факт гэты быў вялікім маральным ударам па ген. Езавітаву. Ён перажываў яго вельмі цяжка. Даўжэйшы час ген. Езавітаў хварэў на грыжу, але стан ягонай хваробы быў гэткі, што можна было яшчэ абысьціся без апэрацыі. Аднак цяпер ген. Езавітаў ухапіўся за гэтую акалічнасьць, каб замаскаваць пе-*

*рад беларускім грамадзтвам сваё звальненьне са становішча міністра вайсковых справаў пры БЦР як дабравольны адыход дзеля неабходнасьці лячэньня.*

*Др. Мікалай Шчорс працаваў у гэтым часе лекарам у адным зь нямецкіх шпіталёў у горадзе Котбусе, недалёка прыфрантавога пасу й шырака вядомай цяпер ракі Нісы. Шчорс часта наведваў Бэрлін, зьблізіўся з ген. Езавітавым і калі даведаўся аб прыкрых клопатах генэрала, пачаў намаўляць яго, каб ён наважыўся на апэрацыю ў тым шпіталі, дзе працуе др. Шчорс, бо ён сам даглядзіць і апэрацыі, і хворага, а гэта мае заўсёды вялікае значэньне. Калі я даведаўся ад ген. Езавітава аб прапанове др. Шчорса, дык пачаў яго адмаўляць ад гэтае справы. Я раіў генэралу ехаць на апэрацыю не на ўсход, а некуды на захад, канкрэтна прапануючы яму ціхі маленькі гарадок Амбэрг, дзе жылі, выехаўшы нядаўна із разьбітага Бэрліну й мая сям'я, і некалькі іншых сяброў БЦР, і дзе было шмат вайсковых шпіталёў. Ген. Езавітаў пачаў хістацца, аднак аргумэнты др. Шчорса ўрэшце пераважылі мае рады, і ён, разам із сваім неадступным ад'ютантам Юрэвічам*[280]*, які прыехаў зь Езавітавым з Латвіі, паехалі з др. Шчорсам на ўсход, у Котбус. Там ген. Езавітаву была зробленая апэрацыя, а праз колькі дзён пасьля апэрацыі савецкая армія прарвала фронт. Немцы пачалі ў посьпеху адступаць. Аб далейшым лёсе ген. Езавітава др. Шчорс расказаў мне такое:*

*Калі нямецкая армія пачала адступаць, др. Шчорс папрасіў аднаго паляка, які меў самаход і працаваў у шпіталі, дзе ляжаў ген. Езавітаў, забраць ген. самаходам на захад, у нейкі маленькі гарадок, назву якога я забыўся, і ўладзіць там генэрала ў гатэлі. Паляк гэнае даручэньне выканаў. Неўзабаве ў згаданы гарадок прыехаў і др. Шчорс, агледзіў Езавітава, сьцьвердзіў добры стан і сказаў яму, што неўзабаве праз гарадок будзе праходзіць нямецкая санітарная калёна, якая й забярэ ген. Езавітава із сабою далей на захад. Гэтак і сталася, калёна генэрала забрала*

[280] **Браніслаў Юрэвіч** — латгальскі беларус. Роля Б. Юрэвіча ў справе знікнення Канстанціна Езавітава доўгі час заставалася невядомай грамадскасці, і ён ужываў захады да завалодання архівам галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР, канкрэтна — спісаў асабістага складу, якія прыдаліся б у пошуку былых салдат і афіцэраў БКА ў Беларусі і на эміграцыі. У 1950-х гг. Юрэвіч быў выкрыты і вымушаны пакінуць Заходнюю Нямеччыну.

*разам з Юрэвічам і пайшла далей. Але яе дагналі савецкія танкі й забралі ўсіх, а ў тым ліку й ген. Езавітава ў палон. Забраны ў палон быў і Юрэвіч, аднак, гэты ад'ютант генэрала зьявіўся нейкім чынам пасьля вайны ў Нямеччыне. Контрвыведка амэрыканцаў сьцьвердзіла, што Юрэвіч — савецкі агент, аднак арыштаваць яго не пасьпела, ён уцёк, праўдападобна, у савецкую зону. Цяпер ясна, што Юрэвіч быў саветамі прыстаўлены да Езавітава й быў пры ім, аж ня выдаў яго Саветам. Ня памятаю, ці ў 1946 ці 1947 г. савецкае радыё было перадала, што здраднік беларускае радзімы й народу, фашысты Езавітаў быў засуджаны на кару сьмерці праз павешаньне й прысуд быў выкананы*[281].

*Гэткім чынам быў зьнішчаны адзін з старэйшых беларускіх дзеячоў і беларускіх вайскоўцаў генэрал Кастусь Езавітаў. Маральная адказнасьць за ягоную загубу кладзецца ў першую чаргу на прэз. Астроўскага, які дзеля асабістых парахункаў замяніў яго на зусім прыпадковага чалавека, што ня меў нічога агульнага з нашай нацыянальнай справай — палкоўніка Шувалава. Гэтаксама не безь віны й доктар Мікола Шчорс, які легкадумна намовіў ген. Езавітава на апэрацыю ў прыфрантавым шпіталі ў той час, калі немцы знаходзіліся ў адступленьні. Гэтая справа павінна знайсьці абавязкова месца ў Вашым рамане.*

*З пашанай Кушэль.*

*29.09.1958 г.*

*Вельмі Паважаны Спадар Акула,*

*У гэтым лісьце я пастараюся паінфармаваць Вас аб 30-й Дывізіі СС, якая была пазьней пераназваная ў дывізію «Беларусь».*

*Нямецкія збройныя сілы ў часе Другое сусьветнае вайны дзяліліся на дзьве групы. Першую — Вэрмахт, нармальную армію, і другую — г. зв. «Ваффэн СС». Галоўнакамандуючым Ваффэн СС быў Гімлер, усяго разам было там да 37 дывізій. Розьнілася Ваффэн СС ад Вэрмахту тым, што было гэта войска вылучна ў руках партыйных нацыстых. Напачатку вайны ў дывізіі Ваффэн СС прымаліся людзі вылучна нардыцкага паходжаньня. Дывізіі гэтыя ўжываліся на фронце побач з*

---

[281] Паводле афіцыйнай версіі, Канстанцін Езавітаў памёр падчас следства ад сухотаў і дыстрафіі 23 мая 1946 г., паводле іншых звестак — быў расстраляны.

*Вэрмахтам, а апрача гэтага ўжываліся да розных заданьняў спэцыяльных, як ахова канцлягераў, ліквідацыя жыдоў, змаганьне з партызанамі й г. д. Неўзабаве дывізіі Ваффэн СС панесьлі вялікія страты ў людзях, і Гімлер пачаў папаўняць іх ахвотнікамі з Бэльгіі, Галяндыі, Нарвэгіі, Даніі й Швэцыі. У пазьнейшым часе Гімлер дазволіў арганізаваць дывізіі СС і з людзей не германскага паходжаньня. Былі арганізаваныя дывізіі СС латыская, украінская пад назваю «Галіцыя», каўкаская, расейская з расейскіх палонных, татарская ды інш. Улетку 1944 г. арганізавалася 30-ая дывізія Ваффэн СС. Штаб дывізіі знаходзіўся ў Баварыі, у мястэчку Гіршаў. У гэтую дывізію набіраліся людзі розных нацыянальнасьцяў. Найбольш трапіла сюды расейцаў зь лягераў палонных, адтуль жа трапіла ў дывізію й шмат украінцаў, беларусаў ды інш. Пад восень 1944 г. немцы пачалі накіроўваць у 30-ую дывізію беларусаў, якія апынуліся ў Нямеччыне ў выніку адступленьня, перадусім тых, што служылі ў паліцыі, Самаахове, БКА, а ўрэшце накіравалі туды й нашую афіцэрскую школу. Як я пісаў Вам ужо, увосені 1944 г. папаўняў свае войска й ген. Уласаў. Да яго з 30-ае дывізіі перайшло шмат расейцаў, дзеля чаго склад ейны вельмі паменшаў. Тым часам у Бэрліне, на Ліхтэнштрасэ сабралася шматавата нашых людзей. Гаўптмат СС і запрапанаваў ген. Езавітаву адаслаць гэных людзей у 30-ую дывізію СС. Ген. Езавітаў паставіў свае варункі, каб дывізія называлася «Беларускай», каб камандны склад быў вылучна беларускі ды інш. Гэта не вылучае, што й капітан Мікула мог таксама дамагацца, каб дывізія называлася «Беларускай». Гаўптмат СС на гэта адказаў, што камандзір дывізіі падпалкоўнік Зіглінг прыедзе ў БЦР й заладзіць усе гэтыя справы беспасярэдна з БЦР.*

*Прыехаў ён у БЦР у пачатку 1945 г. Тут я ўпершыню яго пабачыў. Падпалкоўнік Зіглінг*[282] *быў чалавекам маладым, год 30-цёх. Рабіў уражаньне чалавека энэргічнага і, як пазьней пазнаў сам, быў вельмі вымагальным і суровым у дачыненьні*

[282] **Ганс Зіглінг** (24.02.1912, Графенвёр — не раней 1975), нямецкі вайсковы дзеяч. Сябра НСДАП ад 1930 г. Удзельнік Другой сусветнай вайны ў Грэцыі і на Усходнім фронце. У ліпені 1944 г. быў прызначаны камандзірам паліцэйскай брыгады, якая ад жніўня 1944 г. была далучаная да войск СС як 30-ая дывізія. Пасля вайны жыў у Нёрдлінген-Кляйнердлінген у Баварыі.

*да падуладных. У БЦР адбылася нарада Зіглінга з Астроўскім і Езавітавым. Зіглінг згадзіўся, каб дывізія называлася дывізіяй СС «Беларусь» і каб да камандзіра батальёну ўлучна камандны склад быў беларускі. Згадзіўся ён і на тое, каб пры ім быў беларускі афіцэр як лучнік паміж дывізіяй і БЦР. Дамовіўшыся аб усіх гэтых справах, Зіглінг паехаў на Ліхтэнштрасэ. Парагледзіўшы выстраеных перад ім беларускіх жаўнераў і афіцэраў, Зіглінг сказаў, што старэйшых векам афіцэраў ён у дывізію ня прыме. Пазьней з дывізіі прыехаў быў, пасланы Зіглінгам, маёр, які атрымаў ад Езавітава дакладныя сьпіскі нашых людзей, спраўдзіў іх паводле сьпіскаў і, пасадзіўшы ў чыгуначны транспарт, павёз у 30-ю дывізію. Усё гэта зрабіла й на мяне вельмі цяжкое, нават трагічнае ўражаньне, выглядала, што БЦР перадало немцам беларускіх вайскоўцаў, якія марылі змагацца за Беларусь, як звычайнае гарматнае мяса. Але рады не было, палажэньне нашае ў той час было гэткае, што іншага выхаду не было. На афіцэра сувязі пры Зіглінгу быў вызначаны Барыс Рагуля, які тады ж выехаў у дывізію.*

*На сваім становішчы Барыс Рагуля доўга ня быў. Як мне казалі, ён пасварыўся з Зіглінгам і пакінуў дывізію*[283].

*Тым часам на Ліхтэнштрасэ засталіся забракаваныя Зіглінгам група стральцоў, а таксама нашыя старэйшыя векам афіцэры. Час ішоў, выпадкі разгортваліся.*

*Палкоўнік Шувалаў абняў Міністэрства вайсковых справаў пры БЦР. Бэрлін штоначы цярпеў жахлівыя налёты амэрыканскага лятунства. Аднаго дня моцнае бамбардаваньне пашкодзіла сядзібу БЦР у Вайсэнзэе. У часе налёту ўсе працаўнікі БЦР пахаваліся ў бомбасховішчы ў падвале будынку. Адна бомба трапіла якраз пад самае гэтае месца. Ад вялізарнага выбуху шмат хто з працаўнікоў БЦР на нейкі час страцілі прытомнасьць, у тым ліку й сам Астроўскі. Іншая бомба трапіла ў будынак на Ліхтэнштрасэ, дзе месьціліся нашыя вайскоўцы. Адзін афіцэр і ягоная жонка былі забітыя. Пасьля гэтых выпадкаў як сябры, гэтак і працаўнікі БЦР пачалі неарганізавана пакідаць Бэрлін, кіруючыся на захад і на поўдзень. Астроўскі падмеркаваў свой выезд на 25-е сакавіка. Забраўшы ў свой самаход сваіх ад’ютантаў, ён выехаў у*

[283] Барыс Рагуля, аднак, застаўся ў падпарадкаванні войск СС і да канца вайны навучаўся на афіцэрскіх курсах.

*Гіршаў, у дывізію, каб адсьвяткаваць там дзень 25 Сакавіка. У Бэрлін ён ужо не вярнуўся. З Гіршаў чыгункаю паехаў да сваее сям'і ў горад Гэкстар. Ніхто аб ім нічога ад гэтага часу ня чуў. Аказаўся ён толькі пад восень 1945 г., калі ўся згаданая частка Нямеччыны даўно была занятая саюзнымі войскамі й падзеленая на Амэрыканскую й Ангельскую зоны, пад прозьвішчам «Крывіцкі».*

*У канцы сакавіка 1945 г. прыехаў у Гіршаў і я. Дывізію «Беларусь» засьпеў я тут у поўным развале. Пачыналася масавая дэзэрцыя ня толькі стральцоў, але і афіцэраў. Зіглінг вельмі ўсьцешыўся майму прыезду й адразу пачаў прасіць мяне паўстрымаць дэзэрцыю й зрабіць у дывізіі парадак. Усе нашы жаўнеры стаялі ў вёсцы Гамэрвайер. Калі я прыехаў у гэтую мясцовасьць, дык сьцьвердзіў як у стральцоў, гэтак і афіцэраў вельмі благі настрой. Прычынаю было наступнае: зь мясцовасьцяў, займаных амэрыканскімі войскамі, немцы вывозілі моладзь, якую й пачалі тут арганізоўваць у новую дывізію СС — «Нібэлюнгі». А дзеля таго, што для новае дывізіі не было ні зброі, ні іншых рэчаў, дык немцы наважылі іх адабраць у беларусаў — жаўнераў і афіцэраў дывізіі «Беларусь». З гэтай мэтай яны пачалі адбіраць усё патрэбнае ім у нашых вайскавікоў, пакідаючы адну вінтоўку на некалькі чалавек, адзін кацялок на дваіх і г. д. Гэта выклікала ў нашых людзей падазрэньне, што немцы хочуць зрабіць зь іх рабочыя аддзелы дзеля капаньня акопаў, і пачалася дэзэрцыя. Камандзірам дывізіі «Нібэлюнгі» быў вызначаны Зіглінг, 30-ю ж дывізію абняў маёр Гэнэфэльд[284]. Быў ён чалавекам старым і недалужным, пакліканы з рэзэрвы. Ён даў мне цалкам свабодную руку ў дывізіі, і дзеля гэтага я стаўся фактычным камандзірам у ёй. Ведама, я адразу пастараўся выкарыстаць на нашую карысьць створанае палажэньне. У першую чаргу я склікаў сход афіцэраў. На гэтым сходзе я пераканаў іх, што мы за кажную цану павінны ў надыходзячыя цяжкія часы застацца разам, арганізаванай групай, бо толькі гэтак мы патрапім утрымацца пры жыцьці, ды апрача гэтага, захаваньне арганізаванасьці будзе для нас карыснае й з гледзішча палітычнага, беларускага. На наступны дзень гэткія ж гутаркі ўсе афіцэры правялі ў*

[284] Франц Генінтфельд быў камандзірам дывізіі да сакавіка 1945 г. Пазней на яго месца быў прызначаны Ганс Остэрайх.

*сваіх аддзелах. Пасьлей я сам абышоў усе аддзелы й яшчэ раз пагутарыў з нашымі жаўнерамі й афіцэрамі. Дээрцыя адразу спынілася. Нашыя аддзелы пачалі рэгулярна выходзіць на вайсковыя заняткі, а неўзабаве ў дывізіі «Беларусь» наладзілася нармальнае вайсковае жыцьцё. Хутка пасьля гэтых падзеяў прыехаў у дывізію палкоўнік Шувалаў. У першую чаргу ён забраў пакінены ў Гіршаў самаход Астроўскага, які, як ён сказаў, забраў, выяжджаючы з Бэрліну із сваімі ад'ютантамі, усе прадуктовыя ды іншыя запасы Шувалава, дзеля чаго ён павінен цяпер галадаць. Некаторага дня прыехаў да мяне кіраўнік Беларускае моладзі сп. Ганько[285]. Ён сказаў, што шмат нашае моладзі знаходзіцца недалёка, у Судэтах, і ён ня ведае, што зь ёю рабіць. Я запрапанаваў яму, каб ён прывёў моладзь у нашую дывізію, бо ў крытычныя моманты лепш быць разам. Ганько згадзіўся са мной і прырок моладзь да мяне прывесьці ў найхутчэйшым часе. Аднак я ні яе, ні самога Ганька больш не пабачыў.*

*З пашанаю Кушэль.*

*22.10.1958 г.*

*Вельмі паважаны Спадар Акула,*

*У палове красавіка 1945 г. нашую дывізію перасунулі з раёну Вайэргаммэр[286] у заходнія Судэты. Дывізія была закватараваная ў мясцовасьці зь нейкім чэскім назовам. Пасьля колькідзённага прабываньня дывізіі ў згаданай мясцовасьці маёр Гэнэфэльд папрасіў мяне да сябе й сказаў, што згодна з загадам вышэйшага камандаваньня наша дывізія мае заўтра на досьвітку вымашыраваць у кірунку Пассаў. Я маю весьці дывізію, а дзеля таго, што самаход забраў палкоўнік Шувалаў, мне будзе прыдзеленая параконная брычка. Маёр Гэнэфэльд жа мусіць назаўтрае замэльдавацца ў вышэйшым штабе й дагоніць мяне й дывізію ў дарозе пазьней. На маё пытаньне,*

[285] **Міхась Ганько** (1918, в. Каледзіна Вілейскага пав. — ?), грамадска-палітычны дзеяч, рэдактар. Лейтэнант Чырвонай Арміі, у снежні 1941 г. трапіў у нямецкі палон, быў вызвалены. Скончыў школу прапагандыстаў, працаваў у аддзеле прапаганды пры Генеральным камісарыяце Беларусі. У чэрвені 1943 г. узначаліў кіраўнічы штаб СБМ. Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэса. Ад лета 1944 г. на эміграцыі, служыў афіцэрам-прапагандыстам разведвальна-дыверсійнай школы ў Дальвіцы. Далейшы лёс невядомы.

[286] У папярэднім лісце Ф. Кушаль называе гэтую вёску Гамэрвайер.

*куды нашая дывізія перасоўваецца, маёр адказаў мне, што ён гэтага й сам ня ведае, але далейшыя загады будуць атрыманыя ў часе маршу. Выслухаўшы гэтае распараджэньне, я ад сябе даў загад батальёнам і табару, каб назаўтра, а гадзіне 4-ай раніцою батальёны выстраіліся ў маршавую калёну на шашы ў кірунку Пассаў. Дывізія й памашыравала раніцою ў загаданым кірунку. Нам трэба было праходзіць паўз штаб дывізіі, дзе былі вылучна немцы й які мясьціўся ў вельмі прыгожым будынку пры самай шашы. Ужо здалёку я заўважыў, што некаторыя жаўнеры выступалі з маршовае калёны, забягалі ў будынак штабу, а пасьля даганялі калёну. Калі я сам параўнаўся з будынкам, дык пабачыў на ім вялікую шыльду, на якой па-чэску было напісанае «Выгляды». Была гэта, відаць, даўнейшая санаторыя ці нешта падобнае. Каля дому круцілася колькі жаўнераў. Калі я зь цікавасьці зайшоў таксама ў дом, дык пабачыў гэткі абраз: у падвале, сярод мноства паразьбіваных скрынак з гарэлкай, каньяком, вінамі, а таксама рознаю емінай, як сыры, шынкі, цукар і г. д. стаяў цалкам п'яны палкоўнік Шувалаў, а побач ізь ім ягоны ад'ютанта сп. Грыцук[287]. Пабачыўшы мяне, палкоўнік Шувалаў сказаў: «Добра, што Вы зайшліся. Немцы, у пасьпеху выехаўшы, кінулі ўсё гэтае дабро. Трэба было ўзяць яго пад сваю апеку, каб арганізавана разьдзяліць пасьля між жаўнерамі». Гаворачы гэта, ён увапхнуў мне ў рукі бутэльку каньяку й загадаў пакласьці мне ў брычку паўмяхі цукру. «Вядзеце ж дывізію», — сказаў ён яшчэ мне, — «а я, калі скончу з падзелам дабра, дагоню Вас із сп. Грыцуком». Аднак палкоўнік Шувалаў дывізіі не дагнаў, і я нават ня ведаю, ці ён запраўды прабаваў яе даганяць. Ужо пасьля вайны, у нейкім 1946 г., я дачуўся, што сп. Грыцук знаходзіцца ў лягеры ДП у Аўстрыі, а палкоўніка Шувалава я прыпадкам спаткаў у Рэгенсбургу, дзе ён быў праездам.*

*Гэткім чынам, паўтары тысячы беларускіх жаўнераў былі зданыя цалкам на маю адказнасьць. Пры кажным батальёне быў нямецкі капітан у характары афіцэру сувязі, а апрача іх па 50 вельмі добра ўзброеных нямецкіх жаўнераў. У часе маршу мы пераканаліся, што нямецкая армія ўжо цалкам здэмаралізавалася. На дарозе было шмат кінутай нямецкімі жаўнерамі зброі, вазоў з амуніцыяй і г. д. Нашы жаўнеры*

[287] Маецца на ўвазе Аляксей Грыцук.

*ўсё гэта з ахвотаю падбіралі й гэткім чынам дазбрайваліся. Назаўтра пад вечар дывізія дасягнула мясцовасьці Айзэнштайндорф. Тут мы ўжо ясна пабачылі, што палажэньне на фронце трагічнае, што фронт канчальна развальваецца, нямецкая армія неарганізавана адступае ці проста ўцякае. Войскі СС адны яшчэ трымаліся. Яны чынілі самасуды над здэмаралізаванымі жаўнерамі арміі, было колькі выпадкаў павешаньня ССаўцамі армейскіх афіцэраў, пасуджаных у дэзэрцыі. Нашая дывізія йшла, ня ведаючы куды. Прааналізаваўшы ўсё палажэньне, я вырашыў не машыраваць далей, а затрымаць нашую дывізію ў Айзэнштайндорфе й чакаць, пакуль палажэньне ня выясьніцца. З гэтай мэтай я папрасіў да сябе нямецкіх капітанаў сувязі й заявіў ім, што дывізія далей ня пойдзе, калі ж гэта ім не адпавядае, яны й іхныя жаўнеры маюць вольную руку. Гэтае абвешчаньне я зрабіў немцам у прысутнасьці майго штабу, які складаўся з капітана Орсіча, старшага лейтэнанта Сасукевіча й сяржанта Пелясы[288]. Нямецкія афіцэры абурыліся маёй пастанове й пачалі пагражаць мне, што я панясу за гэткую рэч кансэквэнцыі, якія могуць быць для мяне трагічныя. Аднак яны гэтым мяне не спалохалі. Дывізія пачала разьмяшчацца ў самім Айзэнштайндорфе й суседніх вёсках. Гэта была першая ў Нямеччыне акупацыйная беларуская зона. Каля поўначы першае ж начы я пачуў на вуліцы крыкі й сварку ў нямецкай мове. Неўзабаве ў дзьверы мае кватэры пачалі моцна стукаць. Калі я адчыніў, да мяне ў пакой убег камандзір нашага трэцяга батальёну, капітан савецкае арміі Таміла й адзін зь нямецкіх капітанаў. Капітан Таміла замэльдаваў мне, што немцы хацелі ціішком забраць ночай табар з харчамі і ўцячы, але ягоныя вартаўнікі, пастаўленыя пры табары, узьнялі трывогу, і вось яны прыйшлі цяпер на вырашэньне справы да мяне. Я загадаў Таміле, каб ён, хай нават і збройна, бараніў табару, але каб немцы спакойна адышлі з нашае дывізіі, я загадаў выдаць ім харчавы паёк — «маршфэрпфлегунг» на два дні й прыдзяліць ім колькі вазоў дзеля заладаваньня харчоў. Нямецкі капітан на гэта згадзіўся, і гэтай жа ночы немцы пакінулі нашую дывізію канчальна. Недалёка ад Айзэнштайндорфу, можа, кілямэтраў сем, знаходзіўся невялікі горад Айзэнштайн Маркт. Колькі нашых вайскоўцаў, пераапраненыя ў цывільную вопрат-*

[288] Маецца на ўвазе Уладзімір Пеляса.

*ку, былі пасланыя туды на разьведку. Вярнуўшыся, разьведчыкі прынесьлі мне вельмі трывожныя весткі. У Айзэнштайн Маркце, як яны даведаліся, стаяць вельмі добра ўзброеныя аддзелы СС. Нашыя немцы, пакінуўшы дывізію, прыбылі да іх і паведамілі, што мы збунтаваліся супраць немцаў, у выніку чаго аддзелы СС наважылі напасьці на нас і зьнішчыць усю дывізію. Адначасна нашая разьведка паведаміла мяне, што недалёка ад раёну разьмяшчэньня беларускае дывізіі стаіць адна дывізія ген. Уласава. Атрымаўшы гэткія весткі, я быў пастаўлены перад праблемаю або бараніцца ад ССаўцаў самым, маючы вельмі малыя шансы на перамогу дзеля пераважаючага азбраеньня ворага, або шукаць хаўрусу з уласаўскай дывізіяй. Я наважыў спрабаваць самперш паспрабаваць навязаць лучнасьць з уласаўцамі, каб зарыентавацца ў тым, ці маглі б мы разам зь імі бараніцца супраць ССаўцаў. Дзеля гэтага я, неадкладаючы, паехаў шукаць камандзіра ўласаўскае дывізіі. Калі я знайшоў іхны штаб і ўвайшоў туды, мяне сустрэў ад'ютант і папрасіў пачакаць, а сам пайшоў мяне замэльдаваць. Праз колькі часінаў з габінэту выйшаў нямецкі генэрал і мяне папрасілі да камандзіра. Быў ім ген. Мальцаў[289]. Прадставіўшыся ўзаемна, мы пачалі гутарку. Перш за ўсё я папрасіў ген. Мальцава, каб ён мяне паінфармаваў аб палажэньні на фронце, а таксама выказаў сваю думку на нашае палажэньне. У адказ ген. Мальцаў адказаў мне гэткім самым пытаньнем. Вядома, што й я нічога ня мог яму адказаць. «Што ж Вы думаеце рабіць?» — спытаўся я генэрала. Ён паймкнуўся нешта сказаць мне, але перапыніўся й запытаўся, што я думаю рабіць у палажэньні, у якім мы апынуліся. Я сказаў, што, на маю думку, нам нічога не застаецца, як спрабаваць прабіцца празь нямецкі фронт і далучыцца да амэрыканскае арміі. Тут генэрал ажывіўся й сказаў, што ён гэткае самае думкі й што ён зрабіў ужо з гэтаю мэтаю некаторыя крокі. Тут ён сказаў мне, што навязаў кантакт з камандзірам амэрыканскага корпусу празь людзей, якія гарамі й лясамі пераходзяць нямецкі фронт, і што ён ця-*

[289] **Віктар Мальцаў** (25.04.1895, Гусь-Хрустальны Уладзімірскай губ. — 01.08.1946, Масква), рускі ваенны дзеяч, палкоўнік Чырвонай арміі. Падчас акупацыі Крыму добраахвотна пагадзіўся на супрацоўніцтва з нацыстамі. Генерал-маёр, камандуючы Ваенна-паветранымі сіламі РОА. Напрыканцы вайны выдадзены ў СССР, асуджаны і павешаны.

*пер канкрэтна дамаўляецца аб месцы й часе прарыву ягонай дывізіяй нямецкага фронту. Тады я спытаўся ў яго, ці ведае аб гэтым той нямецкі генэрал, якога я бачыў выходзячага ад яго кагадзе. На гэта ген. Мальцаў адказаў мне, што гэты генэрал ёсьць афіцэрам сувязі пры ім ад нямецкага штабу й што ён у ўсім салідарызуецца зь ягонымі, Мальцава, плянамі. Тады я сказаў генэралу, каб ягоныя перагаворшчыкі вялі перамовы аб пераходзе й ад імя нашае дывізіі. Генэрал на гэта згадзіўся. Пасьля мы абмеркавалі зь ім супольную абарону на выпадак нападу на нас войскаў СС. Ген. Мальцаў прырок нам, што, калі СС-ы на нас нападуць, ён адкрые па іх агонь із сваіх цяжкіх кулямётаў і артылерыі. На гэтым нашая першая размова скончылася. Калі я вярнуўся ў дывізію, дык сабраў усіх нашых людзей. Калі дывізія сабралася, я быў прыемна зьдзіўлены, пабачыўшы, што ўсе стральцы й афіцэры скінулі свае нямецкія адзнакі й налажылі свае, беларускія: на шапкі — Пагоні, а на каўняры — Ярылавыя крыжы. Я паведаміў нашым вайскоўцам нашае палажэньне й перадаў гутарку із ген. Мальцавым і нашую дамоўленасьць супольна бараніцца ў выпадку нападу СС. Першы батальён, якім камандваў капітан Чайкоўскі[290] й які быў закватараваны найбліжэй Айзанштайн Маркту, узяў на сябе абавязак выставіць палявую варту й патруліраваць мясцовасьць аж да самага гораду.*

*29 красавіка прыехаў да мяне ганец ад ген. Мальцава й даручыў мне ліст, у якім прасіў мяне, каб я разам із камандзірамі батальёнаў і ротаў прыбыў неадкладна ў ягоны штаб на нараду. Калі мы прыбылі, маючы беларускія адзнакі на мундзерах, Мальцаў паглядзеў на нас і сказаў: «Вот вам, господа, і Об’едінённыя нацыі». Тут у штабе, на супольнай нарадзе нашых і расейскіх камандзіраў, ген. Мальцаў падаў да ведама, што ён ужо канчальна дамовіўся з камандзірам амэрыканскага корпусу аб пераходзе празь нямецкі фронт 30 красавіка гэтага году абедзьвюх нашых дывізіяў шашою Айзэнштайн Маркт — Цьвізэль і што ў часе пераходу амэры-*

[290] **Зміцер Чайкоўскі** (20.10.1912, Клецк — 2002, Мюнхен, Нямеччына), вайсковы і грамадскі дзеяч, мастак. У 1942–1943 гг. у быў камандзірам роты беларускага чыгуначнага ахоўнага батальёну. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, камандаваў 2-ім батальёнам штурмавой брыгады «Беларусь», у яе складзе быў інтэрніраваны амерыканскімі войскамі.

*канская артылерыя й лятунства будуць абстрэльваць нямецкія пазыцыі. Далей начальнік штабу прачытаў нам дакладны парадак маршу й плян эвэнтуальнага бою, калі б немцы ставілі нам супраціў. 30 красавіка раніцой нашая дывізія выстраілася ў маршаву калёнію на шашы з кірункам маршу на Айзэнштайн Маркт. Кожны батальён меў разгорнуты беларускі нацыянальны сьцяг. Хутка прамаршыравала дывізія ген. Мальцава. Нашая дывізія заняла ў калёне вызначанае ёй учора месца, і вялізарная калёна дзьвюх дывізій з табарамі пamaшыравала ў кірунку Цьвізэля. Ген. Мальцаў знаходзіўся на чале свае дывізіі, я — на чале сваёй.*

*Пасьля прыблізна трохгадзіннага маршу я пачуў ззаду сыгнал самаходу. Калі самаход параўнаўся са мною, я праз акно заўважыў у ім таго самага нямецкага генэрала, якога я ўжо бачыў кагадзе ў штабе Мальцава. Калі самаход дасягнуў ген. Мальцава, маршавая калёна затрымалася. Пасьля паўгадзіннага чаканьня чало дывізіі ген. Мальцава завярнулася й памашыравала назад. Калі ген. Мальцаў параўнаўся са мною, я спытаўся ў яго, у чым справа. Ген. Мальцаў адказаў, што ягоны афіцэр сувязі ген. Ашбэрг атрымаў радыяграму ад Андрэя Андрэевіча Ўласава, дзе ён загадвае паўстрымацца зь пераходам да амэрыканцаў аж да ягонага загаду, таму ён, ген. Мальцаў, мусіць паслухацца загаду свайго начальніка й адыходзіць вунь у тыя вёскі. Там мы закватаруемся й будзем чакаць на загад ген. Уласава.*

*Гэтае асьведчаньне так мяне здэнэрвавала, што я сказаў свайму начальніку штабу капітану Орсічу — «кінем мы гэтых уласаўцаў і машыруем адны». Тым часам над нашай калёнай пачалі кружыць амэрыканскія самалёты. Аднак няма рады. Завярнулі назад і мы. Пасьля, можа, двухгадзіннага маршу чую зноў ззаду самаходавы сыгнал. Гэтым разам калёну нашую мінае матацыкл. Пад'ехаўшы да ген. Мальцава, матацыклісты даручае яму нейкі пакет. Калёна ізноў затрымліваецца. Па лініі перадаецца: «Камандзір беларускае дывізіі да ген. Мальцава». Мы з капітанам Орсічам ідзем і застаем ген. Мальцава вельмі здэнэрваванага. «Сам ня ведаю, што рабіць», — кажа нам ген. Мальцаў. — «З аднаго боку, радыяграма Андрэя Андрэіча загадвае чакаць зь пераходам фронту, а зь іншага — самі паслухайце». Тут ад'ютант Мальцава, які ведаў ангельскую мову, пачынае*

*чытаць і перакладаць нам загад камандзіра амэрыканскага корпусу гэткага зьместу: «Дывізіі расейская ген. Мальцава й беларуская маюць перайсьці сяньня нямецкі фронт па шашы Айзэнштайнмаркт — Цьвізэль. Мая артылерыя пачне абстрэльваць нямецкія пазыцыі а гадзіне 12 апаўдні. У гэтым часе пачне дзейнічаць і лятунства». «Што ж рабіць?» — пытае ў нас ген. Мальцаў. Бальшыня прысутных афіцэраў выказалася за пераход нямецкага фронту, бо калі мы завернем назад, амэрыканскае лятунства зразумее гэта як здраду і можа пачаць нас абстрэльваць з паветра. Гэты аргумэнт пераканаў ген. Мальцава, і калёна ізноў завярнула й памашыравала ў кірунку фронту, гэтым разам ужо безь перашкодаў.*

*Шаша Айзэнштайн Маркт — Цьвізэль ішла між гораў. Па абодвух бакох дарогі быў высокі лес. Каб паўстрымаць наступ амэрыканскіх танкаў, немцы падпілоўвалі дрэвы й звалілі іх на шашу. Апрача гэтага, шаша была замінаваная. З гэтае прычыны пасоўваліся мы наперад вельмі паволі, бо трэба было адкідаць з шашы дрэвы й разьміноўваць яе. Нямецкія пазыцыі праходзілі ўздоўж ракі Рэгену ў кілямэтрах трох ад Цьвізэлю, дзе ўжо былі амэрыканцы. Праз Рэген быў збудаваны мост. Нашая дывізія мела ісьці наперад, заняць мост і ахоўваць яго так доўга, пакуль аж уся калёна ня пройдзе на той бераг, пасьля чаго машыраваць ззаду як тыльная старожа калёны.*

*Згаданы мост быў найбольш небясьпечным месцам усяго нашага пераходу. Каб па ім не прайшлі амэрыканскія танкі, немцы яго падмінавалі й моцна ўвесь час баранілі. Гэткім чынам, на нашую дывізію прыпала вельмі небясьпечнае заданьне. Дзеля ягонага выкананьня я вызначыў роту пад камандай старшага лейтананта Якімовіча, якога выслаў у пярэднюю старожу. Гэтая рота была тут жа дазброеная ручнымі кулямётамі, сабранымі ізь іншых ротаў. Заданьнем ст. лейтэнанта Якімовіча было самперш заняцьцё мосту. Дывізія ген. Мальцава затрымалася, мы ж пайшлі наперад. Я знаходзіўся пры роце Якімовіча. Неўзабаве мы выйшлі зь лесу ў чыстае поле. З паўкілямэтры ад скраю лесу быў мост, а за ім, якія кілямэтры тры далей, добра было відаць горад Цьвізэль. Амэрыканская артылерыя абстрэльвала нямецкую пазыцыю. Рота прыняла баявы парадак, і мы пачалі набліжацца да мосту. Нікога нідзе не было відаць. Аж раптам, калі мы ўжо*

*ўзыходзілі на мост, перад намі, як з-пад зямлі, вырас нямецкі аддзел із узьнятымі ўгару рукамі. Вызначаны мною падафіцэр з колькімі жаўнерамі адвялі немцаў у лес і там адпусьцілі іх свабодна. Аднак, хоць было відаць, што немцы не хацелі ставіць супраціву, уся нашая дывізія прыняла баявы парадак. Калі мы занялі мост, калёна ўласаўцаў пачала свой пераход. Была гэтая калёна такая даўжэзная, што пераход трываў вельмі доўга. Павялічваў яе вялізны табар з вазамі, жанчынамі й дзецьмі — сем’ямі ўласаўцаў. Шмат вазоў былі запрэжаныя валамі, якія ледзь пераступалі нага за нагу. Аднак, нарэшце, уласаўцы прайшлі праз мост, і нашая калёна рушыла наперад. На скраю Цьвізэля стаялі амэрыканскія танкі зь люфамі кулямётаў, накіраванымі ў наш бок. На ходніках стаялі амэрыканскія жаўнеры, якія крычалі нашым: «кідайце зброю». Нашыя жаўнеры гэтак і рабілі. Адзін з нашых жаўнераў ня кінуў свае вінтоўкі. Да яго падбег амэрыканскі сяржант, бразнуў яе аб зямлю й пачаў таптаць нагамі.*

*Нашая дывізія была закватараваная ў будынку нейкае фабрыкі, дзе былі вялікія галі з цэмэнтовай падлогай, зусім пустыя. Змучаныя цэладзёным маршам і перажываньнямі, нашыя жаўнеры паклаліся адразу на цэмэнце, хто дзе стаяў, адзін пры другім. Лёг між жаўнераў і я. Хутка мы ўсе спалі, як нежывыя. Праз сон я пачуў раптам крык: «Камандзір дывізіі! Дзе камандзір дывізіі?». Я прыхапіўся й аказаўся. Да мяне, наступаючы на сьпячых, падыйшлі два амэрыканцы, адзін зь іх быў перакладчыкам, і сказалі мне, што камандзір амэрыканскае дывізіі просіць зараз жа прыйсьці да яго, у штаб. Я пайшоў зь імі. Прыйшоўшы ў штаб, я пабачыў там ген. Мальцава. Неўзабаве выйшаў да нас афіцэр з картаю ў руках, разгарнуў яе й, тыцнуўшы пальцам у адзін пункт, сказаў мне: у гэтым месцы зараз жа пастройце вашую дывізію. Тое самае, тыцнуўшы ў іншае месца карты, сказаў ён і ген. Мальцаву. Месцы пастраеньня нашых дывізіяў былі адлеглыя на якіх пяць, а можа, і больш кілямэтраў. Гэты факт найлепей пераканаў мяне, што ген. Мальцаў запраўды, як прырок, вёў з амэрыканцамі перамовы ад імя нашае дывізіі як зусім асобнай ад дывізіі расейскае. Празь якую гадзіну нашая дывізія стаяла ўжо выстраеная ў загаданым месцы батальён пры батальёне. Кожны зь іх меў на правым крыле разгорнуты бел-чырвона-белы сьцяг. За батальёнамі выстраіўся табар,*

*палявыя кухні дымілі, кухары варылі абед. Неўзабаве прыехаў амэрыканскі афіцэр зь перакладчыкам. Я скамандаваў «Зважай» і здаў яму рапарт. Афіцэр уважліва агледзеў дывізію й сказаў, што яна вельмі добра прэзэнтуецца. Пасьля гэтага ён сказаў, каб я падзяліў дывізію на групы па 50 чалавек у кожнай дзеля пагрузкі на самаходы, якія зараз прыйдуць і павязуць нас у лягер. «А табар?» — спытаўся я, паказваючы на кухні, вазы й коні. «Табар застанецца тут як нашая ваенная здабыча», — адказаў амэрыканец. З гэтага адказу я зразумеў, што нас маюць завезьці ў лягер для ваеннапалонных. Хутка пачалася пагрузка. Калі ўся дывізія наша пагрузілася на самаходы, амэрыканец прывёў мяне да першага самаходу, адчыніў шафэрскую будку й сказаў, каб я сеў побач з шафэрам. Я сеў, і даўгая калёна грузавых самаходаў з нашымі вайскоўцамі рушыла зь месца. Ехалі мы гадзіны тры. Ужо здалёк я пабачыў перад намі на полі вялізны натоўп народу. Гэта й быў зборны пункт ваеннапалонных. Стаялі яны на мокрай сенажаці, па косткі ў балоце за загарадкай з калючага дроту. Былі тут жаўнеры розных нацыянальнасьцяў — немцы, вугорцы, югаславы, уласаўцы, палякі, славакі ды інш. У гэтую ж задарадку загналі й нас, беларусаў. Гэтак скончылася нашая беларуская ваенная эпапея. Сярод гэтага людзкога мора мы, беларусы, стараліся трымацца разам, адною групаю. Кожны паклаў на балота, што меў — хто рукзак, хто шынэль, і сеў на іх, як мог. Было гэта першага траўня 1945 г., які быў выняткова халодны. Уначы зь першага на другое траўня выпаў густы сьнег. Пад гэтым сьнегам мы й сядзелі, сагнуўшыся, прабуючы седзячы спаць. Пад раніцу я прачнуўся ад невыноснага холаду — на мне была цэлая гурба сьнегу. Было вельмі халодна, галадна, а што найгорш, мокра зьнізу й згары. Нягледзячы на гэта, я хіба ніколі ня чуў гэткага маральнага задавальненьня як тады, таму што лёс даў мне падзяліць долю маіх жаўнераў да канца.*

*З пашанай Кушэль*

*14.12.1958 г.*

*Вельмі Паважаны Спадар Акула,*

*Атрымаў ад Вас два лісты. Самперш адказваю на першы зь іх. Вы пытаецеся, чаму сп. Грыцук ня чуў аб Юрэвічу? Я нічога на гэтае пытаньне не магу адказаць. Магчыма, сп. Грыцук ня бачыў Юрэвіча, бо той ніколі ня жыў у казарме*

*на Ліхтэнштрасэ, а жыў на прыватнай кватэры ў горадзе, у Бэрліне. Генэрал Езавітаў сьцягваў беларусаў, што паходзілі з Латвіі, зь якімі ён знаўся, жыў і працаваў там да 1939 г. Гэтым людзям ён давяраў і, дзе мог, імі акружаўся. Такім чынам, да найбліжэйшага акружэньня ген. Езавітава належылі палкоўнік Ружанцоў[291], які жыў перад вайной у Літве, але чамусьці быў вельмі блізка зьвязаны з ген. Езавітавым, магчыма, папярэдняй працай і знаёмасьцяй, вядомы Дзямідаў (цяпер у Чыкага), Панькоў, Юрэвіч ды інш. Аб усіх гэтых людзях я шмат сказаць не магу (хоць некаторых пазнаў няблага) дзеля таго, што ніколі не цікавіўся даверанымі людзьмі ген. Езавітава, уважаючы гэта за рэч некарэктную з майго боку ў дачыненьні да ген. Езавітава. Што датычыць Юрэвіча, дык магу Вам сказаць наступнае: зьявіўся ён у ген. Езавітава ў пачатку 1945 г. Быў гэта чалавек інтэлігентны, добратаварыска выраблены, год трыццацёх, вонкава добрай прэзэнтацыі. Ці быў ён вайсковым, ня ведаю, я яго ў вайсковым мундзеры ніколі ня бачыў. Аб Юрэвічу Вам можа больш сказаць сп. Панькоў, які зь ім жыў і знаўся ў Латвіі. Юрэвіч, як кажуць, быў вельмі блізкім нават прыяцелем Панькова. Зьвярніцеся да Панькова, думаю, што ён Вашай просьбе не адмовіць, хоць, агулам беручы, да кожнае інфармацыі Панькова варта ставіцца даволі асьцярожна.*

*Адносна ліквідацыі амэрыканскай контрвыведкай савецкай шпіёнскай арганізацыі ў Заходняй Нямеччыне, да якой належаў Юрэвіч, можа паінфармаваць Вас др. Станіслаў Станкевіч, які знаходзіцца ў Мюнхэне. Др. Станкевічу давялося мець актыўную ролю ў ліквідацыі згаданае групы, з чым ён перад асобамі, якім ён верыць, і ня крыецца. Напішэце яму, а калі ўважаеце за патрэбнае, дык можаце нават паклікацца на мяне,*

---

[291] **Аляксандр Ружанцоў** (12.08.1893, Вязьма, Расія — 23.07.1966, Дэнвіл, ЗША), вайсковы дзеяч, літаратар, бібліёграф. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію, у рангу камандзіра палка перайшоў у 1919 г. на бок Літоўскай рэспублікі. У 1920 г. узначаліў Беларускі асобны батальён. У 1921–1924 гг. — жыў у Коўне. Заснавальнік і віцэ-старшыня Таварыства бібліятэкараў Літвы, загадчык спраў Інстытута бібліяграфіі. У часе нямецкай акупацыі ўваходзіў у склад Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. На эміграцыі пэўны час жыў у лагерах для перамешчаных асобаў у Нямеччыне. У 1949 г. выехаў у ЗША.

*і я думаю, ён Вам дакладна адкажа*[292]*. Дзеля таго, што Юрэвіч належаў да шпіёнскае савецкае групы ў Зах. Нямеччыне, і ў чым няма найменшага сумліву, а ў часе, калі ген. Езавітаў быў захоплены бальшавікамі, Юрэвіч быў пры ім, апынуўшыся пасьля нейкім цудам ізноў у Зах. Нямеччыне, насоўваецца кажнаму зусім лягічная думка, што ён быў прыстаўлены саветчыкамі да ген. Езавітава.*

*На другі ліст Ваш магу адказаць Вам наступнае: я раю Вам запытацца ў самога др. Шчорса пра хваробу ген. Езавітава, якая вымагала апэрацыі, бо я наагул яшчэ ня чуў, каб ген. Езавітаў меў апэндэцыт, затое ведаў ад самога нябожчыка, што ён маніцца апэраваць грыжу.*

*Я маю напісаць Вам яшчэ два лісты, адзін досыць доўгі, у якім я выкажу агульныя заўвагі адносна БКА й напішу характарыстыку палк. Сокал-Кутылоўскага, а другі — карацейшы ліст ад сябе.*

*А цяпер жадаю Вам і Вашай сям'і вясёлых Калядных Сьвятаў і шчасьлівага Новага Году.*

*З праўдзівай да Вас пашанай Кушэль.*

[292] З ліста К. Акулы да Ст. Станкевіча ад 01.02.1959: «*[...] Раман я свой закончыў, цяпер перапісваю й апрацоўваю. Думаю, што на пачатку красавіка буду магчы пераслаць Вам да друку. Прашу сказаць друкарні, што на цану іхную я згодны. Мне адно залежыць, каб калі прышлю Вам машынапіс, то каб неадкладна, пасьля прачытаньня яго Вамі, ну і пэўна ж, напісаньня ўводнага слова ад выдавецтва (гэта Вас буду прасіць) пашоў на лінатып. Грошы я пазычаю й буду магчы заплаціць большую часьць адразу пасьля надрукаваньня, ці якія яны там умовы паставяць. Але аб дробязах пасьля. Вось ёсьць важнейшае. Мне не хапае аднае ніткі, каб знайсьці клубок. Я даволі шырака апісваю апошнія часы ген. Езавітава ў Бэрліне й як потым трапіў да бальшавікоў. Матэрыял даў мне сп. Кушаль і сп-р М. Шчорс. Не хапае аднаго злучва. Якую ролю адыграў тут Юрэвіч і хто ён быў. Ці ён быў савецкі шпіён? Мне сп-р Кушаль радзіў зьвярнуцца да Вас, бо цьвердзіў быццам бы Вы пасьля вайны нешта мелі супольнае з выкрыцьцём бальшавіцкае шпіёнскае сеткі ў Зах. Нямеччыне й ведаеце пра Юрэвіча. Я б хацеў дзеля таго прасіць Вас паінфармаваць мяне. Шчорс нічога пра гэта ня ведае, больш таго — ён нават ня помніць, ці ад'ютантам Езавітава быў Юрэвіч. Кушаль таксама ня ведае напэўна. Устанаўленьне, ці Юрэвіч быў бальшавіцкім агентам ці не, зьяўляецца надзвычайна важным таму, што зьменіць увесь калярыт падзеяў у сувязі з тым, як ген. Езавітаў трапіў да бальшавікоў. Прашу на гэта мне дакладна тое, што Вы ведаеце, напісаць. Буду надзвычай удзячны*».

*05.01.1959 г.*

*Вельмі Паважаны Спадар Акула,*

*У гэтым лісьце я хачу зрабіць яшчэ колькі заўвагаў адносна БКА. Пачаткам БКА трэба лічыць 10 сакавіка 1944 г., дзень, калі была абвешчаная мабілізацыя ў БКА. Пасьля мабілізацыі былі арганізаваныя 44 батальёны пяхоты й адзінаццаць сапёрных батальёнаў. Колькі ўсяго жаўнераў было паклікана пад зброю, дакладна невядома, трэба лічыць каля 50 тысяч*[293]*. Колькі было ў БКА афіцэраў, таксама дакладна невядома, трэба лічыць, што каля 300 чалавек. Кожны батальён быў самастойны, і хоць камандзірамі батальёнаў былі беларусы, аднак кожны батальён быў падпарадкаваны гэбітс-камісару паліцыі ў сваім гэбіце. Гэткім чынам немцы не далі магчымасьці стварыць большую беларускую адзінку, чымся адзін батальён, хоць зь пяцідзесяцёх тысячаў жаўнераў можна было арганізаваць корпус. Гэта была б ужо вельмі паважная сіла, а немцы якраз баяліся й да чаго не хацелі дапусьціць. Вялікім мінусам БКА было тое, што БКА было падпарадкавана не нямецкаму войску, а войскам СС, і таму немцы ўважалі нас за дапамаговую сілу СС. Аб гэтым факце ў гутарках з амэрыканцамі аб нашай збройнай сіле я замаўчваю. Не ўжываю таксама назовы «СС», калі даводзіцца пісаць аб БКА нават у нашай прэсе. Усе камандзіры БКА, пачынаючы ад галоўнакамандуючага, былі цалкам пад нямецкай кантроляй. Я, прыкладам, быў падпарадкаваны начальніку СС паліцыі Генэральнага камісарыяту Беларусі ген. Готбэргу. Наш галоўны штаб быў таксама залежны ад штабу ген. Готбэрга. Усе загады, якія наш штаб пасылаў у батальёны, праходзілі праз гэны готбэргаўскі штаб. Ясна, што гэткая залежнасьць нашая ад немцаў не дала магчымасьці беларускаму штабу выявіць сваю собскую ініцыятыву, і гэта адʼемна адбівалася на ўсіх нашых плянах. Асабліва адчувалася гэта ў часе адступленьняў немцаў зь Беларусі. Афіцэрскі склад БКА быў вельмі слабы з гледзішча фаховае веды, бальшыня нашых афіцэраў былі з падафіцэраў і атрымалі афіцэрскія рангі праз штаб БКА ад прэзыдэнта БЦР. Некаторыя з гэтых афіцэраў з падафіцэраў выявілі камандзірскія здольнасьці й маглі б у будучыні сыграць вялікую ролю ў нашай збройнай сіле. Роля БКА*

[293] Па стане на канец сакавіка 1944 г. БКА налічвала 39 пяхотных і 6 сапёрных батальёнаў агульнай колькасцю каля 20 тысяч чалавек.

*ў нашай вонкавай палітыцы была невялікая, але гэта сталася ня з нашае віны, а толькі зь віны немцаў, якія спэцыяльна нам баранілі да гэтага кожнае магчымасьці. Затое БКА сыграла вялізную ролю ў справе прапаганды беларускае вайсковасьці. Масавы беларускі вайсковы рух, які ахапіў усю Беларусь у часе мабілізацыі ў БКА, не астанецца бязь сьледу ў нашай гісторыі. Ад БКА нарадзілася беларуская вайсковая традыцыя. Нашая моладзь да сяньня пяе ўсюды з гордасьцяй беларускія вайсковыя песьні, якія паўсталі ў радох БКА й якіх да гэтага ў нас зусім не было. У гэтым, бясспрэчна, вялікая заслуга БКА.*

*Цяпер хачу напісаць Вам колькі словаў да характарыстыкі сп. Астроўскага, які як прэзыдэнт БЦР быў нашым найвышэйшым начальствам. Старыя беларускія дзеячы шмат гавораць і пішуць аб Астроўскім благога, ведаючы ягоную дзейнасьць за часоў польскіх у Заходняй Беларусі. Я тут гэтых момантаў не кранаю, а хачу адно сказаць аб Астроўскім, якога я пазнаў, калі ён у 1941 г. прыбыў зь немцамі ў Менск. Спадар Астроўскі меў вялікія амбіцыі. Ён хацеў быць камісарам Масквы. Калі немцы пераможна памашыравалі пад Маскву, Астроўскі пакінуў Менск і пайшоў зь імі на ўсход. Калі ж немцы былі пад Масквою разьбітыя й мусілі адступаць, Астроўскі абаснаваўся ў Смаленску. Да яго далучыліся там яшчэ Касмовіч і Вітушка[294]. Якую працу яны рабілі для немцаў, што тыя трымалі іх у Смаленску, мне невядома. Да Менску даходзілі адтуль вельмі нядобрыя чуткі аб іхнай дзейнасьці. У Менск Астроўскі вярнуўся ў канцы 1943 г., тады, калі генэральны камісар Беларусі і*

294 **Міхась Вітушка** (05.11.1907, Нясвіж — 1945?), вайсковы і палітычны дзеяч. У часе навучання ў Пражскім універсітэце і Варшаўскім політэхнічным інстытуце ўваходзіў у кіраўніцтва Аб’яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый і Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР кароткі час выконваў абавязкі начальніка міліцыі ў Нясвіжы. Быў арыштаваны органамі НКУС і праз нядоўгі час выпушчаны на волю. У ліпені 1941 г. намеснік каменданта дапаможнай паліцыі ў Мінску. Увосень 1941 г. пасля ўсталявання нямецкай цывільнай адміністрацыі з’ехаў у прыфрантавую зону Беларусі, дзе займаў пасаду намесніка інспектара паліцыі парадку прыфрантавой зоны групы армій «Цэнтр». Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэса. Быў выкладчыкам разведвальна-дыверсійнай школы ў Дальвіцы. Паводле адной з найбольш пашыраных версій, забіты ў баі неўзабаве пасля дэсантавання на тэрыторыі БССР.

*начальнік СС паліцай ген. фон Готбэрг наважыўся паклікаць да жыцьця БЦР. Астроўскі быў вызначаны на прэзыдэнта БЦР і пачаў арганізацыю БЦР. Канчальна БЦР была аформленая ў студзені 1944 г. З гэтага моманту Астроўскі выявіў шмат энэргіі, ініцыятывы й адвагі. Зусім аб'ектыўна мушу сказаць, што як прэзыдэнт БЦР сп. Астроўскі быў цалкам на вышыні. Праўда, меў ён і ня зусім выразныя рысы характару. Гэтак, ягоным найбліжэйшым ад'ютантам быў нейкі Наронскі, які невядома скуль зьявіўся й дзе пасьля падзеўся, але які быў у Астроўскага самым давераным чалавекам. Даверанымі ягонымі людзьмі былі й Радзевіч і Плескачэўскі, ды інш., таксама ягоныя ад'ютанты, не былі наагул ніякімі вайскоўцамі, а звычайнымі прайдохамі, аднак тварылі найбліжэйшае даверанае кола Астроўскага. Увесну 1945 г., калі ўсё скончылася, я жыў у гарадку Амбэргу пры сваёй сям'і. Неспадзявана аднойчы да мяне зьявіўся там Астроўскі пад прозьвішчам Крывіцкі. Ён даведаўся аб падзеях, праз якія прайшла нашая дывізія ў апошнім месяцы вайны, і прыехаў, каб ад мяне асабіста дакладна пачуць, як гэта адбылося. Пры гэтай нагодзе ён узнагародзіў мяне двума дыплёмамі, копіі якіх я далучаю да гэтага ліста[295]. Трэба аб'ектыўна сьцьвердзіць, што нашыя дзеячы ў крытычны пэрыяд красавік–травень 1945 г. пахаваліся, і толькі, калі ўсё ўжо было скончана, пачалі, азіраючыся, выходзіць на сьвятло. Аднак вайскоўцы не хаваліся, а, хоць былі выняткі й тут, адважна й арганізавана пайшлі насустрач невядомага й трымаліся да канца.*

*Цяпер — яшчэ колькі словаў адносна характарыстыкі палкоўніка Сокал-Кутылоўскага. Пазнаёміўся я зь ім аж у 1919 г. у сьнежні, калі ён у складзе дэлегацыі ад вайскоўцаў Случчыны прыяжджаў у Менск у Беларускую вайсковую камісію. У тыя часы ён быў на Случчыне вельмі актыўны сярод беларускіх вайскоўцаў. У часе Слуцкага паўстаньня ў 1920 г. Сокал-Кутылоўскі камандаваў палком. Калі Слуцкае паўстаньне атрымала ад бальшавіцкае арміі колькі паразаў і далейшае змаганьне сталася безнадзейным, Сокал-Кутылоўскі абняў камандаваньне дывізіяй і вывеў яе, пераправіўшыся праз раку Лань, у раён польскае акупацыі, ратуючы людзей ад зьнішчэньня. Пасьля*

[295] Тэксты дасланых Кушалем граматаў Акула выдрукаваў у «Змагарных Дарогах», таму тут яны тут не перадрукоўваюцца.

*Рыскага міру паміж Польшчай і савецкай Расеяй былыя слуцкія паўстанцы мусілі неяк па-цывільнаму ўладжвацца. У Заходняй Беларусі ў тыя часы быў вялікі недахоп праваслаўных сьвятароў. Дзеля падрыхтоўкі іх у Вільні ў тыя часы былі адчыненыя багаслоўскія курсы. На гэтыя курсы пайшлі некаторыя афіцэры-беларусы — былыя слуцкія паўстанцы, у тым ліку й Сокал-Кутылоўскі. Пасьля сканчэньня курсу ён быў рукапаложаны ў сьвятары й быў на працягу колькіх год сьвятаром у розных прыходах Заходняе Беларусі. Калі ў 1939 г. у Заходнюю Беларусь прыйшла савецкая армія, Сокал-Кутылоўскі, як расказваюць, склікаў у царкву ўсіх сваіх прыхаджанаў, выйшаў з аўтара ў аблачэньні й сказаў прысутным: «Бога нет, я вас абманваў». І тут жа пачаў скідаць зь сябе сьвятарскае аблачэньне. З гэтага моманту ён перастаў быць сьвятаром. Што ён рабіў пры савецкай акупацыі, я дакладна ня ведаю. У часе нямецкай акупацыі ён быў начальнікам аддзелу Самапомачы ў Ганцавічах на Палесьсі, а пасьлей — начальнікам Самаахowы, яшчэ пазьней — вайсковым начальнікам Ганцавіцкае акругі. У часе нямецкага адступленьня Сокал-Кутылоўскі выехаў у Нямеччыну, у Бэрлін і знаходзіўся там на Ліхтэнштрасэ. Калі арганізавалася нашая дывізія, ён камандаваў у ёй трэцім батальёнам і падзяліў да канца лёс дывізіі й нас усіх. Калі амэрыканцы развазілі са зборнага пункту ў Каме палонных па розных лягерах, нашая дывізія была разьдзеленая. З адной часткай я трапіў у лягер у Рэгенсбургу, а з другой часткай дывізіі Сокал-Кутылоўскі апынуўся ў Францыі. Там ён і шмат нашых афіцэраў былі выданыя бальшавікам. Як гэта дакладна сталася, цяжка цяпер устанавіць. Жаўнеры, якія былі там разам з Сокал-Кутылоўскім, расказваюць аб гэтым па-рознаму. З расказаў гэтых можна, аднак, зрабіць высновы, што тыя зь беларусаў, якія, зразумеўшы палажэньне, падаліся за польскіх грамадзянаў, выданыя бальшавікам не былі. Сокал-Кутылоўскі, адылі, заявіў, як кажуць, у гутарках з нашымі людзьмі, што ён меў ужо досыць палякаў на працягу 20 год і за польскага грамадзяніна лічыцца ня хоча. Ці гэта было запраўды, невядома. У кожным выпадку Сокал-Кутылоўскі ня выйшаў зь цяжкага палажэньня, у якім апынуўся. Ён быў выданы бальшавікам і, вядома, загінуў. Разам зь ім былі выданы шмат беларускіх афіцэраў, якія да канца трымаліся свайго камандзіра. Між імі былі вельмі каштоўныя адзінкі, як, прыкладам, капітан Орсіч*

*ды інш. Праўдападобна, нашыя афіцэры як добрыя беларускія патрыёты ўпарта цьвердзілі перад камісіямі, што яны беларусы, што, перад пагрозай быць выданымі бальшавікам, робіць іх запраўднымі беларускімі героямі. З гэтага скарысталі прадстаўнікі НКВД, выкарыстаўшы амэрыканскую й францускую нясьведамасьць што да нацыянальнага палажэньня Ўсходняе Эўропы, і, пераканаўшы іх, што беларусы — тыя ж рускія. У кожным разе ўся гэтая справа павінна быць дакладна яшчэ дасьледаваная беларускімі дзейнікамі.*

*З пашанай Кушэль.*

*10.01.59 г.*

*Вельмі Паважаны Спадар Акула,*

*У гэтым лісьце пішу Вам аб сабе. Нарадзіўся я 16-га лютага 1895 г. у сяле Першай былой Менскай губэрні Менскага павету. Паводле пазьнейшага польскага адміністрацыйнага падзелу гэта быў Валожынскі павет Наваградзкага ваяводзтва. Агульную асьвету атрымаў сярэднюю. У травені месяцы 1915 г. я быў мабілізаваны ў расейскую армію й прыдзелены ў 29-ы запасны полк у Варонежы. Тут я прайшоў школу рэкрута й скончыў падафіцэрскую школу (г. зв. учэбная каманда), атрымаўшы ступень малодшага унтэрафіцэра (капраля). У кастрычніку 1915 г. я як з навуковым цэнзусам, быў адкамандыраваны ў Віленскае ваеннае вучылішча, якое ў тым часе было эвакуявана зь Вільні ў Палтаву. У лютым 1916 г. я скончыў ваеннае вучылішча й быў авансаваны ў першую афіцэрскую рангу — прапаршчыкам ды прыдзелены ў 155-ы запасны полк у Астрахані дзеля набыцьця практыкі ў камандаваньні зьвязам і ротай. У маі 1916 г. я быў адпраўлены на нямецкі фронт і прыдзелены ў 276-ы пяхотны Купянскі полк. У гэтым палку я ўвесь час аж да Кастрычніцкай рэвалюцыі, да лістападу 1917 г., прабыў на фронце, у першай лініі, камандаваў ротай, браў удзел у шматлікіх баях, атрымаў дзьве баявыя ўзнагароды й выслужыў рангу штабс-капітана. Пасьля развалу расейскае арміі я вярнуўся дахаты, да сваіх бацькоў, якія жылі ў Забор'і Налібоцкае вобласьці. На гэтым і скончыўся першы этап мае ваеннае службы — у арміі расейскай.*

*Улетку 1919 г., калі польская армія, адкідаючы савецкую армію на ўсход, займала Беларусь, я знаходзіўся ў Вільні. Група беларускіх дзеячоў выступіла перад польскім галоўным каман-*

*даваньнем з прапановай арганізаваць беларускае войска дзеля змаганьня з бальшавікамі. Дзеля арганізацыі беларускага войска польскім галоўным камандаваньнем была пакліканая г. зв. Беларуская вайсковая камісія, у якую ўвайшоў як сябра ўраду. У Беларускай вайсковай камісіі я працаваў кіраўніком пэрсанальнага аддзелу, а пасьля эвакуацыі БВК у Лодзь улетку 1920 г. выконваў абавязкі старшыні Камісіі. Пасьля заканчэньня польска-бальшавіцкай вайны й ліквідацыі Беларускай вайсковай камісіі ды беларускіх вайсковых аддзелаў я выступіў вясною 1921 г. з войска й жыў у Вільні, беручы актыўны ўдзел у беларускай нацыянальна-грамадзкай працы. У студзені 1922 г. я ўступіў у польскую армію ў характары сталага прафэсійнага афіцэра. У 1922 г. я скончыў польскую афіцэрскую школу ў Варшаве. У 1923 г. я скончыў спэцыяльную школу цяжкіх кулямётаў, быў прыдзелены ў 66-ы пяхотны полк і камандаваў падафіцэрскай школай цяжкіх кулямётаў. У 1932 г. я быў пераведзены ў Корпус кадэтаў, дзе камандаваў ротай кадэтаў да 1936 г. У 1936 г. быў пераведзены ў школу падхаронжых рэзэрвы на становішча заступніка камандзіра школы падхаронжых рэзэрвы ў Пултуску. Такім чынам усю вайсковую службу ў польскай арміі я займаў камандныя становішчы ў вайсковым школьніцтве. У 1939 г. я як афіцэр польскай арміі браў удзел у баях супраць немцаў, галоўным чынам у абароне Львова як камандзір батальёну. 17 верасьня 1939 г. на загад камандзіра Львоўскага корпусу абаронцы капітулявалі на карысьць бальшавіцкай арміі. Гэткім чынам, апынуўшыся ў бальшавіцкім палоне, я скончыў другі этап сваее вайсковае службы — у арміі польскай*[296].

*Ад 1941 г. пачаўся мой трэці этап вайсковае службы — у беларускай вайсковай акцыі. Аб гэтым этапе маёй працы я пісаць ня буду, бо Вы добра аб ім ведаеце. Вы пытаецеся ў мяне, ці маю асобу ў Вашым рамане выводзіць пад маім прозьвішчам ці псэўданімам. Я Вам тут нічога накідаць не магу, выказваю толькі мае меркаваньні, што ляпей узяць псэўданім. Калі Вы згаджаецеся, дык гэткім маім псэўданімам мог бы*

[296] У савецкім палоне Ф. Кушаль пагадзіўся на супрацоўніцтва з НКУС, быў этапаваны ў Лубянскую турму. Генерал Уладзіслаў Андэрс, пазнейшы арганізатар і камандуючы польскага войска на Заходнім фронце, згадваў у сваіх мемуарах ваеннапалоннага афіцэра Кушаля, які быў падсаджаны да яго ў камеру.

*быць «Дорскі», ад мае мясцовасьці Доры (Пяршайская гміна Валожынскі павет).*

*У дапаўненьні да майго папярэдняга ліста хачу яшчэ напісаць Вам некалькі слоў аб афіцэрах, выданых бальшавікам у Францыі на чале з Сокал-Кутылоўскім. Незалежна ад таго, пры якіх абставінах яны выданыя, яны на сьвеце хіба не жывуць, значыцца, аддалі сваё жыцьцё за беларускую справу, для беларускага народу. Таму — яны героі й гэткімі нацыянальнымі героямі Вы й павінны іх вывесьці ў сваім творы, калі будзеце аб гэтым пісаць.*

*Усе факты, якія я падаў Вам у сваіх лістах — праўдзівыя, абсалютна бессумлеўныя. Калі што-небудзь недапісана, дык толькі справы дробныя, якія маглі вылецець у мяне з галавы, бо было гэта ўжо 14 год таму. Але гэтыя падрабязьнасьці, якія я, магчыма, абмінуў, для Вашага рамана большага значэньня ня маюць.*

*З пашанай*

*Кушэль.*

*P.S. На ўсякі выпадак дадаю іменны сьпісак афіцэраў, якія былі выданыя бальшавіком у Францыі. Гэты спісак, хіба, няпоўны. Прозьвішчы гэтыя ўдалося мне ўстанавіць на падставе сьпіску афіцэраў, якія я знайшоў у дакумэнтах: падпалкоўнік Сокал-Кутылоўскі, капітан Орсіч, старшы лейтэнант Кушняровіч, старшы лейтэнант Сасіновіч, старшы лейтэнант Сурнін. Магчыма, што гэтыя пяць толькі й былі выданыя, бо, як расказвалі мне стральцы, якія былі ў Францыі, некаторым афіцэрам удалося ўцячы зь лягеру й загубіць свае сьляды.*

*К.*

*Нью-Ёрк, 25 жніўня 1959 г.*

*Вельмі Паважаны Спадар Акула,*

*Ліст Ваш атрымаў, вельмі дзякую. Тое, што Станіслаў Станкевіч прапануе Вам перапрацаваць першую частку Вашае працы, у гэтым нічога незвычайнага няма. Найлепшыя пісьменьнікі сьвету, гэткія, як Леў Талстой, часамі перапрацоўвалі свае творы па некалькі разоў. Як бы добра ні была напісаная Вамі рэч першы раз, перапрацаваная ў другі, яна будзе, бясспрэчна, шмат лепшая. Гэта нічога, што праца выйдзе пазьней. Хто ведае, можа, гэтая Вашая рэч будзе*

*некалі адзінай крыніцай, зь якое будуць чэрпаць весткі будучыя беларускія гісторыкі? Аднак пільнуйцеся, каб пры перапрацоўцы не паддацца сугестыям розных нашых літаратураведаў ці дзеячоў, якія не заўсёды патрапяць аб’ектыўна ацаніць падзеі, якія адбываліся ў нас за нямецкія часы. Што датычыць назову Вашае працы, ці будзе гэта раман, ці мэмуары, дык гэта не галоўнае. На маю думку, можа, найляпей падыходзіў бы тут назоў «аповесьць». Калі б сп. Віцьбіч пераслаў нам першую частку, вельмі ахвотна б яе перагледзелі.*

*Што да характарыстыкі ген. Мальцава, то пастараемся Вам напісаць сваё ўражаньне аб ім.*

*Паходзіў ён зь сям’і перадваеннае расейскае інтэлігенцыі. У часе першае сусьветнае вайны служыў афіцэрам-лётнікам. Быў чалавекам адукаваным і добра выхаваным, росту сярэдняга, маёй камплекцыі. Калі я зь ім першы раз сустрэўся, ён выдаўся мне чалавекам год пад пяцьдзясят з густой сівой чупрынай на галаве, энэргічным выразам твару, энэргічнымі рухамі, гаварыў хутка й ясна. Да нас як беларусаў паставіўся паважна й чэсна. Калі я із сваім афіцэрскім корпусам зьявіўся ў штабе ген. Мальцава, каб абмеркаваць супольную акцыю адносна пераходу нямецкага фронту, ён, пабачыўшы нашую, адменную ад расейскае, афіцэрскую форму, ярылавыя крыжы на чырвоных падкладках на каўнярох і Пагоні на шапках, сказаў: «Вот вам, господа і Ліга Нацыяў!». У амэрыканцаў ён вельмі верыў і пераход да іх лічыў за адзіны ратунак для сябе й сваіх падуладных.*

*З пашанай*

*Кушаль*

*01.03.1962 г.*

*Вельмі Паважаны спадар Акула,*

*Атрымалі ад Вас Вашую кнігу «Змагарныя Дарогі», якую я й мая жонка ўжо зь цікавасьцю прачыталі. Гістарычныя падзеі ў гэтай кнізе паданыя праўдзіва, характарыстыкі белрускіх дзеячоў, якія адыгралі галоўныя ролі ў незвычайна трагічны пэрыяд нашай гісторыі, гэтаксама апісаныя праўдзіва. Трапная й ацэна вайсковых аддзелаў, што складаліся з жаўнераў нашых суседзяў і прынесьлі столькі бяды й шкоды нашаму народу дзеля таго толькі, каб выслужыцца перад заваёўнікамі ці маючы на мэце свае нацыянальныя меркаваньні.*

*Галоўная тэма Вашай аповесьці — эпапея Беларускай афіцэрскай школы, якая вымашыравала пехатою зь Менску й пасьля вельмі трагічных прыгодаў апынулася ў Італіі, а яшчэ пазьней — у Ангельшчыне, апісаная вельмі цікава. Зь літаратурнага боку — усе амаль апісаньні — гэтаксама добрыя, стыль лёгкі й ня мучыць чытача. Свае заўвагі адносна «Змагарных Дарог» напішу ў «Бацькаўшчыну».*

*Пры гэтым перасылаю 10 даляраў для пакрыцьця коштаў выданьня й перасылкі.*

*З праўдзівай да Вас пашанай Кушаль.*

## Ліст Хведара Данілюка

*29.10.1958 г.*

*Высока Паважаны Сп. Акула!*

*Выбачце, што так доўга не адказваў. Па праўдзе кажучы, Вы далі мне вялікае заданьне, зь якім бязь пісарскіх здольнасьцяў цяжка справіцца. Да гэтага ж яшчэ пасьля 40-ка гадоў амаль немагчыма ўспомніць усё, што Вас цікавіць, ды й ня ўсё мне было вядома.*

*Баюся, што мае інфармацыі аб Антону Сокал-Кутылоўскім акажуцца даволі скупымі. Пазнаёміўся я зь ім падчас Слуцкага паўстаньня, калі ўжо брыгада*[297] *перайшла ў Семежава. Меў ён тады рангу капітана, яшчэ з расейскае арміі, і камандаваў Грозаўскім палком. Я быў вызначаны камандзірам вучэбнае каманды брыгады (падафіцэрскае школы), а маім памочнікам быў паручык Падгурскі. Зразумела, што маючы ніжэйшую ступень паручыка ды займаючы ніжэйшае каманднае становішча, я ня мог быць зь ім у нейкіх сяброўскіх дачыненьнях, ды й цяжка пасябравацца з кімсь за які месяц. Быў ён строгім і вымагальным начальнікам, але й справядлівым. Памятаю, як за грабеж ён нейкага прапаршчыка (прозьвішча вылецела з галавы) заплявушыў перад усім палком і, садраўшы пагоны, выгнаў з брыгады.*

*Быў ён высокага росту, стройны, не насіў вусоў, ані барады. Рысы твару меў, сказаў бы я, буйныя, хоць цяжка мне іх да-*

[297] Маецца на ўвазе Слуцкая брыгада, створаная ў лістападзе 1920 г. для абароны Случчыны перад наступам Чырвонай Арміі.

*кладна апісаць. З валасоў цёмны бляндын, зь вельмі лёгкім рыжаватым адценкам. Насіў у той час, як і ўсе афіцэры, расейскі ўніформ з пагонамі й Пагоняю на шапцы.*

*Камандзірам брыгады быў вызначаны пад канец, калі ўжо адышлі зь Семежава ў с. Грыцавічы, і палк. Гаўрыловіч[298] з прычыны слабога здароўя (паранены ў першай вайне) адышоў і выехаў у Клецак.*

*Пасьля раззбраеньня палякамі Сокал-Кутылоўскі ад'ехаў, а значная частка афіцэраў, у тым ліку й я з вучэбнай камандай, пераехалі да Беларускае вайсковае камісіі ў Лодзі. Незадоўга пасьля гэтага Сокал-Кутылоўскі быў высьвечаны ў сьвятарскі сан архіяпіскапам Панцеляймонам (Ражноўскім) у Навааградзкім саборы. Быў на прыходах у Лысьвіцы (Нясьвіскі ці Баранавіцкі павет), Казлоўшчыне (Слонімскі пав.), Дзятлаве (б. м. 1926–1930), дзе быў таксама благачынным, і ў Востраве (Баранавіцкі пав.). Ведаю, што меў нейкія спрэчкі з архіяп. Панцеляймонам і прат. Бабкоўскім (тады настаяцель Навагрдзкага сабору, а пазьнейшы архіяпіскап Венэдыкт) і на нейкі час быў перайшоў у Палескую япархію. Дазнаў таксама прыкрасьцяў ад польскае ўлады, хоць падрабязнасьцяў ня ведаю, але зь ягоных словаў ужо ў Бэрліне прыпамінаю, што палякі падчас вобыску забралі ў яго сьцяг Слуцкае брыгады, які гэткім чынам прапаў.*

*Паходзіў Сокал-Кутылоўскі зь Нясьвіжчыны, але адкуль дакладна, не прыпамінаю. Паводле асьветы быў інжынерам-будаўніком ці тэхнолягам. Матушка (імя забыўся) таксама зь Нясьвіжчыны, дачка дыякана Ясінскага. Мелі двое дзяцей — сына й дачку, што да імёнаў я вельмі няпэўны. Сын у 1939 г. быў вучнем, здаецца, ці не апошняе (4-е) клясы мужчынскае гімназіі ў Баранавічах.*

*Пасьля прыходу бальшавікоў Сокал-Кутылоўскі быў арыштаваны й праседзеў у Баранавіцкай турме аж да немцаў. Матушка зь дзецьмі была вывезеная. Пры немцах Сокал-Кутылоўскі быў*

[298] **Ахрэм Гаўрыловіч** — вайсковы дзеяч. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Падчас Слуцкага паўстання быў камандзірам 4-га батальёна Слуцкага палка Слуцкай брыгады, пазней прызначаны камандзірам Слуцкага палка. Па задушэнні паўстання праводзіў нелегальную дзейнасць у Заходняй Беларусі. У 1924 г. вярнўся ў БССР, у 1925 г. арыштаваны ДПУ і асуджаны на 5 год лагераў. Далейшы лёс невядомы.

*школьным (акруговым?) інспэктарам у Ганцавічах. Ці прымаў удзел у Самаахове й Краёвай Абароне, ня ведаю.*

*Апошні раз сустракаўся я зь ім у Бэрліне, у беларускім батальёне, але даўжэйшае гутаркі мецЬ не давялося. Аб далейшай ягонай долі й выдачы бальшавікам не хачу паўтараць Вам розных чутак, што да мяне дайшлі, і раю Вам зьвярнуцца да ген. Кушаля, або да жаўнераў, што былі разам зь ім у той час, як Мікалай Паўловіч з Монтрэаль.*

*Як бачыце, сп. Акула, весткі мае надта скупыя. Шмат чаго я ўжо ніяк не магу ўспомніць, а шмат, як адзначыў, і зусім ня ведаў, бо с. п. Сокал-Кутылоўскі быў наагул чалавек закрыты й, як казалі ў нас, тып «адзінца». Да гэтага зблізіліся мы зь ім ужо падчас ягонае бытнасьці благачынным, калі я быў ягоным заступнікам. Да нейкае вымены ўспамінаў ці ўражаньняў аб Слуцкім паўстаньні паміж намі, здаецца, ніколі не дайшло, і ўсе пэрсанальныя дадзеныя, што падаю Вам, паходзяць з прыпадковых ягоных заўвагаў.*

*Калі ўспомню яшчэ што, дык напішу Вам пазьней.*

*Магчыма, што ў Вашай творчасьці спатрэбяцца прозьвішчы некаторых афіцэраў, дык вось якіх я прыпамінаю: кап. Семянюк (кам. палку, здаецца, Грозаўскага, пасьля Сокал-Кутылоўскага) і паручыкі Арцішэвіч, Капец, Рудзік, Кітовіч, Лісоўскі, Янкоўскі, Мірановіч, Хвесень, Казека й Казячы.*

*Мо' як колечы, упарадкаваўшы ў галаве ўспаміны, змагу напісаць крыху болей аб Слуцкім паўстаньні, дык і Вам перашлю копію, а пакуль што выбачайце. Рад быў бы памагчы Вам болей, але галава, як ведаеце, — вельмі слабы архіў, а калі яшчэ чалавек да пяра ня майстар, дык і зусім дрэнь.*

*Канчаючы на гэтым, жадаю Вам посьпехаў у працы й Міласьці Божае.*

*Ваш Хведар Данілюк, мітрафорны пратаярэй.*

## Ліст Міколы Шчорса

*4.1.1959 г.*

*Паважаны Спадару Акула,*

*У прынцыпе на пісаніну (пад пісанінаю разумею друкаваныя працы) людзей стараюся наагул не рэагаваць. У прыватнасьці не раблю гэтага, калі апошняя (пісаніна) адзначаецца сьвя-*

*домай тэндэнцыйнасьцю ці вульгарным перакручваньнем фактаў. Дзеля гэтага Вашыя «папярэджаньні», носячыя ў пэўнай меры характар маральнага шантажу, разьмінаюцца із мэтанакіраванасьцю й, далікатна выражаючыся, зьяўляюцца што наименш не на мейсцы ў дачыненьнях паміж культурнымі людзьмі, а за культурнага чалавека Вас да гэтага часу ўважаў і надалей хацеў бы ўважаць.*

*Каб я спрастоўваў усю тэндэцыйную пісаніну людзей (напр., сп. Абрамчыка — пачынаючы ад ягонай г. зв. біографіі й канчаючы на гэтак званым інтэрвію, ды іншых) аб падзеях, у якіх лёс суліў мне браць большы ці меншы ўдзел, то, прыказкова выражаючыся, мне не хапіла б валовай скуры для выпраўленьня сьвядома скрыўленай ды заняло б шмат часу, якога ў мяне ў абрэз.*

*Асабіста знаходжуся над палітычнымі «платамі» наагул, а ў прыватнасьці ня бачыў і ня бачу іх у прыватных дачыненьнях; Ваш жа ліст знаходзіцца ў апошняй катэгорыі, бо не спадзяюся, каб Вы свой раман пісалі на заказ «плацяное» палітычнае вярхушкі.*

*Але аб гэтым хопіць! Пераходжу, так сказаць, ад рэм, падчыркваючы, што раблю гэта ізноў жа не зь меркаваньняў на «папярэджаньні», а толькі й вылучна зь меркаваньняў агульналюдзкіх формаў, прынятых цывілізаваным сьветам у дачыненьнях паміж паасобнымі людзьмі.*

*Вось жа 1. Ген. Езавітаў цярпеў на занядбаную правастароньнюю грыжу (гэрнія) з тэндэнцыямі да частых інкарцэрацыяў. У апошнім часе гэты анатамічны дэфэкт пагоршыўся да такой ступені, што практычна ўнемажліўляў яму даўжэйшае стаяньне, не гаворачы ўжо аб больш інтэнсіўным хаджэньні. У кожным выпадку, аднак, стан пацыента ў ніякім выпадку не належаў да катэгорыі г. зв. «эмэрджэнсі»*[299]*, вымагаючым безадкладнай хірургічнай інтэрвэнцыі. На апошнюю я згадзіўся пасьля даўжэйшых налеганьняў з боку пацыента. Прычына налеганьняў была наступная: а). ген. Е. хацеў вырвацца із Бэрліну, дзе ён сваю прысутнасьць уважаў зусім бязмэтнай і мроіў аб тым, каб далучыцца да беларускіх аддзелаў у Зах. Нямеччыне. b) хацеў выкарыстаць супакой на ўсходнім фронце для падрэпараваньня свайго фізычнага стану для мэты,*

[299] *Emergency* (анг.) — хуткая дапамога.

*пададзенай вышэй, ды для насоўваючыхся эвэнтуальнасьцяў, зьвязаных із неадзоўным развалам трэцяга райху. Ён даслоўна казаў: «братка, із сваею грыжаю я далёка не ўцяку».*

*2. Апэраваны ён быў у Штэдцішэс Кранкэнгаўз*[300] *у Фінстэрвальдэ Нідэрляўзітц прыблізна каля 11 красавіка 1945 г.*

*3. Бальшавіцка-нямецкі фронт прыблізна ад 2-х з паловаю месяцаў знаходзіўся на тым самым мейсцы каля 90–100 км ад Фінстэрвальдэ на ўсход ад Губэн. Адносны супакой на фронце ды чуткі аб нейкай новай нямецкай «вундэрваффэ»*[301] *адыгралі паважную даволі ролю ў прадпрыняцьці хірургічнае інтэрвэнцыі.*

*4. Недзе на 3 ці 4 дзень пасьля апэрацыі бальшавікі пачалі офэнзыву*[302] *ў раёне ўспомненага вышэй Губэн. Няглядзячы на супярэчныя весткі з тэатру ваенных дзеяньняў (немцы казалі, што офэнзыва заламалася) на ўсялякую эвэнтуальнасьць я скамбінаваў аўта (нямецкае ДКВ) (не пытайцеся, як я скамбінаваў, — «забраў», карыстаючыся із адсутнасьці свайго пасярэдняга шэфа із гаражу ягонае аўта. Вялікай бяды не было, бо ён меў іх аж трое), бэнзыны й шофэра (знаёмага санітара із варшаўскага шпіталя — паляка) і выдаўшы на блянках Варшаўскага беларускага камітэту задняй датаю ген. Е. дакумант на фіктыўнае прозьвішча Я-га із Горадні й пасадзіўшы яго й ягонага ад'ютанта (калі ня мыляюся, Юрэвіча) у машыну, сказаў шофэру ехаць на захад. Гэта было на трэці ці чацьвёрты дзень пасьля апэрацыі. Асабіста, згодна загаду нямецкіх уладаў, датычачага ўсіх шпітальных лекараў, пад караю расстрэлу ня меў права пакідаць шпіталя. Пару дзён пазьней, калі аўтарытэт нямецкіх уладаў зьнізіўся амаль да нуля, я ізь цяперашняю сваёю жонкаю селі на ровары й падаліся на захад.*

*Недзе 40–50 км на паўдзённы захад ад Фінстэрвальдэ, ня маючы карты, назову мястэчка не магу прыпомніць, — знаходзіцца на поўдзень ад Торгаў недалёка ад ракі Эльбы, зусім прыпадкова на вуліцы спаткаў ад'ютанта ген. Е., каторы паведаміў мяне, што ген. знаходзіцца ў гатэлі пад апекаю нямецкіх вайсковых лекараў. Заскочыўшы каротка да яго,*

---

[300] *Schtedtisches Krankenhauz* (ням.) — шпіталь.

[301] *Wunderwaffe* (ням.) — дзівосная зброя.

[302] *Offensive* (ням.) — наступ.

*сьцьвердзіў, што ў сувязі із транспартам наступіла загнаеньне раны, тэмпэратура была 38. Ад ген. і ягонага ад'ютанта даведаўся, што ваенныя ўлады польнага лязарэту запэўнілі іх у тым, што яго разамізь нямецкімі хворымі й раненымі эвакуюць у той самы альбо заўтрашні дзень на поўдзень Нямеччыны. Недзе ў 1946 ці ў 1947 годзе, спаткаўшы ў Нюрнбэргу ад'ютанта, даведаўся, што апошні пакінуў ген. Е. на другі дзень майго ізь імі спатканьня, некалькі гадзінаў перад прадбачанай эвакуацыяй лязарэту. Пакінуў ён ген. Е. на жаданьне апошняга (у што я веру) дзеля таго, што яго як здаровага лязарэтныя ўлады адмовіліся ўзяць у транспарт.*

*5. Пункт чацьвёрты дае адказ на Вашае пятае пытаньне.*

*6. Пры ім зь беларусаў, як Вы ўжо даведаліся вышэй, быў ягоны ад'ютант, прозьвішча каторага выскачыла ў мяне із памяці. Ведаю толькі адно, што гэта быў вучань ген. Езавітава із Рыгі, адданы яму душою й на мяне асабіста зрабіўшы вельмі дадатнае ўражаньне. Адносіны ген. Езавітава да яго ўпадабняліся адносінам бацькі да сына, і наадварот. Гэта адначасна дае адказ і на 7 Вашае пытаньне.*

*Хачу на заканчэньне зацеміць, што із хірургічнага пункту гледжаньня загнаеньне раны пасьля апэрацыі (гаеньне «пэр сэкундам»[303]) наагул паважнай камплікацыяй не зьяўляецца; прадаўжаецца толькі працэс гаеньня й канчальнага аздараўленьня пацыента. Агульны стан здароўя ген. Е., калі я яго бачыў апошні раз, быў з пункту мэдычнага гледжаньня зусім задавальняючы.*

*Гэта ёсьць факты, якія могуць ведаць і ведаюць толькі я й б. ад'ютант ген. ды мая жонка. Усе іншыя інфармацыі, датычачыя гэтага пытаньня, — гэта чуткі трэціх ці, можа, нават дзясятых асобаў, упрыгожаныя фантазіяй ды сымпатыямі ці антыпатыямі інфарматараў да сьведкаў перажытага, узалежненых у вялікай меры ад месцазнаходжаньня гэтых інфарматараў у адносінах да ўспомненага Вамі плоту. Цана ім з пункту гледжаньня абсалютнай вартасьці грош.*

*Ня ведаю, ці гэтыя радкі шмат Вам у Вашай працы над раманам памогуць, у кожным выпадку яны ёсьць зафіксаваньнем праўды пэрыяду, вельмі кароткага, але дэцыдуючага, жыцьця заслужанага перад беларускім народам чалавека.*

---

303 *Per secundam* (лац.) — паўторнае.

*Буду ўдзячны, калі выкажаце свой погляд на іх. Жадаючы посьпеху ў працы над раманам, жанрам вельмі патрэбным у нашай літаратуры, астаюся з належнай пашанаю Шчорс.*

## Лісты Віктара Сянкевіча

*[недатаваны]*

*Ня ведаю дакладна, як называлася тая невялічкая мясцовасьць каля швайцарскае граніцы, дзе мы падчас нашага паходу на поўдзень Францыі астанавіліся на адну ноч, каб пераначаваць ды крыху аддыхнуць. Паводле Надсона*[304]*, гэта быў Халон. Паколькі прыпамінаецца, гэта былі велізарныя вайсковыя казармы на ўзгорку. Было ўжо пад вечар, калі мы, перамучаныя доўгім і ўтомленым маршам, змаглі ўрэшце адпачыць ды пасушыць крыху нашыя ўніформы. Пагода была пахмурная з частым дробненькім дожджыкам. Кожны чуўся перамучаны, і што больш, страшэнна галодным. Як на бяду, на вячэру далі ў той дзень гнілаватай маргарыны, што ў сваю чаргу раззлавала ўсіх хлапцоў. Але гэная злосьць, магчыма, адышла б разам са сном, калі б пасьля вячэры немцы не пачаставалі нас гарэлкай. На галодны жалудак хапіла па чарцы, каб людзі ашалавелі, ап'янелі ды пасьля сталіся агрэсіўнымі. Каля 10 гадзіны вечарам хлопцы пачалі проста бунтавацца. Некаторыя пачалі арганізоўваць сапраўдны бунт, дамагаючыся ад немцаў лепшае й больш рэгулярнае яды. Знайшліся былі й такія, каторыя заяўлялі, што найлепшым выхадам будзе перастраляць усіх немцаў, а самім перайсьці ў Швайцарыю. Аднак пасьля гадзіннай суматохі й шмат крыку жаўнеры супакоіліся. Калі сьвятло было згашана, хлопцы пачалі гаварыць ужо больш рэчова й больш сур'ёзна. Паволі пачаў дыскутавацца канкрэтны плян уцёкаў, асабліва што некаму ўдалося было даведацца, што мы больш ня пойдзем на поўдзень, а будзем вяртацца ў Нямеччыну. Гэты факт, ці лепш, гэтая вестка, і задэцыдавала канчаткова арганізаваньне ўцёкаў.*

*Калі на наступны дзень мы сабраліся ў паход ды аказалася, што мы сапраўды вяртаемся назад у Нямеччыну, пачаў тва-*

---

[304] Маецца на ўвазе Аляксандр Надсан.

*рыцца адразу свайго роду тайны камітэт уцёкаў. Галоўнымі арганізатарамі й сябрамі гэтага камітэту былі хлопцы з 1-га зьвязу, а асабліва Косьцік Кадушка, Надсон, Мак і пару іншых. Я ўвайшоў у гэтую групку адразу пасьля выхаду з казармаў. Маім заданьнем была агітацыя й заклікі да ўцёкаў у 3-м зьвязе, да якога я належаў. Ня ўсе сябры згадзіліся на ўцёкі. Адны проста баяліся, другія не пагаджаліся з плянам папярэдняга перастраляньня ўсіх немцаў падчас эвэнтуальных уцёкаў.*

*Ня памятаю дакладна, колькі дзён мы ішлі, пакуль прыйшлі да тае мясцовасьці, скуль уцякалі. Ведаю, што амаль увесь час падаў дождж, і гэта яшчэ больш прыгнóблівала хлапцоў. Першым уцёк сьвятой памяці Міхась Шастак. Гэта быў хлопец спакойны, ціхі, маўклівы, крыху пэсыміст і мэлянхолік. Свае ўцёкі ён не абгаварываў зь нікім. Уцёк і ўсё! Немцы нават ня ведалі, што ім не хапіла аднаго жаўнера. (Шастак папаўся быў да французаў, пасьля пераехаў, як і ўсе іншыя, у Італію, стуль пераехаў у Эгіпт, а недзе ў 1947 годзе пераехаў у Англію, дзе ў 1953 г. вясной памёр пасьля выпадку пры працы ў каменаломнях. Пахаваны на могілках у невялічкім гарадку паўночнай Англіі, Penrith, што каля Carlisle)*[305].

*З кожным кілямэтрам, што мы праходзілі, мы прыбліжаліся ўсё больш і больш да нямецкае граніцы. Аставалася вельмі мала часу для зьдзяйсьненьня нашага пляну ўцёкаў. Да гэтага мы не арыентаваліся дакладна ў мясцовай тапаграфіі. Мы ня ведалі дакладна, дзе мы знаходзіліся. Каб зарыентавацца, «камітэт» пастанавіў за ўсялякую цану пабачыць тапаграфічныя карты ўсходняй Францыі. Такія мапы мелі вышэйшыя афіцэры. З гэтай мэтай паручылі заданьне якраз мне, так як я выглядаў у той час даволі мізэрна ды меў на нагах страшныя мазалі. Я сказаў майму афіцэру, што я далей ісьці не магу. Немцы «зьлітаваліся» й пасадзілі мяне на «jeep», на якім ехалі два высокія афіцэры, кіраўнікі, здаецца, нашае калёны. Яны якраз і мелі патрэбную мапу, прычым на ёй быў азначаны чырвоным алавіком шлях,*

[305] **Міхась Шастак** (21.08.1923, в. Вераскова (сёння Навасрадскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 31.03.1953, Пэнрыт (Вялікабрытанія)). У 1944 г. стаў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА. Летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзнікаў, затым служыў у 2-м Польскім корпусе, разам з якім прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 30.11.1946 быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі (ЗБВБ). Загінуў у выніку няшчаснага выпадку на працы.

*якім мы павінны былі ісьці на ўсход. Зарыентаваўшыся ў сытуацыі, я паведаміў Косьціка Кадушку, што мы ўжо даволі блізка ад нямецкае граніцы й што мусім уцякаць як найхутчэй. Косьцік перагаварыў з другімі сябрамі «камітэту», і было пастаноўлена ўцякаць тае ж ночы за ўсялякую цану, прычым быў адкінуты плян страляньня немцаў.*

*Як памятаеш, мы распалажыліся таго вечара на вялікім лузе пры галоўнай дарозе. Рэшта дывізіі з коньмі пры рацэ. Зь левага боку дарогі былі горы, ці лепш, гара, пакрытая густым лесам ды хмызьняком. Лепшага месца да ўцёкаў быць не магло.*

*У той вечар у нашай кампаніі вычувалася нэрвовасьць і агітацыя. Людзі перагаварваліся міжсобку, падрыхтоўваліся да ўцёкаў. Быў навязаны кантакт зь іншымі аддзеламі дывізіі, аднак, як пасьля высьветлілася, агітацыя там ня мела амаль ніякага эфэкту. Людзі менш сьведамыя нацыянальна баяліся проста ўцякаць. Да гэтага прапаганда пачалася там запозна. Трэба было падумаць крыху раней, асабліва тады, калі мы былі ўсе разам у казармах.*

*Што ж тычыцца нашае кампаніі, бальшыня хлапцоў была здэцыдаваная ўцякаць. Праўда, некаторыя з тых, што былі здэцыдаваныя на ўцёкі, калі прыйшлося да самога факту, з розных прычын не ўцяклі. Але пра гэта ведаеш лепш напэўна Ты сам. Было ўмоўлена, што роўна а поўначы пачуецца кулямётная страляніна зь левага боку, з успомненае вышэй гары.*

*Так яно й сталася. Дакладна а 12-й ноччу пачуўся кулямётны залп. Гэта быў Міхась Булыга*[306] *са Слонімшчыны й Кайгародцаў*[307] *з усходняе Беларусі. Яны паціхоньку адлучыліся ад кампаніі, асабліва, што вартаўнікі былі тае ночы якраз*

[306] **Міхась Булыга** (12.06.1924, в. Глосевічы (сёння Слонімскі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?) вучыўся ў Мінскай афіцэрскай школе БКА (1944), разам з якой быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзнікаў, уступіў у 2-гі Польскі корпус. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі. Быў сябрам ЗБВБ, у другой палове 1950-х абіраўся на пасаду скарбніка арганізацыі. Быў таксама сябрам Згуртавання беларускіх камбатантаў і Беларускага хрысціянскага акадэміцкага аб’яднання «Жыццё». Некаторы час быў адміністратарам Беларускага дому ў Лондане.

[307] **Кастусь Кайгародцаў** (25.12.1911, Дзвінск (сёння Даўгаўпілс, Латвія) — ?). Пасля пераходу на бок саюзнікаў служыў у Арміі Андэрса, разам з якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам ЗБВБ. Некаторы час жыў у Беларускім доме ў Лондане.

*людзі, якія здэцыдаваліся на ўцёкі. Кайгародцаў нёс кулямёт (РКМ), а Булыга скрынку амуніцыі.*

*Так, як мы й спадзяваліся, немцы падумалі адразу, што гэта былі францускія партызаны. Яны пачалі арганізоўваць абарону. Памятаю, наш падафіцэр сабраў нас ды паставіў у рады. Мы так радком і пайшлі на гару.*

*Тае ночы, ці лепш, ад вячэры да поўначы, ніхто, здаецца, ня спаў, хаця кожны чуўся вельмі ўтомлены. Як толькі пачуўся стрэл, намёты падскаківалі ўверх гвалтоўна, пачалася пэўнага роду суматоха, кожны кідаўся туды й сюды, тыя ж, што здэцыдаваліся ўцякаць, беглі на гару. Якой вышыні была тая гара, трудна сяньня сказаць, але ніхто не зьвяртаў на гэта ўвагі. Кожны стараўся пералезьці на другі бок, каб толькі ўцячы ад немцаў.*

*Да гэтага месца, ці лепш, да гэтага моманту, Ты, магчыма, арыентуесься дакладней у некаторых рэчах, чымся я. Але я падаў усё гэта, бо мо некаторыя моманты Табе выйшлі з памяці, а некаторых Ты мо зусім ня ведаеш. Цяпер апішу ўсё тое, што сталася пасьля таго, як мы перабраліся на другі бок гары ды пачалі сваё бадзяньне па нязнанай нам францускай зямлі.*

*Перад уцёкамі было ўмоўлена, што кожны павінен бегчы на гару, а перабраўшыся на другі бок, не адыходзіцца ад галоўнае дарогі задалёка. Нам трэба было трымацца ў кучы, і так мы ў галоўным зрабілі.*

*Каля 2-й гадзіны пачаў падаць страшэнны дождж. Колькі мы адышлі ад дарогі, дакладна ня ведалі. Адным словам, чуліся настолькі ўтомленымі, што далей ісьці было немагчыма. Мы здэцыдаваліся легчы ды паспаць. Зашыліся ў гушчары й нягледзячы на гэта, што пад намі цякла вада ручаямі, мы «паспалі» да раньня. Ня памятаю, колькі нас было ў той момант. Чалавек каля 35, ня больш. Мы ведалі, што нас уцякло больш, і надзеіліся, што хутка група нашая падрасьце. Так яно й было ў сапраўднасьці. Як толькі павіднела ды перастаў падаць дождж, да нас далучылася яшчэ чалавек зь дзясятак. Сабраўшыся гэтакім чынам, мы пастанавілі шукаць нейкае мясцовасьці, каб навязаць сувязь з французамі. Мы пачалі адыходзіць усё больш і больш ад галоўнае дарогі, ідучы ўвесь час скраем лесу да кустоў. Толькі пасьля абеду нам удалося наткнуцца на нейкую вёсачку. Калі ў нас не было нічога да яды,*

*дык з аружжам бяды не было. Мы мелі з сабой РКМ*[308]*, скрынку амуніцыі, стрэльбы, пісталеты, аўтаматы, ручныя гранаты.*

*Пабачыўшы вёску, якая стаяла на скраю лесу, мы прыстанавіліся з мэтаю выбару старшыні групы. Мы знаходзіліся ў той час мэтраў з 200 ад найбліжэйшых будынкаў. Нефартунна голас паў на сяржанта, здаецца, Грамыку. Ён быў найстарэйшым векам (гадоў каля 37) і рангаю. Кажу, выбар быў нефартунны, бо пазьней выявілася, што гэта быў чалавек, няздольны да кіраваньня людзьмі, чалавек, які ня ўмеў паставіць сябе на вышыню свайго заданьня.*

*У першую чаргу нам трэба было неяк даведацца, ці ў вёсцы няма з часам немцаў, асабліва, што мы чулі ў адлегласьці грукат вайсковых самаходаў. Ня ведалі мы таксама, як да нас аднясуцца французы. А найгоршае — сярод нас не было нікога, хто знаў бы добра францускую мову. На нашае шчасьце, некалькі слоў знаў Надсон і Мак. Разам, удвух, яны маглі неяк дагаварыцца. Таму іх і выбралі для навязаньня кантакту. Надсон, Мак і старшыня (Грамыка) пайшлі ў вёску, у той час, калі мы ў поўнай баявой гатоўнасьці прасоўваліся паволі таксама ў напрамку будынкаў. Пасьля некаторага часу ім удалося навязаць лучнасьць з французамі. Найважнейшае было гэта тое, што ў вёсцы не было нямецкіх жаўнераў. Французы з асьцярожнасьцю, але й з задавальненьнем прынялі нас да сваёй сям'і камбатантаў супроць супольнага, цяпер, ворага. Яны нас завялі ў нейкі шалаш, што знаходзіўся недалёка ад вёскі, і сказалі чакаць, пакуль не прынясуць яды. За паўгадзіны яны прынясьлі нам хлеба й сыру. Трудна апісаць тую радасьць, калі чалавек можа схавацца ў сухім месцы ды ўкінуць штосьці ў пусты жалудак.*

*Яшчэ таго самага дня далучылася да нас некалькі чалавек. Мы расшукоўваліся ўмоўленым знакам — аднаразовым выстралам із стрэльбы. Пасьля гэтага дня далучылася да нас яшчэ пара чалавек. Група была створаная. Праўда, панавала нейкае расчараваньне, што толькі прыблізна адна трэцяя частка ўцякла ад немцаў. Вычуваўся нейкі жаль да тых, якія пастанавілі ісьці назад у Нямеччыну. Але гэта ўсё прайшло даволі хутка, асабліва калі мы пачалі пераходзіць з аднаго месца на другое.*

---

[308] *Ręczny karabin maszynowy* (польск.) — ручны кулямёт.

*Найбольш непрыемная рэч, якая сталася хутка пасьля навязаньня кантакту, — гэта быў факт, што старшыня згадзіўся аддаць аружжа французам. Нам пакінулі толькі 3–4 стрэльбы й некалькі гранатаў. Бальшыня хлапцоў была супроць такога кроку, але дэцызія старшыні была правам-законам, і мы нічога не маглі зрабіць адносна гэтага. Здаецца, што французы ўзамен забавязаліся карміць нас і трымаць у бясьпечным месцы. Жалудак перамог розум.*

*Наступныя дні — гэта быў пераход з аднаго месца на другое. Французы вадзілі нас па лясох, па кустарніках, хаваючы нас увесь час ад нямецкіх вайсковых сілаў. Таму што адна вёска не магла выкарміць столькі людзей зараз (было нас каля 65 чалавек), дык яны вадзілі нас па розных вёсках, прычым у бальшыні разоў мы ў вёску не ўваходзілі.*

*Памятаю, пералезьлі мы нейкую гару й прыйшлі ў невялікую вёсачку. Мясцовасьць прыгожая, цудоўная. Амаль з усіх бакоў горы, пакрытыя лесам, невялічкі ручаёк; у вёсцы касьцёл, хат з 35. У гэтай вёсцы мы чуліся найбольш бясьпечнымі. Нармальна мы спалі па-за вёскай, на гары, але ўдзень хадзілі па хатах, гаварылі з французамі (зразумела, на мігі). Кармілі нас тут таксама даволі добра. Мы мелі прынамсі гарачую страву. На маю думку, у гэтай вёсцы быў рэгіянальны штаб французскай партызанкі. У гэтай жа самай вёсцы група наша была падзеленая на беларусаў і на «палякаў». Гэта апошняя група была невялічкая, у бальшыні людзі слабога характару й маласьведамыя. Чаму французы задумалі зрабіць гэтакі падзел — невядома. Найпраўдападабней, у штабе «maquis» былі палякі, і вось яны гэта й зрабілі. У канцы з гэтага падзелу нічога ня выйшла, бо мы ўвесь час былі разам і нас трактавалі аднолькава. Для сьведамых беларусаў была тая карысьць, што прынамсі даведаліся, з кім маем дачыненьне.*

*Колькі кілямэтраў мы прайшлі за ўвесь час нашага «супрацоўніцтва» з «maquis», невядома. Хадзілі мы й начамі, і днямі, але ў бальшыні, дык мы круціліся па тых самых мясцовасьцях. Раз падвялі нас пад нейкую вёску й завялі ў шалаш, куды прынясьлі саломы. Быў сярод нас адзін хлапец з Слонімшчыны, Янушэвіч*[309]*. Ён цяпер студыюе ў Лювэне. Зда-*

[309] **Мікола Янушэвіч** (13.07.1925, в. Сурынка Слонімскага пав. — 29.04.1992, Пянцюк, Вялікабрытанія). Вучыўся ў школе ў Жыровічах,

*ецца, «зарубежнік». Гэта чалавек спакойны і неахайны. У яго завяліся вошы, але ў такой ступені ды такіх памераў, што мы яго мусілі былі адсэпараваць ад усяе групы і пасадзіць самога аднаго ў куточку. Але нават і гэтым мы не ўратаваліся ад заразы. Яны проста паўзьлі да нас па саломе!*

*Калі мы былі ў гэтым шалашы, да нас прывялі нейкага француза — калябаранта зь немцамі. Нас папрасілі, каб мы яго пільнавалі. Зразумела, мы, якія ўважалі сябе таксама за нейкіх «калябарантаў» з акупантам, мелі да гэтага чалавека сымпатыю. Хутка, аднак, яны яго ад нас забралі й што зь ім зрабілі, мы так і не даведаліся. Хадзіла чутка, што яго расстралялі.*

*Завялі нас былі ў другую вёску й падзялілі на дзьве групы (але не па «нацыянальнасьцях»). Мы там прабылі, здаецца, толькі адзін дзень. Адным словам, назаўтрае сабралі нас усіх і паставілі ў рад на вуліцы, ня ведаю дзеля якое мэты. Магчыма, хацелі выдаваць яду. Толькі мы сталі, а французы пачалі нас лічыць, як ні стуль, ні згэтуль паказаўся нямецкі танк! Ды не адзін. Іх была цэлая калёна. Як яны пад'ехалі паціхеньку, ніхто з нас ня ведае й да сяньня. Такая самая рэч была паўтарылася другі й апошні раз крыху пазьней. На маю думку, французы ніколі не выстаўлялі вартаў, і таму танкі маглі пад'ехаць пад вёску незаўважанымі. Ды мала што пад вёску! Яны пераехалі яе нават, бо мы былі з другога канца!*

*Спачатку, пабачыўшы, што мы ў нямецкай уніформе, яны падумалі, што мы немцы. Зразумела, мы падумалі зусім інакш. Мы кінуліся наўцёкі. Танкі адкрылі агонь. Дзякаваць Богу, у нікога не папалі. Нам трэба было пераскакваць высачэзны мур. Як мы яго пераскочылі, ня ведаю. Мы ня беглі, а проста ляцелі. Зараз жа за вёскаю была высокая й стромная гара. На яе мы й палезьлі. Аднак мы мусілі перабегчы даволі шырокі луг. Немцы білі па нас увесь час, але таксама не папалі.*

---

пазней — у гімназіі ў Слоніме. У часе нямецкай акупацыі трапіў пад пераслед гестапа, але ўнікнуў арышту і перабраўся ў Мінск. Быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, адкуль трапіў у 30-ю грэнадзёрскую дывізію СС, перайшоў на бок саюзнікаў, далучыўся да 2-га Польскага корпусу, разам з якім у 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў сябрам ЗБВБ. У 1952 г. распачаў навучанне ў Агранамічным інстытуце ў Лювене (Бельгія). Па сканчэнні навучання вярнуўся ў Вялікабрытанію. Жыў у Шатландыі. Займаўся паэтычнай творчасцю ў англійскай мове. У 1997 г. пабачыў свет ягоны зборнік Poems.

*Ня ўсе мы ўцякалі ў тым самым напрамку. Частка пабегла ў другі бок. Я быў якраз у тэй групе, што пабегла на гару. Мы там прабылі гадзін зь дзясятак. Тая ж група, што пабегла ў другі бок, брала пасьля ўдзел у змаганьні супроць танкаў. Немцы, здагадаўшыся, што мы партызаны, пачалі біць па вёсцы з гарматаў. Зьнішчылі 7 будынкаў. Паводле расказаў тых, што бралі ўдзел у змаганьні, нашыя кідалі гранаты пад танкі. Ці зрабілі гэтым нейкую шкоду, ня ведаю. Трудна было змагацца з 3 стрэльбамі! Французы ж паўцякалі.*

*Пасьля гэтага нас перакінулі ў іншую мясцовасьць. Мы вычувалі, што прыбліжаецца фронт. Хадзілі толькі начамі й мусілі быць штораз асьцярожныя. Увесь гэты раён, па якім мы хадзілі, вельмі лясісты й пагуркаваты. Дажджы падалі крыху радзей.*

*Падыходжу цяпер да апошняе фазы. Каб адвясьці нас ад фронту, «taquis» перавялі нас у нейкую нязнаную мясцовасьць, але даволі далёка ад тых вёсак, па якіх мы бадзяліся раней. Памятаю, мы мусілі перапаўзаць галоўную дарогу, зразумела, ноччу, бо па гэтай дарозе езьдзіла шмат нямецкіх самаходаў. Каб крыху, дык нас заўважылі б. Але ўдалося!*

*Канчаткова нас прывялі пад адну вёсачку, дзе мы ўпершыню сустрэлі белага расейца*[310]*. Ён належаў да мясцовых «taquis» і на працягу пару дзён намі апекаваўся. Мы прабывалі там некалькі дзён. Спалі мэтраў 200 ад будынкаў, але ў хату не заходзілі. Расеец сказаў нам, што ў выпадку неспадзяванага находу немцаў мы павінны бегчы ў бок ад вёскі, у вялікую «яму». Гэта яма мне пасьля вельмі прыдалася для зыдэнтыфікаваньня вёскі.*

*Жывіліся мы тут сьлімакамі ды дзічкамі. Галадавалі, бо есьці давалі мала. Галоўна займаліся вошашуканьнем. Цяпер ужо іх меў кожны. Мы проста зьнімалі кашулі, клалі на камень, а зьверху білі другім камнем. Не было іншага выхаду. Мы ж ня мелі магчымасьці нідзе купацца.*

*Аднаго разу яны нас перавялі на другі бок вёскі, таксама ў лес. Было гэта раніцою. Французы сказалі нам пачакаць, пакуль яны прынясуць яду. І толькі прынясьлі гарачую бульбу, недавараную да гэтага, і сыр ды пачалі раздаваць, як раптам*

[310] Пэўна, маецца на ўвазе рускі эмігрант у Францыі, які належаў да «белага руху» падчас Грамадзянскай вайны ў Расіі

*паказаўся нямецкі танк! Ня ведаю, ці танкіст адкрыў вяршок ды крыкнуў «рукі ўверх», а тады пачаў страляць, ці проста адкрыў кулямётны агонь, а мы ўсе кінуліся на ўцёкі хто куды. Я меў у аднэй руцэ сыраватую бульбіну, у другой сыр. Кінуўся ў нейкі роў і бягу. Там сустрэў Вараву*[311]*. Ён кажа, пабяжым налева, а я кажу, мо будзе лепш бегчы направа. Ён пабег, куды задумаў, а я проста ровам пасунуўся далей наперад.*

*Гэта быў апошні раз, калі я быў з групай. Паколькі я ведаю, яны ўсе кінуліся ў нейкае паросшае возера ці стаў. Гэтым яны і ўратаваліся, бо танкі пастралялі, пастралялі й, ня могучы далей ехаць, бо балота й густы лес, яны завярнуліся назад. Я ж пабег далей. Пачуўшыся сам адзін, ня ведаючы, што сталася з рэштай, я здэцыдаваўсяісьці наперад. Не прайшоў і 50 мэтраў, як нарваўся на дарогу. Доўга ня думаючы, агледзіўся на ўсе бакі й пераскочыў яе. Прайшоў мэтраў з 300 і чую нямецкія галасы. Я бухнуў у нейкі заросшы роў ды палез пад вялізарную лісьціню, якая служыла мне прыкрыцьцём і парасолькай ад дажджу, які пачаў якраз кропіць з штораз большай сілай. Колькі часу я там праляжаў, я ня ведаю. Чуў выразна галасы нямецкіх артылерыстых. З слоў я даведаўся, што там стаяла батарэя проціпапаветранай артылерыі. Калі ўсё сьціхла, я пастанавіў вылезьці стуль ды перайсьці ў больш сухое ды больш бясьпечнае месца. Я залез у густыя кусты й там праседзіў цэлую ноч. Згрыз тую бульбіну, бо ў жываце, як кажуць, кішкі марш ігралі. Каля 11-ай гадзіны прайшлі каля мяне чатыры немцы, але мяне не заўважылі, асабліва, што падаў дождж, і яны ішлі, наставіўшы каўняры, ды глядзелі пад ногі.*

*Ноччу я пастанавіў ісьці крыху далей ды шукаць нейкага прытулку. Тая ноч была страшэнная. Крыкі соваў ды роз-*

---

[311] **Аркадзь Варава** (21.03.1918, в. Вялікія Жухавічы Нясвіжскага пав. Мінскай губ. — 13.05.1966, Лондан, Вялікабрытанія). У часе Другой сусветнай вайны вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, пасля якой трапіў у 30-ю грэнадзёрскую дывізію СС, перайшоў на бок саюзнікаў, уступіў у 2-гі Польскі корпус. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі. Быў сябрам ЗБВБ, потым адным з арганізатараў Хрысціянскага аб’яднання беларускіх работнікаў (ХАБР). Уклаў уласныя грошы ў набыццё Дому ХАБР у Лондане. Дапамагаў у тэхнічнай справе выдання часопіса «Аб’еднанне». У 1950 г. прызначаны старшынём Дэлегатуры БЦР у Англіі. Быў сакратаром Беларускага праваслаўнага камітэта ў Лондане.

*ных лясных зьвяроў мяне проста палохалі. Толькі нараньня я падышоў на скрай лесу й пабачыў будынкі. Я пастанавіў туды пайсьці. Увайшоў у хату й пытаюся, ці ёсьць немцы. Зразумеў, што няма. Бацька сказаў дзяўчынцы адвясьці мяне ў іншую хату, якая знаходзілася пры галоўнай дарозе на адлегласьці 500 мэтраў. Там мне павязло тым, што ў гэтым доме гаспадыня была палячка, замужам за француззам. Муж ейны, як пасьля выявілася, быў шэфам прафінцыянальнай партызанкі. Палячка сказала, што я не адзін. Што нядаўна прыйшоў да іх і «папрасіў азылу» адзін паляк, які саскочыў з самаходу ды ўцёк. Пасьля некалькіх дзён я меў нагоду пад'есьці! Я пазнаёміўся з палякам, нас накармілі добра й далі нам цывільную вопратку. Прычым завялі ў лес, далі некалькі адзеялаў і сказалі, што там будзе нам даволі бясьпечна. Кожны дзень прынасілі нам есьці, адным словам, даглядалі добра.*

*[недатаваны]*

*Дарагі Кастусь,*

*Ты ўжо напэўна рукой махнуў на мае «ўспаміны», бо сапраўды, колькі ж можна чакаць?! Ня буду ні апраўдвацца, ні шукаць прычынаў на апраўданьне. Шкадую, што я Табе адразу не напісаў быў у кароткай форме. Прынамся, Ты меў бы ўжо гатовае. (Хаця думаю, што Ты і так маеш ужо ўсё закончанае). Але пастараюся закончыць сяньня так, каб мець спакой на душы, і каб Ты, калі яшчэ не запозна, мог скарыстаць з усяго гэтага.*

*Здаецца, я закончыў мой расказ на тым, як я навязаў кантакт з полькай, здабыў цывільную вопратку і пайшоў назад у лес з палякам-уцекачом. У лесе мы прасядзелі некалькі дзён. Французы прынесьлі нам яду, піцьцё; мы мелі па некалькі адзеялаў, адным словам, мы надзеіліся, што дасядзім да таго моманту, пакуль ня прыйдуць амэрыканскія войскі.*

*На жаль, яно так ня сталася. Аднаго дня нам не прынясьлі ва ўмоўлены час яды. Наагул ніхто не паказваўся да гадзіны 5-е. Мы здагадаліся, што нешта не ў парадку. Падаў дождж, шумеў вецер. Раптам мы пачулі вялікую колькасьць нямецкіх галасоў. Гэта былі нямецкія жаўнеры, якія «прачышчалі» лес! Мы кінуліся наўцёкі, астаўляючы кацялкі, адзяялы і ўсё, што было пры нас. Немцы нас, аднак, не загледзілі. Мы пабеглі ў той бок, дзе, на нашую думку, немцаў не было. Зашыліся ў густы*

*гушчар і так прасядзелі да познае ночы. Дождж не пераставаў падаць. Ня ведаю, што нам падказала, каб мы ішлі далей. Мы вылезьлі з кустоў і памаленьку пайшлі ў напрамку тае хаты, дзе я ўпершыню навязаў лучнасьць з французамі. Мы прайшлі некалькі мэтраў, як раптам пачуўся нямецкі голас: «Halt!». Зразумела, што мы не астанаўляліся. Мы кінуліся назад, а па нас пасыпаўся агонь з аўтаматычнай зброі. Мы нарваліся на нямецкую варту! Ня ведаю, у які бок пабег той паляк. Калі я яго пабачыў наступны раз, дык гэта было ў канцэнтрацыйным абозе, што існаваў каля Неапалю. Гэта ад яго я даведаўся быў, што пасьля таго, як немцы адступілі, французы шукалі па ўсім лесе майго цела, бо былі ўпэўненыя, што немцы мяне расстралялі. Асабліва што ім удалося было знайсьці падзіраўлены капялюш (кулямі, зразумела), які дала мне ўспомненая палячка. Але пра гэта будзе ніжэй.*

*У пацёмку ды з страху я бег туды, куды мяне цягнулі ногі. Я ўскочыў у нейкі глыбокі роў, запоўнены вадой, і там прасядзеў каля гадзіны. Каб не рабіць шуму ды каб не пабачылі немцы, я стараўся нібыта плысьці, нібыта ісьці, абы толькі аддаліцца ад вартаўнікоў, якія пасьля аднэй зальпы замоўклі. У канцы мне ўдалося было выкарабкацца неяк з вады, і я, увесь мокры, пайшоў далей у глыб лесу. Жывячыся ягадамі, арэхамі ды сьлімакамі, мне ўдалося прасядзець там добрых пара дзён. Аднак кішкі марш ігралі ды рабілі сваё. Да гэтага не чуваць было ні стрэлаў, ні крыкаў, нічагусенькі. Усё нібыта замерла. Нават зайцы ды совы й тыя маўчалі!*

*Мне выдавалася, што немцы ўжо адступілі, і настала міжфрантавая цішыня. Я здэцыдаваўся ісьці шукаць нейкае хаціны, каб хаця крыху перакусіць ды перасушыцца. Нейкая сіла пхала мяне наперад. Я пайшоў у напрамку, дзе мне выдавалася, што была дарога й вёска. Гэта была нядзеля, гадзіна 11-я (я меў з сабой гадзіньнік, які, нягледзячы на тое, што пабываў у вадзе, не сапсуўся). Прайшоўшы з пару сот мэтраў, я пабачыў… тую самую хату, дзе я першы раз сустрэўся з францускай сям’ёй! Я ня ведаў, што рабіць: ісьці ці не? Падумаўшы мамэнт ды не пабачыўшы нідзе нямецкіх жаўнераў, я пайшоў наперад. Па дарозе падняў быў сноп аўса, які, выглядае, зваліўся быў з тарантасу, і панёс яго ў хату. Толькі прайшоў мэтраў з дзьвесьце ды наблізіўся да забудоваў, як заварушыліся нямецкія жаўнеры! Было іх там каля сотні, калі ня больш! Яны мяне,*

*зразумела, бачылі ўвесь час, але чакалі, пакуль падыду да хаты. Паколькі я быў у цывільнай вопратцы, адзіная думка, якая мне ўскочыла ў галаву ў той момант, гэта было: гаварыць, ці лепш, удаваць французскага пацана, які ішоў да свайго дзядзькі, што жыў крыху далей, пры галоўнай дарозе. (З гэтай мэтай я і падняў быў сноп — а ну ж там ёсьць немцы! З снапом я выглядаў бы як сялянскі хлапец, што клапоціцца аб гаспадарцы). Аднак немцы мяне адразу не зачапілі. Я ўвайшоў у хату. Французы спалохаліся. Гавораць мне, каб я вымятаўся з хаты. Я папрасіў хлеба й малака, але гаспадыня дала мне зразумець, што ня можа даць. Не аставалася мне іншага выхаду, як выходзіць з дому. Я й пайшоў. Пайшоў у напрамку тае палячкі. Не прайшоў аднак і пяці крокаў, як пачалі мяне клікаць немцы. Я іх быццам ня чуў і іду далей. Раптам пачуўся выстрал над маёй галавой. Я стаў, аглянуўся, да мяне падыйшлі тры немцы. Кажуць, хто я ёсьць. Па-французску (калі тыя два словы можна назваць францускімі) я адказаў, што іду да майго дзядзькі, што жыве пры дарозе. Зразумела, што яны не паверылі. Прывялі мяне ў тую пуню, дзе была іхная галоўная кватэра, і давай шукаць у мяне аружжа. Безумоўна, аружжа ніякага я ня меў, і яны не маглі яго ў мяне знайсьці. Але знайшлі затое ўсе мае дакумэнты! І што важнейшае — у нямецкай мове. Пачалі мяне штурхаць, адзін сяржант зьбіў мне морду, называючы дэзэртырам, здраднікам, сабакам, ды хто ведае, якімі другімі словамі. Забралі ад мяне мой гадзіньнік, усе паперы, здымкі, нават насатку, адным словам, усё чыста, што я меў. Пазванілі некуды, і за мінут дзесяць прыбылі афіцэры. Шмат мяне не распытвалі: проста загадалі адвясьці мяне мэтраў з 50 ад будынкаў і расстраляць! Заданьне гэтае паручылі двум жаўнерам. Адзін быў зь вінтоўкай і настаўленым штыхом, а другі з аўтаматам. Гэты зь вінтоўкаю й стукнуў мне колбаю па задніцы ды загадаў выхадзіць навонкі. Адзінае, што мне аставалася рабіць, гэта выконваць загады. Я пачаў выхадзіць. Па дарозе схапіў з паліцы насатку й пару франкаў, што ляжалі разам з маімі паперамі. Ці яны гэтага не заглядзілі, ці проста думалі, і так гэта ўсё мне не прыдасцца, адным словам, нічога не сказалі.*

*Выйшлі на дарогу. Загадалі ісьці ўперадзе, яны ж ззаду. Адышлі мэтраў з 20, і я пачуў нейкія касьцельныя званы, што званілі ўводдалі. Ці яны сапраўды званілі, ці гэта мне выдавалася, ня ведаю. Ведаю толькі, што ў той момант я ўспомніў*

*маю маці, успомніў Бога і… нешта мне сказала: уцякай управа! Я аглянуўся назад, а немец мяне злёгка штыхом у сьпіну, прычым крыкнуў, каб я ішоў хутчэй. З правага боку ўжо пачынаўся лес. Зь левага быў гарод, агароджаны калючым дротам. Я пачаў ісьці правым бокам дарогі, тады немец мне яшчэ раз штыхом у плечы. Прайшлі так мэтраў з дваццаць, і… я рвануўся ўправа. Пасыпаўся за мной агонь, у першую чаргу з аўтамату. Я бег зыгзагамі між дрэваў, але ня чуў больш нічога. Кулі сьвішчэлі па лесе, ведаю, немцы кінуліся за мной наўздагон, што я згубіў той капялюш, пра які гаварыў раней. Пасьля дзесяці, а мо і больш мінут бегу я ўпаў і ня мог далей бегчы. Падпоўз пад густы куст і так прасядзеў гадзіны са тры. Чуў уводдалі галасы нямецкіх жаўнераў, якія, здаецца, шукалі мяне даўжэйшы час. Калі галасы сьціхлі, а я крыху аддыхнуў і здэцыдаваўся ісьці далей наперад. Было па абедзе. Я ішоў кілямэтраў з чатыры. Па нейкай разабранай чыгунцы я выбраўся зь лесу й пайшоў палямі. Чаму я ішоў, чаму не сядзеў на адным месцы — не магу адказаць да сяньняшняга дня.*

*Так, каля гадзіны пятай я пабачыў нейкую вёску. Я кінуўся ў ейным напрамку. Ішоў і не зважаў на тое, ці там будуць немцы, ці не. Падыходжу да першае хаты, гляджу, сядзіць немец з біноклем у руках. Ён мяне абсэрваваў увесь час. Уцякаць мне не было куды, дык я пайшоў адразу ўсярэдзіну. Былі там тры нейкія дзеўчыны і старушка. Выглядала, што гэта была іхная матка. Я папрасіў есьці, і яны мне пасьпелі толькі даць два яблыкі. Адначасна я пытаўся іх, дзе ёсьць «Americans», і яны мне далі да зразумленьня, што недалёка. Не пасьпеў я, аднак, зьесьці тых яблыкаў, як уваліліся тры жаўнеры: два радавыя й падафіцэр. Схапілі мяне пад рукі й, называючы мяне «тым сабакам, што нядаўна ўцёк», павялі з хаты. Напрамак… «застрэліць як сабаку», але адвёўшы крыху ад забудаваньняў. Тут я ўжо надзеі на ўцёкі ніякае ня меў, бо не было нідзе ні дрэўца, ані кусьціка — вялікі роўны луг.*

*І толькі мы адышліся мэтраў з 30, як раптам пасыпаліся каля нас снарады. Немцы кінуліся на зямлю й крыкнулі «hinliegen!». Зразумела, я ня клаўся. Я папёрся наперад! Гэта была амэрыканская артылерыя, якая пачала класьці агонь па немцах. На маю думку, яны мяне бачылі, як я прыбліжаўся да вёскі, і як толькі пабачылі, што немцы мяне вывелі з хаты, яны адкрылі агонь. Што сталася з тымі жаўнерамі, ці яны асталіся там*

*ляжаць, ці змаглі яшчэ ўстаць, я ня ведаю. Я адбег кілямэтры са тры, у напрамку гораў. Недалёка была рака. І толькі я падыходжу да ракі, як нейкі старычок-немец крычыць на мяне «Halt!» «Куды бяжыш?». Удаючы маладога француза, які крыху знае нямецкую мову, я адказаў яму, што амэрыканцы разьбілі маю вёску, забілі маіх родных, і што я проста ўцякаю ад небясьпекі. Старычок паверыў, асабліва што бачыў, як гарэла вёска. Пусьціў мяне, сказаў, каб я быў вельмі асьцярожны, бо я прабягаю па самай лініі фронту. Падзякаваў яму я й пайшоў да рэчкі.*

*Ня ведаю, якая гэта была рака, мо Doubs? Даволі шырокая. Я доўга ня думаючы кінуўся ў ваду й пасьля некалькі часу быў ужо на другім баку. Ня ведаючы чаму, але мне выдавалася, што я ўжо вонках небясьпекі. Я сеў пад дрэвам, разьдзеўся, павыкручваў вопратку, выліў ваду з чаравікаў і, аддыхнуўшы троху, пайшоў наперад. Пачыналіся ўжо пагуркі, некаторыя даволі высокія, падобныя больш на горы. Усё было пакрыта дрэвамі, а дзе гэтых не хапала, дык кустамі, папаратнікам. Пачало цямнецца. Змучаны, але пачуўшыся неяк свабодным, я хутка заснуў. Ведаю, што артылерыя біла усю ноч, і пара разоў снарады ўпалі зусім блізка каля мяне. Я падпоўз быў пад вялізарны дуб і там праляжаў да абеду наступнага дня. Назаўтрае пайшоў шукаць яды. З другога боку гары знайшоў некалькі дзічак-ігруш і я там добра «паабедаў». Калі ўжо артылерыя сьціхла, я пайшоў наперад, аж пакуль не нарваўся на нейкую вёску. Гэтым разам, аднак, я здэцыдаваўся трымацца ад будынкаў як надалей. Я павярнуў у адваротным напрамку й, прайшоўшы кілямэтры са два па лесе, наткнуўся на пустыя нядаўнія нямецкія акопы. Усё ўказвала на тое, што тут былі нядаўна нямецкія жаўнеры й што яны былі прымушаныя ўцякаць. Бадзялася там шмат рэчаў: шломы, шынялі, розныя манаткі, кацялкі, г. д. У вадным месцы я знайшоў кусок разьмякшага хлеба, які я, безумоўна, адразу зьеў зь вялікай прыемнасьцю. Пахадзіў крыху па лесе й гляджу… вялікая яма! Гэта ж была тая яма, пра якую нам калісьці гаварылі французы і каля якой мы прабывалі некалькі часу! Я абышоў яе крыху і пабачыў, што мне ёсьць сапраўды знаёмыя некаторыя месцы. Я паслухаў і пачуў… шум матораў, сьпеў французскіх дзяўчат, сьмех, адным словам, вельмі радасная атмасфэра. Адзіны выснаў, які я мог зрабіць, гэта тое, што тут ужо ёсьць амэ-*

*рыканцы. Я пастанавіў ісьці ў вёску. Падыходжу да таго месца, дзе мы калісьці прабывалі — зрытае снарадамі, толькі самыя ямы. Падыходжу далей, гляджу, пад дрэвам сядзіць мой знаёмы француз-шэф, які намі апекаваўся. Сядзеў пад дрэвам зь пісталетам на жываце й, здаецца, што драмаў. Я падышоў і крыкнуў «Monsieur!». Той падскочыў, схапіўся за пісталет… Крычыць, ці я не немец. Кажу, не, што я з тае групы, якой ён апекаваўся й г. д. (Ён мяне ня мог пазнаць, бо я быў цяпер у цывільнай вопратцы). Ён мяне завёў да нейкае маладое жанчыны й загадаў ёй (а мо папрасіў, ня ведаю) падрыхтаваць мне штосьці зьесьці. Яна мяне пасадзіла й сказала чакаць. За мінут 15 прынесла хлеба, яечню, віна, фруктаў… адным словам, я ня ведаў, на што кінуцца перш! Выпіў шклянку віна й асалавеў адразу. Ня дзіва, столькі часу з пустым жалудкам, калі не лічыць грушаў ды сьлімакоў.*

*Падзякаваў я яе як мог. Француз (чалавек росту малога, таўсты, як бочка, пераварачваўся з аднэй нагі на другую) прывёў мяне да амэрыканцаў, якіх было поўная вёска. Пасадзілі яны мяне на «jeep» і павязьлі ў нязнаным напрамку. Прыводзяць у нейкі вялікі будынак, гляджу, а там усе нашы хлопцы жывы й здаровы! Кінуліся на мяне з радасьцю, я да іх. Першы аднашоў мяне Косьця[312], і тады расказаў я яму ўсю маю гісторыю. Усе яны былі пэўныя, што я ня ў жывых, хаця Варава цьвердзіў ім, што ён бег разам са мною й што бачыў мяне яшчэ жывым.*

*Ад гэтага моманту я быў ужо разам з групаю. Зарэгістравалі мяне, далі мне нумар, і хутка пасьля гэтага вывезьлі нас усіх на той славуты могільнік, пра які Ты пытаўся мяне.*

*Прывязьлі нас туды на самаходах і завялі ўсіх у нейкі хлеў. Тут наступіла ў нас першае вялікае расчараваньне. Мы, якія пакінулі немцаў, перайшлі на бок «maquis» з аружжам у руках, якія дзялілі з французамі супольны лёс — былі кінутыя цяпер у звычайны хлеў, зь якога, праўда, выбралі гной ды паслалі сьвежае саломы. Было ўсім ясна, што французы нас прадалі, што яны нас аддалі амэрыканцам як іхных палонных! Ад гэтага часу мы ўсе пачулі нянавісьць да французаў.*

*Назаўтрае пагналі нас на могільнік капаць ямы. Цяжкая гэта была работа. Кожнаму трэба было выкапаць адну яму ў дзень. Зямля цьвёрдая, як скала. Хоць ты зубамі грызі. І тут*

---

312 Відаць, маецца на ўвазе Кастусь Кадушка (Амор).

*пазналі мы адзін другога найлепш. Калі хто не даваў рады з сваёй задачай, дык тыя, што выконвалі сваю хутчэй, памагалі іншым, слабейшым.*

*Колькі часу мы працавалі на гэтым могільніку, ня ведаю. Некаторыя мусілі езьдзіць пад самы фронт і зьбіраць трупы, другія мусілі гэтыя трупы «адзяваць» — укладаць іх у мяшкі. Іншыя зноў прадаўжалі капаць ямы, а другія закопвалі й г. д. Аднаго дня амэрыканцы прывялі групу немцаў палонных. Паўстала адразу нянавісьць і да немцаў, і да амэрыканцаў. Мы чуліся абіжаныя, што нас трактуюць таксама, як і немцаў.*

*Яда ў часе працы на могілках была магчымая. З голаду ніхто не паміраў, але, вядома, не хапала. Хлопцы напрацуюцца ўвесь дзень, дык патрабуюць есьці. Пара нашых хлопцаў працавала на кухні (Коленда, што падаваўся за паляка, амэрыканскага паходжаньня й знаў крыху па-ангельску, і яшчэ адзін беларус, але цямняк, падаваўся за ляха. Гэтым двум, зразумела, жылося нядрэнна).*

*Пасьля працы ўсе адпачывалі. Шмат цікавых рэчаў дыскутавалася падчас нашага побыту ў тым хлеве. Шмат плянаў на будучыню было праектаваных. Хто сяньня можа гэта ўсё прыпомніць! Памятаю добра, што ўжо там паўставаў быў падзел на дзьве групы: тыя, хто хацелі вяртацца на бацькаўшчыну, нягледзячы на кансэквэнцыі, і тыя, што жадалі застацца на Захадзе.*

*Пасьля некаторага часу ў мяне пад пахай узьнікла скула. Зразумела, што я больш з лапатай працаваць ня мог. Лекар агледзіў мяне й сказаў, каб я нічога больш на могілках не рабіў, пакуль не завязуць мяне ў бальніцу. Амэрыканцы загадалі мне тады зьбіраць сьмяцьцё, падмятаць у памешканьнях, дзе яны жылі, паліць сьмяцьцё й падобныя лёгкія працы. Праз некаторы час жылося нядрэнна: акрамя сьмяцьця я зьбіраў арэхі, акуркі, лазіў па садох ды зьбіраў яблыкі, грушы. Час ад часу даставаў ад амэрыканцаў шакаладу, цестаў. Усё гэта я зносіў у хлеў і там вечарам пасьля працы мы рабілі распадзел назьбіранага. Асаблівую вартасьць мелі акуркі, бо хлопцы найбольш адчувалі недахоп курэньня.*

*Гэта ўсё патрывала з тыдзень часу. Пасьля амэрыканцы забралі мяне й павязьлі ў Бэзансон на апэрацыю, дзе я праляжаў з тыдзень. Хлопцы надалей працавалі на могільніку, прычым сытуацыя там папраўлялася з кожным днём. З Безансону мяне*

*завязьлі былі пад Марсылію, здаецца, у Avignon, дзе мы з Табой і сустрэліся. Астальное Ты добра ведаеш і таму няма патрэбы апісваць.*

*Ня ведаю, ці Ты ў сваім рамане будзеш апісваць наш побыт у вабозе каля Неапалю, дзе мы мелі інцыдэнт з палякамі, якія напалі на нас аднае ночы толькі за тое, што мы гаварылі па-беларуску? Варта было б уставіць. [...]*

*Вось гэтулькі здаецца будзе на сяньня. Калі Табе патрэбна іншая інфармацыя — пішы, адкажу адразу. Мы цяпер ужо «насабачыліся» крыху з нашымі радыёперадачамі, і таму буду мець больш вольнага часу.*

*А пакуль што жадаю Табе памыснасьцяў так у Тваім рамане, як і ў прыватным жыцьці. Калі знойдзеш вольную хвілінку, напішы хоць пару слоў.*

*Жадаючы ўсяго найлепшага, астаюся Твой заўсёды шчыры сябра Віктар.*

*24.2.59 г.*
*Мадрыд*

*Дарагі Кастусь,*

*Толькі што вярнуўся з Радыё й атрымаў Твой ліст. Шчыра дзякую. Цешуся, што ўсё тое, аб чым я Табе напісаў, яшчэ прыдасцца. Як бачыш, гэтым разам адказваю адразу, бо так здарылася, што назаўтрае маем ужо амаль гатовую праграму, і таму маю пару гадзін вольнага часу, якія магу пасьвяціць на карэспандэнцыю.*

*Пераходжу адразу да справы. Не напісаў я Табе пра тое, што рабілі хлопцы пасьля таго, як я ад іх адлучыўся, дзеля дзьвюх прычынаў: па-першае, мала пра гэта ведаю; па-другое, паколькі прыпамінаю тое, што расказвалі мне сябры, дык нічога цікавага ў іх ня сталася. Немцы пастаялі крыху ў тым лесе, а не пабачыўшы нікога, адступілі. Хлопцы ж пасядзелі ў вадзе да таго часу, пакуль не прыйшлі французы ды заявілі, што ўсе ў парадку, а пасьля зноў хадзілі з аднаго месца ў другое, не адыходзячы, аднак, ад тае вёскі, скуль нас разагналі. Калі прыйшлі амэрыканцы, французы перадалі іх, здаецца, як сваіх палонных.*

*Адносна ж другога майго адлучэньня (з могільніка), дык яны там працавалі найдалей, выконваючы апісаныя мной раней абавязкі: капалі ямы, зьбіралі трупоў, «адзявалі іх» (тут маленькая заўвага адносна самых амэрыканцаў: пасьля та-*

*го, як прывозілі трупаў, яны іх рэгістравалі — зразумела, па меры магчымасьцяў, бо былі такія трупы, што нельга было ідэнтыфікаваць, часамі прывазілі толькі часткі целаў — а пасьля забіралі ўсе рэчы й адсылалі да іхных родных. І вось забіраючы гэныя рэчы — вялікую частку забіралі для сябе, а пасьля прадавалі іх або выменьвалі! Гэта канкрэтны факт, бо шмат хто бачыў і сярод нашых хлапцоў выклікала шмат камэнтароў), а калі ўжо скончылі, зь недахопу месца, усю работу, іх перавязьлі на поўдзень, здаецца, у Avignon.*

*Адносна гэтага пытаньня я яшчэ напішу пару лістоў да маіх сяброў, якія былі ў тэй групе, і думаю, што за пару тыдняў будзеш мець больш інфармацыяў.*

*У справе ўжываньня майго ды наагул сапраўдных прозьвішчаў. Што тычыцца майго прозьвішча — дык можаш ужываць, бо дома асталася была адно матка старушка, і ня думаю, каб яна была ў жывых. Дзеля гэтага мне ўсё роўна, бо калі пашкодзіць, дык толькі мне. А й так яны ведаюць усе мае «праступствы», асабліва пасьля таго, як уцёк у Савецкі Саюз Пілецкі-Курага-Скрага*[313]*, які, як Табе напэўна ведама быў савецкім шпіёнам сярод беларусаў Вяліка-Брытаніі ды наагул беларускае эміграцыі. А ён-жа з Глыбокага й ведаў, дзе я жыў! Што тычыцца іншых прозьвішчаў, дык старайся не ўжываць ніводнага без дазволу данае асобы. У вадным сваім лісьце да мяне Надсон зьвярнуў быў асаблівую ўвагу на гэты факт і прасіў мяне, каб я Табе пры нагодзе пра гэта ўспомніў. Калі Табе патрэбныя адрасы некаторых хлапцоў, а я іх маю, дык напішы мне, я Табе іх прышлю.*

[313] **Браніслаў Курага-Скрага**, на эміграцыі **Янка Пілецкі** (31.12.1906 — ?). Вучыўся ў Наваградскай гімназіі, потым настаўнічаў. У 1929–1930 гг. вучыўся ў артылерыйскай школе запасу. Працаваў у Гарадзішчы пад Баранавічамі, у Нясвіжы. У 1936 г. выехаў у Францыю, аднак, не здолеўшы ўладкавацца на працу, перабраўся ў Іспанію. Праз тры гады зноў вярнуўся ў Францыю, працаваў на сельскагаспадарчых плантацыях і фермах. У 1944 г. перабраўся ў Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лондане, дзе ўладкаваўся перакладчыкам. Быў старшынём Лонданскага аддзела ЗБВБ. Аўтар артыкулаў у брытанскіх беларускіх перыёдыках, падпісваўся імем Янка Пілецкі. У 1956 г. разам з жонкай выехаў у БССР. Жыў у Мінску. Працаваў рэферэнтам-перакладчыкам у Акадэміі навук БССР. Аўтар кнігі «Восем год у нацыяналістычным балоце» (Мінск, 1958), прысвечанай жыццю ў Лондане і ўдзелу ў нацыянальных арганізацыях.

*Адносна перадаваньня маіх прыгодаў маімі словамі, дык рабі, як уважаеш найлепш. Паколькі я пісаў усё на хуткую руку, дык мо было б лепш, калі б Ты паслугоўваўся сваімі апісаньнямі. Але гавару: рабі, як уважаеш найлепш.*

*Бойка ў вабозе каля Неапалю паўстала аднае ночы пасьля таго, як ляхам «надаела слухаць беларускую мову». Як ведаеш, нас было там чалавек каля 65 плюс некалькі ўкраінцаў, якіх мы знашлі за час нашага прабываньня ў лягеры. Мы былі менш-больш параскіданыя па ўсім абозе, але нармальна ў намётах жылі разам. У намёце, дзе жылі таксама Косьцік*[314]*, Герасімовіч і іншыя, гутарка заўсёды вялася, зразумела, па-беларуску. Палякам гэта вельмі не падабалася й яны напалі на намёт. Бойка пачалася чаравікамі, кулакамі ды наагул усім тым, што хлопцы мелі пад рукамі. Ня ведаю дакладна, колькі часу яна трывала, але пару ляхам дасталося даволі добра, і пасьля таго яны больш нас не чапалі. Назаўтрае вестка пра гэтую бойку разышлася па ўсім лягеры й здаецца, што дайшла была да камэнданта лягеру. Аднак хутка пасьля гэтага нас перавезьлі ў Паўднёвую Італію, і таму ўсё скончылася спакойна. Рэзультат гэтага быў наступны: Герасімовіч — беларус зь Меншчыны й некаторыя іншыя хлопцы, што не маглі больш зьнесьці палякаў, запісаліся на выезд у СССР. Тыя, што асталіся, ведалі, што іх чакае ў далейшым.*

*Адносна «двойкі»*[315] *ў гімназіях 3 DSK*[316] *і 5 KDP*[317]*, дык справа прадстаўляецца мне больш-менш наступна: як толькі я папаўся ў 2-і кампаніў*[318] *7-га батальёну 3 DSK, мяне адразу паклікалі ў канцылярыю на «рэгістрацыю». Разам са мной паклікалі яшчэ аднаго хлапца — паджылага, які аказаўся быў украінцам і пасьля стаўся адным з маіх найлепшых сябраў. Першы пайшоў на «рэгістрацыю» ўкраінец. Яго пратрымалі нядоўга. Ён заявіў, што ён ёсьць украінец і што ён жыў увесь час у Эстоніі, і таму яго больш нічога не пыталіся. Ён запісаўся быў украінцам. Калі ў сярэдзіну ўвайшоў я, паручнік (не з нашай*

[314] Маецца на ўвазе Кастусь Кадушка (Амор).

[315] «Двойка» — прастамоўная назва польскай контрвыведкі (у міжваеннай Польшчы — 2-гі аддзел генштаба).

[316] 3 DSK — 3-яя Дывізія стральцоў карпацкіх.

[317] 5 KDP — 5-ая Крэсовая дывізія пяхоты.

[318] Ад *kompanie* (ням.) — рота.

*кампаніі, але, як я пасьля даведаўся, з «двойкі» нашага батальёну) выцягнуў нейкія паперы й пачаў мяне пытацца тыя самыя рэчы, якія мяне пыталася першы раз на поўдні Італіі тая «двойка», якая цягала нас усіх. У першую чаргу запытаўся, чаму я — Сенкевіч, да гэтага каталік, пішуся ўсюды беларусам. Адказаў яму, што таму, што я такім ёсьць. Стараўся мне ён давесьці, што беларусаў-каталікоў зусім не было. Я яму гаварыў, што нават паводле афіцыяльных польскіх даных у 1931 г. было каля 60000 беларусаў. Тады ён пачаў цьвердзіць, што калі я Сенкевіч, дык я мушу быць палякам. Пачаў пагражаць, што калі не запішуся палякам, адашлюць мяне ў Савецкі Саюз. Адказаў яму, што калі яны пачуваюцца сябрамі бальшавікоў, дык могуць гэта зрабіць. Пробаваў ён мяне й нагаворваць, каб я запісаўся палякам, бо будучы такім, мне будзе ўсюды адкрытая дарога. Адным словам, ні ягоныя просьбы, ні абяцанкі яму не памаглі. Ён запісаў мяне беларусам, і так я астаўся аж да 1947 г., калі выйшаў з польскае арміі. Аднак усё тое, што ён гаварыў, было дакладна запісана, і куды я толькі не пераяжджаў, за мной ішла што раз больш тоўстая папка. Раз паклікалі былі таго ўкраінца, пра якога ўспомніў вышэй, і стараліся даведацца ад яго, ці я маю з кім нейкія кантакты. Зразумела, што ён адказаў негатыўна. Але пасьля таго мы пастанавілі былі не хадзіць разам, каб нас зашмат не падазравалі.*

*У студзені 1945 г. я пераехаў быў у гімназію 3 DSK, якая знаходзілася тады ў маленькай апенінскай мясцовасьці Bagno di Romagna. Там я сустрэўся з Грыгорам Платуном*[319] *і Пракапюком*[320] *з нашае афіцэрскае школы. Платун — гэта чалавек неактыўны, малавартасны з пункту гледжаньня нацыянальнага. Займаўся даволі часта крадзежай. Жылі мы разам у тым самым пакоі. Пракапюк (ён цяпер у ЗША) — хлапец сьведамы і ў той час актыўны. Пасьля некалькі месяцаў нас перавезьлі ўсіх у мястэчка, што недалёка Forli — Terra del Sol. Адтуль мы пераехалі ў Amandola, і там ужо прыбыло больш нашых хлапцоў,*

---

[319] Маецца на ўвазе **Грыгор Платун** (01.05.1926, в. Амлынцы — ?). Служыў у Беларускай паліцыі парадку ў Нясвіжы, пазней трапіў у 30-ю грэнадзёрскую дывізію СС, а далей апынуўся ў Арміі Андэрса. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі, быў сябрам ЗБВБ.

[320] Верагодна, маецца на ўвазе **Янка Пракапук** (20.11.1925, в. Войневічы на Слонімшчыне — ?). Служыў у Арміі Андэрса. Ад 1946 г. нейкі час жыў у Вялікабрытаніі, быў сябрам ЗБВБ.

*як Шыкоўскі[321], Булыга[322], Хомчык, Гаховіч[323], Мірскі (з БКА) і Калісьнікевіч[324]. Калі гімназія пашырылася, яе падзялілі на дзьве групы: на фізычна-матаматычную і на гуманістычную. Гэта апошняя была перавезена ў Sarnano, кілямэтраў з 10 ад Amandola, рэшта асталася на старым месцы. У Sarnano папаўся я, Гаховіч, Калісьнікевіч, Стралкоўскі, Платун, Мірскі. Тут жа й пачалася першая вялікая акцыя зьбірацца ды арганізавацца. Стварыўся быў актыў, у які ўвайшлі былі ўсе, акрамя Платуна. Амаль што кожную нядзелю мы рабілі зборкі, на якія прыяжджалі хлапцы з Amandoli, а пазьней і зь іншых школаў ды аддзелаў. Мы павялі ўсю арганізацыйную работу, якая хутка выйшла за рамкі школаў 3 DSK і пашырылася на ўвесь II-гі Корпус. Праз аднаго нацыянальна аморфнага хлапца, сына папа з Берасьці, я даведаўся быў, што ў жаночай гімназіі ў Porto San Giorgio ёсьць нейкі прафэсар. Я стараўся быў навязаць зь ім лучнасьць, бо нам якраз не хапала старэйшага чалавека, да гэтага — прафэсара, аднак мне гэта не ўдалося было зрабіць даўжэйшы час — аж да 4-га сакавіка 1946 г. Зразумела, гэтым прафэсарам быў Грышкевіч[325].*

---

[321] Верагодна, маецца на ўвазе **Пётр Шыркоўскі** (10.10.1925, в. Новы Сьвержань (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) — 23.12.2005, Манчэстэр, Вялікабрытанія). Вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, разам з якой апынуўся ў 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзнікаў, трапіў у 2-гі Польскі корпус, разам з якім у 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Манчэстэры. Быў сябрам ЗБВБ. Адзін з заснавальнікаў аддзела ў Манчэстэры, дзе ў розныя гады быў старшынём і сакратаром, а таксама адміністратарам Беларускага дома.

[322] Маецца на ўвазе Міхась Булыга.

[323] Маецца на ўвазе **Мікола Гаховіч** (06.08.1924, Стоўбцы (сёння Мінская вобл.) — 03.05.1992, Лондан, Вялікабрытанія). Вучыўся ў Нясвісжкай настаўніцкай семінарыі, быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА. Разам з іншымі курсантамі трапіў у 30-ю грэнадзёрскую дывізію СС, пасля служыў у 2-м Польскім корпусе. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі. Быў сябрам ЗБВБ, потым сябрам ХАБР. Уваходзіў у кіраўніцтва Акруговага цэнтру ХАБР у Ланкашыры. Актывіст парафіі Св. Ефрасінні Полацкай у Лондане, старшыня парафіяльнага камітэта.

[324] Верагодна, маецца на ўвазе **Мікола Калеснікевіч** (11.06.1924 — ?). Служыў у Арміі Андэрса. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі, быў сябрам ЗБВБ. Пазней перабраўся ў Францыю.

[325] Маецца на ўвазе Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

*Яшчэ будучы ў Terra del Sol я распачаў быў расшукоўваць усіх нашых хлапцоў з афіцэрскай школы з мэтай утварэньня нейкае арганізацыі ці самапомачы. Гэтая дзейнасьць пабольшала тады, калі мы пераехалі ў Amandola-Sarnano ды астанавіліся там на даўжэйшы час (да жніўня 1946 г., калі мы выехалі ў Англію). Не памятаю дакладна лічбы асобаў, зь якімі я быў у пасрэдным або беспасрэдным кантакце, але перапіску вёў з прынамся 250 жаўнерамі. Паколькі кожны з гэтых 250 меў кантакт з прынамсі двума-трыма беларусамі, агульны лік сьведамых нашых людзей, зь якімі я меў кантакт, даходзіў да 750–800 чалавек.*

*Вось тады, калі пачалі масова прыходзіць да мяне лісты з розных аддзелаў, «двойка» пачала цікавіцца мной шмат больш. Спачатку яны адно назіралі. Аднак хутка ў мой пакой прыслалі жыць аднаго ляха, які, як я й дадумоўваўся, быў адмыслова падасланы, каб лепш наглядаць за маёй дзейнасьцю. Аднаго разу я заглядзіў, што не хапае некалькі лістоў. Я майму «сябру» нічога не сказаў, але здагадаўся, што гэта ён забраў іх і перадаў сваім шэфам. На наступны дзень тыя лісты раптам «знайшліся» ў тым самым месцы, скуль і зьніклі. Аднак мяне ніхто нікуды ня клікаў, бо ў тых лістох нічога не было асаблівага. Адзінае, гэта было тое, што яны былі пісаныя па-беларуску. Да гэтага яны маглі б прычапіцца, але паколькі я фігураваў паўсюль беларусам, ім гэта было нялоўка. Я паведаміў пра гэта нашую групу, і мы пастанавілі ўсю тую карэспандэнцыю зьнішчыць, што я й зрабіў, прычым ад таго часу падаваў усім цывільны адрас. Аднаго дня, аднак, паклікалі мяне й запыталіся, чаму я атрымоўваю ці атрымоўваў раней столькі лістоў? Адказаў ім, што маю шмат сяброў і люблю пісаць пісьмы. Мяне папярэдзілі, каб я пісаў менш. Праз маіх сяброў палякаў я ведаў менш-больш, што мяне ўвесь час пільнуюць, але я гэтым шмат не пранімаўся, асабліва калі мы ўжо навязалі сувязь з Рымам[326], а пасьля з Парыжам[327].*

[326] У Рыме ў гэты час працавалі беларускія каталіцкія святары аа. Часлаў Сіповіч, Леў Гарошка, Пётр Татарыновіч.

[327] У Парыжы ў той час выдавалася газета «Беларускія навіны», праз якую беларусы ў Заходняй Еўропе маглі шукаць адно аднаго. Сувязь з Парыжам, верагодна, усталявалася ў сувязі з выездам туды а. Льва Гарошкі ў 1946 г.

*Як бачыш, у той час, калі я быў у гімназіі 3 DSK, за мной і за ўсімі нашымі хлапцамі бесперапынку наглядалі, але акрамя ўспомненага падасланага агента ды папярэджаньня нічога не зрабілі ды зрабіць не маглі, бо ня мелі ніякіх канкрэтных довадаў. Да гэтага ў нашай гімназіі быў прафэсар Нікан*[328]*, які, калі б што якое, паведаміў-бы адразу (што Нікан быў беларусам, мы даведаліся прыпадкова ад палякаў, якія ведалі, што Нікан фігураваў усюды як беларус).*

*У гімназіі 5 KDP, зь якой мы былі ўвесь час у кантакце, сытуацыя была шмат горшая тым, што там была большая неталеранцыя й дысцыпліна, і дзеля гэтага арганізаваньне нейкае больш канкрэтнае працы рабіць было немагчыма. Да гэтага былі там некаторыя хлапцы хаця й моцна сьведамыя, але баязьлівыя. Апошне яны былі стацыяваныя ў Modene, на поўнач ад Bologna, дзе мы мелі першую «афіцыяльную» канфэрэнцыю беларусаў 2-га Корпусу 4 сакавіка 1946 г.*

*Калі «двойка» сапраўды пачала арганізаваць акцыю супроць мяне, гэта было ўжо ў Вялікабрытаніі, калі мы пераехалі ў Norfolc, на Bodney Airfield. Каля гэтага лётнішча былі сканцэнтраваныя ўсе школы 3 DSK, і нас было чалавек 23. Тады, зразумела, вялася найбольшая дзейнасьць, рабіліся зборкі й г. п. Да мяне зноў пачалі прыходзіць сотні лістоў, і «двойка» паклікала мяне й пачала дапытвацца пра тое, што пішацца да мяне ў лістох. Я ім адказаў, што яны й так мае лісты чытаюць і дзеля гэтага мусяць ведаць вельмі добра пра ўсё тое, што пішацца ў лістох. Каб пазбыцца мяне, яны пачалі рабіць усялякія труднасьці, і ў канцы я мусіў быў пакінуць Bodney Airfield і выехаць у мой аддзел, бо ляхі пачалі рабіць на мяне розныя даносы, і мне там не аставалася больш нічога да работы, і я хутка пераехаў пад Лёндан.*

*Вось гэтулькі, менш-больш, пра гімназіі 3 DSK і 5 КДП. Зразумела, усяго нельга апісаць і нельга прыпомніць. Думаю, што Ты маеш пад рукамі «На Шляху»*[329]*, асабліва № 9 за люты 1950 год. Там ёсьць крыху пра арганізаваньне ЗБВБ. Артыкул пісаў я, аднак Грышкевіч мне яго так «паправіў», што ў не-*

[328] Маецца на ўвазе Мікола Нікан.

[329] Часопіс «На шляху» — орган ЗБВБ — выдаваўся ў Лондане ў 1946–1951 гг.

*каторых выпадках паперакручаныя факты. Дзеля ўтварэньня «культу асобы», ён расьпісваецца пра нейкія «першыя крокі ў арганізацыйным напрамку», якія ставілі «дзядзькі» на чале з Ж.-Г.*[330] *Выменьвае некалькі прозьвішчаў і кажа, што «да іх далучыліся малодшыя». Няма сумліву, што выменены ім дзядзькі былі сьведамыя беларусы, якія перажылі шмат а шмат. Але гаварыць пра нейкія «арганізацыйныя крокі» ёсьць абсурдам. Не «малодшыя» далучыліся да старэйшых, а малодшыя, паймення хлопцы з афіцэрскай школы зрабілі ня толькі першыя крокі, але сталіся закладнікамі ЗБВБ. У той час, калі нашыя хлопцы наражалі сваё жыцьцё, езьдзючы па аддзелах, па праваслаўных службах Божых, вышукоўваючы ды ўсьведамляючы сваіх суродзічаў, прафэсар наш сядзеў быў у жаночай гімназіі, а калі яго перавялі ў гімназію 5 KDP, сядзеў ціхенька, як мыш пад мятлою, бо нічога ня мог рабіць, кажучы, што яго ўвесь час пільнуюць. Каго тады з нас не пільнавалі!*

*Просіш мяне, каб я апісаў, па меры магчымасьці, тыпаў з «двойкі», якія мяне дапытвалі. Не памятаю, братка. Той паручнік, які мяне страшыў высылкай у СССР, быў даволі малады гад, гадоў каля 35. Худы на твары, даволі высокі. Вось усё, што я прыпамінаю. Адносна таго тыпа, якога падаслалі мне ў мой пакой у Sarnano — гэта быў здраднік-беларус. Высокі, худы, бляндын, зь сінімі вачыма. Совесьць, здаецца, яго заўсёды трывожыла, бо ўвесь час аглядаўся на бакі. Здаецца, называўся Маліноўскі!*

*Цяпер падам Табе лісту ўсіх тых нашых хлапцоў, якіх я прыпамінаю, падаючы адначасна краіну, дзе яны цяпер прабываюць.*

*Італія: Надсон*[331] *і Садоўскі (гэты апошні быў узяты ў палон пасьля)*[332].

[330] Маецца на ўвазе Вінцэнт Жук-Грышкевіч

[331] У час напісання ліста Аляксандр Надсан вучыўся ў Італіі.

[332] **Янка Садоўскі** (15.02.1926, Стоўбцы (сёння Мінская вобл.) — 10.06.1982, Канада). Падчас нямецкай акупацыі браў удзел у нацыянальна-культурным руху на Стаўбцоўшчыне. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі, быў сябрам ЗБВБ. У 1948 г. прыняты кандыдатам у ордэн марыянаў, а ў 1949 г. выехаў у Рым, дзе пасля навіцыяту пачаў рыхтавацца да святарства. У 1953 г. выйшаў з марыянскага ордэна і пачаў навучанне ў Французскай калегіі

*Англія: Булыга, Навара*[333]*, Быкоўскі*[334]*, Варава, Гаховіч, Баяроўскі*[335]*, Мак, Шыркоўскі, Лебедзь, Весялкоўскі*[336]*, Сень-*

---

ў Рыме. 17 снежня 1955 г. атрымаў святарскія свячэнні і далей працягнуў навучанне. У 1961 г. на загад а. Часлава Сіповіча вярнуўся ў Лондан дапамагаць у працы Беларускай каталіцкай місіі і кіраваць інтэрнатам Св. Кірылы. Аднак праз два месяцы працы ў інтэрнаце адмовіўся ад святарства і выехаў у Канаду. Выкладаў рускую мову і літаратуру ў Куінскім універсітэце (штат Антарыё). Аўтар манаграфіі «Byelorussians in Canada» (1982).

333 **Павал Навара** (17.09.1927, в. Купіск (сёння Навагрудскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 24.05.1983, Лондан, Вялікабрытанія). У 1942–1944 гг. вучыўся ў Навагрудскай настаўніцкай семінарыі. З вясны 1944 г. быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, разам з якой быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС. У верасні 1944 г. разам з калегамі здаўся ў палон амерыканцам ля в. Клэрваль (Францыя) і пазней далучыўся да 2-га Польскага корпусу. У жніўні 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію, дзе стаў адным з заснавальнікаў ЗБВБ і рэгулярна абіраўся ў Галоўную ўправу арганізацыі. Быў таксама сябрам Згуртавання беларускіх камбатантаў і Беларускага хрысціянскага акадэміцкага аб’яднання «Жыццё». У 1952 г. скончыў факультэт матэматыкі, хіміі і фізікі Лонданскага ўніверсітэта. Працаваў хімікам у лонданскіх лабараторыях. У 1954 г. быў адным з ініцыятараў стварэння Англа-беларускага таварыства. У Галоўнай управе ЗБВБ часта абіраўся на пасаду старшыні, а таксама доўгі час ў 1970-х быў сакратаром арганізацыі.

334 Маецца на ўвазе **Алесь Быкоўскі** (09.03.1922 —?). Паходзіў з Маладзечаншчыны. У 1944–1947 гг. служыў у Арміі Андэрса, разам з якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам ЗБВБ, а таксама сябрам Згуртавання беларускіх камбатантаў. У 1953 г. быў абраны на пасаду скарбніка ЗБВБ, быў сябрам Лонданскага аддзела арганізацыі. Аднак яшчэ ў 1950-х гг. на ўласнае жаданне выйшаў з арганізацыі. З’ехаў у БССР.

335 Маецца на ўвазе **Міхась Баяроўскі** (нар. 05.05.1924, в. Пятрэвічы (сёння Навагрудскі р-н Гарадзенскай вобл.)). Вучыўся ў настаўніцкай семінарыі. Вучыўся ў Мінскай афіцэрскай школе БКА. З іншымі курсантамі быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзнікаў, пасля далучыўся да 2-га Польскага корпусу. З 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі. Быў сябрам ЗБВБ, кіраваў аддзелам арганізацыі ў Бірмінгеме. Таксама быў сябрам Беларускага хрысціянскага акадэміцкага аб’яднання «Жыццё» і Згуртавання беларускіх камбатантаў. Браў актыўны ўдзел у працы Камітэта дапамогі ахвярам радыяцыі.

336 **Юры Весялкоўскі** (нар. 02.01.1924, в. Новы Свержань (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.)). У 1942–1944 гг. вучыўся ў

*ко*[337]*, Яськевіч*[338]*, Мазура*[339] *— гэта тыя, якія былі ў на-*

---

настаўніцкай семінарыі ў Нясвіжы, быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА. Разам з іншымі курсантамі апынуўся ў 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, потым — у 2-м Польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў сябрам ЗБВБ, пазней — сябрам ХАБР. Доўгі час выконваў функцыі сакратара Галоўнай управы ХАБР, стварыў пры арганізацыі хор. У 1954–1962 гг. быў адным з рэдактараў часопіса «Аб’еднанне». У 1960-х спрычыніўся да расколу ХАБР праз канфлікт вакол яго Дома. Належаў да парафіі Св. Ефрасінні Полацкай у Лондане. У 1974–1976 гг. выдаваў часопіс «Званіца», пазней у 1989–1996 гг. — часопіс «Голас Часу». Аўтар шэрагу кніг па беларускай і сусветнай гісторыі («Дарогі рымскіх папаў на Ўсход» (1992), «Беларусь у першай сусветнай вайне» (1995), «Па слядах Другой сусветнай вайны» (2002) і іншых), а таксама ўспамінаў «Няясна мроіліся новыя дарогі» (1997). Жыве ў Лондане.

337 **Мікола Сенька,** на эміграцыі **Яблоньскі** (1924, в. Новы Свержань (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) — 19.07.2008, Лондан, Вялікабрытанія). Вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА. Разам з іншымі курсантамі апынуўся ў 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, потым — у 2-м Польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лондане, быў сябрам ЗБВБ, ХАБР. Апошнія гады жыў у лонданскім Беларускім доме.

338 **Міхась Яскевіч** (17.03.1926, в. Стаўпішчы каля Нясвіжа — 09.06.2002, Манчэстэр, Вялікабрытанія). Падчас нямецкай акупацыі скончыў два курсы настаўніцкай семінарыі. Быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, разам з якой быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзнікаў. У 1944–1947 гг. служыў у 2-м Польскім корпусе, разам з якім у 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Манчэстэры. Быў сябрам ЗБВБ, уваходзіў у аддзел у Манчэстэры. Быў актывістам БАПЦ. У 1958–1961 гг. — настаўнік беларускай суботняй школкі ў Манчэстэры. Уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага клуба ў Манчэстэры (сакратар). Доўгія гады быў карэспандэнтам газет «Бацькаўшчына» і «Беларус» у Манчэстэры.

339 Маецца на ўвазе **Янка Мазура** (07.01.1923, в. Ракаў (сёння Валожынскі р-н Мінскай вобл.) — 01.06.1990, Скантарп, Вялікабрытанія). Быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, з якой трапіў ў 30-ю грэнадзёрскую дывізію СС, перайшоў на бок саюзнікаў, служыў 2-м Польскім корпусе. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі, быў сябрам ЗБВБ. Скончыў жыццё самагубствам.

*шай групе. Папаліся ў палон пасьля: Бука*[340]*, Бутрымовіч*[341]*, Асіповіч*[342]*, Кляйноў*[343]*, Нор*[344]*.*

---

340 Магчыма, маецца на ўвазе **Кастусь Булыка** (03.03.1920 — ?). Паходзіў са Слоніма. Служыў у Арміі Андэрса. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі, быў сябрам ЗБВБ.

341 **Уладзімір Бутрымовіч** (31.12.1922, в. Андрушы каля Нясвіжа — 27.06.1987, Лондан, Вялікабрытанія). Цягам 3 гадоў служыў у Арміі Андэрса, разам з якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Тут далучыўся да ЗБВБ. У пачатку 1950-х вучыўся ў Лювенскім універсітэце (Бельгія), па сканчэнні якога вярнуўся ў Брытанію. Жыў у Лондане. Уваходзіў у Галоўную управу ЗБВБ, а ў 1958, 1960–1965 гг. быў яго старшынём.

342 **Павал Асіповіч** (19.11.1923, в. Беніца Маладзечанскага пав. Віленскага ваяв. (сёння Маладзечанскі р-н Мінскай вобл.) — 23.01.1997, Лондан, Вялікабрытанія). Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Маладзечанскай гандлёва-адміністрацыйнай школе, Мінскай афіцэрскай школе БКА, у складзе якой быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС. Перайшоў на бок саюзнікаў і далучыўся да 2-га Польскага корпусу. З 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі. Скончыў Польскую гандлёвую школу ў Глазга. Працаваў бухгалтарам у Вялікабрытаніі, Гане і Нігерыі. Пазней пасяліўся ў Лондане. Быў адным з найбольш актыўных беларусаў у Вялікабрытаніі. Сябра ЗБВБ. Ва ўправе арганізацыі займаў розныя пасады. Адзін з заснавальнікаў Англа-беларускага таварыства.

343 **Бенядзікт Кляйноў** (14.03.1926, в. Наваельня (сёння Навагрудскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 17.07.1985, Брадфард, Вялікабрытанія). Вучыўся ў Навагрудскай беларускай гімназіі. Быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, з якой трапіў у 30-ю грэнадзёрскую дывізію СС, а адтуль у 2-гі Польскі корпус. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў сябрам ЗБВБ. Атрымаў дыплом будаўнічага інжынера ў Манчэстэрскім універсітэце. Быў адным з ініцыятараў стварэння Згуртавання беларускіх камбатантаў. Уваходзіў ва ўправу Беларускага грамадскага клуба «Сакавік» у Брадфардзе. Быў актывістам БАПЦ, кіраваў Вікарыяльнай управай БАПЦ у Вялікабрытаніі і быў старшынём парафіяльнага камітэта прыхода Св. Спаса ў Брадфардзе.

344 **Кастусь Нор** (11.08.1918, Горадня — 29.03.1992, Лондан, Вялікабрытанія). Напярэдадні Другой Сусветнай вайны скончыў электрычны ліцэй у Вільні. Быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА. Летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзнікаў, затым служыў у 2-м Польскім корпусе. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі, быў сябрам ЗБВБ. Пазней — у ХАБР. Доўгі час быў сябрам Галоўнай управы ХАБР.

*Бэльгія: Клыбік*[345]*, Янушэвіч*[346]*.*

*Канада: (наколькі я ведаю) Ты, Арцюх*[347]*, Хомчык і Касьцюкевіч*[348]*. Толькі Хомчык быў з намі.*

---

345 **Лаўрын Клыбік** (нар. 23.10.1928, в. Хардзевічы на Слонімшчыне). Быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, адкуль трапіў у 30-ю грэнадзёрскую дывізію СС, потым служыў у 2-м Польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў сябрам ЗБВБ, але праз нейкі час выехаў у Бельгію. У 1958 г. скончыў фармацэўтычны факультэт Лювенскага ўніверсітэта. У 1966 г. адчыніў уласную аптэку. У 1977 г. пастуціў на курсы гамеапатычнай школы ў Брусэлі і ў 1981 г. адчыніў яшчэ і сваю лабараторыю. У 1991 г. абараніў дысертацыю «Кава і яе ўздзеянне на чалавечы арганізм» і быў прыняты ў Асацыяцыю гамеапатаў Бельгіі. Аўтар працы «Прапаліс і дзеянне радыяцыі на жывы арганізм». У 1994 г. прыязджаў у Беларусь. Наладзіў супрацоўніцтва з беларускімі медыкамі для апрабацыі гамеапатычнага сродку супраць хваробаў, выкліканых радыяцыяй на тэрыторыі Беларусі, забруджанай радыёнуклідамі ў выніку Чарнобыльскай катастрофы.

346 Маецца на ўвазе Мікола Янушэвіч, які на час напісання ліста вучыўся ў Бельгіі.

347 **Мікола Арцюх**, у ЗША Артон (25.07.1924, в. Казловічы Слонімскага пав. — 26.02.1984, Дэтройт, ЗША). Вучыўся ў Мінскай афіцэрскай школе БКА, разам з фармаваннямі якой летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС. Перайшоў на бок саюзнікаў, потым служыў у 2-м Польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў сябрам ЗБВБ. Скончыў Лювенскі ўніверсітэт у Бельгіі (1955) з ступенню магістра эканамічных навук. Вярнуўся ў Вялікабрытанію, працаваў у турыстычнай фірме Томаса Кука. Пры канцы 1950-х выехаў у Канаду. Жыў у Таронта, адкуль перабраўся ў Дэтройт (ЗША). Працаваў у банку. Быў актывістам парафіі Святога Духа БАПЦ, сябрам управы Дэтройцкага аддзела БАЗА, сябрам Задзіночання беларуска-амерыканскіх ветэранаў.

348 Верагодна, маецца на ўвазе **Вячаслаў (Віктар) Касьцюкевіч** (16.06.1925, в. Літоўцы (сёньня Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) — 1993, Канада). Служыў у Арміі Андэрса. У 1946 г. прыехаў у Вялікабрытанію, быў сябрам ЗБВБ. У 1952 г. выехаў у Канаду, дзе далучыўся да беларускага жыцця. Быў старшынём і намеснікам старшыні Згуртавання беларусаў Канады.

*ЗША: Дварэцкі[349], Пракапюк, Цярпіцкі[350], Календа (лях), Грамыка М., Курыла[351] (ён далучыўся да нас у Вільні перад тэй слаўнай бамбардзіроўкай[352]).*

---

[349] **Пятро Дварэцкі** (26.03.1922, в. Краснае (сёння Маладзечанскі р-н Мінскай вобл.) —?). Быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, з якой быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, потым служыў у 2-м Польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лондане, дзе атрымаў спецыяльнасць тэхніка-дантыста. Быў сябрам ЗБВБ. Цягам 1950–1956 гг. рэгулярна абіраўся на пасаду сакратара Лонданскага аддзела арганізацыі. Быў адным з першых ахвярадаўцаў на Беларускі дом у Лондане, у якім потым жыў і быў адным з арганізатараў дантыстычнай майстэрні. У 1956 г. з’ехаў у ЗША.

[350] **Віталь Цярпіцкі** (нар. 03.02.1923, Івянец (сёння Валожынскі р-н Мінскай вобл.)). Вучыўся ў настаўніцкай семінарыі ў Нясвіжы, потым у Мінскай афіцэрскай школе БКА, з якой быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС. Перайшоў на бок французскіх партызанаў. Пазней далучыўся да Арміі Андэрса. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Па дэмабілізацыі пасяліўся ў Брадфардзе. Узначальваў аддзел ХАБР у Ёрксе. У лістападзе 1950 г. пераехаў у ЗША. Пасяліўся ў Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі). Браў актыўны ўдзел у працы Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі, уваходзіў у яго кіраўнічыя органы, быў сакратаром БЦР. У 1969–1972 гг. узначальваў будаўнічы камітэт па ўзвядзенні царквы для парафіі Св. Ефрасінні Полацкай.

[351] **Уладзіслаў (Уладзімір) Курыла** (01.06.1922 —?). Паходзіў з-пад Радашкавіч (сёння Маладзечанскі р-н Мінскай вобл.). Быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, разам з якой быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, потым служыў 2-м Польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў сябрам ЗБВБ. Меў спецыяльнасць тэхніка-дантыста і стаў адным з заснавальнікаў дантыстычнай майстэрні ў Беларускім доме ў Лондане. Выконваў таксама абавязкі адміністратара Беларускага дома. Быў адным з ініцыятараў стварэння і старшынём Згуртавання беларускіх камбатантаў. У снежні 1954 г. з’ехаў у ЗША.

[352] Маецца на ўвазе налёт савецкай авіяцыі на віленскі чыгуначны вузел на пачатку жніўня 1944 г., у часе якога загінула колькі кадэтаў і выкладчыкаў афіцэрскай школы БКА.

*Наступныя ў нашай групе не былі, а папаліся ў палон пасьля: Ягаўдзюк[353], Сянкевіч Г.[354], Буткевіч[355].*

*Бразылія: Амор[356].*

*Францыя: Калісьнікевіч і Наўмовіч[357]. Гэты апошні дастаўся ў палон пазьней.*

---

[353] Маецца на ўвазе **Мікола Ягаўдзік (Ягоўдзік)** (15.02.1926, в. Галынка Слонімскага пав. — 08.03.1989, Кліўленд, ЗША). Вучыўся ў настаўніцкай семінарыі. Быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, адкуль трапіў у 30-ю грэнадзёрскую дывізію СС. Перайшоў на бок саюзнікаў, быў у 2-м Польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў сябрам ЗБВБ. У 1951 г. выехаў у Бельгію, дзе скончыў факультэт палітычных і сацыяльных навук Лювенскага ўніверсітэта (1955). Уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага студэнцкага згуртавання, яго адміністратар у 1952–1954 гг. У 1956 г. перабраўся ў ЗША. Пасяліўся ў Кліўлендзе, працаваў бухгалтарам. Быў сябрам Рэвізійнай камісіі Кліўлендскага аддзела БАЗА. Узначальваў Згуртаванне беларуска-амерыканскіх ветэранаў.

[354] **Генрык Сянкевіч** (09.05.1923, Ляхавічы Баранавіцкага пав. (сёння Берасцейскай вобл.) — 22.06.2000, Чыкага, ЗША). Вучыўся ў Мінскай афіцэрскай школе БКА, разам з якой быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС. Перайшоў на бок саюзнікаў, служыў у 2-м Польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Жыў у Ковентры. Быў сябрам ЗБВБ. Каля 1954 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага.

[355] Маецца на ўвазе **Сільвестр Будкевіч** (нар. 04.03.1924, в. Брацянка (сёння Наваградскі р-н Гарадзенскай вобл.)). Ад 1942 г. вучыўся ў Наваградскай настаўніцкай семінарыі. Быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, разам з іншымі курсантамі быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, з якой дэзертаваў у Францыі і далучыўся да 2-га Польскага корпусу. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі. Пасяліўся ў Ковентры. Скончыў тэхнічную школу і працаваў электрыкам. Быў сябрам ЗБВБ, кіраваў аддзелам у Ковентры. Актыўны ўдзельнік беларускага жыцця ў Вялікабрытаніі.

[356] Маецца на ўвазе Кастусь Кадушка (Амор).

[357] **Міхась Наўмовіч** (1922, в. Рамашкевічы, Наваградчына — 08.03.2004, Парыж, Францыя). Пасля вайны жыў у Францыі. Скончыў факультэт скульптуры Нацыянальнай вышэйшай школы мастацтваў у Парыжы (1953). Браў удзел у беларускім нацыянальным жыцці, спрычыніўся да стварэння Беларускага незалежнага аб'яднання моладзі, выдаваў часопіс «Моладзь».

*Польшча: Стралкоўскі і магчыма Платун.*

*СССР: Кайгародцаў, Герасімаў, Мазура Т.*[358]*, Каляда.*

*Аргентына: Каледнік*[359]*.*

*Галяндыя: Цімафейчык Т.*[360]

*Акрамя гэтага ў Шкоцыі павінен быць недзе Грыц*[361]*. Дзе дзеўся Жызьнеўскі (здраднік) — ня ведаю; памёр Шастак М. Загінуў таксама бязь вестак (а можа, таксама, як і я) — адзін маленькі хлопчык зь Вялейшчыны. Ня ведаю, як ён называўся. Быў сьведамы беларус, прапаў у той самы час, калі чуць не прапаў і я.*

*Вось гэтулькі будзе на сяньня. Калі патрабуеш штосьці больш — пішы адразу. А тым часам жадаю Табе памыснасьці ў працы і ўсяго найлепшага ў Тваім прыватным жыцьці. Надзеюся, што Твая жонка паправіцца хутка й Ты будзеш мець больш часу й спакойнасьці на заканчэньне Твайго так важнага раману.*

*Астаюся Твой шчыра Віктар.*

---

[358] Маецца на ўвазе **Тодар Мазура** (03.05.1921 — пасля 1990 г.). Вучыўся ў Рыме. Пазней прыбыў у Вялікабрытанію. Жыў у Лондане. Быў сябрам Беларускага акадэміцкага каталіцкага аб'яднання «Рунь». Выехаў у БССР.

[359] Верагодна, маецца на ўвазе **Міхась Каленік** (нар. 01.12.1924, в. Клепачы каля Снова (сёння Нясвіжскі р-н Мінскай вобл.)). Быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, разам з якой трапіў у 30-ю грэнадзёрскую дывізію СС, потым служыў у 2-м Польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў сябрам ЗБВБ, потым у ХАБР. У 1949 г. выехаў у Аргентыну, адтуль праз нейкі час перабраўся ў ЗША. Пасяліўся ў Чыкага, дзе быў актыўным сябрам беларускай праваслаўнай парафіі.

[360] **Тодар (Хведар) Цімафейчык** (01.05.1924, в. Сянькоўшчына на Слонімшчыне — ?). Быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, адтуль трапіў у 30-ю грэнадзёрскую дывізію СС, перайшоў на бок саюзнікаў, трапіў у 2-гі Польскі корпус. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў сябрам ЗБВБ. У 1950-х гг. выехаў у Бельгію. Вучыўся ў Лювенскім універсітэце. Быў стваральнікам Згуртавання беларускіх камбатантаў у Бельгіі. Па сканчэнні навучання выехаў у ЗША, дзе спыніў кантакты з беларусамі.

[361] Маецца на ўвазе **Рыгор Грыц** (18.08.1921, Ліда (сёння Гарадзенская вобл.) — ?). Служыў у Арміі Андэрса. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію, быў сябрам ЗБВБ.

## Лісты Міколы Абрамчыка

*2.05.1959 г.*
*Villepinte*

*Вельміпаважаны й дарагі сп. Акула,*

*Толькі што атрымаў Ваш ліст. Перадусім хачу Вас ад шчырага сэрца пагратуляваць за так вялікую, зробленую Вамі справу. Раман у беларускай літаратуры наогул — даўно крыклівая вымагальная патрэба. У нас жа, калі не лічыць «Дзьвюх душ» М. Гарэцкага — ніхто з нашых пісьменьнікаў дагэтуль нічога паважнейшага не напісаў. Месца гэтае пустое. Запіхаецца рознымі «раманамі» на заказы ком-партыі аб «соц-рэалізьме» — і ўсё. Таму ўжо за адну гэткую ініцыятыву Вам чэсьць і слава, а тым болей за так удзячную тэматыку.*



Мікола Абрамчык

*Я запраўды шкадую, што ўпершыню знаёмлюся (з Вашага лісту) аб так паважнай форме й памеру Вашае працы. Праўда, ускосна я аб гэтым чуў, але ў мяне чамусь склалася было ўражаньне, што мелася гэта быць нешта ў родзе невялічкай аповесьці.*

*Цяпер бліжэй да справы. Як рэалізаваць і ў якой ступені магу быць памочным я? Але перад тым хачу Вам выказаць некалькі сваіх думак. Прашу толькі не зазлавацца на мяне, калі яны Вам здадуцца няўмеснымі.*

*Вось жа мяне трохі непакоіць тое, што Вы залішне гарачыцеся. Як пішаце самі, што шчэ не закончана апрацоўка II-й часткі, а хочаце НЕАДКЛАДНА здаваць у друк першую. Такім посьпехам вельмі цяжка, каб не сказаць неўнікнёна,*

*ухіліцца ад недахопаў, прабелаў у рамане. Стварыць нешта паважнае — цэнная патрэбна, як казаў М. Багдановіч, «тачыць, гартаваць». Нат такія найгеніяльнейшыя рамантыкі, прыкладам, французскі Флёбэр — 4-ы разы перарабляў сваю «Мадам Бавары», зачытваючы яе на зборках літаратараў-пісьменьнікаў, прыблізна тое самае рабіў і В. Гюго з сваёй «Нотэр Дам дэ Пары». Дарэчы, Пастэрнак хваліцца, што свайго «Жывага» апрацоўваў 10 гадоў.*

*Прымаючы пад увагу, што ўмовы працы над Вашым раманам былі далёка, без параўнаньня напэўна ж, горшыя за Флёбэра, Гюго ды й Пастарнака нат! Цяжка сабе прадставіць, каб можна было так сабе адразу закруціць у машыну друку, абмежыўшыся толькі карэктай-стылістычнымі-граматычнымі папраўкамі, не падзяліўшыся ўражаньнямі дасьведчаных у літаратурным знаньні ды зь літаратурным смакам людзьмі. Не зразумейце, што я ад «hос» настаўлены скептычна да Вашага раману, не чытаўшы яго, не — але ведаеце старую прыказку, што адна капля дзёгцю можа сапсуць бочку мёду. А як жа гэта цяжка (а на мой погляд проста немагчыма) унікнуць усіх падобных недахопаў, пішучы такую вялікую працу — дабаўлю, на так складную й далікатную тэму — працягам 2-х гадоў толькі, пэўне ж, урыўкамі ад заработкаў ды, як самі кажаце, хаваючыся ад дзяцей ды суседзяў у пограбе.*

*Вы, праўда не ігнаравалі цалкам патрэбу думкі экспэрта ў гэтым сэнсе й зьвярнуліся да Др. Ст. Станкевіча. Але я б у гэтым выпадку парадзіў Вам лепш зьвярнуцца перадусім да Др. Тумаша й сп. Адамовіча, а то з наступных меркаваньняў:*

*1. Др. Ст. Станкевіч хоць і бясспрэчна добры знаток, спэцыяліст нат можна сказаць у літаратуры — ягоная, аднак, бяда ў тым, што ён, будучы запраўды перагружаны справамі выдавецтва, па інстытуту ды іншымі — прывучыў сябе за апошнія гады ўсё, як кажуць, «рабіць на калене», «бліскавічна» — схопіць у рукі — трах, мах і гатова! Вось, дарэчы, якраз перад хвіляй прачытаў яго прадмову да «Дабрасельцаў» Кулакоўскага — схоплена зьверху — стрэляна — і прадмова граша няварта. А якая шкода! Столькі нявыкарыстана (фактычна, нічога нявыкарыстана), столькі так цэннага матарыялу, на падставе якога можна было б шмат чаго шчэ сказаць тога, чаго ня змог па зразумелых прычынах высказаць поўнасьцю Кулакоўскі.*

*Крытыкую Ст. Ст. не таму, каб зганіць яго, а таму, што, як сказаў вышэй, за апошнія гады заўсёгды спяшаецца — пось-пех гэты стаўся яго звычкай, калі нат ня мэтадам.*

*Др. Тумаш і Др. Адамовіч больш вымагальныя да сябе ў гэтым адношаньні: хоць праўна занятыя кожны зь іх, але я пэўны, што ніхто зь іх не адмовіцца ўзяць прастудыяваць Ваш раман і даць Вам свае заўвагі-рады, якія, я пэўны, будуць карысныя для Вас перад тым, як яго здаваць у друк. Др. Тумаш асабліва любіць такую працу, і я перакананы, што ён бы Вам гэта зрабіў хутка. Да таго, ён бы зрабіў Вам і карэкту ці магчымыя стыль-папраўкі. Прызнаюся, хацеў бы й я прачытаць Ваш раман перад здаваньнем яго ў друк. І то ўжо ня столькі з пункту гледжаньня чыста літаратурнага (хоць і гэта мяне цікавіць), колькі з палітычнага.*

*Пэўне, думаеце, «вось і памога, прасіў паспрыяць, а ён зацягвае чорт ведае наколькі»...*

*Але па мінімуму хай 3–4 месяцы, паўгоду, нат пазьней, але выканчыць, адшліфаваць, парадзіўшыся — Вы й справа толькі выйграеце.*

*Што да чыста тэхнічнага боку — друку ў Мюнхене, карэкты й г. д., то я змагу выясьніць, ці лепш кажучы, заангажаваць кагось там, як буду ў Мюнхене 26 г. м. Лістоўна не бяруся гэта Вам уладзіць па шмат якіх прычынах, а перадусім што я й сам да 2-га выяжджаю ў Бон, а з Бону вяртаюся ў Парыж, дзе маю даклад у Міжнароднай Акадэміі навук, ды затым еду ў Англію.*

*Маю, аднак, ужо ідэю, каго Вам найлепш заангажаваць да карэкты, але аб гэтым напішу Вам пазьней, як пагутару асабіста з гэнымі людзьмі.*

*Вы правы, дарэчы, што ня ўсім ужо так цяжка з нашых у Мюнхене, як яны гэта крэкчуць. Ёсьць, праўда, людзі, што залішне перагружаны, але маюцца й казённыя людзі-чыноўнікі. А найгоршае зло ў нас гэта сп. Гіцкі*[362] *— запраўдны труцень — які ня толькі нічога не памагае нам, а марнуе толькі час іншым, а ў тым ліку й мне, бо кожны раз як прыеду ў Мюнхен, маецца нейкая зь ім ці каля яго справа. Гэта самы няўдалы з усіх нашых кандыдатаў — пастаўленых намі на працу ў Мюнхене.*

*Па нашай дагаворанасьці з амэрыканцамі яго мы можам адправіць назад — скуль прыехаў, але зноў жа, па нашай*

---

[362] Прозвішчам Гіцкі ў той час карыстаўся Уладзімір Гуцька-Дудзіцкі.

*дагаваронасьці мусім на яго мейсца даць другога кандыдата. Кандыдата такога, на жаль, у гэтым годзе мы не знайшлі, дык вось прадоўжылі яму яшчэ на год кантракт. Вось быў бы Вам удзячны, каб Вы таксама падумалі й параілі мне, ці не знайшоўся б такі кандыдат у Канадзе? (Замену такую мы можам правесьці ў пачатку наступнага году).*

*Вітаем сардэчна ўсю Вашу сямейку — Ваш М. Абрамчык.*

*27.09.1959 г.*
*Villepinte*

*В. Паважаны Сп. Акула,*

*Выбачце мне ўзноў, па-першае, што не адказаў Вам, як абяцаў, зь Мюнхену, а па-другое, за запозьнены адказ і на гэты Ваш ліст, бо ня быў дома.*

*Учора якраз была ў мяне Галіна Ганчарэнка, і празь яе я перадаў Марговічу, каб зараз жа Вам выслаў Ваш манускрыпт.*

*У Мюнхене ў гэтым годзе я быў асабліва заняты, бо ўзьнялася ў нас вялікая калатня з Амэрыканскім камітэтам. Камітэт гэты штораз то больш дэгенэруецца ў бюракртычную ўстанову. Пару ідэйных антыбальшавікоў адышло — засталіся адно тыпічныя мяшчане-зарабатчане, мэта якіх рабіць толькі нешта тое, каб утрымацца на цёпленькіх пасадах. Прэзыдыюм Лігі таму паставіў ім ультыматум, або даць нам (партблёку) магчымасьці працаваць як належыць, або пакінем іх і дадзім у прэсу, што з Амэрыканскім камітэтам ня маем нічога супольнага. Вось у гэтай плашчыні калаціліся зь імі ў Мюнхене, а цяпер прадаўжаем гэтую калатню ў Парыжы, куды надоечы прыехаў зь Мюнхену Mr. Келлі, а сяньня Дрэгэр.*

*Ваш раман я збольшага перагледзіў. Кажу «збольшага», бо некаторыя разьдзелы прабег павярхоўна, але некаторыя прачытаў досыць уважна. Здаецца мне, аднак, што ў асноўным уява ў мяне атрымалася досыць праўдзівая, дзеля чаго маю пэўныя падставы выказаць Вам сваіх некалькі думак-заўвагаў:*

*1. Мушу Вас пагратуляваць (зусім шчыра, без ніякіх камплімэнтаў), што апроч там багатага й цэннага гістарычнага матэрыялу ў Вашай працы — выразна вычуваецца багатства літаратурнай вобразнасьці й месцамі нат паэтычнасьці, але гэтак жа шчыра хочу Вам выказаць сваю думку, што да некаторых, як мне здаецца, недахопаў у Вашай працы.*

*Па-1-е — як раман у цэласьці ня вытрыманы ў стылі. Мясьцінамі яго можна назваць раманам, але ў бальшыні — толькі як успаміны (праўдзівыя прозьвішчы, ініцыялы).*

*Па-2-е. Вельмі траціць на вартасьці твор — нэрвовасьць аўтара, выказваючы сваё асабістае, абуранае. Клясычнай рэгулай пісьменства — гэта абсалютны спакой аўтара. Гэта чытач, які мусіць нэрвавацца, перажываць, рэагаваць, а не аўтар. Начы выйдзе як у тога, што расказваючы якісь сьмешны анэкдот, сам зайходзіцца ад сьмеху — а слухачы маўчаць. Казальнік анэкдоту выграе тады, калі яго губы не здрыгнуць пры апавяданьні найсьмяшнейшага. Тагды слухачы рагочуць. У Вас жа бывае часта, што Вы ў сваіх перажываньнях даходзіце аж да лаянкі... Атрымліваецца тагды ўражаньне, што гэта толькі нейкі артыкул для газэты, прызначаны для спэцыяльнай публікі.*

*На маю думку, у такой форме Вам ніяк ня варта пускаць так цэнны ў сьвет матэрыял. Яго абавязкова Вам трэба яшчэ раз добра перапрацаваць. Або перапрацаваць яго ў строгай сыстэме раману, або ўспамінаў.*

*На маю думку, лепш яго перапрацаваць у форме ўспамінаў. Гэта, па-першае, шмат лягчэй, а па-другое, гэта шмат цанней для нас.*

*Матэрыял, які Вамі падаецца, самыя факты па сабе настолькі драматычныя, трагічныя, што яны самі сабой бунтуюць кроў у чытача. Але яны страцяць моц узьдзеяньня, калі яны (гэтыя факты) будуць прадстаўлены ў форме раману. Чытач тагды можа іх успрымаць як фантазію аўтара (бо ж у рамане дапускаецца й фантазія). Лепш таму, каб чытач ведаў, што гэта запраўды праўда, што факты ня выдуманыя. Што гэта ня нейкі раман. Апроч тога, што праца такая ў форме ўспамінаў дасягне большага эфэкту ўзьдзеяньня на чытача, будзе яна мець і большую вартасьць для гісторыка-дасьледчыка, бо ж толькі ўспаміны, мэмуары для дасьледчыка-гісторыка маюць вартасьць, раман ніколі.*

*Мая таму думка, калі Вы яшчэ добра адшліфуеце стыль у духу ўспамінаў, выкінеце нэрвовыя мясьціны перажываньняў аўтара, а галоўнае, лаянку й вульгарызмы, то праца Ваша в. шмат выйграе.*

*Ня думайце, што ўспаміны будуць менш чытацца публікай, як раман, ці гэта будзе мець меншую для нас літаратурную вартасьць.*

*Я чытаў калісь успаміны двух аўтараў: маршала Манэргайма й Чэрчыля. Абодва гэтыя ўспаміны напісаныя проста, але так праўдзіва й рэальна — што пачаўшы іх чытаць, проста ня можаш адарвацца, каб ня кончыць прынамся разьдзелу, а затым рвесься, каб нанава распачаць. І я перакананы, каб абодвыя гэныя працы былі напісаны ў форме раману, то ня толькі я, аж напэўна й фінляндцы ды англічане не праявілі да іх столькі цікавасьці.*

*Ваша вялікая заслуга, што Вы першы ўзяліся за незачэпленую яшчэ нікім з нашых пісьменьнікаў дзялянку, шмат над гэтым папрацавалі, не пашкадуйце яшчэ трохі часу й давядзеце ўсё гэта да канца салідна, спакойна, падавайце факты без нэрвовасьці, без лаянкі, пакіньце чытачу самому рабіць выснаўкі, і запэўніваю Вас, што тагды Ваша праца будзе мець для нас капітальнае значэньне, хай яна паявіцца й з запазьненьнем, але калі паявіцца, каб яна чыталася ня толькі беларусамі…*

*Выбачце мне за такія заўвагі. Я вельмі шкадую, што ня меў часу больш уважна і больш дэтальна затрымацца над некаторымі мейсцамі. Раіў бы Вам даць Вашу працу пераглядзець Др. Грышкевічу. Ён жа цяпер нічым не заняты й можа больш уважна пасьвяціцца Вам з дапамогай.*

*Прывітаньні Вашай сямейцы.*

*Ваш М. Абрамчык.*

*P.S. У Амэрыку я манюся, калі нешта надзвычайнае не перашкодзіць, пад’ехаць недзе каля Новага Году. Затрымаюся на нейкіх 5-6 месяцаў і, зразумела, пад’еду тагды й да вас у Канаду.*

## Ліст Уладзіміра Сядуры (Глыбіннага)

*23.05.1962 г.*

*Вельмі шаноўны сп. Акула!*

*Толькі што атрымаў ад Вас паасобнік Вашае кнгі «Змагарныя дарогі». За высылку шчыра дзякую. Я й сам ужо зьбіраўся заказаць у Вас гэтую кнігу. Перш за ўсё для падтрыманьня добрае ініцыятывы й адважнага чыну ахвяраваньня мазалём запрацаваных грошай на выданьне працы, на якую ў сваю чаргу была аддадзена вялізарная праца й шмат часу, адрыванага ад адпачынку й іншых патрэбаў. Ды й дзеля літаратурных і*



**Уладзімір Сядура-Глыбінны**

*гістарычна-дакумэнтальных каштоўнасьцяў кніга гэтая мусіцьбыцьнабытайкожнымсьведамым беларусам. Папярэдні прагляд кнігі пераканаў мяне, што Вы валодаеце немалымі літаратурнымі здольнасьцямі й можаце па-мастацку адлюстраваць рэчаіснасьць. Гэтаму сьведчаньнем — колькі сакавітых мастацкіх замалёвак, пераважна ў другой палове кнігі. Першая ж частка, асабліва напачатку, забагата перасыпана публіцыстычнымі разважаньнямі, якіх трэба пазьбягаць у мастацкім творы, бо мастак думае вобразамі, абразкамі жыцьця, канкрэтнымі перажываньнямі герояў, а публіцыстычны элемэнт перацягвае твор у бок навуковае або журналістычнае прозы. Кажу гэта, бо спадзяюся, што Вы будзеце працаваць і далей у мастацкай прозе й скарыстаеце з парады асьцерагацца прымешваць у мастацкую прозу элемэнт публіцыстыкі. Цісну руку й вітаю Вас з выдатнай удачай і асягненьнем.*

*Дарэчы, прашу Вас захаваць усе адрасы, паводле якіх Вы рассылалі Вашу кнігу беларусам у сьвеце. У будучым годзе я мяркую выдаваць свае апавяданьні. Тады буду прасіць у Вас гэтых адрасоў. Пры гэтым прыкладаю чэк на суму кошту Вашае кнігі. На вялікі жаль, тут у нас няма беларусаў, каб купілі Вашую кнігу.*

*З шчырай павагай Ваш Уладзімер Глыбінны.*

## Ліст Радаслава Астроўскага да Івана Касяка[363]

*8.10.1962 г.*
*Массільлён*

*Паважаны Іване Іванавічу,*

*Сёньня атрымаў «Змагарныя Дарогі» К. Акулы. Кніжка мае 583 бачыны, а Вы просіце даць Вам інфармацыю да 14 кастрычніка. Я цяпер якраз маю другую пільную працу, якую мушу выслаць у Лёндан, і таму за так кароткі час ніяк нельга даць рэцэнзію на гэтую кніжку ды падмацаваць яшчэ дакумэнтальнымі дадзенымі. Акром таго, сюды яшчэ не прыйшла частка майго архіву, якую я здаў на чыгунку перад выездам з Ст. Джозэф. Таму я збольшага толькі перагледзеў тыя разьдзелы кніжкі, якія трактуюць аб пэрсанажу БЦР і маёй асобе. Гэта перш-наперш аповесьць, і таму трудна палемізаваць з фантазіяй аўтара, які надае тым ці іншым асобам тэндэнцыйную ахварбоўку, выкарыстоўваючы сваю буйную фантазію. Зразумела, што кніжка напісана «скопам» нашымі «прыяцелямі», ад якіх цяжка вымагаць чэснага й праўдзівага падыходу да тых ці іншых пэрсонаў з варожага ім лягеру. Падаючы шмат праўдзівых здарэньняў, якія ўсім вядомыя, яны стараюцца такім парадкам надаць характар праўдзівасьці іхняй ілжы. Але ж гэта добра вядомы спосаб тых людзей, якія прымалі ўдзел у распрацоўцы гэтае кніжкі[364].*



*Радаслаў Астроўскі*

*Яны толькі настолькі зарапартаваліся ў сваім тэндэцыйным перакручваньні фактаў, што ў шмат мясцох пярэчаць*

---

[363] Летапіс беларускае эміграцыі. № 22. 1984. С. 21–22

[364] Кастусь Акула належаў да варожага Радаславу Астроўскаму асяродку — адноўленай Рады БНР.

*самі сабе. Каб, аднак, зарэгістраваць усе іх супярэчнасьці, кніжку трэба прачытаць усю і ўважна, вынатоўваючы тыя ці іншыя цьверджаньні. На гэта патрэбны, як я ўжо сказаў, час.*

*Цяпер абмяжуюся толькі некаторымі заўвагамі:*

*1. Палкоўніка Шувалава знайшоў у польскім лягеры ваеннапалонных ніхто іншы, як сам Езавітаў, і не таму, што гэта быў нейкі ягоны знаёмы ці прыяцель, а проста такога далі яму немцы. Магчыма, што ён ад немцаў меў нейкія спэцыфічныя заданьні. Шувалаў, аднак, ніколі ня быў кіраўніком вайсковых справаў БЦР, а прызначаны быў Езавітавым проста ў ягоны штаб. Я часткова разумеў Езавітава, які пэртракуючы зь немцамі, вычуваў адсутнасьць з нашага боку обэр-афіцэрскіх рангаў. Трудна было выслаць ці нават ісьці на канфэрэнцыю, у якой зь нямецкага боку прымалі ўдзел генэралы й палкоўнікі, з нейкім новасьпечаным лейтэнантам. Аказалася, што гэты Шувалаў перш-наперш п'яніца, а такжа з пару ягоных выхадак было відаць, што гэта чалавек, які можа быць сьвядома небясьпечны. Што змусіла аўтара даць такое насьвятленьне гісторыі з Шувалавым, я ня ведаю. Хіба толькі ўсё гэта выдумана для таго, каб абкідаць гразёю Астроўскага. Шувалаў ніякай ролі ў беларускім камандаваньні не адыграў, бо ён прыехаў у Гіршаў толькі ў пачатку красавіка (пазьней палкоўніка Кушаля, гл. бал. 374, перадапошні абзац).*

*Я выехаў з Бэрліну ў Гіршаў 23 сакавіка, у Бэрліне засталіся віцэ-прэз. Шкялёнак, ген. Езавітаў як кіраўнік вайсковага аддзелу БЦР, камандуючы БКА — падпалкоўнік Ф. Кушаль і Шувалаў. Кушаль, аднак, не паехаў у Фінстэрвальдэ й раіў ген. Езавітаву туды ня ехаць, а лепш ехаць у Амбэрг (гл. бал. 420). Вэрсія, што Езавітаў быў заменены Шувалавым, зусім ілжывая, і яна прыдумана выключна, каб ачарніць Астроўскага. Нідзе ў дакумэнтах нельга знайсьці майго загаду, каб Езавітаў быў звольнены з свайго становішча.*

*Зь Езавітавым істотна былі пэўныя няўвязкі, але гэта не з Астроўскім, а якраз з падпалк. Кушалем. Справа ў тым, што перш Езавітаў нічога не казаў мне, што яму яшчэ нябожчыца Рада Бел. Нар. Рэспублікі надала рангу генэрала, і даўжэйшы час ён сам падпісваўся «палкоўнік» (гл. ягоныя загады ў кніжцы І. Касяка «За дзярж. Незал. Беларусі», і толькі ў студзені 1945 г. ён мне прынёс дакумэнт Р. Б. Н. Р., якім яму надавалася ранга генэрала. Я, зразумела, тады з свайго боку пацьвердзў гэта. Маючы*

*рангу генэрала, ён хацеў сабе падпарадкаваць камандуючага Бел. Краёвай Абаронай, на што я не згадзіўся з наступных прычынаў: 1. Кушаль да апошняга часу быў кадравым афіцэрам у дзейнай польскай службе; 2. Кушаль з самага пачатку арганізоўваў БКА; 3. Кушаль выконваў свае абавязкі сумленна, і з майго боку адносна Кушаля не было ніякіх закідаў; 4. Езавітаў стаў генэралам такім самым, як цяпер ягоны прыяцель М. Дзямідаў.*

*У 1918 г. Езавітаў быў толькі прапаршчыкам расейскай арміі й атрымаў чын палкоўніка за ноч з 24 на 25 сакавіка як камандтант гор. Менску. У Менску так і жартавалі ў той час зь Езавітава: «Прапаршчык расейскай і палкоўнік беларускай службы». 25 год Езавітаў быў па-за вайсковаю службаю й таму для мяне Кушаль заўсёды быў большым аўтарытэтам у вайсковых справах, чымсь Езавітаў. Перад маім выездам у Гіршаў спрэчкі Езавітава з Кушалем былі вельмі частыя, і мне прыходзілася знаходзіць нейкі кампраміс, каб не дапусьціць да адкрытага скандалу. Аднак я заўсёды меў наўвеце мінулую працу Езавітава, і таму часта згаджаўся нават на тое, што па-моему было бязмэтным, але няшкодным. У Бэрліне так я, як і Ф. Кушаль, былі супраць раздуваньня штатаў вайсковага аддзелу БЦР, а Езавітаў лічыў гэта самым важным. Я ўступаў яму, бо ведаў, што нашыя дні наагул ужо палічаны, аднак гэтага я ніколі не адважыўся сказаць Езавітаву, тады як з Ф. Кушалем я гаварыў аб гэтым адкрыта.*

*Усё, што сталася пазьней зь Езавітавым, і ягоная паездка ў Фінстэрвальдэ, а так жа адмова на раду Др. М. Шчорса ехаць далей з Эльстэрвальдэ, гэта пляновая акцыя ягонага ад'ютанта Яневіча*[365] *(савецкага шпіёна) (гл. бал. 422 і 423). Ясна, аўтар і тут нават стараецца зрабіць за ўсё адказным Астроўскага, аслабляючы нават здрадніцкую працу савецкага шпіёна.*

*Выдумаўшы вэрсію аб звальненьні мною Езавітава з займанага становішча, аўтар далей падае, што Езавітаў у красавіку (15 красавіка) быў у Фінстэрвальдэ й Эльстэрвальдэ быў разам з сваім ад'ютантам, а значыцца, займаў становішча, пры якім быў паложаны ад'ютант. Ну, але так звычайна бывае, што хлусьня мае кароткія ногі.*

*Яшчэ адна пабочная заўвага адносна «гістарычнай праўдзівасьці» падаваных аўтарам кнігі і ўсімі ягонымі памагатымі*

---

[365] Памылка, насамрэч Юрэвіч.

*фактаў. На бал. 372 і 373 падаецца даволі праўдзівая біяграфія Ф. Кушаля, але аб пэрыядзе зь верасьня 1939 да верасьня 1941, г. зн. пэрыядзе, калі Ф. Кушаль быў у бальшавіцкім палоне, на Лубянцы, нічога не напісаў, хоць, як відаць з прадмовы, Ф. Кушаль дапамагаў яму й радаю, і інфармацыямі. Няўжо ж гэты пэрыяд такі непрыкметны, што нават сам Ф. Кушаль не заўважыў ягонага прабелу? Тым болей, што польскі генэрал Андэрс у сваёй кніжцы мімаходам успамінае, што да яго падсылалі нейкага капітана Кушаля ў тэй час, як гэты генэрал быў на Лубянцы.*

*На гэтым сёньня я й абмяжуюся, каб хоць гэтыя сьціплыя заўвагі Вы, Іване Іванавічу, маглі атрымаць яшчэ да 14 кастрычніка.*

*Шкада, што Вы пусьцілі рэзалюцыю зьезду ў першапачатковай рэдакцыі.*

*З пашанаю Р. Астроўскі.*

## Ліст а. Язэпа Германовіча

*17.11.1962 г.*
*Лёндан*

*Вельмі Паважаны і Дарагі Спадар,*

*Неспадзявана атрымаў ад Вас салідны й прыхільны мне ліст, за які дужа дзякую. Ахвотна прымаю Вашую прапанову помачы й адразу інфармую:*

*1. Ужо зьвярнуў друкарні апошнюю корэктуру й зараз абяцаюць пачаць друкаваньне. 2. Балонак будзе 294. 3. Нью-Ёрк прапанаваў цану $2.50: буду аб гэтым думаць. 4. Калі падасьцё ў украінскую прэсу абвестку, скажу Вам Вялікі Дзякуй! Бачу, што Вы вельмі прыязна спаткалі маю просьбу: спадзяюся, што «Ўспаміны» ня будуць пустым званком*[366]*. Я ўжо шмат перажыў, шмат дзе перабываў і надта мне памагла візыта ў Амэрыцы. Можа, гэта парадокс, але я бяз рэшты пазнаў камуну толькі ў Амэрыцы — камуну савецкую. Шкадую, што ня змог даехаць да Канады! І «Ўспаміны» канчаў у Амэрыцы.*

[366] Ідзецца пра кнігу Язэпа Германовіча «Кітай — Сібір — Масква. Успаміны» (Мюнхен, 1962).

*Аб далейшай працы магу сказаць, што фактычна маю скончаную квазіпаэму. Як яе ўдасцца выдаць, баюся сказаць. Каб жа гэта я мог асабіста з Вамі ператрэсьці цэласьць — вось была б мне радасьць вялікая! Я ў Чыкага чытаў яе ў малым кружочку й дастаў водзывы досыць добрыя, а крытыка мне вельмі прыдалася. Пасьля таго, паводле свайго меркаваньня, выпраўляў. Наагул, крытыкі не абмінаю, тым больш перад друкам…*

*А Вашую дастойную Кнігу-Біблію я вычытаў да апошняй літаркі зь цікавасьцяй і карысьцяй. Вось гэта прынамсі КНІГА! Значыць, разьмер вонкава імпануючы й постаць салідная. А зьмест? (Тут якраз іду на набажэнства: памалюся, каб у крытыцы не напутаць)… Без сумніву кніга цэнная, карысная на цяпер і на прышласьць: напісана зь вялікім талентам і артызмам, тут і зязюлька, і салавей, і перадусім наш жаваранак. Мова нашая, сакавітая й багатая. Повесьць дае масу матэрыялу гістарычнага. Бачыцца страшэнная трагедыя людзей і цэлага народу, калі ніякая мудрасьць не паказвала выйсьця, а толькі сьляпы выпадак, ці лепш сказаць — дапушчэньне Божае. Аўтар не згушчае хварбаў, а як кранікар натуе, рэгіструе факты й здарэньні, а з усяго матэрыялу проста ня можа агарнуць усяго бязьмежнага катаклізму: згэтуль, здаецца, вынікае некаторае завіхрэньне, няўвязка, дыспрапорцыя, пераскокі й інш. труднасьці. Разумею, што тры гады для такой кнігі досыць мала часу, тым больш, што аўтар заняты працай пабочнай, зь якой жыве зь немалой сям'ёю.*

*Характэрна што розныя пісьменьнікі па-рознаму паходзяць да сваёй працы: Чэхаў пісаў, а пасьля 5 разоў чытаў і шукаў, каб штосьці выкрасьліць. А Крашэўскі адразу дыктаваў некалькім сакратаром некалькі повесьцяў. Гогаль спаліў гатовую кнігу — не спадабалася самому, а ўжо лепшай не пасьпеў напісаць і т. д. А я маю нейкі нерассудны нахіл папраўляць і дапісваць, а вось выкрэсьліваць ня вельмі ахвотнік! Адносна Вас — кажуць людзі, што кніга завялікая, асабліва на цяперашні, пасьпешны тэмп, асабліва ў Амэрыцы… Я сам меркаваў, што лепш было б абмінуць, і — прызнаюся — не знайшоў гэтага. Можа, таму, што я — чалавек таго веку? (аднагодка з Вамі, толькі пераставіць 3 і 7)*[367].

[367] На момант напісання ліста Кастусь Акула меў 37 гадоў, Язэпу Германовічу ішоў 73-і.

*Дзіўлюся, што Вы ўзяліся пісаць у чужой мове*[368]*. Я ўжо як ведаю расейскую й польскую, а не наважыўся б пісаць повесьць. Бо што значыць ведаць чужую мову? Гэта ня значыць знаць вуліцы, але й завулачкі, і сьцяжынкі. Вось я думаў: хто перакладаў бы маю кніжку, як мне радзяць, на гішпанскую... Колькі трэба колераў і адценьняў. Трэба з гэтым народам перажыць усё жыцьцё, каб перазнаць усе выгібы ягоных думак і высказаў. Пушкін пробаваў пісаць па-францыску, і паэзія выйшла няважная, а ён жа зь дзіцячых гадоў балакаў... Выбачайце за шчырасьць і за сьпешныя высказы. Затое, думаю, што не спужаецеся крытыкаваць мяне безь ніякай перашкоды. Убачыце з маіх «Успамінаў», які я быў прычэпа й як сам з гэтага цярпеў: толькі Бог нейк незаслужана мяне захаваў ад згубы, калі іншыя разважныя й мудрыя пагінулі.*

*Бывайце здаровы! Жадаю Вам узгадаваць дзяцей на пацеху сабе, Богу і Бацькаўшчыне. Дзякую!*

*Ваш з усяго сэрца а. Германовіч.*

## Ліст Яна Пятроўскага

*12.04.1963 г.*

*Яго Міласьці Паважанаму Гаспадару К. Акуле ў Таронта, Канада.*

*Дарагі Браце Акула,*

*Прачытаўшы «Змагарныя дарогі» й атрымаўшы агульны вобраз таго, аб чым Вы гаворыце ў гэтым творы, я яшчэ раз у сьвятле прачытанага чытаў «Дадатак», зьмешчаны ў «Беларускай думцы» (№ 4). У міжчасе надыйшла «Бацькаўшчына» з Вашым артыкулам «Пасьля першых адгалоскаў». Пасьля гэтага я яшчэ раз вярнуўся да таго, што я сам коратка пісаў аб надыходзе кніжкі напрыканцы 1962 г. у «Сьветачы Хрыстовае навукі» й яшчэ раз стаўлю сабе пытаньне:*

*Што рабіў беларускі народ у часе Другое сусьветнае вайны?*

*Я думаю, што ёсьць у пэўным сэнсе лягічнае апраўданьне, калі чытач хоча знайсьці адказ на гэтае пытаньне на бачынах «Змагарных дарогаў».*

[368] Напісаная Кастусём Акулам англамоўная аповесць згадваецца ім ніжэй у лістах да Віктара Чабатарэвіча.

*Адна зь цяжкіх задачаў і ня толькі пісаньня кнігі, але выдаваньня апініі адносна розных праяваў штодзённага жыцьця, тварэньня арганізацыяў і выпісваньня ідэалягічных лёзунгаў для іх, тварэньне нейкае праграмы, дабору адпаведных людзей, нармаваньня нашых суадносінаў да гэтак званых прыяцеляў і ворагаў і г. д. і г. п. — выяўляецца тады, калі ня чыніцца сэлекцыі паміж тым, што зьяўляецца тымчасовым, мімаходным і падыктаваным дадзенаю хвілінаю часу ці акцыі, а тым, што зьяўляецца сталым і надае характар нашым чынам, нашаму плянаваньню й тым, што прыйдуць пасьля нас.*

*Кніга такіх памераў, як Вашая, уносіцца ў агульналюдзкую скарбніцу, і ў беларускую ў прыватнасьці раз і назаўсёды. З тае пары, як кніга выйшла з-пад прэсу, яна перастала быць ужо Вашаю ўласнасьцю, яна сталася ўласнасьцю нас усіх. Я пішу аб гэтым з замерам увыпукленьня тае вялікае адказнасьці, якую Вы ўспрынялі разам з гонарам, пішучы кнігу й працуючы над ёю. Няма гонару без адказнасьці.*

*Кожны чалавек, як гэткі, зьяўляецца толькі чалавекам. Раз ён бывае «добры», іншы раз ён стаецца «нядобры». Хто зь людзей можа збадаць і зглыбіць усе тыя матывы, якімі чалавек кіруецца? Хто можа прааналізаваць усе варыянты падзеяў гэтае страшнае мінулае вайны, якія ў той ці іншай меры ўплывалі на нас і на іншых?*

*У гэткім сьвятле ацэны чалавека, чытаючы «Змагарныя дарогі», я астаюся пад уражаньнем, што Вы моцна пакрыўдзілі гасп. Астроўскага. Першы раз з Астроўскім я спатыкаўся ў 1924 г. (?), калі чыніў стараньні, каб паступіць у Віленскую беларускую гімназію. Астроўскі быў тады дырэктарам. З маіх стараньняў нічога ня выйшла. У сярэдзіне трыццатых гадоў, прыяжджаючы часта ў Вільню, тамтэйшыя мэтадысты скаржыліся перада мною, што Астроўскі чыніць ім нейкія труднасьці. Астроўскі быў праваслаўным, і яму прыслугоўвала права бараніцца перад уплывамі кожнага іншага напрамку філязофіі. У гэтым нічога няма ані дзіўнага, ані дрэннага. — Здаецца, увосені 1944 г. я спатыкаўся зь ім у Бэрліне з нагоды нейкае ўрачыстасьці ў доме, які займала Цэнтральная Рада. — Зараз пасьля адбыцьця Другога Беларускага кангрэсу ў Менску, у Бэрліне я меў нагоду прыватна праслухаць з тасьмы награную ягоную прамову, сказаную ім на гэтым*

*Кангрэсе. Я быў зьдзіўлены тым адважным і сьмелым тонам гэтае прамовы й перадусім наколькі яна была скрозь беларускай сваім зьместам.*

*1 верасьня 1939 г. шматлікія народы пасьрэдня ці беспасьрэдня былі ўцягнутыя ў вайну. І як рэгула, усе яны ўвайшлі ў гэтую вайну з рознымі, ці толькі своымі, мэтамі. Беларускі народ гэтаксама быў уцягнуты ў вір падзеяў. Якія ж мэты меў беларускі народ? — У першую чаргу — гэта адзысканьне незалежнасьці палітычнае. Другое — гэта панесьці як найменей ахвяраў, асабліва пасьля таго, як ужо відно было, што вайна замянілася ў нейкую масакру людзей без разбору.*

*Я ня ведаю, колькі Вам было гадоў і дзе Вы былі ў часе вайны, але рэчаю ёсьць агульнавядомаю, што абставіны палітычныя ў краю для палітычнага беларускага дзеяча былі асабліва труднымі. Немцы, палякі, расейцы, а магчыма, тут і там і свае людзі тварылі сабою суцэльную сетку інтрыгаў і сьмяротнае небясьпекі. Хто ў такіх абставінах мог быць разумным, Астроўскі, Вы, я ці хто-небудзь іншы з нас? Ведаеце Вы такога чалавека? Астроўскі ня быў цудадзеем. Астроўскі быў і ёсьць толькі чалавекам. Уся вартасьць і заслуга ягоная, што ён прыняў на сябе яшчэ неспатыканую ў нашым руху вызвольным адказнасьць. У гэтым ягоная заслуга. Сягоньня на эміграцыі ёсьць нашыя людзі, якія ў часе вялікае адказнасьці сядзелі недзе ціхачом, ратуючы ўласнае жыцьцё і ўхіляючыся ад усялякае адказнасьці, зараз пасьля вайны, адчуўшы скуль вецер дзьмухае, пачалі гарлапаніць пра нейкую дэмакрацыю, аб тым, што яны цярпелі ў капэтах нямецкіх, кланяцца ў бок усіх сталінаў г. зв. дэмакратычных краінаў, ну й, натуральна, пры гэтай нагодзе ачарняць усіх тых, каторыя фактычна нешта рабілі ў цяжкім часе, прынялі на сябе адказнасьць, але не маглі бараніцца, бо зараз пасьля заканчэньня ваенных дзеяў усе дэмакратычныя дабрадзеі (і чорт іх ведае, скуль іх толькі паназьбіралася ў Эўропу) заняліся аблаваю беларускае «ведзьмы».*

*Абрамчык зьяўляецца самая звычайная беларуская асоба. У разрэзе гістарычным — гэта прыпадковы чалавек. У Бэрліне я быў зь ім, пачынаючы ад 1941 г. (восень) да часу, пакуль немцы не знайшлі фінансавыя надужыцьці ў Беларускім камітэце самапомачы ў Бэрліне й выкінулі яго за гэта зь Нямеччыны. Ворагам палітычным немцаў ён ня быў і затым яны яго выпусьцілі*

*жывым. Валя й Раіса*[369] *могуць шмат Вам аб гэтым расказаць. Яны ў Бэрліне працавалі ў гэтым камітэце бадай што кажны вечар і яны ведаюць, у якім стане былі кнігі касовыя. У тым часе ў Нямеччыне была маса беларусаў, і ў камітэт надыходзілі вялікія сумы грошай кажнага дня. Інжынер Калоша*[370]*, які часта адведваў Чэскую Прагу, бачыўся з Захаркам і паэтэсаю Генюш і які быў даўжэйшы час маім найбліжэйшым сябрам, апавядаў мне ўсю гісторыю, зьвязаную з г. зв. тэстамантам. Гэта адна вялікая камэдыя. Я дзіўлюся толькі, што гэтая камэдыя знайшла гэтак сур'ёзную падтрымку ў вачох людзей, якія маюць прэтэнзію быць інтэлігентнымі. Праўда, езуіты заўсёды выкарыстоўвалі для сваіх мэтаў усё, і рэчы, і людзей, але гэта нічога ня мае супольнага з падзеямі беларускага народу.*

*Апавяданьне зь Езавітавым не гучыць пераконваюча. Ужо на пачатку 1945 г. у брамах бэрлінскіх дамоў я сам бачыў паўстаўляныя гарматы. У лютым месяцы нямецкія ўлады адмовіліся выдаць мне дазвол на выезд зь места, кажучы, што мужчыны мусяць застацца ў месьце й бараніць перад бальшавікамі. Генэрала Езавітава я раз спаткаў у Бэрліне, і ён рабіў на мяне добрае ўражаньне. Мне толькі незразумелым выдаецца, чаму ён, будучы генэралам у гэтак позным часе (здаецца, красавік) паехаў на апэрацыю ў напрамку ўсходнім. Гэта была трагічная памылка зь яго ўласнае прычыны.*

---

[369] Маюцца на ўвазе сёстры Валянціна Пашкевіч і Раіса Жук-Грышкевіч. **Валянціна Пашкевіч** (дзяв. **Жукоўская**; 05.02.1916, Казельск (сёння Калужская вобл., Расія) — 25.03.2004, Таронта, Канада). Скончыла польскую гімназію імя Адама Міцкевіча ў Пружанах (1935), вучылася ў Віленскім універсітэце. Падчас Другой сусветнай вайны жыла ў Берліне, працавала ў перакладчыцкім бюро «Вінета». Па капітуляцыі Нямеччыны апынулася ў Ватэнштэце (Ніжняя Саксонія), апекавалася беларускім скаўтынгам. У ліпені 1949 г. пераехала ў Таронта. Брала актыўны ўдзел у беларускім грамадскім жыцці, арганізавала танцавальны гурток. Кіравала беларускай суботняй школкай пры Царкве Св. Ефрасінні Полацкай. Выдала «Першую чытанку пасля лемантара для беларускіх дапаўняльных школаў» (Кліўленд, 1968), англамоўны падручнік «Беларуская мова — *Fundamental Byelorussia*» (1974, 1978). Падрыхтавала «Англійска-беларускі слоўнік» (30 тыс. словаў і формаў), які выйшаў улетку 2006 г. у Мінску.

[370] Маецца на ўвазе Аляксандр Калоша.

*Калі мы займем адмоўную пазыцыю адносна старшыні Цэнтральнае Рады і іншых установаў, зьвязаных з тагачаснымі падзеямі, дык чым мы запоўнім пустэчу, якая вытвараецца? Хіба тым, што ўжо Масква прыгатавала для нас. Ці Вы спасьцерагаеце небясьпеку для беларускае гісторыі, якая тут вытвараецца? Нам нічога больш не астаецца, як прызнаць важным дзейнасьць Беларускае Цэнтральнае Рады, усіх яе працаўнікоў, усе яе й паралельныя ўстановы, Другі Ўсебеларускі кангрэс, усё гэта распрацаваць, выдаць якоюсьці вялікаю белаю кнігаю й пераказаць усё гэта тым нашым пакаленьням, якія прыйдуць пасьля нас. Яны будуць гэтае змаганьне працягваць далей.*

*Калі Вы не падзяляеце гэтага, скажэце, дзе памылка знаходзіцца, і я буду ўдзячны Вам за гэта.*

*Я думаю, што Вашыя суадносіны да нашых суседзяў зьяўляюцца правільнымі. Ужо найвышэйшая пара, каб назваць рэчы й людзей іх уласным імем. Што да гэтак званых братоў украінцаў, дык я баюся, што ў будучыні могуць аказацца яшчэ большымі ворагамі, чымся палякі.*

*Вашая пазыцыя адносна нямецкага народу (не рэжыму) характэрная для нас. Сьведама ці нясьведама, мы заўсёды нясем у той ці іншай меры погляд на гэтую рэч нашых суседзяў. У сучаснай палітычнай канглямэрацыі нямецкі народ астаецца нашым саюзьнікам і гэта будзе гэтак доўга трываць, як доўга будзе падтрымлівацца антаганізм паміж Бэрлінам і Масквою й паміж Варшаваю ды Бэрлінам. У гэтым дачыненьні кніга няшмат уносіць пазытыўнага.*

*Прымеце мае найлепшыя пажаданьні з прычыны надыходзячых сьвят Вялікадня.*

*Ваш Ян Пятроўскі.*

## Ліст Уладзіміра Шыманца

*3.09.1963 г.*

*Дарагі Спадар Акула!*

*Ліст Ваш атрымаў ужо даўнавата, але адпісваю Вам толькі сёньня. Чаму? Пастараюся на гэта коратка адказаць. Справа ў тым, што ў мяне літаратура наплывае хутчэй, чым я магу яе прачытаць. За гэтым у мяне ствараецца горка, усё вышэйшая й вышэйшая. Прачытваю што найважнейшае, а*

*менш пільнае астаецца надалей, і часамі нават так ляжыць надта доўга. Вядома! Чатырнаццаць гадзін на пору па-за дому ў пошуках, з чаго жыць. Субота й нядзеля толькі для мяне, і то не для мяне, а для пісаньня. Так сталася й з Вашай кнігай. Прынёс мне яе вясной гэтага году Кавалеўскі*[371]*, сакратар АБРФ*[372]*, у трох экзэмплярах. Я схапіўся за яе й таго ж вечара прачытаў «Уводную часьць». Прызнаюся, вялікага ўражаньня на мяне яна не зрабіла. Справа ўнятая досыць банальна. Я кнігу адлажыў і чакаў нагоды, каб яе прачытаць. Ваш ліст мне аб ёй прыпомніў. Але і ў гэтым выпадку меў перашкоду. Былі ў мяне на вакансах госьці, і цэлы месяц я мусіў за імі хадзіць. Цяперачы з трыюмфам магу Вас паведаміць, што ўрэшце кнігу прачытаў.*

*Наагул, Вашая кніга становіць эпоху ў нашай літаратуры за мяжой, бо Вы, выдаючы яе, скалыхнулі мярцьвіню, што ў гэтай галіне пануе.*

*Я яе чытаў зь цікавасьцю, і калі дазволіце, падам Вам каротка свае ўражаньні. Наагул, кніга напісаная вельмі цікава. Ёсьць шмат абразоў вымоўных і ўзрушаючых. Асабліва цікавая апошняя частка, якая гаворыць аб Італіі. Крыху замала драматычна выйшла першая частка. І наагул, я думаю, што трэба было больш выразна выпукліць драматычнасьць перажываньня, зьдзекі, падзеі. Бо чытачу можа выдавацца, што тое і ў такім выглядзе, як гэта Вы апісалі, ёсьць нармальным для ва-*

---

371 Маецца на ўвазе **Аўген Кавалеўскі** (07.01.1921, Масква, Расія — 1963, Парыж, Францыя). Скончыў сярэднюю школу № 45 г. Мінску. Пазней вучыўся ў школе пры беларускім Дзяржаўным драматычным тэатры. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Жыў у лагерах *DP* у Рэгенсбургу, Міхельсдорфе, Остэргофене. Арганізаваў з прафесійных актораў на эміграцыі ансамбаль песні і танца «Жыве Беларусь!», пазнейператвораны ў Тэатр эстрады, які ездзіў з гастролямі па розных лагерах. У 1947 г. у Міхельсдорфе выдаў адмысловы «Кароткі курс навучання акцёра». Пісаў таксама апавяданні, фельетоны і п’есы, якія публікаваліся на старонках эміграцыйных перыёдыкаў, а таксама выходзілі асобнымі выданнямі. У 1949 г. перабраўся ў Францыю, дзе быў вымушаны працаваць у парыжскай кравецкай майстэрні. Быў сябрам Аб’яднання беларускіх работнікаў у Францыі (АБРФ), а таксама сакратаром і кіраўніком аддзела культуры Галоўнай управы Беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі ў Францыі.

372 АБРФ — Аб’яднанне беларускіх работнікаў у Францыі.

*еннага часу й не выклікае ніякага спачуваньня да герояў, гэта пержываючых, тым больш, што гэтыя героі не вызначаліся асаблівымі актамі адвагі ці бравуры, чаго звычайна чытач можа спадзявацца ад ваеннай аповесьці. Шмат ляпей выйшлі пэрсанажы польскага каманднага складу (а паколькі яны фігуруюць пад праўдзівымі прозьвішчамі, думаю, могуць Вам прыспорыць клопатаў). Але пранікненьне ў гісторыю выйшла ў Вас дрэннавата. Па-першае, ёсьць памылкі. Першае. Дата прыезду БЦР у Бэрлін з Кэнігсбэргу ёсьць запозьняя. 27 і 29 жніўня гэты горад быў бамбардыраваны амэрыкнцамі й быў дакладна зьнішчаны, асабліва тыя кварталы, дзе знаходзілася Рада. Рады тады ўжо не было.*

*Другое. Януш Радзівіл і ягоны брат Багуслаў жылі й дзейнічалі не каля 1709 г., значыцца, у пару Карла XII швэдзкага і Пятра Першага, а ў палове XVII стагодзьдзя, гэта значыцца падчас казацкіх войнаў Багдана Хмяльніцкага й падчас першага Швэдзкага патопу. Дакладна акт залежнасьці Януша Радзівіла ад швэдаў быў падпісаны вясной 1645 г., і ў гэтым жа годзе Радзівіл памёр.*

*Наагул род Радзівілаў, аб гісторыю якога Вы зачапілі, таксама меў свае пазытыўныя моманты. Прыкладам, беспасярэдне перад рэвалюцыяй і ў 1918 г. княжна Матыльда Радзівілічыха*[373] *закладала беларускія школы і фінансавала нават беларускі батальён на Случчыне, што мне вядома з расказаў пакойнага Юстына Мурашкі*[374] *й што падцьвердзіў Міхал К. Паўлюкоўскі ў сваім апавяданьні «Дзяцінства й моладасьць Тадэвуша Іртынскага». Пасьля таго Вы ўспамінаеце візыту караля Станіслава Панятоўскага ў Нясьвіжы ў 1784 г. і тлумачыце яе як доказ палянафільства Радзівілаў. Гэта таксама ня сьцісла, бо ж князь Радзівіл Пане Каханку быў заўзятым*

---

[373] Відаць, маецца на ўвазе **Магдалена Радзівіл** (дзяв. Завіша, у першым шлюбе Красінская, 1861 — 06.01.1945, Швейцарыя), дзяячка беларускага нацыянальнага руху, мецэнатка.

[374] **Юстын Мурашка** (? в. Маркаўцы, Вішнеўская воласць — 30.02.1952, Канада). Да 1917 г. удзельнік беларускіх арганізацый у Петраградзе. Пазней Сябра Беларускай вайсковай камісіі. Жыў у Заходняй Беларусі. У 1928 г. балатаваўся ў польскі сойм. У лістападзе 1941 г. прызначаны бургамістрам Ашмянаў. Пазней быў бургамістрам у Валожыне. Арыштоўваўся нямецкімі ўладамі. Ад 1944 г. жыў на эміграцыі. Нейкі час быў у Вялікабрытаніі, адкуль з’ехаў у Канаду.

*патрыётам Рэчы Паспалітай, а не польскім, і нават быў вельмі варожым да Караняжы. Ён першы супрацівіўся збройна Кацярыне й за гэта мусіў уцякаць на Балканы. Ён быў нагэтулькі сільны, што мог лепей прэтэндаваць на трон Рэчы Паспалітай, чым Станіслаў Аўгуст; але ягоныя антыпатыі да палякаў яму перашкодзілі ды Панятоўскі быў стаўленьнікам Кацярыны. Гэта Вы можаце знайсьці ў кнізе «Памяткі Сапліцы» Генрыка Ржэвускага.*

*Гісторыя Беларусі ад самага яе зараньня аж па нашую пару ёсьць нагэтулькі багатай і скамплікаванай, а таксама гэтак сфальшаванай як чужымі з абодвух бакоў, так і нашымі бяскрытычнымі стыпайкамі, што ня варта ў яе без глыбокіх студыяў заглыбляцца, бо можна папасьці ў блуд паўтараньня маскоўскай прапаганды, калі ходзіць аб Рэчы Паспалітай і зносіны з Захадам наагул, а таксама лёгка паддацца тэндэнцыйнасьці, калі ходзіць аб праваслаўі або ролі калішніх Княстваў на Ўсходзе. Таксама Вам няўдала выйшлі разьдзелы, якія кранаюць найноўшую гісторыю. Закранаючы падзеі ў Бэрліне, Вы робіце з Вашай працы ўнівэрсальную аповесьць, тым часам гэтыя два шляхі не былі адзінымі. Ёсьць тысячы паралеяў, цікавых і драматычных і ня менш змагарных, чым шлях менскіх кадэтаў. Паліцэйскія ня ўсе таксама былі лайдакамі, як Вы іх прадстаўляеце, хоць без сумліву можна сказаць, што сярод іх было нямала шумяці.*

*Наагул, аднак, Вы выказалі цімала цэнных спасьцярогаў. Я таксама прайшоў ня менш змагарную эпапею. Вы, пэўна, аб ёй чулі з падзеяў у Даніі. Але я ня меў часу яе дагэтуль запісаць. Я меў тыя ж самыя спасьцярогі, што й Вы, і калі Вы іх ужо выказалі, мне нялоўка будзе іх паўтараць. Але я з гэтага раблю выснаву, што мае спасьцярогі былі слушныя, бо знайшлі сваё падцьверджаньне. Гэта мяне падбадзёрвае ўзяцца за пяро, каб зафіксаваць гэтыя перажываньні. Яны ня маюць вайсковага характару, але тым ня менш цікавыя. Я шукаю хвормы, у якую лепш было б гэта ўсё зьмясьціць.*

*Што да мовы, то лічу, што яна вельмі добрая. […]*

*З глыбокай пашанай да Вас Ул. Шыманец.*

## Ліставанне Кастуся Акулы і Віктара Чабатарэвіча

*Нью-Ёрк, 14 сьнежня 1962 г.*

*Вельмі Паважаны Спадару Акула!*

*Неяк прыпадкова я даведаўся аб выхадзе ў сьвет вашае аповесьці «Змагарныя дарогі». Зараз жа купіў і стаў чытаць. Зь вялікай прыемнасьцю прачытаў Вашу кнігу й пастанавіў напісаць да Вас ліст. Выбачайце за дакуку.*

*Тэма твору выбрана вельмі ўдачліва й яна даўно ўжо чакала свайго аўтара. Шчасьлівым трафам гэтая тэма знайшлася пад пяром чалавека, які сам перажыў апошнюю вайну й браў удзел у заканчэньні яе зь беларускім штандарам у сэрцы. Я дзіўлюся, як можна было запомніць столькі перажытага, каб падаць дэталі паасобных выдарэньняў у такім ліку, які складае амаль што 600 бачын друкаванага слова. Чытаў я й дзівіўся, як можна так падрабязна перадаць тое, што шмат хто з нас ужо забыўся. Гэта можа зрабіць толькі сапраўдны мастак, таленавіты беларускі пісьменьнік.*

*Чытаючы Вашу аповесьць да канца, я часта затрымоўваўся й стаў успамінаць сваё жыцьцё, гады сваёй маладосьці, адукацыі, гады польскае афіцэрскае школы, часы свайго настаўніцтва, вайсковае службы, падзеяў апошняе вайны і ўласнага ў ёй удзелу. Супастаўляючы ўласныя перажываньні ў беларускай працы з героем Вашай аповесьці, Сымонам, часамі мне хацелася паціснуць руку гэтага геройскага юнака. Супольным перажываньням, хоць яны й адбываліся ў розным часе й абставінах, здаецца, не было б канца, і мне здаецца, каб я ўмеў пісаць, то нашы аповесьці былі б падобнымі або дапаўнялі адна другую, хоць шмат дзе погляды на беларускую дзейнасьць былі б рознымі й аналіза фактаў была б іншай. Бо я думаю, што кожная выдадзеная беларуская кніжка мае надзвычайна вялікае значэньне як для цяперашняга, так і будучага беларускага пакаленьня. Яна становіцца вялікай часткай тае працы, якая вядзе да змаганьня за незалежную Беларусь, а аўтар яе становіцца гістарычнай асобай і тым, хто натхняе да гэтага змаганьня. Таму аўтар, пішучы сваю працу, павінен браць у аснову толькі праўдзівыя й сапраўды вартасныя факты. Дазвольце мне, што я выкажу перад Вамі некалькі думак, якія зьявіліся ў мяне пасьля першага прачытаньня Вашае аповесьці й якія не*

*даюць мне пакою. Гэта адносіцца да некаторых праблемаў, фактаў, асобаў і да мяне асабіста.*

*У мяне злажылася ўражаньне, што «Змагарныя дарогі» пад поглядам пісаньня трэба было падзяліць на дзьве часткі: першая — гэта ўсё тое, што аўтар перажыў сам і ў чым браў непасрэдны ўдзел; другая — гэта тое, чаго аўтар ня бачыў, не перажываў, а пісаў на аснове сабраных фактаў і інфармацыяў. Я ня буду ўваходзіць у дэталі абедзьвюх частак. Хачу выказаць толькі агульны погляд.*

*У першай частцы аўтар выліваў на паперу сваю першую думку. Гэтая думка льецца чысьценькай струёю, прыгожа, паэтычна, з пачуцьцём рэальнасьці. Тут аўтар праяўляе глыбокае разуменьне законаў прыроды й чалавечага жыцьця, узносіць яго на форум людзкое справядлівасьці, імя якой будзіцца ў чытача пачуцьцё змаганьня за беларускую справу як лягічны выснаў з усіх перажытых аўтарам і былых кандыдатаў афіцэрскае школы фактаў. Падмацоўваецца яно трагічным палажэньнем беларускага народу на бацькаўшчыне. Тут, у гэтай частцы, аўтар зьяўляецца сам сабою, піша тое, што адчувае свабодна, безь ніякае фальшывае ноткі ў музыцы слоў аб беларускай трагедыі. Сказаў бы я, тут аўтар зьяўляецца адбіткай таго пісьменьніцкага дару, якім яго ўзнагародзіла неба. Ён мастак, волат і змагар за беларускае. Я. Сымон — гэта беларус чыстае вады, адважны й сьмелы, выклікае сваімі паводзінамі здаровае нацыянальнае пачуцьцё. Тут гаворыць паэт, мастак, пісьменьнік, змагар. Прыемна чытаць такую літаратуру беларусу, а яшчэ прыямней былому беларускаму жаўнеру. І тутака я аддаю чэсьць беларускаму пісьменьніку.*

*У другой жа частцы, якую я ахарактарызаваў раней, якая ня йдзе ў парадку храналагічным і якая хутчэй зьяўляецца прадметам публіцыстыкі, адчуваецца падтасоўка фактаў з партыйнага боку гледжаньня. Гэта, безумоўна, Ваша права. Але з другога боку, мне здаецца, што пісьменьнік павінен быць аб'ектыўным. Гэтага вымагае справядлівасьць. Я ня стаўлюся да Вашага твору з адмоўнага боку гледзішча. Наадварот, ён мне вельмі падабаецца. Я не зьбіраюся таксама рабіць літаратурнай крытыкі, бо на гэта ня маю ніякіх асьпірацый. Я хачу выразіць свае шчырыя думкі звычайнага чытача. Для мяне зьяўляецца зусім незразумелым, чаму Вы спалучылі публіцыстыку з мастацкімі ўспамінамі. Твор атрымаўся пе-*

*раладаваным, а ў публіцыстычнай частцы вымагаецца карэкта фактаў. Відаць, тыя інфармацыі, якія Вы мелі, зьяўляліся недастатковымі. Таму факты выйшлі альбо распачатымі й незакончанымі, альбо наступіла раздробленасьць у бок партыйнасьці. Часамі Вы ўскінулі на сябе пракурорскую тогу й выступілі зь няверным абвінавачваньнем дзеючых асобаў. Ня ведаю, ці такі падыход да нашае гісторыі ў цяперашняй нашай літаратуры зьяўляецца апраўданым наагул. У паваенны час мы мелі так многа ўсялякіх пісакаў пашквілістых, што аж вушы вянуць. Гэтымі пашквілямі наробленa шмат шкоды беларускай справе на чужыне й беларускаму народу наагул. Бальшавіцкія міхайлаўцы*[375] *па сягоньняшні дзень карыстаюцца гэтымі матэрыяламі для сваёй брахні. На аснове гэтага пашквілярства амэрыканскі прафэсар калумбійскага ўнівэрсытэту, Вакар, у сваёй кніжцы аб Беларусі*[376] *абвінавацiў увесь беларускі народ у праступніцтве й адсутнічаньні нацыянальных ідэяў наагул. Мы маем і іншых ворагаў. Але я ня тое хацеў сказаць.*

*Мне здаецца, ня трэба было б уключаць публіцыстыкі ў мастацкую частку. Гэта ўзмоцніла б вартасьць цэлага твору. Такія тэмы, як беларуская паліцыя, адміністрацыя, школьніцтва, царква, БНЦ, Самаахова, БКА, БЦР і іншае зьяўляюцца тэмамі, якія вымагаюць асобнай апрацоўкі. Таксама вымагаюць дакладнейшай апрацоўкі біяграфіі дзеючых асобаў. Кожная з гэтых тэмаў можа стацца асобнай кніжкай, апошняя бачына якой даўно ўжо закрыта. Атрымоўваецца ўражаньне, што Вы падбіралі факты насьпешку. Беларуская праца ў часе вайны на бацькаўшчыне і ў Нямеччыне вымагае асаблівых і даўжэйшых студыяў. Гэта праца не аднаго чалавека. На маю думку, сягоньня ўжо можна было б арганізаваць спэцыяльны беларускі інстытут для дасьледаваньня й ацэнкі нашае працы на фоне тагдышніх падзеяў і нашага нацыянальнага ідэалу — Незалежнасьці Беларусі.*

*Цяпер прадстаўлю некалькі няверна аддадзеных Вамі фактаў.*

---

[375] Маецца на ўвазе генерал Міхайлаў, пад кіраўніцтвам якога выходзіла газета «За вяртанне на Радзіму».

[376] Vakar, N. Belorussia: The Making of a Nation: Case Study. Cambridge: Harvard University Press, 1956.

*Сьмерць ст. лейтэнанта Мазура.*

*Старшы лейтэнант Мазур загінуў ня так сабе проста, што паклікалі нібыта ехаць на нейкі курс і адтуль ён больш не вярнуўся, яго пахлынулі сьцены СД. Так яно сапраўды было. Але чаму ён загінуў — важныя матывы. Мазур загінуў як герой за абарону беларускага насельніцтва. Немцы далі Мазуру загад зьнішчыць кулямётным агнём беларускую вёску каля Менску, спаліць яе жыўцом зь непавінным насельніцтвам, старымі, дзяцьмі й жанчынамі. Мазур адмовіўся. За гэта ён паплаціўся сваім жыцьцём. Згадзіцесь, Паважаны Спадару Акула, што адно гэта слова Мазура «Не» можа стацца для пісьменьніка тэмай цэлага асобнага твору. Я знаў Мазура вельмі добра. Ён быў бунтарнай натуры, страшна не любіў немцаў і з гэтым перад імі ня крыўся. Я стараўся яго паўстрымаць ад адкрытай тактыкі ў адносінах немцаў, бо адчуваў, што немцы не маглі яго пераварваць і, магчыма, што загад аб зьнішчэньні вёскі быў немцамі справакаваны, каб мець падставу ўбраць Мазура. У кожным выпадку, як гэта ня сталася, Мазур загінуў сьмерцю мучаніка, як герой і яго, як таго, належала б увекавечыць, калі Вы яго ўспомнілі й апісвалі ягоную сьмерць. Няхай лёгкай яму будзе беларуская зямля.*

*БНС і звальненьне др. Ермачэнкі.*

*Пераходзячы да звальненьня др. Ермачэнкі, я мушу наўперад сказаць некалькі слоў пра БНС. Дарма вы патрактавалі гэтую арганізацыю зьлёгка. БНС адыграла ў той час у Беларусі даволі вялікую ролю ў крышталізацыі ідэйнага й адзінага беларускага фронту. Гэтая арганізацыя толькі фармальна мела харытатыўны характар, а фактычна яна займалася больш палітычнай работай, яна была цэнтраляй усіх беларускіх імкненьняў і важнейшых пачынаньняў. У склад БНС ва ўсей Беларусі ўваходзілі найлепшыя ідэйныя й патрыятычныя беларусы. БНС і беларускае школьніцтва былі тагды найбольш чыстымі ідэйна беларускімі арганізацыямі. БНС была адзінай у той час сцэнтралізаванай арганізацыяй. У Менску адбываліся частыя зьезды прадстаўнікоў БНС з усей Беларусі. Тут дыскутаваліся ўсе набалелыя справы беларускага народу, немцам ставіліся пратэсты, ставіліся дамаганьні. Часта немцаў абзывалася лаянкамі. Помню, як адзін з выдатных беларускіх афіцэраў абазваў лгунамі нямецкіх генэралаў і гаўляйтараў. Спытайцеся пра гэта др. Барыса Рагулю. Нара-*

*ды прадстаўнікоў БНС у Менску былі свайго роду беларускім соймам. Галоўным дамаганьнем было стварэньне беларускага цэнтральнага ўраду на самастойных асновах. І БНС гэта ня быў Ермачэнка, а гэта быў беларускі актыў. Ідэйны напор зь беларускімі нацыянальнымі дамаганьнямі быў агромны. Др. Ермачэнка ня мог паўстрымаць гэтага напору беларускіх дзеячоў і вельмі часта бегаў у Ген. Камісарыат з дакладамі. Якраз гэты нацыянальны ўздым і напор стаўся галоўнай прычынай звальненьня немцамі др. Ермачэнкі. А сталася яно так:*

*У Менску адбыўся адзін з найбольшых зьездаў БНС з усяе Беларусі. Не памятаю дакладна даты. Здаецца, гэты зьезд быў адным з апошніх. На ім была прадыскутавана справа беларускае дзяржаўнасьці й пастаноўлена выступіць з адпаведным дамаганьнем у немцаў. Была выбрана рэзалюцыйная камісія, у склад якой увайшлі наступныя асобы: судзьдзя Сьвірыд*[377]*, магістар Тулейка, цяперашні др. Б. Рагуля, кап. Касмовіч і я. Здаецца, у працах камісіі бралі ўдзел яшчэ двух чалавек. Ня памятаю. Камісія апрацавала рэзалюцыю, а сход аднагалосна яе зацьвердзіў. Зьмест рэзалюцыі быў прыблізна такі:*

*1. Так званы ўрад БССР зьяўляецца ўладай, накінутай беларускаму народу сілай чырвонай Масквы, у руках якой ён зьяўляецца толькі прыладай. Цяперашняя вайна з Савецкім Саюзам вядзецца без удзелу асобнага беларускага войска ў складзе савецкае арміі.*

*2. Дзеля таго, што Беларусь не аб’яўляла немцам вайны й ня мела ніякага намеру зь імі ваяваць, немцы павінны зьнесьці на Беларусі стан акупацыі, прызнаць Беларусь у яе этнаграфічных граніцах незалежнай дзяржавай і перадаць усю ўладу беларускаму цэнтральнаму ўраду, які павінен быць створаны неадкладна.*

*3. Новы беларускі ўрад як спадкаемца пастановы 25 сакавіка будзе прапанаваць нямецкаму ўраду саюз у вайне з бальшавікамі й неадкладна ўступіць зь імі ў вайну ўсімі сваімі рэсурсамі.*

---

[377] **Павел Свірыд** (1886 — 01.11.1948, Равенсбург, Нямеччына), грамадскі дзеяч, юрыст. У часе нямецкай акупацыі ўзначальваў Беларускі нацыянальны камітэт у Навагрудку, быў старшынём Навагрудскага акружнога суда, у чэрвені 1942 г. узначаліў аддзел школьніцтва Цэнтральнага бюро БНС. Удзельнік 2-га Усебеларускага кангрэса, быў абраны кіраўніком юрыдычнымі і рэлігійнымі справамі БЦР.

*4. Новаствораны беларускі ўрад неадкладна прыступіць да арганізацыі й абучэньня беларускага войска, паліцыі, мяйсцовай адміністрацыі й г. д.*

*5. Нямецкі ўрад даставіць беларускаму войску зброю й амуніцыю, фабрыкі якой на Беларусі зьнішчаны вайной. У замен за гэта новы беларускі ўрад запэўніць і ахавае на Беларусі тылы нямецкае арміі, наступаючай на савецкім фронце, а ў выпадку патрэбы выступіць на фронце нага ў нагу зь нямецкім жаўнерам супроць супольнага ворага.*

*Для перадачы рэзалюцыі нямецкаму ўраду ў Бэрліне цераз Ген. камісарыят патрэба было падпісаць яе рэзалюцыйнай камісіі, старшыні цэнтралі БНС і далучыць пратакол сходу, падпісаны галоўным сакратаром і старшынёй цэнтралі БНС. Уся рэзалюцыйная камісія як адзін чалавек рэзалюцыю падпісалі, я падпісаў пратакол сходу як галоўны сакратар цэнтралі БНС. На наступны дзень др. Ермачэнка перадаў гэтыя дакумэнты ў Ген. камісарыят, але, як потым выявілася, ніводнага зь іх не падпісаў, хоць на патрабаваньне сходу абяцаўся падпісаць.*

*Рэзалюцыя зрабіла на немцаў пярунуючае ўражаньне. Ім было не на руку дамаганьне беларусаў. І тут вышла тое, што др. Ермачэнка зламаў сваю кар'еру з марай стацца беларускім фюрэрам. Ён быў няшчыры.*

*Хутка пасьля нашае рэзалюцыі немцы распачалі сьледства. Ім было не ў спадобу, што нейкія там унтэрмэншы сьмеюць уваходзіць у калізію зь іх «геніяльнымі» плянамі паняволеньня беларускага народу і ўстанавіць эксплюатацыю зямель у карысьць іхняга райху. Рэзалюцыя была й не на руку Ген. камісару, што ён дапусьціўся да такой свабоды выяўленьня беларусамі сваёй волі. Тым больш яна не была на руку др. Ермачэнкі, які мроіў аб уласнай кар'еры.*

*Др. Ермачэнка ўехаў на акупіраваную немцамі Беларусь як муж даверу нямецкага ўраду. Якія ён меў на гэта дакумэнты, цяжка сказаць. Ні то ён быў фольксдойчам, ні то райсдойчам па лініі жонкі, ніхто дакладна нічога ня знаў. Для беларусаў ён меў беларускі пашпарт першага беларускага ўраду з назначэньнем яго ў той час беларускім паслом у Турэччыну й на балканскія дзяржавы. Гэта было хутка пасьля Акту 25 сакавіка 1918 г. Апрача таго, на доказ свайго беларускага паходжаньня ён запрасіў да сябе ў гасьціну сваіх сваякоў, беларусаў з Барысаўшчыны, адкуль ён паходзіў родам. У да-*

*датку, яго беларуская мова даказвала яго выразнае беларускае паходжаньне. І вось гэты др. Ермачэнка раптам зьявіўся ў Беларусі, каб змагацца «за беларускія ідэалы», як гэта ён сам часта казаў, але той рэзалюцыі, якая завяршала нашы нацыянальныя мэты й пратаколу сходу, ён не падпісаў. Пасьля рэзалюцыі пашло сьледзтва. Спэцыяльна прысланая немцамі камісія з Бэрліну стала па чарзе дапытваць сяброў рэзалюцыйнае камісіі. Шмат хто зь беларусаў чакаў, што сяброў рэзалюцыйнае камісіі спаткае лёс Мазура. Др. Ермачэнка на дапросе адмовіўся зусім ад ідэі незалежнасьці Беларусі. Мы ўсе, сябры камісіі, прынялі сьледзтва спакойна, паўтарылі ім нашыя пераканаsuccessfullyньні, расказалі ім праўду. Мушу аддаць справядлівасьць, немцы на дапросах былі на месцы, абышлося без пагрозаў, адно толькі яны злосьціліся, калі дашло да др. Ермачэнкі. Відавочным было, што немцы перасталі яму верыць. Некаторым з нас, дапрашаваных, яны заявілі, што др. Ермачэнка абманваў вас, беларусаў, і нас, немцаў, і гэта трэба нам прыпыніць. Хутка пасьля гэтага др. Ермачэнка паляцеў з займанай ім у немцаў пасады і ўсьлед за гэтым разышлася вядомая чутка аб ягонай спэкуляцыі салам і г. д. Насьледкам нашае рэзалюцыі было тое, што спэцыяльныя нямецкія пасланцы стараліся выяўляць сапраўдную беларускую апінію. У сувязі з гэтым было дапрошана многа беларускіх дзеячаў. Церазь некаторы час немцы ўтварылі Раду мужоў даверу, БНС абняў былы пасол на польскі сойм Ю. Сабалеўскі з забаронай займацца ў БНС палітыкай. І незадоўга, калі наступіў пералом нямецкага фронту на Ўсходзе, немцы далі згоду на стварэньне БЦР і БКА, што, нібыта, мела заступіць цэнтральны беларускі ўрад і беларускае войска.*

*Тое, што я расказаў Вам пра БНС, нашу рэзалюцыю й др. Ермачэнку, можаце праверыць у др. Б. Рагулі. Ён напэўна будзе гэта помніць.*

*Выдача кс. Гадлеўскага.*

*Адносна выданьня немцам кс. Гадлеўскага я мушу сказаць некалькі слоў таксама, бо Ваша цьверджаньне, што выдаў яго др. Ермачэнка, не зьяўляецца праўдападобным. Магчыма, што др. Ермачэнка рабіў на яго даносы, але ён ня мог данесьці нічога з засакрэчанай працы кс. Гадлеўскага. Др. Ермачэнка ў гэтай працы ўдзелу ня браў і яму ніхто пра гэта сказаць ня мог, таму што яму ніхто не давяраў. Ксяндза выдаў менскі настаўнік*

*Кісель*[378]*, які, належачы да давераных людзей Гадлеўскага, адначасна быў савецкім партызанам і ад іх меў загад зьнішчыць Гадлеўскага нямецкімі рукамі. Пакапайцесь, Спадару Акула, у архівах беларускае газэты «Бацькаўшчына», і там знойдзеце адумысловы артыкул на гэтую тэму. На жаль, не магу Вам падаць нават году, як гэты артыкул быў надрукаваны*[379]*.*

*Ксяндза Гадлеўскага я добра знаў. Гэта быў вялікі беларускі патрыёт. І ў ім мы панесьлі вялікую страту. Калі немцы занялі Беларусь, ён пехатою прыйшоў з Варшавы ў Менск, змуляўшы абуткам ногі, ішоў босы. Часамі беларускія сяляне бралі яго на фурманку, каб падвезьці, бо немцы не хацелі выдаваць яму пропуску й не дазволілі ехаць чыгункай. Яго мара была ўліцца ў беларускую палітычную работу. Аднак гэтага немцы яму не дазволілі, а прызначылі яго галоўным інспэктарам беларускіх школ, дзе я ў той час працаваў з прызначэньня др. Тумаша рэфэрэнтам да школьных праграмаў і падручнікаў. Мы з кс. Гадлеўскім прапрацавалі разам у Інспэктарыяце беларускіх школ блізка двух гадоў часу. Гэта была для мяне нагода пазнацца зь ім вельмі блізка. Мы праседзелі зь ім у адным пакоі больш за год часу. Пасьля блізка двух гадоў я гэтую працу аставіў і перайшоў на працу ў БНС. Я аставіў гэтую працу тагды, калі прыйшоў да перакананьня, што немцы стараюцца ўсякімі спосабамі паўстрымаць разьвіцьцё беларускага школьніцтва й не даюць ніякае магчымасьці друкаваць беларускія школьныя падручнікі. Надрукаваны былі толькі школьныя праграмы для сямігодкі. Для мяне было відавочна, што немцы з намі толькі хітра заігрываюць, а з астатковай разьвязкай беларускае праблемы й школьніцтва зацягваюць і астаўляюць на пасьля. Перайшоў я ў БНС яшчэ й дзеля таго, што з боку пэўнае групы менскіх настаўнікаў на чале зь Яўхімам Кіпелем пайшла на мяне закулісная траўля перад кс. Гадлеўскім, у рэзультаце чаго наша гарманійнасьць у працы зь ім аказалася падкапанай. Маё становішча рэфэрэнта да школьных праграмаў і падручнікаў*

---

378 **Пётр Кісель** (?—?), дырэктар мінскай школы № 29 у Траецкім прадмесці, аўтар падручніка «Bielaruski lemantar» (1942). Быў расстраляны за сувязь з савецкім падполлем.

379 Хутчэй за ўсё маецца на ўвазе артыкул: Пякарскі, А. Сумная гадавіна. (Да дзясятай гадавіны арышту й расстрэлу ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага) // Бацькаўшчына. № 51–52 (130–131). 25 снежня 1952. С. 7.

*заняў жа той самы Я. Кіпель, які пераняў ад мяне 21 школьных падручнікаў у рукапісах і выдрукаваныя школьныя праграмы, чым пасьля попусту хваліўся, што гэта вынік ягонае працы й кіраўніцтва. Моцна неэтычна. Успамінаю аб гэтым між іншым, што можа кінуць сьвет на ўспомнены артыкул у «Бацькаўшчыне».*

*За некалькі дзён перад занікам[380] пакойнага кс. Гадлеўскага ён зрабіў мне прызнаньне. Пасьля доўгіх допытаў у гестапа ён быў ужо пад дамовым арыштам. Аднаго дня заклікаў ён мяне праз свайго даверанага, Язэпа Найдзюка, аўтара кніжкі «Беларусь учора й сяньня». Прыняў мяне ветліва й з радасьцю паціснуў руку. Ягоны твар з выразам моцнай дэцызыі, пасьля духовага пералому, як быццам у яго стаяла на ўме пытаньне «быць ці ня быць», быў задуманы й сьветлы, а чыстыя нявінныя вочы глядзелі проста на мяне. Такое наша спатканьне пасьля халоднага расстаньня крышку мяне ўзьдзівіла. Глянуўшы на яго, я ня мог зразумець, у чым справа, і ў маёй галаве прабегла думка — тут нешта ёсьць. Ён гэта спасьцярог, папрасіў мяне сесьці, сеў сам і кажа: «Зараз зразумееце ўсё». Ён са спакоем распытаўся наўперад пра маю працу ў БНС, маю сям’ю й мой паўгалодны стан. Мы ўспомнілі нашу супольную працу й супольныя гутаркі. Потым ён падзякаваў мне за наша супрацоўніцтва зь ім у Інспэктарыяце беларускіх школ і сказаў мне наступнае: «Можа, я Вас у жыцьці ўжо не спаткаю. Вы павінны ведаць, што ў нашых беларускіх радох ёсьць Юды, якія разбураюць усё тое, што мы распачалі. Дзякуючы ім беларускі дом рухаецца. Майце гэта на ўвазе». Гэтымі словамі ён закончыў сваю гутарку са мною, апусьціўся глыбока ў крэсла й задумаўся. Я бачыў у яго вачох прачульлівасьць, але адчуў ягоную моцную волю й самавалоданьне. На маё пытаньне, што сталася прычынай ягонага духовага змаганьня, ён адказаў: даведаецеся незадаўга. На гэтым візыта закончылася. Я пабег зараз жа да Найдзюка й пытаюся, што сталася з Гадлеўскім, кажу яму, выглядае на тое, што Гадлеўскі са мной разьвітваецца. Найдзюкураніў сьлязу й нічога не сказаў. Так спакойна ішоў на сьмерць мучаніка кс. Гадлеўскі на фронце барацьбы за «будову беларускага дому». Гэта былі ўлюбёныя словы пакойніка. Гэта*

[380] *Zanik* (польск.) — зьнікненне

*былі ягоныя змагарныя дарогі. Будзь яго памяці сьветла ва векі вякоў.*

*<u>Палкоўнік Сокал-Кутылоўскі.</u>*

*Можа, варта было б пры гэтай нагодзе крыху крануць ягоную асобу. У мяне маюцца пэўныя сумлівы адносна яго. Так як і Вы, я яго моцна рэспэктаваў за яго ўдзел у Слуцкім паўстаньні як камандзіра беларускай паўстанчай дывізіі. Але аднак яго жыцьцё на беларускім Палесьсі пад Польшчай паставіла яго ў рады апартуністых. Гэтай думкі быў і пакойны кс. Гадлеўскі. Палкоўнік Сокал-Кутылоўскі пасьля Першай сусьветнай вайны прыняў сан праваслаўнага сьвяшчэньніка й быў на Палесьсі настаяцелем аднаго з прыходаў. З таго часу ніхто ў Заходняй Беларусі на працягу 20 гадоў ня чуў аб ім як аб беларусу. Ён уліўся ў рады праваслаўных сьвятароў, і так як яны амаль усе карысталіся расейскай ці польскай мовай у дачыненьні з сваімі прыхаджанамі-беларусамі, займаліся больш ідэяй чрэваўгодніцтва, а сваёй бязьдзейнасьцю спрыялі палянізацыі нашага краю. Больш за ўсё паставіў яго ў рады апартуністых той факт, што калі бальшавікі занялі Заходнюю Беларусь у 1939 г., айцец Сокал-Кутылоўскі з пакаяньнем, што ён абманваў сваіх вернікаў усе 20 гадоў, зьняў зь сябе публічна ў царкве духоўнае аблачэньне й выракся духоўнага стану. Бальшавікі не прызначылі яму ніякае ссылкі, так як яны рабілі ў дачыненьні ўсёй «белогвардейской сволочи». Пры немцах Ганцавіцкая акруга была найбольш апанавана партызанамі, якія нішчылі беларускае насельніцтва, забіралі іх дабытак, хоць у руках Сокала-Кутылоўскага была ўся паліцыя, найлепш арганізаваная пад начальствам Барысяка Самаахова, а потым БКА. Барысяк часта мне скаржыўся на бязьдзейнасьць Сокала-Кутылоўскага.*

*Былі чуткі, што Сокал-Кутылоўскі дабравольна паехаў назад, выдаўшы шмат беларускіх вайскоўцаў. Пару гадоў назад я сам чытаў у «Голасе Радзімы» артыкул, у якім запярэчвалася існаваньня Слуцкага паўстаньня наагул з подпісам нейкага Сокала-Кутылоўскага. Усё гэта, разам узяўшы, усумнела мяне ў геройстве Сокала-Кутылоўскага. Але я не раблю з гэтага канчатковага выснаву, толькі хачу сказаць адно, перад тым, каб паставіць Сокала-Кутылоўскага на дошку беларускіх нацыянальных герояў, трэба было б усе гэтыя рэчы дакладна праверыць.*

*Адносна самога сябе.*

*На днях заскочылі да мяне двух вядомых беларускіх дзеячоў. Імя аднаго зь іх маецца ў Вашай працы. Абодва яны знаюць вельмі добра літаратуру, а беларускую ў асаблівасьці, займаюцца паважнай навуковай працай і сягоньня. Адзін зь іх і кажа мне: «Але ж Акула Вас і ня любіць». Справа ня ў тым, любіць мяне Акула ці не, а справа ў тым, як праўдзіва Акула прадстаўляе беларускаму чытачу самыя факты. Вы маеце поўнае права мяне любіць ці не любіць, але Вы ня маеце права пісаць аба мне няпраўду. Я станоўча пратэстую супроць няпраўды, якую Вы аба мне падалі. Я кранулся паступова кожнага месца, дзе Вы мяне ачарняеце. Вы абасналіся на паклёпах і плётках. Майце цярплівасьць, і я па калейцы перайду ўсе мясьціны й ня буду прэтэндаваць на нейкага героя.*

*Парад школьнікаў.*

*Як войска войскам, ніхто неабучаных рэкрутаў на ваенныя парады не вядзе. Не хацеў весьці Вас і я. Я так, як і кожны афіцэр, наўперад ведаў вынікі гэтае парады. На параду вядуць добра вышкаленых жаўнераў, калі яны ўжо навучацца ня толькі бачыць і чуць у маршы, што ў яго наперадзе, з бакоў і ззаду, але адчуваць цэлую калёну ўсімі сваімі мускуламі й целам, пасьля гэтага яшчэ раз марш і яшчэ раз марш, марш і марш. Тагды толькі яны чуюць голас свайго камандзіра, і ўся калона роўненькімі шнуркамі будзе выконваць каманду, як адзін чалавек. Вы ж павінны ведаць, што я асабіста не правёў з Вамі ніводнага практыкаваньня маршу. Мяне гвалтам змусілі ісьці на гэты абсурд. Зычыць вельмі саркастычна зваліць віну за няўдачнае выкананьне каманды «стой» на камандуючага рэкрутамі афіцэра. Там выступае й іншы момант саркастыкі, але я ня буду яго кранаць, бо я ўпэўнен, што кожны інтэлігентны чытач, нават ня будучы вайсковы, разумее, што гэта праяўлена Вамі тэндэнцыя ў адносінах да мяне. Вам проста хацелася ўставіць мне «яйца».*

*Характарыстыка Ласкутовіча.*

*Ня знаючы мяне, Вы зрабілі, фактычна, пасьпяховую характарыстыку аб маёй, нібыта, вайсковае напампаванасьці, дэманстрацыйнасьці й штучнай паліттуроўцы. Але гэта Ваша поўнае права глядзець на кожнага чалавека так, як ён Вам выдаецца. І можа, Ваш пункт гледжаньня на мяне пры першым спатканьні мае крыху слушнасьці, бо ведаю з уласнай практыкі,*

*што калі я першы раз паяўляўся ў розных школах, то ніколі не было, каб мае будучыя вучні прымалі мяне з праўдзівай ацэнкай. Потым яны вельмі прыемна расчароўваліся. Але ўсё гэта няважна, каб ня тое, што Вы пры кожнай нагодзе праяўляеце ў адносінах да мяне асаблівую тэндэнцыю.*

*Афіцэрская школа.*

*Калі немцы занялі Беларусь, то Вы самі ведаеце, як палякі кінуліся арганізаваць мяйсцовыя адміністрацыі. Таму мы з былым паслом Ю. Сабалеўскім сталі арганізаваць у сваім і суседніх паветах беларускія адміністрацыі й выкідаць палякаў адтуль, дзе яны ўсьпелі засесьці. За гэтую работу мы ўдваіх чуць не наложылі галавамі. Закончыўшы арганізацыю на мясцох, Ю. Сабалеўскі падаўся ў Баранавічы арганізаваць акругу, а я падаўся ў Менск шукаць магчымасьці арганізаваць беларускую афіцэрскую школу. Я верыў у тое, што надышоў час, калі зысьціцца хутка наша мара й што ў выніку вайны паўстане незалежная Беларусь. Я рабіў аналёгію да Першай сусьветнай вайны, у выніку якой шматлікія народы атрымалі дзяржаўную незалежнасьць, а на Беларусь, Украіну й інш. надыходзіць пара ў гэтую вайну. Такая была мая вера, і з гэтай верай я падаўся ў Менск. Там, нягледзячы на свае не зусім дастатковыя кваліфікацыі, я стаў шукаць магчымасьці арганізацыі афіцэрскае школы. Я думаў, калі я пачну, то знойдуцца высокакваліфікаваныя афіцэры, і справа пойдзе. Аднак немцы ўпоеныя сваёй славай перамогі й чуць тагды не хацелі пра арганізацыю школы, а арганізаваць яе патаемна ня толькі было рызыкоўна, але й вельмі небясьпечна для ўсяго беларускага народу. Прыйшлося чакаць. Я пайшоў працаваць у школьніцтва, дзе я працаваў амаль два гады. За гэты час аб тварэньні беларускага войска не было нідзе й мовы. Толькі немцы дазволілі на ўтварэньне невялічкае школы для каманднага паліцэйскага складу. Школу вёў капітан Кушаль. У мяне з паліцыяй быў заўсёды арганічны антаганізм[381].*

*Пад канец 1943 г. немцы далі дазвол на стварэньне беларускае Самааховы й першых курсаў для перашкаленьня афіцэраў. Школа была таксама невялічкай, кіраваў ёй капітан Кушаль.*

[381] У азначаны час Віктар Чабатарэвіч працаваў перакладчыкам у мінскай СД, а ад пачатку 1943 г. займаў становішча афіцэра-прапагандыста ў 13-м паліцэйскім батальёне СД.

*Практычнай карысьці з гэтай школы амаль што не было ніякай, бо нямецкія гаўляйтэры на мясцох усякімі спосабамі тармазілі арганізацыю Самааховы й незадоўга зусім забаранілі.*

*Больш крыху надзеі на лепшую будучыню зрадзілася ў шмат каго тагды, калі БЦР зь нямецкага дазволу стала арганізоўваць БКА. Былі й пэсымісты гэтае акцыі, якія ўказвалі на спозьнены час. У пачатку 1944 г. да аб'яўленьня агульнае мабілізацыі ў БКА арганізаваўся курс перашкаленьня афіцэраў. Я быў пакліканы на начальніка курсаў. І так я з капітанам Шнайдарам перашколілі ад студзеня месяца да сярэдзіны мая 1944 г. тры курсы, падбіраючы з кожнага курсу найбольш нацыянальна сьведамых беларускіх афіцэраў для ўтварэньня ўласнага беларускага інструктарскага пэрсаналу. Гэта якраз тыя перашколеныя тры курсы, якія Вы сьведама ці нясьведама прыпісалі Кушалю й Мікулу.*

*Гэта была вельмі цяжкая праца пад кожным поглядам. Уся яна палягала на мне адным амаль. Я сам складаў пляны занятак, узгадняў іх з капітанам Шнайдарам, часта рабіў карэкты яго прапаноў, а ён маіх. Не было ў нас вопраткі й абутку. Я сам на занятках хадзіў па калена ў сьнег у летненькіх туфлях і няраз мерыў у іх вясеньняе балота, аж пакуль школьнікі дасталі недзе кусок шкуры й зрабілі мне боты ў школьнай майстэрні, якая была прызначана для рэпарацыі паношанага абутку. Цяжка было з харчаваньнем, а перадусім цяжка было знайсьці належнае разуменьне ў немцаў. Яны былі як ашалелыя. Трэба было быць дыпляматам, як у нас тагды казалі «перахітрыць немцаў для дабра свайго народу». У гэтых простых словах заключалася наша тактыка з гітлераўскімі захопнікамі. Хто гэтай тактыкі не разумеў, той накладаў галавою. Калі адзін раз капітан Шнайдар, седзячы са мной у пакоі, стаў лаяць беларусаў і сказаў, што зь імі трэба гаварыць зь пісталетам у руках, то на гэта я яму спакойна адказаў, каб ён ня думаў, што гэтыя беларускія вайскоўцы ў цывільнай вопратцы ня ўмеюць страляць, Вы маеце пісталет, і я яго маю. Пасьля гэтага ён сьціх, нічога не сказаў і больш пры мне беларусаў ня лаяў. Было цяжка, але я працаваў, бо мне яшчэ прысьвечваў абраз незалежнае Бацькаўшчыны.*

*Неадкрытая афіцэрская школа.*

*Зь вялікай радасьцяй я прыняўся за падрыхтоўку да адчыненьня афіцэрскае школы юнакоў. Я закапаўся па вушы ў працы,*

*працуючы амаль што 24 гадзіны ў дзень, прыгатаўляючы пляны заняткаў, стукаючы да розных установаў, каб сабраць усё тое, што патрэбна для ўтрыманьня школы, як вопратка, харчаваньне, зброя, мэбля й г. д. Мы ўжо мелі свой інструктарскі штаб і гатовы былі падзякаваць немцам за іх услугі. Афіцэрская школа мела быць адкрытай у пачатку чэрвеня 1944 г. Паступленьне ў школу было на прынцыпе самаахвотнасьці. Мы мелі запаўненьне ад беларускіх раённых уладаў, што будзе вялікі наплыў кандыдатаў. Аднак аказалася, што адкрыць школу ў пачатках чэрвеня ня ўдасцца зь недахопу кандыдатаў. Школа была падрыхтаваная на 450 чалавек, а на прызначаны тэрмін прыбыло некалькі дзясяткаў юнакоў. Прыйшлося чакаць. Аказалася тое, што беларускі народ стаў прадбачаць хуткі наступ бальшавікоў, і людзі не хацелі ўцягвацца, паводле іх паглядаў, у сьмяртэльную акцыю. Хутка сытуацыя выкрышталізавалася, і здэцыдаваныя на адступленьне беларусы, каб не аставацца пад бальшавікамі, давалі дазвол сваім сынам паступаць у афіцэрскую школу ў Менску, а сярод іх знайшлося многа такіх, якія не былі зарыентаваны ў сытуацыі наагул, яны сьледавалі прыкладу іншых. Прызнаюся, што я й сам у тую пору не арыентаваўся ў сытуацыі. Таму за некалькі дзён перад адступленьнем адаслаў сваю сям'ю зь Менску на вёску. Як бы ні было, паволі сталі ў школу зьяжджацца юнакі. Я аддаў загад, каб у міжчасе, пакуль набярэцца патрэбная колькасьць юнакоў, камандзіры роты ўводзілі рэкрутаў у казарменнае жыцьцё, праводзілі выхаваўчыя й агульнаадкуацыйныя гутаркі, вучылі вайсковыя беларускія песьні. На рэгулярныя заняткі трэба было яшчэ чакаць афіцыяльнага адчыненьня. Сам я быў заняты па вушы. І як помню, толькі адзін раз зрабіў гутарку зь юнакамі з мэтай прадставіцца ім. Наагул усё ішло слемазарна[382], была пэўная неразьбярыха, чаго я не любіў зносіць. Мне было прыказана нічога са школьнікамі не распачынаць, а немцы радзілі мне зусім не паказвацца на школьным пляцы. Чаму, я й сягоньня толкам гэтага ня знаю. Магу толькі дагадвацца па пазьнейшых падзеях. І так яно дайшло да канца чэрвеня, да Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Увечары таго самага дня, 27 чэрвеня, калі кангрэс закончыў свае нарады, БЦР і Галоўнае камандаваньне атрымалі загад аб адступленьні. Мяне асабіста ніхто*

---

[382] Відавочна, вытворнае ад габрэйскага «шлемазл» — неўдалота.

*аб гэтым не паінфармаваў і ніякіх інструкцыяў мне ня даў. Ажно забег да мяне інж. Комар, тагдышні бургомістар гораду Менску, і сказаў, што ён зьбіраецца на выезд. Я хутчэй падаўся ў школу, каб ратаваць сытуацыю, бо чуў, як усё пачало лопацца. Я стаў прыгатоўваць усё к адступленьню школы. Многа ўначы зрабіць ня можна было, тым больш, што былі паветраныя алярмы і «крыйся ў акопах». Ужо выразна было чуваць бальшавіцкую артылерыйскую кананаду, а ў паветры разьведавальныя самалёты і ўсьлед за імі цяжкія бамбардыроўшчыкі зь іх зьнішчальным агнём. У такі час няма нічога дзіўнага, калі чалавек побач выкананьня свайго абавязку думае й аб сваіх найбліжэйшых, аб сваёй сям'і.*

*Мой выезд па сям'ю.*

*Прыгатаваўшы школу да пасадкі на цягнік і праверыўшы ўсё на мейсцы, спытаўшыся афіцэраў, ці яны хочуць адлучкі, каб забраць свае сем'і, назаўтра раніцою я падаўся ў Галоўнае камандаваньне прасіць дазволу кароткае адлучкі, каб забраць сваю сям'ю. Аднак я не хацеў аставіць школы без агульнага аўтарытэтнага дагляду зь беларускага боку. Праўда, беларускія камандзіры ротаў і зьвязаў былі на мейсцы, але патрэбна была галава. Таму я сьпярша падаўся да капітана Мікулы з просьбай, каб ён мяне на гэты час заступіў. Капітан Мікула быў адзінокім. Ён вельмі ахвотна згадзіўся мяне заступіць і сказаў, што лепш яму ехаць са школай, чым з Радай, дзе дзеюцца рэчы, на якія ён ня мог глядзець. Узыскаўшы згоду капітана Мікулы на заступніцтва, я пайшоў з просьбай да палкоўніка Кушаля. Кушаль знайшоў просты адказ: «Ваша мейсца са школай». Аб лёсе маёй сям'і й заступніцтве капітана Мікулы й слухаць не хацеў. У гэты час Кушалева сям'я ўжо сядзела ў раскошным вагоне на станцыі ў Менску й чакала на яго. Пасьля некалькіх слоў, праўда, Кушаль згадзіўся, каб я асабіста зьвярнуўся да Прэзыдэнта БЦР, што я й зрабіў. Прафэсар Астроўскі даў мне свой дазвол. Зараз жа, той самай раніцы, мы з капітанам Мікулам паехалі ў школу для перадачы яму часовага заступніцтва да майго павароту. Капітан Мікула, хоць і быў рад, пакідаючы кампанію радных, якія жылі думкай уцечкі й толькі асабістага забесьпячэньня, чуўся крыху непадрыхтаваным да абняцьця школы ў той цяжкі момант. Ён хацеў рабіць усё ад майго імя, але абгаварыўшы зь ім належна ўсю сытуацыю, ён выступіў перад школьнікамі як камандзір*

*школы, што дадало яму больш аўтарытэту перад школьнікамі й прысутнымі немцамі. Аб гэтым быў паінфармаваны капітан Шнайдар. Паводле нашага пляну Мікула меўся паставіць школьнікаў у ясную сытуацыю аб адступленьні. З гэтым я завёў капітана Мікулу ў казармы, разьвітаўся, адсалютаваў неадкрытай школе й хутка знайшоўся на вуліцах зьбянтэжанага Менску. Школа адышла, а я яшчэ застаўся на адну ноч у пошуках магчымасьці прабрацца па сваю сям'ю. Тут Вы сказалі няпраўду, што я адлучыўся ад школы за некалькі дзён раней перад вымаршам школы. Я выехаў зь Менску апошнім зь беларусаў і выехаў з дазволу свайго начальства, упэўніўшыся, што школа распачала эвакуацыю ў поўным парадку. Ці ж я ня меў права у той крытычны час ратаваць сваю сям'ю?*

*<u>Пагонь за школай</u>.*

*На другі дзень пасьля майго расстаньня са школай позна папаўдні мне ўдалося здабыць нейкі цягнік, перапоўнены астаткамі немцаў, каб дастацца позна ўначы дамоў. На заўтрашні дзень, забраўшы жонку й маленькага сына, я падаўся на станцыю, каб вярнуцца ў Менск, а адтуль праз Вялейку даганяць школу. Аднак гэты адрэзак чыгункі быў ужо спаралізаваны партызанамі, і прышлося ехаць на Баранавічы. Я атрымаў дазвол ехаць доўгім таварным цягнікам, які ззаду пхаў паравоз з мэтай прашчупаць міны, заложаныя пад чыгунку. Гэтым цягнікам у асысьце двух беларускіх жаўнераў, якіх я падабраў на мейсцы, даехаў я да разьбітай станцыі Баранавіч. Папярэдняга дня яна была зьнішчана паветраным налётам, і яшчэ дыміліся некаторыя будынкі.*

*У Баранавічах я сустрэў старшага лейтэнанта Каранеўскага, камандзіра першае школьнае роты. Ён быў на часовым побыце дома. Зь ім разам быў нейкі лейтэнант, Будзька, апрануты ў новенькую чорную форму. Адкуль ён узяўся ў Баранавічах, ня знаў ані я, ані Каранеўскі. Ён сам даваў вельмі няясныя тлумачэньні. Быў ён у Баранавічах, нібыта, каб адведаць сваю цётку. Ён хацеў далучыцца да школы. Няясна было, чаму. Аднак папоўніўшы сваю сям'ю, трэба было рухацца далей. З Баранавічаў цягнікі ў той дзень больш ня йшлі. Трэба было напраўляць чыгунку. Нас папярэдзілі, каб мы ў Баранавічах не начавалі. Мы пераначавалі ў недалёкай вёсцы й добра зрабілі, бо ноччу Баранавічы былі зноў бамбардаваны. Назаўтра нейкім цягнікам мы заехалі ў Ліду. Зь Ліды ніякіх цягнікоў больш ужо*

*не было, і мы знайшліся ў тупіку. Камунікацыя паміж Лідай і Вільняй была прарванай. Бязрадныя, цягаўшыся па станцыі, позным вечарам мы напаткалі двух нямецкіх жаўнераў, па прафэсіі чыгуначнікаў, якія поркаліся над пашкоджаным паравозам. Незадоўга яны прывялі гэты паравоз у парадак, праверылі чыгунку й зьбіраліся да ад'езду. Мы ўпрасіліся ехаць разам. Дзякуючы ім, мы дабраліся гэтым паравозам у Вільню. Па дарозе нас абстралялі партызаны.*

*У Вільні.*

*2 ліпеня мы былі ў Вільні. Там засталі школу, якая прыбыла на дзень раней за нас, хоць і не ў камплекце. Яна страшна парадзела. Сумнае ўражаньне зрабіла на мяне школа. Не гаворачы аб стомленасьці й поўнай дэзарганізацыі, яна не рабіла ўражаньня вайсковае адзінкі. Гэта былі адступаючыя бежанцы. Капітан Мікула й іншыя далажылі мне, што ў тракце маршу многія школьнікі й афіцэры пакінулі школу. Некаторыя пакідалі аружжа й пайшлі дамоў, а некаторыя далучыліся да партызанаў. Горш за ўсё, што адыходзячыя ў партызаны застрэлілі некалькі нашых найлепшых інструктараў. Пад канец апошняга курсу стала вядома, што партызаны залажылі ў школе ячэйку з заданьнем зьнішчыць лепшых інструктараў. Але я ніколі не спадзяваўся, што яны пракраліся ў неадкрытую школу. Сьмерць нашых калегаў зрабіла на мяне вельмі прыгнятаючае ўражаньне. Толькі менш, чым палавіна школьнікаў і прыблізна адна чацьвёртая каманднага саставу сабралася ў Вільні, каб прадаўжаць адыход. Школа фактычна перастала існаваць, і апошнія надзеі на яе адкрыцьцё зьніклі.*

*Успамінаючы ўсё гэта, у мяне складаецца ўражаньне, што Вы асабіста ў школе ў Менску ня былі. Мне ня верыцца, каб пісьменьнік упусьціў з-пад свайго пяра некаторыя цікавыя й важныя моманты. Вы проста далучыліся да школы ў Вільні, хоць за гэта прысягаць не зьбіраюся.*

*На мяне страшна падзеяла й другое. Гэта агульная сытуацыя беспарадку й хаосу ды недахоп арганізацыі на ўсім фронце адыходу БКА й беларускае адміністрацыі. Тут жа на месцы, у Вільні, я даведаўся ад капітана Мікулы, беларускіх афіцэраў, нашых школьнікаў і розных іншых асобаў, што ўсюды на Беларусі беларуская адміністрацыя, афіцэрства і ўсе адказныя асобы пакідалі жаўнераў на ласку лёсу, а самі з сваім дабыткам уцякаюць на Захад. БЦР даўно ўжо знаходзіцца ў Нямеч-*

*чыне, і сьлед прастыў Галоўнага камандаваньня з Кушалем на чале. Прааналізаваўшы ўсю сытуацыю й падзяліўшыся сваімі думкамі з капітанам Мікулам, я неадкладна ўдаўся да прэзыдэнта БЦР праф. Астроўскага, які затрымаўся ў той час у Вільні для вырашэньня асабістых спраў з дамаганьнем узяць сытуацыю ў рукі й праявіць максымум энергіі, каб надаць адыходу арганізацыйны парадак. Я выразіў прафэсару Астроўскаму сваё зьдзіўленьне на адсутнасьць усякае адказнасьці перад народам з боку узначальваючых беларускіх чыноўнікаў, што можа ў будучыні вельмі сумна адбіцца на нашай усіх ролі, якую мы сыгралі на Беларусі сярод свайго народу. Аблічча беларускіх лідараў будзе страчана назаўсёды ў вачох нашага народу, калі мы ня зробім у гэтай сытуацыі рашучых мераў. Таму як неабходную меру ў гэты момант я яму прапанаваў наступнае:*

*1. Неадкладна загадаць уцёкшым лідарам і беларускім афіцэрам вярнуцца да адступаючых адзінак і апекавацца пакінуўтым жаўнерствам і цывільным насельніцтвам да найбліжэйшай разьвязкі сытуацыі ў цэлым.*

*2. Неадкладна зьвязацца з адпаведнымі чыньнікамі ў Нямеччыне для арганізацыі прыстанішча сем'яў беларускіх афіцэраў і беларускай адміністрацыі, каб даць магчымасьць мужчынам уліцца ў арганізаванае адступленьне.*

*3. Усякімі сродкамі наладзіць хутка сувязь з адступаючымі беларускімі аддзеламі й аказаць ім маральную і ўсякую іншую дапамогу, бо быць з народам у найцяжэйшых і пераломных хвілінах з'яўляецца абавязкам сапраўднага кіраўніцтва.*

*4. Зьняць непамерны цяжар адступленьня зь юнакоў школы, якія могуць цяжка ў будучыні адплаціць за свой удзел, нават і не ў адкрытай яшчэ школе й адпаведнай вуснай інструкцыяй даць ім магчымасьць далучыцца да адступаючых бацькоў дзеля таго, што ў створанай сытуацыі няма ніякай надзеі на адкрыцьцё школы. Немцы на гэта ня згодзяцца, бо ім патрэбны хутка вышкалены жаўнер на фронт, і я на гэта ніяк згадзіцца не магу й ня буду на сябе браць адказнасьці дастаўляць немцам жаўнера з найлепшай беларускай моладзі.*

*5. З тых жаўнераў, якія адступаюць у непамерных цяжкасьцях, усіх адступіўшых здаровых мужчын, здольных насіць аружжа, арганізаваць беларускае вызвольнае войска безь ніякае апекі нямецкіх СС і паліцыі. На гэта немцы павінны вызначыць нам адпаведную тэрыторыю й час. Інакш я здымаю зь*

*сябе ўсякую адказнасьць і не хачу быць казлом адпушчэньня за згубленую беларускую справу.*

*Я добра здаваў сабе справу, што мае прапановы былі амаль што нерэальнымі. Але мяне ўдарыла тое, што ніхто нічога не прадпрымаў, а зрабіць хоць што-колечы можна было. Няхай сабе й ня ў цэласьці маёй прапановы. Астроўскі толькі адказаў: «Дык зрабіце гэта вы». А потым зірнуў на мяне задуменнай мінай і стаў хутка пісаць на машынцы. На хвіліну затрымаўся ды кажа: «Вы можаце аставіць сваю жонку й дзіцё ў Вільні». Я ня мог аставіць сваёй сям'і ў Вільні, заняцьцё яе бальшавікамі было квэстыяй пару дзён. Астроўскі стаў пісаць далей і даручыў мне загад. Цытую яго з памяці:*

*1. З сягоньняшнім днём, г. зн. 2 ліпеня 1944 г., звольніць мяне з абавязку начальніка школы.*

*2. З астаўшыхся юнакоў стварыць адну школьную роту, камандзірам якой вызначаецца ст. лейтэнант Каранеўскі.*

*3. Капітан Мікула застаецца пры школе як прадстаўнік БЦР.*

*4. Не рабіць перашкодаў юнакам далучыцца да сваіх бацькоў ці знаёмых.*

*5. З рэштай юнакоў напраўляцца праз Коўню ў Кэнігсбэрг, трымаць кантакт зь ім, Астроўскім. Дадатковыя інструкцыі будуць дадзеныя ў Коўне й Кэнігсбэргу.*

*Ст. лейтэнант Каранеўскі атрымаў копію гэтага загаду. Вы можаце гэта ў яго праверыць. Фактычна гэтым загадам афіцыяльна быў паложаны канец беларускае афіцэрскае школы, камандзірам рэшткі вызначаны ст. лейтэнант Каранеўскі, а я стаўся звычайным бежанцам безь ніякага прыдзелу й невядомай будучыні. І з гэтага моманту дарма Вы велічаеце кап. Ласкутовіча камандзірам школы. З гэтага часу камандзірам быў сп. Каранеўскі, якога прозьвішча Вы нават не ўпамінаеце у сваёй аповесьці.*

*Стаўшыся бежанцам, маё палажэньне было нялёгкім. Фактычна я быў кінуты ў Вільні на ласку лёсу з малым дзіцем і жонкай. На хвіліну я стаў і прызадумаўся. Што рабіць. Бальшавікі надыходзяць. Трэба нейк прабірацца на Захад і шукаць БЦР, а там, можа, нешта й вырашыцца. У мяне ў тую хвіліну не было ніякіх выразных думак. Адно я ведаў, беларуская справа заламалася й, мусіць, на доўгі час. Мяне апанавалі вельмі цяжкія чорныя думкі. Я заламаўся духова. Я зьверыўся*

*сваімі думкамі праф. Астроўскаму. Ён запрапанаваў мне ўзяць ягоны грузавік, які ён кідаў у Вільні, і ехаць на Захад у адзіночку. Што я прадпрыму, я яшчэ ня ведаў выразна й таму ня даў ніякага дэфінітыўнага адказу. Аднак хутка я зрабіў дэцызыю. Памаглі мне школьнікі. Пасьля візыты на станцыю, дзе ўжо рэшткі школы шыкаваліся да далейшага падарожжа, я паінфармаваў аб сваёй размове з Астроўскім і ягоным загадзе капітана Мікулу й ст. лейтэнанта Каранеўскага ды прасіў іх паціху распусьціць слух, калі хто зь юнакоў хоча адлучыцца ад роты да сваіх бацькоў ці знаёмых, можа гэта зрабіць цяпер бесьперашкодна. З усіх астаўшыхся ў роце адлучылася некалькі чалавек. Пастанова юнакоў задэцыдавала й аба мне. Я, хоць і звольнены з займанага становішча, пастанавіў не астаўляць без маёй апекі маладых недасьведчаных беларусаў у той крытычны час. Мікула й Каранеўскі таксама адчулі б дрэнна недахоп маёй асобы. Мне хацелася адвесьці юнакоў як найдалей ад фронту на Захад. Мы таксама баяліся, каб немцам не прыйшло ў галаву кінуць маладых неабучаных юнакоў дзе-небудзь на фронт, дзе б яны маглі загінуць, як мухі. Аб сваёй пастанове ехаць разам з астаткамі школы я паінфармаваў кап. Шнайдара, які прыняў гэтую вестку з задавальненьнем і стаў больш цесна супрацоўнічаць.*

*<u>Паветраны налёт у Вільні</u>.*

*У гэтым мейсцы ня буду кранацца загінуўшых у часе гэтага налёту беларускіх жаўнераў.*

*Мой выпадак у часе налёту Вы аддалі іначай, як ён сапраўды прадстаўляўся. Але я ня буду пярэчыць вольнасьці пісьменьніка ці так званай «лісэнсыі паэтыкі». Хачу сказаць толькі адно, чаму, калі Вы ўспамянулі мяне, мой маленькі сынок, нявіннае дзіцё, не ўласкавіўся некалькі слоў Вашага пяра? Ён таксама, як і ўсе іншыя, перажываў той сьмяртэльны налёт. Нават пры ўсёй Вашай антыпатыі да мяне асабіста гэта зьяўляецца незразумелым. Як жа пасьля гэтага іранічна гучаць Вашы словы пра сына, які побач бацькі машыраваў разам, каб запоўніць рады беларускае арміі. У той час я быў адзіным афіцэрам з чатырохлетнім сынам на руках, што ішоў разам з вамі з адной толькі мэтай, каб адвесьці Вас як найдалей ад фронту, з думкай, каб вырātаваць жыцьцё беларускіх юнакоў і прадставіць ім магчымасьць уласнае дэцызыі ў новастворанай, ад нас зусім не залежнай, сытуацыі.*

*Падарожжа зь Вільні.*

*Першыя дні падарожжа былі для мяне вельмі цяжкімі ва ўсіх маіх перажываньнях. Страта некалькіх чалавек нашых юнакоў моцна мяне прыгнятала. Мне здавалася, што мы назаўсёды пакідаем нашу дарагую Бацькаўшчыну й мне трудна было дабіцца ў сваёй галаве нейкае яснай думкі. Я адчуваў, што мы зьяўляемся дробнымі крошкамі, выкінутымі з карабля ў нейкае непамернае мора, і штохвіліна нас могуць праглынуць палюючыя хішчнікі. Так мы даехалі да Коўні.*

*У Коўні мы з капітанам Мікулам пайшлі шукаць адрэсу, што даў нам Астроўскі ў Вільні, каб атрымаць ад яго далейшыя інструкцыі, што рабіць. На жаль, пад указаным адрасам мы яго не знайшлі й ніякіх інструкцый ён нам не аставіў. Тое самае паўтарылася ў Кэнігсбэргу.*

*Па першым расчараваньні адносна інструкцыяў Астроўскага заварушыліся нашы мазгі. Мы пачулі, што мы кінутыя самым сабе, і Астроўскі, відаць, ня мае ніякіх канкрэтных плянаў, каб з намі падзяліцца. Падсьведама мы пачуліся ў тонучай беларускай лодцы. Мы прадыскутавалі зь Мікулам усю ўтварыўшуюся сытуацыю. Мы выразілі поўнае перакананьне, што немцы больш не ўтрымаюць ані ўсходняга, ані заходняга фронту, і ў сувязі з гэтым будзе канец і беларускае справы. Тут мне ўспомніліся сьвятыя словы пакойніка кс. Гадлеўскага. Неаднойчы, як мы былі сам-насам, ён казаў мне: у нашым змаганьні ў гэтай вайне за Незалежную Беларусь мы павінны выступаць на двух франтах. Адна частка беларусаў павінна быць зь немцамі, другая на Захадзе, і нехта выйграе. Думка гэтая падбадзёрыла й Мікулу. Мы злажылі плян. Асновы яго такія:*

*1. За ўсю цану зьвязацца з Галоўным кам. БКА і БЦР.*

*2. Правесьці пастанову аб арганізацыі рэгулярнай беларускай арміі з усіх рэштак БКА, паліцыі і ўсіх тых, хто здольны насіць аружжа.*

*3. Абучыць гэтую армію ўласнымі сіламі, або нават і пры помачы нямецкіх армейскіх афіцэраў, але пад ніякім узглядам ня мець ніякага дачыненьня зь нямецкім СС і паліцыяй.*

*4. З астаўшыхся з намі юнакоў адкрыць беларускую афіцэрскую школу з даўжэйшым тэрмінам абучэньня, маючы на ўвазе хуткі канец вайны, каб ня ўцягваць моладзі ў сьмяротэльную катастрофу.*

*5. У міжчасе патаемна шукаць сувязі з Захадам празь іх разьведкі ў Нямеччыне, якія, безумоўна, там існавалі, а якой не было ў нас у Беларусі.*

*6. У адпаведны момант перайсьці на Захад і там шукаць магчымасьцяў змагацца за нашу Бацькаўшчыну.*

*Мы разьлічвалі, што немцы ў момант свайго залому хутчэй згодзяцца на дазвол арганізацыі беларускае арміі. Гэты дазвол мелі іншыя народы, Уласаў, украінскі ген. Шандрук, нават і палякі арганізавалі сваю дывізыю пасьля Варшаўскага паўстаньня. І як я пасьля даведаўся, усе гэтыя народы шукалі паразуменьня з Захадам. Я не мыліўся, магчымасьці былі, і хоць гэтыя народы не здабылі дзяржаўнае незалежнасьці, то прынамся ўзьнялі свой прэстыж у сьвеце. Трэба было толькі праявіць належную энэргію й сьмеласьць.*

*Адносна школьнае роты ў нас была й іншая пастанова. Незалежна ад таго, ці наш плян арганізацыі арміі ўдасца, ці не, за ўсякую цану перавесьці яе на Захад як асобную адзінку пры ўмове, што на Захадзе яна захавае свой нацыянальны й рэпрэзэнтацыйны характар. Мы таксама прадыскутавалі маральны бок пераходу. Як вядома, кожны пераход жаўнера на іншы бок разглядаецца як ганьба ў агульналюдзкім кодэксе маралі. Мы, аднак, ставілі дабро свайго народу вышэй за ўсё. Пры тым Захад ня быў нашым ворагам, а да сапраўднага нашага ворага, бальшавікоў, мы й не зьбіраліся пераходзіць. Захад быў нашым натуральным саюзьнікам, а пад немцамі мы знайшліся дзякуючы нашаму геаграфічнаму палажэньню. Наш удзел у змаганьні з бальшавікамі быў дабравольны й ён быў кіраваны інтарэсамі нашае паняволенае Бацькаўшчыны. Ворагаў на захадзе ў нас не было, і таму наш пераход на Захад ня быў бы ніякім маральным праступкам. Каб пры пераходзе на Захад захаваць чэсьць беларускага жаўнера, мы пастанавілі абысьціся безь людзкіх ахвяраў, агранічыўшыся раззбраеньнем немцаў, якія б былі на нашым шляху ў рэалізацыі нашага пляну, і толькі ў выпадку агня адказваць агнём. Гэты падход Вам добра знаёмы.*

*Намеціўшы гэты плян, мы падалі сабе з Мікулам рукі й меліся распачаць дзеіць такім шляхам, што ён астанецца пры школе, а я як звольнены з становішча камандзіра з разьвязанымі рукамі пры першай нагодзе ад'еду ў Нямеччыну шукаць БЦР і шукаць магчымасьці рэалізацыі гэтага пляну. Пры тым я меўся пашукаць нейкага прыстанішча для маёй сям'і й далучыцца да*

*школы ў часе пераходу альбо пашукаць яе ўжо на тамтым баку. На гэта капітан Мікула поўнасьцю згадзіўся. У часе нашага падарожжа Зіглінг прысылаў да нас сваіх пасланцаў з прапановай, каб уключыцца ў яго будучую дывізію. Я наадрэз адмовіўся. Па-першае, я быў станоўкім праціўнікам СС і нямецкае паліцыі, а па-другое, гэта пярэчыла б нашым плянам.*

*У Вашай аповесьці на бач. 88-ай ёсьць апісана сцэна гутаркі капітана Мікулы з рэкрутамі ў маёй прысутнасьці. Я цешуся, што Вы яе не забыліся. Гэтая гутарка зь юнакамі была насумысьле падрыхтаванай пасьля таго, як мы зь Мікулам поўнасьцю абгаварылі свае пляны. Я хацеў, каб юнакі хоць часткова адчулі, што нешта пастаноўлена, хоць раскрыць поўнасьцю пляны ня можна было са зразумелых прычын. Як звольнены камандзір ці бежанец, я ня мог нарушыць ротнае дысцыпліны, якой камандзірам быў ужо ад Вільні ст. лейтэнант Каранеўскі, таму я прасіў кап. Мікулу правесьці гутарку, зьмест якой Вы правільна перадалі. Ня можна было праводзіць гэтай гутаркі спэцыяльнай зборкай са зважай і г. д., бо гэта б магло кінуцца немцам у вочы, якія ўсяму прыслухоўваліся. З досьведу я знаў, калі афіцэр прысядзе дзе-небудзь і загаворыць да жаўнера, другія, гледзячы на гэта, сабіраюцца бліжэй. Такім трыкам была зроблена зборка калі ня ўсіх, то большае часткі, і першая гутарка была праведзена, незалежна ад таго, хто яе правёў. Мая думка была з Вамі.*

*<u>Маё адлучэньне ад школы й далейшае падарожжа</u>.*

*Хіба ясна цяпер для Вас, што я ня «змыўся». Я быў легальна звольнены адумысловым загадам, копію якога меў ст. лейтэнант Каранеўскі. Усе тыя, што казалі й кажуць, што я «змыўся», робяць на мяне паклёп. Я мушу адзначыць, што адлучыўшыся ад школы, нягледзячы на ўсе цяжкасьці сямейнага чалавека, я вёз з сабою ідэю беларускае справы. Маё адлучэньне ад школы спарадзіла розныя толкі й плёткі, якія часта хадзілі ўсьлед за мною са злоснымі камэнтарамі й выдумкамі. Між іншым, у 1956 г. быў нейкі злосны артыкул аб маёй дзейнасьці ў «Дакумэнтах і фактах»[383], выдаваных у Вас у Таронта. Гэтай вясной лёнданскае «Аб'еднаньне» зьмясьціла артыкул нейкага*

---

[383] **«Дакумэнты і факты»** — перыёдык, які выходзіў як «Архіў Беларускага вызвольнага руху» ў 1952–1957 гг. у Нью-Ёрку і Таронта.

*былога школьніка, успамінаючы мяне й ачарняючы нават маю жонку. Цікава, каму гэта дэструкцыйная праца патрэбна.*

*Адлучыўшыся ад школы, я заехаў з ходам цягніка ў Судэтэнлянд. Неадкладна я адправіўся ў дэлегатуру Мін. усходніх спраў з просьбай направіць мяне ў Бэрлін. Мне хутка далі пропуск. Я аставіў сям'ю, а сам паехаў у Бэрлін. У Мін. усходніх спраў у Бэрліне мяне прыняў нейкі начальнік да беларускіх спраў. Прозьвішча ягонага ня помню. Я прадставіў яму адступленьне і ўвесь хаос, зьвязаны зь ім, згублены кантакт, сказаў, што БКА, беларуская паліцыя й іншыя беларускія збройныя сілы разьбіты, рэшткі адступаюць на тэрыторыю Нямеччыны ў вялікім хаосе. Я прыехаў сюды, у Нямеччыну, шукаць дапамогі арганізаваць беларускую армію з рэштак нашых збройных сілаў і навязаць кантакт з Гал. кам. БКА і БЦР. Штаб БКА і БЦР сядзелі ў гэты час за дратамі ў Лодзі. Я гэтага ня ведаў.*

*Прадзяржалі мяне немцы некалькі гадзін, дакладна выпытоўваючыся пра ўсё. Я націскаў на арганізацыю беларускае арміі. Праслухаўшы мяне, накармілі, напаілі й сказалі прыйсьці заўтра. Назаўтра адбылася тая самая ж гутарка на некалькі гадзін, але ўжо ў прысутнасьці вайсковых вышэйшага чыну. Я напіраў на адно: на арганізацыю беларускае арміі. Пры канцы яны спыталі мяне, ці я не хацеў бы гаварыць з прэзыдэнтам БЦР. Я сказаў, так. Зараз жа яны зьвязалі мяне зь ім тэлефанічна. Я паінфармаваў яго з тэмай сваёй гутаркі зь немцамі й спытаўся яго, што мне рабіць далей. Заставацца на месцы, пасьледаваў адказ. Немцы вызначылі мне яшчэ спатканьне на заўтра. На наступны дзень у месцы маіх гутарак зьявіўся й Астроўскі. Я чуўся зьбянтэжаным, што пераняў ягоныя функцыі. Я паінфармаваў яго аб маіх папярэдніх гутарках зь немцамі аб арганізацыі беларускай арміі, нашых дыскусіях зь Мікулам і нашай арыентацыі на Захад. Астроўскі быў маўклівы, сказаў мне ехаць назад да сям'і, а сам пайшоў на канфэрэнцыю зь немцамі. Так мы рассталіся. Ведаю, што хутка пасьля таго Рада пераехала ў Бэрлін, а Кушаль выехаў на інспэкцыю школы. Я ж вярнуўся ў Судэтэнлянд, адтуль бежанскі лягер Кістрын, пасьля Драйсхакэр-Турынгія й зноў Кістрын, і тагды я «паявіўся» ў Бэрліне. Тут я злажыў пісьмовы рапарт аб школе й наш плян адносна тварэньня беларускага войска. Многае можна было б расказаць пра тое, што тварылася ў Радзе, але я ад гэтага ўстрымоўваюся. Час ад часу ўзываў мяне генэрал*

*Езавітаў на нарады, дзе я заўсёды наставаў на адным, ня йсьці ў СС, а арганізаваць сваю армію.*

*Праз увесь час свайго побыту ў Бэрліне і ў Нямеччыне наагул я лавіў кожную вестку пра школьнікаў. Я завёў нават зь некаторымі перапіску. Зь вялікім задавальненьнем я даведаўся пра пераход школьнікаў на Захад. Я бачыў у гэтым і сваё ўзышоўшае зярнятка, засеянае ў Вержбалове. Зь вялікім сумам я прыняў вестку аб сьмерці капітана Мікулы. Схіляю перад ім галаву й думаю, што аднаго дня мы зь ім спаткаемся. Няхай лёгка спачне душа яго, якую дасталі зь яго цела азьвярэлыя нямецкія каты. Да ўсяго, што вы апісалі аб Мікулу, я дадаў бы прапанову: з ініцыятывы былых школьнікаў гэтаму слаўнаму сыну беларусклага народу беларускае грамадзянства на чужыне павінна паставіць помнік.*

*У нас маецца многа выдатных асобаў, якія загінулі мучаніцкай сьмерцю за беларускую справу. Кожная з гэтых асобаў мае сваю вагу, характар і гісторыю. Кс. Гадлеўскі, праф. Іваноўскі, маг. Шкялёнак, маёр Родзька, кап. Мікула, ст. лейт. Мазур і шмат іншых, каму ня толькі трэба было б ставіць помнікі, але ставіць іх як прыклад свайму народу.*

*Апошняе пра сябе.*

*Адносна сябе то скажу Вам проста. Вы можаце паставіць мяне на чорную дошку, але будзьце справядлівымі, рабіце гэта на аснове праверáных фактаў. На сваім сумленьні я ня маю нічога, што б паставіла мяне ў раду беларускіх сьцерваў. Беларуская справа ляжыць мне на сэрцы зь дзіцячых гадоў, і многа ў сваім жыцьці я за яе нацярпеўся ад усякіх чужынцаў і прыгнятальнікаў. Я не хачу праходзіць ніякае лазьні сярод сваіх. У мяне чыстае сумленьне. Усё, што я рабіў для беларускае справы, было вынікам маіх унутраных перакананьняў. За гэта чалавека ня б'юць. Калі я рашыў ня браць ніякага ўдзелу ў арганізацыі беларускіх аддзелаў пры СС і нямецкай паліцыі, то я гэта рабіў зь перакананьня. Школу я вывеў далёка за фронт і нічога больш зрабіць ня мог і за яе далейшы лёс пры СС ніякай адказнасьці я браць на сябе не хацеў. Я звольнены быў у пору, і сягоньня чуюся ўдзячным Астроўскаму, што ён зьняў зь мяне гэтую адказнасьць за мукі нашае найлепшае беларускае моладзі. Важнейшыя як я фігуры ў беларускім палітычным руху адмаўляліся пры немцах ад браньня на сябе адказнасьці за лёсы беларускага народу, пра іх ніхто не казаў, што яны*

*змыліся. Яны проста былі ў згодзе з сваім пераканаиьнем і сумленьнем. Да гэтай групы беларусаў належаў др. Шчорс, які ад самага пачатку вайны зарыентаваўся ў сытуацыі й не прыняў ніякае функцыі на Бацькаўшчыне. Др. Тумаш, пераканўшыся аб нікчэмных пэрспэктывах сваёй працы ў Менску, адмовіўся ад свайго становішча й выехаў, каб заняцца лекарскай працай. Інж. Абрамчык не захацеў ніякае функцыі, хоць аднойчы ў часе вайны быў завітаўшы ў Менск, і многа другіх.*

*Часамі пыталі мяне немцы, чаму я ня маю ніводнага іхняга мэдалю заслугі. Многія зь беларусаў іх мелі. Я ім адказваў, што я буду чакаць узнагароды за сваю працу ад беларусаў. Цяпер Вы, сп. Акула, мне гэтую нагроду выдалі. — Ласкут. Такой узнагароды ў беларускім грамадзянстве я не заслужыў.*

*Напісаў я гэты даўгі ліст да Вас ня дзеля таго, каб шукаць перад Вамі ці перад кім іншым апраўданьня ў сваіх паступкаў у беларускай дзейнасьці. Я маю гэта апраўданьне ў сваім сэрцы й сумленьні. І гэта мацней за ўсё.*

*Я напісаў Вам гэты ліст, каб добрасумленна й шчыра прадставіць Вам чыстыя, праўдзівыя факты, і ня толькі аб сабе, але й аб іншых, бо на Вашым пяры ляжыць вялікая адказнасьць. Няхай усе гэтыя сапраўдныя факты, якія я Вам прадставіў, паслужаць праверкай Вашай сумленнасьці й аб'ектыўнасьці Вашага сапраўды вялікага пісьменьніцкага таленту, да якога я маю куды больш пашаны й сымпатыі, як Вы да мяне, нават каб прыйшлося мерыць колькасьцю й якасьцю антыпатыі, выказанай да мяне ў Вашай аповесьці. Я жадаў бы ад шчырага сэрца, каб у нашай літаратуры заняў пачэснае месца яшчэ адзін таленавіты пісьменьнік у Вашай асобе, бо неба, пайменна, Вас узнагародзіла дарам, якога іншым не хапае. Зусім шчыра жадаю Вам посьпеху ў пісьменьніцкай працы на будучыню й адначасна яшчэ раз зусім станоўча пратэстую супраць няпраўды, якую Вы аба мне напісалі ў «Змагарных дарогах».*

<u>*Яшчэ некалькі думак да праблемы ў цэласьці.*</u>

*Не магу зразумець дакладна, у простым значэньні слова, самаго назову твору «Змагарныя дарогі». Збройнае змаганьне за Бацькаўшчыну, у поўным сэнсе гэтага слова, у нас тагды адсутнічала. Замерла амаль і палітычнае змаганьне. Беларусы ў Нямеччыне, сьціснутыя ланцугамі гітлераўскае законнасьці, не маглі яго поўнасьцю праявіць. Ад часу, як мы аставілі*

*Бацькаўшчыну ў 1944 г., мы сталі не на змагарны шлях, а хутчэй знайшліся на шляху дэспэрацыі й бездарожжа. Мне здаецца, што ўвесь пройдзены намі шлях на Захад да заканчэньня вайны, а нават і пасьля вайны да сягоньняшняга часу — гэта ёсьць адно вялікае бездарожжа. Я бачу тое самае бездарожжа ў «Змагарных дарогах». Няма там змаганьня за Беларусь. Там ідзе змаганьне маладых беларусаў за сваё нацыянальнае беларускае Я, за беларускасьць. Змаганьне за яго ў розных, цяжкіх, а часамі трагічных умовах, у якіх іх паставіў выхад з Бацькаўшчыны. Абарона й змаганьне за беларускае аблічча, памойму, і становіць галоўную тэму твору. Вельмі слушна. Нацыянальная ўстойлівасьць беларусаў з'яўляецца адной з галоўных базаў адбудовы незалежнай беларускай дзяржавы. Пакуль гэтае ўстойлівасьці будзе не討аставаць беларускаму народу, патуль мы незалежнасьці не здабудзем.*

*У нашай гісторыі змаганьня за незалежнасьць мы маем шмат сумных прыкладаў нацыянальнае абыякавасьці й здрады. Вядучыя роды беларускае арыстакрацыі, чаловых элемэнтаў беларускага народу ад нас адыходзяць. У беларускае масы, вернай сваёй беларускай традыцыі, будзіцца шкодны псыхіцы й патрэбам змаганьня комплекс ніжэйшасьці. Адыходзяць ад нас і становяцца перакідчыкамі шмат якія беларусы і ў апошніх часох. За часоў толькі майго жыцьця шмат беларусаў сялянскага паходжаньня, што сталіся інтэлігентамі, прынялі польскую ці расейскую нацыянальнасьць. Пераходзілі ў іншую нацыянальнасьць настаўнікі-беларусы, студэнты, закончыўшыя ўнівэрсытэты й г. д. А дзе ж, у канцы, падзеліся афіцэры, якіх мы перашколілі на Бацькаўшчыне. Знаходзіўшыся паміж сваіх, вельмі часта ня знаеш, куды некаторыя павернуць. Хіба толькі пазнаеш чалавека да шпіку й косьці. Я непамерна быў зьдзіўлены, як наглядаў у 1944 г. у шмат якіх дзеючых беларусаў і беларускіх афіцэраў зьмену нацыянальнага фронту. Адны зрывалі наплечнікі БКА, таптталі іх і пераходзілі да Ўласава, другія да палякаў, трэція да бальшавікоў. Знаю некаторыя прозьвішчы й добра помню іх твар. А калі хочаце, то адзін з жывых Вашых рэпрэзантантаў у «Змагарных дарогах» пры немцах зложыў заяўку, каб стацца фольксдойчам. Ён нават добры беларус. Няхай ён рабіў гэта ў хвілінах псыхічнага залому, але ў яго было жаданьне змыцца ад беларускай нацыянальнасьці. Нацыянальная няўстойлівасьць — гэта наша беларуская хва-*

*роба. Ясна, што хваліцца гэтым перад сьветам няма ніякае патрэбы. З другога боку, трэба быць вельмі асьцярожным, падбіраючы жывых удзельнікаў вайны для таго, каб снаваць давокала іх беларускае ідэйнае змаганьне. Быць сапраўдным беларусам ня так-та лёгка. Гэта значыць трэба насіць на сабе грахі нашай мінуўшчыны. Тройка маладых беларускіх кадэтаў у «Змагарных дарогах» выклікае ў сэрцы кожнага сьведамага й ідэйнага беларуса нацыянальную гордасьць. Тым большая гэтая гордасьць, што тройка геройскіх кадэтаў вырасла на шляху нашага бездарожжа.*

*Другое. Адной найбольш важнай праблемай у публіцыстычнай частцы была б праблема маральнага апраўданьня беларускага актыву, які шукаў магчымасьці пры немцах рэалізаваць свае нацыянальныя памкненьні. У Вас яна амаль непарушана, а калі дзе й ёсьць некалькі думак на гэтую тэму, то яны зусім схаваны й іх не заўважаецца. Насьвятленьне гэтае праблемы зьяўляецца вельмі патрэбным. З падобным апраўданьнем сваіх народаў ужо выступалі й расейцы, і ўкраінцы, а нават і жыды апраўдвалі сваіх суродзічаў, якія вырваліся з бальшавіцкага раю й кідаліся ў нямецкае гето.*

*Палажэньне Беларусі й беларусаў у часе апошняе вайны было надзвычайна цяжкое як з боку геаграфічнага, так і ідэалягічна-тактычнага. Было не па дарозе з бальшавікамі й не па дарозе зь немцамі. Прыйшлося выбіраць ня тое, што трэба. Вайна застала нас непрыгатаванымі ў сэнсе палітычнай арганізаванасьці, хоць і былі спробы пры бальшавіках навязаць ідэёвыя кантакты паміж усходнімі й заходнімі беларусамі. Найменшую спробу давілі ў зародку, так як і раздавілі спробу кантакту паміж беларускімі арганізацыямі ў Нямеччыне зь беларусамі на Бацькаўшчыне. Урэшце самая вайна была небывалым у гісторыі сьвету парадоксам, дзе адзін праціўнік лучыўся з другім, каб паканаць трэцяга, а паканаўшы яго ўдваіх, як ня дзіўна, толькі адзін атрымаў усе карысьці зь яе, стварыла для нас, беларусаў, няясны шлях, у выніку чаго нам прыйшлося йсьці амаль што ў поцемках, толькі ясна несучы ў сэрцы свае нацыянальныя ідэалы. Памылкі. Ясна, што ў такой сытуацыі былі й памылкі. Зусім зразумелыя памылкі. Памылкі рабілі й іншыя народы, што знайшліся пад немцамі, нават і жыды, якія ішлі на яўную сьмерць. Сытуацыя праясьнілася толькі пры адступленьні немцаў зь Беларусі. Тагды трэба было*

*дзеіць па-іншаму. У нас не знайшлося ўмеласьці й энэргіі ўзяць сытуацыю ў рукі й адзіным фронтам заняць моцную нацыянальную пазыцыю перад заходнім сьветам. Мы раздробніліся. Мы тварылі нейкія вайсковыя аддзелы, пададдзелы, а дывізія Беларусь — гэта ўжо поўнасьцю дэспэрацыя й зьнямога. Ад самага пачатку адступленьня нам трэба было арганізаваць беларускае войска, так, як рабілі гэта іншыя народы, а не ўцякаць начальству, пакінуўшы свайго жаўнера на ласку лёсу, а потым шукаць нявінных казлоў адпушчэньня.*

*У адным месцы вы апісваеце, як ген. Кушаль прыехаў на першую інспэкцыю школы ў Нямеччыне, хутка пасьля таго, як я «змыўся». Якая гэта была інспэкцыя школы, калі ён нават не паруліўся даведацца аб тым, у якім яна стане, хто цяпер яе начальнік і што сталася з былым начальнікам. Выходзіць, што ён пра Ласкутовіча так нічога й ня ведаў, бо кап. Мікула яму нічога пра яго не сказаў. І гэта, па-Вашаму, вайсковая інспэкцыя галоўнага камандзіра, які не пацікавіўся лёсам і стратамі школы? Давайце гаварыць больш сур’ёзна. Мне пра гэтую інспэкцыю гаварылі іншае. Але аставім непрыемныя ўспаміны.*

*У цэласьці пры немцах была праробленая надзвычайна вялікая нацыянальная работа. Пры ўсёй наяўнасьці яе недахопаў удзел беларускага актыву ў працы пры немцах захаваў ад яўнае сьмерці нязьлічоны лік беларускага насельніцтва. Ня будзь нашага ўдзелу ў працы, то немцы, палякі, латышы й іншы зброд з аднаго боку, а бальшавікі з другога перацярэбілі б наш народ напалавіну й зьнішчылі б усю беларускую інтэлігенцыю. І як бы ні былі зьмяінымі словы нямецкіх Кубаў, Юдаў і г. д., ад якіх мы часта чулі словы з пахваламі беларускае культуры й самабытнасьці ды нямецкае цьверджаньне, што Эўропа канчаецца там, дзе канчаецца Беларусь, набралі адпаведнага розгаласу й будзілі нават маласьведамых беларусаў да чыну. Апалячаныя й зрасейшчаныя беларусы пачыналі вяртацца ў сваю раней пакінутую Бацькаўшчыну, зь іх прыбраныя гаспадары з зайздрасьцю паглядалі ў бок беларуса й пачыналі яго больш шанаваць. Наглядаўшы ўсю працу й браўшы ў ёй удзел, сьмела магу сказаць, што беларускі народ у цэласьці праявіў у часе вайны незвычайны нацыянальны ўздым і сьведамасьць сваіх мэтаў. Гэта сьведамасьць і напор былі куды мацнейшымі сярод беларускіх масаў, а асабліва моладзі, як сярод кіруючага ста-*

*рэйшага пакаленьня. За выняткамі ачольваючыя адзінкі не былі падрыхтаваны й не адказвалі вымогам часу. Гэта праявілася ад самага пачатку й да канца вайны.*

*Не зважаючы на ўсякія недахопы, шкурніцтва, апартунізацыю й комплекс ніжэйшасьці дзеючых асобаў, нядаўняя мінуўшчына дае нам многа пазытыўных фактаў пад будову будучыні нашае Бацькаўшчыны. Нацыянальная работа ў часе нямецкае акупацыі, хоць і зь вялікімі недахопамі, знойдзе сваё апраўданьне ў гісторыі беларускага народу. Заходні сьвет яе ўжо зразумеў, даючы нам прытулак у сваіх краінах. Рэшта залежыць ад нас саміх. Мы павінны вылавіць усё пазытыўнае з нашай мінуўшчыны й прадставіць нашым будучым пакаленьням сапраўдныя й абаснаваныя факты без прысмаку асабістых тэндэнцый. Наш сапраўдны вораг натужвае ўсё свае сілы, каб нас ачарніць і разрожніць.*

*На гэтым кончу. Даруйце за даўгі ліст. Я перастаў маўчаць.*

*Добра было б пачуць ад Вас таксама шчыра й сумленна, як выказаўся я.*

*Будзьце здаровы.*

*З пашанай да Вас Віктар Чабатарэвіч.*

*19.12.1962 г.*

*Вельмі Паважаны Спадару Чабатарэвіч,*

*Калі б я мог нейкім чынам цяпер з Вамі сустрэцца, то верце, шчыра Вам гавару, я б перапрасіў Вас, пацалаваўшы ў руку, за тое, якую вялікую крыўду я Вам зрабіў. Мо дасьць Бог, што надарыцца такая магчымасьць, жывём жа не за гарамі. Крыўду я гэту зрабіў зусім нясьведама, а на гэта ўплыло шмат рэчаў, насамперш тое, што калі я на працягу пару гадоў зьбіраў інфармацыі, то некаторыя людзі наадрэз адмовіліся памагчы, лічачы, мусіць, што я задумаў нешта непаважнае, ды падазраючы, што мой праект зьедзе на «пшык». Цяпер ведаю, што ня толькі Вы, але й шмат іншых, бачачы, што я напісаў такі манумэнтальны твор, шкадуюць, што туды закраліся шматлікія памылкі. Стараўся я зьвязацца й з Вамі. Аднаго часу спэцыяльна прасіў сп-ра Віцьбіча (чуў, што Вы жывеце па суседзтве) падаць мне Ваш адрас. Ён гэтага не зрабіў. Прасіў я й яшчэ некага, цяпер ужо не прыгадваю каго, ды так і не ўдалося. Вы й самі ў першых словах Вашага так цэннага ліста да мяне кажаце «неяк прыпадкова я даведаўся аб вы-*

*хадзе ў сьвет Вашае аповесьці». Яна, гэтая аповесьць, вось ужо год цэлы рэклямуецца ў «Бацькаўшчыне», а Вы «прыпадкова даведаліся». Што гэта значыць? Па-моему, тое, што Вы адгарадзіліся, лічылі, мусіць, патрэбным ня мець сувязі зь беларускім арганізмам на эміграцыі. Пэўна ж, маеце на гэта свае прычыны. У мяне існуе такое пераконаньне, што памінаючы нашыя мінулыя апраўданыя ці няслушныя антаганізмы адзін да другога, ня мае цяпер ніхто з нас стаяць на баку, нічога не рабіць, крыўдзіцца, што пасьля іншыя яго ня так характарызуюць, як бы ён сам гэтага хацеў. Да гэткіх, вось стаячых збоку, залічаў я й Вас. За гэта даруйце. Сам ад прыезду ў Канаду на фарму й аж да сяньняшняга дня незмардавана працую й нацыянальныя інтарэсы стаўлю не ніжэй сямейных. Мо з гэтага будзе Вам зразумелым, чаму так стаўлюся да бязьдзейнікаў, гультаёў, не гаворачы ўжо аб афэрыстых і звычайных цёмных прайдзісьветах.*

*Ад самага Менску й аж да Ангельшчыны насіў я ў кішэні сшыткі з алавікамі і ўсё запісваў, што рабілася. І сяньня ляжаць яны ў маім прыватным архіве. Запісвалася пераважна тое, што я бачыў і чуў, няўмела, па-юнацку, але я ўжо тады ўсьведаміў цэннасьць гістарычнага матэрыялу, які марыў некалі ў далейшай будучыні апрацаваць. Усё меў наўвеце звычайную мастацкую аповесьць. Калі ж ня так даўно, перад пачаткам працы, дыскутаваў гэту справу зь іншымі, амаль усе аднагалосна раілі мне, каб у аповесьці падаць і тое багацьце гістарычнага матэрыялу, якое даўно чакала на свайго аўтара. Я й сам чакаў на некага. Часта прыгадваў іншых гісторыкаў, што, як аказалася й сяньня, «бібікі б’юць», а мусілі б гэтай працай заняцца, бо гэта ж вялікі скарб для будучыні нашага народу. Наканец, зь вялікім расчараваньнем усьведаміўшы, што ніхто й ня думае нешта такое рабіць, рашыў увесьці гістарычныя падзеі ў сваю аповесьць. Я добра разумеў, што гэта будзе публіцыстыка й гэткае вырашэньне пытаньня мяне моцна прыгнятала. Аднак людзі запэўнівалі, што твор на гэтым нічога ня страціць, што наадварот — будзе нейкая рэгістрацыя фактаў. Цяпер жа я ад ацэны твора ўстрымоўваюся, Вы самі бачыце вынік. Хаця агул чытачоў прыняў яго вельмі добра, я сам ім не задаволены. Найбольш твор пацярпеў ад таго, што ў шматлікіх выпадках я ня змог дастаць інфармацыяў якраз ад людзей, што ведалі праўду. Такім чынам, мусіў пераскакваць, а то й імправізаваць.*

*Паверыце ці не, што, напрыклад, сп-р Кушаль ня ведаў аб тым, што 30-я дывізія была арганізавана каля Варшавы, што ўся пайшла ў палон у Эльзасе й шмат іншага. Відаць, ня ведаў ён і пра Вас, міма таго, што суліў мне пэўныя інфармацыі адносна Вас. Дзякуючы таму, што др. Шчорс быў ласкавы напісаць, як была справа з апэрацыяй ген. Езавітава, я змог пазьбегчы абвінавачаньня яго, Шчорса (няслушнага), што ён намовіў ген. Езавітава на апэрацыю ў шпіталі. Калі б вось і гэты Ваш матэрыял, што маю цяпер перад сабой, быў у мяне ў той час, то магу Вас запэўніць, што вы занялі б у аповесьці пачэснае месца.*

*Ведаю, як Вы мяне ўяўляеце. Хоць прызнаеце той скупы талент, якім валодаю, тлумачыце маё адлюстраваньне Вашай асобы й некаторых падзеяў «партыйнасьцю». Уяўляеце мяне, пэўна, нейкім ці нейчым падгалоскам, чалавекам несумленным, ды й пэўна шмат яшчэ горшага іншага. Запэўніваю Вас, што так ня ёсьць.*

*Мяне, прыкладна, да сьлёз крыўдзіць Ваш найбольш балючы дакор: «чаму, калі Вы ўспамянулі мяне, мой маленькі сынок, нявіннае дзіцё, не ўласкавіўся некалькі слоў Вашага пяра? Ён таксама, як і ўсе іншыя, перажываў той сьмяртэльны налёт». Ведаю, што гэткая рэч цяжкая для выясьненьня. Вы як бацька гэтага маленькага сына мусілі мяне праклінаць і галасна, і ў думках. А ці ведаеце, ці паверыце мне, што я й аж да атрыманьня Вашага ліста ня ведаў нічагусенькі пра вашага сына? Цяжка паверыць. Але гэта праўда. Ня ведаў ані пра тое, што з Вамі ехала жонка й сын. Гэта, трэба прызнаць, не апраўданьне, што я ня ведаў. Вы слушна кажаце, што я мусіў ужываць толькі факты правераныя, а якую ж магчымасьць я меў зьбіраць гэтыя факты, правяраць іх. Калі б у мяне былі гэтыя магчымасьці, то я ня так рабіў бы: перш за ўсё шмат каго наведаў бы асабіста (у тым ліку Вас найперш), зьезьдзіў бы аж у Нямеччыну й знайшоў бы Зіглінга, даведаўся б, хто падставіў нагу Мікулу (былі такія, сягоньня яны й жывуць яшчэ, здаецца, але падазрэньні цяжка праверыць), ды й масу іншага.*

*Яшчэ адносна характарыстыкі Вашай асобы. Такі крывы вобраз аб Вас, які Вы знайшлі ў кнізе, мелі амаль усе вучні школы БКА. Найбольш да гэтага хіба спрычыніўся факт, што Вы рэдка былі з намі. Вучні ж не маглі ўгадаць, што дзеецца ў БЦР, якія самі маеце клопаты ці якія заслугі зрабілі для арганізацыі*

*школы. Гэтыя зялёныя юнакі, у тым ліку найперш і я, які ўважна сачыў за ўсім, але ня меў доступу да бліжэйшага знаёмства з нашымі камандзірамі, лічылі зусім слушна, што яны нясуць сябе ў ахвяру для Бацькаўшчыны, ці ў чэрвені 1944 г., ці ў будучыні. Яны ў камандзірах хацелі бачыць больш, чымся вайскоўцаў. Ім трэба было цёплае слова, бацькоўскае амаль, духовая блізкасьць. З Вашага боку таго не было. Мусіць належыце да тых людзей, што не адразу адкрываюцца, якіх на першы погляд не зразумееш. І вось калі зьявіўся між нас сьв. пам. Мікула, закінуў пару сяброўскіх слоў, прамовіў да нас шчыра й зь цеплынёю з намёкам, што немцы нам чужыя, ён адразу й вырас у нашых вачох як наш самы блізкі сябра й апякун. Я пэўны, што калі б і Вы так у свой час зрабілі, напэўна атрымалі б ад нас поўную меру зразуменьня, пашаны, ды і ў маёй аповесьці выглядалі б інакш, як цяпер.*

*Яшчэ адно хачу прыгадаць: пытаўся я аднойчы пра Вас Грыцука, які казаў, што ведаў Вас з польскае арміі ці то з настаўніцтва. Нічога такога, што магло б кінуць на Вас прамень як на чалавека й беларускага дзеяча, ён мне, на жаль, не расказаў.*

*Вось гэтым, здаецца, я выясьніў, чаму так адносна Вас атрымалася. Надзеюся, што мне верыце й зразумееце, што сталася вялікая й балючая для Вас памылка. Цяпер пару слоў аб тым «змыўся». Вучні ня ведалі аб тым загадзе Астроўскага, які Вас адставіў у Вільні. Мы аж да Плоцка ўсё думалі, што Вы наш камандзір і таму як нас пакінулі, дык было крыўдна. Хто гэта першы сказаў «змыўся», ня ведаю. Усе прынялі гэта за добрую манэту, і сяньня, я веру, бальшыня ня ведае праўды. Я ж у сваёй аповесьці яшчэ падмацаваў гэта.*

*Я не пісаў «Змагарных дарог», каб зь нейкім наводзіць парахункі. Стараўся — Бог няхай будзе сьветкам — перадаць факты так, як іх бачыў, ды й так, як удалося мне іх праверыць з тымі ласкавымі людзьмі, што пасьпяшылі мне на помач. Вы, дзякуючы зьбегу такіх непамысных абставінаў, не былі між імі. Сталася вялікая шкода. Занадта многа часу й тае прыказачнае «крыві сэрца» я ўлажыў у гэту працу, не гаворачы аб фінансавых стратах, каб выйшла яна нейкім пашквілем. Бачачы нашу прост-напраст распачлівую галечу на літаратурнай ніве ды ў дзялянцы дакумэнтацыі цэнных гістарычных фактаў недалёкае цяжкое мінуўшчыны, я быў пастанавіў, што калі гэ-*

*та будзе мая апошняя праца ў жыцьці, то мушу яе зрабіць за ўсякую цану. Аб'ектыўнасьць у перасейваньні праўды ад хлусьні ці звычайнае мякіны пацярухі, была маёй шляхаводнай вехай. Ня ўсе тыя, каго я прасіў, прыйшлі з дапамогай. Затое цяпер і ў будучыні кідаюць і будуць кідаць у мяне каменьнямі тыя, што нават не патурбаваліся адказаць на мае просьбы. Я хацеў у нашу скромную беларускую скарбніцу даць твор, які б беззаганна (перадусім з гледзішча рэгістрацыі гістарычных фактаў і характарыстыкі людзей) паказаў нашым нялічным нацыянальным змагаром і шырэйшаму грамадзтву той жахлівы вобраз нашай мінуўшчыны, каб гэтым самым ці аднаго падштурхнуць і цяпер да працы. Ужо ведаю з водклікаў, што няма адзінкі, якая ў такі спосаб бачыла раней ці ўяўляе цяпер увесь той жах і бязьдоннасьць, у якім быў апынуўся беларускі народ за час апошняе вайны, што рабілася, хто, як і чаму рабіў і гэтак далей. Каб я меў час, я б напісаў тры разы столькі. Нават таго матэрыялу, што меў, ня змог усяго выкарыстаць. Аднаго я спадзяваўся, што мо гэтая мая праца дасьць ахвоты іншым, што ўмеюць і могуць пісаць. У мяне цяпер чацьвёра дзетак, з гэтага дзьве асобы ў сям'і пастаянна хворыя. Як самі бачыце, працуючы на хвабрыцы ды сочачы за сям'ёй, я краду сабе гадзіны сну, каб пісаць. Акрамя ж таго я пастаянна й бесьперапынна працаваў тут на грамадзкім і царкоўным полі. Гэта ўсё прыгадваю не таму, каб перад Вамі напуста хваліцца, а дзеля таго, каб Вы зразумелі, што я ведаю вагу часу, не хачу марнатравіць яго на пісаньне пашквіляў ці «партыйных» аповесьцяў.*

*Вы прыгадваеце нейкі артыкул у «Дакумэнтах і фактах», выданы тут у нас у 1956 г. Першы раз аб такім чую. Тут у нас сядзіць Хмара, што й цяпер, здаецца, дзяўбе «Беларускі голас». У Таронце яго даўно раскусілі, ніхто ягонай газэты тут не чытае. Выкінулі яго з таго Нацыянальнага аб'еднаньня, якое калісьці залажыў з групай, што адлучылася ад нашай арганізацыі ЗБК*[384]*. Іншыя, прыватна і ў Нью-Ёрку, думаюць, што ён тут адзін зь лідараў. Гэта няпраўда. Ён зусім сам. Часта вось ягоныя розныя «дакуманты й факты» прыпісваюць нам усім. І аб тым, што лёнданскае «Аб'еднаньне» пісала аб Вас сёлета вясной, чую ўпяршыню. Калі гэта пісаў адзін з нашых школьнікаў, то меў, пэўна, аб Вас няслушны погляд, што*

[384] **ЗБК** — тут: Згуртаванне беларусаў Канады.

*пакутуе сёньня між многіх б. школьнікаў. Чаму ж ён уплёў і Вашу жонку?*

*Назоў «Змагарныя дарогі» трэба разумець у пераносным значэньні. Мне здаецца, што цэлы наш шлях ад Менску да Лёндану ці ў іншыя куткі Вы няслушна называеце «дэспэрацыяй і бездарожжам». Шмат людзей адпала, заламалася, перабегла да чужых, шмат іншых загартавалася, набрала дасьветчаньня. Гэтыя два працэсы я намагаўся паказаць і, здаецца, што часткова гэта ўдалося. Мы былі пастаўленыя ў сытуацыю, дзе захаваньне самых сябе, гартаваньне й мацаваньне, каб падоўжыць шлях у будучыні да вызваленьня Бацькаўшчыны, і былі змагарнымі дарогамі. Пры гэтым жа трэба было й манэўраваць, каб не праліць кроў за нашых ворагаў, і гэта нам таксама ўдалося.*

*Напрыканцы хацеў бы заўважыць, што я нязьмерна цешуся, што Вы да мяне напісалі. Гэта Ваша канцавое «я перастаў маўчаць» і гратыфікуе крыху маю працу. Цяпер я ня ў стане нічога зрабіць, каб паправіць тыя крыўдныя памылкі адносна Вас у кнізе. Адно абяцаю, што калі ў будучыні аповесьць будзе перавыдадзена (надзеюся, што на вольнай Бацькаўшчыне), тады зраблю новую апрацоўку з увагай на ўвесь новы, даплыўшы й праверaны матэрыял*[385].

*Як на пачатку я зазначыў, надзеюся, што можам у недалёкай будучыні сустрэцца й пагаварыць шырэй. Даруйце, што не магу камэнтаваць усе закранутыя ў Вашым лісьце пытаньні, не стае ў мяне на гэта часу. Цяпер працую ўжо над іншым творам і наагул амаль да нікога не пішу. Вам яшчэ раз вельмі й вельмі дзякую за добрыя й слушныя заўвагі.*

*Няхай Вам Бог прыспорыць многа здароўя, няхай вясёлымі будуць Вашы й Вашай сям'і Каляды ды шчасьлівым надыходзячы Новы Год.*

*Астаюся з глыбокай да Вас пашанай К. Акула.*

---

[385] Як і прадбачыў К. Акула, у незалежнай Беларусі ягоны раман быў перавыдадзены — у 1994 г. Аўтар (ён памёр у 2008 г.) паспеў парадавацца зменам на Бацькаўшчыне і здабыццю новых чытачоў, але свайго абяцання Чабатарэвічу не стрымаў — паправак не ўнёс.

*Таронта*
*20 сьнежня 1962 г.*

*Вельмі паважаны Спадару Чабатарэвіч,*

*Дазвольце мне ізноў завітаць да Вас у хату. Сяньня на працы цэлы час перадумываў я Ваш ліст. Ён мяне страшэнна ўсхваляваў, што ажно ўчора спаць ня мог спакойна. У рэзультаце ўзьніклі ў мяне яшчэ дзьве думкі, якімі хачу тут з Вамі падзяліцца. Першая: я маральна забавязаны, зрабіўшы Вам вялікую крыўду, ня толькі публічна папрасіць Вашага прабачэньня, але й выясьніць, як запраўды было. Маю наўвеце выясьненьне, якое я напісаў бы ў «Бацькаўшчыну», прыгадаўшы загад Астроўскага з 2.6.1944 г. у Вільні аб звальненьні Вас з камандзіра школы БКА, прыгадаўшы хаос, ды й чаму я памылкова ахарактарызаваў Вас у «Змагарных дарогах». Гэтае мінімум, што цяпер можна было б зрабіць, разьвеяла б дрэнную апінію аб Вас у думках шматлікіх людзей, перадусім нашых супольных сябраў з гэнай трагічнай мінуўшчыны. Безумоўна, перад высылкай у газэту праектаванае выясьненьне я пераслаў бы Вам для апрабаты ці эвэнтуальных паправак. Прашу вось гэта разважыць і паведаміць мяне аб Вашых поглядах.*

*Другая: у вадным месцы Вашага абшырнага ліста Вы выказваеце погляд, што «сягоньня ўжо можна было б арганізаваць спэцыяльны беларускі інстытут для дасьледаваньня і ацэнкі нашае працы на фоне тагдышніх падзеяў» (мінулае вайны), а ў другім зноў зазначаеце: «маецца многа выдатных асобаў, якія загінулі мучаніцкай сьмерцю за беларускую справу. ...Каму ня толькі трэба было б ставіць помнікі, але ставіць іх як прыклад свайму народу».*

*Першая думка добрая, але я ня веру, каб магла быць тут зрэалізаваная, хіба што нейкае «фаўндэйшэн» з прапазыкамі добрых пасадаў пасуліла б гэта нашым «наўчоным», што пазалазілі, як клапы, у шчэліны. Кандыдатаў на працаўнікоў было б хоць заваліся. Калі ў напрамку такога патрэбнага дасьледаваньня ці публікацыі працаў і можа быць што зроблена, дык адно ахвярнымі адзінкамі. І вось тут прыходзім да другой Вашай думкі, аб «помніках». Калісьці адна вельмі заслужаная асоба казала мне, што калі б яму пасьля сьмерці хто прапанаваў паставіць тут на чужыне цэмэнтовы ці хоць трывальшы помнік, гэта было б адно стратай матэрыяльных*

*сродкаў. Лепш было б, каб за гэтыя грошы была выдадзеная якая добрая кніжка.*

*З такой думкай цяжка не згадзіцца. Маючы гэта наўвеце, што ў нас на выданьне кніжак якраз найбольшая скупасьць сродкаў, а на чытаньне іх самая вялікая прагавітасьць, ужо ў «Змагарных дарогах» я стараўся паставіць такія скромныя «помнікі» Мікулу й Езавітаву. Няхай нашы родзічы на чужыне носяць аб іх у сэрцах сьветлую памяць, а дазволіць Бог, то запраўдныя помнікі для іх і шматлікіх іншых стануць на вольнай Бацькаўшчыне.*

*І вось цяпер я да галоўнага. Вы прыгадваеце аб Вашай блізкасьці да кс. Гадлеўскага. Характэрна, што колькі я чуў аб гэтым выдатным чалавеку, людзі заўсёды адклікаліся з пашанай, чуць ня з набажнасьцю. Запраўды вялікі мусіў ён быць. І ці ж мы ўсе тут, вольныя на чужыне, не стаім у даўгу перад яго сьветлай памяцьцю? І ці можна пусьціць памяць аб ім у нябыт? Гэта ж вялікі нацыянальна-ўзгадаваўчы капітал. Ягонае жыцьцё й праца для нашага пакутнага народу — гэта духовая скарбніца для нашых будучых пакаленьняў.*

*Наша наагул бедная літаратурная скарбніца ня мае амаль нічога з мэмуарных матэрыялаў аб вялікіх сынох і дочках нашага народу. Як жа, пытаюся, можна бяз жалю канстатаваць такі факт? Вось і сягоньня ёсьць жывыя людзі, што носяць у сваёй памяці шмат добрага й цэннага матэрыялу, які, калі б быў належна апрацаваны й цяпер выданы, зьявіўся б бясцэнным капіталам для нашага народу на будучыню. Ворагі нашы вунь чэрняць, аплёўваюць мёртвых пастаянна, бясчэсьцяць, а мы, злажыўшы рукі, сядзім. Гэта недаравальна.*

*Выходзячы з вышэйсказанага, асьмельваюся зрабіць Вам прапанову: ці нельга было б, сабраўшы матэрыял аб жыцьці й дзейнасьці кс. Гадлеўскага, апрацаваць яго ды пасьля выдаць? Запэўніваю Вас, што на выданьне добрыя людзі сродкі далі б, адно ходзіць аб тое, каб было што. Вам, які добра ведалі кс. Гадлеўскага, выпадала б выканаць гэта пачэснае заданьне. Магчыма, аднак, што Вы не асьмеліцеся ці фізычна ня зможаце. Я маю, ці дакладней кажучы, ствараю сабе ўмовы да такой працы ды й пастаянна пішу. Таму я мог бы гэтым заняцца, адно пад умовай, што Вы мусілі б мне дапамагчы. Гэта й для Вас была б вялікая праца, што заняла б шмат часу. Што Вы аб гэтым думаеце й ці змаглі б мне прыйсьці з дапамогаю?*

*Я сабе гэта ўяўляю так: я б зьвярнуўся да ўсіх на эміграцыі, што ведалі кс. Гадлеўскага, каб прыйшлі мне на дапамогу. Запэўніваю Вас, што людзі аднесьліся б да гэтага паважна, прыгадваючы «Змагарныя дарогі», і надзеюся, што матэрыялу б стала удоваль. На вялікі жаль, я ніколі кс. Гадлеўскага ў жыцьці ня бачыў. Таму з Вамі, акрамя пярэпісі, мусіў бы й сустрэцца, каб Вы маглі мне поўнасьцю й дакладна намаляваць ягоны вобраз. Мне, бачыце, залежала б, каб ня толькі перадаць самыя сухія факты, а каб паказаць яго з таго боку, зь якога ён найвыдатней сьвяціў і выявіўся вялікім: з духовага боку. У такой праектаванай працы, паколькі Вы цесна супрацоўнічалі й былі блізкія зь ім у Менску, я б знайшоў удзячную нагоду, каб з Вашага дазволу выправіць і тую вялікую крыўду, што зрабіў няслушна Вам у «Змагарных дарогах».*

*Цяпер, як я Вам ва ўчарашнім лісьце прыгадаў, я працую над чым іншым, але ж адно другому не перашкаджае. Матэрыялы-ўспаміны можна было б зьбіраць, а сабраўшы, усё іншае можна было б адлажыць на бок ды зрабіць гэтую ўдзячную працу.*

*Прашу Вас ласкава гэту прапанову перадумаць, разважыць ды падзяліцца са мной сваймі думкамі. Калі б вы згадзіліся, магчыма, Вы маглі б мне падаць прозьвішчы й эвэнтуальна адрасы людзей, што добра ведалі кс. Гадлеўскага ці то зь дзяцінства, ці пазьней, каб я мог да іх зьвярнуцца з просьбай памагчы нам.*

*Буду цярпліва чакаць Вашага адказу, жадаючы Вам і Вашай сям'і яшчэ раз добрага здароўя.*

*Астаюся з глыбокай пашанай К. Акула.*

*28.12.1962 г.*

*Вельмі Паважаны Спадару Акула!*

*У мінулы аўторак сеў адпісваць Вам ліст і ня змог кончыць. Неяк ня йшло, пісаў усё тое, што мне здавалася ня так, як я сапраўды думаў. Думка хутка паляцела ў мінуўшчыну, і я ня мог яе спыніць.*

*У сераду атрымаў Ваш другі ліст. І раптам Вы зрабіліся мне вельмі блізкім чалавекам. Недарма, чытаючы Вашу аповесьць, мне хацелася ціснуць руку Вашага Сымона. Зь недахопу часу сабраўся толькі сягоньня, каб Вам адказаць. Пачатак майго адказу на Ваш першы ліст быў такі. Паўтараю даслоўна.*

*Шчыра Вам дзякую за Ваш ліст.*

*Не! Я не мыліўся, мае прачуцьці спраўдзіліся. Што б мне хто не гаварыў, ці ня цьвердзіў, я не паверу, каб пісьменьнік быў злосным чалавекам. У Вас ёсьць глыбокае пачуцьцё справядлівасьці. Недарма прашчуры пісьменьніцтва й паэзіі палажылі ў аснову яе красу, дабро й праўду. Маё праўдзівае прадстаўленьне Вам фактаў выклікала ў Вас прызнаньне Вашае памылкі ў адносінах да мяне. Інакш яно й не магло быць. Толькі праўда выклікае праўду, а шчырасьць выклікае шчырасьць. Мы людзі й такімі павінны астацца.*

*Спадару Акула, падайма сабе рукі й на гэтым закончыцца паміж намі асабіста тая крыўда, якую Вы мне ўчынілі. Вашым лістом я поўнасьцю задаволены. Ваш ліст ёсьць для мяне найлепшым падарункам, які я калі-колечы атрымаў на Каляды. Аднак буду прасіць Вас зрабіць нешта раней у сэнсе выпраўкі маёй карыкатуральнай асобы перад беларускім грамадзянствам яшчэ перад выданьнем Вашае аповесьці. Я ня ведаю дакладна, у якой форме гэта можна зрабіць, але думаю, што пры наяўнасьці добрае волі нейкі выхад знойдзецца. Мне хацелася б таксама з Вамі спаткацца й пагутарыць. Цяпер у мяне час вельмі заняты. У сакавіку ў мяне экзамен зь мікрабіялёгіі й біяхэміі. Цяжкі. Баюся, каб не праваліць, а адлажыць не магу. Калі б вы былі ў гэты час у Нью-Ёрку, калі ласка, прашу к нам. Я буду вельмі рады, каб Вы ў нас затрымаліся. Мы тут сабе сядзем і паталкуем. Далей я стаў пісаць Вам пра маю дрэнную апінію ў школьнікаў, пра Мікулу, Кушаля, Грыцука, Хмару, пра сваё «гультайства» ў апошніх гадох, выясьняць прычыны, апраўдвацца й г. д.*

*Усё гэта перакажу Вам вусна. Адно толькі хацеў бы, каб Вы й былыя школьнікі ведалі сягоньня. Хутка пасьля маёй адлучкі ад школы ў некаторы дзень майго прыезду ў бежанскі лягер у Драйсгакэр немцы аднекуль прывялі к нам аддзел беларускае моладзі. Патомленыя доўгім маршам хлопцы й дзяўчаты, запыленыя, галодныя, паўабдзёртыя, выстраіліся радамі перад будынкам і на прывітаньне ўсіх выбегшых насустрач беларускіх бежанцаў запялі беларускія песьні. У чужой для нас старане паліліся словы й мэлёдыя «Люблю мой край, старонку тую», песьня, да распаўсюджаньня якой на Бацькаўшчыне спрычыніўся я. Я стаяў, як укопаны, толькі пачуў, як сьляза пацякла па маім твары. Мяне прасілі, каб я прамовіў да моладзі. У мяне ў вачох стаяла афіцэрская школа. Я расплакаўся,*

*як ніколі ня плакаў у жыцьці. Я не прамовіў ні слова й зышоў на бок, каб мяне ніхто ня бачыў. Усьлед за мной ішоў мой маленькі сынок і пытаўся: «Чаго Ты плачаш, папа». Гэта ўсё, што хачу Вам перадаць з майго адказу на Ваш першы ліст. Каб ня быць галаслоўным, мімаходам раскажу, як я спрычыніўся да распаўсюджаньня ўспомненай песьні. Яна была знаная ў маім мястэчку. Больш нідзе я яе ня чуў. Будучы на працы ў Школьным інспэктарыяце ў Менску, я расказаў пра гэтую песьню пакойніку Гадлеўскаму й кампазытару Туранкову*[386]*. Туранкоў зацікавіўся. Прасіў мяне запяяць, каб мог запісаць ноты. Ня верачы ў уласныя здольнасьці, я выклікаў свайго суседа з добрым голасам, А. Сянкевіча, што ў той час працаваў у рэдакцыі беларускае газэты ў Менску, і ён яе прапяяў. Туранкоў запісаў ноты, упадабаў яе, згарманізаваў і зараз жа пусьціў у ход у Беларускім менскім тэатры. Адсюль пачалося, і песьня пайшла па ўсёй Беларусі.*

*Кораценька пра маю цяперашнюю бязьдзейнасьць. Вы правы, сягоньня я нічога не раблю й нашто рабіць у сягоньняшнім стане нашае разьеднасьці. Амаль тры гады мы працавалі над стварэньнем у Амэрыцы беларускага рэпрэзацыйнага воргану, і мы нічога не зрабілі. Гутаркі гэтыя вяліся ў складзе асобаў др. Тумаш, др. Шчорс, сп. Тулейка, сп. Мярляк і я. Пасьля гэтага я й падняцца не магу. Таму я й пра Вашу аповесьць «нeяк прыпадкова даведаўся». Але са мной раней так не было.*

*Адносна апрацоўкі пэўных матэрыялаў зь мінуўшчыны я згаджаюся супрацоўнічаць з Вамі й зрабіць усё, што ляжыць у маіх магчымасьцях, каб быць карысным, хоць ня ведаю дакладна, наколькі я буду карысным. Толькі адно: да сакавіка не магу пасьвяціць на гэтую справу ніводнай хвілінкі часу. Мушу здаць экзамен. Тагды мой вольны час да Вашай і да нашай дыспазыцыі. Тым часам прадаўжайце сваю новую аповесьць.*

*У сувязі з маёй прапановай помнікаў загінуўшым заслужаным асобам я таксама меў на думцы пісаныя помнікі, і ў пер-*

[386] **Аляксей Туранкоў** (09.01.1886, Санкт-Пецярбург, Расія — 27.09.1958, Мінск), кампазітар, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР. У часе нямецкай акупацыі супрацоўнічаў з беларускімі нацыянальнымі асяродкамі. Пасля вызвалення Мінска арыштаваны і асуджаны 23 чэрвеня 1945 г. да 10 гадоў лагераў. Перад 1947 г. быў вызвалены, 21 кастрычніка 1959 г. рэабілітаваны. Аўтар опер «Кветка шчасця», «Яснае світанне», балета «Лясная казка».

*шым сваім лісьце сьпярша быў напісаў пра гэта, потым вычаркнуў, бо мне здавалася, што я няскладна пішу.*

*Я шчыра Вам удзячны за думку напісаньня ліста ў «Бацькаўшчыну». Па-мойму, такі звычайны ліст у газэту зачапіў бы крышку й Вас асабіста. Я гэтага не хачу. Вы для мяне пісьменьнік і павінны захоўваць свой аўтарытэт. Вы як пісьменьнік ужо сталіся да пэўнай ступені ўласнасьцю беларускага грамадзянства. Адсюль выплывае патрэба быць зь беларускім грамадзянствам у кантакце. Вы пэўна будзеце даваць адказы чытачом на іх крытыку ці заўвагі. Скажам, гэта будзе артыкул «Чытачом «Змагарных дарог» альбо «Адказ маім крытыкам» ці нешта падобнае. Вось там Вы можаце ўспамянуць кап. Ласкутовіча й напісаць тое, што Вы думаеце. Я не хацеў бы падаваць свайго сапраўднага прозьвішча. У мяне там вялікая сям'я, і там мяне шукалі й дабром не памінаюць. Можа быць і іншая форма. Я ня буду ўпірацца ў чымсь апрычоным, я быў бы толькі Вам удзячны, каб Вы зрабілі гэта ў прыемлемай форме й для мяне, і для сябе. Я не прэтэндую на героя, а некалі, як памру, то хацеў бы, каб на маёй магіле быў просты надпіс «тут пахаваны Беларус».*

*На заканчэньне яшчэ хачу сказаць колькі словаў. Дзеля таго, што я пачуў Вас вельмі блізкай асобай, адважуся даць Вам сапраўды сяброўскую раду. Калі Вы пішаце паважныя рэчы, ідзіце ўсьлед за Вашай уласнай першай думкай. Яна ў Вас надзвычайная, цудоўная, у ёй заключаецца ўвесь Ваш уздым і палёт. Не давайце нікому гэтае думкі зьбіць зь яе дарогі. Ганіце ад сябе вон усялякіх спэкулянтаў, якія б хацелі адвесьці Вас убок, можа, часамі для іх уласнае карысьці ці брудных замашак. Яны псуюць Вам музыку творчасьці, якая снуецца ў Вас з ідэйнага гледзішча. Толькі час ад часу патрэбная Вам перадышка й замена думак у кругу людзей, якія Вас разумеюць. Усе заслуханыя думкі Вы перабіраеце, разважаеце, аналізуеце й робіце ўласную дэцызію. Часамі просты беларускі селянін скажа Вам больш і разумней за настаўніка, а шэры жаўнер акажацца больш адданы справе, як сам генэрал. Ці Вы ведаеце, колькі ў нас на Беларусі было звычайных сялян, але разумных, якіх бы я не памяняў на шмат якіх т. зв. дзеячоў. Будзьце асьцярожны ў падборы людзей у свой круг шчырасьці. Вы вельмі шчыры чалавек. Адсюль, праўдападобна, выйшлі ў Вас некаторыя памылкі.*

*Я меўся да Вас напісаць незалежна ад таго, як Вы прадставілі маю асобу, ці б наагул яе зусім не ўспамянулі. На такі твор нельга не адазвацца беларусу, хто б ён ні быў. Гэта манумэнтальны, вялікі твор, толькі сьляпы альбо злосны чалавек не прызнае ў ім наяўнасьці сапраўднага таленту. Калі ёсьць там памылкі ў фактах, то яны закраліся з прычыны недастатковае інфармацыі альбо з тэндэнцыйнасьці інфарматараў. Ваш твор — гэта ня пашквіль. Пашквіляў я не чытаў і імі гаджуся, а Вашую аповесьць зьбіраюся чытаць яшчэ раз і больш грунтоўна й, можа, папоўню крыху свае папярэдне выражаныя думкі. А можа, нешта падам у газэту. Пакуль у мяне на гэта не хапае часу. Той, хто Вашага твору не чытае альбо распачне й ня скончыць, выяўляе недастатковы інтэлектуальны ўзровень і недахоп зразуменьня беларускае справы ў цэласьці. Кажу гэта зусім шчыра. Пры спатканьні пагаворым больш.*

*На гэтым пакуль скончу. Будзьце здаровы, дазвольце пацісьнуць Вашу руку й пажадаць Вам Вясёлых Каляд і шчасьлівага надыходзячага Новага Году. Жадаю Вам і Вашай сямейцы здароў'я, радасьці й посьпеху.*

*З пашанай да Вас В. Чабатарэвіч.*

*1.01.1963 г.*

*Вельмі паважаны Спадару Акула!*

*Сягоньня я засеў за стол, каб даць спозьненыя адказы на лісты сваіх знаёмых. За адным замахам хачу напісаць некалькі слоў і да Вас. Гэтым разам адносна апрацоўкі жыцьця й працы пакойніка кс. Гадлеўскага. Як я казаў, да свайго экзамену, да месяца Сакавіка я не магу пасьвяціць на гэта ані хвілінкі часу. Таксама думаю, што, можа, на гэты час і Вам ня сьледавала б адрываць сваёй увагі ад пісаньня Вашага новага твору. Калі будзем жыць, справа апрацоўкі помнікаў заслужаным Беларусам не ўцячэ. Вы мяне крыху заразілі таксама. Я буду старацца быць Вам карысным. Цяпер у мяне няма на гэта часу, але хутка я яго знайду. Тым часам Вам патрэбная канцэнтрацыя над Вашым новым дзецішчам. Я думаю, што гэтай духовай канцэнтрацыяй Вам ня можна пераносіць на іншыя прадметы. Калі Вам патрэбны часовы выпачынак, то трэба яго знайсьці ў чымсь іншым, хоць бы нават у шпацыру са сваімі дзеткамі, але не пераносіць канцэнтрацыі на іншы прадмет, каб ня страціць першапачатковага ўздыму. На ўсякі, аднак, выпадак я Вам па-*

*дам ужо цяпер некаторыя крыніцы й асобаў, якія могуць быць карыснымі пры апрацоўцы біяграфіі кс. Гадлеўскага.*

*1. Часлаў Найдзюк, родны брат Язэпа Найдзюка, які пражывае цяпер у Каліфорніі. Ягонага адрасу я ня маю, але здабуду. Гэта ідэйны беларус-каталік, вельмі чэсны й зраўнаважаны чалавек. Ён знае кс. Гадлеўскага з даўніх часоў. А перадусім ён мае кніжку свайго брата Язэпа «Беларусь учора і сяньня». У гэтай кніжцы маецца багата матэрыялу аб Гадлеўскім, а што найбольш важна — у ёй пададзена вельмі ўдачліва характарыстыка тых часоў, калі й дзе дзеіў кс. Гадлеўскі. У кніжцы гэтай не захаваны навуковыя прынцыпы апрацоўкі, але яна вельмі багатая гістарычным матэрыялам. Язэп Найдзюк быў самавукам. Толькі дзьве ягоныя кніжкі было прывезена ў Нямеччыну. Адну я перавёз у Амэрыку й перадаў брату аўтара, а другую ня ведаю, хто мае.*

*2. У Чыкага пражывае вядомы й выдатны беларус-каталік Пануцэвіч. Ён зьяўляецца адным із старэйшых супрацоўнікаў Гадлеўскага. Гэта быў рэдактар адной зь беларускіх газэт, што выходзілі перад вайной у Вільні. Ён раскажа пра Гадлеўскага багата, як хто.*

*3. Там жа ў Чыкага пражывае сп. Бяленіс*[387]*, былы клерык, вучыўся на ксяндза. Ён меў нейкае дачыненьне да Гадлеўскага. Я пазнаёміўся зь ім у Менску.*

*4. Др. Шчорс, др. Тумаш, др. Ст. Станкевіч знаюць Гадлеўскага зь Вільні перад вайною.*

*5. Др. Шчорс, др. Тумаш, інж. М. Абрамчык знаюць Гадлеўскага з Варшавы, калі ў пачатку вайны стварыўся ў Варшаве Беларускі нацыянальны камітэт, у складзе якога між іншых быў кс. Гадлеўскі.*

*6. Зь Менску, у часе вайны, Гадлеўскага знаюць многія, Адамовіч, Яўхім Кіпель, Калубовіч, Кушаль, Арсеньнева й шмат іншых. Найбольш надзейным на супрацоўніцтва будзе Калубовіч у Кліўлэнд, Огаё.*

*7. У Нью-Ёрку я спаткаў простага селяніна, былога прыхаджаніна Гадлеўскага з Жодзішак. Я яго лёгка магу знайсьці.*

---

[387] **Антон Бяленіс** (1906—1994), грамадскі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі быў супрацоўнікам мінскай гарадской управы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, жыў у Нямеччыне, Бельгіі. Напрыканцы 1940-ых пераехаў у ЗША.

*Да былых прыхаджанаў належаць, здаецца, сп-ня Брылеўская*[388] *з Саўт-Рыверу, штат Нью-Джэрзі.*

*8. У процівавес паказаньням іншых, для захаваньня аб'ектыўнасьці апрацоўкі можна было б паслухаць др. Янку Станкевіча. Др. Я. Станкевіч недалюбліваў кс. Гадлеўскага й быў ягоным супрацiўнiкам. Напрасна. Але праслухаць яго трэба было б.*

*Вось гэтых асобаў трэба было б апрасіць пры апрацоўцы матэрыялаў аб Гадлеўскім і на іх абаснавацца, дадаўшы гістарычную падкладку, апрацаваную Я. Найдзюком. Гэта мая думка, а як Вы ўяўляеце, падзяліцеся. Але я радзіў бы адлажыць гэтую справу на пасьля, калі ў Вас і ў мяне будзе больш часу. Тагды апрацуем бяз посьпеху.*

*На заканчэньне хачу Вам перадаць невядомае сярод беларусаў выдарэньне, якое здарылася ў часе Першага Ўсебеларускага кангрэсу, а якое расказаў мне пакойнік Гадлеўскі.*

*Пакойнік быў удзельнікам Першага Ўсебеларускага кангрэсу. У той момант, калі бальшавікі разганялі Кангрэс, банда ўзброеных бальшавікоў уварвалася ў салю паседжаньняў, убеглі на сцэну, сарвалі беларускі сьцяг, кінулі яго на падлогу й зь дзікім садызмам сталі яго таптаць нагамі. З салі падняўся нейкі старэнькі генэрал, узышоў на сцэну, падняў сьцяг, пацалаваў, палажыў на грудзі й голасна сказаў: «Гэты сьцяг Беларускага Народу будзе панаваць на беларускай зямлі». Ніхто ня ведаў прозьвішча гэтага генэрала, ніхто ня ведаў і што зь ім сталася пасьля разгону Кангрэсу. Гадлеўскі стараўся ўстанавіць гэта прозьвішча, але, на жаль, так яму гэта не ўдалося, хоць самы факт ён расказваў даволі часта.*

*На гэтым пакуль скончу, жадаючы Вам яшчэ раз многа шчасьця ў Новым Годзе.*

*З пашанай да Вас В. Чабатарэвіч.*

---

[388] Маецца на ўвазе **Лангіна Брылеўская** (22.02.1923 — 08.07.2008, ЗША), грамадская дзяячка, адна са стваральнікаў Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі, жонка Уладзіміра Брылеўскага.

*15.1.1963 г.*

*Вельмі Паважаны Спадару Акула!*

*У канцы прошлага тыдня я атрымаў Ваш ліст з падрыхтаваным артыкулам у «Бацькаўшчыну». Ня змог адразу адказаць, бо падрыхтоўваў лекцыю з маёй прафэсійнай працы, якую даваў у кругу сваіх супрацоўнікаў. Гэта людзі з закончанымі амэрыканскімі каледжамі. Так што трэба было лічыцца з падборам навуковага матэрыялу, тым больш, што пасьля такой чытанкі бываюць вельмі кур'ёзныя пытаньні. Гэтым разам дыскусія была вельмі ажыўлёнай і зацягнулася на некалькі гадзін. Бачыце, я працую мэдычным тэхнікам. Працуючы дванаццаты год у лябараторыі, я нядрэнна апанаваў на практыцы й праз саманавуку амаль усе галіны гэтае складанае працы, бо неяк трэба было чапляцца за жыцьцё. Тут маюцца розныя ступені працаўнікоў паводле аплаты. Усяго разам маецца пяць ступеняў. Кожны раз, каб узабрацца на вышэйшую ступень, трэба зластыць адпаведны экзамен. Да гэтага часу я маю за сабой ужо дзьве ступені. Цяпер хачу здаць на трэцюю ступень. Хоць я яшчэ ні разу ня зрэзаўся, але для мяне яны надзвычайна цяжкія. Ангельскую мову знаю нядрэнна, але навуковая й мэдычная тэрміналёгія часамі мяне заразае. З гэтае галіны я ня маю ніякае падрыхтоўкі раней. Вучуся сам, а ад навукі ў мяне бываюць галаўныя болі. Не хацеў бы я ўжо ісьці далей, але выпіхваюць, і нялоўка адмовіцца. Хачу яшчэ паказаць, што беларусы ні ў чым не ўступаюць іншым, хоць ужо і ў прыстарэлым веку. Такія іспыты бываюць даволі рэдка. Ніжэйшыя ступені раз на тры-чатыры гады, чым вышэйшая ступень, тым радзей, а самы высокі чын раз у пятнаццаць-дваццаць гадоў. Дык вось, як бачыце, дзеля таго я й вучуся.*

*Адносна Вашага артыкулу я ня маю ніякіх засьцярог і не зьбіраюся рабіць ніякіх правак. Я думаю, што гэты артыкул павінен быць выключна Вашым асабістым і індывідуальным голасам. Тое, што Вы прыслалі мне артыкул на апрабату, лічу джэнтэльмэнскім гестам з Вашага боку, і такім ён застанецца назаўсёды ў маёй памяці. Я ім цалкам задаволены й добра разумею, што гэта максымум, што можна сягоньня зрабіць. Я цешуся, што Вы паставілі справу ад самага пачатку так чэсна й сумленна. Усе Вашыя лісты я з прыемнасьцю чытаў. Яны былі шчырыя й мяне моцна ўскалыхнулі й раззброілі. Мой сын, запазнаўшыся з усёй справай і нашай перапіскай, такса-*

*ма сказаў, што Вы занялі да мяне вельмі прыгожую пазыцыю. І ў гэтай хаце Вы будзеце вельмі пажаданым госьцем. О. К., Спадару Акула, пасылайце артыкул у газэту. Я толькі хацеў бы атрымаць нумар тае газэты. Цяпер я «Бацькаўшчыну» не выпісваю. Неяк адстаў. Дзякую.*

*З Вашага ліста я бачу, што кошты выданьня «Змагарных дарог» яшчэ цалкам непакрыты. Нешта трэба зрабіць. Я ня раіў бы Вам асабіста рабіць звароты да беларускага грамадзянства з просьбай складаньня ахвяраў. Будзе паважней, калі гэты зварот зрабіла б ад сябе рэдакцыя «Бацькаўшчыны». Другое, трэба падабраць былых, але энэргічных вайскоўцаў і пусьціць лісту ахвяраў у кожным штаце ў Амэрыцы, дзе ёсьць беларусы, у Канадзе, Аўстраліі, Англіі. Вы знаеце былых школьнікаў. Няхай ахвяруюць крыху часу й пойдуць ад хаты да хаты. Гэта абавязкова трэба зрабіць.*

*А што б Вы сказалі, каб я Вам запрапанаавў улетку зрабіць спатканьне беларускага грамадзянства на эміграцыі, а перадусім усіх былых школьнікаў, з аўтарам «Змагарных дарог». Тут можна было б аддаць і чэсьць пісьменьніку, і грошы сабраць, і спаткацца людзям усім разам і ўспомніць мінулыя часы. Сур'ёзна.*

*Вам ужо, напэўна, вядома, што беларусы купляюць летні рэсорт у Нью-ёркскім штаце. Купча ўжо даходзіць да канца. Гэта вельмі прыгожае мейсца. Там маецца нешта шаснаццаць будынкаў на 110 добра абстаўленых пакояў. Маюцца вялікія салі. Улетку там будзе многа беларусаў, і там маюцца ўсе магчымасьці зрабіць спатканьне публікі зь пісьменьнікам. Трэба яго толькі ўмела сарганізаваць. Часу да лета яшчэ многа. Пастарайцеся вызначыць свой летні водпуск на каторы летні месяц, прыяжджайце туды з усёй Вашай сямейкай, аддыхняце й можна зрабіць там спатканьне пісьменьніку. Толькі трэба думаць аб гэтым ужо цяпер. З нашай перапіскі я дайшоў да пераканаьня, што Вы надзвычайна працаздольны й энэргічны чалавек. Вы можаце многае зрабіць. Праўда, пісьменьніку не выпадае арганізаваць спатканьне з публікай, і Вы яго ня будзеце арганізоўваць самі. Вы толькі памажыце падабраць адпаведных людзей у арганізацыйны камітэт. Пакуль я стаўлю прапанову ў прынцыпе й прасіў бы Вас на гэту тэму выказацца, а потым сьпішамся. Мне асабіста вельмі моцна хацелася б такую сустрэчу арганізаваць, публічна аддаць чэсьць пісьменьніку й*

*спаткацца з былымі школьнікамі. Мрою аб гэтым. Да гэтага часу я бачыў некаторых. Яны падыходзілі да мяне, віталіся, хоць потым ізноў я страціў іх з сваіх вачай. Прайшло многа гадоў ад часу лёсу афіцэрскае школы, але Вы яе ажывілі сяголньня. Добра было б арганізаваць нейкі працяг тае акцыі й адзначыць нейкім чынам з боку самых школьнікаў. Выкажыцеся.*

*Адносна некаторых абразкоў, якія я Вам падаваў, хачу яшчэ сказаць некалькі слоў. Я падаваў Вам іх таму, што яны ўрэзаліся ў маю памяць. Я іх ня лічу абыякавымі. Хачу Вам прыгадаць. Сьвятамі зайшоў да мяне Мікола Цэлеш. Як беларускі пісьменьнік, перад вайной ён абарочваўся ў літаратурных кругох у Менску. Ён напаткаў у выданьнях Інбелкульту прозьвішча таго генэрала, што цалаваў беларускі сьцяг. Прозьвішча яго Дашкевіч*[389]*. Паходзіў нібыта з маёнтку Асіповічы пад Менскам, а быў удзльнікам вайны на румынскім фронце. Цэлеш гэтага добра не прыпамінае, але ён казаў, што адпаведныя матэрыялы аб ім распрацоўваў на эміграцыі сп. Кушаль. Тады Кушаль можа паінфармаваць дакладней.*

*Калі Вас падобныя абразкі інтарасуюць, то я хацеў бы прыпаднесьці Вашай увазе найбольш трагічны выпадак, які меў месца на Беларусі ў часе нямецкай акупацыі. Гэта зьнішчэньне немцамі за адзін дзень каля шаснаццаці беларускіх вёсак пад пратэкстам удзелу іх у савецкай партызаншчыне. Гэта быў нялюдзкі праяў нямецкага зьдзеку над беларускім насельніцтвам у Слонімшчыне. Дэталі даведаецеся ад сп. Хмары. Ён у той час быў у Слоніме й павінен гэтую справу добра помніць. Яна засталася мне ў памяці таму, што я ў той час як галоўны сакратар Цэнтралі БНС езьдзіў да нямецкага гаўляйтэра ў Слоніме з пратэстам. Са мной быў інж. Касяк. У Менску быў зложаны пратэст на рукі ген. Камісара ад Цэнтралі БНС. Гэта была вельмі трагічная справа для ўсіх беларусаў. Па-мойму, яе трэба неяк увекавечніць.*

*Выпадак праяву незвычайнае адвагі беларусам у адносінах да немцаў быў дакананы ў Наваградку цяперашнім доктарам Б. Рагуляй. Гэты выпадак падняў дух адвагі па ўсей Беларусі. Барыс у абароне ўласнага гонару й чэсьці беларускае адміністрацыі кінуўся на нямецкага зондэрфюрэра зь*

[389] **Дашкевіч-Гарбацкі** (1893–?), генерал-маёр царскага войска. Удзельнік белага руху на Украіне. Супрацоўнічаў з гетманам Скарападскім.

*пісталетам у руках. Прайдзіцеся да доктара, ён недзе там недалёка ад Вас жыве, хай ён сам Вам раскажа дэталі гэтага здарэньня. Такія выпадкі былі незвычайным зьявішчам у дачыненьнях зь немцамі, і мне здаецца, іх бы трэба было адзначаць нейкім шляхам, не абавязкова ў выгоду данае асобы, якая праз сваю скромнасьць, можа, й не хацела б прыняць на сябе праяўленага геройства, але яно мае значэньне да беларускае справы ў цэласьці. Розных выпадкаў было многа, якіх забывацца нельга. Былі яны й дадатнымі, і адмоўнымі ў адносінах да дзеючых асобаў. Я не зьяўляюся прыхільнікам выцягваньня на дняўное сьвятло адмоўных выпадкаў таму, што яны абніжаюць вартасьць беларускага народу ў вачох іншых нацыяў, але калі яны вырасьлі да разьмераў Сьцервіна, трэба быць беспашчадным.*

*Вось на гэтым буду канчаць. Прасіў бы Вас моцна прадумаць маю прапазыку спатканьня пісьменьніка з грамадзянствам і не хавацца за заслону скромнасьці. На спатканьне Вы поўнасьцю сваёей працай заслужылі. Зьбяром і грошы, бо нашы людзі ўжо даволі ўзбагацелі, хоць і зьяўляюцца ў бальшыні ныцікамі.*

*Як заўсёды, з пашанай да Вас В. Чабатарэвіч.*

*28.1.1963 г.*

*Высокапаважаны Спадару Чабатарэвіч,*

*Над вашай думкай «спатканьня» грамадзтва зь пісьменьнікам» я даволі многа думаў. Спачатку, прачытаўшы Ваш апошні ліст, я сустрэў яе ледзь не з энтузіязмам і — прашу мяне зразумець — не таму, што гэтым быў бы зроблены мне большы гонар, чымся заслужыў, а таму, што такое спатканьне, калі б было зрэалізаванае, спрычынілася б для ўзросту зацікаўленасьці нашых суродзічаў на эміграцыі цяперашнімі праблемамі беларускай літаратурнай творчасьці, можа, што-небудзь новае нарадзіла б, няхай сабе й найменшае. Перадумаўшы ж, я зусім ахаладзеў. Бачыце, ад пачатку свайго побыту ў Канадзе мне давялося зрабіць многа адлегласьці ў арганізацыйнай працы, быць на шматлікіх сустрэчах, малых і вялікіх, а дзьве зь іх, ці не найбольшыя — 2-ю й 5-ю сустрэчу беларусаў Паўночнай Амэрыкі — арганізаваць і кіраваць імі. Як бачыце, маю ў гэтай галіне даволі практыкі. Таму ня веру, што праект аб сустрэчы «грамадзтва зь пісьменьнікам» удаўся б. Людзі нашы надта ж завязьлі ў сваіх мясцовых «гетах», больш цікавяцца сваймі*

*лёкальнымі групамі й асабістымі справамі, чымся агульнымі спраавмі ці то людзьмі, што прысьвячаюцца працы для народу. Гэта зусім натуральнае й нават анічуць не зьдзіўляючае.*

*Падаю Вам для прыкладу, што на апошняй сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі (Таронта, 1–3 верасьня, 1962 г.) брала ўдзел дзесь між 300 і 400 асоб. Вазьміце на ўвагу, што рыхтавалі яе дзьве найбольш аўтарытэтныя беларускія арганізацыі з Паўн. Амэрыкі (БАЗА і ЗБК) плюс яшчэ на дапамогу прыйшлі тры ці чатыры парафіі, ня лічачы меншых арганізацыяў, што на рэкляму выдана было звыш 200 дал. І тады зможаце ўявіць, як нялёгка ёсьць такую справу зрабіць. Ох, не, прашу не зразумець мяне, што на лень занемагаю. Працу я люблю, але калі ёсьць шанцы на посьпех. Быўшых кадэтаў школы камандзіраў БКА ў Менску я ведаю ў Паўн. Амэрыцы нешта 15. Выключана, каб хто прыехаў з Эўропы. Значыцца, і тут няма шанцаў многа сабраць. Некаторыя зь іх аж у Каліфорніі, іншыя ў Дэтройт, Чыкага, Кліўлэнд, у Нью-Ёрку ды тут у нас. Я маю іншую ідэю.*

*6-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі мае адбыцца ў наступным годзе, здаецца, каля Нью-Ёрку (гэта яшчэ не ўстаноўлена). Вядома, што будзе ў ЗША, а не ў нас. Чаму ня выкарыстаць нагоды, каб сабраць нашых кадэтаў і аднавіць супольны кантакт, пагаварыць, мо што ўрадзіць? Ці ня варта гэту думку ўжо пачаць пашыраць цяпер? Ці ня варта сугераваць яе сп-ру Курылу, што ў Нью-Джэрзі каля Нью-Ёрку, які, здаецца, ёсьць старшынём ветэранаў у Нью-Ёрку? Ён жа й былы кадэт.*

*Я ў мінулым годзе быў у ЗША тры разы летам. Раз быў у Нью-Ёрку, два ля Пітсбургу, дзе жывуць бацькі маёй жонкі (яна беларуска, прыехалі бацькі ў Амэрыку ў 1952 г.). Гэткім чынам я зрабіў сваім аўтам па Амэрыцы звыш 3000 міль. Мой водпуск выпадае ў другой палове жнівеня (тады бальшыня ўжо працуе), значыцца, вельмі нявыгадна. Працую на хвабрыцы сельскагаспадарчых машын. Ня меў часу вучыцца, цяпер шкадую. Ды й цяпер было б няпозна, але сям'я ды мая творчая праца не дазволяць. Але я зноў адбег ад тэмы. Дык вось, хацеў сказаць, што сёлета на адпачынак у Амэрыку не паеду, а дзесь тут у нас на поўнач у лес па ягады ці грыбы. Здаравей для дзетак і лягчэй для мяне. Абяцаю сабе, што да Вас пастараюся завітаць дзесь 18-га травеня, бо 20-га травеня мы, канадыйцы,*

*дзякуючы таму, што некалі тут панавала каралева Вікторыя, яшчэ й цяпер сьвяткуем ейны вольны ад працы дзень. Гэта пасьля, калі Вам будзе адпавядаць, удакладнім.*

*Пісаў ужо я да сп-ра Будзькі ў справе праекту збору матэрыялаў аб сьв. пам. кс. В. Гадлеўскім. Абяцаў мне помач і ня раіў зьвяртацца з заклікам праз газэту, бо гэта нічога ня дасьць. Бальшыня людзей, што магла б памагчы, або ня ўмее, або не захоча гэтага зрабіць на пісьме. Астаецца іншае. Наведаць іх. Гэта таксама не змагу. Значыцца, ёсьць апошні ці не найлепшы выхад: запісаць інфармацыі на істужцы. Дзе змагу зрабіць гэта сам, а дзе буду вымушаны папрасіць іншых, каб зрабілі й пераслалі. Прыкладна, калі прыеду да Вас, то варта было б, каб Вы, апавядаючы пра Вашы спаўжыцьцё й працу побач Гадлеўскага, мелі й апарат, што запісаў бы гэта на істужку. Як думаеце? Добрая думка?*

*Свой артыкул пераслаў у газэту. Ня ведаю, калі будзе, бо «Бацькаўшчына» цяпер рэдка выходзіць. Як будзе, абавязкова перашлю Вам. У нас два дні трываў гадавы зьезд ЗБК, і меў я шмат працы ў сувязі зь ім. Яшчэ мушу напісаць рэпартаж у газэту. Што да сплаты даўгоў за «Змагарныя дарогі», то шмат разоў я ўжо прасіў, каб памаглі, але ўжо надаела й больш ня буду. Праекты, як сабраць грошы, можна рабіць прыгожыя, дык ніколі не выходзіць, як жадаецца.*

*Працую цяпер над аповесьцю «Гараватка». У мяне рэжым працы такі, каб напісаць хоць адну бачыну на дзень. Такім чынам захоўваецца цягласьць і працоўная дысцыпліна. Да гэтага часу датрымоўваюся такой пастановы. «Гараваткай» называлася ўзгор'е каля нашай вёскі. Назоў гэты амаль ці не сымбалічны (ад «гараваць»). Час дзеяньня — хутка перад другой вайной і падчас яе. Людзі — мясцовыя сяляне. Прататыпаў маю добрых і задаволены тым, што дагэтуль напісаў. Пішу не сьпяшаючыся, стараюся пасьвяціць асаблівую ўвагу мове. Калі не патрапляю Калюзе («Нядоля Заблоцкіх»), то прынамся так, як ён, стараюся наблізіць стыль да народнага. Можа, пры нагодзе раскажу аб аповесьці шырэй, а мо й прачытаю ўрывак, каб паслухаць Вашай апініі. Хочацца мне ў ёй паказаць асноўныя тры тыпы людзей, калі льга так вузка выразіцца ў гэтых рамках: праўных гаспадароў зямлі — беларусаў, врадкаў зямлі й як яны імі сталіся ды як народную кроў пілі — камуністы; катаў зямлі нашай, што гвалцілі й вынішчалі — нацыстых. Пляны*

*маю вялікія, і «Гараватка» толькі пачатак. Калі Бог дазволіць, то, можа, будзе пасьля й другая кніга, бо задуманага мною нельга будзе паказаць на вузкім палатне.*

*Мінулага году вясною (усяго за два месяцы ўсіленай працы) папрабаваў я свае сілы па-ангельску і напісаў аповесьць на 220 бачын. Аддаў прачытаць дзьвём асобам, і сказалі мне, што аповесьць мае немалую вартасьць, толькі трэба яе дапрацаваць і выгладзіць. Вось калі б яе каторая суполка выдала, то была б для беларускай справы вялікая карысьць. Дзеяньне там лёкальнае канадыйскае, героі бальшынёй беларусы. Сюжэт — інтрыга завяртанцаў у нашай арганізацыі, ёсьць адно забойства, але самы асноўны момант — гэта каханьне дзяўчыны, падасланай камуністымі да нашага аднаго хлапца загадчыка фірмы й адначасна аднаго зь беларускіх лідараў*[390]*. Значыцца тут ёсьць асноўныя моманты, якія могуць забясьпечыць посьпех у чытача: вялікі канфлікт, забойства, каханьне й галоўнае — «суспэнс»*[391]*.*

*Пляны, пляны, пляны... Мо забіраю Вам зашмат часу? Ня маю тут зь кім на месцы ў гэтай справе перакінуцца, дык во хоць вам выкажу. Як бы гэта добра было, каб была такая магчымасьць пайсьці, дзе сабралася грамада людзей, што маюць падобныя праблемы, як я, ды падзяліцца, параіцца, папытацца каго з старэйшых пісьменьнікаў, як тое ці іншае выразіць. Усё трэба шукаць упацёмку, а то і ўгадваць. Тое, што навучыўся ў сваёй практыцы за пару гадоў, можна было б на нейкім літаратурным сэмінары даведацца за пару дзён.*

*Цяпер во пішу да Вас ліст, а мой сынок 8-гадовы Юрачка сядзіць збоку й муштруе мяне. Меў зь ім лекцыю па беларускай мове, дык ён хацеў астацца яшчэ ў маім пакоі, перапісаць чытанку ўсю ды надта многа ў яго пытаньняў паўстае. Дзяцей вучу сам. Старэйшы сын, адзінаццацігадовы, ужо ўмее па-беларуску чытаць і пісаць. У нас школкі тут няма. Арганізавалі тры разы, дык мала дзяцей. Бацькі не пасылаюць. Вясковая цямнота ня выветрыла. Гэта рэзультаты чужога панаваньня. Пакуль дзяцей іхных, то перш саміх трэба было б вучыць.*

---

[390] Выглядае, што згаданая аповесць так і не была выдадзена ў арыгінале, а пазней была пакладзена ў аснову беларускамоўнага рамана «За волю», што пабачыў свет у Таронта ў 1991 г.

[391] *Suspense* (анг.) — нявызначанасць, інтрыга.

*А тут і сказаць што каму, дык трэба ўважаць, бо ўсе ў «фры контры»*[392] *надта незалежнымі й спрактыкаванымі сталі. Божа ты мой, як падумаеш аб усім, дык вельмі сэрца баліць.*

*Так прыемна чуць ад Вас, што нешта навучыліся, здабылі добрую працу. І дазвольце ў далейшай дарозе пажадаць Вам добрых посьпехаў.*

*Пры нагодзе, будзьце ласкавы, пішыце.*

*Астаюся з пашанаю да Вас К. Акула.*

*16.04.1963 г.*

*Высокапаважаны Спадару Акула!*

*Мінае Вялікдзень, але яшчэ ня позна, і я вітаю Вас са сьвятамі, Хрыстос Васкрос! Прайшоў і мой экзамен. Цяпер магу ўжо свабодна прадаўжаць з Вамі нашу перапіску. 6-га красавіка складаў іспыты й справа маёй вучобы закончылася. Іспыты былі надта цяжкія. Звычайна такі тып іспытаў бывае раз на даўжэйшы час. Апошні раз яны былі шэсьць гадоў таму назад. Было 143 кандыдаты, а злажыла ўсяго 19. Гэтым разам было 172 кандыдаты, а вакансыяў усяго 29. Таму яны наўмысьля бальшыню зразаюць, ня толькі даючы вельмі скамплікаваныя пытаньні, але й робяць недапушчальныя трыкі. Вынікі іспытаў будуць вядомы за два–тры месяцы. Такая ўжо тут сыстэма. Што датычыць мяне, то адчуваю, калі я злажыў, то вельмі блізка да канца, а можа быць і так, што да здачы ня хопіць пару пунктаў. Цяжка сказаць. Але як будзе, так будзе, праймацца ня буду. Галоўнае, што я ўжо вольны ад навукі. Надаела.*

*Цяпер хацеў бы прадаўжаць з Вамі распачатыя думкі ў папярэдніх лістох. Хоць ужо Вам дзякаваў за ваш артыкул у газэце адносна Ласкутовіча, дзякую Вам яшчэ раз. Ён зрабіў мне духовую палёгку, і наколькі мне вядома, інтэлігентная беларуская публіка прыняла яго ў належным пазытыўным сьвятле. Так, як я пісаў Вам наўперад, з свайго боку зьбіраюся накінуць некалькі думак адносна «Змагарных дарог» і яе аўтара. Думкі ў маёй галаве ўжо гатовы, астаецца накінуць іх толькі на паперу. Перад тым, пакуль пушчу іх у сьвет, хачу пабачыцца з Вамі й тое-сёе выгладзіць. Таксама пабачуся яшчэ зь некаторымі іншымі асобамі. Між іншым, мне не зусім падабаецца ўступны артыкул др. Ст. Станкевіча, у якім ён цьвердзіць, што «Зма-*

[392] *Free country* (анг.) — вольная краіна.

*гарныя дарогі» зьяўляюцца «мастацкай публіцыстыкай», ані аповесьцяй. Па-мойму, адкінуўшы гістарычную частку, — гэта якраз мастацкая аповесьць. Сумняваюся нават, ці паняцьце «мастацкай публіцыстыкі» існуе ў літаратуры наагул. Маю й яшчэ некаторыя заўвагі адносна ягонага артыкулу. У хуткім часе зь ім пабачуся.*

*На сьвяткаваньні 25 Сакавіка я гутарыў са сп. Курылам. Парушылі справу зьезду былых кадэтаў. Ён згодзен. Было там яшчэ пару чалавек былых школьнікаў, згодны й яны. Я думаю, што хутка ўдасцца стварыць камітэт да пашырэньня гэтае думкі. Вас, Спадару Акула, буду прасіць прыслаць мне адрасы ўсіх тых школьнікаў, якіх Вы маеце й ведаеце. Можа, удасцца зрабіць нешта творчае, а калі нават гэта будзе толькі чыста сяброўскае спатканьне, то й дзеля гэтага нават трэба было б зьехацца, хоць бы й невялікай групкай. Традыцыя зьездаў былых школьнікаў шырока практыкуецца ва ўсіх цывілізаваных народаў сьвету нават у нармальных абставінах жыцьця на Бацькаўшчыне. Наша ж жыцьцё, выхадцаў з роднае краіны, дае больш асноў да такое зборкі, асабліва школьнікаў, так прыгожа адлюстраваных і ажыўленых Вамі ў «Змагарных дарогах».*

*Бачыўся я й з ген. Кушалем і Арсеньневай. Дзіўна Кушаль стаў мне гаварыць, што ён толькі цяпер ад Вас даведаўся аб тым, што я быў звольнены Астроўскім у Вільні з становішча камандзіра афіцэрскае школы. Гэта яго дакладныя словы, што «толькі цяпер і ад Вас». Судзіце самі. Але аб гэтым потым. У мяне маецца адпаведная пасьвітка аб звальненьні. Казаў ён мне яшчэ й шмат іншых рэчаў.*

*25 Сакавік у гэтым годзе ў Нью-Ёрку быў наладжаны надзвычайна. Перадусім, што тут наступіла першае паразуменьне паміж дзьвюма беларускімі групамі. Сьвяткаваньне было праведзена супольна. Саля перапоўнена беларускай і іншанацыянальнай публікай. Выдатныя прамоўцы на сцэне, хор, дэклямацыі, малітвы, — усё зроблена супольнымі й аб'еднанымі сіламі. Супольнасьць беларускае ідэі ажыла ў сэрцы кожнага прысутнага. Цешыўся й я, бо ж гэта мая мара з даўнога часу. Супольнасьць. Наша беларуская супольнасьць. Вось бачыце, час сваё робіць. Немалую ролю ў аб'еднаньні адыграла малодшае беларускае пакаленьне, і я ўпэўнен, што партыйныя розьніцы з часам сатруцца зусім. Мы ня можам выха-*

*ваць тут сваіх дзяцей на беларусаў, трымаючы іх у партыйных рамках. Гэта быў бы рыск на забіцьцё ў іх беларускай душы й на вайну з бацькамі.*

*Другі важны фактар творчае працы тутэйшых беларусаў — гэта купча супольнымі міжпартыйнымі сіламі выпачынковага аседля. Аб гэтым Вы ўжо чыталі й ведаеце.*

*Ну, а цяпер крыху аб нас самых. Аб Вас. Тут разышлася чутка, што ў месяцы маі ў Нью-Ёрку мае адбыцца аўтарскае спатканьне Вас. Адкуль выйшла гэта думка, я ня ведаю. Ад каго б яна ня выйшла, я ведаю, што гэта Вам заслужана належыць і хто б аўтарскага спатканьня ні рабіў, яно можа незалежна ад гэтага адбыцца й сярод былых школьнікаў.*

*Другое. Я даведаўся, што нядаўна ў Нью-ёркскай бібліятэцы прадстаўнік з Сав. Беларусі ў Аб'еднаных Нацыях шукаў Вашае кніжкі «Змагарныя дарогі». Цэляшу ён прадставіўся як эмігрант «з апошніх», што вырваліся адтуль. Але яго апазнаў др. Кіпель і др. Тумаш. Немагчыма паверыць, каб саветчыкі да гэтага часу ня мелі Вашае кніжкі й каб ім трэба было шукаць яе ў Нью-ёркскай бібліятэцы. Справа тут не зусім чыстая. Пахне шпіянажам. Сярод нашае публікі ёсьць даносчыкі. Маю некаторыя даныя на гэта. Перакажу іх Вам пры спатканьні.*

*Адносна нашага спатканьня. Вы, калі ласка, Спадару Акула, не зьбірайцеся ка мне, як па агонь, узяў і ўцёк скарэй назад. Я чакаю Вас, як блізкага чалавека, хачу з Вамі засесьці й пагаварыць аба ўсім, асабістыя справы, грамадзкія, ідэйныя. Словам, хачу падзяліцца з Вамі ўсім, хачу пачуць Вас жывога й хачу пераказаць Вам некаторыя рэчы, якіх Вы можаце й ня ведаць. Можа, яны Вам і прыдадуцца на што. Нам ня трэба ніякія стужкі. Усё, што Вы захочаце ведаць ад мяне аб пакойніку Гадлеўскім, Вы дайце мне пытаньні, і я зараз жа распачну іх распрацоўваць, і да Вашага прыезду гэта будзе гатова. Таго былога прыхажаніна Гадлеўскага я запрашу ў сваю кватэру, як Вы прыедзеце, і з ім можна будзе пагутарыць і ўсё вартаснае на месцы запісаць. Дык так да спатканьня.*

*Мяне моцна цікавіць Ваша новая аповесьць «Гараватка». Калі Вы ласаква прыабяцалі мне пачытаць зь яе крыху або выняткі й паслухцаць маёй апініі, то я Вам скажу, я люблю выняткі, але яшчэ лепш я люблю чытаць усю працу пісьменьніка, хоць яна й незакончана. З Вашым пісьменьніцкім братам я меў многа дачыненьня, многа чытаў у іх з-пад пяра*

*й зусім ня зьбіваў іх з панталыку, хоць часамі спрачаўся. Хачу Вас папярэдзіць, што магу спрачацца й з Вамі, тагды на мяне ня гневайцеся, бо я ня гневаюся нават у спрэчках. Нядаўна й я ўвайшоў у ініцыятыўную групу для апрацоўкі насьценнага беларускага календара на будучы год. Калі б Вы мелі якіясь матэрыялы для гэтай мэты, быў бы вельмі ўдзячны, каб вы дазволілі мне зь іх скарыстаць.*

*Я ведаю, што Вы вельмі працаздольны чалавек і веру, што дасягнеце сваёй намечанай мэты ў пісьменьніцтве. Праўда, што наша штодзёншчына часамі перашкаджае нам, але гэта ўжо закон прыроды й неабходнасьць, што мы мусім зарабляць на жыцьцё. Шлях, якім мы гэта робім, ня мае значэньня. Ніякая работа чалавека ня ганьбіць. Я, напрыклад, шкадую, чаму як паступаў тут на работу ў лябараторыю, не запісаўся тагды столярам. Было б менш клопатаў, больш заробку, і ня трэба было б ніякіх студыяў і лішняга болю галавы.*

*На гэтым пакуль скончу, цісну вашу руку й застаюся з пашанай В. Чабатарэвіч.*

*18.4.1963 г.*

*Вельмі Паважаны Спадару Чабатарэвіч,*

*Сягоньня якраз меў намер пісаць да Вас, ды й ня ведаў, ці турбаваць Вас у сувязі з Вашымі іспытамі. Ажно й ліст ад Вас да мяне ў хату. Дык вось, найперш дазвольце павіншаваць Вас з заканчэньнем навукі. (Дай Божа, каб як найбольш пасьпяховым).*

*На мінулым тыдні пісаў да мяне др. Станіслаў Станкевіч. Раней яшчэ неяк успомніў я, пішучы да яго, што напрыканцы травеня буду ў Нью-Ёрку. Аказваецца, што ніхто іншы, як сам др. Янка Станкевіч пару тыдняў таму назад запрапанаваў, каб наладзіць вечар, прысьвечаны «Змагарным дарогам». Тады др. Станіслаў Станкевіч паведаміў прысутных, што я маю быць у горадзе. Вось адкуль ідэя аўтарскага вечара. Фактычна гэта будзе вечар дыскусійны. Якая арганізацыя яго зробіць — няважна. Мне хочацца паслухаць старэйшых. Думаю, што гэта будзе карысна для ўсіх. Аб дакладным часе й дзе гэта будзе зроблена, яшчэ ня ведаю.*

*Я ўжо зарэзэрваваў месца на самалёце ў Нью-Ёрк і назад. Выеду з Таронта 18-га травеня а гадзіне 7:20 раніцаю і буду на Айдлвайлд летнішчы а гадзіне 8:55. Назад маю выляцець*

*зь Нью-Ёрку ў панядзелак 20-га травеня а гадзіне 8:20 вечара. Як бачыце, буду ў Вас амаль тры поўныя дні з тым разьлікам, каб Вам добра надакучыць. Можа, будзеце ласкавы памагчы мне зарыентавацца, дзе Ваш Фляшынг, ці далёка ад лётнішча Айдлвайлд. Маю намер дабірацца да Вас пры дапамозе таксі й ня хочу, каб нехта мяне вазіў навокал, каб больш зарабіць. Калі б маглі мне падкінуць выцінак з мапы з зазначэньнем Вашага месца жыхарства, было б найлепш. Я, можа, Вас пазнаў бы, але Вы мяне, то, напэўна, не. Нават Курыла не пазнаў мяне ў мінулым годзе, так я састарэўся не па сваіх гадох.*

*Столькі аб маім прыезьдзе.*

*Сп-р Кушаль не даведаўся аб Вашым звальненьні з каманды школы камандзіраў БКА «толькі цяпер і толькі ад мяне». Гэта ён, напэўна, даведаўся з «Бацькаўшчыны». Вядома, яму нязручна перад Вамі. Ня маю зь ім пісьмовага кантакту цяпер зусім, бо няма патрэбы. Як убачымся, раскажу адзін жыцьцёвы факт, што здарыўся ў Менску ў 1943 г., калі я сядзеў у вязьніцы й як мой сябра пайшоў да сп-ра Кушаля шукаць дапамогі.*

*Вас можа гэта зьдзівіць, але гэта праўда, што пакуль я сабраў матэрыялы для «Змагарных дарог», ген. Кушаль ня ведаў, прыкладна, што першы раз 30-я дывізія была зарганізавана ля Варшавы ўлетку 1944 г., што ў лістападзе ўсе беларусы з гэтай адзінкі перайшлі на другі бок да хаўрусьнікаў. Ён жа думаў, што дывізія арганізавалася раньняй вясной у Гіршаў. Мо тады не выпадае дзівіцца, што ня ведаў аб Вашым звальненьні. Тут іншае, з гэтым зьвязанае, цяжэй вытлумачыць, але аб гэтым пасьля.*

*Да гэтага часу сп. Будзька з Чыкага сабраў мне шмат матэрыялаў аб Гадлеўскім у прэсе, або ім самім жа (Гадлеўскім) пісаныя. Я пробаваў чытаць іх. Прывязу іх з сабою, пакажу Вам, і пагаворым. Цяпер Вам пасьля экзамінаў трэба адпачыць, і не хачу адразу насядаць, каб беглі мне на помач, тым больш што ня маю шчэ яснай ідэі аб цэласьці й як яе апрацаваць. Ёсьць у мяне цяпер больш пільная праца, а вось ужо нядзель шэсьць як нічога зь пісаніны не рабіў. У нас на хвабрыцы надта гарачы цяпер сэзон і можна крыху падзарабіць (маю яшчэ немалыя даўгі), дык працую дзённа па 12 гадзін. Кажныя дзьве нядзелі мяняюцца зьмены. Такім чынам два тыдні раблю начамі, а сплю ўдзень, іншыя два — днём і жыву нармальна, а наступныя — вечарам. Гэткі вось расклад гадзін працы, ды яшчэ надвыжка іх прыводзіць у хаос усе мае пісьменьніцкія пляны.*

*Гарачая праца, якую вышэй прыгадваў, гэта мая навэла (на 200 зь лішнім бачын) у ангельскай мове, якую напісаў мінулай вясной. Да гэтага часу чыталі яе пару чалавек канадыйцаў ды параілі мне ляпей апрацаваць і папробаваць папхнуць яе ў друк. Яе пісаў я з намерам, каб падзарабіць і пакрыць даўгі за «Змагарныя дарогі». Там ёсьць інтрыга камітэту «завяртанцаў» тут, на канадыйскай глебе, раманс, забойства й інш. Героі — беларусы. Калі б хоць крыху ўдалося, спапулярызавала б беларусаў у англамоўным сьвеце.*

*Наша сакавіковае сьвята адбылося падобна, як і ў Вас. Сьвяткавалі разам, было шмат чужых прадстаўнікоў. Людзі былі задаволеныя (у нас гэта ня першы раз, ды, на жаль, пакуль што на гэтым і абмяжоўваецца). Характэрна, што на залі, дзе сабраліся былі амаль усе без вынятку, не было аднаго чалавека, што найбольш спрычыніўся тут калісьці да падзелу й сварак і што цяпер гэта прадаўжае — Сяргей Хмара.*

*Цяпер яшчэ крыху аб аповеьсці «Гараватка». Напісаў каля 70 бачын і адлажыў да восені. Улетку пісаць няма як. Прывязу з сабой і калі будзеце ласкавы выслухаць ды даць свае спасьцярогу, буду ўдзячны. Я далёкі ад таго, каб каму чытаць, слухаць ягоныя думкі ды пасьля гневацца. Пахвала для лісьлівасьці ёсьць дрэннай паслугай людзям, што намагаюцца нешта вартаснае стварыць. У мяне ў «Гараватцы» дзейнасьць адно што завязалася, але зусім выразна намечаны галоўныя героі й вось тут хацеў бы пачуць апінію пра іншых, перш паінфармаваўшы іх аб сюжэце й далейшым разгортваньні дзеі.*

*Нью-ёркская бібліятэка чамусьці падлажыла мне сьвіньню. Атрымалі ад мяне кніжку яшчэ ў палове студзеня сёлета й яшчэ за яе не заплацілі, хоць ужо тры разы ім прыпамінаў. Тут на месцы ад мяне (праз пошту) адну кніжку купіў рэдактар «прагрэсіўнага» «Вестника». Штук восем кніжак пераслана ў Польшчу. Думаю, бэсэсэраўцы даўно знаёмы з маім творам, але магчыма, што нейкі «таварыш» захацеў пранюхаць у Нью-ёркскай бібліятэцы.*

*Буду на гэтым канчаць. Цяпер вось мінула другая папаўдні, і зноў зьбіраюся (пачынаю а гадзіне 4-й) на працу. Перад пабачаньнем чакаю ад Вас яшчэ хоць аднаго ліста.*

*Бывайце здаровы.*

*Астаюся з глыбокай пашанай да Вас К. Акула.*

*9.05.1963 г.*

*Вельмі Паважаны Спадару Акула!*

*Гэтым разам пішу каротка. Спаткаемся — пагаворым. Вязіце з сабой усе цікавыя матэрыялы. Я з прыемнасьцю іх буду чытаць. Асабліва цікавіць мяне «Гараватка». Мне здаецца, што й цэлага тыдня часу мне было б замала, каб з Вамі нагаварыцца. Чакаю Вас. Але што гэта Вы гаварыце, што будзеце да мяне дабірацца на таксі. Гэта нікуды не гадзіцца. Я Вас спаткаю ў суботу, 18-га травеня а гадзіне 8:55 раніцою на летнішчы Айдлвайлд. Праўда, нам трудна будзе пазнаць адзін аднага, але мы ўмовімся. Я невялікага росту з настаяшча сівымі валасамі. Буду апрануты ў карычневы касьцюм, на кляпе зь левага боку буду мець Пагоню й бел-чырвона-белы банцік, буду памахваць мапай Нью-Ёрку, што ўжываюць кіроўцы аўтаў. Калі б быў дождж, я апрану сьветлага колеру непрамакальны плашч ангельскага крою й падобны капялюш. Буду стаяць пры ўваходзе на станцыю. Напішыце мне Вашы прыкметы. Калі б мы не пазналіся такім шляхам, то пасьля я стану ў станцыі каля бліжэйшай ад уходных дзьвярэй тэлефанічнай будкі, абапёршыся аб яе. А калі б за нейкі час і гэта падвяло, я выклічу Ваша імя праз галосьнік на станцыі. Дык бачыце, ёсьць аж тры магчымасьці апазнаньня адзін аднаго. Адно толькі, на лётнішчы маецца некалькі асобных станцыяў. Напішыце, калі ласка, якой кампаніяй самалётаў Вы ляціце й на якую станцыю Ваш самалёт прыбывае. Тагды мне будзе лягчэй Вас знайсьці. Проста падкіньце паштовую картачку. Безумоўна, я буду чакаць Вас на лётнішчы, і Вы будзеце маім госьцем на ўсе тры дні. Я Вас нікому не ўступлю. Мы жывем скромна ў нанятай кватэры ў трох пакоях. Я не змагу Вам даць поўнае выгоды ў сэнсе асобнага пакою, але прыму Вас ад сэрца. Нядаўна некалькі дзён у нас гасьціў др. Шчорс. Дый госьцяць часам і іншыя й нават зь сем'ямі. Думаю, што маракаваць ня будзеце. Ну дык да пабачаньня. Абавязкова чыркніце паштоўку.*

*Дыскусія над «Змагарнымі дарогамі» запавядаецца цікавая. Паколькі мне вядома, крытыка ў бальшыні ідзе амаль што згодна з маімі заўвагамі ў маім першым лісьце, некаторыя пасоўваюцца куды далей, а нават, проста кажучы, вострацъ зубы. Асабліва Адамовіч. Адносна др. Ст. Станкевіча, то ў гутарцы са мною ён прызнаў свой посьпех, назваўшы Вашу працу «мастацкай публіцыстыкай». Паводле яго*

*слоў, ён з агаворкамі лепш бы прызнаў назоў «аповесьць з публіцыстычнымі элемэнтамі». І мне здаецца, я меў тут крыху рацыі, выказаўшыся супроць назову «мастацкая публіцыстыка». Гаварылі мы зь ім і пра іншыя складовыя часткі Вашае працы. Думаю, што знойдзем час пагаварыць і на гэтую тэму. Дык да пабачаньня ў Нью-Ёрку.*

*Цісну руку й чакаю. В. Чабатарэвіч.*

## Кастусь Акула

***Рэзюмэ вечары «Змагарных дарог» у Нью-Ёрку, 18.5.1963 г.***

*Прысутныя: Галяк, Каханоўская, Тулейка, Протас[393] са Стамфарду, Протасіха, Ганэцкі[394], Казьлякоўскі[395], Курыла, Курыліха[396], Орсіха[397], Орса Галіна[398], Паланевіч, др. Ст. Станкевіч, Зінаіда Станкевічыха[399], др. Я. Станкевіч, др. В. Тумаш, Арсеньнева, Адамовіч прафэсар, В. Чабатарэвіч, Ф. Кушаль, Пазьняк (нядаўна з Англіі).*

*Было яшчэ пяток асобаў, якіх прозьвішчы ня ведаю. Моладзь ладзіла забаву на іншай залі, і гэтым тлумачыцца малая*

[393] **Аўген Протас (**28.08.1915, ф. Забалоцце Дзісенскага пав. — 02.06.1995, Стэмфард, ЗША), грамадскі дзеяч, сябра БАЗА. Скончыў гімназію у Дзісне, служыў у войску. На пачатку Другой сусветнай вайны трапіў у нямецкі палон. Праз нейкі час вярнуўся ў Беларусь, але ад 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку ў англійскай акупацыйнай зоне Нямеччыны, а з 1949 г. — у ЗША. Арганізатар і кіраўнік Стэмфардскага аддзела БАЗА.

[394] Верагодна, маецца на ўвазе **Пётра Ганэцкі** (22.11.1909, Маладзечна — 14.04.1992, Каліфорнія, ЗША), сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання. У часе нямецкай акупацыі быў суддзём у Дзісне, камандзірам батальёна БКА. На эміграцыі жыў у ЗША. Быў сябрам Стамфардскага, а потым Каліфарнійскага аддзела БАЗА.

[395] Верагодна, маецца на ўвазе **Ян Казлякоўскі** (13.12.1894, в. Калауравічы Пінскага пав. — 24.03.1991, Нью-Джэрсі, ЗША), доўгагадовы старшыня царкоўнай управы прыходу Св. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл.

[396] Маецца на ўвазе жонка Уладзіслава (Уладзіміра) Курылы Аліна (22.07.1928 — ?).

[397] Маецца на ўвазе Наталля Орса, жонка Аляксандра Орсы.

[398] Маецца на ўвазе **Галіна Орса** (15.02.1930, в. Нягневічы Любчанскага пав. Наваградскага ваяв. — 06.04.1984, Нью-Ёрк, ЗША), дачка Наталлі і Аляксандра Орсаў, сябра БАЗА і Жаночага згуртавання.

[399] Маецца на ўвазе жонка Станіслава Станкевіча.

*колькасьць прысутных. Запруднік маляваў ці пэцкаў новакупленую хату й гэта, згодна ягоных паглядаў, усправядлівяла яго ад якой-колечы грамадзкай працы.*

*Выказваньні:*

*Сход адчыніў старшыня Нью-ёркскага аддзелу БАЗА й перадаў слова К. Акулу. Аўтар выразіў задавальненьне, што наладжаны такі вечар і прасіў выказвацца адносна ягонай кнігі. Важным, каб гаварылі перадусім, ЯК кніга напісана й апрацавана, каб аўтар мог скарыстаць з гэтага, значыцца, каб была рэчовая крытыка.*

*1. Казьлякоўскі пахваліў твор. Ён ня спаў начамі, пакуль прачытаў, і яна моцна падняла яго на духу. Шмат цікавага даведаўся.*

*2. Курыла заняў амаль паўгадзіны часу пераказваньнем таго, што ён помніць, што, як і дзе здарылася са школай камандзіраў БКА. Курыла, мусіць, лічыць, што кніга павінна была быць фатаграфічным адлюстраваньнем таго, што было. Ён расказаў, як адабралі ад школы беларускіх афіцэраў, як надалі Красоўскаму «коца» за правіну ў Альбрэхтаў, пра ўцёкі ў Францыю, раззбраеньне й інш.*

*3. В. Чабатарэвіч. Галоўнае — літаратурная ацэна твору. Памінаючы ўводную часьць, твор мае вялікую мастацкую вартасьць. Чабатарэвіч заклікаў прысутных (асабліва «літаратурных арэапагаў») не скупіцца з ацэнай твору. У цэласьці твор (акрамя неаб'ектыўнай ацэны беларускага верху) ёсьць вельмі вартасны.*

*4. др. Тумаш: твор як бы дапаўняе Рычардсонаў «Няма дзе палажыць галаву»*[400]*. Твор ёсьць манумэнтальны, вартасны, цікавы, будзе мець гістарычнае значэньне.*

*5. др. Я. Станкевіч: Я гавару тут як чытар. Перш за ўсё чаму людзі каштоўныя робяць рэчы някрытычныя? Гэта таму, што ў нас мала адмыслоўцаў. Трэ гадаваць нам спэцыялістаў у кажнай галіне.*

---

[400] «Няма дзе палажыць галаву» — кніга Энтані Рычардсана, якая выйшла ў Лондане ў 1957 г. (Richardson, Anthony. No Place to Lay My Head. London, 1957). Прататыпам галоўнага героя выступіў былы паліцэйскі са Стоўбцаў Аляксандр Петраш (1926–1988), які супрацоўнічаў з брытанскай выведкай і перакідваўся на савецкую тэрыторыю для выканання адмысловых заданняў.

*Аўтаравы заганы адбіліся ў кнізе. Здаецца, што ў аўтара ёсьць і літаратурныя здольнасьці. Мова благая, асабліва апісаньне падзеяў у Італіі. Гэта чысты жаргон. Пазытыўнае на бач. 473–476. Трэба было абмежыцца ўспамінамі, да таго што аўтару вядома. Найважнейшае, каб гэта быў гістарычны дакумэнт. Успаміны сапсаваны, бо гэта повесьць, а трэба было зрабіць начай. Як направіць? Няхай аўтар выдасьць дадатак і напіша, што праўда, а што няпраўда. Усаевіч і Радзівіл — гэта беларусы. Чаму напісана, што яны палякі?*

*Прыблізна так гаварыў др. Янка Станкевіч.*

*6. ген. Кушаль: наша бяда ў тым, што мы належалі не да арміі, а былі пад загадамі нямецкай паліцыі. Не было выхаду.*

*Гаварыў пра ген. Кандратовіча*[401]*, што меў дывізію войска ў Маладзечне падчас таго, як тварылася гісторыя на пераломе 1917–1918 гг. у Менску. Ён і мог падтрымаць БНР, бо сам быў беларусам. Быў і далучыўся да БНР і паехаў нават у Вэрсаль, але пасьля зьнюхаўся зь Дзянікіным і інш. белымі царскімі афіцэрамі.*

*Гаварыў пра палк. Гуцьку*[402] *(выдатнага штабовага афіцэра), што быў у Наваградку, як арганізавалася БКА, якога два разы паклікаў Астроўскі й які пачынаў працу, але, ня маючы войска, амуніцыі, практычна ня могучы працаваць, два разы адмовіўся ад кіраўніцтва БКА.*

*«Ня трэба баяцца крытыкаваць, — казаў Кушаль. — Бяда, што Акула пісаў пра людзей жывучых, а гэта цяжка. Акулава праца вельмі вартасная».*

*7. праф. Ант. Адамовіч: Манюся пра кніжку напісаць, але яшчэ не чытаў. Так вось паглядзеў з фронту, прачытаў Стан-*

---

[401] **Кіпрыян Кандратовіч** (28.04.1859, в. Зіневічы Лідскага пав. — 31.10.1932, в. Гародна Лідскага пав.), расійскі і беларускі вайсковы дзеяч, генерал ад інфантэрыі, удзельнік Народнага сакратарыяту БНР, Галоўнакамандуючы беларускай народнай арміі ў часы 1-ай сусветнай вайны.

[402] **Язэп Гуцька** (24.12.1883 в. Брацянка Навагрудскага р-на — 08.07.1956), вайсковы дзеяч. Удзельнік Расійска-японскай вайны 1904–1905 гг. За баявыя заслугі быў узнагароджаны ордэнамі Св. Ганны 4-й ступені і Св. Станіслава 3-й ступені з мячамі і бантам. У міжваенны час працаваў адвакатам у Навагрудку. Ад 15 ліпеня 1942 г. займаў пасаду начальніка Галоўнага штаба Корпуса беларускай самааховы. У маі 1944 г. адмовіўся ад прапановы заняць пасаду начальніка штаба БКА. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне, а пазней — у ЗША.

*кевічаў уступ, ну, Жылкавага верша не чытаў, бо знаю, а далей (лістаючы кнігу), от так абы дзе. Таму пра кнігу не магу даць дакладнай крытыкі. З таго, што я вычытаў бегам, відаць, што ў кнізе ёсьць камбінацыя жанраў. Пытаньне, ці гэта ёсьць рэч арганічная. У аўтара першабытны літаратурны сынкрэтызм — трасянка. Трэба больш навукі. Многа ёсьць звычайнага невуцтва. Новэл па-ангельску — гэта не аповесьць па-беларуску. Новэл — гэта раман, а аповесьць — то сторы. Зьмешваць ня трэба, гэта тэрміны сьціслыя.*

*Далей Адамовіч выцягнуў некалькі слоў або зваротаў, як прыкл. «спорны багаж» або «асноўным імкненьнем асноўнай масы» (2 аднолькавыя словы ў сказе), каб паказаць аўтарава «невуцтва».*

*Гэтулькі змог вычытаць Адамовіч не чытаўшы кнігі (!).*

*Ён сказаў, што кніга мусіла мець рэдактара (Палітрука?).*

*8. Др. Ст. Станкевіч гаварыў аб патрэбе мэмуарыстыкі. Рэдакцыі «Змагарных дарог» фактычна не было, бо аўтар не згадзіўся.*

*9. К. Акула адказаў бальшыні ў сувязі з іхнымі выказваньнямі. Др. Ст. Станкевічу прыгадаў, што ён згаджаўся на праўку мовы, але, мусіць, зроблены хібы з-за недахопу часу. Найдаўжэй аўтар затрымаўся і ў гумарыстычнай форме расказаў аб тым, як Адамовіч (з Арсеньневай) выпрасіў яго, нясьмелага сялянскага юнака, за дзьверы рэдакцыі «Беларускай газэты» ў 1942 г. Апрача таго Акула падзякаваў Адамовічу за карысныя заўвагі, якія ён даў, не чытаўшы кнігі.*

*Выснаў: Кніга ацэненая як вельмі пазытыўная зь некаторымі засьцярогамі да зьместу, асабліва вярхушкі БЦР і вайсковай.*

*Аўтар зь вечару амаль нічога не скарыстаў, бо ледзь не літаральна ўсе гаварылі аб зьмесьце, а не аб літаратурных вартасьцях твору.*

## Частка 2. У вакууме: чытацкія рэцэпцыі як літаратурная крытыка. «Гараватка»

Калі гаворка заходзіць пра творчасць Алеся Салаўя, нязменна падкрэсліваюцца неспрыяльныя ўмовы, у якія ён трапіў — адзіны беларускі паэт на ўвесь аўстралійскі кантынент. Адсут-

насць суразмоўцаў, творчага асяродку — так вытлумачваецца параўнальна невялікая колькасць вершаў, напісаных ім у апошні перыяд свайго эміграцыйнага жыцця. Пры гэтым неяк не бярэцца пад увагу, што цэлы шэраг пісьменнікаў быў у той самай ці вельмі падобнай сітуацыі.

У Канадзе знайшлі прытулак трое з іх: Мікола Сільвановіч, Сяргей Хмара і Кастусь Акула. Першы друкаваўся рэдка, дый пісаў, відаць, няшмат, а галоўнае — жыў на іншым канцы краіны, скуль не было розніцы, куды пісаць — у Таронта ці ў Нямеччыну, дзе выдавалася газета «Бацькаўшчына», або ў ЗША, дзе атабарылася бальшыня «шыпшынаўцаў», насамперш — Юрка Віцьбіч.

Хмара, наадварот, жыў з Акулам у адным горадзе, але пасля кароткага перыяду сумеснай грамадска-палітычнай працы, яны разышліся смяротнымі ворагамі — сапраўды, ворагамі да смерці[403]. Хмарава творчая актыўнасць палягала ў асноўным у выданні і рэдагаванні шэрагу перыёдыкаў, дзе зрэдзьчасу друкаваліся і ягоныя ўспаміны, абразкі і нават вершы, але не больш: пасля даваеннага віленскага зборніка «Жураўлiным шляхам» (1939), ды лагерных выданняў («Аб багох крывіцкіх сказы» (1948), «Мы» (1949), «Сказы Бацькаўшчыны» (1949)), наступная кніга з’явілася адно ў 1986 г., ды і тая — перавыданне «беларускай міталёгіі».

Так што становішча празаіка ў Таронта мала чым адрознівалася ад жыцця паэта ў Мельбурне.

Акула часта наракаў на адсутнасць падтрымкі і разумення не толькі ва ўласнай сям’і, але і ў грамадзе, на недахоп «пісьменніцкай» адукацыі, на тое, што да ўсяго даводзіцца даходзіць самому. Таму і была ў яго гэткая прага крытыкі, літаратурнай, не палітычнай — *«каб вынесці нешта»*.

Зрэшты, і амбіцыі гралі далёка не апошнюю ролю ў пошуку крытыкаў.

Гісторыя з «Змагарнымі дарогамі» хоць і не была цалкам няўдачай, але задаволіць Акулу аніяк не магла: не гэткай бачылася яму рэакцыя на першы эміграцыйны гістарычны раман,

[403] Ненармальная сітуацыя захавалася да сёння: Хмарава дачка на лісты з просьбамі азнаёміцца з бацькавым архівам не адказвае, а ўдава М. Сільвановіча, толькі пачуўшы беларускую мову, проста кідае слухаўку.




*Кастусь Акула ў друкарні. 1970 г.*

раман пра вайну! Таму наступны творчы праект планаваўся з куды большым разлікам.

Самым прэстыжным жанрам таго часу ў савецкай літаратуры, за якой Кастусь Акула, па меры магчымасці, сачыў[404], была эпапея. Дастаткова паглядзець на прысуджэнне Ленінскай прэміі: **1959 г. —** Мухтар Ауэзаў за эпапею «Шлях Абая», **1960 г. —** Міхаіл Шолахаў за раман «Узнятая цаліна», **1961 г. —** Міхаіл Стэльмах за раманы «Кроў людская — не вадзіца», «Вялікае сваяцтва», «Хлеб і Соль». А ў 1962 г., годзе, калі былі выдрукаваныя «Змагарныя дарогі» і Акула, натуральным чынам, разважаў пра наступны твор, лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа стаўся Іван Мележ за раман «Людзі на балоце».

[404] Аўтар гэтых радкоў меў нагоду пазнаёміцца з кніжным зборам у пісьменнікавай хаце ў 1995 г.

Наўрад ці ёсць патрэба даводзіць падабенства Акулавай задумы да кнігі-лаўрэата: паралелі відавочныя. Аўтару толькі трэба было, каб гэта ўбачылі і чытачы. Але для гэтага патрэбныя былі крытыкі, прычым, такія, да якіх прыслухоўваліся, чыё слова было важкім — і якія б маглі ўбачыць творчую задуму аўтара і абвясціць з'яўленне апазіцыйнага падсавецкай літаратуры твора.

Бадай адзіным, хто больш-менш рэгулярна адгукаўся на Акулавы просьбы крытыкі, быў Станіслаў Станкевіч, але не ў моц сваёй прафесійнай зацікаўленасці эміграцыйнай літаратурай, чаго і блізу не было, колькі з-за абавязкаў рэдактара «Бацькаўшчыны». Адно маючы намер выдрукаваць п'есу «Тараканы ў саладусе»[405], ён даслаў аўтару свае заўвагі:

*«Тэма добрая, актуальная й павучальная. Агульны задум сюжэту ўдалы. Дзеяньне адбываецца жвава, не манатонна й лягічна. Цэласьць, аднак, прадстаўляе сабою сырэц, які патрабуе стараннай апрацоўкі. Некаторыя паасобныя сытуацыі й эпізоды патрабуюць глыбейшай матывацыі, галоўна, гэтага вымагае апошняя сцэна, калі Таня ненатуральна каіцца перад Міколам, чуць не падаючы перад ім на калені, што, нармальна, не адказвае характару жанчыны. Гэтую сцэну абавязкова трэба перапрацаваць і прыдаць ёй больш рэальных і натуральных рысаў. Таксама не асьветлены выразна прычыны, якія прывялі да зрыву між Джоў і Таняй. Першая сцэна, у якой падаецца прыезд прадстаўнікоў Беларускай касы самапомачы да Сьцяпана й далей прыезд фармэра, забледная. Яе варта трохі ўзбагаціць. Іранічныя насьмешкі Тані над Міколам у другой дзеі залішне перасычаныя й таму маланатуральныя. Гэтыя моманты варта таксама перапрацаваць. Мова й стыль патрабуюць грунтоўнае карэкты. Таксама па магчымасьці пажадана больш паглыбіць і разьвіць характары дзеючых асобаў ды болей зындывідуалізаваць іх. Частыя ангельскія макаранізмы зусім на месцы. Яны падчыркваюць лякальны калярыт твору й добра характарызуюць адпаведныя нахілы дзеючых асобаў. Аўтар твору выявіў дра-*

[405] Акула, К. Тараканы ў саладусе. Камэдыя ў трох дзеях // Бацькаўшчына. № 22 (356). 2 чырвеня 1957. С. 2–3; № 23 (357). 9 чырвеня 1957. С. 2–3; № 24 (358). 16 чырвеня 1957. С. 2–3; № 25–26 (359–360). 30 чырвеня 1957. С. 3–6.

*матычныя здольнасьці, аднак апрацоўка дэталяў, як сказана вышэй, недастатковая.*

*У сувязі з вышэйшым прапаную, каб сам аўтар свой твор грунтоўна перапрацаваў згодна з вышэйшымі заўвагамі й папрасіў кваліфікаванага літаратара ўнесьці далейшыя праўкі, галоўна ў галіне мовы й стылю. Толькі пасьля гэтага твор можа быць паўнацэнным і дасьпелым да пастаноўкі й для друку»*[406].

Памятаючы няўступлівасць Станкевіча са сваім першым раманам, Акула звяртаецца да Вітаўта Тумаша, дырэктара Беларускага інстытуту навукі і мастацтва:

*«Атрымаў сяньня Ваш ліст. Дзякую за Вашы спасьцярогі адносна «Дзярлівае птушкі» дый пажаданьні. Да наступнае восені адлажыў я працу над другой кнігай «Гараваткі», а гэта зь дзьвюх прычынаў:*

*1. Распродаж і пашырэньне між чытачоў кнігі — вялікая работа, што адбірае мне час, які можна было б скарыстаць для творчасьці.*

*2. Хачу пачуць крытыку першае кнігі «Гараваткі», каб скарыстаць зь яе ў далейшай працы.*

*У сувязі з гэтай другой прычынай важна было б, каб хтосьці аўтарытэтны напісаў рэцэнзію. Ды ня ведаю, каго папрасіць. Д-ру Станкевічу я ўжо паслаў кнігу й намякнуў, каб ён гэта зрабіў ён ці — калі-б Вы змаглі — яшчэ было б лепш. Праф. Адамовічу я кнігі не паслаў. Прыгадваеце вечар, прысьвечаны «Змагарным дарогам» у Нью-Ёрку? Прыгадваеце ягоныя словы: «яшчэ не чытаў, але прачытаю й манюся напісаць пра яе…»?*

*Пэўна ж, прыгадваеце ягоныя іншыя выказваньні, дзе намагаўся зрабіць мяне непісьменным. Дый гэта яшчэ нічога. У гутарцы зь ім прасіў мне памагчы ў будучыні, і ён мне абяцаў. Тады я засьцярогся, што калі на мае лісты ці іншае не адкажа на працягу 3-х тыдняў, ня буду яму дакучаць. Часьць «Гараваткі» друкаваў ён у № 7 «Конадняў». У Нью-Брансвіку на сустрэчы летась я меў зь ім кароткую гутарку. Раіў мне працаваць над творам і суліў сваю дапамогу. «Прышліце мне машынапіс», — казаў ён, — «перачытаю дый дам свае заўвагі». Я ў добрай веры узяў ды паслаў яму машынапіс цэлай «Дзярлівай птушкі».*

---

[406] Заўвагі Станіслава Станкевіча датаваныя 07.01.1957 г.

*Чакаю месяц, два, тры, чатыры… Ані гу-гу… Стрымаўся я з друкам, чакаў «помачы»… Дарэмна.*

*Што гэта за чалавек? Ці ён сябе за тую прыказачную гару лічыць, да якой усе прыходзіць мусяць? Для мяне была гэта добрая навучка, і лекцыю я засвоіў.*

*Тым часам, калі ніхто ня зможа напісаць крытычна абаснаваный рэцэнзіі на «Дзярлівую птушку», мне далей наўгад трэба будзе працаваць, як у бальшыні выпадкаў працаваў дагэтуль. Ня можа ж мастацкая творчасьць разьвівацца й расьці бяз крытыкі.*

*У нашай вёсцы дома была свая Гараватка. Гэта быў і, спадзяюся, што й сяньня ёсьць, — вялізны сугор. Ён быў і камяністы, і акопамі парыты, месцамі выкарчаваны, а месцамі й дрэвы-волаты расьлі. Я тады быў малы. Мы бегалі на сугор патроны выкопваць, у хованкі гуляць. Пазьней, блізу перад вайной, яго выкарчоўвалі, аралі. Сяньня хто ведае…*

*У гэны час быў я смаркаты, ня ведаў вартасьці мінуўшчыны, што таілася ў нашых курганах, руінах, замчышчах, казках. Мімаходам чуў тое-сёе й пра Гаравaтку нашу. Калі нарадзілася ідэя твору, першую кнігу якога я ўжо напісаў, пачаў шукаць у памяці шыльды й назову. На помач і прыйшла наша вясковая Гараватка.*

*Арсеня Ліса справаздачу з падарожжа ў «Полымі», зь якой Вы цытуеце, я чытаў ужо пасьля*[407]*. Драздовічава Гаравацкая гара была ад нас якіх 30 км., але дома пра яе я ня чуў. Мо наша Гараватка й тая маюць шмат супольнага. Хто ведае».*[408]

---

[407] *«Гараватка. Вобраз гэты, уражлівы краявід ваколіц Галубіцкай пушчы быў асабліва мілы сэрцу мастака, узрушаў яго ціхай і светлай красой. Не раз браўся Драздовіч за пяро, пэндзаль, каб узнавіць Гараватку на паперы, палатне.*

*Апошні твор — жывапісны эцюд «Гара Гараватка», датаваны 29 верасня 1952 года, — даніна захаплення і ўдзячнасці мастака гэтаму кутку роднай зямлі, паклон на вечнае развітанне. Першы графічны аркуш Драздовіча, прысвечаны Гараватцы, ад апошняга жывапіснага палатна аддзялялі трыццаць гадоў.*

*Сярод графічных пейзажаў мастака «Гараватка» вылучалася незвычайна паэтычным ладам гучання, мастацкай дасканаласцю. Мяккасць, пранікнёнасць, пластычнасць беларускіх краявідаў тут выяўлены з глыбокім і тонкім мастацкім чуццём, на якое здольны толькі талент праўдзівы, шчыры, сапраўдны».* Цыт. паводле: Ліс, Арсень. Gloria victis! Мінск, 2010. С. 463.

[408] Ліст Кастуся Акулы да Вітаўта Тумаша ад 31.03.1965 г.

Адказ Тумаша тым часам невядомы, але ягоны водгук у друку не з’явіўся. Затое былі іншыя.

Станіслаў Станкевіч усё ж напісаў рэцэнзію, даволі пазітыўную — «У кіпцюрох дзярлівае птушкі»[409]. «*«Дзярлівая птушка»»* — пісаў ён, — *«гэта цяжкі акт абвінавачваньня супраць палітыкі палянізацыі, паніжэньня, самаволі й бяспраўя ды супраць мясцовых носьбітаў і выканальнікаў гэтае палітыкі. У «Дзярлівай птушцы ўжо выразна вырысоўваюцца індывідуальныя асаблівасьці стылю пісьменьніка, што своеасаблівай арыентацыяй на карэнную народнасьць прыгадваюць стыль і мову Лукаша Калюгі»*.

Таксама ў «Беларусе» быў надрукаваны водгук Масея Сяднёва, у якім аўтар назваў Акулаў мастацкі творчы метад натуралістычным: *«Ды ўсё ж, сьцісьлей па стылю, «Дзярлівую птушку» можна было б аднесьці, на нашу думку, да такой «школы» ў нашай літаратуры, якую твораць пісьменьнікі Кузьма Чорны, Калюга, Баранавых і паваенны надзвычайна здольны аўтар Пташнікаў, дарэчы, здаецца, этнаграфічна блізкі Акулу»*[410]. Сяднёў пісаў, што асноўная аўтарская ўдача — мова твора.

У «Беларускай думцы», на старонках якой зусім нядаўна жорстка пісалася пра першы твор пісьменьніка, Міхась Кавыль не згаджаўся з думкаю Станіслава Станкевіча. Тое, што рэдактар «Беларуса» лічыў заганаю — апісальнасьць, Кавыль называў неабходнасцю дзеля развіцця сюжэту і «нутраных дыялогаў». *««Дзярлівая птушка»,* —пісаў ён, — *твор ня тэмы, а характараў, хоць яны яшчэ толькі пачынаюць «вылузвацца». Гэта быццам выхаплены ласкут цёмна-шэрага вялічэзнага палатна, званага жыцьцём, які, дзякуючы добрай памяці пісьменьніка, яго здатнасьцям, уменьню даць бачанаму й пачутаму своесаблівае лірыка-гумарыстычнае афармленьне, сьвеціцца рознакалёрнымі малюнкамі прыроды, людзей, іх бытаваньня й імкненьняў. Твор — экспрэсіўны, ідэёва-загостраны, цікавы»*[411].

---

[409] Станкевіч, Ст. У кіпцюрох дзярлівае птушкі. (К. Акула. Раман. Кніга 1-я. «Дзярлівая птушка». Выд. «Пагоня». Таронта, 1965, 180 с.) // Беларус. № 99. Чырвень 1965. С. 5.

[410] Сяднёў, Масей. «Гараватка» Кастуся Акулы // Беларус. № 101–102. Жнівень–верасень 1965. С. 8.

[411] Кавыль, Міхась. «Дзярлівая Птушка» К. Акулы // Беларуская думка. № 8. 1965. С. 8.

Нечакана адгукнуўся і Ян Пятроўскі[412], які ацэньваў твор вельмі пазітыўна і ў звязку з тэмаю твора і адным з герояў, прамаскоўскім святаром Абухавым, аналізаваў рэлігійнае жыццё ў Заходняй Беларусі і ўкараненне падобных «абухавых» на Беларусі пасля Першае сусветнае вайны.

Як бачым, колькасць рэцэнзій не параўнаць з рэакцыяй на «Змагарныя дарогі»! Але… Усе рэцэнзенты мелі свае інтарэсы. Станіслаў Станкевіч баяўся згубіць працавітага кальпартэра і карэспандэнта газеты, што лёгка магло здарыцца, праігнаруй газета першую кнігу «Гараваткі». Масей Сяднёў крытыкаю «Дзярлівай птушкі» хацеў падкрэсліць станоўчыя бакі ўласнага раману, «Раман Карзюк»: пэўнае супастаўленне гэтых двух твораў рабілі нават чытачы, малаабазнаныя ў літаратуры. Міхась Кавыль, стаўшыся рэдактарам «Беларускай думкі», імкнуўся згладзіць непрыемны ўспамін пра рэзкі артыкул, прысвечаны «Змагарным дарогам», ды адначасна рассылаў пісьменнікам лісты з заклікам «ісці разам», бо *«час нам ужо скончыць ‘разбівацца’»* — і дасылаць свае творы ў часопіс. Ян Пятроўскі лічыў раман найлепшым прадуктам уласнай друкарні і разлічваў, як напісаў яму адзін знаёмец, *«на славу і рэкляму»*. І нават калі Акула шчыра радаваўся тым водгукам, наўрад ці сапраўдныя інтэнцыі былі для яго таямніцаю.

Заставалася спадзявацца на працяг эпапеі, які б узрушыў і разварушыў усіх — нават таго самага Хмару, а з ім — рэдактараў, выдаўцоў, «прафесараў» і «генералаў». У міжчассі ж заставалася цешыцца толькі лістамі ад чытачоў.

Ніжэй друкуюцца тры эпісталярныя нізкі чытачоў: а. Язэпа Германовіча, аўтара кнігі ўспамінаў «Кітай — Сібір — Масква» і таксама — як выглядае з ягоных лістоў — самотнага ў сваім Лондане, засмяглага да літаратурных размоў (лісты ўскосна закранаюць яшчэ адну вельмі цікавую, але цалкам ігнараваную ў нас праблему: аўтар-выдавец / друкар-кальпартэр-чытач); Юркі Віцьбіча — пісьменніка, далёкага ад аўтабіяграфічных жанраў, і *проста беларуса* з Францыі Аўгена Трусава (Труса), для якога творы Акулы паспрыялі абуджэн-

[412] Пятроўскі, Ян. Народ і ягоная царква. Абуджаныя рэмінісцэнсыі пасьля прачытаньня першае кнігі «Гараваткі» — «Дзярлівая птушка» // Сьветач Хрыстовае навукі. № 1 (80). 1965; № 2. 1965.

ню гістарычнай самасвядомасці і падштурхнулі да напісання ўласных успамінаў[413].

Лісты Аўгена Трусава асабліва цікавыя. Па-першае, гэтым прэзентуецца новая постаць у паваеннай эміграцыі — у адрозненне ад старых добрых знаёмцаў а. Я. Германовіча і Юркі Віцьбіча. А па-другое, нават пры адсутнасці адказаў самога Акулы, апасродкавана, яны нямала гавораць і пра самога пісьменніка.

## Лісты а. Язэпа Германовіча

*5.3.1963 г.*
*Лёндан*

*Дарагі Калега,*

*Дзякую за ліст. Я рады, што кніжкі[414] прыйшлі й ідуць далей, куды якраз ім трэба. А за крытыку таксама дзякую: яна мне памагае ў арыентацыі. Праўда, Вам крыху памяшала ў крытыцы Вашае добрае сэрца. Цяпер, уважна чытаючы, я заўважыў больш дэфэктаў: нямала лішніх словаў, і фразаў, і сказаў, і дзеля таго ўся праца для перакладу непрыдатная. Была б, хаця б і амэрыканцам, зацяжкая й незразумелая. І зь беларускай мовы няма каму перакладаць! — Тут нашая тра-*



*а. Язэп Германовіч. Адзін з апошніх прыжыццёвых здымкаў*

[413] У Беларускай бібліятэцы імя Францыска Скарыны ў Лондане захоўваецца таксама польскамоўны рукапіс успамінаў Аўгена Трусава, прысвечаны ваенным падзеям.

[414] Германовіч, Язэп. Кітай — Сібір — Масква. Успаміны. Мюнхен, 1962.

*гедыя. А тым часам характар кніжкі просіць перакладу: з усіх бакоў крытыкі гэтага датыкаюцца. — Мая беларуская мова вельмі стракатая. Я ня маю ніякага студыюм. І ў нас у Гальшанах Ашмянскага раёну мова асаблівая, што выдзеляецца ад ўсёй акругі. Дый я ў апошніх часох правёў 14 гадоў у Кітаі, 6 ½ у Сыбіру, 4 ½ у Польшчы…*

*Цяпер вяду некаторыя хады й працую ў кірунку перакладу. Маю моцную надзею ў Бога, што справа ўдасцца, тады Вам яе выясьню. А калі б ня ўдалася, дык ня трэба будзе прызнавацца й чырванець перад людзьмі. — Маю турбацыю, што мой супрацоўнік, Спадар П. Сыч захварэў і ляжыць у шпіталі. Дзеля таго й друк «Князь і Лапаць»*[415] *не пачынаўся, хоць ужо закончана ўся «Сучасная казка», як яго тытулюю. Сам не магу туды паехаць: ня маю ў каго там абапёрціся. А вершаваныя працы ня любяць чужой помачы. Калісьці кс. Адам Станкевіч у Вільні за адну літару ледзь не падпаў пад касьцельную кару.*

*Аставайцеся з Богам!*

*Шкада, што Вы зарвалсія на начную працу; хоць яна лепш аплачаная, але перамяніць сябе вельмі цяжка й небясьпечна. Нашыя нэрвы й так ужо зрабіліся цянюсенькія.*

*Ваш а. Германовіч.*

*17.3.1963 г.*
*Лёндан*

*Дарагі Спадар,*

*Друкарня мне паведаміла, што Вам выслала (50) кніжкаў у першую чаргу. Ветліва прашу Вас паведаміць мяне 1. ці кніжкі атрыманы, 2. колькасьць, 3. у якім стане пасьля транспарту. 4. якія пэрспэктывы кальпартэру, 5. якая выйшла першая крытыка чытачоў і Вашая?*

*Дужа дзякую, што ўзяліся дапамагчы мне ў такім грамадзкім занятку! Перадайце ад мяне з Сваёй ласкі таксама Дарагім Суродзічам.*

*Ваш а. Германовіч.*

[415] Германовіч, Язэп. Князь і Лапаць. Сучасная казка. Лондан, 1964.

*Сон аўтара.*

*Стаіць Кніжка з важнай мінай.*
*«Хты ты?». Кажа: «Успаміны».*
*«Скуль прыйшла?» — яе пытаю.*
*«О, здалёку! Я — з Кітаю.*
*Праз Сыбір і праз Маскву*
*Ледзь пранесла галаву.*
*А у Польшчу як загналі,*
*На год пяць прышрубавалі..».*
*«Куды йдзеш?» — «Сваіх шукаці:*
*Шмат хачу ім расказаці*
*Аб Далёкім — аб Усходзе,*
*Адкуль сонца да нас ходзе.*
*Аб Сыбіру — аб прымусе,*
*Аб табе — тым беларусе,*
*Што няволю, як даў Бог,*
*Ты адважна перамог.*
*А далей? Як Бог рассудзе —*
*Я іду цяпер у людзі…»*
*«Ах ты так? Ну, добра, йдзі!*
*Толькі, Кніжка, там глядзі,*
*Каб дайшла да ўсіх Братоў,*
*Хто чытаць цябе гатоў.*
*А каторы, можа, сьпіць,*
*Пастарайся разбудзіць.*
*А хто быў бы такі дзіўны —*
*Неласкавы ці праціўны,*
*Гамані па цэлым сьвеце,*
*Што мы — Бацькаўшчыны дзеці!*
*Хоць благая наша доля*
*І хоць праўда ў вочы коле,*
*Аднак праўду, мілы Браце,*
*Трэба ў дружбе расказаці!*
*Я. Германовіч*

*NB. Калі б была магчымасьць, прасіў бы гэтую самарэкляму адбіць на гэктаграфе й далучыць да кожнай кніжкі.*

*[недатаваны]*

*Дарагі Спадар Акула,*

*Сягодня споўнілася 8 год, як мяне вывезьлі з савецкай клеткі ў Польшчу, я там дастаў палавіну волі, дзякуй Богу! І яшчэ маю навасьць і радасьць: 22.IV.63 атрымаў вестку з Ватыкану, што Сьвяты Айцец перадае мне падзяку й багаславенства за кніжку «Ўспаміны». Прытым у дакуманце адзначана, што будзе прысланае багаславенства й на 29.VI.1963 — на мае ўгодкі сьвятарства (юбілей 50 год!). Такая духовая падмога мае для мяне большае значаньне, як усе пахвалы й карысьці, бо ўжо даволі крыжы ўядаліся ў плечы. Сам Хрыстос прыняў падмогу нават чужога чалавека, калі апосталы паўцякалі, а зь іх адзін прадаў, а другі адрокся... Дзякую Вам за апеку над маёй кніжкай-сіратою, як і я сам. Ах, якая шкода, што вы не мільянэр! Бо тыя не разумеюць так, як Вы, што такая папулярная, пагодная кніжка больш варта, як новая падводная лодка. З Усходу паўвеку ідзець працавітая, лютая прапаганда: для яе працуюць мільёны людзей, а сотні мільёнаў у радыё й тэлевізіі слухаюць-бачуць і толькі адзінкі маюць сьмеласьць выступіць з фактамі... Япіскап Слосканс назваў маю кніжку цікавай і дакумэнтальнай. У маёй натуры ляжыць тое, што я пішу проста, жыва й без скрыготаў. А Гогаль уважаў сьмех за аружжа страшнейшае як мілітарнае. А Вы, такі здольны артыста слова, паміма цяжару жыцьця, на міласьць Божую, не мачайце пяра ў пэсымізм! Як я хацеў бы папасьці на Ваш вечар у Нью-Ёрку... — Мая казка «Князь і Лапаць» гатова, толькі грошы на яе не гатовы. Яна будзе ілюстрацыяй да «Ўспамінаў». Але няхай паляжыць, а пасьля пабяжыць, як дастане на чаравікі.*

*Жадаю Вам посьпеху ў здароўі, у Сям'і і ў працы.*

*Ваш усім сэрцам а. Германовіч.*

*23.V.63 г.*
*Лёндан*

*Дарагі Спадар,*

*Дзякую вельмі моцна за прысланыя £25. Калі так добра пайшло, дык спадзяюся, што і рэшта разыдзецца, хоць і пазьней. А ў мяне тым часам вялікіх навасьцей няма, а зь меншых — дабіваю сваю сучасную казку «Князь і Лапаць». За пару тыдняў вышлю ў друкарню. Ня ведаю, ці спраўдзіцца, аб ёй пісаў Сп. П. Сыч, што «будуць чытаць, вычытваць і зачыт-*

*ваццa». Трэба будзе цану даць слабейшую — няхай чытаюць! Гэта ёсьць гісторыя сям'і старой эміграцыі, якая вярнулася «на Родину» з Амэрыкі. І частка: у Беларусі і ў Амэрыцы. Вайна. Агітацыя й выезд. Дарога-аварыя… ІІ частка: у Рызе, у фабрыцы ў Смаленску, у калгасе «Чырвоны рай», двойчы арышт, турма, суд, Сыбір, лягер, хвароба й паварот у Сав. Беларусь. — Вострая сатыра ў лёгкім вершы — бяз лаянкі й злосьці. У брульёне напісаная ў Амэрыцы. Не сьпяшаюся, каб асьцерагчыся тых хібаў, якія псуюць новасьпечаныя творы. Крыху чытаў у Амэрыцы й прасіў скрытыкаваць, але наагул крытыкі было мала. Шкада, што Вы так далёка! — Спадзяюся, што «Казка» разам з «Успамінамі» створыць адно суцэльнае й дасьць абраз пэўны таго боку, аб якім Захад ведае толькі, колькі аб другой палавіне месяца. І гэта пры сучаснай камунікацыі!*

*Бывайце здаровы!*

*Жадаю посьпеху.*

*Ваш а. Германовіч.*

*27.11.64 г.*
*Лёндан*

*Дарагі сп. Акула!*

*Квітую й дзякую, што прысланыя тры фунты грашэй атрымаў. І за «Божым шляхам» дзякую, асабліва за крытыку. З гэтай крытыкі бачым, што наагул пісьменьнікі-паэты не бываюць добрымі рэдактарамі: дыстракцыя іх дысквaліфікуе, як было з Іванам Андрэевічам Крыловым і іншымі… А фраза сапраўды фатальная! На «шчасьце» 99% чытачоў не вылавяць гэтага пудла. Я ўжо гады два адпіраўся ад гэтай работы, але цяпер мусіў паслухаць уладу, найбольш, што а. Леў Гарошка стаўся, з прычыны падвойнай няўдалай апэрацыі вуха, часова поўным інвалідам. Крыху яму лягчэе шум у вушах і галаве: гадаем, што разыдзецца зусім. Вось жа я, пры сваіх 74-ох гадох, мушу працаваць і за другіх.*

*«Як маё здароўе»? Гм… 1 — мо што пастанавіў дажыць да сьмерці, 2 — што благога ліха не бярэ й 3 — што трымаюся гарпагонскага рэжыму: мяса, масла ня ем, яек, рыбу, цукерак асьцерагаюся, гарбаты, кавы ня п'ю. Як быў у Амэрыцы, дзе ядуць толькі мяса й айскрым*[416]*, было мне вельмі цяжка, але ў*

416 *Ice-cream* (анг.) — марожанае.

*сябе чуюся цяпер проста як малады чалавек. Шмат скарыстаў у турме ад японцаў, дзе прысабечыў дактрыну д-ра Нісі, японскага рэфарматара ў практычнай мэдыцыне.*

*Мой рэжым ні настрою, ні гумару мне не папсаваў, а наадварот, як хутка ўбачыце з паэмы «Князь і Лапаць». Пастараюся прыслаць Вам крытыку маіх «Успамінаў» нейкага О. Вераса ў «Украінскім аўстралійцу», дзе бадай найтрапней падлавілі маю псыхіку й тактыку.*

*Ліст Сп. Веры Рыч*[417] *я пераслаў поштай.*

*А. Надсон працуе ў нашым інтэрнаце й мае там работы па самыя вушы*[418]*.*

*Дзякую! Жадаю Вам усяго найлепшага.*

*Ваш а. Германовіч*

*4.04.65 г.*
*Лёндан*

*Паважаны Спадар Акула,*

*Вялікі Вам ДЗЯКУЙ за кніжку-раман: сапраўды годны назовы раман! І вонкава, і ў зьмесьце кніжка дастойная, цікавая, праўдзівая, артыстычная, і шмат чаго трэ было б аб ёй сказаць. Я вельмі рады за Ваш посьпех: адно толькі мне сумна, што Вы заняты працай, што Вас адрывае й мучыць і не пазваляе аддацца творчасьці для народу, для чалавецтва й для Сябе. А прытым Ваша кніга зложаная ў сымпатычным нацыянальна-хрысьціянскім духу.*

*Я захоплены Вашым апісаньнем прыроды — нашай і вернай, што няма ні штучнасьці, ні дзівосаў. У фабуле даецца простая падзея, таксама верная й натуральная — аж шкада, што часамі занадта скарочана акцыя, калі раманы патрабуюць дзеі больш дэтальнай. Праўда, жывём у эпоцы ракетаў, і чытачы рвуцца наперад, як здурэўшы. Характары ў Вас апрацаваныя наагул рэальна-праўдзіва, кажны мае свае спэцыфічныя рысы: чытаю й адначасна бачу чалавека й наперад згадваю ягоную*

---

[417] **Вера Рыч** (1936–2009), англійская паэтка, перакладчыца, журналістка і гісторык, якая цікавілася беларускай літаратурай і шмат кантактавала з брытанскімі беларусамі.

[418] Маецца на ўвазе інтэрнат Св. Кірыла, арганізаваны айцамі-марыянамі для беларускіх хлапцоў у Лондане, якім найбольш апекаваўся а. Аляксандр Надсан.

*дзейнасьць. І добра, што Вы ўмела вяжыце асобы, а іх жыцьцё стыкаецца, але не заблутваецца з другімі.*

*Мне аднак пазволіце паказаць некаторыя акты, на мой погляд, крыху неадпаведныя. Думаю, што немагчыма дапусьціць, што Дуня магла ўдарыць кулаком у твар Янука, пасьля напасьці на яе ў «лесе Шпунта»... Магла яна, праўда, накрычаць і ў роспачы аблаяць і ахаяць «усіх мужчын», але ня больш таго.*

*Але гэтакі эпізод у Вас адзінокі. Іншая справа — гэта «палітыка» аўтара. Баюся, ці патраплю ясна выказаць свае думкі! Найперш уступ: Вы надарэмна праводзіце крытыку нашых ворагаў. Мастак-маляр зусім не падпісвае свайго абраза: малюнак сам кажа за сябе. І Вы — такі мастак, што Вашая кніга гаворыць за сябе дастаткова ясна, дык нашто Вы траціце час і месца, крытыкуючы адносіны й сваіх герояў? Чытач сам хоча мець аказію правесьці з усяго зьместу адпаведны выснаў. А мастак-маляр ужывае аднолькавых хварбаў для апісаньня сьвятых, і герояў, і анёлаў, як і бандытаў, і чарцей: праўда, дае іншыя колеры; але й хварбы і ўклад працы й нават усю сваю сымпатыю, калі можна так сказаць, ці свой геніуш, кладзе так у пазытыўных, як і ў нэгатыўных герояў.*

*Напрыклад, перш чым паказваеце папа-маскаля, Вы ўжо скрытыкавалі яго ў самых ад'емных рысах, а пасьля ўжо далі дзею. А тым часам ён у Вас так ясна выразіўся ў акцыі, што зусім ня трэба было яго хаіць. Нават аўтары стараюцца выказаць, як могучы, усё найлепшае ў найгоршым, а ўжо акцыя пакажа яго, чаго ён варты. Тады чытачу раскрываецца абраз, і ён сам ацэньвае героя. І шмат мінусаў аўтары не дагаварваюць, а чытач вычытвае іх між радкоў.*

*Так і таго папа Вы маглі апісаць у іншых сцэнах, напр., даць размову яго з паліцыянтамі ці схарактэрызаваць сям'ю папа, апісваючы адносіны да дачкі. Добра, аднак, што папа людзі не набілі, хоць чытач спадзяваўся, што будзе гэтакая гісторыя. Вы ўмееце знайсьці такое выйсьце, якога чытач не спадзяецца, і гэта важны Ваш плюс. — У крытыцы палякаў, ці нават камуністых можна было абысьціся самой крытыкай, якую даваў дзед Якуб ці хто іншы, абы гэта не выплывала на аўтара, бо Вы часта даяцё падабенства часткі артыкулу з «Бацькаўшчыны», ані часткі раману. — Вяртаюся да ўступу. Наагул аўтары раманаў не даюць уступаў: сама акцыя выясьніць сама сябе. Калі хочуць абавязкова штосьці такое*

*даць, то адсылаюць чытача да «пасьляслоўя», ды й то даюць дробным друкам: хочаш — чытай, ці не чытай! Дык і Вы маглі б уступ безь ніякай шкоднасьці прамінуць.*

*Выбачце, на Міласьць Божую, што я так рэзка й нязручна Вам нагарадзіў, што мне здалося трапным. Перадумайце Самі, можа, усё ж Вам прыдасцца на прышласьць? І мяне ўжо жыцьцё шмат чаму навучыла: толькі жалею, што не было адпаведнае крытыкі загадзя. Мне, напр., адзін крытык сказаў: «аўтар павінен сваіх герояў адпаведна шанаваць, нават зьвяроў у басьнях, бо яны паказваюць людзей». Што Вы на гэта? Гогаль грамадзіў на сваіх герояў як найбольш заганаў, каб наймацней іх асьмяшыць і абрыдзіць, аднак апісвае іх зь вялікім артыстычным смакам і нават любоўю-сымпатыяй. Аднак акцыя іх дастаткова выдае, чаго яны варты. — Ну, але жадаю Вам найбольшага посьпеху, здароўя, энэргіі, вытрываласьці! І бывайце з Богам!*

*Ваш а. Германовіч.*

## Лісты Юркі Віцьбіча

*Паміж намі*

*6.9.65 г.*

*Глыбокапаважаны Спадар Доктар Станкевіч!*

*Атрымаў надысь ад Спадара К. Акулы ягоную добрую кніжку «Дзярлівая птушка», прачытаў яе, адсунуўшы іншае ўбок, за адзін прысест, а напасьля сталася мне крыху... сумна. Ня ведаю, як паважаны аўтар ставіцца да парадаў, але ўсё ж яны, зробленыя ў самым найлепшым сяброўскім пляне, патрэбныя. Прынамсі, што датычыць мяне, дык я калісьці нічога акрамя падзякі не вычуваў да паасобных заўвагаў з боку Зьмітрака Бядулі або Кузьмы Чорнага.*

*Перадусім трэба зазначыць, што Акула без сумлеву таленавіты пісьменьнік і можа, акурат з гэтае прычыны ягоныя паасобныя памылкі найбольш кідаюцца ў вочы, выпукляюцца. Дык дазвольце цяпер перайсьці да таго, што, як на мой асабісты погляд, зьяўляецца памылкамі, хібамі.*

*На жаль, аўтар усяляк унікае сьветлаценяў. Для сваіх адмоўных пэрсанажаў ён ужывае вылучна чорныя хварбы. Маю на ўвазе паліцыянтаў Мэндліка й Вадзімскага,*

*сьвятароў Абухава й Пцічкіна, прасавецкіх герояў Косьціка Бурака (Сабакевіча), Лявона Шпунта (Хлыста) і Параску Макатунішку. Але найгалоўнае — нічога ім зь іхняга ж асяродку не супрацьпастаўляецца, аўтар спрабуе зь іх зрабіць тыпы.*

*Мне практычна незнаёма жыцьцё ў Заходняй Беларусі за часы панаваньня Польшчы, але ні на каліва не сумляваюся ў тым, што паміж прасавецкімі асобамі там сустракаліся, а можа, і вельмі часта, зусім ня нейкія крымінальнікі, як у К. Акулы, а вельмі добрыя беларусы, падманутыя савецкай прапагандай зь «Мінску». Прынамсі, мне неаднойчы даводзілася сустракаць аж у Маскве беларускіх эмігрантаў, якія бадай не захоўвалі свайго расчараваньня пасьля практычнага азнаямленьня з савецкай рэчаіснасьцю.*

*Не зьбіраюся адмаўляць і тое, што беларускія сьвятары ў Зах. Беларусі не спрычыніліся належным чынам да развою нашае нацыянальнае справы. Першае месца ў гэтай галіне належыць беларускім ксяндзам, а ў першую чаргу Вашаму высокашаноўнаму сваяку айцу Адаму Станкевічу. Аднак ня думаю, каб і праваслаўныя сьвятары ў Зах. Беларусі складаліся вылучна з Абухавых і Пцічкіных. У выснаве атрымаўся нейкі пашквіль на праваслаўе ўвогуле, які спакідае значны нясмак. Асабліва калі ўзяць пад увагу, што праваслаўе там было прыгнечаным.*

*Паліцыянты ёсьць паліцыянты, але ўсё ж яны ў К. Акулы аж занадта нагадваюць чэкістых або гестапаўцаў. Ведаю й пра Лукішкі, і пра Картуз-Бярозу, але ці наўрад варта атаясамліваць іх з Калымой і Дахаў. А можа, я памыляюся?*

*Не пашанцавала аўтару і з дадатным пэрсанажам — дзедам Якубам. Ён нейкі іканапісны. Ягоныя патрыятычныя разважаньні мне асабіста здаліся нуднымі. Чымсьці ён нагадвае тутэйшага крыстмусовага «Санта Клоса». І ўсё гэтае прыкра тым болей, што аўтару знаёмыя сьветлацені, чым доказам зьяўляецца асаднік Лазоўскі, які з гэтае прычыны атрымаўся жывым, сапраўдным, пераканальным.*

*Нядобра ў аўтара з мовай. Гэткія выразы, як — «аб'ектам тых кпінаў», «каляровыя эпітэты», «рэакцыя вясковая», «наведвалі рэгулярна», «эмацыянальнай сілай», «аб'ектам дакору» і г. д. літаральна разьдзіраюць мастацкую тканіну. Дарэчы, мова герояў бадай нічым не адрозьніваецца ад мовы аўтара.*

*Можа аб адсутнасьці густу сьветчыць наступнае мейсца: «з усей моцы заехала яму ў мейсца галоўнай актыўнасьці».*

*Чытач, які ад усяе душы спачувае Дуні Макатунішцы, раптам усьміхнецца. Аднак сама Дуня тут не пры чым, і тым больш прыкра.*

*Надзвычай непрыемна ўспрымаюцца радкі: «Здалося яму, што ад накуранага дыму й пылу аж насупіліся бровы нейкага сівабародага сьвятога й ледзь ня млела, трымаючы Богуша Лазара крыж, Прадславіна рука».*

*Каму, каму, але Сярожу Чмару*[419] *гэтае месца вельмі спадабаецца. А вось затое пераважную бальшыню беларусаў, незалежна ад іх веравызнаньня, яно абразіць.*

*Дазвольце зрабіць выснаў. К. Акула — таленавіты пісьменьнік. Аднак чаму ён гэтак сьпяшаецца з друкам сваіх твораў? Няўжо ён ня ведае, што кожны добры твор неаднакроць аўтарам перапісваецца, бо бракуе месца паміж радкамі для праўкі? Што аўтар узважвае амаль кожнае слова, палюючы за больш адмысловымі, адпаведнымі? Вельмі хочацца, каб ён зразумеў гэтае, хоць я асабіста сваіх поглядаў яму не накідваю. Я проста толькі вычуваю прыкрасьць, бо ўсё ж «Дзярлівая птушка» стаіць непараўнальна вышэй, чым, напрыклад, знаныя «берагі пад сонцам»*[420] *або нават «Раман Карзук»*[421].

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*19.3.66 г.*

*Глыбокапаважаны Спадар Доктар Станкевіч!*

*Зь вялікай прыемнасьцю пазнаёміўся ў № 107 добрага «Беларуса» зь перадавым артыкулам адмысловае старонкі «Весткі з Канады». Тое, што адбылося, толькі спрыяе злучэньню, а не разьбіцьцю нашых нацыянальных сілаў на чужыне. З даволі значным спазьненьнем, але дасылаю адначасна ліст, які за тыя*

[419] Маецца на ўвазе Сяргей Хмара.

[420] Глыбінны, Уладзімер. На берагох пад сонцам: апавяданьні і аповесьці. Нью-Ёрк: Беларуска-Амэрыканскі літаратурна-навуковы цэнтр, 1964.

[421] Сяднёў, Масей. Раман Корзюк. Нью-Ёрк — Мюнхэн, 1985. Відавочна, Віцьбіч чытаў раздзелы з рамана ў часопісе «Конадні».

*часы не даслаў Вам. Не даслаў, бо мне здалося, што я такім чынам залязаю аж занадта ў палітыку.*

*Крый Божа, не зьбіраюся адмаўляць відавочных пісьменьніцкіх здатнасьцяў аўтара «Дзярлівае птушкі», хоць і не занадта захапляюся гэтым творам. Аднак затое журналісты Міхась Козыр часам нагадвае мне... Самсона Самасуя, які проста ня ведаў, куду яму пхаць сваю дзівосную энэргію. Нарэшце я й ня вытрымаў, чаму доказам зьяўляецца адкрыты ліст — «Ад «Ваські» да «Сафійкі»*[422]*. І прыкра, але, паводле майго пераканаяньня, Міхась Козыр часта-густа перашкаджае Кастусю Акулу перарасьці ў аздабляльнага вялікага пісьменьніка.*

*Вось, напрыклад, твор К. Акулы «Мора патрыятызму», зьмешчаны ў № 8 час. «Месячковая мысьля» («Беларуская думка») мяне абурыў. Пэўне таму, што аўтар бадай зь ленінскіх пазыцыяў падышоў да беларускае шляхты, адзначаючы: «Аказваецца гэта са шляхцюкоў нашых, што чужому богу душонкі свае прадалі, на нашым карме сыцелі ды, дзе толькі маглі, дык п'яўкямі кроў роднай маткі зьняможанай смакталі».*

*Паскудзтва! Мы ўвогуле шмат чым забавязаныя беларускай шляхце. І я, прабачце за асабістае, ганаруся з таго, што яшчэ там у 30-х гадох камуністычныя літправадыры лукшы бэндэ, паміж рознага іншага, закідалі мне «жаль зьгінуўшай шляхты й ксяндзоўства». Народ складаецца ня толькі зь сялянаў.*

*Пішэце пры наяве часу й ахвоты.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*7.3.74 г.*

*Дарагі Кастусь Акула!*

*Вельмі ўдзячны за ветліва дасланую Вамі кнігу «Закрываўленае сонца» з добрым аўтографам. Сардэчна віншую Вас зь ёй і ўважаю, што яна зьяўляецца Вашым бясспрэчным дасягненьнем як пісьменьніка. І заваёвай як чалавека, якому, каб пісаць, трэба адначасна перамагаць вялікія жыцьцёвыя перашкоды.*

[422] Віцьбіч, Юрка. Ад «Ваські» да «Сафійкі». Ліст у рэдакцыю // Беларус. № 106. Студзень 1966. С. 6.

*Чаго, чаго, але гарту Вам не бракуе. І ад душы зычу доўгіх год жыцьця й далейшых творчых посьпехаў.*

*Яшчэ ў травені 73 г. мне давялося пазнаёміцца з 6 урыўкамі з гэтае кнігі, а цяпер, не адрываючыся, пазнаёміцца зь ёю цалкам. Цешыўся й сумаваў, любіў і пакутваў разам з Вашымі героямі, а гэтае, на мой погляд, сьветчыць аб тым, што яны ў Вас жывыя, сапраўдныя. У дадатак, што датычыць формы, дык у Вас свае стыль і мова, а гэтае мае вялізнае значаньне для літаратуры.*

*І стаўцеся заўсёды з пэўным недаверам да крытычных заўвагаў паасобных фахоўцаў у галіне літаратураведы. Зь цягам часу Вы самыя, як сталы й своесаблівы пісьменьнік, пераможаце тыя ці іншыя шурпатасьці або сёе-тое, дзе Вам, як на маю думку, здрадзіла пачуцьцё густу.*

*Дазвольце як літаратару й чытачу моцна з падзякай паціснуць Вам руку.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу й ахвоты.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

## Лісты Аўгена Трусава

*14.5.65*

*Глыбокапаважаны Спадар Акула!!!*

*Прачытаўшы «Змагарныя дарогі», у першую чаргу Дзякую Шчыра за так прыгожае апрацаваньне кніжкі.*

*Мне здаецца, што Вы глыбачанін, а я зь Дзісны Глыбоцкага павету.*

*Спадар Акула, я хачу навязаць з Вамі карэспандэнцыю й гарантую, што магу даць шмат матэрыялу для падтрыманьня Вашых «Гараватак». Прашу мне пераслаць адну, а грошы перакажу зваротнай поштай. Спадар Акула, я вучань ВБГ*[423] *пад дырэктарам Астроўскім. Я першы курсант БКА у Менску, камандзір 18-га Мінскага батальёну БКА*[424]*.*

[423] **ВБГ** — Віленская беларуская гімназія.

[424] Калі даць веры дакументам Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР, 18-ы батальён БКА месціўся ў Капылі. Ніжэй А. Трус называе сябе камандзірам плiскага батальёна, які згадваецца як 9-ы баталён БКА.

*Магу накінуць нарыс «Рабінавая ноч» у Курылавічах, потым «Вялікдзень ці Вельканоч» у Дзісьне, а найбольш сумнае «Сьмерць старшыні Пастаўскага павету Сп. Дасюлевіча». Шмат магу чаго расказаць аб сям'і Дасюлевіча*[425]*, бо ён быў маім сябрам з ВБГ. Жонка Дасюлевіча, Сікора, таксама сябрыня з ВБГ (Віленскай беларускай гімназіі).*

*Паважаны спадар Акула, гэткіх людзей, як Вы, у нас няшмат, і гэта наш Беларускі Гонар. Я не забудуся ніколі Дзежку ў «Змагарных дарогах».*

*Спадар Акула, я падуладны спадара Кушаля, але карэспандэнцый зь ім не трымаю. З Астроўскім таксама карэспандэнцыі не вяду.*

*Спадар Акула, я маю таксама добры ўспамін аб Цётцы Алёне (Сокалава)*[426] *і фройлян Бэнцлебен (выкладчыца нямецкай мовы ў БВГ). Гэты ўспамін сямейны й «тлусты», а сьведкам быў Астроўскі.*

*Паважаны спадар Акула, калі Вас цікавіць нешта з гэтага, што я ўспамінаю, то прашу мне напісаць, а я пастараюся апісаць «фрагмэнты» найдакладней да апрацаваньня!*

*Спадар Акула, адзываюся да вас з Найглыбейшай Пашанай.*

*З павагай А. Трус.*

*1.6.65*

*Глыбокапаважаны Спадар Акула!!!*

*Шчыра й то вельмі шчыра дзякую за адказ на мой «агрэсіўны» ліст. Бачу, што Ты (даруй мне за гэта) мой Суродзіч і сапраўдны Беларус!!! Згода й яшчэ раз згода ў трыманьні кантакту й супрацоўніцтва. Дам Табе (даруй яшчэ раз, што буду называць на Ты) маю маленькую біяграфію. Мой бацька быў капітанам 3-га фінляндзкага стралковага палка, камандзірам 1-ай ро-*

---

[425] Маецца на ўвазе **Адам Дасюкевіч** (05.06.1911, в. Капцэвічы Ашмянскага пав. — 01.11.1943, Паставы), грамадскі дзеяч, журналіст, педагог. Член Беларускага студэнцкага саюза, у 1937–1939 гг. быў яго старшынём. У 1938 г. асуджаны на 6 месяцаў турмы. У часе нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам у Варапаеве. Ад 1942 г. — старшыня Пастаўскага павета. Быў расстраляны нямецкім зондэрфюрэрам (гаспадарчым афіцэрам) за невыкананне плану паставак.

[426] **Алена Сакалова-Лекант** (?–1960, Вільня), выкладчыца беларускай мовы й арыфметыкі Віленскай беларускай гімназіі ў 1919–1944 гг. Пасля 1944 г. была арыштаваная й асуджаная на 5 гадоў лагераў.

*ты, у час японскай вайны ў 1905 г., быў адзначан «Георгевскім Крестом» I і II сьцепені. Для «Труса» (беларуса) не прыпадала быць «Трус», бо змагаўся, не зважаючы на небясьпеку, і расейцы назвалі майго бацьку «Трусов» — дадалі сваё расейскае «ов». Я перамяніў на «аў». Сёньня маё прозьвішча «Трусаў», а па-французску «Трюзо». Добра, дам яшчю крыху, пара слоў аб сабе; я жанаты на беларусцы, праваслаўнай, так, як і я; маю трох сыноў, усе гавораць па-беларуску, жонка Галя, хворая (сум па Бацькаўшчыне й па суродзічах), я працую на фабрыцы як зваршчык жалеза, зарабляю на пражыцьцё й на аплату школы для хлапцоў.*

*Далей, 1-шы № Аўген (як я) адбыў вайсковую павіннасьць у Францыі, мае 21 год; другі Юрка, мае 18 год і вучыцца ў тэхнічнай школе, а апошні № Анатоль, мае 16 год і вучыцца выдатна. (Зазначаю, што ўсе тры добра гавораць па-беларуску, а старэйшы нават чытае). Мне здаецца, што гэтага досыць, каб пазнаёміцца з маёй асобай, калі бракуе нешта, то прашу пытацца, я заўсёды на ўслугі, я А. Трус!*

*А цяпер перадам мой успамін з ВБГ:*

*1928 год. Дырэктар Астроўскі, Сокалава выкладчыца беларускай мовы й выхоўваючая шостай клясы, я старшыня клясы, называны сябрамі «Татулька» (сябрамі й сябрынямі) (думаю, што ўсе яшчэ жывыя, аб якіх буду казаць). Было гэта ў месяцы чырвені, канец экзамінаў, выцечка ў «Вэркі» (мараплавам Касьцюшка) па Віліі (я тады іграў з аркестрам, каб зарабіць інтэрнат (Сахалін), што мы называлі, і аплату за вучобу) (бо мае бацькі ня мелі магчымасьці аплачваць). Дзень пасьля «Вэркаў», экзамін зь нямецкай мовы, як заўсёды, кляса была падрыхтавана, дошка выцерта, крэйда й сьцёрка ляжалі каля дошкі на паліцы. Нас было ў 6-й клясе 18 вучняў, тры рады лавак па два вучні ў лаўца. Я сядзеў у першай лаўцы пасярод з Алёнай Ялінскай (высокая, спрытная дзяўчына, да каторай у мяне трапятала сэрца, а ў яе таксама). Званок. Усе паселі, і вось уходзе фройлян Бэнцлебен (выкладчыца нямецкай мовы). Дзень быў цёплы, вокны ў клясе адчынены, вучні надзеты па-летняму, я ў кароткіх паўсукенкавых штанах і кужэльная кашуля без рукавоў (кароткія рукавы). Ялінская, што сядзела каля мяне, была ў рэдкашолкавай сукенцы, а ніжняя кашулька розавая, прасьвечвала нават да загарэлага цела. Фройлян Бэнцлебен увайшла ў клясу, усе ўсталі, «Setzen sie bitten». Усе*

*селі. Настаўніца ня села на сваё крэсла, а села на стол, што быў акурат перад маёй лаўкай, адну нагу паставіла на крэсла, а што было цёпла й ня мела штаноў, то я пабачыў «пекла». Я меў тады каля 18-год і першы раз пачуў кроў у жылах. Усё ў мяне стала дыбарам. А тут, як на злосьць, фройлян Бэнцлебен кліча «Eugen kommenn sie hier». Я не ўстаючы (што было не па-школьнаму) адказваю «Ich kann nicht» (я не магу). Я адказаў, ня ўстаўшы, і гэта яе разгневала. Пачала крычаць на мяне «ўстань, устань», а я не магу. Пабачыўшы «пекла» й адчуваючы Ялінскую каля боку, у маіх кароткіх штанах я ня мог падняцца, бо нешта мне перашкаджала, і чаго я ня мог паказаць дзяўчатам, а перадусім маёй Ялінскай. Я адказваў седзячы, і гэта вывела з раўнавагі фройлян Бэнцлебен. Выбегла з клясы й паклікала Цётку Алёну (Сокалаву), што была выхаваўчыняй нашай клясы. Прыйшлі абедзьве, Сокалава пытаецца мяне «Што ёсьць, Аўген», а я ўстаць не магу, каб адказаць, адказваю седзя, бо ўсё штыўнае ў мяне. «Гэта несубардынацыя, правакацыя клясы», пачала крычаць на мяне, а ў мяне яшчэ горш «падымаецца», як на злосьць. Кіпелі абедзьве настаўніцы, Сокалава й фройлян Бэнцлебен, а я ўстаць ня мог. Гэтак прайшла гадзіна «нямецкага», кляса была вельмі задаволена, што я зрабіў (сабатаж), а з другой стараны баяліся за «Татульку», што яго (мяне) выкінуць з гімназіі. Прышла вялікая паўза, я ўзяў клярнэт, як заўсёды, каб заіграць «Лявоніху» з нашай нацыянальнай аркестрай, але «стораж» паклікаў мяне да дырэктара. Звычай быў такі, што калі «стораж» кліча да дырэктара, то будзь пэўным, што заўтра цябе ў клясе не пабачаць. У мяне ўжо ўсё «апала», іду ў канцылярыю Астроўскага, за мной ідзе Сеньчык, Ленка Ялінская й другія сябры, пэўныя, што «Татульку» праводзюць апошні раз. Уходжу ў канцылярыю дырэктара: Астроўскі, Алёна Сокалава й фройлян Бэнцлебен, а таксама сакратар Лукашэвіч.*

*Я ў сваёй кужэльнай кашулі й кароткіх бугульнічных штанах проста стаю каля дзьвярэй.*

*Астроўскі: «Што за правакацыя, бунт, забастоўка й так далей?». Я маўчу. Астроўскі: «Што маеш на твае ўсправедліваньне правакацыі клясы?». Я: «Спадар дырэктар, дазвольце мне адказаць без прысутнасьці жанчын». «Сокалава й Бэнцлебен, выйдзеце, калі ласка». Калі я застаўся з Астроўскім і Лукашэвічам, першы мяне*

*запытаўся: «Што ёсьць?». Я зусім спакойна адказаў, што пабачыўшы «пекла» ў Бэнцлебен, мяне ўзялі «чэрці на ражон», і перад дзяўчатамі я ўстаць ня мог, каб не паказаць маёй «пружкасьці». (Я казаў зусім адкрыта, як бы перад бацькам, нічога ня крыў).*

*Што я атрымаў у адказ: «Ідзі ў клясу й падчас лекцый ня думай «дурнога». «Добра, — кажу, — калі не пабачу, то й не падумаю».*

*Сколькі было зьдзіўленьня ў сяброў і сябрынь, што «Татульку» ня выкінулі, а праўду аб гэтым ведала толькі адна Ленка Ялінская, і то я ей расказаў год потым, калі мы былі на выцечцы ў Вэрках. Я ўспамінаю, а Ленка памятае, напэўна, і сёньня. Гэта былі маладыя гады.*

*Спадар Акула, вось мой успамін зь Віленскай беларускай гімназіі, што Вам падабаецца ў гэтым, ня ведаю, хачу пачуць адказ і крытыку. У наступным пісьме напішу «Рабінавую ноч у Курылавічах», гэта будзе пахнуць порахам і дымам пажару.*

*З вялікай пашанай А. Трус.*

*21.6.65*

*Глыбокапаважаны Спадар Акула!!!*

*Шчыра дзякую за «Гараватку», а перадусім за «Аўтарска-Сяброўскае» слова, якое мне зьяўляецца вялікай пацехай і застанецца да сьмерці як добры ўспамін.*

*Спадар Акула, я прачытаў «Дзярлівую птушку» зь вялікай увагай. Быў я на Гараватцы зь Януком, Дуняй, быў пад дубом [з] Архіпам, быў там зь дзедам Якубам, і ягоны разказ аб «зямлі, насёкшай беларускай крывёй і потам» мне адбіўся моцна ў душы. Першая частка «Гараваткі» вельмі добрая, але для мяне «замоцна трагічная», я плакаў. Другая частка «цудоўная», толькі я заступіў бы «последний конечный денечек» прыпеўкай:*

*Вы ня думайце, палякі,*
*Што мы будзем ваяваць,*
*Мы засядзем у акопах,*
*Самагонку будзем гнаць!*

*і далей:*
*Як штогод лятуць на вырай*

*Цераз вёску гусі,*
*Так Рыдз-Сьміглы*[427] *і палякі*
*Пойдуць з Беларусі!*

*(PS. Сп. Акула, усё, што перадаю тут, гэта ёсьць што я вынес з Бацькаўшчыны — Беларусі).*

*Шкода, што я не навязаў лучнасьці з Спадаром перад выпускам («Гараватка I»), але гэта нічога, пастараюся дапамагчы ў будучыні. Думаю, што «Гараватка II» будзе «Освобождение» ці нешта падобнае. Дуню Макатунішку я б паставіў настаўніцай, ведаю, што пры Саветах мой сусед Мілітон Юршэвіч (званы зайцам, бо ў кожную дзюрку лёгка пралазіў) быў дырэктарам Дзісенскай гімназіі маючы асьвету 4 клясы пачатковай школы ў Баранавічах. Быў назначаны дырэктарам не па навуцы, а па спрыце даносаў і прапаганды.*

*Вось Дуня настаўніцай, вучыць вясковых дзяцей і добра вывязываецца сваіх абавязкаў. Аднаго разу малы хлапец Петуха ці другога селяніна спазьніўся ў школу. Дуня пытае хлапца: «Чаму так позна прыйшоў, ня можаш быць разам з другімі?!». Хлапец кажа: «Таварышч настаўніца, я спазьніўся, бо мусеў цялушку завясьці да быка». Настаўніца Дуня: «Што ты мне гэта гаворыш, а твой бацька ня мог гэта зрабіць!?». Хлапец: «Так, татка мог бы гэта зрабіць, але ня так добра, як бык».*

*Гэта падаю да сьмеху, калі падабаецца, то калі ласка ўмясьціць. А падам яшчэ адзін прыклад: калі «асвабадзілі» беларусаў Заходняй Беларусі ад хлеба й солі, то давай заганяць моладзь ад 16-19-ці год на вячэрнія курсы «по русский» вучыць. Дуня да гэтага была няздольна, бо камуністычнай прапаганды вясьці няўмела, дык вось на гэта была вызначана Ірка-камсамолка, загадчыца «Красного уголка». Вечарам, калі сабраліся дзецюкі й дзяўчаты, усе дасьпелыя жыцьцём-горам, у школе, дзе мела быць лекцыя «русского», а гэтых падуросткаў на першы раз сабралася шмат, каб пачуць, што скажа камсамолка Іра. Пачалося ад Маркса-Энгельса, Леніна-Сталіна, а потым да «русского языка», бо як жа магло б быць, каб беларус ня ведаў мовы свайго «старшего брата». Ірка-камсамолка бы-*

[427] **Эдвард Рыдз-Сміглы** (1886–1941), польскі палітык, маршал, галоўнакамандуючы польскім войскам у 1939 г.

*ла прысланая з СССР. Прыгожая дзяўчына, год 18–19, густыя шатынавыя валасы, каротка падстрыжаныя (пад польку), здаровая, як мала тады савецкіх людзей, як карова, лыдка дык лыдка, а грудзі як бы хто падушкі падлажыў.*

*Вось выклікала да дошкі самага спрытнага дзецюка, год 19, высокі, добра збудаваны, кучаравы бландзін, Язэп Сьпірковіч, званы Шчумялём, бо ўсе яны з прадзедаў любілі «гудзець». Шчумель, выйшаўшы да дошкі, перад усёй моладзьдзю, крых зачырванеўся й чакае на далейшае. Камсамолка пытае: «Ну, что, товарищ, умеем писать по-русски?». «Ды чаму ж не», — адказаў Язэп Шчумель (праўда, што хадзіў толькі ў польскую школу, але дома пры бацькох навучыўся й кірыліцай, бо ягоная сястра Іва хадзіла ў Беларускую гімназію ў Вільне, год ці два). Камсамолка пачынае: «Ну-ка, напиши по-русски — следующее я тебе продиктую: Воробей поёт или чирикает». Добра, дзяцюк піша: «Верабей поёп или чирикает». Камсамолка выклікала другога дзецюка, каб паправіў памылкі, гэты папраўляе слова «поёп» на «поёб» ці замест літары «п» паставіў «б», так што слова «поёт» дастала зусім перакручана. Камсамолка, зачырванеўшыся, пытае трэцяга дзецюка, не выклікая да дошкі. Той устаў і спакойна сказаў: «Калі верабей паёб, то чырыкаць ня будзе».*

*На гэтым першая лекцыя «русского» закончылася. На наступных я не прысутнічаў.*

*Аб гэтай Ірцы-камсамолцы магу расказаць крыху больш. Было гэта ў Мікалаеве каля Дзісны, у гэты час я быў «лесатэхнік», заступнік лясьнічага, Войніч называўся. Я вёў таксама працу «бухгальтэра», гэта мне давала магчымасьць зблізацца да мікалаеўцаў. Разам з хлапцамі хадзіў у «Красны уголок» і ў суботу спатыкаўся зь імі ў лазьні, і квашаная капуста зь сьмятанай і пляшка сівухі (бо для дзядзькі Рабізы былі бярозавыя дровы, а для сельсавету — гнілыя асінавыя). У Мікалаеве лазьня дзядзькі Рабізы была адна-адзіная на ўсё мястэчка. Рабіза, як кожны беларус, быў вельмі гасьцінны, працавіты й жыў добра. Аднэй суботы пасьля лазьні (мужчыны мыліся перш, а жанчыны потым) дзядзька Рабіза мяне затрымаў на вячэру й казаў, што будзем чакаць жанчын, як памыюцца. Добра. На вячэру была запрошаная таксама Ірка-камсамолка. Дзядзька Рабіза прыстроіў «яешню ў калена з скваркамі па далані», сівухі не было, але «Московская чистая». Зьелі, выпілі й пачалі*

*жартаваць. Рабіза прынёс карты, і я ўзяўся «варажыць». Каму? Ірцы. Вось мая варажба: ну, выцягні тры карты з калоды, падумай нешта й палажы на стол. Я выцягваю таксама тры йператасовываю разам. Потым пераплятаю, раскладаю, кажу цягнуць яшчэ адну карту (валет чырвенны быў падрыхтаваны), кажу мне не паказваць, трымаць правай рукой на сэрцы й сесьці з гэтай картай на разложаныя карты на стале. Варажбіт зь мяне быў вялікі.*

*Камсамолка ўпіралася, не хацела сесьці на стол, на карты, але аднак села. Цяпер мая галоўная варажба: Імя? Іра. Па бацьку? Игнатьевна. Сколькі год? 20! — мне сказала. Дык вось мой адказ: «Вельмі сумна, Іріна Егнатьевна, і сорам у Вашых гадох лезьці на стол, на карты садзіцца. Слаба вас, камсамольцаў, перашколілі для «западнекаў»! Чырвоная, як «печаны рак», саскочыла са стала й думаў ужо дасьць мне ў морду, але не, толькі ад гэтай варажбы перастала гутарыць са мной.*

*«Варажба» гэта разьняслася па ўсім Мікалаеве, і хлопцы мне пачалі дакучаць, каб я нешта напісаў у «Стенгазету», што прыклейвалася ў «Красном уголку». Праўда, што я быў старэйшым ад хлопцаў мікалаеўскіх, аднак адчуў іхную прывязанасьць да мяне й, маючы час, напісаў «Частушкі» ў «Стенгазету». Вось словы, помню як сёньня!!!*

*Гэй, паслухайце мяне,*
*Я сьпяю частушкі:*
*Варажыў я тут у сяле*
*Для аднэй дзявушкі.*
*У «Клубе» тут яна сядзіць,*
*Газэты чытае,*
*Быстрым вокам у друк глядзіць,*
*Аднак мала знае.*
*Хоць гадоў ёй з дваццаць мо,*
*Косьці з тлустым мясам,*
*Ды на карты і на стол*
*Яна сядзіць часам!*
*Вось навука ў тым ляжыць,*
*Слухайце выводы:*
*Кіньце, дзеўкі, варажыць,*
*Сьмела назаўсёды.*

*Подпіс быў пад гэтым «Прысутны». А іх было шмат, як я варажыў.*

*Доўга гэтыя «Частушкі» не павіселі на «Стенгазете». Ірка-камсамолка «сарвала» (зьдзерла), дык тады хлапцы прыйшлі прасіць, каб я зноў напісаў. Я іх выслухаў і напісаў яшчэ раз, яны гэта перапісалі, і колькі раз Ірка зьдзерла «Частушкі», яны зьяўляліся заўсёды на «Стенгазете» ў «Клубе».*

*Па нейкім часе мяне пасылаюць у Барысава на курс лясьнічых. Добра, трэба было 2 здымкі й перадаць у пастарунак НКВД просьбу на пераезд «заграніцы». Я зьявіўся й прабыў у «падвале» толькі 16 дзён, а чаму? За «афіцэрскія боты». Я меў прайсьці «прамоцыю» ў Быдгошчы 1 верасьня 1939 г., і вось за гэта насіў яшчэ «афіцэрскія боты». Было ўжо данесена, што я «польскі афіцэр».*

*Добра, вось гэтых 16 дзён, што мне былі векам. Так як Піліпу Бахмачу з Вадзімскім і Мэндлікам[428], я пережыў. Ня быў там Вадзімскі, але нейкі грузін, чорнавалосы з вачмі, як вугольля, і носамругана.*

*Першую ноч на дапросе я быў «бело-поляк», другую й далей «польская собака». Калі пратрымалі шэсьць дзён бязь ежы й на дапросе падсунулі булачку з чаям, я выцягнуў руку, але як «польская собака» зараз пакаціўся на зямлю, не, не адразу, бо калі валіўся, то другі «грузін» мне паправіў з другой староны, больш нічога ня помніў. Ці заўтра, ці пазаўтра зноў мяне паклікалі й «частавалі» ці булачкай, ці папяросамі, але я ніколі ня памятаваў, як мяне выкідалі з дапросаў. На шаснаццаты дзень раніцай выклікаў «камісар-грузін» і сказаў: «Вы свободны і мы теперь знакомы. Пріходіте, когда вам нужно». Я выйшаў, не аглядаючыся, бег, колькі было моцы, і не вярнуўся.*

*Далей падам больш. З глыбокай пашанай А. Трус.*

*23.6.65*

*Глыбокапаважаны Спадар Акула!!!*

*Учора паслаў Вам ліст і крыху (ня ведаю, ці добры) матэрыялу. «Гараватку» чытаю другі раз. Вельмі люблю «Роднае слова», люблю чытаць, пішу шмат і вельмі люблю атрымліваць пісьмы. Ад 4-га чэрвеня не раблю, спаліў сабе вушы пры працы,*

428 Героі «Дзярлівай птушкі».

*спаліў ня звонку, а ўсярэдзіне, і цяпер лячуся, бо глухаваты. Седзячы дома, або чытаю, або пішу, гэтым забіваю (разводжу) свой вольны час. Спадар Акула, буду зь нецярпеньнем чакаць на адказ на мой ліст, высланы ўчора.*

*Я ўсё яшчэ пад напружаньнем «Гараваткі». Мяне захапляе само выяўленьне палітычнага патрыятызму беларусаў, выражанае так умела, так натуральна, так прыгожа-паэтычна, што гэта рэдкасьць!!! Дзякую!!!*

*Спадар Акула, хацеў бы ведаць, чым бы я мог дапамагчы Вашай працы? Мо рысункамі? Маю да гэтага здольнасьць, ды й сыны могуць мне шмат дапамагчы ў гэтым. Хацеў бы ведаць, чым рабіць рысунак, алавіком ці тушам, і трэба ж ведаць, што выразіць на рысунку? Трэба ведаць разьмер. У прачытанай «Гараватцы» я бачыў рысункі, добрыя, толькі занадта замурзаныя. Ня ведаю, каму дзякаваць за «Беларус», якога атрымоўваю рэгулярна, а да гэтай пары ня даў ні «граша». Пакуль што мае матэрыяльныя абставіны вельмі цяжкія, жонка ўжо 15 год хворая, і гэта будзе цягнуцца хіба аж да «грабавой дошкі», хлопцы вучацца, і для маёй собскай матэрыяльнай нажывы не магу іх сьцягнуць на бок, з добрай дарогі. Яшчэ 3–5 год высілку, і тагды надзеюся, што ўсё пойдзе «гладка», надзеюся, а як нехта казаў, «надзея — гэта матка дурных».*

*Да гэтай пары магу сказаць шчыра, што «Веру, братцы, у свае сілы!»[429] і мне здаецца, што вытрымаю, мушу!!!*

*Добра, цяпер зноў крыху аб сабе: я польскім афіцэрам ня быў, але меў праходзіць «прамоцыю» 1-га верасьня 1939 г. Прайшоў яе «пад бомбамі» нямецкіх самалётаў у абароне «Віслы пад Шчэцінэм». Я быў заступнікам ротнага, які быў лейтэнантам рэзэрвы, жыд, Вайс Эгон. Ноч перад 1-ым верасьня — нарада ўсіх камандзіраў у «Касыне афіцэрскім». Роўна апоўначы, як «чорт у кулачыкі стукае», пасыпаліся бомбы. Усе кінуліся ў дзьверы, і тут я пабачыў, рынуўшыся ў бульбу, як майго Вайса прыляпіла да муру «Касына», быў забіты, і я папоўз да хлапцоў у вакопы, дзе было шмат беларусаў. Памятаю, як сёньня, «дружыновых» цяжкіх кулямётаў, беларусы — Малец, Заяц, Жук, Сіняўскі, Кадушка, Салавей, Водчык, Карась і Мікула. Цяпер да*

429 Недакладная цытата з верша Цёткі: «Веру, братцы, ў нашу сілу, веру ў волі нашай гарт».

*мяне належала каманда роты цяжкіх кулямётаў і адна арматка процi танкавае, якой даводзіў Брак Эдмунд, немец з паходжаньня, мой сябра з 33-га ў Ломжы й са школы падафіцэраў. На левым баку нашага абароннага адцінка было возера й было падмінаванае. Калі нямецкія танкі ўвайшлі ў даліну, што была перад намі, то возернаю таму ўзарвалі, і хваля заліла танкі. Гэта зрабіла вялікі перапалох у нямецкіх танкістаў, і пачалі вяртаць назад. Тут Брак паказаў сваю зручнасьць, і біў па сваіх суродзічах. З разьлітага возера ў лагчыну зрабілася маленькая гразь, і на другі дзень рана танкі, шлёпаючы па балоце, пёрлі наперад. Маім заданьнем было бараніць Віслу, скуль спадзяваны быў найбольшы наступ. І вось раніцай перад расьсьветам, 1-га верасьня, пачуўся грукат за Віслай, як бочкі нехта бляшаныя каціў. Гэта былі вялізныя лодкі для пераправы. 6 лодак, поўна наладаваных немцамі, пачалі перапраўляцца цераз Віслу, цяжкія гарматы з Крылеўца пачалі абсыпаць нас зямлёй, каменьнем і жалезам. На «ракету», агонь!*

*Лодкі пайшлі на дно, а людзі, ня ведаю. Пад вечар 2-га верасьня «лучнасьць» была парваная зь левым батальёнам, камандзір правага батальёна, капітан Шток, загадаў адступаць. Перайсьці на другі бераг Віслы, недалёка Млавы. Тут загінуў ад самалётавых куль дружыновы баец. Гэта быў першы ранены беларус у маёй роце. Апатрунак я рабіў асабіста й не забудуся гэтага перажыцьця да сьмерці. Мочучы рукі ў ліпуча-цёплую кроў свайго суродзіча, мяне ўзяло на «вырацаньне», бачучы кроў і гразь на брусе раненага, то мае кішкі гатовы вылезьці былі праз горла. За пару хвілін Заяц аддаў Богу душу, а я пабег даганяць адступаючых. Яшчэ сёньня памятаю апошнія словы Зайца па-беларуску: «Братка, перадай маёй жонцы гэты здымак і скажы..», не дакончыў, зацяў зубы, скубануў рукамі траву, дрыгнуў і сканаў. Здымак Зайца забралі ў мяне «товарищи-освободители». Гэта была «пяцімінутная» здымка, паштовага фармату, прыгожая маладая жанчына з адным хлапчуком каля боку (4–5 год) і прыгожая дзяўчынка на руках (1/2–1 год). Дагнаўшы «ўцякаючы» натоўп войска, на самай пераправе празь Віслу, я ўскочыў на паром, ужо перапоўнены па самыя берагі, толькі мне застаўся адзін рог парому, каб паставіць дзьве нагі. Ды мне не давялося на гэты раз пераправіцца. Капітан Шток пачаў мяне прасіць, каб я ўступіў яму*

*незавіднае месца на пароме «puść na miłość Boską, mam dzieci, żonę!». Я пусьціў. Капітан Шток ускочыў на паром, і сапёры пачалі круціць калаўрот да пераправы. Калі паром быў на сярэдзіне Віслы, наляцеў самалёт з чорнымі крыжамі, застракатаў з кулямёта й толькі адну бомбу скінуў, а тая звалілася пасярод парому, і паплылі бёрны й людзі, а самалёт яшчэ па тых, каторых не забіў бомбай. Тыя, што чакалі на пераправу, паляглі ў кустох, а я з Карусём і яшчэ пара хлапцоў пабеглі ў гору на якіх 20–30 мэтраў, «пусьціліся ўплаў». Вада нас зьнясла на добры кілямэтар ці больш, аднак вылезьлі на другі бок. Вось тут мы згубілі ўсё, выйшлі з вады, як «Адам», згубілі «гузікі» й «калідор», а перад намі дарога. Ежы хапала, бо магазыны паразьбіваныя, усяго поўна на дарозе. Першы зборны пункт у Помехувку каля Модліна, і тут зноў арганізацыя цяжкіх кулямётаў, але цяпер толькі адзін зьвяз, Малец дружыновы, Карась і Водчык. Самалёты нямецкія, як вараньнё. Тут Мальцу ўдалося зьбіць адзін самалёт. Пабеглі глядзець і забраць палоннага, а ён нас прывітаў агнём з кулямёта. Страт не было, і «немца-лётчика» забралі, быў гэта радавіты паляк з Познаня Манцфэлд. Далейшыя ўцёкі цягнікам Помехувэк, Модлін, Варшава на Брэст-Літоўскі. На Нёмане мост узарваны й «перасядка» пад кулямі й бомбамі. Далей пехатой аж да Коўля. Далей напішу (калі цікавіць).*

*Дзякую за ліст, адкажу заўтра. А. Трус.*

*17.7.65*

*Глыбокапаважаны Спадар Акула!!!*

*Даруйце мне за адцягнуты адказ на Вашае пісьмо. Мае апраўданьні: два тыдні быў у шпіталі на вушы, цяпер глухі на правае вуха, па-другое, чакаў на адказ з Lens ад Качана, да гэтай пары ня маю адказу. Калі буду мець аказію пад'ехаць туды асабіста, у час вакансу, то пастараюся даведацца, што ёсьць. Што да «Беларус» (газэта), атрымліваю з Крэзо ад Нагорнага, грошы на газэту зьбіралі, але куды яны пайшлі, ня ведаю! Вашыя артыкулы ў «Беларусе» вельмі добрыя, і гэта мяне найбольш інтэрэсуе.*

*Сумна мне, што «Гараватка II» на няпэўнасьці выйсьці ў сьвет!!! Ведаю, што гэтакі твор ня выйдзе за дзень, ні за два, трэба пісаць, а я думаю, што за пара год змагу Вам дапамагчы*

*матэрыяльна. Пакуль што не магу адарваць рабят ад школы, бо добра вучацца, а за пара год, як кончаць навуку, пойдзе ўсё добра.*

*Спадар Акула, буду пісаць далей мае ўспаміны з 1939 г. Напэўна, тыя, што пайшлі зь «літоўцаў» змабілізаваныя, перажылі тое, што й мне давялося?! У апошнім пісьме я затрымаўся над Нёмнам. Вось тут прыпомніў песьню: «Ах ты Нёман-рака, ці ты бачыў, ці сьніў, як сьлязу мужыка ў свае воды лавіў»!!!*[430] *Чыгуначны мост на Нёмне быў збамбардаваны, эшалон затрымаўся, усе вылезьлі правіць мост, і вось тут было што пабачыць: хіба Нёман не хацеў перапусьціць палякаў на другі бок, на Беларусь.*

*У сваім аддзеле я меў аднаго «Антка» (паляк), што па дарозе наладаваў свой пляцак гадзіньнікамі (па разьбітых магазынах), было тых гадзіньнікаў хіба больш 500, штовечар ён іх накручваў і пляцак клаў пад галаву, каб слухаць «цік-так». Над Нёмнам пры пераправе зноў самалёты, стракатня з кулямётаў і густа сееныя бомбы.*

*Мой «Антак» выскачыў з вагона першы й пляцак з гадзіньнікамі цягнуў за сабою. Я скочыў пасьля ўсіх і рынуўся пад куст, дзе ўжо нехта ляжаў. Калі «бамбёжка» скончылася й пачалі вылазіць зь ям, то я пабачыў пляцак з гадзіньнікамі, рассеянымі па лугу, а «Антак» ляжаў каля іх без галавы.*

*Набліжаўся вечар, пераход цераз разьбіты мост на Нёмне, і тут каля аднаго дрэва, абапёршыся плячыма, сядзеў жаўнер з разарваным жыватом, ня енчыў і не прасіў помачы, а толькі абедзьвюма рукамі стараўся ўпіхнуць назад выплываючыя кішкі.*

*Запала ноч, кожны ішоў на сваю руку, каб толькі далей ад Нёмна. Да мяне далучылася некалькі хлапцоў, пачаў сыпаць дождж, цёмна, як «пальцам у вока», на чыгунцы стаяў эшалон вагонаў, няма выбару, ад дожджу й сьцюжы лезем у вадзін вагон, дзе поўна жаўнераў сьпіць на падлозе вагону (таварнага) на саломе, мы ўціснуліся паміж іх і зь перамучаньня добра спалі.*

*Прачнуўшыся назаўтра, мы пабачылі, што спалі мы паміж памёршых ад ран, якіх ніхто не аглядаў, гэта быў санітарны вагон. Ідучы далей, нас далучылі да нейкай «дывізіі Бжозы-*

---

[430] Цікава, што гэтую ж песню згадвае ў сваіх успамінах і а. Я. Германовіч.

*Бжэзіцкага», якая мела прымаць «освободителей» для пераходу галоўных сіл польскіх у Румынію. Дайшлі мы да Коўля недалёка ад Брэста-Літоўскага.*

*А ду усходняй стараны Коўля была пабудаваная «ўстрачальная брама» для «освободителей», убраная гірляндамі з галінак ёлкі, і на самым вярху быў вялізны партрэт Сталіна, на вялікім палатне былі чырвоныя літары «Отец народов, спасибо за память. Да здравствует СССР». Пры гэтым працавала пару хлапцоў і некалькі дзяўчат; пабачыўшы надыходзячых палякаў, усе разьбегліся, але тая дзяўчына, што была на драбіне й прымацоўвала кветкі каля Сталіна, засталася, і Бжоза-Бжэзіцкі загадаў яе павесіць у браме пад партрэтам Сталіна. Жудасна было глядзець на гэта відовішча.*

*Пасьля Коўля адступілі пад Маларыту, каля Брэста, і тут спаткаліся з «освободителелями». Галоўнае камандаваньне ўцякло да немцаў, а мы, «дробныя», паддаліся. Пастроеныя ў тры рады, акружаныя «дзегцярамі», на лугу ў балоце пад уліўным дажджом, мы чакалі раніцы. Усю ноч адстоілі, а на раніцу прыйшоў «політработнік» з чырвонай зьвяздой на левым рукаве й пачаў пытацца ў канваіраў: «Дзе ёсьць Пілсудзкі?». Мне падалося дзіўным, што савецкі афіцэр ня ведаў, што Пілсудзкі памёр у 1936 г. Далей пачаў пытаць у жаўнераў: «Хто тут заядлы?», і калі жаўнер паказаў, што «этот», то, адвёўшы на тры мэтры ад нас, дастаў пулю ў патыліцу й канец. Былі нават людзі, апранутыя па-цывільнаму. Высокі, худы мужчына гадоў 35. «Давай сюда» — гэта значыць, капцы. Але ён гаварыў вельмі добра па-расейску, і стаўшы на калені, пачаў маліць палітрука, што ён бядняк, і гэта быў першы, што абмінуў кулю ў патыліцу.*

*Пасьля гэтага «сіта» нас загналі на станцыю Брэст-Літоўскі і па 120 чалавек у цялятнік, забіты калючым дротам. Праз 6 дзён не адчынялі дзьверы, і калі першы раз затрымалі, каб даць «чай», то я, пачуўшы ўхлынутае паветра, папоўз на «чатырох» да дзьвярэй. Шэсьць дзён без каплі вады, ні кавалка хлеба, але было й такіх, што мелі поўныя торбы ежы, і калі яны нажраліся і пачалі «жаваць паветра», дык атмасфэра была не да вытрыманьня, а ў дадатак хворыя на дызэнтэрыю, з каторых плыла кроў, дабівалі нас да «абуха».*

*Масква, Беларускі вакзал, перапынак і абед у сталоўцы, селядцы з рысам. Добра пачаставаў нас Беларускі вакзал у Ма-*

*скве, пасьля «чаю» па 6-ці дзён ня еўшы, селядцы з рысам былі аб’ядзеньнем.*

*Пасьля Масквы Калуга й пехатой у Ільменскі Бор. Тут спатыкаў хлопчыкаў, што прасілі «Дзядзенька, дай копеечку». Я даў некалькі «5-ці злотак» Пілсудзкага, за гэта яны прынясьлі цыбулі й вараных буракоў. Ільменскі Бор гэта нейкі памешчыцкі палац, абгароджаны дротам у два рады, вышкі з рэфлектарамі на каждым углу, і тут адзін беларус зь Беластоку «крануўся» й спробаваў уцякаць, забілі з кулямёта, зваўся Казлоўскі.*

*Жыцьцё ў Ільменскім Бару: гульня ў карты на папяросы, гульня на вошы, і то таксама на папяросы. Рабілася кола на паперыне, а пасярод клаліся папяросы (залежыць, колькі было іркакоў) і кожны пушчаў сваю вош, каб дабегла першая да сярэдзіны, дзе ляжалі папіросы, той выйграваў. А другі конкурс на табаку, то было зьбіраць вошы ў бутылку, і гэта было на 6 дзён. Выйграў стары царскі маёр Шашкін, за 6 дзён назьбіраў поўны літр вошы, і то не маленькіх, а так, як зярнё жыта.*

*Зімой з 1939–1940 пры марозе 40ºC без кашулі й пашчы голыя, цёрлі вошы цаглінай на муры.*

*Ежы не было, але газэт і прапагандавых афіш хоць засыпся. Я як беларус дастаўся ў «рабочую дружыну». Вазіў ваду на кухню, у лазьню, ну, і сек дровы ў лесе. Тут была найлепшая работа! Зрэзаць сасну, і то якую хочаш, дык вось мы выбіралі тую, дзе было найбольш вароніх гнёзд. Вараняты яшчэ ня лёталі, і мы іх лавілі жыўцом, вытрубашыўшы, залеплівалі ў гліну й кідалі ў агонь, калі гліна палопала й пачала пара выходзіць, дык вараняты былі ўжо добрыя да ежы. Гліна адставала з пер’ем, і хоць бяз солі, то я гэтак смачна ня еў у жыцьці й хіба есьці ня буду. Тут, у Францыі, на Каляды, калі мне давялося есьці індыка, то ня быў такі смачны, як вараняты з Ільменскага Бору (праўда, што быў голад).*

*Дачакаліся павароту на Беларусь: два селядцы, тры кавалкі цукру й луста хлеба-гліна, безь перапынку аж да Ліды, гэта падарожжа трывала добрыя 4 дні, ні вады, ні чаю. У Лідзе ад жалезнадарожніка дастаў «галандзкі» сыр, які падзяліў зь сябрам Юршэвічам зь Сьпігальшчыны. А вады няма аж да Крулеўшчыны. Тут напіліся вады, і я, маючы грошы, купіў кавалак сала, 100 зл. на картоніне напісана было, я даў 100 зл., а атрымаў за гэта ня больш як вараб’ёва галава, хіба 10 гр. Да-*

*лей знайшлі кілбасы досыць танна, але былі толькі цьвярдыя, як сабачына.*

*Крулеўшчына, Глыбокае, Зябкі, Падсьвільля. Тут спаткалі знаёмага дзядзьку, што нас давёз да Чарневіч, далей пехатой 4,5 км. Да роднай хаты прыйшоў на «залачок», перад усходам сонца, дзьверы зашчэпленыя, сеў на парозе й чакаю аж устануць. Не трывала доўга, сястра ішла даіць карову й калі пабачыла мяне, то спужалася. Я быў аброслы барадой і выглядаў на жабрака. Барады я не галіў, і мяне празвалі «Бародка».*

*Пачаліся выбары «кандыдатаў». Я быў назначаны «старшыня выбарнай камісіі», але гэта не трывала доўга, бо я стаўся «белапаляк» і «польскі сабака», а пры паляках быў «кацап» і «бальшавік». Выкінулі з выбарнай камісіі, і я паступіў за лесатэхніка ў лясьніцтва. Лясьнічым быў савецкі беларус Літоўка, бухгальтаршай была полька Врублеўская. Потым мяне перакінулі ў Мікалаева як заступніка лясьнічага, лясьнічым быў жыд Шпарбар. Пры Польшчы ён трымаў вялікі магазын у Глыбокім. З гэтым жыдам «лясьнічым» я езьдзіў па саджанцы ў Мёры, сасна, елка, дубы, і цікава вось гэта: «Аўген, ай вай, як садзіць будзем, ці вярхом у зямлю, ці каранём уверх?» Потым я быў выпраўлены на курсы лясьнічых у Барысава, але так не давялося мне там быць, бо НКВД у Дзісьне мяне затрымалі за «афіцэрскія боты» і прамучылі мяне 16 дзён як «белапаляка» й «польскую сабаку». Далей напішу аб маіх 16 дзён у падвале НКВД.*

*З пашанай А. Трус.*

*Прашу пісаць і казаць, што добра, а чаго замала.*

*10.8.65*

*Глыбокапаважаны й Дарагі Спадар Кастусь!*

*Вось сёньня атрымаў Ваш ліст, пісаны 4.8.65, а высланы 15.8.65 а гадзіне 9.30. Шчыра дзякую за памяць і з сумам ня буду крыўдзіцца, калі Ваш адказ будзе зацягнуты. Ведаю, што маеце шмат працы, і жадаю ад шчыра беларускага сэрца «Сілы ў літаратурна-мастацкай працы для Бацькаўшчыны».*

*Далей зь Вялікім задавальненьнем паведамляю, што Валодзя Качан жыве ў Lens (P. de C.) Запрашае мяне, каб яго адведаў, і абяцае прыехаць да мяне. Я яго шчыра запрашаю да сябе, але сам пакуль што паехаць не магу, раз, што не працую, а падругое, маю хворую жонку, якой не магу пакінуць на даўжэйшы*

*пэрыяд. Пачну рабіць 23-га жніўня, але астануся глухі хіба на ўсё жыцьцё. Мой старэйшы сын Аўген, што адслужыў вайсковую павіннасьць у Францыі, пачаў рабіць, і думаю, што матэрыяльнае становішча ў сям'і паправіцца. Верасень ужо недалёка, і двух «студэнтаў» трэба рыхтаваць у школу, будуць выдаткі, але, думаю, што «наперад кінеш, то потым знойдзеш». Старэйшага сына ня мог добра вывучыць, але аднак скончыў прафэсіянальную школу й выйшаў як «модмёр і мулёр»*[431]*, а з войска выйшаў як шофэр-мэханік. Пры гэтакай спэцыяльнасьці работу знойдзе заўсёды, і то добра платную, а ў дадатку «спортсмэн» гуляе ў «рэгбі», і не адзін, а ўсе тры, і думаю, што змагу «пахваліцца» ў «Беларусе» (газэце) з спартовай здольнасьці маладых беларусаў у Францыі.*

*А цяпер то іное: у апошнім № «Беларусе» я бачыў крытыку «Дзярлівая птушка», зробленая Янкам Станкевічам*[432]*. Спадар Акула, мусіце ганарыцца і ўзяцца яшчэ мацней да працы літаратурна-артыстычнай. Я дагадваўся, што Вы з Глыбоччыны, але Станкевіч піша, што Вы зь Дзісеншчыны, дык Вы мой сусед?! Ня верыцца мне, каб Вы ня чулі аб «Пліскім батальёне БКА», я быў арганізатарам і камандзірам. Аб гэтым буду пісаць потым. Што да майго пераżыцьця, то падаю ў скарочаньні, і ўзяць па-мастацку, як бераце Вы, я не патраплю. Думаю, аднак, што пісьменьнік, маючы матэрыял, які я падаю, павінен «разьвіць» па-мастацку, бо я да гэтага здольнасьці ня маю.*

*Дарагі Спадар Акула, калі маеце яшчэ «Змагарныя дарогі», то прашу мне пераслаць з Вашым аўтографам, вартасьць будзе пераказана на Ваш адрас, нават з нагародай. Што да рысункаў да «Дзярлівай птушкі», то перашлю ў наступным лісьце, мушу яшчэ раз перачытаць, каб добра ўцяміць і даказаць, што я таксама мастак «пад шум баравы».*

*Дарагі Спадар Акула, пішу гэты ліст, ловячы «рыбку», як гэта робіць др. Рагуля, бачу ягоную сварку за «падлу» ў «Беларусе», але я лаўлю нават на заробак, бо бракуе грошы на малако для хлапцоў. Выплата заўтра, але як атрымаю, то ня ведаю, ці хопіць пазатаркаваць тыя «дзіркі», што трэба. Падатак*

[431] Верагодна, маюцца на ўвазе будаўляныя спецыяльнасці. *Muleur* (франц.) — фармоўшчык.

[432] Рэцэнзію напісаў Станіслаў Станкевіч.

*гадавы, што дыхаем францускім паветрам, за радыё, за электрыку 6 месяцаў, ну й другія выдаткі харчавыя й табачныя.*

*З пашанай А. Трус.*

*Мяне не цікавіць, каб маё прозьвішча фігуравала, але тое, што пераўжыў я, пераўжыла шмат.*

*[недатаваны]*

*Працяг.*

*Спадар Акула!*

*Даеце намёк: «маёр Н. камандзір 17-га батальёну БКА»*[433]*, а чаму толькі Н., я, магчыма, знаю яго зь 1-га перашкаленьня беларускіх афіцэраў у Менску? Што да «афішаваньня» майго прозьвішча, то мне не залежыць, няхай гэта пераўжыве адзін з тых, што быў змабілізаваны зь «літоўцаў» у «Дзярлівая птушка». Што да Бжозы-Бжэзіцкага, то ён быў «палкоўнік дыплёмаваны», на каўнеры меў дзьве «Дзярлівыя птушкі», быў руды, як сабака, нізкі-таўсты, шыракаплечы, вочы зялёныя, як у вужакі, рукі, як падушкі, голас ненасмараванага кола ў калёсах «Дзеда Якуба». Дзяўчына, што ён асабіста памагаў вешаць і цягнуў за вяроўку, была, мне здаецца, украінка ці беларуска, надзетая ў вопратку нацыянальную. Вышываная белая блюзка ў чырвоныя кветкі-крыжыкі, чорны гарсэт, што моцна абціскаў спрытна збудаванае жаночае цела, спадніца перапялёстая ў фальбанкі, якую моцна разьвяваў верасьнёвы вецер, і неба плакала, бачучы гэта. Жудаснае відовішча! Беларусы і ўкраінцы, бачучы гэта, пакідалі зброю, і Бжозу-Бжэзіцкага праклінаая, пайшлі кожны «на сваю руку», да хаты, да бацькоў. Я, сабраўшы тых «воёвнічых» палякаў, пакінуўшы «Бжозу», падаўся пад Брэст-Літоўскі, дзе былі ўжо немцы. Немцы мелі ўжо ў Брэсцкай цьвярдыні шмат палонных афіцэраў і то пераважна афіцэраў з царскай-белай арміі, што служылі для «паньства польскего». У Маларыта каля Брэста й недалёка Ўладава, нас «освободзілі от польского гнету» таварышчы. Палажыўшы на траве, мокрай і сьцюдзёнай, брухам да гары, пачалі «launch» кішэні, тлуста абліваючы ў «Тваю Бога-Маць» і «Розтакую его Господа». Я расейскую мову зная, усё разумеў, і калі прыйшоў камісар, высокі й худы, што ледзь трымаўся на нагах, чырвоная зорка на левым*

[433] 17-ы батальён БКА быў размешчаны ў Койданаве.

*рукаве, 3 кубікі на каўняры, круглая шапка сіняга колеру з чырвоным аколышам, і пачаў шукаць «самага заядлага паляка Пілсудзкага». Мне выдалася дзіўным, што савецкі афіцэр ня ведаў, што Пілсудзкі ўжо даўно быў параскіданы кавалкамі па ўсёй Польшчы. Сэрца на Росах у Вільні, мазгі ў Варшаве, а рэшта «згнілізны» ў Кракаве паміж «крулюв». Потым дыскусія жаўнераў «красной арміі»: «Вы, Полякі, носіце большые козыркі, боітесь, чтобы вам «птіца-орёл» на нос не наваліл (напачкал — наср...), а у нас прі шапках маленькій козырёк, чтобы звезда освещала ліцо» й г. д. На ноч, сабраўшы ўсіх палонных, паставілі ў «чатвёркі», на лугу ў балоце да паўлыдкі, трымалі ўсю ноч, верасень плакаў дробным імглістым дожджыкам, які пранікаў да касьцей. Раніцай зноў прыйшоў камісар і ў вартаўнікоў пытаў, хто з палонных найзаядлейшы. Паказаны пальцам «тот» быў выкліканы з радоў на тры крокі ад калёны, рэвальвернай куляй у патыліцу быў забіты. Я чакаў на сваю чаргу, быў з барадой, выглядаў на папа. Падышоў камісар і пытае ў канваіра, «а «поп» что?». Тут са сьцюжы кінула ў пот, аж градам сплываў, мяшаючыся з кроплямі марознага дажджу. Канваір адказаў, што «нет», сэрца пачало біць нармальна.*

*Далей будзе. А. Трус.*

*26.8.65*

*Дарагі Суродзіч Акула!*

*Пішучы папярэдні ліст, я казаў, што не чакаючы адказу, напішу далейшую «круцыяту» майго падарожжа ў радох «валечнэй». Пачынаю.*

*Пасьля «праверкі» й вывеўшы ў расход самых «заядлых» (ня ведаю, ці я ўспомніў у папярэднім пісьме) быў адзін палонны з намі, апрануты ў цывільную вопратку. Чалавек векам каля 40–45 год, худы, як селядзец сушаны, высокі, як davчка да юшчайся фасолі, крыху сіваваты, вочы праваліўшыся, як у нябожчыка, чысты сьветла-шэры касьцюм у белыя палоскі, на нагах сандалі без шкарпэтак. Гэты «цывільны» выглядаў, як родны брат камісара, што выстрэльваў «заядлых». І вось вочарадзь на яго, сказаў бы, «на роднага брата», бо каб перапрануў «цывіля» ў камісараву вопратку, то даю слова, што кожны б сказаў, што гэта двайнюкі. Камісар пабачыў, што гэта яго «брат», голасна крыкнуў «Выході, давай, вперед», вядома*

*было, што чакае гэту «дручку». «Цывіль» паваліўся на калені перад камісарам, так як бы яму падкасіла ногі, і толькі гразь з вадой «дрыснула» на камісара, што давяло «чыновніка» да яшчэ большай злосьці. «Цывіль», злажыўшы рукі, як перад Божай Маці ў Вострай Браме, паказваў свае далоні, пакрытыя мазалямі, і голасна плакаў. Мне здавалася, што ад ягоных сьлёз вада на лугу-балоце паднялася мне ад шчыкалатак да паўлыткі. Камісар крыкнуў «Вставай давай вперед». Мне здавалася, што зараз пачую стрэл. Чакаю з напружаньнем, мінута, дзьве, пяць, цягнецца нешта доўга. Стрэлу не было, і камісар вярнуўся да нас. Дзе падзеў ён свайго «брата», ня ведаю. Абабегшы кругом нас разоў пяць, змачыўшы свае брэзэтовыя боты да косьці й ануч, бо хіба мяса на камісаравых нагах не было, загадаў гнаць у Брэст-Літоўскі.*

*Імгла апала, дождж спыніўся, і сонейка доўгачаканае выясьнілася і пачало грэць нашы плечы, выціскаючы з мокрых шынялёў пару, што ў сонечных лучох падобная была да густой мглы. Станцыя Брэст-Літоўскі, тут ужо шмат было «валечных», а яшчэ больш «вызвольнікаў». Пачалі «трасьці» яшчэ раз кішэні. І тут заглядалі ўжо і ў зубы, ці няма залатых, і нават у выпаскуджаныя дзіркі, змушая спушчаць штаны да калена. Пасьля гэтага «верхняга й задняга» пераглядаў пачалі перапіску па 80 чалавек па сьпіску. «Давай быстрэй па вагонам». Добра сьціснутыя ў «цялятніку» па 80 чалавек, з вокнамі, зацягненымі калючым дротам, пачалі пераганяць вагоны з канца ў канец, стукаючы бязьлітасна й тармозячы моцна, хіба два-тры дні безь перапынку. Калі вытрасьлі кішэні й торбы ды пасьля трох дзён стуканьня вагонамі, вытрасьлі й жываты, цягнік на чацьвёрты дзень рушыў у «глуб Матушкі Россіі». Першы дзень безь перапынку, другі дзень з малымі перапынкамі, трэці дзень з даўжэйшымі пастоямі на голым полі, пакрытым сьнегам. Ад 29.9.39, гэта значыць, ад Маларыты, дзе мы дасталіся ў палон, каля 16-й гадзіны, нам не далі ані каплі вады, ані крошкі хлеба. Было шмат «валечных», што мелі наладаваныя «хлебакі» й «плецакі» ежай, і калі яны, перакусіўшы, «псулі моцна паветра», моцна ці голасна, то мне вырывала парожнія кішкі й здавалася, што адна кішка зьела другую й за трыбух пачынае брацца. У вагоне шмат хворых на дызэнтэрыю-крываўку, смурод не да вытрыманьня, пачынае круціцца калаўрот у галаве, у вушах шуміць Чарнеўскі бор,*

*гамонячы з Сквірэцкім руччом, у вачох глыбіня-мут вясеньняй Дзьвіны. Стаіш у вагоне, калышысься, якбы ідучы з Чарневіч у дзень Сьвятога Яна пасьля бяссоннай ночы Купальнай.*

*Даехалі перапынак, адчыняюць дзьверы ў «цялятніку», марознае, «октябрьское» паветра хлынула ў «цялятнік», сьвету ня бачыш, але адчуваючы хвалю паветра, паўзу на двор, паўзу, бо ісьці ўжо ня мог. Скаціўся на зямлю й ляжу, дыхаю яшчэ й стараюся як найбольш уцягнуць у сябе паветра зь пякучым у грудзёх марозам. Пачынае ясьнець у вачох, гляджу, дзе я ёсьць, аж раптам нехта мне дапамог устаць на калені, дапамог «савецкі бот» пад рэбры. Устаў, хістаючыся, пайшоў за тымі, хто ўжо паўставалі, і тут, што за дзіва, хіба ¾ літра рэдзенькай, летненькай грэчанкі давялося выліць, не аглядаючыся, у прысохшыя да крыжавіны кішкі. Палягчэла, пачаў бачыць людзей, але грэчка не праходзіць глыбока, сказаў бы, што кішкі перавязаны й калі завязка на кішках лопае, то паветра б'е ў нос, і то ня вельмі добрага смаку, але што зробіш, ужо крыху лягчэй. Хацеў пабачыць назоў станцыі, аднак бачыў толькі перад сабой, а далей усё было заснаванае імглой голаду-перамучаньня.*

*Пасьля кароткага перапынку — «Давай, давай быстрэй по вагонам!» У вагонах крыху парадзела, хворых на крываўку-дызэнтэрыю забралі, але вагон заліты крывёй і завалены адбыцьцель, смурод не да вытрыманьня, аднак сон бярэ сваё. Ня ведаю, колькі часу спаў, цягнік з моцнай стукатнёй затрымаўся, устаю й добра сябе чую, крыху баляць дошкі, на якіх сядзеў і на каторыя меў абапёршы плечы. Дзьверы адчыняюць — «Давай быстрей, вылезай». Што я бачу: Беларускі вакзал! Масква!!! Тут прынялі ўжо больш «па-людзку», бо гэта ж «Белорусскій вокзал»!! У сталоўцы на станцыі, дашчаны барак, досыць даўгі й шырокі, сталы ў два рады, кожнаму талерка рысу, добра падсмажанага на аліве, і падсмажаны селядзец да гэтга, селядзец ня вымачаны й моцна салёны, але быў вельмі добры, бо мне дастаўся, як суседзі казалі, хіба ў два разы большы, як ім, хіба таран. Потым кожны дастаў па яблыку, некаторым лясныя, а мне то антонаўка, і то такая вялікая, як бы з нашага садка ў Хахульках, потым па тры кавалкі цукру на кажнага, а потым зноў «Давай быстрей». Падарожжа цягнулася досыць доўга, но хіба суткі, меншбольш, затрымаліся ў Калузе на станцыі, каб прапусьціць*

*нейкі цягнік ці наладаваць вуглю ці напаіць лякаматыву, і тут я меў добрую «закурку».*

*Далей напішу, калі Спадара гэта цікавіць???*

*З пашанай А. Трус.*

*30.10.65*

*Глыбокапаважаны Спадар Акула!!!*

*Ваш ліст я атрымаў і атрымаў таксама «Змагарныя дарогі» з Вашым аўтографам. Шчыра дзякую й прашу пераслаць вартасьць «Гараваткі» й «Змагарных дарог». Магу сказаць, што Сяднёў з «Раманам Карзюком» далёка застаўся ззаду, ані нават «Смерць і салаўі»*[434] *ня варты таго, што выражана ў «Змагарных дарогах» і ў «Дзярлівай птушцы».*

*Цяпер што да Валодзі Качана. Маўчыць, і відаць, што гэта чалавек «цяжкі да алавіка». Я маю братоў у Польшчы, адзін піша, а другі маўчыць, як закляты. У мяне ўсё добра, хлапцы ўзяліся за навуку, і думаю, што за 5–6 год выйдуць у людзі, а я за 6 год выйду на рэнту. На вушы атрымаў пэнсію 10% ад зарплаты, гэта мне дае адну месячную зарплату кожныя 3 месяцы. Раблю далей на тэй самай рабоце, зварка жалеза і ўтрыманьне паправак на адлеўні й рэзка жалеза.*

*У сям'і ўсё ідзе к лепшаму, жонка пачынае зарабляць «капейкі» за швіва, але й то ўжо лепш. Дарагі Спадар Акула, вось тут падам далейшы працяг майго «цыганскага жыцьця».*

*Цягнік затрымаўся на станцыі «Калуга», ляпіў мокры сьнег, і праз ваконца ў «цялятніку», зацягненае калючым дротам, я пабачыў старых мужчын, што выгружалі вагоны з дрэвам, бяроза й гнілая асіна, парэзаная на мэтры. Дзядзька, што быў найбліжэй да мяне, быў апрануты ў палатаны кажушок-паўшубак і ў панішчанай красна-армейскай шапцы, галаруч, дмухаючы ад часу да часу ў акалелыя пальцы, ён заглядаў у закратаванае ваконца, скуль я ўляпіў у дзядзьку свае вочы. Мяне ад «дзядзькі» разлучаў мо адзін мэтр. Вецер зь ліпучым сьнегам біў мне ў твар, прытулены да закратаванага ваконца. Я з сумам глядзеў на непасільную працу «дзядзькі» ў непагадзь.*

---

[434] Маецца на ўвазе: Сыч, Пётра. Сьмерць і салаўі (Успаміны афіцэра-беларуса спад Монтэ-Касыно). Мюнхэн: выдавецтва «Бацькаўшчына», 1965. — 62 С. Часткова гэты твор друкаваўся раней у: Бацькаўшчына. № 605. 1963; №№ 617–618, 623–624, 1964.

*Маючы яшчэ мякіну ад пакрышаных «Пласкіх» і «Сілезія» ў кішані, я наважыўся загаварыць да «дзядзькі». «Здрастуй, отец, нет лі у Вас куріцельной бумажкі, буду очень благодарен», — гаварыў я як мага па-расейску. «Дзядзька» бяз слова расшпіліў свой кажушок, выцягнуў звіток «Правда», як трубку палатна. Я, ўзяўшы ў свае рукі, пачаў раскручваць, каб знайсьці «бібулку» да папяроса. Адкруціў мэтр, адкруціў другі, трэці, а «бібулкі» да сыгарэты няма. «Дзядзька» пытае мяне, што я раблю? Я кажу, што шукаю паперку да скручэньня папяроскі. Я думаў, што з прычыны благой пагоды «дзядзька» схаваў курыцельную паперку ў «Праўду», але было ня гэта. Калі ён пабачыў, што я раскручваю цэлую трубку «Правды», запытаў мяне, што я раблю? Я адказаў, што шукаю курыцельнай бумажкі. «Да ведь это і есть наша курытельная бумажка», — адказаў «дзядзька». Гэты самы «дзядзька» адарваў на чэцьверць даўжынёй з паданай мне «Правды», неяк спрытна закруціў на палец, заламіў у форме люлькі, насыпаў нейкіх круп усярэдзіну і, падаючы мне, сказаў «Курі, это махорка в козьей ножке». Дзёрла моцна ў грудзёх ад гэтай «Праўды» й махоркі.*

*Да вечара прастоілі ў Калуга-станцыя, і калі пацямнела, адчынілі дзьверы ў «цялятніку» й «быстро давай одін по воду». Я выскачыў першы й, захапіўшы паданае мне вядро ад чырванаармейца-канваіра, пабег у сталоўку па ваду да піцьця. Трэба было перабегчы мост над чыгункамі, дзе праходзілі толькі пешаходы. На масьце спаткаў групу хлапчукоў-вучняў, і пабачыўшы мяне з пагонамі, сяржанта-подхоронжага, задзівіліся, што маю бліскучыя пагоны, і пачалі прасіць: «Дзядзька, дай копеечку». Сумны быў выгляд хлапчукоў, кожны быў апрануты не па сваёй меры, вайлакі хіба бацькавы, і кожны ў ватоўцы й краснаармейская шапка. Кожнаму зь іх я даў па сярэбраніку зь Пілсудзкім, і яны за ўдзячнасьць давялі мяне да сталоўкі. Сталоўка, хіба, была чыгуначнікаў, напоўнена мужчынамі й жанчынамі, і то ўсе ў шапках і ў тумане дыму ад табакі. Прасьлізнуўшыся паміж запоўненых сталоў, я ўвайшоў у кухню, дзе здаравенны кухар у белым хвартуху, замазаным вінэгрэтам з чырвоных бурачкоў, ладаваў ежу (вінэгрэт) на вялізныя скрынкі й перадаваў праз ваконца ў сталоўку, дзе гэтыя скрынкі адразу ж зьнікалі. Наліўшы з крана на кухні вядро вады, я пабачыў на стале кучу цыбулі з*

*буракамі, але ўсё сырое. Я запытаў кухара, ці не магу ўзяць пару цыбулін, і кухар, зачыніўшы дзьверы ад сталовай, сказаў: «Бері і прячь». Відаць было, што некага моцна баяўся, а шкадуючы мяне, ня мог адмовіцца. Цыбуля была добра ўрадзіўшы, і мне ў кожны кішэнь улязала больш як па дзьве, а маючы восем кішэняў, то вынес 16 галовак цыбулі, гэта было добра 2 кіля. Падзяліўшы цыбулю ў вагоне-цялятніку, паставіў вядро вады пасярод, адразў ўзяўся, як і другія, грызьці цыбулю, горкая, сакавітая й плакучая. Пад дзень у вагоне было не да вытрыманьня, як кажуць, «хоць сякеру вешай». А дзяньком «давай, давай, такую тваю не такую мать!» Пехатой у Ільменскі Бор, кілямэтраў мо 40, і сколькі падала зь перамучаньня, і стары «Ford» падбіраў, адвазіў і вяртаўся падбіраць. Дайшлі толькі познай начой, каторая была гадзіна, ня ведаю, бо часы ўжо даўно былі ў кішэнях камісараў. Загналі за высокі мур, потым за дрот, і «давай, давай» па кватэрах. Як стада баранаў, калі хто ўлез у кватэру, дзе былі нары, кожны валіўся на голую сьмярдзючую салому, якая была мокрая й паўзгнілая. Запакаваліся, як «селядцы ў бочцы», па 30 чалавек на нару, гэта разам было ў адным пакоі 120 чалавек. Налева й направа двухпавярховыя нары, пасярод праход ня больш 30-ці сантымэтраў, і калі даводзілася разьмінацца на гэтым праходзе, то было вельмі цяжка праціснуцца. Зь вечара ўсе ўлягліся на правы бок і «салодка» заснулі. Аднак гэты сон быў кароткі. Тыя, што спалі на верхняй нары, пачалі пацець з браку паветра й пачалі адчыняць вокны, гэтыя, што былі на нізе, пачалі мёрзнуць, і тут пачаўся гоман і сварка, а тым больш адляжаўшы правы бок, нехта хацеў павярнуцца на левы, і трэба было павaрачваць увесь рад, усю нару. Калі б хто хацеў легчы на плечах, ці на жывот, то гэта было зусім немагчымым, нават для аднаго на 30 з нары.*

*Я быў прылучаны пры «парцалёўцы» да групы афіцэраў, была група падафіцэраў і найбольшая жаўнераў, маладых з абавязковай службы, і рэзэрвістаў, змабілізаваных у вайну старэйшых людзей. У групе падафіцэраў я меў сябру-беларуса зь Беласточчыны, плютоновых-заводовы Казлоўскі. Пазнаў яго ў час маёй абавязковай службы ў 33-ім пяхотным палку ў Ломжы, ён быў ужо плютоновы, праваслаўны й добры сьпявак. Казлоўскі ведаў больш беларускіх песень, ніж я, вучань БВГ, і я шмат ад яго навучыўся. Казлоўскі Янка быў заўсёды вясёлы, невялічкага ро-*

*сту, чарнявы, з прыгожымі вусікамі, заўсёды зграбна (сьціпна) падголенымі. Я быў у яго на вясельлі за старшага шафера, і было так: я захварэў на водру й ляжаў у шпіталі, чуўся ўжо лепш, але лекар забараніў мне выходзіць на двор, каб «водра» не застудзілася. На Куцьцю перад Калядамі прыйшоў адведаць мяне Янка Казлоўскі й адначасна запрасіў у вясельле, якое мела вадбыцца 26.12.35-га, інакш кажучы, на другі дзень Каляд. Бязь ведама лекара я пакінуў шпіталь і пайшоў з Казлоўскім у ягоную «прыватку», бо меў ён памешканьне за «кашарамі». Яшчэ на Куцьцю вечарам паехалі купіць двухспальны ложак, усё я памагаў яму настроіць к вясельлю. Ён добра знаў ужо даўно сваю ўхажорку, якую называў «Прыгажуля». І вось вясельле, у праваслаўнай царкве ў Ломжы, сьвятар-«поп» — у вайсковай вопратцы маёр. Уся бога-служба па-славянску, але прамову папольску. Едзем з-пад вянца да Янкі, я ў санках з «маладымі», усё здавалася, што ідзець найлепш, але раптам «Прыгажуля» пачала млець, і заміж дамоў да Казлоўскага Янкі я завярнуў санкі ў вайсковы шпіталь. Вартавы не хацеў упусьціць у «кашары», але камандзір варты, мой сябра з падафіцэрскай школы, адчыніў браму, і мы пад'ехалі ў шпіталь. (Мушу дадаць, што сябра, які трымаў варту, быў Брак Эдвард, немец з паходжаньня, і быў маім моцным рывалем у школе падафіцэраў, я 1-шы, а Брак 2-гі).*

*У шпіталі нас прынялі «раз-два», але «Прыгажулю» трэба было ўнясьці на руках, паўжывая. Прычына была яна невялікая, аб якой я ня ведаў і нават не прыкмячаў, бо «Прыгажуля», нагуляўшы ўперад, заціскала сваё дзіця гарсэтам. Усё прайшло добра, радзілася дачушка, якую я хрысьціў. Было гэта 27.12. Дзіцё было вельмі слабенькае, замучанае гарсэтам. Купіў праваслаўны сярэбраны крыжык з эмаліяй, на адвароце «Спасі і сохрані» выпісана друкаванымі расейскімі літарамі, ланцужок залаты. Імя хрэсьніцы я меў дазвол ад бацькоў надаць па майму «смаку», надаў імя маёй сястры «Зіна» — «Зіначка». Вось па вясельлі гуляем хрэсьбіны, а рана, калі ўсталі 28.12, «Зіначка» ўжо не жыла. Пахавалі 29.12.35. І так у пацягу трох дзён я адгуляў вясельле, хрэсьбіны й хаўтуры. За гэта мо Янка Казлоўскі ўрэзаўся мне моцна ў памяць.*

*У Ільменскім Бару я наведваў Янку Казлоўскага трычатыры разы ў дзень. Маючы гадоў 28, загінула ягоная вясёласьць, думаў толькі аб «Прыгажулі» й аднаго дня «крануўся». Кінуўся ўцякаць праз электрызаваныя драты, і «дзягцяр» з*

*вышкі вартаўнічай перасек папалам. Так загінуў яшчэ адзін малады беларус.*

*Меў я яшчэ беларусаў-суседзяў паміж жаўнерамі, наведваў іх штодзень і падтрымоўваў, як мог, маральна й харчова, гэта харчовае падтрыманьне было вельмі слабое. Нават селядцоў не хапала, а пасьля трэба было есьці сьнег, бо вады не было.*

*Адным беларусам-суседам каталік Юршэвіч Пецька зь Сьпігальшчыны, давялося апекавацца досыць доўга. Пасьля селядцоў, наеўшыся сьнегу, яму запохла горла, «ангіна», і то вельмі моцная. Мусіў яму гатаваць «ліповы цьвет», але на ліпіне, што стаяла каля нашага бараку, былі толькі зярняткі па кветках, вось улезу, нарву і ў «манашцы» нагатую на вогнішчы на дварэ й даю (паю) Пецьку гэтым «ліпавым цьветам». І мой Пецька адышоў і стаў на ногі, а я думаў, што й гэты закончыць свой шлях, як Казлоўскі.*

*Зноў перапіска, і тут выходжу, як «беларус» і «польская сабака» ці «белапаляк», аднак прыдзялілі да рабочай групы на звалку лесу. Надаела карміць вошы й клапоў, якіх было больш як савецкай прапаганды. Вось адзін стары капітан Кавальскі за свой дзень паляваньня на вошы назьбіраў поўную літровую бутылку, так што й пробкай няможна было заторкнуць. А «гіпічныя высьцігі вошы» на папяросы?!! Кожны выбіраў найбольшую, а я браў найкруцейшую. Малое кола было намалявана крэдай, і вялікае кола, а паміж коламі накідаем саломы, і кожны сваю вош, у цане 1-эй цыгарэты, пушчае з малога кола, так 12–15 на адзін рад. Чыя вош дайшла першая, той забірае палажаныя цыгарэты. Мне даводзілася выйграваць досыць часта, бо мае вошы былі накормленыя беларускай крывёй і былі шмат круцейшыя, чым польскія. Яшчэ ў дадатку, калі я пушчаў маю вош «навыперадкі», то капцюром адразаў ёй крыху «задніцы», і гэта, хіба, гнала яе наперад. Апрача гульні ў вошы, шмат часу забіраў чорны рынак, усяго, што хочаш за паёк хлеба ці за папяросы, нават гадзіньнікі й брытвы. Шмат часу забірала «вайна з вашыма», бывала ў поўны мароз да 40ºС, скінем кашулю й цаглінай б’ем па кашулі, распяўшы на мур сьцяны, так доўга, аж пакуль кашуля ня стане чырвонай ад крыві з пацёртых вошы.*

*Заўсёды з пашанай А. Трус.*

*Каментарыі Антона Рудака,*
*Наталлі Гардзіенкі і Лявона Юрэвіча*



# ЧАМУ НЕЛЬГА ЗАЎСЁДЫ ВЕРЫЦЬ МЕМУАРАМ? (Выпадак Уладзіміра Клішэвіча)

Літаратура эміграцыі першай вярнулася ў метраполію, і пра яе першую пачалі пісаць; час на знаёмства з палітычнымі, царкоўнымі, грамадскімі падзеямі, здабыткамі і стратамі прыйшоў нашмат пазней. Але вось што цікава: калі шэраг твораў паспеў займець сваіх адданых чытачоў, і галасы паэтаў выразна адрозніваюцца — Уладзіміра Дудзіцкага не зблытаеш з Алесем Салаўём, а Янку Юхнаўца з Наталляй Арсенневай, — дык іхныя вобразы і па сёння збольшага нагадваюць кардонныя лялькі, расфарбаваныя па шаблоне аднымі і тымі самымі фарбамі. У ролі малявальшчыкаў выступаюць аўтары публіцыстычных ці літаратуразнаўчых — часта розніца зусім нябачная — артыкулаў.

Сталася так па простых і відавочных прычынах, якія, тым не менш, неабходна сфармуляваць: гэтыя аўтары, з аднаго боку, знаходзяцца пад уладаю ўласных *стэрэатыпаў* што да жыцця эміграцыйнага, «заходняга»; з другога ж — вычуваецца імкненне да *міфалагізацыі* эміграцыі, на самых розных узроўнях, і перш-наперш — на побытавым. Трэба таксама заначыць, што згаданыя стэрэатыпы сваімі каранямі сыходзяць у савецкі час, а вось міфалагізацыя грунтуецца пераважна на веданні ці ўяўленні пра веданне жыцця эміграцый зусім іншых народаў і часоў.

Прадэманструю сказанае на вобразе паэта Уладзіміра Клішэвіча. Дзве цытаты. Першая: *«...пачуццё радзімы, бясконцы сум па ёй вызначылі жыццё паэта на чужыне»*[435]. Другая: *«Калі пераважная большасць эмігрантаў, якія вымушаныя былі пакінуць Бацькаўшчыну ў канцы мінулай вай-*

[435] Савік, Лідзія. Пакліканыя. Літаратура беларускага замежжа. Мінск, 2001. С. 305.

*ны, на новым месцы, хоць, зразумела, і не адразу, аднак усё ж знайшла сталае прыстанішча, прыжылася, пусціла карані, дык У. Клішэвіч па-ранейшаму адчуваў сябе за акіянам чужым. Меў матэрыяльны дастатак, і не ставала духоўнага апірышча»*[436].

Тут галоўнае нават не тое, што цытаты могуць быць устаўленыя ў тэксты пра іншых эміграцыйных пісьменнікаў або пamененыя месцамі, і не толькі чытач — самі аўтары не заўважаць зменаў, бо, відаць, на іхную думку гэта настолькі натуральна і непазбежна: сумаваць па духоўным апірышчы, якога не здабыў на выгнанні; быць самотным, жыць адно мінулым, пры наяўнасці, зноў жа, натуральнай, матэрыяльнага дастатку.

Галоўнае — што гэта няпраўда. Гэта ўласныя фантазіі аўтараў, заснаваныя на стэрэатыпах і міфах, і пры поўнай адсутнасці ведання, а мо і нежаданні ведання сапраўднага жыцця сваіх герояў, іхняга побыту.

Гэтак ствараецца (прыдумваецца) легенда, што нівеліруе разнастайнасць, непадабенства лёсаў, зводзіць іх да адной, даволі прымітыўнай формулы.

У абарону ж аўтараў можна зазначыць, што на стварэнне падобных міфаў нярэдка працуюць і ўспаміны саміх эмігрантаў.

Сапраўды, мемуары (у шырокім значэнні, то бок і дзённікі, і лісты, і інтэрв'ю) з'яўляюцца як літаратурным жанрам, гэтак гістарычнай крыніцай — асабістага, прыватнага паходжання, калі праўдзівасць ёсць абавязковым складнікам тэксту. Таксама не сакрэт, што праўдзівасць тая — велічыня адносная.

З тэкстаў, адкуль былі ўзятыя цытаты, бачна, што іх аўтарам вядомы адзін з нешматлікіх успамінаў пра Ул. Клішэвіча: інтэрв'ю Барыса Сачанкі з Масеем Сяднёвым.

У гутарцы Масей Сяднёў кажа («успамінае»): *«Што ж да Клішэвіча… Зь ім мы вучыліся, разам былі ў турме… Ён жыў не літаратурай, а іншым жыцьцём. Дый здольнасьцей у яго вялікіх не было. Ён выклікаў мяне ў Амэрыку, пра што я казаў ужо. У Нью-Ёрку ён не прыжыўся, падаўся ў Каліфорнію. Калі я трапіў ва ўнівэрсытэт Індыяна выкладчыкам, я выпісаў яго разам з жонкаю да сябе, памог ім уладкавацца таксама выкладчыкамі рускай мовы ва ўнівэрсытэт, бо ў свой час*

---

[436] Марціновіч, Алесь. Дзе ж ты, храм праўды? Мінск, 1996. С. 208.

*і Клішэвіч мне памог, я хацеў аддзячыць яму. Уладкаваў я ў унівэрсытэт і Дудзіцкага»*[437].

На час гутаркі — 1990 год — Уладзіміра Клішэвіча ў жывых не было.

Як тут не паверыць знанаму эміграцыйнаму пісьменніку, якому, да таго ж нябожчык-паэт прысвяціў не адзін сяброўскі верш.

Чаму «не прыжыўся» Клішэвіч у Нью-Ёрку — пра тое ён пісаў у лісце да Юркі Віцьбіча (ліст змешчаны ў «Архіўнай кнізе», да якой і адсылаем зацікаўленага чытача[438]), а вось на ўніверсітэце варта спыніцца. Тым больш, што менавіта падзеі ў Індыяне могуць дапамагчы зразумець пазнейшыя крокі паэта ў кірунку БССР.

Выдрукаваныя ніжэй лісты сведчаць, што характар Клішэвіча быў не з простых, але адрозны ад няпростасці характару Дудзіцкага, бабздыра і валацугі: ён быў да хваравітасці надумлівым. Усё гэта, як і *«матэрыяльны дастатак»*, і *«далёкае ад літаратуры жыццё»*, і *«настальгія»*, знайшло яскравы, гаваркі адбітак у побытавых лістах да Міхася Кавыля і наўрад ці патрабуе адмысловых прадмоваў. Адно, каб адбітае там не палічылі выключна за плён ягонай надумлівасці, публікацыю распачне ўрывак з ліста Масея Сяднёва — з тых самых, 1960-х:

«Вельмі Паважаны Спадару Станкевіч,

*Быў у Вашай справе ў заступніка дырэктара школы, які загадвае пэрсанальнымі справамі, падаў Вашае прозьвішча й адрас. Спадзяюся, Вы хутка атрымаеце апытальнік. Зрэфэраваў Вашую справу, зразумела, як найлепш, і ён абяцаў мне прыняць Вас на працу на працягу трох-чатырох месяцаў. Адным словам, з свайго боку раблю ўсё магчымае. Дудзіцкаму й Клішэвічу аб гэтым я ні слова, наагул дружбы зь імі — ніякай. Значыць, магчымасьць працы для Вас тут можа знайсьціся. Шкада, што плацяць тут няшмат — на пачатку Вы мелі б 400 даляраў у месяц. Павышаюць штогоду (а былі выпадкі, што не павышалі й наагул) аклад на нязначную суму. Пяць гадзін працы дзённай, шэсьць тыдняў канікул у год. Ну й плюс хатнія заданьні студэнтаў, якія трэба карэгаваць, звычайна,*

[437] На суд гісторыі. Успаміны. Дыялогі. Мінск, 1994. С. 246.
[438] Юрэвіч, Лявон. Архіўная кніга. Нью-Ёрк, 1997. С. 202.

*па-за школьнымі гадзінамі. Напішэце, калі ласка, ці Вы згодныя на такія ўмовы?»*[439].

## Лісты Уладзіміра Клішэвіча

*6 сакавіка 1963 г.*

*Паважаны М. Кавыль!*

*Дзякую за паведамленьне аб тым, што беларуская моладзь зьбіраецца выдаць мае вершы.*

*На маю думку, куды было б карысьней выдрукаваць маю паэму «Васіль Каліна», тым болей, што яна прысьвечана беларускай моладзі й нідзе яшчэ поўнасьцю не друкавалася. Друкаваліся толькі асобныя разьдзелы або ўрыўкі. Яна мае 10 разьдзелаў па 47 дзесяціраздковых строф у кожным разьдзеле, гэта значыць 470 строф або 4700 радкоў. Гэтую паэму я пачаў у 1942 г., а скончыў у 1962 г. Працаваў я над ёй доўга, а таму й атрымаўся салідны твор.*

*Па сваёй тэматыцы (крывавая сталінская эпоха) і па сваёй форме напісаньня гэта такі твор, якога наагул няма ва ўсёй беларускай літаратуры. Таму яго было б цікава выдаць. А тым болей, што гэта вялікі ўклад у нашую эміграцыйную літаратуру. Вершы мае — гэта не навіна. Яны шмат дзе друкаваліся.*

*Вершы друкавалі: Кавыль, Крушына, А. Салавей, Сяднёў, Юхнавец. Толькі такога вялікага твору на эміграцыі ніхто не напісаў. Гэта й ёсьць нагода для моладзі ўхапіцца за яго.*

*Я думаю, што тут вялікай розьніцы ня будзе мець, калі ён трохі больш зойме старонак, але мы можам сказаць: «Глядзіце, Глебкі, Броўкі й г. д. У вас Беларусь, у вас друк, папера, сродкі, а ніхто з вашых паэтаў не разьвярнуў так палатно паказу сталінскай эпохі як мы, эмігранты». Гэта надта вялікі палітычна-прапагандовы сродак, ня лічачы нават усяго іншага, з паэмы выцякаючага.*

*Гэтую думку варта падаць і старэйшым. Я працаваў над ёй такі доўгі час, ты можаш уявіць, якая гэта пякельная крапатлівая праца, бо форма проста вязала й рукі й ногі*

---

[439] Ліст Масея Сяднёва да Станіслава Станкевіча ад 08.08.1964 г. Захоўваецца ў архіве *NYPL*.

*аўтару пры яе напісаньні. Але я усё ж справіўся са сваёй працай і справіўся нядрэнна.*

*Думаю, што нашай паважанай моладзі куды лягчэй будзе яе надрукаваць, як мне напісаць. Дык падай ім маю думку. Пагавары, падлічы, прыкінь, і зрабеце там свой выснаў. Калі ж па якіх-небудзь меркаваньнях паэма будзе адкінута, тады вазьмуся за вершы.*

*Паэма гатовая да друку. Можна сёньня здаваць у друк, а вершы трэба падбіраць ды перапісваць яшчэ нанова рукой (бо машынкі ў мяне няма). Як бачыш, я не затрымаўся. Атрымаў сёньня твой ліст і зараз жа адпісаў.*

*Дык яшчэ раз дзякую за твае турботы.*

*З пашанай Ул. Клішэвіч.*

*23 сакавіка 1963 г.*

*Добры дзень, паважаны М. Кавыль.*

*Атрымаў твой ліст і ліст друкарні. Шчыра дзякую. Так як у мяне грошай няма, каб даплаціць на тое, каб выйшла паэма «Васіль Каліна», дык саджуся за перапіску сваіх вершаў, каб выдаць зборнік.*

*Думаю, што да 1 красавіка падрыхтую й вышлю. Цяжкавата мне зь перадрукам на машынцы. Я зусім ня ўмею друкаваць, а калі й пачну друкаваць, дык адным пальцам, а таму рукой я хутчэй напішу, як на машынцы.*

*Праўда, я пастараюся многія вершы выразаць з газэтаў і наклеіць іх на лісты паперы.*

*Узяўся за працу. Падбіраю, сарціраю, перапісваю. Ты сам добра ведаеш, якая гэта праца.*

*Яшчэ раз шчыра дзякую табе за ўсе твае турботы.*

*З пашанай Ул. Клішэвіч.*

*30 сакавіка 1963 г.*

*Добры дзень, М. Кавыль!*

*Учора адаслаў па пошце табе свае вершы. Прымерыў на памер тваіх «Цяжкіх дум»*[440]*. Перахрысьціў я свой зборнік «Далячынь». Сабраў 60 вершаў і маленькіх, і большых. Я хочу, каб на кожнай старонцы быў толькі адзін верш, бо калі ўпіхаць на старонку два або тры маленькія вершы, тады губляецца ўся*

[440] Кавыль, Міхась. Цяжкія думы: санэты. Выданьне Беларуска-амэрыканскага дапамаговага камітэту, 1961.

*вонкавая прыгажосьць зборніка. Толькі адзін, як мне здаецца, верш «Менская турма» можа не зьмясьціцца на адной старонцы, а так усе астатнія сваім памерам такія, што не займаюць болей, як адной старонкі.*

*Вершы я падабраў такія, якія ўжо друкаваліся або ў газэтах, або ў часапісах. Таксама падаў такія, якія можна назваць агульначалавечымі. Я сам сваім вершам зрабіў такую палітычную праверку, што ніякага недаразуменьня быць ня можа. Я нікога ня хочу падводзіць і зрабіў усё як найлепей. Калі моладзь захацела выдрукаваць мае вершы, дык я ёй выбраў самае найлепшае з мастацкага пункту гледжаньня: за гэты зборнік моладзі не давядзецца саромецца.*

*У такім парадку, у якім я іх улажыў, няхай яны й застануцца, бо калі пойдзе перастаноўка вершаў, тады парушыцца той эстэтычны напрамак, якім я кіраваўся, калі ўкладаў вершы.*

*Вершы, як ты бачыш, выразаныя з газэт, а іншыя надрукаваныя на машынцы гадоў 15 таму назад.*

*Даслаў і сваю фатаграфію. Многія мяне як аўтара вершаў ведаюць, але ніколі ня бачылі мяне ў твар — няхай паглядзяць на фота, як выглядае Клішэвіч.*

*Аўтабіяграфіі ніякай не падаваў, таму што мая аўтабіяграфія была надрукавана ў «Песьнярах Случчыны»*[441]*, а пасьля падавалі яе і ў зборніку «Ля чужых берагоў»*[442]*. Калі хто сочыць за літаратурай, дык можа нават і падумаць: «Навошта гэта Клішэвіч так хоча паказаць сябе ў кожным зборніку, хто ён і што ён». Я палічыў, што біяграфія тут лішняя, а фатаграфія неабходная.*

*Цікавае дзесяцігадовае паўтарэньне: «Песьняры Случчыны» — 1943 г., «Ля чужых берагоў» — 1953 г., «Далячынь» — 1963 г. Я кажу аб надрукаваньні сваіх вершаў. Калі так, дык наступныя мае вершы выйдуць у 1973 г.*[443]

*Цяпер, Міхась, буду прасіць цябе асабіста прагледзець, праверыць, карэктуру зрабіць пасьля набору, бо перасылаць сюды мне рабіць карэкту ня мае ніякага сэнсу.*

---

[441] Песьняры Случчыны. Слуцак, 1943.

[442] Ля чужых берагоў: Альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў. Мюнхэн, Выдавецтва «Бацькаўшчыны», 1955.

[443] Зборнік Уладзіміра Клішэвіча «Сняцца дні мне залатыя» выйшаў у Мінску сапраўды ў 1973 г. (!)

*Ты выдаў ужо чатыры зборнікі, у цябе больш практыкі і ўменьня як вонкава аформіць зборнік (вокладка). Таму ў гэтым напрамку я палажуся на твой асабісты густ. Думаю, што ад гэтага я толькі выйграю.*

*Таксама я перадрукаваў адным пальцам зьмест зборніка «Далячынь» і прылажыў да вершаў.*

*Вось прыблізна і ўсё, што я хацеў сказаць у сувязі з адсылкай табе свайго зборніка.*

*Пішы аб усім ходзе справы яго (зборніка) выхаду ў сьвет. Як ты думаеш, калі ён канчаткова можа быць надрукаваны? Я з амэрыканскай тэхнікай друку зусім незнаёмы, а таму ня ведаю, як доўга зойме часу. Па вопыту выданьня «Песьняроў Случчыны» ў Слуцку ў час вайны я ведаю, што такі зборнік я мог выдаць за два тыдні, улічваючы, што ў той час было шмат бюракратычных перашкодаў у друкарні з боку немцаў.*

*Гэта мой першы зборнік. Раней я заўсёды жыў калгасным жыцьцём — у калгасе «Песьняроў Случчыны» і ў калгасе «Ля чужых берагоў», а зараз выпаўзаю на сваю індывідуальную гаспадарку (пэўна, хутар) «Далячынь».*

*Дык за ўсё дзякую табе й дзякую напярод, бо ведаю, што твая дапамога будзе самай неабходнай.*

*З пашанай да цябе Ў. Клішэвіч*

*9 красавіка 1963 г.*

*Паважаны М. Кавыль!*

*Я згодзен з тваімі заўвагамі. Тады ты замест апошняга верша «Змаўкаю я, зьнікае…» пастаў верш той, аб якім ты пісаў: «Шумяць ад ветру пальмы, кіпарысы». Гэты, безумоўна, апошні акорд надасьць больш бадзёрасьці й аптымізму.*

*Верш «Замаўкаю я…» — адзін з моцных вершаў, таму мне не хацелася б яго выкідаць. Ты яго ўпіхні дзе-небудзь у сярэдзіну, каб ён ня так падаў у вочы.*

*Я ведаў зараней, што «Нямецкая марка» будзе служыць дысанансам, так як і «Менская турма». Але пасьля «Менскай турмы» я падаў верш «Памяці Якуба Коласа», які ў сваім зьмесьце зьвяртае ўвагу чытача на тое, што:*

*— Глядзеце! Усіх паарыштоўвалі, закатавалі, памёр Колас, Купала, і ў савецкай Беларусі засталіся недалепкі. Пэўна, тут разьбег часу, 1937 год і дзень сьмерці Коласа — жнівень 1956, але гэта вяжацца ў адно.*

*Тады верш «Нямецкая марка» зусім выкінь. Ты апошнім дасі «Шумяць ад ветру», а «Змаўкаю» запіхнеш у сярэдзіну, будзе баланс — адзін дадаў верш, а другі выкінуў.*

*У вершы Шэлі[444] безумоўна праскочыла памылка, трэба так, як ты падаеш: перад тым.*

*Вось два апошнія афарызмы, калі трэба будзе залатаць дырку-латай:*

*Нехта камень кінуў. На вадзе*
*Разьбягаліся пярсьцёнкамі кругі.*
*Кінуў слова мудрае другі,*
*Не прапала сіла мудрасьці нідзе.*
*7.IV.1963 г.*

*Чалавек, хоць ня зьвер,*
*А зьвярынай меркай мер.*
*8.IV.1963 г.*

*Вось прыблізна і ўсё. Як там выдаўцы? Што яны думаюць? Я лічу, што дачакаюся і ўбачу свой «хутар». Яшчэ раз табе дзякую, ды не забывай, што выдаўцы выдаўцамі, а тваё слова мацней за слова выдаўцоў. Яны так глыбака, можа, не разумеюць нас, як мы адзін другога разумеем. Што перажываньні нашыя, перададзеныя ў лірычнай форме, не абавязкова павінны быць баёвымі. Нельга заўсёды быць баёвым і жыцьцярадасным. Самы вялікі інквізытар і той ня мог абходзіцца бяз сумнага настрою.*

*Ды наша й жыцьцё асабістае на гэта не спрыяе. Было б, напрыклад, дзіўным і сьмешным, каб паэт, якога пасадзілі ў турму, сьпяваў кожны дзень вясёлыя песьні. Ён можа сьпяваць там і бадзёрыя, і надта бадзёрыя, але не заўсёды. Многа залежыць ад характару чалавека, ад яго асабістага ўспрыняцьця сьвету, ад сьветаадчуваньня.*

*Глядзі, такі бадзёры твор, як «Дон Кіхот», напісаны ў турме, але я ж не Сэрвантэс.*

*Ты сам ведаеш, што часам хочацца паказаць частачку сьвету ў прыгожым, лагодным, мяккім тоне, аптымістычна, а часам надыходзіць такая бура ў душы, што, здаецца, ясным*

[444] Клішэвіч займаўся перакладамі, у тым ліку вершаў англійскага паэта Персі Бішы Шэлі (1792–1822).

*перуном спаліў бы ўсё гэтае зямное жыцьцё. Так? Так! А сам ад сябе не ўцячэш. Настрой ці то добры, ці то дрэнны прыходзіць к нам, а не мы яго ствараем. Каб мы маглі ствараць свой настрой па сваім жаданьні, тады мы былі б зьверхлюдзьмі.*

*Ну, досыць філязофіі.*

*З пашанай да цябе Ўл. Клішэвіч.*

*25 верасьня 1963 г.*

*Паважаны М. Кавыль!*

*Атрымаў сёньня тваю паштоўку. Дзякую, што запрашаеш мяне друкаваць «Васіля Каліну» ў «Беларускай думцы». Але раней, чым паслаць паэму, я хочу сказаць аб ёй некалькі слоў, каб пасьля не было такога недаразуменьня, як з «Барадою».*

*Паэму я пачаў пісаць 1 сьнежня 1942 г. у Старобіне. Там напісаў першы разьдзел. Гэты разьдзел я выдрукаваў у «Газэце Случчыны»*[445] *ў 1944 г. Пасьля I і II разьдзелы выдрукавала «Бацькаўшчына», здаецца, у 1955 г.*[446] *Пачынаючы з III-га разьдзелу, паэма друкуецца ў лёнданскім «Аб'еднаньні» рататарным шляхам. Там ужо яны пачнуць друкаваць VI-ы разьдзел. Але яшчэ поўнасьцю не надрукавана.*

*За апошні час я зрабіў папраўкі ў першым разьдзеле, а таксама ў іншых.*

*Я думаю, што вы пачнеце друкаваць ад пачатку, а таму хутка вышлю I разьдзел. Скончыце першы, тады перашлю другі й г. д. Ня ведаю, якую колькасьць строфаў вы будзеце даваць у кожным нумары. Як рэч доўгая, і надоўга расьцягнецца, але гэта нічога. Няхай ідзе Каліна ў сьвет!*

*Некалькі лірычных новых вершаў я даслаў Золаку. Зараз нічога не пішу, няма часу. Наконт павагі да вершаў, дык мне здаецца, што ты вершы болей паважаеш за Я. Золака, бо ты напісаў больш і выдрукаваў больш.*

*З Дудзіцкім я рэдка спатыкаюся і ў мяне зь ім амаль няма ніякага сяброўства. А так ён жыве, працуе. Перадаў тваё*

[445] «Газета Случчыны» выходзіла ў Слуцку з сакавіка 1943 да чэрвеня 1944 гг. Уладзімір Клішэвіч быў адным з рэдактараў газеты.

[446] Клішэвіч, Уладзімір. Васіль Каліна // Бацькаўшчына. № 28–29 (210–211). 25 ліпеня 1954. Літаратурны дадатак. С. 3–4; № 30–31 (212–213). 15 жнівеня 1954. С. 4; № 36–37 (218–219). 10 кастрычніка 1954. С. 5; № 39–40 (221–222). 31 кастрычніка 1954. Літаратурны дадатак. С. 4; № 30–31 (260–261). 21 ліпеня 1955. Літаратурны дадатак. С. 5.

*прывітаньне Сяднёвым. Думаю, што ў наступным тыдні я вышлю табе «Васіля Каліну».*

*Дык пакуль усяго найлепшага. Прывітаньне табе й тваёй сям'і ад усіх нас, Клішэвічаў.*

*З пашанай Ул. Клішэвіч.*

*27.12.1963 г.*

*Паважаны М. Кавыль!*

*Прыемна чуць прыемную вестку. Дзякую табе за такое паведамленьне, дзякую табе і ўсім тым, якія мяне не забываюцца.*

*Там вам відней, каго запрашаць, таму й запрашайце, зыходзячы з вашых тых ці іншых меркаваньняў. Я як юбіляр нікога запрашаць і прасіць ня буду.*

*Калі паедзе Сяднёў і Дудзіцкі, дык мы можам ехаць на машыне Сяднёва або на маёй. Калі яны не паедуць, дык я сам дапаўзу на сваёй таратайцы або аўтобусам.*

*Я асабіста нічога ня маю супраць таго, каб адзначыць мой юбілей, наадварот, яшчэ вельмі задаволены гэтым.*

*Ты паведаміў мне такую прыемную навіну, дазволь цябе, М. Кавыль, ад шчырага сэрца абняць і пацалаваць. Ад набегу й сумных і радасных думак нявольна коціцца сьляза... Мне здавалася, што ўжо ніхто нідзе й ніколі ня помніць пра Клішэвіча, так і пражыву незаўважаным, прыйдзе час — памру, а ўжо толькі пасьля маёй сьмерці нехта напіша прыблізна так:*

*— Памёр Ул. Клішэвіч. Сьветлай памяці Ўл. Клішэвіч нарадзіўся на Бацькаўшчыне. Многа ён перацярпеў на сваім гаротным шляху. Нябожчык пісаў вершы. Дык няхай мяккай яму будзе зямелька!..*

*Вось такі прыблізна ўяўляўся мне нэкралёг пасьля маёй сьмерці, а то магло й гэтага ня быць, а тут... жывога ўспамінаюць, віншуюць і г. д. Чаго-чаго, а вось такога для сябе я не чакаў і нават, як кажуць, ня сьнілася мне!*

*Яшчэ раз табе дзякую. Перадай маю найшчырэйшую падзяку Барысу Шчорсу, Міхасю Сеньку й Янку Золаку.*

*З пашанай да цябе Ўл. Клішэвіч.*

*[недатаваны]*

*Паважаны М. Кавыль!*

*Сёньня дзень майго хваляваньня. Раніцай я табе напісаў ліст і адаслаў яго простай поштай. Днём напісаў ліст Янку*

*Золаку й адправіў паветранай поштай. Вечарам пішу гэты ліст і адпраўляю паветранай поштай таксама. Калі гэты ліст прыйдзе раней, дык празь дзень чакай майго першага ліста.*

*Да гэтага часу я табе нічога не пісаў аб сваёй працы. Прыехаў я на працу зь сям'ёю. Жонка таксама працавала, але не пасьпелі мы папрацаваць два месяцы, як М. Сяднёў пачаў распісваць у Нью-Ёрку сваім знаёмым, што мая жонка ня ведае расейскае мовы й што ён незадаволены тым, што дапамог Клішэвічу быць выкладчыкам. Ён вельмі ў гэтым каяўся.*

*Вясною 1963 г. (22 траўня) і мяне, і жонку выключылі з працы. Далі нам папрацаваць да 15 верасьня 1963 г. Пры маім стараньні мяне пакінулі на працы, а жонку 15 верасьня звольнілі. 1 сьнежня жонка з малым сынам паехалі назад у Каліфорнію, а я застаўся тут да 1 чэрвеня 1964, бо мне далі кантракт на год. Што будзе пасьля 1 чэрвеня 1964 г., я ня ведаю, дадуць яшчэ працаваць ці не.*

*У студзені месяцы паехаў і мой сярэдні сын, які тут вучыўся ў 12 клясе. Я застаўся адзін. Чакаю свайго старэйшага сына, які служыць у амэрыканскай арміі ў Нямеччыне, к чэрвеню. Ён канчае сваю службу й прыедзе да мяне.*

*Усе рэчы, якія я прывёз (а мы прывезьлі ўсё: дыван, тэлебачаньне, крэслы, койкі й г. д.) я зваліў у падвал. Сам, як бачыш, на другой кватэры. Калі прыедзе сын, тады ён забярэ рэчы й павязе ў Каліфорнію, а разам і я паеду. Калі ж мяне пакінуць на працы, дык я застануся.*

*Як бачыш, вось як я ўсунуўся з гэтай працай. Такія вялікія страты, а толку мала. Як жа вёў сябе мой спонсар Сяднёў? Ён пальцам аб палец не паварушыў, каб мне дапамагчы, наадварот, яшчэ адвярнуўся.*

*Праз тыдні два, калі дырэктар сказаў, што я буду працаваць яшчэ год, Сяднёў зайшоў да яго. Што ён там казаў, ніхто ня ведае, але відаць было, што ён там сказаў прыблізна так: «Я гэтых людзей добра ня ведаў, а таму вельмі sorry, што так здарылася».*

*На другі дзень мая жонка, паслухаўшы словы Сяднёва з дырэктарам, бо ён выкручваўся, як вуж на скавародзе, яму так проста ў вочы й сказала: «Вы, Масей Ларывонавіч, не забаранялі мяне там, а самі сябе забаранялі». І гэта аказалася праўдай.*

*Пасьля ў нас зрабілася зь Сяднёвым нейкая пропасьць (лепш сказаць, паміж намі). Ён вельмі выказваў сваё незадавальненьне, што нас сюды рэкамэндаваў, а я пазіраў на яго й думаў: «Вось гэта дык сябра! Сваю шкурку ратуе й толькі».*

*Пайшло далей, і ўсё з кожным днём горшай. Я ўсё маўчаў, цярпеў, а пасьля не хапіла ў мяне больш цярпеньня слухаць яго басьні, і я паслаў яго к чортавай мацеры.*

*Сябры сталі ворагамі й ворагамі назаўсёды.*

*Я яго выпісаў у Амэрыку, я ў яго быў шафэрам, калі ён жаніўся, ён у мяне жыў, я хросны бацька яго старэйшай дачкі, мая жонка — хросная маці яго другое дачкі, адным словам, радня амаль.*

*І вось за ўсё тое добрае, што я яму зрабіў, ён адвярнуўся ад мяне, каб толькі не «замурзацца» ад Клішэвіча, каб не згубіць «павагі» тут сярод расейцаў. Я дзіўлюся, што гэта за беларускі паэт і патрыёт, што баіцца нават у сваёй хаце гутарыць па-беларуску. Ён беларус толькі на паперы ў вершах сярод беларусаў, а так ён кан'юктурыст, падліза, падхалім і разам з тым страшэнны бязвольны трус. Адным словам, надзвычай небясьпечны чалавек. Калі ён уведаў, што будзе выдан мой зборнік і што адзначаць мой юбілей, яго гэта заела. Як жа так? Каб нейкі бяздарны Клішэвіч меў такую пашану.*

*Пасьля нашага разыходжаньня ён пачаў мяне падміноўваць, ня тут, а там, у Саўт-Рывэры. Ён ужо, пэўна, даў сваю пра мяне характарыстыку адмоўнага напрамку, таму майму юбілею перашкодай стаў пост. Вы ж будзеце сьвяткаваць 25 Сакавіка і ў пост, а не чакаць Вялікадня. Мой юбілей — не танцулькі, не вечарынка, а ўрачыстасьць, і гэтаму пост ня можа быць прычынай, каб адкладаць на няпэўны тэрмін.*

*Я баюся, каб разам з пастом не адлажылі й выхад зборніка.*

*Паважаны Міхась! Ты бачыш, хто мне падрыхтаваў міну пад мой юбілей і хто яе падкладвае, каб падарваць усю справу. Што тут рабіць? Неадкладна, зараз жа выдрукаваць зборнік і паставіць людзей перад фактам, а там яны робяць няхай, што хочуць. Не адкладвай друкаваньне зборніка да юбілею.*

*Я пісаў і прасіў Я. Золака, каб ён да 1 красавіка або да 15 красавіка — самае позьняе — выдрукаваў зборнік, і зараз жа прышлеце мне хоць пяць экзэмпляраў. Чаму? А вось чаму. Сяднёў тут кожнаму выкладчыку ўнівэрсытэту падарыў свой*

*зборнік, аб ім ведаюць як аб беларускім паэце й з гэтым надта лічацца.*

*Майсей аб гэтым ведае, што й Клішэвіч са зборнікам паднімецца вышэй, а таму каб Клішэвіча не дапусьціць да гэтага, ён падміноўвае.*

*Вось ён якая эгаістычная бацыла. Ён баіцца, каб пра мяне ня ведалі, ён нідзе нікому не заікнуўся, што я таксама пішу вершы, а сам, да майго прыезду, чытаў свае вершы ва ўнівэрсытэце, а мне дудзіў, што ён вельмі зрабіў вялікую памылку — бо выкрыў сябе як беларуса, бо гэта не пайшло яму на карысьць, а на шкоду.*

*Глядзі, які ён езуіт!*

*Дык вось, браток, калі ты хочаш мне дапамагчы, дык у першую чаргу націскай як найхутчэй на выхад зборніка й як найхутчэй высылай хоць пяць экзэмпляраў мне. Калі я тут утрымаюся й калі будзе толькі мажлівасьць хоць як-небудзь цябе сюды ўціснуць — я прылажу ўсе свае здольнасьці й стараньня.*

*І мне й табе на дарозе (упоперак дарогі) стаіць Сяднёў — цяпер я гэта добра ведаю.*

*Я хаджу ва ўнівэрсытэт вучыцца сам, а там мой зборнік вельмі й вельмі можа мне дапамагчы, там са мною будуць лепей лічыцца. Вось у гэтым уся справа.*

*Дык не дамося ж мы нейкаму Майсейку, каб ён нам ваняў пад нос і падміноўваў нас. У яго разьлік рэальны — не дапусьціць Клішэвіча як канкурэнта. Ты сам яго добра ведаеш. Табе ён многа нагадзіў, цяпер пачаў гадзіць мне, дык што ж мы, землякі (ды яшчэ случакі), будзем спаць у шпаку?*

*Не!!! Ён многім нагадзіў! Ва ўнівэрсытэце ён не баіцца паказацца як беларус са сваімі вершамі, а тут, у гэтай школе, ён беларусаў не прызнае й сам не прызнаецца, што беларус!*

*Двулікі Янус!*

*Прымі ўсе захады, каб не было позна. Пагавары з Золакам і пагавары з тымі, з кім трэба пагаварыць. Напішы мне, калі будзе гатовы зборнік.*

*З пашанай У. Клішэвіч.*

*[1964]*

*Паважаны М. Кавыль!*

*Атрымаў учора тваю паштоўку. Справа непрыемная, што Золак так зацягвае друкаваньне. Доўга я цярпеў яго адкладваньне. Доўга я яго, сябру, упрошваў, але з гэтага нічога не выходзіць. Ды*

*нарэшце й я выйшаў зь цярпеньня й напісаў яму рэзкі ліст, не таму, каб пакрыўдзіць, а проста, каб разбудзіць, каб ён прачнуўся; мне здаецца, што ён з гэтым друкаваньнем проста заснуў.*

*Я як аўтар яго папярэдзіў, што калі ён да 1 ліпеня ня скончыць (да 1 ліпеня гэтага году), дык няхай злазіць з даху й не псуе гонты. Калі ўзяўся, дык друкуй, а ня можаш — аддай другому. Нельга ж гадамі друкаваць зборнік на 60 старонак. Гэта ж больш як сьмешна!*

*Я яму так і напісаў: «Янка, чаму ты кпіш зь мяне? Навошта зьдзекуесься? За што так узьеўся? Я ж табе нічога дрэннага не зрабіў, а ты мяне так паступова рэжаш і даконваеш»... Усё ў такім духу.*

*Ня ведаю, ці паможа гэта. Можа, ён як і зварухнецца, можа, яго кране сумленьне пасьля маёй пісаніны. Доўга, надта доўга я маўчаў і чакаў, але ня вытрымаў.*

*Павер мне, што калі б цяпер хто сказаў мне: «Аддай вершы Золаку, ён іх надрукуе й хутка надрукуе», — я б наадрэз адмовіўся, лепш бы яны няхай гнілі ў сшытку, але затое мае й душа, і нэрвы былі б спакойныя. Ніколі я ня думаў, што Янка такі непаваротны. Ён жа ведае, што ўсе яго чакаюць, тады трэба рухацца, а калі дайшоў да таго, што рухацца ня можаш або нават ня хочаш, дык плюнь на гэта й перадай іншаму, а не затрымлівай.*

*Скажу табе праўду, што я ня рад, што ўвязаўся ў такое выдавецтва. Я згубіў надзею на выхад зборніка.*

*Пасьля майго ліста ён, можа, нават зусім перастане друкаваць.*

*Пасьля 1 ліпеня падскоч да яго, калі ён яшчэ не надрукуе, вазьмі тэкст і перад яго вачыма спалі. Калі ён спытае: «Чаму ты так зрабіў?», — ты яму адкажы так: «Такая воля Клішэвіча, і не ён спаліў зборнік, а ты, Янка, ты давёў яго да гэтага. Няхай на тваім сумленьні застанецца попел яго вершаў».*

*Вось і ўсё.*

*З пашанай Ул. Клішэвіч.*

*24 жніўня 1964 г.*

*Паважаны М. Кавыль!*

*Я табе пісаў, што ёсьць магчымасьць папасьці ў гэтую школу, дзе працую я. Калі ў нас была гутарка аб людзях, а ў гэтай гутарцы прымаў удзел сп. Любачка, я й Дудзіцкі, дык Дудзіцкі сказаў сп.*

*Любачку, каб ён не турбаваўся аб табе, бо ён сам, Дудзіцкі, дапаможа табе ў гэтым. Любачка мала ведае Дудзіцкага, а таму ён асабіста нічога ня меў супраць, каб ён табе памог.*

*Я табе аб гэтым напісаў і нават дапісаў свой погляд на тое, што сумляваюся, каб Дудзіцкі табе дапамог у гэтым. Але ён хацеў перад Любачкам матнуць языком і паказаць, што й ён не апошняя сьпіца ў коле.*

*Любачка — чалавек адзінокі, яго цяжка злавіць. Па атрыманьні твайго ліста я пайшоў на кватэру да Любачкі, каб пагутарыць, а ён паехаў у Чыкага. Я яму пакінуў запіску, і ўчора (23.8.64) ён у мяне быў. Мы доўга гутарылі аб гэтай справе, каб цябе ўлаштаваць тут. Па-першае, ён сказаў, што гэта ня так справа хутка робіцца. Ён мае сваіх асабістых добра яму знаемых і хоча іх сюды сьцягнуць, а пасьля ўжо ты на чарзе. Толькі кожны з гэтых людзей мае сваю сям'ю, і яны павінны яшчэ вырашыць, ці варта зрывацца з той працы, на якой яны працуюць, яшчэ пачнецца гутарка са сваімі жонкамі, пачнуць узважаць і вырашаць. Самы першы з вас ня можа быць прынятым на працу раней новага наступнага году.*

*Я табе апісваю ўсе варункі — матэрыяльныя ў першую чаргу. Настаўнікі тут мелі па 360 на месяц, а некалькі чалавек па 370 і 380. З 1 жніўня далі прыбаўку, хто меў 360, той мае 400 на месяц, але ня ўсе. Некалькі чалавек маюць тыя ж 360, некалькі 380, а бальшыня 400. Ёсьць два-тры чалавекі па 420. Плацяць на месяц толькі раз. Кожны дзень працаваць трэба ў школе па 6 гадзін. У канцы тыдня прыпадае (на кожны другі тыдзень) дамашняя праверка прац студэнтаў, і яна аднімае 4–6 гадзін часу ў суботу або ў нядзелю.*

*Калі ў цябе ёсьць жонка й дзеці, і ты будзеш працаваць адзін, дык будзеш зводзіць канцы з канцамі. Я гэта добра ведаю. Калі я працаваў з жонкай, дык яшчэ было нядрэнна, а калі стаў працаваць толькі адзін — пражыць цяжка. Кватэру сямейнаму знайсьці можна, але так ад 85 да 110 у месяц. У мяне ў Каліфорніі ёсьць нешта падобнае да хаты, я хацеў перад ад'ездам прадаць, але добра, што не прадаў. Цяпер там жыве жонка зь дзецьмі.*

*Май на увазе, што праца тут ня сталая. Кожны ведае, што ён прыняты на год, а там чакае, што яго павядомяць, што ён застаецца яшчэ на год, і так увесь час. Грошай тут не заробіш, калі будзеш адзін працаваць. Я ведаю, што ў цябе ёсьць сям'я.*

*Цягнуць сям'ю сюды ці ёсьць які сэнс, а пакідаць сям'ю й ехаць аднаму таксама не вялікі смак. Я тут адзін, а жонка й дзеці ў Каліфорніі, але ў мяне было такое становішча, што й я, і жонка былі пакліканыя на працу. Калі б толькі мяне аднаго бралі, дык я ніколі не паехаў бы.*

*Калі я ўжо сарваўся й гэтулькі страціў зь пераездам і з ад'ездам жонкі — я палічыў застацца, бо ў Каліфорніі ня так хутка схопіш працу.*

*Я табе пішу ўсё рэальна, я не жадаю цябе сюды заманьваць і не жадаю адбіваць табе ахвоты. Бо калі я напішу табе нешта ў ружовых хварбах — ты прыедзеш, пабачыш, што тут ружовага няма, тады ты плюнеш мне ў вочы й скажаш: «Вось дык сябра, вось дык дапамог!».*

*Асабіста я цябе прыстроіць не магу, бо ня маю сілы й добрага знаёмства з начальствам.*

*Усё, што табе незразумела або няясна, пытайся ў мяне ў разуменьні матэрыяльным, а ўсё, што датычыцца твайго афармленьня, ты звярачайся па адрасе да сп. Любачкі. Ён тут не жыве, ён толькі часова тут спыніўся, бо ён скончыў гэты ўнівэрсытэт і нават доктарскую дысэртацыю абараніў.*

*Вось усё, што я мог табе паведаміць. Вырашай справу сам зь сям'ёю, з жонкаю й г. д., бо радзіць табе ня буду й адбіваць ня буду.*

*Пішы не забывай.*

*З пашанай Ул. Клішэвіч.*

*27 лютага 1965 г.*

*Паважаны М. Кавыль!*

*На твой апошні ліст я хацеў у той жа дзень адказаць і чуць не палаяць Антося з апошніх слоў, але падумаў сабе: «Ці варта гэта рабіць, ці варта псаваць нэрвы й хвалявацца аб тым, аб чым і зусім ня варта хвалявацца». Плюнуў на ўсю яго выдавецкую баланду (бо ён баланду выданьня зборніка расьцягнуў аж болей (ужо!) як на два гады).*

*Ня варта Я. Золаку думаць, што ён Клішэвічу налажыў у шапку, і гэта мне будзе сьмярдзець. Як бы там Янка ні крыўдзіўся на мяне, а на мяне яму няма за што крыўдзіцца, якія б ён «зьдзекі» не тварыў, думаючы: «Ага, зараза ты, пакрыўдзіў мяне, ты ня ведаў, хто такі Золак, ты ня ведаў майго характару, ты ня ведаў, які я амбітны чалавек, а вось калі*

*ты, Уладзімер Клішэвіч, землячок, случчачок, папаўся да мяне ў лапкі, дык я табе пакажу, дзе ракі зімуюць, пакуль ня здохнеш, пакуль не скалееш — да самага канца свайго жыцьця ты будзеш мяне памятаваць, папаўся ты да мяне, дык я злосьць спаганю на табе, нават за тых, якія мяне ў шмат чым крыўдзілі — справа ня ў тым, што сваім усім крыўдзіцелям не ад'еду хурманак, але затое ўсе неад'ежджыя хурманкі табе, Клішэвіч, вылезуць бокам. Калі б ты, гад праклятый — Клішэвіч, ведаў, якую мне прыносіць гэта асалоду, я проста ёй жыву на сьвеце, мне здаецца, што нават сьвет стаў прыямнейшым, прыгажэйшым, я над табою зьдзекуюся амаль два гады й мне гэта зусім не надаела, наадварот, я яшчэ б над табою зьдзекваўся гадоў дзесяць, твой зборнік я ўжо амаль выдрукаваў, засталося толькі набраць апошнія два радкі, але я іх не набіраю, я цябе, паэтка, падрэзаў на кручочак, ты чакаеш, што вось-вось два радкі я хутка скончу, але не, не... памыляесься, даражэнькі, не на таго ты нарэзаўся...».*

*Як бы Золак ні цешыў сябе думай помстай — гэтым ён нічагусенькі не дасягне. Калі ў Клішэвіча ня выйдзе зборнік — гэта не бяда. Золак добра памятае тыя часы, калі Золаку Клішэвіч як найбольш адводзіў старонак у «Песьнярах Случчыны». Забыўся!*

*Аб зборніку нічога не пытаюся, бо ведаю, што ён ня выйдзе.*

*Як там «Беларуская думка»? У якіх ты адносінах зь Янкам Золакам? Я нават думаў, калі ён будзе рэдактарам «БД», ці ня варта было б мне й адхінуцца ад гэтага часапісу, не прымаць удзелу, але вырашыў, што Золак тут не гаспадар, што гэта агульная справа, а толькі таму, што нехта з супрацоўнікаў «БД» адносіцца да мяне дрэнна, дык я павінен выйсьці й зачыніць за сабою дзьверы. Не!*

*Можа, і хацеў бы Золак выпхнуць мяне нават з «БД», гэта было б яму да густу, але тут я яшчэ пагляджу.*

*З пашанай да цябе твой У. Клішэвіч.*

*P. S. Напішы трохі аб беларусах з Саўт-Рывэру, што там новага, бо я з «праф.» Сяднёвым не гутару, а пра ўсё, што дзеецца на беларускай глебе — ён ведае, трымае нос востра.*

*Пры Індыянскім унівэрсытэце ён у сьнежні 1964 г. згрукаў свой асабісты літаратурны вечар. Сам рабіў даклад аб беларускай літаратуры, сам быў і чытачом сваіх вершаў. Адным словам: сам п’ю, сам гуляю...*

*Ні Дудзіцкі, ні я на вечары не былі. Патрошку раскусваем гэтую мізэрную хваравітую на амбітнасьць істоту.*

*У наступным лісьце я табе раскажу вельмі пацешны выпадак, які здарыўся мінулым летам зь Сяднёвым.*

*Пакуль бывай. У. К.*

*8 сакавіка 1965 г.*

*Паважаны М. Кавыль!*

*Пішу пра адзін надзвычай цікавы выпадак, які адбыўся з М. С. у ліпені месяцы мінулага году. У аднэй нашай агульнай знаёмай асобы, якая на летні сэзон прыяжджае з Калумбійскага ўнівэрсытэту чытаць ва Індыянскім курс лекцый пра Гогаля й пра сымбалістаў, і М. Сяднёву, і мне прыйшлося чытаць свае вершы. Прысутнічала пяць чалавек: гаспадыня хаты (яна й лектар ва ўнівэрсытэце), прафэсар гісторыі з Гарварда, Сяднёў, я й адзін наш настаўнік.*

*Я купіў добрае гарэлкі пляшку — канадыйскае. Паставіў на стол. Сяднёў маю гарэлку ня піў, а добра ведаю, што ён выпіць ахвотнік. Глытаў нейкае таннае гаспадарскае віно. Выпілі. Слова, безумоўна, першае — Сяднёву, а ён на гэты вечар прыцягнуў усе свае зборнікі, усе часапісы «Конадні», дзе ён толькі друкаваўся, адным словам, паказаць сябе ва ўсевяліччы.*

*Пачаў чытаць седзячы. Чытаў доўга, доўга, аж надаела слухаць. Слухачы пачалі ёрзаць на крэслах. Як на тое ліха, разгубіўся, ня змог чытаць, як падабае, і зразу адчуў, што ў яго з-пад ног уцякае зямля, а тут табе, як на ліха, здарыўся такі выпадак: ён чытаў верш, а там успамінаецца слова «хаўтуры». Адзін з слухачоў у вельмі разьвязным тоне перабіў яго й запытаў: «Дык што гэта Вы тут за холтуру чытаеце?». Тут ён Сяднёва забіў на сьмерць.*

*Ня ведаю, чаму, але ўсе ў адзін момант пачалі рагатаць, сьмяяца, і гэты рогат аж да сьлёз даходзіў у тых, хто сьмяяўся, і так цягнулася хвілін дзесяць. Сяднёў сядзеў ні жывы ні мёртвы. Ён нават так разгубіўся, што не знайшоў ніякага слова, за якое можна было ўхапіцца, як за жарт, і вылезьці з такога становішча. Была поўная яго разгубленасьць, я яшчэ*

*ніколі ня бачыў яго ў такім прыбітым, прыгнечаным стане. Здарылася гэта вось чаму: Сяднёў думаў, што ён тут блісьне, схопіць рукой зорку, а тут на табе — так нізка ўпаў, што ўсе яго вершы загучэлі халтуршчынай. Больш ён вершаў не чытаў. Гэта быў шок. Мала таго, Сяднёў тут жа падняўся з-за стала й хацеў уцякаць дахаты, паўтараючы «я так нізка асьмяяны, што мне няма чаго тут сядзець, што праваліўся скрозь зямлю» й г. д. Адным словам, ён прызнаў сваё падзеньне, адчуваў гэта, і гэтае яго мізэрнае становішча пераходзіла на прысутных.*

*Яшчэ рагочучы, паўтаралі: «Ну, што Вы, што Вы, М. Сяднёў! Не прыймайцеся гэтым так балюча, ды ці варта?». Той, хто гэта выпаліў, спахваціўся, бо пабачыў, што агульны сьмех Сяднёва забіў, пачаў прасіць прабачэньня: «Прабачце, я гэта Вашых слоў не зразумеў. У Вас было «хаўтура», я зразумеў «холтура». Але Сяднёву ад гэтага не было лягчэй.*

*Асабіста мне было сьмешна, я таксама рагатаў, як конь, што рэдка са мною бывае. Сьмяяўся таму, што нельга было ўстрымацца ад сьмеху. Наадварот, я адзін зь першых адчуў яго гадкае становішча й разам з тым, хоць я й сьмяяўся, але пачаў яго падтрымоўваць духова. Неяк мне стала шкада яго ў тую хвіліну. Прайшло некалькі часу, і пачаў чытаць я. Я прачытаў толькі тры-чатыры вершы. Як назло Сяднёву, мне пачалі пляскаць. Сяднёў, я наглядаў за ім, бо я чытаў вершы стоячы, успрымаў гэта балюча.*

*Колькі разоў Сяднёў крыўдзіўся на таго чалавека, а чалавек той разы тры прасіў прабачэньня, але Сяднёву ад гэтага не лягчэй.*

*Я толькі ведаю адно, што пакуль Сяднёў не памрэ — ён будзе памятаць і памятаць зь непрыемнай боляй гэты вечар.*

*Вось што можа здарыцца нават з такімі, якія лічаць сябе «бажкамі» ў беларускай паэзіі на эміграцыі.*

*Вось і ўсё. Пішы. Дудзіцкаму перадам заўтра тваё прывітаньне й тваю просьбу, каб ён даслаў што-небудзь у «Думку». Добра, што ты рэдактар.*

*З пашанай Ул. Клішэвіч.*

*28 красавіка 1965 г.*

*Паважаны М. Кавыль!*

*Атрымаў тваю паштоўку. Бог яго ведае, якім ударным тэмпам друкуецца «Далячынь». Восем вершаў (яны ж малыя) можна надрукаваць за тыдзень, а так, як друкуе Даніловіч, дык можна сьмела разьлічваць на паўгода, калі ня больш. Мне здаецца, што калі ён і скончыць, дык не раней, як к наступнаму сакавіку.*

*Высылай «Думку», хочацца паглядзець і пачытаць яе.*

*М. Сяднёў доўга рыхтаваўся на М. А.*[447] *У мінулым тыдні ён трымаў пісьмовыя экзамены й ня вытрымаў па літаратуры. Думаю, што (так, як і кожны) ён пачувае сябе пасьля правалу ня надта добра. Ён задзіраў нос, а тут яму — па носе далі або далі ў нос.*

*Вось і ўсе навіны. Пішы.*

*З пашанай У. Клішэвіч.*

*22 жніўня 1965 г.*

*Паважаны М. Кавыль!*

*Дзякую табе за тое, што радуесься выхадам у сьвет паэмы «Васіль Каліна» й падзяляеш маю радасьць, таксама дзякую за твае цёплыя сардэчныя словы адносна твору.*

*Ніякага гневу ў мяне ня будзе, што працяг у «Беларускай думцы» будзе спынены. Я з табой поўнасьцю згаджаюся, што лепей надрукаваць тыя рэчы, якія не друкаваліся, замест працягу паэмы, што выйшла асобнай кніжкай.*

*Радасна чуць, што Я. Золак зьбіраецца пісаць артыкул пра маю творчасьць. Да гэтага артыкулу я перасылаю табе дзьве фатаграфіі: адна — вонкавы выгляд кніжкі, а другая — расчыненая кніжка з тытульным лістом і з фатаграфіяй.*

*Ня ўсе чытачы будуць мець паэму, дык няхай пабачаць хоць у «Беларускай думцы», як выглядае паэма. Гэта ня дзеля самарэклямы; я над гэтай паэмай працаваў доўга, гэта капітальная праца, і мне хочацца, што няхай застанецца сьлед у нашым часапісе «Беларуская думка», супрацоўнікам якога я зьяўляюся. Калі хто-небудзь будзе супраць зьмяшчэньня гэтых фатаграфіяў, матывуючы недахопам грошай, што гэта лішнія выдаткі, дык ты не зважай на гэта. Ты мне напішы,*

[447] Маецца на ўвазе навуковая ступень *Master of Arts*.

*колькі будзе каштаваць два клішэ, я грошы перашлю на тваё імя. Гэтыя фатаграфіі якраз можна будзе зьмясьціць на тых балонках, дзе будзе надрукаваны артыкул Я. Золака*[448]*. Папрашу цябе пасьля таго, як будуць зробленыя клішэ, адашлі гэтыя фатаграфіі мне назад, бо я хачу іх захаваць дзеля сябе, як памятку.*

*Адносна Майсея нічога не магу сказаць. Я яго кожны дзень бачу на працы, але мы ня гутарым. Думаю, што ён аб гэтым ведае, яго паінфармаваў Манькоў. Думаю, што яму гэта надта не па носе. Гэта яму проста кукіш пад нос, ён ніколі й ня думаў, што мая паэма выйдзе асобнай кніжкай. Ён лічыў сябе вялікім беларускім паэтам, два разы ўжо рабіў тут літаратурныя вечары, а нас — Дудзіцкага й мяне — не запрасіў (і не парадзіўся), каб і мы выступілі. Ён ніколі нікому тут не сказаў, што акрамя яго ёсьць і іншыя беларускія паэты. Лез сам як мог, успінаўся, як жаба на купіну, каб толькі самому паказацца. Дзіўны ён, самалюбівая й хваравітая — амбітная асоба. Я яго даўно ведаю, але раскусіў яго ўсю душонку толькі тут. Вершы падбяру, а можа, і напішу новыя — дашлю.*

*Пішы.*

*З пашанай твой Ул. Клішэвіч.*

*23 жніўня 1965 г.*

*Паважаны М. Кавыль!*

*Перасылаю табе для «Беларускай думкі» чатыры вершы сатыры. Адзін верш — гэта сатыра на ўсю нашую беларускую эміграцыю, якая раскалолася, і як вынік з усяго гэтага — сам добра ведаеш.*

*Я многа разоў думаў: нас тут шмат паэтаў, пісьменьнікаў, крытыкаў, мастакоў, кампазытараў і г. д.; ты, Я. Золак, А. Змагар, Ул. Дудзіцкі, А. Салавей, М. Сяднёў, Н. Арсеньнева, Р. Крушына, Юхнавец, я, Ю. Віцьбіч, М. Цэлеш, А. Адамовіч, Плашчынскі (брат Язэпа Пушчы). Калі б мы не былі разьбітыя «палітыкамі» ды яшчэ «палітыкамі» домарошчанымі, а арганізаваліся разам, як адна сям'я, колькі б мы добрага зрабілі на карысьць свайго народу.*

448 Артыкул Янкі Золака «Чытаючы «Далячынь» і «Васіль Каліна» Ул. Клішэвіча» быў выдрукаваны ў «Беларускай думцы» (№ 8. 1965. С. 34–36) разам з дасланымі Клішэвічам здымкамі.

*Мы маглі б самі бязь іншай дапамогі выдаваць кожны год па аднаму-два часапісы старонак на дзьвесьце. Мы змаглі б выдрукаваць па некалькі зборнікаў кожнага паэта й пісьменьніка за мяжою.*

*А ў нас замест таго, каб друкаваць эміграцыйных аўтараў, друкавалі Купалу, Коласа, Бядулю, Багдановіча. Навошта іх перадрукоўваць, калі іх на Бацькаўшчыне выпускаюць тысячамі экзэмпляраў. Дурная ідэя!*

*У нас нават няма газэты, якая б рэгулярна выходзіла раз у тыдзень.*

*І вось такое раздарожжа давяло нас на эміграцыі да духовай торбы; мы яшчэ чуць-чуць, як кажуць, ліпім.*

*Вось такія развагі й далі тэму напісаць «Не пазнаю я вас…». Другія вершы — сатыра на асобаў, якія так або іначай лілі й ліюць ваду на млын раздарожжа.*

*Сатыры нідзе ніхто не любіў і ня любіць, але яна існуе незалежна ад тых, хто яе ня любіць.*

*Глядзі сам, калі можаш яе прапіхнуць — прапіхай, а калі надта вузкая дзюрачка й яна не пралезе, тады адсунь к боку.*

*Калі што напішу новае, адразу ж перашлю.*

*Пішы.*

*З пашанай Ул. Клішэвіч.*

*[лістапад 1965]*

*Паважаны М. Кавыль!*

*Ня мог я табе адразу адпісаць на твой ліст, бо быў надта заняты падрыхтоўкай беларускага літаратурнага вечару ў Блумінгтонскім унівэрсытэце. Усю гэтую справу прыйшлося арганізаваць мне самому, аднаму. Было беганіны многа, а тут яшчэ й старэйшыя браты ногі падстаўлялі.*

*Дудзіцкі й я чыталі на гэтым вечары свае вершы. Атрымалі добры ўнівэрсытэцкі зал. Вечар прайшоў пасьпяхова.*

*У мінулым годзе М. Сяднёў рабіў свой літаратурны вечар у Інтэрнацыянальным клюбе. Нас ён абышоў, не сказаў нам. Хацеў «славу» дабыць сабе. Мы на яго вечар не пайшлі. Зараз мы яго таксама не запрасілі, і на нашым беларускім літаратурным вечары ён ня быў. Ён лічыў, што Клішэвіч і Дудзіцкі нічога ня зробяць, а тут на табе — падцёрлі саплю «самаму вялікаму» паэту. Думаю, што ён нясмачна круціць носам.*

*Перасылаю табе праграму нашага вечару. Гэтая праграма была аб'яўлена ў дзьвюх ангельскіх газэтах. Таксама перасылаю верш, які быў першым прачытаны на вечары.*

*Вечар заняў амаль дзьве гадзіны. Адзін і другі барабанілі свае вершы са сцэны амаль па поўгадзіны.*

*Вось і ўсе навіны. Пішы.*

*З пашанай твой Ул. Клішэвіч.*

*P.S. Атрымаў ад Змагара газэту «Незалежная Беларусь»*[449]*. Добра зрабіў, маладзец. Трэба яго й духова, а часам і матэрыяльна падтрымаць — ён жа наш зямляк.*

*2 лістапада 1965 г.*

*Паважаны Міхась!*

*Калісьці ты мне пісаў, што пры выданьні «Далячыні» я атрымаю 50 штук аўтарскіх. Я атрымаў 20.7.65 толькі ўсяго 25 экзэмпляраў. Ня ведаю, у чым справа. «Васіля Каліну» зь Лёндану я атрымаў 100 экз. Ні паэму, ні зборнік я прадаваць не зьбіраюся й ня думаю на гэтым «нажыць» грошы, бо «Каліна» каштуе 2 даляры. Справа ў тым, што паэму я магу шырэй дарыць сябрам і знаёмым. Да гэтага часу я раздаў паэмы й разаслаў 31 экз., а «Далячыні» 14 экз. У мяне засталося 11 экз. «Далячыні», а мне хочацца яе таксама даслаць у якія-небудзь бібліятэкі — няхай застанецца памятка.*

*Дасылаю я толькі паэму. За гэты час я атрымаў ліст ад вядомага амэрыканскага пісьменьніка Эптона Сінклера*[450]*, ад прэзыдэнта Індыянскага ўнівэрсытэту, ад Швэцкай Акадэміі навук. Хочацца мне даслаць яшчэ ў Нью-ёркскую публічную бібліятэку, у бібліятэку Кангрэсу ЗША і ў іншыя месцы і якім-небудзь пісьменьнікам і паэтам. І вось атрымліваецца такая дыспрапорцыя: паэмы ў мяне дастаткова, а вершаў у абрэз.*

*Я гэта пішу табе як сябру — можа б ты там як намякнуў моладзі, каб яны падкінулі мне яшчэ 25 экз., а калі яны будуць*

---

[449] «Незалежная Беларусь. Independent Byelorussia. Ворган Беларускага Вызвольнага Руху» (*Cleveland, Ohio*) — перыёдык, што выходзіў з лістапада 1965 г. да 1973 г. як працяг часопіса, выдаванага ў Нямеччыне і Англіі.

[450] **Эптан Сінклер** (1878–1968), амерыканскі пісьменнік, журналіст.

*моршчыцца, дык няхай будзе так, як ёсьць. Тады я расходую толькі адзін экз. «Далячыні», а астатнія захаваю сабе.*

*Хацелася б пачуць ад цябе, якой там думкі аб паэме й аб зборніку беларусы ў Саўт-Рывэры, бо тут беларусаў няма, а тыя, якія ёсьць — мне іх думка знаёмая.*

*Як там цяпер жыве «Беларуская думка»? Чакаю выхаду яе, каб пачытаць аб паэме й аб зборніку артыкул. А як Золак? Усё крыўдзіцца на мяне? Дарэмна ён крыўдзіцца — калі яшчэ крыўдзіцца. Нельга ж так доўга на мяне злавацца, павінна з цягам часу й яго сэрца памякчэць. Думаю, што ён дасьць мне перцу ў сваім артыкуле, за ўсё адпомсьціць. Перадай яму ад мяне прывітаньне.*

*Вось і ўсё. Прывітаньне табе ад мяне.*

*З пашанай да цябе твой Ул. Клішэвіч.*

*12 лістапада 1965 г.*

*Паважаны Міхась!*

*Дзякую за паведамленьне адносна «Далячыні». Цяпер у мяне будзе больш экзэмпляраў гэтага зборніка, і я змагу захаваць і сабе, і пры нагодзе каму-небудзь падарыць.*

*Хацеў я пераслаць пару зборнікаў і паэму, і «Далячынь» Міколу Цэлешу, але я ня ведаю яго адраса.*

*Нічога ў мяне асабліва новага няма. Пішу адзін маленькі лірычны верш пра восень, аб тым, як падаюць кляновыя лісты, але ніяк не магу скончыць, не атрымліваецца так, як мне хочацца. Як толькі скончу — перашлю табе.*

*Дасылаю табе другі ліст. Заместа таго, каб віншаваць цябе суха, афіцыйна, я гэтае віншаваньне падаў у форме сяброўскага ліста, гэта й цікавей, і прыямней. Ты яго абавязкова надрукуй — няхай застаюцца сьляды нашай працы й нашага сяброўства.*

*Дазволь мне абняць цябе й ад шчырага сэрца пацалаваць у дзень твайго пяцідзесяцігодзьдзя й пажадаць табе найлепшых посьпехаў у тваёй будучай творчай працы. Душа радуецца, што мы яшчэ не астылі, не скамянелі, а па сіле магчымасьцяў і далей працягваем тварыць, адзін другога падтрымліваючы хоць лістамі.*

*Зь Сяднёвым мы разышліся. Няхай ён топае сваёй дарогаю, а я буду крочыць сваёй.*

*Што чуваць пра Змагара й ягоную газэту? Я адаслаў яму вершы, але ніякага слова пасьля гэтага не пачуў ад яго. Можа,*

*ужо газэта выйшла, бо ён яе стараўся выдрукаваць да ўгодкаў Слуцкага паўстаньня.*

*З пашанай да цябе Ул. Клішэвіч.*

*Дарагі Міхась Кавыль!*

*Пражыў ты паўстагодзьдзя. Марыў і тварыў на карысьць беларускай літаратуры.*

*Твае глыбока-лірычныя вершы паложаны на музыку, і іх беларусы сьпяваюць па ўсім сьвеце.*

*Памятаю, я жыў у Каліфорніі, сабраліся разам беларусы, правялі ў гутарцы час, а пасьля пачалі сьпяваць родныя песьні, а разам зь імі й твае.*

*Цеплыня слоў і замілаванасьць мэлёдыі кратае сэрцы людзкія, вось чаму твае песьні заўсёды жывуць разам з сваім народам.*

*Усе свае здольнасьці, увесь свой талент ты аддаў на карысьць свайму народу.*

*Дык прымі, дарагі Міхась, у гэты дзень ад мяне найлепшыя мае пажаданьні. Працягвай і далей граць на сваёй цудоўнай ліры.*

*Жадаю табе шчасьця, здароўя й посьпехаў у тваёй вялікай працы.*

*Твой Ул. Клішэвіч.*

*2 ліпеня 1966 г.*

*Паважаны М. Кавыль!*

*Адносна твайго становішча як рэдактара «БД» я сказаў бы адно: твой адыход будзе шкодным для літаратараў. Ты хоць кантрабандай што-небудзь працісьнеш, можа, той ці іншы «палітык» добра й не дапрэ да разуменьня таго або іншага верша. Калі ты адыдзеш — надта будзе дрэнна. Як толькі адыдзеш ты, дык я разам з табой пайду, адмоўлюся зусім пасылаць свае вершы, хоць я іх і ня так многа пасылаю.*

*Я наглядаю за друкам, дык бачу, што толькі ты ды я пішам вершы, час ад часу друкуем, а астатнія песьняры змаўкаюць. Сумнавата. Калі там «хунта»*[451] *ня лічыцца з табой і ня цэніць тваёй ахвярнай працы, а жадае, каб ты бегаў у іх на пабягушках — дык ты аддай ім сваё месца, няхай яны круцяцца.*

---

[451] Маюцца на ўвазе дзеячы БЦР.

*Будзеш мець больш часу, дык яшчэ шмат чаго напішаш, а гэта будзе табе вялікім унутраным задавальненьнем. Як толькі ты паставісься зь імі цьвярдзей, тады яны нешта падумаюць.*

*Наконт Гіцкага[452] я магу сказаць, што ад яго ўжо няма чаго чакаць. Я зь ім меў дачыненьне й надта блізкае — аж тры гады. Я яго надта добра вывучыў і як чалавека, і як працаўніка. Чуў калісьці аб ім многа розных гутарак. Я ім ня верыў, бо часам ня хочацца іншым верыць. Цяпер я сам пераканаўся. І калі я сказаў «ад яго няма чаго чакаць», дык гэта выснаў мой пасьля доўгага назіраньня.*

*Гарэлка яго пракаўтнула. Твайго ліста — апошнія радкі я й паказваць яму не зьбіраюся, гэта будзе ўсё роўна, як нябожчыку кадзіла. Гэта такі чалавек, які другому ніколі не дапаможа. За тое, што ты яму добрае зробіш, ды, як кажуць, за гэта насярэ з поўнае сракі.*

*Ты пра мае песьні не турбуйся, бо я й сам да гэтага адношуся абыякава. Запішуць на кружэлку, будзе добра, а не запішуць — яшчэ лепей.*

*З пашанай твой Ул. Клішэвіч.*

452 Маецца на ўвазе Уладзімір Дудзіцкі.



# «ТРЭБА ЖЫЦЬ, ЯК НАБЯЖЫЦЬ»: ПРАЎДЗІВАЯ БІЯГРАФІЯ АМЕРЫКАНСКІХ ГАДОЎ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

У прадмове Алы Сямёнавай да выдадзеных у «Беларускім кнігазборы» твораў Наталлі Арсенневай лацінскамоўныя выразы займаюць хіба больш месца, як аповед пра амерыканскае жыццё паэткі: *«З 1950 года паэтка з сям'ёй жыла ў ЗША, спачатку — у Нью-Ёрку, пазней — у Рочэстэры»*[453]. Зрэшты, маўчанне ад няведання больш шчырае за шматслоўную — і да таго ж надта прымітыўную — няпраўду: *«Амерыканскі перыяд жыцця Наталлі Арсенневай самы працяглы (1950–1997), але не самы лепшы ў творчым вымярэнні. Ды гэта і зразумела — не стала крыніцы, якая жывіла натхненне паэта, давала тэмы для вершаў. Страчана радзіма, і толькі ўспаміны пра яе вярэдзілі душу. Апаноўвала настальгія — сапраўды невылечная хвароба — туга па родных мясцінах»*[454].

Гэтая няпраўда вядзе за сабой другую: *«Але было створана нямала вершаў і ў гэты перыяд, хоць ніводнага верша яна не прысвяціла Амерыцы»*[455].

Адзін з лепшых вершаў таго перыяду, «амерыканскага жыцця», — «Ільвы», прысвечаны скульптурам каля ўваходу ў цэнтральны будынак Нью-ёркскай публічнай бібліятэкі. Ёсць і іншыя. Бальшыня — пра прыроду, восень… Але ці можна казаць, што і яны не прысвечаныя Амерыцы, калі паэтка пісала пра навакольную прыроду, пра восені ў Рочэстары (хоць некаторым даследчыкам ейнай творчасці Амерыка па-

[453] Сямёнава, Ала. На шляху сусветаў // Арсеннева, Наталля. Выбраныя творы. Мінск, 2002. С. 11.
[454] Савік, Лідзія. Пакліканыя. Мінск, 2001. С. 98
[455] Савік, Лідзія. Пакліканыя… С. 101.

ранейшаму — па-савецку — уяўляецца адно *«індустрыяльнай», «бетоннай»*[456])?!

Праўда ж пра падставы *творчага маўчання* палягае ў тым, што Наталля Арсеннева ў 1967 г. разам з мужам, Францам Кушалем, мусіла пакінуць працу на Радыё «Вызваленне/Свабода» і пераехаць у Рочэстар[457]. У Рочэстары жыў іхны сын, які па смерці жонкі, Наталлі Кушаль (Куліковіч)[458] патрабаваў дапамогі. Ад таго часу адзінай сувяззю паэткі з беларускім жыццём сталася лістоўная.

Усіх лістоў Наталлі Арсенневай да сваёй сяброўкі Яніны Каханоўскай захавалася 146. У 1998 г. апошняя на просьбу Янкі Запрудніка зрабіла з іх адбіткі, якія пазней былі перададзеныя ў БІНіМ. І вось што адметна: калі першыя два лісты, напісаныя Наталляй Арсенневай на пачатку 1950-х у Кліўленд, дзе тады жыла Каханоўская, поўныя планаў, згадак удзелу ў грамадскай працы, запатрабаванасці (якая таксама надта ж мала месца пакідала на ўласную творчасць), дык лісты ад 1967 г. — абсалютна іншыя. Пераказваць іх, тлумачыць, наколькі ўмовы, самое жыццё паэткі былі непрыдатнымі для творчасці, патрэбы няма, а от колькі словаў у сувязі з іхным зместам сказаць варта.

Лісты, дасланыя з Рочэстара, выразна асабістыя, побытавыя; напісаныя да блізкага сябра, яны не маюць ніякіх табуяваных тэмаў: смерць родных, хваробы, сямейныя складанасці, фінансавыя, настрой — усё знайшло месца ў гэтым ліставанні і ўсё вельмі важна для разумення Наталлі Арсенневай як чалавека, для разумення ейнага працяглага — 30-ці гадовага — жыцця ў невялічкім правінцыйным гарадку.

Важна, бо звычайна — і тое не датычыць адно персанажаў эміграцыі — праўда жыцця людзей падмяняецца — калі праз няведанне, праз недахоп інфармацыі, а калі з-за ўяўняй сарамлівасці, фальшывага разумення этыкі — або міфамі, прыдумкамі, або безаблічнымі словамі і характарыстыкамі,

---

[456] Чыквін, Ян. Па прызванні і абавязку. Літаратурна-крытычныя артыкулы. Беласток, 2005. С. 84.

[457] Разьвітаньне з Натальляй Арсеньневай [Нью-Ёрк] // Беларус. № 125. Верасень 1967. С. 2.

[458] Сьв. памяці Натальля (Туся) Кушаль [памерла пасьля цяжкае хваробы 23.03.1967 у веку 38 гадоў] // Беларус. № 120. Красавік 1967. С. 6.

што лёгка дастасоўваюцца да любога іншага пісьменніка ці грамадскага дзеяча.

У гэтым — прычына шэрасці і *бетоннасці* нашага біяграфічнага жанру.

З постаццю Наталлі Арсенневай цяпер будзе троху інакш.

## Выбраныя лісты Наталлі Арсенневай да Яніны Каханоўскай[459]

*6.1.52*



*Яніна Каханоўская*

*Дарагая Янічка, нарэшце выбрала часінку Вам адпісаць. Сьвяты так хутка праляцелі, што я й не пасьпела імі нацешыцца. Заўсёды, апрача працы й хатніх клопатаў, ёсьць аб чым думаць і што рабіць. Цяпер у нас заснавалася Акадэмія (Беларускі інстытут навукі й мастацтва), і я выбраная ў Урад і мушу быць сакратаром, прыбавілася яшчэ новая праца. Заўсёды нешта апрача таго ладзіцца. Нашае Слуцкае паўстаньне выпала сёлета незвычайна добра. Цяпер трэба думаць аб 25 Сакавіка. Канцэрты ўжо сталіся звычайным зьявішчам, і таму я думаю спрабаваць паставіць «Кастуся Каліноўскага». У гэтай справе рэчы я й зьвяртаюся да Вас: у мяне гэтае рэчы няма. Ёсьць толькі мантаж «Кастусь Каліноўскі». Але калі тут быў Калоша, ён, узяўшы ў мяне мантаж, сказаў, што ў іх у Кліўлендзе ёсьць пастаноўка «Кастусь Каліноўскі», што*

[459] Вялікі дзякуй др. Янку Запрудніку за дапамогу ў падрыхтоўцы публікацыі.

*мы ставілі зь Мік. Міколычам[460] у Віндзішы[461], і што я магу яе дастаць, калі яна мне будзе трэба, бо для іх яна завялікая. Дык будзьце добрая, як найхутчэй дастаньце ў хлопцаў гэтую пастаноўку, яна перадрукаваная, і перашлеце мне. Калі яна ў вадным экзэмпляры, дык мы яе тут перадрукуем і арыгінал вернем. Пастарайцеся гэта зрабіць, мне вельмі патрэбная яна ўжо зараз, каб паглядзець і вырашыць, як і што, ці можна яе будзе паставіць. Чакаю!*

*Новы Год сустракалі вялікай грамадой у той салі, дзе сьвяткавалі 25 сакавіка. Было больш за 80 чалавек, хоць лічылі на 60. Наагул, цяпер на ўсе нашыя імпрэзы прыходзіць вельмі шмат людзей, і «Хатку»[462] ні на што ня можна скарыстаць. Царква таксама ўжо ад заўтра будзе перанесеная ў царкву карпатарусаў на Даўнтаўне, магчыма, што яны яе нам і прададуць зусім. Як жа Вы чуецеся? Ці ўсё яшчэ задаволеныя, што выехалі, як пішаце? Я ўсё ж, як і раней казала, думаю, што Ваш выезд у Cleveland быў зусім непатрэбнай рэчай[463]. Тут усё ж найлепей, і тут мы ўсе разам. Я вельмі шкадую, што Вы ўсё ж паставілі на сваім і выехалі. Мама Вашая таксама па Вас вельмі сумуе, як і мы ўсе. Пэўне, Вы ўсе нашыя навіны заўсёды ведаеце ад яе. Ад чаго памярла матушка Лічко? У нас аб гэтым зусім мала вядома, я даведалася толькі з Вашага ліста. Ад Пані Дубейкоўскай[464] мела на сьвяты ліст. Ужо ёй адпісала. Ёй цяпер крыху лепей, бо ейная пляменьніца атрымала працу. Я працую на старым месцы, атрымала прыбаўку 5 ц[энтаў], а на сьвяты, як і летась, пяць даляраў. Пішэце*

---

460 Маецца на ўвазе Мікола Куліковіч-Шчаглоў.

461 Маецца на ўвазе беларускі лагер *DP* у Віндышбергердорфе, які дзейнічаў з траўня 1947 г. да чэрвеня 1949 г.

462 **«Хатка»** — кватэра ў Брукліне, дзе ў 1950-х гг. збіралася беларуская грамада.

463 Яніна Каханоўская пераехала ў Кліўленд да свайго тагачаснага мужа Аўгена Каханоўскага (Калубовіча).

464 **Юліяна Вітан-Дубейкаўская** (Мэнке, 1886, Вільня — 1969, Нюрнберг, Нямеччына), настаўніца, грамадская дзеячка, мастацтвазнаўца. Ад 1915 г. працавала ў Беларускім камітэце разам з Іванам Луцкевічам. Удзельнічала ў адкрыцці першых беларускіх школ і настаўніцкіх курсаў, Віленскай беларускай гімназіі, дзе затым сама выкладала педагогіку і нямецкую мову. Працавала разам з Цёткай, Антонам Луцкевічам. Жонка Льва Мэнке. З 1941 г. жыла ў Нямеччыне.

*часьцей, мілая Янічка, цалую Вас і Кінусю[465]. Дык не забудзьцеся аб «Каліноўскім».*

*Прывітаньні ад мужа. Вашая Н. Кушаль.*

*19.1.52*

*Дарагая Янічка,*

*Зьвяртаюся да Вас яшчэ раз у справе «Песьні Каліноўскага» Цяпер, калі выясьнілася, што Мікола Мікалыч не паедзе ў Cleveland з канцэртам, ён хоча хутчэй брацца за працу над п'есай, тым больш, што я маю яе перарабіць і дапісаць яшчэ адзін акт «У чаканьні Мураўёва». Дык перашлеце яе мне. Ведаеце, як усе занятыя, як цяжка зьбіраць людзей і як мала часу, г. зн. нядзеляў, калі можна рабіць пробы, засталося да 25 сакавіка. Мы тут яе перадрукуем і адашлём назад, бо й так яна пакуль што нікому ў вас непатрэбная. А для мяне дарагі сапраўды кожны дзень. Я маю часу мала, а ўвесь час трэба нешта рабіць. На елку мусіла пісаць вершы для ката, сабакі й лісіцы. На 2-га лютага, студэнцкую забаву з канцэртам, маю пісаць для Галіны[466] й Тусі[467] куплеты. Маю перарабіць «Песьню Каліноўцаў», як толькі яе атрымаю. Маю паправіць і прастылізаваць увесь матэрыял для навуковага часапісу, рэдактарам якога Тумаш[468], а я стыліст, ды ўсяго й не пералічыш. А тут яшчэ чуюся не зусім здаровая, нешта сталася з горлам, сядзіць там нешта й перашкаджае, а што — невядома. Працую на старым месцы, на агурках за 85 цэнтаў. Два тыдні ўжо адна на ўсю фабрыку, бо гаспадар усіх звольніў да вясны, пакінуў мяне й яшчэ адну, а тая захварэла. Заўтра буду на даўнтаўне й, магчыма, зайдуся да бабы Мілі[469]. Што чуваць у Вас, як чуецеся, як працуеце? Ці Кінуся вучыцца ў школе й якія робіць посьпехі? Аб Вашым жыцьці я ведаю ад Эміліі Іванаўны й Юлі[470]. Як шкада, што Вы так далёка! Цалую Вас*

[465] Кінуся — дачка Яніны Каханоўскай

[466] Маецца на ўвазе Галіна Ганчарэнка

[467] Туся — Наталя Кушаль — нявестка Арсеневай і дачка Міколы Куліковіча-Шчаглова.

[468] Маюцца на ўвазе «Запісы БІНІМ».

[469] Міля — Эмілія Шабуня — маці Яніны Каханоўскай.

[470] Юля — Юлія Андрусішына — дачка Яніны Каханоўскай, зводная сястра Кінусі.

*моцна й яшчэ раз прашу заладзіць для нас справу зь «Песьняй Каліноўцаў», мы ўсе тут яе чакаем зь вялікай нецярплівасьцяй.*

*Прывітаньні ўсім знаёмым.*

*Вашая Н. Кушаль.*

*20.11.67*

*Даражэнькая мая Янічка, даўно зьбіралася Вам напісаць, аж дачакалася Вашага Дня нараджэньня! Дык усяго, усяго найлепшага! Сумна, што пасьля столькіх год праводжаньня гэтага дня разам сёлета будзем ужо далёка адны ад адных, і невядома калі і ці наагул ужо, сустрэнем дзень гэты разам. Наагул, жыцьцё спрычыняе людзям заўсёды неспадзяванкі, крыжуючы ўсе пляны, а рады на гэта няма. Вашыя сумныя весткі з апошняга ліста зрабілі на нас тут цяжкое ўражаньне. Гэта праўда, што «хто наступны»*[471]*? А тут яшчэ восень глыбокая наганяе сум, холад, мокрадзь, голыя дрэвы. У Нью-Ёрку сярод муроў поры году й наагул прырода неяк не адчуваліся. А тут яна дамінуе над чалавекам, над ягоным настроем. За творчую працу яшчэ не бяруся, час і думкі ўсё яшчэ цалком забірае хатняя праца й выхаваньне дзяцей*[472]*. За гады Тусінай хваробы усё тут ледзь ліпела, рабілася адно збольшага, то даводзіцца ўсё гэта напраўляць і папаўняць. Але спадзяюся, што ўсё ж давяду да парадку, і тады можна будзе прысьвяціць крыху часу й цяпер. Бяда галоўна ў тым, што дзеці яшчэ малыя, Наце*[473] *ж усяго 5 гадкоў! Успомніце, Яначка, год 5–4–3 таму, калі Юрчык і Данчык*[474] *праводзілі вечары ў Вашай малой кватэры. Бадай тое самае цяпер у нас, адно што Вы дазвалялі ім перавяртаць усё дагары нагамі, а я з гэтым змагаюся, а гэта ж яшчэ цяжэй. «Бацька»*[475] *наагул губляе адразу*

[471] З ліста Яніны Каханоўскай (27.10.1967): *«А ў нас тут сумныя навіны: адзін за адным беларусы адыходзяць у вечнасьць. Так памёр Марговіч, прычына — рак. Галіна піша, што жонка ягоная вазіла яго на месяц у Бад Райхенгаль, дзе лекары лечаць рак застрыкамі. Досыць заможная жанчына, яна ўсе грошы вытраціла, але жыцьця ягонага не ўратавала. Наступная сьмерць — гэта Махноўскі, які павесіўся ў сябе ў хаце, а ўчора памёр Клінцэвіч, прычына — рак мозгу. Хто з нас наступны?»*.

[472] Маюцца на ўвазе ўнукі Наталлі Арсенневай.

[473] Ната — унучка Наталлі Арсенневай.

[474] Юрчык і Данчык — дзеці Паўла і Юлі Андрусішыных.

[475] «Бацька» — так Наталля Арсеннева і сябры сям’і традыцыйна называлі Франца Кушаля.

*цярплівасьць, і мне даводзіцца яшчэ «ўблажацьı» і яго. Жыцьцё апрача гэтага ідзе сумна, нідзе не бываем, бо яшчэ жалоба. Адны Майсеевы[476] часам заедуць, ці мы да іх. Влодак[477] шмат працуе, цяпер і ў суботы, а я зь дзецьмі. Стараюся цярпліва браць тое, што дае лёс. Неўзабаве будзем высьвячаць памятнік на Тусінай магіле. Калі дакладна, яшчэ невядома, бо зацягваецца справа з памятнікам. Фірма, што яго робіць, усё адкладае й адкладае тэрмін. Тады будзем з Майсеевай рабіць памінкі, запрашаць усіх Тусіных сяброў. Прыедзе й Куліковіч з Градэ[478]. Вось каб і Вы маглі! А пакуль што моцна, моцна цалую.*

*Ваша Н. А.*

*12.1.68*

*Даражэнькая мая Янічка!*

*Дзень па дні зьбіраюся Вам напісаць, і ніяк ня выберу вольнае часінкі. Вы й паняцьця ня маеце, якое працавітае й нэрвовае жыцьцё я тут вяду ўвесь гэты час! Дык па-першае — вялікі Вам дзякуй за калядныя падарункі, сабачкі зрабілі тут проста сэнсацыю, а Пецева[479] гульня дапамагла захаваць мір і спакой вячорнымі гадзінамі, калі Влодак чытае нагары газэту, пільнуючы адрабленьне лекцыяў, а мы ўнізе мусім забаўляць Нату, каб не перашкаджала. Вельмі дзякуем і за аплатак. Бедавалі, скуль яго тут дастаць, бо ў амэрыканскіх цэрквах аплаткаў няма, але Вы запраўды выручылі. Таму й першая думка пры ламаньні аплаткаў на Куцьцю й была пра Вас. Дзякую таксама й за калектыўнае каляднае павіншаваньне. Падзякуйце ад мяне й Янку[480] й сп. Адамовічу за яго. Вельмі мы пераняліся выпадкам з Адамовічавым бацькам[481]. Шчыра спачуваю ў гэ-*

---

[476] Майсеевы — сябры Каханоўскіх і Кушалеў. Жонкай Майсеева была Наталля Дзмітрыеўна Чэмярысава, першая жонка Міколы Куліковіча-Шчаглова і маці Тусі.

[477] Влодак — Уладзімір Кушаль — сын Наталлі Арсенневай і Франца Кушаля.

[478] Маецца на ўвазе Надзея Градэ-Куліковіч, спявачка, другая жонка Міколы Куліковіча-Шчаглова.

[479] Пецяı — унук Наталлі Арсенневай.

[480] Маецца на ўвазе Янка Запруднік.

[481] З лістоў Яніны Каханоўскай (24.01.1968): *«Сёньня мінула тры тыдні як зьнікнуў бацька Адамовіча й, як кажуць, «як у ваду кануў». Яго шукае паліцыя, шукае FBI, але ніякіх сьлядоў знайсьці ня могуць. Адамовіч*

*тай бядзе, бо ведаю, як гэта было й папярэднімі разамі, калі ўсё ў рэшце рэштаў канчалася добра. Як усё ж меў рацыю др. Тумаш і сп. Шукелойць, калі, пасьля апошняга выпадку ўлетку, раілі накіраваць старога ў Нёрсінг Гоўм*[482]*, дзе за ім быў бы сталы нагляд. Як толькі будзе што новага ў гэтай справе, зараз жа напішэце.*

*Сьвяты нашыя былі сумныя — перад самымі Калядамі захварэла Ната — грыпа, а на першы дзень Каляд зьлёг зь вялікай гарачкай Влодак. Мы зрабілі сабе ў мінулым месяцы ўколы ад «флю»*[483]*, дык засталіся больш-менш здаровыя, хоць Бацька*

---

*упэўнены, што бацька сам выйсьці ня мог. Ён быў настолькі слабы, што бяз палкі яму было цяжка хадзіць, а тут палка, акуляры былі на месцы, не было толькі плашча, капялюша й ботаў (Адамовіч цьвердзіць, што сам ён ужо абуцца ня мог). Становішча Адамовіча вельмі прыкрае. У тое, што бацьку нехта забраў, мала хто верыць, бо ён прападаў ужо 4 ці 5 разоў. Зноў жа, калі б ён выйшаў сам, то далёка пайсьці ня мог бы й яго б хутка знайшлі. Таксама дзьверы за сабой без ключа ён мусіў бы пакінуць адчыненымі. Тым часам усё было ў парадку, а стары зьнік, як камфора. Учора ў мяне ўвечары быў Шукелойць, Юхнавец і Юля з Паўлам і валкавалі гэты выпадак з усіх бакоў. Шукелойць казаў, што каб Вы былі тут, то напэўна прыдумалі б нешта, а можа й самі пайшлі б у парк шукаць старога. Шукелойць цьвердзіць, што Адамовіч замала энэргічны, бязьдзейны й зашмат пакладаецца на паліцыю. Др. Тумаш толькі пасьмейваецца, кажа, што ён усё зрабіў, каб старога аддаць пад апеку ў старчы дом, а Адамовіч не захацеў, і хай цяпер шукае ў парку. Тумаш казаў, што старога нельга было ні на хвіліну пакідаць самога. Вы памятаеце, што Адамовіч заўсёды званіў бацьку два разы: а 12-ай і а 2-ой. У гэты дзень, калі прапаў стары, ён таксама гаварыў зь ім а 2-ой гадзіне, сказаў, што вернецца а 5-ай, а прыйшоўшы дахаты, старога не застаў. Усё было ў парадку, усе дзьверы зачыненыя, толькі ў сенцах гарэла лямпачка. Адным словам — поўная таямніца, і ў Камітэце ўсе гэтым выпадкам моцна напалоханыя»*; (13.02.1968): *«Бацька Адамовіча прапаў бязь сьледу. Паліцыя й FBI шукаюць па ўсіх моргах, шпіталях, некалькі разоў яго выклікалі для апазнаньня падабраных на вуліцы старых, але ўсё гэта было ня тое. Найгорш, што ніхто яму ня верыць, што бацька сам ня выйшаў, што нехта яго забраў! Паліцыя кажа: калі выходзіў 4 разы, то чаму ня мог выйсьці й 5 раз? FBI разважае так: калі забралі бальшавікі, то чаму яны забралі старога, я ня Вас? Наагул нейкая таямнічая справа, бо сам Адамовіч упэўнены, што бацька сам выйсьці ня мог: дзьверы былі зачыненыя на ключ, якога ў старога не было»*.

[482] *Nursing home* — установа, дзе апекуюцца старымі, адзінокімі і хворымі.

[483] *Flu* (анг.) — грып.

*таксама моцна чхаў і кашляў. Я трымаюся й дзякуй Богу, бо ўсё ж абсалютна тут на маіх руках, і проста ня ведаю, што было б, каб і я захварэла. Бацька абыходзіцца зь дзецьмі зусім ня ўмее, нэрвуецца, крычыць, і падымаецца страшэнны скандал, а я мушу ўсё ўціхамірваць. Наагул, бяда із старымі людзьмі. Майсеевы жывуць сваім жыцьцём, бачымся нячаста, сядзім пераважна ў хаце, і я толькі прашу Бога, каб даў мне сілаў і цярплівасьці з усім справіцца. З Натай, праўда, клопату найменш, але Пецік вельмі раздураны, неслухмяны, а Бацька таксама, як трэйцяе дзіця, то можаце сабе ўявіць, колькі трэба сілаў і вытрыманасьці, каб усё гэта трымаць у руках. Ды й звычайнай фізычнай працы — не пераробіш: дом вялікі, дзеці, мыеш, шыеш, парадкуеш, проста дыхнуць няма калі! Але я бяру гэта ўсё без нараканьняў, бо, відаць, гэтак і трэба спакойна й цярпліва выконваць сваё прызначэньне. Аб нейкай творчай працы, аднак, пакуль што й марыць няма як. Можа, як Ната пойдзе налета ў школу, бо пакуль што зь ейнай «навукай» больш клопату, чымся дапамогі — дзьве з паловай гадзіны папаўдні, апранай, вядзі, прыводзь, адно час пераводзіцца. А ўчора ізноў Владэк захварэў, ляжыць сёньня ў ложку, і Ната ізноў кашляла ўсю ноч. Ну, але досыць пра свае беды, будзем спадзявацца, што ўсё пойдзе на лепшае. У нас тут перад самымі Калядамі выпала крыху сьнегу, так што Каляды былі прыгожыя, і ад гэтага часу сьнег, якога штодня прыбывае, гэтак і ляжыць. Прыгаство незвычайнае! Усё белае, дрэвы, як зачараваныя, стаяць, мароз вельмі вялікі ўжо другі тыдзень — сапраўдная зіма, якой мы ні разу за ўсё гады ня бачылі ў Нью-Ёрку. Аж сумна робіцца ад гэткага хараства.*

*Вельмі хацелася б з усімі Вамі пабачыцца, але цяжка спадзявацца на нейкую магчымасьць, хіба ўвесну, калі пацяплее, або скончыцца школа, тады магла б узяць з сабой Нату, а так хто ж дагледзіць дзяўчыну, Влодак жа так шмат працуе, а Бацька рады ня дасьць, ня ўмее. Нашых жа дзяцей таксама выхавала я, а ня ён. У апошнюю суботу гэтага месяца думаем спраўляць высьвячэньне помніка па Тусі. Нарэшце памятнік гатовы (крыж з ружовага мрамару). Прыедзе Куліковіч з Градэ, і Майсеева хоча запрасіць на памінкі ўсіх Тусіных каляжанак. Падлічылі, што будзе 20 асобаў. Будзе гэта адбывацца ў нас у падвале, бо ў Майсеевых няма месца на столькі асобаў. Дык уяўляеце сабе, колькі будзе новага клопату? Але Майсее-*

*ва прыедзе за дзень да памінак і паможа ўсё рыхтаваць. Можа, як міне жалоба, жыцьцё нашае крыху павесялее. Цяпер жа сумна й самотна вельмі. Пішэце хоць Вы часьцей, кожны Ваш ліст крыху перапыняе нашу аднастайнасьць. Дарагая Янічка, можа, Вы ведаеце, каму пасылаць складкі БАЗА? Хто цяпер скарбнік і на які адрас слаць? Мы ж тут нічога ня ведаем. А пакуль што цалую Вас моцна, Юлю, Кінусю й бабу Мілю таксама. Шчырыя прывітаньні й спачуваньні сп. Адамовічу й прывітаньні Янку й сп. Шукелойцю. Пішэце.*

*Вашая Н. А.*

*20.2.68*

*Дарагая Янічка!*

*Толькі сяньня сабралася Вам напісаць. Самперш — Бацька вельмі дзякуе Вам за павіншаваньні, і бабе Мілі, і Вам, і Паўлу зь Юлькай, і Норыкам. Памяць — асабліва ў старэйшым веку — заўсёды цешыць і падтрымлівае на духу. Мы адзначылі дзень народзінаў гэтаксама ў суботу. Я купіла кэйк, зрабіла закусак і добры абед, прыехалі Майсеевы, а на каву пасьля абеду Влодак паклікаў яшчэ й суседзяў — Кашубіных. Я падарыла Бацьку новы сталёвы гадзіньнік, бо стары, куплены ў Нойбэрга, раптам стаў. Я падумала, што чым папраўляць, лепш купіць новы. Пры стале ўспомнілі й пра Вас і выпілі за здароўе бабы Мілі. Тыдзень перад гэтым я вырвалася на адзін дзень — абавязкова прасілі прыехаць Жук-Грышкевічы на Вінцуковыя 65-я ўгодкі, што прыпалі на 10 лютага. Влодак сказаў, каб я ехала крыху праветрыцца. Тым больш, што й Прэзыдэнт[484] вельмі прасіў прыехаць. Урадзіны прайшлі вельмі вясёла, гасьцей было няшмат, Рагулі, Сажычы і яшчэ адны людзі з Канады, Прэзыдэнт і я. Сядзелі да 3-й гадзіны раніцы. А назаўтрае пад вечар я паехала назад аўтабусам. Каля Ніягары трапілі ў сьнежную мяцеліцу, і аўтабус блізу на гадзіну спазьніўся, але Влодак зь Пецікам чакалі на станцыі, і а гадзіне 11-й мы былі ў хаце. Я вельмі стамілася бо аўтабусы перапоўненыя, закураныя, але ўсё ж адарвалася ад штодзённае хатняе працы й пабачыла зноў людзей. Нату мы адвозілі на гэтыя два дні да Майсеевых. Па прыезьдзе, аднак, чакала нас усіх вялікая прыкрасьць. Справа ў тым, што Влодак апошнім часам кепска неяк чуўся, калола*

[484] Маецца на ўвазе Мікола Абрамчык.

*часта ў грудзях і жываце, адчуваўся нейкі цяжар. Калі ён быў апошні раз з Бацькам у доктара (а езьдзілі яны да яго колькі раз, бо Бацька ізноў дрэнна чуўся), ён паддаўся доктарскаму агляду, а тады рэнтгену, і ў яго сьцьвердзілі недзе ў жываце вялікую цысту, велічынёй з далонь. Доктар сказаў, што трэба як найхутчэй выразаць, і замовіў для яго месца ў шпіталі. Доктар сказаў, што рабіць апэрацыю будуць прыблізна за тыдзень, і ўсё залежыць ад таго, да чаго гэтая цыста прыросшая. Калі да кішкі, дык апэрацыя будзе лёгкаю, калі ж да якога органа, дык справа цяжэйшая, і дадаў, што прыйдзецца быць у шпіталі ад 7 да 10 дзён. Але вось мінуў тыдзень, ідзе другі, а Влодка ў шпіталь не выклікаюць. Мы ўсе турбуемся, бо найгоршае — гэта чаканьне, няпэўнасьць. Хоць чуецца Влодак няблага, мае апэтыт, піў гарэлку на нарадзінах, чысьціў сьнег, і нічога. Так што бачыце, Янічка, беды й турботы не пакідаюць нашую сям'ю, і да мае цяжкое працы й клопатам зь дзецьмі даходзяць яшчэ й турботы духовыя, няпэўнасьць.*

*У нас трымаецца зіма, стаяць маразы зь вялікім ветрам, ляжыць сьнег. Да вясны яшчэ, відаць, далёка. Пры канцы мінулага месяца высьвячалі помнік на Тусінай магілцы й рабілі ў нас памінкі. Было прысутных 22 асобы, прыяжджалі Кулікові з Градэ. Я мела вельмі шмат працы ўсё як належыцца прыгатаваць. Памагала мне Майсеева, але ўсё ж увесь найгоршы цяжар быў на мне. Усё ўдалося вельмі добра, было прыгожа й смачна. За месяц угодкі Тусінай сьмерці. Час бяжыць. Адны адыходзяць, другія застаюцца, чакаюць свае чаргі, і гэтак ідзе жыцьцё. Вядома, сумна й цяжка, што Туся адышла, але прынамсі маем яе магілку, наведваем яе, молімся. А час робіць сваё, зацягвае пакрысе рану. Шмат горш сп. Адамовічу, які столькі ўжо часу знаходзіцца ў няпэўнасьці, ня ведае, ці бацька ягоны памёр недзе, ці можа, яшчэ жывы, мучаецца. Гэта шмат цяжэй, і я гэткае палажэньне вельмі перажываю, бо адчуваю, як гэта цяжка для сп. Адамовіча.*

*Думала, што, можа, на Сэсію Рады БНР удасцца хоць на два дні прыехаць у Нью-Ёрк, пабачыцца з Вамі. Але цяпер, у сувязі з Валодкавай хваробай, сумлеўна, ці ўдасца адлучыцца ад дому. Да таго ж нейкім разумнікам прыйшло ў галаву рабіць Сэсію на каталіцкі Вялікдзень. І я ўжо напэўна не прыеду, бо пакінуць сям'ю на гэткае вялікае сьвята абсалютна немагчыма, нават калі апэрацыя міне добра і Влодак да гэтага часу паправіцца.*

*Гэта, здаецца, і ўсе нашыя навіны пакуль што. Пішэце, дарагая Янічка, аб усім, мяне цікавіць кожная дробязь. Я ж зусім тут адарваная ад беларускага жыцьця.*

*Цалую Вас усіх моцна. Прывітаньні сп. Шукелойцю. Бацька дзякуе яму шчыра за павіншаваньне й зычыць хутчэй паздаравець.*

*Вашая Н. А.*

*10.4.68*

*Даражэнькая мая Янічка, Хрыстос Уваскрос!*

*Моцна цалую ўсіх. У мяне — адно гора, і больш нічога, так што нат рука не ўздымалася Вам пісаць. Влодак меў вельмі цяжкую апэрацыю. Трывала 3½ гадзіны, і то выразалі толькі ніжнюю частку цысты, бо верхняя ўрасла ў ныркі й іншыя органы, і яе выразаць усю проста немагчыма. Ягоны выпадак у гісторыі шпіталя толькі другі, у 1952 годзе падобная апэрацыя была ў аднэй жанчыны. Выпусьцілі галён вадкасьці, уставілі дрэнаж. Цяпер Влодак ужо ў хаце, чуецца лепш, але як і што*



Наталля Арсеннева і Францішак Кушаль

*бдузе — нат і дактары ня ведаюць. Але ў нас іншая, горшая парблема: амаль адначасна з Влодкам завезьлі ў шпіталь і «Бацьку», і вось ужо ў шпіталі 3 тыдні, зусім страціў розум. Дактары кажуць, што склероз, але цяпер пачалі рабіць іншыя досьледы. Фактычна яго лячылі ад лёгкага сардэчнага ўдару, але з галавой у яго ўсё горш. Нас пазнае, але гаворыць нясусьвеціцу. Што рабіць, проста ня ведаю. У мяне ўжо хіба й сьлёз няма плакаць, гэта ўжо будзе трэці падрад гэткі жахлівы Вялікдзень. У выніку й я пачынаю чуцца штораз горш і трымаюся толькі нэрвамі, бо калі яшчэ й я захварэю — усе мы прапалі.*

*Цалую. Вашая Н.*

*4.68*

*Мілая, дарагая мая Янічка!*

*Нарэшце пішу Вам. Вядома, ніякіх асабліва добрых вестак спадзявацца з гэтага майго ліста няма як. Добрых вестак, трэба думаць, што ўжо й ня будзе. Але пачну ўсё па чарзе. Влодкава апэрацыя прайшла добра, і цяпер ён чуецца зусім добра, хоць няма ведама, ці гэтак і будзе, бо, як я ўжо, здаецца, Вам пісала, гэткага выпадку, як у яго, шпітальныя архівы наагул не рэгістравалі апрача аднаго, падобнага, але не зусім гэткага, у 1952 годзе. Адно што ён вельмі зрабіўся нэрвовы, а нічога ад нэрваў прымаць ня хоча. Я вельмі цяжка перажывала й перажываю ўсе нашыя беды. Дайшло да таго, што ў мінулую пятніцу раніцою я самлела. Тут ужо й Влодак спалохаўся й зрабіў у той жа дзень апойнтмэнт у доктара. Натачка, як мы ехалі да доктара (пакінуць жа іх у хаце няма з кім) усю дарогу вельмі плакала, бо баялася, што й мяне доктар возьме ў шпіталь. Але, дзякуй Богу, усё аказалася ня так дрэнна. Крыху аслаблена сэрца, боль і шум у галаве маюць за прычыну запаленьне вуха, аб якім я й не падазравала, а галоўнае — нэрвы, што, як сказаў доктар, зусім для яго ня дзіва ў сувязі з усімі няшчасьцямі апошніх год. Даў мне лякарствы й сказаў прымаць акуратна 4 разы ў дзень, маленечкія капсулы ліорыюм (гэта ад нэрваў). Пачала лячыцца, слабасьць і кружэньне галавы паменшалі, і чуюся лепш. Праўда, яшчэ ня ўсе аналізы гатовы (ён рабіў «джэнэрал экзамінэйшн»), але доктар думае, што ўсё будзе ў парадку… А цяпер — галоўная крыніца нашых з Владкам цяжкіх перажываньняў. Гэта — Бацька. Выглядае, што ён*

*ужо ніколі ня будзе з намі, ня будзе дзяліць нашых як жа рэдкіх — маленечкіх — радасьцяў і вялікіх турботаў. У шпіталь яго мы завезьлі з прычыны высокай тэмпэратуры (104°), якая падымалася й падала тры разы на працягу сутак. Пры гэтым ён вельмі раптам аслабеў. Доктар сказаў везьці ў шпіталь. Майсеева прыехала па мяне, каб ехаць у шпіталь чакаць на вынікі Влодкавай апэрацыі, і забралі якраз і яго. Афармілі, а самі сядзелі й чакалі. Апэрацыя трывала 3½ гадзіны, і мы ўжо былі ад хваляваньня ледзь жывыя. Але тады якраз выйшаў доктар, хірург, і сказаў усё, як было, і што Влодак чуецца добра. Мы паймчаліся дахаты, бо дзеці павінны былі прыйсьці са школы, накармілі іх, пасадзілі ў машыну й зноў паехалі ў шпіталь. Влодак быў ужо прытомны і ў сваім пакоі, увесь у розных трубках, і сказаў толькі, што вельмі баліць жывот. Пайшлі да Бацькі нагару. Ён таксама ляжаў ужо ў ложку. Доктар сьцьвердзіў невялікі сардэчны ўдар і, як ён сказаў, «minor stroke». Але назаўтра а гадзіне 7-й пазванілі са шпіталя, што Бацька ня хоча ляжаць, хоча ўцякаць, і ня могуць за ім даць рады, бо ня могуць разгаварыцца. Я ня ведала, што рабіць, бо да шпіталя можна заехаць толькі машынай, аўтабус ад нас ня ходзіць. Але ўспомніла пра Васю (Какошу), пазваніла яму, і ён цудам знайшоўся ў хаце, бо быў прастуджаны й на працу не паехаў. Мы ў момант сабраліся й паехалі. Там я ледзь угаварыла Бацьку пабыць у шпіталі, яму далі транквіляйзар, і ён крыху супакоіўся. Папаўдні ён быў спакойны, але часам крыху «загаворваўся». І гэтак пайшло ўсё горш і горш. Яго лячылі, і ён ужо зусім паправіўся, хоць слабаваты й схудзеў. Але дактары не маглі прыйсьці да згоды, што да ягонага разумовага стану. Наш доктар думаў, што гэта вынікі «стройка», нэўралёг казаў, што гэта склероз мазгоў, які часта бывае ў старэйшых людзей. Але час ішоў, мінула блізу два месяцы, а направы ніякай, наадварот. Тады запрасілі зь іншага шпіталя псыхіятра-спэцыяліста. Гэта была жанчына, дачка старых эмігрантаў з Баўгарыі, і вельмі добра гаворыць па-расейску, так што яна больш гадзіны правяла з Бацькам, гутарыла зь ім і назаўтра патэлефанавала нам. Я зь ёй гаварыла таксама каля гадзіны. Ейны дыягназ не згаджаецца з дыягназам др. Стона. Яна ўпэўненая, што гэта не мазгавы ўдар (стройк) і нават не склероз, хоць не спэцыялістыя пад гэтае слова падводзяць шмат якія іншыя хваробы. Яна кажа, што гэта хвароба не псыхічная,*

*а вельмі мала яшчэ вядомая й ня гэтак даўно абасобленая — гэта павольнае й паступовае адміраньне мазгавых клетак, што, у процілегласьць іншым клеткам людзкога цела, не аднаўляюцца. Яна кажа, што працэс гэты мусіў пачацца ўжо пару год таму, але дзеля свае павольнасьці й паступовасьці акружэньнем не заўважаўся. Бывае таксама, што працэс на нейкі нядоўгі час чамусьці затрымліваецца. Але дыягназ ейны безнадзейны, бо памерлая мазгавая клетка адрадзіцца ня можа. Мне здаецца, што яна мае рацыю, бо розныя ненармальнасьці я заўважала ў Бацькі даўно. Ён гаварыў сам з сабой, калі летась быў хворы, дык і зусім рабіў уражаньне ненармальнага. Колькі я зь ім памучылася — летась у Нью-Ёрку, асабліва начамі, калі ён некуды ўцякаў у гарачцы, колькі ён навыкідаўся лякарстваў др. Гэрцага, бо ўбіў сабе ў галаву, што яны яму шкодзяць! Або я ж гэтак старалася яго, паводле прадпісаньня таго ж Гэрцага, адкарміць раніцаю, перад працай, рыхтавала яму розную ежу, а ён, як пасьля із сьмехам хвастаў Владку і Майсеевым, выкідаў усё ў сьмяцьцё! Пасьля яму палепшала, уся восень прайшла добра, а вось узімку пачалося ізноў. Ён пачаў крычаць на дзяцей, злаваць, дэнэрвавацца, уначы ўставаць а гадзіне 2-й і 3-й і пачынаў рыхтаваць сьняданьне, перастаў чытаць, уцякаў ціўком ад мяне, калі я казала, каб ён на двор не выходзіў, бо быў вялікі мароз, а ён быў праступджаны! Наагул, перацярпела я вельмі шмат, а тут яшчэ трэба было весьці гаспадарку, даглядаць дзяцей! Сумная й цяжкая была зіма, а пачалося прадвесьне — і выбухла й запраўдная бяда! Дзякуй Богу, што Влодак, хоць нэрвовы, але папраўляецца добра, і што дзеці, асабліва Натачка, вельмі мяне любяць і шкадуюць, а так бы й зусім былі канцы. Апошнія тыдні я наагул цэлыя ночы праплакала. Цяпер жа, дзякуючы доктаравым пілюлям, паспакайнела й магу рэальней глядзець у будучыню й пагаджацца зь лёсам. Доктарка гэтая, ейнае прозьвішча Фэльдман, раіла гэтак зрабіць з Бацькам. Яна казала, што каб гэта быў ейны родны бацька, яна б не старалася аддаць яго ў Nursing Home, як мы думалі (дахаты ні доктар Стон, ні др. Фэльдман асабліва браць Бацьку абсалютна не раяць, бо ён і ў шпіталі вельмі непаслухмяны, усё ўцякае, яго нанач прывязваюць, а ўдзень кормяць транквіляйзарамі), бо можа што сабе зрабіць, упасьці са сходаў ці трапіць пад машыну. Пры ім увесь час у хаце патрэбны быў бы быць неадступна чалавек, што ў нашых умовах абсалютна немагчыма,*

*бо на маіх жа руках дзеці і ўвесь дом. Тым больш, што ён зусім усё забыўся, памятае толькі далёкае мінулае, гутарыць із сваімі братамі, сябрамі свайго дзяцінства ў Першаі. Думае, што шпіталь — наш дом і што я таксама жыву там, толькі ў іншым пакоі. Наагул, др. Фэльдман запэўняла мяне, каб я ня плакала й не турбавалася, бо ён зусім ня церпіць і не перажывае, а жыве сваім асобым зусім ад нашага сьветам і жыцьцём, адно што яму прыкра ў шпіталі, калі ён фізычна паздаравеў і цягаціцца шпітальным рэжымам, ад якога і ўцякае. Яна кажа, што на яе думку адзіны выхад — пастарацца зьмясьціць яго ў асобым аддзяленьні штатнага шпіталя, недалёка ад Рочэстара. Яна цьвердзіць, што гэтае аддзяленьне ня мае нічога супольнага з «домам вар'ятаў», што з псыхічна-хворымі пацыенты гэтыя ніколі абсалютна ня сутыкаюцца, што ўмовы там для гэткіх, як наш Бацька, вельмі добрыя, бо яны маюць там поўную свабоду (вядома, пад непрыкметным наглядам), што там маса месца, вялікія залі, розныя заняткі, шмат з пэрсаналу гутарыць па-расейску ці па-польску, наагул, абсалютна раіць не трымацца старых традыцыйных паглядаў на гэткія інстытуцыі, бо, як яна колькі раз паўтарыла, «там, дзе Ваш муж будзе, гэта не сумашэдшы дом, бо й Ваш муж, і тыя, што там жывуць, нічога з вар'яцтвам агульнага ня маюць. Адміраньне мазгавых клетак, склероз ці розныя траўмы — хваробы не псыхічныя й не нэрвовыя, а гэткія ж, як артрыт, ці анэмія, ці што іншае». Гэтулькі доктар. А мы з Влодкам у роспачы й самі ня ведаем, што рабіць. Дарагая Янічка, пагутарыце пры аказіі з нашымі дактарамі, Тумашам, Набагезам[485]. Яны дык ужо шчыра параяць. Трымайце пакуль што справу калі не ў сакрэце*

---

[485] **Уладзімір Набагез** (20.10.1919, в. Сялец на Наваградчыне — 2011, Уолдэн (Нью-Ёрк, ЗША)), грамадскі дзеяч, лекар. Вучыўся ў польскай гімназіі імя Міцкевіча ў Наваградку. У 1939 г. быў прызваны ў польскае войска, трапіў у палон. Вызвалены ў 1941 г. Жыў у Кёнігсбергу, Данцыгу (Гданьску). Па сканчэнні Другой сусветнай вайны вучыўся на медыцынскім факультэце Марбурскага ўніверсітэта, пазней перайшоў у Лювенскі ўніверсітэт (Бельгія), які скончыў з дыпломам доктара медыцыны. Сябра Беларускага студэнцкага таварыства. У 1956 г. перабраўся ў ЗША. Працаваў у Нью-ёркскім шпіталі, пазней распачаў прыватную практыку ў г. Уолдэн (штат Нью-Ёрк). Сябра БАЗА, у 1963–1968 гг. — кіраўнік яго Нью-ёркскага аддзела.

*(за выняткам найблішэйшых, вядома), але не надта голасна. Кажэце, што ў Бацькі быў сардэчны й мазгавы ўдар, што ён у шпіталі й вельмі паволі папраўляецца. Гэта, фактычна, праўда, але мы вельмі дзівімся, што яго дагэтуль у шпіталі трымаюць. Гэта ўжо заслуга др. Стона, таго, што лячыў Тусю апошні год і добра ведае ўсе нашыя няшчасьці. А пакуль што цалую Вас моцна-моцна. Вы — адзіны чалавек у сьвеце, які яшчэ трымае мяне ў маёй бядзе, бо ж я зусім-зусім адна ўсё гэта перажываю. Адзіная мая мара, каб Вы хоць на дзень, на два маглі прыехаць, пагаварыць душа ў душу. Можа, на Memorial Day*[486] *із сп. Шукелойцем, таньней каштавала б на «family trip». Падумайце, мне гэта была б вялікая радасьць і палёгка. Цалую Вас і ўсіх Вашых. Прывітаньні добрым сябрам і знаёмым.*

*3.6.68*

*Дарагая мая Янічка, атрымала Ваш ліст. На спачуваньні, якіх прыйшло вельмі шмат, мы з Влодкам яшчэ не адказвалі, можа, возьмемся найбліжэйшымі вечарамі. Цяжка й сумна. Плачу ўвесь час, і ніякія пілюлі не дапамагаюць. Дзеля гэтага — і фізычна пачала ізноў дрэнна чуцца. Агульная нэрвовасьць перадалася, відаць, дзецям, асабліва Натачцы. Увечары даводзіцца сядзець ля яе гадзіны дзьве, пакуль засьне, трымае мяне за руку й плача з розных выдуманых прычынаў, не дае нікому спаць. Влодак злуе, што я яе «распусьціла», але я ані ні ў чым не вінавата, і з гэтае новае «паўбяды» зусім выбілася зь сілаў. А тут столькі працы сабралася — мыць, прыбіраць, прасаваць! Ледзь жывая. Влодак пайшоў ужо на працу, кажа, што таксама столькі ў яго за час ягонае хваробы сабралася рознае працы, што нават ня ведае, ці будзе наагул мець вакацыі. Тады я ўжо й зусім прапала, бо з дадатковай працай (дзеці ж будуць цэлы дзень у хаце) ня ведаю, ці мае нэрвы й сілы дадуць рады. Надзея толькі крыху адпачыць духова, калі Вы прыедзеце на вакацыі ў ліпені. У Вас ужо, пэўне, запісваюць, калі хто бярэ, дык добра было б ведаць загадзя, бо анну ж Влодак усё ж будзе мець нейкія вакацыі, і мы, можа, паедзем у Канаду, Раіса ўчора тэлефанавала, запрашала. Вельмі цяжка заладжваць розныя пасьмяротныя справы, плаціць рахункі, паведамляць, што чалавека — ужо няма. Прычыну хваробы, што завяла яго ў магілу,*

[486] *Memorial Day* — сьвяткуецца ў апошні панядзелак траўня.

*здаецца, так і не знайшлі. Severe апетіа, кажуць, а чаму — невядома. Ня ведаюць і чаму раптоўна час ад часу падымалася тэмпэратура да 104º, а тады падала гадзіны празь дзьве на 100º, як было і ў апошні дзень жыцьця. Наагул, Янічка, так мне дрэнна, проста ня ведаю, як перажыць гэты час. І апрача Вас няма й каму пажаліцца. Пішэце часьцей. Цалую Вас усіх моцна.*

*Вашая Н.*

*7.68*

*Дарагая Янічка, якраз толькі што атрымала ліст ад сп. Шукелойця з запросінамі на вечар у гонар Алюньці*[487]*. Дзякую, але яны ніхто нават не прыслалі спачуваньня, дык Бог зь імі.*

*Сп. Шукелойць пытаецца, якія вочы меў нябожчык Бацька (трэба Міратовічу), дык скажэце яму, што шэрыя. Учора выслала Вам ліст.*

*Сп-ня Курыла ўчора тэлефанавала, што для мяне сабралі нейкія грошы. Зусім ня трэба, пахаваньне (1504 даляры) ужо я заплаціла, а помнік яшчэ заказваць рана, зямля ападае. Дык аддам гэтыя грошы на «Беларуса» й яшчэ нешта. Яны ж — грамадзкія.*

*Цалую. Пішэце. Вашая Н. А.*

*[недатаваны]*

*Даражэнькая Янічка! Атрымала абрусы й ліст. Вельмі дзякую. Мне вельмі прыкра, што Вы просіце не высылаць за іх грошы. Задарагі падарак. Дык дзякую шчыра. Надпіс на помніку яшчэ не заказвалі. Яшчэ ўсё думаюць. Жук*[488] *хоча, каб было абавязкова «сябра Рады БНР», але гэта хіба ня зьмесьціцца. Наагул, ідэя надпісу на помніку мне зусім не падабаецца. Іншая справа, каб можна было паставіць памятную дошку. Але гэтага правілы гэтага могільніка не дазваляюць. А так памятнік жа над падвойным месцам. Куплена ж з думкаю, што й я там лягу. А калі ўвесь памятнік заняць надпісам, дык дзе ж будзе месца для мяне? Вельмі добра й правільна было так, як я з Влодкам зрабілі — агульнае прозьвішча на помніку, а ўнізе — імёны й даты. І ўсё. У Бога няма ні генэралаў, нічога. А калі, як маты-*

[487] Алюнця — Ала Орса-Рамана. Гл.: Я. З. У гонар д-ра Алы Орса-Рамано // Беларус. № 135–136. Ліпень–жнівень 1968. С. 8.

[488] Маецца на ўвазе Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

*вуе Вінцук, праз X год нехта захоча знайсьці магілу, дык знойдуць і па прозьвішчы ды імені. «Кушаль» — прозьвішча, якога я на гэтым магільніку яшчэ, апрача нашага, ня бачыла. Так што гэткія справы. Ня ведаю, што й рабіць. Бо супрацівіцца — могуць зьвінаваціць у ўсіх грахох, аж да здрады ўлучна. Наагул, Янічка, няма нічога хіба горшага на сьвеце, як чалавек. І нават найлепшыя, жадаючы зрабіць добрае запраўды, робяць часта ня добрае, а благое. Але тут ужо мы з Вамі нічога не параім. Можа й мы з Вамі парою робім ня тое, што трэба. Па-за гэтым усё ў нас па-старому. Чакаю, калі пачнецца школа і дзеці пойдуць вучыцца. Тады буду мець мо крыху часу для сябе, а то цяпер трэба ўвесь час за імі глядзець, асабліва за Натай. Мы ж жывем усе ў джунглях, і ў нас бываюць розныя здарэньні. У газэтах штодня яны ёсьць. Пішэце часьцей. Напішэце навіны з Эўропы. Бабу Мілю цалуйце. Н. А.*

*16.10.68*

*Даражэнькая мая Янічка,*

*так усьцешылася, атрымаўшы Ваш ліст, хоць яго й не спадзявалася, бо не адказала яшчэ й на папярэдні. Але на мяне напала цяпер чамусьці вялікая апатыя. Нічога ня хочацца, жыву як быццам збоку жыцьця, машынальна раблю, як нейкая заведзеная машына, сваю штодзённую працу для сям'і й найлепш чуюся, калі мяне ніхто не чапае і я магу ня рухаючыся сядзець гадзіну ці дзьве, нават і ня думаючы. А вакол гэтак прыгожа, дрэвы жаўцеюць і асыпаюцца, і можна было б цешыцца прыгаствам, калі б ні пусьціня нейкая дзіўная ўнутры. Да таго ж мой арганізм згубіў шмат адпорнасьці, і я ўвесь час прастуджаюся: то катар, то горла баліць, то кашаль. Ледзь пройдзе адно — за пару дзён пачынаецца нешта іншае, і я да псыхічнага заняпаду цярплю яшчэ й ад фізычнага. Так што справы са мной не асаблівыя. Дакучае й самотнасьць, няма да каго слова прамовіць. Влодак, як Вы ведаеце, чалавек неразмоўны, амаль не гаворыць, а дзеці замалыя. І ў рэзультаце — горка й сумна. Калі ўдасцца перамагчы мой сучасны псыхічна-фізычны нецікавы стан — магчыма, пачну ізноў пісаць, бо неяк ад часу да часу пачынаюць узьнікаць думкі й абрыўкі радкоў, каб згінуць ізноў, а тады ізноў назаляць… Але пакуль што гэта яшчэ, здаецца, няблізкая пэрспэктыва. Я вельмі чамусьці перажываю сьмерць Толі Александровіча, аб якой я даведалася з «Новага рускага сло-*

*ва». Ужо з тыдзень не выходзіць з галавы. Я ж у іх была ў хаце, была й на ягоным шлюбе з Эрыкай, былой вучаніцай Зубковіч*[489]*,*

---

489 **Эльза Зубковіч** (дзяв. Пілеман, 1895–1983), піяністка, педагог. Нарадзілася ў Мінску ў сям'і медыка. У 1914 г. скончыла Мінскую музычную школу, навучанню ў кансерваторыі перашкодзіў пачатак Першай сусветнай вайны. Засталася працаваць у мінскім шпіталі, дзе бацька займаў пасаду галоўнага лекара. Пазнаёміўшыся з прафесарам Варшаўскай кансерваторыі Георгіем Жураўлёвым, прыватна за чатыры гады прайшла з ім поўны курс кансерваторыі для фартэпіяна, адначасна беручы ўдзел у канцэртах. Працягвала канцэртную дзейнасць і ў 1920 г., пад польскай акупацыяй. Адзін з арганізатараў, польскі лекар Урштэйн, параіў ехаць навучацца ў Берлін да вядучага прафесара-тэарэтыка тамтэйшай кансерваторыі кампазітара Паўля Юона. З дапамогаю др. Урштэйна Эльза дамаглася ад польскіх уладаў дазволу на выезд і ў тым самым 1920 прыехала ў Берлін, захапіўшы з сабою ўласныя фартэпіянныя творы. Прафэсар Юон, швейцарац па паходжанні, расеец паводле месца нараджэння і музычнае асветы, ён у маладосці быў педагогам ў класе скрыпкі і кампазіцыі ў Баку, а ў 1897 г. пераехаў у Берлін, дзе пражыў блізу ўсё жыццё, перад смерцю, якая надышла ў 1940 г., вярнуўшыся ў Швейцарыю. У ягоны клас і была прынятая — з прызначэннем стыпендыі — Эльза. Але ў той час у Мінск вярнуліся бальшавікі, памёр бацька, і трэба было ехаць да маці. Па рэкамендацыі праф. Юона Эльза датэрмінова сдала іспыты ў Штутгардскай кансерваторыі (у Берлінскай не існавала экстэрнаў) і ў 1922 г. з дыпломам піяністкі вярнулася ў Мінск, дзе працавала ў музычнай школе, а пасля ў тэхнікуме і кансерваторыі. Выйшла замуж, нарадзіліся дзве дачкі. Па вайне апынулася з сям'ёй у Нямеччыне, пахавала мужа, а адтуль эмігравала ў ЗША, дзе працягвала педагагічную дзейнасць. У 1972 г. выйшаў зборнік рамансаў «Осенние падают листья», напісаны на вершы эміграцыйнай расейскамоўнай паэтэсы Ірыны Сабуравай, таксама народжанай на Беларусі. У 1972 г. выйшаў новы зборнік рамансаў «Край мой васільковы» — на вершы Я. Коласа, А. Гаруна, М. Кавыля, Н. Арсенневай. Ёй Арсеннева прысвяціла верш «Толькі гэткім, як Ты…». Памерла Эльза Зубковіч у Нью-Ёрку.

Гл. таксама: К. Заслужаны юбілей [Эльза Зубковіч] // Беларус. № 103. Кастрычнік 1965. С. 3; Зь юбілейнага вечару Э. Зубковіч // Беларус. № 104–105. Лістапад–сьнежань 1965. С. 5; Я. З. Канцэрт музычнае школы праф. Э. Зубковіч [Нью-Ёрк] // Беларус. № 122. Чырвень 1967. С. 8; Кампазытар Эльза Зубковіч. (Да 50-годзьдзя музычнае творчасьці) // Беларус. № 167. Сакавік 1971. С. 3; Карповіч, Алесь. Кампазытар Эльза Зубковіч. З нагоды 80-годзьдзя жыцьця // Беларус. № 223–224. Лістапад–сьнежань 1975. С. 4; Віншаваньне кампазытаркі Эльзы Зубковіч з нагоды 80-годзьдзя жыцьця // Беларус. № 223–224. Лістапад–сьнежань 1975.

*і перажываю, як сваё, ейнае гора. Якое ўсё ж людзкое жыцьцё жахлівае й няпэўнае, і як мала ў ім радасьці, а шмат гора. Чаму не наадварот? У нас усё, дзякуй Богу, у парадку. Дзеці ходзяць у школу, вучацца добра, а па-за гэтым дзеці як дзеці, даводзіцца й накрычаць, і папесьціць, а часам і даць лупцоўкі. Яны, асабліва Натачка, вельмі да мяне прывязаліся. Шкадую іх, і таму не наракаю ні на працу, ні на самотнасьць, а стараюся стварыць для іх хатнюю ўтульнасьць. Памалявала сама кухню, сенцы, перастаўляю й дакупляю хатнія рэчы, і кватэра на зіму будзе яшчэ ўтульнейшая й прыгажэйшая, бо калі парадак і ўтульнасьць, і дзяцей лягчэй прывучыць глядзець за сабой і за парадкам. Дарагая Янічка, пішэце часьцей, не чакайце маіх адказаў. Ці ёсьць яшчэ Твардоўскі[490]? Я хачу паслаць Калядную пачку ў Польшчу. Прышлю грошы й адрас Вам, і Вы хіба закажаце. Здаецца, каштуе 10 дал.?*

*Цалую. Прывітаньні ўсім.*

*24.2.69*

*Даражэнькая мая Янічка,*

*Ваш ліст атрымала перад самым выездам у Канаду, таму й не адказала адразу. Езьдзіла я ў Канаду на запросіны Жукоў[491], якія ладзілі там маё літаратурнае выступленьне. Мне вельмі не хацелася ні ехаць, ні выступаць, але адкладаць больш не было як. І мы адвезьлі Натачку да Майсеевых, і я паехала. На суботу я згатавала абед, а на нядзелю іх запрасіла Наталія Дзімітрыеўна. І вось, супраць усіх спадзяваньняў, літаратурнае маё выступленьне вельмі ўдалося. Першую частку — агляд кароткі мае літаратурнае творчасьці чытаў Жук-Грышкевіч. Тады выступалі іншыя з успамінамі й дэклямацыямі, а 2-ая частка складалася з майго рэфэрату,*

С. 4; [Артыкул Міхаіла Гольдштэйна пра музыку кампазытара Эльзы Зубковіч]. (Што чуваць?) // Беларус. № 226–227. Люты–сакавік 1976. С. 8; «Край мой васільковы». Зборнік песьняў Э. Зубковіч // Беларус. № 185. Верасень 1972. С. 2; Сьв. Памяці Э. Зубковіч (памерла ў Нью-Ёрку 4 чырвеня 1983 г. на 88 годзе жыцьця) // Беларус. № 311. Чырвень–ліпень 1983. С. 8; Жыцьцё, аддадзенае музыцы. (Эльзе Зубковіч — замест нэкралёгу) // Беларус. № 312. Жнівень–верасень 1983. С. 4; № 313. Кастрычнік 1983. С. 4.

[490] Прыватны польскі паштовы сэрвіс.

[491] Маюцца на ўвазе Вінцэнт і Раіса Жук-Грышкевічы.

*пераплеценага вершамі. І гэты даклад на тэму «Я — і жыцьцё», як называецца адзін з маіх вершаў, вельмі ўдаўся. Жук-Грышкевіч казаў, што ён ніколі яшчэ ня чуў маіх вершаў так проста й зразумела дэклямаваных, як я гэта зрабіла ў маім дакладзе. Наагул, усім вельмі спадабалася, і шмат хто нават плакаў, асабліва жанчыны. Можа, таму, што я была ў нейкім асаблівым нэрвовым настроі, бо гэта ж было якраз у нядзелю 16-га лютага, дні, які мы некалі так добра праводзілі ў Вас із двума нашымі дарагімі салензантамі[492] за сталом! Наагул, паездка ўдалася. Па-за гэтым у нас усё па-старому, заказалі ўжо памятнік, высокі крыж, шэры, будзе каштаваць 1600 даляраў. Няма толькі беларускага сьвятара, каб яго высьвяціць. Чарняўскі[493] ўжо застары.*

*Цалую. Н. А.*

*11.3.69*

*Дарагая мая Янічка,*

*Учора атрымала ліст з Чыкага ад Градэ. Піша, што з Мік. Міколачам вельмі дрэнна, што ўжо тры разы зь ім было гэтак, што ён тыдзень ці два быў як вар'ят, але 4-га гэтага месяца страціў прытомнасьць, і доктар накіраваў яго ў шпіталь. Наталія Дзімітрыеўна ўчора ж увечары пазваніла ў Чыкага й даведалася, што Куліковіч ад 16-га ў шпіталі. Дактары пакуль што сьцьвердзілі «благую кроў» (?), ныркі й прастату, а таксама, што «маленькая жылка ў галаве лопнула». Будуць яго лячыць. У руку ў яго ўставілі рурку й даюць глюкозу, ён прытомны й гаворыць дарэчы. Калі ўдасца падлячыць, дык будуць апэраваць прастату. Але яшчэ ня ўсе аналізы зроблены, можа, знойдуць што іншае. Градэ зусім бязрадасная, ня ведае, што рабіць, дзе розныя дакумэнты, бо Куліковіч усё сам плаціў і рабіў, і яна цяпер зусім разгубілася. Кажа, што Куліковіча нехта атруціў у той кнайпе, куды ён вечарамі хадзіў выпіваць, але, вядома, гэта глупства. Вы ж ведаеце Градэ, у яе ў лёгкай форме манія перасьледу была здаўна. Мяне трывожыць стан ягоных твораў, ягоных рукапісаў. Дзе яны? Каб хоць не прапалі. Ён ужо даўна казаў, што опэры зусім развальваюцца. Ці ня*

492 Саленізатары — імяніннікі. Маюцца на ўвазе народзіны Франца Кушаля і маці Кахаоўскай Эміліі Шабуні, якія абое нарадзіліся 16 лютага.
493 Маецца на ўвазе кс. Францішак Чарняўскі.

*можна, каб хто імі заапекаваўся, пазнаходзіў, а то Градэ іх яшчэ выкіне куды, не разабраўшыся. Пагаварыце, Янічка, там з усімі, і шукайце рады. І «Лясное возера», і «Ўсяслаў Чарадзей» і мае ў пэўнай меры, дык вельмі шкада*[494]*. Градэ прыслала іхны новы тэлефон: 486-7984.*

*Што да нас, дык жывём па-старому. Здароўе не асаблівае, усё не магу пазбыцца кашлю, і нэрвы ніяк ня прыйдуць да раўнавагі. Ваш «летні» праект, вядома, утопія. З малымі дзецьмі нікуды не разгонісься, а калі Вы думаеце, што іх можна пакінуць у Майсеевых, дык вельмі мыляецеся. На даўгі час і абаіх яны ніколі ня возьмуць. Майсееў кажа, што ягоныя нэрвы не вытрымліваюць дзяцей, і мы рэдка да іх нават возім. Пакідаем на які адзін дзень толькі ў крайнім выпадку.*

*Што да паездкі да Кінусі на пару дзён, дык калі ўсё ў іх будзе добра, дык гэта справа зусім рэальная. Калі Кінусіны нарадзіны? У травені ці чырвені? Як скончыцца школа, якога 24–25-га чырвеня, мы маглі б прыехаць, а то, можа, адзін уікэнд раней, трэба паглядзець у календары. І Вы тады прыехалі б. Хоць, калі памятнік будзе гатовы на час, дык прыканцы травеня будзем высьвячаць, і тады Вы ж хіба прыедзеце? Янічка, пасылаю Вам у лісьце 15 даляраў: 10 на вялікодную пачку ў Польшчу, а 5 на «Божым шляхам» у Лёндане.*

*А пакуль што цалую моцна Вас, бабу Мілю і ўсіх. Майсееў пытаўся, ці ёсьць у Ружы залатыя (з эмаліяй) яечкі «charms», каб прычапіць да бранзалеткі? Ён хоча падарыць Нат. Дзьм. на Вялікдзень. Калі ёсьць, напішыце хутка.*

*4.69*

*Даражэнькая Янічка,*

*Праз Вашыя рукі перасылаю гэты кароценькі ўспамін др. Тумашу. Перадайце яму як-колечы, бо я й так спазьнілася. Напісанае, як кажуць, «на скорую руку», і таму, вядома, вартасьці ня мае, але Вы ж ведаеце маё жыцьцё цяпер: зрабіла, што магла. Шкада Міколы Міколыча. Мне здаецца, што ён быў, асабліва апошнімі гадамі, вельмі нешчасьлівы. Памятнік ужо гатовы. Вялікі, але вельмі сьціплы. На ім толькі імя й да-*

[494] Пасля смерці Міколы Куліковіча-Шчаглова ягоная жонка сабрала ўсе паперы кампазітара і перадала іх у архіў Беларускай бібліятэкі імя Францыска Скарыны ў Лондане, дзе яны і захоўваюцца да сёння.

*та. Гэта шмат каму мо не спадабаецца[495]. Але й ён «Бацьку» казаў, што перад Богам усе роўныя, і я гэтак думаю. І для мяне пакіненае месца толькі на імя й дату. Так лепш. Напішу, калі будзем высьвячаць. Думаю, што або ў суботу, 24-га, або ўжо ў чырвені.*

*Цалую Вас і бабу Мілю моцна.*

*1970*

*Даражэнькая мая Янічка!*

*Дзякую за ўсё, што я сяньня атрымала. Але — няма 4-га акту «Затонутага звону». Я цяпер прыпамінаю, што ён быў ужо набраны ў Мюнхэне, і мне яго перадаў быў Стась[496] дзеля папраўкаў. І добра, бо самы канец быў зусім перакручаны. Правячы, я яго крыху перайначыла й паказвала сп. Адамовічу. Што далей зь ім сталася — ня ведаю, думаю, што ён быў адасланы ці адвезены ў Мюнхэн. У мяне, на жаль, нічога не захавалася, бо тое, што мела, пайшло ў набор і назад не вярнулася. Скажэце аб гэтым др. Тумашу, Адамовічу й Стасю, можа, яны што памятаюць? У скрайнім выпадку, можа, у бібліятэцы ёсьць арыгінал Гаўптмана, і я магла б мець адбітку, тады пастаралася б перакласьці 4-ы акт нанова. Вядома, гэта была б цяжкая праца і ўзяла б (у маіх умовах) шмат часу, але нічога ж ня зробіш.*



*Наталля Арсеннева. Здымак Янкі Сурвіллы*

[495] Шмат хто (у прыватнасці, Вінцэнт Жук-Грышкевіч) закідаў Наталлі Арсенневай, што на крыжы на магіле Ф. Кушаля былі выбітыя толькі імя і даты жыцця, што не было зазначана пра «генерала», «змагара», г. д. Арсеннева мусіла тлумачыцца, што такім было жаданне Кушаля.

[496] Маецца на ўвазе Станіслаў Станкевіч.

*Вашыя весткі пра Прэзыдэнта*[497] *вельмі мяне засмуцілі, мы былі зь ім добрымі сябрамі столькі год, і вось — ізноў аднаго хутка ня будзе. Што ж, гэткі лёс чалавека.*

*Сумна мне, што з Вамі хутка не пабачуся, сумна й тое, што, відаць, мой «Затонуты звон» прапаў. Усё сумна.*

*Цалую Вас моцна, а таксама Бабу Мілю.*

*Вашая Н. А.*

*30.1.1973*

*Даражэнькая мая Янічка, вельмі ўсьцешылася, атрымаўшы Ваш ліст. Вы вельмі мыляецеся, калі пішаце, што, відаць, тая нітачка, што зьвязвала нас, загубілася. Гэта ня так, бо Вы ўсьцяж для мяне найбліжэйшы духова чалавек на сьвеце. Нікога больш я ня маю. Праўда, я маю сям'ю, але гэта ня столькі духовая, колькі фізычная сувязь. Вашае каляднае павіншаваньне й 10 дал. Натачцы (і аплатку) атрымалі ў самы дзень Куцьці. Натачка зараз жа напісала Вам другую калядную паштоўку з падзякай, і Влодак, паехаўшы перад самай Куцьцёй у магазын па соду, якой баяўся, што ня хопіць, укінуў яе ў паштовую скрынку. Што Вы яе, як відаць, не атрымалі, дзіва няма, бо на пошце рабіліся Калядамі дзіўныя рэчы: «Новое русское слово» (Калядны нумар) я атрымала толькі 3-га студзеня. Колькі нумароў загінулі. Таксама ліст ад мае братавае з Бэльгіі, які звычайна ідзе 3–4 дні (паветранай поштай) ішоў больш за тры тыдні й т. п. А памятаеце, як было з маім лістом да Адамовіча, у якім я перасылала сьветчаньне Абрамавай*[498]*? Вярнуўся назад!*

*Пісала мала я таму, што хварэла ці проста неяк дрэнна чулася. Пачалося гэта напачатку сьнежня й яшчэ не зусім прайшло. Ізноў сэрца, як тры гады таму, пачало неяк здаваць, круцілася ў галаве, і была вялікая слабасьць. Але я не зьвяртала на гэта ўвагі й рабіла ўсё, як заўсёды. Перад Калядамі было шмат працы. Я нават скарыстала з 2-х дзён, калі Влодак лятаў у Тэксас па справах службы, і памалявала наш living room, які быў вельмі ўжо брудны, а Влодак ня меў часу ці проста*

[497] Маецца на ўвазе Мікола Абрамчык, які памёр 5 траўня 1970 г.

[498] **Надзея Абрамава** (пасля 1945 г. Тэадаровіч, 1907 — 8.02.1979, Мюнхен, Нямеччына), лекарка, дзячка Саюза беларускай моладзі. Пасля вайны працавала ў Мюнхенскім інстытуце вывучэння СССР, займалася пытаннямі рэлігіі і атэізму.

*ленаваўся. Але пасьля Новага году мне зрабілася ўжо так дрэнна, што мусіла выклікаць Влодка з працы а гадз. 4-ай, і ён завёз мяне да доктара. Доктар сказаў, што ізноў тое ж, што было 3 гады таму, і даў лякарства, ня тое, што тады, «Pronestyl», а нейкае іншае. Яно вельмі дрэнна на мяне падзейнічала, і калі я праз тыдзень ізноў пайшла на кардыяграму, доктар мусіў перамяніць яго на даўнейшае. Цяпер ужо другі тыдзень яго прымаю й чуюся лепш, але яшчэ не зусім. Таксама на мяне вельмі дрэнна падзейнічаў ліст ад др. Тумаша, які атрымала разам з павіншаваньнем перад самымі Калядамі (таксама ў дзень Куцьці), дзе ён піша, што Адамовіч яшчэ нічога не пачаў із маім зборнікам*[499]*. Гэта быў для мяне вялікі ўдар, які атруціў мне ўсе сьвяты й пагоршыў мой стан. Ён жа абяцаў мне, што ўсё зробіць, што ніколі не адмаўляўся й г. д. А я ж яму яшчэ раз паверыла! Наагул, відаць, трэба памерці, каб зборнік выйшаў. Да нябожчыкаў усё ж адносяцца ў нас ня так, як да жывых. Так, Янічка, нялёгка жыць на сьвеце! Ну, але досыць аб гэтым. Жукі-Грышкевічы запрашаюць абавязкова прыехаць да іх 10-га лютага. Вінцуку (ці, цяпер, сп. Прэзыдэнту) спаўняецца 70 год. Мы зь ім аднагодкі, толькі ён нарадзіўся ў лютым, а я ў верасьні, дык маладзей за яго на якія 8 месяцаў. Калі буду чуцца крыху лепш, можа, і паеду, бо занадта ўжо заседзелася й заляжалася, трэба крыху зьмяніць уражаньні. 5-га лютага ізноў маю быць у доктара, дык спытаюся. А пакуль цалую Вас моцна й бабу Мілю і ўсіх Вашых таксама. Н. А.*

*24.5.1973*

*Дарагая Янічка,*

*Доўга Вам не адпісвала, таму што нічога добрага не было, аб чым варта пісаць. Да таго ж усю вясну хварэю: закладае грудзі, так што зусім не магу дыхаць і аж млею, а тады зробіцца лепей, тады ізноў горш. Два тыдні таму была ў доктара на гадавым check-up*[500]*, і ён нічога не знайшоў, сказаў, што ўсё ў парадку, і даў накіраваньне на рэнген лёгкіх, але я яшчэ не была, бо ўвесь гэты час у нас холад і дождж, а я мушу ехаць аўтобусам зь перасядкаю, бо Влодак працуе да 6-й, а мне ўвесь час нядобра, і я баюся яшчэ горш прастудзіцца. Прымаю*

[499] Зборнік Наталлі Арсенневай «Між берагамі» выйдзе ў 1979 г.

[500] *Check-up* (анг.) — тут: медыцынская праверка.

*кожную раніцу «Contac», і крыху памагае. Сэрца маё лепш, але доктар сказаў і далей усё лета прымаць лякарства чатыры разы ў дзень. 1-га жніўня ізноў пайду да доктара. Так што жыцьцё маё невясёлае. Peter наш адносіцца да мяне вельмі дрэнна, Влодак — маўчыць, і каб ня Натачка, жыць было б наагул немагчыма. Але й яна робіцца ўпартай і непаслухмянай, хоць вельмі любіць мяне й з усяго завяраецца. Дабіла мяне й справа са зборнікам, сабатаж Адамовіча. Страшны ён чалавек у саёй няшчырасьці й нянавісьці. Але можа, гэта жыцьцё зрабіла яго такім? Шчасьлівыя людзі благімі рэдка бываюць. Ну, але нічога ня зробіш, хоць хацелася б яшчэ за жыцьця пабачыць «плады» ўсяго жыцьця. Я вельмі самотная, нікуды не хаджу й нікога ня маю. Чакаю цяпла й лета. Можа, здароўе паправіцца, і буду ізноў хадзіць у грыбы ў парк і цешыцца прыродай. Мы сёлета, пэўне, нікуды на вакацыі не паедзем. Влодак думае ўзяць вакацыі ўзімку й паехаць у Флярыду. Майсеевы купілі ў Сэйнт-Пітэрсбургу дом, і ён спадзяецца, што там можна будзе затрымацца. Але калі тое будзе… Пішэце мне, Янічка, часьцей, Вашы лісты для мяне вялікая ўцеха. Цалую Вас і бабу Мілю моцна. Вашая Н. А.*

*5.7.1973*

*Даражэнькая мая Янічка, перасылаю праз Вашыя рукі ліст сп. Адамовічу з падзякаю за «добрыя chęci»*[501] *й просьбаю перадаць увесь матэрыял, які ў яго ёсьць, назад Вам. Перадайце гэтае ўсё Тумашу, і я тады напішу яму сама з просьбаю заапекавацца зборнікам. Бачыце, рэдагаваньне зборніка было задуманае калектыўнае, рэдкалегія мела складацца з 3 асобаў: Тумаша, Адамовіча і Ізыдара*[502]*, што было б ідэальным. Тады — Ізыдар адмовіўся адразу, Адамовіч нібы згадзіўся, але, фактычна, зрабіў горш, бо зацягнуў адмову на гады. Веру, што хоць Тумаш ня здрадзіць, бо каму тады застанецца верыць? Вы ж ведаеце (можа, адна) маё стаўленьне да др. Тумаша запраўднае. Ведаеце, я думаю, што Адамовіч гэтак паставіўся да зборніка ня столькі празь нейкі жаль ці помсту да мяне, але да яго якраз. Адамовіч жа вельмі мсьцівы й зайздросны. Памятаеце, што было ў лягерох, у Рэгенсбургу, Каме? Ну, але*

[501] *«добрыя chęci»* (польск.) — добрыя намеры.
[502] Маецца на ўвазе Ізыдар Гуткоўскі (Плашчынскі).

*Бог зь ім. Чакаю на Ваш ліст, а тады адразу пішу Тумашу. Грышкевічы таксама раілі мне так зрабіць, кажучы, што Тумаш шмат лепш знаецца на паэзіі, чымся Адамовіч, які занадта суб’ектыўны. Можа з добрага паэты зрабіць нічога ня вартага, а з нявартага генія, залежна ад настрою. (Памятаеце, як ён недзе ў «Запісах», здаецца, мне хіба на злосьць зрабіў генія зь Юхнаўца?). Была 4 дні ў Канадзе з Натачкай, бо не было як яе пакінуць. Peter быў у Майсеевых. Крыху зьмяніла ўражаньні. Бо так, дык жывецца нялёгка. Учора былі Влодкавы нарадзіны. Спраўлялі ў садзе. Пагода была цудоўная. Цалую Вас моцна й чакаю ліста.*

*27.11.1973*

*Дарагая Янічка, дата была*[503]*, дык перапісала й пасылаю Вам. Шлю на Ваш адрас, бо няпэўная нумару zip code «Радыя»*[504]*. Цяжка й прыкра ўсё гэта. Пішу й горка плачу. Гэта адзінае, што мне засталося ў маім вельмі невясёлым цяперашнім жыцьці. Ведаеце, Янічка, я думаю, што Адамовіч гэта зрабіў не праз помсту ці што іншае. Можа, ён мусіў гэтак зрабіць? Хоць чаго яму ўжо цяпер баяцца? Ён жа ж адзін, Бацькі ж ужо няма (пачынаю крыху інакш думаць і пра таямнічую справу ягонага загіну). Тумашу яшчэ не пішу. Напішу, калі буду ведаць, што ўсё ў парадку, і з Адамовічам мы разьлічымся. Але ўсё, што ў яго ёсьць з матэрыялаў, забярэце адразу й перадайце Тумашу. І паведамце мне таксама, не адкладаючы. Цалую. Вашая Н. А.*

*6.6.1974*

*Даражэнькая мая Янічка, толькі што атрымала й прачытала Ваш ліст і вельмі засумавала, што Вы едзеце на вакацыі да Кінусі. А я так спадзявалася, што Вы прыедзеце да мяне, што мы пабачымся, пагаворым — і вось, усе надзеі рассыпаліся. А час быў — 25-га Натачкін дзень народзінаў, 4-га Влодка... Мо яшчэ перадумаеце? З Кінусяй жа Вы часта бачыцеся, а зы мной — амаль ніколі. А я ж таксама ня вечная. Вось сяньня была ў лекара на гадавым check-up. Сказаў, што сэрца шмат лепшае, але лякарства ўсё ж трэба прымаць 4 разы й надалей.*

503 Дата напісання верша.

504 Маецца на ўвазе індэкс (паштовы код) радыё «Свабода».

*Але нешта знайшоў у мачы й пасылае цяпер на рэнген ныркаў, хоць я ніколі на іх ня жалюся, і ўсё, зьвязанае зь імі, здаецца, у парадку. Так што новая непрыемнасьць.*

*Што да вершаў. Янічка, дык сп. Адамовіч сам улучыў у гэты першы разьдзел колькі вершаў, якія я ў зборнік не зьмясьціла. Зьмясьціў ён іх так, як яны былі друкаваныя 50 год таму ў «Пад сінім небам» бязь ніякіх амаль паправак. Я ж усе вершы з гэтага зборніка, зьмяшчаючы ў «Між берагамі», добра адрэдагавала, каб яны ня надта выпіралі з кніжкі, бо тэхнічна яны вельмі слабыя. Дык ня маючы нічога супраць таго, што сп. Адамовіч іх улучыў у зборнік (яму ж як рэдактару відней, што трэба), я ўсе гэтыя вершы адрэдагавала й перабіла на сваёй машынцы, захоўваючы строга Вашую нумарацыю бачынак. Таксама сп. Адамовіч не паправіў правапісу вершаў, улучаных ім. У «Пад сінім небам» кожны радок верша напісаны зь вялікае літары, бо гэтак тады было прынята, а пасьля (і цяпер) пішуць залежна ад знакаў прыпынку, то зь вялікай, то з малой. Каб усе вершы з «Пад сінім небам» пісаліся зь вялікай літары, я б падумала, што рэдактар чамусьці наважыў захаваць стары правапіс. Але ж не, бо адзін верш перадрукаваны так, а зараз наступны — іначай. Так што Вам некаторыя вершы давядзецца перадрукаваць, я зрабіла ад рукі папраўкі. Іншыя ж я перадрукавала сама. Надалей, Янічка, глядзеце, калі ласка, каб усюды быў захаваны новы спосаб (пачынаць радок зь вялікае літары толькі калі трэба, значыцца, пасьля кропкі, клічніка й г. д.) далей будзе гэткіх вершаў усё менш і менш. Вельмі ж непрыгожа было б, каб у адным зборніку быў гэткі разнабой — адзін верш так, а зараз побач — па-іншаму. Адамовіч, відаць, на гэта не зьвярнуў увагі, а можа, падумаў, што гэта тэхнічная справа і яго не датычыць. Вы яму нічога не кажэце й матэрыялу не паказвайце, а як будзе ўсё начыста перадрукавана, адразу аддайце ўсё др. Тумашу. Тым болей, што я амаль усе Адамовічавы папраўкі прымаю, а перарабіла толькі тыя, што мною наагул не былі перапрацаваныя, бо я ня думала іх даваць у зборнік (у большыні гэта — асабістая лірыка). Так што зь першым разьдзелам скончана. Цяпер будзе «Зачараваны кут». Ён мною ўжо папраўлены, і ня думаю, каб там было шмат Адамовічавых праўкаў. Але й яго прышлеце мне, бо, можа, сп. Адамовіч таксама ўлучыць сюды няпраўленыя, бо я ня ўсе вершы й з «Зачараванага кута» дала ў зборнік. Ды й Вам ня*

*трэба будзе два разы перабіваць. Ад Адамовіча зараз перашлеце мне, а пасьля майго перагляду ўжо начыста й перадрукуеце.*

*Я вельмі Вам спачуваю, таксама й Данчыку. Ён жа так даглядаў бабы Мілі![505] Я думала, што, можа, Вы да мяне прыедзеце зь ім, ён будзе Вашай «эскортай» у дарозе. Хоць «шэрай сабачкай»[506] ехаць вельмі добра й фактычна недалёка, бо ночай сьпіцца, а рана ранічкою — ужо й Рочэстар. Па-ангельску вымаўляецца Рочастар, я так і паставіла пад вершам, але калі ўважаеце, што лепш Рачэстар, хай, suit yourself! Янічка, у нас тут вельмі прыгожа, Влодак звазіў бы нас па ваколіцах, зладзілі б пікнік! Майсееў цяпер тут. Прадаў дом, цяпер пакуецца й чакае на афармленьне й нейдзе ў палове ліпеня спадзяецца ехаць назад. Бярэ нашага Пецю памагаць у дарозе, бо паедзе машынай, а на мэблю бярэ перавозную фірму. Так што й зь ім бы пабачыліся, бо ж Флярыда — не Рочэстар, далёка! Так што падумайце, Янічка, у нас ня горай, чымся ў Кінусі, а на духу мяне падтрымалі б вельмі й вельмі. Прыяжджайце з Данчыкам. А Кінуся заўсёды пад бокам. Цалую Вас моцна. Прывітаньні др. Тумашу, Шукелойцю й вашым. Пішу ў садзе, «на калене», але спадзяюся, што разьберацё!*

*9.10.1974*

*Даражэнькая мая Янічка, дзякую за ліст. Я ж толькі ад Вас даведваюся сякіх-такіх навінаў зь Нью-Ёрку. Больш ніхто ня піша, часам пазвоніць Кунцэвіч[507], Але ж ён не ў Нью-Ёрку. Таксама толькі ад Вас даведалася, што мой зборнік пачаў друкавацца. Дзе й як? Тумаш мне нічога не пісаў ужо хіба месяцаў 5. Вы пішаце, што ў друк пайшоў разьдзел «Пад сінім небам». Але ж тое, што Вы мне прысылалі на перагляд — толькі частка «Пад сінім небам». Да яго ж належыць яшчэ «Зачараваны кут», што складаецца зь якіх 10-х балядаў ды паэмкаў. Ці ён*

---

[505] Эмілія з Луцкевічаў Шабуня памерла 27 траўня 1974 г. на 89-м годзе жыцця.

[506] Маецца на ўвазе адна з амерыканскіх аўтобусных кампаній, *Greyhound*.

[507] Верагодна, маецца на ўвазе **Мікола Кунцэвіч** (02.01.1907 — 28.09.1985, Фларыда, ЗША), грамадскі дзеяч, сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання. Пасля Другой сусветнай вайны быў старшынём Беларускага нацыянальнага камітэта ў Нямеччыне. Выкладчык у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Ад пачатку 1950-х гг. — у ЗША. Быў у кіраўніцтве БАЗА і яго нью-ёркскага аддзела. Сябра рэдкалегіі газеты «Беларус».

*таксама ўжо ў друку? А можа, Адамовіч з Тумашам вырашылі яго наагул у друк не даваць? Дык я абсалютна на гэта не згаджаюся, бо гэта вельмі характэрная частка мае тагачаснае творчасьці, калі можна так сказаць, «дзіця Гарэцкага», бо ён якраз заахвоціў мяне да зацікаўленьня народнай творчасьцяй. Гэта ж рабіў у вапошнія гады жыцьця й М. Багдановіч. Разьдзел гэты я, праўда, ад таго часу шмат перарабіла й перарэдагавала, на чым ён, безумоўна, шмат выйграў, і я хачу, каб усё гэта было ў зборніку. Так што выясьніце гэтую справу. У нас асабліва нічога няма цікавага. Нуда й туга страшэнныя. Апошні год Влодак неяк зусім перастаў трымаць сувязь із сваймі даўнейшымі сябрамі, як Чарняўскія ды інш. Майсеевы выехалі, так што мы зусім адны. Каб не суседзі — Вася з Наташай, дык не было б да каго слова прамовіць. Проста часам роспач бярэ. Вялікай разрыўкай таму былі 3-х тыднёвыя мае з Натачкай вакацыі ў Канадзе. Каб ня гэта, было б яшчэ горш. Мы былі ў вельмі прыгожай дзікай мясцовасьці, над вялікай ракой, у лясох. А тут у нас сёлета ад самага Лэйбар Дэй*[508] *— холад і дажджы. Зусім не было прыгожай восені. Я вельмі перахварэла, прастудзілася, два тыдні не выходзіла з хаты, глытала асьпірын і Contac, але й цяпер яшчэ вельмі кашляю. Раней купляла ў аптэцы нейкі сыроп, дык ён за адзін дзень вылечваў мой кашаль, а цяпер яго не даюць без рэцэпту, а доктар не дае рэцэпту. Іншыя ж сыропы не памагаюць, дык вось і мучаюся. Як Ваша здароўе?*

*2.3.1977*

*Даражэнькая мая Янічка,*

*Толькі ўчора ўвечары вярнуліся дахаты. Знайшла паведамленьне пра адзначэньне ўгодкаў юбілею Стася Станкевіча. Сёньня ўжо 3-га, але спадзяюся, што пасьпею яго прывітаць. Таму шлю прывітаньне на Вашыя рукі з просьбай перадаць таму, хто будзе чытаць прывітаньні. Баюся, што да суботы ліст ня дойдзе, і Радыё будзе зачынена. Таму шлю Вам, а ня Янку. (Дзеці адразу схапілі канвэрт, і ня ведаю, на чые рукі слаць, а іх няма, Ната ў школе, а Пеця на працы, чакаць няма часу). Зараз бягу на пошту, хоць гэта й далёка, а надвор’е сьцюдзёнае, з марозам і заўсёдным сёлета паўночным ветрам, але Бог*

[508] *Labor Day* — сьвяткуецца ў першы панядзелак верасня.

*дасьць, не прастуджуся. Прывітаць Стася трэба ж абавязкова! Памінаючы ўсё, ён жа, бедалага, столькі нахварэўся й нацярпеўся!*

*У Флярыдзе ня надта пагрэесься, халадэча была й там, і толькі апошнія дні цешыліся сонцам і цяплом. Прывітаньні Вам ад Майсеевых. Больш нічога не пішу, бо бягу на пошту. Цалую моцна-моцна й чакаю весткі.*

*Вашая Н. А.*

*4.4.1977*

*Дарагая мая Янічка,*

*Сьпяшаюся адаслаць на Вашае імя перасланыя мне кагадзе Янкам «Зачараваны кут» і «Жоўтую восень». Што да першага, няма ніякіх засьцярогаў, а толькі колькі тэхнічных памылак і косак, якія трэба было б выправіць. Што да «Жоўтае восені» (праўда, не ўсяе, бо бракуе 12 вершаў, апошніх, і мо' якраз найлепшых), дык там некалькі вершаў ізноў перадрукаваныя кожны радок зь вялікае літары, а адзін верш нават — палова верша зь вялікай, а другая палова, ці правільней, канец, правільна (гэта верш «Родны край» ст. 48 і 49. Канец на ст. 50 правільны, я не адсылаю).*

*Усе старонкі, дзе ёсьць папраўкі, адсылаю назад. Гэтаксама, на ўсялякі выпадак, пасылаю тыя апошнія вершы з «Жоўтае восені». Відаць, сп. Адамовіч яшчэ не пасьпеў іх перагледзець. Іх усяго 14, але два можна выкінуць, дык пасылаю 12. Бо а ну ж згубіліся?*

*Усё дасланае, пасьля папраўкі, адразу ж, калі ласка, перадайце др. Тумашу. Бо папраўляць ужо набранае вельмі цяжка. Далей папраўляць сп. Адамовічу будзе ўсё лягчэй, бо ўсё гэта ўжо некалі друкавалася, і ён усё гэта бачыў, як «Сягоньня», «Не астыць нам» ды ўсё пазьнейшае. Таму — справа, можа, пойдзе хутчэй. А я, ведаеце, ужо нeяк зусім астыла й зрабілася абыякавай да «Між берагамі». Столькі з гэтым зборнікам ужо было прыкрасьцей і хваляваньняў, што зрабілася ўсё роўна, выйдзе ці не, добра ці не... Можа, гэта толькі часова, і калі кніга ўсё ж насуперак усяму выйдзе — я буду цешыцца. Але пакуль што — настрой маларадасны.*

*Янічка, чаму Вы нічога ня пішаце? Маё жыцьцё даволі цяжкое. Вядома — галоўная прычына — наш Пеця. Ён, як знайшоў*

*псыхіятар — эмацыянальна адсталы й over exited*[509]*, а інтэлігенцыя ў яго вышэй нармальнай. Прыкладам, ён будзе гадзінамі ганяць па вуліцы зь дзецьмі на 5–6 год маладзейшых за сябе, а з аднагодкамі не даваць сабе рады. У клясе, дзе шмат вучняў, ня можа трымаць увагу, ня можа сядзець спакойна, наагул, ня можа вучыцца нармальна. Так што за парадай псыхіятара Board of Education вырашыў даць яму настаўнікаў, якія вучаць яго па-за клясай. Ён езьдзіць да іх штодня на 2 гадзіны, перайшоў летась у 10-ю клясу й цяпер праходзіць курс гэтае клясы, і ёсьць надзея, што пяройдзе добра ў 11-ую клясу. Але што будзе далей — невядома, бо калі яму будзе 16 год, дык ён можа кінуць навуку й Board of Education ня мае ўжо ніякага абавязку старацца яму настаўнікаў. Або ідзі нармальна ў школу, у 11-ую клясу, або кідай — твая добрая воля. Можа, удасцца накіраваць яго па тэхнічнай лініі, бо ў яго вялікія здольнасьці да матораў і мэханізмаў. Нічога не чытае, апрача навуковых і тэхнічных журналаў. Направіць абы-які матор, гадзіньнік, правіць касілкі й г. д. Бярэцца нават за электроніку.*

*Цалую Вас моцна й чакаю ліста.*

*9.2.1978*

*Даражэнькая мая Янічка, вельмі цешуся, што пераклад Данчыку «падышоў»*[510]*, скажэце, каб і надалей лічыў на мяне ў гэтых справах. Адначасна зь лістом да Вас шлю ліст Тумашу ў справе кніжкі й Адамовіча. Прашу, каб, калі Адамовіч ня дасьць артыкул неўзабаве, дык кніжку выпусьціць без даўгога артыкулу, а з кароткім уступам, які б я хацела, каб ён, Тумаш, напісаў. А каб Адамовіч не «пагневаўся», сказаць, што ягоны артыкул будзе надрукаваны асобна, скажам, у «Запісах», пасьля, а найлепш адначасна із выхадам кнігі. Мне здаецца, што гэта нават ці не было б лепш. Я паслала гэты ліст Тумашу на ягоны адрас, дык пры нагодзе спытайце, ці атрымаў, бо была б вялікая шкада, каб ён загінуў і не дайшоў да ягоных рук, бо я там шмат пішу й аб перакладзе «Зубра»*[511]*. Пад канец наступнага тыдня (17-га) выбіраемся ў Флярыду на 2 тыдні. Молімся,*

[509] *Over excited* (анг.) — звышузбуджаны.

[510] Наталля Арсеннева перакладала для Данчыка песні з англійскай мовы на беларускую.

[511] Маецца на ўвазе «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага.

*каб ізноў не засыпала нас сьнегам. У нас на вуліцы абапал гурбы ў 2 росты чалавека. Няма куды яго дзяваць. Жах! Цалую.*

*8.2.1983*

*Даражэнькая Янічка! Даўно зьбіралася Вам напісаць, і ўсё неяк не магла сабрацца. Жыву я літаральна з дню-на-дзень, чакаю вось-вось нечага благога, а гэта не дае анічога канкрэтнага рабіць, ані нармальна аб нечым думаць. Праўда, два тыдні, праведзеныя ў Флярыдзе, у нармальным, спакойным настроі, вельмі дапамаглі мне крыху прыйсьці да нормы, але, вярнуўшыся, яшчэ больш адчула ненармальнасьць нашага тут жыцьця. І вось, ня ведаю, як надоўга, але палажэньне крыху зьмянілася: пасьля блізу двух год Peter наш пайшоў на працу: два яго былыя калегі па працы ў мэханічнай майстэрні сабралі грошы, купілі свой гараж-майстэрню і ўзялі нашага Peter'а. Вось ужо другі тыдзень ён там працуе, а мы тут свабодна ўздыхнулі. Увесь дзень яго няма ў хаце, а ўвечары ў хаце й Влодак, а пры ім Peter усё ж неяк трымаецца, дык мы з Натачкай уздыхнулі свабадней, ды й аб нашых катох і сабаку можна сказаць тое самае. Я ўжо нават адважылася паехаць на 3 дні ў Канаду, бо 12-га лютага Вінцуку будзе 80 год, і Раіса вельмі просіць пастарацца прыехаць, хоча адсьвяткаваць па магчымасьці ўрачыста, тым балей, што Вінцукова здароўе не асабліва апошнім часам, а я ж адзіны тутка чалавек, зь якім мы ўжо разам працавалі ў дні нашага юнацтва, адзіны мой з тых далёкіх часоў сябра. Па-за гэтым усё ў нас больш-менш у парадку, рука мая ў парадку таксама, але балець (у плячы) відаць, ужо не перастане, дык крыху пабойваюся, як я дам рады з валізкай, хай і маленькай: цяпер, каб да іх дабрацца, трэба зрабіць ажно дзьве перасядкі! Ну, але неяк будзе, я ж і так увесь гэты год была, як у турме, нідзе й нікуды! Даражэнькая Янічка, я выслала А. Міцкевічу ўпаўнаважаньне на Вашае імя на сход БАЗА, думаю, што прымаючы на ўвагу Вашыя гады, ніякія выбары Вас на ніякую функцыю Вам не пагражаюць. І яшчэ адно: я ўжо маю ў канвэрце ўспаміны сп-ні Дубейкаўскай. Добра, што я не выкінула ўжо перадрукаваную мною папраўленую палову ўспамінаў, якую, як Вы пішаце, Кіпель ня можа знайсьці. Праўда, у папраўках вельмі цяжка разабрацца, але, можа, неяк дасца рады. Дык вось, на які дакладна адрас перасылаць, бо калі цяпер прападуць, дык ужо не паправіць.*

*Як сп. Паланевіч? Ведама, гэта ўжо не паправіш, а ўсё ж шкада. Цалую моцна, пішэце. Вашая Н. А.*

*1.6.1983*

*Даражэнькая Янічка, вельмі даўно Вам не пісала, хварэла (не кладучыся ў ложак) увесь гэты час, бо ў сувязі зь небывала халоднай сёлетняй вясной абвастрыўся мой хранічны бранхіт, і я вельмі дрэнна чулася, ды й цяпер яшчэ не «прыйшла да сябе», як гавораць, бо халады й дажджы ў нас не спыняюцца. Дзякуй Богу яшчэ, што Peter наш працуе, і хоць сам ён не палепшаў, але прынамсі ўвесь дзень на працы, і ў хаце можна тое-гэта рабіць. Янічка, я не паслала Запрудніку «Ўспаміны», бо пачала іх нанова месцамі апрацоўваць, няма з кім параіцца ў справе некаторых месцаў. Там гэтак усё паперачырканае цяпер, што ніхто апрача мяне не разьбярэцца, а перабіць на машынцы я не магу. Выйшаўшы крыху із стану чорнае дэпрэсіі ў сувязі з хатнімі ўмовамі, прабавала брацца за машынку, але не магу, не дае зламанае плячо, а хто іншы апрача мяне ў папраўках ніяк не разьбярэцца. Я пані Юліяну вельмі любіла й не хацела б нізавошта, каб праз мяне пацярпелі яе шчырыя ўспаміны. Застаецца дыктаваць. І вось тут «усе шляхі», як кажуць, сыходзяцца на Вас! Прыедзьце й дапамажэце мне ў гэтай справе! Вы ж усюды езьдзіце, а Рочэстар усяго ў два разы далей, чым Юльчына сяліба ў гарах. І дарога простая. Сп. Шукелойць ці Юлька пасадзяць Вас на «бас» у Нью-Ёрку, а мы з Натачкай Вас тут забярэм са станцыі. Янічка, мне ж ужо ў верасьні будзе 80 год! Здароўе горшае, вочы слабеюць, мне цяжка рабіць тое, што было лёгка яшчэ колькі год таму, усё можа здарыцца, а не хацелася б пакінуць няскончаным тое, за што ўзялася! Дык падумайце й прыяжджайце абавязкова. І Кінуся, і Юлька маюць Вас заўсёды, а я адна, мне ніхто не дапамагае. Калі ў Вас няма грошы на «бас», пагаварыце з Запруднікам ці з Кіпелем, можа, аплаціў бы білет БІНІМ, гэта ж бы пайшло ў кошт выданьня «Ўспамінаў». Заплаціла б з прыемнасьцяй я сама, але мне цяпер, калі Натачка вырасла, вельмі цяжка матэрыяльна, ня хочам Влодку ўвесь час дакучаць з грашыма, ён аплачвае каледж, дык апранаю яе й даю ёй на дробныя выдаткі я. Яна добрая дзяўчына й не цураецца ніякае працы, дзе толькі надарыцца, косіць траву, носіць цяжкія рэчы й г. д., каб толькі зарабіць сабе лішні даляр. Так што мне нялёгка, але неяк скамбінавала б, калі інакш ня можна было б.*

*Янічка, прыяжджайце! Умовы ў нас добрыя, а можа, сёлета будуць і грыбы, вясна надта мокрая. Найлепшы час быў бы, пачынаючы ад 20 чырвеня, у Натачкі курс якраз канчаецца, і яна будзе мець два тыдні перапынку. Ды й пагода нарэшце ж павінна папарвіцца. Я б была шчасьлівая, каб Вы пабылі са мной хоць да восені, але перабіваньне «Ўспамінаў» зойме ня больш дзён 10-ёх. Гэта ўсё залежыць ад Вашай добрай волі. Да таго ж хочацца Вас яшчэ пабачыць у жыцьці. Прыедзьце! Вашая Н. А.*

*2.10.1985*

*Даражэнькая Янічка, дзякую за павіншаваньне й памяць. Каб ня Натачка, я й сама б забылася аб дні маіх 82-х народзінаў, але яна памятае дату 20-га верасьня й ніколі яшчэ не забылася. Сёлета мы гэты дзень ніяк не сьвяткавалі, прайшоў ціха й спакойна, як, дзякуй Богу, і бальшыня іншых маіх дзён цяпер, калі няма Peter'а, які ўносіў у нашае жыцьцё не заўсёды пажаданую «разнастайнасьць». У хаце ён быў немагчымы й шмат спрычыніў шкоды, нішчачы, што трапіла яму пад руку, а цяпер, калі перайшоў на собскае ўтрыманьне й гаспадарку, жыве, як чалавек, шмат працуе, дбае пра сваю хату, усё, што трэба, рамантаваў, перамаляваў і акуратна сплочвае morgadge[512] (500 дал. у месяц) за дом, кажа, што гэта яму зусім ня цяжка.*

*Влодак таксама ўжо зусім ачуняў пасьля апэрацыі, езьдзіць на працу й зьбіраецца як штогод ехаць на Каляды ў Флярыду машынай.*

*Тыдзень таму пазваніла мне з Флярыды Кунцэвічыха й сказала, што Кунцэвіч памёр. Калі я пачала пытацца, як гэта сталася й калі, тэлефон раптам перарваўся й больш не працаваў. Тады я пазваніла ў Флярыду Майсеевым. Яны зьдзівіліся, бо нічога аб гэтым нават ня чулі. На другі дзень Майсееў наважыў сам да Кунцэвічаў пад'ехаць, каб даведацца, што сталася. Кунцэвічыха падцьвердзіла, што «Мікола памёр, бо зашмат курыў». І памёр ён ужо тыдзень таму, і яго ўжо нават спалілі ў крэматорыі. Яна павяла Майсеева ў пакой, дзе ён спаў, і паказала зусім пустую шафу й камод, сказала, што ўсё ягонае «барахло» параздавала й выкінула, і цяпер яна зь Ірай (дачкой) раяцца з адвакатам, бо ён (Кунцэвіч) хоць казаў ім, што напісаў тэстамэнт, але ў адваката нічога не пакінуў*

---

512 *Mortgage* (анг.) — іпатэчны крэдыт.

*й цяпер галоўны іхны клопат аб спадчыне, бо Кунцэвіч быццам меў грошы. «Пахавалі горш, як сабаку, — пісаў Майсееў, — безь сьвятара, без царквы, нікога не паведаміўшы. Горш, як сабаку», — абураўся Майсееў. Мне здаецца, што варта было б даць у «Беларуса» паведамленьне аб ягонай сьмерці[513]. Зрабіла б гэта сама, але ня маю аніякіх дадзеных, ані дзе нарадзіўся, ані дакладна калі. Ня маю адраса ягонае сястры («Нікаёнчыхі») Іры. Можа, хто ў Нью-Ёрку што пра яго ведае? Аб ім мусіць ведаць наш біскуп з Чыкага, ён быў суседам Кунцэвічавай сям'і й сам адвозіў Кунцэвіча ў Вільню ў Беларускую гімназію й апекаваўся ім, калі ён там вучыўся. Кунцэвіч вучыўся, здаецца, у адной клясе з др. Тумашам. Кунцэвіч быў сябрам Рады БНР, і паведаміць аб ягонай сьмерці трэба было б. На гэтым канчаю й яшчэ раз моцна Вас цалую. Н. А.*

*1.11.1985*

*Даражэнькая Янічка, учора атрымала ліст з Флярыды, і таму, што ён супярэчыць таму, што мы ведалі ў сувязі із сьмерцяй с. п. Кунцэвіча, перасылаю яго Вам. Пакажэце яго Ніхаёнчысе[514]. Калі мы былі ў Кунцэвічаў улетку (у ліпені), дык бачылі й ягоны пакой, там быў вялікі ложак, пісьменны стол, полка з кнігамі й газэтамі, але аніякага мноства журналаў, каб цэлы дзень іх прыбіраць, мы ня бачылі. Таксама вельмі падазронная вэрсія з крэмацыяй. То ён быў спалены, і попел адасланы Кунцэвічавай сястры, то ён, г. зн. нябожчык, ляжыць замарожаны?! Наагул, вельмі цёмная справа, і ад яе (Марыі) усяго можна спадзявацца. Таму й зь лістом, што я Вам перасылаю, будзьце асьцярожны, каб не было ні мне, ні Вам прыкрасьцяў. «Успаміны» пастараюся Вам пераслаць як найхутчэй, частка іх папраўлена, частка не, а яшчэ частка ўжо й перабітая (вельмі дрэнна, праўда) на машынцы. У нас ужо быў два разы даволі вялікі мароз, і ўсё ў садку пачарнела, але наагул надвор'е сонечнае й прыемнае. Грыбоў у мінулым месяцы крыху было. Пішэце часьцей. Вашыя лісты ды «Беларус» — гэта адзіная мая сувязь з усімі вамі. Цалую. Вашая Н. А.*

---

[513] Сьв. памяці Мікола Кунцэвіч (2.01.1907 — 28.09.1985, Флярыда) // Беларус. № 328. Студзень–сакавік 1986. С. 7.

[514] Маецца на ўвазе Ірэна Макарэвіч, сястра Міколы Кунцэвіча і жонка Янкі Ніхаёнка.

*26 октября 1985 г.*

*Дорогая Наталья Алексеевна,*

*Ваше письмо мы получили, спасибо. Сейчас хочу Вам написать всё то, что мы знаем о смерти Кунцевича. О его смерти мы узнали от Вас из Rochester'а. На следующий день я весь день звонил Марии, но к телефону никто не подходил. На другой день утром я поехал к ней. Дверь открыла мне Ира, довольно таки смущённая, а за ней стояла Мария, которая сказала мне, что Микола умер, его кремировали, и пепел она отослала его сестре, где и будет отпевание его. Сразу же Мария начала мне говорить, что покой Миколы был безнравственен, и вот она с Ириной уже второй день чистят его комнату, которая буквально заполнена порнографическими журналами. Всё это они выбрасывают вон. Я её спросил — почему она нам ничего не позвонила? На это она ответила, что телефон был испорчен. Однако когда звонила Вам и ещё кому-то, то телефон работал. Так ли это или нет, не могу утверждать. Знаю только, что ни Богданович, ни Позняк*[515]*, ни мы ничего не знали о его смерти. Приблизительно через 2 недели Мария позвонила нам и пригласила нас в ресторан, почтить память умершего Миколы. Кроме нас был и Позняк. Теперь приблизительно через неделю после того, как были в ресторане, она позвонила нам и в разговоре с Наташей сказала, что Микола ещё где-то лежит замороженный, а ведь когда я был у неё, то она сказала, что его сожгли и пепел отправили его сестре. А выходит, что он где-то ещё заморожен. Какова его судьба в будущем, она не знает, да пожалуй, и знать не хочет.*

*Всё это как-то странно, а какова его судьба, мы не знаем. Интересно, какие сведения у Вас и что белоруссы предприняли с его похоронами.*

*[...]*

*Всем, всем привет, а Вас, Тату, Владека и Петю целуем.*

*Наташа и???*

*3.2.1986*

*Даражэнькая Янічка,*

*Даўно ўжо ня мела ад Вас весткі. Мы вярнуліся з Флярыды 13-га студзеня й адразу, як кажуць, «с корабля на бал»,*

---

[515] Маецца на ўвазе Язэп Пазняк (Вайніловіч).

*бо нашы суседзі Кашубіны сьвяткавалі Васіны Імяніны й Дзень народзінаў (1-га студзеня па старым стылі). Хоць стомленыя даўгой дарогай, ледзь пасьпеўшы збольшага пераапрануцца, адразу пайшлі віншаваць імяніньніка, бо ўсе госьці ўжо былі сабраўшыся й нецярпліва чакалі запросінаў сядаць за стол. Дахаты вярнуліся а гадз. 11-ай. Распакоўваліся на наступны дзень. У Флярыдзе селёта ані дня не пагрэліся. Першы раз за ўсе гэтыя гады амаль ня бачылі сонца. Я з Натачкай адразу прастудзіліся й захварэлі, на Куцьцю Натачка ледзь устала, каб сесьці за стол, і наагул усе Каляды прахварэла. Ані разу сёлета ня выйшлі на вуліцу бяз курткі, а што да пляжу й акіяну — і гутаркі быць не магло: тэмпэратура вады была 59–60º, сонца было за хмарамі, і дзьмуў нейкі прыкры паўночны вецер. Сядзелі ў хаце праз усе сьвяты й слухалі канцэртаў, бо Влодак купіў ім як Калядны падарак апарат, які падлучаецца да тэлевізара й можна слухаць і бачыць на video касэтах найграныя ў найлепшых опэрах сьвету рэчы, як La Scala й іншыя. А ўвечары рэзаліся ў покер, і я акуратна штовечар прайгравала то 70–80 цэнтаў, то даляра, а пару разоў нат больш. Дарма што жахлівае надвор’е й прастуда, час мінуў досыць хутка. Ніколі не здагадаецеся, каго я тут сустрэла — Цэлешыху! Тут у Флярыдзе жывуць ейныя абедзьве дачкі. Старэйшая, Слаўка, што была замужам за нейкім арабам, што працаваў у публічнай бібліятэцы, і малодшая, Данка. Яны замужам. Слаўка са сваім арабам разьвялася, і ён выехаў у Паўдзённую Амэрыку. Цэлешыха таксама ажанілася зь нейкім немцам, а што з Цэлешам, ніхто ня ведае. Ён доўга быў у Нью-Ёрку ў шпіталі, а тады паехаў наведаць дачок у Флярыду й… загінуў. Шукалі яго з паліцыяй, знайшлі апошні сьлед недзе за Пэнсыльваніяй у матэлі. Ён там начаваў, а раніцой паехаў далей і нікуды не прыехаў. Так яго няма й дагэтуль. Паліцыя казала, што ў тым раёне былі выпадкі нападу нэграў на падарожных. Месцы там глухія, горы. А як было сапраўды, немаведама. Цэлешыха жыве са сваім барадатым немцам (кажа, што муж) у штаце Tennesee[516], купілі фарму, але не абрабляюць, маюць вялікі гарод, садзяць бульбу, колькі ім трэба, маюць курэй, зьбіраюць ягады й грыбы, наагул, вельмі задаволеныя, грошы, хай невялікія, але маюць, абодва на пэнсіі. Апошні раз я бачыла яе год 20 ці больш таму, але адразу яе*

[516] ШтатТэнэсі.

*пазнала. Кунцэвічыха мне званіла, калі мы прыехалі ў Флярыду, усё тлумачылася, як усё сталася, хвалілася, што ўсю мэблю павыкідала й купіла ўсё новае, але я адказвала ёй на ўсё адно «так» ці «не», і яна неўзабаве павесіла трубку. Больш ні яна мне, ні я ёй не званіла. Ірэне напісала ліст, адначасна складаючы ёй спачуваньні з нагоды сьмерці Ніхаёнка[517]. Вось ужо бяда! На працягу аднаго месяцу пахавала, бедная, двух сваіх найбліжэйшых тут людзей. Але што ж, ня мы кіруем сваім лёсам, дык «трэба жыць, як набяжыць». У нас усё ў парадку. Зіма сёлетняя нейкая вельмі непрыемная, што колькі дзён з Натачкай нанова прастуджаемся. Нябожчыца Градэ[518] пакінула Колю, Peter'у й Наце па пару тысячаў даляраў. Ната адразу купіла сабе машыну, вядома, ня новую, бо ейная старая ўжо зусім разваліласяся. Тут без машыны немагчыма. Пішэце. Цалую моцна.*

*18.6.1987*

*Даражэнькая мая Янічка, віншую Вас з Днём Вашых Імянінаў і моцна цалую. Спадзяюся, што Вы правядзецё яго ў гарах, у сваёй сямейцы, у радасьці й супакоі. У мяне гэтага якраз няма, жывецца невясёла. Працую нялёгка ў хаце, дарма што рука ўсё яшчэ моцна баліць і ня надта слухаецца. Але гэта ўсё нічога, шмат горшыя маральныя перажываньні. Ніхто нічога ня піша, чырканіце хоць Вы, што ў Вас чуваць. Чуюся вельмі самотна.*

*3.11.1989*

*Даражэнькая мая Янічка, ліст Ваш атрымала. Цешуся з кажнае вестачкі ад Вас, бо Вы, фактычна, адзіны мой лучнік з маім нью-ёркскім мінулым. Апошнім часам, праўда, мая карэспандэнцыя крыху ажывілася, бо з Польшчы й БССР пачала я атрымліваць шмат лістоў, часта з просьбамі прыслаць ім*

---

[517] Маецца на ўвазе **Янка Ніхаёнак** (06.03.1920, Вермонт, ЗША — 04.01.1986, Нью-Ёрк, ЗША) грамадскі дзеяч, сябра БАЗА. Жыў у в. Лебедзева Маладзечанскага пав. У часы нямецкай акупацыі настаўнічаў. Ад 1944 г. на эміграцыі ў Францыі. Адзін з першых прыбыў у ЗША і стаў адным з арганізатараў беларускага жыцця ў ЗША. Выдаваў часопісы «Беларус у Амерыцы», «Віці», дапамагаў у выданні першых нумароў газеты «Беларус».

[518] Надзея Градэ-Куліковіч памерла ў 1984 г.

*маю кнігу або й проста з прывітаньнямі. На жаль, кнігі ўсім, хто просіць, я прыслаць не магу, бо хоць Кіпель прыслаў мне колькі экзэмпляраў «для людзей», але перасылка, прыкладам, у Менск каштуе адсюль каля 15 даляраў, а ў мяне, як вы ведаеце, з грашыма дрэнна, бо апрача мае пэнсіі я ж ніякіх «даходаў» ня маю, а тут яшчэ Натачка захварэла была, не працавала, і я аплачвала візыты да «кастаправа». Цяпер, дзякуй Богу, ён ёй вельмі дапамог, і яна ўжо ізноў працуе, але яшчэ ня поўны дзень. Вельмі прыемна, што мае вершы маюць за мяжой шмат чытачоў, і кніга туды даходзіць. Нядаўна адна маладая паэтка зь Менску мне, прыкладам, пісала, што «мела шчасьце прачытаць «Між берагамі». «Добрыя людцы» далі пачытаць», — піша яна, бо кніжка, відаць, ходзіць там, як кажуць, «па руках». Што цікава, цяпер, калі я дакладна яе перачытваю, вершы здаюцца мне ўжо быццам не мае, а нечыя чужыя, і што яшчэ дзіўней — здаюцца мне вельмі добрымі, некаторыя проста, як кажуць, «хапаюць за сэрца». Ну, але не падумайце, што я хвалю сябе, адно проста, можа, лепш разумею тое, што некалі напісала машынальна, ня думаючы. У нас жыцьцё ідзе, дзякуй Богу, ужо спакойна й аднастайна. Грыбоў не было, але ў паркі з Натачкай езьдзім, калі яна мае вольныя дні, бо знайшлі новую мэту: «прагульваць сабак». Хадзіць я магу яшчэ добра, і хоць ногі часам крыху пабальваюць, я на гэта стараюся не зьвяртаць увагі, да дактароў не хаджу, а калі трэба, Натачка мяне лечыць астаткамі сваіх лекаў, ці нават тых, што вэтэрынар прапісвае нашым сабакам. Вельмі добра памагае. Ната мае кнігу — энцыкляпэдыю лекаў, што ўжываюцца ў ЗША, і дакладна спраўджвае, які лек і разам зь якім можна прымаць без шкоды для здароўя. Гэтак і жывем. Цалую, пішэце.*

*12.4.1990*

*Даражэнькая мая Янічка, Хрыстос Уваскрос! Моцна, моцна Вас цалую, як тут прынята на Вялікдзень — «троекратно». У штодзённых клопатах Вялікдзень прайшоў зусім непрыкметна, толькі цяпер, калі ўжо надышоў апошні тыдзень, бяруся за зьвязаныя са Сьвятам справы. Бо, чакаючы на вынікі дасьледаваньняў на хваробы Натачкі, рукі да нічога не ўздымаліся. Дзякуй Богу, усё выглядае ня гэтак паважна, як дактары думалі, апэрацыя не патрэбная, будуць прабаваць лячыць іншымі спосабамі, адно, што яе сьпіну вылячыць не-*

*магчыма, яна ўжо ўсё жыцьцё будзе адчуваць яе час ад часу. А што да мяне, чуюся нішто сабе, глытаю пігулкі для ачышчэньня лёгкіх і іншыя ад маёй шчытавіднай залозы, у маі (5-га) ісьці ізноў да лекара. Ён паглядзіць, ці меншая мая залоза, а калі не, дасьць мацнейшае лякарства (я падазраю, што яно нейкае радыёактыўнае). Так што гэткія нашыя справы. А тут яшчэ вясна сёлета ў нас жахлівая! Холад, дождж дзень у дзень, нічога яшчэ не цьвіце, ні адзін кусьцік яшчэ ня думае зелянець. Гэта плюс цяганіна па лекарох добраму настрою не дапамагаюць, ну але што ж, трэба жыць, як набяжыць! Цікава, што за хвароба ў Адамовіча? Калі будзеце яго бачыць, перадайце ад мяне шчырае прывітаньне. Поўвеку таму (49 год) у Менску мы, можна сказаць, зь ім сябравалі. Хоць былі гэта жахлівыя часы, але ўспамінаю я іх, нашую рэдакцыю, сяброў — із запраўднай цеплынёй. Думаю, што й ён не ўспамінае іх горш. А добрыя ўспаміны — гэта ж найважнейшае. Ці бачылі Вы ўжо выдаваны Прускім часапіс[519]? Гэты раз нумар прысьвечаны мне. Вершы на яго просьбу падабрала я. На жаль, толькі менш паловы зь іх ён даў у часапісе. І што цікавае — я прачытала іх як зусім чужыя, не мае, і яны мне спадабаліся. Поўвеку пасьля напісаньня яны мне цяпер неяк бліжэй да сэрца, чымсьці калі я іх толькі пісала, як быццам не я, а нехта зусім іншы ўсё гэта перажываў і адчуваў. І што таксама цікава, чытаючы, я ясна ўспамінала (асабліва ў разьдзеле «Сягоньня»), калі й чаму я той ці іншы напісала, магла б і сяньня, прыкладам, сказаць, што верш «лакам рожавым апырскаў неба вечар, я ж іду у даль з паніклай галавой. Трэба воўчае, дапраўды, меці сэрца, каб бясклопатна піць сяньня хараство...»[520] я склала, ідучы да хаты, памятаю, бо мне балела тады сэрца, таму што палілі вёскі. Трэба было б узяць кніжку й прыпомніць, калі й чаму я той ці іншы верш напісала. Спрабую пасьля Вялікадня, а цяпер няма часу, трэба прыбіраць, пячы, смажыць, як заўсёды перад Сьвятамі, бо я ж адна, Влодак і Натачка працуюць, позна прыходзяць, я ж у хаце адна з нашымі сабакамі Бэнам і Літай (Элітай). На жаль, ані пячы, ані смажыць, ані нават прыбіраць яны ня ўмеюць,*

[519] Маецца на ўвазе часопіс «Беларускі свет», што выходзіў у 1963–1991 гг.
[520] Верш «Хараство».

*добра яшчэ, што клопатаў зь імі няма, трымаюцца добра й спакойна. Цалую Вас і ўсіх Вашых. Н. А.*

*[красавік 1992]*

*Даражэнькая, ліст [ад] Вас атрымала, як і ліст ад сп. Краўчанкі, што быў у ім. Вельмі ён мілы й нейкі гэткі свойскі чалавек, здаецца, што ведаю яго даўно-даўно, а на справе «праседжвалі» мы зь ім Бартулёву*[521] *канапу ўсяго два ці тры дні. Хацелася б сустрэцца яшчэ раз. Кніжку, што ён праз Вас перадаў, я падпішу й адашлю Вам, каб Вы перадалі ізноў яму, бо я экзэмпляр «Сягоньня» маю, езьдзіў ён са мною па сьвеце, дзе я, там і ён, бо ж, хоць крытыкі аб гэтым нідзе не прыгадалі, — у ім усё маё сэрца і ўся мая душа, як яны былі ў тыя жахлівыя часы.*

*Хоць чуюся неяк ня надта добра (зноў прастудзілася), бяруся за перадсьвяточную працу. Хрыстос Уваскрос! Моцна ўсе мы Вас цалуем і зычым вясёлых сьвятаў.*

*Я вельмі добра адчуваю Вашу тугу па Данчыку, колькі ж раз я сама аплаквала разьвітаньне з тымі, каго любіла, і як цешылася й дзякавала Богу, калі сустракала іх ізноў. Будзем жа спадзявацца на ўсё новыя й новыя сустрэчы.*

---

[521] **Франціш Бартуль** (15.11.1918 в. Бярозкі (сёння Латвія) — 04.12.2005, Нью-Ёрк, ЗША). У 1937 г. скончыў сярэднюю школу ў Дзвінску (Даўгаўпілс). У 1940 г. мабілізаваны ў Чырвоную Армію, трапіў у нямецкі палон і апынуўся ў Штэтыне (Шчэцін, Польшча). Дзякуючы веданню нямецкай мовы быў прызначаны перакладчыкам і адпушчаны на адпачынак у Дзвінск, адкуль назад не вярнуўся. У 1943 г. скончыў Віленскую беларускую настаўніцкую семінарыю. Вучыўся ў Мінскай афіцэрскай школе БКА (1944). З ліпеня 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку знаходзіўся ў Кёнігсбергу, працаваў у Камітэце самапомачы. У 1944–1945 гг. вучыўся на філасофскім факультэце Мюнхенскага каталіцкага ўніверсітэта, пазней — на філасофскім факультэце Грыгарыянскага ўніверсітэта ў Рыме. Адтуль у 1946 г. перабраўся ў Вялікабрытанію, атрымаў спецыяльнасьць тэхніка-дантыста. Быў сябрам ЗБВБ, а ў 1949 г. быў абраны старшынём арганізацыі. Адзін са стваральнікаў Беларускага хрысціянскага акадэмічнага аб'яднання «Жыццё» і Беларускага акадэміцкага каталіцкага аб'яднання «Рунь». У 1956 г. разам з жонкай Верай Касцюкевіч выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, дзе меў дантыстычную майстэрню. Стаў актыўным удзельнікам беларускага жыцця. Уваходзіў у кіраўніцтва БАЗА і яго нью-ёркскага аддзела. Сябра рэдкалегіі газеты «Беларус», ад 1982 г. старшыня Рады дырэктароў Фундацыі імя П. Крэчэўскага, радны БНР.



# ПРА ДЗЕЙНАСЦЬ КАМІСІІ… І НЕ ТОЛЬКІ: МАТЭРЫЯЛЫ «КАМІТЭТА ПА ПЕРАКЛАДУ БІБЛІІ Ў БЕЛАРУСКУЮ МОВУ» (1946–1950 ГГ.)

Лагеры *DP* увойдуць у гісторыю Беларусі не толькі фатальным, пагібельным расколам эміграцыі, але і бадай неверагодным — як на тыя ўмовы жыцця — усплёскам стваральнай дзейнасці.

І усё ж нават на фоне той выдавецкай, тэатральнай, адукацыйнай, скаўцкай, грамадскай працы вылучаецца ініцыятыва Камітэта па перакладу Біблії ў беларускую мову. Ягоная дзейнасць пакуль што не даследавана ды і наогул мала каму вядомая. Пра гісторыю Камітэта і людзей, далучаных да справы перакладу, у лістах, выдрукаваных ніжэй. Але не толькі.

Гэта паліфанічнае ліставанне паказвае зрэз жыцця дыпіўскае эліты, агучвае думкі, ідэі, што валодалі тады эмігрантамі, адбівае сапраўдную, непадфарбаваную карціну адносінаў паміж людзьмі. Магчыма, для чытача будзе неспадзеўкаю сітуацыя з беларусізацыяй царкоўных службаў і неадназначнае стаўленне шэрагу свядомых беларусаў да гэтага працэсу. Усё было не так проста, як гэта часам можна прачытаць у доследах па гісторыі эміграцыі, не гэтак адназначна. Ды і самі эмігранты далёка не ва ўсім мелі рацыю. І ўсё ж дамо і ім выказацца.

*Watenstedt, 10 ліпня 1946 г.*

*Да Брытанскага й Замежнага Біблійнага Таварыства ў Лёндане*[522].

[522] **Брытанскае і замежнае біблійнае таварыства** — хрысціянская пазаканфесійная арганізацыя, мэтай дзейнасці якой з’яўляецца пераклад Бібліі і асобных кніг Старога і Новага Запаветаў на мовы народаў свету, а таксама выданне і наступнае распаўсюджанне дадзенай літаратуры. Заснаваная ў 1804 г.

*Справа: Друк Сьвятога Пісьма ў беларускай мове.*

*У трох заходніх зонах Нямеччыны знаходзіцца сяньня каля 50000 выхаджэнцаў беларускай нацыянальнасьці whiteruthenian або whiterussian, «беларусы» — жыхары Беларусі, часьць якой была да гэтай вайны пад Польшчай, а часьць пад Саветамі; цяпер уся Беларусь уваходзіць у склад Савецкага Саюзу як трэцяя там па велічыні рэспубліка — Беларуская ССР). Усе яны пры сучасных палітычных суадносінах дамоў цяпер ня вернуцца.*

*Апрача гэтага ў іншых краінах заходняй Эўропы, перадусім у Італіі, Францыі й Скандынавіі, існуе дакладней яшчэ сёньня неазначаная шматтысячная беларуская эміграцыя.*

*Сярод гэтых людзей, якія знаходзяцца сяньня ў цяжкіх умовах матэрыяльных і асабліва маральных, адчуваецца вострая патрэба рэлігійнай літаратуры ў зразумелай і блізкай роднай мове, а перадусім патрэба кнігі Сьвятога Пісьма.*

*Гэтым зварочваюся зь ветлівым запытаньнем, ці Брытанскае й Замежнае Біблійнае Таварыства не магло б памагчы сваймі матэрыяльнымі засабамі выдаць у магчыма хуткім часе Біблію ў беларускай мове для гэтых выхаджэнцаў?*

*На выпадак магчымасьці такой помачы са стараны Брытанскага й Замежнага Біблійнага Таварыства для дакладнейшага зазнаямленьня з закранутай справай далучаю разам: 1. Кароткую зацемку аб гісторыі перакладаў Бібліі на беларускую мову; 2. Праект канкрэтнай выдавецкай справы.*

*З пашанай Вітаўт Тумаш*

*Кароткая зацемка аб гісторыі перакладаў Бібліі на беларускую мову*

*Першы вядомы рукапісны пераклад Бібліі на старую беларускую мову паўстаў у XV ст. Ён быў зроблены з гэбрайскай мовы для мэтаў сынагогальнай практыкі жыдоў, што жылі ў Беларусі.*

*Першы друкаваны пераклад быў выдадзены доктарам Францішкам Скарынаю з Полацка ў Празе Чэскай у 1517 г. была гэта трэцяя, пасьля нямецкай і чэскай, друкаваная Біблія ў жывой народнай мове. Пераклад гэты сёньня вялікая музэальная рэдкасьць. У Брытанскім музэі ў Лёндане мае быць найбольш (17) захаваных кнігаў Бібліі гэтага перакладу.*

*У сувязі зь беларускім нацыянальным адраджэньнем у XIX веку, пачынае тады ж паяўляцца й рэлігійная літаратура, пісаная ўжо новаю, сучаснаю беларускаю моваю. Але поўных тэкстаў Сьвятога Пісьма доўга яшчэ не паяўлялася.*

*Прычынаю гэтага было тое, што духавенства, ці то праваслаўнае (больш 70% беларусаў праваслаўнага веравызнаньня), ці то каталіцкае, у гэтую пару было ўжо амаль выключна чужое нацыянальна й адносілася варожа да ўсіх натугаў з боку народу вярнуць ізноў у сьвятыні й рэлігійны друк мову беларускую. Праваслаўнае духавенства было тады зь невялікімі выняткамі ў нас расейскае, а каталіцкае — польскае!*

*І вось таму дайшло ў нас да такога ненармальнага зьявішча, што хаця й існуе сёньня рэлігійная літаратура па-беларуску для праваслаўных беларусаў, то няма дагэтуль ніводнага выданьня цэлага Сьвятога Пісьма ці нават яго часткі. Пробам такога выданьня са стараны верных вышэйшае, чужое нацыянальна для народу праваслаўнае духавенства, заўсёды моцна працівілася. Толькі ад некалькі гадоў паявіліся свае першыя праваслаўныя япіскапы.*

*Падобна ёсьць і ў беларусаў-каталікоў. І тут да апошняй вайны быў выдадзены па-беларуску толькі Новы Запавет. Характэрна, што й гэтае выданьне, прыгатаванае беларускімі каталіцкімі сьвятарамі, магло выйсьці ў сьвет толькі пад націскам і пры помачы самога Рыму, а супроць апору каталіцкага польскага япіскапату ў Беларусі.*

*Нічога тады дзіўнага, што пры такім палажэньні асабліва прыхільна было спатканае беларускім грамадзянствам — роўна праваслаўным, як і каталіцкім — беларускае выданьне Новага Запавету й Псальмаў, выдадзенае ў 1931 г. у Гельсінгфорсе Брытанскім і Замежным Біблійным Таварыствам*[523]*. Гэтае выданьне, беззаганнае з боку беларускае мовы, было фактычна й першым выданьнем Сьвятога Пісьма ў новай беларускай мове. Яго паяўленьне прысьпяшала сабой і выданьне Новага Запавету, прыгатаванага беларускім каталіцкім духавенствам, якое выйшла некалькі гадоў пазьней*[524]*.*

[523] Новы Запавет Госпада нашага Ісуса Хрыста і Псальмы. Гельсінкфорс: Брытанскае і Замежнае Біблейскае Таварыства, 1931.

[524] Чатыры Эвангеліі і Апостальскія Дзеі. Вільня, 1939.

*Ды гэтыя абодва выданьні сяньня ўжо даўно разышліся. У часе вайны, калі ў Нямеччыну была прывезеная большая колькасьць беларусаў на прымусовыя працы, адчувалася тады асабліва моцная патрэба Сьвятога Пісьма па-беларуску. Дзеля гэтага ў 1942 г. разам з Панам дырэктарам Шмідтам, кіраўніком «Bund der Baptisten Gemeinden in Deutschland»*[525] *(Бэрлін) была заініцыяваная справа перадруку беларускага Новага Запавету з Гельсінкфорскага выданьня, без Псальмоў. Псальмы былі выпушчаныя з надзеяй на лягчэйшае атрыманьне дазволу на друк, бо да Старога Запавету нацыянал-сацыялістычны рэжым быў асабліва варожа настаўлены. Тыраж меўся быць 20000. Фінансаваць выданьне ўзяўся дырэктар Schmidt.*

*У ліпні 1942 г. была зложаная ў гэтай справе просьба на дазвол друку ў міністэрства прапаганды. Патрэба такога выданьня была на просьбе пацьверджаная й падтрыманая подпісам існуючых тады ў Нямеччыне беларускіх культурна-асьветных арганізацыяў. Ды нягледзячы на гэта, аж да канца вайны ні дазволу, ані нават адказу на просьбу не было атрымана. Кніжка дзеля гэтага й не паказалася.*

*У выніку сучаснай вайны на абшары трох заходніх зонаў Нямеччыны цяпер апынулася каля 50000 новай беларускай эміграцыі, якая пры сучасным палітычным палажэньні на Бацькаўшчыне дамоў ня вернецца. Падобная ж беларуская эміграцыя існуе таксама ў Італіі, Францыі, Скандынавіі й іншых краінах Заходняй Эўропы, разам зь Нямеччынай ня меней як 100000. Эміграцыя гэтая ў Нямеччыне знаходзіцца пераважна па лягерох для ДП (Displaced Persons), часткова ў асобных беларускіх лягерох, часткова — рассыпаная па лягерох польскіх грамадзян і лягерох для безьдзяржаўных.*

*Адарванасьць ад Бацькаўшчыны й ад родных, няпэўнасьць у будучыні стварае асабліва прыгнятаючае, цяжкое маральнае палажэньне гэтай эміграцыі. Нічога дзіўнага, што ў гэтых варунках людзі шукаюць сабе пацехі перадусім у рэлігійнай літаратуры, у Сьвятым Пісьме. На жаль, літаратуры гэтай ёсьць вельмі мала, і зусім немагчыма дастаць Сьвятое Пісьмо ў зразумелай і блізкай сабе роднай мове. Вось стуль і паўстае неабходнасьць новага выданьня кнігаў Сьвятога Пісьма па-беларуску.*

---

[525] *Bund der Baptisten Gemeinden in Deutschland* (ням.) — Асацыяцыя баптысцкіх цэркваў у Нямеччыне.

*Ды патрэба гэтая не абмяжоўваецца толькі новай беларускай эміграцыяй. У многіх, перадусім пазаэўрапейскіх краінах, існуе яшчэ куды лічнейшая старая беларуская эміграцыя. Сканцэнтраваная яна галоўна ў Паўдзённай Амэрыцы (Аргентына, Бразылія, Парагвай і г. д.), дзе да гэтай вайны існавалі шматлікія арганізацыі беларускай эміграцыі. Існуе яна, хаця й ня так лічная колькасна, у USA і Канадзе. І там ёсьць свае арганізацыі, а радыё ў Чыкага падае сталыя рэлігійныя аўдыцыі па-беларуску для беларусаў-каталікоў.*

*Колькасна гэтая старая эміграцыя сяньня яшчэ дакладней ня ўнятая, але ходзіць тут не аб дзясяткі, а аб сотні тысяч. Вось і ўсім гэтым старым эмігрантам неабходна зрабіць даступнымі кнігі Сьвятога Пісьма, друкуючы іх у роднай ім беларускай мове.*

*Ці новавыдадзенае Сьвятое Пісьмо знайшло б эвэнтуальна й нейкі доступ да беларусаў на Бацькаўшчыне — гэтая справа пры сучасным там палітычным палажэньні ёсьць вельмі сумніўнаю.*

*<u>Праект канкрэтнай выдавецкай справы</u>*

*Прыступаючы да новага выданьня Сьвятога Пісьма па-беларуску для эмігрантаў, належала б трымацца такога выдавецкага пляну:*

*1. Безадкладна прыступіць да перавыдачы Гельсінгфорскага выданьня з 1931 г. Новага Запавету разам з Псальмамі.*

*2. Прыступіць да прыгатаўленьня да друку кніг Старога Запавету з мэтай пазьнейшага выданьня друкам поўнага тэксту Біблії.*

*Да 1:*

*Перадрук далося б зрабіць вельмі хутка, бо пераклад Гельсінгфорскага выданьня вельмі добры, памылкі й недагляды, якія трэба там выправіць, вельмі нялічныя. Усё залежала б толькі ад тэхнічных магчымасьцяў.*

*Ці такое выданьне будзе сяньня друкаваць у Нямеччыне, ці ў Англіі, ці ў якой-небудзь іншай краіне — гэта хіба найлепш будзе ведаць само Брытанскае й Замежнае Біблійнае Таварыства.*

*У заходніх зонах Нямеччыны існуюць друкарні, якія маюць шрыфт і якія маглі б узяцца за тэхнічнае выкананьне друку. Існуюць тут, аднак, тым часам і паважныя цяжкасьці з атры-*

*маньнем дазволу на друк ад вайсковых акупацыйных уладаў і на прыдзел паперы на гэтую мэту. Дазвол і паперу адносна лягчэй атрымаць у зоне амэрыканскай, чым у зоне ангельскай.*

*Калі ходзіць аб тыражу выданьня, дык калі думаць толькі аб патрэбах новай беларускай эміграцыі, што знаходзіцца цяпер у краінах Заходняй Эўропы, можна было б абмежавацца нейкімі 10000 экзэмпляраў. Калі ж браць на ўвагу й патрэбы эміграцыі старой, заакіянскай, дык такое выданьне належала б біць у колькасьці ня меншай як 20000.*

*Кошты выданьня ў меру магчымасьці трэба было б пакрыць Брытанскаму й Замежнаму Біблійнаму Таварыству, бо новая эміграцыя беларуская сёньня пакуль што без магчымасьці, бяз працы й бяз грошай. З нашай стараны можа быць дадзеная бясплатная праца над карэктай і наглядам за друкам.*

*Калі хутка прыступіць да друку, дык кніжкі яшчэ пасьпелі б трапіць у рукі патрабуючым тут, бо тым часам, нягледзячы ўжо на лета, аб далейшым пераезьдзе нічога ня чуваць і агульна тут лічыцца, што бальшыні нашых эмігрантаў зімаваць прыйдзецца яшчэ ў Эўропе. Калі б пры распачатай працы друку й пачаўся вываз на месцы сталай эміграцыі — бяда была б таксама невялікая, бо прыйшлося б толькі надрукаваныя кнігі пазьней скіраваць у месцы новага рассяленьня.*

*Да 2:*

*Прыгатова да друку тэксту Сьвятога Пісьма па-беларуску вымагае ўжо больш часу, бо па-беларуску ўсіх кнігаў Старога Запавету на сучасную беларускую мову няма, а старыя пераклады (з XVI ст.) не надаюцца дзеля сваёй архаічнай мовы. З Старога Запавету ёсьць цалкам гатовы пераклад Псальмаў. Існуюць таксама пераклады некаторых іншых кнігаў (напр., Салямонавая Песьня Песьняў), ды робленыя яны для літаратурных, а ня строга рэлігійных мэтаў, і таму вымагаюць значных паправак. Дык практычна беручы, трэба яшчэ прыгатаваць новы пераклад амаль што ўсіх кнігаў Старога Запавету за выняткам Псальмаў. Існуе цяпер у Нямеччыне даволі значная колькасьць беларускіх пісьменьнікаў і філёлягаў, якія могуць за гэты пераклад узяцца, калі б былі толькі нейкія магчымасьці выданьня такога перакладу.*

*Вялікая сяньня шкада, што страчаны для такое працы мінулы год, калі людзі сядзелі пераважна бязчынна. Але й сяньня яшчэ ніхто ня ведае, колькі часу прыйдзецца прабываць тут*

*па лягерох ДП. Выглядае, што гэта будзе цягнуцца й праз гэтую зіму — тады асабліва лёгка было б прыгатаваць пераклад і прыступіць тады да поўнага выданьня Сьвятога Пісьма пабеларуску.*

*Дык прашу ветліва Брытанскае й Замежнае Біблійнае Таварыства разгледзець уважна й скора гэтую пільную й важную справу й паводле сваіх магчымасьцяў памагчы ў яе рэалізацыі.*

*Watenstedt, 13.10.1946*

*Вельмі Паважаны Рэдактару! [Юрка Віцьбіч]*

*Зьвяртаюся да Вас з справаю, якая, можа, і зьдзівіць крыху Вас. Зьдзівіць як і самое пытаньне, так і хіба перадусім тое, што гэта я акурат гэта падымаю.*

*Ходзіць аб перакладзе Бібліі на беларускую мову. Дагэтуль існуе, як Вам вядома, толькі пераклад Новага Запавету на сучасную беларускую мову. Хаця некалі, за часоў Скарынавых, мы былі адны зь першых у галіне перакладу Сьвятога Пісьма, сяньня — апошнія.*

*Мой пагляд на рэлігійную справу ведаеце, і калі я сяньня падымаю гэтае пытаньне, дык гэта дзеля дзьвёх галоўна прычынаў: 1. з нацыянальна-палітычнага гледзішча пераклад гэты неабходна зрабіць як найхутчэй, выдаць яго друкам і даць у рукі прагнучым беларусам, якія да гэтай пары змушаныя карыстацца ў такіх выпадках украінскімі, польскімі, расейскімі, нямецкімі й яшчэ ліха ведае якімі перакладамі, а ня маюць свайго. 2. Біблія зьяўляецца, апрача сваёй рэлігійнай стараны, выдатным старадаўнім літаратурным творам сусьветнай вагі. Некаторыя яе кнігі (Псальмы, Плач Ярэмія, Песьня Песьняў і г. д.) маюць першарадную літаратурную вартасьць. Таму прысваеньне беларускай літаратуры гэтага твору мае й значную літаратурна-культурную вартасьць, памінаючы патрэбы чыста рэлігійныя.*

*Зроблены неблагі пераклад Новага Запавету й Псальмаў (Гельсінгфорскае выданьне з 1931 г.) сяньня практычна шырэйшым кругом недаступна дзеля нястачы. Паколькі мне вядома, за ягоны пераклад бяруцца некаторыя выдаўцы, і ён мае паявіцца з друку другім выданьнем.*

*Але кнігаў Старога Запаверу (апрача Псальмаў) няма, і іх неабходна зрабіць. Калі я сяньня пішу да Вас аб гэтым, дык таму яшчэ, што я даведаўся, што Брытанскае й Замежнае*

*Біблійнае Таварыства гатовае выдаць сваім коштам і Стары Запавет па-беларуску, калі б пераклад яго толькі быў. З гэтага вывад — за яго некаму трэба брацца.*

*Калі я зьвяртаюся з гэтым акурат да Вас, дык гэта хіба зразумела: Вы ўсёй душой аддаяцеся рэлігійна-царкоўным пытаньням, Вы гэта хіба найлепш разумееце спасярод нашай інтэлігенцыі й хіба й рупіцца аб гэтым скарэй і зь лепшым вынікам будзеце, чым наш сяньняшні япіскапат.*

*Калі думаць аб сьпешным перакладаньні — ёсьць адна труднасьць. У нас ёсьць даволі шмат літаратараў, але няма знаўцы арыгінала — гэбрайскай. Гэта нядобра, але гэта не павінна стрымліваць перад пачынаньнем працы. Па-мойму, нягледзячы на гэта, трэба пачынаць перакладную працу, карыстаючы зь перакладаў царкоўна-славянскага, расейскага, польскага, украінскага, нямецкага, англійскага й г. д. На аснове іх хаця б зрабіць і выдаць пераклад з тым, што некалі знойдзецца адмысловец, які параўнае яго й з арыгіналам і эвэнтуальна канчальна выправіць.*

*Практычна працу над перакладам я сабе выабражаю так, што адначасна перакладала б паасобныя кнігі Бібліі некалькі чалавек, лепш не зашмат — напр., пяць. Калі б пераклад нейкай кнігі быў скончаны, яе мусіла б яшчэ раз перагледзець асобная рэдакцыйная камісія (асоб тры) для выпраўленьня недаглядаў, памылак і эвэнтуальных «індывідуалістычных выбуясьцяў» перакладчыка. Толькі тады пераклад мог бы ісьці да друку. І так кніга за кнігай. Зразумела, чакаць, пакуль будзе перакладзена ўся Біблія, і толькі тады выдаваць, было б непрактычна — гэта моцна зацягвала б справу. Тут трэба было б тарнаваць традыцыйны спосаб самога Скарыны, які таксама выдаваў Біблію паасобнымі кнігамі. Толькі выдаўшы ўсе кнігі асобна, можна было б прыступіць да другога поўнага выданьня ў адной кнізе. Гэтак магчыма было б таксама правясьці крытыку над першым выданьнем паасобнымі кнігамі, выправіць яго, і другое выданьне магло б ужо выйсьці беззаганным.*

*Перад выдачаю друкам маглі б і некаторыя адрыўкі, асабліва важныя, друкавацца таксама, скажам, у «Зьвіняць званы Сьв. Сафіі» ці іншых рэлігійных выданьнях. Такім спосабам і яны прайшлі б праз ачышчаючы агонь крытыкі зацікаўленых гэтаю справаю людзей.*



*Вітаўт Тумаш*

*Такі мой праект. Дык ці маглі б Вы ўзяцца за такую справу й эвэнтуальна яе нават арганізаваць? Ці Вы самі маглі б брацца за канкрэтны пераклад нейкіх кніг, напр., кнігаў Быцьця? Хто зь літаратараў бліжэй каля Вас жывучых мог бы ўзяцца таксама за гэта? Наагул, якія Вашыя думкі аб гэтым усім?*

*Калі б наагул гэтая справа пачала б рабіцца, магчыма нешта памог бы й я. Пару гадоў таму на просьбу аднаго сьвятара я ўжо браўся за пераклад Эклезіясты. Рукапісы, праўда, пагубіў, але пачаць можна было б нанава. Трэба не забывацца таксама аб існуючым перакладзе Салямонавых Песьні Песьняў Ластоўскага*[526]*. Пераклад гэты да друку не надаецца дзеля сваёй незвычайна індывідуальнай мовы, але за памацнічы матэрыял пры перакладзе можна было б яго выкарыстаць. Важным было б таксама пры перакладзе некаторых кнігаў аперціся аб Скарынавы пераклад, толькі, на жаль, даступныя сяньня толькі ягоныя ўрыўкі (напр., у «Гісторыі беларускай кнігі» Ластоўскага).*

*Прашу ветліва справу гэтую добра перадумаць і напісаць мне аб усім ліст, а яшчэ лепш — адначаснае паведамленьне аб тым, што прыступлена да перакладу над такімі й такімі кнігамі Бібліі…*

*Зь беларускім прывітаньнем Ваш [Тумаш]*

[526] Маецца на ўвазе публікацыя: Цар Саламон. Песьні Песьняў / Пераклад В. Ластоўскага // Крывіч (Коўна). 1926. № 1 (11). С. 1–5.

*Міхэльсдорф, 11.11.1946 г.*

*Вельмі паважаны Спадар Тумаш!*

*Прабачце, велікадушна прабачце, што я з такім вялікім спазьненьнем адказваю на Ваш ліст. Вязу адзін два вазы («Шыпшына» й «Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі») ды зьверху яшчэ навальваюць, ды часам яшчэ лаюць, што марудна вязу альбо ня ў тым кірунку, у якім гэтае каму-небудзь пажадана.*

*Вашая думка аб перакладзе Бібліі на нашу мову заслугоўвае вялікае ўвагі, але, на вялікі жаль, я сам не магу прычыніцца да гэтае паважнае справы. Першае й самае галоўнае — бракуе часу, другое — каб быць сумленным перакладчыкам Бібліі (а тут адсутнасьць сумленнасьці будзе блюзнерствам), трэба добра ведаць хаця б дзьве мовы — лацінскую й грэцкую, а я першую ведаю дрэнна, а другую зусім ня ведаю. Таму астатнім часам для «Зьв. Зв.» перакладаю толькі паасобныя псальмы й малітвы. Напрыклад, у № 6 будзе «Ойча Наш», якое крыху адрозьніваецца ад «Ойча Наш» у малітоўніку «Божым шляхам»*[527].

*У мяне да Вас, спадар Тумаш, ёсьць дзьве вялікія просьбы. Ці не змаглі б Вы пераслаць для «Зьв. Зв.» першыя два разьдзелы Эклезіясту? На жаль, у мяне цяпер няма Бібліі, і таму я не магу больш дакладна адзначыць патрэбнае ў першую чаргу. Вельмі пажаданы таксама Плач Ярэміі. Можа б прыслалі й артыкул аб неабходнасьці перакладу Бібліі, аб Вашай практыцы ў гэтай галіне й г. д. Калі ласка?*

*Другая просьба ад «Шыпшыны». Ці не змаглі б Вы прыслаць урывак з Вашае працы аб экспансіі беларусаў для наступнага № 4. А можа й яшчэ што-небудзь ёсьць? Чакаем як найхутчэй. Вы, пэўна, ведаеце, што «Шыпшына» мела шэраг рэцэнзіяў у ўкраінскіх газэтах, у якіх успамінаецца й Ваш твор. № 4 выйдзе ў сьнежні. Чакаем Вашыя творы.*

*Вельмі зьдзівіла мяне выданьне паасобнай кніжкай «Усяночнай» С. Юстапчыка*[528]*. Пры ўсёй маёй пашане да крытыка*

---

[527] Маецца на ўвазе наступнае выданне: Божым Шляхам. Малітаўнік для беларусаў / Уклад. а. Леў Гарошка. Рым, з дазволу царкоўнае ўлады, 1946. — 176 с.

[528] С. Юстапчык — адзін з псеўданімаў Антона Адамовіча. Тут маецца на ўвазе наступнае выданне: Юстапчык С. Усяночная (з жыцьця беларускае студэнцкае моладзі): Раман. Ватэнштэт: выданьне Беларускага Дапамаговага Камітэту, 1946. — 47 с.

*Альгердзіча*[529] *мушу шчыра адзначыць, што празаік С. Юстапчык нагадвае Сьмердзякова*[530]*. Твор гэты (між іншым, зусім не раман) зьяўляецца насільлем на нашую студэнцкую моладзь. Абурае тое мейсца, дзе аўтар зьдзекваецца над «Ойча Наш». Амаль усе малітвы створаны чалавекам, а гэтую малітву мы атрымалі ад Бога. Для нас, хрысьціянаў, незалежна ад нашых веравызнаньняў, яна зьяўляецца найсьвятой. Абурае, што гэтая [неразб.] называецца — Усяночнай. У нас тут абурэньне й аўтарам, і выдавецтвам. Дзіўна, што гэтае выдавецтва пасьля «Тараса на Парнасе» трапіла ў такі бруд*[531]*. Крыўдна за наш агульны Ватэнштэт, імя якога стаіць на вокладцы. Хочацца думаць, што гэта выпадковая памылка.*

*Тым часам усяго найлепшага.*

*З пашанай да Вас Юр. Віцьбіч.*

*Watenstedt, 5.12.1946 г.*

*Вельмі паважаны Спадару Рэдактару! [Віцьбіч]*

*У парадку закранутых Вамі спраў адказваю на Ваш ліст з 11.11:*

*1. Вы ня лічыце магчымым перакладаць кнігі Сьвятога Пісьма на беларускую мову да тае пары, пакуль ня знойдуцца адмыслоўцы, знаючыя мовы грэцкую, лацінскую ці габрэйскую. Стаўшы строга на такім становішчы, належала б беларусам яшчэ доўга чакаць на слова Божае ў сваёй роднай мове. Само сабой зразумела, што існаваньне падобных спэцыялістаў справу шмат аблягчыла б і паставіла б працу над перакладам на найбольш салідную аснову. Алё ёсьць, аднак, па-мойму, спосабы правядзеньня сумленнага перакладу Бібліі й без таго, каб кожны перакладаючы ведаў усе патрэбныя мовы. Да такой працы можна ж прыцягнуць як дарадчыкаў і чужых адмыслоўцаў. Стаўленьне справы так: няма ведаючых усе мовы — ня трэба рабіць і перакладу, надта ж спрашчае разьвязку стоячага перад беларускай інтэлігенцыяй заданьня.*

[529] Альгердзіч — адзін з псеўданімаў Антона Адамовіча.

[530] **Смердзякоў** — цэнтральны персанаж рамана Фёдара Дастаеўскага «Браты Карамазавы», чыё прозвішча ў значнай ступені адпавядае ягонаму маральнаму абліччу.

[531] Незадоўга да выдання «Усяночнай» С. Юстапчыка выдавецтва Беларускага дапамогавага камітэта выдала знакамітую паэму XIX ст. «Тарас на Парнасе».

*Па-мойму, ня меншым грэхам за нават некаторыя дробныя пахібы ёсьць і пазбаўленьне народу слова Божага ў роднай і зразумелай яму мове, бо толькі тады могуць зьнікнуць і тыя зьявішчы, калі людзі мэханічна кожны дзень паўтараюць «ойча наш, іжэ ясі», не разумеючы словаў. Гэтак ёсьць сяньня ў нас як у праваслаўных, так і ў каталікоў. Па-мойму, чакаць сяньня з гэтым на сваіх філёлягаў-лінгвістаў і чакаць тады, як ніхто на Бацькаўшчыне не дазволіць на падобныя студыі так доўга, пакуль існуе нацыянальная няволя. На чужыне гэта таксама цяжка дзеля іншых прычынаў. Як вядома, перакладаў, прызнаных за найбольш дакладныя з кожнага гледзічша, у розных іншых мовах існуюць сотні. Існуюць паміж намі й людзі ня згорш знаючыя лацінскую мову, зь некаторым трудом хіба далося знайсьці й адумыслоўца-грэка, разумеючага адначасна й па-беларуску, а ў патрэбе пры добрай волі, думаю, можна было б расшукаць і кансультанта-гэбраіста для выясьненьня асабліва цяжкіх месцаў. Дык, па-мойму, ня будзе ў гэтым ніякага «блюзьнерства», калі пераклад зробіцца й паводле перакладаў у знаных для нас мовах і пазьней спорныя й няясныя месцы прыраўняюцца ўжо з тэкстам арыгіналу. Калі, да прыкладу, словы «ідзеце, навучайце ўсе народы…» дакладна адзінакава перакладзеныя на мовы нямецкую, ангельскую, царкоўнаславянскую ці расейскую, дык ня ёсьць хіба абсалютнай неабходнасьцю шукаць гэтага самага яшчэ ў гэбрайскім тэксьце. Неабходнасьць такая паўставала б там, дзе існавалі б нейкія супярэчнасьці. Адным словам, мой погляд, што тут адклад не ідзе на лад; ён карысны хіба толькі нашым ворагам. За пераклад ня толькі трэба, але й неабходна брацца паважна й сумленна сіламі, якія ёсьць. Ухіляцца ад гэтага тым, якія мо найбольш да гэтага пакліканыя, — гэта грэх і рэлігійны й нацыянальны.*

*2. У справе першых разьдзелаў Эклезіяста мушу Вам сказаць, што зроблены некалі на просьбу прапаведніка Дзекуць-Малея*[532] *пераклад, на жаль, загінуў. Нанава гэтага тым часам яшчэ не рабіў і таму выслаць цяпер Вам пераклад не змагу.*

[532] **Лукаш Дзекуць-Малей** (1888–1955), беларускі нацыянальны і рэлігійны дзеяч, баптысцкі прапаведнік. Разам з Антонам Луцкевічам пры канцы 1920-х — пачатку 1930-х гг. пераклаў на беларускую мову і выдаў Новы Запавет і Псальмы.

*3. Калі ходзіць аб стацьцю пра патрэбу перакладу Бібліі, дык яе хіба напішу, тым больш, што яна ў мяне напісаная для іншых патрэб. У бліжэйшыя дні, ці мо тыдні, зраблю хіба гэта, бо цяпер на стале і ў рабоце ляжаць некалькі іншых справаў.*

*4. Адрыўкі з маёй «Экспансіі», шчыра кажучы, друкаваць далей ня вельмі хацеў бы таму, што за пару месяцаў яна мае паявіцца асобнай кніжыцай. Разумееце хіба самі, што я ахвятней бачыў бы, каб кніжачка выйшла як нешта новае, а не як збор стацей ужо друкаваных (хоць частка ўсё такі ўжо друкавалася). З другой стараны, практыка пушчанага ў «Шыпшыне» адрыўка паказала, што друк разьдзеламі часта не асягае пажаданай мэты. Друкуючы адрывак пра малярства, мы сьведама выпускалі ссылкі на жаролы. «Крывіцкі Сьветач» зарэагаваў на гэта словамі, што стацьця напісаная замала грунтоўна. Вельмі часта да чужых аўтараў, найчасьцей непрыхільных нам, падходзіцца як да аўтарытэтаў, да сваіх жа падходзіцца зь нейкім падазрэньнем, што пішацца толькі для самой прапаганды. Стуль неабходнасьць поўнага аднаразовага выданьня з усімі цытатамі й ссылкамі на жаролы, якія тут маюцца пад рукою. Украінскія рэцэнзіі мяне цікавяць, але я, на жаль, іх ня бачыў. Адрывак аб малярстве неканечна мог ім падабацца, бо некаторыя з украінцаў маюць шчыры намер працу нашых маляроў запісаць на свой кошт на той аснове, што не вядомыя дадзеныя аб дакладным месцы паходжаньня мастакоў. Ёсьць нават ужо ўкраінская тэорыя аб тым, што Ягайла, едучы ў Кракаў зь Беларусі, зь Вільні, маляроў браў аж з… Галіччыны. Чытаў нават сам украінскую працу, дзе пішацца, што Сонька Гальшанская, чацьвёртая Ягайлава жонка, для каторай некаторыя малярскія працы ў Кракаве выконваліся і якая сама апекавалася мастакамі, — гэта «ўкраінская княжна», хоць Гальшаны ляжаць нейкіх 50 км на паўдзённы ўсход ад Вільні! Дык гэтаму няма што дзівіцца пасьля гэтага, калі прыйшлося чытаць «навуковыя працы», дзе Скарына — украінец, Сымон Полацкі — украінец і г. д.*

*5. Пераходжу да апошняй справы — «Усяночнай». Таму, што на яе выхад Вы зарэагавалі вельмі востра — затрымаюся над гэтым даўжэй. Напачатак мушу зацеміць, што я не зьяўляюся нейкаю прычынаю выхаду гэтай кніжкі, ані выдаўцом, ані ініцыятарам выдаваньня. Аб яе выдаваньні стала мне вядома толькі тады, калі перададзены мне быў падпісаны тэкст*

*для карэкты. Дзеля гэтага займаю ў гэтай справе голас не як зацікаўлены ці вінаваты, але выключна як абсэрватар са стараны. Да Вашага ведама падаю таксама, што ў ніякі спосаб з выхадам кнігі не зьвязаны й сам аўтар яе. Мала таго — сам выдавец даведаўся аб тым, хто ёсьць фактычным аўтарам, толькі значна пазьней пасьля выхаду кніжачкі, і, напэўна, сам аўтар меў неспадзяванку, калі пабачыў выданьне. Дык, як бачыце, выданьне даканалася даволі прыпадкова. А цяпер — да Вашых закідаў.*

*Раман ці не? Што гэта не раман — кожнаму, крыху сьведамаму справы, гэта ясна. Як мне тлумачыў выдавец, паставіў ён гэта слова выключна зь нейкіх прапагандна-прадавецкіх меркаваньняў. Ды гэта ўва ўсім найменш істотнае.*

*«Зьдзек над «Ойча Наш»? — атрымаўшы Вашае пісьмо, я яшчэ раз дакладна прачытаў «раман» з думкаю аб Вашых закідах. І калі ходзіць аб месцы пра «Ойча Наш», яно мне прадстаўляецца гэтак: аўтар, па ўсім характары сваёй творчасьці, наскрозь празаік-рэаліст, адбівае там з своым сабе натуралізмам вядомае на Беларусі зьявішча — неразуменьне народам малітваў, падаваных яму чужымі сьвятарамі ў чужой мове. Кожны, хто жыў сярод праваслаўнай ці каталіцкай вёскі, сустрэўся з гэтым фактам. Зьявішча гэтае адбілася ў нашай народнай творчасьці, запісанае яно ня раз і нашымі этнографамі. Гэта ўсё які й прыкры вынік таго, што праз некалькі стагодзьдзяў нашыя сьвятары забываліся аб Хрыстовых словах: «Ідзеце й навучайце ўсе народы» (Мацьвей, 28:19) і навучайце, зразумела, у мове, зразумелай гэтым народам, так, як і сам Хрыстос гаварыў да народу ягонаю ж моваю — арамейскім дыялектам мовы гэбрайскай. Дык, калі ўважна й бязь нейкага настаўленьня прачытаць месца аб «Ойча Наш», калі зьвярнуць увагу на тое, што аўтар канчае абзац «сьветлым вобразам» маткі, якая малілася, ды такімі ж сьветлымі воблікамі людзей, што моляцца ў царкве й да якіх адчуваецца бясспрэчная аўтарава сымпатыя, — дык немагчыма там знайсьці сьведамай злоснай насьмешкі. Хаця, можа, каму й ёсьць прыкрым чытаць адбіваньне фактычнага стану на Беларусі, стану ненармальнага й трагічнага — нават з Богам гаварыць змушалі сьвятары народ у чужой для розуму яго й сэрца незразумелай мове. Адбіваць у творах гэтую сумную праўду няможна забараніць для пісьменьнікаў-мастакоў і асабліва няможна за гэта нікога каменяваць.*

*Пашкваіль на студэнцкую моладзь? Што аўтар, згодна з сваім натуралістычным падыходам да тэмы, маляваў студэнцкае падсавецкае жыцьцё безь ніякай прыкрасы з усімі добрымі й скарэй нават благімі праявамі — гэта факт. Што твор не падуманы й ня пісаны як нейкае сьведамае ідэалізаваньне беларускай падсавецкай моладзі, а скарэй як рэалістычнае адбіцьцё ненармальнай духовай атмасфэры й духовай ломкі ў накінутых прымусовых формах бальшавіцкага матэрыялістычнага сьветагляду — гэта таксама бясспрэчная рэч. Ды гэта ўсё не дае яшчэ асноў для нейкага абсалютнага й незвычайна вострага асуджэньня аўтара. Як вядома, паўсталі некалі й друкуюцца ўжо бадай сотнямі выданьняў такія творы, як «Бесы», як «Браты Карамазавы» Дастаеўскага, як «Абломаў» Ганчарова. І як гэта тады расейцы не спалілі кніжак гэтых разам зь іхнымі аўтарамі на нейкіх інквізыцыйных кастрох? А «Ўсяночная» ў параўнаньні да гэтых шэдэўраў у мастацкім апісваньні усіх глыбін агіды, да якіх здольная расейская душа й цэлыя групы расейскага грамадзянства — гэта сапраўды маленькі малапрыкметны твор, а ягоны аўтар — нявіннае ягнё. Нейкія «Бесы» ці «Карамазавы» — тарнуючы Вашыя словы й прыраўнаньні — гэта ўжо цэлая рымская Клаака Максіма*[533]*, выстаўленая на чало расейскай літаратуры, калі тым часам «Усяночная» — нейкая сьціплая адходная на задворках літаратуры беларускай. Зразумела таксама, што нягледзячы на нейкія «Бесы», Дастаеўскі назаўсёды застанецца велізарным талентам, геніяльным акурат у апісваньні агіды людзкой душы, нягледзячы на гэта, ці герой ягоных раманаў нам падабаецца, ці страсаюць нас кашмарам сваёй брыдоты. Не хачу гэтым ставіць Юстапчыка на мастацкай роўні з Дастаеўскім, але маральная старана закідаў ляжыць тут у адной плошчы.*

*У вадным можна было б сапраўды сумнявацца — ці мэтазгодна ёсьць выдаваньне такіх твораў у момант, калі не стае кніжак да чытаньня? Ці ня трэба ў першую чаргу друкаваць рэчы патрыятычныя, узгадаваўчыя, пакідаючы друкаваньне прыкрых ды трагічна-сумных мастацкіх дакумэнтаў мінулага на пазьней? Тым больш, што й сам твор не належыць да нейкіх мастацкіх шэдэўраў, хаця ў ім прабіваецца бясспрэчны эпічны*

---

[533] *Cloaca Maxima* — старажытнарымская сістэма каналаў.

*талент. Між іншым, ён мае значныя заганы ў кампазыцыі, мае тыповую для Юстапчыка нейкую незаканчанасьць, не стае там і нейкага жывейшага разьвіцьця інтрыгі, яе нарастаньня ды неспадзяванай разьвязкі. Наагул твор быццам абарваны, незакончаны, чытач канчае яго зь нейкім пачуцьцём незадаволенасьці. Прызнацца шчыра, мне неяк не прыйшло б на думку перавыдаваць у сёньняшніх умовах акурат гэты твор. У гэтым ужо праявіўся індывідуальны падыход выдаўца да справы. У гэтым хіба ёсьць памылка, ды далёка не такая трагічная, як выглядае з Вашага ліста.*

*Канчаючы — у чым жа тады справа? Скуль такая вострая Вашая рэакцыя? У нас тут існуе даволі адналітны погляд на гэта: тут папросту прабіваецца той асабісты незвычайны антаганізм, які з той ці іншай прычыны паўстаў паміж некаторымі нашымі пісьменьнікамі. Сумнае гэта зьявішча, але фактычна так ёсьць. Магчымыя ў кожнага памылкі й магчымая крытыка кожнага, а добрая творчая крытыка можа прынесьці немалую карысьць аўтару, а ўкосна й беларускай літаратуры. Затое нейкай асабістай ненавісьцяй нічога добрага не будуецца. Мы тут у гэтыя споры ні ў якім выпадку ня хочам мяшацца, і калі сяньня закрануў наагул у вадказе на Ваш ліст гэтую тэму, ды зусім ня зь нейкаю думкаю займаць нейкую старану, за ці проціў. Ходзіць толькі аб разгляд, мне здаецца, бесстароньні, пастаўленых Вамі канкрэтных закідаў канкрэтнаму твору, ходзіць толькі аб сяброўскую «размову па шчырасьці» на гэтую тэму.*

*Я асабіста не лічу, каб было карысным, ані Вам, ані Вашым працаўнікам, тарнаваньне спосабу змаганьня з рабленьнем вялікага шуму дзеля кожнай драбніцы, кожнай памылкі нават, і арганізаваньне на гэта нейкіх пратэстуючых вечаў ці бадай нават крыжовых паходаў. Каб гэта ўсё мела нейкае абаснаваньне фактычнае ў нацыянальнай карысьці й патрэбе — моцна сумняваюся. Тое, што можа, — калі гэта патрэбна, — вырашыць толькі літаратурная крытыка, гэтага не належыцца вырашаць нейкімі праклёнамі ці анафемамі. І дзе павінна хапіць літаратурнай рыцарскай шпады, неразумным было б выцягваць цяжкастрэльныя гарматы, бо гэта нікому не памагае разабрацца й прыблізіцца да праўды, а найчасьцей робіць нечаканую й непатрэбную, можа, рэкляму даволі скромнаму твору й малавядомаму тут чытачу аўтару.*

*Веру, што пры больш спакойным і халодным разглядзе кожнай справы знойдзецца заўсёды й больш зразуменьня для эвэнтуальных памылак і пахібаў у нейкага сябры па пяры. Мы са сваёй стараны намагаемся тут у Ватэнштаце адмежавацца ад усіх так вострых спораў часта за нішто, так характэрных сяньня для нашай амэрыканскай зоны, хаця пробы перакінуць іх сюды й існуюць. Ад гэтага ніколі не чакаем ніякага дабра для нашай супольнай і сьвятой справы. Гэта, зразумела, не перашкаджае гэтаму, што за ўсялякія цэнныя ўвагі аб пахібах і памылках будзем заўсёды ўдзячныя й будзем старацца іх выправіць.*

*Вось дзеля гэтага прашу вельмі зразумець і нас тут наагул у гэтым і ня крыўдзіцца гэтым лістом, калі нават і некаторыя думкі ў ім ня будуць мо Вам па душы.*

*Зь беларускім прывітаньнем і даўнейшаю да Вас пашанаю Ваш [Тумаш]*

*Міхэльсдорф, 15.12.1946 г.*

*Вельмі паважаны Спадар Тумаш!*

*На вялікі жаль, мушу яшчэ раз адзначыць, што аніяк не магу сёньня ўзяцца за пераклад Бібліі. Я раблю два часопісы — «Шыпшына» й «Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі». Раблю часопісы — гэта значыцца — рэдагую іх, набіваю на матрыцы, шукаю паперу, вязу матрыцы ў «шрайбюро»*[534] *й адтуль прывожу на сабе часопісы, а пасьля гэтага пасылаю іх чытачам. Акрамя гэтага атрымоўваю штодня 4–5 лістоў і штодня адказваю на 3–4 лісты. Аднойчы на два тыдні ліквідую «хвост» у ліставаньні. Лісты ідуць з усяе Заходняе Нямеччыны, атрымаў іх з Ангельшчыны, з Італіі, з Францыі. Не адказаць хаця б на адзін зь іх — злачынства. Потым у мяне ёсьць і іншая грамадзкая праца, якая адбірае шмат часу. Я ня маю права ад усяго гэтага адмовіцца і ўзяцца за пераклад Бібліі. Гэтае, на маю думку, будзе сапраўдным злачынствам і перад Богам, і перад сваім Народам.*

*Ніяк не падзяляю Вашае думкі наконт «Усяночнае». Перш за ўсё трэба адзначыць, што «барацьба» паміж некаторымі пісьменьнікамі ня мае да гэтае справы ніякага дачыненьня. Сапраўды, чытач знойдзе ў «Шыпшыне» і Альгердзіча, і*

---

[534] «Шрайбюро» — *Schreibbüro* (ням.) — бюро машынапісу.

*Юстапчыка. Праўда, з артыкула Альгердзіча мне прыйшлося, узгадніўшы з аўтарам, выкінуць тыя месцы, дзе ён выкрэсьлівае з нашае літаратуры Якуба Коласа й Цішку Гартнага. Такія погляды не адпавядаюць дэклярацыі літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына». Прыйшлося таксама ў творы Юстапчыка «Безруч» зьняць прозьвішча адмоўнага героя — Архірэйчыкаў, зьмяніўшы яго на Архарчыкаў. Мне здаецца, што калі б у нашых умовах хто-небудзь даў бы бандыту прозьвішча Біскупчык, дык гэта было б хуліганствам. Паказальна, што тэрмін «крывіч» нідзе ня выкрэсьлены з артыкулаў Альгердзіча. Як бачыце, няма ніякіх рашуча падставаў абвінавачваць рэдактара ў тэндэцыйным падыходзе да пэўнага аўтара. Няма падставаў тым больш, што Адамовіч і Віцьбіч калісьці ўваходзілі ў адно й тое ж літаратурнае згуртаваньне «Ўзвышша».*

*Зразумела, што параўноўваць Дастаеўскага зь Юстапчыкам — гэта тое ж самае, што параўноўваць Манблан з Траецкай гарой у Менску. Справа тут нарэшце не ў ступені таленавітасьці, а ў тым, што Дастаеўскі ва ўсіх сваіх творах зьяўляецца вялікім гуманістам, а Юстапчык — нігілістам, для якога няма нічога сьвятога. Пісьменьнік ня мае права зьдзеквацца над малітвай Господняй, хаця б яна чыталася ў нашай царкве на турэцкай альбо на кітайскай мове. Хочацца думаць, што прыйдзе час, калі наш народ будзе маліцца ў цэрквах і касьцёлах на сваёй роднай мове, але пакуль што сёньня 13 мільёнаў беларусаў шануюць малітву Господню й на царкоўнаславянскай мове. Таму ператвараць гэтую сьвятую малітву ў «вожыка ці мо вужаку война ясі» зьяўляецца проста подласьцю ў дачыненьні да пераважнае большасьці свайго народу.*

*Абурае такое прозьвішча як Маршнахер = Марш+на+хер.*

*Гэта яшчэ для Юстапчыка мала. Праз колькі радкоў чытаем: «слухачы найбольш займаюцца... аналізам ягонага прозьвішча ды спробы пераклясьці яго з жыдоўскага».*

*У параўнаньні з гэтым месцам ужо такія выказваньні, як, напрыклад, «загрэў увечары поўху Мікітку, дык той крывёю заліўся» або «Косьцік, дзе твой хвосьцік» ці «навярнуць яго на праваслаўную веру» здаюцца проста француская фрывольнасьцяй.*

*Рэч гэтая зьяўляецца зьнявагай для былое «савецкае» студэнцкае моладзі, якая на 50 працэнтаў бальшавіцкімі катамі*

*за неабдымную любоў да Беларусі зьнішчаная. Успамінаюцца радкі з «Студэнцкага дзёньніку» цудоўнага Паўлюка Труса:*

*І пайшоў я ў сьвет,*
*У агняцветны прасьцяг,*
*Каб душою гарэць*
*У бурным моры жыцьця,*
*Беларусі дарыць свае песьні!*

*Успамінаецца і Пятро Шырокаў, і Масей Сяднёў. Успамінаюцца й Дубоўка, і Пушча, і Дудар, і Хадыка, і Зарэцкі, і дзясяткі, сотні, тысячы іншых ідэалістых і рамантыкаў. МАНА! ХЛУСЬНЯ! Ніхто нікому не дазволіць зьневажаць іх. Ніхто нікому не дазволіць пляваць ім і нам у твар!*

*Дагэтульу нашай літаратуры бракавала Сьмердзякова. І вось нарэшце ён зьявіўся ў асобе Юстапчыка. Адвеку чалавецтва захапляецца сонцам. Сьмердзякоў будзе параўноўваць яго зь вядомым О ў прыбіральні. Адвеку чалавецтва захапляецца зорамі. Сьмердзякоў будзе параўноўваць іх з разэоламі на крумянках хворага на пранцы. Наш вялікі таленавіты беларускі народ стварыў зь вясельля цудоўную опэру. Для Сьмярдзякова існуе толькі «імпульц» і «аб'ект».*

*«Шыпшына» й Сьмердзякоў — гэта палярнасьці. І нас зусім не цікавіць, хто Юстапчык — ці «крывіч», ці беларус. Мы мусім змагацца зь Сьмердзяковым, бо гэта страшная зьява ў жыцьці нашае эміграцыі.*

*Тым часам усяго добрага.*

*Чакаю на Ваш ліст.*

*З пашанай да Вас Юр. Віцьбіч.*

*Watenstedt, 31.12.1946*

*Вельмі паважаны Ойча! [Даніла Яська]*

*Пішу сяньня да Вас перадусім у закранутых намі справах падчас гутаркі у Ватэнштэце, а часткова і ў новых.*

*Мяне цікавіць галоўна, як там ёсьць з магчымасьцямі перадруку Новага Запавету? Ці ёсьць нешта ў гэтым новага й канкрэтнага? Мае стараньні аб гэтым праз Брытанскае Біблійнае Т-ва пакуль што не прывялі да ніякіх канкрэтных вынікаў, дзеля таго, што мой першы ліст у гэтай справе недзе загубіўся, і яны яго зусім не атрымалі. Пару тыдняў назад выслаў дзеля гэтага копію.*

*Мушу Вас паведаміць, што справа з арганізацыяй перакладу кнігаў Бібліі не ідзе так добра, як хацелася б. Спэцыяльна паехаць у гэтай справе ў амэрыканскую зону пакуль што не ўдалося, а на адлегласьці трудней дзеіць. Вялікаю перашкодаю гэтаму ёсьць і некаторыя сваркі, якія там сталі, на жаль, сяньня моднымі сярод беларускага грамадзянства ў зоне амэрыканскай. Наагул, аднак, я ня трачу надзеі, а прынамсі ў нашай зоне ў канцы студзеня распачнецца праца над кнігамі Быцьця, здаецца, найбольш патрэбнымі ў рэлігійнай практыцы. Недзе каля лета, можа, тады й будзеце мець гатовае Пяцікніжжа.*

*Прасіў бы, аднак, з Вашай стараны не забывацца аб патрэбных экзэмплярах Бібліяў у розных мовах, бо бяз гэтага наагул трудна крануцца зь месца. Калі ў бліжэйшых тыднях здарыцца мне быць, можа, у Мюнхэне, дык загляну й да Вас.*

*Цяпер я зварочваюся яшчэ з адной да Вас просьбай: у амэрыканскай зоне Аўстрыі, у Шальсбургу*[535] *(DP Center Lehen, Pferdestall, Zimmer 37) пражывае з жонкай і 9- месячным сынам наш вельмі здольны малады паэта А. Салавей. Ён знаходзіцца там у вельмі благіх умовах матэрыяльных, а перадусім маральных, бо сяньня беларусы ўжо амаль разьехаліся хто куды. У сувязі з гэтым ён моліць мяне з усёй душы памагчы неяк яму ў справе пераезду праз кардон у Нямеччыну, у амэрыканскую зону, дзе ўжо ім заапякуюцца прыяцелі-пісьменьнікі. Я з ангельскай зоны ў гэтай справе амаль бяссільны. Таму вось зварачаюся да Вас з такім запытаньнем-просьбай: у Вашай Царкве, здаецца, ужо наладжаная даволі добрая сувязь як міжзонная, так і міждзяржаўная, магчыма, Вы маеце й сваіх прапаведнікаў-пастыраў у амэрыканскай зоне Аўстрыі — дык ці ня можна было б праз Вашыя ўплывы памагчы яму маральна й знайсьці нейкі спосаб пераезду для ўсёй ягонай сям'і сюды, да сваіх людзей? Ужо калі б нехта ад Вас наведаў яго ў Шальсбургу й падтрымаў на духу — было б шмат. А тады, магчыма, знайшліся б і нейкія спосабы разьвязкі найцяжэйшага пытаньня — помачы ў выезьдзе з Аўстрыі сюды.*

*Дык вельмі прашу падумаць пра гэта й зрабіць усё магчымае, каб падтрымаць так вартасную адзінку ў цяжкую для яго хвіліну жыцьця. Хрысьціянскае слова пацехі будзе для яго вельмі цэнным. Для Вашага ведама падаю, што пад вышэй па-*

[535] Маецца на ўвазе Зальцбург.

*дадзеным адрасам жыве пад прозьвішчам: Альберт Кадняк, роджж. 1922 г., ягоная жонка, Кадняк Зінаіда, роджж. 1922 г., ягоны сын Міхал, 9 месяцаў. Дадзеныя гэтыя могуць быць Вам эвэнтуальна патрэбнымі. Ён будзе эвэнтуальна пазьней і памагаць у нашай перакладной працы.*

*Зь беларускім прывітаньнем і надзеяй на нейкую магчымасьць дапамогі*

*Ваш [Тумаш]*

*Slavic Evangelical-Baptist Church in Germany*
*Мюнхэн, Jan. 11, 1947*

*Вельмі паважаны гаспадару! [Вітаўт Тумаш]*

*Прабачце, што дагэтуль нічога Вам не пісаў у закранутай справе, бо нічога канкрэтнага ня меў зробленага. Быў у Цэнтралі амэрыканскіх капэлянаў у Франкфурце. Атрымаў толькі адрас, да каго маю зьвярнуцца, але гэты чалавек яшчэ нічога добрага не зрабіў. Пазьней быў у капэляна ў Аўсбургу. Ён мае бюро дзеля ўдзяленьня помачы сьвятарам усіх веравызнаньняў. Ён таксама пісаў да Франкфурт і Жэневы (Швэйцарыі) у справе беларускіх Новых Запаветаў. Гутарыў ён з якімсь дырэктарам УНРРА, прапануючы надрукаваць беларускі НЗ. На бяду, УНРРА стаіць перад ліквідацыяй і нічога ня хоча распачынаць. Паехаў да Штутгарту. Там арганізуе сваю працу місія для пашырэньня Сьв. Пісаньня. Аддзел гэтай місіі ў беглым року надрукаваў у Швэцыі Біблію ў расейскай мове. Гэтая місія 14.10.46 згадзілася пастарацца атрымаць 5000 НЗ на беларускай мове. Напісалі ў Швэцыю, але дагэтуль не было адказу. Расейскія Бібліі ўжо ёсьць. Трэба будзе яшчэ раз даведацца. Апошні раз быў 19.12.46.*

*15–16.1.47 я буду ў Гановэры. Пастараюся заехаць у Ватэнштэт. Ужо маю для Вас расейскую, украінскую, англійскую й нямецкую Бібліі. Прывязу. Калі б удалося раздабыць яшчэ які пераклад Бібліі на славянскую мову, таксама прывёз бы.*

*У справе Салаўя вельмі хацеў бы дапамагчы, ды, на жаль, ня маю цяпер магчымасьці. З нашых прапаведнікаў няма там ані аднаго. Ці ёсьць хто з нашых вызнаўцаў — таксама невядома. Паехаць спэцыяльна туды — вельмі трудна дастаць пропуску. Летась меў калегу, польскага афіцэра, каторы часта езьдзіў да Зальцбургу, але цяпер яго няма. Перад Калядамі спаткаў я ў Бамбэргу аднаго доктара, які прыехаў з Аўстрыі. Расказваў,*

*што меў вялікія труднасьці, каб атрымаць дазвол на легальны пераезд. Да Салаўя напішу, каб ён ня падаў духам, а шукаў магчымасьці вырвацца стуль. Такія людзі нам патрэбныя ў грамадзянстве.*

*Да скорага пабачэньня.*

*З шчырым прывітаньнем Д. Ясько.*

*Watenstedt, 17.6.1947*

*Вельмі Паважаны Ойча [Даніла Ясько]!*

*Сяньня хачу перадаць Вам аб некаторых фактах, адносячыхся да справы друку Новага Запавету па-беларуску, пра якія я нядаўна даведаўся. Яны могуць для Вас быць патрэбнымі й важнымі, паколькі Вы цяпер перадусім гэтай справай цікавіцеся й робіце ў гэтым кірунку стараньні.*

*Як я ўжо Вам некалі пісаў, Брытанскае Біблійнае Т-ва запыталася мяне аб асобах, якія рэпрэзэнтуюць рэлігійнае жыцьцё сярод беларусаў на эміграцыі. Я падаў ім тры асобы й тры адрасы: ад праваслаўных — япіскапа Апанаса[536], ад каталікоў — біскупа Слоскана і ад баптыстаў — Вашае.*

*Пару дзён таму я бачыўся й асабіста гаварыў зь япіскам Апанасам. Ён расказаў мне, што перад некаторым часам атрымаў ліст ад Брыт. Бібл. Т-ва, у якім былі тры асноўныя пытаньні: 1. колькі ёсьць беларусаў на чужыне? 2. ці пераклад Гельсінгфорскага выданьня добры? 3. ці ёсьць патрэба выдаваньня Новага Запавету й наагул Бібліі па-беларуску, бо некаторыя цьвердзяць, што кожны беларус знае расейскую мову?*

*1. На першае пытаньне япіскап Апанас адпісаў, што ўва усёй Эўропе ёсьць толькі каля 10000 выхаджэнцаў, з чаго ў Нямеччыне прабывае бліжэй нязначаная колькасьць (хіба нейкіх 5000).*

*2. Другі адказ — пераклад благі, але ён гатовы яго выправіць*

*3. На трэцяе пытаньне ў сваім лісьце япіскап знарок не адказаў, што хіба трэба разумець так, што сам ён уважае друк перакладаў не канечны, а лічыць, што беларусы й па-расейску добра разумеюць.*

*Такое становішча нібы беларускага япіскапа проста абураючае. Беларусаў у Нямеччыне ўжо толькі арганізаваных у свае*

[536] Маецца на ўвазе Апанас (Мартас).

*асобныя лягеры ці нацыянальныя групы ёсьць каля 10000, не гаворачы аб усёй той масе, рассыпанай па польскіх, украінскіх ды расейскіх лягерох і не гаворачы аб іншых эўрапейскіх краінах, перадусім Францыі й Англіі. Падаваньне беларускім япіскапам такіх фальшывых і крыўдных для беларусаў імфармацыяў чужынцам — гэта ці нейкі грамадзка-нацыянальны анальфабэтызм ці проста сьведамае злоснае шкодніцтва.*

*Дык праводзячы далей сваю працу над арганізаваньнем друку Сьвятога Пісьма па-беларуску, мусіце лічыцца з гэтым і ведаць, якая можа быць помач у гэтай справе са стараны «беларускага» япіскапату Расейскай Зарубежнай Царквы*[537]*.*

*І калі ўся справа зацягваецца — гэта зусім магчыма заслуга акурат Апанаса ці падобных «інфарматараў».*

*Зь беларусім прывітаньнем!*

*Ваш [Тумаш]*

*Штутгарт, 7.1.49.*

*«Трэба, каб земляроб, які працуе, перш спробаваў пладоў» (2 Цім. 2:6).*

*Вельмі паважаны доктар В. Тумаш!*

*Выбачце, што зацытаваны верш не зусім спаўняецца на Вас, бо, ня маючы Вашага адрасу, пасылаю ў Вашае распараджэньне 20 Новых Запаветаў на беларускай мове як навагодні падарунак.*

*Нарэшце распачатыя Вамі й пераданыя мне захады аб выданьні НЗ у беларускай мове дайшлі да скутку. Якраз перад Калядамі прыслалі з Англіі ў Штутгарт 3000 Новых Запаветаў, але толькі 4.1.49 я вярнуўся ў Штутгарт, а 5.1.49 гутарыў з сакратаром місіі для распаўсюджваньня Эвангельля сп. Я. Дыкам у гэтай справе. Ён найбольш прычыніўся да таго, што мы маем НЗ у роднай мове. Ён асабіста добра знаёмы з сакратаром Брытыйскага Біблійнага й Замежнага Таварыства й ягонае слова мела рашучае значэньне. На шчасьце, сп. Я. Дык*

537 **Руская зарубежная праваслаўная царква** (Руская праваслаўная царква за мяжой) створана ў 1921 г. прадстаўнікамі расійскай царкоўнай эміграцыі. Узначальвалася мітрапалітам з рэзідэнцыяй у амерыканскім горадзе Джорданвіль, афіцыйна не прызнавалася аўтакефальнымі праваслаўнымі цэрквамі. У траўні 2007 г. аб'ядналася з Рускай праваслаўнай царквой, але захавала самакіраванне.

*зьяўляецца маім прыяцелем, і мне вельмі лёгка было ўпрасіць яго ўзяць на сябе ўсе захады перад ББЗТ у справе выданьня НЗ у беларускай мове.*

*Мы тут пастанавілі прадаваць НЗ па 2 маркі паасобнік. Думаю, што гэта ня будзе дарага. Для тых, каторыя жадаюць мець слова Божае ў роднай мове, а ня маюць за што купіць, будзем дарыць. Сягодня пішу загады, каб мае аднаверцы браліся за распаўсюджваньне гэтай кнігі. Спадзяюся, што ў беларускіх лягерох іх прымуць ахвотна й перашкод ніхто чыніць ня будзе. Было б вельмі добра, каб Вы ад сябе напісалі артыкул у «Бацькаўшчыне» аб патрэбе чытаньня Эвангэльля ў роднай мове й аб карысьці, якую прыносіць Эвангэльле народу. Я таксама думаю напісаць пару артыкулаў аб тым, як перакладалася Эвангэльле на беларускую мову, пачынаючы д-рам Ф. Скарыной і канчаючы Ан. Луцкевічам[538], і хто й як спрычыніўся да таго, што ББЗТ выдала ў 1948 г. НЗ у беларускай мове[539]. [...]*

*Калі Вы яшчэ да гэтага дадасьце сваю думку аб вялікай патрэбе перакладу ўсёй Бібліі на беларускую мову й выданьні яе ў найхутчэйшым часе, Вы адчыніце для мяне шырэйшыя дзьверы дамагацца й спадзявацца іх дапамогі ў гэтай так пільнай і балючай для нашага народу справе.*

*З шчырым прывітаньнем Д. Ясько.*

*Goslar/Harz, 26.2.1949 г.*
*Hamburger Hof*

*Да Яго Эксэленцыі Біскупа Баляслава Слосканса ў Любэне.*

*Адначасна з гэтым лістом высылаю Вашай Эксэленцыі асобнаю пачкаю адзін экзэмпляр «Новага Запавету і Псальмоў» па-беларуску, перавыдадзеных нядаўна Брытанскім і Замежным Біблійным Таварыствам у Лёндане.*

*Пасылаю гэтую кніжку Вам, Эксэленцыя, ведаючы, што Вас цікавіць усялякая рэлігійная літаратура па-беларуску. Адначасна гэта ёсьць адна з канкрэтных ілюстрацый да на-*

[538] Антон Луцкевіч разам з Лукашам Дзекуць-Малеем быў аўтарам перакладу на беларускую мову Новага Запавету і Псальмоў, выдадзеных у 1931 г. у Гельсінгфорсе (Хельсінкі).

[539] Ясько, Д. «Новы Запавет» у беларускай мове // Бацькаўшчына. № 4 (48). 30.1.1949.

*шай гутаркі-дыскусіі ў Лювэне аб балючых сяньня беларускіх каталіцкіх справах.*

*Праз многія вякі беларусы-каталікі выказвалі стойкую вернасьць Апостальскай Сталіцы. Калі сяньня многія тысячы зь іх прымусова апынуліся на чужыне ў вельмі цяжкіх матэрыяльных і духовых умовах, дык, на жаль, выглядае так, што духоварэлігійная апека над беларусамі-каталікамі (як таксама й матэрыяльна) пакінутая Рымам для розных эвангельскіх цэркваў і сэктаў.*

*Рым для нашых каталікоў да гэтай пары не памог, на жаль, выдаць ніводнай, нават найменшай, рэлігійнай кніжачкі пабеларуску, не гаворачы ўжо аб Эвангельлі. Рым да гэтай пары не скіраваў да іх з словам рэлігійнай пацехі ніводнага свайго каталіцкага сьвятара. Рым нават ня лічыць дагэтуль важным і патрэбным даручыць каму-небудзь зь беларускіх каталіцкіх сьвятароў рупіцца й кіраваць беларускімі каталіцкімі справамі на эміграцыі. Рым ні разу да іх не адазваўся з словам маральнай пацехі й падтрыманьня ў цяжкія гады вандроўкі па чужыне, хаця ў гэтых усіх справах беларусы-выгнанцы зьвярталіся ўжо да Рыму ня раз пасрэдна й беспасярэдне.*

*Усе гэтыя балючыя факты, Вашая Эксэленцыя, сумныя, але, на жаль, праўдзівыя.*

*З шчырай пашанаю да Вашай Эксэленцыі*

*Др. Вітаўт Тумаш.*

*Louvain, 9.3.1949.*

*Вельмі паважаны спадар Тумаш!*

*Дзякую за Ваш ліст і за Новы Запавет. Вельмі чаканая й вельмі поўная дакумэнтацыя. Я разумею, добра разумею Вашыя пытаньні беларусаў-каталікоў як лацінскага, так славянскага абраду. У якім палажэньні знайшліся тыя каталікі, калі яны сяньня маглі б вярнуцца дамоў у родную Беларусь — няма сьвятароў, няма літаратуры. Вельмі добра разумею. Але як япіскап каталіцкай царквы разумею добра, што тут ня можна выканаць усіх жаданьняў. У маім воку я служу для Божай справы, што знаходжуся па маіх магчымасьцях для службы моладзі.*

*Жадаючы Вам*

*+ Балеслаў Слосканс*

*Goslar/Harz, 4 красавіка 1949 г.*

*Вельмі паважаны Ойча [Даніла Ясько]!*

*«Бо кажны, хто просіць, дастае, і хто шукае, знаходзіць, і хто стукаецца, таму адчыняць» (Мацьвей, 7:8).*

*Цытату з Мацьвея прыводжу тут я таму, што пару дзён назад я атрымаў зь Лёндану ад Мр. Гаіг афіцыяльны ліст Брытанскага й Замежнага Біблійнага Таварыства, у якім апрача розных іншых справаў ён піша, што Біблійнае Таварыства гатовае матэрыяльна нам памагчы ў справе перакладу й надрукаваньня ўсёй Бібліі па-беларуску, калі б знайшліся ў нас на гэта адпаведныя людзі ці адпаведны чалавек («We would gladly help in such a work if it were possible…»).*

*Перш чым адказваць на гэты ліст для Мр. Гаіг, хачу пытаньне гэтае ўзгодніць дакладна з Вамі, каб мы часам ня дзеілі з Вамі ўразрэз. Агульны мой погляд на гэта Вы, здаецца, ведаеце ўжо — па-мойму «чалавека» то ў нас на гэта сяньня не хапае, але «людзі» знойдуцца. Гэта значыць, што мы ня маем тут адмыслоўца, які быў «каваны на чатыры лапы», гэта значыць і па-гэбрайску, і па-грэцку, і па-лацінску, і наканец па-беларуску. Але можна змантаваць групу людзей (невялікую), якая сама сябе дапаўняла б. Лаціну ведаючых знойдзецца і ў нас, а спэцаў ад грэцкай і гэбрайскай для кансультацыі можна будзе ў патрэбе «пазычыць» і ў іншых народаў.*

*Гэта адзіны выхад, бо чакаць на тое, пакуль дарастуць свае гэбраісты ды грэколягі, — гэта значыць адкладаць справу ad calendam grecas*[540]*. Трэба ж каваць жалеза, пакуль яно гарачае. Калі знайшліся добрыя людзі, якія нам хочуць у гэтым памагчы, дык нагоду трэба выкарыстаць, каб яна нам пазьней не прапала. Грэх быў бы перад народам і гісторыяй з гэтым марудзіць.*

*Дык чакаю ад Вас ліста з Вашым на гэта поглядам. Яшчэ мо было б лепш, каб мы супольна абгаварылі й эвэнтуальна кандыдатаў на перакладчыкаў. Ёсьць у нас пару пісьменьнікаў, якія сяньня сядзяць безработныя й ахвотна хіба ўзяліся б за гэтую карысную працу, калі б за гэта яшчэ маглі нешта сабе зарабіць, гэта значыць, атрымаць ганарар перакладчыка. Прынамся я знаю такіх. Дык што думаеце пра ўсё гэта Вы?*

---

540 Правільна на лаціне будзе *«ad calendam Graecam»* («да грэцкіх календаў»), г. зн. адкладзена на няпэўны час.

*Напішыце, доўга не чакаючы, бо я не хачу астаўляць доўга без адказу ліст Мр. Гаіг.*

*[...]*

*Зь беларускім прывітаньнем!*

*Ваш [Тумаш]*

*Канцылярыя Душпастарства для беларусаў-эвангелікаў*
*Лінц над Дунаем*
*12 красавіка 1949 г.*

*Яго Міласьці*
*Паважанаму Др. В. Тумашу,*
*Нямеччына.*

*Вельміпаважаны Доктару,*

*На днях я атрымаў ад паважанага сьвятара Д. Ясько пісьмо, у якім апошні даносіць, што Брытыйскае й Замежнае Біблійнае Таварыства зьвярнулася да Вас, паважаны Доктару, з просьбаю «памагчы ў намаганьнях выдаць усю Біблію на беларускай мове».*

*Дзеля таго, што справа перакладу Старога Запавету на беларускую мову і палепшаньне тэксту з пункту гледжаньня бел. мовы Новага Запавету ляжала мне заўсёды на сэрцы, было б мне асабліва прыемна, калі б і я мог унесьці сваю долю дасьведчаньня ў гэтую працу. Тым болей пішу аб гэтым, што пэўную частку гэтае працы я (або мы) ужо выканаў. Перакладзенымі на беларускую мову зьяўляюцца наступныя кнігі: Кніга Эклезіяста, Кніга Песьні зь Песьняў Салямона, Кніга Прарока Асіі, Кніга Плач Ярэміі, Кніга Прарока Амоса (гэтыя кнігі яшчэ ня мелі апошняе рэдакцыі), Кніга Руты, Кніга Прарока Іоіля, Кніга Прарока Аўдыя, Кніга Прарока Іоны, Кніга Прарока Наума, Кніга Прарока Авакума, Кніга Прарока Аггея й Кніга Прарока Малахія. Апошнія восем кніг прыгатаваны да друку, г. зн. што я маніўся выдаць іх ратапарным друкам на правох рукапісу.*

*Было б бясспрэчна карысным, як піша сп. Ясько, калі б асобы, зацікаўленыя гэтай справай, маглі спаткацца й падзяліцца сваімі спасьцярогамі й дасьведчаньнем.*

*Гэтулькі ад сябе, спадзяючыся ад Вас чуць шмат болей.*

*З прычыны надыходзячых Велікодных Сьвят засылаю Вам, як і Вашай сям'і, мае найлепшыя пажаданьні.*

*Ваш Ян Пятроўскі.*

*Unterlüß, 26.5.1949.*

*Вельмі Паважаны Ойча [Даніла Ясько]!*

*Адказваю на Ваш апошні ліст гэты раз, на жаль, зь вялікім апазьненьнем. Гэта сталася таму, што я апошнімі тыднямі мусіў аж два разы пераяжджаць зь месца на месца. А такія пярэбары зь сям'ёй займаюць шмат часу й паралізуюць дзейнасьць. Лягеры ў Госьляры паліквідавалі, і таму прыйшлося мне прыняць канчальна працу тут, у Unterlüssie. На гэтую зьмену адрасу зьвярніце, пішучы ліст, увагу.*

*З гэтай прычыны запазьнілася і ўся мая карэспандэнцыя. Ад Біблійнага Т-ва чакаю гэтымі днямі. Ад айца Сіповіча ў Лёндане атрымаў ліст аб тым, што за шуканьне кніг Бібліі Скарыны ён ужо ўзяўся. Я яго прасіў пашукаць іх у British Museum бібліятэцы, бо паводля бібліяграфічных дадзеных там мае існаваць аж 17 кнігаў Скарынавай Бібліі. Пры новым перакладзе ня шкодзіла б абаперціся й аб нашую слаўную ў гэтай дзялянцы традыцыю.*

*Ад а. Пятроўскага атрымліваю як лісты, так і маю ўжо машынапісы пару перакладзеных ім кнігаў Бібліі. Пераклад наагул неблагі, хаця некаторыя месцы ня шкодзіла б яшчэ супольна прадысткутаваць і адшліфаваць. Наагул ён даволі шмат ужо работы прарабіў. Пару дзён таму атрымаў ад яго ліст, што гэтымі днямі мае быць у Мюнхэне, дык, магчыма, пабачыцеся. Я яго пасьпешным лістом запрасіў да сябе, каб заехаў, але ня ведаю, ці ліст пасьпее злавіць яго яшчэ дома й ці ён зможа пад'ехаць аж сюды.*

*Адзін з нашых супрацоўнікаў, які меўся брацца за пераклад, — сп. Хмара — на жаль, часова таксама ў сваёй працы спаралізаваны, бо акурат пераехаў у пераходны лягер і за пару тыдняў мае выехаць у Канаду. Наагул, вялікая шкада, што чатыры гады амаль бязьдзейнага жыцьця па лягерох ДП былі ў вялікай меры змарнаваныя. Аб гэтым, каб гэтыя гады акурат выкарыстаць для працы перакладаў, я пісаў Біблійнаму Таварыству яшчэ летам 1946 г., аднак тады, на жаль, ім яшчэ было няясна, ці беларускі пераклад Бібліі наагул патрэбны.*

*Ваш плян канфэрэнцыі вельмі добры, толькі крыху цяжкі для рэалізацыі дзеля вялікай раскіданасьці людзей і патрэбных на гэта коштаў. Дык прыдзецца пачакаць яшчэ, што скажа пра гэта Біблійнае Т-ва, якому я пра патрэбу зьезду намякаў. Я цяпер шукаю яшчэ адпаведнага прадстаўніка праваслаўнага*

*духавенства, што ня ёсьць лёгкаю справаю, бо чалавека, які цікавіўся б і разам мог бы нешта нам канкрэтнае памагчы, знайсьці нялёгка. Прадстаўнікі «зарубежнай», зразумела, з прынцыпу справаю гэтаю не цікавяцца, бо вялікая бальшыня іх уважае справу перакладу наагул непатрэбнаю й пагражаючаю манаполю расейскай мовы ў праваслаўнай царкве. Сярод жа нашых аўтакефалістых няшмат ёсьць людзей, адпаведных да гэтага. Але, думаю, нешта ўжо хутка знайду.*

*[...] Шчырыя Вам прывітаньні ад [Тумаша]*

*Refugee Methodist Church in Upper Austria*
*18 ліпеня 1949 г.*

*Яго Міласьці Паважанаму Д-ру В. Тумашу ў Унтэрлюс, Нямеччына.*

*Вельміпаважаны Доктару:*

*З праўдзіваю прыемнасьцю чытаў я сягоньня — пасьля павароту з адпачынку — Вашае пісьмо з дня 7.7.49, за якое асабліва ўдзячны Вам.*

*Чытаючы Вашае пісьмо, я атрымліваю ўражаньне, што Вы папалі ў вадаварот, зь якога шукаеце выхаду. Але я ўсю справу бачу прасьцей, там якраз, дзе Вы яе бачыце заблытаней. — Перадусім, трэба працаваць. Як будзе пераклад — будзе й выдавец. Што датычыць габрэйскай мовы, дык гэтай мовай пасілкоўваюся, пасьля таго, як я яе стараўся ад некалькі месяцаў пазнаць. Натуральна, тэксты перакладаў зь нямецкай, ангельскай, польскай, расейскай, чэскай, украінскай аддаюць тутака аграмадную ролю!*

*Я кажу, што ўсю справу перакладу бачу прасьцей. Пры першай магчымасьці, прымаючы ўсю адказнасьць на сябе, выдам друкам прынамся «Малых Прарокаў». Гэта будзе ў значнай меры залежаць ад рэалізацыі маіх плянаў на прышласьць (зь Нью-Ёрку паведамляюць мне, што ўжо высланы мне ў Эўропу г. зв. «эшюрэнс»[541]. — Там маю спадзею разгарнуць працу зьбіраньня Фонду на беларускую прэсу. Некаторыя цэрквы запрашаюць ужо цяпер, як толькі прыбуду ў Амэрыку, каб іх адведаць).*

*Я думаю, што ў працы над перакладам Вы абралі не ўласьцівую дарогу: «горшы» мой пераклад — заменьваеце Вы*

---

[541] *Insurance* (анг.) — страхоўка. Тут маецца на ўвазе дакумент на выезд у ЗША.

*«лепшым» Сваім. Кажны з нас, хто робіць тую ці іншую працу, можа памыліцца. Зьвярнуць увагу на памылку (г. зн. на тое, што бясспрэчна памылкаю ёсьць) — гэта самае пажаданае ў гэткай працы. Кожны з нас можа прыняць або не прыняць зьвернутае яму ўвагі, але адказнасьць мусіць кожны сам несьці за сваю працу. — І з другога боку фізычнай немагчымасьці ёсьць кожнаму (калі б было яшчэ болей) рабіць тую самую працу. Тады блыталіся б мы на месцы, папраўляючы адзін другога. Вы ўспамінаеце, што якаясьці камісія выбрала б пасьля тэкст. Хто гэтая камісія? Пусьцеце яшчэ сюды сп. Янку Станкевіча — тады вобраз дапоўніўся б!*

*«Хмара»? Ня думаю, каб можна было б з гэтым аўтарам верша ў «Крыніцу» віленскую трымаць крок. Яшчэ жывы ў памяці ягоныя паклёпы перад магутнымі з папярэдніх гадоў на тых, якія фактычна стараліся працаваць для беларускае справы.*

*З прадстаўнікамі каталіцкае царквы, як і праваслаўнае, нам не дагаварыцца. Апошнія наагул любяць расейшчыну, і пасьля таго, як сьв. Коўш*[542] *ня жыве, я ня ведаю іншага тут беларуса. Гэтае самае было ў Вільні ў часе выданьня Новага Запавету. Яны прымуць беларускі пераклад, як гэты будзе зроблены, і як іхныя масы праваслаўныя будуць дамагацца ад іх беларускага тэксту Бібліі. Але да гэтага многа яшчэ вады мусіць уплысьці ў Дунаю.*

*Я ня ведаю, як маглі б мы спаткацца й абгаварыць некаторыя асноўныя рэчы перакладу. Але, калі гэта немагчыма, можна дзяліцца дасьведчаньнем і на адлегласьці, прымаючы за падставу ўзнаваньне працы, дакананае кожным працуючым тут, з тым, што кожны нясе сам адказнасьць за дакананую працу.*

*Вялікі дзякуй Вам за прысланую літаратуру.*

*Будзьце здаровы й прымеце пашану ад Вашага*

*Яна Пятроўскага.*

*Штутгарт, 24.9.1949*

*Паважаны спадару д-р В. Тумаш!*

*Урэшце прыйшоў канец і маім чаканьням. 20-га г. м. мне падпісана віза на ўезд у ЗША. 26-га з усімі манаткамі трэба быць у Людвісбургу напагатове да адпраўкі ў Брэмэн.*

---

[542] Маецца на ўвазе Аляксандр Коўш.

*Праца мая ў Нямеччыне канчаецца, але перад ад'ездам хацеў бы яшчэ зрабіць нешта карыснае для некаторых з маіх суродзічаў. Хаця квота ўжо вычарпаная, але Сусьветны саюз баптыстаў[543] забясьпечыў сябе наперад і мае магчымасьць выставіць яшчэ пару тысячаў «ашурансаў», г. зн. зь нейкаю надвышкаю, чым у нас тут пазасталося членаў. Распараджэньне было, каб «ашурансы» перадусім даваліся членам. Цяпер жа, ведаючы, што будзе надвышка, я пасылаю Вам аплікацыі й прашу іх выпаўніць і пераслаць у эміграцыйнае бюро Сусьветнага саюзу баптыстаў у Мюнхэне. Паводле правіла, трэба, каб Вы падпісалі й пераслалі мне, я падпісаў бы, зрабіў ад сябе заўвагу й скіраваў бы далей, але гэта немагчыма, таму я падпісваю «ін бланко» й адсылаю Вам для запаўненьня. Такія ж апплікацыі пасылаю й для сп. Панькова[544].*

*Даўжэйшыя (рататарныя) выпаўняюцца на кажнага дарослага члена сям'і, дзеля чаго пасылаю іх некалькі. Друкаваныя выпаўняюцца ўсе тры адзінакава (для трох розных інстытуцыяў) і да іх належыцца далучыць тры фатаграфіі цэлай сям'і.*

*Пра Вас і спадара Панькова пішу ў нашае бюро ў Мюнхэне й прашу дапамагчы Вам прыехаць. Магчыма, што з работай будзе цяжэй і прыдзецца працаваць не ў сваім фаху. Але аб гэтым Вас спытаюць асабіста.*

*З шчырым прывітаньнем Д. Ясько.*

*Пратакол канфэрэнцыі ў справе перакладу Бібліі на беларускую мову ў Брэмэне дня 23 кастрычніка 1949 году*

*Прысутныя: сьвятар Даніла Ясько, сьвятар Ян Пятроўскі і др. Вітаўт Тумаш. Нараду, з даручэньня двох іншых сяброў канфэрэнцыі, вёў др. Тумаш; сакратаром быў а. Пятроўскі.*

*Прыняты парадак дня:*

1. *Справа неабходнасьці перакладу Бібліі на беларускую мову.*
2. *Прароблeная да гэтай пары праца.*
3. *Плян будучай дзейнасьці.*
4. *Рознае.*

[543] **Сусветны саюз баптыстаў** (*Baptist World Alliance*) — найбуйнейшае міжнароднае аб'яднанне хрысціянскіх рэлігійных арганізацый, якія вызнаюць баптысцкае вучэнне. Заснаваны 17 ліпеня 1905 г. у Лондане.

[544] Маецца на ўвазе Мікола Панькоў.

*1. Неабходнасьць перакладу Бібліі на беларускую мову.*

*Патрэбу перакладу Бібліі на беларускую мову рэфэруе й матывуе др. Тумаш. Неабходнасьць такога перакладу ў рэлігійна-царкоўным жыцьці народу само сабой для кожнага зразумелая. Пераклад Бібліі, аднак, справа вельмі важная ня толькі з рэлігійнага, але й нацыянальнага гледзішча. Хаця некалі беларускі народ адзін зь першых атрымаў Сьвятое Пісьмо, друкаванае ў старой беларускай мове ў слаўным перакладзе доктара Францішка Скарыны, сяньня, на жаль, няма зразумелага й блізкага сэрцу ўсіх слаёў беларускага народу перакладу на сучасную літаратурную беларускую мову. Патрабуючыя Бібліі змушаныя таму чытаць яе ў чужых, мала зразумелых сабе, мовах, а для іншых яна дзеля гэтага застаецца й зусім чужой і недаступнай. Трэба пры гэтым яшчэ не забывацца, што Біблія мае вялікую ў сьвеце вагу як выдатны й адзіны ў сваім характары твор сусьветнай пісьменнасьці, за якім стаяць тысячалецьці, прысваеньне якога сучаснай нашай літаратурнай мове было б немалою заслугаю й зь літаратурнага гледзішча.*

*Абмеркаваўшы ўсестароньне паднятае пытаньне, прысутныя на канфэрэнцыі выразілі свой адналітны ў гэтай справе погляд аб тым, што пераклад Сьвятога Пісьма й яго надрукаваньне мае аграмаднае значэньне для жыцьця беларускага народу як на эміграцыі, так і на Бацькаўшчыне, і што як з строга рэлігійна-царкоўнага, так і культурна-нацыянальнага гледзішча распачатую працу ня толькі трэба праводзіць далей, але трэба пакласьці натугі для яе прысьпяшэньня й для магчыма хуткай поўнай рэалізацыі перакладу й друку.*

*2. Праробленая да гэтай пары праца.*

*У гэтым пункце парадку дня др. Тумаш рэфэруе, а іншыя сябры канфэрэнцыі сваімі дадзенымі дапаўняюць праробленую ўжо перакладную працу над Бібліяй, а таксама працу над яе каардынацыяй і над шуканьнем матэрыяльных магчымасьцяў для пазьнейшага друку.*

*Да апошняй вайны вядомыя былі пераклады на беларускую сучасную мову толькі дзьвюх кнігаў Старога Запавету: Песьні Песьняў — пераклад Ластоўскага, і Псальмы — пераклад А. Луцкевіча. У апошнія гады найбольш перакладной працай выказаўся а. Пятроўскі. Паводле інфармацыяў а. Пятроўскага, ім перакладзена ўжо каля дзесяці, пераважна меншых, прароцкіх кнігаў, а над некалькімі большымі вядзецца акурат*

*праца. Канкрэтнаю перакладною працаю займаюцца таксама сп. мгр. Леанiд Галяк, др. Б. Грабiнскi й др. В. Тумаш. Айцец Ясько рыхтуецца да перакладной працы, вывучаючы ад пару гадоў гэбрайскую мову. За гэбрайскую мову апошнiм часам узяўся й а. Пятроўскi; грэцкую ён вывучае ўжо ад даўжэйшага часу.*

*У справе арганiзацыi перакладной працы над Бiблiяй i шуканьнем магчымасьцяў для друку перакладу рабiлiся натугi др. Тумашам ад лета 1946 г., калi ў гэтай справе быў высланы абшырнейшы мэмарыял у Брытанскае й Замежнае Бiблiйнае Таварыства ў Лёндане (10.7.1946) з просьбай аб матэрыяльную помач на гэтую мэту, i калi былi зробленыя першыя спробы знайсьцi перакладальнiкаў сярод беларускiх пiсьменьнiкаў на эмiграцыi.*

*Вынiкам гэтых захадаў было тое, што Брытанскае й Замежнае Бiблiйнае Таварыства пасьля дакладнай праверкi цэлага пытаньня наважылася спачатку перадрукаваць у 1948 г. Новы Запавет i Псальмы з Гельсiнгфорскага выданьня 1931 г., а вясной 1949 г. выразiла сваю гатоўнасьць памагчы матэрыяльна ў справе перакладу й друку ўсёй Бiблii на беларускую мову.*

*Усе перашкоды, якiя паявiлiся пры перадруку Новага Запавету й Псальмаў, перамог сваёй ахвярнаю працай а. Ясько. Ён жа галоўна рупiўся й аб прапагаваньнi ды пашырэньнi надрукаванай ужо кнiжкi.*

*Рабiлiся таксама натугi над зьбiраньнем матэрыялаў для перакладной працы (напр., грамаджэньне Бiблiяў у розных мовах а. Ясько), а таксама расшуканьнi тэкстаў Скарынавага перакладу па выдатнейшых бiблiятэках Эўропы. Праца гэтая яшчэ не закончаная.*

*3. Плян будучай дзейнасьцi.*

*Абгаварыўшы сучасны стан перакладной працы, прысутныя на канфэрэнцыi прымаюць пастанову наступнага зьместу:*

*«Беларускi народ на пачатку XVI ст. адзiн зь першых сярод народаў сьвету меў друкаваны пераклад Бiблii на родную мову ў выданьнi слаўнага доктара Францiшка Скарыны з Полацка.*

*Сяньня, на жаль, у вынiку доўгай палiтычнай нявολi й нацыянальнага занядаду, беларускi народ ня мае зразумелага й блiзкага сэрцу й душы поўнага пе-*

*ракладу Сьвятога Пісьма на сучасную літаратурную беларускую мову.*

*Беручы пад увагу вялікае значэньне й вагу Сьвятога Пісьма для рэлігійна-царкоўнага й культурнага жыцьця народу і ўсьведамляючы сабе безадкладную патрэбу як з рэлігійнага, так і нацыянальнага гледзішча прыгатовы новага, поўнага перакладу Біблії на беларускую мову прысутныя на адмысловай, прысьвечанай гэтай справе канфэрэнцыі 23 кастрычніка 1949 г. у Брэмэне пастанаўляюць стварыць Камісію для перакладу Біблії на беларускую мову (Commission for Translation of the Bible into Whiteruthenian), задачаю якой мае быць як перакладаньне, так і дагляданьне й каардынацыя перакладной працы паасобных перакладчыкаў і канчальнае прыгатаваньне да друку цэласьці.*

*У склад Камісіі для перакладу Біблії на беларускую мову маюць уваходзіць: сьвятар Даніла Ясько, сьвятар Ян Пятроўскі, мгр. Леанід Галяк і др. Вітаўт Тумаш. У патрэбе склад гэты можа быць пашыраны за згодай усіх сяброў Камісіі.*

*Задачаю Камісіі ёсьць руліцца аб перакладзе ўсёй Біблії на беларускую мову, перакладаць самім і шукаць адпаведных перакладчыкаў ды адумыслоўцаў-лінгвістаў, нагрмаджваць патрэбны для перакладу навукова-літаратурны матэрыял, навязваць кантакт з арганізацыямі, зацікаўленымі гэтаю важнаю працаю й дбаць аб пазьнейшы друк перакладу.*

*Адрас Камісіі будзе ўстаноўлены пасьля таго, як сябры яе пераедуць на месцы сваёй сталай эміграцыі. Часова за адрас Камісіі будзе служыць адрас др. Тумаша. Пастаноўлена таксама зрабіць пячаткі Камісіі й адбіць фармуляры ды канвэрты зь яе адрасам, як толькі вызначаны сталы адрас, які можна будзе падаць да агульнага ведама».*

*4. Living*

*У гэтым пункце парадку дзеяньня абгаварваліся некаторыя тэхнічныя цяжкасьці, якія сустракаюцца пры канкрэтнай перакладной працы. Адной зь іх ёсьць справа ўстанаўленьня нейкага адналітнага перадаваньня з гэбрайскіх собскіх назоваў Біблії. Айцец Ясько прапанаваў прыняць за сталы прынцып як*

*найбольш фанэтычнае перадаваньне арыгінальных гэбрайскіх назоваў і адступаць ад гэтага толькі ў тых выпадках, у якіх у народнай мове агульна прыняліся й пашырыліся назовы ў арыгінальнай зьбеларушчанай форме.*

*Айцец Пятроўскі прапануе ў тых выпадках, у якіх выступае ў народнай мове розьніца паміж прынятым у праваслаўных і каталікоў выгаварэньнем собскіх назоваў, заўсёды болей браць на ўвагу назовы, прынятыя сярод праваслаўных, паколькі бальшыня беларускага народу праваслаўнага веравызнаньня.*

*Канчальна гэтыя й падобныя тэхнічныя справы перакладу пакінутыя для абмеркаваньня й вырашэньня для будучай Рэдакцыйнай камісіі, каторая будзе ўстанаўляць канчальны тэкст перакладу. Падчас канкрэтнай перакладной працы будуць тым часам выясьняцца й шляхі найлепшай разьвязкі ўсіх сустрэнутых цяжкасьцей.*

*а. Д. Ясько*
*а. Я. Пятроўскі*
*др. В. Тумаш.*

*З усімі запратакаляванымі тут пастановамі Канфэрэнцыі ў Брэмэне прынцыпова салідарызуюся й запросіны ў склад Камісіі для перакладу Бібліі на беларускую мову прымаю.*

*Мгр. Л. Галяк*

*Burgdorf, 1.1.1950 г.*

*Вельмі Паважаны Ойча Ясько!*

*Дасылаю Вам яшчэ адзін «камунікат» Камітэту й разам ліст ад нашага АБЛЧ*[545] *у справе ашурансаў. Калі толькі можаце — памажыце нешта. У нашым Аб'яднаньні ёсьць і пару шчырых супрацоўнікаў-сябраў расейскай нацыянальнасьці, як, напрыклад, праф. Сяргееў з Магілёўскага мэдыцынскага інстытуту. Паколькі Вы цяпер зьяўляецеся сьвятаром расейскай баптыстычнай царквы ў Нью-Ёрку, дык можа, для расейцаў будзе Вам лягчэй знайсьці людзей, якія выставілі б ашурансы ім (але лепш было б, каб бяз розьніцы нацыянальнасьці). Па рэлігіі яны пераважна праваслаўныя, ёсьць пару й каталікоў.*

[545] **АБЛЧ** — Аб'яднанне беларускіх лекараў на чужыне — арганізацыя, заснаваная ў 1947 г. у нямецкім Марбургу. Ягоным старшынём быў Вітаўт Тумаш.

*Між іншым, хачу Вас паведаміць, што з стараньнямі аб ашурансу для мяне як дагэтуль нічога ня выйшла. Дасланыя Вамі фармуляры выпаўніў і падпісаў я ўжо добрых тры месяцы таму, а разам далучыў і па адной супольнай фатаграфіі ўсёй сям'і. Фармуляры выслаў на пададзены Вамі адрас у Мюнхэне заказным. Да гэтай пары — ні слыху, ні духу! Думаю, што з гэтага нічога тады ня будзе. Чамусьці не палічылі нават патрэбным і адказаць. Для мяне сяньня справа ўжо не істотная, бо гэтымі днямі атрымаў ашуранс на ўсю сям'ю праз Church World Service на працу ў Maspeth L. I. N. Y. (я гэтага адрасу добра не разумею — ці гэта ў самым Нью-Ёрку, ці толькі недалёка ад гораду ў штаце Нью-Ёрк. Выясьніце, калі ласка, і напішыце — мяне цікавіць, ці эвэнтуальна будзем блізкімі ці далёкімі суседзямі).*

*Айцец Пятроўскі й да мяне не адзываецца дагэтуль. Яму, відаць, або ідзе вельмі добра, або вельмі блага.*

*У сувязі з разасланым Камунікатам да прэсы аб паўстаньні нашага Камітэту для перакладу Бібліі на беларускую мову ўзяўся ў перакладную працу, хоць і неафіцыяльна, дапамагаць і айцец Леў Гарошка. Неафіцыяльна, бо паколькі перакладная праца зьвязаная з Брытанскім Біблійным Т-вам, яму як духаўніку, падлягаючаму Рыму, афіцыяльна прымаць у гэтым удзелу немагчыма. У сваім часапісе «Божым шляхам»*[546]*, што выходзіць друкам у Парыжы, зьмясьціў ён у скарачэньні наш Камунікат аб канфэрэнцыі ў Брэмэне. А ў вадным з наступных нумароў зьбіраецца надрукаваць і першы разьдзел кнігі Быцьця (безумоўна, з камэнтарамі!) перакладу майго й др. Гагалінскага*[547]*. Для патрэб перакладной працы прыслаў мне нават свой беларускі слоўнік з 20000 слоў, які ён укладае для францускай мовы. З гэтага відаць, што за справу ён бярэцца зусім шчыра, перашкаджае яму толькі ягоная арганізацыйная царкоўная залежнасьць ад Рыму.*

*Найшчырэйшыя Вам прывітаньні!*

*Ваш [Тумаш]*

---

[546] Часопіс «Божым Шляхам» у гэты час (1947–1957) выдаваў у Парыжы айцец Леў Гарошка.

[547] Верагодна, маецца на ўвазе **Ігнат Гагалінскі** — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, доктар медычных навук. Быў старшынём Беларускага студэнцкага саюзу (ад 1928 г.), рэдактарам «Студэнцкай думкі». Старшыня ЦК БХД.

*Розэнгайм, 12.1.50*

*Даражэнькі Сп. Доктар!*

*Прашу Вас выбачыць мне, што я так доўга не адказваў на Ваш мілы й вельмі важны ліст. Прычыну, магчыма, Вы ўжо ведаеце: я знаходзіўся перад Хіратоніяй у япіскапы. Працы патрэбнай і непатрэбнай было столькі, што я часам баяўся, ці мая бедная галава наагул усё гэта вытрымае, ці я не ўпаду пад цяжкім крыжам, які ўзяў на свае плечы. Супраць мяне выступілі ўсе сілы пекла, а памочнікаў было зусім мала. Але сярод гэтых памочнікаў быў сам Усявышні, які й памог нам перамагчы пекла: 18 і 19 сьнежаня адбылася мая Хіратонія ў Розэнгайме, і я ўжо Япіскап БАПЦ. Мы маем ужо наш уласны Сьвяшчэнны Сабор япіскапаў БАПЦ на чале з архіяпіскапам Сергіем[548], які поўнасьцю перайшоў да нас.*

*Такім чынам, асноўная праца, з дапамогай Госпада Бога, пазытыўна закончаная, фундамэнт нашай Царквы заложаны, і мы можам цяпер перайсьці да далейшых нашых заданьняў.*

*Адным з важнейшых сярод іх зьяўляецца парушанае Вамі пытаньне перакладу Сьвятых Кнігаў на беларускую мову. Маё прынцыповае становішча тут ня можа быць іншым, як пазытыўным. Я наперад багаслаўляю Вашу працу на гэтай ніве. Усё, што будзе пераведзена на беларускую мову, толькі ўзбагаціць нашу царкоўную літаратуру, а гэтым і нашу БАПЦ.*

*Я б прасіў Вас паведаміць мне: 1. хто знаходзіцца ў вашай Камісіі; 2. як далёка знаходзіцеся Вы ўжо зь перакладамі Біблії?*

*Для БАПЦ цяпер вельмі важна, што найхутчэй перайсьці на беларускую мову ў царкоўнай службе. Дзеля гэтага неабходна было б заняцца перакладамі царкоўна-службовых кніг. Я ўжо раней крыху пасварыўся з сп. Адамовічам, які жадаў ад мяне зараз жа перайсьці на беларускую мову ў царкве. Ніякія мае доказы тады не памаглі, што мы зможам гэта зрабіць толькі тады, калі будзем мець зацьверджаныя духоўнымі ўладамі пераклады, бо ён уважаў, што мы ніякіх перакладаў не патрабуем, а можам проста экспромтам служыць па-беларуску або даволі пералажыць на беларускую мову літургію і ўсё гатова! Між іншага, за тое, што я ня мог згадзіцца зь ягоным дзікім жаданьнем, ён усадзіў мне нож у сэрца ў часе маёй Хіратоніі. Падчас, калі госьці выхвалялі мяне да неба, дык ён знайшоў для*

[548] Маецца на ўвазе архіепіскап Сергій (Ахатэнка).

*мяне такія словы: «а табе, браце Васіль, раджу вярнуцца (!!!) у беларускі лягер!!!» Ясна, гаварыў у бальшыні: мы крывічы, крывічане й г. д., што мне было таксама, дзеля розных прычынаў, вялікай непрыемнасьцю, бо гэта матэрыял для ворага, што нашая БАПЦ толькі для крывічоў. Але Бог зь ім, гарбатага магіла направіць.*

*Я хачу ў Вас запытацца, ці Вашая камісія магла б заняцца гэтым вось перакладам царкоўна-служэбных кнігаў? Калі б у Камісіі былі 3–4 асобы, думаю, што цераз год яна змагла б асіліць гэтую працу. У асноўным тут трэба пералажыць: Літургію Іоана Златавуснага, Васілія Вялікага, Трэбнікі, Часаслоў, Цьвятную й Посную Трыодзь, Актаіх. Псалтыр і Парэміі знаходзяцца ў Кнігах Бібліі, а Эвангэльле й Дзеяньні Апосталаў мы ўжо маем пры Новым Запавеце.*

*У асноўным, добра было б, каб на чале такой Камісіі стаяў праваслаўны, але ня ведаю, ці Вы яго маеце, бо сп. Адамовіча наагул не ўяўляю ў Камісіі — ён мог бы і ў пераклад увесьці — крывічы, Крывія... Безумоўна, я ўважаю, што Вы былі б дастатачным кіраўніком і гэтай Камісіі..*

*Шчыра вітаю Вас і ўсю Вашую сямейку. Няхай гасподзь Бог багаславіць Вас усіх у Новым Годзе.*

*З малітваю й любоўю ў Хрысьце Ваш + Япіскап Васілій*[549]

*Бургдорф, 20.1.1950.*

*Вельмі паважаны Ўладыка Васілі!*

*[...] Камісія пакуль што ня мае ніякага старшыні — гэта фактычна яшчэ толькі калегія. Вашая прапазыцыя аб праваслаўным старшыні зусім зразумелая, толькі прашу падаваць кандыдата на гэтага старшыню. Добра было б, каб у Вас знайшоўся нейкі кандыдат праваслаўны сьвятар, але безумоўна, можа быць і сьвецкі, і нават лепш адпаведны да такой працы сьвецкі, як неадпаведны духаўнік, які ня столькі будзе памагаць, колькі перашкаджаць. Дык падумайце аб гэтым. Паводле пастановы Брэмэнскай канфэрэнцыі згода безумоўна, па-мойму, будзе, як на маю думку, будзе й згода ўсіх на тое, што прымат у такой Камісіі павінны мець прадстаўнікі нашай праваслаўнай царквы, паколькі аграмадная бальшыня беларусаў належыць да гэтай царквы. З другой стараны, як*

[549] Ліст напісаны епіскапам Васілём (Тамашчыкам).

*я замеціў падчас перапіскі з нашым будучым выдаўцом — Брытанскім і Замежным Біблійным Таварыствам, — таварыства гэтае кладзе вялікую вагу на тое, каб зроблены пераклад меў апрабату й багаслаўленьне адпаведных дзейнікаў нашай праваслаўнай царквы.*

*Так у васноўным прадстаўляецца дасюлешняя праца нашай камісіі. Між іншым, неафіцыяльную згоду помачы ў перакладной працы атрымалі й ад аднаго каталіцкага сьвятара, дык практычна пры перакладной працы будуць супрацоўнічаць у нас прадстаўнікі нашых усіх веравызнаньняў.*

*Пераходзячы да закранутай у Вашым лісьце другой справы — перакладу літургічных царкоўных кнігаў на беларускую мову, дык мой погляд на гэта хачу падаць крыху абшырней.*

*У гэтай справе, безумоўна, канкрэтны голас могуць мець толькі праваслаўныя беларусы. Мае ўвагі — гэта толькі ўвагі абсэрватара збоку й беларуса-грамадзяніна. Дык мой погляд на гэта — перакладу такога з царкоўнаславянскай на беларускую мову рабіць наагул ня трэба. Літургічная царкоўнаславянская мова ў Беларусі мае ўжо амаль тысячалетнюю традыцыю, да яе вернікі моцна прывыклі, зь ёй зжыліся й нават цесна зрасьлі. Хаця, прынцыпова беручы, перакладаньню на сучасную мову няма ніякіх перашкод — царкоўнаславянская мова не зьяўляецца нейкаю вылучнаю моваю праваслаўнай царквы, але калі наагул, дык асабліва ў сяньняшні момант не відаць ніякіх матываў, дзеля чаго мае беларуская праваслаўная царква выганяць ад сябе царкоўнаславянскую мову. Якія моманты спрычынілі тое, што гэтаю дарогаю пайшла ўкраінская царква й гэтым самым моцна сабе абцяжарыла змаганьне з імпэрыялізмам царквы расейскай (якая выігравала ў народзе існуючыя трацыдыі й прывязаньне да царкоўнаславянскай формы багаслужэньня) — мне невядома й незразумела. Але я маю свой цьвёрды й перадуманы погляд, што беларуская царква, калі ня хоча рабіць сабе лішніх перашкодаў, гэтаю ўкраінскаю дарогаю не павінна ісьці, а мусіць мець сваю собскую лінію — лінію незалежнай сваёй праваслаўнай царквы, пры захоўваньні ўсіх царкоўных традыцыяў, якія не былі накінутыя нам пазьней Масквою, а паходзяць з тых часоў, калі Масква яшчэ наагул не існавала, а ў нас у Полацку, Менску ды Смаленску бурлела палітычнае, культурнае й рэлігійнае жыцьцё.*

*На маю думку, гістарычная задача Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы ляжыць у тым, каб адваяваць поўную фармальную й фактычную незалежнасьць ад накінутай Масквою гегемоніі царквы расейскай, каб дабіцца сапраўднай сваёй народнай праваслаўнай царквы, якая б служыла толькі самой царкве, праваслаўнай веры й беларускаму народу, а не інтарэсам Маскоўскага імпэрыялізму, ня маючым нічога супольнага зь вераю й праваслаўнаю царквою. Перакіданьне такога змаганьня на плошчу барацьбы з царкоўнаславянскаю моваю ў царкве, зусім у нічым не вінаватаю, паможа ворагам нашай праваслаўнай царквы толькі заціраць фактычны сэнс змаганьня, перакідаючы яго быццам на рэйкі змаганьня з царкоўнай традыцыяй і г. п. Гэта прынясе ворагам нашай праваслаўнай царквы значныя карысьці, для яе ж — толькі шкоду.*

*Калі да перакладаньня царкоўных кнігаў на беларускую мову мае такую пякучую ахвоту сп. Адамовіч, дык Вы як праваслаўны япіскап маеце поўнае права парадзіць яму заняцца перакладаньнем каталіцкіх лацінскіх кнігаў на беларускую мову й гэты пераклад паслаць папу да апрабаты — у каталіцкай царкве ўжываньне іншай літургічнай мовы, як лацінская, таксама ж прынцыпова папушчаецца! Калі да гэтага напіраюць нашыя прыяцелі ўкраінцы — дык хіба найлепш ім на гэта адказаць, што разьвіцьцё нашага царкоўнага адраджэньня ідзе й павінна ісьці сваімі гістарычнымі шляхамі, якія ў некаторых пунктах будуць рознымі ад украінскіх, так як і нашая гісторыя розьніцца ад іхняй.*

*З другой стараны, слушна зьвярнулі ўвагу на тое, што й перакласьці патрэбныя кнігі — справа нялёгкая й няскорая. Украінцы, якія мелі куды болей адпаведных сілаў, аддалі на гэта ці не 12 гадоў (як мяне інфармавалі). Нам пры сяньняшнім бязьлюдзеньні на гэта прыйшлося б аддаць куды больш часу, каб пераклад ня быў хаця б горшы за ўкраінскі. Трэба не забывацца, што пераклад літургічных тэкстаў куды цяжэйшы, чым звычайных кнігаў Бібліі, бо пры гэтым перакладзе неабходна зьвяртаць і ўвагу на музыкальную старану перакладу, ягоную «мэлёдыю». А сп. Адамовічу выдаецца, што справа такая ж простая, як яму цыгарэтку закурыць ці напісаць артыкул аб Крывіі.*

*Вось з вышэй выкладзеных прычынаў мне немагчыма даваць Вам ніякіх радаў у справе перакладу літургічных кнігаў —*

*я прынцыпова супроць гэтага. Дзеля тых самых прычынаў, памойму, непатрэбнае зусім і тое наватарства і ў тытулаваньні япіскапаў, як «сьвятарнейшы» й г. д. Гэта ня мае ніякага палітычнага сэнсу. Лепш было б, каб рэдактары часапісу зьвярнулі большую ўвагу на карэкту пасланія і ўсёй газэты наагул, якая прыносіць толькі стыд і перакручвае некаторыя словы да немагчымасьці.*

*Чакаю Вашага пагляду на закранутыя справы. Шчыра адданы Вам*

*Ваш [Тумаш]*

*Розэнгайм, 24.1.1950*

*Глыбокапаважаны й Дарагі Доктар! [Вітаўт Тумаш]*

*Сардэчна дзякую за Ваш мілы й дарагі для мяне ліст. Сардэчна дзякую за Вашае мілае прывітаньне з нагоды маёй Хіратоніі ў япіскапы БАПЦ як асабістае, так і асабліва ад Аб’яднаньня беларускіх лекараў на чужыне. Мне асабліва прыемна Вашае прывітаньне таму, што я заўсёды цаніў і паважаў Вас як аднаго з найболей выдатных дзеячоў, і за такога ўважаю Вас і сяньня. Вашае прывітаньне — яшчэ адзін духова ўзмацняючы мяне аргумэнт у правільнасьці майго кроку й чыну. Мушу Вам сказаць, што маё сэрца крыху баліць, калі толькі ўспомню, што другі доктар, якога я таксама ў свой час паважаў і які зьяўляецца сябрам Вашага Аб’яднаньня, сяньня знаходзіцца ў лягеры тых шумавінаў і прайдзісьветаў, якія доўгі час намагаліся за ўсякую цану перашкодзіць маёй Хіратоніі, пускаючы ў рух усю сваю адзкую машыну, усіх сваіх ведзьмаў і дэманаў. Ці яму хоць крыху ня ўстыдна? Можа, ён хацеў бы граць ролю Пілята — «я зь імі, духовымі братамі й запраданцамі Маскоўскага Патрыярха ня маю нічога супольнага»[550]. А дзе ён быў, калі ягоны орган «Беларускае слова» вяло супроць мяне сваю брудную работу пад рэдакцыяй рэдактара-маскаля?[551] Але Бог зь ім.*

*Даражэнькі Доктар, я хачу таксама верыць, што дата маёй Хіратоніі, як такой, станецца гістарычнай датай нашай Сьвятой Царквы й адначасна нашага гаротнага народу. Безумоўна, каб яна ёю сталася, мусім адпаведна працаваць, не зважаючы*

[550] Маецца на ўвазе Мікола Шчорс.
[551] Маецца на ўвазе Юрка Віцьбіч.

*на ўсякіх прайдзісьветаў і яўных ворагаў. Мы здабылі моцную пазыцыю ў духовым жыцьці нашага народу. Аб значэньні гэтае пазыцыі Вам ня трэба гаварыць, хіба толькі тое, што яна была запраўды цяжкая да здабыцьця й толькі пры дапамозе самаго Госпада Бога мы яе апанавалі, бо вораг быў куды мацнейшы за нас: шматразовыя дэлегацыі «беларускіх» япіскапаў з дэлегатамі «беларускіх» арганізацыяў — прыяцелямі ўспомненага доктара, ува ўсякія ўстановы й месцы спрычынілі нам нямала прыкрасьцяў. Яны, хоць і пабітыя й там-сям аблітыя памыямі, не супакоіліся, пробуюць і будуць пробаваць далей уліць цімала жоўці ў наш сьвяты кубак, бо так ім загадваюць іх белыя й чырвоныя патроны. Ну, няхай. Мы, ведаючы нашу залатую пагаворку «На Бога надзейся, а сам не плашай», дамо найлепшы адказ усім яўным і замаскаваным ворагам нашае царквы й нашага народу сваёй штодзённай і пазытыўнай працай. Я вельмі рад, што ў гэтай пазытыўнай працы прымаеце ўдзел і Вы сваімі перакладамі Сьвятых Кнігаў на беларускую мову. Такі пераклад узмацняе нас нутрана й вонкава, служыць Богу й нашаму Народу.*

*Поўнасьцю згаджаюся з Вамі, што было б вельмі добра, калі б мы маглі неяк спаткацца, толькі ня ведаю — як? Мне цяпер адлучыцца на некалькі дзён ня так лёгка, а думаю, што й Вам таксама. Калі б Вы змаглі неяк прыехаць да нас, я быў бы вельмі рад. Калі б аднак нейкім цудам мне прыйшлося быць недалёка Вас, скарыстаю з Вашых мілых запросінаў — заеду да Вас.*

*Што да вядучай ролі ў перакладзе праваслаўнай царквы, на жаль, мушу сказаць, што яна проста немагчымая дзеля браку адпаведных сілаў: тых пару сьвятароў, якіх мы маем, ня ўмеюць нават гаварыць па-беларуску болей-меней прызваіта, а што ўжо гаварыць наагул аб нейкай іх ролі пры перакладзе! Я сам няшчасны чалавек ужо таму, што на мае слабыя плечы ў царкоўнай справе мушу даслоўна рабіць усё сам, зваліліся цягары па ўсіх лініях. Бо япіскап, ужо архіяпіскап Сергій, між намі кажучы, ня ўмее зьляпіць пару сказаў разам, таму ад яго нічога жадаць не магу, а сакратара ці нешта падобнае ня маю. Найменшую рэч мушу ўдакладніць і пісаць сам. Людзі нашы ўважаюць так: узяўся — ну й рабі: і Царква, і школа, і карэспандэнцыя, і арганізацыя прыходаў, і брацтваў па ўсім сьвеце, і навязаньне кантактаў зь іншымі царкоўнымі арганізацыямі*

*і ўстановамі й г. д. — усё так ці інакш накіроўваецца на маю асобу. Нават да таго даходзіць, што, напр., артыкул аб Хіратоніі мусіў пісаць я сам, бо нашыя вялікія «журналістыя» аказаліся «не кампэтэнтнымі», тады як аж тры ўкраінскія журналістыя прыяжджалі аж з Вашае зоны й хіба ня думалі прасіць сваіх япіскапаў, каб яны ім пісалі артыкулы. Нашы толькі патрапілі спаскудзіць мой артыкул рознымі падобнымі «найсьвятарны»!!! Не запытаўшы ў мяне!! Пратэставаць? Дарэмная думка. Дзеля гэтага, Вы разумееце мяне, даражэнькі Доктар, што й гэтая «вядучая» роля накіроўвалася б на мяне, чаго я ўжо абсалютна рабіць не магу, але што датычыць нагляду, апрабаты й багаславенства — можаце заўсёды разьлічваць на мяне — тут я з Вамі ёсьць і буду.*

*Прашу перадаць Вашай мілай Спадарыні маё шчырае дзякуй за тую прыгожую дапамогу, якую я ўжо атрымаў. Прашу параслаць мне імёны Вашых мілых дзетак, каб я мог за іх час ад часу маліцца. Імя Вашай Спадарыні я ведаю ўжо.*

*Пішучы гэты ліст, я атрымаў Ваш апошні ліст, які вельмі прыемна мяне зьдзівіў, бо Вашыя думкі зьяўляюцца маімі думкамі. Мне было вельмі прыемна чытаць яго, бо бачу, што Вы разумеецеся на справе й разважаеце ня толькі паводля сэрца, але й паводля галавы, што тут у нас рэдкае зьявішча. Між іншым, нядаўна я даў сп. Адамовічу ўкраінскі служэбнік Літургіі і Ўсенашнай для перакладу на беларускую мову. Ён пратрымаў тыдні тры. Калі я запытаўся яго, як далёка ён зь перакладам, ён мне адказаў: ведаеш, я мусіў бы мець яшчэ славянскі тэкст. Значыць, ты нічога не пералажыў? — запытаўся я. Не, — быў адказ. Ну, прынамсі, можа, дасьць мне супакой із сваім «пераходзь на беларускую мову, бо ты нічым ня розьнісься (!!!) ад зарубежнікаў!». Гэта ягонае разуменьне істоты нашае БАПЦ! Для Вас там гэта можа быць сьмешна, але мне тут часта вельмі больна, тым болей, калі яно праяўляецца, як я Вам пісаў, нават перад чужымі прадстаўнікамі.*

*Дазвольце ж, даражэнькі Доктар, падзякаваць Вам яшчэ раз за Вашу працу на карысьць нашай царквы й нашага народу й за Вашыя цэнныя для мяне думкі адносна перакладу царкоўнаслужэбных Кніг. Мой тут погляд такі: на эміграцыі цяжка аб гэтым думаць, прынамсі, у гэтым годзе. Калі будзе адпаведны час, людзі й сродкі, тады падумаем аб гэтым. Я пагаджуся заўсёды з думкаю бальшыні.*

*Прыміце мае найшчырэйшыя прывітаньні. Яшчэ раз шчыра дзякую Вашай мілай Спадарыні за яе ахвяру для БАПЦ. Няхай багаславіць Вас усіх Гасподзь Бог і Прачыстая Дзева Марыя.*

*Ваш + Япіскап Васілій.*

*[Да др. Грабінскага]*

*[…] А што да Біблі, дык я думаю, што валей Вашэці й др. Тумашу рабіць тое, на чым болей знаецеся, чымся перакладаць Біблю, ня будучы моваведамі, ані багасловамі. Вось бы няхай Ваша апрацаваў: першае, навуковую кніжку пра зубы, дзясны й што з гэтым зьвязана; другое, папулярную кніжку пра гігіену зубоў. З такое работы было б карысьць, а з Вашага перакладу Біблі будзе толькі навука, як рабіць ня трэба. […]*

*[Я. Станкевіч]*

*Burgdorf, 3 лютага 1950 г.*

*Дарагі Доктару [Баляслаў Грабінскі]!*

*Разам зь лістом ідуць два абежнікі — наш лекарскі й «біблійны». На ўспаміны аб Грынкевічу*[552] *чакаю. Пішэце ўсё, што ведаеце й што помніце.*

*Спадара становішча да справы вядзеньня перакладу Бібліі выражанае тыпова для яго — коратка й ляпідарна й з гэтага гледзішча мне нават падабаецца. З Вашага дазволу ліст гэты далучу да актаў у справе перакладу Бібліі — ён будзе некалі цікавай ілюстрацыяй становішча нашых «научоных» філёлягаў. Суб'ектыўны грунт такога становішча ясны — некаторая абіда філёлягічнага аўтарытэту (хаця й ня ўсімі прызнанага), што нешта робіцца ня толькі безь яго, але й нават безь ягонага ведама й багаслаўленьня. Аб'ектыўныя аргумэнты былі б зусім правільнымі ў тым выпадку, калі б нашае грамадзянства на эміграцыі мела дастаткова кваліфікаваных навукова-*

[552] **Станіслаў Грынкевіч** (старэйшы) (1902–1945), палітычны і культурны дзеяч, медык-псіхіятр. Паходзіў з в. Новы Двор Сакольскага пав. Гарадзенскай губ. Скончыў медыцынскі факультэт Пазнанскага ўніверсітэта. У 1931–1936 гг. — віцэ-старшыня ЦК Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Летам 1944 г. застаўся ў Беларусі, быў арыштаваны НКУС. 18 траўня 1945 г. ваенным трыбуналам Беларуска-літоўскай ваеннай акругі быў прыгавораны да расстрэлу і ў ліпені расстраляны ў Магілеве. Ягоныя творы змешчаныя ў кнізе: Вяртанне да сваіх. Грынкевіч Станіслаў, Грышкевіч Франук, Казлоўшчык Уладыслаў. Беласток, 1999.

*літаратурных сілаў для такой працы. Фактычна іх тут так мала, што калі б застасаваць Спадаровы прынцып — кожны па сваёй прафэсіі — дык пры грамадзкай працы асталіся б толькі адзінкі, і яны нічога б не зрабілі. Ды й сам Спадар у практыцы зусім ня лічыцца з прапанаваным сабой законам: за што ён ужо ні браўся — і за палітыку, хоць палітык зь яго — зжалься Божа, і за выпраўленьне паэзіі ды твораў літаратурных, хаця ня мае ніякага вычуцьця красы й вобразнасьці; ён выдаў нават гісторыю Беларусі, ня будучы зусім гісторыкам ды путаўся ў гістарычную дыскусію з прафэсарам гісторыі ўкраінцам (прозьвішча ягонае забыўся) на старонках «Sprawy Narodowościowe»[553] й быў, зразумела, пабіты на «кіслае яблыка». Дык сам ён нічуць не трымаецца сваіх собскіх запаведзяў. З другой стараны зусім фальшывае цьверджаньне аб тым, што быццам перакладамі павінны займацца толькі філёлягі-навукоўцы. Наш прафэсар Рэйхер (Reicher)[554] гаварыў, што каб для належнага карыстаньня мускуламі трэба было ведаць усе мускулы й іхную функцыю, дык тады хадзіць ды рухацца маглі б толькі анатомы. А тым часам куды лепш скарыстоўвае й з гарманійнаю грацыяй сваю мускулатуру скарэй спартсмэн, як анатом ці наагул чалавек, які маё ўроджанае вычуцьцё гармоніі рухаў. Тое самае можна сказаць пра Спадаровага «бажка» — філялёгію. Агульныя філялягічныя ведамасьці сярэдняга сучаснага інтэлігента напэўна куды шырэйшыя, як у Лютра[555], Войка[556] ці дзясяткаў іншых даўнейшых*

---

[553] Маецца на ўвазе артыкул Янкі Станкевіча «Час узнікнення беларускай і ўкраінскай нацыяў», апублікаваны ў № 4–5 варшаўскага часопіса «Sprawy Narodowościowe» за 1934 г., які быў рэакцыяй на артыкул прафесара Варшаўскага ўніверсітэта, украінскага гісторыка і публіцыста Мірона Кардубы (1876–1947) «Найважнійшій момент в історії України», змешчаны ў № 6 за 1930 г. часопіса «Літературно-науковий вістник». Беларускамоўную версію гэтага артыкула гл.: Станкевіч Я. За родную мову й праўдзівы назоў. Вільня, 2006. С. 98–104.

[554] **Міхал Рэйхер** (*Reicher*) (1888–1973), польскі анатом і антраполаг габрэйскага паходжання. У міжваенны час працаваў у Віленскім універсітэце, загадваў кафедрай, з 1934 г. — лекарскім факультэтам.

[555] **Марцін Лютэр** (*Luther)* (1483–1546), нямецкі хрысціянскі багаслоў, ініцыятар Рэфармацыі, перакладчык Бібліі на нямецкую мову.

[556] Маецца на ўвазе **Якуб Вуек** (*Wujek*) (1541–1597), польскі каталіцкі святар-іезуіт, доктар тэалогіі і рэктар Віленскай акадэміі. У канцы XVI ст. пераклаў Біблію на польскую мову.

*перакладчыкаў Бібліі, якія ня мелі й зялёнага яшчэ паняцьця аб сваяцтве індаэўрапейскіх моваў і аб усіх іншых тых гарызонтах, якія ў філялёгіі толькі на пачатку мінулага веку раскрыла першая прыраўняльная граматыка індаэўрапейскіх моваў Боппа[557], і якія сяньня ў васноўным сталі собскасьцю кожнага інтэлігента. Нягледзячы на гэта, пераклады гэтыя знаходзяцца ў шырокім выкарыстаньні хутка ўжо поўсталецьця. Паколькі пераклад Бібліі — справа ня столькі філёлягічная, колькі літаратурная, дык філёлягічны «аршын», няўмела тарнаваны (што ў Спадара звычайна й бывае), прынясе толькі скарэй шкоду й заб'е ўсю літаратурную красу гэтага старавечнага твору. Самая слабая Ахілесава пята нашага перакладу — адсутнасьць добрага свайго гэбраісты — але тут і сам Спадар нічога не паможа, бо ён апрача мовы беларускай, бадай, ня знае ніякай іншай мовы па-людзку, не гаворачы ўжо аб гэбрайскай. Але гэтую слабасьць дасца таксама пастараніць, бо ўжо ад пару гадоў колькі нашых перакладнікаў грызуць гэбрайскую мову, а ў патрэбе для канчальнай кансультацыі можна будзе сьцягнуць і нейкага чужога гэбраісту. Багасловы ж, хаця мо й не з такою вялікаю адукацыяй, у нас ёсьць. Калектыўнымі сіламі — даючы кожны ад сябе тое, што можа даць: адзін сваё знаньне мовы беларускай, другі гэбрайскай, трэці свае літаратурныя наклоннасьці — можна сьмела сказаць, што можна даць пераклад зусім ня горшы ад Луцкевічавага, які таксама ня быў ніякім філёлягам. А хіба ніхто ня скажа, што Луцкевічавы пераклад прынёс шкоду або паказаў, «як ня трэба рабіць». Стаўшы на Спадаровым гледзішчы, усе беларускія пераклады сяньня мог бы рабіць толькі ён, як і наагул пісаць літаратурныя беларускія творы. Да гэтага манаполю з абмежаванымі кампэтэнцыямі Спадар дапусьціў бы яшчэ толькі Адамовіча. А тым часам, як вядома, калі б гэтыя акурат «філёлягі» рабілі пераклад — выданьне было б адкінутае шырокім беларускім чытачом, як і царкоўнымі дзейнікамі ўсіх веравызнаньняў. У літаратурнай працы, як і ў кухарстве, ці звараная страва смачная, знаецца ўсё ж ня толькі сам кухар, але й спажывец, як і аб тым, ці бо-*

[557] Маецца на ўвазе кніга: Bopp, Franz, 1791–1867. Vergleichende Zergliederung des Sanscrits und der mit ihm verwandten Sprachen. Erste Abhandlung: Von den Wurzeln und Pronominen erster und zweiter Person. Berlin: Druckerei der König, Akademie der Wissenschaften, 1824.

*ты можна наагул насіць, скарэй сваё правільнае слова скажа кліент, як сам шавец.*

*Наагул, у нашых філёлягаў (асабліва ў Адамовіча) выступае крыклівая некансэквэнцыя. З адной стараны, сварацца колькі ўлезе, што лекары бяруць замалы ўдзел у грамадзкай працы, а калі тыя акурат пробуюць за нешта брацца, дык ізноў крык: «куды лезеш? — глядзі сваіх дзёснаў ды гігіены!». Нябожчык Грынкевіч сваімі перакладамі (Тамаша Кэмпійскага[558]) ды й арыгінальнымі творамі паказаў, што й лекар патрапіць часта зрабіць болей, як не адзін гуманіст-філёляг. Ды й першы перакладчык Біблііі на беларускую мову быў акурат медык Скарына! Хай гэтага Спадар не забывае. На злосьць ды наперакор яму трэба будзе хіба зрабіць і пячатку Камітэту для перакладу Бібліі на беларускую мову з партрэтам Скарыны пасярэдзіне.*

*Наагул у Спадара чыста «філёлягічная» кансэквэнцыя. Роўна дзесяць гадоў таму ён са мной, «медыкам», і яшчэ адной асобаю складаў беларускі «талковы» слоўнік. Дагналі былі ўжо нават да 2000 слоў (слоўнік гэты ён перавёз і сюды), а цяпер — «зьмяніў погляд» (што ў яго часта бывае).*

*Слухаць у гэтай справе Спадара — значыць, наагул нічога не рабіць. Бо папробуйце Вы спрацаваць кнігу пра гігіену зубоў ды надрукаваць — дык ізноў закрычаць, што займаецца нехта непатрэбшчынаю ў тую пару, калі людзі ня маюць ні гісторыі, ні геаграфіі, ні іншых у першую чаргу неабходных і грамадзка важных выданьняў. З супольнай з Вамі працы я добра знаю, як можна шмат скарыстаць адзін ад другога й ня будучы філёлягамі — кожны ўносіць многае асаблівае й характэрнае з сваёй мясцовасьці й з гэтага можна нешта цэннае скарыстаць.*

---

[558] Маецца на ўвазе пераклад працы нямецкага сярэднявечнага хрысціянскага багаслова Тамаша Кемпійскага *(Thomas von Kempen,* каля 1379–1471), зроблены з лацінскай мовы Станіславам Грынкевічам у 1930-я гг. Тады ж пераклад быў упершыню апублікаваны: Tomaš Kempijski. Śledam za Chrystusam. Lwoŭ–Wilnia, 1934. — 288 s. У наш час гэты пераклад быў перадрукаваны: Тамаш Кэмпійскі. Сьледам за Хрыстом: чатыры кніжкі / З лацінскай мовы пераклаў С. Грынкевіч // Наша вера. 2007. № 1. С. 12–15; № . С. 18–20; № 3. С. 10–14; № 4. С. 16–19; 2008. № 1. С. 18–21; № 2. С. 16–20; № 3. С. 16–20; № 4. С. 15–17; 2009. № 1. С. 20–22; № 2. С. 8–10; № 3. С. 16–20.

*Вось такі мой пагляд на Спадаровыя адмоўныя адносіны да перакладной працы. Яны мне былі згары вядомымі, і таму я ніколі да яго ў гэтай справе не зьвяртаўся. Зразумела, эвэнтуальна й ягоныя канкрэтныя заўвагі аб перакладзе заўсёды можна было б узяць пад увагу, выбраць адпаведнае, але даць у рукі ягоныя поўную дэцызію, на жаль, ніколі немагчыма (ці гэта яму падабаецца, ці не).*

*Мае прывітаньні!*

*Ваш [Тумаш]*

*Розэнгайм, 4.4.1950.*

*Мілы й дарагі Доктар!*

*Перадусім дазвольце шчыра й сардэчна падзякаваць Вам за Вашае мілае прывітаньне з нагоды 32-угодкаў нашага вялікага 25-га Сакавіка. Сьмею Вас заверыць, што ўся мая праца й цяпер скіраваная амаль выключна на зьдзейсьненьне ягоных вялікіх запаветаў, бо яны поўнасьцю пагаджаюцца з Воляй Божаю — Ягоным найбольшым для нас скарбам — Свабодай.*

*Значэньне тут Царквы аграмаднае. На жаль, нашы горапалітыкі ня хочуць гэтага часта бачыць: нават той матэрыял, які я даю ў газэту, патрапяць так управіць, каб ён меў што найменшае значэньне, а ўжо аб прапагандзе збоку не хачу й гаварыць, бо проста… нуль, а часамі й меней таго… Інтэлігенцыя! Для прыкладу: прыяжджае такі вось Панькоў. Зайшоў нават у Царкву (бо дзе якія нашыя «інтэлігенты» ня робяць гэтага!). І што ж ён пабачыў? На паседжаньні Сэктара Рады БНР заяўляе, ясна, пад інсьпірацыяй свайго «патрона»*[559]*: «Вось… што датычыць нашае Царквы, то… я не пабачыў у ёй ніякае розьніцы (!) із зарубежніцкай, бо толькі Эвангельле й Апостал чыталіся па-беларуску». Але гэтыя мае жалі хіба мала Вас цікавяць. Безумоўна, я гэта гавару Вам ня дзеля таго, каб прасіць тут нейкай Вашай дапамогі. Не, бо гарбатага хіба толькі магіла направіць, таму тут цяжка нешта зрабіць. Вось, скажам, Вы зусім слушна пішаце, што Новых Запаветаў у нас мала разышлося. Як жа яны могуць разыходзіцца, калі, напрыклад, у нас тут, у Камітэце, ляжала каля сотні іх*

[559] Маецца на ўвазе Антон Адамовіч.

*амаль год і ніхто на іх не глянуў. Калі я пачаў выкладаць Закон Божы ў школах, я пабачыў, што ні адзін вучань ня мае гэтае так важнае для яго кнігі! Калі я запытаўся, чаму яны ня маюць, адказалі мне: нам ніхто не сказаў, што іх можна мець! Усе вучні ня толькі з радасьцю ўзялі іх, але нават кожны пастараўся даць пару пфэнінгаў на Царкву!!! Што Вы на гэта скажаце? Сабатаж? Не, проста — інтэлігенцыя! У Гановэры два гады існавала наша Царкоўная рада, збудавалі сваю царкву, мелі каля 300 вернікаў. На жаль, нам ніяк не ўдалося даць ім сьвятара, але ці ня мог туды заехаць да іх хаця адзін раз сп. Старшыня — Панькоў — і даць ім хаця Новыя Запаветы? Не, ня быў ні разу, бо… гэта ж усё — палітыкі!*

*Выбачайце яшчэ раз, што ўсё гэта Вам пішу, проста, каб аблягчыць сэрца. У нас маюцца й Міністар асьветы й рэлігіі, і Міністар прапаганды, і пагаварыць яны ўмеюць вельмі прыгожа, нават адзін зь іх бліскуча, гэтым усё й сканчаецца. Барані Божа зачапіць іх, зараз пасыплюцца громы на галаву й адхочацца зачапаць іх… І Бог зь імі.*

*Іншая рэч тое, што Вы пішаце адносна Камітэту па перакладу Біблії. Тут прызнаюся, што Вашы аргумэнты запраўды пераканалі мяне, што Вы маеце праўду. Я з Вамі поўнасьцю пагаджаюся й аддаю сябе да Вашае дыспазыцыі. Калі Вы можаце гэта неяк аформіць, я згаджаюся пераняць ганаровае старшынства й аўтарытэтам нашае Аўтакефальнае праваслаўнае царквы падтрымаць Вас. Калі Вам патрэбная нейкая паперка ад мяне, улажыце яе й прышліце мне, а я з радасьцю яе Вам падпішу й наагул гатовы зрабіць усё й далей, што Вам будзе патрэбна. Сп. Галяк хіба згодзіцца, як праваслаўны, узяць на сябе тэхнічнае старшынства. Хто б яшчэ ад праваслаўных мог увайсьці ў гэты Камітэт, я запраўды ня ведаю, бо мае супрацоўнікі тут, кажу Вам праўду, гэта простыя людзі — сяляне, толькі яны запраўды памагаюць мне, а інтэлігенты толькі дзеля крытыкі.*

*Калі б хадзіла толькі аб фігуры, то можаце хіба ўпісаць а. пратаіерэя Хведара Данілюка. Ён, праўда, перад выездам у Амэрыку, але гэта хіба ня шкодзіць. Ён даволі сьведамы й інтэлігентны чалавек. Калі б Вам адпавядала гэта, я магу яму аб гэтым напісаць.*

*Вітаю Вас з надыходзячымі вялікімі сьветлымі сьвятамі Хрыстовага Ўваскрасеньня.*

*Хрыстос Уваскрос!*

*Дай Божа Вам і ўсёй Вашай сямейцы сілы, здароўе й радасьць правясьці гэтае вялікае Сьвята цяпер тут паводле нашых хрысьціянскіх звычаяў, а наступнае няхай Уваскросшы Гасподзь наш Ісус Хрыстос паможа нам усім спаткаць на нашай мілай і вольнай Зямельцы.*

*Уваскросшы Гасподзь наш Ісус Хрыстос багаславіць Вас і ўсю Вашу сямейку.*

*З малітвамі й любоўю ў Хрысьце Ваш [+ Япіскап Васілій].*

*Wolterdingen, 7.5.1950.*

*Дарагі Леанід [Галяк]!*

*Выбачай за так спозьнены адказ. Гэта таму, што я ізноў пераносіўся ў іншы ДПАЦЦС*[560]*, бо наш стары зьліквідавалі. Цяперашні мой адрас на канвэрце. Тут, здаецца, таксама нядоўга прыйдзецца быць, бо маюць і гэты ДПАЦЦС ліквідаваць.*

*Добра, што наканец выправіліся ў дарогу. Я, відаць, буду ехаць ледзь не апошні. Ад добрых двох месяцаў мая справа далей не пасоўваецца. Апошні раз атрымаў ліст з 22.2.50 ад Church World Service, US (DP Regional Resettlement, Processing Centre Wentorf, Hamburg-Bergedorf, BAOR 3), падпісаны Ellentrigg-Visser, US Resettlement Officer, Wentorf, у якім паведамляецца, каб мець усе паперы напагатове. Але трэці месяц ужо ідзе й да гэтай пары бяз вынікаў. Дык калі яшчэ ня сеў на карабель, дык прашу, мо пры нагодзе расшукай вышэй названую ўстанову ды зайдзі й папытай, што сталася з маімі паперамі ды ашурансамі. Адначасна падай мой новы адрас (бо стары яны маюць яшчэ з Unterlibu).*

*Сядаючы на карабель, не забудзь кінуць картку аб гэтым ды падай свой амэрыканскі адрас.*

*Прывітаньні Табе й Тваёй сямейцы ды шчасьлівай дарогі празь вялікую ваду!*

*Твой Тумаш.*

[560] Маецца на ўвазе адзін з лагераў *DP*.

*Розэнгайм, 15.5.1950*

*Даражэнькі Доктар!*

*Шчыра дзякую за ліста. Так, я ўжо тыдзень як вярнуўся з Бэльгіі. Сваёй паездкай туды я амаль поўнасьцю задаволены. Праўда, быў некалькі разоў вельмі змучаны, бо езьдзілі некалькі дзён па ўсёй Бэльгіі, адведвалі нашых работнікаў, але праца была вельмі прыемная й, думаю, — карысная. Работнікі прымалі мяне ўсюды надзвычай міла, як праваслаўныя, так і каталікі, нягледзячы на тое, што яны там заваленыя «зарубежніцкай літаратураю», якая, ясна, і мяне зьмяшала з балотам. У часе маіх адведзінаў работнікаў я мусіў у шмат памешканьнях адслужыць малебны з высьвячэньнем дамоў і бачыў, як некаторыя хрысьціліся па-каталіцку. Гэта рабіла на мяне вельмі прыемнае ўражаньне, бо я бачыў, што мяне прымаюць перадусім як беларускага духоўніка. Безумоўна, я ўсюды стараўся сказаць пару словаў пацяшэньня й быў сам часта ўзварушаны, калі бачыў сьлёзы на вачох, асабліва жанчынаў. Усе мяне вельмі прасілі даць ім беларускага сьвятара. Буду старацца, можа, што й выйдзе.*

*Сярод работнікаў ёсьць, так сказаць, тры катэгорыі людзей: 1. сямейныя й жанатыя. Працуюць рэгулярна 5 дзён на тыдзень. Гэтыя жывуць вельмі добра. Амаль усім задаволеныя. 2. халасьцякі, якія таксама працуюць 4–5 дзён на тыдзень і ўсё не прапіваюць. Жывуць таксама даволі добра. 3. халасьцякі, якія працуюць 2–4 дні на тыдзень і ўсё прапіваюць. Гэтыя, безумоўна, жывуць дрэнна. Пераважна такія ўцякаюць з Бэльгіі, бо ня ведаюць, што рабіць з даўгамі. На жаль, усе мусяць працаваць толькі ў шахтах, іншай работы няма для чужынцаў. Гэта агульная бяда, але шмат хто не адчувае яе так востра. Нацыянальная сьведамасьць агулам добрая. Праўда, там можаце знайсьці ўсе ступені нашай гістарычнай нядолі: гаворачых напалавіну па-польску й гаворачых напалавіну па-расейску. Шмат знаходзіцца ўжо ад 1945 г.*

*Студэнты прыпаднесьлі мне сярэбраную чашу, іх прыяцелі — сярэбраны дыскас. Акрамя таго, я атрымаў шмат іншых добрых рэчаў. Так што агулам я вельмі задаволены сваёй паездкаю. А. Робэрт*[561] *паабяцаў мне 5 месцаў для нашых*

[561] Маецца на ўвазе **а. Роберт ван Кавэлярт дэ Уілс** (1906–?), грэка-каталіцкі святар, які апекаваўся беларускімі студэнтамі ў Лювене.

*студэнтаў на тэалёгіі. Трэба толькі знайсьці кандыдатаў. Здаецца, знойдзем. Буду цешыцца, калі яны пачнуць студыяваць. Па выезьдзе Арэхвы*[562] *й Рыскага*[563] *зь Лювэну нашая студэнцкая сямейка ў Лювэне цяпер амаль маналіт.*

*У чэрвені, калі Богу будзе заўгодна, паеду ў Англію. Там таксама маю шмат што зрабіць. Буду рад, калі мне ўдасцца наладзіць там нашу царкоўную справу. Вялікі цяжар на маіх плячах і толькі сам Бог можа памагчы мне нясьці яго. Што ж рабіць. Трэба слухаць словы сьв. Ап. Паўла: «Робячы дабро, ня падайце духам, бо ў свой час пажнеце, калі не аслабееце».*

*У гэтым сэнсе я таксама рад, што й наш перакладовы камітэт таксама ў свой час будзе ўкамплектаваны. Безумоўна, цяпер, калі людзі ў тракце выездаў, неабходна чакаць. Я ўважаю, што цераз два-тры месяцы амаль усе нашыя людзі будуць у новых краінах. Дзе я сам буду, яшчэ точна ня ведаю — у Амэрыцы ці Англіі? Але гэта ня так важна што да справы Камітэту. Галоўнае, каб нашы людзі былі ўжо на месцы. Бог паможа, і гэта зробім. А што Вы, доктар, ці Вы ня думаеце выяжджаць? Я быў бы рад, каб Вы былі блізка ад мяне. Можа, і яшчэ што прыйдзецца разам рабіць.*

*Шчыра вітаю Вас, Вашу спадарыню і ўсю Вашу сямейку. Госпадзь Бог Вас усіх багаславіць.*

*З малітвамі й любоўю ў Хрысьце*

*Ваш + Япіскап Васілій.*

*<u>Камітэт для перакладу Біблії на беларускую мову</u>.*

*Стан перакладной працы над Бібліяй на 1.9.1950 году:*

*Перакладзеныя ўжо кнігі:*

*В. Ластоўскі — Песьня Песьняў (1926)*

*А. Луцкевіч — Псальмы (1931)*

*Я. Пятроўскі — Рут, Ёлія, Аўдыя, Ёны, Навума, Авакума, Агея, Малахія.*

*Л. Галяк — Рут, Эклезіяста, Данілы, Сафона, Міхея, Прыказкі Салямона, Эстэры.*

[562] Маецца на ўвазе грамадскі дзеяч Аркадзь Арэхва, прыхільнік Беларускай Цэнтральнай Рады.

[563] Маецца на ўвазе Уладзіслаў Рыжы-Рыскі.

*Кнігі ў перакладзе:*

*Я. Пятроўскі — Эклезіяста, Песьня Песьняў, Ісаі, Плач Ярэмы, Амоса.*

*Л. Галяк — Ёбы.*

*Б. Грабінскі й В. Тумаш — Быцьцё.*



# СВЕТ ЭМІГРАЦЫЙНАГА ЭПІСТАЛЯРЫЮ: З МАТЭРЫЯЛАЎ АРХІВА РАДЫ БНР[564]

Вядомы факт: беларуская кніжка нарадзілася на эміграцыі. Гісторыя беларускай палітыкі ў першую чаргу — гэта таксама эміграцыя: Рыга, Коўна, Берлін, Парыж, Прага… Не апошнім месцам, дзе людзі на выгнанні змагаліся за незалежную Беларусь, была і ёсць Амерыка.

Калі на пачатку 1993 г. я прыехаў у Злучаныя Штаты, яшчэ жылі Наталля Арсеннева, Антон Адамовіч, Вітаўт Тумаш, Мікола Ганько. Яшчэ жыла мастачка Галіна Русак, сястра *таго* Усевалада Родзькі. Яшчэ пісалі вершы Янка Золак, Масей Сяднёў. Гэта было неверагодна: людзі *таго* часу, *гістарычныя* людзі, якія самі сабою, сваім існаваннем набліжалі *той* час, урэчаіснівалі гісторыю, рабілі яе амаль што свойскаю.

Пэўна, штосьці падобнае мусілі вычуваць яны самі, калі ў 1952 г. сабраліся ўсе разам каля Ніягары на Першую беларускую сустрэчу ды ўбачылі на ўласныя вочы Янку Чарапука-Змагара (такую мянушку яму даў Іван Луцкевіч — гэта вядома са словаў Міколы Абрамчыка), прадстаўніка Урада БНР — Урада Ластоўскага, Урада Луцкевіча.

Ёсць небяспека падацца троху патэтычным, але бачыцца ў гэтым пераемнасць, своеасаблівая повязь не розных часоў, а людзей адной справы, імя якой — Беларуская Народная Рэспубліка.

---

564 Гэты тэкст быў упершыню апублікаваны ў: ARCHE Skaryna. № 3(17). 2001. Тут друкуецца з абноўленымі каментарыямі.
Усе спасылкі, за выняткам адмыслова пазначаных, — на Архіў Рады БНР, які пачаў нанова збірацца з 1997 года згодна з пастановай, прынятай на XXII Сесіі Рады БНР (30–31 жніўня 1997 г.). Сёння гэтыя дакументы захоўваюцца ў *NYPL*.

Дзеля трываласці гэтай еднасці, лучнасці, сувязі *ўчора* і *сёння*, каб было *заўтра*, варта памятаць усіх, хто належаў да БНР. Асабліва такіх асобаў, якім быў Янка Чарапук-Змагар.

Янка Чарапук, Антонаў сын, нарадзіўся ў каталіцкай сям'і 12 жніўня 1896 г. у мястэчку Новы Двор Сакольскага павета[565]. Пачатковую адукацыю атрымаў у рускамоўным Навадворскім гарадскім вучылішчы, скончыў Гарадзенскую гімназію, у 1914 г. паступіў у Пецярбурскі ўніверсітэт на юрыдычны факультэт. Напэўна, менавіта ў гэтым горадзе, тады адным з цэнтраў беларускага адраджэння[566], Янка далучыўся да нацыянальна-вызваленчага руху беларусаў і ўкраінцаў. Вось як ён сам пісаў пра гэта ў анкеце: *«У 1917 г. быў Сакратаром Украінскай місіі ў Пецярбурзе, затым быў адкамандзіраваны да М [іністэрства] З [амежных] С [праў] Укр. Н. Рэсп.; у Бел. Урадзе быў за часоў Кабінэту Луцкевіча дыпляматычным кур'ерам, затым Чыноўнікам спэцыяльных даручэньняў, за Ўрадам Ластоўскага сакратаром Місіі ў Латвіі і Эстоніі, затым дэлегатам Міністэрства загран. спраў»*[567]. У грамадскіх арганізацыях *«у Пецярбурзе зьяўляўся Тав. старш. культ. — прасьвет. тав. «Вольных беларусоў», у Кіеве сябрам Бел. рады на Ўкраіне й сябрам Рады Віленшчыны і Гарадзеншчыны. ... Зарганізаваў на Ўкраіне бел. парт. незалежных рэвалюцыянэраў, пасьля ў 1918 г. ўступіў да б. п. сац. — рэв.»*[568]. Друкаваўся ў газеце «Беларусь», у «Родным Краі», «Нашай Думцы».

Але дзейнасць Янкі Чарапука да выезду ў Амерыку — тэма асобнага даследавання[569]. Зараз жа нас цікавіць амерыканскі перыяд ягонага жыцця, а яшчэ больш дакладна — паваенны этап

---

[565] Гл. успаміны Баляслава Грабінскага «Сакольшчына-Горадня-Вільня», надрукаваныя ў: ARCHE. 2000. № 5. С. 179–208. Таксама: Грынкевіч, С. Тры спатканьні // Бацькаўшчына. № 51–52. 1957. С. 6.

[566] Гл.: Семашкевіч, Р. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе. Мінск, 1971.

[567] Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 2. Вільня — Нью-Ёрк — Менск — Прага, 1998. С. 1084.

[568] Тамсама.

[569] Зацікаўленых чытачоў адашлем да артыкула Вацлава Пануцэвіча «Янка Чарапук-Змагар» у: Бацькаўшчына. № 51–52. 1957 і публікацыі Сяргея Шупы «Лісты Янкі Чарапука-Змагара з Амэрыкі (1922–1923)» у: Запісы БІНІМ. № 21. Нью-Ёрк, 1994. С. 125–137.

(да таго ж у тых фрагментах, якія дазваляе задакументаваць архіў БНР), калі пасля Другой сусветнай вайны ў Злучаныя штаты пачала прыбываць новая хваля беларускай эміграцыі.

Трэба сказаць, што кон, захаваўшы Янку Чарапука ад рэпрэсій на Бацькаўшчыне, тым не менш не надта песціў на берагах Амерыкі. Ад 1936 г. да пенсіі ён працаваў на дрэваапрацоўчай *Chicago and Riverdale Lumber Company*, што гарантавала пэўны мінімум на жыццё, але не болей. Беларуская дзейнасць, як вядома, на выгнанні не столькі прыносіць прыбытак, колькі вымагае як грашовых ахвяраў, гэтак і побытавага аскетызму.

Магчыма, менавіта гэта сталася падставаю і сямейных складанасцяў. У 1949 г. жонка Янкі Чарапука, Клара Змагар (менавіта пад гэтым прозвішчам яна зафіксавана ў судовых паперах), 53 гадоў, падала на развод. Яна адсудзіла сабе сямейны дом на Прынстан Авеню коштам у $20000, дом, які гаспадар мусіў пакінуць у 24 гадзіны з $500, выплачанымі жонкаю, ужо былой, у якасці кампенсацыі за супольную маёмасць, таксама былую.

У 1951 г. чыкагскія газеты абышоў здымак: жанчына з павелічальным шклом узіраецца ў здымак палонных. *«Яна верыць, што гэта яе зніклы сын»*, — сведчылі подпісы. І распавядалі наступную гісторыю: на вочы Клары Змагар трапіў здымак палонных амерыканцаў у Карэі, зроблены ў агітацыйных мэтах кітайскім урадам. Яна пазнала (ці ёй здалося, што пазнала) у адным з палонных свайго сына, Адрыяна, звестак аб якім не было ад траўня 1950 г. — менавіта тады яна атрымала апошні ліст сына, 29-гадовага ваеннага медыка з 24-й дывізіі, залічанага ў войска 1 траўня 1943 г., напісаны з Японіі, перад адпраўкаю ў Карэю. Сын лічыўся зніклым без вестак з 16 ліпеня 1950 г. *«Я абсалютна пераканана, што гэта ён. Бачыце, можна разгледзець нават шнар на ягоных вуснах»*, — цытавалі газеты словы маткі.

Магчыма, што гэта насамрэч быў ён. Але амерыканскае ваеннае камандаванне прытрымлівалася іншай думкі. У 1954 г. Клара Змагар атрымала паведамленне, што ейны сын, Adrian J. Kusiolek, быў забіты 16 ліпеня 1950 г. Сімвалічныя паховіны адбыліся 28 жніўня 1954 г.

Гэта што да жыцця прыватнага. Жыццё грамадскае было таксама няпростым. Натуральна, яно не было лёгкім ад самага пачатку: нястача людзей, грошай, інфармацыі — усё гэта

не спрыяла прадуктыўнай дзейнасці першага амбасадара БНР у Злучаных Штатах. Але пасля вайны праблемы набылі іншы кірунак. І «чалавечы фактар» не быў тут апошнім: ад першай хвалі новых эмігрантаў з Беларусі Янка Чарапук апынуўся паміж варагуючымі кааліцыямі, згуртаваннямі, аб’яднаннямі і задзіночаннямі, прычым сутнасць той варажнечы часта заставалася для яго невытлумачальнай. Дый як было зразумець падзел такой вялікай, выраслай кагорты нацыянальна свядомых беларусаў на крывічоў і зарубежнікаў, на ўсходнікаў і заходнікаў, на БЦР і БНР. Пра рэлігійны падзел, асабліва сярод праваслаўных, ужо і гаварыць не выпадала: часам здавалася, што менавіта адтуль ішла небяспека расколу для беларускага руху. Падтрымкі Чарапука-Змагара шукалі розныя колы, царкоўныя — не ў апошнюю чаргу. Адным з першых звярнуўся да яго епіскап Васіль (Тамашчык):

*«Высокапаважаны сп. Я. Змагар!*

*Хаця мы асабіста яшчэ не знаёмы, а ўсё ж — як бы браты; таму й пішу Вам пару слоў. Я чуў аб Вас ужо нямала добрага ад М. Дзямідава яшчэ ў Нямеччыне, а тут — ад майго прыяцеля др. С. Грынкевіча. Апошні апавядаў мне цімала цікавых рэчаў аб Вашай дзейнасьці, чым незвычайна заахвоціў мяне да беспасярэдняй сувязі з Вамі.*

*На жаль, я точна ня ведаю дасюль Вашага асабістага становішча да нашае сьвятое БАПЦ, таму ня ведаю, як і што сказаць Вам адносна яе й майго цяпер тут палажэньня ў Нью-Ёрку.*

*Калі знойдзеце магчымым адпісаць мне на гэты ліст і Вас будзе крыху цікавіць мая дзейнасьць і стан БАПЦ — з прыемнасьцю дам Вам адказ.*

*Тым часам быў бы Вам вельмі ўдзячны, калі б Вы знайшлі магчымым падзяліцца са мною весткамі аб Вашай дзейнасьці па лініі ірляндцаў і інш. Я быў бы таксама ўдзячны Вам, калі б Вы захацелі даць мне пару радкоў адносна амэрыканскага жыцьця пад кутом гледжаньня характару маёй дзейнасьці як духаўніка, бо я ўважаю, што Вы тут маеце ўжо добрую практыку і ўсякія адпаведныя «разлады», а я толькі ведаю пагаворку: «Што край, то абычай».*

*Быў бы Вам таксама ўдзячны, калі б Вы мне піснулі пару слоў адносна сп. М. Дзямідава, бо я ўжо чуў тут пра яго ўсякія*

*дзіўныя рэчы й ня ведаю, што праўда, а што не. Гэта мне асабліва важна ведаць, бо ён заклікае мяне да вас — у Чыкага.*

*За ўсё буду Вам вельмі ўдзячны.*

*Яшчэ раз прашу мне выбачыць, што першы пішу да Вас, але гэта мне station станоўча парадзіў др. С. Грынкевіч.*

*Шчыра й сардэчна вітаю Вас.*

*Бог Вас благаславіць.*

*З малітвамі й любоўю ў Хрысьце,*

*Ваш Япіскап Васіль.*
*Бруклін, 3.08.1951»*

Янка Чарапук адказаў хутка:

*«Яго Эксцэленцыі*
*Вельмі паважанаму Васілю — Япіскапу БАПЦ.*

*Прывет шчыры й радасны.*

*Дзякую за Ваш мілы ліст да мяне з дня 3.08.1951. Я ня мог адказаць Вам зараз жа, бо ня быў дома — быў у разьездах.*

*Я, як беларус-дзяржаўнік, уважаю гістарычны акт абвяшчэньня Аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы як другі важны акт пасьля акту абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Падзіўляю Ваш чын — пасьвяціцца Службе Божай і службе роднаму Вам і мне Беларускаму Народу — цяпер тут, на сапраўды вольнай і дэмакратычнай зямлі Вашынгтону, а з часам — дасьць Бог — на роднай Вам і мне беларускай крывічанскай зямельцы. Памагай Вам Бог зьдзейсьніць Вашы намер і жаданьні! Я меў нагоду нядаўнімі днямі пахваліцца майму Высокаму Рыцару Калюмба аб Вашай Асобе й аб маім прыязным становішчы да Вас. Мой Высокі Рыцар адказаў, што «калі Япіскап Васіль зьяўляецца беларускім патрыётам і выказаў сілу волі й настойчывасьці ў навуках і ў грамадзкай працы, значыцца, заслужыў, каб беларусы-патрыёты лажылі яму найвышэйшы гонар». Далей мой Высокі Рыцар сказаў, што маім (Я. Ч. — З.) абавязкам ёсьць зарэкамэндаваць Вас, Уладыка, у міністэрстве спраў загранічных, і тады у МЗС будуць так паважна Вас трактаваць, як Вы на гэта заслужылі ў вядомых там прадстаўнікоў БНР. Да выкананьня гэнай добрай рады, згоднай з маім жычэньнем і намерам, я ўзяўся па-прыяцельску да Вас.*

*Далей ён мне парадзіў, каб я Вам прыпомніў, што пажаданым ёсьць, каб Вы ад сябе злажылі ў МЗС мэмарыял аб Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве наагул (гісторыя, цяперашняе становішча на чужыне, усюды й асабліва ў ЗША) і аб відах на прышласьць тут.*

*Я ня знаю Вашых плянаў, ня ведаю, дзе мае быць цэнтар Вашай душпастырскай працы — ці ў Нью-Ёрку, ці ў Чыкага, ці дзесь у іншым горадзе, наагул, мала маю інфармацый пра Вас асабіста, так што пра Вас мала маю чым пахваліцца. Між іншым, хацеў бы ведаць, ці можаце прамаўляць паангельску?*

*Ваш прыезд у Чыкага пажадана ёсьць, каб адбыўся на запросіны спэцыяльнага Камітэту — каб паважней выглядала дзеля Вашай Япіскапскай павагі й дзеля грамадзкага абавязку праваслаўных беларусаў. Аб такім камітэце тут цяпер ідуць нарады. На гэтым тыдні ад М. Дзямідава даведаюся аб канчатковым выніку гэтых нарад.*

*Ён, М. Дзямідаў, характару парывістага: часамі добрую прыслугу можа зрабіць, а часамі — хоць уцякай ад яго. Усё залежыць ад настрою, а настрой ад напою — ці ў меру, ці празь меру. А часамі настрой залежыць і ад «залежнасьці», і ад аўтарытэту. Настрой яго ўмерыць я стараюся, велічаючы яго тытулам «палкоўнік».*

*А што да пагаворкі «што край, то абычай», дык усё ж такі й тут, як і шмат дзе ў іншых краёх, імпануе стройны выгляд, бодры й вясёлы настрой, бойкі, жывы паварот, спагада да дабрабыту, гутаркі адрывістыя з гумарам, строй элеганцкі напаўсьвецкі, нахіл да прыяцельскага знаёмства й хатняга госьця. І — убок ад зацятай дыскусіі.*

*Вядома, быў бы рады пазнаёміцца з Вашым мэмарандумам, таму прашу надзяліць мяне копіяй.*

*Дзямідаву маніцца ў канцы гэтага тыдня выслаць Вам ад сябе нейкія інфармацыі, так што я на гэтым кончу.*

*Бывайце здаровенькі і ўсяго Вам найлепшага!*

*Слава Хрысту!*

*Хай жыве БНР!*

*Паддаюся Вашым малітвам.*

*Ваш прыяцель Янка Чарапук-Змагар.*
*Чыкага, 15.08.1951.»*

У сваім адказе Янка Чарапук задаволіўся такой паўжартоўнай ацэнкаю характару Міколы Дзямідава. Але зерне сумневу, недаверу, закінутае епіскапам Васілём, дало свае ўсходы, што і адбілася ў лісце да генерала Андэрса ад 10.09.1952:

*«Вельмішаноўны пан Генэрал,*

*ад імя Рады БНР у Чыкага маю гонар зьвярнуцца да Пана Генэрала з просьбаю асабістай апініі пра асобу М. Дзямідава, знаёмага з часоў супольнага сядзеньня ў Маскве на Лубянцы.*

*Збор незалежнай інфармацыі пра вышэйназванаю асобу, якая зараз жыве ў Чыкага, ёсьць для нас надта важным».*

Адказ зь Лёндану, з *Waverton Street 7*, дзе жыў генерал Андэрс, прыйшоў праз 10 дзён:

*«Wielce Szanowny Panie Prezesie,*

*W odpowiedzi na list Pański z dn. 10 sierpnia b. r. uprzejmie komunikuję:*

*Będąc w więzieniu w Moskwie na Łubiance przebywałem czas jakiś w jednej celi z niejakim panem, który podawał się za Diemidowa, o ile sobie przypominam Mikołaj Iwanowicz. Wspominał, że brał udział w ruchu Białoruskim. Muszę zaznaczyć, że mam o nim jaknajgorszą opinię. Nie tylko ja, ale i wielu współwięzniów w celi było przekonanych, że p. Diemidow donosi wszystkie rozmowy do NKWD.*

*Wracając ze śledztwa, przynosił zawsze ze sobą papierosy i jabłka, co się nikomu nigdy nie zdarzało. Wielokrotnie też podkreślał, że zawsze współpracował i miał kontakty z Sowietami. Jestem głęboko przekonany, że tak było, zresztą wiem z całą pewnoscią, że został z więzienia zwolniony po rozpoczęice się wojny niemiecko-sowieckiej. Jest to ostatni człowiek, do którego — moim zdaniem — można by mieć zaufanie.*

*Nie dziwiłbym się zupełnie gdyby to była wtyczka bolszewicka.*

*Dla informacji podaję, że ów p. Diemidow był raczej mniej niż średniego wzrostu, o nalanej twarzy, ciemnych włosach, nieprzyjemnych oczach i bardzo gadatliwy. Nie moglibym wprost zrozumieć, żeby p. Diemidow mógł się dostać normalną drogą do Stanów Zjednoczonych.*

*Łączę wyrazy poważania.*

*Gen. Dyw. W. Anders».*

Перад тым як вярнуцца да ліставання з епіскапам Васілём ды наогул да кантактаў з прадстаўнікамі паваеннай эміграцыі, неабходна зрабіць невялікі адступ ды патлумачыць часты зварот рэспандэнтаў Янкі Чарапука як «Рыцара Беларусі». У гэтым звароце — не толькі выяўленне пашаны, але і канкрэтнае ўказанне на рыцарства — Рыцарства Калумба.

Арганізацыя «Рыцары Калумба»[570] была заснаваная 2 кастрычніка 1881 г. невялічкаю групаю людзей, аб'яднаных ідэяй абароны сваёй краіны, сваіх сем'яў і сваёй веры, аб'яднаных імем Хрыстафора Калумба, чалавека, які прынёс у іхную краіну, у Амерыку, веру. З часам гэтае братэрства сталася найбольш уплывовай каталіцкай арганізацыяй, дзейнасць якой не абмяжоўвалася адной толькі Амерыкай. У 1900 г., 22 лютага, да трох галоўных прынцыпаў (і адначасна ступеняў) Ордэну — Цноты, Еднасьці, Братэрства — быў дададзены яшчэ адзін: Патрыятызму. Гэты прынцып мянуецца Чацвёртаю ступенню і з'яўляецца па сёння найвышэйшым у Ордэне. Калумбавым Рыцарам чацьвёртай ступені быў Янка Чарапук.

Але вернемся да падзей 1951 году, калі вакол Янкі Чарапука адбываліся эпісталярныя двубоі.

Амаль адначасна з епіскапам Васілём падтрымкі ў Чыкага, толькі ўжо ў інтарэсах сваёй групы, Беларускага кангрэсовага камітэта Амерыкі[571], пачаў шукаць доктар Мікалай Шчорс. Трэба сказаць, што Янка Чарапук напачатку намагаўся застацца ўбаку ад тых спрэчак, неаднаразова прапаноўваючы др. Шчорсу сустрэцца не толькі з епіскапам Васілём, але і з раднымі БНР, каб высветліць і зліквідаваць усе непаразуменні дзеля супольнай справы. Такія сустрэчы адбыліся, толькі жаданага плёну не прынеслі.

Гэтак, др. Шчорс пісаў (18.10.1951):

*«Ваша Дастойнасьць.*

*Беручы пад увагу выказанае Вамі падчас мае бытнасьці ў Чыкага заінтарасаваньне справай кансалідацыі нашага гра-*

---

[570] Гл.: http://www. kofc. org/knights.

[571] На той час Раду БККА складалі: Мікалай Шчорс — прэзідэнт, Ігнат Лабач і Барыс Кіт — віцэ-прэзідэнты, сябры Рады — Мікалай Філіповіч, Святаслаў Коўш, Аляксандр Русак, Міхась Сенька, Аляксандра Сабалеўская, Сымон Жамойда.

*мадзянства ў межах ЗША, нягледзячы на неатрыманьне адказу на мой апошні да Вас ліст, пішу ізноў. Хацеў бы давесьці да Вашага ведама факт спатканьня і адбыцьця даўжэйшае гутаркі між Вашым слугою й старшынёй Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня сп. інжэнэрам Гарошкам*[572]*. Хаця гутарка насіла, так сказаць, шчупальны характар, можна, аднак, на яе падставе зрабіць наступныя вывады: незаінтарасаваньне ў кансалідацыі нашых сьціплых сілаў гэтак званае крывіцкае стараны. Спадар Гарошка на процілеглым ад майго пункце гледжаньня. Я прапанаваў і далей прапаноўваю кансалідацыю й супрацоўніцтва на плошчы нацыянальна-грамадзкіх і культурных дачыненьняў, уважаючы, што апошняе ёсьць шмат лягчэйшым да прывядзеньня ў практычнае жыцьцё з прычыны адсутнасьці спэцыяльных разыходжаньняў. Сп. Гарошка ўважае, што трэба спачатку скансалідавацца на палітычным адрэзку, і нават запрапанаваў «просты» рэцэпт практычнага яго вырашэньня: зьліквідаваць БЦР і прызнаць гэтак званую БНР.*

*Тэарэтычна рэцэпт сапраўды просты, нават вельмі просты — толькі што нерэальны. Кансалідацыя й супрацоўніцтва нармальна базуюцца на пэўных кампрамісах, уступствах контрагентаў, а не на бескампрамісных праектах самаліквідацыі. Каб апошняя наступіла, ня трэба гутарак аб супрацоўніцтве. Патрэба толькі пераконаньня аб фальшывасьці займанага становішча, а гэтага ніхто зь людзей, гуртуючыхся вакол БЦР, ня мае й мецъ ня будзе. БЦР — гэта не тэстамэнтавы твор, гэта таксама й ня твор эміграцыйны, падобна гэтак званай Радзе БНР, якая паўстала у сарамлівых абставінах і паўкансьпірацыйна праведзеным зьезьдзе аднае крывіцкае групоўкі ў Остэргофэне (Нямеччына). БЦР — гэта ўстанова, пакліканая й пацьверджаная воляй, калі ўжо не ўсяго беларускага народу, то прынамсі ўсяго яго актыву. 1039 дэлегатаў у сталіцы Беларусі Менску — гэта ня некалькі дзясяткаў эмігрантаў аднае групоўкі ў задрыпаным нямецкім гарадзішку. Параўнаньня тут ня можа быць ніякага! БЦР не паўстала воляй эміграцыі й ня можа быць воляй эміграцыі зьліквідавана. Яе можа зьліквідаваць III Усебеларускі Зьезд на Бацькаўшчыне, толькі й вылучна»*[573].

[572] Маецца на ўвазе Мікола Гарошка.
[573] Ліст Мікалая Шчорса да Янкі Чарапука ад 18.10.1951.

Што Мікалай Шчорс не атрымаў адказу ад звычайна пунктуальнага і акуратнага ў такіх справах Янкі Чарапука, не было выпадковым. У гэты час ён актыўна ліставаўся з епіскапам Васілём, выпрацоўваючы ўласную пазіцыю. А Васіль пісаў:

*«Ваша Эксцэленцыя, Дарагі й Нязломны Рыцару Беларусі.*

*Шчыра дзякую за Ваш мілы ліст і за незвычайна цікавыя лісты др. Шчорса. Згодна з Вашым пажаданьнем прыйшоў да Стася*[574]*, прачыталі мы яшчэ супольна дзівачныя творы гэтага знамянітага «палітыка» й хочам сказаць Вам пару аб'ектыўных слоў. Нас перадусім незвычайна дзівіць «шчырае» жаданьне гэтага панка адносна аб'еднаньня беларускіх сіл. Што гэта за круцельства й шарлатанства зь ягонага боку, хочам Вам падаць хаця б наступныя тры прыклады.*

*1. Гэты панок у свой час належаў да нашае нацыянальнае Рады й нават да Ўраду БНР. Гэтыя свае функцыі, аднак, з часам пакінуў дзеля таго, што нічога ніколі не хацеў рабіць, а займаныя ім пасты яго ніколі не задавальнялі, бо, бачыце, усё яму здавалася, што яны (пасты) не адпавядалі яго амбіцыі, дадаем — шалёнай амбіцыі, бо то ж над ім усё яшчэ быў нехта вышэйшы — гэта значыць спадар Прэзыдэнт М. Абрамчык. Тады, спачатку, тэстамэнт сп. Прэзыдэнта ня выклікаў у яго ніякіх сумлеваў, але калі яго дзікія амбіцыі былі не задаволеныя, ён ня толькі адышоў ад адзінае нашае тады канкрэтнае працы, але перайшоў да ворагаў нашага вызвольнага руху на чале з панам Астроўскім, бо, бачыце, яму далі функцыю «віцэ-прэзыдэнта». Але мала таго, ён пасьля праздрадзіў ворагам нашым усе тайны нашае працы й нашага змаганьня.*

*2. У 1948 г. мы гатаваліся да перавыбараў нашага Цэнтральнага нацыянальнага камітэту на Нямеччыну. Панок Астроўскі з гэтым вось панам Шчорсам ужо разьвярнулі сваю незвычайна разбуральную працу. Нягледзячы на гэта, беларускія патрыёты, жадаючы адзінства ўсіх беларускіх сіл, зрабілі спробу вяртаньня адзінага беларускага фронту й правядзеньня супольных выбараў у Цэнтральны камітэт. Да пана Шчорса быў выдэлегаваны др. В. Войтанка. Др. Шчорс паставіў яму шмат вымогаў «дэмакратычнага» характару, і ўрэшце яны дагаварыліся, што калі наша Цэнтральная вы-*

574 Маецца на ўвазе Станіслаў Грынкевіч.

*барчая камісія прыме гэтыя ягоныя вымогі, тады В. Войтанка яму затэлефануе й нашая камісія пачакае на назначэньне парытэтнай колькасьці іх кандыдатаў для правядзеньня супольных выбараў. Калі В. Войтанка зрэфэраваў камісіі пастаноўку пытаньня, была праведзеная грунтоўная дыскусія й прынятая пастанова-згода. Др. Войтанка пайшоў затэлефанаваць аб гэтым др. Шчорсу. Хутка ён вярнуўся й сказаў, што др. Шчорс нічога канкрэтнага не сказаў. Так вось выглядала «шчырасьць» пана Шчорса. Але, можа, яна выглядала лепей у пытаньні царкоўнай справы.*

*3. Ня будзем Вам тут апісваць працэсу здрады беларускіх япіскапаў — пераходу іх да расейскай царквы й гэтым ліквідацыі нашага царкоўнага жыцьця. Скажам толькі, што гэтыя здраднікі пачалі арганізоўваць антыбеларускі фронт, на чале якога пазьней стаў пан Астроўскі й да якога далучыўся яго «віцэ-прэзыдэнт» пан Шчорс»*[575].

Але, відаць, Васілю аднаго ліста падалося недастаткова для вытлумачэння, і ён дасылае наўздагон другі, ужо толькі ад свайго імя:

*«Ваша Эксцэленцыя!*

*Учора мы з Стасем улажылі Вам пэўныя выясьненьні на ліст др. Шчорса. Магчыма, гэтыя нашы выясьненьні ня выйшлі так гладка й грунтоўна, як бы нам хацелася, бо пісалі мы іх, можна сказаць, экспромтам. Таму хачу дадаць да іх яшчэ пару слоў.*

*Я сам асабіста ня толькі хацеў і хачу аб'яднаць усіх нашых сіл у адную нашу сямейку, але асабліва, калі ўступіў на духоўны шлях, усімі сіламі імкнуся да гэтага. Толькі пры гэтым я мушу прымаць пад увагу думкі людзей, якія з самага пачатку й цяпер дзейна дапамагаюць мне будаваць нашу вялікую й слаўную справу — БАПЦ. А думкі іх такія: др. Шчорс і кампанія — гэта толькі малая частка нашых сіл. І запраўды: ён хваліцца, што ў яго на сьвяце было каля 150 асобаў! На гэта скажу: гэта ўсё, што яны тут маюць, ну, няхай яшчэ 50 асоб. Тым часам я быў нядаўна ў нашых людзей у Нью-Брансўіку каля Нью-Ёрку, і там у мяне*

---

[575] Ліст да Янкі Чарапука ад 06.09.1951 г. падпісаны епіскапам Васілём і Станіславам Грынкевічам.

*было на Службе Божай каля 150 асоб, а пасьля на абедзе каля 100 асоб, а крыху больш гэтага ёсьць у Нью-Ёрку, а Кліўленд, а іншыя аддзелы БАЗА? А па-за Амэрыкаю? Нашы арганізацыі ў Канадзе (ужо запрашаюць ехаць), у Аргентыне, у Францыі, Бэльгіі, Англіі (у дзьвюх апошніх краінах ёсьць Царква БАПЦ), у Нямеччыне ўсё яшчэ выходзіць «Бацькаўшчына», у Італіі, у Аўстраліі. Гэта яшчэ ня ўсе краіны, дзе працуюць нашыя людзі. Толькі студэнты, якія ідуць з намі, налічваюць 150 асоб. А што ўжо гаварыць пра сп. М. Абрамчыка, які быў ужо ўва ўсіх сталіцах заходняга сьвету й быў прыняты самім Папам!*

*Якою ж мухаю выглядае др. Шчорс з сваімі 150–200 чалавек і ня быўшы ні ў адной сталіцы заходняга сьвету!»*

Нарэшце Янка Чарапук дасылае адказ Міколу Шчорсу, напісаны ў адпаведнасці з парадамі епіскапа Васіля:

*«Паважаны др. М. Шчорс.*

*У апошнім сваім лісьце да мяне Вы пішаце, што я Вам не адказаў на папярэдні Ваш ліст. Так, гэта праўда. Чаму я Вам не адказаў на яго? Я, як беларус-дзяржаўнік, быў яшчэ тады на раздарожжы. Ня ведаў, што Вам сказаць. Але апошнія падзеі ў Чыкага канчаткова пераканалі мяне, што Вы й Ваша арганізацыя ня хочаце служыць беларускім інтарэсам, наадварот, Вы — саюзьнік расейцаў. Што сталася? Мы ў Чыкага чакалі на япіскапа Васіля. Даведаліся аб гэтым і расейцы. Нашы людзі тут, праваслаўныя беларусы, плянавалі адцягнуць ад расейцаў адну іх царкву, дзе выключна старыя беларусы. І вось расейскія манархісты зараз жа пасьпяшаліся паслаць сюды самога Анастасія*[576]*, каб перашкодзіць беларусам. Ну, што ж, расейцы як расейцы, яны робяць сваю варожую нам работу. Ня гэта страшна, але страшна тое, што Ваш сьвяшчэньнік Лапіцкі зараз жа пасьпяшыў памагчы расейцам сваёй злобай і брудам на нашу дзяржаўную рэч — сьв. БАПЦ і япіскапа Васіля. Стварыўся адзіны фронт расейцаў і Вас! Гэтага для*

[576] Верагодна, маецца на ўвазе кіраўнік РЗПЦ **Анастасій (Аляксандар Грыбаноўскі**, 06.08.1873–22.05.1965). У 1906–1918 гг. — епіскап Серпухаўскі, архіепіскап Кішынёўскі і Хоцінскі. З 1919 г. — на эміграцыі. У жніўні 1936 быў абраны кіраўніком РЗПЦ. З 1950 г. жыў у ЗША.

*мяне даволі! Бо ж і для мяне ўжо ясна, што расейцы атакуюць толькі тое, што для іх шкодна, а для нас карысна. Вось жа, не хачу болей бачыць такіх «белоруссов», якія памагаюць нашым вечным ворагам».*

Ліст скончваўся патрабаваннем канкрэтнага адказу, па сутнасці, выбару паміж БНР і БЦР, а яшчэ больш дакладна — выбару царквы. Гэта было разрывам адносінаў не толькі з Шчорсам, але і з усімі беларусамі, што стаялі за ім.

Да разбежнасцяў паміж БЦР і БНР на эміграцыі дадаваліся несуцяшальныя звесткі з Бацькаўшчыны. У лісце да невядомага адрасата 6 чэрвеня 1954 г. Янка Чарапук пісаў:

*«Паважаны Спадару! Я атрымаў Ваш ліст з 27 красавіка, дзякую. У мяне быў прадстаўнік беларускай арміі ад імя Вітушкі. Ён прадставіў мне ўсю справу, якая эгзыстуе на Беларусі. Я быў зьдзіўлены, ногі яго былі адмарожаныя. Гэта быў праўдзівы прадстаўнік беларускай арміі. Я даў яму прытулак. Чакаю на выпадкі міжнародныя. Здаецца, будзе ізноў адозва да беларускага сьвету. Генэрал Вітушка шле таксама прывітаньні Абрамчыку».*

А ўжо 26 чэрвеня ён пісаў да Віталя Кажана (скарбніка рады БНР):

*«Ваша Дастойнасьць, у адказ на Вашае другое пісьмо маю гонар давесьці да Вашага ведама як сябру Рады БНР, што Вітушка, галоўны правадыр Беларускіх паўстанцкіх сіл, не прызнае ніякіх дагавораў, зробленых Прэзыдэнтам Рады БНР Міколам Абрамчыкам, ані Радаславам Астроўскім, прэзыдэнтам БЦР.*

*Ягоны прадстаўнік Антон Лабенец, які знаходзіцца ў Чыкага, сугеруе мне, каб выдаць адозву да беларусаў сьвету аб стварэньні Дзяржаўнага фонду, так як маюць іншыя нацыі. Гэты Фонд павінен быць выкарыстаны толькі на патрэбу Беларускіх паўстанцкіх сіл і Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Я маю засьцярогу, што ў выпадку такой адозвы гэта выкліча вялікую рэакцыю з боку бальшавіцкіх прадстаўнікоў Беларускай Рэспублікі Кісялёва й Грамыкі. Чакаю адказу й Вашага погляду, як заставацца да сытуацыі».*

Але, верагодна, найбольш балела за справы ў сваім Чыкага. Так атрымалася, што найбліжэйшы (і найстарэйшы) паплечнік, Язэп Варонка, пачаўшы ад выдання рускамоўнай «Белорусской трибуны», паступова ўсё больш аддаляўся ад беларускіх спраў, заняўся расейскім радыё, якое закранала беларускія праблемы адно напачатку і тое — зрэдку, а пазней не хацеў нават чуць, каб даць эфір Міколу Дзямідаву альбо самому Чарапуку, які губляўся ў здагадках: што гэта, стомленасць ад нацыянальнай працы, якая быццам бы аказалася бясплённай, страх перад усемагутнымі бальшавікамі (хадзілі нават чуткі, што Варонка перадаў ім некаторыя паперы з асабістага архіву і архіву БНР), уплыў сям'і, далёкай ад беларускіх праблемаў?[577]

Гэтая тэма не раз закраналася і ў ліставанні з Прэзідэнтам БНР Міколам Абрамчыкам, які ў лісце ад 06.04.1950 г. пісаў у Чыкага:

*«Высока паважаны й дарагі Рыцар, толькі што атрымаў Ваш ліст, дзякую. Выбачце, што адказваю на такой паперы. Якраз мушу сядзець у хаце, чакаць нейкага журналіста — Шварцара з Вашынгтону. Ён даведаўся аб маім тут побыце й прасіў інтэрвію; дык не магу выйсьці з хаты й хочу выкарыстаць час, каб Вам адказаць.*

*Чыкага! Калісьці я захапліваўся ягонай разьлеглай прыгажосьцю! Праўда, было й так, але было інакш часамі. Часамі й сьціскалася сэрца. Але я, даражэнькі Рыцар, навучыўся за сваіх асабліва сем апошніх гадоў рэагаваць ня сэрцам. Можа сказаў трохі замоцна, «навучыўся», лепш сказаць «хачу» рэагаваць ня сэрцам.*

*Кастусь Каліноўскі на судзе сказаў маскалям, што «прайгралі паўстаньне таму, што ягоныя саюзьнікі-палякі мелі сэрца не ў грудзях, а ў галаве». У гэтых простых словах Каліноўскага крыецца глыбокі сэнс палітычнай філязофіі.*

*Мець сэрца «не ў галаве» — сапраўды рэч нялёгкая. Палітыка, на жаль, патрабуе гэтага амаль што як асноўнай рэгулы. Трымаць моцна сэрца на сваім месцы, не дапускаць яго падымацца, а капітуляваць і абыходзіцца толькі сухім розу-*

[577] Ёсць звесткі, што ў адрозненне ад Янкі Чарапука, Язэп Варонка пры канцы жыцця падтрымаў БЦР. Гл.: Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА). Смаленск, 2009. С. 170.

*мам — бяз помачы, без уздыму сэрца. Я вось і намагаюся, стараюся й вучуся гэтак дзеяць.*

*Прыглядаючыся да палітычнай сфэры — сьвету рафінаванага ў гэтым сэнсе, — мы знойдзем, што яны сапраўды так дзеюць, так навучыліся дзеіць, як быццам таго сэрца й зусім ня маюць. Можа, гэта й не прыгожа ўжо так выглядае, але ж ня нам зламіць гэтыя векавыя традыцыі, векавыя рэгулы. Непрыгожыя традыцыі ў змаганьні — войны, забіваньні людзей, але покуль такі сьвет існуе, не абыдземся мы без такой формы змаганьня.*

*У мабілізацыі сягоньня нашых сілаў мусім вэрбаваць ня толькі рыцараў аж 100% беззаганных нацыянальна й ахвярных людзей. Такіх людзей у кожным грамадзтве, кожным народзе няшмат. Пішаце, Чыкага ня шэнціць на нашу інтэлігенцыю. Праўда, моцна ня шэнціць!*

*Варонка, безумоўна, — наша трагедыя, і, магчыма, гэта трагедыя для яго самога яшчэ большая. Я ведаю, на ягоным месцы Вы б зарэагавалі начы. Вы б загаварылі на ўсе дзьве гадзіны так, як гавораць нямногіх 10% адданых ідэі нашай вызвольнай справы. Я ад Варонкі гэтага не спадзяваўся, балела сэрца, але цешыўся, што будзем мець ад яго хоць нейкія 3% — на сухі палітычны розум рахавалася й гэта здабыткам. Па Вашым апошнім лісьце ставіцца й гэта пад сумнеў.*

*Відаць, на Варонку не зрабіў і я ўплыву, а калі гэты ўплыў быў, дык толькі хвілёвы*[578].

*Што ж цяпер рабіць? Падняць проці яго апазыцыю, пачаць, біць яго на разе нявыгадна нам.*

*Але трэба, аднак, яго Вам, узяўшы моцна «сэрца ў жменю», старанна трымаць пры сабе, хоць на 10% ці 5% выкарыстоўваць. А галоўнае — тармазіць яго, каб іншыя % не выкарыстоўвалі чужыя.*

*Калі б Варонка не займаў у нашай гісторыі такога месца, безумоўна, гульні такой, цацканьня такога зь ім мець не было б сэнсу. Або калі б гэта было ў Бацькаўшчыне, таксама загаварылі б зь ім іншымі мовамі. Ня выключана, што зьменяцца абставіны й тут. Сэрцам нават загаворым да яго!*

---

[578] Мікола Абрамчык быў у Чыкага ў сакавіку 1950 г. Тады ж была арганізавана радыёперадача ў праграме Язэпа Варонкі — прамова Прэзідэнта БНР да беларусаў Чыкага, прысвечаная 32-й гадавіне абвяшчэння незалежнасці БНР.

*Іншая рэч, калі заўважыце, што Варонка нас ашуквае й дзець там. Тагды ўжо безумоўна мусім прыступіць да апэрацыі, хоць як бы балючай яна ні была.*

*Палкоўнік*[579] *— добры чалавек, толькі яго безумоўна добра трэба трымаць за полы. У яго выяўляюцца нравы, якія бываюць у многіх старых людзей. А ён моцна стары.*

*Згодзен, што Вам патрэбна помач. Яе чакаем. На жаль, ня ўсё гэта залежыць ад нас. […]*

*А пакуль бывайце здаровенькі й ня падайце духам, Рыцару. «Яшчэ мы прыйдзем палямі ўзорнымі» да тых вёсак. І тэй вёскі Гародзеншчыны з касьцёлкам беларускім. Ці ж ня верыце ў гэта, Рыцар? Я моцна веру.*

*Жыве БНР!*

*Ваш М. Абрамчык».*

Найбольш шчыльна Янка Чарапук ліставаўся з Станіславам Грынкевічам, сваім далёкім сваяком, якому шмат дапамагаў парадамі, афармленнем папераў «на доктара». У першую чаргу ад яго даведваўся ён пра падзеі ў нацыянальным актыве ў гады вайны, у лагерах *DP*, ад яго атрымліваў інфармацыю пра новых, невядомых яму дзеячоў руху (а такіх была пераважная большасць). Напэўна, не будзе перабольшаннем сказаць, што Станіслаў Грынкевіч у значнай ступені фармаваў погляды Чарапука на новую беларускую сітуацыю. Лісты markрознабаковыя, інфармацыйныя, часам іх можна назваць у пэўнай ступені сенсацыйнымі; яны дадаюць багата што да роздуму пра іх аўтара і адрасата.

*«Мой даражэнькі Братка!*

*Вярнуўся з одпуску, зь вялікай радасьцю браў да рук чакаючыя на мяне апошнія Твае пісьмы. Калі чытаў іх, з кожным прачытаным сказам узрастала маё глыбокае задавальненьне, што нягледзячы на гады й адарваньне ад свайго асяродку, Твой энтузіязм, як і глыбокая нацыянальная маральнасьць і патрыятызм, у нічым не прытупіліся, а наадварот, у Тваей асобе праявілася далеказорная палітычная сьпеласьць пры ўдалым дыплargматычным падыходзе. Таму, здаецца, толькі Ты адзін у часе апошняе вайны ўмеў заняць такое становішча, якое й сёньня актуальнае. […]*

579 Маецца на ўвазе Мікола Дзямідаў.

*Сёньня сьпяшу пісаць Табе на тэму нашых міжнародных зносінаў.*

*Кантакт з Ізраілем ды Ірляндыяй зьяўляецца для нас амаль ключавой пазыцыяй, таму Твая ініцыятыва небывала шчасьлівая ды карысная. Таму гэтыя дзьве дзялянкі трактуй як надта важныя ды справу беспрарыўна пхай наперад. Я тут пастараюся коратка гэтыя дзьве справы з Табой прадыскутаваць.*

*Ірляндыя. Засьцярогі ірляндцаў у адносінах да нас зусім неапраўданыя. БНР ад часоў яшчэ Ластоўскага глядзела зь вялікай пашанай на Ватыкан. А й цяпер нашыя адносіны да Апостальскага пасаду як найлепшыя. Пэўна, ведаеш, што яшчэ ў 1946 г. наша дэлегацыя ў асобе кс. Чарняўскага ды інж. Рыдлеўскага была прынята Папам Піюсам XII. Ватыкан даў стыпэндыі для некалькіх дзясяткаў нашых студэнтаў на ўнівэрсытэце ў Лювэне, выдае на нашай мове малітоўнікі, газэту «Зьніч», радыёвыя аўдыцыі. Апрача гэтага, нядаўна й сам Прэзыдэнт Абрамчык быў прыняты надта цёпла гэтым жа Папам. Дык як бачыш, каталіцкія пачуцьці ірляндцаў зусім ня будуць абражаныя.*

*Што датыкае нас, дык мы ў сваіх асяродках яшчэ ў Нямеччыне пашыралі сымпатыі да ірляндцаў. Ды гэту сымпатыю маем і цяпер. У часы акупацыі нямецкай, калі ірляндзкая грамадзянка, жонка др. Антановіча, была пасаджана ў канцэнтрацыйны табар, беларускі актыў на чале з сьв. п. В. Іваноўскім выступіў гэтак рашуча перад немцамі, што апошнія выпусьцілі ўвязьняную, хаця гэткіяануляваньні выдадзеных загадаў немцы былі непрывыкшы рабіць. Тут варта надмяніць, што адзін толькі Ермачэнка стаяў наўбаку справы асвабаджэньня ўвязьненай. Наадварот, таму, што др. Антановіч стаяў на чале Беларускага Чырвонага Крыжа й стараўся ўтрымаць арганізацыю на яе самарытанскай чысьціні, Ермачэнка супольна зь немцамі разграміў арганізацыю, робячы зь яе карыкатуру ў форме Самапомачы.*

*У канклюзіі ішло б нам пра навязаньне прыязных адносінаў з ірляндзкім урадам, як і мясцовымі тут арганізацыямі. Заўтра адразу пішу сп. Абрамчыку, каб у найкаротшым часе пастараўся адведаць Ірляндыю. Тым больш гэта будзе карысным, бо ў пачатках зімы сп. Прэзыдэнт мае адведаць ізноў ЗША.*

*Аднак, магчыма, больш важна, чымся справа нашых адносінаў з ірляндцамі, справа зносінаў з Ізраілем.*

*Прасьледаваньне жыдоў у царскай Расеі, магчыма, было прычынай утварэньня выняткова добрых адносінаў між прыгнечаным нашым народам з жыдамі. Таму й нашая краіна сталася амаль маткай сёньняшняму Ізраілю. Хопіць толькі паглядзець на пэрсанальны склад сёньняшняга ўраду Ізраіля а пабачым, што ў бальшыні яны паходзяць зь Беларусі. І гэта непрыпадкова, у нас былі найвышэйшыя жыдоўскія школы, адсюль і выходзіла вярхушка жыдоўскай інтэлігенцыі. Пагромы ў нас невядомыя. Памятаеш адносіны БНР да жыдоў ад самага пачатку, памятаеш таксама пастанову нашага Ўраду адносна Балаховіча, які ў той час быў так патрэбны, а Ўрад яго ўвольніў за жыдоўскія пагромы ў Пінску. Варта надмяніць, што адкінутага Балаховіча палякі прыгарнулі да сябе. Пад Польшчаю беларускі народ ніколі не запаліўся да моднага ў Польшчы антысэмітызму, а наадварот, пасіўна падтрымліваў жыдоў. Важны факт у сэрыі гэтых зносінаў, што дэлегатам да зносінаў зь Вялікай Брытаніяй ад імя БНР быў пасланы жыд, якога прозьвішча прыпадкова забыў*[580]*.*

*У часы жыдоўскае трагедыі-гітлераўшчыны ізноў беларусы спагадаюць жыдом, дзе толькі магчыма, з собскай небясьпекаю жыцьця хаваюць жыдоў (як інж. Душэўскі, які сам прыплаціў жыцьцём). Найболей яскравым фактам гуманных адносінаў нашага народу да жыдоў, можа, гэты факт, што немцы не змаглі нашымі рукамі ліквідаваць жыдоў, а былі прымушаныя ўзяць батальёны нашых суседзяў, як летувісаў, латышоў ды расейцаў (Камінскі). Нат у нас, у Новым Двары, раскідаць жыдоўскі магільнік не знайшлі ахвотнікаў за грошы ды спэцыяльныя прыдзелы картачак, а пагналі людзей паліцыяй. А потым, як наш селянін ласы на зямлю, хаця немцы аддавалі дармо зямлю, ніхто яе ня ўзяў. Гэтаксама немцам не ўдалося спрычыніць паўстаньне беларускае нацыянал-сацыялістычнае партыі. Пробаваў няўдачна рабіць гэта Акінчыц, але справа скончылася толькі лідарам, безь сяброў партыі.*

---

580 Як прадстаўнікі Рады БНР у Вялікабрытаніі ў 1922 г. фігуравалі міністр нацыянальных меншасцяў БНР Самуіл Жытлоўскі (1870–?) і супрацоўнік Берлінскага бюро БНР Давід Анекштэйн. Каго з іх Грынкевіч меў на ўвазе, дакладна невядома.

*Безумоўна, зусім дапушчальныя прыпадкі спарадычных асабістых прыпадкаў расправы з жыдамі як высказ помсты. Але гэта жыды самыя разумеюць, бо нямала іх суродзічаў як савецкія камісары мелі нямала на сваім сумленьні беларускага жыцьця. Таму гэтыя прыпадкі ня ўлічваюцца, бо беларусы ліквідавалі й сваіх камуністаў.*

*Таму ў імя тут коратка накінутай мною мінуўшчыны адносінаў беларуска-жыдоўскіх з жыдоўскага боку належыцца нам пэўнае забавязваньне ў форме помачы, якую на сёньняшні дзень мы можам толькі ад іх дастаць. Узамен за гэта мы забавязваемся, што ня то жывыя, а нат і памёршыя на нашай зямлі ня будуць спрафанаваныя. Справа адносінаў міждзяржаўных — гэта справа ўжо будучыні. Разумею, што пры сучаснай палітычнай сытуацыі прызнаньне de jure нашага Ўраду немагчымае. На сёньняшні дзень нам надта патрэбна матэрыяльная падтрымка ў наступнай форме:*

*1. Зарганізаваць тут на ўсходнім узьбярэжжы, а мо нават і ў Чыкага, штодзённую гадзіну камэрцыйных перадачаў, як гэта тут практыкуецца. Фірмы, якія гэта возьмуць на сябе, зь цягам часу пакрыюць свае кошты, бо гэтых радыёвых перадачаў будуць слухаць соткі тысяч людзей.*

*2. Сваймі ўплывамі дапамагчы нам дастаць месца ў «Голасе Амэрыкі».*

*3. Даць магчымасьць у жыдамі кантраляванай прэсе ў ангельскай мове час ад часу папулярызацыю ў нашай справе.*

*4. Матэрыяльную помач, у форме падарку або доўгатэрміновае пазыкі, у вышыні $40000 на куплю царквы або дому, што зьяўляецца нам неабходным дзеля адваяваньня старое эміграцыі.*

*Праўда, гэта немалыя вымаганьні, але адначасна й невялікія для гэтак магутнай жыдоўскае супольнасьці. Дзеля гэтага чым хутчэй старайся ўвязацца з адпаведнымі жыдоўскімі дзейнікамі, пераконваючы іх у карыснасьці гэтае справы для абодвух бакоў. Калі б удалося нам асягнуць усе чатыры мной пададзеныя пункты, на Новы год мы ўжо змаглі б выдаваць сваю штодзённую газэту, а Задзіночаньне*[581] *налічвала б якія тысячы сяброў. Гэту справу разглядай як надта важную, бо акрамя Цябе, здаецца, ніхто іншы ня зможа яе правесьці.*

[581] Маецца на ўвазе Беларуска-амерыканскае задзіночанне (БАЗА), у склад Чыкагскага аддзела якога ўваходзіў Янка Чарапук.

*На днях атрымаў пісьмо ад сп. Абрамчыка. Ён успамінае аб былым консулу БНР Альбэрце Курляндзкім, які рэпрэзэнтаваў наш Урад у Данцыгу. З Курляндзкім ён апошні раз бачыўся ў 1948 г. у Даніі. Тады сам Курляндзкі падымаўся нашу справу прадставіць жыдам, жыдоўскай прэсе пашыраць паясьненьні аб Беларусі.*

*Жыве БНР!*

*Твой Стась.*
*17.7.1951».*

*«Мой даражэнькі Яначка!*

*Дзякую за апошнія пісьмы. Я надта рады, што Ты бачыш, якая перамена наступіла ў нацыянальным усьведамленьні нашага народу. Ужо зьявішча патрыятычных сем'яў не зьяўляецца ў нас рэдкасьцю. Палітычная рамантыка ахапіла ў нас ня толькі хлапцоў, як гэта было раней, а й дзяўчаты таксама пачэсна трымаюць крок у маршы наперад за лепшую будучыню. І Жанна д'Арк зьяўляецца ў нас ужо даволі частым прыметнікам. Я ганаруся, што гэты прыметнік быў некалі ўжыты на азначэньне патрыятызму мае жонкі, нат і зь нямецкага боку.*

*Тут пасылаю Табе з гэтым пісьмом мае спасьцярогі адносна аднае зь фігураў зарубежжа — Каўша. Прачытай і падумай, як пагадзіць гэтыя ўсе спасьцярогі й які мімахоць накідаецца высnaў.*

*Думаю, ведаеш, ён зьяўляецца сынам праваслаўнага сьвятара*[582]*, які амаль што адзін прызнаваўся да беларускасьці й нат актыўна працаваў. З гэтае прычыны й не любілі яго сябрымаскалі або маскафілы-сьвятары. З прыходам на Беларусь немцаў у 1941 г. айцец Коўш таксама маніфэстуецца сваёй беларускасьцю, дастае прыход, і было б усё карысна. Але трэба трагедый. Трудна мне сказаць, якімі матывамі кіраваўся а. Коўш, але ён пачынае хрысьціць жыдоў, выстаўляючы ім мэтрыкі. Тыя, хто знаў яго лепш, казалі, што ён гэта рабіў за золата (як вядома, хрысьціянская мэтрыка давала жыдам магчымасьці ратунку ад сьмерці). А мо ён гэта рабіў з гуманнага пачуцьця. Як весткі кажуць, праваслаўныя сьвятары данесьлі аб гэтым немцам і апошнія зьнішчылі а. Каўша ў 1942 г. Усе, якія ведалі а. Каўша, вестку аб ягонай сьмерці*

[582] Маецца на ўвазе а. Аляксандр Коўш.

*прынялі надта горка, у гэтым ліку й я, хаця асабіста й ня ведаў яго.*

*Цяпер на фоне гэтае падзеі здарылася зусім парадаксальнае зьявішча. Дзеці зьнішчанага немцамі бацькі ідуць да апошніх на службу, і то як агенты гестапа! Сучасны супрацоўнік др. Шчорса Сьвятаслаў Коўш працуе ў аддзеле гестапа, а ягоная сястра Зоя Коўш як гестапаўскі агент устаўляецца ў Беларускі нацыянальны камітэт у Вільні як сакратарка. Др. Грабінскі як старшыня Камітэту меў нямала зь ёю клопатаў, бо сваёй пазыцыяй у немцаў ня раз паважна шантажавала. Аб гэтым цяпер можа расказаць др. Грабінскі, які жыве ў ЗША. Таму Камітэт быў прымушаны насіцца з Зояй, як з «балячкаю». Усе беларусы, якія зналі а. Каўша, а тым больш, што нашыя палітычныя разыходжаньні зь немцамі ўжо на самым пачатку зусім выявіліся, таму паводзіны дзяцей а. Каўша ўсім выдаліся ненатуральнымі, проста хвараблівымі. Бо няхай і была б нейкая палітычная канцэпцыя карысная, але нармальнай людзкой рэакцыяй ёсьць, што калі нейкая ўлада зьнішчыць бацьку, у такім прыпадку з такой уладай супрацоўніцтва актыўнае зусім не да падуманьня.*

*Зоя, вядомая са сваіх афіцыйных і цёплых кантактаў зь немцамі, ужо ў гадох партызаншчыны 1943–44, быццам у характары чорнага гандлю разьяжджае ў партызанскія камуністычныя раёны й вяртаецца жывая. На гэта ў пачатках не зьвярнулася ўвагі — мо мае шчасьце. Потым, ня ведаю якой дарогай, яна зьяўляецца пачаткова ў Менску, а потым, летам 1944 г., ужо ў Бэрліне сакратаркаю Астроўскага. Якім парадкам гэта сталася, ці немцы Астроўскаму ўціснулі, ці ён сам яе ўзяў, на гэта не магу сказаць. У Бэрліне Зоя, сама як дзяўчына непрыгожая, часта паказвалася крыху ў рамантычнай форме з Жданюком, сярэдняй катэгорыі агентам гестапа, таксама. На гэта не зьвярталася ўвагі. Дзяўчына хоча мець хлопца, а й супольная дзялянка працы лучыць — усё ўзноў лягічна ды ясна. Але тут узноў іншы інцыдэнт.*

*Вядомы ў нашым жыцьці мэцэнат Шкялёнак, вяртаючыся раз поўначы а другой гадзіне ночы, застае Зою, перадрукоўваючую пратаколы БЦР. Зьляпаная на гарачым сьледзе, дзяўчына растрацілася, але псыхалягічна апанаваны Шкялёнак ня даў па сабе пазнаць, што зарыентаваўся ў яе акцыі. На другі дзень ён расказаў мне аб гэтым. Мэта яе работы*

*здавалася быць зусім ясна — рабіць копіі для немцаў, на жаданьне ад яе самой ці на заказ ад Жданюка, каб гэты мог паказацца актыўнасьцю. У тагачасных умовах немагчыма было нейкае больш рашучае пастанаўленьне адносна Зоі, было праведзена на жаданьне Шкялёнка найбольш лагоднае, перанесена яе з канцылярыі Астроўскага да аддзелу Сацыяльнае дапамогі — да Сабалеўскага. На гэтым адрэзку Зоя працуе аж да капітуляцыі немцаў.*

*З прыбліжэньнем бальшавікоў пад Бэрлін пры помачы нямецкай, значыць, безь ніякіх асабістых клопатаў БЦР за ўсімі сваімі аддзеламі эвакуявалася на Захад Нямеччыны. У агульным ліку працаўнікоў паехала туды й Зоя, але скора вяртае ўзноў да Бэрліну й тут застаецца. Пакольki маем весткі, бальшавікі, як толькі прыйшлі да Бэрліну, адразу зьнішчылі ўсіх беларусаў, якія не пасьпелі сваячасна пакінуць Бэрлін. У ліку зьнішчаных надта важны малады дзеяч — Пётра Бакач*[583]*, Амельяновіч ды іншыя. Зоі ня сталася нічога. Прыхавацца ёй як немцы амаль немагчыма. Перша — фізычна адменны тып, а да таго ж і слабое валоданьне нямецкай мовы. Узноў — мо мае шчасьце.*

*Але тут ужо зусім нешта незразумелае. Калі пару тыдняў па капітуляцыі Бэрлін быў падзелены на акупацыйныя сэктары, усе чужынцы, якіх ня здолелі вылапаць бальшавікі, адразу перасяліліся ў заходнія сэктары, як ангельскі, амэрыканскі ці францускі. Зоя тым часам зусім сябе бясьпечна й добра пачувае ў савецкім сэктары, дзе пражывае да канца 1946-га.*

*Восеньню 1946 г. я выйшаў з інтэрнаваньня й даведаўся такія рэчы: у ангельскай зоне ў Ватэнштаце Сьвятаслаў Коўш, які ад самага пачатку як камэндант беларускага лягеру*[584] *надта пазытыўны быў пад кожным поглядам, у апошнім*

[583] **Пётра Бакач** (каля 1910–?), грамадска-культурны дзеяч. Выпускнік Карлава ўніверсітэта ў Празе, даследчык гісторыі беларускай літаратуры. З лістапада 1943 г. быў кіраўніком берлінскай філіі Беларускага камітэта самапомачы, супрацоўнік беларускага аддзела міністэрства прапаганды, з студзеня 1945 г. удзельнік Беларускай Цэнтральнай Рады. Пасля капітуляцыі быў арыштаваны СМЕРШам і прысуджаны да лагераў. Пасля смерці Сталіна вызвалены з Магаданскага лагера, але далейшы лёс невядомы.

[584] Гл.: Cous, S. The Story of the Byelorussian Camp Watenstadt, Germany. 1945–1949. A Picture Album in Byelorussian. USA, 1981. — 112 p.

*часе пачаў рабіць небывала нізкія інтрыгі, проста маральна й арганізацыйна пачаў развальваць лягер. Даведваюся, што гэтага самага Каўша нядаўна адведала ягоная сястра з Бэрліну, што расказвала жудасныя рэчы пра бальшавікоў і што пастанавіла перабірацца ў амэрыканскую ці ангельскую зону. Адно толькі таму, што там, у Бэрліне, аставіла «лахі», паедзе яшчэ раз туды, прадасьць усё, а потым прыйдзе назад.*

*Вартасных рэчаў яна не магла там мець. А «лахаў» Коўш у той час як камэндант лягеру ёй мог даць цэлы самаход, бо ўсё УНРРАўскае майно было ў ягоных руках. А далей, ведаючы, што там — бальшавікі, дык пускаць сястру на гэтакую небясьпеку зусім не па-братэрску. Коўш, аднак, пускае сястру й ад гэтага часу сам мяняецца.*

*Па нейкім часе прыходзіць вестка ў заходнія зоны Нямеччыны, што Зоя пайшла на «чорны рынак» на Аляксандарпляц і была арыштаваная бальшавікамі й вывезеная ў невядомым кірунку. Коўш цяпер пачаў рэклямаваць мучальніцкую сьмерць сястры за Бацькаўшчыну*[585]*. І ад гэтага часу пачаў праводзіць такую работу, якую можна назваць толькі бальшавіцкай агентурай, а пра сутнасьць работы, дык, думаю, Ты даволі зарыентаваны ад Пануцэвіча й Жызьнеўскіх. Таму аргумэнтаў на гэту тэму ня буду падымаць.*

*Коўш уключаецца як адзін з арганізатараў зарубежжа. Астроўскі ды Шчорс таксама. Ведаючы тэхніку арышту на рынку, як заключаны можа сам паведаміць? Хто тады паведаміў? І нашто? На гэта няма як дастаць адказу.*

*Зарубежжа пачалося афармляцца, і толькі ў канцы 1947 году рэпатрыюецца ў Саюз паэтка Таполя*[586] *з найбліжэйшымі, а трэба зазначыць, што Коўш да іх быў надта прыхільны.*

---

[585] **Зоя Коўш** (па мужу Кратовіч 16.04.1911, Люблін, Польшча — 17.10.1994, Вільня), дачка Аляксандра і сястра Святаслава Каўша. Скончыла Віленскую беларускую гімназію. Сябра Беларускага студэнцкага саюза. У 1944 г. выехала ў Нямеччыну, жыла ў Берліне. У 1947 г. была арыштаваная савецкімі органамі бяспекі і асуджана на дзесяць гадоў лагераў. Па вызваленні ў другой палове 1950-х жыла ў Вільні.

[586] Маецца на ўвазе Вольга Таполя. Гл.: Юрэвіч, Лявон. Зацемкі на маргінэсе найноўшае гісторыі: Вольга Таполя. Лісты да Юркі Віцьбіча // Запісы БІНІМ. № 24. Нью-Ёрк, 1999. С. 184–235; Адзінец, Аляксандр. Падарожжа самотнае душы [Вольга Таполя] // Запісы БІНІМ. № 32. Нью-Ёрк — Менск, 2009. С. 144–178.

*Цяпер перакінем абсэрвацыю да вашага Чыкага. Па радыёвым выступленьні Варонкі выглядала, што гэты апошні, хаця й цяжка было, але здабыўся на адвагу й парваў усе ніткі з бальшавікамі, якія яго няслаўна зьвязалі па ягонай згодзе. І бачыў, колькі розных пасланцоў з Нью-Ёрку прыяжджала да Варонкі, зьвярнулі яго са шляху павароту на паўдарозе.*

*Тут разгледзеў я толькі аднаго, а да кожнага зь іх маем не асабістыя прэтэнзіі, а вылучна прынцыпова маральныя матывы, таму я сам асабіста пераконаны, што тут ніякага ня можа быць паразуменьня.*

*Твой Стась*
*8.16.1951».*



*Янка Чарапук Рыцар Калумба*

Так пачыналіся для Янкі Чарапука 1950-ыя гады. Можна толькі гадаць ды здагадвацца, які́м быў бы ягоны ўваход у жыццё і справы маладой беларускай эміграцыі. Маладой — таго, паваеннага часу.

Але другая палова пяцідзясятых была надта неспрыяльнай для ўжо немаладога дзеяча. 6 кастрычніка 1955 г. па дарозе на чарговае пасяджэнне «Рыцараў Калумба» Янка Чарапук быў збіты аўтамабілем. Апынуўся ў шпіталі са зламаным каленам. Ляжаў больш за тры месяцы, потым, пасля аперацый, яго выпісалі дахаты, але само лячэнне заняло яшчэ блізу год.

Магчыма, гэтае здарэнне падштурхнула Янку Чарапука да напісання тэстаменту (12.12.1955):

*«Я маю гонар Вас прасіць у выпадку маёй сьмерці выпаўніць ніжэйпададзенае: я хачу быць пахаваным на ўкраінскім каталіцкім цэмэнтары. Жалобнае набажэнства павінна быць адпраўлена ў рымска-каталіцкім касьцёле (ня гледзячы, да якой народнасьці належыць) сьвятаром пры галоўным аўтаром езуітам, а каб маліліся сьвятар-беларус і сьвятар-украінец. Я ў труне хачу быць убраны як 4 Degree Knights of Columbus. Труна павінна быць пакрыта беларускім дзяржаўным сьцягам. [...] Пастаўце скромны помнік: Ян Чарапук-Змагар, Беларус. 1896–195...».*

Напэўна, адчуваў, што гэта будуць пяцідзясятыя гады. Так і адбылося: Янка Чарапук-Змагар памёр 16 лістапада 1957 г.

*Але мы — не таго мы шукаем,*
*Не таго на чужыне нам трэба...*

# СЦЯПАН ШНЭК — ЮРКА ВІЦЬБІЧ[587]

Беларусы ў Аўстраліі… Іх, пэўна, не менш, як у Амерыцы, Канадзе ці Вялікабрытаніі, але вядома пра іх значна меней[588]. А ёсць, дакладней, былі сярод іх постаці не абы-якія. Вось, прыкладам, мастак Аляксандр Раманоўскі (1915–1955)[589] аўтар кнігі скетчаў «За жалезнай заслонай», што трагічна загінуў у сіднэйскім гатэлі (быў забіты каханкаю).

Або Сцяпан Шнэк.

Добра вядомы (наколькі гэта наогул у нас магчыма) Уладзімір Случанскі, аўтар гістарычнага раману «Драбы». Менавіта яму належыць ідэя і выкананне ўнікальнага альбома «Беларуская Краёвая Абарона. Уніформа і адзнакі», зробленага на падставе праекту, апрацаванага пад кіраўніцтвам генерала Кастуся Езавітава. Усяго дзесяць асобнікаў было зроблена — начальнікам штаба Беларускага вызвольнага фронту ў Аўстраліі Уладзімірам Шнэкам (Случанскім)[590].

---

587 Тэкст упершыню друкаваўся ў: ARCHE. № 2(16). 2001. С. 240–248. Тут друкуецца з абноўленымі каментарыямі.

588 Калодка, Аляксандар. Беларусы ў Аўстраліі // Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью-Ёрк: БІНІМ, 1999. С. 328–339. Ад часу першага друку гэтага тэксту з’явілася больш інфармацыі на згаданую тэму, таму да спасылкі можна дадаць: Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі: Да гісторыі дыяспары. Мінск: Беларускі кнізагбор, 2004. — 468 с.

589 Гл.: Конадні. Нью-Ёрк, 1955. С. 78.

590 Ужо колькі гадоў адзін з асобнікаў перахоўваецца ў Мінску. Але палітычная ды фінансавая сітуацыя робіць перавыданне гэтага Альбома справай, відаць, немагчымай. Тым не менш, кожны ахвотны мае магчымасць пазнаёміцца з інтэрнэт-версіяй кнігі на Беларускай паліцы: www.knihi.com. Варта дадаць, што хутка па выхадзе гэтага тэксту ў часопісе «Спадчына» была зроблена публікацыя Альбома Уладзіміра Шнэка, праўда, з чорна-белымі ілюстрацыямі. Там жы былі змешчаны ягоныя ўспаміны «Споведзь нацыяналіста». (Гл. Спадчына. № 4. 2001.)

Дык вось, бацька Уладзіміра Шнэка (Случанскага), Сцяпан Шнэк, таксама пісаў — у газеты «Бацькаўшчына», «Беларускае Слова». Падпісваўся *Янка Нясьцерпны*. У 1952 г. здарылася трагедыя: С. Шнэк збіў жонку, якая ў цяжкім стане трапіла ў шпіталь, а сам павесіўся[591]. Трэба сказаць, што гэта — адзін з рэдкіх выпадкаў самагубства сярод беларусаў на эміграцыі. На Бацькаўшчыне, пад ціскам абставінаў, перарывала (і перарывае) сваё жыццё непараўнальна большая колькасць людзей. Эміграцыя, нягледзячы на моўныя, фінансавыя ды якія заўгодна складанасці, давала, відаць, надзею — а значыць, трымала ў жыцці.

Але не пра тое.

Захаваліся лісты Сцяпана Шнэка да Юркі Віцьбіча, цікавыя ў сваёй самадастатковасці[592].

## Лісты Сцяпана Шнэка

*11.1.1949.*

*Рэдакцыі «Беларускага Слова».*

*Дасылаю сваю першую карэспандэнцыю. На жаль, выйшла завялікая. І шкада, што яе трудна дзяліць на часткі. Спадзяюся пісаць для кожнага нумару. У сувязі з гэтым хацеў бы, каб ужо й гэтая першая карэспандэнцыя падпала вашаму рэдагаваньню з такога пункту гледжаньня:*

*1. Нашая газэта мусіць высьвятляць прыроду ўсіх нашых праціўнікаў у форме крытыкі іх з нашага боку; на гэтым трэба выхоўваць баявы дух у нашай грамадзкасьці. Але крытыкаваць трэба спосабам дадатнага высьвятленьня. Божа барані пераходзіць на мэтад лаянкі альбо дыскутаваць з крывічамі. З гэтага пункту гледжаньня першыя нумары газэты выйшлі*



Сцяпан Шнэк

591 Насамрэч, Сцяпан Шнэк не павесіўся, а застрэліўся (заўвага рэд.).
592 Ліставанне перахоўваецца ў прыватным архіве Лявона Юрэвіча.

*бліскуча прыгожымі. Калі ў маёй карэспандэнцыі заўважыце месцы, падобныя на лаянку, то іх, безумоўна, прашу выкінуць.*

*2. Дыскусія ўнутры сваіх шэрагаў мусіць мець месца й на старонках газэты (газэта нашая агульнаграмадзкая, а не партыйная). Я ў сваёй карэспандэнцыі, мусіць, не задаволіў нічыіх асабістых пунктаў погляду, але не лічу гэта яе недахопам. Досыць ляяльнасьці, а кожны можа свабодна вазражаць супроць любой думкі, выказанай тут. Зразумела, што мы ня можам дапусьціць, каб нас хто-небудзь лаяў на старонках нашае газэты.*

*Вось і ўсё. Ня думаю, каб Вы прынялі гэтыя думкі за маю спробу навучаньня. Можа, яны выказваюцца таму, што я ня маю рашэньняў у гэтай справе, прынятых на міжпартыйнай канфэрэнцыі, і нічога ня чуў па зьмесьце яе працы.*

*Вельмі дзякую за прысланыя два нумары газэты.*

*Адначасна шлю пасылку мыла 1 кг у выдавецкі фонд. Нічога лепшага не прыдумаў. Прасіў бы Вас сказаць, як магчыма перасылаць грошы.*

*З прывітаньнем С. Шнэк.*

*8.2.1949.*

*Высокапаважаны Спадар Стукаліч!*

*Па-першае, ад душы рады бачыць (чуць) Вас рэдактарам «Беларускага Слова», хоць і ня памятаю, ці знаёмы я з Вамі асабіста. Але досыць таго, што я знаёмы з Вамі па Вашай працы.*

*Па-другое, прызнаюся, не чакаў, што Вы павелічаеце мяне тым самым словам, якім я скончыў свой першы артыкул. Хоць я, па Вашым прыкладзе, таксама яго ўжыў тут, але мне здаецца, што трэба як-небудзь атрахнуцца ад усёй гэтай крывіччыны, у тым ліку й ад «спадара». Я лічу, што гэты тытул быў у свой час моўчкі й пасіўна прыняты нашымі людзьмі толькі таму, што яны не хацелі даваць лішніх повадаў дзеля таго, каб іх крывіччына называла «ўсходнікамі», «савецкімі актывістамі». Па-мойму, вольнымі нашыя людзі ня прымуць «спадара». Якая Вашая думка?*

*Пару слоў адносна майго першага артыкулу. Магчыма, Вы не заўважылі, але ў маім першым лісту ёсьць такая прыблізна фраза, што «нязгода асобных нашых людзей з маім артыкулам ці асобнымі думкамі ў ім не пазбаўляе яго*

*вартасьці». Мною сказана гэта не выпадкова. Пішучы й пасылаючы свой артыкул, я ведаў, што сярод нашых людзей ёсьць такія, што, па-першае, ніяк ня могуць прымірыцца з пастаноўкаю сацыяльных праблемаў, а менавіта, што вольнасьць і незалежнасьць Беларусі для беларускага селяніна ўключае зямлю, а для ўсяго беларускага народу — сацыяльную вольнасьць. Яны наіўна вераць, нібы беларускі селянін гатоў змагацца супроць ксяндзоў і польскіх паноў дзеля таго, каб мець беларускіх паноў, нібы яму ня ўсё роўна, будзе Радзівіл беларусам ці палякам. Беларус наагул ня хоча Радзівіла, будзь ён паляк, расеец, беларус. Крывічы таксама прызнаюць вольнасьць і незалежнасьць Беларусі, але яе разумеюць інакш, чым беларускі народ і мы.*

*Па-другое, ведаю, што і ў нас, і ў крывічоў навокал цэнтраў згушчэньняў плавае досыць многа плянэтаў блізкай і далёкай адлегласьці, якія маюць нават пункты счапленьня. Вось яны спадзяюцца на прымірэньне, быццам яно магчымае.*

*Па-трэцяе, у нас безумоўна ёсьць людзі, якія ня згодны прызнаць групаваньне ўсіх партыяў у двух цэнтрах. Але зачым тады каардынацыйны цэнтар? А галоўнае — жыцьцё, практыка ня лічуцца з суб'ектыўнымі жаданьнямі.*

*Тут зноў я хацеў бы сказаць свой погляд, што з крывічамі ня лаяцца, не дыскутаваць, але высьвятляць іх.*

*За газэту трэба змагацца ўсімі сіламі. Жадаю посьпеху (трэба насварыць гэтую пошасьць з украінцамі).*

*З прывітаньнем і найлепшымі пажаданьнямі С. Шнэк.*

*Бэлфорд*[593]*, 31.5.1949.*

*Высокапаважаны Гаспадар Стукаліч!*

*Пасьля Вашага апошняга ліста маю толькі надзею, што гэты мой ліст яшчэ трапіць да Вас па старым адрасе. Сам я, як бачыце, таксама пішу з новага месца, якое ад старога знаходзіцца на адлегласьці 250–300 км. Тут жыву ўжо тры тыдні з усёй сям'ёю, хаця старэйшы сын жыве й працуе тут больш месяца. Пераезд меў толькі адну мэту: вырабіцца з шахтаў, у каторых працавалі сыны (у мяне іх два)*[594]*.*

---

[593] Насамрэч, гэта горад Бельфор (*Belfort*) на ўсходзе Францыі, адміністрацыйны цэнтр тэрыторыі Бельфор.

[594] Сцяпан Шнэк меў сыноў Уладзіміра і Алега (1930–2005), а таксама дачку Ліну.

*Добрая справа — эміграваць за акіян, і адначасна шкода, што мы разьяжджаемся па сьвеце. А патрэбна была б нашая згрупаванасьць, праца была б больш плоднай. Але шчыра жадаю Вам шчасьлівага падарожжа. Мусіць, лепей было б патрапіць у ЗША. У мяне ўжо ў самога шавялілася думка такая, што было б добра, каб нашых людзей найбольш пераехала ў ЗША, а потым сьцягваць туды ж і іншых, каторыя самі ня маюць магчымасьці туды перасяліцца, як у мяне, грэшнага. Мне здаецца, што Францыя ня ёсьць месца для нашае працы (тутака ходзіць, зразумела, аб грамадзкай працы, бо для жыцьця й вытворчае працы тут месца, мусіць, найлепшае, асабліва як відаць у параўнаньні з такімі краінамі, як Англія)*[595].

*Прашу перадаць шчырыя прывітаньні гаспадаром Сяднёву, Шчорсу і іншым супрацоўнікам Вашым. Прывітаньне Сабалеўскаму, Касяку, Кіпелю.*

*Чырканіце пару словаў аб працы пленуму Калегіі й Прэзыдыуму БЦР, бо нічога ня чуў, акрамя зацемкі ў «БС».*

*З прывітаньнем С. Шнэк.*

*Сыднэй. 10.07.1950.*

*Высокапаважаны Гаспадар Стукаліч!*

*Магчыма, што тут Вы па шрыфце пазнаеце Шнэка. Дык вось, спрабую знайсьці Вас у Амэрыцы. Самога мяне загнала нячыстая ў Аўстралію. Вярнуўшыся з Францыі, прайшоў некаторыя мытарствы для аднаўленьня сваіх бяспраўных дыпісаўскіх правоў і зусім лёгка апынўся тут. Жыву ў гэтай абетаванай краіне ўжо два месяцы бяз двух дзён (бо прыехаў сюды 12.05.50). Сьцісла кажучы, першыя ўражаньні такія: краіна ўяўляе сабою культурныя паселішчы ў пустэльні, прычым у гэтых паселішчах гаспадараць аўстралійцы з усімі іхнымі характэрнымі рысамі. Жыву ў так званым гостэлі, тып якога ўсім вядомы з жыцьця нашых людзей у Англіі: найбольш характэрнай рысай яго зьяўляецца тое, што, па-першае, гэта*

[595] Гэты ліст, як і папярэднія, Сцяпан Шнэк пісаў з Францыі, дзе на той час жыў і працаваў. Стаўленне Шнэка да гэтай краіны можна зразумець з ліста, апублікаванага ў «Беларускім слове»: Шнэк, С. «Этранжэ» (Урыўкі з прыватнага ліста) // Беларускае слова. № 10 (11). 12 кастрычніка 1949. (Перадрук: Падарожныя лісты // Запісы БІНІМ. № 32. Нью-Ёрк — Менск, 2009. С. 138–140)

*звычайны рабочы лягер, зь якога наш народ езьдзіць на работы, а, па-другое, па агнельскім звычаі сем'і тут разьбіваюцца як толькі мага, а людзі сартуюцца як быдла. Я жыву й працую ў Сыднэі, жонка зь дзіцем недзе за 650 кілямэтраў адсюль, адзін сын за 950 кілямэтраў і другому яшчэ шукаюць месца — куды запраторыць*[596]*.*

*Я ўяўляю сабе, што ёсьць у Амэрыцы нашы людзі, каторыя завідуюць нам, аўстралійскім. Думаю, што напрасна. Яшчэ ў Нямеччыне чутно было шмат кумушкінскіх казак аб тым, што ў Аўстраліі эмігранты ДП купляюць уласную зямлю й будуюць уласныя дамы. Зразумела, што гэта плёткі. Будуюць не дамы, а будкі, схожыя з сабачымі будкамі, і палаткі на манэр цыганскіх, і толькі дзеля таго, каб жыць разам з жонкаю й дзецьмі й крыху пазбавіцца ад выматваньня грошаў у гостэлях. Ёсьць, аднак, і харошыя бакі: працуючы халасьцяк можа зарабіць грошаў і ніхто пакуль што не галадае. Але наскольгі — я так думаю — нашыя амэрыканцы атрымліваюць адсюль лісты й тым пішуць нешта іншае, то я прадстаўляю малюнак таго, што можа зарабіць і што можа зрабіць на свой заработак звычайны сямейны чалавек. Прыклад зь сябе: «зарабляю» я ў тыдзень 7 фунтаў і 11 шылінгаў. Зь іх: падатак 8 шылінгаў 9 пенсаў, плачу за свой Hostel 2 фунты 12 шылінгаў і 6 пенсаў, плачу за такі-ж гостэль (толькі халодны) жонкі з дзіцем 2 фунты 2 шылінгі і 5 пенсаў; плачу за падарожжа на работу і з работы 15 шылінгаў (бо гостэль ад месца работы за 35–40 кілямэтраў). Застаецца сабе 1 фунт 12 шылінгаў і 4 пенсы. К таму ж я курашчы, хачу пісаць лісты й чытаць газэты, мыць бялізну й вымушаны на рабоце рваць адзежу. І так жыве 99% сямейных. Таму энтузіясты нашыя ўжо ахаладзелі. Прымем пры гэтым пад увагу, што месца для пабудовы будкі каштуе 150–200 фунтаў. Можна падлічыць, колькі гадоў трэба чакаць, каб мець сваю сабачую будку ці палатку.*

*Але я нешта разгаварыўся (ці, можа, расплявузгаўся). Калінебудзь будзе больш. Працую ўжо два тыдні на прадпрыем-*

[596] Першапачаткова ўся сям'я Шнэкаў, як і іншыя беларускія эмігранты ў Аўстраліі, трапіла ў лагер Банагіла. Праз два месяцы Алег Шнэк выехаў на працу ў Мельбурн, жонка Сцяпана Шнэка з дачкой заставалася ў лагеры надалей, пакуль у 1951 г. сыны не набылі хату ў Мельбурне. Сам Сцяпан Шнэк да 1952 г. працаваў у Сіднэі.

*стве, якое прадстаўляе сабою лесапілку, склад будаўнічых драўляных матэрыялаў і імпартна-гандлёвы магазын. Ну, зразумела, што тут лепей, чым у Францыі, хоць бы тым, што не стаіш пакуль што перад страхам голаду.*

*Цяпер аб справах. Чуў я, што ў Вас там выдаецца газэта. Як бы гэта наладзіць яе высылку да мяне (зразумела, што адсюль буду акуратна плаціць). Тут ужо ўтварылася «Беларускае Аб'еднаньне»*[597] *(якраз з цэнтрам у Сыднэі) і выдаецца часапіс «Новае жыцьцё»*[598]*. Аб'еднаньне лучыць усіх. У пэрспэктыве стаіць пытаньне: хто каго перахітрыць. Бо дасюль лінія ўзята на абсалютную беспартыйнасьць, але партыйнасьць складае зьмест закуліснага жыцьця. Калі-небудзь раскажу падрабязьней. Думаю, што хутка вырвецца справа на паверхню*[599]*.*

*Другая мая просьба — напішыце пра амэрыканскае жыцьцё.*

*Трэцяе. Вельмі прашу паведаміць мне, калі маеце, адрасы нашых амэрыканцаў, у прыватнасьці, спадароў Русак, Коўш, Клішэвіч і іншых, а пры нагодзе перадавайце ім прывітаньні ад мяне. Можа, маеце адрас Астроўскага, дык таксама вельмі прашу паведаміць яго мне.*

*Зразумела, што пішу Вам крыху наўгад, бо Ваш адрас запісаў яшчэ паўгады таму. Таму, як я сказаў напачатку, гэта спроба. Але чым мы рызыкуем, калі ходзіць аб зьмесьце?*

*Пішу пасьля работы. Можна таму згадзіцца, што шмат не напісана. Чакаю ад Вас.*

*Прывітаньне ўсёй нашай кагорце!*

*З прывітаньнем С. Шнэк.*

*Сыднэй, 8.10.1950.*

*Высокапаважаны Гаспадар Стукаліч.*

*За такое спазьненьне з маім лістом чуюся няёмка, што й пачынаць ня ведаю з чаго, ажно сорамна. Часта ў такіх выпадках пішуць: паслаў Табе ўжо два лісты, а ад Цябе не атрымаў*

597 Маецца на ўвазе Беларускае Аб'яднанне ў Новай Паўднёвай Валіі, заснаванае Уладзімірам Клуніцкім як «надпартыйная» арганізацыя ў студзені 1950 г.

598 Часопіс «Новае жыццё» выдаваўся ў Сіднэі (пазней у Мельбурне ізноў у Сіднэі) з 25 сакавіка 1950 г. да ліпеня 1959 г.

599 Сцяпан Шнэк быў правы ў сваіх прадчуваннях: ужо ў кастрычніку 1950 г. першае Беларускае Аб'яднанне ў Новай Паўднёвай Валіі раскалолася на дзве арганізацыі паводле палітычнага прынцыпу.

*ніводнага. Такое «апраўданьне» мела нейкі грунт калісьці ў нас. Тут гэта ня ў модзе, тут пошта працуе інакш. Пазаўчора я атрымаў ліст, які пісаў мне сп. Евец*[600] *з Ватэнштэту ў другі лягер у Нямеччыне. І гэта пасьля таго, як я зьмяніў шэсьць адрасоў, два кантынэнты й пераехаў чатыры дзяржавы. А Ваш пакет з «Шыпшынаю» атрымаў зусім своечасова (спазьненьне ў адзін дзень у нашых умовах нічога ня значыць). Так што мне нічога не застаецца, як прасіць у Вас прабачэньня. Але спадзяюся, што Вы паверыце мне на слова: былі ўважлівыя прычыны такога спазьненьня. Першая зь іх — гэта тутэйшая блытаніна ў грамадзкім жыцьці. Хацелася б напісаць нешта зразумелае, таму некаторы час чакаў. Другая прычына — даўгі час чакаў зьмены свайго адрасу. Цяпер перабраўся на прыватную кватэру (амаль у цэнтры горада, бліжэй да месца працы) і жыву ў адным раёне з цэнтрам нашага Беларускага Аб'яднаньня.*

*Акрамя таго меў і адну прыватную валакіту, якая таксама некаторы час не давала сабрацца з думкамі. І да ўсяго гэтага мне здавалася, што мы маем досыць прасторныя пэрспэктывы з часам; наўрад ці Карэя ўносіць значныя карэктывы ў гэтыя маштабы.*

*Ваш ліст выклікаў у мяне такое пачуцьцё блізкасьці да Амэрыкі, што, здаецца, можна рукою падаць альбо купіць білет і з'езьдзіць на часіну ў Вашую грамаду. Да ўсяго Вашага ліста вельмі трапны Ваш афарызм: мець жаўнерскае пачуцьцё локця. Так сапраўды лягчэй жыць.*

*У пары словах хачу яшчэ раз насьвятліць аб'ектыўна аб прыватным жыцьці эміграцыі (сучаснай) у Аўстраліі. Скарыстоўваю мэтоду сумеснасьці й кантрасту. Я маю ўжо вопыт дзьвюх краін: Францыі й Аўстраліі. Істотны кантраст жыцьця ў аднэй і другой з гэтых краінаў палягае вось у чым: у Францыі амаль кожны наш чалавек думаў амаль кожны дзень, колькі тыдняў у месяц ён мусіць жыць крэдытам з крамаў на харчы. З гэтай нуднай думкай чалавек клапаціўся аб куску хлеба. У Аўстраліі наадварот: кожны чалавек думае, колькі фунтаў у тыдзень ён зьберажэ й адложыць у свой фонд накапленьня. А гэта ўжо зусім іншае. Словам, жыцьцё тут наагул даволі*

[600] Маецца на ўвазе **Аркадзь Евец** (03.06.1904, в. Каўшова — 03.07.1985, Саўт-Рывер, ЗША), грамадскі дзеяч. Пасля вайны жыў у ЗША. Кіраўнік беларускага хора ў Саўт-Рыверы.

*тлустае, і аб куску хлеба ніхто ня думае. Гэта, як кажуць, нагул. А ў прыватнасьці справа выглядае так. Халастыя й бязьдзетныя маюць магчымасьць накапіць досыць многа грошай. Як правіла, халастыя жывуць у прыватных кватэрах. Сямейныя стараюцца набыць уласнае жыльлё. У масе сваёй яны купляюць пляцоўкі мэтраў 10 на 15 за 150–200 фунтаў, будуюць будкі, схожыя з сабачымі, ці ставяць палаткі і ў іх жывуць. Гэтыя будкі тут яны завуць гаражамі, а ў лістох у іншыя краіны — дамамі. На самым дзеле, яны на дамы не падобны. Людзі вымушаны іх будаваць таму, што сямейным кватэры знайсьці надзвычай трудна, а жыць у гастэлях надта дарага каштуе. Пабудаваць ці купіць сапраўдны домік — каштуе 900–1000 фунтаў. Калі чалавек зьберагае ў тыдзень 2–4 фунты, то можна лёгка ўявіць сабе, колькі гадоў ён мусіць зьберагаць, каб купіць ці пабудаваць сапраўдны домік. Будуюць і купляюць тыя, хто яшчэ ў Нямеччыне нагандляваў ці напрацаваў на базах UNRRA і IRO. Яны купляюць і будуюць у крэдыт гадоў на 10–20, з разьлікам аплаціць за адзін-два гады. Адразу не плацяць таму, што тут зараз жа пацікавяцца, адкуль ён мае грошы. Бывае й так, што сьледам за гэтымі людзьмі набывае сабе домік і звычайны чалавек, але тады ён накладвае сабе на шыю крэдытны хамут гадоў на 10–20. Вось такая сапраўднасьць. Жыць тут нядрэнна, але ня так, як гэта пісалі першыя з прыехаўшых у сваіх першых лістах за граніцу. Цяпер гэтыя аптымісты гутараць інакш або замоўклі і часта праклінаюць гастэлі.*

*У Аўстраліі праводзіцца нязьменна адна й тая ж палітыка асыміляцыі нашых эмігрантаў. Апошніх тут завуць не эмігрантамі і не ДП, а new Australian. Грамадзкую працу можна праводзіць шырока, калі яна адпавядае палітыцы асыміляцыі. Але можна праводзіць і нацыянальную грамадзкую працу, калі яе рабіць умела. Між іншым, здаецца, што тут у парляманце парушаецца аб так званых нацыянальных меншасьцях. Гэта ўжо ёсьць некаторы карэктыў да палітыкі асіміляцыі. Трудна сказаць, ці гэта ёсьць уступка напору нацыянальных рухаў эміграцыі, ці гэтаму паспрыяла Карэя. Хутчэй усяго, што тут дзейнічаюць абодва гэтыя фактары. Вось гэта ёсьць агульны фон, на каторым будуецца нацыянальна-грамадзкая праца, у тым ліку й беларуская.*

*Я ўжо пісаў Вам аб Беларускім Аб’яднаньні й, здаецца, гаварыў аб магчымых пэрспэктывах. У кіраўніцтве Аб’яднаньня*

*пануе афіцыяльна ідэалёгія надпартыйнасьці, але не як пагадненьне партыяў, а як адмаўленьне партыйнасьці, а гэта значыць, як прыданьне анафеме ўсяго, што дасюль створана на беларускім груньце, — і БЦР, і БЦП*[601]*, і БНР, і ўсяго, што навокал іх грунтуецца. Зразумела, што гэта азначае па-сутнасьці адрачэньне ад усяго, што стварыў беларускі народ і гісторыя. І сапраўды, аказваецца, што ў Статуце Аб'еднаньня запісана: «Дапамаганьне ім (значыць, беларусам) стацца добрымі грамадзянамі Аўстраліі».*

*Я пісаў Вам, што вонкава пануе ціш ды гладзь, а па-за вонкавым бокам (за кулісамі) ідзе партыйнае жыцьцё, па зьмесьце аналягічнае з жыцьцём у Нямеччыне. Я ўвесь час тлумачу нашаму народу ў кіраўніцтве й, здаецца, пісаў Вам, што ў пэрспэктыве такая лінія давядзе да ўзрыву й навонках. І сапраўды, месяц таму назад пачалася самая звычайная грызьня між беларусамі й крывічамі. Я чакаў, што пачнуць яе крывічы. Выйшла крыху інакшай: пачаў яе ні хто іншы, як сам носьбіт надпартыйнасьці Клуніцкі. У Мэльбурне ён непаправіма палаяўся з Калодкам, і значыць, з усёй ягонай групай, і пасварыў усіх між сабою. Цяпер Аб'еднаньне перажывае крызіс. Частка беларусаў выходзіць зь яго, будучы незадаволены лагоднасьцю да крывічоў. А крывічы павялі сваю атаку на кіраўніцтва. Пакуль што вынік ёсьць такі: украінцы, справакаваныя крывічамі, адмовіліся даць пішучую машынку, каторай набіваліся матэрыялы часопісу «Новае Жыцьцё». Робіцца страшэнна па-дзіцячаму, несур'ёзна з самага пачатку. Бо ж сапраўды, калі гаварыць аб пагадненьні й будаваць нешта агульнае ў справе арганізацыі, то трэба не іначай, як з узаемным прызнаньнем законнасьці партыяў, партыйнай самастойнасьці, партыйнай прапаганды і ўзаемнай крытыкі й, па-сутнасьці, з умовай вырашэньня спраў у супольнай інстытуцыі галасаваньнем. А тут хацелі стаць разумней за ўсіх на сьвеце й «зачыніць Амэрыку», інакш кажучы, ліквідаваць партыйнасьць. За гэтым, зразумела, хавалася, хоць і па-дзіцячаму наіўная, такая ідэя: «самазванцаў нам ня трэба, атаманам буду я». Бо сапраўды, прызнаньне аднапартыйнасьці й адмаўленьне ўсякае партыйнасьці ёсьць адным і тым жа.*

[601] Маецца на ўвазе Беларускае цэнтральнае прадстаўніцтва.

*Цяпер маецца вялікая плынь аб пагадненьні. Я асабіста ня супраць, лічу, што часова можна пагадзіцца, але трэба будаваць яго на здаровай аснове, беручы за прыклад жыцьцё іншых народаў.*

*Прывітаньні Вашай сямейцы, прывітаньні знаёмым (Коўш, Вайцэхоўскаму[602], Евец, Шчорсу, Занкавічам, Плескачэўскаму, Сіцько[603], Завістовічу, Сяннькевічу[604], Чабанцэвічу[605], Клішэвічу, Кіпелю[606], Лазарэвічу[607], а. Лапіцкаму, ды ўсім іншым з нашай кагорты. Праз акіян моцна сьціскаю Вашыя рукі й жадаю найлепшага — сустрэцца на сваёй Вольнай Зямлі.*

*С. Шнэк.*

## Ліст Юркі Віцьбіча

*Саўт-Рывэр, 16.7.1950.*

*Глыбокапаважаны Спадар Шнэк!*

*Вельмі ўдзячны за Ваш ліст і адразу ж адказваю на яго. Ён тым больш радасны, што мы тут перажывалі Вашыя эўрапейскія жыцьцёвыя нязгоды. Прыкра, зразумела, што Вы апынуліся ў Аўстраліі, а не ў ЗША. Прыкра тым больш, што тут рабіўся ўжо ашуранс для Вас і Вашае сям'і. Але калі ўжо*

---

602 Верагодна, маецца на ўвазе **Ксенафонт Вайцяхоўскі** (27.08.1899, Стары Свержань — 15.05.1986), арганізатар беларускага жыцця на Стаўбцоўшчыне ў 1930-х гг. У часе нямецкай акупацыі быў супрацоўнікам беларускай самапомачы, цывільнай адміністрацыі. Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэсу. Ад 1966 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне, потым перабраўся ў ЗША. Браў удзел у беларускім грамадскім і рэлігійным жыцці. Уваходзіў у кіраўніцтва БККА, ЗБАДК.

603 Маецца на ўвазе **Мікалай Сіцько** (нар. 1924, Рыга). Скончыў беларускую гімназію ў Рызе. Падчас вайны выехаў у Нямеччыну, вучыўся на хімічным факультэце Берлінскага ўніверсітэта. У 1946–1948 гг. выкладаў англійскую мову ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе, працаваў перакладчыкам пры структурах УНРРА. У канцы 1940-х выехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рыверы. Адзін з актывістаў прыходу Св. Ефрасінні Полацкай, прыхільнік БЦР, сябра БККА.

604 Маецца на ўвазе, верагодна, Аляксей Сянкевіч.

605 Магчыма, маецца на ўвазе Віктар Чабатарэвіч.

606 Маецца на ўвазе Яўхім Кіпель.

607 Маецца на ўвазе Уладзімір Лазарэвіч, прыхільнік БЦР, які пасля вайны жыў у ЗША.

*так сталася, дык будзем падтрымліваць сталую лістовую лучнасьць. Лягчэй жыць, калі суродзічы паміж сабою час ад часу перагукваюцца, калі існуе паміж імі жаўнерскае пачуцьцё локця. Будзем жыць надзеяй, што калісьці мы ўсе зноў зьбяромся разам на сваёй роднай вольнай Зямлі.*

*Тое, што сюды даходзіць ад нашых аўстралійцаў, мае шмат супярэчнасьцяў. Ваш ліст пралівае сьвятло ў гэтай галіне. Запраўды, мы ўжо чулі й пра куплю пляцаў, і пра пабудову дамоў нашымі аўстралійцамі й радаваліся, бо ў Амэрыцы з гэтым цяжэй. Чулі пра разьбіцьцё сем'яў, што, на жаль, пацьвярджаецца на Вашым асабістым прыкладзе. Чулі, што аўстралійскі ўрад не дазваляе аніякую нацыянальную працу, што не зусім так, калі ў Сыднэі існуюць Беларускае Аб'еднаньне й «Новае жыцьцё». Ваш бюджэт дае поўнае ўяўленьне аб магчымасьцях нашых аўстралійцаў. Асабліва, калі ў дадатак яшчэ грошы зарабляюцца на тартаку. Працаваў я калісьці ў Нямеччыне на тартаку, падважваў аншпугамі дубы на ваганэткі й падаваў іх да рамы — маю таму поўнае ўяўленьне аб гэтай працы.*

*Нашае жыцьцё тут значна розьніцца ад аўстралійскага. Безумоўна, што праца не лягчэйшая, а часам і цяжэйшая. Я працую цяпер на хэмічным заводзе, дзе вырабляюцца анілінавыя фарбы для тканінаў. Праца досыць цяжкая (пераважна пагрузка й выгрузка), але я да яе прывучаны. Маю адзін даляр у гадзіну, тут звычайна пачынаюць з 75 цэнтаў. Атрымаў ад фабрыкі пяць камплектаў спэцвопраткі (штотыдзень мыюцца), пяць рушнікоў, абутак, выдаецца мыла. На працу сваю ня скарджуся й тым часам ёй задаволены. Калі дастаткова авалодаю ангельскаю моваю, дык атрымаю поўную магчымасьць на гэтым жа заводзе перайсьці на лягчэйшую працу. У сярэднім атрымліваю 40–45 даляраў на тыдзень. За кватэру з двох пакояў плачу 25 даляраў на месяц. Усё іншае — на пражыцьцё для трох — мне каштуе 12–15 даляраў на тыдзень. Мая сям'я (я, жонка, маці) знаходзіцца разам у горадзе, дзе налічваецца каля чатырох тысяч беларусаў з старое эміграцыі й каля 200 з новае — пераважна бакнангаўскія й ватэнштэцкія. Іншыя жывуць лепей за мяне, бо я працую ў сям'і адзін, а тут звычайна ў кожнай нашай сям'і працуюць два, а часам і тры. Некаторыя ўжо набылі машыны (Яневіч), некаторыя зьбіраюцца купляць дамы з усімі зручнасьцямі (га-*

*рачая вада, газ, ванна, рэфрыжэратар) (Брылеўскі*[608]*, Дэмша*[609]*). Некаторыя маюць вельмі добрыя кватэры (Коўш, Барысавец, Орса). Але я нікому не зайздрошчу й дзякую Богу за тое, што маю.*

*У Саўт-Рывэры (насельніцтва 14 тысячаў) з новае эміграцыі жывуць Шчорсы Мікалай, Барыс, Ігар, Коўш, Занкавіч, Брылеўскі, Орса, Вайцэхоўскі, Шыбут*[610]*, Міхась Кавыль, Масей Сяднёў, Качанскі-Сэлях, Барысавец, Банкет*[611]*, Высоцкі*[612]*, Родзька*[613]*, Норык*[614]*, Хмыз*[615]*, Стукаліч, Плескачэўскі, Сіцько, Асіпчык, Любачка, Завістовіч, Філіповіч, Ханяўка, Евец, Сян-*

---

[608] **Уладзімір Брылеўскі** (16.08.1917, в. Лоск Валожынскага пав. Віленскай губ. — 01.11.2002, Галівуд (Фларыда), ЗША), грамадскі дзеяч, журналіст. Скончыў афіцэрскую школу ў Дэмбліне, вучыўся ў сельскагаспадарчым інстытуце ў Пулавах. Падчас нямецкай акупацыі Беларусі быў начальнікам Смаргонскага, потым Жодзішкаўскага павета. Улетку 1943 г. арыштаваны, некаторы час утрымліваўся ў Вілейскай турме, затым адпраўлены ў канцлагер, аднак па дарозе ўцёк. Паўлегальна пераехаў у Рыгу, дзе працаваў карэктарам часопіса «Новы шлях». Ад канца 1944 г. — у Нямеччыне. Арганізаваў беларускую школу ў Гановеры. Пры канцы 1940-х выехаў у ЗША, жыў у Саўт-Рыверы, браў удзел у нацыянальным руху, супрацоўнічаў з польскім часопісам «Культура» (Парыж, галоўны рэдактар Ежы Гедройц). Надрукаваў у газеце «Беларус» і часопісе «Беларуская думка» ўспаміны пра дзеячаў беларускага нацыянальнага руху — Вацлава Іваноўскага, Радаслава Астроўскага, Вінцэнта Гадлеўскага, Хведара Ільяшэвіча, Канстанціна Езавітава.

[609] **Аўген Дэмша** (03.07.1905–12.02.1987, Саўт-Рывер, ЗША), грамадскі дзеяч у ЗША, прыхільнік БЦР.

[610] Маецца на ўвазе Хведар Шыбут.

[611] Маецца на ўвазе **Аляксандр Банкет** (1894–1993), грамадскі дзеяч у ЗША, прыхільнік БЦР, сябра БККА, старшыня царкоўнага камітэта парафіі Св. Ефрасінні Полацкай.

[612] На той час у Саўт-Рыверы жылі двое Высоцкіх: бацька і сын — Хведар і Леў. **Хведар Высоцкі** (26.10.1887, Новы Свержань (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) — 17.09.1976), грамадскі дзеяч у Амерыцы, прыхільнік БЦР, сябра ЗБАДК, БККА, стараста парафіі Св. Ефрасінні Полацкай.
**Леў Высоцкі** (09.04.1913, Лібава (сёння Ліепая, Латвія) — 31.03.2002, Саўт-Рывер, ЗША), грамадскі дзеяч у Амерыцы, прыхільнік БЦР, сябра БККА.

[613] Верагодна, маецца на ўвазе Філарэт Родзька.

[614] Магчыма, маецца на ўвазе **Мадэст Норык** (27.03.1892 — 5.03.1974), беларускі дзеяч у ЗША.

[615] Верагодна, маецца на ўвазе беларускі грамадскі дзеяч, лекар Мікалай Хмыз.

*кевіч, Сенька, Дэмша, Кіркевіч*[616]*. У Нью-Ёрку (50 клм адсюль) — Чабатарэвіч, Клішэвіч, Еўса*[617]*, Кіслы. У Пасэйку (40 клм адсюль) — Русак, Касяк, Ясюк, Найдзюк, Кіпель, Сьцяпанаў*[618]*, Багдановіч, Лазарэвіч, Шудзейка*[619]*, Букатка*[620]*, а. Лапіцкі. Існуе Злучаны ўсякае Беларуска-амэрыканскі дапамаговы камітэт, старшынём якога др. Шчорс. Створаны хор пад кіраўніцтвам Сэляха-Качанскага, які ўжо даў некалькі канцэртаў. Адноўлена Літаратурнае згуртаваньне «Шыпшына», сёньня якраз выйшаў чарговы восьмы нумар часапісу. Выйшлі ратататарным друкам два выданьні «Беларускага Слова ў Амэрыцы». Праз тыдзень-два выйдзе нашая газэта ўжо друкам, якая тым часам будзе месячнікам. Робяцца захады, каб стварыць Кангрэсовы камітэт у ЗША, які заменіць прадстаўніцтвы БЦР і БЦП у ЗША, якія паводле амэрыканскае Канстытуцыі ня могуць дзейнічаць адкрыта. На першы погляд, нібы ўсё добра, але…*

*Тое, што ў Вас у Аўстраліі існуе адзіны Беларускі камітэт, трэба лічыць дадатнай зьяваю. У нас акрамя Злучанага беларуска-амэрыканскага дапамаговага камітэту ёсьць яшчэ й крывіцкае Беларускае задзіночаньне, дзе кіруюць Янка Станкевіч, Гарошка, Грынкевіч, Паланевіч, Кушаль, Міцкевіч. На жаль, паміж гэтымі дзьвюма інстытуцыямі разьбежнасьці*

---

616 Маецца на ўвазе **Аўген Кіркевіч** (13.12.1905 —10.10.1978), удзельнік беларускага жыцця ў Амерыцы, прыхільнік БЦР.

617 Маецца на ўвазе **Кастусь Еўса** — грамадскі дзеяч у ЗША, які з 1957 г. быў старшынём Амерыканска-беларускага культурна-дапамаговага аб'яднання ў Кліўлендзе.

618 **Мікалай Сцяпанаў** — грамадскі дзеяч, лекар. У 1948 г. быў прызначаны міністрам культуры і асветы ў БЦР. Выехаў у ЗША. Быў старшынём ЗБАДК.

619 Маецца на ўвазе **Аляксей (Аляксандар) Шудзейка** (28.02.1913, Мітава (цяпер Елгава), Латвія —21.12.1969, Уолінгтан, ЗША). Жыў у Заходняй Беларусі. Скончыў Варшаўскі ўніверсітэт. У 1939 г. быў мабілізаваны ў Польскую армію, трапіў у нямецкі палон. У 1941 г. вызвалены. Узначаліў Беларускае прадстаўніцтва ў Торуні, пазней працаваў у Беларускай рэдакцыі радыё «Вінета». У 1949 г. пераехаў у ЗША, жыў у Нью-Джэрсі. Сябра ЗБАДК, БККА, арганізацыі «Амерыканскія прыхільнікі БЦР», парафіі Св. Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы.

620 **Бернард Букатка** — грамадскі дзеяч. У першай палове 1940-х жыў у Берліне. Працаваў у Беларускім прадстаўніцтве пры Міністэрстве ўнутраных спраў. З канца 1940-х жыў у ЗША. У 1957–1959 гг. — віцэ-старшыня БККА.

*настолькі вялікія, што, напрыклад, у Нью-Ёрку ў часе аднага сьвята ў агульнай дэманстрацыі ўдзельнічалі дзьве самастойныя беларускія калёны. Хочацца думаць, што паўстане кансалідацыіия паміж намі, хаця б навонкі.*

*Вось, здаецца, крыху аб усім нашым тутэйшым напісаў. Ветліва прашу Вас прыняць самы чынны ўдзел у нашай газэце, дасылаючы матэрыялы на адрас Каўша.*

*Прабачце за клопаты.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Прашу перадаць прывітаньні Вашай сям’і.*

*Прашу прыняць прывітаньні ад маёй сям’і.*

*Перадаюць Вам свае найлепшыя пажаданьні Коўш, Вайцэхоўскі, Евец і ўвогуле ўсе нашы.*

*Чакаю Ваш ліст.*

*З пашанай да Вас*

*Юрка Віцьбіч.*



# ЛІСТЫ УЛАДЫКІ ВАСІЛЯ (ТАМАШЧЫКА) ДА ЮРКІ ВІЦЬБІЧА[621]

Сярод нас, даволі немалой грамады беларусаў на эміграцыі, ёсць (а часам ствараюцца) фігуры знакавыя — у літаратуры мы пазначаем іх як *Постаці*. А які эпітэт больш пасуе да *Постаці*, чымся «неадназначная»?

Вось і два галоўныя героі публікацыі — аўтар ды рэспандэнт — бясспрэчна належаць да такіх. Імя апошняга, Юркі Віцьбіча, ужо не патрабуе, дзякуй Богу ды публікатарам, асаблівых каментарыяў. Гэта проста класік нашае літаратуры. І нават тым-сім прызнаны. Аўтар жа лістоў — фігура іншага плану, але таксама — *Постаць*. І хоць у ягонай біяграфіі ёсць нават дырэктарства ў Беларускім інстытуце навукі і мастацтва, у нашую гісторыю, гісторыю беларусаў, метраполіі і дыяспары, ён увойдзе інакш.

Будучы архіепіскап Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Васіль — Уладзімір Тамашчык — нарадзіўся 15 красавіка 1900 г. у сям'і Данілы і Марыі (з Жанеўскіх) Тамашчыкаў у вёсцы Вялікія Азяраны Гарадзенскага павета. Сям'я была заможная — не па нашых мерках, а на думку самога Уладзіміра. Яны набылі маёмасць у Дублянах, каля мястэчка Вялікая Бераставіца таго самага павета, куды ў 1913 г. і перабраліся. Вось толькі вайна, міграцыі войскаў, сусветныя пературбацыі выпхнулі сям'ю на выгнанне — у чужы, экзатычны сібірскі Омск, дзе Уладзімір скончыў у 1920 г. сярэднюю школу. Адсюль, не толькі фізічна, але і псіхалагічна сфармаваўшыся, Уладзімір разам з маці і братамі — Аляксандрам, Язэпам, Міхасём — вярнуўся ў Дубляны, пакінуўшы на омскіх могілках бацьку, а дзесьці на франтах Першай сусветнай — старэйшага брата Янку.

---

[621] Тэкст упершыню друкаваўся ў: ARCHE. № 9(14). 2000. С. 91–108. Тут друкуецца з абноўленымі каментарыямі.

Гэтыя гады — гады вяртання — сталіся і гадамі далучэння да беларускага руху. Даволі паспяховага і прыкметнага; настолькі, што ў 1927 г. польскія ўлады арыштавалі Уладзіміра і засудзілі на тры гады. Пасля вызвалення прага да навукі прывяла звыклым шляхам, як на той час, у Прагу, дзе будучы святар падаў паперы на агранамічны факультэт. Навучанне на факультэце, які Ул. Тамашчык скончыў у 1934 г., ішло побач з беларускаю працаю. Пэўны час Уладзімір быў сакратаром Васіля Захаркі. Адсюль, з залатой Прагі, Тамашчык вярнуўся на Беларусь, у родныя Дубляны ў 1941 г.

Ягоная далейшая беларуская дзейнасць адбывалася на Беласточчыне: праца разам з Хведарам Ільяшэвічам ва ўправе Беларускага нацыянальнага камітэта, у рэдакцыі газеты «Новая дарога». Адсюль Уладзімір Тамашчык выехаў у Мінск, на Другі Усебеларускі кангрэс.

Пералом у лёсе Тамашчыка пачаўся ўжо ў Нямеччыне, у 1946 г., калі ён папрацаваў лектарам-асістэнтам у заснаваным для ваенных уцекачоў універсітэце, пабыў старшынём Цэнтральнага беларускага камітэта. Менавіта тады, у 1946 г., епіскапат Беларускай аўтакефальнай царквы амаль у цэлым сваім складзе зрокся абвешчанае аўтакефаліі ды перайшоў у *Зарубежную русскую православную церковь*. Праз два гады, 4–5 чэрвеня 1948 г., у горадзе Канстанцы (Французская зона) адбыўся з’езд праваслаўных беларусаў. Гэты з’езд стаўся вырашальным у чарговым адраджэнні БАПЦ. На ім была прынятая наступная пастанова:

*«Асноўваючыся на ідэі Грыгора Цамблака [аб] незалежнасьці Беларускай (Вялікага Княства Літоўскага) Царквы ды змаганьні за яе зьдзяйсьненьне пазьнейшых беларускіх праваслаўных іерархаў, духоўнікаў і вернікаў, закончаным мітрапалітам Менскім Мельхісэдэкам у 1922 г., устанавіўш [ым] Беларускую Праваслаўную Аўтакефальную Царкву, Зьезд сьцьвярджае, што тры [я] пархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы (Віленская, Горадзенская й Пінская) атрымалі дазвол на аддзяленьне й прызнаньне ад Мітрапаліта Варшаўскага і Ўсяе Польшчы, Блажэньнейшага Дыянісія — галавы Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, дадзеныя ім на рукі Мітрапаліта Аляксандра Пінскага. Дзеля таго, што перад Менскім Усебеларускім Праваслаўным Саборам існавалі толькі тры [я] пархіі, стварыўшыя наступныя [я] пархіі Беларускай*

*Праваслаўнай Царквы, Зьезд сьцьвярджае кананічнасьць Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы».*

23 красавіка 1949 г. архіепіскап Сяргей пастрыг Уладзіміра Тамашчыка ў манаскі сан, 5 чэрвеня пасвяціў у іераманахі, 9 верасня надаў годнасць ігумена. 19 снежня архіепіскап Сяргей і епіскапы Платон і Васіль са згоды Сінода Украінскай аўтакефальнай царквы высвяцілі ігумена Васіля Тамашчыка — спачатку на архімандрыта, а затым і на епіскапа.

З таго часу да самай смерці (09.06.1970) было зроблена Уладыкам Васілём нямала: высвячэнне новых беларускіх святароў (адным з першых стаўся а. Аляксандр Крыт), заснаванне часопіса «Голас царквы», шматлікія падарожжы — наведванні праваслаўных беларусаў у дыяспары. Пра дзеянні Уладыкі Васіля — у газетах «Бацькаўшчына» і «Беларус», рэлігійных ды свецкіх беларускіх выданнях, у ліставанні.

Чытаючы лісты Уладыкі Васіля, дзівуешся аднаму: куды так хутка знік Тамашчык, адкуль гэтае непрыманне іншадумства,

*У Сенаце ЗША: Кастусь Мерляк, Ліндан Джонсан*
*і Уладыка Васіль. 1962 г.*

нават проста — думанне, нелюбоў да інтэлігентаў, пачуццё месіянства, няхай і беларускага, веры ў адно праваслаўе ды адмаўленне ўсіх іншых цэркваў — не толькі рускай ці, як казаў Васіль, маскоўскай, але і беларускіх: каталіцкай, уніяцкай? Мо якраз гэта і нясе праваслаўе, візантызм, ад якога пазбавіцца — нават самым шчырым беларускім патрыётам — не ўдаецца. Калі гэта наогул магчыма.

Лісты друкуюцца з купюрамі, з захаваннем правапісу арыгінала[622].

## Лісты Уладыкі Васіля (Тамашчыка)

*Бруклін, 15.2.1954.*

*Высокадастойны й дарагі сп. Ю. Віцьбіч!*

*Шчыра дзякую за Ваш мілы ліст, за Вашыя павіншаваньні з павышэньнем мяне ў сане ды асабліва за Вашае перасланьне мне копіі Вашага ліста да сп. Ан. Адамовіча.*

*Перадусім хачу Вам запраўды шчыра падзякаваць за тое, што толькі Вы адзіны з усіх нашых інтэлігентаў належна зразумелі маю АХВЯРУ, маё становішча й мае абавязкі. Некалі, на працягу двух гадоў, уся нашая інтэлігенцыя блізу на каленях упрашала мяне ўступіць на гэты мой цярністы шлях ды ўрачыста шлюбавала мяне на ўсебаковую падтрымку. На працягу двух гадоў я ўпіраўся, бо крыху разумеўся на рэлігійных справах, добра разумеў, які цяжар маю ўзяць на свае слабыя плечы ды зь якою велізарнаю цемраю прымушаны буду змагацца. Урэшце, калі не знайшлося ніякага выхаду, я падумаў: няхай будзе воля Божая, супольнымі сіламі ратаваць будзем наш гонар, нашу сьвятую справу, справу, за якую загінулі безьліч нашых найлепшых братоў і сёстраў: мітрапалітаў, япіскапаў, сьвятароў, паэтаў, пісьменьнікаў, мастакоў, навукоўцаў, студэнтаў, настаўнікаў, не гаворачы ўжо аб найлепшых нашых гаспадарох-сялянах. Сам я паходжу з багатае сялянскае сям'і, якая страшна пацярпела ад бальшавікоў, да таго я таксама думаў, што буду паэтам, нават прызнаюся Вам, што пару*

[622] Лісты Уладыкі Васіля (Тамашчыка) перахоўваюцца ў прыватным архіве Лявона Юрэвіча. Біяграфічныя звесткі друкуюцца паводле публікацый у газеце «Беларус» і «Царкоўным пасланцы».

*маіх вершаў былі надрукаваныя, праўда, я ўрэшце пераканаўся, што ня маю на гэта неабходнага дару Божага, таму пакінуў гэтую сваю мару. Безумоўна, гэтая «адмова» не абышлася мне лёгка, перацярпеў я нямала, але ўрэшце падумаў, што, відаць, Бог прызначыў для мяне нешта іншае. Свой нахіл да паэзіі я выкарыстаў у тым сэнсе, што зусім лёгка вывучаў на памяць усякія вершы: я й сягоньня яшчэ магу расказаць на памяць блізу ўсе басьні Крылова, Хемніцэра, шмат вершаў Пушкіна, Лермантава ды іншых расейскіх паэтаў, а пасьля, калі стаўся сьведамым беларусам, асабліва палюбіў М. Багдановіча, бальшыню вершаў якога зараз жа вывучыў на памяць, другім маім «богам», ясна, стаўся Янка Купала, а пасьля Я. Колас, Цётка, Аляхновіч, Танк, Арсеньнева, Геніюш, Васілёк, безумоўна, і Ул. Жылка. Кожны паэт, асабліва наш, для мяне — таксама сьвятар, і ў свой час, у Бэрліне, я «рэзаўся» з нашымі сучаснымі паэтамі, бо мне хацелася, каб яны пайшлі па шляху ня толькі Купалы, але перадусім Багдановіча: падымалі нашую паэзію да ўзроўня Гётэ й гэтым выводзілі нас у «людзі». На жаль, паэты не зразумелі мяне, можа, таму, што мы ня маем дасюль адпаведнага літаратурнага крытыка.*

*Разам з гэтым зьверуся Вам і ў тым, што я пасьля захацеў стаць запраўдным прафэсарам, і я ім бы стаўся, калі б не цяжкія матэрыяльныя ўмовы, бо асыстэнтам ужо быў. І толькі тады, калі я даў згоду ўступіць на духоўны шлях, я зразумеў, чаму я ня стаўся прафэсарам: гэта была воля Божая, Ягоная воля была ўзлажыць на мяне мой цяперашні цяжкі крыж. Гэта я дакладна зразумеў, калі быў хіратанізаваны. А калі зразумеў, дык сказаў сабе: мусіш нясьці гэты крыж з гонарам, Богу на славу, а нашаму народу на дабро й карысьць. Таму я пачаў старацца, каб нашая інтэлігенцыя ня то што сплачвала мне свой доўг, бо ж шлюбавала, але каб і яна зразумела свае заданьні на рэлігійнай ніве, асабліва па лініі нашае царквы. З сп. Ан. Адамовічам я быў у прыяцельскіх дачыненьнях ужо раней, і падумаў сабе: вось маю скарб перад сабою, бо запраўды я ставіў яго вышэй кожнага іншага нашага інтэлігента, таму пачаў пробаваць прыцягнуць яго да «супрацоўніцтва». І тут пачаліся мае расчараваньні. І да сяньня не магу зразумець — дзе, у чым прычына? А ўважаў, што сп. Адамовіч мае вялікі розум, але, калі ён пачаў супраць выступаць рэлігіі й Бога, я пачаў сумлявацца ў ягоным розуме. У мяне характар такі: нікому не*

*гавары прыкрых словаў, тым болей не рабі яму шкоды, нават ворагу мне ня хочацца спрычыняць прыкрасьць, бо маё сэрца само баліць пры гэтым. Тым болей мне ніколі ў галаву не прыйшло — выступаць з прыкрымі словамі супраць сп. Адамовіча. Тым часам, ня ведаю чаму, усё роўна як па інструкцыі, ён жыць ня мог і ня можа, каб не спрычыніць мне нейкую прыкрасьць, да таго часам незвычайна балючую.*

*Але вось хачу сказаць пару слоў адносна ягонага апошняга «ўчынку» з гэтымі двума вершамі ў «Ведзе»*[623]*. «Веду» мне, ясна, не дасылаюць, хоць некаторыя ўкраінскія сьвятары яе атрымоўваюць, і за гэта я на іх ня гневаюся. І вось прыходзяць да мяне людзі й кажуць: Уладыка, што Вы будзеце рабіць? У чым справа, пытаюся. А вось, калі ласка, прачытайце. Чытаю й сваім вачам і вушам ня веру, страх мяне агарнуў: то ж гэтыя вершы прачытаюць чужыя людзі, а мы ўсюды гаворым, што беларускі народ — рэлігійны й змагаецца супраць бязбожнага бальшавізму, а тут сама беларуская інтэлігенцыя ў сваім «навуковым» воргане так страшна выступае супраць Бога! Што гэта: бязглузьдзе або правакацыя? Не мая гэта справа судзіць, але мая справа й мой абавязак перадусім перад сваімі абуранымі вернікамі зарэагаваць. Як? У прэсе? Не, завялікі быў бы скандал і ганьба для нас. Толькі, уздыхаю з палёгкаю, добра для мяне тое, што гэтыя вінавайцы — каталікі, таму няхай іх судзяць каталіцкія сьвятары, а я абмяжуюся толькі пару словамі ў царкве. І я сказаў у царкве даслоўна наступнае: Дарагія мае, мне вельмі прыкра, але мушу сказаць вам, што ў «Ведзе» між вершамі Ул. Жылкі былі надрукаваныя два страшна блюзьнерскія вершы «Марта» й «Альбігоец». Уважаю, што яны не маглі быць надрукаваныя сяньня нават у сучасным бязбожніцкім Менску. Я забараняю вам трымаць гэтыя два вершы ў сваіх памяшканьнях. Прашу выканаць гэтую маю просьбу, каб Бог быў з вамі.*

*Як бачыце, я спэцыяльна падчыркнуў: між вершамі Ул. Жылкі, чым даў зразумець нашым людзям, што я не перакананы, што яны запраўды вершы ягоныя. Па-другое, яшчэ падчыркнуў: гэтыя*

[623] Гаворка ідзе пра публікацыю Антонам Адамовічам у часопісе Янкі Станкевіча «Веды» «Твораў» Уладзіміра Жылкі (пазней, у 1955 г. выйшлі асобным выданнем) і пра два вершы адтуль, «Марта» і «Альбігоец».

*два вершы, значыць, усе іншыя — добрыя. Дык выраз — «анатэма» — пустая й злосная дэмагогія пустых і злосных людзей. Мяне нават некаторыя папракалі, што я замякка выказаўся, але я лічыў і лічу, што свой абавязак выканаў, а суд належыць Богу. Я толькі ўважаю, што культурны, інтэлігентны чалавек шануе сьвятыя пачуцьці другіх, тым болей сваіх супрацоўнікаў-суродзічаў. Я асабіста нават ніколі не нападаў на сп. Адамовіча за ягонае бязбожніцтва, а толькі адбіваў ягоныя брудныя атакі, бо, па-першае, уважаў: няхай яго судзіць Бог, а па-другое, гэта аснова дэмакратыі, нават да такога «апартунізму» я зышоў у дачыненьні да сп. Адамовіча. Тым часам, што ён сказаў у сваім рэфэраце на Акадэміі 25 Сакавіка перад некалькімі сотнямі людзей, сярод якіх было каля сотні чужынцаў? «Мы змагаемся за Дэмакратычную Беларусь, але тут сярод нас ёсьць такія, якія хацелі б завясьці ў нас дыктатуру! Няхай згарыць такая Беларусь!». Думаю, камэнтароў Вы не патрабуеце. Сп. Адамовіч уважае, што ў нас будзе дэмакратыя тады, калі будзе ягоная бязбожніцкая дыктатура?! Мае гэта быць здаровы розум? Мог бы сп. Адамовіч быць міністрам у прэзыдэнта Айзэнгаўэра, які кожную нядзельку наведвае царкву й кожны дзень чытае сьв. Пісьмо? Я толькі дзіўлюся, чаму сп. Адамовіч стаўся эмігрантам.*

*Цяпер, чаму я ўважаю, што гэтыя два дзіўныя вершы былі або зусім ня Жылкам напісаныя, або напісаныя пад прымусам? Бо яны абодвыя ня згодныя з праўдай. Верш «Марта» мог бы быць вершам «Марыя», бо толькі на яе Хрыстос зьвяртаў увагу, на што нават Марта скардзілася, а што да «Альбігойца», дык гэта абсалютная хлусьня, і яе Жылка, які быў у Празе й добра ведаў гісторыю гусітаў, сьвядома дапусьціць ня мог, а камэнтар у «Ведзе» — «альбігойцы сталіся пасьля звычайнымі бандытамі» — таксама абсалютная ігнарацыя ды ілжа! Вы зусім слушна гаворыце аб альбігойцах, што гэта была сэкта супрацьпапская, але глыбока веруючая ў Бога, як і гугеноты й гусіты й шмат іншых. Розьніца між альбігойцамі-гугенотамі й гусітамі толькі тая, што апошніх папам не ўдалося поўнасьцю вынішчыць. І гэта Жылка ведаў лепш за Адамовіча, таму тут наяўны фальсыфікат, які, аднак, апошні з радасьцю выкарыстаў для свайго актыўнага бязбожніцтва, магчыма, з задняю думкаю, што я не зьвярну на гэта ўвагі, што ён некалі ізноў выкарыстае супраць мяне.*

*Ваш ліст да сп. Адамовіча калі не навуковы, дык запраўды вельмі паважны й вартасны. У адным, аднак, не магу з Вамі згадзіцца, а менавіта: «Выдаючы зборнік твораў Ул. Жылкі, нельга абмінуць ні «Марты», ні «Альбігойца», «калі рэдактар поўнага збору твораў пройдзе паўзь іх, гэта будзе нячэсным учынкам у дачыненьні…». Вось жа па-першае, гэта ня поўны збор твораў, а па-другое, выдаецца на эміграцыі, дзе ня можна сьцьвердзіць усяе праўды адносна генэзы гэтых вершаў, ды, па-трэцяе, калі ўкраінцы выдаюць творы Шаўчэнкі, ніколі не зьмяшчаюць ягонае просьбы аб памілаваньні да цара! А самі скажаце, што просьба аб памілаваньні й гэтыя вершы — велізарная розьніца! Калі там — устыд, дык тут — ганьба. Мне здаецца, што Вы тут зрабілі для сп. Адамовіча вялікую канцэсію*[624].

*Памяць Ул. Жылкі для мяне таксама сьвятая, і «анатэме» аддаваць яго я не зьбіраўся й не зьбіраюся, але магчыма, аддаў бы анатэме тых, што несумленна выкарыстоўваюць яго для сваіх, незвычайна шкодных нам цяпер, непрыгожых мэтаў. Тым часам я нават не ўспомніў імёнаў іхных, бо лічу сябе слугою Спаса нашага, а Ён мілаваў найбольшых грэшнікаў ды разбойніка на крыжы ў апошнюю хвіліну, таму мне хочацца верыць, што й гэтыя нашыя грэшнікі некалі апамятаюцца, прыйдуць да розуму, хаця цяпер мне й вельмі цяжка на сэрцы… Бо вось нядаўна адзін украінскі сьвятар, які атрымоўвае «Веду», паказвае гэтыя вершы й пытаецца ў мяне: «Уладыка, што гэта ў вас робіцца? Ці Вы ня ведаеце ці ня чыталі гэтых вось вершаў? Гэта ж адзін страх! Што Вы будзеце рабіць?». (Гэты сьвятар сам быў у савецкім канцатраку й кажа, што так паскудна не пісаў нават Дзям’ян Бедны. І нават там знайшліся людзі, якія адказалі яму (Ясенін). Я адказаў яму, што ў царкве сказаў, а ён кажа мне: Уладыка, слаба, мала. Тады я сказаў яму, што выдаўцы «Веды» — каталікі, няхай каталіцкія сьвятары рэагуюць мацней. Ну, тады Вы ў парадку, адказаў ён мне.*

*Вельмі дзякую Вам, што Вы прыпомнілі яму тагачасны мой выступ у Рэгенсбурзе ў Вашай справе. Паняцьце справядлівасьці й сардэчнасьці жыве ў маім сэрцы ад дзяцінства. Наш пакойны*

[624] Канцэсія — тут: саступка.

*бацька яшчэ за цара пазычаў людзям грошы часта безь ніякіх вэксалёў, і часам прыходзіў да яго такі дзядзька й кажа: вось, Даніла Грыгор'евіч, табе 105 рублёў і вып'ем за тваё здароўе, што ты быў такі добры, выратаваў мяне зь бяды, даў мне 100 рублёў і нават бяз вэксаля. Чуючы такое, мы, дзеці, аж плакалі ад радасьці. Такімі засталіся і ўсе мае браты, якія пасьля ў Польшчы, будучы ўжо на вялікім хутары, раздавалі людзям каму 3, каму 5 пудоў жыта, гаворачы толькі: прыйдзеш летам адробіш. І такім застаўся я да сёньня. Усім бы мне хацелася дапамагчы, усякаму сказаць добрае слова, усіх мець за братоў сваіх, а ўжо, барані Божа, некаму прыкрасьць або шкоду спрычыніць. На жаль, цяжкое нашае жыцьцё, ламае людзей, паскудзіць, паніжае й часта найлепшая воля нічога не памагае, бо шатан моцна сядзіць у сэрцах многіх людзей, аднак, Бог міласьціў, паводля сілаў нашых будзем і далей змагацца з шатанам.*

*Зь вялікаю прыемнасьцю буду маліцца за Вас, бо і ў гэтым мая радасьць.*

*Гасподзь Бог наш Ісус Хрыстос багаславіць Вас і ахіне сваёю Любоўю, Ласкай і Міласэрдзем.*

*З глыбокаю пашанаю да Вас і любоўю ў Хрысьце*

*Архіяпіскап Васілій. Бруклін. 2.11.1955.*

*Вельмішаноўны й дарагі сп. Ю. Віцьбіч!*

*Шчыра дзякую за Ваш мілы ліст і тры копіі*[625]*. Я ўжо даўно пакінуў «палітыку», аднак і далей цікаўлюся нашым эміграцыйным жыцьцём, асабліва грамадзка-культурнага характару. Стала паглыбляючы свае веды ў багасловіі, я ўсё болей пераконваюся, што адзінаю душою жыцьця людзей і народаў, маторам іх дзейнасьці й поступу зьяўляецца Абсалютны Дух як выраз усякае Дасканаласьці, Праўды, Дабра й Красы. На жаль, пасьля сьв. Ефрасіньні, асабліва ж сьв. Кірылы Тураўскага, М. Сматрыцкага ды яшчэ пару падобных да іх на ніве царкоўнай, ды Ф. Скарыны, Янкі Купалы ды асабліва Максіма Багдановіча на культурнай, мы, дзеля незалежных ад нас прычынаў, былі пазбаўленыя магчымасьці карыстацца*

[625] Для Юркі Віцьбіча было характэрным друкаваць ліст у некалькіх копіях і потым рассылаць сваім рэспандэнтам. Тое самае ён рабіў і з лістамі, што прыходзілі на ягоны адрас.

*бязьмежнаю сілаю дзеяньня гэтага Абсалютнага Духа ў сэнсе творчага выкарыстоўваньня гэтае сілы для нашых духовых, а гэтым і культурных дый матэрыяльных патрэбаў. І вось, чытаючы Вашыя копіі, я, шчыра кажучы — ня дзеля курэньня фіміяму перад Вашай асобай — адчуў веяньне гэтага Духа, адчуў, што Вы сьведама ці нясьведама, аднак, блізкія Яму, таму вось з прыемнасьцю чытаў гэтыя Вашыя разважаньні. Пры гэтым мне прыпомніліся словы вялікага мудраца — сьв. Ап. Паўла: Калі вораг твой галодны, накармі яго, калі ён хоча піць, напаі яго, бо гэтак робячы, ты зьбярэш на галаву яму вугальле гарачае!*

*Я ўжо ад даўжэйшага часу зьяўляюся непахісным вызнаўцам таго, што аснаўным носьбітам Абсалютнага Духу зьяўляецца Царква. Хрыстос Сам збудаваў Яе й даў Ёй Свайго Духа для дабра людзей, каб яны з дапамогаю Яго, Духу, маглі тварыць скарбы ня гінуючыя, пазнаваць запраўдную Красу ды імкнуцца да Яе, тварыць Валадарства Божае на зямлі, зразумеўшы тое, што мы сваім людзкім духам падобныя Богу, таму й супольнікі Яго ў выкананьні Ягоных плянаў адносна нашага прызначэньня.*

*У гэтым сэнсе перад намі, людзьмі, неабмежаваныя прасторы дзейнасьці для тварэньня хараства, красы, дасканаласьці, а гэтым і запраўднае радасьці ды матэрыяльнага дабрабыту, бо ж увесь сьвет з усімі ягонымі багацьцямі Бог прызначыў для нас і сказаў нам: бярыце, карыстайце, будзьце задаволеныя й шчасьлівыя, толькі ведайце адно, што гэта ўсё Я даў вам. Больш таго, Я даў вам яшчэ нешта каштоўнейшае: частку Сябе, каб Вы маглі тварыць, каб усё кругом Вас зьзяла сьвятлом Мае Дасканаласьці, Майго Хараства!*

*На вялікі жаль, ані адна царква (я разумею тут духавенства), ані праваслаўная, ані каталіцкая, ані пратэстанцкая, ужо ад даўгіх стагодзьдзяў не разумела й не разумее гэтага нашага прызначэньня, гэтага нашага гонару, гэтых нашых неабмежаваных магчымасьцяў. Тое, што я чую й бачу нават цяпер, у нашыя апакаліптычныя часы, з боку Расейскае праваслаўнае царквы (аб маскоўскай не гавару), а таксама з боку Рыму, ясна й выразна сьведчыць нам: нічога не разумеюць, па фальшывым шляху й далей ідуць, таму яшчэ нямала бяды могуць перажыць, бо асабліва тут фальш караецца.*

*Выходзячы з гэтага разуменьня ды ведаючы, што сярод нашых беларускіх духаўнікаў няма такіх, хто хоць бы крыху разумеў голас Божы й Волю Яго ды хоць крыху стараўся чынамі сваімі паказаць гэтае разуменьне, я сваго часу падумаў: Бог даў нам нарэшце Сваю царкву не надарэмна. Ён нечага чакае ад нас, чакае, што, можа, мы зразумеем добрую для нас Волю Яго, таму й пачнем паводля гэтага жыць і дзеяць. А таму, што адзін у полі ня воін, я пачаў разглядацца па сваіх людзях, і свайго часу падумаў: вось спадар Ан. Адамовіч! Незвычайна моцны дух, глыбокі разгляд, дар слова ды вялікая эрудыцыя. Трэба паспрабаваць здабыць яго, а калі нас будзе два, з часам будзе болей, мы заложым базу для запраўднае духовае дзейнасьці, сьвятло Божае пойдзе па іншых, пачнем будаваць, тварыць скарбы нягінуючыя на карысьць перадусім нам, Беларусам. Для гэтага трэба толькі пазнаць, ці сп. Адамовіч разумее, што крыніца ўсякага Добрага Духа ў Богу, а ў выпадку патрэбы пераканаць яго. На жаль, прыйшлося расчаравацца. […]*

*Шчыра й сардэчна вітаю Вас, даражэнькі спадар Віцьбіч, жадаю Вам добрага здароўя, радасьці духовае і ўсякіх удачаў у жыцьці. Зь вялікаю прыемнасьцю буду маліцца за Вас, і толькі прашу Бога, каб Ён выслухаў мяне.*

*Гасподзь Бог наш Ісус Хрыстос багаславіць Вас і ахіне Сваёй Любоўю, Ласкай і Міласэрдзем.*

*З глыбокаю пашанаю да Вас і любоўю ў Хрысьце,*

*Архіяпіскап Васілій.*

*Бруклін, 10.1.1957.*

*Глыбокапаважаны й дастойны сп. Ю. Віцьбіч!*

*Вельмі дзякую за Ваш мілы ліст і за каштоўныя сугестыі. Мне вельмі прыемна чуць, што Вы гатовыя памагчы мне ў маёй працы. Праўда, я яшчэ ня ведаю, ці пабачыць яна сьвет праз выданьні Інстытуту ў Мюнхене*[626]*, бо на днях я напісаў аднаму нашаму супрацоўніку там аб тым, як я пачаў распрацоўваць гэтую тэму. Тэма, яшчэ раз зазначаю, мае разглядаць перасьледваньні Беларускай праваслаўнай царквы толькі бальшавікамі, г. зн. ад часу г. зв. кастрычніцкае «рэвалюцыі». Калі ж я дакладна разважыў зьмест гэтых перасьледваньняў і пэўныя факты, дык прыйшоў да такіх вынікаў: 1. чырвоная*

[626] Маецца на ўвазе Інстытут вывучэння СССР у Мюнхене.

*Масква перасьледвала нашую царкву ня толькі таму, што яна чырвоная, але й таму, што 2. яна наагул Масква. Таму яна перасьледуе яе й цяпер значна горш як сваю, расейскую. І каб гэтае маё цьверджаньне не было галаслоўным, я зрабіў кароткі аналіз псыхалёгіі расейца як такога, безумоўна, перадусім ягоных кіруючых пластоў, не пакідаючы без увагі й чыны ягоных масаў у часе бальшавіцкага бунту, карыстаючыся працамі самых расейскіх аўтараў. І пры гэтым даў пару штрыхоў псыхалёгіі беларуса. […]*

*Калі цяпер больш-менш не чуваць агіды з працягненьня на бачыны «Бацькаўшчыны» «Запісак Самсона Самасуя»*[627]*, дык у гэтым крыху мая заслуга. Скажу, толькі для Вас асабіста, я тады паслаў востры пратэст у Рэдакцыю з вымогаю надрукаваць яго. Ясна, там даволі такі спалохаліся й моцна прасілі мяне, каб я адмовіўся ад гэтае вымогі. Я цяпер нават крыху шкадую, што паслухаў іх, але паставіў ультыматум: ніякіх бязбожных рэчаў яны больш ня будуць друкаваць. Крыху падзеяла. Праўда, яны мне стараліся даказваць, што я не разумею гэтых «Запіскаў» што гэта чыстая «літаратура», да таго «гістарычная». Ясна, я не пагадзіўся зь імі ані, як кажуць, на грош, і парадачна вылаяў іх. Так крыху пазьней сталася таксама з тымі двума вершамі Ул. Жылкі, ужо на іншым «літаратурным» ды «гістарычным» полі. Таксама, пасьля майго асуджэньня, не было канца абурэньням ды цьверджаньням, што я не разумею «літаратуры»! І калі б цяпер зьявілася што падобнае да тае «Ўсяночнае»*[628]*, я таксама не зьвяртаў бы ніякае ўвагі, ці я тут разумею «літаратуру» ці не, а паскудзтва назваў бы паскудзтвам. На жаль, некаторыя нашыя інтэлігенты, дзякуючы адсутнасьці адпаведнага рэлігійнага*

---

[627] Твор Андрэя Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя» публікаваўся на старонах «Бацькаўшчыны»: № 19 (150). 10 травеня 1953. С. 3; № 20 (151). 17 травеня 1953. С. 2–4; № 21–22 (152–153). 31 травеня 1953. С. 4–7; № 23 (154). 7 чэрвеня 1953. С. 2–3; № 24 (155). 14 чэрвеня 1953. С. 2–3; № 25 (156). 21 чэрвеня 1953. С. 2–3; № 26 (157). 28 чэрвеня 1953. С. 2–4; № 27 (158). 5 ліпеня 1953. С. 2–3; № 28 (159). 12 ліпеня 1953. С. 2–3; № 29 (160). 19 ліпеня 1953. С. 3–4; № 30 (161). 26 ліпеня 1953. С. 2–3; № 31–32 (162–163). 16 жнівеня 1953. С. 3–6.

[628] Юстапчык, С. [Антон Адамовіч]. Усяночная. З жыцьця беларускае студэнцкае моладзі. Выданьне Беларускага Дапамаговага Камітэту. Ватэнштэт, 1946.

*ўзгадаваньня, не разумеюць вялікае для нас вагі Навукі Божае, і гэтым шкодзяць сабе самім ды ўсяму нашаму руху. І тут я толькі рад, што так ці інакш мне ўдалося асягнуць тое, што яны ўжо вельмі рэдка паказваюць гэтую сваю духовую хваробу, а некаторыя ўжо нават амаль вылячыліся зь яе, і за гэта дзякую Богу.*

*Яшчэ раз дзякую за ліст і асабліва за Вашыя добрыя жаданьні памагчы мне ў гэтай важнай справе, а таксама за бібліяграфію.*

*Сардэчна вітаю Вас, дастойны сп. Ю. Віцьбіч, і ад душы зычу Вам добрага здароўя і ўсякіх посьпехаў у жыцьці й працы.*

*Божае багаслаўеньне будзе з Вамі.*

*З глыбокаю пашанаю да Вас і любоўю ў Хрысьце*

*Архіяпіскап Васілій.*

*Бруклін, 6.6.1958.*

*Глыбокапаважаны й дарагі сп. Ю. Віцьбіч!*

*Сардэчна дзякую за Ваш зычлівы, мілы ліст. Асабліва дарагі ён мне таму, што адзіна Вы крыху разумееце мяне, маю працу, мае імкненьні. Гэтым я не хачу сказаць, што ў мяне наагул няма людзей ці вернікаў, якія б час ад часу не прысылалі мне спрыяючага ліста. Не, такія ёсьць, але справа ня ў гэтым. Справа ў тым, што мне хочацца, каб калі не бальшыня, дык хоць некаторыя нашыя людзі разумелі вагромнае значэньне, асабліва цяпер, рэлігіі, адначасна зразумелі, што толькі дзякуючы Ласцы Божай мы можам нешта асягнуць, тым болей прыйсьці да сучаснае мэты нашае — вызваленьня Беларусі.*

*На жаль, кожны, калі толькі яму ўдасца зрабіць хоць маленькае дабро, зараз жа вымагае, каб за гэта дзякавалі яму, і зусім ня думае аб тым, што ён сам першы павінен дзякаваць Богу, і гэтым шкодзіць усім, у тым ліку й сабе, бо ж бяз Бога мы ніколі нічога добрага не зрабілі й ня зробім.*

*Тым часам Гасподзь Бог ужо ня раз паказаў нам, што Ён запраўды жадае дабра й нам, Беларусам, як Народу, як Нацыі. А што можа зрабіць Бог, таго ніхто на сьвеце зрабіць ня можа, бо кажны Ягоны чын — гэта цуд у вачох нашых. Я пэўны, што Вы ўжо самі перажылі ці пабачылі не адзін такі цуд Божы! І я ўсякім спосабам стараюся паказаць людзям нашым, што Бог ня толькі некалі цуды тварыў, але Ён і цяпер цуды творыць, і толькі сьляпыя ня бачаць іх. Тым часам, пры нашых*

*мізэрных магчымасьцях, можам мы спадзявацца на вызваленьне Беларусі сваімі собскімі сіламі бяз помачы Божай? Мне здаецца, што для кожнага думаючага чалавека ясна: не, ня можам! Дык што ж тады застаецца? Пакінуць усякую надзею на яе вызваленьне? Няхай ня станецца! Ня толькі павінны мы мець такую надзею, але больш таго, усюды пашыраць цьвёрдую веру і ўпэўненасьць, што гэта немінуча прыйдзе, але пад адной умовай, што нам тут дапаможа Сам Бог! Што гэты цуд станецца з волі Яго. Але гэтая Ягоная збаўленчая для нас воля будзе тады, калі мы будзем разумець Яго, імкнуцца да Яго ды дзякаваць Яму за кожны посьпех наш. Тады й толькі тады Ён будзе з намі, і ўчыніць яшчэ большы цуд Свой, бо мы будзем годныя цуду гэтага.*

*Вось у чым мела б праяўляцца «зацятасьць» пэўнага Сымона, які б запраўды мог бы й дзе што добрае зрабіць, але, як здаецца прарок Ерэмія сказаў, «як барс ня можа перамяніць плямаў сваіх, так і злы чалавек ня можа зрабіць нічога добрага»[629]. Ужо мусіць ён нарадзіўся такім барсам, бо як я доўга яго ведаю, дык ён усюды ўносіць толькі дэструкцыю, злобу, варожасьць, ніяк ня могучы супакоіць сваю ненасытную амбіцыю.*

*Таму вось я вельмі дзякую Вам за Вашыя шчырыя, прыхільныя словы адносна мае малітвы ў Амэрыканскім Сэнаце. У мяне цяпер толькі адна радасьць: зрабіць хоць маленькі, але добры чын для ўсяго нашага Народу. А ён добры толькі тады, калі мілы Богу, калі заслугоўвае на Ягоную Ласку да нас, бо толькі так мы зможам далейшае дабро чыніць. І яшчэ нешта. Калі мне ўдасца зрабіць нейкае дабро, я стараюся ўсякім спосабам паказаць, што гэта ня я зрабіў, а Ласка Божая для нас усіх, і заўсёды прашу людзей, каб і яны так разглядалі тую ці іншую справу. Дзеля гэтага таксама — другая прычына — я так і прадставіў нашую малітву ў Сэнаце й прыняцьцё нас Ніксанам. Бо я хачу будаваць не на пяску, а на камені, а ўсе мы бяз Бога толькі пясок, тады як зь Ім — Волаты, якія ЎСЁ зробяць, нягледзячы на тое, колькі нас і якія нашыя собскія сілы.*

*Дарагі мой, я заўсёды з радасьцю малюся за ўсіх нашых людзей, тым болей за хворых. Таму таксама ўжо даўжэйшы час малюся за хворую Ганну, а цяпер таксама ахвотна й за Еўдакію*

[629] Пар.: Ер. 13:23.

*і Юрага. Хай Гасподзь Міласэрны выслухае мае малітвы й мае Вас у Ласцы Сваёй.*

*Прашу прыняць мае найшчырэйшыя прывітаньні й найлепшыя пажаданьні.*

*Гасподзь Бог наш Ісус Хрыстос багаславіць Вас усіх і ахіне Сваёй Любоўю, Ласкай і Міласэрдзем.*

*З глыбокаю пашанаю да Вас і любоўю ў Хрысьце*

*Ваш Архіяпіскап Васілій.*

*Бруклін, 19.10.1962.*

*Глыбокапаважаны й дарагі сп. Ю. Віцьбіч!*

*Шчыра дзякую за Ваш мілы ліст, асабліва ж за Вашую ласкавасьць прыслаць у «Голас Царквы» свой артыкул, ці запраўды лепш сказаць — мастацкі нарыс «Дзева днесь». Я ўжо наперад цешуся за сябе й за чытачоў з гэтага Вашага нарысу. Што ён будзе запраўды мастацкі, у мяне няма ніякага сумліву, бо ж кожная Вашая праца — мастацкая. Вы ўжо ад прыроды мастак, а на маю думку галоўна таму, што Вы глыбока веруючы. Такое ўжо ў мяне разуменьне мастацтва. Запраўднае мастацтва гэта «веяньне» Духа Сьвятога як выразу Абсалютнае Красы. І хто не «прычасьнік» гэтае Абсалютнае Красы, той ніколі запраўдным мастаком ня быў і ня будзе, і то ўсюды: у літаратуры, у малярстве, у музыцы й сьпеве. На гэтую тэму я ўжо ня раз, на жаль, надарэмна гаварыў з нашымі сучаснымі літаратарамі й паэтамі.*

*За ўсё прысланае Вамі буду Вам вельмі ўдзячны. Прашу толькі ласкава зьвярнуць увагу на час: другая палова або канец лістапада. Калі б была Вашая ласка прыслаць дзьве рэчы, дык можа быць адна раней, а другая пазьней. Гэта з увагі на тое, што перад Сьвятамі друкарні вельмі завалены працаю, таму ў пачатках сьнежня трэба мець ўжо гатовы матэрыял.*

*Шчыра й сардэчна вітаю Вас і Вашую дастойную Спадарыню, стала малюся за Вас, бо запраўды жадаю Вам добрага здароўя, сіл, радасьці й усякіх посьпехаў.*

*Гасподзь Бог наш Ісус Хрыстос багаславіць Вас і ахіне Сваёй Любоўю, Ласкаю й Міласэрдзем.*

*З глыбокаю пашанаю да Вас і любоўю ў Хрысьце*

*Ваш Архіяпіскап Васілій*

*Бруклін, 17.10.1967.*

*Высокадастойны й дарагі сп. Ю. Віцьбіч!*

*Вельмі дзякую за Ваш зьмястоўны й цэнны ліст. Мяне часта вельмі абурае, калі некаторыя нашыя, нават і інтэлігентныя людзі, спрачаюцца із мною ў царкоўных справах. Чаму? Таму, што яны тут поўныя анальфабэты, і наадварот, вельмі люблю пагаварыць з чалавекам і на іншыя тэмы, калі бачу, што ён мае адпаведны багаж ды лёгіку. Вось дзеля гэтага мне вельмі прыемна чытаць Вашыя лісты, у якіх і шырокі разгляд, і кампэтэнтнасьць, і лёгіка, а да ўсяго гэтага яшчэ хочацца дадаць: і сэрца!*

*Не дарма Хрыстос нас вучыць, што ўсё добрае й благое выходзіць з сэрца. Безумоўна, гэтае сэрца Ён разумее не ў фізіялагічным сэнсе, а ў сэнсе духовым. А духовы сэнс вядзе нас да розуму й духу. І ад гэтых розуму й духа залежыць тое, што выходзіць з сэрца, бо ж шатан — магутны дух, але які, і што ён робіць? Так бы сказаць, якое ў яго сэрца?*

*На жаль, вось ужо амаль дзьве тысячы год як на зямлі пашыраецца Навука Хрыстовая, і што ж мы бачым? Які працэнт людзей ня словам, языком, а сэрцам, чынам выпаўняе дасканалую Запаведзь Яго: Любі бліжняга твайго, як самога сябе? Рабі другому тое, чаго сабе жадаеш? На вялікі жаль, ня толькі сьвецкія, але й многія духоўныя ўжо даўно, асабліва ж цяпер дзеюць пераважна наадварот, так, як гэта падабаецца шатану. І тут Вы слушна кажаце, што «Царкоўны сьветач» — гэта прадаўжэньне «Праваслаўнага беларуса». Таму добра разумею словы Вашыя: занадта ўсё ж мы розныя. Я часам дзіўлюся Вам, ці падзіўляю Вас. Вы ж узгадаваліся ў пекле бальшавізму: злобы, варожасьці, насільля, а тым часам душа Вашая, як быццам нічога гэтага ня бачыла, не перажыла, бо засталася многа бліжэй да Хрыста, чым душы многіх тых, што гэта пекла й ня бачылі. Гэта Вашая вялікая заслуга, якая напэўна ў свой час атрымае адпаведную нагароду.*

*Вашую талеранцыйнасьць у падыходзе да ўсіх веравызнаньняў я магу толькі пахваліць, і адначасна зайздрошчу Вам.*

*Мая талеранцыйнасьць выходзіць ня толькі з сэрца, але й з розуму, бо яна абаснаваная, найпершае, на Навуцы Хрыстовай, па-другое, на асновах самае прыроды, а па-трэцяе, на тым, што калі Бог паможа нам аднавіць Незалежнасьць свае Дзяржавы, то яна мусіць быць запраўды хрысьціянскаю, і толькі*

*праваслаўе адпавядае душы Нашага Народу. Заданьне нашае тут будзе толькі такое: збудаваць такую Праваслаўную царкву, якая б паказала народу ўсе багацьці гэтага праваславія як навукі Хрыстовае. Ні адно нашае веравызнаньне ў нас гэтага зрабіць ня зможа.*

*Вельмі дзякую Вам за копіі Вашых лістоў да сп. А. Вініцкага. Я іх прачытаў раз і два й яшчэ буду чытаць, бо яны маюць многа добрага, дакумэнтальнага матэрыялу ды майстэрна ўложаны. Безумоўна, калі на такіх матэрыялах сп. Вініцкі выдасьць кнігу, то яна будзе вартая ўвагі.*

*Пішу Вам заўсёды з ахвотаю, бо бачу ў Вас ня толькі дасканалага фахаўца, пісьменьніка, журналістага. Усё гэта добра, але для мяне ня ўсё. Скажу Вам па сакрэце, што я пэўны час перапісваўся таксама з сп. Сядурам, але калі я захацеў пагаварыць зь ім шырэй і глыбей пра Рэлігію, навуку Хрыстовую, асабліва цяпер, карэспандэнцыя нашая значна скарацілася, тады як з Вамі я заўсёды магу гаварыць на гэтыя тэмы, бо Вы ня толькі належна разумееце іх, але й зацікаўленыя ў іх.*

*Шчыра й сардэчна вітаю Вас і ўсю Вашую сямейку, жадаю вам усім добрага здароўя, сіл, радасьці зь Неба, і ўсякіх посьпехаў у жыцьці й працы, як часта й прыгадваю Вас у малітвах сваіх.*

*Гасподзь Бог наш Ісус Хрыстос багаславіць Вас усіх і ахіне Сваёй Любоўю, Ласкай і Міласэрдзем.*

*З глыбокаю пашанаю да Вас і любоўю ў Хрысьце*

*Ваш Архіяпіскап Васілій.*

*Бруклін, 19.4.1969.*

*Шаноўны й дарагі сп. Ю. Віцьбіч!*

*Хрыстос Уваскрос!*

*Вельмі дзякую Вам за Ваш зьмястоўны, мілы ліст, які я сяньня атрымаў. Чаму ж так скора адказваю? Многа на гэта ёсьць прычынаў. Па-першае, яшчэ раз дзякую. Чаму яшчэ раз? Мушу Вам сказаць, што я незвычайна люблю розум, веды, красу. Нягледзячы на свае сьціплыя матэрыяльныя магчымасьці, я ўжо маю больш сотні кніг багаслоўска-філязофскага характару. Безумоўна, я ўжо даўно прачытаў такія залатыя кнігі: творы вялікіх айцоў царквы, сярод якіх мне найбольш спадабаліся творы сьв. Васіля Вялікага, Рыгора Багаслова, Іаана Златавуснага, Аўгустына Блажэннага. Безумоўна, многа вышэй нават*

*іх стаўлю вялікага мудраца сьв. Апостала Паўла, якога хіба 10 раз прачытаў. Незвычайна цаню вялікі розум Майсея, ясна, вялікіх, а нават некаторых малых прарокаў. Я натхнёны прадказаньнямі прарока Езэкііла, якія адбываюцца цяпер на нашых вачох. Гэта што датычыць Ізраіля ды далейшых падзеяў, якія неўзабаве пачнуць разьвівацца на арэне сучасных падзеяў.*

*Маючы вялікую радасьць зь велічы розуму людзкога, я ўжо прачытаў хіба ўсіх філёзафаў, пачынаючы ад Сакрата й Плятона й канчаючы на велічным розуме Канта. Раблю гэта таму, што сьв. Васіль Вялікі кажа: багасловіе — гэта цнота, а яно патрабуе побач зь вераю — розуму. Гэта ён сказаў хіба пад уражаньнем сьв. велічнага Апостала Паўла, які дакладна прастудыяваў як філязофію, так і паэзію старадаўніх грэкаў, што мы бачым зь ягонае пропаведзі ў Афінах перад Арэапагам. Вось так і я ўсюды шукаю здаровага розуму, як «чыстага», так і «практычнага» — па Канту.*

*Вы, можа, скажаце: для чаго я ўсё гэта тут пішу? Каб пахваліцца? Няхай ня станецца, як кажа сьв. Апостал Павал. Мне вельмі прыемна чытаць Вашыя артыкулы, дзе б Вы іх ні друкавалі. Чаму? Таму што я бачу ў іх ня толькі Ваш розум, але й вялікую эрудыцыю, а гэтага мне й хочацца, і я хачу «дзешто» ведаць.*

*З глыбокаю пашанаю да Вас і любоўю ў Хрысьце*

*Ваш багамолец Архіяпіскап Васілій.*

*Бруклін, 14.8.1969.*

*Высокадастойны й дарагі сп. Ю. Віцьбіч!*

*Вельмі дзякую за ліст. Гэтым разам мне прыходзіцца прасіць прабачэньня за спозьнены адказ. Па-першае, ужо таму, што Вы для мяне таксама Ерарх, бо ж розныя бываюць Ерархі, ня толькі духоўныя, а па-другое, каб Вы, крый Божа, не падумалі, што я не хацеў бы часьцей мець Вашыя лісты. Між іншага, Вы хіба таксама ведаеце, што такі Э. Кант, ня гледзячы на брак часу й скрупулятнасьць нямецкую, кожнага дня ў часе абеду тры-чатыры гадзіны праводзіў у гутарцы з сваімі прыяцелямі, і я добра яго разумею: і я хацеў бы кожнага дня пару гадзінаў траціць на такія гутаркі, каб завастрыць, узбагаціць свае веды. На жаль, я гэтага ня маю, але маю прыемнасьць чытаць Вашыя лісты, у якіх бачу здаровы розум, тым болей, што Вашыя думкі часта падобныя да маіх. Вялікая шкода, што Вы не*

*духаўнік нашае Сьв. БАПЦарквы! Магчыма Вы тут скажаце: а што, не духаўнік ня можа другога ўзбагаціць? Безумоўна, можа, але гэта ня тое, што я тут маю на ўвазе.*

*Ці я супраць беларускае мовы ў нашых Багаслужбах? Не, я б зь вялікаю радасьцю служыў па-беларуску, але для гэтага патрэбная такая рэч: Камісія з прынамсі 10 спэцыялістых: духаўнікоў, літаратуразнаўцаў, кампазытараў, паэтаў, якая б сумленна папрацавала 3–4 гады. На гэта некаторыя нашы патрыёты кажуць мне: Уладыка, тады мы ніколі не пяройдзем на служэньне ў беларускай мове. А я ім кажу: дасьць Бог, прыйдзе час, пяройдзем, а тым часам я сьмяшыць сябе ня буду. Ня любяць мяне за гэта, нават часам прабуюць назваць русафілам, але я ўжо да прыкрасьцяў прывык, хоць кожная зь іх і далягае мне, і я часам сям-там раблю, калі гэта не асноўныя рэчы, дзе-якія ўступкі, падобныя Вашай, адносна тых «беларускіх» імёнаў. Такія ўступкі, калі ходзіць пра вялікія рэчы, як, напрыклад, выданьне нашага цяпер Календара, яшчэ магчымыя.*

*На жаль, нашае змаганьне на царкоўна-духовым фронце вельмі цяжкое: ворагаў тут у нас надта многа, ворагаў сьведамых і нясьведамых. І я не дзіўлюся, што ў гэтым віры змаганьня некаторыя нават нашыя запраўдныя патрыёты-змагары часам трацяць разуменьне таго, што для нас галоўнае, а што другараднае, што можа нам памагчы, а што пашкодзіць. Тут нам неабходна мець Кантаўскі здаровы розум, а гэта справа нялёгкая, тым болей, што сьведамыя ворагі нашыя часта многа хітрэйшыя за нас, маюць большую практыку, таму лёгка могуць абмануць недасьведчаных, хоць інакш і не дурных людзей.*

*Прашу прыняць мае найшчырэйшыя прывітаньні й найлепшыя пажаданьні. Многія лета Вам!*

*Гасподзь Бог наш Ісус Хрыстос багаславіць Вас і Вашую сямейку й ахіне Сваёй Любоўю, Ласкай і Міласэрдзем.*

*З глыбокаю пашанаю да Вас і любоўю ў Хрысьце,*
*Спасе нашым,*

*Ваш багамолец*

*Архіяпіскап Васілій.*

*Бруклін, 4.9.1969.*

*Высокадастойны й дарагі сп. Ю. Віцьбіч!*

*Вельмі дзякую за Вашыя два лісты, а маглі б быць і тры, бо кожны зь іх я з прыемнасьцю чытаю й выкарыстоўваю, зараз пабачыце ў чым. Наперад хачу яшчэ раз пацьвердзіць сваю думку: Вы — запраўдны Ерарх! І я з гэтага цешуся, бо люблю гаварыць з такімі людзьмі, якія маюць у галаве запраўднае золата — здаровы розум, ды, ясна, розум узбагачаны глыбінямі й вышынямі розных добрых навукаў. Тут наагул мая радасьць, а яна тым большая, калі такім чалавекам ёсьць мой брат — Беларус! На вялікі жаль, мала хто так думае: адныя дзеля нізкае зайздрасьці, другія дзеля свае дурноты, трэція дзеля свае злабы, а яшчэ іншыя дзеля іншых няцнотаў, гаворачы пра такога чалавека, абавязкова стараюцца знайсьці ў яго, на іхнюю думку, «недахопы», а пасьля ўжо «міласьціва» кажуць: але, праўда, у яго ёсьць і дзе-што добрае. […] Між іншага, тут адна з нашых бедаў: замест бачыць у чалавеку ў першую чаргу добрае, разумнае й гэтым духова ўзмоцніць яго, яны сваёю «крытыкаю» фактычна робяць тое, што робяць, сьведама робяць, тыя з «Голасу Радзімы» ды зь «Беларускага голасу». Але, на жаль, многа ў нас розных няцнотнікаў, дзеля адсутнасьці запраўднага вагню духа ў сэрцы, душы, галаве.*

*Вось чаму заўсёды з прыемнасьцю чытаю Вашыя лісты, узбагачаюся імі, карыстаюся Вашымі думкамі, асабліва тады, калі яны й мае думкі. Даўно ўжо ў нас гаворыцца пра беларусізацыю нашых Службаў Божых, і наш Сьвяшчэнны Сабор ня супраць гэтага, наадварот, сам стараецца беларусізаваць тое, што магчыма, пры дзьвюх умовах: у гэтай беларусізацыі мусіць быць лад і парадак, а не партызанка, ды мова мусіць быць запраўды беларуская, мілагучная, урачыстая. Аб гэтым я ня раз казаў нашым спаборнікам беларусізацыі. І мне тут было незвычайна прыемна прачытаць такія Вашыя словы: «Аднак мова такая мусіць мець урачысты, прыўзьняты характар…, тут няма месца вульгарызмам…, тое ж датычыць і ладне якіх іншых тэрмінаў, вельмі добрых для ўжытку ў хаце, на двары, у лесе й г. д., але толькі не ў царкве». Многа чаго хацелася б мне тут сказаць, але толькі скажу: поўнасьцю пагаджаюся.*

*І ня толькі пагаджаюся з Вашаю думкаю аб тым, што дзеля гэтага мае быць абраная й пакліканая да свае пачэснае працы*

*камісія ўжо цяпер, без адкладу, але я гэта ўжо й зрабіў. Як Вы хіба ведаеце, у суботу адбыўся ў нас Епархіяльны Сабор, на якім, ясна, гаварылася й пра беларусізацыю нашых Службаў Божых, у першую чаргу Сьв. Літургіі. І тут я правёў сваю думку: выбраная Камісія ў складзе: Уладыка Андрэй[630], сп. М. Міцкевіч, а. Васіль Кендыш, сп. К. Кіслы, сп. П. Манькоўскі. Гэтай Камісіі дана права запрашаць да супрацоўніцтва адпаведных спэцыялістаў, а ў першую чаргу Вашую дастойную асобу ды сп-ню Н. Арсеньневу як паэтку. Вось жа, прашу заўважыць: у першую чаргу Вас! Гэта я цьвёрда зазначыў, і ўсе пагадзіліся з маёю думкаю тут. А чаму я гэта зрабіў, я ўважаю, для Вас ясна: у маіх вачох Вы будзеце ў гэтай Камісіі галоўным маторам дзеля многіх прычынаў, і я наперад радуюся з такога перакладу, які будзе запраўды ўрачысты, прыўзьняты, ды, ясна, мілагучны. Такі пераклад мусіць адразу падняць душу й сэрца на ўзвышшы, да Неба, да Бога, быць сапраўды сьвяточным, ангельскім! Спадзяюся, што Вы тут уложыце як сваю душу, так і свой розум. Выбачайце, што я так упэўнена наперад кажу, але кажу таму, што ведаю Вас — раз, а два — Вы хіба не адмовіцеся ад такой пачэснай, мілай Вашаму сэрцу працы, хоць і тут могуць быць розныя «прыяцельскія» заўвагі...*

*Безумоўна, нялёгкая гэта будзе праца. Я прыпамінаю сабе такія разыходжаньні ў Украінскай царкве сярод духавенства, калі я свайго часу служыў разам зь імі: адныя гаварылі Господеві помолимося, а другія Господэві помо́лимося, або адныя знов та знов Господэві, а другія Ще та ще... На маю, як адно, так і другое надта груба, а гэта ж толькі пачатак! Як Вы пераложыце на беларускую мову Пакі й Пакі? Я ня ведаю, але мне б хацелася, каб тут былі й мілагучнасьць, і ўрачыстасьць, і краса, тым болей, што гэтыя словы часта паўтараюцца, таму мусяць быць запраўды, як кажа сьв. Васіль Вялікі, гармоніяй для вушэй нашых, а гэтым і для сэрцаў. Сьпяшыць тут ніяк ня можна, бо мы тут робім вялікую, сьвятую справу, аб выніках якое будуць гаварыць усе нашыя пабожныя вернікі, таму тут лепш сем раз адмераць і адзін раз адрэзаць.*

*Прашу прыняць мае найшчырэйшыя прывітаньні й найлепшыя пажаданьні.*

---

630 Маецца на ўвазе Уладыка Андрэй (Крыт).

*Гасподзь Бог наш Ісус Хрыстос багаславіць Вас і сямейку Вашую й ахіне Сваёй Любоўю, Ласкай і Міласэрдзем.*

*З глыбокаю пашанаю да Вас і любоўю ў Хрысьце*

*Ваш багамолец*

*Архіяпіскап Васілій.*

*Бруклін, 25.9.1969.*

*Высокадастойны й дарагі сп. Ю. Віцьбіч!*

*Вельмі дзякую за Ваш, як заўсёды, зьмястоўны й цэнны ліст. О, як добра я разумею Вашыя думкі адносна нашых магчымасьцяў! Так, безумоўна, кожны, хто толькі хоча нешта добрае стварыць, мусіць стала заглядацца сам на сябе, бо толькі так можа йсьці наперад. За 20 год я ўжо прачытаў сотні кнігаў і хацеў бы яшчэ больш прачытаць, пазнаць, свой духовы багаж узбагаціць, розум завастрыць, ясна, карыстаючыся пры гэтым і досьледамі свайго практычнага жыцьця. А калі мы тут возьмем пад увагу, што гэта адносіцца да духовага жыцьця, якое пачынаецца ў Нябёсах і толькі іскрыць у нашым людзкім духу, то, безумоўна, тут, як кажуць, ані канца, ані краю няма. Але шчасьлівы той, хто «прычашчаецца» да яго! Ён сапраўды ўсё болей і болей будзе зьзяць сьвятлом незямным. А колькі ёсьць галібаў гэтага зьзяньня! Тут Багасловіе, Філязофія, усякае Мастацтва як праяўленьні Божага й нашага Духа. І мне прыемна чытаць Вашыя лісты й працы, бо тут я бачу, што Вы і ўсьцяж зьзяеце ў гэтай запраўднай красе, у гэтым сьвятле, якога так баяцца ўсе тыя, «чые ўчынкі благія». Хто гэта сказаў? Сам Хрыстос!*

*Вялікія гэтыя словы: Беларуская Мітраполія! Яе стараліся ўрэчаісьніць два нашыя духовыя волаты, Архіяпіскап Варлаам у Магілёве за часоў Напалеона ды апошнім часам Мітрапаліт Мэлхісэдэк. На жаль, абодва заплацілі за гэтую сьвятую ідэю сваім жыцьцём, атрымаўшы вянок мучанікаў. Напэўна, Яны Сьвятыя, і дасьць Бог, некалі нашая Сьв. БАПЦарква прызнае іх такімі. І зразумела, што беларуская мітраполія таксама й мой ідэал. Праз апошнія 20 гадоў мы не маглі й марыць аб гэтым, але цяпер ужо можам з страхам Божым падыйсьці да гэтага пытаньня. Безумоўна, цяжкое яно й цяпер дзеля многіх прычынаў, аднак, сякія-такія магчымасьці мы ўсё ж маем і мусім іх выкарыстаць на Славу Божую ды на дабро й гонар нашага шматпакутнага Народу. Я вельмі дзякую Вам*

*за Вашую думку, што гэты цяжкі крыж я маю ўзяць на сябе. Я быў бы вельмі рады, калі б «мінавала мяне чара гэтая», аднак, калі ня будзе іншага выхаду, я буду гатовы ўзяць на сябе й гэты крыж і гэтую чару прыняць. Буду гатовы й таму, што ў маіх паняцьцях навукі Хрыстовае, а гэтым і праваслаўя, яно запраўды найкаштоўнейшы скарб наш і ўсяго чалавецтва, гэта раз; а два: прыблізна ад часу Ўсяленскіх Сабораў яно ўсьцяж толькі занечышчалася, хавалася, засыпалася. І цяпер, у маім разуменьні, трэба Яго адкапаць і людзям паказаць — ня толькі словамі, але й чынам, каб Яно запраўды, як дыямант, зазьзяла. І мне здаецца, што нашая Беларуская Мітраполія можа стацца тут Першаю на сьвеце! Безумоўна, пад умоваю, што Яна будзе працаваць сярод свайго вольнага народу ў вольнай Беларусі, тым болей, што я разумею нашую нацыянальную ідэю адзіна й толькі як ідэю Божую! Аб гэтым я й пішу ў сваіх артыкулах пра Служэньне Народу, і далей яшчэ буду пісаць. Магчыма, да гэтага адносяцца Вашыя словы: «ня ўсе Вашыя выказваньні ў друку я цалкам падзяляю». Аднак, лічу, што гэта ня толькі дабро нашага Народу, але й ягоны гонар і ягоная слава й веліч.*

*Прыміце мае найшчырэйшыя прывітаньні й найлепшыя пажаданьні Вам і сямейцы Вашай.*

*Госпадзь Бог наш Ісус Хрыстос багаславіць Вас усіх і ахіне Сваёй Любоўю, Ласкай і Міласэрдзем.*

*З глыбокаю пашанаю да Вас і любоўю ў Хрысьце*
*Ваш багамолец*
*Архіяпіскап Васілій.*

*Бруклін, Каляды 1969.*

*Высокадастойны й дарагі сп. Ю. Віцьбіч!*

*Сардэчна вітаю Вас, Вашую дастойную Спадарыню і ўсю сямейку з нашым Вялікім і Радасным Сьвятам: Раством Хрыстовым і Новым 1970-м годам!*

*Няхай Анёлы сьвятыя й Вам дабравесьцяць: Хрыстос нарадзіўся!*

*Няхай сьвятло Зоркі Віфлеемскае зьзяе ў душах і сэрцах Вашых.*

*Няхай Нованароджаны Хрыстос мае Вас усіх у Ласцы Сваёй: пашле Вам добрае здароўе, доўгі век, радасьць зь Неба, многа шчасьця і ўсякі посьпех у жыцьці й працы ў Новым Годзе!*

*І няхай Ён узмоцніць надзею Вашую, што неўзабаве вызваліцца з шатанскае няволі свае, народзіцца да новага, вольнага, творчага, радаснага й шчасьлівага жыцьця нашая любая пакутніца Маці-Беларусь!*

*Радуйцеся! Хрыстос Нарадзіўся! Яго Слаўце!*

*Я вельмі дзякую Вам за Вашыя прывітаньні мяне з нагоды маіх 20-х угодкаў Архіпастырскае працы. Асабліва ж моцна дзякую за Вашыя слаўныя пажаданьні славіць Бога ў паруганых цяпер Жыровіцах перад цудадзейным Абразом Божае Маці Жыровіцкае!*

*Тут Вы разгадалі мае мроі ці мары! Аб гэтым я стала малю Госпада Міласэрнага. Я тут уяўляю сабе: сабраліся ўсе нашыя япіскапы, сотні сьвятароў, два-тры Хоры па 100–150 першаклясных сьпевакоў і сьпявачак, ды, скажам, мілёй вернікаў! Пачалі служыць, харыстыя засьпявалі. Далей цяжка што сказаць, бо я пачаў... плакаць... Бо Неба зыйшло на зямельку нашую! А што я пачаў бы плакаць, гэта ня словы, бо й цяпер часам у мяне бывае нешта падобнае, калі з нагоды нейкага большага Сьвята ў маім Хоры 20–25 харыстых прыгожа засьпяваюць, вочы мае пускаюць сьлёзы, а што ж тады! Мне здаецца, што тады калі ня я, то некаторыя пабожныя вернікі пабачаць... ангелаў сярод нашых харыстых! А можа й Самога Хрыста ды Маці Божую над Прастолам! А кругом іх — нашых Сьвятых!*

*Ці гэта ўсё магчыма? На маю думку — так, зусім магчыма! Магчыма, па-першае, таму, што я цьвёрда веру й перакананы, што калі неўзабаве ня прыйдзе антыхрыст у цяперашні маральна здэгенэраваны сьвет, то Беларусь станецца Вольнай і Незалежнай Дзяржавай у выніку ўпадку з Волі Божае сучасных найгоршых паганаў — багаборцаў, слугаў шатана. Па-другое, нашая Сьв. БАПЦарква станецца запраўднаю Царквою Хрыстовою! Царквою, якая ня толькі словам, але й Чынам пачне пашыраць навуку Хрыстовую ўва ўсё жыцьцё нашага народу! Запраўды пачне будаваць Царства Божае на зямлі. Так, пачне яго будаваць, таму й Хрыстос будзе з намі. І Прачыстая Маці Яго! Вось жа, вялікія цуды будуць зусім магчымыя! Безумоўна, я гэтага жадаю нашаму народу, сабе, а таксама й Вам. Так, я жадаю Вам дажыць да гэтых слаўных часоў, калі людзі будуць запраўды плакаць у часе нашых Службаў Божых, бо Дух Сьвяты ахіне душы іхныя, адкрые ім завесу Неба!*

*Над гэтым я часта думаю, і — рыхтуюся, пляную. У гэтым сэнсе я й пішу свае артыкулы пра Служэньне Народу. Ясна, для сябе пішу яшчэ й нешта іншае, бо трэба быць да ўсяго гатовым, каб належна спаткаць Госпада, Каторы можа прыйсьці на зямельку нашую, як сказала ў Заблудаве Прачыстая Маці Божая! Яна сказала гэта для тых, што маюць вушы, каб слухаць, разумець, а калі прыйдзе час — дзеяць! На маю думку, толькі нашая Сьв. БАПЦарква можа гэта зразумець і належна дзеяць. Ніякая іншая!*

*Пішу гэта Вам, бо адчуваю, што толькі Вы тут можаце зразумець мяне. На жаль, нашая інтэлігенцыя амаль уся на гэта глухая.*

*І ў гэтым сэнсе яшчэ раз горача вітаю Вас.*

*Нованароджаны Гасподзь Бог і Спас наш Ісус Хрыстос багаславіць Вас усіх і ахіне Сваёй Любоўю, Ласкай і Міласэрдзем.*

*З глыбокаю пашанаю да Вас і Любоўю ў Хрысьце*
*Ваш Архіяпіскап Васілій.*



# «…ДА ПРЫЧЫН ГЭТАГА ЦАРКОЎНАГА ЗАКАЛОТУ…» ВЫБРАНЫЯ ЛІСТЫ МІХАСЯ МІЦКЕВІЧА ДА МІХАСЯ ТУЛЕЙКІ[631]

*«Постаць Сьв. памяці Міхася Міцкевіча, якога мы сёньня праважалі на вечны спачынак на беларускім магільніку ў Іст Бransьвіку, была неабычная. Постаць Міхася Міцкевіча была характэрная шматлікімі добрымі якасьцямі. Хаця ён ніколі не выпучваўся ў жыцьці й грамадзкай дзейнасьці, яго амаль усе ведалі, бо несупынна бачылі яго дзейным чалавекам, які заўсёды імкнуўся штось рабіць для сваіх людзей і беларускай нацыянальнай справы. На паказ ён ніколі нічога не рабіў. Рабіў усё на дабро, каб усё тое, да чаго ён меў дачыненьне, было добрым, чыстым, справядлівым і разумным. Не любіў абману й круцельства. Таму, пры вельмі добрых сваіх якасьцях, ня ўсе яго любілі й належна шанавалі, а ён, з свайго боку, ня ўсё хваліў.*

*Я асабіста ведаў сьв. памяці Міхася Міцкевіча досыць добра, бо й паходзілі мы з блізкіх мясьцін, а на эміграцыі ня толькі часта спатыкаліся, але й цесна супрацоўнічалі на грамадзка-нацыянальнай і царкоўнай ніве. На Бацькаўшчыне быў школьным інспэктарам. Пакінуў яе ў 1944 г. і стаў, як і амаль усе мы, беларускім эмігрантам — уцекачом, але ўсё жыцьцё сваё за межамі Бацькаўшчыны быў дзейны й вельмі ахвярны. Меў ён настаўніцкую адукацыю й немалы пісьменьніцкі талент. Быў адным з арганізатараў Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Нямеччыне адразу пасьля Другой сусьветнай вайны, арганізатарам беларускага лягеру DP у Рэгенсбургу, вучыў дзяцей у беларускіх школах у Нямеччыне й Нью-Ёрку ў самым*

[631] Тэкст упершыню друкаваўся ў: Запісы БІНІМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 341–357. Тут друкуецца з карэктаванымі каментарыямі.

*пачатку на Нор-Фольк Стрыт. Апрацаваў некалькі чытанак для дзяцей першых клясаў.*

*Калі выдаваньне газэты «Беларус» было пад пагрозаю спыненьня дзеля розных няладаў і адмовы рэдактара сьв. памяці магістра Л. Галяка, Міхась Міцкевіч пераняў рэдактарства й на працягу пару год выдаваў газэту амаль за свае грошы аж да прыезду ў Амэрыку сьв. памяці др. Станіслава Станкевіча, які стаў рэдактарам «Беларуса» й быў ім да канца свайго жыцьця.*

*Міхась Міцкевіч быў сябрам Галоўнай Управы БАЗА, а калі БАПЦарква стала цярпець ад насільля й закалоту, стаў апекуном Сабору Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку й прабыў пры ім усе свае годы грамадзка-рэлігійнай дзейнасьці, аж пакуль ня змог больш езьдзіць на Атлянтык Авэню ў Брукліне. Цяжка перажываў ён раскол у нашай Царкве, але ня мог ужо яго зьмяніць. Пасьля сьмерці сьв. памяці архіяпіскапа Васіля пераняў апеку й выдаваньне часопіса БАПЦарквы «Голас Царквы» й рабіў гэта да часу расколу ў БАПЦаркве.*

*[...] Хаця ён родны брат нашага слаўнага пісьменьніка — паэта Якуба Коласа, пра Міхася Міцкевіча так мала падана ў беларускай гісторыі»*[632].

Гэткай прамовай Міхась Тулейка 28 кастрычніка 1991 г. распачаў жалобны абед. Але і праз амаль дваццаць гадоў Міцкевічава постаць і дзейнасць, што на думку прамоўцы *«мусіць быць дасьледавана й апублікавана, бо была прыкладнай і ў інтарэсах беларускай справы»*[633], вядомыя павярхоўна — агульнымі словамі, шаблоннымі выразамі. Вобраз чалавека губляецца за пустым пералікам пасадаў у *«беларускай справе»*; гэта аднолькава тычыцца і нешматлікіх энцыклапедычных, з памылкамі, артыкулаў, прысвечаных яму, і гэтак жа малалікіх успамінаў сваякоў[634].

Трэба прызнаць, што і ў сваёй хвалі, нягледзячы на адказныя пасады, ён заставаўся як бы недаўшанаваны. Пры тым быў не проста родным братам Якуба Коласа — адной з святыняў

[632] Памінальнае слова Міхася Тулейкі ў адрэдагаваным выглядзе змясціла газета «Беларус». (№ 384. Лістапад 1991). Тут друкуецца згодна з арыгіналам, які захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[633] Тамсама.

[634] Гл., напрыклад: Прускі, Мікола. Сьв. пам. дзядзька Міхась Міцкевіч // Беларус. № 385. Сьнежань 1991.

эміграцыі, якую абаранялі ад бальшавікоў у кожным перыёдыку, але і колішнім супрацоўнікам «Вольнай Беларусі»[635], разам з Язэпам Лёсікам аўтарам «Як Мікіта бараніў сваіх» (1917) і такой знакавай публікацыі (дый у якім суаўтарстве! — Вацлаў Ластоўскі, Максім Багдановіч, той самы Язэп Лёсік) «Што трэба ведаць кожнаму беларусу» (1918).

Хто яшчэ з сябраў Рады БНР ды Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА), вернікаў БАПЦ, акрамя Міхася Міцкевіча, мог зацытаваць пра сябе словы апостала літаратуры беларускае Максіма Гарэцкага: *«Вельмі спадзейны малады белетрыста й паважны публіцыст»*?![636]

Міцкевічава непрытульнасць — не толькі ў побытавым жыцці, але і ці не на самай сутнаснай для яго дзялянцы — рэлігійнай — найбольш яскрава і сімвалічна, напэўна, выявілася ў шчыраванні Беларускага камітэта дзеля перакладу Бібліі. Там працавалі Янка Станкевіч[637], Тарас Сайка[638], Масей Гітлін[639]. Але без Міцкевіча.

Зрэшты, Міцкевіча на Першым Саборы Паўночна-амерыканскай епархіі (1960) абралі, разам з Янкам Запруднікам і Барысом Данілюком, у камісію перакладаў літургічных тэкстаў. Камісія ў тым самым складзе пераабіралася і на наступных Саборах, але ейнай дзейнасцю, бадай, не цікавіліся і справаздачаў не патрабавалі. Барыс Данілюк стаў рабіць вершаваныя перастворы псальмаў адно ў 1970-х, а вось Міцкевіч перакладаць пачаў амаль адразу, толькі не расказваў нікому, трымаў у таямніцы.

Трэба адцеміць, ён быў скрытным, маўклівым, а часам і бурклівым чалавекам. Абыходзіў размовы пра сваю сям'ю, пра Якуба Коласа, пільна сачыў, каб не апынуцца на якім здымку; напэўна, баяўся хоць неяк спрычыніцца да праблемаў старэйшаму брату.

---

635 Гл. ягоныя ўспаміны: М-ч. «Вольная Беларусь» і ейныя супрацоўнікі // Беларус. № 59. 10 сакавіка 1957.

636 Гарэцкі, Максім. Гісторыя беларускае літэратуры. Вільня, 1920. С. 199.

637 Янка Станкевіч быў аўтарам перакладу Бібліі на беларускую мову (1973).

638 **Тарас Сайка** (1906–1973), пастар, заснавальнік Біблійнага брацтва Вялікалітоўскага.

639 **Масей Гітлін** (18.07.1896–10.01.1969), пратэстанцкі прапаведнік, місіянер, публіцыст, удзельнік справы перакладу Святога Пісання на беларускую мову.

Жыў ціха. Падсуседзіўся да Ганны Акановіч, што з сынам Арнольдам здымала кватэру ў Брукліне, уладкаваўся працаваць на могілках — далакопам-травастрыгам.

Пад канец 1960-х у яговым жыцці адбыліся змены. У ЗША прыехалі пляменнікі Аляксандр і Валянцін. Праз нейкі час Аляксандр набыў хату, і Міцкевіч перабраўся да пляменніка. Выйшла, аднак, няўдала: той неўзабаве ажаніўся з кабетаю, што мела дачку-падлетка, і ў хаце зрабілася цеснавата і даволі неспакойна. Магчыма, дадавала праблемаў тое, што Тэрэза была хоць і з Беларусі, але каталічкаю.

Прыкладна ў той самы час здарыўся царкоўны закалот, і будынак на Атлантык-авеню застаўся без належнага дагляду. Абавязкі старасты ўзяў на сябе Міхась Міцкевіч, які, фактычна, перабраўся туды жыць і вяртаўся дадому толькі пераначаваць. Хоць сам ён намагаўся трымацца нейтралітэту, пляменнік стаў на бок мітрапаліта Мікалая, што, зразумела, не дадавала спакою ў хаце.

Міцкевічава пенсія ішла на рамонт царквы, на выданне часопіса, якім заапекаваўся пасля смерці ўладыкі Васіля (Тамашчыка); ён увесь час нешта дарабляў, рамантаваў, фарбаваў; згадкамі пра гэта поўняцца ўсе артыкулы, прысвечаныя Коласаваму брату. Рыхтаваў святыню да багаслужбаў, а калі-нікалі і сам прыслужваў. Калі ж у царкоўнай зале нікога не было, прыхапкамі сядаў за пераклады Святога Пісання.

Міхась Міцкевіч пражыў доўгае жыццё, і таму зразумела, што ягоныя лісты, прыкладам, да Юркі Віцьбіча за 1954–1973 гг.[640], адрозніваюцца ад лістоў пачатку — сярэдзіны 1980-х. Разам з тым, карэспандэнцыя гэтага перыяду да Міхася Тулейкі выдатна адлюстроўвае нутраны стан чалавека, не толькі збітага з ног закалотам: працуючы над перакладам Евангелля, ён у той самы час нутрана супраціўляўся беларусізацыі царкоўных службаў, вінаваціў ва ўсім *«вуніяцкую пагрозу»*. І надалей ён знясільваўся ад фізічна ды, што казаць, фінансава непад’ёмнай (для чалавека на пенсіі) працы ў царкве.

Гісторыі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на эміграцыі пакуль не напісалі. І не відаць сёння таго, хто б мог паважна апрацаваць яе. Але ж калі гэта здарыцца, лісты

[640] Юрэвіч, Лявон. Камэнтары. Менск, 1999. С. 242–280.

Міхася Міцкевіча стануць неад’емнай крыніцай звестак для гэтай гісторыі[641].

Застаецца дадаць, што зроблены ім поўны пераклад Новага Запавету, які на думку розных спецыялістаў, ад Барыса Данілюка да Івана Чароты, ёсць найлепшым з перакладаў на беларускую мову, захоўваецца ў архіве БІНіМа і з часам будзе абавязкова выдрукаваны[642].

## Лісты Міхася Міцкевіча

*7 сьнежня, позьні вечар.*

*Паважаныя Міхале й Вольга!*

*Сёньня атрымаў Вашае пісьмо й сёньня ж хачу падаць некалькі маіх спасьцярог да прычын гэтага царкоўнага закалоту. І гэтага, бадай, ніхто не бярэ на ўвагу. Фактычна, то і ў мяне неяк як бы цяпер высьветлілася. Але я ўжо чытаў у Хмараўскай газэце[643], і неяк думкі й спасьцярогі сыходзяцца. Як ты ні мазгуй, а прыходзіцца сьцьвердзіць, што гэткая туманная завалока ўтварылася таму, што нашыя каталікі, а яны, бадай, усе вуніяты, як і лідар іхні, нябожчык Стась[644] — змаглі неяк атаясаміць дзейнасьць царквы нашай зь дзейнасьцяй, наагул, расейскай, ня глядзя, што цяпер гэтая «расейскасьць» — бальшавізм. Дык іхныя — вуніяцкія — пагляды: фактычна ўсё, што там у гэтай цяперашняй бальшавізіі робіцца — усё гэта акрэсьліваецца як расейшчына. Дзеля таго вось гэтыя вуніяты моцна ўбілі ў галаву нашых (у вялікай большыні) людзей, што Службы Божыя — расейшчына. А таго, што Багаслужэбныя тэксты ўсталіліся яшчэ тады, калі тае Расеі й заваду не было (бо яна ж пачала фармавацца недзе з дванаццатага-трынаццатага сталецьця пры тых Іаанах: Першым, Другім, Трэцім і Чацьвёртым — Грозным) і тэксты ў Багаслужбах фактычна славянскія, таго ніхто не бярэ пад увагу. Калі жылі нашыя,*

[641] Арыгіналы лістоў захоўваюцца ў архіве БІНіМа.
[642] Мікола Прускі выдрукаваў толькі два Евангеллі — паводле Матвея і Марка (Michigan: Grand Rapids, 1997) — з прыкрай памылкай на вокладцы: «Евагельле».
[643] Маецца на ўвазе «Беларускі голас» (Таронта, 1952–1992).
[644] Маецца на ўвазе Станіслаў Станкевіч.

*прызначаныя сьвятымі, Сьв. Ефрасіньня Полацкая і Кірыла Тураўскі, то тае Расеі, паўтараю, заваду не было. І вось пачалася гэтая нахальная «беларусізацыя», якую лепш назваць «выдурнізацыяй». І яе ўзялі за сваё аружжа гэткія прастафілі, як Сажыч дый Мікалай*[645]*. Ня ведаю, ці Мікалай мае асьвету поўнае пачатковае школы (сямігодкі). А ў нармальным войску «генэралу» Сажычу хіба б толькі яфрэйтара далі. Але, дай жа рады, тут яны «дзеячамі» сталіся. І невядома, ці дойдзем да нейкае нармальнасьці.*

*У мяне настрой троху нягэтакі, як у цёзкі Міхала: усё мацней паўстае жаданьне, каб хоць косьці завезьці, што называецца, дадому. Нельга сказаць, што праца ў царкве моцна абцяжарвае. А што іншае цяпер пры гэтым «вэрхалу» рабіў бы? Дык нарэшце, пажадаўшы спакою ды добрага здароўя, стаўлю тоўстую кропку.*

*М. Міцкевіч*

*Каб прачытаць даклад пра Коласа, дык ахвоты няма. Першым чынам — дзеля таго, што ён мой брат, дык хваліць яго неяк ня хочацца. Ну, а ганіць, фактычна, няма за што. Паўставала часам думка прачытаць «Новую зямлю» — гэта ўсё ж найлепшы твор у нашай літаратуры. Але цяпер, у гэтым часе, таксама ахвота адпадае.*

*М.*

*27.11.1980 г.*

*Дарагі браце Міхале!*

*А на мяне кажаш — дзядзька. Бадай што — рацыя. Усё ж я маю ўжо скончаных (у ліпені сёлета) 83 гады. Бадай ці ня будзеш маладзейшы на пару дзясяткаў.*

*Пісьмо атрымаў сёньня. Выпала так, што я, ня ведаючы, што сёньня Танксгівінг Дэй*[646]*, не пайшоў пад царкву. А заняўся я там зрабіць столік для хормайстра, дый з шуфлядаю, дык гэта мне вельмі туга даецца, асабліва, што задумаў — з шуфлядкаю. Бо няма матар'ялу адпаведнага: трэба вычэсваць ці вырэзваць з чагосьці грубшага альбо навет*

[645] Маецца на ўвазе Уладыка Мікалай (Мацукевіч).
[646] *Thanksgiving Day* (анг.) — традыцыйнае амерыканскае свята.

*і купіць якую дошчачку, што няцяжка знайсьці ў адмысловых магазынах.*

*Я мусіць не пісаў пра «дзіўную» знаходку ў царкве. А знаходка такая. Пэўна, яшчэ ў памяці стол, што стаяў на левай палавіне кліру? Ён быў зашырокі, дзябёлы, а ножкі былі прывінчаны да сподняй дошкі, таксама чорнай, выразанай на падабенства да літары «Ж». Ведама, з пыласосам туды не падлезеш, і месца займаў зашмат. Дык я зрабіў стол прымітыўны, але вузейшы. Папярочныя — ці дзіркі для папярочных скрэпаў — прабіў толькі трохі ніжэй сярэдзіны ножкі. На заложаныя папярочніцы паклаў дошкі, прыбіўшы цьвікамі, і верх таксама прыбіў да верхніх ліштваў; дык ён стаіць моцна, а з пыласосам арудаваць вольна.*

*І вось, як стаў разьбіраць стары стол, дык калі глянуў на верхнюю дошку (самы стол) спадыспаду, дык пабачыў, што стол прывінчаны да чортавых патыліцаў. На ножках, а яны былі выразаны досыць шыракавата, уверсе выразаны абразіны, ну зусім як у мэфістофеля, з разяўленай зяпай і язык з закручаным угору канцом. Ну, мэфістофель і толькі. Вядома, усё памалявана начорна, а выразана па-мастацку. Аж сьцепануўся! А бадай ты згарэла! А яны ж ці раз «пасьвячаліся». Хацеў паказаць камусь: ці мітрапаліту Андрэю, ці Кендышу*[647]*, але як зайшоў у склеп, куды паскідаў усё разабранае, праз пару дзён і глянуў на тыя абразіны, дык агіднасьць агарнула. Узяў сякеру, пасчэсваў тыя абразіны ды выкінуў у сьмецьце. І падумаў: дзіва, што ў царкве ўсё няшчасьці выдараюцца. Але гэта было яшчэ перад цяперашняй калачэчай. І на табе — новая калатня!*

*Прызнацца, я больш уззлаваны на мітрапаліта Андрэя й Кендыша. Усё ж, яны завадатары, а ініцыятыва Кендыша. Гэтая лісьлівая жмінда заўсёды дзейнічала ілжою. Ён, каб даць мне работу, апрача дагляду царквы, падбіваў на пераклад Евангельля й дапаможнікі сякія-такія прысылаў. І я ўзяўся па праўдзе і працаваў пераважна ўвечары і ўночы. І за ўвесь час перапісваў кожнага Евангельля ня менш разоў па тры. Маю тэксты, апрача славянскага, у мове расейскай, ангельскай і ўкраінскай. Часта даводзілася заглядаць у тэксты ангельскія, з дапамогаю, пэўна ж, добрага слоўніка (маю Луі Сегаля — дзьве кнігі:*

---

[647] Протапрэсвітар БАПЦ Васіль Кендыш у час, ахоплены ліставаннем, ачольваў парафію Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

*ангельска-расейскі і расейска-ангельскі). Тэксты славянскія досыць сыходзяцца з тэкстамі ангельскімі, а й расейскімі, хоць жа тэксты славянскія цяжэй разьбіраць, вядома, мова была неразьвітая — да сэнсу часта дакапацца цяжка. Падзіўляесься, як цяжка пацелі й рупіліся першыя перакладчыкі ў мову славянскую; але недарэчнасьцяў не рабілі — ня то што цяперашнія нашыя перакладчыкі, пачынаючы ад Віктара Войтанкі*[648] *да цяперашніх Андрэя і Мікалая.*

*На Андрэя і Кендыша я нават злаваўся. Разоў па тры я пісаў ім, раячы і просячы, каб адклікалі забарону а. Яноўскаму*[649] *ды зрабілі спакой і таксама падзяліліся зь Мікалаем. Фактычна, задзіра большая — Андрэй, і ціхай сапай — Кендыш. Яны ж, Андрэй зь Мікалаем, праз доўгі час, відаць, не размаўлялі ані перапісваліся. І калі Андрэй пад пасланьнямі падпісваўся «Пакорны ў Богу Мітрапаліт Андрэй, пакорны ў Богу Архіяпіскап Мікалай», то пэўна не пытаўся на гэта згоды ў архіяпіскапа Мікалая. Ён поўнасьцю ігнараваў яго, і пэўна ж ігнаруе і цяпер. І мне думаецца, што гэтыя чалавечыя недаросткі-зноскі маюць прыродную зласьлівасьць — задзірлівасьць. А няшчасьце царкоўнае вялікае ўзьняло яго на гэты паважны пасад — мітрапаліта, ці сказаць — на галаву ці на чало нашае Царквы. І я ўзяўся рэдагаваць часапіс «Голас царквы» дзеля таго, каб не было кпінаў зь яго, як раней з таго «Ўздыму»*[650] *ці як часам кпліўцы называлі «Бздын»'у. Ён жа ўвесь час незадаволена асякаўся за мае папраўкі яго пісаніны. У апошнім пісьме да яго я ўспамінаў пра выпадак пры арх. Васілю, зь якога выглядае, што заняўшы высокае становішча ў царкве, некаторыя думаюць, што гэтае становішча асьвячае ўсе іхныя ўчынкі, хоць бы гэта былі звычайныя бздуры. На гэтае пісьмо не адказаў, а ўжо прайшло шмат часу.*

*Пэўна ж, адзіная рада на гэты закалот — гэта пагадненьне япіскапаў, як напісана ў апошнім Вашым пісьме. Іншае няма. А здаецца, і арх. Мікалай стаў «выходзіць зь сябе». І што*

---

[648] Святар БАПЦ Віктар Войтанка быў актыўны прыхільнік беларусізацыі багаслужбаў.

[649] **Аляксандр Яноўскі**, святар парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку. Ягоны пазнейшы перавод у Кліўленд спрычыніўся да далейшага паглыблення крызісу ў БАПЦ.

[650] Маецца на ўвазе часопіс «Уздым. Ворган беларускага актыву на выгнаньні» (Кліўленд, 1963–1966).

*гаварыць цяпер пра Сабор БАПЦ пры гэткім закалоце? Пабольшыць закалот, ці ўчыніць ліквідацыю БАПЦарквы? Бо што можа стацца на тым Саборы...*

*Але годзе! Трэба сказаць — бывайце здаровыя й прывітаньне абаім.*

*Усяго найлепшага!*

*М. Міцкевіч*

*Пра выданьне Евангельля ўжо размовы няма. І наступны нумар часапісу ня выйдзе. Вядома, на суды грошы трэба.*

*28.03.1982 г.*

*Паважаны браце Міхале!*

*Заінтрыгавала мяне крыху аправа цяперашняй БАЗЫ*[651]*. На сход я не паехаў. У царкве, усё ж, трохі клопату ёсьць і ў нядзелю, у часе багаслужбы. Дык я паехаў дадому, хоць, шчыра кажучы, я таго «дома» ня маю. Каб гдзе пры сваіх людзях дый у Нью-Ёрку прысуседзіцца, то ахвотна адыйшоў бы ад гэтай сям'і, пры якой жыву. Ну, гэта як уступ.*

*А пакуль што цікавіць мяне, як там БАЗА базуецца. Здавалася б, што для БАЗЫ, прынамся, да закапёршчыкаў тых царкоўны закалот не павінен бы моцна адбіцца на іх «дзейнасьці», якая абмяжоўваецца вось такімі «імпрэзамі», як сёньняшняя сходка. Здавалася б і тое, што кіраўнікі гэтага Аддзелу Б-ы ў Нью-Ёрку не павінны б цурацца гэткіх, як скажам, я. Аднак я вычуваю, што яны глядзяць хоць бы на мяне (а можа, асабліва на мяне) як на свайго ворага. Не зьяўляюцца ані на хвілю, каб хоць забраць карэспандэнцыю, якая не перастае прыходзіць на адрас БАЗЫ. Гэта ў сваю чаргу характарызуе іхную «дзейнасьць», якая абмяжоўваецца вытыканьнем зь цёмных куткоў носу, бадай, раз на год.*

*Ну, і як яно выглядала, тая сходка? Можа, прадстаўнікі ўраду ЗША віталі? Гэта быў бы той «плюс», які апраўдваў бы гэты сход. Думаецца, што людзей троху сабралася. А можа, чаго добрага, блюзьнерылі на царкву? Хоць жа там былі й такія людзі, пры якіх павінны б сьцерагчыся займацца блюзьнерствам.*

*Дык вось, можа, знойдзецца час піснуць, як яно там адбывалася. Пытацца пра гэта свайго пляменьніка я ня маю най-*

[651] Маецца на ўвазе БАЗА — Беларуска-амерыканскае задзіночанне.

*меншага жаданьня. Дый інфармаваць гэты самадур можа зусім некарэктна, а таму й непраўдзіва.*

*Сёньня, як кожны раз, адбывалася Служба Божая з дадаткам, які, відавочна, прыпадае на гэты дзень.*

*Можа, пад'едзеце калі, але гэта не перашкаджае й напісаць.*

*Дык, пажадаўшы ўсяго добрага Вам абаім —*

*Бывайце здаровыя й вясёлыя.*

*М. Міцкевіч*

*24.11.1982 г.*

*Паважаныя браце Міхале й Вольга!*

*А «спадар» неяк да мяне не прыстае — трохі карэжыць дый толькі. Як здароўе й як пачуваецеся?*

*Мяне ўжо часта апаноўвае нуда. Вядома ж, ужо й старасьць дзейнічае невесяло. У дадатак — вось і цяперашні царкоўны закалот. А ўся праца фізычная ў царкве вылучна на мне. Засталося ж тых прыхаджанаў не раўнуючы як кот наплакаў, ды ўсе такія, што за фізычную працу «ляніцца». Мусіць, ім здаецца — грэх? Ці, можа, думаюць — брыдка? З сваімі людзьмі я перапісваюся мала з кім. А ў хаце з сваім пляменьнікам — «самым разумным у Нью-Ёрку», як казаў той Гарошка*[652] *(стары, трэба сказаць, што аб ім у мяне найзмрочнейшыя ўспаміны). А з пляменьнікам Алесем рэдка калі перакінемся словамі. А ён думае пра сябе, што ўжо вялікі дзеяч. Дык найбольш часу — блізу што дзень — праводжу пад царквою. Трэба сказаць, ды каб ня выгаварыцца, ад суседзяў неграў дый іншых не зазнаў крыўды й няпрыемнасьцяў. А ў тым раёне, як відаць, асядае вельмі шмат прыбышоў з Паўднёвае Амэрыкі — пераважна нізкага росту, казаў той — урэзкі. Але пакуль што яны таксама не дакучаюць. Дык вось ківаюся.*

*Актывізаваўся цяпер Манькоўскі, але зь ім я ніякіх інтарэсаў ня маю; каб часам што-небудзь зрабіць (фізычнаю работаю), то ён мусіць думае, што яму не выпадае — брыдка. А япіскапу, Ізяславу*[653]*, назаляе ўсьцяж нейкімі «павучэньнямі» — і той слухае, бо што ж інакшае рабіць? — гнаць ад сябе вон не выпадае, і ў спрэчку зь ім уваходзіць таксама ня варта. А ў яго,*

[652] Маецца на ўвазе Мікола Гарошка, які разам з сынам Расціславам былі актыўнымі ў дзейнасці царквы Св. Кірылы Тураўскага.

[653] **Ізяслаў** (сапр. Іван Бруцкі) (1926–2007), архіепіскап БАПЦ.

*Манькоўскага, у часе мовы ягонае нейкая як бы гарачка ўздымаецца. Добра, што гэта так забірае яго, Манькоўскага, ня больш як раз на тыдзень. Я яго троху адпужнуў, і мяне ён ужо не парываецца павучаць і не чапае. Дык у царкве я цяпер і парабак, і гаспадар.*

*Вось крыху раздумаўшыся й разважаючы, прыходзіцца сьцьвердзіць, што прычынай гэтага царкоўнага закалоту сталася гэтая «беларусізацыя», а ня так тая «беларусізацыя», як «вуніязацыя». Як і Стась, нябожчык ужо, як рэдактар «Беларуса», і бадай усе нашыя каталікі-вуніяты цьвердзілі ўсьцяж, што царква праводзіць русіфікацыю, бо падабенства ж у Службах Божых да расейскае мовы, пэўна ж, вялікае. Наслухаўшыся гэтых папрокаў у «русіфікацыі», наш Барыс*[654] *нават стараўся неяк выкручваць канчаткі слоў, каб зрабіць непадобна да расейскае мовы.*

*Я ўжо забыўся, хто расказваў мне вось гэткі анэкдот:*

*Хтось з БССР паехаў да Сталіна прасіць субсыдыю на нейкую справу, зьвязаную з мовай. Той жа захацеў крыху пазьдзеквацца з пасланца.*

*— Белорусскій язык, белорусскій язык... — это тот же русскій язык...*

*— Дык не, таварышч Сталін, ёсьць розьніца.*

*Сталін паруxаў пасланца за нос і пытае:*

*— Как это у тебя называется?*

*— Нос, — адказвае пасланец.*

*— Это по-русскі, — кажа Сталін.*

*— Как это у тебя называется? — і дакрануўся да валасоў.*

*— Валасы, — адказвае той.*

*— Это по-русскі, — кажа Сталін.*

*— Как это у тебя называется? — і дакрануўся да барады.*

*— Барада, — адказвае той.*

*— Это по-русскі, — кажа Сталін.*

*— Как это у тебя называется? — і дакрануўся да шчакі.*

*Той задумаўся ды адказаў:*

*— Морда.*

*— Дурак! — кажа Сталін, — морда у скотіны, а у человека щека.*

---

[654] Маецца на ўвазе Барыс Данілюк.

*І яшчэ доўга пароў у часткі цела й пытаў. І ўсё сьцьвярджаў: это по-русскі. Бо ўсе часткі амаль назовы цела й ёсьць як «по-русскі». І нічога не прыходзіла ў галаву, каб было ня гэтак, як «по-русскі». Нарэшце прыйшло ў галаву дурное:*

*— Вось, таварышч Сталін, па-рускі ёсьць слова «жопа», а па-беларуску — «срака».*

*І тады Сталін у злосьці крыкнуў:*

*— Дак ты, твою мать, хочешь у адну сраку сто тысяч угнать? Убірайся дамоў.*

*Ну і хто ж вінен, і ці вінен, што нашая мова мае падабенства да расейскай бадай больш, як якая іншая мова славянскіх народаў?*

*Тым часам гэтыя нашыя вуніяты (а яны тут бадай усе каталікі) увесь час дзяўблі, што праваслаўная наша царква праводзіць русіфікацыю. Дык вось, убілася гэтая прапаганда ў галовы й праваслаўным прастафілям, і архіяпіскапу Мікалаю (трапіў жа ён у той вуніяцкі «цэнтар» у Лёндане, і вось пайшоў ён «беларусізаваць», задурваючы галовы людзям, а яны й без таго былі задураныя). А беларус жа таксама ўпарты: калі што ўб'ецца ў галаву, то ўжо цяжка яго выкурыць.*

*Дык вось, калі й як кончыцца гэты закалот, цяжка сказаць. Ёсьць жа й такія чыньнікі сярод нашай эміграцыі, якім пры спакойным жыцьці, як казалі, «безь бізуна сьвярбіць скура».*

*Мікалай будзе тлумачыцца, што ён пісаў мітрапаліту, каб пагадзіцца. А пра якое пагадненьне гаварыць? Ён павінен бы прасіцца, даючы нейкае падабенства хоць да пакаяньня, а ня ставіць нейкія ўмовы свае, якія б яны ні былі. Ці хоць запэўніць неяк, што ня будзе больш самадзейнічаць. Але ён гэтага ня хоча зрабіць, і, відаць, слухае нейкіх паджыгачоў, а іх ёсьць дастаткова. І вось цяпер трэба сказаць: лепш было б, каб не чапаліся гэтай беларусізацыі. Бо вось адзіную малітву «Ойча наш» даў да карыстаньня, усталіўшы тэкст з Адамовічам, які пасуліў слушную папраўку: замест «ад злачыннага» паставіў «ад златворнага». Гэта асабліва да сьпеву лепш. Дык Барысу яшчэ захацелася паказаць сваю важнасьць: зьмяніў «павінным прад намі» на «вінаватым перад намі», і канец зрабіў з польскага — «ад злога». Дык як з гэткімі рызыкантамі можна рабіць пераклады?*

*Трэба нарэшце кончыць.*

*Цяпер усё больш апаноўвае нуда.*

*Думкі амаль усьцяж круцяцца каля бацькаўшчыны, і ўсё часьцей устае жаданьне завезьці косьці на сваю зямлю.*

*Вам жадаю добрага здароўя і ўсяго добрага.*

*М. Міцкевіч*

*11.11.1983 г.*

*Паважаны браце Міхале!*

*Я ўсьцешыўся, атрымаўшы Вашае пісьмо, бо ўжо амаль ні ад кога пісем не атрымліваю, бо й сам нікому не пішу. Аднак гэта спрычыняецца да большае хандры. А што да заняткаў, то ў мяне іх на штодзень хапае. Дагляд Царквы й усяго будынку, як і навокал будынку, вымагае наведваньня туды штодзень — гэта цяпер мой галоўны занятак. На жаль, таварыствам не магу пахваліцца. Як вызначаны старшыня Курыла*[655]*, так і (асабліва) Манькоўскі ўяўляюць сябе начальнікамі, якія павінны кіраваць мною. Работа ж уся пры царкве і ў царкве ляжыць на мне. Манькоўскі часам наведваецца, і яму вельмі хочацца даваць мне каманду. Але я яе і ў разон не бяру. Дык ён часам і напакасьціць здольны. Вось якраз перад нядзеляю на мінулым тыдні — у канцы тыдня, як звычайна, я прыехаў у царкву. Глянуў так агульна — усё ціха й спакойна. Уваходжу ў прыбіральню мужчынскую (там жа ў кайнорчыку зь левага боку ляжаць сякія-такія прылады, як вядро, мапа*[656]*, адным словам, рэчы ўжытковыя). Але як глянуў — перад самаю ракавінаю ляжыць такая малая скрыначка з двума (ці зь дзьвюма) шрубамі й побач сталовы нож, якім, відаць, былі адкручаныя шрубы. Я сумеўся, нават троху спужаўся: няўжо злодзей быў альбо яшчэ ёсьць? Насьцярожана выходжу на залю; аглядзеў здалёк — нікога не відаць. Глянуў направа — там знача месца, дзе была адкручаная малая скарбоначка. Трохі задумаўшыся, я ўпэўнена вырашыў — гэта была работа Манькоўскага, бо ён і раней стараўся мне напакасьціць. За што? Бо я яго «каманды» ніяк не прызнаю, а яго ж вызначылі (бадай, Кендыш) да нейкага «ўраду»! Ці я да гэтага «ўраду» ўваходжу афіцыйна — гэта й цяпер ня ведаю. У нядзелю прыйшлі людзі (служыў Кендыш) і там аглядалі. А ў панядзелак я закруціў тую скарбоначку новымі (купленымі) шрубамі, а дзе падзеліся*

[655] Маецца на ўвазе Уладзімір Курыла.

[656] Маецца на ўвазе *mop* (анг.) — швабра.

*старыя, я й цяпер ня ведаю. Каму сьвярбелі рукі забраць шрубы? Думаю, што Манькоўскі ўсьпеў выхапіць. Што да самога мяне, то я й цяпер ня ведаю, ці мяне лічаць да нейкага ўраду, ці не. Але што да работы пры Царкве, то яна скінута вылучна на мяне. Сёньня (серада) я паехаў пад царкву адчыніць уваход, бо мелі прыехаць пачысьціць печ. А ў нядзелю яшчэ й чытаньне Часоў.*

*Не лічыў, колькі чалавек (і чалавечыц) прыяжджае ў нашую царкву з Н. Брансьвіку ці Саўт-Рывэру — бадай, больш за 12, але людзі лепшыя, паважнейшыя. Калі б яны жылі ў Нью-Ёрку, была б мне помач, ад сваіх — ніякае.*

*Што да Мікалая, то ён залішне «прастафіля». Ці ён сам надумаў папракаць уладыку Мсьціслава*[657]*, ці яго хто «падвучыў» — усё роўна тут «выкінуты газ», зусім недарэчны й недапушчальны, беручы пад увагу, што яшчэ сьвежая памяць пра Украінскую царкву як «Маці» нашае. Дарэчы адзначыць, што ўладыка Мсьціслаў, наколькі мне ведама з таго, што чуў пра яго, — чалавек добра сьведамы ў царкоўных справах. І неяк выглядае, што наш Мікалай і маласьведамы, і грубіла. Найгоршае тое, што ён вырваўся з паслуху мітрапаліту Андрэю, каб выконваць загады — як я кажу — «генэрал-яфрэйтара» Сажыча — гэта ж ужо не царква, а палітыка.*

*Сам я хоць жыву нібы ў сям'і, але абслугоўваю сябе сам ва ўсім, як і ў харчаваньні. Лепшыя ў мяне адносіны зь дзяўчынаю — дачкою Тэрэзы, цяперашняй жонкі пляменьніка Алеся, але ранейшай — паляка «Чорнага» — відавочна, вымаўлялася «Гурны». Цяпер дзяўчынку завуць Марыся, але прозьвішча захавала па бацьку — «Гурна». Яна мае асьвету, відаць, як бы вышэйшую й працуе пры госьпіталі.*

*Сам я, як вось і зь пісьма выглядае, яшчэ тапчуся. Памяць пачынае тупець і траціцца, жывот горш наровіцца. Бадай ці ня большую палову свайго веку ўжо браў і бяру паслабляльныя сродкі, але штораз усё горшае, а паслабляльныя сродкі пачынаюць перарабляць астаткі ежы на брудную ваду.*

*На гэты раз — годзе. Думаю, што незадоўга буду зноў пісаць. Пішыце й Вы. Прывітаньне жане Олі.*

*З пашанай*

*М. Міцкевіч.*

[657] **Мсціслаў** (сапр. Сцяпан Скрыпнык, 1898–1993), пляменнік Сцяпана Пятлюры, патрыярх УАПЦ.

*10.10.1984 г.*

*Паважаны браце Міхале!*

*Каб жылі бліжэй адзін да аднаго, то часта захацелася б параіцца ў чым-колечы. Вось ня ведаю, ці добра абмеркаваў устрымацца з пасевам травы. Былі халодныя дні, а тым часам надыходзіць і позьняя восень. І я вырашыў устрымацца з пасевам травы, адкладаю гэта на весну. Ды каб прыгатавацца лепш да засеву. Дзеля гэтага хацеў бы прысыпаць пасеяную траву гэтым нібы торфам, ня ведаю, як ён тут і завецца. Траплялася бачыць гэтае «накшталт торфу», навет і колеру чорнага, нібы торф. Пагода ўсталілася халаднаватая, а на цяпло спадзявацца не выпадае. Тым часам цяперашняя пагода неспрыяльная да прарастаньня. Калі б была якая надзея на пацяпленьне, але ж надыходзіць позьняя восень.*

*Між іншага, я баяўся, што ахвотнікі да кветак пачнуць браць зямлю з тэй ускопанай часткі пляцу пры царкве, але, каб ня выгаварыцца, як то кажуць у нас, — ніхто не панадзіўся браць. Дык і вырашыў адлажыць засеў травы на весну. Ня ведаю, ці радыё гаворыць пра пацяпленьне, а цяпер пагода неспрыяльная да пасеву травы. Дык адлажыў гэта на весну. Радыя я ня слухаў і ня слухаю, бо паважна прыглух. Можа, ад старасьці, а да таго ж ад грукату цягнікоў, якімі ежджу.*

*Што да акружэньня, у якім абарочваюся, то яно да мяне досыць абыякавае, або й варожае. Ад зьверхніка царкоўнага — перадусім — зусім несамавітае ўражаньне ад яго. Што да* в е р ы*, то ў яго не заўважаецца. Гэтак і паважаньне Царквы. Але* ў л а д а*, у дадзеным выпадку царкоўная, відаць, падабаецца першым чынам. А тэй духоўнасьці, рэлігійнасьці ня так і шмат.*

*Пра «веру» можна было б гаварыць шмат. Пэўна, не даводзілася Вам чытаць у Евангельлі словы Хрыста, якія Ён выказаў перад Сваімі Вучнямі каля Генісарэцкага возера: «*К а б  в ы  м е л і  в е р ы  х а ц я  б  з  г а р ч ы ч н а е  з е р н е,  В ы  м а г л і  б  с к а з а ц ь  г э т а й  г а р ы:  «П а д ы м і с я  й  к і н ь с я  ў  м о р а» —  і  г э т а  с т а л а с я  б*». Там, каля Генісарэцкага возера, якое тады, відавочна, звалі морам, была гара; здаецца, і назоў мела... Над гэтым я задумаўся добра. Відавочна, вера чалавечая ж ня тое, што вера Божая. Бо каб Бог даў чалавеку гэткую самую, як і Божая, веру, то знайшліся б і без бальшавізму шмат ахвотнікаў барукацца з Богам... Ну, кончу.*

*Сам я, пэўна, еду ўніз. Адпрошваўся, каб архіяпіскап Бруцкі звольніў ужо мяне ад работы й дагляду ў царкве. Але ён у «рэзон» не прымае. Відочна ніхто не паслухае яго назначэньня. Вось ня ведаю, дзе Манькоўскі: ці лечыцца, ці жыве пры Бруцкім, але яго баіцца патурбаваць. А я ўжо 88-мы год жыву, і штораз чуюся горш, слабей. Але нікому іншаму галава ад гэтага не баліць…*

*Жадаю добрага здароўя і ўсяго добрага — Вам і жане.*

*М. М.*

*А да ўсяго кепскага: за малым «маленькім» не пакалечыўся, або й не забіўся, пералазячы з тылу царкоўнага пляцу на пляц, дзе аўтамабілі стаяць, бо выйшаў з царквы тыльным ходам (з жаночага выходку) і зачыніў за сабою дзьверы. А знадворку яны ж не адмыкаюцца. Дык мусіў навокала абысьці на Атлянтык Аве. Дык вось, пералазячы цераз сякую-такую загародку на пляц, дзе аўтамабілі ставяць, наступіў на вялікі камень, а ён зрушыўся набок і неяк струдзіў левую нагу — яшчэ пабольвае ў хадзе, хоць і асьцярожнай.*

*Дык у мяне справы паганыя — гэтага Вам не жадаю.*

*Бывайце здаровыя!*

*М. М.*

*Перапрашаю — зрабіў памылку: падкалечыў правую, а ня левую ногу — але павінна загаіцца — хаджу амаль не кульгаючы.*

*22.10.1984 г.*

*Паважаны браце Міхале!*

*Я ўсё чакаў, як кажуць, з мора пагоды. А таксама досыць доўга зьбіраўся напісаць Вам. Было досыць суха, і я травы ня сеяў. І хоць цяпер пацяплела й павільгатнела, аднак пагода зьменлівая, вільгаці мала, а тым часам надыходзяць жа й халады. Дык я адкладаў з пасевам, а цяпер думаю — і гэтак, пэўна, зраблю: адлажу засеў травы на весну.*

*Што да царкоўнай справы, дык мяне й трохі й мучыць. Некалькі разоў гаварыў Бруцкаму — назваць яго япіскапам, а тым болей архіяпіскапам — неяк мяне гэта трасе, асабліва яго адносіны да мяне. Ужо ня раз гаварыў і прасіў яго, каб паставіў каго на маё месца даглядаць царкву — пускае гэта*

*міма вушэй. За ўвесь час яго япіскапства я ні разу ня бачыў яго, ані Манькоўскага ў звычайны будны дзень у царкве. Успомніў пра Манькоўскага, бо яны дружаць, асабліва цясьнейшая іх дружба, каб ціснуць мяне. Вось ня ведаю, ці жывуць яны на розных кватэрах цяпер ці, можа, разам?*

*Тым часам мне ўжо пад 90 бярэцца. Народжаны ў 1897 годзе. У мяне ўжо сілы трацяцца, і глухата павялічваецца. А яму, Бруцкаму, кажы — усё роўна што сьценцы ці, дакладней, пню.*

*Шчыра кажучы, заўважаецца, што ў яго ніякага падабенства веры не відаць, не чуваць. Хамаваты грубіян — і толькі. Як відаць, прыйдзецца пакінуць работу пры царкве, ня лічачыся з такім «зьверхніцтвам». Ведама, сілы й слых упадаюць. І як кажуць, хоць сеўшы, плач.*

*Як ужо ўспамінаў, з часам сілы й слых упадаюць — гэта таксама «прыемнасьці» не спраўляе. Дарэчы яшчэ адцеміць, што за маю работу ў царкве нічога ня плацяць; а часам, купляючы сёе-тое патрэбнае пры даглядзе царквы, плачу сваімі грашыма. Пэнсію амэрыканскі ўрад выплочвае — і прасіць ня трэба. Мая пэнсія 400 даляраў, каб гаварыць акругляючы, бо крышку менш, штось на 2–3 даляры.*

*Ну, і кончу на гэтым.*

*Прывітаньне жане — ці прасьцей кажучы — абаім Вам.*

*Бывайце здаровыя!*

*М. Міцкевіч*

## ВЕНЕСУЭЛЬСКІ КАРЭСПАНДЭНТ ЮРКІ ВІЦЬБІЧА[658]

*На плошчы — помнікі і абеліскі*
*вялікім свету й богу Сонца-міту.*
*Схіляюся, паклон усім шлю нізкі —*
*халоднай бронзе, мармуру й граніту.*

*А ў думках паўстае маіх: каторы*
*з іх край вось гэты мілаваў бясконца?*
*І вецер з гор данёс: «Канкістадоры,*
*прыкрыўшыся сцягамі бога Сонца,*

*не мелі ў сэрцы любасці. На балі*
*агню й мячоў паклалі ў дамавіны*
*усё, што мы цаной крыві прыдбалі,*
*пакінуўшы гранітныя ўспаміны…»*

*Уладзімір Дудзіцкі*

Юрка Віцьбіч быў адным з лічаных, да каго пісаў з Венесуэлы Уладзімір Дудзіцкі; ён стаўся для паэта і сябрам, і спавядальнікам, і крыніцаю навінаў, і своеасаблівым літагентам, і нават менеджарам — менавіта ён, разам з Вітаўтам Тумашам, хадаўся аб прызначэнні Дудзіцкага на працу ў радыё «Вызваленне» («Свабода»). Тыя лісты — і адзіная інфармацыя пра жыццё паэта ў Каракасе, і адна з нешматлікіх — пра побыт беларусаў у гэтай паўднёваамерыканскай краіне.

[658] Тэкст упершыню друкаваўся ў: Запісы БІНІМ. № 31. Нью-Ёрк — Менск, 2008. С. 284–292. Тут друкуецца з карэктаванымі каментарыямі.

Калі ж ліставанне раптоўна перарвалася, Юрка Віцьбіч кінуўся шукаць хоць які след паэтавы. І знайшоў:

*«Пераходжу да іншае свае навіны. Ужо ладны час як я шукаю праз знаёмых беларусаў у Вэнэсуэле Ўладзімера Дудзіцкага. Нарэшце тыдзень таму атрымаў ад аднаго з гэтых беларусаў даволі сумныя весткі. Прыехаўшы ў Вэнэсуэлу, Дудзіцкі перш за ўсё, як між іншым і ўсюды раней, пачаў шукаць прыгожых жанчын. Адна з гэтых жанчынаў — Паўліна Хвёдараўна, што паходзіла з старое расейскае эміграцыі, сталася ягонай жонкай. Яна як вэнэсуэльская грамадзянка знайшла для Дудзіцкага адмысловую працу ў адным з інстытутаў Каракаса. Праз колькі год Дудзіцкаму спадабалася іншая прыгожая жанчына — жонка старэйшага ад яе на 15 год расейца й матка трох дзяцей. Дудзіцкі спакінуў Паўліну Хвёдараўну, а «іншая прыгожая жанчына» — свайго мужа, забраўшы з сабой дзяцей. Ейны муж, што згубіў усю сям'ю — і жонку, і дзяцей, — канчае самагубствам — пераразае артэрыі. У сваю чаргу Паўліна Хвёдараўна, абураная паводзінамі Дудзіцкага, робіць гэтак, што той ня толькі губляе сваю пасаду ў Інстытуце, але вымушаны спакінуць Каракас. Сёньня Дудзіцкі мае сям'ю з трыма дзецьмі й выпадковую (ня сталую) працу. Мне*



*Уладзімір Дудзіцкі ў Каракасе (Венесуэла). 1949. На адвароце здымку надпіс: «Юрку Віцьбічу на ўспамін зь Венэцуэлы (Паганая, але няхай будзе — творчасьць суродзіча) Уладзімір Дудзіцкі»*

*асабліва яго ад усяе душы шкада. Ён па сваёй натуры добры чалавек і таленавіты паэта»*[659].

Знайсці знёмых у Венесуэле было, відаць, не надта складанаю справаю. Аўген Каханоўскі, абапіраючыся на звесткі ўрада БНР (на 01.05.1949), сцвярджаў, што ў Венесуэлу па вайне прыехалі каля 150 беларусаў, усе свядомыя, адно што дзеля сваёй расцярушанасці па краіне не здолелі заснаваць уласную арганізацыю[660].

Расійскі гісторык В. Зямскоў на падставе дакументаў органаў рэпатрыяцыі з збораў Цэнтральнага дзяржаўнага архіву кастрычніцкай рэвалюцыі называе іншую лічбу — 34 чалавекі (стан на 01.01.1952)[661]. Параўноўваючы з пададзенымі ім лічбамі пражывання беларусаў у іншых краінах, можна сцвярджаць, што яны відавочна заніжаныя — калі не самім даследчыкам, дык прадстаўнікамі органаў рэпатрыяцыі[662].

Меў рацыю Аўген Каханоўскі, калі пісаў пра нацыянальную свядомасць эмігрантаў улучна з іхнай расцярушанасцю: у Венесуэлу дасылалася 9 асобнікаў газеты «Бацькаўшчына», але — індывідуальна; кальпартэраў у гэтай краіне не было[663].

Новыя эмігранты прыехалі ў Венесуэлу ў вірлівы час. У 1947 г. была прынятая новая Канстытуцыя краіны, і першым прэзідэнтам, абраным паводле яе, стаўся знаны празаік, паэта, асветнік Ромула Гальегас (*Rómulo Gallegos*). У сярэдзіне лютага ўрад абвясціў, што запрашае да сябе на працу з Еўропы

659 Юрэвіч, Лявон. Архіўная кніга. Нью-Ёрк: БІНІМ. 1999. С. 20–21.

660 Каханоўскі, Аўген. Фактычныя дадзеныя аб стане беларускае эміграцыі // Запісы БІНІМ. № 28. Нью-Ёрк — Менск, 2005. С. 276.

661 Земсков, В. Рождение «второй эмиграции» 1944–1952 // Социологические исследования. Москва, 1991. № 4. С. 3–24.

662 Параўнай іншыя лічбы, пададзеныя В. Зямсковым: агулам па Нямеччыне і Аўстрыі — 1254 беларусы; Англія — 4986; Аўстралія — 1062; Канада — 1; ЗША — 101; Швецыя — 100; Францыя — 126; Бельгія — 135; Аргентына — 22; Бразілія — 2; Галандыя — 15; Нарвегія — 57; Турцыя — 47; Югаславія — 22; Швейцарыя — 1; Іспанія — 10; Чылі — 2; іншыя краіны — 1880. Усяго разам — 9856 чалавек.

663 Юрэвіч, Лявон. Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў «Бацькаўшчына» і «Беларус» (1947–2000). Мінск: Беларускі кнігазбор, 2006. С. 55.

20 000 эмігрантаў. Дэкларавалася, што яны атрымаюць права набываць зямлю, ім будуць вылучаныя тэхніка, банкаўскія пазыкі. Толькі ўжо 24 лістапада 1948 г. урад Гальегаса быў скінуты вайскоўцамі; прыход да ўлады вайсковай дыктатуры — хунты — не мог не адбіцца і на стаўленні да новапрыбылых, хоць па-ранейшаму краіна была зацікаўленыя ў спецыялістах.

Газета «Бацькаўшчына» паведамляла: *«Цяпер дазволена набіраць галоваў сем'яў у веку да 60 год, а самотных — у веку да 40 год. На працу бяруць муляроў, сталяроў, кавалёў, вальцавальнікаў, электрыкаў, мэханікаў, краўцоў, майстроў, хатніх работнікаў, агароднікаў, шофэраў, інжынэраў, фармэраў і інш.»*[664].

Праўда, не ўсё абяцанае спраўджвалася: *«У хуткім часе прадбачыцца новы набор эмігрантаў з Эўропы ў Вэнэсуэлу, пераважна земляробаў з заключэньнем кантрактаў на 2 гады. Я як беларус хачу падзяліцца сваімі ўражаньнямі із сваімі суродзічамі, што хочуць як хутчэй выэміграваць із Эўропы за акіян і даць некаторыя парады, а галоўнае апісаць, што новага ў Вэнэсуэлы. Дык вось. Стары парадак разьмяшчэньня эмігрантаў, асабліва тых, каторыя выехалі на земляробства, быў незадавальняючы. Першае: людзі не атрымалі тых крэдытаў і інвэнтару, якія абяцалі даць калёністам. Другое: дзе й атрымалі інвэнтар і невялікія крэдыты, асабліва вялікія калёніі, то зямлю, імі выкарчаваную, калёністам не давалі, а зямля й далей лічылася дзяржаўнай, а таксама і ўраджай. З гэтае прычыны шмат якія калёністы пакінулі зямлю й пайшлі ў горад шукаць працу зь якім хто здолеў фахам. Вельмі багата эмігрантаў адкрылі свае майстэрні: кравецкія, шавецкія, сталярні, рэстараны. Я раю ўсім, хто едзе на эміграцыю, набываць фах, бо фахоўцам у Вэнэсуэле добра. Усім спэцыялістам — мэханікам, шафэрам, сталярам, плотнікам і г. д. добра. Я працую сталяром, за 8 гадзін атрымліваю 15 буліvараў, выдаткоўваю на харчаваньне з сям'ёй 3 асобы — 3–5 булівараў дзённа, за кватэру плачу 50 булівараў на месяц, а рэшта застаецца на адзежу. Добры гарнітур каштуе ад 50*

[664] Бацькаўшчына. № 15 (59). 18 жніўня 1949. С. 3.

*да 150 буліравараў, а рабочы — ад 10 да 30 буліварадў*[665]*. Купіць ёсьць усё, што хочаш і колькі хочаш»*[666].

Занепакоены стратаю працаўнікоў, у першую чаргу, земляробаў, урад на пачатку 1950 г., падчас візіту Бернхарда (*Bernhard*), прынца Нідэрландскага, які прыляцеў дамаўляцца адносна эміграцыі з Даніі, абвясціў, што гатовы прыняць яшчэ 2000 эмігрантаў з Еўропы, паабяцаўшы ім забеспячэнне зямлёю і тэхнікаю. Асаблівая ўвага надавалася механікам і інжынерам.

Агулам беручы, за час дыктатуры Маркаса Перэса Хіменэса (*Marcos Pérez Jiménez*) (1948–1958) у краіну ўехала больш за мільён чалавек. Натуральна, пераважная большасць навапрыбылых была не з Еўропы: з Калумбіі, Чылі, Уругвая, Аргентыны ці Кубы.

Знаходзілі сваё месца ў новай краіне і беларусы. Пра жыццё Уладзіміра Дудзіцкага ў Венесуэле троху вядома са згаданых вышэй ягоных лістоў да Юркі Віцьбіча: праца ў *Instituto Nacional de Abras Sanitarias*, а пазней дырэктарства ў Эксперыментальным цэнтры сельскагаспадарчых культураў; публікацыі ў мясцовых іспанамоўных часопісах, час на творчасць ды жаданне пісаць[667].

Уладзімір Дудзіцкі стварыў у сярэдзіне 1949 г. і першую, а мо і адзіную, тамтэйшую беларускую арганізацыю — Аб'яднанне беларусаў у Венесуэле (АБВ). У пратаколе чытаем прозвішчы сяброў АБВ: Пятрусь Гуткоўскі, Мікола Луфераў, Тацяна Луферава, Уладзімір Хмель, Юліян Стасіловіч, Таіса Стасіловіч, Іван Катовіч, Кастусь Кішко, Мікола Лашук, Павел Агалец, Ганна Агалец, Павел Агалец-малодшы, Іван Ёлуп, Анатоль Грыгор'еў.

---

[665] На той час чорнарабочы атрымліваў 8–12 баліварадў на дзень (1 даляр адпавядаў прыкладна 3 балівапам і 35 санцімам), кіроўцы, механікі, тэхнікі — 20–30, заработная плата тапографа — 26–35, простага ўрадоўца — 15–20, інжынера — 30–50. Кошты наступныя: белы хлеб (чорнага не было) — 1 балівар, кілаграм мяса — 3–6, кілаграм цукру — 1. Мужчынскія чаравікі — 20–50, мужчынскі гарнітур — 150–300, рабочы гарнітур — 35–60. Залаты гадзіннік — 100–400, залаты пярсцёнак — 12–70. Бутэлька піва — 1 балівар, каньяку — 7–35. Пакой без мэблі каштаваў 80–100, з мэбляю — 200–250.

[666] Бацькаўшчына. № 15 (59). 18.08.1949. С. 3.

[667] Юрэвіч, Лявон. Архіўная кніга… С. 15–24.

Няма ў гэтым спісе імя Пётры Каралевіча; зрэшты, жыў ён з сям'ёю не ў сталіцы Венесуэлы Каракасе, дзе абываліся сходы беларусаў, а ў Пуэрта-Кабальё. Там яго і знайшоў Юрка Віцьбіч.

### Лісты Пётры Каралевіча

*08.05.1954 г.*

*Добры дзень, глыбокапаважаны Спадар Стукаліч! З прывітаньнем да Вас і таксама да Вашае сям'і Каралевіч, а таксама і ўся мая сям'я. Мы паведамляем Вас аб тым, што мы ўсе жывы й здаровы, але толькі дзякаваць Богу за тое, што мы людзі з Усходу, моцнай фізычнай расы. Хоць мы тут трацім больш грошай на мэдыкамэнты, як на яду.*

*Тут шмат людзей з нашых новых эмігрантаў, якія згубілі розум, памерлі ад удару сонца. Каб Вы ведалі, як мы адчуваем сябе тады, калі мы бачым зіму хоць на экране. Нам так хочацца пабачыць крышку сьнегу, як таму, які паміраае без вады й паветра. Але ж нічога, хоць і горача. Але трэба жыць там, куды нас Бог накіраваў.*

*Мы тут не працуем фізычна, пагэтаму й жывём крышку больш. Мы гандлюем у нашым уласным рэстаране, маем сваю легкавую машыну «додж». Я меў свой гараж у Каракасе, але прадаў толькі за тое, што жонка не хацела, каб я жыў адзін у Каракасе. Мы ўсе хацелі выехаць у Амэрыку й маем нумар квоты 226 яшчэ з 1951 году. Але адгэтуль ня хочуць браць і невядома пачаму. Нас хацелі забраць у Канаду нашыя добрыя знаёмыя, але пакуль мы знайшлі адных другіх і сталі рыхтаваць паперы, але вось новы закон выйшаў другі год таму назад. Вось ён нас затрымаў тут у гарачым пекле, бо ён быў прыдуманы раней, чым былі гатовыя нашыя паперы.*

*Спадар Стукаліч, мы просім Вас даравацць і не злаваць на нас за тое, што мы не адказалі на Ваш ліст. У нас была здарылася бяда. Бяда гэта такая, я быў згубіў Ваш адрас, але не згубіў, толькі захаваў так, што мы не маглі знайсьці. Я ўжо хацеў Вас шукаць праз газэту, але нашая Таня неяк раз пачала рабіць чыстку ў нашых эўрапейскіх рэчах, і вось толькі яна знайшла Ваш канвэрт.*

*Сп. Стукаліч, я вельмі Вам удзячны за тое, што Вы нас паведамілі пра ўсе навіны, якія адбыліся ў жыцьці нашага*

*быўшага лягеру*[668]*, а таксама што Вы паведамілі пра сябе й Вашую сям'ю.*

*А цяпер пра сябе. Мы працуем у сваім рэстаране, гандлюем. Пятро ў гэтым годзе павінен скончыць пачатковую школу, а Таня — праз год. Пятру ўжо скончылася 09.11.1953 — 15 гадоў, а Тані 19.04.1953 — 12 гадоў. Дзеці нашыя ўжо вялікія, маем жаніха й нявесту. Хочуць выехаць адсюль у Амэрыку альбо Канаду, але вось судзьба нашая такая.*

*А цяпер пра Дудзіцкага. Дудзіцкі раней працаваў у Міністэрстве, якое будуе дарогі, пляцы, сады й гэтак далей. Ён працаваў у якасьці садоўніка й атрымліваў досыць добра. Але тады калі ён кінуў сваю жонку й стаў жыць з другой, то тая старая зрабіла, што ён згубіў сваю работу, а цяпер ён езьдзіць па Вэнэсуэле й працуе дзе што знойдзецца. Ён адабраў жонку ў аднаго старога эмігранта, які быў старэйшы за яе, і вось той стары эмігрант пасьля гэтага ўсяго скончыў жыцьцё, ён перарэзаў сабе вены й скончыў жыцьцё. Дудзіцкі ўзяў сабе другую жонку з чужымі дзецьмі.*

*Старая ягоная жонка цяпер жывець так, як ёй падабаецца. Яна цяпер блізка ад нас у горадзе Валэнсія, яна цяпер жывець з кім хоча. З чорнымі й белымі. Словам, ён згубіў жыцьцё яе й сваё, яшчэ нават чалавека накіраваў на той сьвет.*

*Сп. Стукаліч, я вельмі прашу Вас, калі Вы ведаеце штонебудзь пра сп. Фёдарава, калі ласка, чыркніце пара слоў або дашліце ягоны адрас.*

*Даруйце, на гэтым я заканчваю свой ліст і прашу Вас перадаць маё паздроўленьне ўсім нашым Беларусам, акрамя крывічоў. Калі Вы, можа, маеце выпадкова адрасы ад нашых міхельсдорфцаў з другіх зямель, то я б Вас вельмі-вельмі прасіў даць іх мне.*

*Аставайцеся ўсе жывы й здаровы, чаго й Вам, і жонцы Вашай жадаем. Вялікі прывет і нізенькі паклон Бабушцы*[669] *ад Тані й Пеці й Дусі. Калі атрымаем адказ, то вышлем Вам нашае фота.*

*Бывайце здаровы й не абіжайцеся на нас.*

*Чакаем.*

*П. Каралевіч.*

---

[668] Маецца на ўвазе лагер Міхельсдорф.

[669] Маецца на ўвазе маці Юркі Віцьбіча Еўдакія Стукаліч.

*06.07.1954 г.*

*Добры дзень, глыбокапаважаны Спадар Стукаліч.*

*Мы паведамляем Вам, што ліст Ваш мы атрымалі й вельмі Вам удзячны. Сп. Стукаліч і Вашая сям’я, мы вельмі просім Вас не злаваць на нас за тое, што мы не адказалі на Ваш ліст і не павіншавалі ні з Новым Годам, ні зь Вялікднем.*

*У мяне была здарылася бяда ў зьвязку з здароўем. У скорым часе, як я напісаў да Вас мой ліст, мая дачка Таня задумала паехаць на мора купацца. Дзень быў пахмурны. Я як чуў гэтую бяду й я ня ехаў, але яна з маткаю прымусілі павезьці іх на мора. Калі мы прыехалі, Таня пашла ў ваду, і я баяўся пусьціць яе адну. Пайшоў і я, і вось пасьля гэтага назаўтра я захварэў. У мяне было адабрала правы бок, руку й нагу, і вушы. Вось я думаў, што мне будзе ўжо і ўсё. Але хоць мне гэта каштавала досыць дарага, але, слава Богу, мне стала шмат лепей. Я ўжо пачаў добра чуць на вушы й пачаў хадзіць таксама, толькі яшчэ не саўсім добра з рукамі, але дохтар кажа, што таксама будзе скора ў парадку.*

*Спадар Стукаліч, я, напэўна, паборамы праз Бога, гэта што ён накіраваў мяне ў Вэнэсуэлу, у тутэйшае пекла. Тут для нашых людзей ня места. У нас на Порце (Пуэрта-Кабальлё. —* ***Л. Ю.****) знаў два выпадкі. У Беларуса Новіка жонка зышла з розуму. У аднаго паляка жонку разьбіў палярыч. Гэты поляк меў паперы ў Канаду, і праз гэта ім можна было паехаць.*

*Я пісаў у Каракас да Консула амэрыканскага й пытаўся наконт маёй справы. То ён мне адказаў чакаць на квоту, але калі яно будзе, невядома.*

*Спадар Стукаліч, я вышлю Вам гэту паперу, што ён мне даў адказ на мой запыт. Вы яе прачытайце і ў другім лісьце вышліце мне назад.*

*Сп. Стукаліч, калі гэта Вам будзе можна даведацца адрас галоўнага эміграцыйнага аддзелу ў Амэрыцы, то, калі ласка, вышліце яго мне. Я думаю проста адгэтуль пісаць і прасіць выезду з нашага пекла. Сп. Стукаліч, паінцерасуйцеся, што яны пішуць у гэтай паперы.*

*Бывайце здаровы й ня злуйце на нас, бо кромі мяне няма каму напісаць да Вас, бо дзеці нашыя забылі пісаць. Яны пішуць толькі па-гішпанску. Жонка забіта працай у сваім рэстаране. Пагэтаму я й прашу Вас не злаваць на мяне.*

*Найніжэйшы паклон Вашай маці, а такжа й жонцы ад нас усіх. Вялікае й вялікае прывітаньне ад жонкі Бабушцы й*

*цёці ад Пеці. Таксама нашую фатакартку мы вышлем у другім лісьце. Нам вельмі хочацца ўбачыцца з Вамі й з усімі нашымі землякамі.*

*На гэтым я канчаю. Пішыце. Жадаем добрага й крэпкага здароўя ўсім вам.*

*П. Каралевіч.*

*25.07.1954 г.*

*Добры дзень, глыбокапаважаны сп. Стукаліч!*

*А таксама і ўся Вашая сям'я, жонка й Вашая маці.*

*Я паведамляю Вас аб тым, што я быў атрымаў Ваш апошні ліст, і за гэта Вам вельмі ўдзячны.*

*Сп. Стукаліч, даруйце мне за тое, што я адпісаў на Ваш ліст так позна. Гэта было сталася з таго, што я быў добра хваравіты праз купаньне на моры.*

*Сп. Стукаліч, я вельмі прашу Вас прабачыць мне за гэта, што я Вас турбую. Але я ведаю Вас вельмі добра й вось пагэтаму я й хочу запытаць у Вас пра газэту «Беларускае слова». Што гэта за газэта й хто яе выпушчае й з чыіх рук яна выходзіць. Каб Вы ведалі, як я быў рад і задаволены, калі мая Таня прынесла гэты пакунак. Я думаў, што гэта ад Вас альбо ад нашых сьвятароў. Але мне вельмі стала дзіўна, што гэты пакунак быў накіраваны па адрасу 51-га году. І вось гэта вельмі зьдзівіла мяне.*

*А цяпер пра сябе. Хочу паведаміць Вас аб тым, што мой сын скончыў пачатковую школу й хоча паступіць у гімназію, а Таня скончыла 5 клясаў і рыхтуецца да наступнага году. Я хочу паведаміць Вас, што патроху пачынаюць даваць візы для нашых людзей на выезд у Злучаныя Штаты, але пераважна едуць тыя, што знаюць там добрых знаёмых альбо родных, хто мае візы. То гэта вельмі добра й лёгка выехаць.*

*У нас тут ёсьць такія, што добра жылі й былі добрыя сябры ў Нямеччыне, якія папалі ў Злучаныя Штаты, і яны цяпер дастаюць візы ад сваіх сяброў. А таксама й эвангелісты й др.*

*На гэтым я канчаю, але прашу Вас, напішыце мне пра гэту газэту, можна яе выпісваць ці не.*

*Калі Вы будзеце бачыць сп. Ігнатовіча*[670]*, Кіпеля альбо Прэзыдэнта Астроўскага, то прашу, перадайце мае прывітаньні.*

[670] Верагодна, маецца на ўвазе **Міхаіл Ігнатовіч.** Нарадзіўся ў сям'і святара з Глыбокага. Вучыўся ў Празе. У паваеннай Нямеччыне — камендант

*Дайце адрас сп. Кійко. Калі б гэта Вы маглі зрабіць, то, калі ласка, прашу адрас любога Дашковіча. Ці Беларуская царква мае свой адрас, калі мае, то вышліце нам.*

*Бывайце здаровы. Жывіце шчасьліва. Прывітаньні Вашай супрузе й маці і ўсім знаёмым, акрамя крывічоў.*

*Да спатканьня. Чакаем адказу.*

*Пётр Каралевіч.*

У лютым 1955 г. Юрка Віцьбіч у лісце да Антона Адамовіча пісаў: *«Адшукаўся сьлед Тарасаў. Нарэшце атрымаў ліст ад Дудзіцкага. Ачольвае нейкі дзяржаўны навукова-дасьледчы інстытут, у чым няма падставы сумнявацца, бо ўсё гэтае разам з тытулам — прафэсар — пададзена на канвэрце. Увогуле зноў трапіў на каня й, дай Божа, каб новая Елена Прыгожая яго ня выбіла зь сядла. На мой асабісты погляд, ён — найлепшы з нашых паэтаў на чужыне»*[671].

Да чарговага знікнення паэты, тым разам — назаўсёды, заставалася больш за 20 гадоў. Але гэта ўжо іншая гісторыя.

беларускага лагера ў Міхельсдорфе. У ЗША пераехаў у 1948 г., быў адным з заснавальнікаў ЗБАДК. Жыў у Пасейку. Разам з беларусам Вішнеўскім заснаваў фабрыку па вырабе вокнаў.

[671] Ліст Юркі Віцьбіча да Антона Адамовіча ад 02.02.1955 г. Захоўваецца ў архіве Фундацыі Пётры Крэчэўскага.

# ШВЕДСКАЕ ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСА[672]

*Most lives vanish. A person dies, and little by little all traces of that life disappear. An inventor survives in his inventions, an architect survives in his buildings, but most people leave behind no monuments or lasting achievements: a shelf of photograph albums, a fifth-grade report card, a bowling trophy, an ashtray filched from a Florida hotel room on the final morning of some dimly remembered vacation. A few objects, a few documents, and a smattering of impressions made on other people. Those people invariably tell stories about the dead person, but more often than not dates are scrambled, facts are left out, and the truth becomes increasingly distorted, and when those people die in their turn, most of the stories vanish with them.*

*Paul Auster. Brooklyn Follies*

Пачынаючы з 1945 г. Швецыя моцна змяніла свае законы ў галіне міграцыйнай палітыкі: да 1930-х з краіны выязджала значна больш, чым туды прыязджала, але ад пачатку 1945 г. іміграцыя, як і ў іншых краінах, якія згадзіліся даць прытулак уцекачам, зрабілася галоўнаю крыніцаю новай працоўнай сілы. Найбольш іміграваала жыхароў Фінляндыі, Даніі, Нарвегіі, Усходняй Нямеччыны, Аўстрыі, Італіі, Югаславіі, Грэцыі ды Турцыі. Урад у супрацы з *LO* (шведская прафсаюзная канфедэрацыя) пастанавіў, што працаўнікі з замежжа мусяць мець

[672] Тэкст упершыню друкаваўся ў: Запісы БІНІМ. № 31. Нью-Ёрк — Менск, 2008. С. 293–296.

тыя самыя выгоды, правы і заробкі, што і мясцовыя, уключна з дапамогаю беспрацоўным. Што праўда, у Швецыі не было адмысловай арганізацыі, якая б займалася новапрыбылымі; гэта было іхнаю асабістаю справаю.

Імігравалі ў паваенную Швецыю і беларусы, якія з часам стварылі сваю арганізацыю — «Vitryska-Societet i Skandinavien Беларуская Грамада»: 12 ліпеня 1948 г. яе зарганізавала беларуская палітычная эміграцыя ў Швецыі, Нарвегіі і Даніі і назвала «Беларускай грамадой у Скандынавіі».

А 19 лютага 1949 г. суполкі беларускай, эстонскай, латышскай, літоўскай, польскай, украінскай, чэшскай, славацкай ды ўкраінскай эміграцыяў заснавалі ў Швецыі *«абаронны дзяржаўны блёк»* — «Усходняя і Цэнтральная Еўрапейская Вунія».

У фокус амаль кожнага даследчыка эміграцыі перш-наперш трапляюць гісторыі арганізацыяў, вызначальныя падзеі, лёсы грамадскіх дзеячаў, — усё тое, з чаго складаецца палітычнае і культурнае жыццё дыяспары. Побыт, асабліва ў такіх экзатычных краінах, як Швецыя, — экзатычных, зразумела, з боку гледжання нашых ведаў пра беларускае жыццё там — застаецца малавядомы. Таму кожнае сведчанне падобнага жыцця, кожная дэталь ёсць важнымі.

Ніжэй падаецца ліст, дасланы з невялічкага гарадка Бодафорс у паўднёвай Швецыі, згубленага сярод лясоў і азёраў.

Арыгінал ліста захоўваецца ў архіве БІНіМа. На жаль, праз адсутнасць капэрты тым часам невядомае прозвішча карэспандэнта.

*Bodafors, дня 24.7.1950.*

*Дарагі Аляксей!*

*Ты сабе не ўяўляеш, як мы ўсьцешыліся, калі атрымалі Твой ліст. Мы наагул ніколі не спадзяваліся, што Цябе зноў знойдзем, бо пасьля вайны нас параскідала па ўсім сьвеце.*

*Пачну з таго, як мы з Табой разлучыліся ў Бэрліне. Як Табе вядома, у марцы 45-га году мы пераехалі ў Гамбург. Вайна там скончылася вельмі спакойна, гэта значыць, што Гамбург быў перададзены ў рукі ангельцаў бяз бою. Нашае начальства забясьпечыла нас дастатковаю колькасьцю грошай, кажны атрымаў каля двух тысяч. Таксама было сказана, што кажды цяпер мае рабіць што хоча. Мы з Зояй спачатку жылі ў*

*бараках, а пасьля перайшлі да гатэлю. Пажылі там з пару тыдняў і зрабілі сына. Працы ніякай не было, і таму я, Дзядзька, Яфімавіч і Андрый гулялі штодня ў парку ў карты, зьбіралі акуркі, бегалі ў пошуках ежы й вучылі ангельскую мову. Нарэшце стрэльнула ў галаву перайсьці ў лягер для auslendarau*[673], *дзе давалі добрую ежу. Я забраў з сабою той стары радыёапарат, што ў нас быў, і дзякуючы гэтаму апарату, якога ўсе хацелі слухаць, займеў сабе знаёмствы, а дзякуючы знаёмствам атрымаў у лягеры асобны пакой, ежы хоць задавіся, амэрыканскія пачкі й табаку. У тым самым годзе ў чэрвені прыехалі швэдзкія прадстаўнікі ў лягер і запрасілі жадаючых ехаць у Швэцыю. Мы з Зояй запісаліся й выехалі ў Швэцыю. Сягоньня, гэта значыць 24 ліпеня, а 10-й гадзіне раніцы скончылася якраз 5 гадоў ад нашага прыезду ў Швэцыю. Што такое прыехаць у Швэцыю, апісаць нялёгка. У кароткіх словах гэта тое самае, як прыехаць на Марс. Швэцыя вайны ня ведала ўжо дзьвесьце гадоў, аб недахопах толькі чулі й не ўяўляюць сабе, як гэта можа быць, каб ня выпіць а 11-й гадзіне кавы ці а першай гадзіне ня зьесьці абеду. Каб штосьці тут падобнае здарылася, дык швэды падумалі б, што прыйшоў канец сьвету. Што нас спачатку зьдзівіла, дык гэта салодкая ежа. Хлеб, напрыклад, пякуць з цукрам, а як сказалі ім, што ў нас пякуць з сольлю, дык ня вераць. Усе ежы робяць з цукрам, нават сялёдку робяць з разынкамі. Наагул, паміж імі й намі такая розьніца, што нават цяпер, пасьля пяці гадоў, я ўсё яшчэ не магу прывыкнуць да іх.*

*Дык вось, як мы прыехалі, дык нас восем месяцаў трымалі, як бы на курорце, гэта значыць, нічога не рабілі, і нарэшце дайшло да таго, што чалавек узяў бы абы-якую працу, каб толькі мець нейкі занятак. Гэткім чынам я зрабіўся столярам і ў гэтым фаху працую да сёньняшняга дня. За гэты час Зоя радзіла сына, які ў студзені будзе мець пяць гадоў, дачку, каторая мае пятнаццаць месяцаў, і чакаем яшчэ адно. У студзені даведаемся, хто будзе, ці дачка, ці сын.*

*Маем кватэру з 2-х пакояў і кухні, купілі мэблі, радыё, машыну да пісаньня, машыну да шыцьця й яшчэ цэлую масу розных патрэбных і непатрэбных рэчаў. Маю кавалак гароду, зь якога атрымліваем трускалкі, бульбу, буракі й г. д. Пяць*

[673] *Ausländer* (ням.) — замежнік.

*мэтраў ад памяшканьня маем возера з рыбай. Гэткім чынам зрабіліся мы сапраўднымі местачковымі жыхарамі. Жыцьцё ідзе так паціху, памалу, адна гадзіна падобная на другую, аж другі раз ад гэтай цішыні хочацца закрычаць «Ратуйця!». Спачатку пасьля вайны добра было адпачыць у гэтай цішыні, але ж Ты зразумей, што гэта ўжо пяць гадоў дзень у дзень тое самае. Адная толькі й ёсьць пацеха піць водку, якую ў Швэцыі ня вельмі лёгка атрымаць, таму што тут трэба мець дазвол на піцьцё водкі. Я, напрыклад, маю дазвол піць адзін літар у месяц, але водка паскудная, бо робяць з дрэва, і каштуе дарага.*

*Адразу па прыезьдзе сюды я пачаў старацца аб выезду да Амэрыкі, і спачатку справа ішла добра, а пасьля ўпёрлася ў самае галоўнае, г. зн. трэба, каб хто-небудзь палажыў пад нас грошы. Адным словам, трэба мець у Амэрыцы «спонсара». У 1947 г. прыехаў сюды адзін амэрыканец на практыку. Мы зь ім пасябравалі, і ён узяўся за гэтую справу, пераконваючы мяне, што ён сьцягне мяне ў Амэрыку. Што ён стараўся, дык гэта я ведаю, але ў яго таксама, відаць, справа ўпёрлася ў гэтыя грошы, якіх ён таксама ня мае, бо ўжо паўтара году ня піша. Справа ўся ў тым, што тут у Швэцыі мы ўжо ня лічымся «displaced persons».*

*Зоя таксама хацела сьцягнуць сваю маму ў Швэцыю, але й тутака справа ўпёрлася ў швэдаў, бо яны ня хочуць браць сюды старых і непрацаздольных людзей. Усе нашыя стараньні былі надарэмна, і таму памаглі ёй пачкамі ды грашыма. Зоя таксама мае палучэньне зь Нінкай, якая жыве ў Бэрліне з сваім мужам і ўжо мае трое дзяцей. Паводзіцца ёй, відаць, нядрэнна. Дзе Ванда, Дзядзька й Яфімавіч, ня ведаю, бо палучэньне зь Нямеччынай ёсьць вельмі цяжкім.*

*Вось такое ў кароткіх словах нашае жыцьцё. Спадзяюся, што Ты разумееш, чаму мы так цешымся, што маем з Табой спалучэньне. Зоіна мама пару разоў прысылала Стасюковы лісты, якія піша да яе. Да нас ён, натуральна, пісаць ня хоча, бо завялікая асоба. Чытаючы ягоныя лісты, я дзіўлюся, чаму гэта Труман не запросіць яго сабе за дарадцу. У адносінах да нас ён сапраўдная сьвіньня, хоць мы яму нічога не зрабілі. У астатнім сваім лісьце да мамы ён пісаў, што віной ейных пакутаў зьяўляецца Зоя, і яшчэ шмат розных дурніцаў. Таму я Цябе прашу, Ты аб нас яму нічога не расказвай.*

*Пасылаю Табе зьнімкі нашай сям’і. Фатаграфіі крыху не ўдаліся, калі зробім лепшыя, вышлем Табе. На той фатаграфіі, дзе я сяджу із сынам, паспрабуй пазнаць Зою па нагах. Як не пазнаеш, дык напішу Табе ў наступным лісьце.*

*Пішы, дарагі Аляксей, зь нецярпеньнем чакаем Твайго пісьма.*

*Твае Саша, Зоя, Гога і Іра».*

# ЛЮДСКАЯ ПАМЯЦЬ, АРХІВЫ СВАЕ І ЧУЖЫЯ ДЫ КУПАЛАЎ СЦІЗОРЫК[674]

Часам, выпадкова апынуўшыся побач, лісты розных гадоў і розных аўтараў складаюцца ў агульны сюжэт або ствараюць адмысловую ілюстрацыю да пэўных падзеяў нашага жыцця і нават могуць быць падставаю да маральных высноваў.

Ліст Палікарпа Манькова быў напісаны пазней за ўсе тры наступныя — 02.11.1987:

*«Дарагі Вітаўт Яфімавіч!*
*Дарагая Зора!*

*Так хачу я пачынаць мае лісты да Вас, а таксама прашу Вас, каб Вы, пішучы да мяне, проста: Палікарп Фёдаравіч. Не падаю тут ніякіх абгрунтаваньняў, а ўважаю, што для мяне гэта гучыць прыемней, а галоўнае — шчырэй.*

*Як бачыце, і я не адразу пішу адказ на Ваш ліст. Калі ў Вашым лісьце ўжылі слова «даўно», то перада мною паўсталі падзеі з даўнейшага часу, а менавіта: калі Ваша маці паставіла мне пяцёрку за маю практычную лекцыю ў школе, у якой яна працавала ў Менску. Гэта было абавязкам студэнтаў ВПІ, даваць практычныя лекцыі. Другая падзея, якая зьязваецца з прозьвішчам Кіпель — гэта час у Рэгенсбургу, калі Вітаўт Кіпель, Янка Шыбут і Кастусь Вайцэхоўскі памаглі мне перавозіць дошкі, сталы, лаўкі й іншыя школьныя абсталяваньні зь нямецкай гімназіі ў школу, якая пазьней стала Беларускай Гімназіяй у Гангофэр Зідлюнг, а пазьней у Міхельсдорфе. Пазьней давялося працаваць і з бацькам Вітаўта — Яфімам Кіпелем, калі выдавалася газэта «Беларускае слова».*

[674] Тэкст упершыню друкаваўся ў: Запісы БІНІМ. № 28. Нью-Ёрк — Менск, 2005. С. 318–326.

*Мяне вельмі радуе ваш намер як паўней ахапіць пэрыядычны й непэрыядычны друк зь мінулых часоў, і ведаю, што гэта няпростая справа, бо многае загінула й, можа, назаўсёды. Усё ж тое, што мне ведама, я пастараюся вам паведаміць.*

*Я дакладна ведаю, як пачалася газэта «Газэта Случчыны» й кім яна вялася, але найдаражэй за ўсё, каб Вы мелі поўны камплект. А мне здаецца, што Вы можаце яго нават адшукаць.*

*Дапускаю, што поўны камплект газэты ад першага нумару, першая балёнка якога надрукавана бронзавымі літарамі, перахоўвае Аўген Калубовіч, бо ён больш, чым іншыя, што мелі дачыненьне да майго камплекту (Ф[ранцішак] Кушаль, А[нтон] Адамовіч, Сямёнаў) любіць захаваць спадчыну, што датычыць Беларусі. Як трапіў гэты камплект у рукі памянутых асобаў і як я пераканаўся, што яны яго мелі, — гісторыя доўгая, і магчыма, калі-небудзь давядзецца расказаць пры спатканьні. А падаць гэта ў лісьце, ды яшчэ першым да Вас, будзе зусім не на месцы. Можа, часам Вы пры Вашых частых падарожжах не мінуеце й маёй хацінкі на Сонечных Схілах, і тады ў гутарцы Вы зможаце пачуць тое, што ведама мне. Тады ж падам і як, і кім яна вялася й, можа, нават успомню дзень яе нарадзінаў.*

*Сапраўднымі рэдактарамі ад самага пачатку й да яе апошняга нумару былі Лявон Шпакоўскі і Ўладзімер Клішэвіч, а так званым зіцрэдактарам быў Рыгор Казак (Крушына). Пазьней, калі Р[ыгор] Казак выехаў у Нямеччыну (ён выехаў як фольксдойч), рэдактарам быў Аўген Цыбулькін аж да апошняга нумару. А[ўген] Цыбулькін выехаў у Амэрыку пазьней. Ён жыў у горадзе Sie Cliff, там і памёр, там і пахаваны.*

*Як нарадзіліся «Песьняры Случчыны», я напішу ў наступным лісьце. Згодзен з Вамі, што лепш было б зрабіць фатакопіяй, а не мікрафільмам, хоць гэта будзе й даражэй.*

*Канчаю ліст з поўным усьведамленьнем таго, што патрэбна многа настойлівасьці, упартасьці, такту й добрых сувязяў для таго, каб здабыць хоць бы частку таго, што, здавалася, загінула назаўсёды. Апроч камплекту газэты й паасобніка «Песьняроў Случчыны», найбольш дарагім мне здаецца арыгінал паэмы Лявона Шпакоўскага (Случчаніна) «Дзеці Сварога».*

*Жадаю Вам найлепшага посьпеху ў Вашым дабрародным намеры!*

*Прывітаньне Вам усім: Вітаўту, Зоры, Вашай маме й дзеткам ад мяне й маёй жонкі Анны.*

*Ваш П[алікарп] Манькоў».*

Асабістая сустрэча аўтара ліста і спадарства Кіпеляў не адбылася, «наступны» абяцаны Маньковым ліст таксама не быў напісаны, а таму гісторыі нараджэння «Газеты Случчыны» і «Песняроў Случчыны» засталіся згубленыя, як, верагодна, і арыгінал паэмы Лявона Случчаніна «Дзеці Сварога». Чаму б, здавалася, тады, у 1987-м, не расказаць Манькову пра ўсе гісторыі ў першым лісце, дадаць адбітак паэмы і прыкласці яшчэ што цікавае з уласнага архіву?! Ці, прынамсі, захоўвацца менш канспіратыўна, як дазволіў сабе даследчык і шчыры захавальнік беларускай старасветчыны Аўген Калубовіч:

*«15 сакавіка 1981 г.*

*Дарагія Зора й Вітаўт!*

*Я быў шчасьлівы атрымаць Ваш пакет зь лістом і фотаадбіткамі. Сяджу тут адзін, ізаляваны ад усіх і ўсяго. Праўда, маю лісты, сам пішу іх нямала, а Іне*[675] *— штотыдня. Мне шкада яе. Ужо другі раз на паўгоду пакінуў яе адну. Сумуе там сама. Трохі пабойваецца адна ў хаце. На свае плечы прыняла ўсе гаспадарчыя абавязкі. А яна шкадуе мяне. Амаль штосыботы звоніць, каб праз слухаўку пагаварыць, голас пачуць адзін аднаго. Два апошнія гады пры тэлефоне сустракалі й Новы Год. І, прызнаюся, нават чокнуліся кілішкамі й разам выпілі. Таму я рады кожнаму лісту, асабліва такому цікаваму й міламу, як Ваш ад 4-га сакавіка.*

*Шчыра дзякую Вам за спачуваньні, за ўсе інфармацыі, прапазыцыі й фотаадбіткі*[676]*. Шкадую Вас, што Вы столькі іх нарабілі! Успаміны М. Сяднёва ўжо ў наборы. Вартасныя ўспаміны А. Уласава, як я ўжо й пісаў Вам, я не магу ўзяць у нашую кніжку, бо ён не эмігрант і ўспаміны свае напісаў і апублікаваў не на эміграцыі, а ў Беларусі. У Ю. Віцьбіча й Я. Кіпеля — іншая тэма, пра Янку Купалу й Якуба Коласа ў іх*

[675] Маецца на ўвазе Іна Рытар (Кахаnoўская) — жонка Аўгена Калубовіча.
[676] Далей ідзе пра планы выдання кнігі, што будзе выдрукаваная ў наступным, 1982 г.: Янка Купала і Якуб Колас. 1882–1982. Вянок успамінаў пра іх. ЗША, 1982. — 81 с.

*дужа малыя фрагмэнты (наогул жа гэтыя ўспаміны Я. Кіпеля, дадам, напісаныя добра, а яшчэ лепшыя пра Ў. Жылку я згадаю ў маіх успамінах «На крыжовай дарозе»*[677]*).*

*Затое ўспамінаў В. Таполі*[678] *й К. Рамановіча*[679]*, на жаль, я не магу прыняць, хоць яны й поўнасьцю напісаныя як успаміны пра Янку Купалу й Якуба Коласа. Укладальнік і рэдактар кніжкі ня мае абавязку інвэстыгаваць*[680] *рыхтаваныя ім да друку матэрыялы, але ж абавязак ягоны ня толькі ў тым, каб паставіць сваё імя на тытульнай балёнцы кніжкі, упіхнуўшы ў яе без разбору ўсё, што трапіла пад руку. Ён мае й некаторую адказнасьць за гэтыя матэрыялы як перад чытачом, так і перад тым, каму яны (гэтыя матэрыялы) прысьвечаныя. Пісаць усё можна, папера церпіць. Але я думаю, што ўва ўспамінах пісаць трэба толькі праўду, бяз выдумак і фальшы, бо ў гэтым ніякае карысьці, а толькі шкода. Ува ўспамінах В. Таполі (без паказу даты дзеяньня) Янка Купала ўвечары «у глухім куточку гарадзкога сквэру» падсеў на лаўку да незнаёмае яму дзяўчынкі 15–16 год, тады «вызваўся пайсьці» зь ёю на яе кватэру, там чытаў і захапляўся ейнымі вершамі, выказваў перад ёю свае антысавецкія палітычныя пагляды й на блатным жаргоне радзіў ёй: «Сядзі й ня рыпайся й ня сунься нат у друк... бо... задзяўбуць... Між намі гаворачы... сядзі й ня рыпайся». Хто можа ўсяму гэтаму паверыць? Гэта ж ня толькі фантастычная казка, але й карыкатура на Купалу. Блізка да гэтага й успаміны К. Рамановіча, апублікаваныя ў «Бацькаўшчыне». Невялікія пра Янку Купалу, «Савецкі апэндыцыт», — хутчэй газэтная «агітка» з выдуманымі дэталямі. Тут няпраўдзівая ўся вэрсія пра першую спробу самагубства Купалы: Янка Купала ня быў арыштаваны, гаракіры зрабіў не перад тым, калі яго прыйшлі арыштаваць, а па звароце із допытаў дадому; Купаліха не магла бегчы ў Дом пісьменьніка й галасіць там, што «Янка зарэзаўся», бо гэта была позьняя*

---

[677] Калубовіч, Аўген. На крыжовай дарозе: Успаміны. Кліўлэнд, 1986. — 252 с. Перавыданне: Калубовіч, А. На крыжовай дарозе: Творы з эміграцыі. Мінск: Бацькаўшчына, 1994. — 318 с.

[678] В. Т-я. [Таполя, Вольга.] Спатканьне з Купалам // Апошнія весткі. 1948. № 4. С. 5.

[679] Рамановіч, К. Успаміны // Бацькаўшчына. 1956. № 25–26 (307–308). К. Рамановіч — «мемуарны» псеўданім Рыгора Казака.

[680] Інвэстыгаваць — ад *investigation* (анг.) — расследаванне.

*ноч, і Дом пісьменьніка быў пусты й нат пад замком. Покуль што нікому невядома, якім нажом Купала зрабіў гаракіры. Адкуль К. Рамановіч ведае, што «садовым»? Я ня памятаю, каб у лісьце Янкі Купалы ў прэсу ў сувязі зь ягонай спробай самагубства было слова «апэндыцыт», але тэрміну «ворагі народу» ня толькі не было, але й не магло быць, тэрмін гэты зьявіўся пазьней, у 1936–1938 гг. Ува ўспамінах «Дзядзька Колас» ёсьць дзьве праўдзівыя сцэны: Якуб Колас на лекцыях у Белпэдтэхнікуме й на працэсе «лістападаўцаў». Гэтыя сцэны можна было б узяць у нашую кніжку, разам была б адна балёнка друку. Ды тут на перашкодзе розныя «але». Па-першае, гэта адразу б кінула цень падазрэньня на ўсе іншыя, выпушчаныя з успамінаў сцэны, як, відаць, няпраўдзівыя. Па-другое, этычны мамэнт: К. Рамановіч ня мае права пісаць успаміны пра Якуба Коласа й «лістападаўцаў». Рассудзеце самі: сьпярша аўтар успамінаў быццам бы адведаў Коласа ў ягоным доме, зьеў там «талерку піражкоў хатняга гатунку», «сподачак вішнёвага мармаляды», а праз кароткі час пасьля таго на публічным працэсе «лістападаўцаў» (пра які й піша ў гэтых успамінах) пайшоў на сцэну Дому працаўнікоў асьветы (дзе вёўся гэты паказальны працэс) у ролі аднаго із двух сьведкаў абвінавачваньня, каб сьведчыць супраць «лістападаўцаў», і пасярэдняй дарогай — супраць Якуба Коласа. «Лістападаўцаў» засудзілі, яны адбывалі кару ў турме. Колас меў вялікія непрыемнасьці.*

*Асабіста супраць К. Рамановіча я нічога ня маю. У мяне зь ім былі добрыя, нат сяброўскія дачыненьні. Ён наш паэта. І пасьля сваe памылкі 1926 г. мо' пакутаваў усё жыцьцё й шмат зрабіў для беларускай справы. Але ўсё адно: гэта не дае яму права пісаць пра Якуба Коласа й «лістападаўцаў». Мінімальна — гэта не ягоная тэма, хіба што ён пры гэтым паказаў бы й сваю ролю, публічна пакаяўшыся. Пішу Вам пра гэта зь вялікаю засьцярогаю — прыватна й строга даверачна, не для публічнага ўжытку, хоць пра гэта памятаюць многія старэйшыя мянчане (Іна, Ізыдар [Плашчынскі], Адамовіч, думаю, Вашыя бацькі й г. д.), а таксама й тыя, што засталіся «на тым баку».*

*Наша невялікая кніжка, у якой мы паказваем іншы твар Янкі Купалы й Якуба Коласа ад таго, як іх паказваюць у БССР, безумоўна, трапіць «туды». І калі б мы ў ёй апублікавалі ўспаміны В. Таполі й К. Рамановіча, там пры жаданьні маглі б іх «разьнесьці» й тым самым падважыць у ёй давер да іншых*

*успамінаў і скампрамэтаваць цэлую кніжку. Каб ня ставіць кніжку пад абух, я вырашыў (правільна ці няправільна): няхай у ёй будзе меней успамінаў, але без падазрэньня ў выдумках і фальшы.*

*Із прысланых Вамі адбіткаў у друк пойдуць (і ўжо пайшлі) успаміны М. Шылы[681]. За гэта вялікі Вам дзякуй. Бяз Вас я іх прапусьціў бы. З успамінаў М. Куліковіча ў сябе, у Кліўлэндзе, я знайшоў толькі пачатак (адзін нумар «Беларуса»[682]), працягу пакуль што ня маю. Калі на вавароце дадому не знайду ў сябе наступнага нумару газэты, буду прасіць фотаадбіткі ў Вас.*

*Цапер іншыя справы. Мае дзьве кніжачкі «Мова ў гісторыі беларускага пісьменства»[683], калі ласка, унясеце ў Ваш каталёг, а 10 экзэмпляраў кожнае зь іх (а хочаце — і болей!) я вышлю Вам, калі вярнуся ў Кліўлэнд, мажліва, на Праваслаўны Вялікдзень. Цэны? Былі: першая — $2, другая — $4. Мо цяпер падняць на 3 і 5? (А ну ж стану міліянэрам!)*

*Што тычыцца тыражу нашае кніжкі й у сувязі з гэтым наогул беларускіх друкаў у сп. М. Прускага, апошнім часам зайшлі зьмены на горшае. У лісьце да мяне ад 18 сьнежня 1980 г. ён паведаміў: «Набраў я для Пятроўскага[684] 28 старонак ягонае кнігі, але ён плаціць ня хоча. Шкада страчанага часу й працы. Гэта добрая навучка для мяне ад нашых людзей на будучыню. Я хачу зусім перастаць друкаваць нашым людзям». Ці згодзіцца ён у гэтых умовах на большы тыраж — ня ведаю. І я ня веру, што калі Інстытут[685] набудзе сабе 50 экзэмпляраў кнігі, як Вы пішаце, то ці зможам мы распаўсюдзіць рэшту 150 экзэмпляраў?*

*Іна мае поўную свабоду друкавацца там, дзе яна хоча. У гэтым я ёй не перашкаджаю.*

*Будзьце здаровы. Прывітаньне ўсім бацькам.*

*З удзячнасьцю й глыбокай пашанаю,*

*А. Калубовіч».*

---

681 М. Ш. Мае сустрэчы // Шляхам Жыцьця. 1947. № 8 (20). 31 жніўня. С. 13–15.

682 Менскі, М. Мае ўспаміны. (Янка Купала.) // Беларус. 1952. № 8 (14). С. 2–3; № 9 (15). С. 3; № 0 (16). С. 2, 4; № 11 (17). С. 2–3.

683 Калубовіч, Аўген. Мова ў гісторыі беларускага пісьменства. Частка I. Мюнхен — Лёндан, 1974–1975. — 84 с.; Частка II. Кліўлэнд, 1978. — 238 с.

684 Маецца на ўвазе Ян Пятроўскі, перакладнік Платона.

685 Маецца на ўвазе Беларускі інстытут навукі і мастацтва (Нью-Ёрк).

Гісторыю са сведчаннем Рыгора Казака на працэсе лістападаўцаў пацвердзіла — на два дзесяцігоддзі раней (06.07.1958) — Іна Каханоўская ў лісце да Вітаўта Тумаша ў звязку з уласным артыкулам[686]:

*«Дарагі Спадар!*

*Пасылаю Вам сваіх «Лістападаўцаў». Думаю, тэма патрэбная. Калі ласка, перачытайце іх і прыстройце куды-небудзь, калі гэта Вам ня цяжка. Ці, можа, парайце, куды адаслаць? Вы там у цэнтры падзеяў і лепей ведаеце, дзе й што гатуецца да друку.*

*Разумею, што «Лістападаўцы» добра надаваліся б для «Бацькаўшчыны», але не пасылаю іх туды, бо не хачу наражацца на непрыемнасьці. Калі я напісала ў рэдакцыю ліст зь ведамымі Вам заўвагамі, там, здаецца, абразіліся й мне нічога не адказалі. Я вельмі не люблю сварыцца зь людзьмі, і, падумаўшы, што я была не зусім правай, пры нагодзе напісала ветлівы ліст да сп. Станкевіча[687]. Калісь мы былі добрыя знаёмыя. У вадказ я не атрымала ніводнага радка.*

*У «Беларусе» паведамілі, што выйшлі «Конадні» і ў іх мая першая рэч. У Клівэландзе пакуль «Конадней» няма. Ці належыць мне пару аўтарскіх нумароў? Мне хацелася б адаслаць іх у Нямеччыну Dr. Miggenthaler і Прафэсару Палонскай. З Палонскай я перапісваюся, і яна прасіла прыслаць ёй што-небудзь маё. Dr. Miggenthaler абяцаў маё апавяданьне перакласьці на нямецкую мову.*

*Хто клапаціўся з выданьнем «Конадней»? Мне думаецца, што гэта зрабілі Вы. Як Вашыя экзамены? Па вестках, што даходзяць да нас, Вы, як заўсёды, шмат зааганжаваны ў грамадзкай працы. Я заўсёды дзіўлюся, калі Вы на ўсё знаходзіце час.*

*Я ўсё яшчэ не працую, а таму маю час пісаць. Падабрала дакумэнтальны матэрыял пра Суворава. У 1794 годзе ён падавіў паўстаньне на Беларусі й за гэтае дастаў ад Кацярыны II 6922 душы сялян у Кобрыне. З гісторыі ведама, што Кацярынай была аддадзена ў прыгон вялікая колькасьць нашай воль-*

---

[686] Саковіч, Аляксандра. Лістападаўцы // Бацькаўшчына. 1958. № 29–30 (415–416). С. 5–6.

[687] Маецца на ўвазе Станіслаў Станкевіч.

*най, але безьзямельнай шляхты. Цяпер у Кобрыне заснаваны парк і музэй імя Суворава. У парку яго помнік, у музэі гарматы й стрэльбы, якімі калацілі нашых прапрадзедаў. У Менску — Сувораўская школа.*

*Цікава, якія заўвагі Вы будзеце мець да «Лістападаўцаў»? Ці пісаць яшчэ ўспаміны?*

*У гэтай рэчы мне хацелася паказаць адносіны беларускай грамады падчас працэсу, асабліва студэнцтва; паказаць Якуба Коласа й ягоную сувязь із Случчакамі. Я няшмат напісала аб сьведках, хоць абодвух памятаю добра. Адным быў Казак. Я не была зь ім асабіста знаёмай і ня ведала ягонага імя. Сп. Адамовіч гаворыць, што гэта Рыгор і што за «лістападаўцаў» выскублі дзяўчаты тэхнікуму яму лысіну. Думаю, што й далей у жыцьці ён шмат адпакутваў за свае сьведчаньні. Не кажэце й Вы, калі ласка, нікому.*

*Калі будзеце мець час, пішэце. Буду радай атрымаць Ваш ліст.*

*Добрыя прывітаньні й пажаданьні ад мяне й Аўгена.*

*З глыбокай пашанаю Іна Каханоўская».*

Аўген Калубовіч ды Іна Каханоўская, не думаючы наўпрост пра захаванне дэталяў гэткіх важных для нашае гісторыі падзеяў — працэсу «лістападаўцаў» і спробы самагубства Купалы, — усё ж паспрыялі таму. Успомненае і запісанае імі засталося, а цяпер і выдрукоўваецца. Насуперак іхным жаданням, выказаным у лісце.

Ці маем мы права на публікацыю?

Абодвух аўтараў лістоў ужо няма з намі, як і героя іхных успамінаў, Рыгора Казака. Таму нельга спытацца ў Каханоўскіх-Калубовічаў згоды на публікацыю, якая ўжо не зашкодзіць апошняму. Усе тры лісты былі дасланыя асабіста Вітаўту Кіпелю і перададзеныя ім у архіў БІНІМа, грамадскай навуковай арганізацыі, прызначанай для захавання, публікавання і даследавання спадчыны беларускай эміграцыі. Быць адкрытым да карыстання ды імкнуцца да як мага больш праўдзівага і поўнага адлюстравання мінулага — мэта кожнага архіву, а абавязак кожнага сумленнага публікатара — публікаваць дакументы максімальна набліжанымі да арыгіналу. Чытачам-аматарам прыгожага пісьменства могуць не падабацца вершы з табуяванай лексікаю аднаго паэты ці біяграфічныя моманты другога,

насвечаныя ў бурлескных успамінах трэцяга, але наракаць на публікатара не выпадае. Бо ў архіўных публікацыях літаратура, адносіны, жыццё паўстаюць такімі, якімі яны былі, а не такімі, якімі б іх хацелі бачыць сёння незадаволеныя сваякі ці пурыстычныя даследчыкі.

Архівы на сёння мо апошні прытулак і скарбніца фактаў, дэталяў у асвятленні гістарычных падзеяў, што засталіся паза доследамі, афіцыйнымі версіямі, друкаванымі ўспамінамі. Перакананы, што менавіта ў архівах, а не ў музеях ці прыватных калекцыях знойдуцца, калі наогул знойдуцца, Полацкі летапіс, Крыж Ефрасінні Полацкай, «Скрыпачка беларуская» Францішка Багушэвіча, вершы Максіма Багдановіча, працяг «Крывічоў» Міхася Зарэцкага і «Нядолі Заблоцкіх» Лукаша Калюгі, скруткі «Самсона Самасуя». Знойдуцца гэтаксама, як знайшоўся ў архіве БІНІМа сцізорык Янкі Купалы.

У 1941 г. у Мінск вярнуўся Юры Сабалеўскі. Першае, што ён кінуўся адведаць, быў дом Янкі Купалы. Дакладней, папялішча: дому не існавала, усё было знішчана агнём. У попеле Сабалеўскі знайшоў нож для разразання паперы — падобны можна ўбачыць на Купалавым стале на адным са здымкаў паэты. Сабалеўскі той сцізорык прывёз у эміграцыю і перадаў на захаванне Міхасю Кавылю, а той — Вітаўту Кіпелю.

Ці дакладна гэта той самы сцізорык, якім Купала рабіў сабе харакіры, яшчэ трэба даследаваць; сёння ж варта заўдзячыць архіву, што захаваў сам аб’ект доследу.



# БІЯГРАФІЧНЫ ДАВЕДНІК

**Мікола Абрамчык** (16.08.1903, в. Сычавічы Вялейскага пав. Віленскай губ. (сёння Маладзечанскі р-н Мінскай вобл.) — 29.05.1970, Парыж, Францыя), палітык, грамадскі дзеяч, публіцыст, прэзідэнт Рады БНР (1947–1970). Вучыўся ў Карлавым універсітэце ў Празе. Актывіст Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый у Чэхаславакіі. У 1932 г. у Францыі заснаваў арганізацыю беларускіх эмігрантаў «Хаўрус». У 1941–1943 гг. дзеяч Беларускага камітэта самапомачы (БКС) у Берліне, супрацоўнічаў з газетай «Раніца». У снежні 1947 г. узначаліў аднаўленую Раду БНР. Жыў у Парыжы, займаўся актыўнай грамадскай дзейнасцю.

**Антон Адамовіч** (26.06.1909, Мінск — 12.06.1998, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, літаратуразнавец, гісторык, публіцыст, літаратар. Уваходзіў у літаб'яднанне «Узвышша». У 1930 г. арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і высланы ў Глазаў, у 1934 г. пераведзены ў Вятку (Кіраў), дзе працаваў у навучальных установах. Арыштаваны паўторна ў 1937, вызвалены ў 1938 г., вярнуўся ў Мінск, працаваў у школе. У 1938 г. вярнуўся ў Мінск, скончыў БДУ. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Мінскай гарадской управе, «Беларускай газеце», галоўным рэдактарам выдавецтва «Менск», уваходзіў у Цэнтральную Раду БНС, выконваў абавязкі рэферэнта па справах прэсы і прапаганды Генеральнага камісарыяту Беларусі. Увосені 1943 г. выехаў у Нямеччыну. Па вайне працаваў у Беларускай гімназіі ім. Я. Купалы ў Рэгенсбургу, быў адным з заснавальнікаў газеты «Бацькаўшчына», яе рэдактарам. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Займаўся навуковымі даследаваннямі, аўтар вялікай колькасці літаратуразнаўчых прац. Адзін з заснавальнікаў БІНІМ.

**Кастусь Акула** (да эміграцыі **Аляксандр Качан**; 16.11.1925, в. Верацеі Дзісенскага пав. Віленскага ваяв. (сёння Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) — 29.01.2008, Таронта, Канада), грамадскі дзеяч, пісьменнік. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічаў, ад вясны 1944 г. — курсант Мінскай афіцэрскай школы БКА. Ваяваў у скла-

дзе Арміі Андэрса. У 1946–1947 гг. жыў у Англіі. Сябра Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. У чэрвені 1947 г. пераехаў у Канаду. Адзін з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў Канады і першы яго старшыня. Рэдагаваў газету «Беларускі эмігрант» (1948–1954), часопіс «Зважай» (1974–1997). Аўтар раманаў «Змагарныя дарогі» (1962), «Гараватка» (1965–1981), «Tomorrow is Yesterday» (1968), «За волю» (1991).

**Юлія Андрусішына** (дзяв. **Каханоўская**) — дачка Аўгена і Яніны Каханоўскіх, грамадская дзяячка. Ад 1944 г. — разам з бацькамі на эміграцыі. У 1945–1950 гг. вучылася ў Беларускай гімназіі ім. Я. Купалы ў Нямеччыне. Ад 1950 г. жыве ў Нью-Ёрку. Маці Багдана Андрусішына (Данчыка).

**Апанас** (**Антон Мартас**, 08.09.1904, в. Завітая Наваградскага пав. Мінскай губ. (сёння Нясвіжскі р-н Мінскай вобл.) — 03.11.1984, Буэнас-Айрэс, Аргентына), рэлігійны дзеяч, архіепіскап, магістр тэалогіі. У 1927 г. пастрыжаны ў манахі пад імем Апанас (Афанасій). Скончыў багаслоўскі факультэт Варшаўскага ўніверсітэта (1930). Намеснік Яблочынскага манастыра. У 1942 г. у Мінску высвечаны на епіскапа Віцебскага і Полацкага. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Разам з іншымі беларускімі іерархамі ў 1946 г. перайшоў у юрысдыкцыю РЗПЦ. Адміністратар Паўночна-нямецкага вікарыята Нямецкай епархіі РЗПЦ. Выкладаў рэлігію ў беларускай гімназіі ў Ватэнштэце, супрацоўнічаў з беларускай праваслаўнай прэсай, выдаў падручнік Старога Запавету па-беларуску. У 1950–1955 гг. — вікарны епіскап у Аўстраліі. Потым пераехаў у Аргентыну. Епіскап (пазней архіепіскап) Буэнас-айрэскі і Аргентынска-Парагвайскі. У 1966 г. выдаў кнігу «Белорусь в исторической государственной и церковной жизни» (прадмова па-беларуску). У 1971 г. Сінод РЗПЦ забараніў чытанне і распаўсюд кнігі, а аўтара адлучыў ад рэлігійнай дзейнасці. Памёр у Буэнас-Айрэсе. Пахаваны на могілках Святатроіцкага манастыра ў Джорданвілі (ЗША).

**Наталля Арсеннева** (20.09.1903, Баку, Азербайджан — 25.07.1997, Рочэстар, ЗША), паэтка, грамадская дзяячка. Нарадзілася ў рускай дваранскай сям'і. Ад 1905 г., за выняткам 1915–1919 гг., жыла ў Вільні. Скончыла Віленскую беларускую гімназію. У 1922 г. узяла шлюб з вайсковым дзеячам *Францам Кушалем*. У 1940–1941 гг. разам з сынамі Яраславам і Уладзімірам знаходзілася ў высылцы на поўначы Казахстана. У траўні 1941 г. атрымала дазвол вярнуцца ў Беларусь. Працавала ў «Беларускай газеце» (1942–1944), перакладала лібрэта для Мінскага гарадскога тэатра. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку была ў Нямеччыне, дзе ўдзельнічала ў беларускім культурным жыцці ў лагерах *DP*, выкладала ў Беларускай гімназіі ім. Я. Купалы. У 1950 г.

пераехала ў ЗША. У 1952–1954 гг. рэдагавала газету «Беларус», потым працавала ў нью-ёркскім офісе беларускай рэдакцыі радыё «Свабода». Была сябрам Галоўнай управы БАЗА, Управы БІНІМа. У 1967 г. пасля смерці нявесткі, Наталлі Куліковіч-Кушаль, разам з мужам пераехала да сына Уладзіміра ў Рочэстар.

**Аркадзь Арэхва** (01.05.1910, Глыбоцкі пав. — 27.02.1993, ЗША), грамадскі дзеяч, юрыст. Скончыў юрыдычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у аддзеле судоў Мінскай гарадской управы, ад 1943 г. — пракурор Мінскай акругі. Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі: спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Прыхільнік Беларускай Цэнтральнай Рады, сябра БККА, арганізацыі Амерыканскія прыхільнікі БЦР. Меў дачыненне да выдання газеты «Беларускае слова».

**Аляксандр Асіпчык** (01.04.1909, Слонім Гарадзенскай губ. (сёння Гарадзенская вобл.) — 14.03.1990, Джэксан, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі і царкоўны дзеяч. У 1941–1944 гг. быў прыхільнікам беларусізацыі праваслаўнай царквы, удзельнік Беларускага Царкоўнага Сабору 1942 г. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Спачатку шчыльна супрацоўнічаў з беларускімі епіскапамі, а пасля пераходу іх у склад РЗПЦ (1946) стаў іх праціўнікам. У 1947 г. у Заходняй Нямеччыне заснаваў Беларускае праваслаўнае таварыства Жыровіцкай Божай Маці, што мела суполкі ў розных краінах. Пазней перабраўся ў ЗША. Выдаваў часопіс «Сіла веры» (1948–1965).

**Радаслаў Астроўскі** (06.11.1887, хут. Заполле Слуцкага пав. (сёння Слуцкі р-н Мінскай вобл.) — 17.10.1976, Бентан-Харбар, Мічыган, ЗША), палітык, грамадскі дзеяч, педагог, публіцыст, прэзідэнт БЦР (1943–1976). У нацыянальным руху ад рэвалюцыі 1905–1907 гг. У 1917 г. стварыў у Слуцку першую беларускую гімназію. У 1924–1936 гг. — дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, адначасова ў 1930–1932 гг. — Беларускай праваслаўнай духоўнай семінарыі імя Францішка Багушэвіча. У другой палове 1920-х гг. выконваў абавязкі старшыні Таварыства беларускай школы, быў віцэ-старшынём Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ). Пасля разгрому БСРГ — прыхільнік «паланафільскага кірунку» — супрацоўніцтва з польскімі ўладамі дзеля папулярызацыі беларускай культуры і школьніцтва. У 1936 г. быў высланы ў Лодзь (Польшча) настаўнікам матэматыкі і фізікі. У 1939–1941 гг. — старшыня Беларускага камітэта самапомачы у Лодзі. У ліпені — верасні 1941 г. быў старшынём Мінскага намесніцтва, якое аб’ядноўвала 21 раён Беларусі, потым арганізоўваў беларускую адміністрацыю ў Бранскай, Смаленскай, Магілёўскай

акругах. Ад 21 снежня 1943 г. — прэзідэнт БЦР. Ад ліпеня 1944 г. — на эміграцыі. У верасні 1945 г. з прычыны неспрыяльных палітычных абставін прыпыніў дзейнасць БЦР. 30 снежня 1947 г. заснаваў Беларускае цэнтральнае прадстаўніцтва сусветнай эміграцыі, а пасля аднаўлення Рады БНР аднавіў дзейнасць БЦР (25 сакавіка 1948 г.). Жыў у Нямеччыне, Швейцарыі (1944–1948, 1950–1954), Аргентыне (1948–1950, 1954). У 1954 г. прыехаў у Вялікабрытанію да сына Віктара, пасяліўся ў доме, набытым для арганізацыі ХАБР. Заснаваў Беларускі вызвольны фронт. У 1962 г. з прычыны хваробы пераехаў у ЗША да дачкі і зяця Галіны і Мікалая Мінкевічаў. Прыпыніў дзейнасць БЦР у 1962 г., аднавіўшы яе ў 1974 г.

**Аляксандр Багдановіч** (1898, Капыль — 04.04.1983, Сэнт Пітэрсберг, Фларыда, ЗША), грамадскі дзеяч, лекар. У 1928 г. скончыў медыцынскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта, пасля чаго да 1931 г. меў медыцынскую практыку ў Сібіры. У 1931–1941 гг. працаваў у Мінску ў клініцы нутраных хваробаў і выкладаў у медыцынскім інстытуце. Таксама ў 1937–1941 гг. быў кансультантам у туберкулёзнай і псіхіятрычнай клініках. Абараніў дысертацыю «Уздзеянне камфары на сардэчна-сасудзістую сістэму чалавека», і атрымаў ступень доктара медыцынскіх навук. У 1941–1943 гг. працаваў у Магілёве, потым накіраваўся ў Польшчу, а адтуль у Нямеччыну, дзе ў паваенны час працаваў пры *UNRRA*. У 1950 г. пераехаў у ЗША, дзе працаваў у розных шпіталях у Нью-Джэрсі да выхаду на пенсію у 1966 г. У 1959 г. атрымаў ліцэнзію на прыватную практыку і працаваў кіраўніком аддзялення ўнутраных хваробаў у шпіталі ў Овербруку (*Overbrook Hospital*). Пасля выхаду на пенсію перабраўся ў Фларыду. Браў удзел у беларускім грамадскім жыцці, прыхільнік БЦР.

**Уладзімір Бакуновіч** (10.12.1926 в. Малыя Сцяблевічы Лунінецкага пав. (сёння Жыткавіцкі р-н Гомельскай вобл. — 23.05.1992, Дэтройт, ЗША), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў польскай і савецкай школах. Ад 1944 г. разам з сям’ёй бацькоў апынуўся ў Нямеччыне, дзе да канца Другой сусветнай вайны працаваў у баўэра, а потым вучыўся ў Беларускай гімназіі ім. Я. Купалы ў беларускіх лагерах у Рэгенсбургу і Віндышбергердорфе. У 1950 г. разам з бацькамі выехаў у Аўстралію. У Сіднеі браў удзел у арганізацыі Беларускага аб’яднання ў Аўстраліі. Пазней апублікаваў на старонках газеты «Бацькаўшчына» нататкі пра першыя гады беларускай прысутнасці на пятым кантыненце (друкаваўся пад псеўданімам Уладзімір Сцяблевіч). У 1954 г. паступіў на эканамічны факультэт Лювенскага ўніверсітэта ў Бельгіі, дзе ў 1963 г. атрымаў ступень доктара эканомікі. Пазней пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Брансвіку (штат Нью-Джэрсі), а ад 1968 г. — у Дэ-

тройце (Мічыган), дзе працаваў як спецыяліст па падатковых справах. Актыўна ўдзельнічаў у дзейнасці БАЗА і Рады БНР.

**Ксаверы Барысавец** (14.01.1908, Уладзівасток — 11.04.1998, Саўт-Рывер, ЗША), грамадскі дзеяч, кампазітар. Скончыў фізіка-матэматычны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта. У 1950-х прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў Саўт-Рыверы, дзе арганізаваў беларускі жаночы хор «Каліна», які шмат гадоў выступаў на розных нацыянальных мерапрыемствах. Для хору апрацоўваў беларускія народныя песні і пісаў музыку на словы беларускіх паэтаў. Прыхаджанін парафіі Св. Ефрасінні Полацкай.

**Часлаў Будзька** (29.06.1913, Вільня — 15.08.1985, Чыкага, ЗША), грамадскі дзеяч, гісторык, педагог, сын *Эдварда Будзькі*. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, а ў 1938 г. — аддзяленне гісторыі гуманістычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта. Браў удзел у нацыянальным грамадскім руху, быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза. За актыўную грамадскую дзейнасць пазбаўлены права працаваць па спецыяльнасці. Уладкаваўся ў кааператыўнае таварыства ў Варшаве, потым працаваў у Кельцах. Падчас Другой сусветнай вайны знаходзіўся ў Нямеччыне. Па сканчэнні вайны жыў у лагеры ў Ватэнштэце, выкладаў гісторыю ў Беларускай гімназіі. У 1948 г. як *DP* прыбыў на працу ў Вялікабрытанію, быў сябрам ЗБВБ. У 1951 г. выехаў у ЗША, жыў у Чыкага. Быў актывістам Чыкагскага аддзела БАЗА. Займаўся грамадска-асветніцкай працай, гістарычнымі даследаваннямі, праектаваннем вышыванак і дываноў.

**Эдвард Будзька** (22.03.1882, м. Будслаў Вялейскага пав. (сёння Мядзельскі р-н Мінскай вобл.) — 14.8.1958, Чыкага, ЗША), грамадскі дзеяч, паэт, публіцыст і выдавец. Вучыўся ў Рыжскім політэхнічным інстытуце. Друкаваўся ў газеце «Наша ніва». Удзельнік Першага Усебеларускага кангрэсу 1917 г. 8 чэрвеня 1918 г. для каардынацыі дзейнасці ў справе вяртання бежанцаў быў накіраваны Народным сакратарыятам Беларусі ў Вільню. У 1918 г. быў адным з арганізатараў Будслаўскай беларускай гімназіі. Па яе закрыцці ў 1919 г. займаўся арганізацыяй беларускай кааперацыі. У 1921–1940 гг. жыў у Літве і Латвіі. Заснаваў курсы беларусазнаўства. У часе нямецкай акупацыі Беларусі працаваў настаўнікам у Мінску і Баранавічах. Ад лета 1944 г. на эміграцыі ў Нямеччыне, пазней пераехаў у ЗША. Жыў у Чыкага.

**Язэп Варонка** (04.(17).1891, Сакольскі пав. — 04.06.1952, Чыкага, ЗША), палітычны дзеяч, журналіст, выдавец. У пачатку 1910-х гадоў жыў і вучыўся ў Пецярбургу, займаўся грамадскай дзейнасцю, працаваў журналістам (псеўданім — Юры Вегаў). Уваходзіў у склад

Часовага савета Расійскай Рэспублікі (Перадпарламенту). Першы старшыня Народнага Сакратарыяту БНР (люты–ліпень 1918). Ад канца 1918 г. жыў у Каўнасе. Быў прыхільнікам арыентацыі на незалежную Літву як саюзніка Беларусі, да красавіка 1920 г. — міністр беларускіх спраў ва ўрадзе Літвы. Ад 1923 г. жыў у Чыкага (ЗША), дзе спрычыніўся да заснавання беларускіх арганізацый: стварыў Беларускі нацыянальны саюз, ад 1926 па 1932 г. выдаваў газету «Белорусская трибуна», вёў беларускія і рускія перадачы на радыё. Пры канцы жыцця падтрымаў БЦР.

**Аляксей Васіленя** (27.03.1899, в. Малая Бераставіца (сёння Бераставіцкі р-н Гродзенскай вобл.) — 26.07.1978, Сіднэй, Аўстралія), грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і чыноўніка. Вучыўся ў Гарадзенскім рэальным вучылішчы. Падчас Першай сусветнай вайны — у эвакуацыі. Скончыў рэжысёрскія курсы ў Новарасійску. Пасля кастрычніцкага перавароту ваяваў у кавалерыйскім корпусе генерала Дзянікіна. У 1921 г. вярнуўся на радзіму, працаваў у Беларускім аб'езным тэатры да моманту яго ліквідацыі польскімі ўладамі. У 1927–1928 гг. сакратар Палескага аддзела Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Пазней выконваў абавязкі сакратара беларускага пасольскага клуба «Змаганне». У часе нямецкай акупацыі — кіраўнік Беларускай народнай самапомачы ў Слоніме, маёр БКА, кіраўнік канцылярыі Галоўнага камандавання БКА, удзельнік Другога Усебеларускага кангрэсу. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну, жыў у Берліне, займаў пасаду сакратара Прэзідыуму Беларускай Цэнтральнай Рады. У лагерах для перамешчаных асобаў рэдагаваў сатырычны часопіс «Смехам па галаве», у Гамбургу разам з *Сяргеем Хмарам* і *Міколам Паньковым* выдаваў сатырычны часопіс «Маланка». Ад 1949 г. жыў у Аўстраліі. Актыўны ўдзельнік жыцця беларускай грамады ў Сіднэі. Адзін з арганізатараў Беларускага аб'яднання ў Новай Паўднёвай Валіі, у якім займаў розныя пасады. Шматгадовы распаўсюднік беларускага друку і сталы прадстаўнік газеты «Беларус» у Сіднэі.

**Васіль (Уладзімір Тамашчык,** (15.06.1900, в. Вялікія Азяраны Гарадзенскага пав. (сёння Сакольскі пав. Падляшскага ваяв., Польшча) — 09.06.1970, Нью-Ёрк, ЗША), рэлігійна-грамадскі дзеяч, архіепіскап БАПЦ. Паходзіў з заможнай сялянскай сям'і. У 1913 сям'я перабралася на нованабытую гаспадарку ў маёнтку Дубляны каля м. Вялікая Бераставіца. Вучыўся ў Вялікіх Азяранах, у Гародні. У 1915 г. разам з сям'ёю як бежанец трапіў у Омск (Сібір), дзе скончыў сярэднюю школу. У 1921 сям'я вярнулася ў Дубляны. Ад гэтага часу далучыўся да беларускага руху, належаў да КПЗБ. У 1927 г. быў арыштаваны польскімі ўладамі і асуджаны на тры гады турмы. Ад 1930 г.

жыў у Чэхаславаччыне. Скончыў агранамічны факультэт Пражскай політэхнікі, працаваў асістэнтам у Пражскім інстытуце заалогіі. Браў удзел у грамадскім беларускім жыцці. Некторы час быў сакратаром старшыні рады БНР Васіля Захаркі. З пачаткам Другой сусветнай вайны пераехаў у Беласток. Быў намеснікам рэдактара газеты «Новая дарога», працаваў у Беларускім камітэце. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Быў абраны старшынём Беларускага цэнтральнага камітэта — галоўнай арганізацыі беларусаў у Нямеччыне ў 1945–1947 гг. У 1948 г. пастрыгся ў манахі пад імем Васіль, а ў 1949 г. вышэйшымі іерархамі Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ўзведзены ў сан епіскапа Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. У 1951 г. скончыў Украінскую багаслоўскую акадэмію з дыпломам магістра багаслоўя. У 1951 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Узначальваў епіскапат БАПЦ у Паўночнай Амерыцы. Браў актыўны ўдзел у беларускім грамадскім жыцці ў ЗША. Узначальваў БІНІМ (1951). Забіты невядомымі ў сваёй кватэры ў Нью-Ёрку.

**Венедыкт** (**Васіль Бабкоўскі**, 28.02.(13.03)1876 г. Завалач Пскоўскай губ. — 21.08.1951, Мюнхен, Нямеччына), епіскап Рускай праваслаўнай царквы. Скончыў Пскоўскую духоўную семінарыю ў 1905 г. У часы Першай сусветнай вайны быў вайсковым святаром. Ад 1918 г. — настаяцель кафедральнага сабору ў Навагрудку. У 1937 г. прыняў манаства і быў прызначаны настаяцелем Жыровіцкага манастыра. Ад 1941 г. — епіскап Брэсцкі, вікарый Мінскай епархіі. Ад красавіка 1942 г. — архіепіскап Гарадзенскі і Беластоцкі Беларускай праваслаўнай царквы, экзарх Усходняй Прусіі. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне, дзе далучыўся да РЗПЦ. Ад 1950 г. — архіепіскап Берлінскі і Нямецкі.

**Юрка Віцьбіч** (сапр. **Серафім Шчарбакоў**, 02(15).06.1905, Веліж Віцебскай губ. (сёння Расія) — 06.01.1975, Саўт-Рывер, ЗША), літаратар, публіцыст, краязнаўца, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся у сям’і святара. Вучыўся ў педагагічным тэхнікуме. У 1922–1933 працаваў на хімічных заводах у Маскве. Уваходзіў у літаратурнае аб’яднанне «Узвышша», у 1939 г. прыняты ў Саюз пісьменнікаў СССР. У часе нямецкай акупацыі актыўна выступаў у друку, выдаў два зборнікі публіцыстыкі — «Вяліжскія паўстанцы» і «Нацыянальныя святыні», выступаў у друку з артыкуламі па гісторыі Беларусі. Быў сябрам Беларускага культурнага згуртавання, рэдактарам часопіса «Узвышша», адзіны нумар якога быў падрыхтаваны ў 1944 г. З лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1946 г. у Нямеччыне стварыў і ўзначаліў літаратурнае аб’яднанне «Шыпшына», выдаваў аднайменны часопіс, а таксама часопісы «Звіняць званы

Святой Сафіі», «БІС», газету «Беларускае слова». Ад 1949 г. жыў у ЗША. Друкаваўся ў беларускім і рускім перыядычным друку, у тым ліку «Новым рускім слове». Супрацоўнічаў з радыё «Свабода». Як пісьменнік дэбютаваў у 1929 г. у часопісе «Узвышша». Аўтар кніг прозы «Смерць Ірмы Лаймінг» (1932), «Формула супраціўлення касцей» (1937). У эміграцыі выдаў кнігу гістарычных нарысаў «Плыве з-пад Святое гары Нёман» (Мюнхен, 1956) і зборнік артыкулаў на рускай мове «Мы дойдем» (Нью-Ёрк, 1975).

**Віктар Войтанка** (на эміграцыі **Васілеўскі**, 06.11.1912, фальв. Мачульня Наваградскага пав. — 25.04.1972, Самерсэт, ЗША), грамадскі і рэлігійны дзеяч, лекар, сын Сцяпана Войтанкі. Скончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза. Падчас нямецкай акупацыі быў бурмістрам Баранавічаў. Удзельнік Беларускага Царкоўнага Сабору. Ад 1943 г. — акруговы лекар у Слоніме, у 1944 г. — доктар-інспектар Беларускай Краёвай Абароны. Ад лета 1944 г.

**Вінцэнт Гадлеўскі** (16.11.1888, в. Шурычы Ваўкавыскага пав. — 24.12.1942, в. Малы Трасцянец), рыма-каталіцкі святар, беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, публіцыст. У сакавіку 1917 г. абраны ў Беларускі нацыянальны камітэт, удзельнік Першага Усебеларускага кангрэса, уваходзіў у склад Рады БНР. Адзін з заснавальнікаў і лідараў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Рэдагаваў газету «Крыніца». Выступіў з ініцыятывай стварэння Беларускага нацыянальнага фронту, выдаваў газету «Беларускі фронт». У чэрвені 1941 г. увайшоў у створаны ў Берліне Беларускі нацыянальны цэнтр. У часе нямецкай акупацыі Беларусі прызначаны галоўным школьным інспектарам. Быў арыштаваны СД у ноч на 24 снежня 1942 г. і ў той жа дзень расстраляны.

**Леанід Галяк** (31.10.1910, Вільня — 03.04.1980, Стэмфард, ЗША), грамадскі дзеяч, юрыст. У 1930–1935 гг. вучыўся на хімічным, а пазней юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта. У часе нямецкай акупацыі працаваў юрыстам у Мінскай акрузе. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944–1945 гг. — супрацоўнік Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР. Заснаваў Беларускае бюро ў Брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны. Адзін з заснавальнікаў Саюза беларускіх журналістаў на чужыне і выдання «Летапіс беларускай эміграцыі». Ад 1949 г. жыў у ЗША. Адзін з заснавальнікаў і першы рэдактар газеты «Беларус» (1950–1951). Сябра БАЗА, у 1953–1956 гг. уваходзіў ва ўправу Стэмфардскага аддзела арганізацыі. У 1955 г. выйшаў з Рады БНР, а ў наступным годзе і з БАЗА. Аўтар «Успамінаў» (выдрукаваныя ў 2-х тамах у 1982–1983 гг.).

**Галіна Ганчарэнка** (**Грыбава, Руднік**; нар. 1931, Бабруйск), грамадска-культурная дзяячка, журналістка, перакладчыца. Бацька быў рэпрэсаваны і ў 1937 г. расстраляны, а маці праз год выслана ў Сібір. У 1944 г. выехала на эміграцыю разам са сваёй апякункай вядомай спявачкай Барбарай Вержбаловіч. Вучылася ў Беларускай гімназіі ім. Я. Купалы. У 1950 г. выехала ў ЗША. У 1954 г. скончыла факультэт раманскіх моваў Нью-ёркскага ўніверсітэта. Кіравала свецкім і царкоўным хорамі, працавала ў Арганізацыі беларускай моладзі. Была перакладчыцай у ААН. Пераехала на нейкі час у Мюнхен, працавала на радыё «Вызваленне» (Свабода).

**Мікола Ганько** (23.05.1924, хут. Каледзіна (сёння Маладзечанскі р-н Мінскай вобл.) — 18.05.1999, Таронта, Канада), грамадскі дзеяч у Канадзе, брат старшыні СБМ Міхася Ганько. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Маладзечанскай гандлёва-адміністрацыйнай школе, у 1944 г. быў на курсах сярэдніх кіраўнікоў СБМ у Альбертыне. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Па вайне апынуўся ў Зальцбургу (Аўстрыя). У 1948 г. перабраўся ў Канаду. Быў адным з заснавальнікаў парафіі БАПЦ Св. Кірылы Тураўскага ў Таронта, быў шматгадовым кіраўніком Згуртавання беларусаў у Канадзе. Адзін з ініцыятараў стварэння таварыства дапамогі дзецям — ахвярам чарнобыльскай катастрофы. Яго жонка Марыя напісала ўспаміны «Каб сведчылі пра Беларусь: жыццё і дзейнасць Міколы Ганько», выдадзеныя ў Мінску ў 2005 г.

**Леў Гарошка** (26.02.1911, в. Трашчыцы (сёння Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 28.07.1977, Парыж, Францыя), рэлігійны дзеяч, педагог, публіцыст. У 1928–1931 гг. вучыўся ў Наваградскай беларускай гімназіі, потым у Львоўскай духоўнай акадэміі, у 1936–1937 гг. у Каталіцкім універсітэце ў Інсбруку (Аўстрыя). 17 кастрычніка 1937 г. у Львове быў рукапакладзены ў святары. У 1937–1939 гг. працаваў душпастырам у розных месцах Пінскай дыяцэзіі. У 1939 г. загадам Наваградскага ваяводы быў выселены з пагранічнай паласы і жыў у Збуражы каля Маларыты. У 1939–1944 гг. працаваў у Баранавічах, у тым ліку і выкладчыкам у Медыцынскай школе. Ад лета 1944 г. — на эмігацыі. У 1945 г. арганізоўваў беларускае душпастырства ў Берліне і Мюнхене, потым пераехаў у Рым. У 1946 г. прызначаны Усходняй кангрэгацыяй для душпастырства беларусаў у Францыі, пераехаў у Парыж. У 1946–1957 гг. быў рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі. У 1946 г. выдаў малітоўнік «Божым шляхам», а ў 1947–1957 гг. выдаваў рэлігійна-грамадскі часопіс «Божым Шляхам». Пісаў пад псеўданімамі Л. Дварэцкі, Анатоль Жменя; Л. Іскра, Пракоп Каваль і іншымі. Аўтар шэрагу брашураў рэлігійнай тэматыкі.

У 1959 г. паступіў у навіцыят айцоў-марыянаў у Рыме. У 1960 г. быў пераведзены ў Лондан, дзе быў прызначаны на пасаду рэктара Беларускай каталіцкай місіі ў Англіі. У 1962 г. прыняў манаства ў капліцы Св. Апосталаў Пятра і Паўла ў Лондане. Да 1969 г. заставаўся рэктарам Місіі і ігуменам законнага Дому ў Лондане. Быў адным з выкладчыкаў у школе-інтэрнаце імя Кірылы Тураўскага. Далучыўся да ЗБВБ, уваходзіў у Галоўную ўправу, быў намеснікам старшыні арганізацыі. Ад імя беларусаў выступаў у Брытанскай радзе дапамогі ўцекачам. У 1964 г. стаў першым старшынём Беларускай харытатыўнай секцыі (фонду). У 1965 г. атрымаў годнасць архімандрыта. У 1970 г. перабраўся ў Рым, дзе кіраваў Беларускай секцыяй радыё Ватыкана. Адначасова выконваў абавязкі рэктара Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі. Памёр у шпіталі ў Парыжы, пахаваны ў Лондане. Архіў дзеяча захоўваецца ў Скарынаўскай бібліятэцы ў Лондане.

**Мікола Гарошка** (05.05.1902, в. Трашчыцы Наваградскага пав. Мінскай губ. (сёння Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 11.02.1979, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, бацька Расціслава Гарошкі. Вучыўся ў Карлавым універсітэце ў Празе. У ЗША прыехаў у 1948 г. Адзін са стваральнікаў і кіраўнік БАЗА ў 1949–1952 і 1965–1967 гг. Першы старшыня Фундацыі ім. П. Крэчэўскага (1964–1979). Сябра рэдкалегіі газеты «Беларус». Ад 1970 г. — сакратар Беларуска-амерыканскага рэспубліканскага клуба ў Нью-Ёрку.

**Язэп Германовіч** (20.02(04.03)1890, в. Гальшаны (сёння Ашмянскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 26.12.1978, Лондан, Вялікабрытанія), рэлігійны дзеяч, літаратар, публіцыст. Вучыўся ў гарадской школе ў Ашмянах, а потым ў Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі, якую скончыў у 1913 г. і атрымаў святарскія свячэнні. Служыў на Беласточчыне. У 1920 г. перабраўся ў Слонімскі павет, а ў 1924 г. уступіў у ордэн марыянаў. Пераехаў у Друю, выкладаў закон Божы і лацінскую мову ў друйскай гімназіі. Друкаваўся ў беларускіх выданнях «Крыніца», «Хрысціянская думка», пісаў пад псеўданімам Вінцук Адважны. Ад 1932 г. працаваў у Харбіне ва Усходняй місіі. У 1936 г. вярнуўся ў Вільню, дзе стаў кіраваць Домам марыянаў, аднак у 1938 г., пасля закрыцця ўстановы, зноў праз Рым выехаў у Харбін. У 1948 г. быў арыштаваны кітайскімі камуністычнымі ўладамі і выдадзены саветам, асуджаны на 25 гадоў прымусовых лагерных работ. Адбываў пакаранне ў лагерах Сібіры. Па вызваленні ў 1955 г. выехаў у Польшчу, адтуль у 1959 г. пераехаў у Рым і далей у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лондане ў Марыян Хаўзе. Ад 1962 г. быў цягам некалькіх гадоў дырэктарам школы-інтэрната Св. Кірылы Тураўскага. У 1964 г. аднавіў выданне рэлігійна-грамадскага часопіса «Божым шляхам», рэ-

дактарам якога заставаўся амаль да смерці. Пісаў байкі, быў аўтарам успамінаў «Кітай — Сібір — Масква», выдадзеных на шасці мовах. Архіў дзеяча захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы ім. Ф. Скарыны.

**Баляслаў Грабінскі** (03.08.1899, в. Урачыншчына Раманаўскае вол. Сакольскага пав. Гарадзенскае губ. (сёння Падляшскае ваяв., Польшча) — 20.08.1991, Лонгвуд, Фларыда, ЗША), грамадскі дзеяч, лекар. У 1920-х атрымаў спецыяльнасць лекара-дантыста. У 1930-х — пачатку 1940-х гг. жыў у Вільні. Быў старшынём Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, старшынём Беларускага нацыянальнага камітэта ў Заходняй Беларусі, намеснікам старшыні Беларускага навуковага таварыства. Працаваў на кафедры анатоміі медыцынскага факультэта Віленскага ўніверсітэта. У 1942–1944 гг. быў старшынём Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. У 1943 г. ледзь не расстраляны літоўскай адміністрацыяй. Ад 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне. Сябра Аб’яднання беларускіх лекараў на чужыне, аўтар артыкулаў у часопісе «Медычная думка». У 1950-х прыбыў у ЗША. Сябра БАЗА, удзельнік кіраўніцтва яго Чыкагскага аддзела арганізацыі. Радны БНР, сябра БІНІМа.

**Надзея Градэ-Куліковіч** (? — 19.03.1984, Чыкага, ЗША), оперная спявачка, другая жонка *М. Шчаглова-Куліковіча*. У паваенны час жыла ў Чыкага, займалася актыўнай канцэртнай дзейнасцю.

**Станіслаў Грынкевіч** (1912 — 18.04.1966, Кліўленд, ЗША), грамадскі дзеяч. Выпускнік Віленскага ўніверсітэта, сябра Беларускага студэнцкага саюза. Сябра рэдкалегіі часопіса «Калоссе». У 1939 г. быў мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у нямецкі палон. Ад восені 1941 г. да восені 1943 г. сакратар Беларускага камітэта самапомачы ў Берліне, выкладчык на настаўніцкіх курсах пры камітэце. Пазней рэдактар перыёдыкаў «Раніца» і «Беларускі работнік». У 1950 г. перабраўся ў ЗША. Радны БНР. Сябра БАЗА, удзельнік кіраўніцтва Кліўлендскага аддзела арганізацыі.

**Аляксей Грыцук** (03.07.1910, в. Міхнаўка (сёння Падляшскае ваяводства Польшчы — 30.05.1976, Кінгстан, Антарыа, Канада), грамадскі дзеяч, літаратуразнаўца. Завочна скончыў Варшаўскі ўніверсітэт са ступенню магістра гісторыі. Удзельнік абароны Варшавы ў верасні 1939 г. Трапіў у палон. У часе нямецкай акупацыі кіраваў школьным інспектаратам на Беласточчыне. У 1944 г. — асветны афіцэр у БКА. Чытаў лекцыі па гісторыі ў 1-ым кадравым батальёне БКА ў Берліне. У паваенны час быў адным са стваральнікаў Беларускага камітэта ў Аўстрыі. У 1948 г. пераехаў у Канаду. Жыў у Таронта. Браў актыўны ўдзел у грамадскім і царкоўным жыцці беларусаў Канады. Старшыня Згуртавання беларусаў Канады ў 1965–1967 і 1970–1972 гг. Абараніў

доктарскую дысертацыю, прысвечаную творчасці М. Багдановіча, працаваў у Квінс-універсітэце горада Кінгстан (Антарыа). Жонка Вольга напісала ўспаміны «Мы стваралі сваю Беларусь: Жыццё і дзейнасць Аляксея Грыцука», выдадзеныя ў Мінску ў 2007 г.

**Язэп Гуткоўскі** (сапраўднае **Ізыдар Плашчынскі**, 24.06.1908, Каралішчавічы Мінскага пав. — 25.02.1986, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, публіцыст, малодшы брат Я. Пушчы. У часе нямецкай акупацыі супрацоўнічаў у «Беларускай газеце». Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне жыў у лагеры *DP* у Гановеры. Супрацоўнічаў з перыёдыкам «Вольнае слова». У 1950-х гг. друкаваўся на старонках выданняў Мюнхенскага інстытута вывучэння СССР, быў няштатным аўтарам беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленне». Жыў у ЗША, у Нью-Ёрку.

**Антон Даніловіч** (псеўд. **Янка Золак**, **Яз. Дольны** і інш. 01(14).11.1912, в. Лучнікі Слуцкага пав. — 30.12.2000, Мілтаўн, Нью-Джэрсі, ЗША), пісьменнік, журналіст, выдавец, грамадскі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у «Газеце Случчыны». Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Заходняй Нямеччыне заснаваў саматужнае выдавецтва «Ніва». У 1950 г. пераехаў у ЗША, пасяліўся ў Нью-Джэрсі. Працягнуў выдаваць кнігі беларускіх пісьменьнікаў, а таксама друкаваныя насценныя беларускія календары. Заснаваў Беларускае культурна-мастацкае і навуковае таварыства. У 1960–1983 гг. — галоўны рэдактар часопіса «Беларуская думка». Удзельнік кангрэсаў беларусаў Амерыкі, адзін з кіраўнікоў БККА. У 1979–1981 гг. выйшлі два тамы яго «Твораў».

**Барыс Данілюк** (05.03.1923, в. Старыя Дзявяткавічы на Слонімшчыне — 28.01.2011, ЗША), грамадскі дзеяч, сын *Х. Данілюка*. У 1935–1939 гг. вучыўся ў польскіх гімназіях у Слоніме і Баранавічах. У часы нямецкай акупацыі працаваў сакратаром і школьным інспектарам у Слоніме, таксама ў структуры БКС, кіраваў самадзейнасцю, быў стартовым інструктарам СБМ, служыў перакладчыкам пры 48-м Беларускім батальёне. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Апынуўся ў французскай зоне акупацыі Нямеччыны. Вучыўся на інжынера-будаўніка ва ўніверсітэце ў Мюнхене. Актыўна ўдзельнічаў у беларускім студэнцкім жыцці, сябра Беларускага студэнцкага згуртавання і рэдкалегіі часопіса «Студэнцкая думка» (пазней — «Крывіцкі светач»). У 1950 пераехаў у ЗША, жыў у Нью-Джэрсі. Сябра БАЗА, уваходзіў у кіраўніцтва Нью-ёркскага і Лонгайлендскага аддзелаў арганізацыі. Сябра рэдкалегіі газеты «Беларус». У 1960–1970-х гг. выкладаў Закон Божы ў нью-ёркскай беларускай школе. У 1970-х гг. — скарбнік і старшыня Беларуска-амерыканскага рэспубліканскага

клуба ў штаце Нью-Ёрк. Ад 1996 г. сакратар Кансісторыі БАПЦ, выдавец газеты «Царкоўны пасланец».

**Хведар Данілюк** (12.08.1887, в. Сурынка Слонімскага пав. — 29.07.1960, Нью-Ёрк), рэлігійны і грамадскі дзеяч, праваслаўны святар, бацька Б. Данілюка. Удзельнік Першай сусветнай вайны. У 1919–1920 гг. служыў у войску Літоўскай рэспублікі, Беларускай вайсковай камісіі. Браў удзел у Слуцкім паўстанні 1920 г. Прыняў святарскае пасвячэнне ў 1921 г. У часе нямецкай акупацыі ў 1942 г. браў удзел у саборы Беларускае аўтакефальнае праваслаўнае царквы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, выконваў абавязкі ад'ютанта камандзіра 30-ай (беларускай) дывізіі войск СС. У жніўні 1950 г. пераехаў у ЗША, быў настаяцелем прыходу БАПЦ у Брукліне, а пазней настаяцелем кафедральнага сабора Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

**Мікалай Дзямідаў** (10.12.1888 — 23.06.1967, Чыкага, ЗША), вайсковы і грамадскі дзеяч, публіцыст. Удзельнік Першай сусветнай вайны, у 1918 г. займаўся ў Вільні арганізацыяй беларускіх вайсковых адзінак. Улетку 1920 уступіў у армію С. Булак-Балаховіча, арганізаваў асобны беларускі батальён, які ўдзельнічаў у паходзе 1920 г. Ад 1923 г. у Латвіі на чале таварыстваў «Беларуская хатка» і «Рунь». У 1940 г. арыштаваны і этапіраваны ў Маскву, але неўзабаве вызвалены. У 1941 г. кіраваў Беларускім нацыянальным камітэтам у Дзвінску, потым увайшоў у склад Беларускага нацыянальнага камітэта ў Рызе. У 1942 г. пераехаў у Беларусь, працаваў інспектарам Генеральнага камісарыята, потым рэферэнтам па школьных справах. Удзельнічаў у фарміраванні лідскага батальёна БКА. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне, пазней выехаў у ЗША.

**Уладзімір Дудзіцкі** (сапр. **Гуцька**, на эміграцыі **Гіцкі**; 08.01.1911, в. Дудзічы (сёння Пухавіцкі р-н Мінскай вобл.) — пасля 1976), літаратар, публіцыст, грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Беларускім педагагічным тэхнікуме ў Мінску, потым працаваў стыль-рэдактарам у газеце «Савецкая Беларусь» і перакладчыкам у Навукова-тэхнічным выдавецтве ды вучыўся на літаратурна-лінгвістычным факультэце Вышэйшага педагагічнага інстытута. На пачатку 1930-х падрыхтаваў зборнік паэзіі «Песні і думы», канфіскаваны падчас арышту ў 1933 г. Паводле прысуду калегіі НКУС СССР, быў прысуджаны да трох гадоў зняволення. Адбываў пакаранне у Новасібірску, Марыінску. Па вызваленні жыў у Ташкенце, працаваў у газеце «Фізкультурнік Узбекістана». Пасля 1937 г. вярнуўся ў Беларусь, жыў у Віцебску, дзе нейкі час працаваў настаўнікам беларускай мовы. Але ў 1939 г. быў афіцыйна адхілены ад настаўніцкай дзейнасці. У часе нямецкай акупацыі працаваў у аддзеле культуры і асветы Мінска і Мінскай акругі. Супрацоўнік «Беларускай

газеты», школьны інспектар у Барысаве. Уваходзіў у склад БЦР, быў сябрам Беларускага культурнага згуртавання, дзе ўзначальваў аддзел прапаганды, рэдагаваў часопіс «Беларус на варце». Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. У 1949 г. выехаў у Венесуэлу, дзе заснаваў Згуртаванне беларусаў у Венесуэле. Працаваў у інстытуце сельскай гаспадаркі. У 1956–1962 гг. — кіраўнік беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленне». У 1962 г. выехаў у ЗША. Некаторы час жыў у Нью-Ёрку, пазней перабраўся ў Індыяну, дзе ў 1976 г. бясследна знік.

**Канстанцін Езавітаў** (05.11.1893, Дзвінск (сёння Даўгаўпілс, Латвія) — 23.05.1946, Мінск), ваенны і грамадска-палітычны дзеяч. У Першую сусветную вайну праводзіў актыўную тлумачальную і арганізацыйную работу сярод салдат-беларусаў Паўночнага фронту, быў абраны намеснікам старшыні Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. Удзельнік Першага Усебеларускага кангрэсу ў снежні 1917 г., у лютым 1918 г. — вайсковы камендант Мінска. Народны сакратар па вайсковых справах, удзельнік абвяшчэння незалежнасці БНР. У 1919–1920 гг. быў кіраўніком Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі. У 1921–1944 гг. узначальваў Беларускае нацыянальнае аб’яднанне ў Рызе. У часе Другой сусветнай вайны займаўся арганізацыяй у Латвіі беларускіх школ. У часе Другога Усебеларускага кангрэса быў абраны ў склад БЦР, у 1945 г. займаў пасаду кіраўніка вайсковага аддзела БЦР. Затрыманы СМЕРШам у красавіку 1945 г. Паводле афіцыйнай версіі, памёр падчас следства ад сухотаў і дыстрафіі 23 мая 1946 г., паводле іншых звестак расстраляны.

**Іван Ермачэнка** (13.05.1894, в. Капачэўка Барысаўскага пав. — 25.02.1970, Фларыда, ЗША), грамадскі дзеяч. Удзельнік Першай сусветнай вайны, у часе Грамадзянскай вайны ваяваў у Белай арміі, у 1920 г. эвакуяваўся ў Турцыю. Ад 1921 г. — прадстаўнік ураду БНР у Канстанцінопалі і генеральны консул на Балканах. У 1929 г. скончыў медыцынскі факультэт Карлава ўніверсітэта ў Празе. Ад кастрычніка 1941 г. у Мінску, узначальваў Беларускую народную самапомач (БНС). У 1942 г. узначаліў Раду мужоў даверу пры генеральным камісары Беларусі В. Кубэ. Увесну 1943 г. у часе канфлікту СС з цывільнай адміністрацыяй быў зняты з пасадаў і высланы ў Прагу. Ад 1948 г. — на эміграцыі ў ЗША, працаваў лекарам. Адзін з заснавальнікаў Злучанага беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэта ў Саўт-Рыверы.

**Вінцэнт Жук-Грышкевіч** (23.02.1903, м. Будслаў (сёння Мядзельскі р-н Мінскай вобл.) — 14.02.1989, Беры, Канада), грамадскі дзеяч, педагог. Скончыў факультэт славянскай філалогіі і гісторыі Карлава ўніверсітэта ў Празе. Выкладаў беларускую мову і гісторыю ў Віленскай беларускай гімназіі, беларускую мову ў Праваслаўнай

духоўнай семінарыі і Вышэйшай школе палітычных навук у Вільні. У 1939–1942 гг. быў у савецкай высылцы, адкуль трапіў у Армію Андэрса. Служыў на Блізкім Усходзе, у Афрыцы, Італіі. У 1945–1948 гг. выкладаў гісторыю і псіхалогію ў вайсковых польскіх школах у Італіі і Вялікабрытаніі. Быў адным з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, першы старшыня арганізацыі (1947–1948). Пры канцы 1947 г. увайшоў у кіраўніцтва Рады БНР. Заснавальнік БХАА «Жыццё». У студзені 1950 г. выехаў у Канаду. У Атаўскім універсітэце абараніў доктарскую дысертацыю «Лірыка Янкі Купалы». У 1954–1956 гг. — першы кіраўнік беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленне». Вярнуўся ў Канаду, разам з жонкай *Раісай Жук-Грышкевіч* пасяліўся ў Беры (Антарыа). Стаў адным з заснавальнікаў Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады. У 1970–1982 гг. — старшыня Рады БНР. Пахаваны на могілках Іст-Брансвіка (Нью-Джэрсі, ЗША).

**Раіса Жук-Грышкевіч** (дзяв. **Жукоўская**; 22.10.1919, Пружаны (сёння Берасцейская вобл.) — 02.04.2009, Беры, Канада), грамадская дзяячка. Вучылася ў Віленскай беларускай гімназіі. Ад 1939 г. працавала настаўніцай у Пружанах. У 1942 г. выехала ў Нямеччыну, працавала ў «Вінэце». Па вайне апынулася ў Беларускім лагеры ў Ватэнштэце, брала ўдзел у скаўтынгу, пазней вучылася на дантыстку ў Марбургу. У 1949 г. пераехала ў Канаду. Скончыла Таронцкі ўніверсітэт па спецыяльнасці «дантыстыка». У 1953 г. узяла шлюб з грамадскім дзеячам *Вінцэнтам Жук-Грышкевічам*. Актыўная сяброўка ЗБК. У 1965 г. заснавала і ўзначаліла Згуртаванне беларускіх жанчын у Канадзе. У 1973 г. як прадстаўнік ад беларускай этнічнай групы ўведзена канадскім урадам у Кансультацыйную Раду па пытаннях шматкультуралізму. У 1993 г. напісала і выдала кнігу «Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча».

**Расціслаў Завістовіч** (01.09.1928, Случчына — 28.11.2000), грамадскі дзеяч. У 1949 г. прыбыў у ЗША. Жыў у Саўт-Рыверы, браў удзел у моладзевым руху сябра Аб’яднання беларуска-амерыканскай моладзі. У першай палове 1950-х служыў у амерыканскай арміі ў Нямеччыне. Па дэмабілізацыі вучыўся ў Ратгерскім універсітэце (Нью-Джэрсі), па сканчэнні якога пераехаў у Вашынгтон. Перакладаў звароты БККА на англійскую мову, рыхтаваў тэксты, прысвечаныя беларускай тэматыцы, для *Congressional Record*. Ад сярэдзіны 1960-х на пэўны час адышоў ад актыўнай грамадскай працы, вярнуўшыся толькі ў 1990 г., калі ўзначаліў БККА.

**Янка Запруднік** (да эмігр. **Сяргей Вільчыцкі** нар. 09.08.1926, м. Мір (сёння Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.)), грамадскі дзеяч, гісторык, публіцыст. Падчас Другой сусветнай вайны вучыўся

ў гандлёвай школе ў Баранавічах, быў сябрам СБМ, запісаўся ў дапаможную службу Люфтвафэ і апынуўся ў Нямеччыне. Пасля капітуляцыі апынуўся ў беларускім лагеры *DP* у Рэгенсбургу, вучыўся ў Беларускай гімназіі ім. Я. Купалы. У 1948 г. з «Дванаццаткай» выехаў у Вялікабрытанію. Працаваў у вугальных капальнях. Быў сябрам ЗБВБ, а таксама Згуртавання беларускіх камбатантаў і БХАА «Жыццё». У 1950 г. выехаў на навучанне ў Бельгію. У 1954 г. скончыў гістарычны факультэт Лювенскага ўніверсітэта. У 1954–1957 гг. працаваў у беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленне» ў Мюнхене, супрацоўнічаў з газетай «Бацькаўшчына». У 1957 г. выехаў у ЗША, дзе да 1991 г. працаваў у нью-ёркскай рэдакцыі радыё «Свабода». У 1981–1995 гг. быў галоўным рэдактарам газеты «Беларус». У 1969 г. у Калумбійскім універсітэце (Нью-Ёрк) абараніў доктарскую дысертацыю «Палітычная барацьба за Беларусь у царскіх Дзяржаўных думах (1906–1917)». У 1967–1975 гг. чытаў курс гісторыі Беларусі ў Куінс-каледжы Нью-ёркскага ўніверсітэта, а таксама Калумбійскім універсітэце. Аўтар 7 кніг, 11 брашураў і сотняў артыкулаў па гісторыі Беларусі. Сярод іншага выдаў кнігу, прысвечаную гісторыі «Дванаццаткі». Уваходзіць у кіраўніцтва Беларуска-амерыканскага задзіночання і Беларускага інстытута навукі і мастацтва, прэзідыум Рады БНР, управу фундацыі ім. П. Крэчэўскага.

**Людвік Зарэчны** (сапр. **Галубовіч**, 17.05.1915, Ратамка пад Мінскам — 15.09.1964, Мюнхен-Гладбах, Нямеччына), вайсковы і грамадскі дзеяч. Праз хваробу бацькі мусіў кінуць школу і ў 16 гадоў пайсці працаваць. Уладкаваўся на сакратарскую працу ў трэсце «ЛесБел». Пазней, магчыма, працаваў у іншых установах цягам чатырох гадоў. Атрымаць вышэйшую адукацыю не паспеў. У 1935 г. быў асуджаны на шэсць гадоў зняволення, аднак праз пяць гадоў вызвалены і працаваў у Хабараўску. У Беларусь вярнуўся ў 1941 г. і хутка быў мабілізаваны ў Чырвоную армію. Трапіў у нямецкі палон, з якога быў вызвалены ўвесну 1942 г. Працаваў у структуры Вермахту. Займаў становішча інспектара пры 9-й Арміі па наглядзе за дзейнасцю мясцовых аддзелаў паліцыі, а таксама працаваў на іншых пасадах. Пасля капітуляцыі Нямеччыны больш за два гады знаходзіўся пад арыштам. Аднак па вызваленні навязаў кантакты з Брытанскай адміністрацыяй у Нямеччыне і ў 1949–1953 гг. працаваў у сістэме Брытанскай кантрольнай камісіі на Нямеччыну на становішчы дарадчыка па пытаннях савецкай сістэмы і яе органаў. Здолеў зацікавіць Брытанскую выведку справай арганізацыі беларускага збройнага супраціву ў БССР, ладзіў навучанне дыверсійных групаў. У 1952 г. пры падтрымцы Р. Астроўскага заснаваў арганізацыю беларускіх вайскоўцаў на

эміграцыі Беларускі вызвольны рух, які дэклараваў сваю цесную сувязь з антысавецкім падполлем у Беларусі. У 1955 г. адышоў ад справаў арганізацыі і беларускага жыцця наогул. Праз некаторы час стаў падпісвацца як *«ксёндз Людвік Тытулярны Пастар Копыльскага Рэфармаванага Каталіцкага Кальвінскага Касьцёлу»*.

**Алесь Змагар** (сапраўднае **Аляксандр Яцэвіч,** 01.03.1903, в. Цароўцы Слуцкага пав. — ?), грамадскі дзеяч, пісьменнік, выдавец. Браў удзел у Слуцкім паўстанні і антысавецкай партызанцы. Падчас нямецкай акупацыі працаваў настуўнікам. Быў дэлегатам Другога Усебеларускага кангрэсу. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, Аўстрыі. У 1949 г. пасяліўся ў Францыі, быў сябрам Рады БНР. У 1956 г. выехаў у ЗША. Быў актывістам Беларускага вызвольнага руху. Сябра літаратурнай сустані «Баявая ускалось». Аўтар кніг: «Рэпка» (1946), «Случчакі» (1947), «Да згоды» (1962, 1963), «Змагарны шлях» (1962), «Дзень маці» (1964), «Вызвольныя шляхі» (1965), «Лесавікі» (1973), «Мае ўспаміны» (1985), «Случчына ў вагні» (1986).

**Вацлаў Іваноўскі** (25.05.1880, в. Лябёдка Лідскага пав. Віленскай губ. (сёння Шчучынскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 07.12.1943, Мінск), грамадскі дзеяч. У 1904–1905 член ЦК Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ). На пачатку 1906 г. узначаліў створанае ім у Пецярбургу першае беларускае выдавецтва — суполку «Загляне сонца і ў наша аконца». Удзельнік Першага Усебеларускага кангрэсу. Першы рэктар Беларускага педагагічнага інстытута (1918–1919). У 1918 г. зрабіўся міністрам асветы ва ўрадзе БНР, які ўзначальваў А. Луцкевіч, у кастрычніку 1920 г. — дырэктарам дэпартамента гандлю ва ўрадзе Сярэдняй Літвы. У 1922–1939 гг. выкладаў у Варшаўскім політэхнічным інстытуце. У 1942 г. быў прызначаны бургамістрам Мінска, у 1943 г. — старшынём Беларускай рады даверу і намеснікам старшыні Беларускага навуковага таварыства (БНТ). У часе нямецкай акупацыі арыентаваўся на польскі ўрад у выгнанні і заходніх саюзнікаў, падтрымліваў сувязь з прадстаўнікамі Арміі Краёвай. Спрыяў развіццю беларускага нацыянальнага руху, стварыў падпольную Партыю беларускіх нацыяналістаў. Загінуў у выніку замаху.

**Хведар Ільяшэвіч** (псеўданім **Святаслаў Залужны**, 17.02.1910, Вільня — 07.11.1948, Ватэнштэт, Нямеччына), грамадскі дзеяч, журналіст, пісьменнік. Скончыў гістарычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Падчас нямецкай акупацыі — у Беластоку, кіраваў Беларускім камітэтам, рэдагаваў штотыднёвік «Новая дарога». У ліпені 1944 г. выехаў у Берлін, працаваў у рэдакцыі газеты «Раніца», у 1944 г. выдаў восем кніг з серыі «Народная бібліятэчка». Пасля капітуляцыі Нямеччыны жыў у лагеры Ватэнштэт, настаўнічаў у

мясцовай беларускай гімназіі, апекаваўся беларускім скаўтынгам. Аўтар кніг: «Навагоднія запросіны» (1946), «У Купальскую ноч» (1946), «Песні выгнання» (1947), «Апавяданні» (1948). Загінуў у аўтакатастрофе. У 1981 г. выйшла кніга «Недапетая песня. Жыццё і творчая спадчына Хведара Ільяшэвіча».

**Міхась Кавыль** (сапр. **Язэп Лешчанка**, нар. 01.11.1915 г. в. Покаршава (сёння Слуцкі р-н Мінскай вобл.), пісьменнік, рэдактар, грамадскі дзеяч. У 1930–1933 гг. — вучыўся ў Беларускім педагагічным тэхнікуме. Быў сябрам «Маладняка». 23 лютага 1933 г. арыштаваны і асуджаны на 3 гады. Пакаранне адбываў на Далёкім Усходзе. У канцы кастрычніка 1935 г. датэрмінова вызвалены. Жыў у Варонежы (1935–1938), вучыўся ў педагагічным інстытуце на літаратурным факультэце (1936–1938), працаваў настаўнікам. У 1941 г. — у Чырвонай Арміі, трапіў у нямецкі палон, праз некаторы час быў вызвалены. Скончыў прапагандысцкія курсы ў Вустраве пад Берлінам, на якіх рыхтавалі будучых кіраўнікоў СБМ, працаваў у аддзеле прапаганды ў Мінску. Ад 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у Бельгіі. У 1950 г. выехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рыверы. Першы рэдактар газеты «Беларуская трыбуна». У 1950-х гг. браў актыўны ўдзел у працы БККА. Ад 1983 г. быў сталым рэдактарам часопіса «Беларуская думка». Выдаў зборнікі паэзіі «Ростань» (Рэгенсбург, 1947), «Пад зоркамі белымі» (Нью-Ёрк, 1954), «Першая рана» (Манчэстэр, 1960), «Цяжкія думы» (ЗША, 1961), «Міжагнёўе» (Нью-Ёрк, 1990).

**Кастусь Кадушка** (на эмігр. **Якуб Амор**, 11.06.1925 — пасля 1975 г.). Паходзіў з Дзісеншчыны. Быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, разам з якой трапіў у 30-ю грэнадзёрскую дывізію, перайшоў на бок саюзнікаў, затым служыў у 2-м Польскім корпусе. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі. Быў адным з заснавальнікаў ЗБВБ, адным з ініцыятараў і сталых аўтараў часопіса «Беларус на Чужыне». Сябра Згуртавання беларускіх камбатантаў і БХАА «Жыццё», адзін са стваральнікаў Беларускага незалежніцкага народна-хрысціянскага руху. У 1952 г. выехаў для навучання ў амерыканскай школе выведкі ў Нямеччыне. Рыхтаваўся для дэсантавання на савецкую тэрыторыю ў групе з Цімохам Вострыкавым, аднак адмовіўся выконваць загад. Трапіў у турму, але быў вызвалены праз некаторы час і з’ехаў у Бразілію. Пасяліўся на сталае жыццё ў Сан-Паўлу, падтрымліваў абмежаваныя кантакты з беларусамі, якія абарваліся пасля 1975 г.

**Віталь Кажан** (09.10.1916, в. Балбекі Дзісенскага пав. Віленскай губ. (сёння Шаркаўшчынскі р-н Віцебскае вобл.) — 17.01.2004, Стамфард, ЗША), вайсковы і грамадскі дзеяч. Скончыў польскую гімназію ў Дзісне, вучыўся ў афіцэрскай школе. Ад 1939 г. працаваў настаўнікам.

У жніўні 1942 г. скончыў першыя курсы афіцэраў у Мінску. Працаваў у БКС у Глыбокім, ад сакавіка 1943 г. быў загадчыкам беларускай канцылярыі пры нямецкай установе ў Вілейцы. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Берліне займаўся шкаленнем беларускіх афіцэраў. Ад лістапада 1944 г. быў ад'ютантам *Ф. Кушаля*. Пасля капітуляцыі Нямеччыны служыў у паліцыі лагераў *DP*. Ад 1948 г. — адміністратар газеты «Бацькаўшчына», сакратар Беларускага нацыянальнага камітэта на Амерыканскую зону акупацыі Нямеччыны. Ад 1949 у лагеры ў Розенгайме працаваў бухгалтарам і выкладаў нямецкую і англійскую мовы ў беларускай школе. У 1950 г. прыехаў у ЗША. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, потым перабраўся ў Стэмфард, штат Канектыкут. Сябра БАЗА, сакратар Стэмфардскага аддзела арганізацыі. Быў скарбнікам Рады БНР. У 1970-х гг. — старшыня Беларуска-амерыканскага клуба ў Канэктыкуце. Уваходзіў у кіраўніцтва Фундацыі ім. П. Крэчэўскага.

**Рыгор Казак** (псеўданімы: **Рыгор Крушына**, **Кастусь Рамановіч**, 13.12.1907, в. Бязверхавічы Слуцкага пав. (сёння Слуцкі р-н Мінскае вобл.) — 27.03.1979, Вашынгтон, ЗША), паэт, празаік, крытык, грамадскі дзеяч. Скончыў агульнаадукацыйныя курсы ў Слуцку (паводле іншых звестак, Белпедтэхнікум і Маскоўскі інстытут кінематаграфіі). Быў сябрам «Маладняка». Першыя творы пачаў публікаваць у другой палове 1920-х гг. Быў арыштаваны па справе Ю. Лістапада. У часе нямецкай акупацыі жыў у Мінску, друкаваўся ў беларускіх выданнях. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне друкаваўся ў перыёдыках «Раніца», «Беларускі работнік» і інш. У 1950-х выехаў у ЗША. Сябра Галоўнай управы БАЗА, і кіраўніцтва Нью-ёркскага аддзела арганізацыі. Адзін з заснавальнікаў БІНІМа, адзін з выдаўцоў часопіса «Конадні». Пры канцы 1950-х вярнуўся ў Нямеччыну, дзе працаваў на радыё «Вызваленне» ў Мюнхене. У 1960-х вярнуўся ў ЗША. Ад 1966 г. сябра Міжнароднага ПЭН-клуба. Аўтар кніг: «Лебедзь чорная» (1947), «Выбраныя творы» (1957), «Хвіліна роздуму» (1968), «Вясна ўвосень» (1972), «Дарогі» (1974), «Сны і мары» (1975).

**Аляксандр Калодка** (14.12.1911, в. Цэрабостынь Стаўбцоўскага пав. (цяпер Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 15.11.1985, Мельбурн, Аўстралія), грамадскі дзеяч. Скончыў гарадское вучылішча ў Ярэмічах (Карэліцкі раён) і ў 1926 г. паступіў у Віленскую беларускую гімназію. У 1928–1932 гг. вучыўся ў польскай гімназіі ім. А. Міцкевіча ў Вільні. Супрацоўнічаў з газетамі «Беларускі дзень» і «Сялянская ніва». У 1938 г. скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэта, атрымаўшы ступень магістра права. Працаваў у юрыдычным аддзеле грамадскага забеспячэння. У 1940–1941 гг. настаўнічаў у Вільні. З верасня 1941 г. працаваў надзвычайным упаўнаважаным гэбітскамісара

ў Вілейцы, дзе займаўся беларусізацыяй адміністрацыі. У 1943 г. арыштаваны вілейскім гестапа. Быў вязнем канцэнтрацыйных лагераў у Асвенціме, Біркенаў, Бухенвальдзе і інш. Па сканчэнні вайны працаваў у Беларускім нацыянальным камітэце, супрацоўнічаў з беларускай прэсай, арганізацыяй былых вязняў нямецкіх канцэнтрацыйных лагераў. Сябра Рады БНР ад яе аднаўлення ў 1947 г. У траўні 1948 г. прыехаў у Аўстралію, працаваў на цукровых плантацыях у Квінслэндзе, а пазней — рабочым ў Мельбурнскім порце. Арганізатар беларускага Сектара Рады БНР у Аўстраліі, першага Беларускага клуба ў Мельбурне. У 1950 г. стаў адным з заснавальнікаў Беларускага аб'яднання ў Аўстраліі, якое, аднак, праз год пакінуў. Сябра Згуртавання беларусаў у Вікторыі, Згуртавання беларускіх камбатантаў, Каардынацыйнага камітэта беларускіх арганізацый у Аўстраліі, Беларускага цэнтральнага камітэта ў Вікторыі. Сталы аўтар зацемак пра жыццё беларусаў Мельбурна ў газетах «Бацькаўшчына» і «Беларус». Сябра БІНІМа.

**Аляксандр Калоша** (1905, в. Заямнае Стаўбцоўскага пав. (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) — 1985, Чэхаславаччына), грамадскі дзеяч. Ад канца 1920-х жыў у Чэхаславаччыне. У 1940–1942 гг. — намеснік старшыні Пражскага аддзела Камітэта самапомачы. У 1942–1945 гг. кіраўваў беларускім аддзелам Арбайтсфронту («Рабочага фронту») у Берліне. У сакавіку 1944 г. быў абраны старшынём Беларускага камітэта самапомачы ў Берліне. У жніўні 1944 г. быў уведзены ў склад Беларускай Цэнтральнай Рады. У 1945 г. вярнуўся ў Прагу. 20 студзеня 1949 г. быў вывезены з Прагі ў СССР і асуджаны на 25 гадоў лагероў. 20 верасня 1955 г. вызвалены па амністыі і перададзены чэхаславацкім уладам. Арышт Калошы прызналі беспадстаўным, 1 ліпеня 1956 г. ён быў вызвалены.

**Аўген Калубовіч (**на эмігр. **Каханоўскі**, 05.03.1912, в. Ціхінічы Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. (сёння Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл.) — 25.05.1987, Кліўленд, ЗША), грамадскі дзеяч, пісьменнік, гісторык. У 1930 г. скончыў Бабчынскі педтэхнікум і быў асуджаны за «беларускі нацыяналізм» і высланы на тры гады ў Сібір. У 1934–1939 гг. выкладаў у Мінску і вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце. Пасля працаваў кансультантам-метадыстам у Наркамасветы БССР. З пачаткам нямецка-савецкай вайны мабілізаваны ў армію, трапіў у нямецкі палон пад Масквой. Вызваліўшыся, жыў у Мінску, кіраваў аддзелам культуры Беларускай Цэнтральнай Рады, узначальваў Беларускае культурнае згуртаванне. Падчас Другога Усебеларускага кангрэсу аўтар асноўнага дакладу «Аб канчальным разрыве Беларусі з Масквой і аб уневажненні маскоўскага голасу ў беларускіх справах», па выніках

якога была прынята рэзалюцыя, якая ў завуаляванай форме абвяшчала незалежнасць Беларусі. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў беларускай гімназіі ім. Я. Купалы ў Рэгенсбургу. З 1947 г. быў кіраўніком Ураду БНР. Ад 1950 г. жыў у ЗША, спачатку ў Нью-Ёрку, а з сярэдзіны 1950-х гг. — у Кліўлендзе. Быў адным з лідараў беларускага жыцця ў Кліўлендзе. У 1953 г. стаў старшынём Злучанага беларускага камітэта ў Кліўлендзе, выдаваў яго «Бюлетэнь». Сябра БАЗА, у 1952–1955 гг. — старшыня Кліўлендскага аддзела арганізацыі. У сярэдзіне 1950-х гг. выйшаў з Рады БНР і БАЗА. Аўтар шэрагу прац па гісторыі і культуры Беларусі.

**Леанід Карась** (20.11.1923, в. Дзямідзенкі Дзісенскага пав. — 07.09.1954, Мюнхен, Нямеччына), грамадскі дзеяч, журналіст. Працаваў настаўнікам. З лета 1944 г. апынуўся ў Нямеччыне. У беларускім лагеры ў Міхельсдорфе працаваў у лагернай ахове і вучыўся ў Беларускай гімназіі ім. Я. Купалы. Разам з іншымі сябрамі «Дванаццаткі» ў 1948 г. як *DP* прыбыў у Вялікабрытанію. Працаваў у вугальных капальнях. Сябра ЗБВБ, Згуртавання беларускіх камбатантаў і БХАА «Жыццё». У 1950 г. выехаў на навучанне ў Бельгію. Вучыўся на агранамічным факультэце Лювенскага ўніверсітэта. У пачатку 1954 г. пераехаў у Мюнхен, дзе працаваў у беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленне». Загінуў пры нявысветленых абставінах — цела з адзнакамі катаванняў знайшлі ў рацэ Ізар. Паводле адной з версіяў, да гэтага мела дачыненне савецкая выведка.

**Дзмітры Касмовіч** (21.09.1909, Нясвіж — 23.04.1991, Штутгарт, Нямеччына), вайсковы і грамадскі дзеяч. Скончыў гімназію ў Радашковічах, вучыўся ў ВНУ Бельгіі, Польшчы і Югаславіі. Браў удзел у студэнцкім руху. Служыў у польскім войску. У 1940–1941 гг. вучыўся ў мінскім Політэхнічным інстытуце. З пачаткам нямецкай акупацыі кіраваў аддзелам забеспячэння Мінскай управы і мінскай паліцыяй. У 1941–1943 гг. выконваў абавязкі інспектара дапаможнай паліцыі прыфронтавай зоны групы армій «Цэнтр». Браў актыўны ўдзел у беларускім руху, удзельнічаў у паседжанні, на якім было абвешчана аб утварэнні аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы, Царкоўным саборы, Другім Усебеларускім кангрэсе. Быў адным з лідараў Беларускай незалежніцкай партыі. Ва Усходняй Прусіі служыў у дэсантным батальёне «Дальвіц», які займаўся падрыхтоўкай дыверсійных сілаў дзеля барацьбы з савецкай уладай. З кастрычніка 1954 г. прызначаны прадстаўніком БЦР у ЦК Антыбальшавіцкага блоку нацый (АБН). У 1954 г. узначаліў Беларускі вызвольны фронт. Жыў у Штутгарце. Пакінуў кнігу ўспамінаў «За вольную і суверэнную Беларусь» (Вільня, 2006).

**Іван Касяк** (01.11.1909, в. Гіры (сёння Вілейскі р-н Мінскай вобл.) — 13.03.1989, Рывер-Форэст, ЗША), грамадскі дзеяч. У 1941 г. скончыў політэхнічны факультэт Львоўскага ўніверсітэта са спецыяльнасцю інжынера. Падчас нямецкай акупацыі ўваходзіў у склад Цэнтралі БНС, актыўны прыхільнік абвяшчэння аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы, адзін з арганізатараў Царкоўнага сабору БПЦ у 1942 г. У 1944 г. намеснік прэзідэнта БЦР на Глыбоцкую акругу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне адзін з кіраўнікоў Беларускага праваслаўнага аб'яднання. Не прызнаў аднаўлення БАПЦ пад кіраўніцтвам *Сергія (Ахатэнкі)* і аднаўлення Рады БНР пад кіраўніцтвам *М. Абрамчыка*. У траўні 1948 г. узяў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР, у 1948–1951 гг. узначальваў Сакратарыят БЦР. У 1949 г. выехаў у ЗША. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, затым з 1978 г. — у Рывер-Форэсце (Ілінойс). У 1957–1989 гг. — старшыня БККА. Быў сябрам Беларускага вызвольнага фронту, браў удзел у антыкамуністычных канферэнцыях у розных краінах свету, куды ездзіў за свой кошт. Аўтар кніг «З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу» (1956), «Byelorussia: historical outline…» (1989), «Другая сусветная вайна на Беларусі і паваенны час» (выдрукавана ў кнізе «Беларусь учора і сяньня», Менск, 1993).

**Іна Каханоўская** (дзяв. **Рытар**, у першым шлюбе **Сеўрук**, псеўд. **Аляксандра Саковіч**, 27.12.1906, Адэса (сёння Украіна) — 08.01.1997, Кліўленд, ЗША), пісьменніца, грамадская дзяячка, другая жонка *А. Калубовіча* (Каханоўскага). Ад 1921 г. жыла ў Мінску, вучылася ў Беларускім педагагічным тэхнікуме, скончыла гістарычнае аддзяленне педфакультэта БДУ. Працавала выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры. Першы муж (ажаніліся ў 1930 г.) быў высланы на Калыму. З малой дачкой (сын-першынец памёр) вярнулася ў Беларусь. Падчас нямецкай акупацыі жыла на радзіме бацькоў у Ярэмічах (сёння Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.), настаўнічала, была выкладчыцай у Наваградскай настаўніцкай семінарыі. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыла ў беларускім лагеры ў Рэгенсбургу, выкладала нямецкую і англійскую мовы ў беларускай гімназіі ім. Я. Купалы. Тут у выніку трагічнага выпадку загінула дачка. У 1950 г. выехала ў ЗША. Жыла ў Нью-Ёрку, брала ўдзел у нацыянальным грамадскім жыцці, уваходзіла ў Галоўную ўправу БАЗА, управу БІНІМа. У 1955 г. узяла шлюб з А. Калубовічам (Каханоўскім) і пераехала ў Кліўленд. Выкладала ў беларускай суботняй школцы, займалася літаратурнай творчасцю. У 1986 г. выйшаў збор твораў «У пошуках праўды».

**Яніна Каханоўская** (дзяв. **Шабуня**, 26.11.1905, Мінск — 16.07.2005, Нью-Ёрк, ЗША), грамадская дзяячка, пляменніца Івана і Анто-

на Луцкевічаў, першая жонка *А. Калубовіча* (Каханоўскага), маці *Ю. Андрусішынай*. Скончыла Мінскую польскую гімназію і агульнаадукацыйныя курсы, працавала медыцынскай лабаранткай. З 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Пасялілася ў Нью-Ёрку. Брала ўдзел у дзейнасці БАЗА (сакратар Галоўнай управы), уваходзіла ў кіраўніцтва жаночых структураў арганізацыі, а таксама ва ўправы Нью-ёркскага і Манхэтанскага аддзелаў. Сябра рэдкалегіі газеты «Беларус» і БІНІМа.

**Уладзімір Качан** (27.03.1918, в. Грылеўшчына Вілейскага пав. — ?), вайсковы дзеяч. Удзельнік нямецка-польскай кампаніі 1939 г., трапіў у нямецкі палон, супрацоўнічаў з нямецкай выведкай. У 1941 г. быў прызначаны кіраўніком разведвальна-дыверсійнай школы ў м. Ламсдорф (цяпер Польшча). 22 чэрвеня 1941 г. дэсантаваўся на чале групы дыверсантаў на тэрыторыю БССР. У часе нямецкай акупацыі служыў у мінскай паліцыі парадку. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У студзені 1945 г. уступіў у штурмавую брыгаду «Беларусь». Пазней служыў у Арміі Андэрса, разам з якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам ЗБВБ. Праз некаторы час выехаў у Францыю.

**Васіль Кендыш** (16.03.1908, в. Чарапы, Нясвіжскі пав. — 01.10.2003, Спрынгфілд, ЗША), грамадскі і рэлігійны дзеяч. У 1929 г. скончыў Клецкую беларускую гімназію. Вучыўся ў Найвышэйшай тэхнічнай школе ў Вільні. Працаваў меліяратарам, арганізоўваў беларускія драматычныя гурткі. У 1939–1941 гг. настаўнічаў. Скончыў Настаўніцкі інстытут у Беластоку. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у беларускай адміністрацыі ў Баранавічах, Нясвіжы, Клецку. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у лагерах *DP* у Нямеччыне. Быў сябрам Беларускага нацыянальнага камітэта на амерыканскую зону акупацыі. Актыўны ўдзельнік аднаўлення БАПЦ. Увесну 1949 г. выехаў у ЗША, жыў у Спрынгфілдзе. Радны БНР. Сябра БАЗА, ад 1953 г. — старшыня Спрынгфілдскага аддзела арганізацыі. 10 студзеня 1968 г. у Гайленд-Парку (Нью-Джэрсі) прыняў святарскі сан. Служыў у парафіях БАПЦ у Гайленд-Парку (да 1973 г.) і ў Брукліне (да 1981 г.). У 1972 г. быў абраны сакратаром Кансісторыі БАПЦ. У 1990 г. выйшаў на заслужаны адпачынак.

**Вітаўт Кіпель** (нар. 30.05.1927, Мінск), грамадскі дзеяч, навуковец, даследчык беларускай эміграцыі, сын *Я. Кіпеля*, муж *З. Кіпель*. У 1933–1942 гг. разам з бацькамі жыў у Расіі. Потым вучыўся ў Мінску, пакуль у 1944 г. не выехаў з бацькамі ў Нямеччыну. У 1945–1948 гг. вучыўся ў беларускай гімназіі ім. Я. Купалы, займаўся скаўтынгам. Потым паступіў на медыцынскі факультэт Цюбінгенскага ўніверсітэта, а ў 1953 г. скончыў Лювенскі ўніверсітэт са спецыяльнасцю геолага,

а ў 1955 г. атрымаў ступень доктара мінералогіі. Быў заступнікам старшыні Саюза беларусаў Бельгіі. У 1955 г. пераехаў у ЗША. Працаваў у навукова-вытворчых фірмах, у Балтымарскім універсітэце (штат Мэрыленд). У 1959–1985 гг. — у Даследчым цэнтры навукі і тэхналогіі Нью-ёркскай публічнай бібліятэкі (у т. л. на пасадзе выканаўчага дырэктара). У 1962–1963 гг. вучыўся ў Ратгерскім універсітэце (Нью-Джэрсі) па спецыяльнасці бібліятэказнаўства. Лідар беларускага рэспубліканскага руху. Пры канцы 1960-х гг. выкладаў у беларускай школе ў Брукліне. У 1960–1980-х гг. супрацоўнічаў з радыё «Свабода». У 1972–1982 гг. — старшыня Федэрацыі беларускіх рэспубліканскіх клубаў. У 1974 г. абраны на старшыню Рэспубліканскай федэрацыі штата Нью-Джэрсі. Рэдактар газеты нью-джэрсійскіх рэспубліканцаў *Heritage Review*. Заснавальнік і дырэктар беларускіх фестываляў у Нью-Джэрсі (1976–1979). У 1972 г. у Вашынгтоне абраны на заступніка старшыні Нацыянальнай канфедэрацыі амерыканскіх этнічных груп. У 1975 г. узнагароджаны медалём Паняволеных народаў Эйзенхаўэра. У 1978–1982 гг. — старшыня Этнічнай Рады штата Нью-Джэрсі. Ад 1982 г. — старшыня БІНІМа. Аўтар працы «Беларусы ў ЗША» (1993 г.; англамоўнае выданне 1999 г.), шэрагу грунтоўных бібліяграфічных даведнікаў, а таксама дзясяткаў публікацый, у т. л. артыкулаў беларусазнаўчай тэматыкі ў амерыканскіх энцыклапедыях.

**Зора Кіпель** (дзяв. **Савёнак**, 01.07.1927, Мінск — 14.04.2003, Нью-Джэрсі ЗША), грамадская дзяячка, бібліёграф, літаратуразнаўца, дачка *Л. Савёнка*, жонка *В. Кіпеля*. У 1936–1941 гг. у сувязі з высылкай бацькі жыла з маці ў Крычаве. Па вяртанні ў Мінск вучылася ў беларускай школе, потым у настаўніцкай семінарыі. Працавала ў «Беларускай газеце» і газеце «Голас вёскі». З лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. У 1945–1948 гг. вучылася ў Беларускай гімназіі ім. Я. Купалы, потым на медыцынскім факультэце Цюбінгенскага ўніверсітэта. Арганізатарка беларускага дзявочага скаўтынгу ў Амерыканскай зоне, стваральніца беларускіх бібліятэк у Міхельсдорфе і Остэргофене. У 1949–1954 гг. вучылася на хімічным факультэце Лювенскага ўніверсітэта, які скончыла з дыпломам магістра. Сябра Саюза беларусаў Бельгіі, удзельніца Беларускага студэнцкага хору. У 1955 г. прыехала ў ЗША. Спачатку працавала ў Балтымары ў лабараторыі Дж. Хопкінса. У 1956 г. пабралася шлюбам з В. Кіпелем і пазней пераехала ў Ратэрфорд (Нью-Джэрсі). У 1966 г. скончыла Ратгерскі ўніверсітэт (Нью-Джэрсі) са ступенню магістра бібліятэказнаўства і інфармацыйных тэхналогій і пачала працу ў Нью-ёркскай публічнай бібліятэцы (*NYPL)*. Была адной з ініцыятараў увядзення кампутарнай каталагізацыі ў бібліятэчнай сістэме ЗША. У 1982 г. заняла пасаду намесніка кіраўніка Славянска-

балцкага аддзела *NYPL*. У 1986 г. — скончыла факультэт параўнальнага літаратуразнаўства Ратгерскага ўніверсітэта. Сябра Амерыканскай асацыяцыі славістаў. Сябра БАЗА, у 1979–1983 гг. была сакратаром Галоўнай управы арганізацыі. У 1980–1990-х гг. была рэдактарам і сябрам рэдкалегіі газеты «Беларус». Радная БНР, сябра БІНІМа. У 1998 г. разам з мужам перадала на захаванне ў *NYPL* унікальную калекцыю беларускай эміграцыйнай перыёдыкі, на падставе якой была складзена і выдадзена грунтоўная «Бібліяграфія беларускага і беларусаведнага друку на Захадзе» (першае выданне: 2003–2004 гг, другое — 2006 г.). Аўтарка больш як двухсот беларусаведных публікацыяў у шэрагу навуковых выданняў, найперш у галіне беларускай літаратуры і крыніцазнаўства, складальніца шэрагу бібліяграфіяў.

**Яўхім Кіпель** (07.01.1896, в. Байлюкі Бабруйскага пав. (сёння Глускі р-н Магілёўскай вобл.) — 27.07.1969, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч, бацька *В. Кіпеля*. Паручнік царскай арміі, ваяваў на Румынскім і Паўднёвым франтах. У 1918–1921 гг. — у Чырвонай Арміі. З 1921 г. жыў у Мінску, быў сябрам Тэрміналагічнай камісіі Наркамата асветы, працаваў у Інстытуце беларускай культуры. Арыштаваны ў 1930 г. па справе Саюза вызвалення Беларусі і высланы на пяць гадоў у Вяцкую вобласць, у 1935 г. арыштаваны паўторна і высланы на Далёкі Усход. У 1942 г. вярнуўся ў Мінск, працаваў у Галоўным школьным інспектараце, рэдакцыі газеты «Голас вёскі», займаўся падрыхтоўкай падручнікаў. Старшыня Другога Усебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Браў удзел у грамадска-палітычным руху, уваходзіў у кіраўніцтва БЦР, рэдагаваў газету «Беларускае слова», быў сябрам БККА. Стварыў Асацыяцыю былых палітвязняў савецкіх лагераў.

**Канстанцін Кіслы** (25.05.1898, г. Ленчыца (сёння Лодзінскага ваяв., Польшча) — 08.01.1980, Беласток, Польшча), грамадска-культурны дзеяч, хормайстар. У часе Першай сусветнай вайны эвакуяваўся з сям'ёй ў Марыупаль (паўднёвая Украіна), вучыўся, а затым выкладаў спевы і кіраваў хорам у Марыупальскай настаўніцкай семінарыі. Некаторы час жыў у Турцыі, каля Стамбула. З 1921 г. вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. Кіраваў хорам слонімскай царквы. З 1933 у Беластоку, рэгент царкоўнага хору і хору Таварыства беларускай школы. У 1939 быў арыштаваны савецкай уладай, сядзеў у лагеры. З пачаткам нямецка-савецкай вайны вярнуўся ў Беласток, супрацоўнічаў з мясцовым Беларускім камітэтам, кіраваў Ансамблем беларускай песні і танцу. З 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, з 1948 у Бельгіі, працаваў у вугальных капальнях. Пасля смерці кіраўніка лювенскага Беларускага студэнцкага хору *М. Равенскага* быў запрошаны дырыга-

ваць хорам. У траўні 1956 г. прыехаў у ЗША. Жыў у Кліўлендзе. Сябра БАЗА, уваходзіў у кіраўніцтва Кліўлендскага аддзела арганізацыі. Кіраўнік беларускіх музычных калектываў і драматычнага гуртка ў Кліўлендзе. Настаўнік беларускай суботняй школы. Увосень 1976 г. выехаў да дачкі ў Польшчу. Жыў у Беластоку.

**Даніла Клінцэвіч** (22.12.1905, в. Макуці Ашмянскага пав. Віленскае губ. (сёння Іўеўскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 26.10.1967, ЗША), вайсковы і грамадскі дзеяч, пляменнік *М. Абрамчыка*. Да беларускага руху далучыўся ў міжваенны час. У часе нямецкай акупацыі служыў у 13-м батальёне СД. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Сябра БАЗА, у 1959–1960, 1961–1964 гг. — старшыня Нью-ёркскага аддзела арганізацыі. Сябра Згуртавання беларуска-амерыканскіх ветэранаў. Адзін з ініцыятараў выдання газеты «Беларус».

**Уладзімір Клішэвіч** (12.03.1914, в. Краснадворцы (сёння Старобінскі р-н Мінскай вобл.) — 14.11.1978, Лос-Анжэлес, ЗША), пісьменнік, грамадскі дзеяч. Па заканчэнні настаўніцкіх курсаў працаваў настаўнікам у Слуцку, з 1933 — студэнт Мінскага Педагагічнага інстытута. Рэпрэсаваны ў 1936 г, сасланы на Калыму. У жніўні 1940 г. вернуты на даследаванне ў Мінск, дзе заспела яго вайна. Падчас вайны жыў у Слуцку, рэдагаваў «Газэту Случчыны». У 1944 г. выехаў у Германію. З 1948 г. жыў у ЗША. Друкаваў вершы з 1931 г. Выдаў зборнік вершаў «Далячынь» (пазначана 1964, але з ліставання бачна, што кніга выйшла ў 1965) і паэму «Васіль Каліна» (1965). У Мінску быў выдрукаваны зборнічак «Сняцца сны мне залатыя» (1973).

**Уладзімір Клуніцкі** (20.05.1912, Мінск (?) — 27.08.1974, Сіднэй, Аўстралія), грамадскі дзеяч, выдавец. Меў адукацыю агранома. У 1948 г. прыехаў у Аўстралію, дзе адразу стаў адным з актыўных арганізатараў беларускага жыцця. Удзельнічаў у стварэнні першага беларускага клуба і агульнага Беларускага аб'яднання ў Новай Паўднёвай Валіі (пазней перайменаванага ў Беларускае аб'яднанне ў Аўстраліі). У межах дзейнасці гэтых арганізацыяў наладзіў выданне часопіса «Новае жыццё» і ўдзел беларусаў у першых міжнацыянальных выставах «новых аўстралійцаў». Пасля расколу Беларускага аб'яднання ў Аўстраліі ў 1952 г. далучыўся да Беларускага аб'яднання ў Новай Паўднёвай Валіі, але хутка выйшаў з гэтае арганізацыі і стварыў групу «незалежнікаў», афіцыйнай структурай якіх праз некаторы час стала Беларуска-аўстралійскае незалежнае аб'яднанне. Падтрымліваў сувязі з Сяргеем Хмарам у Канадзе і ягонымі выданнямі «Беларускі голас» і «Баявая ўскалось», на старонках якіх рэгулярна друкаваўся. Быў

ідэолагам «надпартыйнасці» ў Аўстраліі. У 1954 г. выдаў брашуру «Першыя крокі», прысвечаную пачаткам беларускага арганізацыйнага жыцця ў Аўстраліі і падзеям расколу. У 1955–1956 гг. спрабаваў аднавіць выданне ўласнага часопіса пад назвай «Да перамогі», але выйшлі толькі два нумары.

**Аляксандр Коўш** (1890, в. Рыдзялі Гродзенскага пав. (сёння Гродзенскі р-н) — 1943, Плешчаніцы), грамадска-палітычны дзеяч, праваслаўны святар, бацька *С. Каўша* і З. Каўшанкі. Скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, настаўнічаў на Століншчыне. Пасля заканчэння бухгалтарскіх курсаў працаваў у Люблінскім аддзеле Расійскага дзяржаўнага банка. У 1921 г. у Гародні быў высвечаны ў святары. У міжваенны час выкладаў Закон Божы ў Віленскай беларускай гімназіі, працаваў у Беларускім каапературным банку. Быў пробашчам беларускамоўнай парафіі ў Віленскай Пятніцкай царкве на Сніпішках. У 1927–1928 гг. зняволены польскімі ўладамі за беларускую нацыянальную дзейнасць. Рэдактар-выдавец часопіса «Беларуская зарніца» ў 1928–1929 гг. Быў кіраўніком секцыі Чырвонага Крыжа пры Беларускім цэнтры. За ўдзел у нацыянальна-вызвольным руху пазбаўлены месца настаяцеля Пятніцкай царквы ў Вільні і высланы святаром у в. Кастылі Вілейскага пав. У 1939 г. вярнуўся ў Вільню, быў настаяцелем царквы Св. Мікалая. У 1941 г. прызначаны ў выдавецкую камісію пры мінскім архірэі. За садзеянне ў выратаванні яўрэйскага насельніцтва арыштаваны гестапа ў г. п. Плешчаніцы і расстраляны.

**Святаслаў Коўш** (07.01.1917, Вільня (паводле іншых звестак — мястэчка Ілья (сёння Вілейскі р-н Мінскай вобл.) — 05.11.1997, Саўт-Рывер, ЗША), рэлігійны і грамадскі дзеяч, праваслаўны святар, сын *А. Каўша*. Скончыў факультэт права Віленскага ўніверсітэта, сябра Беларускага студэнцкага саюза. У 1938 г. высвечаны на дыякана. У 1938–1939 гг. — псаломшчык у Засуллі (Стаўбцоўскі р-н), у 1939–1941 гг. працаваў тамсама настаўнікам. Падчас нямецкай акупацыі быў начальнікам Клецкага павета. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У паваеннай Нямеччыне быў камендантам беларускага лагера ў Ватэнштэце. У 1949 г. выехаў у ЗША. Адзін з ініцыятараў стварэння беларускай праваслаўнай парафіі ў Саўт-Рыверы. У 1951–1957 гг. быў віцэ-старшынём Галоўнай управы БККА. У 1969–1976 гг. — настаяцель парафіі Св. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле, у 1976–1986 гг. — парафіі Св. Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы. Па смерці *а. Мікалая Лапіцкага* — з 1976 г. — быў адміністратарам беларускіх (кананічных) парафіяў у Паўночнай Амерыцы. Аўтар кніг: «Тры легенды» (1946), «Запавет бацькі» (1948), «Лагер Ватэнштэт» (1976), «Русальчына балада» (1980), «Беларускі лагер у Ватэнштэт» (1981).

**Аляксандр Крыт** (03.07.1901, в. Мархачоўшчына (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) — 21.05.1983, Кліўленд, ЗША), рэлігійна-грамадскі дзеяч, праваслаўны святар, іерарх БАПЦ. У 1924 г. скончыў Нясвіжскую гімназію, у 1927 г. — настаўніцкія курсы ў Радашковічах. Браў удзел у нацыянальным руху: быў сябрам БСРГ. У 1939 г. як жаўнер польскага войска трапіў у палон, быў вызвалены і ўключыўся ў грамадскае жыццё беларусаў у Нямеччыне. Увайшоў у склад управы берлінскага аддзела Камітэта самапомачы ў Нямеччыне (з 1943 г. займаў пасаду скарбніка), супрацоўнічаў з газетай «Раніца». У паваеннай Нямеччыне знаходзіўся ў беларускім лагеры ў Ватэнштэце (Ніжняя Саксонія), а ў 1948 г. прыехаў у Вялікабрытанію на працу. Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, у 1949–1950 гг. абіраўся на пасаду намесніка старшыні арганізацыі. 25 чэрвеня 1950 г. быў рукапакладзены ў святары БАПЦ. Жыў у Брадфардзе. Стаў заснавальнікам структураў БАПЦ у Вялікабрытаніі. Выдаваў Бюлетэнь брацтва і сястрыцтва Жыровіцкай Божай Маці. У 1961 г. выехаў у ЗША. Жыў у Кліўлендзе. У 1968 г. быў рукапакладзены ў сан епіскапа БАПЦ, а ад 1972 г. — мітрапаліт Гарадзенскі БАПЦ. Пры канцы жыцця прычыніўся да расколу царквы праз канфлікт з епіскапам *Мікалаем (Мацукевічам)*.

**Уладзімір (Уладзіслаў) Курыла** (01.06.1922, каля Радашковіч (сёння Маладзечанскі р-н Мінскай вобл.) —?), грамадскі дзеяч. Быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, разам з якой быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС. Потым служыў 2-м Польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў сябрам ЗБВБ, у 1951 г. уваходзіў у Галоўную ўправу арганізацыі. Меў спецыяльнасць тэхніка-дантыста і быў адным з заснавальнікаў дантыстычнай майстэрні ў Беларускім доме ў Лондане. Выконваў таксама абавязкі адміністратара Беларускага дома. Быў адным з ініцыятараў стварэння і старшынём Згуртавання беларускіх камбатантаў у Вялікабрытаніі. Быў сябрам БХАА «Жыццё» і БАКА «Рунь». У снежні 1954 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Сябра БАЗА.

**Францішак Кушаль** (16.02.1895, Пяршаі (сёння Валожынскі р-н Мінскай вобл.) — 25.05.1968, Рочэстар, штат Нью-Ёрк, ЗША), вайсковы і грамадскі дзеяч, муж *Н. Арсенневай*. У 1915–1917 гг. служыў у царскім войску. У 1919–1920 гг. быў сябрам Беларускай вайсковай камісіі, якая займалася стварэннем беларускіх вайсковых адзінак у складзе польскага войска. У 1924–1939 гг. кадравы афіцэр польскага войска. Увосень 1939 г. трапіў у савецкі палон, у красавіку 1941 г. выпушчаны пад нагляд НКУС. У 1941–1943 гг. займаў розныя вайсковыя пасады у Мінску: быў кіраўніком афіцэрскіх курсаў, начальнікам шта-

бу Самааховы. У лютым 1944 г. стаў камандзірам Беларускай Краёвай Абароны. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне стаў адным з заснавальнікаў Згуртавання беларускіх Ветэранаў. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Браў актыўны ўдзел у працы Рады БНР, БАЗА (у 1952–1954 г. — старшыня арганізацыі). У 1967 г. пераехаў з жонкай да сына ў Рочэстар.

**Мікалай Лапіцкі** (31.12.1907, в. Грэлікі (сёння Вілейскі р-н Мінскай вобл.) — 08.08.1976, Глэн-Спэй, Нью-Ёрк, ЗША), рэлігійна-грамадскі дзеяч, праваслаўны святар, педагог. Скончыў тэалагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта, абараніў магістарскую дысертацыю «Праваслаўе ў ВКЛ у часы вялікага князя Ягайлы». Працаваў у прыходах у Ашмянах, Стэфанпалі Дзісненскага павета. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Мінску, быў актыўным прыхільнікам БАПЦ. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Настаяцель царквы Св. Ефрасінні Полацкай у Рэгенсбургу — першай беларускай царквы на Захадзе. Выкладаў у Беларускай гімназіі ім. Я. Купалы. У 1950 г. выехаў у ЗША. Арганізаваў парафію ў Св. Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы і быў яе настаяцелем у 1950–1976 гг. Рэдактар часопіса «Царкоўны светач». У 1960–1970-х узначальваў ЗБАДК, браў удзел у кангрэсах беларусаў Амерыкі, уваходзіў у кіраўнічыя структуры БККА.

**Янка Ліманоўскі** (09.03.1896 — 30.05.1989, Рыхтан Парк, Ілінойс, ЗША), пісьменнік, літаратуразнаўца. У часе Першай сусветнай вайны служыў у царскай арміі. У 1920-х гг. працаваў у Наркамаце земляробства БССР. Быў сябрам «Маладняка» і БелАПП. У 1929 г. стаў дырэктарам Другога беларускага тэатра. Потым стаў намеснікам кіраўніка Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР. Праз выкрыццё звестак аб шляхецкім паходжанні быў выключаны з партыі і зняты з пасады. Працаваў на кафедры замежных моў у Політэхнічным інстытуце. Падчас нямецкай акупацыі — загадчык літаратурнай часткі мінскага гарадскога тэатру. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне. У 1949 г. перабраўся ў ЗША. Жыў у Чыкага. Быў сябрам Беларуска-амерыканскай нацыянальнай рады ў Чыкага. У 1952 г. выехаў у Нью-Ёрк. Быў сябрам Рады БНР. У 1952–1954 гг. — дырэктар БІНІМа. У 1954 г. перабраўся ў Мюнхен для працы ў беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленне», аднак працаваў там нядоўга. Вярнуўся ў Чыкага. Праз канфлікт з *В. Тумашам* адышоў ад БІНІМа. Быў сябрам Крывіцкага навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны. З часам абарваў кантакты з беларусамі.

**Іван Любачка** (01.05.1915, Полацкі пав. — 20.07.1977, Мурай, Кентукі, ЗША), гісторык, педагог. Скончыў матэматычны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытуту. У 1940–1941 г. быў у Чырвонай

Арміі, трапіў у нямецкі палон, быў выпушчаны, працаваў на бацькоўскай сялянскай гаспадарцы. У 1943 г. вывезены на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Па вайне працаваў настаўнікам ў беларускіх школах у лагерах *DP*. На пачатку 1950-х прыехаў у ЗША. Скончыў Калумбійскі ўніверсітэт са ступенню доктара гісторыі. Працаваў у Блумінгтонскім і Мурайскім універсітэтах. Аўтар шэрагу публікацый па гісторыі Беларусі, у т. л. англамоўнай «Беларусь пад савецкай уладай, 1917–1957» (*«Bielorussia under Soviet Rule, 1917–1957»*, 1972). Заснавальнік стыпендыяльнага фонду (фонд імя І. Любачкі) для падтрымкі беларусазнаўчых даследаванняў.

**Юрка Мазура** (1916 (?), Полацк — 04.02.1990, Дэтройт), грамадскі і вайсковы дзеяч. З 1928 г. жыў з бацькамі ў Наваградку. Служыў у польскім войску. У часе нямецкай акупацыі быў камандзірам звяза ў Наваградскім беларускім швадроне. Пазней быў лейтэнантам спецыяльнага беларускага аддзела ў Дальвіцкай выведчай школе. Па сканчэнні вайны вучыўся музыцы ва ўніверсітэце Філіпа ў Марбургу (Нямеччына). Стварыў беларускі студэнцкі хор, кіраваў ім, спяваў, апрацоўваў і пісаў песні. У 1950-х прыехаў у ЗША. Жыў у Дэтройце. Працаваў у аўтамабілебудаўнічай кампаніі. Кіраваў хорам. Сябра БАЗА, першы старшыня Дэтройцкага аддзела арганізацыі. Сябра Рады БНР.

**Станіслаў Мак** (да эміграцыі **Яроцкі,** 27.03.1922, каля Нясвіжа — 20.06.1983, Брадфард, Вялікабрытанія), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў польскай гімназіі ў Нясвіжы. Падчас нямецкай акупацыі быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, разам з якой летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзнікаў, затым служыў у 2-м Польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, Згуртавання беларускіх камбатантаў у Вялікабрытаніі. На пачатку 1950-х гг. вучыўся ў Лювенскім універсітэце (Бельгія) на факультэце паліталогіі і сацыялогіі. Спяваў у Беларускім студэнцкім хоры пад кіраўніцтвам *Міколы Равенскага*. Па сканчэнні навучання вярнуўся ў Вялікабрытанію. Жыў у Брадфардзе. У 1958–1969 гг. сакратар аддзела ЗБВБ. Актывіст прыхода БАПЦ. Быў беларускім прадстаўніком у мясцовым Камітэце паняволеных народаў. Уваходзіў ва ўправу Беларускага грамадскага клуба «Сакавік». У 1980-х гг. быў удзельнікам гуртка беларускай незалежніцкай думкі «Васілёк». У ягоны гонар была ўсталяваная памятная шыльда ў царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстэры.

**Язэп Малецкі** (12.01.1906, в. Якузы (сёння Міёрскі р-н Віцебскай вобл.) — 06.06.1982, Сіднэй, Аўстралія), грамадскі дзеяч, медык. Скончыў гімназію ў Друі, а пазней — медыцынскі факультэт Вілен-

скага ўніверсітэта. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у беларускай адміністрацыі — Віленскім беларускім камітэце, дырэктарам Медыцынскай школы ў Баранавічах, быў намеснікам прэзідэнта БЦР на Вілейскую акругу. Ад 1944 г. на эміграцыі ў Нямеччыне. У 1949 г. выехаў у Аўстралію. Здолеўшы пацвердзіць пасля дадатковага навучання дыплом медыка, атрымаў права лекарскай практыкі, якой займаўся ў Сіднэі на працягу доўгіх гадоў. Далучыўся да беларускага грамадскага жыцця. Актыўны сябра ўправы Беларускага аб’яднання ў Новай Паўднёвай Валіі, а ў 1960–1961 гг. — ягоны старшыня. Адзін з дырэктараў Беларускага культурна-грамадскага клуба ў Сіднэі. Старшыня аўстралійскага сектара Рады БНР. Адзін з ініцыятараў стварэння і старшыня Федэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі ў 1979–1980 гг. Сталы карэспандэнт розных беларускіх эміграцыйных перыёдыкаў (пісаў таксама пад псеўданімам Я. Лаўрыновіч). Аўтар аўтабіяграфічнай кнігі «Пад знакам Пагоні» (Таронта, 1976).

**Палікарп Манькоў** (19.02.1910, Слуцк — 1999), грамадскі дзеяч. У 1939–1941 гг. служыў у Савецкай Арміі, трапіў у палон. У 1942–1943 гг. працаваў у слонімскім гебітскамісарыяце. Ад чэрвеня 1943 г. узначальваў СБМ у Слуцкай акрузе. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне, потым у ЗША.

**Пётра Манькоўскі** (1916, г. Таропец (сёння Цвярская вобл. Расіі) — 2002, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч, публіцыст. Вывучаў юрыспрудэнцыю ва ўніверсітэтах Вільні, Мюнхена, Нью-Ёрка. Ачольваў Беларускую студэнцкую асацыяцыю ў ЗША. У 1980–1990-х гг. быў скарбнікам Кансісторыі БАПЦ. Пасля *М. Міцкевіча* рэдагаваў часопіс «Голас царквы». Хварэў на манію пераследу. Жыў адзін, у 1990-х гг. быў накіраваны на прымусовае лячэнне і дагляд у Дом для старых у *Wayne, NJ*, дзе і памёр. Сабраная ім багатая бібліятэка і архівы бясследна зніклі.

**Алесь Марговіч** (псеўданім **Алесь Галубіцкі**, 05.07.1927, Глыбокае (сёння Віцебская вобл.) — 11.11.1967, Мюнхен, Нямеччына), журналіст, грамадскі дзеяч, выдавец. У часе нямецкай акупацыі настаўнічаў. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, па сканчэнні Другой сусветнай вайны апынуўся ў беларускім лагеры ў Рэгенсбургу. Вучыўся ў Беларускай гімназіі ім. Я. Купалы. У Міхельсдорфе заснаваў выдавецтва «Крыніца», дзе выходзіў часопіс «Напагатове!» У 1948 г. разам з іншымі сябрамі «Дванаццаткі» прыбыў у Вялікабрытанію для працы ў вугальных капальнях. Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, сакратаром Другога з’езду гэтай арганізацыі. У 1950 г. выехаў на навучанне ў Бельгію. Скончыў факультэт паліталогіі і сацыялогіі Лювенскага ўніверсітэта; працаваў у Інстытуце вывучэння

СССР у Мюнхене. Рэдагаваў «Беларускі зборнік» і *Belorussian Review*, выдаваныя Інстытутам. Супрацоўнічаў з газетай «Бацькаўшчына» і беларускай рэдакцыяй радыё «Вызваленне».

**Кастусь Мерляк** (25.12.1919, в. Дзетамля (сёння Наваградскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 25.11.2006, Нью-Ёрк, ЗША). Скончыў курсы крэдытных інспектараў Дзяржбанка СССР у Беластоку, працаваў бухгалтарам, старшым крэдытным інспектарам на Наваградчыне. Падчас нямецкай акупацыі — у беларускай адміністрацыі, Самапомачы. У 1944 г. быў інтэндантам у Наваградскім беларускім швадроне *Б. Рагулі*. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Знаходзіўся ў Італіі, дзе быў інтэрнаваны амерыканскімі войскамі. У 1947 г. выехаў у Аргенціну, дзе стварыў і ўзначаліў Згуртаванне беларусаў. У 1954 г. пераехаў у ЗША. Радны БНР. У 1959–1964 гг. быў старшынём Галоўнай управы БАЗА. У 1965 г. выйшаў з арганізацыі і заснаваў Беларуска-амерыканскае аб’яднанне ў Нью-Ёрку. У 1968 г. разам з аднадумцамі стварыў парафію Св. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. Ад 1969 г. браў удзел у дзейнасці БККА, уваходзіў у яго кіраўнічыя структуры, у 1970-х гг. некаторы час быў віцэ-прэзідэнтам БККА. У сярэдзіне 1990-х адышоў ад актыўнай грамадскай дзейнасці. У 1992 г. выдаў успаміны «Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі».

**Мікалай** (свецкае **Міхась Мацукевіч,** 21.05.1917 хут. Суяцін Самарскай губерні, Расія — 20.06.2002, Таронта, Канада), рэлігійны дзеяч, праваслаўны святар, іерарх БАПЦ. Нарадзіўся, калі сям’я знаходзілася ў бежанстве. У 1921 г. разам з бацькам вярнуўся ў Моталь (сёння Іванаўскі р-н Берасцейскай вобл.). У 1939 г. прызваны ў польскае войска, паранены, вярнуўся да бацькоўскай гаспадаркі, на якой працаваў у час нямецкай акупацыі. У красавіку 1944 г. быў вывезены на прымусовыя працы ў Нямеччыну (зямля Паўночны Рэйн-Вестфалія). Па вызваленні амерыканскімі войскамі ў сакавіку 1945 г. выехаў у Шатландыю, працаваў на ферме пад Глазга. Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1949–1951 гг. жыў у Беларускім доме ў Лондане. У жніўні 1951 г. пераехаў у Таронта (Канада), а пазней — у Вініпег, дзе вучыўся ва Украінскай багаслоўскай акадэміі (калегіі). 2 траўня 1952 г. рукапакладзены на дыякана, а 6 траўня — іерэя. 4 кастрычніка 1954 г. адслужыў у царкве Св. Кірылы Тураўскага ў Таронта першую літургію. Быў настаяцелем гэтага прыходу, наведваў беларускія асяродкі ў Канадзе: у Садбуры, Манрэалі, Лондане, Кітчэнэры, Гвэлфе, Беры, Брантфардзе, Атаве, Алістане ды інш. Паспрыяў заснаванню парафіі БАПЦ Святога Духа у Дэтройце (ЗША). 10 сакавіка 1968 г. у Адэлаідзе (Паўднёвая Аўстралія) хіратанісаны галавой БАПЦ Сергіем у епіскапа Турава-

Пінскага і Таронцкага. У 1973 г. на Саборы БАПЦ узначаліў Канадска-еўрапейскую епархію БАПЦ. Удзельнік расколу БАПЦ у 1980-х, калі на Надзвычайным саборы БАПЦ у Кліўлендзе (штат Агая, ЗША) у 1983 г. быў абраны першым іерархам БАПЦ (паўторна абраны таксама ў 1984 г. на III Саборы БАПЦ). Спрычыніўся да перaводу багаслужбаў і літургічных кніг на беларускую мову. Выдаў «Праваслаўны малітоўнік» (1966), «Службоўнік» (1980). Аўтар успамінаў, якія рыхтуюцца да друку. Памёр у Таронта, пахаваны на могілках Іст-Брансвіку (ЗША).

**Міхась Міцкевіч** (псеўданім **Антось Галіна**, 13.07.1897, в. Мікалаеўшчына Менскага пав. (цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскае вобл.) — 25.10.1991, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі і рэлігійны дзеяч, пісьменнік, педагог, наймалодшы брат Якуба Коласа. Вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Удзельнічаў у I Усебеларускім кангрэсе. Працаваў школьным інспектарам, зарганізоўваў беларускае школьніцтва. З верасня 1939 г. быў настаўнікам, потым дырэктарам школы ў Мікалаеўшчыне. З 1944 г. — на эміграцыі. Адзін з арганізатараў беларускага лагера *DP* у Рэгенсбургу. Адзін з заснавальнікаў Беларускага нацыянальнага камітэта ў Нямеччыне, а таксама Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, дзе працаваў настаўнікам. Аўтар чатырох чытанак для дзяцей. У 1950 г. выехаў у ЗША. Сябра БАЗА, нью-ёркскага аддзела арганізацыі. У 1950-х быў сябрам рэдкалегіі, а ў 1962 г. рэдактар газеты «Беларус». Выкладаў у беларускай школе ў Нью-Ёрку. Пасля смерці Уладыкі *Васіля* — у 1970–1981 гг. займаўся выданнем часопіса «Голас царквы». Перакладаў на беларускую мову кананічныя і службоўныя тэксты.

**Нікандр Мядзейка** (28.08.1914, в. Панькі (сёння Іўеўскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 06.12.1987, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў настаўніцкай семінарыі ў Барунах да яе ліквідацыі ў 1932 г. Скончыў гімназію ў Вільні. У 1936–1939 гг. служыў у польскім войску. У 1939–1941 гг. працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Маладзечне. Падчас нямецкай акупацыі працаваў школьным інспектарам у Маладзечанскім павеце, затым — у Лідскай акрузе. Ад лістапада 1942 г. да верасня 1943 г. кіраваў акруговай управай БНС у Глыбокім. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У пасляваеннай Нямеччыне (французская зона акупацыі) скончыў універсітэт *UNRRA* з дыпломам інжынера меліярацыі. У лютым 1948 г. пераехаў у Францыю, дзе быў кіраўніком дэлегатуры БЦР у Францыі. У красавіку 1954 г. разам з сям'ёй выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Брансвіку (Нью-Джэрсі). 4 верасня 1954 г. прызначаны першым віцэ-прэзідэнтам БЦР. Быў скарбнікам БККА. У 1977–1987 гг. быў прэзідэнтам БЦР.

**Аляксандр Надсан,** да эміграцыі **Бочка** (нар. 08.08.1926, в. Гарадзея (сёння Нясвіжскі р-н Мінскай вобл.)), грэка-каталіцкі святар, грамадскі дзеяч, апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў у замежжы. Вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Скончыў курсы малодшых кіраўнікоў СБМ у Альбярціне. У чэрвені 1944 г. стаў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА. Летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзнікаў, затым служыў у 2-м Польскім корпусе ў Італіі, дзе браў удзел у баявых дзеяннях і быў паранены. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Адзін з заснавальнікаў ЗБВБ, рэдактар яго часопісаў «Беларус на чужыне» і «На шляху», старшыня арганізацыі ў 1951–1953 гг. Быў адным са стваральнікаў БХАА «Жыццё», БАКА «Рунь», а таксама Беларускага незалежніцкага народна-хрысціянскага руху. Скончыў матэматычны факультэт Лонданскага ўніверсітэта. Увосень 1953 г. паехаў вучыцца ў Грэцкую калегію ў Рыме. 23 лістапада 1958 г. атрымаў свячэнні святара ўсходняга абраду. У ліпені 1959 г. вярнуўся ў Вялікабрытанію. Працаваў выкладчыкам матэматыкі ў Нотынгеме і ажыццяўляў душпастырскую дзейнасць у Цэнтральнай і Паўночнай Англіі. Ад 1961 г. стаў адным з кіраўнікоў беларускай школы імя Кірылы Тураўскага ў Лондане. Ад 1971 г. кіраваў Беларускай бібліятэкай-музеем ім. Ф. Скарыны. Актыўна ўдзельнічаў у працы ЗБВБ, Харытатыўнай секцыі, Англа-беларускага таварыства. У 1981 г. стаў на чале Беларускай каталіцкай місіі ў Вялікабрытаніі. 30 чэрвеня 1986 г. быў прызначаны на пасаду апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў у замежжы. Стваральнік і кіраўнік Камітэта дапамогі ахвярам радыяцыі. Аўтар шэрагу перакладаў літургічных тэкстаў на беларускую мову, публікацыяў з гісторыі беларускай царквы і культуры. Ганаровы доктар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта.

**Часлаў Найдзюк** (28.08.1915, в. Бойдаты (сёння Ваўкавыскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 28.03.1995, Пасадэн, Каліфорнія, ЗША), грамадскі дзеяч, брат *Я. Найдзюка*. Адвакат паводле адукацыі. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза, Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Вілейцы на пасадзе міравога суддзі, узначальваў акруговую ўправу БНС. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. У 1950 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Лос-Анжэлесе, узначальваў мясцовы аддзел ЗБАДК, быў прадстаўніком БККА на штат Каліфорнія.

**Язэп Найдзюк** (12.05.1909, в. Бойдаты (сёння Ваўкавыскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 14.02.1984, Інаўроцлаў, Польшча), грамадскі дзеяч, выдавец, друкар, брат *Ч. Найдзюка*. У 1926–1941 гг. быў дырэктарам Беларускай друкарні імя Ф. Скарыны ў Вільні. Належаў да Беларускай

хрысціянскай дэмакратыі. Рэдагаваў часопіс «Шлях моладзі», які быў ліквідаваны польскімі ўладамі, а сябры рэдакцыйнай калегіі — арыштаваныя і зняволеныя (вызвалены ў верасні 1939 г.). У часе нямецкай акупацыі ў Мінску працаваў у школьным інспектараце і тэхнічным кіраўніком «Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі ў Менску» (ВШПЛМ), супрацоўнічаў з мінскімі газетамі. Пасля вайны пераехаў у Польшчу, дзе жыў у Інаўроцлаве пад імем Юзафа Александровіча. Аўтар папулярнага гістарычнага нарысу «Беларусь учора і сяння».

**Мікола Нікан** (03.01.1908, Варшава, Польшча — 16.06.1999, Мельбурн, Аўстралія), грамадскі дзеяч. Меў вышэйшую адукацыю. У 1929 г. служыў у польскім войску, пасля — настаўнічаў у Беларусі ў польскай школе і на настаўніцкіх курсах у Гародні. У 1939 г. быў арыштаваны савецкімі ўладамі і высланы ў Варкуту. У 1942 г. далучыўся да Арміі Андэрса. У шэрагах 2-га польскага корпуса прайшоў праз Сірыю, Егіпет, удзельнічаў у ваенных дзеяннях у Італіі. У 1947 г. у Вялікабрытаніі дэмабілізаваўся ў рангу капітана. Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, а ў 1950–1951 гг. — старшынём арганізацыі. Таксама быў сябрам Згуртавання беларускіх камбатантаў і БХАА «Жыццё». У 1952 г. пераехаў на сталае жыхарства ў Мельбурн, дзе адразу далучыўся да беларускага грамадскага жыцця. Быў сакратаром Згуртавання беларусаў у Вікторыі, сакратаром Беларускага цэнтральнага камітэта ў Вікторыі. Доўгі час быў прадстаўніком БЦК ў Камітэце паняволеных народаў. Выкладаў беларускую мову і геаграфію ў беларускай школе ў Мельбурне. Быў адным з ініцыятараў набыцця Беларускага дому, падтрымаў ідэю арганізацыі сустрэчаў беларусаў Аўстраліі. Доўгія гады распаўсюджваў беларускую прэсу ў штаце Вікторыя і быў сталым карэспандэнтам з Мельбурна для розных эміграцыйных выданняў.

**Аляксандр Орса** (24.07.1896, Нягневічы (сёння Навградскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 02.11.1959, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, педагог, муж *Н. Орсы*. У 1913 г. скончыў наваградскае гарадское вучылішча, потым — двухгадовыя настаўніцкія курсы. Мабілізаваны ў царскае войска, скончыў школу прапаршчыкаў і быў накіраваны на фронт. У 1918 г. вярнуўся на радзіму, настаўнічаў. У 1923–1929 гг. вучыўся ў Празе ва Украінскім педагагічным інстытуце, потым у Карлавым універсітэце. Доктар прыродазнаўчых навук. У 1929–1934 гг. выкладаў прыродазнаўства ў наваградскай беларускай гімназіі. У 1938 г. разам з сям’ёю прымусова выселены ў этнічную Польшчу, аднак з пачаткам Другой сусветнай вайны вярнуўся ў Беларусь, настаўнічаў, працаваў школьным інспектарам у Наваградскай акрузе.

Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне быў дырэктарам Беларускай гімназіі ім. Я. Купалы ў Рэгенсбургу, Міхельсдорфе. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Працаваў лабарантам у шпіталі. Арганізоўваў першыя беларускія школкі ў ЗША. Адзін з заснавальнікаў БАЗА і БІНІМа. Старшыня Нью-ёркскага сектара Рады БНР.

**Наталля Орса** (дзявочае **Сазановіч,** 19.08.1903, в. Сланеўская Воля (сёння Наваградскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 18.01.1990, Нью-Ёрк, ЗША), грамадская дзяячка, педагог, жонка *А. Орсы*. Скончыла наваградскую гімназію, а ў 1927 г. — украінскі педагагічны інстытут у Празе. Працавала выхавацелькай дзявочага інтэрната ў Наваградскай беларускай гімназіі, а таксама выкладала беларускую мову і літаратуру, у тым ліку і ў Наваградскай настаўніцкай семінарыі ў часы нямецкай акупацыі. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Выкладала ў Беларускай гімназіі ім. Я. Купалы ў Нямеччыне. У 1949 г. выехала ў ЗША. Жыла ў Нью-Ёрку. Выкладала ў беларускіх школах. Была сябрам БАЗА, уваходзіла ва ўправу і кіравала жаночай секцыяй Нью-ёркскага аддзела арганізацыі. Радная БНР.

**Язэп Пазняк** (да эміграцыі **Вайніловіч,** 25.01.1925, Случчына — 10.12.1989, Фларыда, ЗША), грамадскі дзеяч, унук фундатара мінскага Чырвонага касцёла Эдварда Вайніловіча. У часе Другой сусветнай вайны быў вывезены на працы ў Нямеччыну. Пазней уступіў у шэрагі Арміі Андэрса, разам з якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1951 г. выехаў на навучаньне ў Бельгію. Вывучаў інжынерыю ў Лювенскім універсітэце. У 1954 г. вярнуўся ў Вялікабрытанію. Тут уваходзіў у Галоўную ўправу ЗБВБ, а таксама ў кіраўніцтва БАКА «Рунь». У другой палове 1950-х гг. выехаў у ЗША. Тут у 1958–1960 гг. быў старшынём Нью-ёркскага аддзела БАЗА. Меў уласны бізнес — механічную майстэрню.

**Гіпаліт Паланевіч** (псеўданім **Няміга,** 23.07.1907, Міншчына — 24.10.1997, Нью-Ёрк, ЗША), грамадска-культурны дзеяч, педагог, гісторык. У 1932 г. скончыў Ленінградскі педагагічны інстытут. Быў рэпрэсаваны і ў 1936–1940 гг. адбываў пакаранне ва Ухта-Іжэмскім лагеры (Комі АССР). Пасля вызвалення вярнуўся ў Беларусь і працаваў настаўнікам. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Выкладаў гісторыю ў Беларускай гімназіі ім. Я. Купалы ў Нямеччыне, кіраваў тэатральным гуртком. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. У 1962 г. атрымаў універсітэцкі дыплом у галіне бібліятэказнаўства. Працаваў па спецыяльнасці. Быў стваральнікам газеты «Беларус» разам з М. Кунцэвічам. Сябра БАЗА, уваходзіў ва ўправу Нью-ёркскага аддзела арганізацыі. Аўтар шэрагу публікацый па гісторыі Беларусі.

**Вацлаў Пануцэвіч** (да эміграцыі **Папуцэвіч**, псеўданім **Мікола Волаціч**, 1910, в. Малая Альшанка Гарадзенскага пав. (сёння Гарадзенскі р-н) — 25.08.1991, Чыкага, ЗША), грамадскі дзеяч, гісторык, педагог. У 1936–1939 гг. вучыўся на юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Уваходзіў у склад Беларускага інстытута навукі і гаспадаркі, быў сябрам Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. У 1936 г. увайшоў у склад ініцыятыўнай групы па стварэнні Беларускага нацыянальнага фронту. У 1939–1941 гг. настаўнічаў у Гародні. Падчас нямецкай акупацыі працаваў на розных адміністрацыйных пасадах у Баранавічах. З лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945 г. узначаліў Беларускую гімназію імя М. Багдановіча ў Ватэнштэце. З 1946 г. кіраваў Згуртаваннем крывіцкіх скаўтаў на чужыне. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага. Актывіст мясцовага аддзела БАЗА. Займаўся даследчыцкай дзейнасцю (вывучаў рэлігійную гісторыю Беларусі), браў актыўны ўдзел у арганізацыі грэка-каталіцкай парафіі Св. Хрыста-Збаўцы ў Чыкага. Рэдактар часопісаў «Беларуская царква», «Літва».

**Панцеляймон (Павел Ражноўскі**, 27.10.1867, Кастрама, Расія — 30.12.1950, Нямеччына), епіскап Рускай праваслаўнай царквы. Скончыў Ваенна-інжынернае вучылішча, курсы пры Казанскай духоўнай акадэміі. У 1897 г. прыняў манаства. Ад 1905 г. быў настаяцелем Віцебскага Маркава Свята-Траецкага манастыра. У 1913 г. хіратанісаны ў сан епіскапа Дзвінскага. У 1918 г. прызначаны ў Пінск з тытулам епіскапа Пінскага і Наваградскага для кіравання цэрквамі Мінскай епархіі на тэрыторыі Польшчы. У 1922 г. на Польскім Саборы ў Варшаве выступіў супраць аўтакефаліі польскай царквы, за што быў рэпрэсаваны польскімі ўладамі, пазбаўлены кафедры і сасланы ў Мялецкі, а затым у Жыровіцкі манастыр. У 1939 г. прызначаны архіепіскапам Гродзенскім і Вілейскім. У гады нямецкай акупацыі ўзначаліў Праваслаўную царкву ў Беларусі. Ад сакавіка 1942 г. — мітрапаліт Мінскі і Беларускі. У маі 1942 г. адхілены ад кіраўніцтва Беларускай царквой і сасланы ў Жыровіцкі манастыр праз канфлікты з прыхільнікамі аўтакефаліі. У красавіку 1943 г. быў вернуты ў Мінск, сабраў епіскапскі сабор, які абвясціў несапраўнымі рашэнні Усебеларускага царкоўнага сабора 1942 г. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Далучыўся да Рускай праваслаўнай царквы за мяжой.

**Мікола Панькоў** (псеўданім **Мікола Вольны** і інш., 12.06.1911, Люцын (сёння Лудза, Латвія) — 07.01.1995, ЗША), грамадскі дзеяч, бібліёграф, публіцыст. Вучыўся ў Дзвінскай беларускай гімназіі. У міжваенны час — сябра партыі эсэраў. У 1926 г. арыштаваны латвійскімі ўладамі і асуджаны да 5 гадоў турмы. Па вызваленні

супрацоўнічаў з беларускімі перыёдыкамі ў Заходняй Беларусі і Латвіі. У часе нямецкай акупацыі працаваў на чыгунцы. З лета 1944 г. — на эміграцыі. У лагеры *DP* у Альдэнбургу заснаваў Беларускую бібліяграфічную службу: збіраў і апісваў беларускія выданні. Уклаў «Слоўнік замежных словаў беларускай мовы», уклаў і надрукаваў шэраг неперыядычных выданняў. У 1951 г. пераехаў у ЗША. З 1952 г. — старшыня Саюза беларускіх журналістаў. Падрыхтаваў даведнікі «Хто ёсць хто на эміграцыі», «Мартыралогія беларускага народа», «Беларуская прэса на эміграцыі».

**Уладзімір Пеляса** (01.05.1918, Ліда (сёння Гарадзенская вобл.) — 24.04.2004, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у структурах БНС. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Заходняй Нямеччыне браў удзел у грамадскім жыцці, беларускім скаўтынгу. У 1949 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Працаваў аператарам машынаў у кампаніі «Атланта-Карпарэйшн». Узначальваў нью-ёркскі аддзел ЗБАДК, уваходзіў ва ўрад БККА. Належаў да Амерыканскіх прыхільнікаў БЦР і Амерыканскіх прыхільнікаў АБН. Актывіст парафіі Св. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. У 1950-х заснаваў уласнае выдавецтва, у якім выдрукаваў за ўласны кошт некалькі кніг беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў.

**Анатоль Плескачэўскі** (28.02.1911, Глыбокае (сёння Віцебская вобл.) — 31.03.1980, Лексінгтан, штат Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч. Скончыў глыбоцкую гімназію, Сельскагаспадарчую школу ў Грудзёндзы (1932) з дыпломам жывёлавода-агранома. У 1932–1939 гг. працаваў жывёлаводам-аграномам павета Вільня—Трокі. У 1940–1942 гг. жыў на тэрыторыі Літвы. У 1944 г. — ад’ютант прэзідэнта Беларускай цэнтральнай рады *Р. Астроўскага*. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў у сакратарыяце БЦР у Берліне. У пасляваенны час вучыўся ва ўніверсітэце *UNRRA* ў Мюнхене, потым — ва Украінскім тэхнічна-сельскагаспадарчым інстытуце на спецыяльнасці «ветэрынарыя». У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у штаце Нью-Джэрсі. Працаваў на хіміка-фармацэўтычных фабрыках, затым — у аддзеле антыбіётыкаў фірмы *Pinick* (Ньюарк, Нью-Джэрсі). Браў актыўны ўдзел у беларускім грамадскім жыцці. Займаў пасаду віцэ-прэзідэнта Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі, віцэ-прэзідэнта Амерыканскіх прыхільнікаў АБН. Парафіянін царквы Св. Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы.

**Юры Попка** (псеўданімы **Жывіца**, **Жубровіч** і інш., 07.10.1912, хут. Высокі Пруд Пружанскага пав. — 29.04.1990), літаратар, выдавец, грамадскі дзеяч. Пачаў друкавацца ў 1938 г. на старонках

заходнебеларускіх перыёдыкаў. У 1942 г. пасля паездкі ў Беласток і знаёмства з *Х. Ільяшэвічам* стаў пісаць для «Новай дарогі». У 1943 г. стварыў і ўзначаліў у Пружанах аддзел Беларускага аб’яднання, займаўся арганізацыяй беларускіх школ. З 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне захварэў і да 1950 г. лекаваўся ў розных шпіталях і санаторыях. Пазней пасяліўся ў Лаймене. Выдаваў шэраг беларускіх перыёдыкаў: «Беларуская праўда» (1965–1988), «Бюлетэнь Беларускай цэнтральнай рады — Жыве Беларусь!» (1976–1986), «Весткі інстытута беларусаведы» (1986–1993). Быў кіраўніком палітычна-прапагандысцкага аддзела Галоўнага штабу Беларускага вызвольнага фронту. Стварыў беларускі музей. Аўтар кніг: «Сын» (1950), «Праз слёзы» (1951), «Песня салаўя» (1955, 1963), «Аднагалоссе» (1961), «Кошык» (1961), «Расказы» (вып. 1–3, 1961), «У санаторнай белі» (1961), «Журавель» (1962), «Па чужых кутках» (1962), «Сын» (1962), «Свеціць у тумане» (вып. 1–3, 1962), «Умелы падыход» (1962), «З вінтоўкай у руках» (1963), «Пушча шуміць» (1963), «Новая хата» (1964), «Носьбіт ідэі» (1964).

**Мікола Прускі** (01.01.1927, в. Мікалаеўшчына (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.)), грамадскі дзеяч, выдавец, сын стрыечнай сястры Якуба Коласа. У ЗША прыехаў пасля Другой сусветнай вайны. Пасяліўся ў Дэтройце. Актыўны сябра БАЗА, у тым ліку сябра і старшыня ўправы Дэтройцкага аддзела арганізацыі. У 1960–1970-х гг. — актывіст Беларуска-амерыканскага рэспубліканскага клуба ў Дэтройце. Выдаў дзясяткі беларускіх кніг. Рэдактар і выдавец перыёдыкаў «Беларускі свет» (1971–1989), «Беларускі дайджэст» (ад 1993 г.).

**Ян Пятроўскі** (07.01.1905, Слуцк (сёння Мінская вобл.) — 19.01.2001, Гейнсвіл, Фларыда, ЗША), рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч, пратэстанцкі прапаведнік, выдавец, літаратар, перакладчык. У міжваенныя гады быў прыхільнікам Беларускай сялянска-работніцкай грамады, служыў у польскім войску. Напрыканцы 1920-х далучыўся да царквы метадыстаў. У 1930–1931 гг. вучыўся ў біблійнай школе метадыстаў, потым быў пастарам у Варшаве і Дзярэчыне (Зэльвенскі р-н Гарадзенскай вобл.). У 1941 г. выехаў у Нямеччыну. Браў удзел у працы Беларускага камітэта самапомачы ў Берліне, працаваў на радыё «Вінета». У 1945–1953 гг. жыў у Лінцы (Аўстрыя), дзе займаўся прапаведніцкай дзейнасцю. У 1953 г. выехаў у ЗША. Жыў у Фларыдзе. У 1976 г. заснаваў Беларускі харытатыўна-адукацыйны фонд. Напісаў і выдаў некалькі дзясяткаў кніг, у тым ліку пераклады з Платона, Марка Аўрэлія, «Класічны грэка-беларускі слоўнік».

**Мікола Равенскі** (05.12.1886, в. Капланцы Ігуменскага пав. (сёння Бярэзінскі р-н Мінскай вобл.) — 09.03.1953, Лювен, Бельгія),

кампазітар, хормайстар. У 1903–1914 гг. — кіраўнік хору пры мужчынскім манастыры ў Мінску. У 1915 г. скончыў рэгенцкія курсы ў Маскве, у 1930 г. — Маскоўскую кансерваторыю (1930). У 1930-х выкладаў у Мінскім музычным тэхнікуме, Беларускай кансерваторыі. У 1938 г. быў выключаны з Саюза кампазітараў. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Чэрвені, быў рэгентам царкоўнага хору. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў рознарабочым на тартаку пад Мюнхенам. У канцы 1940-х пераехаў у Лювен (Бельгія), арганізаваў студэнцкі ансамбль пры Лювенскім універсітэце. Аўтар гімну-малітвы «Магутны Божа» (словы *Н. Арсенневай*).

**Барыс Рагуля** (01.01.1920, в. Турэц Навагрудскага пав. (сёння Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 21.04.2005, Лондан, Канада), вайсковы і грамадска-палітычны дзеяч. Удзельнік нямецка-польскай кампаніі 1939 г., трапіў у нямецкі палон. Уцёкшы з палону, працаваў настаўнікам у Навагрудку. Арыштаваны органамі НКУС, Але з пачаткам нямецка-савецкай вайны ўцёк з-пад варты. У часе нямецкай акупацыі працаваў выкладчыкам у Навагрудскай настаўніцкай семінарыі, перакладчыкам акружнога камісара. Адзін з акружных кіраўнікоў СБМ і БНС, намеснік БЦР і камендант БКА. Арганізаваў і ўзначаліў паліцэйскі батальён № 68. Адзін з кіраўнікоў разведвальна-дыверсійнай школы ў Дальвіцы, маёр 30-ай (беларускай) дывізіі войск СС. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку быў у амерыканскай зоне акупацыі Нямеччыны, ад 1949 г. — у Бельгіі. Займаўся справамі беларускіх студэнтаў у Заходняй Еўропе. У 1954 г. пераехаў у Канаду. Пасяліўся ў Лондане (Антарыа). Працаваў як медык, быў вядомым у краіне спецыялістам па ракавых захворваннях. Сябра Згуртавання беларусаў Канады. Ад 1971 г. — намеснік прэзідэнта Рады БНР, адначасова ў 1973–1989 гг. старшыня Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады.

**Васіль Рагуля** (28.07.1879, в. Ачукевічы Навагрудскага пав. (сёння Наваградскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 16.06.1955, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, публіцыст, дзядзька *Б. Рагулі*. У 1900 г. скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут. Настаўнічаў. Удзельнік Першай сусветнай вайны. У 1917 г. уступіў у Расійскую дэмакратычную партыю. Удзельнік Першага Усебеларускага кангрэсу. У часе польскай акупацыі ўваходзіў у Расійскую аб’яднаную радыкальна-дэмакратычную групу. Улетку 1920 г. — у Чырвонай Арміі. У 1922 г. абраны дэпутатам польскага сейма, увайшоў у Беларускі пасольскі клуб. Адзін са стваральнікаў і кіраўнікоў Беларускага сялянскага саюза. У 1928 г. абраны сенатарам, але неўзабаве зняволены польскімі ўладамі (1928–1930). У чэрвені 1941 г. арыштаваны НКУС, уцёк з-пад варты. У часе

нямецкай акупацыі — бургамістр Дзятлаўскага раёна. З лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне, потым у Бельгіі. У 1950 г. пераехаў у ЗША. Быў сябрам першай рэдкалегіі газеты «Беларус».

**Усевалад Радзевіч** (11.09.1916, Піншчына — 17.07.1998, Сіднэй, Аўстралія), грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і праваслаўнага вайсковага святара. Вучыўся ў Гандлёвай акадэміі ў Львове. У 1939 г. быў мабілізаваны ў польскую армію, трапіў у палон. Пазней утрымліваўся ў канцэнтрацыйным лагеры ў Трыры, адкуль здолеў вырвацца. У 1944 г. — ад'ютант прэзідэнта БЦР, лейтэнант БКА, удзельнік Другога Усебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку быў у Нямеччыне, у Мюнхене. У 1949 г. выехаў у Аўстралію. Жыў у Сіднэі, дзе браў удзел у жыцці беларускай дыяспары. Быў сябрам Беларускага аб'яднання ў Аўстраліі. Пазней удзельнічаў у нацыянальных мерапрыемствах, ладжаных Беларускім культурна-грамадскім клубам.

**Усевалад Родзька** (1920, в. Чучавічы на Лунінеччыне — 1946?), грамадскі дзеяч. Скончыў Наваградскую польскую гімназію ім. А. Міцкевіча, потым падафіцэрскую школу. У 1939 г. трапіў у нямецкі палон, адкуль вызваліўся праз год. У Кракаве ўзначальваў мясцовы аддзел Варшаўскага беларускага камітэта. Удзельнічаў у арганізацыі Беларускай незалежніцкай партыі. З вясны 1941 г. супрацоўнічаў з абверам. З ліпеня 1941 г. быў бургамістрам Віцебска. З 1942 г. быў старшынём ЦК БНП, арганізоўваў нацыянальную партызанку. Быў сябрам БЦР, адказваў за працу з моладдзю. З сакавіка 1944 г. быў камандзірам 15-га батальёна БКА. Арганізоўваў беларускі батальён «Дальвіц», пасля раззбраення батальёна ў Чэхіі нелегальна перабраўся ў Польшчу. Ствараў антысавецкую партызанку пад эгідай БНП. У 1945 г. арыштаваны і ў 1946 г. прыгавораны да найвышжйшай меры пакарання.

**Філарэт Родзька** (27.01.1890, в. Вераскава Наваградскага пав. — 05.03.1977, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч, педагог. Удзельнік Першай сусветнай вайны. У часе нямецкай акупацыі выкладаў у Наваградскай настаўніцкай семінарыі. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне. У 1949 г. выехаў у ЗША. Спачатку пасяліўся ў Саўт-Рыверы, потым перабраўся ў Сомерсэт, дзе гуртаваў прыхільнікаў Рады БНР. Сябра БАЗА, быў старшынём аддзела арганізацыі ў Нью-Джэрсі.

**Аляксандр Ружанцоў** (12.08.1893, Вязьма (сёння Расія) — 23.07.1966, Дэнвіл, ЗША), вайсковы дзеяч, літаратар, бібліёграф. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Быў мабілізаваны ў Чырвоную

Армію, у рангу камандзіра палка перайшоў у 1919 г. на бок Літоўскай рэспублікі. У 1920 г. узначаліў Беларускі асобны батальён. З 1921 г. жыў у Коўне. Заснавальнік і віцэ-старшыня Таварыства бібліятэкараў Літвы, загадчык справаў Інстытута бібліяграфіі. У часе нямецкай акупацыі ўваходзіў у склад Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Пэўны час жыў у лагерах *DP* у Нямеччыне. У 1949 г. выехаў у ЗША.

**Аляксандр Русак** (13.07.1907, Баранавіччына — 07.03.1957, Гарфілд, ЗША), грамадскі дзеяч, інжынер. У 1934 г. скончыў Познанскі ўніверсітэт. У 1939–1941 гг. — заснавальнік і старшыня Беларускага камітэта ў Познані. Улетку 1941 г. арганізаваў Беларускі нацыянальны камітэт у Гародні. У 1942 г. у Баранавічах заснаваў Адміністрацыйна-гандлёвую школу і стаў яе першым дырэктарам. Заснаваў Арганізацыю гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў. У 1943 г. — бурмістр Баранавічаў, удзельнік Другога Усебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У паваеннай Нямеччыне быў арганізатарам Беларускага лагера ў Рэгенсбургу. Спрычыніўся да арганізаванага выезду беларусаў у ЗША і стварэння беларускага асяродку ў Саўт-Рыверы. З 1948 г. быў старшынём Галоўнай управы Цэнтральнага прадстаўніцтва беларускай эміграцыі, удзельнік аднаўленчага пленуму БЦР. У першым урадзе БЦР — міністр замежных справаў і аддзела фінансаў БЦР. З 25 лістапада 1952 г. — старшыня калегіі БЦР, а з 15 кастрычніка 1953 г. быў старшынём Выканаўчага органа БЦР і кіраўніком замежных справаў арганізацыі. Улетку 1949 г. прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў Гарфілдзе (Нью-Джэрсі). Адзін з ініцыятараў стварэння Кангрэсу беларусаў Амерыкі і Беларускага кангрэсавага камітэта. У 1955 г. праз хваробу паступова адышоў ад усіх беларускіх справаў.

**Галіна Русак** (24.05.1928, в. Вераскава (сёння Наваградскі р-н Гарадзенскае вобл.) — 14.09.2000, Самэрсэт, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадская дзяячка, мастачка, дачка *Ф. Родзькі*. Вучылася ва ўніверсітэце UNRRA ў Мюнхене. Пазней пераехала ў ЗША. Працавала дырэктарам Мастацкай бібліятэкі Ратгерскага ўніверсітэта (Нью-Брансвік). Экспанавала свае жывапісныя працы ў прэстыжных мастацкіх галерэях ЗША. Сталая ўдзельніца этнічных выставаў. Сябра БАЗА, актывістка аддзела арганізацыі ў Нью-Джэрсі, сябра Жаночых стуктураў арганізацыі. Радная БНР. Сябра БІНІМа. Старшыня Беларускай культурна-адукацыйнай асацыяцыі.

**Лявон Рыдлеўскі** (02.10.1903, в. Ульянавічы Магілёўскай губ. (сёння Чашніцкі р-н Віцебскай вобл.) — 24.10.1953, Лондан, Вялікабрытанія), грамадскі дзеяч. Каля 1908 г. пераехаў з бацькамі ў

Слуцк. Вучыўся ў Слуцкай беларускай гімназіі. У 1920 г. далучыўся да слуцкіх паўстанцаў. Пасля раззбраення паўстанцаў на польскай тэрыторыі, у 1921 г. жыў у Вільні, дзе вучыўся на настаўніцкіх курсах. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, у 1923 г. пераехаў у Прагу. Скончыў Політэхнічны інстытут (1928) з дыпломам інжынера. У 1929 г. разам з *М. Абрамчыкам* выехаў у Францыю. У 1930 г. стаў адным з арганізатараў Хаўрусу беларусаў у Францыі. Падчас Другой сусветнай вайны быў у шэрагах французскага Супраціву. Па вайне вярнуўся ў Парыж, дзе актыўна ўдзельнічаў у стварэнні Аб'яднання беларускіх работнікаў у Францыі, выданні «Беларускіх навінаў», быў сакратаром Прэзідыуму Рады БНР. У сувязі з рэзкім пагаршэннем здароўя (рак) і цяжкім матэрыяльным становішчам пераехаў у Лондан пад апеку *а. Часлава Сіповіча*, дзе неўзабаве памёр.

**Уладзіслаў Рыжы-Рыскі** (псеўданім **У. Сноп,** 1925 (?), в. Латыгаль (сёння Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.) — 02.03.1978, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі і рэлігійны дзеяч. У гады Другой сусветнай вайны працаваў у структурах БНС у Глыбоцкай акрузе, быў сакратаром аддзела моладзі БЦР. Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэсу. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, потым вучыўся ў Лювенскім універсітэце (Бельгія). На пачатку 1950-х выехаў у Рым, дзе нядоўгі час вучыўся ў Папскім універсітэце. Адтуль перабраўся ў Мадрыд, дзе заснаваў фантомны Інстытут беларусаведы ім. Л. Сапегі. У 1958 г. выехаў у ЗША, дзе вучыўся ў Прынстанскім універсітэце. Заснаваў уласную рэлігійную структуру «старакаталіцкую субожню» і ад студзеня 1960 г. усклаў на сябе абавязкі апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў. Выдавец шэрагу беларускіх перыёдыкаў. Сябра «Баявой ускалосі». Аўтар зборніка вершаў «Маці маёй роднай» (1962).

**Юры Сабалеўскі** (24.04.1889, Стоўбцы (сёння Мінская вобл.) — 30.12.1957, Кірхэн унтэр Тэк, Нямеччына), грамадскі дзеяч. У 1922–1926 гг. — пасол польскага сойму, у 1924–1926 гг. — сябра і адзін з кіраўнікоў БСРГ. Некалькі разоў арыштоўваўся польскімі ўладамі. Падчас нямецкай акупацыі займаў пасаду бурмістра Баранавічаў. З лета 1943 г. да студзеня 1944 г. — старшыня Беларускай самапомачы. У студзені 1944 г. стаў віцэ-прэзідэнтам БЦР. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, ЗША, з 1955 г. зноў у Нямеччыне. Рэдагаваў газету «Беларускае слова». Браў актыўны ўдзел у грамадска-палітычным жыцці. Быў актывістам БЦР. У 1956 г. разам з *І. Касяком, Л. Галяком, Л. Савёнкам, М. Паньковым* стварыў Камітэт незалежнай Беларусі.

**Апалонія Савёнак** (дзявочае **Раткевіч**, 08.10.1901, Лагойшчына — 10.04.1982, Памон, Нью-Джэрсі, ЗША), педагог, пісьменніца,

аўтар некалькіх падручнікаў для дзяцей, маці *З. Кіпель*. Ад пачатку 1950-х жыла ў ЗША, у Нью-Джэрсі.

**Лявон Савёнак** (псеўданімы **Л. Крывічанін, Свэн**, 26.06.1897, в. Вялец (сёння Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.) — 21.02.1974, Памон, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч, пісьменнік, журналіст, муж *А. Савёнак*, бацька *З. Кіпель*. Вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, якую скончыў, калі ўстанова эвакуявалася ў Смаленск. У 1920 г. прыехаў у Мінск. У 1920-х гг. працаваў у «Савецкай Беларусі», адкуль быў звольнены за беларускі нацыяналізм. У 1933 г. арыштаваны на справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра», высланы на шэсць гадоў у Сібір, а пазней у Комі АССР. У 1939 г. вярнуўся ў Беларусь, настаўнічаў на Крычаўшчыне. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у «Беларускай газеце». Напісаў сатырычныя нататкі «Дзённік Ів. Ів. Чужанінава». Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У пасляваеннай Нямеччыне настаўнічаў, быў дырэктарам Беларускай гімназіі ў Остэргофене. Адзін з ініцыятараў аднаўлення Рады БНР (пакінуў Раду праз канфлікт з *М. Абрамчыкам*). У 1948 г. увайшоў у кансісторыю адноўленай БАПЦ. Ініцыятар заснавання газеты «Бацькаўшчына». У 1950 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Памоне (Нью-Джэрсі), дзе займаўся сельскай гаспадаркай. Уваходзіў у склад рэдкалегіі газеты «Беларус».

**Язэп Сажыч** (05.09.1917, в. Гарадзечна (сёння Навагрудскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 19.11.2007, Эн-Арбар, ЗША), вайсковы і грамадскі дзеяч. Вучыўся ў польскай пачатковай школе, Наваградскай беларускай гімназіі, а пасля яе закрыцця ў 1934 г. працягнуў навучанне ў польскай гімназіі ім. А. Міцкевіча. Мабілізаваны ў польскае войска, скончыў афіцэрскую школу. У часе нямецка-польскае вайны трапіў у нямецкі палон, адкуль уцёк ва Украіну. У 1939–1941 гг. вучыўся ў Львове, пасля чаго вярнуўся ў Беларусь. Улетку 1942 г. прызначаны камендантам падафіцэрскай школы. У лютым 1943 г. у Лідзе арганізаваў і ўзначаліў Беларускі батальён чыгуначнай аховы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Быў камендантам афіцэрскай школы 30-й (беларускай) дывізіі войск СС у Баварыі. Пасля вайны вучыўся ва ўніверсітэце Філіпа ў Марбургу (Заходняя Нямеччына). У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Дэтройце. Сябра БАЗА, актывіст Дэтройцкага аддзела арганізацыі. Ад 1953 г. сябра Рады БНР, сакратар у справах ветэранаў. У 1982–1997 гг. — старшыня Рады БНР.

**Алесь Салавей** (сапраўднае **Альфрэд Радзюк**, на эміграцыі **Альберт Кадняк**, 01.05.1922, в. Крысава Койданаўскага пав. (сёння Дзяржынскі р-н Мінскай вобл.) — 22.01.1978, Мельбурн, Аўстралія), паэт, журналіст, грамадска-культурны дзеяч. У 1938–1940 гг. вучыўся

ў педагагічным вучылішчы ў Мінску. Ужо з 1937 г. ягоныя вершы з'яўляліся на старонках розных беларускіх выданняў. З 1942 г. жыў у Рызе (Латвія), працаваў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Новы шлях». Пры канцы Другой сусветнай вайны апынуўся ў Зальцбургу (Аўстрыя), удзельнічаў у выданні газеты «З беларускага жыцця» і часопіса «Пагоня». У 1949 г. выехаў у Аўстралію. Першыя некалькі гадоў жыў у Адэлаідзе, удзельнічаў у арганізацыйным сходзе мясцовых беларусаў у лютым 1950 г. Пазней перабраўся ў Мельбурн, дзе таксама далучыўся да грамадскага жыцця. Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вікторыі, пазней культурным рэферэнтам Беларускага цэнтральнага камітэта ў Вікторыі і сябрам Беларускай секцыі радыё 3ZZ ў Мельбурне (1976–1977). Паэтычнай творчасцю ў Аўстраліі займаўся мала. Аўтар паэтычных зборнікаў «Звіняць званы Святой Сафіі» (1946), «Сіла гневу» (1948). У 1982 г. ужо пасля смерці паэта ў БІНІМе ў Нью-Ёрку выйшаў зборнік «Нятускная краса».

**Уладзімір Селях** (на эміграцыі **Вячаслаў Качанскі**, часам пісаўся **Селях-Качанскі**, 15.12.1885, Лагойск — 08.08.1976, Саўт-Рывер, ЗША), оперны спявак, тэатральны і грамадскі дзеяч. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. У 1910 г. паступіў у оперны клас Пецярбурскай кансерваторыі. У 1915 г. выбраны з 300 прэтэндэнтаў у Марыінскі імператарскі тэатр. Спяваў у «Князю Ігару», «Рыгалета», «Дэману», «Барысу Гадунову», сумесна з вядомым расійскім спеваком Фёдарам Шаляпіным — у «Хаваншчыне» і «Кармэн». У 1925 г. пераехаў у Мінск, дзе працаваў выкладчыкам у музычным тэхнікуме і кіраваў музычнай секцыяй пры Інстытуце беларускай культуры. Паставіў першую оперу па-беларуску — «Русалка». З 1927 г. быў дырэктарам БДТ-1 (сёння Купалаўскі тэатр). У 1933 г. рэпрэсаваны. Па вызваленні жыў у Ленінградскай вобласці. У 1943 г. вярнуўся ў Беларусь, працаваў кіраўніком аддзела культуры і мастацтва пры БНС, потым узначальваў аддзел культуры ва ўрадзе БЦР. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне стварыў тэатральна-мастацкую групу «Жыве Беларусь», з якой гастраляваў па беларускіх асяродках. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рыверы, браў удзел у жыцці мясцовай беларускай грамады. Належаў да БККА.

**Міхась Сенька** (нар. 02.01.1922, Новы Свержань (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.)), грамадскі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі скончыў Баранавіцкую медыцынскую школу, працаваў кіраўніком аптэкі ў Стоўбцах. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Па сканчэнні вайны знаходзіўся ў беларускім лагеры ў Ватэнштэце, дзе скончыў гімназію, браў актыўны ўдзел у скаўтынгу. У 1947–1949 гг. вучыўся ва Украінскім тэхнічна-гаспадарскім інстытуце ў Мюнхене. У 1949 г.

пераехаў у ЗША. Пасяліўся ў Саўт-Рыверы. Працаваў на заводзе «Форд». Браў удзел у беларускім грамадскім жыцці. У 1950-х узначальваў Аб'яднанне беларуска-амерыканскай моладзі. Уваходзіў у царкоўную ўправу беларускага прыходу Св. Ефрасінні Полацкай. Шматгадовы сакратар управы БККА.

**Сергій** (**Ягор Ахатэнка**, 1890–1971), праваслаўны дзеяч, іерарх БАПЦ. У гады Другой сусветнай вайны дзейнічаў ва Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царкве. У 1944 г. эміграваў у Нямеччыну. У 1948 г. узначаліў Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву. У 1950 г. выехаў у Аўстралію.

**Мікола Сільвановіч** (псеўданім **Вярба**, 09.04.1917, в. Вірадова (сёння Маладзечанскі р-н Мінскай вобл.) — 13.07.1975, Вініпег, Канада), грамадскі дзеяч, літаратар, філатэліст. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Празе, затым у Герэнбергу каля Штутгарта (зямля Бадэн-Вюртэмберг). Адзін са стваральнікаў у 1946 г. у Заходняй Нямеччыне творчага аб'яднання «Шыпшына». Арганізаваў майстроўню беларускага мастацкага рамяства «Раніца», вырабы якой карысталіся шырокім попытам і адзначаліся на выставах. У 1947 г. выдаў вядомую паштоўку да ўгодкаў 25 Сакавіка з выявай Пагоні і партрэтамі беларускіх нацыянальных дзеячаў — К. Каліноўскага, І. Грынявіцкага, Ф. Багушэвіча, П. Крэчэўскага, В. Захаркі. У 1949 г. выехаў у Канаду. Жыў у Вініпегу, дзе спрычыніўся да заснавання Беларускага нацыянальнага камітэта і Беларуска-канадскага нацыянальнага аб'яднання ў правінцыі Манітоба. Аўтар артыкула пра беларусаў у Канадзе ў дзесяцітомнай *Encyklopedia of Canada (1956–1957).*

**Часлаў Сіповіч** (08.12.1914, в. Дзедзінка (сёння Міёрскі р-н Віцебскай вобл.) — 04.10.1981, Лондан, Вялікабрытанія), рэлігійны дзеяч, біскуп. Вучыўся ў Друйскай гімназіі. У 1934 г. пастрыжаны ў манахі. Вучыўся на факультэце філасофіі і тэалогіі ў Віленскім універсітэце. У 1938–1947 гг. жыў у Рыме, дзе скончыў Папскі грыгарыянскі ўніверсітэт і Папскі ўсходні інстытут. У 1944–1946 гг. апекаваўся беларускімі жаўнерамі Арміі Андэрса, раскватараванымі па ўсёй Апенінскай паўвыспе. Праводзіў сярод іх дабрачынную і асветніцкую працу. У 1947 г. прызначаны рэктарам Беларускай каталіцкай місіі візантыйска-славянскага абраду ў Вялікабрытаніі. 9 красавіка 1947 г. прыбыў у Лондан. Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, у 1948 г. абіраўся на пасаду скарбніка арганізацыі. У 1948 г. стаў адным з ініцыятараў стварэння БХАА «Жыццё», а пазней — БАКА «Рунь». 4 жніўня 1960 г. пасвечаны на біскупа, пазней быў прызначаны апостальскім візітатарам для беларусаў за мяжой. У ліпені 1963 г. прызначаны генералам ордэна марыянаў, на гэ-

тай пасадзе заставаўся да 1969 г. У Марыян Хаўз заснаваў кляштар беларускіх марыянаў. Фактычна быў заснавальнікам Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтра ў Паўночным Лондане, часткай якога стаў інтэрнат Св. Кірылы для беларускіх хлапцоў, а таксама Беларуская бібліятэка і музей ім. Ф. Скарыны.

**Баляслаў Слосканс** (19.08.1893 — 18.04.1981), каталіцкі іерарх. Паходзіў з латышскай каталіцкай сям’і. У 1926 г. прызначаны Папам рымскім апостальскім адміністратарам Мінскім і Магілёўскім, біскупам Мінскай і Магілёўскай архідыяцэзій. За рэлігійную дзейнасць пераследаваўся савецкімі ўладамі. Адседзеў шэсць гадоў у сталінскіх лагерах. У 1933 г. паводле абмену палітвязнямі выехаў у Латвію. З восені 1944 г. — на эміграцыі. У 1952 г. прызначаны Ватыканам апостальскім візітатарам для беларусаў-католікаў у Еўропе. Прымаў удзел у культурным і нацыянальна-рэлігійным жыцці беларускага замежжа, аказваў матэрыяльную падтрымку беларускім рэлігійным перыядычным выданням.

**Антон Сокал-Кутылоўскі** (07.02.1892, х. Чырвоная Горка Пінскага пав. — 07.03.1983, Шчэцін, Польшча), грамадскі і ваенны дзеяч, мемуарыст. Удзельнік Першай сусветнай вайны. У часе Грамадзянскай вайны ваяваў у арміях Дзянікіна, Юдзеніча, у Чырвонай Арміі, адкуль дэзерціраваў. У снежні 1920 г. узначаліў Слуцкую брыгаду, пасля падаўлення Слуцкага паўстання разам з брыгадай перайшоў савецка-польскую мяжу. У 1921–1939 гг. быў праваслаўным святаром, настаўнічаў. Перад пачаткам нямецка-савецкай вайны быў арыштаваны, уцёк з-пад варты. Ад кастрычніка 1941 г. да ліпеня 1944 г. працаваў школьным інспектарам у Ганцавічах, быў акруговым камендантам БКА. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, быў камандзірам батальёна 30-ай (беларускай) дывізіі войск СС. Выданы амерыканскімі войскамі выведцы СМЕРШ. У 1948 г. Ваенным трыбуналам МУС БВА асуджаны на 25 гадоў лагераў. Вызвалены ў лістападзе 1957 г. па амністыі.

**Аляксандр Стагановіч** (25.01.1890, в. Нясутычы (сёння Навагрудскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 28.12.1988, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч. У Першую сусветную вайну знаходзіўся ў складзе Расійскага экспедыцыйнага корпуса ў Францыі. У 1920 г. вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. У 1925 г. уступіў у БСРГ. У 1928 г. вылучаны дэпутатам ад Наваградскай акругі ў польскі сойм па спісе «Змагання», але за два дні да выбараў арыштаваны і зняволены. Пасля асабістага заступніцтва маршалка сойму вызвалены. У канцы 1928 г. адмовіўся ад дэпутацкага мандата ў знак пратэсту супраць супрацоўніцтва з КПЗБ. Праз некаторы час быў арыштаваны (паколькі пазбавіўся дэпутацкай недатыкальнасці) і асуджаны на шэсць гадоў турмы. Падчас

нямецкай акупацыі — кіраўнік БНС на Наваградскую акругу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Адзін з ініцыятараў аднаўлення Рады БНР, браў удзел у з'ездзе ў Остэргофене, дзе было заяўлена пра аднаўленне дзейнасці Рады. Пры канцы 1940-х гг. выехаў у ЗША. Быў сябрам БАЗА, Згуртавання беларускіх ветэранаў і епархіяльнай Рады БАПЦ. Ад 1957 г. — намеснік прэзідэнта Рады БНР. Пакінуў падрабязныя ўспаміны, выдадзеныя ў Мінску асобнай кнігай (2011 г.).

**Станіслаў Станкевіч** (23.02.1907, в. Арляняты, Ашмянскі пав. Віленскай губ. (сёння Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл. — 06.11.1980, Нью-Ёрк, ЗША), грамадска-культурны дзеяч, літаратуразнаўца, публіцыст, крытык, выдавец. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1933 г. скончыў гуманістычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. У 1936 г. абараніў доктарскую дысертацыю «Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі». Браў актыўны ўдзел у працы Беларускага студэнцкага саюза, рэдагаваў часопіс «Студэнцкая думка». У 1937–1938 гг. стажыраваўся ў навучальных установах Югаславіі і Балгарыі. У 1939–1941 гг. выкладчык у Наваградскай педагагічнай вучэльні. Падчас нямецкай акупацыі — бурмістр Барысава (1941–1943), намеснік прэзідэнта БЦР на Баранавіцкую акругу (1944). Дэлегат Другога Усебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944 — пачатку 1945 гг. у Нямеччыне рэдагаваў берлінскую газету «Раніца». Быў актыўным прыхільнікам аднаўлення Рады БНР. Ад 1947 г. — радны БНР. Быў першым старшынём Антыбальшавіцкага блоку народаў (1946). У 1948–1962 гг. — рэдактар газеты «Бацькаўшчына» (Мюнхен). Заснавальнік філіі БІНІМа ў Заходняй Нямеччыне. Быў навуковым сакратаром Інстытута вывучэння СССР у Мюнхене. У 1963 г. выехаў у ЗША. Сябра БАЗА, у тым ліку старшыня арганізацыі ў 1963–1965 гг. Супрацоўнік радыё «Свабода». У 1963–1980 гг. рэдактар газеты «Беларус» (Нью-Ёрк). Аўтар шэрагу навуковых літаратуразнаўчых прац, сотняў публікацый.

**Янка Станкевіч** (26.11.1891, в. Арляняты Ашмянскага пав. Віленскай губ. (сёння Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 16.07.1976, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, мовазнавец, журналіст. Вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі, але быў выключаны за беларускія погляды. У пачатку 1914 г. працаваў у «Нашай ніве», але з пачаткам Першай сусветнай вайны быў мабілізаваны ў царскае войска. У 1917 г. апынуўся ў аўстрыйскім палоне. У 1918–1920 гг. сябра Рады БНР. Скончыў Пражскі Карлаў універсітэт (1926) са ступенню «доктар славянскага мовазнаўства і гісторыі». Выкладаў беларускую мову ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах Вільні і Варшавы. У 1928–1930 гг. — пасол польскага сойму. Выдаваў часопіс «Родная

мова» (1930–1931). У жніўні 1939 г. пасаджаны польскімі ўладамі ў турму. Пазней, ратуючыся ад бальшавікоў, выехаў у Літву, а затым у Нямеччыну. Падчас нямецкай акупацыі вярнуўся ў Беларусь. Уваходзіў у склад Цэнтралі БНС, займаўся адукацыйнымі праектамі (школьніцтва, выдавецтва). У 1944 г. перабраўся да сям'і ў Прагу. У паваеннай Нямеччыне настаўнічаў у беларускіх лагерах, выкладаў у Беларускай гімназіі ім. Я. Купалы. Стварыў Крывіцкае навуковае таварыства імя Пранціша Скарыны. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, пазней у Нью-Джэрсі. Адзін з заснавальнікаў БАЗА. Выдаваў часопіс «Веда». Уваходзіў у першы склад рэдкалегіі газеты «Беларус», друкаваўся ў газеце «Бацькаўшчына». Уваходзіў у склад Рады БНР, адкуль быў выключаны ў 1954 г. Аўтар шэрагу навуковых і навукова-папулярных прац, дзясяткаў артыкулаў, першага поўнага перакладу Бібліі (супольна з М. Гітліным). Супрацоўнічаў з Інстытутам вывучэння СССР у Мюнхене, пры якім быў выдадзены шэраг ягоных прац.

**Пётра Сыч** (18.01.1912, в. Батурына Вілейскага пав. Віленскай губ. (сёння Вілейскі р-н Мінскай вобл.) — 20.06.1964, Мюнхен, Нямеччына), літаратар, журналіст. У 1929 г. скончыў гімназію ў Вілейцы, два гады правучыўся на філалагічным факультэце Віленскага ўніверсітэта і вымушаны быў кінуць навучанне, уладкаваўся на працу чыноўнікам. Супрацоўнічаў з рэдакцыямі польскіх газет у Вільні. У 1939 г. мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у савецкі палон. Уцёк, але зноў быў арыштаваны. У чэрвені 1940 г. быў пераведзены з вілейскай у полацкую турму, асуджаны на 10 гадоў лагераў. Пакаранне адбываў у Комі АССР. Далучыўся да Арміі Андэрса, разам з якой прайшоў праз Іран, Ірак, Сірыю, Палестыну, Егіпет. Браў удзел у бітве за Монтэ-Касіна, баях за Анкону і Балонію. У 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. Сябра Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. Актыўны аўтар і супрацоўнік часопіса «Беларус на чужыне». У 1951 г. пераехаў у Заходнюю Нямеччыну. Жыў у Мюнхене. Быў галоўным рэдактарам сатырычнага часопіса «Шарсцень», супрацоўнічаў з газетай «Бацькаўшчына». Ад 1954 г. быў намеснікам галоўнага рэдактара беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленне». Аўтар мемуарнай аповесці «Смерць і салаўі» (1965), прысвечанай бітве за Монтэ-Касіна.

**Масей Сяднёў** (19.08.1915, в. Мокрае Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ. (сёння Касцюковіцкі р-н Магілёўскай губ. — 05.02.2001, Глен-Коў, Нью-Джэрсі, ЗША), паэт, празаік. У 1933–1936 гг. вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце. Быў рэпрэсаваны і высланы на Калыму. У 1941 г. вернуты ў Беларусь на перагляд справы. З пачаткам вайны вярнуўся да бацькоў, працаваў на гаспадарцы. У 1943 г. разам з бацькамі выехаў на Захад. Жыў у Беластоку, працаваў ка-

рэктарам у «Новай дарозе», Беларускім камітэце. У 1950 г. выехаў у ЗША. Выкладаў рускую мову ва ўніверсітэце Індыяны. Ад канца 1950-х працаваў у беларускай рэдакцыі радыё «Свабода». Аўтар кніг «На край святла» (1947), «Спадзяванні» (1947, 1948), «У акіяне ночы» (1947), «Цень Янкі Купалы» (1947), «Ля ціхай брамы» (1955), «Патушаныя зоры» (1975), «Раман Карзюк» (1985), «І той дзень надышоў» (1987), «А часу больш, чым вечнасць» (1989).

**Уладзімір Сядура** (псеўданім **Глыбінны,** 11.12.1910, Мінск — 14.03.1997, Трой, Нью-Ёрк, ЗША), пісьменнік, літаратуразнаўца, культуролаг. Уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне «Маладняк». З 1931 г. сябра Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП), узначальваў яе маладзёжнае крыло (разам з Б. Мікулічам і С. Ліхадзіеўскім). Арыштаваны ў 1933 г. у Маскве, высланы на тры гады ў Сібір, у 1935 г. датэрмінова вызвалены. У 1941 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю «Максім Горкі як гісторык рускай літаратуры». У 1942–1944 гг. галоўны рэдактар часопіса «Новы шлях» (Рыга). Друкаваўся ў «Беларускай газеце». Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэса. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку ў Нямеччыне. У 1951 г. перабраўся ў ЗША. Узначальваў кафедру сучасных моў і рускай літаратуры ў Школе гуманітарных навук Рэнселерскага політэхнічнага інстытута ў Троі (штат Нью-Ёрк). Аўтар кніг: «На берагох пад сонцам» (1964), «На Святой зямлі» (1972), «Паэта з Божае ласкі. Успамін і роздум пра паэта Язэпа Пушчу» (1979), «Пад лебядзіным знакам. Аповесць пра Максіма Багдановіча» (1983), «Вялікія дарогі» (1997).

**Аляксей Сянкевіч** (15.11.1904, Новы Свержань Мінскага пав. (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) — 12.12.1991, Саўт-Рывер, ЗША), грамадскі дзеяч. У 1930-х быў адным са стваральнікаў Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі, якая дзейнічала ў Заходняй Беларусі. Напярэдадні Другой сусветнай вайны быў вымушаны выехаць у Нямеччыну, кіраваў аддзелам Берлінскага беларускага камітэта ў Бялай-Падлясцы. У 1942–1943 гг. рэдагаваў мінскую газету «Голас вёскі». Ад вясны 1944 г. — афіцэр прапаганды БКА. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рыверы, браў удзел у грамадскім жыцці, быў сябрам Беларускай цэнтральнай рады, актывістам парафіі Св. Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы.

**Віктар Сянкевіч** (19.01.1926, в. Гірстуны на Глыбоччыне — ?), грамадскі дзеяч, гісторык, журналіст. У часе нямецкай акупацыі быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, разам з якой летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзнікаў, пайшоў добраахвотнікам у 2-гі Польскі корпус.

У 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. Адзін з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1947 г. быў абраны на пасаду сакратара Галоўнай управы арганізацыі. Жыў у Оксфардзе. У 1953 г. выехаў вучыцца ў Іспанію. У 1958 г. скончыў філасофскі факультэт Мадрыдскага ўніверсітэта, абараніў дысертацыю «Пачаткі Княства Літоўскага». У 1958–1961 гг. працаваў у Беларускай секцыі Нацыянальнага іспанскага радыё. Супрацоўнічаў з Беларускай рэдакцыяй радыё «Вызваленне» і радыё Ватыкана. Напісаў каля дзвюх тысячаў гутарак-артыкулаў «Гаварыў Язэп Барэйка». Пісаў для беларускіх эміграцыйных перыёдыкаў: «Зважай!», «Бацькаўшчына», «Беларус». Чытаў лекцыі ў Каталіцкім універсітэце г. Памплона. З 1992 г. жыў у Сан-Францыска (ЗША). Знік без вестак.

**Вольга Таполя** (сапраўднае **Зубко**, 1902–?), пісьменніца. Скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Літаратуразнаўчыя артыкулы публікавала ва «Узвышшы». Падчас нямецкай акупацыі працавала ў «Беларускай газеце», выдавецтве «Менск». З 1944 г. — на эміграцыі. Жыла ў баварскім Лавінгене, пазней у лагеры Ватэнштэт. Друкавалася ў беларускіх эміграцыйных перыёдыках. Аўтар кніг: «Снягурка і мурка» (1946), «Маці» (1948). У 1948 г. вярнулася ў БССР. Друкавалася ў газеце «Голас Радзімы».

**Пётра Татарыновіч** (02.06.1896, в. Гайнін Слуцкага пав. Менскай губ. (сёння Ляхавіцкі р-н Берасцейскай вобл.) — 03.09.1978, Рым, Італія), рэлігійны дзеяч, каталіцкі святар, педагог, перакладчык, публіцыст. Высвечаны на святара ў 1921 г. Працаваў у парафіях Заходняй Беларусі. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945–1949 г. вучыўся ў Рыме, абараніў доктарскую дысертацыю, прысвечаную Кірылу Тураўскаму. У 1950 г. заснаваў беларускі каталіцкі часопіс «Źnič», які і рэдагаваў цягам 1950–1975 гг. Заснаваў беларускую рэдакцыю радыё Ватыкана і быў галоўным яе супрацоўнікам.

**Міхась Тулейка** (08.09.1915, Нясвіж Слуцкага пав. Мінскай губ. (сёння Мінская вобл.) — 06.03.1998, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч. У 1936 г. скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, адкуль адразу быў забраны ў польскае войска на падрыхтоўчыя афіцэрскія курсы. Працаваць настаўнікам пачаў у 1937 г. у Нясвіжы, пазней — у Снове. У 1939 г. быў зноў мабілізаваны, пад Варшаваю паранены. Працаваў у Нясвіжы — спачатку настаўнікам, пасля заступнікам дырэктара настаўніцкай семінарыі. Пазней працаваў у Баранавіцкай настаўніцкай семінарыі. Кіраваў камітэтам БНС на Баранавіцкую акругу. Быў дэлегатам Другога Усебеларускага кангрэсу. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Берліне ў 1944 г. у рангу афіцэра быў далучаны да кадравага батальёна, што фармаваўся ў школе на *Lychenerstrasse*. У сфар-

маваны ў пачатку 1945 г. у Баварыі батальён, аднак, яго не паслалі. Замест таго займаўся вярбоўкай добраахвотнікаў у беларускае войска. Студыяваў у Мюнхенскім універсітэце *UNRRA* і Украінскім вольным універсітэце ў Рэгенсбургу. Заснавальнік Беларускага студэнскага зуртавання. У 1949 г. выехаў у ЗША. Быў абраны першым старшынём Згуртавання беларуска-амерыканскай моладзі. Уваходзіў у рэдакцыйную калегію часопіса «Віці». Зарганізаваў першы беларускі скаўтынгавы атрад у Амерыцы. Сябра БАЗА, у тым ліку пэўны час кіраваў Нью-ёркскім і Нью-джэрсійскім аддзеламі арганізацыі. Найбольш часу аддаваў працы на пасадзе старшыні парафіяльнай рады БАПЦ у Брукліне, быў рэгентам хору. Пазней, пераехаўшы ў Нью-Джэрсі, працягваў сваю грамадска-рэлігійную дзейнасць у Гайленд-Парку.

**Вітаўт Тумаш** (20.12.1910, в. Спягліца, Вілейскага пав. Віленскай губ. (сёння в. Свяцілавічы Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 27.04.1998, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, лекар, навуковец (скарыназнаўца). Скончыў Віленскую беларускую гімназію. У 1933–1938 гг. вучыўся на медыцынскім факультэце Віленскага ўніверсітэта. Адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага саюза і Таварыства прыяцеляў беларусаведы. Па сканчэнні навучання працаваў у этнічнай Польшчы. Пасля верасня 1939 г. працаваў у Беларускім нацыянальным камітэце ў Варшаве. У 1940–1941 гг. быў старшынём Беларускага камітэта ў Лодзі. З пачаткам нямецкай акупацыі Беларусі ў ліпені — лістападзе 1941 г. быў кіраўніком цывільнай адміністрацыі Мінска. Напрыканцы 1941 г. выехаў у Нямеччыну, займаўся лекарствам, уваходзіў у рэдакцыі берлінскіх газет «Раніца» і «Беларускі работнік», працаваў у берлінскім аддзеле БНС. У 1948 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Меў лекарскую практыку, а ўвесь вольны час прысвячаў грамадскай і навуковай дзейнасці. Сябра БАЗА, быў старшынём Нью-ёркскага аддзела арганізацыі. Адзін з заснавальнікаў БІНІМ і яго кіраўнік ў 1955–1982 гг. У 1979–1982 гг. быў старшынём Фундацыі ім. П. Крэчэўскага. Аўтар шэрагу навуковых прац, найперш скарыназнаўчай тэматыкі.

**Майк (Мікалай) Філіповіч** (20.09.1918, Кліўленд, ЗША — 1975, ЗША), грамадскі дзеяч. У 1921 г. ягоныя бацькі вярнуліся на Вілейшчыну. У 1940 г. быў рэпрэсаваны, служыў у Арміі Андэрса, з якой ў 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. У 1948 г. выехаў у ЗША. Быў адным з першых прадстаўнікоў паваеннай эміграцыі, што прыехаў у ЗША і пачаў запрашаць сюды беларускія сем’і. Адзін са стваральнікаў ЗБАДК. Сябра БККА, у першым урадзе арганізацыі быў скарбнікам і рэферэнтам сацыяльнай апекі.

**Часлаў Ханяўка** (26.05.1909, Рыга, Латвія — 02.07.1988, Саўт-Рывер, ЗША), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі і на агранамічным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Браў актыўны ўдзел у Беларускім студэнцкім саюзе. Падчас Другой сусветнай вайны працаваў у Камітэце беларускай самапомачы ў Берліне, Беларускім камітэце ў Варшаве. Займаўся вызваленнем беларусаў, што трапілі ў нямецкі палон. У паваеннай Нямеччыне займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва. У 1950-х выехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рыверы. Сябра БАЗА, адзін з заснавальнікаў і сябра ўправы нью-джэрсійскага аддзела арганізацыі.

**Сяргей Хмара** (сапраўднае **Сіняк**, на эміграцыі **Марыян Зіняк**, 25.05.1905, в. Казлоўшчына Слонімскага пав. (сёння Дзятлаўскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 04.09.1992, Таронта, Канада), паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч, выдавец. У час польскай акупацыі Заходняй Беларусі працаваў настаўнікам. Арыштоўваўся дэфензівай (1927, 1939). У часе нямецкай акупацыі працаваў у БНС у Слоніме. З лета 1944 г. — на эміграцыі. У Берліне заснаваў палітычную суполку пад назвай «Двупагоня». У 1948 г. прыехаў у Канаду. Жыў у Таронта. Выдаваў газету «Беларускі голас», часопіс «Баявая ўскалось», таксама шэраг літаратурных і сатырычных выданняў. Стваральнік Канадскага клубу этнічных журналістаў і пісьменнікаў. Аўтар кніг: «Аб багох крывіцкіх сказы» (1946, 1948, 1986), «Сказы Бацькаўшчыны» (1949), «Мы» (1949).

**Уладзімір Цвірка** (да эміграцыі **Вадзім Сурко,** 02.01.1928, в. Беражное (сёння Стаўбцоўкі р-н Мінскай вобл.) — 15.03.1992, Мюнхен, Нямеччына), журналіст. Жыў у Міры. У 1947 г. скончыў гімназію ім. Я. Купалы ў Міхельсдорфе. Быў скаўтмайстрам у беларускіх лагерах у Герэнбургу і Майнлёзэ. У 1948 г. разам з іншымі сябрамі «Дванаццаткі» прыбыў на працу ў вугальных капальнях у Вялікабрытанію. Браў актыўны ўдзел у выданні часопіса «Наперад!». Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі і БХАА «Жыццё». У 1950–1954 гг. вучыўся ў Лювенскім універсітэце. Ад 1954 г. працаваў у беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленне» ў Мюнхене. У 1959–1968 гг. — галоўны рэдактар беларускай службы радыё «Вызваленне». Супрацоўнічаў таксама з рэдакцыяй газеты «Бацькаўшчына».

**Мікола Целеш** (25.06.1900, в. Зазер'е Барысаўскага пав. (сёння в. Заазер'е Лепельскага р-на Віцебскай вобл.) — пасля 1976 г.), літаратар, перакладчык. Вучыўся ў Бялыніцкай народнай вучэльні. З 1916 г. жыў на поўдні Расіі, працаваў на Данбасе. У 1919 г. уступіў у Чырвоную Армію, адкуль дэмабілізаваўся ў 1924 г. З 1929 г. пачаў друкавацца ў перыёдыках. Перад вайной працаваў у часопісе «Паляўнічы Беларусі», выдаў чатыры кнігі прозы. З лета 1944 г. — на эміграцыі.

Спачатку жыў у Нямеччыне. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Зарабляў фізічнай працай. У 1976 г. знік без вестак. Аўтар выдадзеных на эміграцыі кніг: «Дзесяць апавяданняў» (1965) і «Хмары над Бацькаўшчынай» (1995).

**Віктар Чабатарэвіч** (1907, Новы Свержань Мінскага пав. (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) — 07.10.1963, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі і вайсковы дзеяч, настаўнік. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, школу падхарунжых. Настаўнічаў на Віленшчыне, у заходняй Польшчы. У 1939–1941 гг. працаваў настаўнікам у Стоўбцах. У 1941–1942 гг. працаваў у Галоўным школьным інспектарацe, сакратаром Цэнтралі БНС. У сакавіку 1944 г. узначаліў афіцэрскія курсы БКА, затым — Афіцэрскую школу БКА. З лета 1944 г — на эміграцыі. Спачатку ў Нямеччыне. У 1948 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Падтрымліваў прыхільнікаў Беларускай цэнтральнай рады, уваходзіў у склад Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі (быў яго віцэ-старшынём). Быў карэктарам газеты «Беларуская трыбуна».

**Янка Чарапук** (псеўданім **Змагар**, 24.08.1896, Новы Двор Сакольскага пав. Гарадзенскай вобл. (сёння Падляшскае ваяв., Польшча) — 16.11.1957, Чыкага, ЗША), палітычны дзеяч. Вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбурскага ўніверсітэта. У 1918 г. — супрацоўнік Міністэрства замежных спраў Украінскай Народнай Рэспублікі, чалец Беларускай рады на Украіне. З канца 1918 г. — на Гарадзеншчыне, быў сакратаром Цэнтральнай беларускай рады Віленшчыны і Гарадзеншчыны. З канца 1919 г. жыў у Рызе, працаваў сакратаром Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі, сябра Народнай Рады БНР. У 1922 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага. Адзін з ініцыятараў стварэння Беларускага народнага камітэта ў штаце Ілінойс, Беларуска-амерыканскага нацыянальнага клуба. Уваходзіў у міжнародную каталіцкую арганізацыю «Рыцары Калумба» (меў найвышэйшую ступень).

**Францішак Чарняўскі** (03.11.1893, в. Чухны Ашмянскага пав., Віленскай губ. (сёння Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 31.05.1979, г. Амстэрдам, Нью-Ёрк, ЗША), рэлігійны дзеяч, каталіцкі святар, выдавец. Вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. У 1920 г. атрымаў святарскія пасвячэнні. У 1924–1927 гг. вучыўся ў Рыме ў Папскім грыгарыянскім універсітэце і Усходнім інстытуце. З 1929 г. жыў у Францыі. Абслугоўваў рэлігійныя патрэбы работнікаў на вугальных капальнях. Пераехаў у Бельгію, у 1953–1955 гг. — у кляштары бенедыктынаў. Рэдагаваў бюлетэнь «Божае слова». У 1957 г. выехаў у ЗША. Выдаваў часопіс «Сяўбіт». Дзядзька беларускага святара а. Уладзіслава Чарняўскага.

**Мікола Шкялёнак** (1899, в. Пякоціна Новааляксандраўскага пав. Ковенскай губ. (сёння Міёрскі р-н Віцебскай вобл.) — 1946), грамадскі дзеяч, журналіст, публіцыст. Скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэта (1932). Быў старшынём Беларускага студэнцкага саюза, уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, Беларускага нацыянальнага камітэта. У 1936 г. разам з *В. Гадлеўскім* стварыў Беларускі нацыянальны фронт. Ад 1940 г. — у Берліне, быў адным з арганізатараў Беларускага камітэта самапомачы, рэдагаваў газету «Раніца». Ад лютага 1943 г. — у Мінску. Працаваў у «Беларускай газеце», пасля забойства У. Казлоўскага (лістапад 1943) быў яе рэдактарам. З студзеня 1944 г. — першы віцэ-прэзідэнт БЦР. Браў актыўны ўдзел у арганізацыі Другога Усебеларускага кангрэсу, дзе выступіў з дакладам «Аб прызнанні за няважныя пастановы ўраду СССР і былой Польшчы, якія датычацца Беларусі, яе тэрыторыі і народу». У 1945 г. арыштаваны ў Польшчы савецкімі органамі бяспекі, вывезены ў СССР, дзе прысуджаны да найвышэйшай меры пакарання.

**Сцяпан Шнэк** (12.10.1900, в. Лядна, Слуцкага пав. (сёння Слуцкі р-н Мінскай вобл.) —19.01.1952, Мельбурн, Аўстралія), грамадскі і вайсковы дзеяч, бацька *У. Шнэка*. У 1930–1936 гг. з невялікім перапынкам вучыўся ў Вайсковай акадэміі ў Ленінградзе. Затым кіраваў домам палітпрасветы ў г. Чыта Забайкальскай вайсковай акругі. У 1938 г. выключаны з партыі і звалены з войска, пасля чаго ўвосень 1939 г. вярнуўся на радзіму і пасяліўся з сям'ёй у Слуцку. Працаваў настаўнікам у школе. Пазней узначальваў слуцкую службу парадку, быў кіраўніком БКА на Слуцкую акругу. Увесну 1944 г. арыштаваны нямецкімі ўладамі разам з усёй сям'ёй, але выпушчаны дзякуючы заступніцтву *Р. Астроўскага*. Пасля ад'езду з Беларусі праз некаторы час быў прызначаны кіраўніком вайсковых спраў БЦР. Некаторы час працаваў у Францыі, потым разам з сям'ёй жыў у лагерах *DP* у Нямеччыне. У 1950 г. выехаў у Аўстралію. Спачатку працаваў у Новай Паўднёвай Валіі, трымаў сувязь з мясцовымі беларусамі, а таксама беларускімі дзеячамі ў іншых краінах. Пісаў зацемкі ў эміграцыйныя перыёдыкі «Беларускае слова», «Бацькаўшчына» пад псеўданімам Янка Нясцерпны. Пазней пераехаў у Мельбурн да астатняй сям'і, дзе і скончыў жыццё самагубствам.

**Уладзімір Шнэк** (псеўданім **Случанскі**, 23.03.1927, Мінск — 03.02.1995, Мельбурн, Аўстралія), пісьменнік, грамадскі і вайсковы дзеяч, сын *С. Шнэка*. Вучыўся ў Мінскай афіцэрскай школе БКА. Па сканчэнні Другой сусветнай вайны апынуўся ў лагерах *DP* у Нямеччыне. У Ватэнштэце вучыўся ў беларускай гімназіі і актыўна ўдзельнічаў у скаўтынгу, надрукаваў першае апавяданне ў лагерным

часопісе пад псеўданімам Уладзімер Случанскі. У 1950 г. выехаў у Аўстралію. У 1958–1961 гг. завочна вучыўся у Мастацкім інстытуце ў Мельбурне, сябра Згуртавання мастакоў у Вікторыі. У 1969–1972 гг. скончыў Каралеўскі інстытут тэхналогіі ў Мельбурне з дыпломам механічнага чарцёжніка. Хутка па прыездзе ў Аўстралію далучыўся да беларускай грамады ў Мельбурне, стаў сябрам аддзела Беларускага аб'яднання ў Вікторыі, узначаліў скаўцкі «Звяз імя Усяслава Чарадзея». Шмат займаўся літаратурнай дзейнасцю, выдрукаваў у 1958–1960 гг. гістарычную аповесць «Драбы», а таксама ўласным коштам выдаў паэму Лявона Случчаніна «Рагнеда». Сябра Беларускага вызвольнага фронту, займаў розныя пасады ў гэтай арганізацыі ў Аўстраліі. Выдаваў часопіс «На варце» як орган Краёвага штаба БВФ, і гумарыстычны дадатак «Ёрш». Ад 1982 г. у рангу маёра БКА стаў кіраўніком Краёвага штабу БВФ, а ў 1986 г. ужо як палкоўнік вызначаны заступнікам начальніка Галоўнага штабу БВФ. Падрыхтаваў і выдаў альбом «Беларуская краёвая абарона» (1984). Удзельнічаў у канферэнцыях Сусветнай антыкамуністычнай лігі ў Тайпэі (1987, 1989), 10-м Пленуме БЦР (1988). Ад 1990 г. — сакратар управы БЦК у Вікторыі. Удзельнік Першага з'езда беларусаў свету ў Мінску.

**Антон Шукелойць** (нар. 19.07.1915, хут. Якелеўшчына Ашмянскага пав. Віленскае губ. (сёння Ашмянскі р-н Гарадзенскае вобл.), грамадска-культурны дзеяч. У 1935 г. скончыў Ашмянскую павятовую гімназію (1935), дзе захапіўся сацыялістычнымі ідэямі. У 1935–1939 гг. вучыўся ў Віленскім універсітэце на спецыяльнасці этнаграфія і філалогія. Належаў да Беларускага студэнцкага саюза, старшыняваў у Таварыстве прыяцеляў беларусаведы, спяваў у беларускім студэнцкім хоры Рыгора Шырмы. Уваходзіў у Польскую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. З 1939 г. працаваў у сістэме адукацыі, у т. л. інспектарам-метадыстам Ашмянскага р-на, займаўся адкрыццём беларускіх школ. З 1940 г. быў дэпутатам Ашмянскага гарадскога савета. 23 чэрвеня 1941 г. арыштаваны НКУС і пасаджаны ў мінскую турму. Пры пераводзе ў турму ў м. Крупкі змог вызваліцца. Працаваў у гарадской адміністрацыі Мінска, адказваў за захаванне гістарычных і архітэктурных помнікаў. З канца жніўня 1941 прызначаны дырэктарам Мінскага гістарычнага музея, пазней таксама загадваў аддзелам Беларускага культурнага згуртавання. З лютага 1944 г. працаваў у аддзеле краязнаўства і музеяў пры БЦР. З ліпеня 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне працаваў у гаспадарцы баварскага баўэра. Па вайне два гады вывучаў археалогію ва ўніверсітэце *UNRRA* і Вольным украінскім універсітэце ў Мюнхене. У 1952 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Нью-Ёрку. Працаваў таваразнаўцам пры Інстытуце тэхналогіі моды, на

прыняцці тавараў у вялікім гандлёвым доме *Orbach*. Сябра БАЗА, актывіст і пэўны час старшыня нью-ёркскага аддзела арганізацыі. Пры канцы 1960-х — на пачатку 1970-х гг. быў дырэктарам беларускай школы ў Нью-Ёрку. Доўгі час быў сябрам рэдкалегіі газеты «Беларус». Радны БНР. Сябра БІНІМа.

**Мікола Шчаглоў-Куліковіч** (04.04.1893, Смаленск або Смаленшчына — 31.03.1969, Чыкага, ЗША), кампазітар, музыка, музыказнаўца, грамадска-культурны дзеяч. З 1937 г. працаваў выкладчыкам у Беларускай кансерваторыі. У часе нямецкай акупацыі кіраваў аркестрам у Мінскім гарадскім тэатры. Аўтар операў «Кацярына» (1939 ці 1941), «Лясное возера» (пастаўлена ў 1942 г.), «Усяслаў Чарадзей» (пастаўлена ў 1943 г.), аперэты «У вырай». З студзеня 1944 г. — кіраўнік музычнага аддзела пры БЦР. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне ў 1947 г. арганізаваў Беларускі тэатр эстрады, які гастраляваў па лагерах *DP*. У 1950 г. выехаў у ЗША. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, дзе кіраваў хорам. Пазней перабраўся ў Кліўленд, а з 1959 г. жыў у Чыкага і кіраваў хорам беларускай грэка-каталіцкай царквы Хрыста-Збаўцы. Аўтар шэрагу музыказнаўчых публікацый. Сябра БІНІМа. Багаты архіў пасля смерці быў перададзены ў Беларускую бібліятэку ім. Ф. Скарыны ў Лондане.

**Барыс Шчорс** (26.06.1916, в. Новы Свержань (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) — 06.06.1975, Саўт-Рывер, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадска-культурны дзеяч, брат *М.* і *І. Шчорсаў*. Скончыў гімназію ў Стоўбцах (1937), настаўніцкі інстытут у Беластоку (1940). Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Быў камендантам беларускага лагера ў Міхельсдорфе. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рыверы. У 1951 г. узначаліў Беларускае выдавецкае таварыства пры ЗБАДК. Уваходзіў у склад рэдакцыі «Беларускай думкі», у кіраўнічыя органы БККА. Адзін з ініцыятараў узвядзення асобнага будынку парафіі і пабудовы Беларускага грамадскага цэнтра ў Саўт-Рыверы.

**Ігар Шчорс** (25.08.1918, в. Новы Свержань (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) — 12.10.1992, Саўт-Рывер, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі — начальнік мінскай крымінальнай паліцыі, у 1944 г. — камандзір 27-га батальёна БКА. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у лагеры ў Міхельсдорфе, належаў да тэатральнай трупы «Жыве Беларусь!» *В. Селях-Качанскага*. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рыверы. Браў актыўны ўдзел у жыцці парафіі і грамадска-культурных арганізацыяў. Належаў да БККА.

**Мікалай Шчорс** (1913, Новы Свержань (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) — 22.12.1995, Даўнт-Мора, Фларыда, ЗША). Грамадскі

дзеяч, лекар. Скончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта, займаўся актыўнай грамадскай дзейнасцю. У 1935–1937 гг. — старшыня Беларускага студэнцкага саюза. У 1939 г. выехаў у Варшаву. З 1940 г. — старшыня Беларускага камітэта ў Варшаве. Кіраўнік г. зв. «групоўкі Шчорса», якая цесна супрацоўнічала з нямецкім абвэрам і разглядала падзеі будучай акупацыі як магчымасць стварыць беларускую дзяржаву пад нямецкім пратэктаратам. На пасяджэнні беларускага актыву ў Берліне 19 чэрвеня 1941 г. быў выбраны старшынём Беларускага нацыянальнага цэнтра, які разглядаўся як урад будучай Беларусі. Аднак праз тры тыдні, пасля наведвання Беларусі, адмовіўся ад палітычнай дзейнасці. Вярнуўся ў Варшаву, дзе цягам пяці гадоў узначальваў Беларускі камітэт. Ад восені 1944 г. — у Нямеччыне. У 1946–1947 гг. узначальваў Беларускае праваслаўнае аб'яднанне, падтрымаў аднаўленне БЦР. У 1949 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Нью-Ёрку. У 1950–1951 гг. узначальваў ЗБАДК. Ініцыятар стварэння Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі, яго першы старшыня (1951–1955). У 1955 г. падаў у адстаўку з пасады старшыні. Быў адным са стваральнікаў Камітэта незалежнай Беларусі. У 1958 г. — адзін са стваральнікаў Беларуска-амерыканскага звяза. Пры канцы 1950-х адышоў ад актыўнай грамадскай дзейнасці, выехаў у Пляцбург (штат Нью-Ёрк), дзе меў клініку. З'яўляўся віцэ-прэзідэнтам Амерыканскай асацыяцыі хірургаў. Пасля выхаду на пенсію пераехаў у Фларыду.

**Хведар Шыбут** (26.06.1901 (паводле інш. звестак — 14.04.1900), в. Дунайчыцы (сёння Клецкі р-н Мінскай вобл.) — 18.12.1990, Норт-Плейт, Нябраска, ЗША), грамадскі дзеяч. У 1925–1926 гг. быў сябрам Беларускага сялянскага саюза. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у беларускай цывільнай адміністрацыі. З лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945 г. стаў кіраўніком бацькоўскага камітэта Беларускай гімназіі ў Рэгенсбургу. У 1950 г. прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў штаце Каларада (г. Пуэбла). Прыхільнік БЦР, прадстаўнік БККА на Каларада.

**Шыла Мікола** (1888 — 06.04.1948, Госляр, Заходняя Нямеччына), грамадскі дзеяч, журналіст. Дэлегат Першага (1917) і Другога (1944) Усебеларускіх кангрэсаў. У 1917–1920 гг. — старшыня Партыі беларускіх эсэраў. У 1920–1930-х гг. браў удзел у заходнебеларускім нацыянальным руху. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Падтрымліваў БЦР і *Р. Астроўскага*.

**Пятро Шырокаў** (псеўданім **Тодар Лебяда,** 1914, Віцебск — 1970, Разанская вобл., Расія), паэт, драматург, журналіст. У 1930–я гг. рэпрэсаваны савецкімі ўладамі. У 1943 г. ягоная драма «Загубленае жыццё» была пастаўлена на сцэне мінскага гарадскога тэатра і карысталася вялікім поспехам. З лета 1944 г. — у Нямеччыне. У 1945 г.

вярнуўся ў Беларусь, быў арыштаваны органамі МДБ і асуджаны на 25 год канцлагераў.

**Янка Юхнавец** (03.11.1921, в. Забродак Бягомльскага р-на Барысаўскай акругі (сёння Докшыцкі р-н Віцебскае вобл.) — 06.01.2004, Нью-Ёрк, ЗША), літаратар, мастак. У часе нямецкай акупацыі быў вывезены на прымусовыя працы ў Нямеччыну. Пасля вайны вучыўся ў Вольным універсітэце ў Мюнхене. Пачаў друкавацца ў 1947 г. у беларускіх перыёдыках. У 1949 г. выехаў у ЗША. Працаваў у галіне электронікі. Жыў у Нью-Ёрку. Сябра БАЗА, яго Нью-ёркскага аддзела. Аўтар кніг «Шорах моўкнасці» (1955), «Новая элегія» (1961), «Калюмбы» (1967), «Творы» (Т. 1–2, 1987–1990), «Дань майго часу» (1993), «Драматычныя начыркі» (1996).

**Даніла Ясько** (?—?), пратэстанцкі прапаведнік. Стварыў у ЗША Беларускае евангельска-баптысцкае брацтва. Выдаваў «Веснік Беларускага евангельска-баптысцкага брацтва».

**Эмануіл Ясюк** (1906, в. Жухавічы (сёння Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 10.12.1977, Пасейк, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч. У 1930-х скончыў універсітэт у Льежы (Бельгія) з дыпломам інжынера. Падчас нямецкай акупацыі быў старшынём Стаўбцоўскага раёна. Дэлегат Усебеларускага царкоўнага сабору (жнівень 1942 г.) і Другога Усебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1950 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Пасейку (Нью-Джэрсі, ЗША). Быў саўласнікам кампаніі «Крыс электронікс». Займаўся грамадскай дзейнасцю, узначальваў арганізацыю Амерыканскія прыхільнікі БЦР. Быў заснавальнікам арганізацыі беларускіх ветэранаў у Пасейку, віцэ-старшынём Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі, парафіянінам і фундатарам парафіі царквы Св. Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы.

*Складальнік Наталля Гардзіенка*

# ПАКАЗНІК АСОБАЎ

**Б**

**В**



**Г**

**Н**

**Р**



**С**

**Т**



**У**



**Ф**

*Складальнік Наталля Гардзіенка*



# ЗМЕСТ

**Міжнароднае грамадскае аб’яднанне**
**«Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»**
з 2004 года выдае «Бібліятэку Бацькаўшчыны»

**У серыі пабачылі свет кнігі:**

1. Месца выданьня — Парыж: Выбраныя старонкі часопіса «Моладзь» (1948–1954) / Укл. М. Скоблы; прадм. М. Наўмовіча. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2004. 444 с.

2. Беларусы ў бітве за Монтэ-Касіна: Артыкулы, дакумэнты / Укл. Ю. Грыбоўскага; прадм. Х. Кажаневіча. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2004. 124 с.

3. Гардзіенка Н. Беларусы ў Аўстраліі: Да гісторыі дыяспары. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2004. 468 с.

4. Юрэвіч Л. Мэмуары на эміграцыі: Крыніцазнаўчае дасьледаваньне. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2005. 332 с.

5. Ганько М. Каб сьведчылі пра Беларусь: Жыцьцё й дзейнасьць Міколы Ганька. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2005. 192 с.

6. Варабей І. Там, дзе сэрца маё: Публіцыстыка, пераклады, апавяданьні. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2005. 124 с.

7. Эквівалент: Зборнік эміграцыйнай гістарычнай прозы / Укл. Л. Юрэвіч. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2005. 412 с.

8. Юрэвіч Л. Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў «Бацькаўшчына» й «Беларус» (1947–2000). Мінск: Беларускі кнігазбор, 2006. 256 с.

9. Каханы горад: Зборнік эміграцыйнае ваеннае прозы / Укл. Л. Юрэвіч. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2006. 372 с.

10. Рагуля Б. Беларускае студэнцтва на чужыне. Выданьне другое, выпраўленае і дапоўненае. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2006. 188 с.

11. Адзінец А. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў: Зборнік успамінаў. Мінск: Медысонт, 2007. 704 с.

12. Адзін Госпад, Адна Вера, Адзін Хрост: Царкоўная гісторыя вачыма эміграцыі / Укл., прадмова А. Любіча; бібліягр. Л. Юрэвіча. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2007. 336 с.

13. Грыцук В. Мы стваралі сваю Беларусь: жыцьцё і дзейнасьць Аляксея Грыцука. Мінск: Медысонт, 2007. 256 с.

14. Урачыстасьць у садзе: Драматургія беларускай эміграцыі XX стагодзьдзя / Укл., прадмова В. Нікіфаровіча. Мінск: Медысонт, 2007. 536 с.

15. Акула К. Заўтра ёсьць учора: Раман / Пераклад з анг., прадмова І. Варабей. Мінск: Медысонт, 2008. 200 с.

16. Гардзіенка А. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА). Смаленск, 2009. 428 с.

17. Шабельцаў С. Беларусы ў Аргенціне: грамадская дзейнасць і рээміграцыя ў СССР (1930–1960-я гг.): Зборнік дакументаў і успамінаў. Мінск: Медысонт, 2009. 368 с.

18. Гардзіенка Н. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск: Медысонт, 2010. 620 с.

19. Віцьбіч Ю. Лшоно Габоо Бійрушалайм. Мінск: Кнігазбор, 2011. 232 с.

Літаратурна-мастацкае выданне

Бібліятэка Бацькаўшчыны
Кніга 20

**Юрэвіч** Лявон

**Шматгалосы эпісталярыум**

Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні

Адказны за выпуск ???
Рэдактар Наталля Гардзіенка
Камп’ютарны дызайн, вёрстка, дызайн вокладкі Юліі Андрэевай
Карэктар Алена Лянкевіч

Падпісана да друку ??.??.2012. Фармат 84х108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 38,1. Ул.-выд. арк. 30,3.
Наклад ??? асоб. Замова ???.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
???
ЛВ №
ЛП №
Вул. , 2200??, ???.